АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
•
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГРАМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Том I

## МАРФАЛОГІЯ



ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
Мінск 1962

*«Граматыка беларускай мовы» з'яўляецца кнігай, у якой упершыню сістэматычна аналізуюцца існуючыя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове граматычныя нормы і розныя адхіленні ад іх.*

*Разлічана на навуковых работнікаў, выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ.*

РЭДАКТАРЫ

акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук

К. К. АТРАХОВІЧ (КРАПІВА),

кандыдат філалагічных навук

М. Г. БУЛАХАЎ

## ПРАДМОВА

Галоўная задача, якую ставілі перад сабою аўтары гэтай «Граматыкі», заключаецца ў тым, каб на аснове падрабязнага, па магчымасці поўнага апісання граматычнага ладу сучаснай беларускай мовы вызначыць яе літаратурныя граматычныя нормы. Такім чынам, па метаду вывучэння моўных фактаў «Граматыка» з'яўляецца **апісальнай**, а па свайму прызначэнню — **нарматыўнай**. Патрэба ў граматыцы такога тыпу адчувалася ўжо даўно, аднак рэальныя магчымасці яе стварэння склаліся толькі ў савецкі час.

Сучасная беларуская літаратурная мова пачала фарміравацца ў другой палавіне XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Яе сістэма складвалася пад уплывам розных народных гаворак і розных сацыяльных і эстэтычных густаў. Таму побач з агульнаўжывальнымі формамі ў беларускай літаратуры доўгі час выкарыстоўваліся формы вузкадыялектнага і вузкасацыяльнага характару. Уніфікацыі граматычных форм у вялікай ступені перашкаджала тое, што ў дакастрычніцкі перыяд у сілу пэўных гістарычных прычын сферы выкарыстання беларускай літаратурнай мовы былі вельмі абмежаваны і, зразумела, шырокія грамадскія колы не маглі актыўна ўмешвацца ў працэс яе развіцця. Характэрна, што ў той час нават не было пісанай граматыкі беларускай мовы. Усё гэта сведчыць, што станаўленне граматычных норм беларускай літаратурнай мовы ў дакастрычніцкі перыяд праходзіла замаруджанымі тэмпамі і ў значнай ступені стыхійна.

Свядомая, мэтанакіраваная выпрацоўка літаратурных норм пачынаецца па сутнасці толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, калі беларуская мова стала выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Упарадкавання граматычных норм і правіл патрабавалі перш за ўсё практычныя задачы авалодання літаратурнай мовай.

У савецкі перыяд асноўныя граматычныя нормы беларускай літаратурнай мовы былі замацаваны школьнымі падручнікамі, дапаможнікамі для вышэйшых навучальных устаноў і перакладнымі руска-беларускімі слоўнікамі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачала праводзіцца і тэарэтычная распрацоўка пытанняў граматычнага ладу. Нягледзячы на гэта, у беларускім мовазнаўстве яшчэ не падвергнуты ўсебаковаму аналізу шматлікія факты існуючага ў літаратурнай мове граматычнага разнабою і паралелізму, які часцей за ўсё выклікаецца адсутнасцю аўтарытэтных навуковых указанняў аб правільнасці ўжывання тых ці іншых форм і канструкцый.

Аўтары «Граматыкі» імкнуліся вызначыць граматычныя нормы на аснове жывой вуснай і пісьмовай практыкі нашых дзён, але пры гэтым улічваліся таксама граматычныя асаблівасці літаратурнай мовы раней-

шага часу, прыблізна з другой палавіны XIX — пачатку XX стагоддзя. Пры вызначэнні норм асноўным крытэрыем з'яўлялася ступень ужывальнасці форм і канструкцый у агульналітаратурнай мове; разам з тым прымаліся пад увагу розныя адхіленні ад нормы, якія наглядаюцца ў мове мастацкай літаратуры і ў іншых стылях пад уплывам мясцовых народных гаворак.

«Граматыка беларускай мовы» складаецца з двух тамоў: першы том прысвячаецца разгляду марфалагічнай сістэмы, другі — сінтаксічнай сістэмы літаратурнай мовы.

Раздзелы I тома напісаны: Уводзіны. Прыметнік — М. Г. Булахавым; Назоўнік § 28—150 — А. І. Наркевічам, § 151—379, 393—413 — Л. І. Бураком, § 380—392 — З. Ф. Краўчанка; Лічэбнік. Займеннік. Дзеяслоў § 780—823, 828—891 — Б. С. Лапавым; Дзеяслоў § 727—779, 824—827, 892—981, Прыслоўе—П. П. Шубай; Прыназоўнік. Часціцы. Выклічнік— А. М. Базыленка; Злучнік — П. М. Гапановічам.

Агульнае кіраўніцтва аўтарскім калектывам ажыццяўлялася М. Г. Булахавым.

Пры вызначэнні структуры «Граматыкі» аўтарскі калектыў прытрымліваўся асноўных прынцыпаў, якія склаліся ў рускай граматычнай традыцыі і знайшлі сваё найбольш паслядоўнае ўвасабленне ў абагульняючай працы — «Грамматике русского языка» (М., 1952—1954). Тлумачыцца гэта, па-першае, роднасцю і структурнай блізкасцю беларускай мовы да мовы рускай, а па-другое, наяўнасцю агульных тэндэнцый развіцця моў брацкіх народаў у перыяд будаўніцтва камунізма.

---

## УВОДЗІНЫ

●

# ГРАМАТЫКА, ЯЕ РАЗДЗЕЛЫ І СУВЯЗЬ З ІНШЫМІ МОВАЗНАЎЧЫМІ ДЫСЦЫПЛІНАМІ

§ 1. Граматыкай (ад грэч. grammatikē грамата, уменне чытаць і пісаць) называецца навука аб граматычным ладзе мовы, інакш кажучы — навука аб граматычных формах і граматычных значэннях.

Асноўнымі раздзеламі граматыкі з'яўляюцца марфалогія (ад грэч. morphe форма, logos паняцце, вучэнне) і сінтаксіс (ад грэч. syntaxis састаўленне, лад).

У задачу марфалогіі ўваходзіць вывучэнне граматычных разрадаў слоў (часцін мовы), спосабаў выражэння розных граматычных катэгорый (напрыклад, катэгорыі роду, ліку і склону назоўнікаў, катэгорыі трывання, часу, ладу і стану дзеясловаў і інш.), сістэмы формазмянення часцін мовы (напрыклад, форм склону, ліку і роду назоўнікаў і прыметнікаў, форм спражэння дзеясловаў, форм ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў), а таксама састаўных частак слова, або структуры слова.

У задачу сінтаксісу ўваходзіць вывучэнне спосабаў спалучэння слоў у словазлучэннях і сказах (сярод гэтых спосабаў важнейшымі з'яўляюцца формы слоў, службовыя словы, парадак слоў, інтанацыя), а таксама відаў або тыпаў словазлучэнняў і сказаў у залежнасці ад іх будовы (структуры) і значэння.

Такім чынам, марфалогія і сінтаксіс выразна размяжоўваюцца дзякуючы спецыфічным задачам, якія яны павінны вырашаць, але гэтыя раздзелы граматыкі не ізаляваны адзін ад другога, яны знаходзяцца ў цесным адзінстве, якое абумоўлена рэальна існуючымі ўзаемаадносінамі марфалагічных і сінтаксічных з'яў у граматычнай сістэме мовы. Так, напрыклад, фармальныя паказчыкі слова, да якіх у першую чаргу адносяцца канчаткі, служаць адным з важнейшых сродкаў сінтаксічнай сувязі слоў і выразнікам сінтаксічных адносін у словазлучэннях і сказах; у сваю чаргу сінтаксічныя функцыі слоў з'яўляюцца не толькі адным з крытэрыяў марфалагічнай класіфікацыі слоў па часцінах мовы, але і ўплываюць на формы слоў.

§ 2. Навука аб граматычным ладзе мае дастаткова акрэслены круг аб'ектаў даследавання і займае самастойнае месца ў радзе лінгвістычных дысцыплін. Аднак дзякуючы таму, што ў сістэме мовы ўсе з'явы знаходзяцца ў складаных узаемасувязях і перапляценнях адна з другой, граматыка ў шматлікіх пунктах непасрэдна сутыкаецца з іншымі мовазнаўчымі галінамі.

У першую чаргу неабходна адзначыць наяўнасць цесных сувязей граматыкі з фанетыкай — навукай аб сістэме гукаў мовы, дакладней аб сістэме фанем, аб іх прыродзе, сэнсавых адрозненнях і заканамерных знешніх відазмяненнях, якія ўзнікаюць у працэсе моўных зносін людзей. Сувязі граматыкі з фанетыкай абумоўлены не толькі тым, што мова на-

огул без гукавога афармлення існаваць не можа, але і тым, што заканамернасці фанетычных змен непасрэдна ўплываюць на граматычную сістэму, перш за ўсё на формы і будову або склад слоў. Так, напрыклад, наглядаюцца варыянты формазмянення назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў у залежнасці ад таго, якім зычным (цвёрдым або мяккім) заканчваецца іх аснова; разнастайныя гукавыя чаргаванні выклікаюць адпаведныя змены і ў формах, і ў марфалагічным складзе слоў; на гукавых паказчыках засноўваецца падзел назоўнікаў на тыпы скланення, а дзеясловаў — на граматычныя класы; націск як фанетычная з'ява нярэдка з'яўляецца сродкам адрознення форм слоў і іх граматычных значэнняў; інтанацыя з'яўляецца сродкам размежавання розных тыпаў сказаў у залежнасці ад іх мадальнай афарбоўкі, а таксама расчлянення сказаў на пэўныя сэнсава-сінтаксічныя адрэзкі (сінтагмы).

Пры вывучэнні граматыкі вельмі важна ўлічваць лексічныя асаблівасці слоўнікавага саставу, бо граматычныя правілы формазмянення і словаўтварэння нярэдка абмяжоўваюцца пэўнымі лексічнымі групамі слоў. Напрыклад, выдзяленне і размежаванне часцін мовы засноўваецца як на граматычных, так і на лексіка-семантычных паказчыках; многія формы словазмянення абумоўлены лексічным значэннем слоў (параўн. ужыванне канчаткаў **-у** і **-а** ў назоўніках I скланення ў залежнасці ад катэгорыі абстрактнасці і канкрэтнасці: *рух*-**у**, але *стал*-**а**); граматычныя і лексічныя значэнні цесна пераплятаюцца ў катэгорыях трывання і стану дзеясловаў; ад лексічных абмежаванняў залежыць у многіх выпадках прадуктыўнасць або непрадуктыўнасць словаўтваральных тыпаў часцін мовы (параўн. шматлікасць аддзеяслоўных прыметнікаў з суфіксам **-льн-***ы* і адсутнасць адыменных прыметнікаў з гэтым жа суфіксам: *малацільны, награвальны, кідальны, часальны* і г. д.); рознага роду лексічныя абмежаванні ўплываюць і на магчымасці сінтаксічнага спалучэння слоў (параўн. спалучэнні інфінітываў і зборных лічэбнікаў толькі з пэўнымі групамі назоўнікаў: *жаданне спяваць, спроба знайсці; двое коней, чацвёра парасят*).

З граматыкай (марфалогіяй), як і з лексікалогіяй, цесна звязана словаўтварэнне — галіна мовазнаўства, у якой вывучаюцца розныя спосабы ўтварэння новых слоў. Сувязь граматыкі са словаўтварэннем абумоўлена, па-першае, тым, што ў беларускай мове новыя словы часцей за ўсё ўтвараюцца пры дапамозе пэўных марфалагічных сродкаў (суфіксаў і прыставак); па-другое, тым, што адцягнены характар словаўтваральных сродкаў збліжаецца з адцягненым характарам граматычных катэгорый (напрыклад, суфікс аддзеяслоўных прыметнікаў **-іст-***ы* выражае агульнае значэнне схільнасці да пэўнага дзеяння: *закацісты, залівісты, задзірысты* і інш.); па-трэцяе, тым, што ў радзе выпадкаў словаўтваральныя сродкі з'яўляюцца адначасова і формамі словазмянення (напрыклад, многія прыстаўкі дзеясловаў) і, наадварот, формы словазмянення з'яўляюцца часам таксама словаўтваральнымі формамі (такую двайную функцыю выконвае, напрыклад, канчатак **-ы** ў прыметніках тыпу *безбарод*-**ы**, *безгалос*-**ы**).

Улічваючы ўсё гэта, аўтары «Граматыкі беларускай мовы» разглядаюць спосабы і тыпы словаўтварэння ўслед за формаўтварэннем адпаведных часцін мовы.

Нарэшце, трэба адзначыць сувязь граматыкі са стылістыкай — галіной мовазнаўства, у якой вывучаюцца суадносныя сродкі выражэння адных і тых жа значэнняў у розных функцыянальных тыпах мовы. Аўтары «Граматыкі» імкнуліся паказаць не толькі тое агульнае, што характэрна для сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў цэлым, але і больш вузкія варыянты граматычных форм і сінанімічныя сродкі словаўтварэння, якія ўласцівы толькі пэўным відам мовы. Пры вызначэнні нарматыўнасці і абмежаванасці ўжывання граматычных сродкаў аўтары

выходзілі з наступных асноўных паняццяў: «агульналітаратурная мова», «мова мастацкай літаратуры», «народная мова», «навукова-тэхнічны стыль», «публіцыстычны стыль», «размоўны стыль»; у апошнім часам вылучаюцца яшчэ так званыя «прастамоўныя» сродкі, якія маюць асабліва яркую экспрэсію і рэзка адрозніваюцца ад стылістычна нейтральных элементаў.

## АСНОЎНЫЯ ГРАМАТЫЧНЫЯ ПАНЯЦЦІ І ТЭРМІНЫ

### *Граматычныя значэнні, катэгорыі і формы*

§ 3. Граматычнымі значэннямі называюцца такія значэнні, якія дапаўняюць і ўдакладняюць з граматычнага боку асноўныя лексічныя значэнні слоў. Напрыклад, у сказе *Спяваюць жаваранкі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее) словам *спяваюць* абазначана не толькі пэўнае дзеянне, але і тое, што гэта дзеянне адбываецца ў сапраўднасці, што яно працякае ў цяперашні час, што яно выконваецца многімі суб'ектамі; слова *жаваранкі* абазначае не толькі пэўны від птушак, але і тое, што іх многа і што яны з'яўляюцца выканаўцамі дзеяння, абазначанага першым словам.

Граматычныя значэнні служаць для ўстанаўлення найбольш агульных сувязей і адносін паміж словамі як адзінкамі моўнага працэсу, таму інакш іх называюць яшчэ фармальнымі значэннямі (у супрацьлегласць рэальным, лексічным значэнням). У адрозненне ад лексічных значэнняў, якія з'яўляюцца індывідуальнымі для кожнага асобнага слова, граматычныя значэнні ўласцівы цэлым класам слоў з аднолькавымі граматычнымі паказчыкамі. Кожная часціна мовы мае свой пэўны круг граматычных значэнняў.

Граматычнай катэгорыяй прынята называць найбольш агульнае граматычнае значэнне, уласцівае тым ці іншым разрадам слоў. Так, напрыклад, граматычнымі катэгорыямі назоўнікаў з'яўляюцца род, лік, склон, зборнасць, адзінкавасць, адушаўлёнасць, неадушаўлёнасць і некаторыя іншыя; граматычнымі катэгорыямі дзеясловаў з'яўляюцца асоба, лік, час, трыванне, лад, стан і інш.

Граматычныя значэнні і катэгорыі выяўляюцца дзякуючы тым ці іншым знешнім, «матэрыяльным» паказчыкам слова — яго формам (гл. § 4) або дзякуючы сінтаксічнай сувязі слова з іншымі словамі. Так, у прыведзеным вышэй сказе дзеяслоў *спяваюць* набыў пэўныя граматычныя значэнні (абвеснага ладу, цяперашняга часу, множнага ліку, 3-яй асобы) дзякуючы канчатку **j-уць;** у спалучэнні *чыгуначнае дэпо* слова *дэпо* мае граматычныя значэнні ніякага роду, назоўнага склону, адзіночнага ліку дзякуючы форме сінтаксічна звязанага з ім слова *чыгуначнае.*

§ 4. Пад граматычнымі формамі звычайна разумеюць усе знешнія відазмяненні аднаго і таго ж слова, якія служаць для выражэння тых ці іншых граматычных значэнняў.

У беларускай мове граматычныя формы ўтвараюцца галоўным чынам пры дапамозе розных марфалагічных частак слоў, у прыватнасці: канчаткаў *(дарог-а, будуj-уць, светл-ы)*, прыставак *(рабіць — з-рабіць, пісаць — на-пісаць)*, суфіксаў і канчаткаў адначасова *(смял-ейш-ы, веліч-эзн-ы, рашаj-уч-ы)*, прыставак, суфіксаў і канчаткаў адначасова *(най-леп-ш-ы, най-мацн-ейш-ы)*.

Формы, якія ўтвараюцца пры дапамозе пэўных марфалагічных частак слова, называюцца простымі, або сінтэтычнымі формамі.

Зразумела, што сінтэтычныя формы не з'яўляюцца адзіна магчымымі сродкамі выражэння граматычных значэнняў. Граматычныя значэнні

могуць быць выражаны таксама спалучэннем слоў і форм слоў, напрыклад, значэнні вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання якасных прыметнікаў перадаюцца нярэдка спалучэннем займеннікаў і прыслоўяў з прыметнікам *(больш чысты, менш сур'ёзны, самы здольны, найбольш выдатны, найменш цікавы)*, значэнне будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання перадаецца спалучэннем неазначальнай формы з дзеясловам *быць (буду працаваць, будзем спаборнічаць)*, значэнне пажадання ў загадным ладзе перадаецца спалучэннем формы абвеснага ладу дзеяслова с часціцай *няхай (няхай прыязджае)*. У такіх выпадках па традыцыі карыстаюцца звычайна тэрмінам складаныя, або аналітычныя формы. Аднак тэрмін гэты з'яўляецца чыста ўмоўным, бо ў падобных выпадках мы маем справу не са змяненнем форм аднаго і таго ж слова, а па сутнасці са спосабам перадачы пэўных граматычных значэнняў.

Граматычныя формы слоў характарызуюцца перш за ўсё рэгулярнасцю ўтварэння, г. зн. што яны (за рэдкімі выключэннямі) уласцівы ўсім словам пэўных граматычных класаў. Так, дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу ў 1-ай асобе адзіночнага ліку рэгулярна ўтвараюць форму **-у** *(піш-***у***, малюј-***у***)*; назоўнікі I скланення мужчынскага роду з цвёрдай асновай у родным склоне адзіночнага ліку сістэматычна маюць канчатак **-а** *(горад-***а***, стал-***а***, трактар-***а***)* і г. д. Праўда, у беларускай мове ёсць цэлы рад выпадкаў, калі пэўныя словы не ўтвараюць тых ці іншых граматычных форм, уласцівых усяму граматычнаму разраду слоў; параўн. адсутнасць склонавых канчаткаў у запазычаных назоўніках на галосныя **а, о, ё, э, е, і, у** (тыпу *дэпо, радыё, жэле, гардэ, Місісіпі, какаду)*; адсутнасць форм асобы ў безасабовых дзеясловах; адсутнасць форм цяперашняга часу ў дзеясловах закончанага трывання; адсутнасць форм мужчынскага роду ў прыметніках, якія абазначаюць якасці, уласцівыя толькі асобам жаночага полу і самкам-жывёлам. Аднак падобныя адхіленні, як правіла, абумоўлены пэўнымі прычынамі (фанетычнага, граматычнага або лексіка-семантычнага парадку), і таму яны таксама з'яўляюцца рэгулярнымі ў адносінах да ўсёй граматычнай сістэмы.

Характэрнай асаблівасцю граматычных форм з'яўляецца і тое, што яны, нягледзячы на сваю сувязь і суадноснасць ва ўжыванні (гл. § 8), не могуць быць выведзены адна з другой па ўтварэнню; яны суіснуюць побач адна з другой як раўнапраўныя сродкі перадачы граматычных значэнняў.

## *Марфалагічная будова слова*

§ 5. З пункту погляду марфалагічнага саставу лексіка сучаснай мовы разбіваецца на два асноўныя разрады: 1) словы марфалагічна непадзельныя, напр., прыназоўнікі *аб, ад, з, за, на, над, пад, між, у*, злучнікі *а, але, і, калі, што, каб* і інш., выклічнікі *ах, эх, ой* і інш.; 2) словы, якія дзеляцца на марфалагічныя часткі; кожная з такіх частак выражае пэўныя значэнні (лексічныя або граматычныя ці тыя і другія разам), напрыклад, у словах *датэрміновы, пазашкольны, прыфермскі* вылучаюцца наступныя часткі: *да-тэрмін-ов-ы, паза-школь-н-ы, пры-ферм-ск-і.*

Часткі слова, якія выражаюць тое ці іншае значэнне, называюцца марфемамі (ад грэч. morphē форма). Да ліку марфем адносяцца корань, афіксы і канчаткі (флексіі), а таксама інфіксы і злучальныя галосныя.

§ 6. Коранем называецца такая марфема, якая выражае агульнае лексічнае значэнне ўсяго гнязда або рада слоў аднолькавага паходжання. Так, у словах *лес, ляснік, лясніцтва, лясун, лесавік, лясісты, ля-*

*сістасць, лясны, прылесны, аблясенне, Залессе, Падлессе* коранем з'яўляецца агульная для іх частка *-лес-* са значэннем «плошча, густа зарослая дрэвамі». Значэнне кораня ва ўсіх словах аднаго рада застаецца пастаянным.

§ 7. Афіксам (ад лац. affixus < ad fixus прымацаваны) называецца такая марфема, якая відазмяняе тое ці іншае значэнне слова або служыць для ўтварэння новых слоў. Да афіксаў адносяцца суфіксы і прыстаўкі (прэфіксы).

1. Суфіксам (ад лац. suffixus падстаўлены) называецца такая марфема, якая знаходзіцца пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў або (радзей) форм слоў з новымі ці дадатковымі значэннямі. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца суфіксы словаўтваральныя і суфіксы формаўтваральныя. Напрыклад, у прыведзеных вышэй словах *лясісты, лясістасць* вылучаюцца словаўтваральныя суфіксы **-іст-**, **-асць**, пры дапамозе якіх гэтыя словы ўтвораны ад слоў *лес, лясісты*; у словах *саколік, браточак* вылучаюцца формаўтваральныя суфіксы **-ік**, **-очак**, якія надаюць ім не новыя лексічныя значэнні, а толькі эмацыянальныя адценні ласкальнасці; у слове *мацнейшы* вылучаецца формаўтваральны суфікс **-ейш-** са значэннем больш высокай ступені якасці.

2. Прыстаўкай, або прэфіксам (ад лац. praefixum < prae спераду і fixus прымацаваны) называецца такая марфема, якая знаходзіцца перад коранем і служыць для ўтварэння (часта разам з суфіксам) новых слоў або форм слоў з новымі значэннямі. Напрыклад, у слове *адысці* вылучаецца прыстаўка **ад-**, якая надае яму іншае лексічнае значэнне ў параўнанні са значэннем слова *ісці*; у слове *накарміць* вылучаецца прыстаўка, якая надае таму ж слову *карміць* іншае граматычнае значэнне (значэнне закончанага трывання).

§ 8. Канчаткам, або флексіяй (ад лац. flexio згінанне, flecto гну) называецца такая марфема, якая знаходзіцца ў канцы слова (пасля кораня або суфікса) і служыць для выражэння граматычных (фармальных) адносін паміж словамі. У большасці выпадкаў канчаткі з'яўляюцца носьбітамі сінтаксічных значэнняў. Так, у сказе *Шахцёры здабываюць руду машынамі* канчатак **-у** слова *руда* выражае значэнне прадмета (аб'екта), на які непасрэдна накіравана дзеянне; канчатак **-амі** слова *машына* выражае значэнне прылады дзеяння.

Канчаткі маюць толькі граматычна зменныя словы. У беларускай мове граматычна зменнымі з'яўляюцца:

а) назоўнікі, прыметнікі, дзеепрыметнікі, лічэбнікі і займеннікі, якія набываюць той ці іншы канчатак у залежнасці ад значэнняў роду, ліку і склону; сістэму канчаткаў гэтых часцін мовы прынята называць скланеннем;

б) дзеясловы, якія набываюць канчаткі ў залежнасці ад катэгорый асобы, ліку, ладу і роду (у апошнім выпадку толькі ў прошлым часе); сістэму канчаткаў дзеясловаў прынята называць спражэннем.

У сувязі з тым, што кожнай часціне мовы ўласцівы пэўны круг граматычных значэнняў, колькасць канчаткаў, якія з'яўляюцца сродкам выражэння гэтых значэнняў, строга абмежавана; больш таго, у агульнай сістэме формазмянення канчаткі заўсёды суадносяцца адзін з другім па свайму значэнню і ролі. У слове *горада* канчатак **-а** з'яўляецца сродкам выражэння пэўнага значэння (значэння ўскоснага аб'екта) іменна таму, што гэты канчатак суадносіцца з канчаткамі **-у** *(гораду)*, **-ам** *(горадам)*, **-е** *(горадзе)* і складае разам з імі адну сістэму змянення форм данага слова. Па гэтай жа прычыне з агульнай сістэмы формазмянення не выключаюцца і выпадкі, калі слова выступае з так званым нулявым канчаткам, г. зн. не мае фанетычна выражанага канчатка (*горад* — назоўны склон адзіночнага ліку, выражае значэнне суб'-

екта дзеяння; *у горад, на горад, за горад, пад горад* — вінавальны склон адзіночнага ліку, выражае значэнне прамога або ўскоснага аб'екта дзеяння).

У беларускай мове нулявыя канчаткі сустракаюцца галоўным чынам у сістэме форм назоўнікаў мужчынскага, ніякага, жаночага і агульнага роду *(дом, у дом, з азёр, з-за хмар, старшынь, на старшынь, ад калёк)* і дзеясловаў *(чытаў,* параўн. *чытал-а, чытал-і; намалюй, кінь, здабудзь).*

§ 9. Інфіксам (ад лац. infixus<in — у, fixus, fido—ставіць) называецца такая марфалагічная частка, якая пры словаўтварэнні або словазмяненні ўстаўляецца ўнутр кораня. З пункту погляду сучаснага стану ў беларускай літаратурнай мове няма слоў, корані якіх рассякаліся б інфіксамі ў строгім сэнсе гэтага тэрміна, але ўмоўна да інфіксаў можна аднесці марфему **во**, якая ўстаўляецца паміж прыстаўкай і коранем размоўных прыслоўяў *на**во**шта, за**во**шта, ніза**во**шта, нііпра**во**шта, па**во**шта.*

§ 10. Злучальны галосны—гэта службовая марфема, якая пры ўтварэнні складаных слоў (назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў) устаўляецца паміж утвараючымі асновамі або словамі для іх злучэння, аб'яднання ў адно цэлае. У ролі такіх злучальных, звязачных марфем у сучаснай мове выкарыстоўваюцца галосныя **а, е(я)**. Гэтыя марфемы звычайна з'яўляюцца фанетычнымі варыянтамі, ужыванне якіх абумоўлена якасцю канцавога зычнага першай асновы складанага слова: калі першая аснова заканчваецца цвёрдым зычным (у тым ліку цвёрдымі зычнымі **р, ж, ш, ч, ц, дж, шч**), то ўжываецца злучальны галосны **а**, калі ж першая аснова заканчваецца мяккімі зычнымі, то ўжываецца злучальны галосны **е** (у першым складзе перад націскам — **я**): *дом**а**кіраўніцтва, зверал**о**ў, ветр**а**ахоўны, жалез**а**бетон, добр**а**суседскі, сам**а**ўзгаранне, дажджамер, санц**а**пёк, свеж**а**спечаны; кон**е**гадоўля, грэбен**е**часальны, жоўц**е**выдзяленне, сін**я**крылы, ба**я**здольны, два**я**борства, кра**е**вугольны, насенн**я**вод, коран**е**клубн**я**сховішча.*

§ 11. Марфемы характарызуюцца адзінствам значэння і гукавога выражэння. Так, у словах *бульб-ін-а, валас-ін-а, драв-ін-а, жалез-ін-а, салом-ін-а, цагл-ін-а* вылучаецца адна і тая ж марфема — суфікс **-ін-**, таму што яна выражае адно і тое ж значэнне (значэнне адзінкавасці) і мае абсалютна аднолькавы гукавы склад.

Адзінства марфемы не парушаецца і тады, калі яна выступае ў розных фанетычных варыянтах, абумоўленых так званымі гістарычнымі і пазіцыйнымі чаргаваннямі гукаў. Напрыклад, у словах *снег-ав-ы, снеж-н-ы, сняг-і, сняж-ок* адна і тая ж карэнная марфема, хоць яна і мае тры розныя фанетычныя варыянты (другі з іх — з гістарычным чаргаваннем зычных **г — ж,** трэці — з пазіцыйным чаргаваннем галосных **е — я**).

Варыянтамі адной марфемы неабходна лічыць і вельмі блізкія гукавыя спалучэнні аднолькавага паходжання, якія выражаюць аднолькавае значэнне. Так, у словах *водаправод-чык, буфет-чык, воз-чык, паднос-чык, скуп-шчык, кладаў-шчык, вагран-шчык, закрой-шчык, брыльянт-шчык* вылучаецца адна і тая ж марфема ў двух блізкіх фанетычных варыянтах **-чык, -шчык,** якія абумоўлены не чаргаваннямі гукаў, а характарам канцавога гука папярэдняй марфемы.

Такім чынам, для выдзялення ў розных словах пэўнай марфемы недастаткова, каб яна мела толькі адзін які-небудзь характэрны прызнак, напрыклад агульнасць значэння. Так, у словах *млын-ар, білец-ёр, прадав-ец, цырульн-ік, дружын-нік, ствара-льнік, газет-чык, насі-льшчык, кран-аўшчык, брыгадз-ір, машын-іст, барацьб-іт, выхава-цель* суфіксы **-ар, -ёр, -ец, -ік, -нік, -льнік, -чык, -льшчык, -аўшчык, -ір, -іст, -іт, -цель** выражаюць аднолькавае значэнне (яны служаць для ўказання на род дзейнасці або від заняткаў асобы), аднак лічыць іх адной і той жа мар-

фемай нельга таму, што гукавы склад іх зусім розны. У гэтым і падобных да яго выпадках мы маем справу з **сінанімічнымі** марфемамі. Часцей за ўсё сінанімічнымі з'яўляюцца словаўтваральныя суфіксы назоўнікаў і прыметнікаў.

З другога боку, адной марфемай не з'яўляюцца аднолькавыя гукавыя спалучэнні, якія выражаюць розныя значэнні. Так, у назоўніках *трактар-ыст, сігнал-іст, цымбал-іст* і ў прыметніках *ляс-іст-ы, глін-іст-ы, пен-іст-ы, скал-іст-ы, адрыв-іст-ы* суфіксы **-іст, -іст-***ы* хоць і супадаюць па свайму гукавому складу, але значэнне яны выражаюць не аднолькавае: у назоўніках марфема **-іст** указвае на від заняткаў асобы, а ў прыметніках — на наяўнасць чаго-небудзь у складзе прадмета або на схільнасць да пэўнага дзеяння. У гэтым і падобных да яго выпадках мы маем справу з **аманімічнымі** марфемамі. Аманімічнымі могуць быць не толькі суфіксы, але і прыстаўкі (параўн. значэнне прыстаўкі **за-** ў дзеясловах, назоўніках і прыметніках), канчаткі (параўн.: *бяг-***у**, *стал-***у**, *кніг-***у**); характэрна, што пэўныя марфемы могуць выражаць розныя граматычныя значэнні нават у межах аднаго і таго ж слова (параўн. *дыхнуць* — неазначальная форма дзеяслова і *дыхнуць* — 3-я асоба множнага ліку).

§ 12. У сучаснай беларускай літаратурнай мове словаўтваральная і формаўтваральная актыўнасць розных марфем не аднолькавая. Адны з іх свабодна выкарыстоўваюцца пры ўтварэнні новых слоў і форм, другія выкарыстоўваюцца з тымі ці іншымі абмежаваннямі, а трэція ў сучаснай мове захоўваюцца толькі як нежывыя рэшткі ранейшых перыядаў гісторыі мовы. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца марфемы **прадуктыўныя**, **малапрадуктыўныя** і **непрадуктыўныя**. Так, суфіксы назоўнікаў **-асць (-осць), -к-***а*, **-нік, -чык (-шчык)**, прыметнікаў **-н-, -ав-**, дзеясловаў **-а- (-aj-), -л- (-ў)** вылучаюцца не толькі ў даўно вядомых словах, але і ў цэлым радзе новых, у наш час утвораных слоў: *магутн-***асць**, *дакладн-***асць**; *выпрацоў-***к-***а*, *шліфоў-***к-***а*; *настаў-***нік**, *выбран-***нік**, *прызыў-***нік**; *дагляд-***чык**, *выклад-***чык**; *ліцей-***шчык**, *звар-***шчык**, *штампоў-***шчык**; *змен-***н-***ы*, *капіталь-***н-***ы*, *тавар-***н-***ы*, *сыравін-***н-***ы*; *гад-***ав-***ы*, *план-***ав-***ы*, *сіл-***ав-***ы*, *перад-***ав-***ы*; *здабыв-***а-***ць* (*здабыв-***aj-***у*), *зацвярдж-***а-***ць* (*зацвярдж-***aj-***у*), *ажыццяўл-***я-***ць* (*ажыццяўл-***яj-***у*); *кампенсава-***л-***а* (*кампенсава-***ў**), *дэманстрава-***л-***а* (*дэманстрава-***ў**) і г. д. Прадуктыўнымі ў абсалютнай большасці выпадкаў з'яўляюцца таксама канчаткі зменных часцін мовы.

Прыкладамі малапрадуктыўных марфем могуць служыць прыметнікавыя суфіксы **-авіт-***ы*, **-чат-***ы*, пры дапамозе якіх утвораны нямногія словы (*глянц-***авіт-***ы*, *лед-***авіт-***ы*, *тален-***авіт-***ы*; *бугар-***чат-***ы*, *кален-***чат-***ы*, *палавін-***чат-***ы*, *сустаў-***чат-***ы*, *сцябель-***чат-***ы* і некаторыя іншыя); суфіксы дзеясловаў **-ніча-, -іча** (*фамільярн-***іча-***ць*, *грымас-***ніча-***ць*, *вольн-***іча-***ць*); суфікс назоўнікаў **-эч-***а* ‖ **-еч-***а* (*макр-***эч-***а*, *халад-***эч-***а*, *камар-***эч-***а*, *прас-т-***эч-***а*, *мал-***еч-***а*).

Прыкладамі непрадуктыўных марфем у сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца суфіксы неазначальнай формы дзеясловаў **-ці, -чы**, якія сустракаюцца толькі ў раней утвораных словах (*брыс-***ці**, *гус-***ці**, *дзяўб-***ці**, *паўз-***ці**, *рас-***ці**, *вез-***ці**, *нес-***ці**, *клас-***ці**, *лез-***ці**, *пер-***ці**, *жэр-***ці**, *скуб-***ці**; *бег-***чы**, *бераг-***чы**, *маг-***чы**, *лег-***чы**, *стрыг-***чы**, *сцераг-***чы**, *таў-***чы**, *цця-***чы**, *вала-***чы** і ў некаторых іншых); суфіксы прыметнікаў **-ів-***ы* (**-ыв-***ы*), **-іч-***ы*, **-эўн-***ы* (*лян-***ів-***ы*, *фальш-***ыв-***ы*, *літасц-***ів-***ы*, *таямн-***іч-***ы*, *душ-***эўн-***ы*, *плач-***эўн-***ы*); суфікс назоўнікаў **-об-***а* (*вуч-***об-***а*, *хвар-***об-***а*); канчатак **-е** рознаскланяльных назоўнікаў у назоўным склоне множнага ліку (*сялян-***е**, *гараджан-***е**); канчатак **-ыма** назоўнікаў ніякага роду ў творным склоне множнага (былога парнага) ліку (*вач-***ыма**, *вуш-***ыма**, *пляч-***ыма**); канчатак **-мі** назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне множнага ліку (*конь-***мі**, *калень-***мі**, *вач-***мі**, *пляч-***мі**); канчатак **-м** дзеясловаў цяперашняга часу 1-ай асобы адзіноч-

нага ліку (*да*-**м**, *е*-**м**). Не толькі непрадуктыўнымі, але і мёртвымі ў сучаснай літаратурнай мове з'яўляюцца канчаткі **-ом, -ох** назоўнікаў мужчынскага роду ў давальным і месным склонах множнага ліку (наяўнасць у мастацкай літаратуры некаторай колькасці гэтых форм тлумачыцца выключна патрабаваннямі рыфмы або ўплывам народных гаворак: *гарад*-**ом**, *бар*-**ом**, *у гарад*-**ох**, *у бар*-**ох**).

§ 13. Пры вывучэнні марфалагічнага саставу слова і словаўтваральных тыпаў, акрамя тэрмінаў корань, афікс, канчатак, пастаянна даводзіцца мець справу з тэрмінам аснова слова.

Асновай называецца такая частка слова, якая служыць для выражэння яго індывідуальнага, прыватнага лексічнага значэння. У склад асновы слова формаўтваральныя марфемы не ўваходзяць, бо яны не змяняюць лексічнага значэння слова: *выплаўк*-**а**, *абмеркаванн*-**е**, *вынаходнік*-**і**, *награвальн*-**ы**. Кожнае асобнае слова мае сваю, толькі яму ўласцівую аснову, якая не паўтараецца ў іншых словах. Гэтай асаблівасцю аснова адрозніваецца ад кораня, які паўтараецца ў двух або ў некалькіх словах блізкага паходжання.

§ 14. Па свайму складу і паходжанню асновы могуць быць невытворнымі (простымі) і вытворнымі (складанымі). Асновы, якія складаюцца толькі з адной карэннай марфемы, называюцца невытворнымі, асновы ж, у склад якіх уваходзіць больш адной марфемы, называюцца вытворнымі. Напрыклад, у словах *рост, вада, людзі, новы, стаяць* асновы аднамарфемныя, невытворныя (*рост, вад-, людз'-, нов-, стаj-*), а ў словах *мірны, пераміp'е, прымірэнне, прымірэнчы* — вытворныя, бо яны складаюцца з дзвюх і больш марфем (*мірн-, пераміpj-, прымірэнн-, прымірэнч-*).

Важна падкрэсліць, што простыя асновы могуць існаваць не толькі ў выглядзе самастойнай карэннай марфемы, але і ў выглядзе спалучэння кораня з афіксамі (звычайна ў выніку працэсу апрошчання, гл. § 16). Так, у словах *абраза, абурыцца, закасаць, засціць, спадзявацца, абуцца, разуцца, увіхацца, спадоба, аздоба, парода, прычына* ў склад цяпер ужо невытворных асноў уваходзяць не толькі корані, але і прыстаўкі: *а-браз-, а-бур-, за-сці-, спа-дзява-, аб-у-, раз-у-, у-віха-, спа-доб-, а-з-доб-, па-род-, пры-чын-*. У словах *бухматы, калматы, кашлаты, таўсматы, целекаваты* ў склад невытворных асноў уваходзяць пэўныя суфіксы, якія ўжо не ўспрымаюцца тут як асобныя марфемы. Ва ўсіх гэтых выпадках невытворная аснова існуе не ў выглядзе чыстага кораня, а толькі ў выглядзе спалучэння кораня з пэўнымі афіксамі. Такая простая аснова называецца звязанай асновай.

§ 15. Пры вывучэнні пытанняў словаўтварэння і формаўтварэння тэрмін вытворная аснова нельга змешваць з тэрмінам утваральная аснова; апошні ўжываецца для абазначэння асновы, якая служыць базай для ўтварэння граматычных форм і новых слоў.

У якасці ўтвараючых могуць выступаць асновы ўсіх знамянальных часцін мовы; адпаведна з гэтым прынята гаварыць аб утвараючых назоўнікавых (іменных), прыметнікавых, лічэбнікавых, займеннікавых, дзеяслоўных і прыслоўных асновах. Так, напрыклад, словы *арганізатарскі, механічны, мінеральны* ўтвораны ад іменных асноў (*арганізатар, механік-а, мінерал*), словы *блізкасць, асцярожнасць* — ад прыметнікавых асноў (*блізк-і, асцярожн-ы*), словы *будаўнік, апрацоўка, драбільны, чарпальны* — ад дзеяслоўных асноў (*будава-ць, апрацоўва-ць, драбі-ць, чэрпа-ць*), слова *пяцёрка* — ад асновы лічэбніка (*пяць*), слова *засвоіць* — ад асновы займенніка (*свой*), словы *сённяшні, учарашні* — ад асноў прыслоўяў (*сёння, учора*).

Пры вывучэнні сістэмы форм дзеяслова звычайна карыстаюцца тэрмінамі аснова інфінітыва (неазначальная форма) і аснова

ц я п е р а ш н я г а  ч а с у, таму што ўтварэнне дзеяслоўных форм звязана іменна з гэтымі двума відамі асноў.

Цэлы рад блізкіх або аднолькавых па значэнню слоў, а таксама рад суадносных граматычных форм, якія выражаюць розныя значэнні, утвараецца ад асноў рознакаранёвых слоў. Такія асновы называюцца с у п л е т ы ў н ы м і (ад фр. supplétif дадатковы). Суплетыўнасць асноў назіраецца ва ўсіх знамянальных часцінах мовы, напрыклад у назоўніках (як правіла, пры абазначэнні асоб і істот у залежнасці ад полу): *мужчына — жанчына, бык — карова, баран — авечка, конь — кабыла, певень — курыца;* у прыметніках: *вялікі — большы, малы — меншы, дрэнны — горшы, добры — лепшы, баранні — авечы;* у лічэбніках: *адзін — першы, два — другі;* у займенніках: *я — мяне, мне, мною, (аба) мне, я — мы; ты — вы; мы — нас, нам, намі, (аб) нас; ён — яно, яго, яму, ім; яна — яе, ёй; яны — іх, ім, імі;* у дзеясловах: *браць — узяць, гаварыць — сказаць, ёсць — быць, іду — ішоў;* у прыслоўях: *многа — больш, мала — менш, добра — лепш, дрэнна — горш.*

Утвараючыя асновы па свайму марфалагічнаму саставу могуць быць як простымі, так і вытворнымі, напрыклад, утвараючая аснова назоўніка *кладка* простая (да яе далучан суфікс **-к**-*а*), а ўтвараючая аснова назоўніка *перавыкананне* — вытворная (*п е р а-в ы к а н а н н-е*).

§ 16. Марфалагічны састаў слова ў працэсе развіцця мовы можа больш ці менш прыкметна змяняцца ў залежнасці ад пераасэнсоўвання марфем або па прычыне зацямнення іх значэння, частковай ці поўнай страты яго. Надзвычай важную ролю ў змяненні марфалагічнай структуры слова адыгрываюць таксама розныя фанетычныя з'явы, у прыватнасці асіміляцыя, дысіміляцыя, знікненне і выпадзенне гукаў.

У выніку тых ці іншых прычын адбываецца зрашчэнне, зліццё дзвюх суседніх марфем (прыстаўкі з коранем, суфікса з коранем або прыстаўкі з прыстаўкай, суфікса з суфіксам) і ўтварэнне на базе іх новай, складанай марфемы.

У адных выпадках зрашчэнне марфем прыводзіць да простага змяншэння колькасці марфем у вытворнай аснове. Напрыклад, у словах *недасеяць, недасаліць, недавыканаць* у адну марфему *н е д а-* зліліся прыстаўкі **не-** і **да-**; у словах *увагнаць, увайсці, уваткаць, увапхнуць* — прыстаўкі **у-** і **ва-**; у словах *газавік, франтавік* — суфіксы **-ав-** (параўн. *газав-ы, франтав-ы*) і **-ік**; у словах *бульбоўнік, садоўнік* — суфіксы **-ов-** і **-нік**; у словах *пажарнік, кніжнік, ударнік* — суфіксы **-н-** і **-ік**; у словах *бацькоўскі, хлапцоўскі* — суфіксы **-оў- (-аў-)** і **-ск-**.

Зрашчэнне марфем, дзякуючы якому адбываецца простае скарачэнне колькасці марфем вытворнай асновы (без змянення іх значэння і гукавога складу), называецца м а р ф а л а г і ч н ы м  п е р а р а с к л а д а н н е м.

Дзякуючы працэсу перараскладання, які актыўна працякае ў сучаснай беларускай мове, утварыліся многія складаныя прыстаўкі і суфіксы, у прыватнасці такія суфіксы назоўнікаў, як **-авік, -анін (-янін), -аўшчык, -овіч (-евіч), -ізацыј-, -авін-, -авіц-, -аўніц- (-оўніц-), -насць, -льнасць, -аўшчын- (-оўшчын-), -оўств- (-аўств-), -ніцтв-, -авішч-, -інств- (-ынств-)**; суфіксы прыметнікаў **-альн-, -цельн-, -енн-, -іўн-, -оўн-, -ашн-, -анск- (-янск-), -іянск-, -енск-, -оўск- (-аўск-), -еўск-, -інск- (-ынск-), -атлів-** і інш.

У іншых выпадках зрашчэнне марфем прыводзіць не толькі да змяншэння колькасці марфем у слове, але і да змянення ўсёй марфалагічнай структуры, а разам з тым і значэння слова. Напрыклад, у словах *забыць, досыць, падласы, пануры, памылка, прастора, прачнуцца, пераканаць* дзякуючы таму, што значэнне іх карэнных марфем сцёрлася, прыстаўкі **за-, до-, пад-, па-, пра-, пера-** зрасліся паступова з каранямі і ўтварылі новыя марфемы, якія ў наш час ужо немагчыма чляніць; такім чынам,

гэтыя словы цяпер маюць простыя, невытворныя асновы. У словах *абоз, вобад* з карэнных марфем у выніку пэўнага фанетычнага працэсу выпаў зычны **в** (параўн. старажытн. *об-воз, об-вод*), дзякуючы чаму яны (карэнныя марфемы) страцілі сваё значэнне і зліліся з прыстаўкай **аб- (об-).** У слове *нашча* (старажытн. *натъща)* пасля страты карэннай марфемай слабага галоснага **ъ**, а затым і зычнага **т**, прыстаўка злілася з астатняй часткай кораня, і слова гэта перастала быць вытворным.

Зрашчэнне марфем, у выніку якога вытворная аснова слова становіцца простай (пры адпаведных зменах у яе значэнні), называецца а п р о ш ч а н н е м.

Апрошчанне як марфалагічная з'ява характэрна ў большасці выпадкаў для мінулых этапаў развіцця граматычнага ладу, але вынікі яго нельга не ўлічваць і пры вывучэнні сучаснага стану мовы. Устанаўленне рэальных, існуючых у наш час суадносін паміж прадуктыўнымі і непрадуктыўнымі сродкамі словаўтварэння (а часам і формаўтварэння) непасрэдна звязана з размежаваннем вытворных асноў, якія актыўна ўплываюць на развіццё мовы, і невытворных асноў (у тым ліку «апрошчаных»), якія характарызуюцца слабай словаўтваральнай актыўнасцю ў сучаснай сістэме.

§ 17. Асаблівасці формаўтварэння і словаўтварэння абумоўлены ў радзе выпадкаў характарам канцавых гукаў асновы. Напрыклад, назоўнікі мужчынскага роду, аснова якіх заканчваецца цвёрдым зычным, у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-е** або **-у** (*пры дом-***е**, *аб станк-***у**), а назоўнікі, аснова якіх заканчваецца мяккім зычным, маюць канчатак **-і** (*на агн-***і**).

У адпаведнасці з характарам канцавых гукаў звычайна адрозніваюцца два віды асноў — а с н о в ы  н а  г а л о с н ы я і а с н о в ы  н а  з ы ч н ы я, параўн.: *з д а б ы в а-ць, п а в ы ш а-ць, л я п і-ць, г р ы м е-ць; н е с-ці, у д з е л ь н і к-і, р а з в і ц ц-ё, п а в ы ш э н н-е, с п а р т ы ў н-ы*. Сярод асноў на зычныя ў залежнасці ад якасці зычных адрозніваюцца: аснова на ц в ё р д ы я  з ы ч н ы я (або ц в ё р д а я  а с н о в а), аснова на м я к к і я  з ы ч н ы я (або м я к к а я  а с н о в а), аснова на **j**, аснова на з а д н е я з ы ч н ы я **г, к, х**, аснова на с в і с ц я ч ы я, ш ы п я ч ы я і г. д. У школьнай практыцы, акрамя тэрміна ц в ё р д а я а с н о в а, шырока ўжываецца таксама тэрмін з а ц в я р д з е л а я  а с н о в а, г. зн. аснова, якая заканчваецца зычнымі **ж, дж, ч, ш, шч, ц, р.** Трэба падкрэсліць, што ў адносінах да сучаснай гукавой і граматычнай сістэм тэрмін гэты мае ў значнай ступені чыста ўмоўны характар, бо па сутнасці так званыя «зацвярдзелыя» зычныя адрозніваюцца ад цвёрдых толькі немагчымасцю ўтвараць адпаведныя мяккія варыянты. Паколькі гэта асаблівасць «зацвярдзелых» зычных вельмі слаба ўплывае на форма- і словаўтварэнне, у гэтай «Граматыцы беларускай мовы» ўжыванне тэрміна з а ц в я р д з е л а я  а с н о в а абмежавана пэўнымі канкрэтнымі выпадкамі.

### *Спосабы ўтварэння слоў*

§ 18. Пад с л о в а ў т в а р э н н е м разумеецца працэс утварэння новых лексічных адзінак пры дапамозе тых ці іншых сродкаў і спосабаў словаўтварэння.

У сучаснай беларускай мове словаўтварэнне ажыццяўляецца галоўным чынам наступнымі спосабамі: м а р ф а л а г і ч н ы м (а ф і к с а л ь н ы м), ф а н е т ы к а-м а р ф а л а г і ч н ы м, с і н т а к с і ч н ы м, с е м а н т ы к а-с і н т а к с і ч н ы м і с е м а н т ы ч н ы м. Кожны з гэтых спосабаў словаўтварэння мае спецыфічныя асаблівасці і выкарыстоўваецца не аднолькава ў адносінах да розных разрадаў слоў.

§ 19. Пры марфалагічным спосабе асноўным сродкам утварэння слоў з'яўляюцца афіксы, якія далучаюцца да пэўных тыпаў асноў. У залежнасці ад таго, якія марфемы выкарыстоўваюцца (прэфіксы або суфіксы ці тыя і другія разам), адрозніваюць чатыры разнавіднасці марфалагічнага словаўтварэння: прэфіксальнае (прыставачнае), суфіксальнае, прэфіксальна-суфіксальнае і бязафікснае.

а) З дапамогай прэфіксаў у беларускай мове ўтвараюцца часцей за ўсё дзеясловы: *аб'ехаць (аб-јехаць), вы-плаваць, да-несці, з-несці, са-скабліць, за-каціць, на-расці, на-смяяцца, над-ставіць, неда-ацаніць, па-багацець, пад-лезці, пера-пісаць, пра-мыць, процi-паставіць, пры-круціць, рас-казаць, у-рэзаць, прад-сказаць* і інш. Радзей прэфіксацыя выкарыстоўваецца для ўтварэння назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўяў: *бес-парадак, вод-свет, да-прызыўнік, за-граніца, звыш-магутнасць, не-бяс-пека, неда-развіццё, па-верх, пад-атрад, пера-наладка, перад-гісторыя; без-бароды, небез-выніковы, звыш-магутны, не-выразны, пра-мудры, су-залежны; на-вокал, на-заўсёды, у-потай, у-двойчы, у-поперак, за-летась, за-ўчора, па-абапал, пасля-заўтра.*

б) З дапамогай суфіксаў утвараюцца пераважна назоўнікі і прыметнікі: *кіраўніц-тв-а, дружб-ак, бальш-ак, вапн-як, пясн-яр, вылучэн-ец, твар-эц, цырульн-ік, уласн-ік, назіра-льнік, бульб-оўнік, звар-шчык, паднос-чык, насі-льшчык, натхні-цель, цал-ін-а, часа-лк-а, стан-овішч-а, здольн-асць; прафесіяналь-н-ы, мас-ав-ы, завод-ск-і, вызвален-ч-ы.* Пры ўтварэнні дзеясловаў выкарыстоўваюцца нямногія суфіксы, праўда, некаторыя з іх вельмі прадуктыўныя: *скрыгат-а-ць, боўт-а-ць, гарт-ава-ць, весл-ава-ць, старшын-ствава-ць, вітамін-ізава-ць, нармал-ізава-ць, гастрал-ірава-ць, важн-іча-ць, лібераль-ніча-ць, ой-ка-ць, баразн-і-ць, крухмал-і-ць, партызан-і-ць, два-і-ць, весял-е-ць, касц-яне-ць.*

Своеасаблівы характар набывае суфіксацыя ў разрадзе прыслоўяў. Як вядома, уласных суфіксаў прыслоўі не маюць; ролю прыслоўных суфіксаў выконваюць звычайна формы тых часцін мовы, ад якіх утвараюцца прыслоўі. Напрыклад, суфікс прыслоўяў **-о (-а, -е)** суадносіцца з адпаведнымі канчаткамі назоўнага і вінавальнага склонаў кароткіх прыметнікаў ніякага роду адзіночнага ліку: *даўн-о, весел-а, знешн-е; су*фікс **-у (-ю)** суадносіцца з формай назоўнікаў вінавальнага склону: *крых-у, чутачк-у;* суфіксы **-ом (-ам, -ём), -ою (-аю), -ой (-ай, -яй), -амі (-ямі)** суадносяцца з формамі творнага склону назоўнікаў: *дн-ём, вечар-ам, досвітк-ам, зім-ою, вечар-амі.*

в) Прэфіксальна-суфіксальным спосабам, пры якім да ўтваральнай асновы адначасова далучаюцца прыстаўка і суфікс, утвараюцца назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы і прыслоўі: *ад-галос-ак, бяс-хлеб-іц-а, без-граш-оў-е, за-зім-ак, між-броў-ј-э, на-плеч-нік, неда-рост-ак, пад-вячор-ак, пад-галоў-ј-э, перад-крыл-ак, перад-плуж-нік, прад-гор-ј-э, пры-горак, су-бясед-нік; ад-ымен-н-ы, бяз-меж-н-ы, да-школь-н-ы, за-воблач-н-ы, звыш-план-ав-ы, між-вен-н-ы, над-радк-ов-ы, ня-ўлоў-н-ы, па-гектар-н-ы, пад-зем-н-ы, пад-допыт-н-ы, паза-штат-н-ы, перад-пуск-ав-ы, пры-азёр-н-ы, унутры-від-ав-ы; а-дум-а-цца, аб-ветр-а-ць, аб-круж-ы-ць, абяз-лес-і-ць, ад-гул-я-цца, ад-жыв-і-ць, вы-леж-а-цца, вы-ка-ран-і-ць, да-клік-а-цца, пад-нав-і-ць; ад-раз-у, да-дом-у, да-сыт-а, да-рэч-ы, с-пачатк-у, з-молад-у* і інш.

Як відаць з гэтых прыкладаў, прэфіксальна-суфіксальным спосабам утвараюцца самыя разнастайныя марфалагічныя тыпы слоў.

г) Бязафіксны спосаб характарызуецца тым, што словы ўтвараюцца толькі далучэннем да асновы канчаткаў (у тым ліку нулявога канчатка ў пэўных выпадках). Гэты спосаб утварэння можна было б назваць інакш флексійным спосабам. Ён выкарыстоўваецца галоўным чынам пры ўтварэнні назоўнікаў ад асноў дзеясловаў: *грукаць — грук (грук-у, грук-ам* і г. д.), *задумаць — задум-а, марыць — мар-а* і інш.

§ 20. Пры **фанетыка-марфалагічным** спосабе словы ўтвараюцца шляхам далучэння да асновы канчаткаў (у тым ліку нулявога канчатка) пры адначасовым чаргаванні гукаў у аснове або пераносе націску з аднаго складу на другі. Напрыклад, назоўнікі *адзнака, пазыка, паклажа, разлука* ўтвораны шляхам далучэння да дзеяслоўных асноў (*адзнач-, пазыч-, паклад-, разлуч-*) канчатка **-а** і чаргаваннем канцавых зычных асновы; словы *апёк (апёку), намёк (намёку), напор (напору)* утвораны шляхам далучэння канчатка, чаргавання галосных у аснове і пераносу націску (параўн. адпаведныя дзеясловы *апякаць, намякаць, напіраць*); словы *запуск (запуск-у), нараст (нараст-у), поціск (поціск-у)* утвораны шляхам далучэння канчатка і пераносу націску (параўн. адпаведныя дзеясловы *запускаць, нарастаць, паціскаць*).

Гэты спосаб выкарыстоўваецца галоўным чынам пры ўтварэнні назоўнікаў ад асноў дзеясловаў і прыметнікаў, а таксама парадкавых лічэбнікаў ад асноў колькасных лічэбнікаў (*пяць — пят-ы, дзесяць — дзесят-ы*).

§ 21. Сутнасць **сінтаксічнага** спосабу словаўтварэння заключаецца ў тым, што новыя словы ўтвараюцца шляхам аб'яднання ў адно складанае цэлае пэўных сінтаксічных злучэнняў двух ці некалькіх слоў пры дапамозе злучальных марфем або непасрэдна. Інакш гэты спосаб называюць яшчэ **асноваскладаннем**. Асноваскладанне часта суправаджаецца суфіксацыяй, у такіх выпадках прынята гаварыць аб **складана-суфіксальным**, ці **сінтаксіка-марфалагічным** спосабе ўтварэння слоў.

Асноваскладанне характэрна для назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і прыслоўяў. У межах кожнай з гэтых часцін мовы яно мае свае разнавіднасці ў залежнасці ад таго, якія сінтаксічныя спалучэнні слоў утвараюць складанае слова.

Складаныя назоўнікі ўтвараюцца звычайна шляхам спалучэння пры дапамозе злучальных галосных **а, е (я)** ці без іх асноў назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, прыслоўяў і дзеясловаў з асновамі саміх жа назоўнікаў або з асновамі дзеясловаў, у апошнім выпадку яны аформлены як назоўнікі. Часцей складаныя назоўнікі суадносяцца з адпаведнымі падпарадкавальнымі словазлучэннямі, у якіх адно слова граматычна залежыць ад другога, і радзей — з непадпарадкавальнымі словазлучэннямі: *лён мяць — ільнамялка, кусты рэзаць — кустарэз, муку сеяць — мукасей, стагі складаць — стогаскладальнік, сумесь травы — травасумесь, чорная зямля — чарназём, новае ўвядзенне — наваўвядзенне, другі разрад — другаразраднік, пяць год — пяцігодка, усё ведаць — усёведанне, сам хваліцца — самахвал, дарма есці — дармаед, вярнуць дубы — вернідуб.*

У асобны від складаных назоўнікаў неабходна выдзеліць так званыя **абрэвіятуры**, або **складанаскарочаныя** словы (ад іт. abbreviatura<лац. brevis кароткі). Ад звычайных складаных слоў абрэвіятуры адрозніваюцца тым, што яны ўтвараюцца шляхам зліцця не цэлых слоў ці асноў, а частак слоў і поўных слоў (*дзяржплан, райцэнтр, сельгасарцель, райсельгасінспекцыя, мінгарспецгароднінагандаль*), частак слоў і асобных гукаў (*райана, Белта, педвну*) або толькі пачатковых літар слоў (*РВК — Раённы выканаўчы камітэт*).

Складаныя прыметнікі ўтвараюцца таксама на базе розных тыпаў словазлучэнняў, напрыклад словазлучэнняў двух (ці некалькіх) незалежных прыметнікаў, двух ці некалькіх незалежных назоўнікаў, прыметніка, лічэбніка, займенніка ці дзеяслова з назоўнікам і інш.: *чырвоны і зялёны — чырвона-зялёны, рускі, беларускі і ўкраінскі — руска-беларуска-ўкраінскі, хлеб і булкі — хлебабулачны, сінія вочы — сінявокі, два крылы — двухкрылы, сто галасоў — стогалосы, іншы род — іншародны, той час — тагачасны, рамонт паравозаў, рамантаваць паравозы — пара-*

*возарамонтны, уборка ільну — ільноўборачны, падобны на вугаль — вуглепадобны, здольны да працы — працаздольны, агульны для (усяго) завода — агульназаводскі, устойлівы ад марозу — марозаўстойлівы, кроў насіць — крываносны, законы даваць — заканадаўчы, ваду чэрпаць — водачарпальны.*

Для сувязі асноў у складаных прыметніках, як і ў складаных назоўніках, выкарыстоўваюцца звычайна злучальныя галосныя **а, е (я).**

Утварэнне складаных лічэбнікаў абмежавана спецыфікай гэтай часціны мовы; у адно слова са значэннем ліку (колькасці або парадку пры лічэнні) могуць злучацца толькі лічэбнікавыя асновы: *пяць дзесяткаў — пяцьдзесят, пяць соцень — пяцьсот, тры сотні — трыста, чатыры сотні — чатырыста, дваццаць тысяч — дваццацітысячны, тры мільёны — трохмільённы, чатырыста восемдзесят мільярдаў — чатырохсотвасьмідзесяцімільярдны.*

Слаба прадстаўлена асноваскладанне таксама ў разрадзе прыслоўяў, прычым яно ў сучаснай беларускай мове не з'яўляецца жывым працэсам. Да ліку складаных прыслоўяў адносяцца прыслоўі, утвораныя шляхам зліцця займеннікаў *што, сёй* з формай вінавальнага або роднага склону назоўнікаў і шляхам паўтарэння аднолькавых ці блізкіх слоў: *штовечар, штодзень, штогод, штоноч, штораз, штогоду, штодня, сягоння; воляйняволяй, дзе-недзе, дзе-нідзе, калі-нікалі, як-ніяк* і інш.

Асобна стаяць складаныя прыслоўі, якія паходзяць ад фразеалагічных выразаў: *даўным-даўно, раз-поразу, перш-наперш, крыж-накрыж, самнасам, шыта-крыта, шыварат-навыварат* і інш.

Слабай актыўнасцю асноваскладанне характарызуецца і ў класе дзеясловаў. Складаныя дзеясловы ўтвараюцца галоўным чынам шляхам зліцця асновы займенніка *сам* з дзеяслоўнай асновай: *самаакупіцца, самазаспакоіцца, самаспакушацца, самаўзгарацца* і інш. Такія дзеясловы належаць пераважна кніжнай мове.

Зрэдку складаныя дзеясловы ўтвараюцца шляхам далучэння да дзеяслоўнай асновы лічэбнікавай часткі *паў: паўляжаць, паўсядзець.*

Такім чынам, да разраду складаных слоў неабходна адносіць такія словы, якія ўтвараюцца шляхам зліцця, злучэння ў адно цэлае дзвюх асноў (ці толькі іх частак) або двух ці некалькіх слоў, якія належаць да знамянальных часцін мовы. Зыходзячы з адзначанага, нельга складанымі лічыць словы, утвораныя ад ужо існуючых складаных слоў пры дапамозе тых ці іншых афіксаў, напр.: *агратэхніч-н-ы (агратэхніка), кінаплёнач-н-ы (кінаплёнка), тэрмаізаляцыj-н-ы (тэрмаізаляцыя), электралямп-ав-ы (электралямпа), фотарэпарцёр-ск-і (фотарэпарцёр), індакітай-ск-і (Інда-Кітай), прафсаюз-н-ы (прафсаюз), прамтавар-н-ы (прамтавары), відазмян-енн-е (відазмяніць), добраўпарадкава-нн-е (добраўпарадкаваць).* Такія словы з'яўляюцца складанымі толькі па свайму марфалагічнаму саставу, з пункту ж погляду самога працэсу і віду словаўтварэння яны з'яўляюцца простымі словамі.

Само сабою зразумела, што складаныя словы неабходна адрозніваць ад складаных (аналітычных) форм слоў.

§ 22. Своеасаблівы від словаўтварэння прадстаўляе п е р а х о д адной часціны мовы ў другую, напрыклад пераход прыметнікаў у назоўнікі, дзеепрыметнікаў у прыметнікі, назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўяў у разрад так званых прэдыкатыўных слоў і інш. Пераход слоў з аднаго разраду ў другі называецца с е м а н т ы к а-с і н т а к с і ч н ы м спосабам словаўтварэння, бо сам гэты пераход абумоўлен сінтаксічнымі функцыямі і адпаведна змяненнем лексічнага (а звычайна і граматычнага) значэння слова. Так, прыметнікі ў працэсе субстантывацыі набываюць сінтаксічныя і сэнсавыя адзнакі назоўнікаў (параўн.: *р а б о ч ы дзень* і *р а б о ч ы перавыканаў план);* дзеепрыметнікі ў працэсе ад'ектывацыі набываюць функцыі і значэнні прыметнікаў (параўн.: *Ваша просьба з а д а в о л е н а* і *Ён пайшоў з з а д а в о л е н ы м выглядам)* і г. д.

Такім чынам, пры пераходзе слоў з адной часціны мовы ў другую іх структурна-марфалагічны састаў па сутнасці застаецца ранейшым, але адбываецца змена іх значэння і сінтаксічных функцый.

§ 23. Параўнальна нязначнае месца сярод розных відаў словаўтварэння займае семантычны спосаб. Сутнасць гэтага спосабу заключаецца ў тым, што слова як бы расшчапляецца на два або некалькі значэнняў і кожнае з гэтых значэнняў замацоўваецца за асобным паняццем; напрыклад, слова *кастрычнік* спачатку ўжывалася толькі для абазначэння адпаведнага месяца, а затым набыло таксама значэнне пэўнай гістарычнай падзеі — *Кастрычніцкай рэвалюцыі* і рэвалюцыйнага свята, звязанага з гэтай падзеяй. У выніку гэтых семантычных змен на базе агульнага назоўніка *кастрычнік* утварыўся ўласны назоўнік *Кастрычнік*, які цяпер мае самастойнае лексічнае значэнне.

§ 24. У сучаснай беларускай літаратурнай мове новыя словы могуць утварацца таксама шляхам марфалагічнага калькавання іншамоўных слоў. Сутнасць гэтага віду словаўтварэння заключаецца ў тым, што іншамоўнае слова перакладаецца на беларускую мову па яго марфалагічных частках, напр.: руск. *не-обход-им-ый*, бел. *не-абход-н-ы*; руск. *со-временн-ость*, бел. *су-часн-асць*; руск. *сверли-льщик*, бел. *свідрава-льшчык*. Як відаць з гэтых прыкладаў, пры калькаванні бярэцца толькі марфалагічная мадэль іншамоўнага слова, матэрыялам жа для ўтварэння новага слова служаць уласнабеларускія марфемы. У сувязі з гэтым калькаванне слоў арганічна ўліваецца ў марфалагічны спосаб словаўтварэння.

§ 25. З разгледжаных вышэй матэрыялаў відаць, што новыя словы могуць утварацца разнастайнымі спосабамі. У залежнасці ад гэтых спосабаў вытворныя словы класіфікуюцца ў пэўныя групы, якія прынята называць словаўтваральнымі тыпамі.

Пры марфалагічным (афіксальным) спосабе словаўтваральны тып вызначаецца на аснове адзінства значэння і гукавога афармлення прэфіксаў або суфіксаў, якія ўтвараюць пэўны разрад слоў. Акрамя таго, тут важную ролю адыгрывае агульнасць значэння ўтваральных асноў. Так, назоўнікі з суфіксам **-к-**, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў і абазначаюць адцягненыя працэсы і дзеянні (*зборка, койка, рубка, праверка, апрацоўка* і інш.), складаюць адзін словаўтваральны тып, а назоўнікі з гэтым жа суфіксам, якія ўтвораны ад іменных асноў і абазначаюць розныя прадметы і адцягненыя паняцці (*вятранка, бакоўка, пухоўка, лятучка* і інш.), — другі словаўтваральны тып.

Пры фанетыка-марфалагічным спосабе словаўтваральны тып залежыць не столькі ад агульнасці значэння і ад паходжання ўтваральнай асновы, колькі ад дадатковых гукавых і марфалагічных сродкаў (канчаткаў), якія афармляюць слова. Так, сярод аддзеяслоўных бязафіксных назоўнікаў вылучаецца некалькі больш ці менш самастойных тыпаў у залежнасці ад характару чаргаванняў ва ўтваральнай аснове і рухомасці націску (*адзначыць — адзнака, заклікаць — заклік, запускаць — запуск, паважаць — павага, праразаць — проразь, узнагародзіць — узнагарода*).

Вызначэнне паняцця словаўтваральны тып у адносінах да складаных слоў залежыць перш за ўсё ад таго, асновы якіх часцін мовы аб'ядноўваюцца ў адно слова і з якімі сінтаксічнымі спалучэннямі суадносяцца складаныя словы. Так, вылучаюцца самастойныя тыпы складаных назоўнікаў, утвораных шляхам спалучэння дзвюх асноў саміх жа назоўнікаў (*лесасплаў, светавымяральнік, мясанарыхтоўка, гораўтварэнне*), асноў прыметніка або лічэбніка і назоўніка (*дабрабыт, рэдкалессе, вузкакалейка, сямігоддзе, пяцігодка*), асноў займеннікаў і назоўнікаў (*самаадвод, самаацэнка*) і інш. Самастойныя тыпы складаюць прыметнікі, утвораныя спалучэннем асноў саміх жа прыметнікаў (*раслінна-жывёльны*), асноў прыметніка і назоўніка (*беластволы*), асноў лічэб-

ніка і назоўніка *(трохгалосы)*, асноў займенніка і назоўніка *(іншакраінны)* і г. д.

Пры вызначэнні паняцця с л о в а ў т в а р а л ь н ы т ы п у адносінах да слоў, утвораных семантыка-сінтаксічным спосабам, важна ўлічваць не толькі змяненне іх значэння, але і змяненне іх граматычных уласцівасцей. Напрыклад, пераход прыметнікаў у назоўнікі характарызуецца стратай гэтымі словамі значэння якаснасці-адноснасці і разам з тым іх ранейшых сінтаксічных функцый і некаторых марфалагічных катэгорый.

## ЧАСЦІНЫ МОВЫ

§ 26. Ч а с ц і н ы  м о в ы — гэта разрады слоў, якія характарызуюцца агульнасцю лексіка-граматычных значэнняў, а таксама пэўнай сістэмай форм, словаўтварэння і пэўнымі асаблівасцямі сінтаксічнага ўжывання.

У сучаснай беларускай мове налічваецца дзесяць часцін мовы: назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, часціцы і выклічнікі. Сярод іх адны з'яўляюцца з н а м я н а л ь н ы м і, бо яны ўжываюцца для называння прадметаў, дзеянняў, якасцей (прымет), уласцівасцей, лікаў або для ўказання на іх, а другія—с л у ж б о в ы м і, бо яны ўжываюцца толькі для выражэння адносін паміж з'явамі рэчаіснасці, названымі знамянальнымі словамі.

Да ліку знамянальных часцін мовы адносяцца назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў і прыслоўе.

Разрад назоўнікаў складаюць словы з агульным значэннем прадметнасці: *кніга, машына, стол, провад, возера, паветра, святло, радасць, маладосць, здабыванне, мантаж* і г. д. Назоўнікам уласцівы граматычныя катэгорыі і формы роду, ліку і склону. У сказе назоўнікі выступаюць часцей за ўсё ў ролі дзейніка і дапаўнення.

Разрад прыметнікаў складаюць словы з агульным значэннем прыметы, якасці або ўласцівасці прадмета: *шырокая вуліца, высокі дом, гнуткае дрэва.* Прыметнікам уласцівы граматычныя катэгорыі і формы ліку, роду (толькі ў адзіночным ліку) і склону, аднак яны поўнасцю залежаць ад адпаведных катэгорый і форм тых назоўнікаў, якія ў сказе азначаюцца прыметнікамі. Акрамя таго, пэўныя групы прыметнікаў могуць мець кароткія формы і формы ступеней параўнання: *весел, здароў, прыгож, годзен; весялейшы, найвесялейшы, больш вясёлы, самы вясёлы.*

Разрад лічэбнікаў складаюць словы, якія абазначаюць лік прадметаў або іх парадкавы нумар: *пяць чалавек, восем дамоў, трое сяброў; пяты паверх, шасцідзесяты год.* Лічэбнікам уласціва своеасаблівая сістэма склонавых форм, акрамя таго, яны характарызуюцца радам сінтаксічных асаблівасцей.

Разрад займеннікаў складаюць словы, якія не называюць прадметаў, дзеянняў, якасцей, уласцівасцей і лікаў, а толькі ўказваюць на іх: *я, ты, ён, хтосьці, які-небудзь, твой, наш, ваш, некаторы, гэты, той* і інш. Займеннікі маюць складаную сістэму форм склону, роду і ліку і ў сказе выступаюць у розных функцыях (часцей у функцыі дзейніка, дапаўнення і азначэння).

Разрад дзеясловаў складаюць словы, якія называюць дзеянні, стан (як працэс), змяненні стану або праяўленне ўласцівасцей: *працаваць, адпачываць, радавацца, весяліцца, чырванець* і г. д. Дзеясловам уласцівы граматычныя катэгорыі трывання, часу, ладу, стану, ліку, роду (толькі ў прошлым часе), асобы і разгалінаваная сістэма формаўтварэння, у якую ўваходзяць таксама неазначальная форма (інфінітыў), дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе. У сказе дзеяслоў звычайна выконвае функцыю выказніка; дзеепрыметнік часцей выступае ў ролі азначэння да назоўнікаў, а дзеепрыслоўе — у ролі акалічнасці.

Разрад прыслоўяў складаюць словы, якія абазначаюць розныя акалічнасці дзеянняў або якасці дзеянняў ці іншых якасцей: *працуе выдатна, вывучае надзвычай глыбока.* З агульным значэннем прыслоўяў цесна звязана і іх сінтаксічная функцыя. Звычайна яны выконваюць функцыю розных акалічнасцей. Ад іншых знамянальных часцін мовы прыслоўі адрозніваюцца адсутнасцю развітай сістэмы формаўтварэння (адзінымі формамі прыслоўяў з'яўляюцца формы ступеней параўнання). Гэта асаблівасць прыслоўяў звязана з іх паходжаннем: амаль усе яны гістарычна ўтварыліся ад застылых, амярцвелых форм знамянальных часцін мовы.

Да ліку службовых часцін мовы адносяцца: прыназоўнік, злучнік і часціцы.

Разрад прыназоўнікаў складаюць словы, якія не называюць што-небудзь, а выражаюць розныя сэнсава-сінтаксічныя адносіны назоўнікаў (а таксама пэўных груп лічэбнікаў і займеннікаў) да іншых назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў і прыслоўяў: *дом з балконам* (азначальныя адносіны), *радыёперадача аб передавіках, падрыхтоўка да сяўбы, попыт на тавары* (аб'ектныя адносіны), *праект па рэканструкцыі цэха* (азначальныя адносіны), *хатка над балотцам* (прасторавыя адносіны), *верны свайму слову* (аб'ектныя адносіны), *мокры ад расы* (прычынныя адносіны), *пахмурны ад ранку* (часавыя адносіны), *скупы на словы, культурны з выгляду* (абмежавальныя адносіны), *працаваць у полі* (прасторавыя адносіны), *незалежна ад умоў* (прычынныя адносіны) і г. д. Прыназоўнікі не маюць сінтаксічнай самастойнасці, г. зн. яны не могуць выступаць у ролі членаў сказа, акрамя таго, у іх няма і форм словазмянення. Па марфалагічнаму саставу адны з іх невытворныя *(на, у, за* і інш.), а другія паходзяць ад знамянальных часцін мовы.

Разрад злучнікаў складаюць словы, якія выражаюць сінтаксічную сувязь паміж словамі ў словазлучэннях і сказах, а таксама паміж цэлымі сказамі: *возера* і *лес, вясёлы* і *прыветлівы, строгі,* але *добры; я сказаў, што ўсё будзе зроблена, работа паспяхова завершана, і мы едзем адпачываць.* Злучнікі, як і прыназоўнікі, не маюць форм словазмянення і не могуць выступаюць у ролі самастойных членаў сказа.

Разрад часціц складаюць словы, якія служаць для выражэння розных сэнсавых і эмацыянальных адценняў слоў або словазлучэнняў і цэлых выказванняў ці для ўтварэння слоў і форм слоў: *Няўжо ён не прыедзе? Няхай жыве дружба народаў! Як прыгожа ў лесе вясною! Настаўнік, з якім я пазнаёміўся яшчэ да вайны, працуе цяпер дзесьці на Палессі.* Часціцы, як і прыназоўнікі і злучнікі, не маюць форм словазмянення, не могуць выступаць у ролі членаў сказа і не маюць сінтаксічных сувязей з іншымі словамі.

Асобае месца ў сістэме часцін мовы займаюць выклічнікі, пры дапамозе якіх выражаюцца (не называюцца) розныя пачуцці *(ох, ах, ой, ай),* заклікі *(эй, гэй, ало, кс-кс)* або называюцца пэўныя гукі, якія ўтвараюцца прадметамі, з'явамі прыроды, людзьмі, жывёламі (*лоп-лоп, цінь-цінь, гаў-гаў, мяў-мяў, ку-ка-рэ-ку* і інш.). Выклічнікі не маюць форм словазмянення, не звязаны сінтаксічна з іншымі словамі і не могуць выступаць у ролі членаў сказа.

§ 27. Як відаць з папярэдняга, кожная часціна мовы характарызуецца сукупнасцю ўласцівых ёй адзнак — лексіка-граматычным значэннем, граматычнымі формамі і сінтаксічнымі функцыямі. Аднак паміж часцінамі мовы адбываецца пастаяннае ўзаемадзеянне, дзякуючы якому словы з аднаго граматычнага разраду могуць пераходзіць у іншы граматычны разрад. Такі пераход слоў з адной часціны мовы ў другую выклікае не толькі змяненні ў іх значэннях, але і ў іх граматычных асаблівасцях.

Найбольш часта наглядаецца пераход прыметнікаў у разрад назоўнікаў (субстантывацыя): *працоўныя, сталовая, сасісачная, апаратная,*

*настаўніцкая, пазваночныя* і г. д. У працэсе субстантывацыі прыметнікі страчваюць уласцівасць абазначаць прыметы або якасці прадметаў і набываюць уласцівасць абазначаць самі гэтыя прадметы. Формы склону такія прыметнікі захоўваюць, але формы ліку і роду звычайна ў іх становяцца фіксаванымі, напрыклад субстантываваны прыметнік *пасяўная* ўжываецца толькі ў форме адзіночнага ліку жаночага роду, субстантываваныя прыметнікі *азімыя, яравыя* ўжываюцца толькі ў множным ліку.

З разраду назоўнікаў многія словы ці формы слоў могуць пераходзіць у прыназоўнікі: *шляхам, з прычыны, з дапамогай, з повадом, у мэтах, у знак, у справе, на працягу, у парадку* і інш.

У граматычны разрад прыметнікаў пераходзіць значная колькасць дзеяслоўных форм — дзеепрыметнікаў незалежнага і асабліва залежнага стану (гэты працэс называюць а д'е к т ы в а ц ы я й): *вядучыя супрацоўнікі, знерваваны чалавек, зношанае адзенне, зачытаная кніга, аб'езджаны конь, брукаваная вуліца, прыдушаны голас, пратручанае насенне, спаяны калектыў, выцвілая трава, набалелае пытанне* і г. д. Пры пераходзе ў прыметнікі дзеепрыметнікі страчваюць дзеяслоўныя значэнні (часу, стану і інш.) і набываюць якасныя значэнні, уласцівыя разраду прыметнікаў: *вядучыя супрацоўнікі*—лепшыя, найбольш падрыхтаваныя для работы; *спаяны калектыў* — дружны, згуртаваны калектыў.

Некаторыя дзеяслоўныя формы могуць пераходзіць у разрад прыназоўнікаў: *дзякуючы, выключаючы, уключаючы, канчаючы, пачынаючы, не лічачы.*

У разрад прыназоўнікаў пераходзяць многія прыслоўі: *апрача, акрамя, сярод, паводле, каля, уздоўж, побач, поруч, поплеч* і інш.

У разрад злучнікаў і злучальных слоў могуць пераходзіць займеннікі, часціцы і прыслоўі: *хто, што, які, таму, аж, толькі, дзе, куды, адкуль, калі, як, пакуль.*

Такім чынам, пераход слоў з аднаго граматычнага разраду ў другі — з'ява жывая і даволі шырокая ў сучаснай беларускай мове. Асноўнымі прычынамі гэтага пераходу з'яўляецца змена значэнняў і сінтаксічных функцый слоў.

Само сабою зразумела, што ад непасрэднага пераходу слоў з адной часціны мовы ў другую трэба адрозніваць утварэнне слоў аднаго граматычнага разраду на базе слоў другога разраду пры дапамозе тых ці іншых словаўтваральных сродкаў.

---

# НАЗОЎНІК



## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ НАЗОЎНІКУ

§ 28. Да разраду назоўнікаў належаць знамянальныя словы, якія маюць прадметнае значэнне. Яны абазначаюць людзей *(чалавек, Сцяпан, мужчына, педагог, рамеснік)*, жывёл, птушак, насякомых *(конь, карова, ластаўка, муха, авадзень)*, прадметы і з'явы прыроды *(стол, дуб, трава, луг, гара, нізіна, возера, мора, туман, дождж, гром)*, прылады вытворчасці *(станок, плуг, лямех, барана)*, рэчывы *(пясок, сталь, чыгун, жалеза, вада)*, паняцці грамадскага жыцця *(дзяржава, рэвалюцыя)*, адцягненыя якасці, уласцівасці *(прыгажосць, скромнасць, дабрата, устойлівасць)*, стан, адцягненыя дзеянні *(хваравітасць, сон, ход, барацьба)*, разумовыя адцягненыя паняцці (*думка, імкненне, свядомасць*) і інш.

Значэнне прадметнасці, уласцівае назоўнікам, могуць набываць пры пэўных умовах таксама розныя іншыя знамянальныя і незнамянальныя (службовыя) часціны мовы, напрыклад:

а) прыметнікі і дзеепрыметнікі: *Ужо ішла ўгору сакавітая зеляніна яравых* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Упярэмешку з рэдкімі фурманкамі мігаліся пайз вокны пешыя* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *З грукатам пад'ехалі пажарныя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Яшчэ далёка было да відна, калі ён пабудзіў Астапа і ціхенька, каб не ўзварушыць спаўшых, абодва падаліся з хаты* (там жа). *Яна была яшчэ зусім маладая, але на твары яе ляжаў адбітак перажытага* (К. Чорны. На граніцы).

б) Лічэбнікі: *Усе чатыры трымалі правыя рукі ў кішэнях. Чацвёра выразна пераглянуліся. Чацвёра выхапілі рэвальверы* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Праз некалькі хвілін кончылі справу і другія двое* (Ц. Гартны. На перагібе).

в) Займеннікі: *Блешчык глядзеў на стрыманыя рухі старога і думаў аб сваім* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Цяпер на зямельку, сваю карміцельку, прыйшоў, каб пабачыць сваіх, убачыць каб хатку, і бацьку, і матку, і дзетак — калісьці малых* (Я. Купала. З дарогі). *Пасля таго, як белыя сталі адступаць і нашы, перабраўшыся цераз рэчку, пагналі іх, перабіраўца стаў на той бераг і штаб палка* (К. Чорны. Будзем жыць).

г) Дзеясловы: *«І скажы ты мне, — гаварыў Аўдолевіч, на хаду адзяваючы стары зашмальцаваны кажушок, — чаму гэта ў раёне пазіраюць на яго* [Капейку] *скрозь пальцы. Ходзіць такі падкапай па сяле і рыецца, як той парсюк пад зруб. Каб на мяне, дык я яго, здаецца, нават і сёння папрасіў бы з вёскі»* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

д) Прыслоўі *(сёння, заўтра, паслязаўтра, учора)*: *А тыя, што ў бітвах палі, што мусілі шлях пракладаць, яны ў ясназорнае заўтра для ўсіх маякамі стаяць* (П. Броўка. Дарога жыцця).

е) Прыназоўнікі: *Выказваліся найчасцей выразна: за пасёлкі ці супраць іх, але прычын гэтых «за» і «супраць» было вельмі шмат і ў кожнага свая* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

ж) Выклічнікі: *Грымнула магутнае «ўра»* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Скора прыйдзе вясна, панясецца «ку-ку» праз лясы, праз палі, праз наш Нёман-раку* (Цётка. Скора прыйдзе вясна...).

Працэс пераходу розных часцін мовы ў разрад назоўнікаў носіць назву субстантывацыі.

§ 29. Асноўнымі марфалагічнымі прыметамі назоўнікаў з'яўляюцца катэгорыі роду (мужчынскі, жаночы, ніякі), ліку (адзіночны, множны) і склону (назоўны, родны, давальны, вінавальны, творны, месны), якія служаць граматычным сродкам выражэння прадметнасці.

§ 30. У сказе назоўнікі звычайна выконваюць функцыю дзейніка або дапаўнення, што абумоўліваецца іх прадметным значэннем.

*Дуплаватыя дзічкі сям-там раслі на полі* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Тэлефаніст перадаў яму трубку* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Акрамя таго, назоўнік можа выступаць у сказе ў ролі выказніка, азначэння і акалічнасці.

*Мой брат камсамолец, а я піянер* (А. Астрэйка. Мой брат камсамолец...). *Стары быў найлепшым яму дарадчыкам* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Ён быў у армейскай гімнасцёрцы* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Вечарам цесная хата Сцяпана не магла ўмясціць народу* (М. Чарот. Саматканая світка). *Ззаду на дарозе пачуўся тупат* (П. Галавач. Уцякач).

З'яўляючыся тым ці іншым членам сказа, назоўнік можа выступаць у ролі галоўнага слова іменнага словазлучэння. У такіх выпадках у якасці залежных ад назоўніка слоў ужываюцца іншыя назоўнікі або прыметнікі, дзеепрыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, прыслоўі і неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў): *хата рыбака, калгаснае поле, скошаная трава, дванаццаты дзень, мой таварыш, дом злева, імкненне працаваць.*

*А квяцістыя зоры, бы дыяменты інею, усыпаюць усё неба, дрыжаць, пераліваюцца колерамі вясёлкі, аб чымся бязмежна вялікім гамоняць тваёй душы, клічуць шырэй разняць крыллеі ляцець у гэты сусвет, каб пабачыць яго веліч і пачуць сваю нязначнасць, рассунуць цесныя граніцы гэтага жыцця-клопату на зямлі і пазнаць яшчэ нязведаную радасць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Гэта была ўжо другая паводка на Палессі ў гэтым годзе* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Вера мела ўсе магчымасці вучыцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Жыццё чалавечае — гэта вечныя надзеі, мары; гэта імкненне наперад і наперад, ад учарашняга да заўтрашняга, ад старога да новага, ад горшага да лепшага* (П. Галавач. Дасужая).

§ 31. Некаторыя назоўнікі ў сучаснай беларускай мове страчваюць сваю ўласцівасць абазначаць прадметы і ў залежнасці ад умоў ужывання пераходзяць у іншыя лексіка-граматычныя разрады слоў, напрыклад у прыслоўі, безасабова-прэдыкатыўныя словы, прыназоўнікі, злучнікі, выклічнікі: *век, ноч, дзень, страх, жаль, шкода, бяда, гора, смех, грэх, пара, час; шляхам, у адносінах, у выніку, пры дапамозе, за выключэннем, з повяду; з таго часу як, з прычыны таго што; караул, гвалт* і інш.

*Рыгору стала шкада мацеры* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *«З беднасці смяяцца грэх, Ільля Гаўрылавіч», — заўважыў ён* (У. Карпаў. Год за годам). *Ужо снедаць час, і поўдзень скора, ды з гэтым бацькам адно гора* (Я. Колас. Новая зямля). *Рука... гудзе надаедлівым болем. Страх як абрыдла адчуваць пры сабе гэты цяжар: не павернешся,*

*не дакранешся* (Я. Брыль. Напярэдадні). *Яму хацелася як мага болей абудзіць дапытлівы розум сваіх выхаванцаў, шырэй расчыніць ім вочы на свет і навучыць іх крытычна ставіцца да жыцця, да сваіх абавязкаў у адносінах да людзей* (Я. Колас. На ростанях). *З поваду гэтага футра Букрэй меў прамову перад сваім войскам* (Я. Колас. Дрыгва). *З таго часу як Рыгор лёг у бальніцу, усе абавязкі члена сельсавета па Мядзведзічах прыйшлося выконваць адной Аўдолі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Каравул! Палкоўніка ўкралі!* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

## ЛЕКСІКА-ГРАМАТЫЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ НАЗОЎНІКАЎ

§ 32. У залежнасці ад значэння назоўнікі звычайна падзяляюцца на канкрэтныя і неканкрэтныя (абстрактныя), уласныя і агульныя, адушаўлёныя і неадушаўлёныя, асабовыя і неасабовыя, а таксама зборныя і рэчыўныя. Для гэтых груп назоўнікаў у радзе выпадкаў характэрны і свае граматычныя асаблівасці.

### *Канкрэтныя і абстрактныя назоўнікі*

§ 33. У групу канкрэтных уключаюцца перш за ўсё назоўнікі, якія абазначаюць канкрэтныя прадметы рэчаіснасці *(дом, стол, дрэва, камень, плуг)* і з'явы прыроды *(гром, маланка, бура, мяцеліца, паводка).* Прадметы і з'явы, абазначаныя такімі назоўнікамі, заўсёды можна адчуваць тымі ці іншымі органамі пачуццяў, так ці інакш вымяраць, лічыць і наогул уяўляць у пэўнай акрэсленасці.

Да катэгорыі канкрэтных належаць таксама многія назоўнікі са значэннем дзеяння, стану, часу, грамадскіх падзей і інш., калі апошнія ўяўляюцца канкрэтна і паддаюцца лічэнню *(занятак, практыкаванне, напад, выкрык; абледзяненне, захворванне, запаленне; суткі, перыяд; рэвалюцыя, паўстанне, мяцеж).*

*Я Лісніцкага наогул сустракаў у тыя дні часта: і на вайсковых занятках, і на сходах, але тры мае спатканні з ім засталіся ў маёй памяці і да гэтай пары* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Мільганулі агні, і грымнулі два прыглушаныя стрэлы і следам жа яшчэ некалькі стрэлаў ззаду* (П. Галавач. З тых дзён). *Раптам грымнулі два блізкія выбухі* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 34. У групу абстрактных уключаюцца назоўнікі, якія абазначаюць разнастайныя адцягненыя паняцці, псіхічныя працэсы, адцягненыя якасці, уласцівасці, дзеянні, стан і да т. п. *(павага, любоў, мысленне, слава, смеласць, прыгажосць, акісляльнасць, назіральнасць, паглынальнасць, аднаўленне, недаяданне, злосць, санлівасць).*

Адной з важнейшых граматычных адзнак абстрактных назоўнікаў з'яўляецца тое, што яны звычайна ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку і не маюць суадносных форм множнага ліку (падрабязна аб формах ліку гэтых назоўнікаў гл. у § 52).

Заўвага. Некаторыя абстрактныя назоўнікі абазначаюць пэўныя паняцці, уласцівасці і дзеянні ў іх сукупнасці. У такіх выпадках назоўнікі маюць абстрактна-зборнае значэнне і ўжываюцца толькі ў множным ліку: *выбары, зборы, вячоркі, дажынкі, роды, заручыны, перагаворы* і інш.

Абстрактныя назоўнікі не могуць спалучацца з колькаснымі лічэбнікамі. Яны спалучаюцца толькі са словамі, якія абазначаюць няпэўную колькасць *(многа дабраты, харaства, радасці, шчасця; мала смеласці, разважлівасці).*

*Ва ўсёй яго постаці было* *м н о г а* *р у х а в а с ц і* *і як бы энергіі* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

З а ў в а г а. Ужыванне абстрактных па значэнню назоўнікаў з колькаснымі лічэбнікамі абумоўлена працэсам пераходу гэтых назоўнікаў у катэгорыю канкрэтных: *два загады, тры вылеты, чатыры забегі, пяць заплываў, дзесяць выбухаў* і г. д.

*Галас зрабіў мне яшчэ* *а д н у* *ці* *д з в е* *ў с т у п к і* *і сяк-так дайшоў да лесу* (Я. К о л а с. Страшнае спатканне). *Д з в е вялізныя с і л ы змагаюцца. А д н а с і л а — маладая, толькі, толькі што нараджаецца, другая — адмірае...* (П. Г а л а в а ч. Дасужая). *Д з в е вялікія р а д а с ц і ў Савельева* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

Большая частка абстрактных назоўнікаў утвараецца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў **-асць, -осць** *(стараннасць, маладосць)*, **-ств**-*а*, **-ств**-*о* *(шэфства, хараство)*, **-ат**-*а*, **-от**-*а* *(дабрата, ламота)*, **-ізм** *(рэалізм)*, **-нн**-*е* *(існаванне, будаванне)*,**-ацы**-*я* *(індустрыялізацыя)*, **-к**-*а* *(падвозка)*, **-ак** *(адпачынак)* і некаторых іншых.

## *Агульныя і ўласныя назоўнікі*

§ 35. Да а г у л ь н ы х назоўнікаў адносяцца імёны, пры дапамозе якіх абазначаюцца цэлыя класы аднародных прадметаў, з'яў, жывых істот (*кніга, дрэва, лес, луг, рака, зорка, дождж, чалавек, людзі, жывёла, птушка, рыба*).

Агульныя назоўнікі складаюць асноўную масу імён.

§ 36. Да ў л а с н ы х адносяцца назоўнікі, пры дапамозе якіх у мэтах падкрэслівання індывідуальных рыс і асаблівасцей асобны прадмет, жывая істота, з'ява вылучаюцца з групы аднародных.

Групу ўласных назоўнікаў складаюць:

1. Імёны, прозвішчы, псеўданімы і клічкі асоб: *Сяргей, Ніна, Марыя, Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч), «Стары».*

2. Геаграфічныя назвы і назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, плошчаў, вуліц і г. д.: *Палессе, Нёман, Прыдняпроўе, Гомельшчына, Няміга, плошча Перамогі, вуліца Леніна, Брэсцкая крэпасць.*

3. Астранамічныя назвы і назвы напрамкаў свету: *Зямля, Сонца, Месяц, Юпітэр, Поўнач, Усход.*

4. Назвы прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў, саўгасаў, палітычных аб'яднанняў і грамадскіх арганізацый: *фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», завод «Ударнік», калгас «Камунар», саўгас «Рось», Камуністычная партыя Савецкага Саюза, Савет дэпутатаў працоўных, Вярхоўны Савет, Міністэрства аховы здароўя, Абласны аддзел народнай асветы, таварыства «Спартак».*

5. Назвы гістарычных падзей, свят: *Кастрычнік, Май, Дзень авіяцыі, Дзень Савецкай Арміі.*

6. Назвы твораў мастацтва: *паэма «Сымон-музыка», спектакль «Хто смяецца апошнім», аперэта «Вольны вецер», опера «Кветка шчасця», балет «Лебядзінае возера», карціна «Бессмяротны подзвіг», кінакарціна «Чырвонае лісце», скульптурная група «Партызаны», песня «Радзіма мая дарагая», танец «Крыжачок».*

7. Назвы машын, прылад, прыстасаванняў, параходаў, самалётаў і г. д.: *трактар «Беларусь», гадзіннік «Зара», фотаапарат «Зеніт», радыёла «Мінск», параход «Гродна», самалёт «ІЛ-18», аўтамашына «Волга».*

8. Клічкі жывёл: *Красуля, Белка, Шарык, Мурка.*

9. Алегарычныя назвы для абазначэння асоб: *Заяц, Леў, Лісіца, Вол, Конь, Шчупак, Мухамор.* Звычайна такія назвы ўжываюцца ў мове баек.

§ 37. Паміж назоўнікамі агульнымі і ўласнымі існуе цесная ўзаемасувязь, у выніку чаго агульныя назоўнікі могуць набываць значэнне

ўласных (гл. § 36) і, наадварот, уласныя назоўнікі могуць набываць значэнне агульных.

У разрад агульных звычайна пераходзяць уласныя назоўнікі, якія абагульнена абазначаюць асоб з адмоўнай характарыстыкай (*лавелас, донжуан, абломаў*), прадметы і прылады па імені іх вынаходцаў (*ампер, рэнтген, ом*).

## *Назоўнікі адушаўлёныя і неадушаўлёныя*

§ 38. Сярод агульных і ўласных назоўнікаў асобна вылучаюцца назвы прадметаў а д у ш а ў л ё н ы х: людзей, жывёл, птушак, рыб, насякомых (*аграном, конь, бусел, шчупак, авадзень*) і прадметаў н е а д у ш а ў л ё н ы х: з'яў прыроды, раслін, прылад, абстрактных паняццяў і інш. (*навальніца, дуб, плуг, жаданне, весялосць*).

Граматычна катэгорыі адушаўлёнасці і неадушаўлёнасці знаходзяць сваё выражэнне ў тым, што ў вінавальным склоне множнага ліку назоўнікі, якія абазначаюць прадметы адушаўлёныя, маюць формы, агульныя з родным склонам, а назоўнікі, якія абазначаюць прадметы неадушаўлёныя, маюць формы, агульныя з назоўным склонам: *бачыць людзей, мужчын, жанчын, даглядаць коней, гусей,* але *бачыць дрэвы, дамы, даглядаць сады, пасевы.*

З а ў в а г а. У некаторых народных гаворках, і пад іх уплывам часам і ў мове асобных пісьменнікаў адушаўлёныя назоўнікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону, якая супадае не з формай роднага, а з формай назоўнага склону: *даглядаць коні, каровы, гусі.*

*Цяпер засталося толькі напаіць* к о н і (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ён пераставіў лямпу на лаву і выпусціў з падпечку* к у р ы (там жа). *Разоў пяць губляў* а в е ч к і, *шкоды ў полі нарабіў, здрасаваў шнуроў тры грэчкі, вератнік аўса прыбіў* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

І, наадварот, у неадушаўлёных назоўніках як множнага, так і адзіночнага ліку ў некаторых паўднёва-заходніх гаворках сустракаецца форма вінавальнага, суадносная з формай роднага: *забыў карандашоў, убачыў дубоў, дай рубля, згубіў нажа, ссек дуба* і інш.

У адзіночным ліку супадзенне формы вінавальнага склону адушаўлёных назоўнікаў з формай роднага адбываецца толькі ў назоўніках I скланення мужчынскага роду: *бачыў інжынера, арла, сокала.* У адушаўлёных назоўніках ніякага роду, жаночага і мужчынскага роду на **-а (-я)**, а таксама ў адушаўлёных назоўніках жаночага роду III скланення гэтыя склонавыя формы не супадаюць: *сустрэў старшыню, дзяўчыну, пасвіў карову, цялё, злавіў мыш, моль.*

У залежнасці ад родавай прыналежнасці аналагічна дыферэнцыруюцца па канчатках вінавальнага склону і субстантываваныя прыметнікі: у форме мужчынскага роду абодвух лікаў яны маюць вінавальны, падобны роднаму (*сустрэў рабочага, праверыў вартавых*), а ў форме жаночага і ніякага роду канчатак роднага склону ўжываецца толькі ў множным ліку (*бачу работніц, звеннявых, люблю малых*).

Пад катэгорыю адушаўлёных граматычна падводзяцца і некаторыя прадметы неадушаўлёныя, якія ў гэтым выпадку таксама маюць форму вінавальнага, суадносную не з назоўным, а з родным склонам: *бачу нябожчыка, мерцвяка, ідала.*

*Ішлі,* н я б о ж ч ы к а *хвалілі, як чалавека й служку князя, як і вядзецца ў такім разе* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Алёша паглядзеў* н а м е р ц в я к а *і закалаціўся ў нечым знаёмым ужо, але большым па сваёй сіле* (К. Ч о р н ы. Бяздонне).

Назоўнікі мужчынскага роду, якія ўжыты ў пераносным значэнні і служаць для абазначэння асоб, таксама адносяцца да катэгорыі адушаўлёных і маюць форму вінавальнага, суадносную з формай роднага склону: *узяць языка.*

*К заўтраму вы павінны мець зусім ясную карціну абароны праціўніка. Дастаць «я з ы к а»! Аб выніках далажыць мне асабіста заўтра ў восем ноль-ноль* (К. Крапіва. Проба агнём). *«Ужо спіш? Уставай, пойдзем». — «Не магу, братка». — «Садзіся мне на плечы, панясу к а т л а»* (Я. Колас. Чорт).

Калі ж назвамі адушаўлёных істот абазначаюцца нежывыя прадметы, то вінавальны склон не мае трывала ўстаноўленай суадноснасці з якой-небудзь адной з гэтых форм — назоўным або родным склонам.

Як адушаўлёныя назоўнікі ўжываюцца, напрыклад, назвы фігур, карт у шахматных і картачных гульнях, назвы лялек, дзіцячых цацак: *узяць слана, каня, караля, пабіць валета, туза, купіць коніка, мядзведзя.*

Назвы ж многіх іншых прадметаў, прылад, вырабаў, тэхнічных дэталей, абазначаных назвамі адушаўлёных істот, змяняюцца пераважна як назоўнікі неадушаўлёныя: *прымацаваць «дворнікі» да шкла аўтобусаў, вытачыць на станку чарвякі, прымацаваць сабачкі.*

Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць ніжэйшыя арганізмы, могуць мець у вінавальным склоне форму, суадносную з родным, або форму, суадносную з назоўным склонам: *вывучаць мікроба, мікроб; знішчаць мікробаў, мікробы.* Назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць ніжэйшыя арганізмы, у вінавальным склоне афармляюцца як назоўнікі неадушаўлёныя *(бактэрыя, бацыла, інфузорыя).* Аднак назоўнік *амёба* ў вінавальным склоне множнага ліку можа мець форму, суадносную з родным *(вывучаў амёбаў).*

Зборныя назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць людзей ці жывёл, граматычна адносяцца да неадушаўлёных: *весці полк, дывізію, батальён, узвод, атрад; прыгнаць табун коней.*

Адушаўлёныя назоўнікі, ужытыя з адценнем зборнасці, пры дзеясловах са значэннем пераходу ў які-небудзь іншы стан або ўключэння ў якую-небудзь катэгорыю асоб у вінавальным склоне множнага ліку маюць форму, суадносную з назоўным: *пайсці ў салдаты, у муляры, залічыць у інваліды, прыняць у члены таварыства, перавесці ў радавыя.*

*Беднасць заправіла Васіля кінуць бацькаву хату і ісці ў л е с н і к і* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Наймыснік пайшоў у м у л я р ы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Я праз два гады ў н а в а б р а н ц ы пайду* (К. Чорны. Зямля). *Ідуць калгасныя падводы, дабро вязуць грузавікі, — і дзед стары, сівабароды падацца хоча ў ю н а к і* (Я. Колас. На новай зямлі).

Назоўнікі, якія абазначаюць мастацкія творы па прозвішчах іх аўтараў, маюць у вінавальным склоне форму, суадносную з родным: *люблю чытаць Якуба Коласа, слухаць Чайкоўскага, глядзець Рэпіна.*

Да групы неадушаўлёных адносяцца назоўнікі, якія абазначаюць планеты: *Марс, Сатурн, Юпітэр* (параўн. назвы адпаведных міфалагічных істот).

Адушаўлёныя назоўнікі, якія выступаюць у якасці ўласных назваў неадушаўлёных прадметаў без агульнага родавага слова, у вінавальным склоне адзіночнага ліку звычайна маюць форму, суадносную з родным: *абагнаў «Масквіча», «Запарожца».* У множным ліку такія назоўнікі, наадварот, часцей маюць форму, суадносную з назоўным склонам: *абагнаў «Масквічы», «Запарожцы».*

Назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць стравы, прыгатаваныя з мяса маладых жывёл і птушак, маюць у вінавальным склоне адзіночнага ліку форму, суадносную з назоўным: *падаць да стала парасё, куранё, качанё.*

Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць стравы, прыгатаваныя з мяса рыб, ракаў, маюць у вінавальным склоне адзіночнага і множнага ліку форму, суадносную з родным склонам: *есці сазана, ляшча,*

*часціка, ліня, сома, шчупака, акуня, рака, краба; прыгатаваць сазанаў, акунёў* і інш.

Заўвага. Назвы кансерваваных рыб, ужытыя ў множным ліку, маюць форму вінавальнага склону, суадносную з назоўным: *купляць шпроты,ількі.*

## Асабовыя назоўнікі

§ 39. Адушаўлёныя назоўнікі, якія служаць для абазначэння асоб, называюцца асабовымі. У групу асабовых уваходзяць уласныя імёны, прозвішчы, псеўданімы, клічкі людзей *(Андрэй, Валянціна, Астаповіч, Тарас Гушча, «Чайка»)*, назвы асоб па іх сацыяльнай і палітычнай прыналежнасці (*селянін, бядняк, кулак, рабочы, камуніст, ленінец*), па роду заняткаў, прафесіі, званню *(садавод, рыбак, цясляр, тэхнік, педагог, дацэнт)*, па полу, узросту (*мужчына, жанчына, хлопец, дзяўчына, падлетак)*, па сваяцкіх, сяброўскіх і іншых адносінах паміж людзьмі *(брат, пляменнік, дзядзя, таварыш, сябар, калега)*, па нацыянальнасці *(беларус, украінец)*, па месцу жыхарства *(магілёўчанін, віцяблянін, мінчанін, палачанін)*, па розных якасцях *(герой, патрыёт, дабрадзей, штукар, свавольнік, баязлівец, гультай, злачынец)* і інш.

Для большасці асабовых назоўнікаў характэрны спецыяльныя суфіксы, якія служаць граматычным сродкам адрознення назваў асоб мужчынскага і жаночага полу.

Найбольш ужывальнымі суфіксамі назоўнікаў мужчынскага роду з'яўляюцца наступныя: **-ак, -як** *(рыбак, сваяк)*, **-ік, -ык** *(хімік, гісторык)*, **-ук** *(паляшук)*, **-ец** *(баец)*, **-іч** *(масквіч)*, **-ач** *(скрыпач)*, **-ін, -ын** *(грузін, татарын)*, **-ыш** *(латыш)*, **-іст, -ыст** *(акардыяніст, трактарыст)*, **-чык** *(аб'ездчык, перакладчык)*, **-шчык** *(фрэзероўшчык)*, **-нік** *(праваднік)*, **-ар, -яр** *(штукар, маляр)*, **-ір, -ыр** *(брыгадзір, правадыр)*, **-ун** *(бягун)*, **-ант, -янт** *(кватарант, афіцыянт)*, **-ент** *(апанент)*, **-янер** *(міліцыянер)*, **-янал** *(прафесіянал)*.

Найбольш ужывальнымі суфіксамі назоўнікаў жаночага роду з'яўляюцца наступныя : **-к**-*а* *(піянерка, камсамолка)*, **-антк**-*а*, **-янтк**-*а* *(кватарантка, афіцыянтка)*, **-чанк**-*а* *(мінчанка, магілёўчанка)*, **-ыстк**-*а* *(радыстка, парашутыстка)*, **-ніц**-*а* *(настаўніца)*, **-ін**-*я* *(гераіня)*, **-оўн**-*а*, **-ёўн**-*а* *(Бандароўна, князёўна)*, **-іх**-*а*, **-ых**-*а* *(каваліха, купчыха)*, **-ух**-*а* *(шаптуха)*, **-ес**-*а*, **-эс**-*а* *(баранеса, паэтэса)*, **-ш**-*а* *(касірша)*.

Большасць асабовых назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду суадносяцца па ўтварэнню *(выкладчык — выкладчыца, ударнік — ударніца)*. Аднак ёсць цэлы рад асабовых назоўнікаў, якія не складаюць парных суадносных утварэнняў і абазначаюць асоб як мужчынскага, так і жаночага полу: *камісар, камендант, аграном, брыгадзір, доктар, педагог, дацэнт, прафесар, кандыдат.*

Да асабовых назоўнікаў па лексічнаму значэнню і граматычных адзнаках адносяцца таксама назоўнікі агульнага роду *(сірата, калека, плакса, прайдоха*) і некаторыя субстантываваныя прыметнікі (*рабочы, звеннявая, паляўнічы).*

Заўвага. У ролі асабовых назоўнікаў у пэўных стылях мовы пры пераносным ужыванні могуць выступаць агульныя неасабовыя назоўнікі. Звычайна такія назоўнікі маюць ацэначныя суфіксы і захоўваюць граматычныя асаблівасці неасабовых: *арол, сокал, саколік, рыбка, ягадка.*

*Прыляці, крылаты сокал мой, бо шчаслівa толькі я з табой* (А. Русак. Сокал). *Ачуньвай жа, зорка, ачуньвай, мой квеце, пачуй маё шчырае слова!* (Я. Колас. М.Д.М.). *Спі, мая рыбка, спі, залатая! Сонейка ўзыдзе: у блеску святла знікне-загіне імгла* (Я. Колас. Сымон-музыка).

## Зборныя назоўнікі

§ 40. Сярод агульных назоўнікаў па значэнню і граматычных адзнаках у асобную групу выдзяляюцца назоўнікі зборныя.

Да зборных назоўнікаў адносяцца словы, якія абазначаюць сукупнасць людзей, жывых істот, аднародных прадметаў як адно непадзельнае цэлае: *чалавецтва, люд, дзетвара, студэнцтва, птаства, звяр'ё, лазняк, хвойнік, карчэўе, вуголле, каменне, лісце*. Выражаючы няпэўную множнасць, зборныя назоўнікі ўжываюцца звычайна толькі ў форме адзіночнага ліку.

Заўвага. Некаторыя зборныя назоўнікі *(бярвенне, лісце, калоссе, карэнне, крылле, праменне)* могуць мець таксама форму множнага ліку.

*Асыпаліся лісці з дрэў* (Я. Колас. Школа). *Гэта была ўжо старая хвоя, вывернутая бураю. Яе доўгія жоўтыя карэнні... высока ўздымаліся над зялёным мохам* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Калоссі пілі сонца кожны дзень* (М. Танк. Жураўінавы цвет). *Над смутнай раўнінай высока-высока разняў свае крыллі арол адзінокі* (Я. Колас. Арол). *Ідзеш па каменнях, глядзіш на каменне, з камення і цэглы муры і скляпенні* (Я. Купала. Па дарозе). *Амаль уся паверхня ракі пакрыта бярвеннямі. Бярвенне плыве за цячэннем ракі* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *На мокрым ад расы лісці зазіхацелі ранішнія праменні* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Граматычнай асаблівасцю зборных назоўнікаў з'яўляецца і тое, што яны могуць сінтаксічна спалучацца толькі з дробавымі лічэбнікамі, няпэўна-колькаснымі словамі *многа, мала* і са словамі *трэць, чвэрць, палавіна: адна трэцяя чалавецтва, трэць чалавецтва, палавіна чалавецтва; многа (мала) галля, многа моладзі, дзетвары*. З колькаснымі лічэбнікамі *два, тры, чатыры* і г. д. зборныя назоўнікі не спалучаюцца.

Заўвага. Словы *атара, табун, куча, груда, сузор'е, бор, лес, гай, абоз, натоўп, дэсант, дружына, батальён, полк, дывізія* і інш., хоць і выражаюць сукупнасць пэўных адзінак, але могуць спалучацца не толькі з дробавымі лічэбнікамі і са словамі *многа, мала, чвэрць, трэць, палавіна*, але і з колькаснымі лічэбнікамі *два, тры, чатыры* і г. д., чым істотна адрозніваюцца ад разгледжаных вышэй зборных назоўнікаў.

Зборныя назоўнікі (акрамя назоўнікаў жаночага роду на **а, я**) незалежна ад таго, абазначаюць яны сукупнасць адушаўлёных ці неадушаўлёных прадметаў, заўсёды маюць форму вінавальнага склону, суадносную з формай назоўнага: *любіць моладзь, славіць люд, збіраць лісце, галлё, каменне*.

Для ўтварэння зборных назоўнікаў звычайна выкарыстоўваюцца суфіксы **-ств**-*а*, **-в**-*а* *(птаства, студэнцтва, ліства)*, **-j**-*о*, **-j**-*э* *(лам'ё, куп'ё, звяр'ё, пер'е)*, а таксама словы тыпу *галлё, вараннё, насенне, вецце, калоссе, вуголле, прыладдзе, ламачча, лісце, трысцё*, у якіх **j** гістарычна асіміляваўся з папярэднім зычным асновы), **-нік, -няк** *(бярэзнік, хмызняк)*, **-от**-*а* *(лістота)*, **-ар**-*а* *(дзетвара)*, **-ін**-*а*, **-ын**-*а* *(дзічына, садавіна, агародніна)*, **-ец** *(яловец)*, **-ёг** *(быльнёг)* і некаторыя іншыя.

Заўвага. Некаторыя назоўнікі з суфіксам **-ств**-*а*, якія ўжываюцца ў размоўным стылі, абазначаюць не зборнасць, а род заняткаў ці працэс, дзеянне: *пісарства, старшынёўства*.

*Міхалка ўжо хацеў кінуць пісарства і вылезці з-за стала* (Я. Колас. Кантракт). *Пасля настаўніцтва пайшоў пісарам у валасць* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Што вы мяне старастоўствам папікаеце? Што вы знеслаўляеце мяне? Мне хоць жыцця рашайся праз гэта старастоўства* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Успаміналася дзяцінства, парабчанства, горкія папрокі кавалкам хлеба і стаптаным лапцем* (там жа).

Параўнальна меншую групу складаюць невытворныя зборныя назоўнікі, якія не маюць спецыяльных суфіксаў для выражэння значэння зборнасці: *люд, вінаград, асот, бур'ян, лом, асака, чарот, хмыз* і інш.

Заўвага. Некаторыя назоўнікі, якія не маюць спецыяльных суфіксаў для выражэння значэння зборнасці, могуць набываць гэта значэнне ў пэўным кантэксце або пры пэўных моўных абставінах.

*Бераг ля рэчкі ўжо ўвесь быў завалены ярусамі бярвення хваёвага, калодамі дубовымі, ясенем, клёнам, бярэзінай* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Загаманіў фабрычны двор з ялінай і сасной, здалося, поўніўся прастор пахучаю смалой* (П. Броўка. Плытагон). *Ці не багаты тут лясы і рознай птушкай, і звярамі, арэхам, ягадай, грыбамі?* (Я. Колас. Новая зямля). *Ніжэй хатка ў дол урастала, патачыў яе чарвяк, і на прызбу, як бывала, не выходзіў больш жабрак* (Я. Колас. Батрак). *Звоніць аб камень сталёвы нарог* (М. Танк. Чорныя скібы). *На тарфянні чыстым зашумеў чаротам колас залацісты* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Восень лістам заслала дарог каляіны* (П. Броўка. Сустрэча).

### *Рэчыўныя назоўнікі*

§ 41. Назоўнікі, якія абазначаюць аднародныя па свайму саставу рэчывы (металы, мінералы, хімічныя элементы, віды ежы, розныя вырабы і інш.), называюцца р э ч ы ў н ы м і, напрыклад: *жалеза, соль, азот, хлеб, сукно.*

Рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць масу рэчыва як сукупнасць многіх аднародных адзінак, маюць рэчыўна-зборнае значэнне і збліжаюцца з катэгорыяй зборных назоўнікаў: *сечка, вотруб'е, апілкі, дровы, драўніна, пушніна, азіміна, збажына, гарох, пясок.*

Як і зборныя назоўнікі, рэчыўныя назоўнікі не могуць спалучацца з колькаснымі лічэбнікамі *два, тры, чатыры* і г. д., аднак яны спалучаюцца з дробавымі лічэбнікамі *(адна чацвёртая вады, дзве трэціх пяску)* і са словамі, якія абазначаюць няпэўную колькасць *(многа цэменту, мала пяску)* або пэўную колькасць *(трэць воску, палавіна мукі, пуд сена, літр малака, кілаграм масла, таблетка стрэптацыду, кропля вады).*

Рэчыўныя назоўнікі звычайна маюць толькі форму адзіночнага ліку, некаторыя ж з іх могуць мець таксама форму множнага ліку, калі неабходна абазначыць віды або сарты рэчыва *(пясок — пяскі, метал — металы, мазь — мазі, гліна — гліны).*

Параўнальна меншую групу складаюць рэчыўныя назоўнікі, якія выступаюць толькі ў множным ліку *(апілкі, ачоскі, духі).*

Больш падрабязна аб формах ліку рэчыўных назоўнікаў гл. у § 52, 53.

Па марфалагічнай будове рэчыўныя назоўнікі з'яўляюцца пераважна невытворнымі. Нязначныя групы складаюць назоўнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-к-**, **-ок** *(сечка, пясок)*, **-ін-***а*, **-ын-***а* *(гусяціна, збажына)*, **-энн-***е*, **-енн-***е* *(варэнне, насенне)*, **-іц-***а* *(жывіца)*, **-ец** *(даўгунец).*

### *Катэгорыя роду назоўнікаў*

§ 42. Катэгорыя р о д у з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў выражэння назоўнікамі прадметнага значэння. Усе назоўнікі, за выключэннем тых, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку (гл. § 53), і слоў так званага агульнага роду (гл. § 47), адносяцца да таго ці іншага роду — мужчынскага *(чалавек, звер, воўк, конь, дуб, камень, пясок, дождж, мароз, снег, сон, прынцып, разгул)*, жаночага *(жанчына, група, жывёла, расліна, бяроза, трава, раса, вільгаць, хмара, думка, настойлівасць)*, ніякага *(дзіця, цяля, галлё, дабро, святло, неба, разводдзе, імкненне).*

Прыналежнасць назоўнікаў да таго ці іншага роду вызначаецца марфалагічнымі прыметамі (характарам асновы і склонавымі канчаткамі ў розных тыпах скланенняў), сінтаксічнымі сувязямі (формамі дапасавання прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў, сувяззю форм прошлага часу дзеяслова), а таксама іх лексічным значэннем.

Марфалагічныя прыметы катэгорыі роду назоўнікаў найбольш яскрава знаходзяць сваё выражэнне ў формах адзіночнага ліку, у множным жа ліку родавыя адрозненні назоўнікаў выяўляюцца галоўным чынам па значэнню.

#### Класіфікацыя назоўнікаў па родах

§ 43. Па м а р ф а л а г і ч н ы х прыметах да м у ж ч ы н с к а г а роду адносяцца:

а) назоўнікі з цвёрдай асновай, асновай на **г, к, х** і нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку: *дом, стол, дуб, лес, курган,*

*мост, праезд, сад, сноп, колас, вобраз, луг, сук, гарох* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74);

б) большасць назоўнікаў з асновай на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц** і нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку: *двор, трактар, калодзеж, рубеж, дождж, шалаш, плач, плашч, месяц* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74);

в) большасць назоўнікаў з асновай на **ў**: *гнеў, нораў, роў, спеў, сплаў, хлеў, прарыў* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74);

г) назоўнікі з асновай на **j**: *край, гай, ручэй, іней, вулей, рой, пакой, бой, гравій, крытэрый* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74);

д) назоўнікі з мяккай асновай, якія маюць нулявы канчатак у назоўным склоне адзіночнага ліку і канчатак **-я** або **-ю** ў родным склоне: *дзень, тыдзень, прамень, струмень, агонь, вугаль, корань, камень, рубель, каракуль, сажань, лапаць* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74);

е) назоўнікі з суфіксамі **-ак, -ок, -ік, -авік(-явік), -нік, -ец, -інец, -ізм(-ызм)** і нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку: *абутак, брусок, венік, бранявік, завочнік, гадзіннік, баец, гасцінец, гуманізм, патрыятызм* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 57—74).

Да жаночага роду адносяцца:

а) назоўнікі з канчаткамі **-а(-я)** у назоўным склоне адзіночнага ліку (акрамя тых назоўнікаў, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, гл. § 46, 47, 102—113): *вада, зямля, хваля, хата, бяроза, лаза, страха, кара* (гл. II скланенне назоўнікаў, § 88—101);

б) назоўнікі з мяккай асновай, якія маюць у родным склоне адзіночнага ліку канчатак **-і** (гл. III скланенне назоўнікаў, § 114—123): *сенажаць, гладзь, мясцовасць, загарадзь, адлегласць, сувязь, даль, далячынь, ніць, снасць, пасцель, руль, вось, столь, шрапнель, медзь, сталь, соль, гразь, косць, зелень, цемень, дробязь, папараць, здань, злосць, напасць, чэсць, радасць, нячуласць, моль, далонь, кадрыль, пастаць, моладзь, маладосць, роль, важнасць, цяжкасць;*

в) некаторыя назоўнікі з асновай на шыпячыя і **р** з канчаткам **-ы** ў родным склоне адзіночнага ліку: *ноч, поўнач, веліч, печ, суш, ціш, мыш, роскаш, моц, шыр* (гл. III скланенне назоўнікаў, § 114—123);

г) адзінкавыя назоўнікі з асновай на **ў** тыпу *кроў, любоў* (гл. III скланенне назоўнікаў, § 114—123);

д) назоўнікі з суфіксамі **-ін-***а* (**-ын-***а*), **-іц-***а* (**-ыц-***а*), **-н-***я*, **-ат-***а*, **-от-***а*, **-б-***а* і інш.: *раўніна, Мінщчына, навальніца, кастрыца, майстэрня, цемната, ламота, барацьба* (гл. II скланенне назоўнікаў, § 88—101).

Да ніякага роду адносяцца:

а) назоўнікі, якія маюць у назоўным склоне адзіночнага ліку канчаткі **-е, -о(-ё)** (**-о** не пад націскам пераходзіць у **-а**): *сяло, поле, акно, возера, воблака, дрэва, узлессе, гняздо, вясло, вядро, балота, неба, мора, лета, надвор'е, сонца, жыта, здароўе, дабро, крыло, шкло, палатно, зрэб'е, пугаўё, сэрца, гумно, свята, права, правіла, пісьмо, бервяно* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 75—87);

б) рознаскланяльныя назоўнікі на **-мя**, а таксама назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот: *семя, вымя, племя, імя, цемя, стрэмя, полымя; дзіця, цяля, жарабя, парася, ягня, гусяня, кураня* (гл. § 124—127);

в) большасць назоўнікаў з суфіксамі **-ішч-***а* (**-ышч-***а*), **-ств-***а*, **-анн-***е*, **-енн-***е* і некаторымі іншымі: *вогнішча, пажарышча, рэчышча, прадпрыемства, шэфства, будаўніцтва, наступленне, паўстанне, існаванне, адчуванне* (гл. I скланенне назоўнікаў, § 75—87).

Заўвага. Назоўнікі, утвораныя ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у выніку субстантывацыі апошніх, таксама выражаюць родавыя адрозненні канчаткамі: для мужчынскага роду характэрным з'яўляецца канчатак **-і(-ы)**, для жаночага—**-ая(-яя)**, для ніякага — **-ое(-ае)**: *ваенны, ранены, хворы; сталовая, піўная, закусачная, каўбасная, чайная, прыёмная, пярэдняя; былое, мінулае, забытае, марожанае.*

§ 44. Па значэнню (побач з граматычнымі адзнакамі) да мужчынскага роду адносяцца імёны, якімі называюцца асобы мужчынскага полу:

а) уласныя імёны (у тым ліку такія, якія набылі пераноснае значэнне), назвы асоб мужчынскага полу па іх узросту, радні, назвы міфалагічных істот: *Іван, Мікалай, Астап, Якаў, Сцяпан; донжуан, донкіхот; хлопец, хлапчук, падлетак, брат, сват, швагер; д'ябал, чорт, дэман;*

б) адушаўлёныя назоўнікі на **-а(-я)**, якія абазначаюць асоб па займаемай пасадзе, роду заняткаў, па сваяцкіх адносінах: *ваявода, музыка, ваяка, дзядзя, дзядзька* (гл. § 102—108). Сюды ж прымыкаюць ласкальныя імёны тыпу *Ваня, Міша, Коля;*

в) адушаўлёныя назоўнікі, якія служаць для характарыстыкі асоб мужчынскага полу з боку іх знешніх ці ўнутраных якасцей: *жэўжык, труцень, гіцаль, стрынгаль, ёлапень, блазнюк, кавалер, лайдак, шкет, дока, зух, гога, ветрагон;*

г) нескланяльныя адушаўлёныя назоўнікі, якія называюць асоб мужчынскага полу па іх сацыяльнай прыналежнасці, па службе і іншых прыметах: *буржуа, маэстра, аташэ, кюрэ, кулі, ранцье, парцье, дэндзі;*

д) адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць жывёл-самцоў: *баран, конь, певень, гусак, сабака, воўк* і інш.;

е) нескланяльныя назоўнікі, якія служаць для абазначэння жывёл і іншых заалагічных істот: *шымпанзэ, кенгуру, зебу, какаду, поні, мікада, фламінга, калібры, дынга.*

Род нескланяльных назоўнікаў можна таксама вызначыць пры дапамозе форм тых слоў, якія сінтаксічна звязаны з гэтымі назоўнікамі: *французскі буржуа, англійскі аташэ, кітайскі кулі, афрыканскі кенгуру, японскі мікада, італьянскі маэстра, рухавы шымпанзэ, увайшоў дэндзі, забрахаў дынга.*

Да жаночага роду па значэнню адносяцца:

а) назоўнікі, якія называюць асоб жаночага полу па іх імені, узросту, сваяцкіх адносінах, роду заняткаў і г. д.: *Ніна, Марыя, Алена, дзяўчына, сястра, парадзіха, машыністка, прачка, гувернантка, пакаёўка;*

б) назоўнікі з ярка выражаным экспрэсіўным адценнем, якія абазначаюць асоб жаночага полу (у тым ліку з пераносным значэннем): *краля, лялька, яга, сарока, ведзьма, сава;*

в) нескланяльныя назоўнікі са значэннем асоб жаночага полу: *мадам, фрау, фрэйлін, ледзі, міс, інжэню, мецца* (спявачка), *Мэры, Кармэн.*

Да ніякага роду адносяцца ўсе запазычаныя нескланяльныя неадушаўлёныя назоўнікі на **е, э, о, ё, а, ю:** *бюро, купэ, метро, атэлье, пано, трумо, пенснэ, кашнэ, паліто, таксі, радыё, сола, сальда, танга, трыо, турнэ, рэзюме, інтэрв'ю, фіяска, амплуа, інкогніта, вета* і многія іншыя.

Заўвага. У гэту групу не ўключаюцца скланяльныя незапазычаныя назоўнікі на **а** тыпу *жыта, карыта, піва.*

Род такіх назоўнікаў можна вызначыць таксама на аснове форм тых слоў, якія знаходзяцца ў сінтаксічнай сувязі з назоўнікамі: *канструктарскае бюро, чыгуначнае дэпо, вялікае пано.*

У залежнасці ад значэння адрозніваецца і граматычны род нязменных (нескланяльных) геаграфічных назваў. Так, да мужчынскага роду адносяцца геаграфічныя назвы, якія абазначаюць гарады *(Тбілісі, Горы, Сухумі, Батумі, Сочы, Плаешці, Дэлі, Глазга, Осла, Мантэвідэо)*, да ніякага роду — геаграфічныя назвы, якія абазначаюць азёры *(Чад, Ківу)*, да жаночага роду — геаграфічныя назвы, якія абазначаюць дзяржавы, рэкі, горы, пустыні (*Перу, Чылі, По, Місісіпі, Місуры, Ай-Петры, Гобі*).

Граматычны род складанаскарочаных назоўнікаў вызначаецца звычайна па апорнаму слову; напрыклад, да мужчынскага роду адносяцца словы *гарком, райземаддзел*, таму што форму мужчынскага роду маюць словы *камітэт, аддзел*. Такім жа чынам вызначаецца і род абрэвіятур: *ААН* — жаночы род, *СНГ* — мужчынскі род, *ДТСААФ* — ніякі род.

Заўвага. У некаторых складанаскарочаных словах (*калгас, саўгас* і інш.) граматычны род не вызначаецца родам апорнага слова; параўн. адпаведныя словазлучэнні: *калгасная гаспадарка, савецкая гаспадарка.*

## Выражэнне катэгорыі роду адушаўлёных назоўнікаў

§ 45. Родавыя адрозненні адушаўлёных назоўнікаў, якія абазначаюць асоб мужчынскага або жаночага полу, могуць выражацца:

а) лексічна, г. зн. словамі, якія ўтвораны ад розных асноў: *мужчына — жанчына, бацька — маці, сын — дачка, дзядзька — цётка, брат — сястра, хлопчык — дзяўчынка;*

б) рознымі словаўтваральнымі афіксамі (пры адной і той жа аснове): *госць — госця, дабрадзей — дабрадзейка, дружбак — дружбачка, шчаслівец — шчасліўка, выхаванец — выхаванка, авантурыст — авантурыстка, заступнік — заступніца, баязлівец — баязліўка, чараўнік — чараўніца, прыгажун — прыгажуня, вяртун — вяртуха, ашуканец — ашуканка, махляр — махлярка, дармаед — дармаедка, брунет — брунетка, князь — княгіня, вучань — вучаніца;*

в) формамі сінтаксічнай сувязі: *наш Лагода, наша Лагода, прыехаў Лагода, прыехала Лагода.*

Заўвага. Калі тыя ці іншыя асобы пераносна абазначаюцца назвамі жывёл, птушак, рыб, насякомых і неадушаўлёных прадметаў, то род такіх назоўнікаў адпавядае іх роду ў прамым намінатыўным значэнні.

*Голуб сівы мой! ачніся, пашкадуй мяне, дзядок!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Дзякуй, хлопча, за увагу, надта рады, мой каток!* (там жа). *Ганна, Ганна! я тут, рыбка!* (там жа). *«Няўжо ж ты, саколік, не хочаш жыць, калі гаворыш усё, што не ачуняеш?» — спытала* [хлопчыка] *цётка* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *І Ганулязадрыжала: што замысліў гэты вуж* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ты, сарока, не ўтыкайся, куды не трэба* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Я думаю пачаць з гэтага цацерука, з Канягіна* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *«А ты хто такі? — пытае, — баравік ты малады?»* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Аднак у некаторых выпадках род такіх назоўнікаў у іх прамым і пераносным значэнні не супадае.

*«А хіба ж я там не буду жыць?» — «Будзеш, будзеш, ягадка мая!» — цешыла цётка хлопчыка* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *«Ведаеш, цётка, каго мне яшчэ шкада?» — «Каго, рыбка?» — «Мне шкада хвойкі»* (там жа).

У назвах іншых жывых істот родавая прыналежнасць таксама звычайна выражаецца як рознымі словамі (*конь — кабыла, бык — карова, баран — авечка, вяпрук — свіння, певень — курыца*), так і рознымі сродкамі словаўтварэння ад адной і той жа асновы (*жарабец — жаробка, буйвал — буйваліца, воўк — ваўчыха, мядзведзь — мядзведзіца, слон — сланіха, леў — львіца, ліс — ліса, аўчар — аўчарка, кот — кошка, качур — качка, індык — індычка, арол — арліца*).

Аднак большасць адушаўлёных назоўнікаў, якія абазначаюць жывёл, не маюць суадносных родавых форм і выступаюць у форме або толькі мужчынскага, або толькі жаночага роду; асабліва гэта датычыць назваў дробных істот — птушак, насякомых, паўзуноў і інш., якія ў мове не дыферэнцыруюцца паводле полу. Род такіх назоўнікаў вызначаецца марфалагічна, г. зн. тыпам скланення: *лось, зубр, барсук, вожык, собаль, драч, цецярук, бекас, чыж, дзяцел, каршун, авадзень, камар, жук, вуж, крот, шчупак, лешч, уюн, чарвяк; зебра, вавёрка, куніца, кнігаўка, ластаўка, сініца, перапёлка, муха, жаба, васьміножка, мыш, фарэль* і інш.

Заўвага 1. Асобныя выпадкі ўжывання ў мастацкай літаратуры суадносных родавых форм ад назваў некаторых дробных істот трэба разглядаць як адлюстраванне размоўных стыляў мовы.

*Гаварыла маці-ш а р ш а н і х а, што нядобры сон ёй ноччу сніўся* (М. Б а г д а н о в і ч. Смерць шэршня). *Нейкі конік адтаптаў ч м я л і с е ногу* (там жа). *В е р а б'і х а ад страху выраніла пярынку і адляцела досыць далёка* (Я. К о л а с. У чым іх сіла?). *Некаторы час на дварэ не відаць было в е р а б'і х і* (там жа).

З а ў в а г а 2. Дыялектнай з'яўляецца форма жаночага роду ад назоўніка *жаваранак*, якая сустракаецца ў некаторых мастацкіх творах. Напрыклад: *Спявае ж а в а р а н к а божа...* (Я. К о л а с. Новая зямля).

Адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць рода-відавыя адносіны жывых істот (звычайна хатніх жывёл і птушак), часцей выступаюць у форме жаночага роду (*пасвіць кароў, авечак, свіней, гусей, качак, курэй*); некаторыя ж назвы хатніх жывёл у такіх выпадках выступаюць у мужчынскім родзе (*пасвіць коней, ганяць сабак*). Звычайна ў мужчынскім родзе ўжываюцца назвы дзікіх звяроў і птушак: *воўк, мядзведзь, алень, лось, леў, заяц, арол, каршун, сыч, сокал, грак, верабей*.

Аднак пры неабходнасці звярнуць увагу на полавыя адрозненні жывёл адпаведныя назоўнікі могуць ужывацца і ў той і ў другой родавай форме. Параўн.: *У марозную лютаўскую ноч завылі в а ў к і. Асабліва прагнымі вачыма пазіралі на статак авечак галодныя в а ў ч ы ц ы. Дарогу перабегла л і с а. Л і с каторы ўжо дзень не адыходзіў ад логава маленькіх лісянят.*

### Назоўнікі, якія адной родавай формай выражаюць значэнне і мужчынскага і жаночага роду

§ 46. У сучаснай літаратурнай мове ёсць невялікая колькасць назоўнікаў, якія, маючы формы аднаго з родаў (мужчынскага або жаночага), могуць абазначаць асоб як мужчынскага, так і жаночага полу.

1. Да назоўнікаў, якія маюць форму мужчынскага роду, але могуць абазначаць асоб і жаночага полу, адносяцца:

а) словы, якія абазначаюць асоб па іх адносінах паміж сабою, па роду іх дзейнасці або па характару пасады, па ўдзелу ў грамадскай і палітычнай рабоце і інш.: *таварыш, дэпутат, арганізатар, член, кандыдат, сакратар, камсорг, групорг, зайком, дырэктар, аграном, брыгадзір, інжынер, пракурор, паштальён, шафёр, маляр, муляр, хлебароб, дырыжор, рэжысёр, дэкламатар, стажор, суфлёр, донар, доктар, урач, фельдшар, камандзір, майстар, слесар, справавод, касір, аптэкар* і інш.

Тое ці іншае канкрэтнае значэнне граматычнага роду назоўніка ў такіх выпадках вызначаецца кантэкстам.

*Пазней падрабязна пра гэты факт мы даведаліся з надзвычай цікавага артыкула і н ж ы н е р а Кабылінай* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Дзяўчаты мараць у вольны час быць а г р а н о м а м, трактарысткай* (М. Ч а р о т. Дзяўчына, якая не сумуе). *Вось іх сяброўка, што й казаць, з імі калісь цярпела гора, пайшла ў горад працаваць — цяпер ударніцай-ш а ф ё р а м* (там жа). *У кабінет увайшла с а к р а т а р-машыністка* (У. К р а ў ч а н к а. Праз шэсць год). *Староста групы, к а м с о р г факультэта, ч л е н гаркома камсамола, яна паспявала ўсюды, любую справу ўмела рабіць лёгкай і цікавай* («Чырвоная змена»). *Пачала мітынг т а в а р ы ш Зіміна, прадстаўнік ленінградцаў* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

б) Словы, якія служаць для выражэння адмоўнай характарыстыкі асоб: *невук, лодар, абібок, лежабок, пустадомак, няўломак, дзялок, хват, вораг, вылюдак, папіхач, завадатар*.

*А дачка — бязладніца, л о д а р, аднаго толькі і клопату ў яе, каб пагуляць ды добра пад'есці* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

З а ў в а г а. Формай мужчынскага роду могуць абазначацца асобы жаночага полу нават тады, калі ад назоўніка ўтвараюцца суадносныя формы і мужчынскага і жаночага роду.

*Ну, што ты з гэтымі бабамі зробіш? Калі ў хаце жывуць дзве бабы, то ўжо спакою няма. ...Адна — к а п а ч, тая — мешалка. Адна — г у л ь т а й, другая — няўмека* (Я. К о л а с. Дзяліцьба).

2. Да назоўнікаў, якія маюць форму жаночага роду, але могуць абазначаць і асоб мужчынскага полу, адносяцца:

а) адушаўлёныя назоўнікі на **-а(-я)** тыпу *слуга, сірата, сведка, калека, туляга, запявала* (гл. § 47, 109—113).

б) Назоўнікі размоўных стыляў на **-а(-я)** з ярка выражанымі пераноснымі і экспрэсіўнымі адценнямі, якія служаць для адмоўнай характарыстыкі асоб: *баба, птушка, свіння, авечка, карова, малпа, гадзіна, вужака, блыха, скула, вантроба, жыла, хвароба, завала, доўбня, піла, куцця, юха, лялька, шышка, цаца* і інш.

Канкрэтнае значэнне роду такіх назоўнікаў вызначаецца кантэкстам.

*Досыць, кажу табе! Істэрычная баба! Ты ашалеў!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Я толькі зірнуў на яго, адразу пазнаў, што гэта за птушка* (Я. Колас. Пісаравы імяніны). *Не гаспадар быў, а завала!* (Я. Колас. Новая зямля). *Вось дурубала, даўбня!— і ў патыліцу штурхаюць, бы не хлопец, а шчаня* (Я. Колас. Сымон-музыка). *А ты дзе быў, карова ты? Чаго глядзеў?* (Я. Колас. Андрэй выбаршчык). *Не прадстаўнік паліцыі, а авечка ты дурная, вось хто!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Куды ж ты ўпхнуў мяне, вужака?* (Я. Колас. Новая зямля). *«Ага, шэльма,— захрыпеў Сцяпан, кідаючыся на яго і хватаючы яго за рукі.— Ага, папалася шкадлівая гадзіна! Ты што рабіў?»* (К. Чорны. На варце). *Знайшоўся кавалер... малпа старая!* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Яму ты слова — ён другое, заўзята юха, хоць малое* (Я. Колас. Новая зямля). *Вось Арцюшок — о, гэта скула!* (там жа). *Ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць, такая, пэўна, вырасла б з Міхася цаца, каб не адно здарэнне* (Цётка. Міхаська).

в) Некаторыя назоўнікі з асновай на мяккі зычны, якія ўжываюцца пераносна і служаць для адмоўнай характарыстыкі асоб: *дрэнь, погань, поскудзь* і інш.

*Каб гэта дрэнь чаго-небудзь не прыдумала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *«Погань разбойная, што ты робіш?!» — налящеў Раман з віламі, гатовы прасадзіць чорнага* (Я. Колас. Дачакаўся).

Назоўнікі, якія абазначаюць групы асоб, калектывы, афармляюцца ў множным ліку пераважна па мужчынскаму роду, хоць гэтыя назоўнікі і могуць утвараць суадносныя формы мужчынскага і жаночага роду, параўн.: *супрацоўнік — супрацоўніца*, але *супрацоўнікі інстытута, калгаснік — калгасніца*, але *калгаснікі раёна, трактарыст — трактарыстка*, але *трактарысты саўгаса*.

*Яна з такім замілаваннем расказвала аб кожным з сваіх выхаванцаў, нібы гэта былі яе родныя дзеці* (Я. Колас. Кінахроніка). *Кінаапаратары — а гэта былі яны — адказвалі: будзе час, калі калгаснікі разам пабачаць усё, што яны тут наздымалі* (там жа). *Міласэрныя сёстры, мяшчане, сяляне, чыгуначнікі, гандляры, спекулянты складаюць звычайны круг знаёмства швачкі Самабылісі* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага).

Аднак у тых выпадках, калі неабходна канкрэтызаваць значэнне роду назоўнікаў, яны афармляюцца як па мужчынскаму, так і па жаночаму роду.

*Апрача Арынкі, былі тут яшчэ тры рабочыя і адна работніца з іх брыгады* (Я. Колас. Арыніна перамога). *Абследую становішча батракоў, работніц і работнікаў у прыватных гаспадарках* (там жа). *У дабрадзеяў або дабрадзеек грошы не смею шмат вельмі прасіць* (Я. Купала. З думак жабрака). *Камсамольцы і камсамолкі! Будзьце ў першых радах будаўнікоў камунізма* («Звязда»).

У форме жаночага роду звычайна выступаюць назоўнікі пры абазначэнні імі такіх прафесій або відаў дзейнасці, у якіх пераважна заняты жанчыны: *даяркі, свінаркі, прачкі* і інш.

### Назоўнікі агульнага роду

§ 47. У групе асабовых назоўнікаў, акрамя тых, якія па граматычных адзнаках адносяцца або да мужчынскага або да жаночага роду, асобна стаяць назоўнікі са значэннем агульнага роду.

Характэрнай асаблівасцю гэтага разраду адушаўлёных назоўнікаў у адрозненне ад разгледжаных вышэй груп з'яўляецца тое, што яны мяняюць свой род у кожным канкрэтным выпадку ў залежнасці ад іх ужывання, г. зн. з улікам таго, для абазначэння асобы якога полу (мужчынскага ці жаночага) яны выкарыстоўваюцца ў даны момант. Так, у выпадку, калі гэтыя словы служаць для абазначэння асоб мужчынскага полу, яны адносяцца да мужчынскага роду, і, наадварот, калі яны абазначаюць асоб жаночага полу, то выступаюць як словы жаночага роду. Большая частка назоўнікаў агульнага роду ўтворана пры дапамозе суфіксаў з экспрэсіўна-ацэначным значэннем: *гуляка, крыўляка, умека, няўмека, пісака, служака, задзірака, задавака, забіяка, разявака, выпівака, няўдака, выхваляка, выскаляка, злюка, манюка, паганюка, малютка, дурніца, тупіца, п'яніца, чамярыца, брадзяга, туляга, дзяляга, валацуга, латруга, п'янчуга, звяруга, зладзюга, падлюга, шалыга, заправіла, боўдзіла, дурыла, хамула, крывуля, пачвара, ціхоня, сіраціна, малайчына, блазнота, плакса, ляўша, папірашка, скупяндзя, падпявала, запявала, правярайла, падмятайла, абдзірала, аб'ядала, прайдоха, замазоха, чысцёха, размазня* і інш.

Меншую групу складаюць несуфіксальныя назоўнікі агульнага роду: *сірата, слуга, калека, нязгрэба, няўклюда, мурза, румза, нюня, соня, шэльма, брыда, паскуда, зараза, халера, юда, скнара, жмінда, ханжа, няздара, расцяпа, шантрапа, шалахта, гарэза, праныра, пралаза, падліза, задзіра, прыдзіра, прыблуда, прычэпа, незачэпа, недатыка, непаседа, недарэка, недапека, растрэпа, урода, заіка, абжора, суцяга.*

Некалькі назоўнікаў агульнага роду ўтворана шляхам словаскладання: *кніганоша, лістаноша, лежабока, пустамеля, самавучка.*

Пераважная большасць назоўнікаў агульнага роду ўжываецца ў размоўных стылях і знаходзіць сваё адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

*У адчыненых хатніх дзвярах з'явіўся Стасюк, братні сынок, белагаловы свавольнік і с і р а т а; маці ён ледзьве памятаў* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Гадавалася я круглай с і р а т о й — ні бацькоў, ні братоў, ні сясцёр і ніякіх родных* (З. Б я д у л я. Навагодняя ёлка). *«Прыгожая, ш э л ь м а!» — думае Кузьма* (Я. К о л а с. Адукацыя). *Не без пачуцця крыўды ўспомніў ён гэтага самага ш э л ь м у, які састроіў кпіны з яго* (Я. К о л а с. На начлезе). *«І н е п а с е д а ты, дзеткі мае!» — папракала Дубка цётка Ганна* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Вось так бы ты мне і сказала! А то бачыла я таварышку тваю Любу ў цябе, тую рудую н е п а с е д у* (там жа).

Па свайму значэнню з назоўнікамі агульнага роду збліжаюцца некаторыя ўласныя ласкальныя імёны: *Жэня, Саша, Слава, Шура* і інш.

*Як народны герой астанецца навекі ў памяці С а ш а Тышкевіч з-пад Жлобіна, якому ледзьве было 14 год* (К. Ч о р н ы. На парозе вызвалення). *Увайшла сярэдняя дачка, С а ш а, зусім непадобная да сястры* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *У гэтыя часы прыйшлі ў атрад два хлапчукі, Ж э н я і Віця* (К. Ч о р н ы. Герой Савецкага Саюза Ц. П. Бумажкоў). *Камсамолка Ж э н я Палтаўская была студэнткай мастацкага вучылішча* (К. Ч о р н ы. Жэня Палтаўская).

## Заўвагі аб родавых формах і значэннях некаторых груп назоўнікаў

§ 48. У сучаснай беларускай літаратурнай мове назоўнікі *боль, мазоль, медаль, раяль, шаль, шынель, цень, пуць, ясень, шампунь, фальш, стэп, палын, насып, россып* ужываюцца ў значэнні мужчынскага роду.

*Гэй, хіба ты, мой цёмны бор, мой зразумееш боль і жаль і шумам гулкім аж да зор ускалыхнеш прыспану даль* (Я. Купала. Думкі перад вясной). *На вольхах даўгі калыхаецца цень* (А. Куляшоў. На сотай вярсце). *На лаве, на пасланым шынялі, ляжаў чалавек* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Ужыванне прыведзеных назоўнікаў у значэнні жаночага роду з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*Будзе ведаць свет аб справе слаўных змагароў, што разлічыліся як след за боль тваю і сына кроў* (П. Броўка. Дахаты). *Захутаны раны сяброўскай рукой, на тварах — смяротная цень* (П. Броўка. Магіла). *Падбягае міліцыянер — высокі, у чорнай шынялі, тонкі* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Праз радасны, заліты светам бор праходзіць насып жоўтая чыгункі* (М. Багдановіч. Споўненае абяцанне). *У сізым небе зорак россып залатая ціха іскрыцца-дрыжыць* (М. Багдановіч. Ноч імглою сізай землю аблівае...).

Назоўнікі *сухмень, глыб, трэль, роспач* у сучаснай беларускай літаратурнай мове ўжываюцца ў значэнні жаночага роду.

*Была нясцерпная сухмень* (М. Лынькоў. Дзіцячы башмачок). *Не ўчуюць раўніны і выступы гор іх звонкую трэль перамогі* (Я. Колас. Памяці П. Асіпенка і А. Сярова). *«Наша пяхота адыходзіць», — у немай роспачы шэпча Сімянюк* (К. Чорны. Таварыш Сімянюк).

Заўвага. Ужыванне прыведзеных назоўнікаў у значэнні мужчынскага роду з'яўляецца адступленнем ад сучаснай літаратурнай нормы.

*Той стаяў паводдаль, сагнуты, мізэрны. Быў роспач у яго вачах* (К. Чорны. Бяздонне). *Стаяў такі сухмень, што на траву не лажылася раса* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Была ўжо ноч, як яны ўдвух падаліся ў самы глыб лесу* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

§ 49. У сучаснай беларускай мове ёсць невялікая колькасць назоўнікаў, якія, захоўваючы адзінства лексічнага значэння, не маюць устойлівых форм і адпаведна значэння роду.

Так, некаторыя назоўнікі ўжываюцца звычайна ў форме і значэнні мужчынскага роду, але побач з гэтым яны могуць афармляцца і па жаночаму роду: *замш — замша, клавіш — клавіша, зал — зала, салат — салата, прастор — прастора, ціш — ціша.*

*Замша вызначаецца вялікай цягучасцю, водаўстойлівасцю і мяккасцю* («Таваразнаўства», 1956 г.). *Клешчы ўгрызаюцца ў замш* (М. Танк. Раніца). *Што ёсць раднейшае на белым свеце, чым гэтай плошчы вольная прастора!* (К. Буйла. На Краснай плошчы). *За гэты мурожны, шаўковы прастор гатоў я памерці цяпер* (П. Броўка. Магіла). *Ён увайшоў у залу і заняў сваё месца адным з апошніх* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Велізарны, высокі, ясна асветлены зал быў перапоўнены* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Назоўнікі *яблык, плёс* у сучаснай беларускай літаратурнай мове маюць форму і значэнне мужчынскага роду.

*Нібы яблычак той спелы, кветку шчасця вы зрывалі на купальскім ночным балі* (З. Бядуля. Ярыла). *З лугавога боку каля маста быў шырокі плёс* (І. Шамякін. У добры час).

Заўвага. Ужыванне прыведзеных назоўнікаў у форме ніякага роду з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*А Валечка яго — нічога сакатуха. Румяная з марозу, нібы яблыка* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Ён становіцца ля берага і доўга з асалодай глядзіць на прасторнае воднае плёса* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

Назоўнікі *воблака, брыво, рэха* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове маюць нарміраваную форму ніякага роду.

*Угару ўзнялося белае высокае в о б л а к а* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Гэта была Алена — тая, што зачаравала яго некалі на вечарыне, калі ён быў хлапцом удалым, з чорным чубам над правым б р ы в о м* (П. П е с т р а к. Муж і жонка). *Высокі ясны лоб з маршчынкай паміж б р о в а ў, просты, крыху кірпаты нос і шэрыя вочы рабілі яго твар прыгожым* (там жа). *Тодар паблісквай вачыма з-пад пасівелых б р о в а ў на пажоўклым твары* (К. Ч о р н ы. Па дарозе). *Славіцца* [дзяўчына] *працай сваёй і красою, чорнымі б р о в а м і, русай касою* (М. Т а н к. Над Чорнай Ганчай).

З а ў в а г а 1. У размоўных стылях, а пад іх уплывам і ў мове мастацкай літаратуры назоўнік *воблака* зрэдку сустракаецца ў форме і значэнні мужчынскага роду — *воблак.*

*І вось надарыцца часамі мароз над усімі маразамі; ідзе сярдзіта, пагражае, па даху гонтамі страляе, у завітушках дым бялявы нясе, як в о б л а к кучаравы, і потым з ім набок рванецца, бы пісар-вухар расчаркнецца* (Я. К о л а с. Новая зямля).

З а ў в а г а 2. Назоўнікі *брыво, рэха* ў мове мастацкай літаратуры часам сустракаюцца ў форме і значэнні жаночага роду.

*Ружовы твар, шрам тонкі над б р ы в ё ю, а зірк вачэй наўкол маланкай скача* (М. Ч а р о т. Паэма пра Міколу Сініцына). *Гладкі твар яго... неяк асабліва лісліва выглядаў вузкімі шэрымі вачмі з-пад чорных б р ы в е й* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *Ён убачыў блакітныя пятліцы, знакі вышэйшага камандавання на іх, ён убачыў матава-белы твар з цвёрдай рыскай губ, з крутым падбародкам, суцэльны зараснік б р ы в е й* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Рух б р ы в е й капрызны трошкі* (К. К р а п і в а. Шкірута). *З-пад прапыленых б р ы в е й нібы бліснулі іголкі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Была яна дзяўчына рухавая, з прыгожымі, як ільняны цвет, вачамі і з чорнымі б р ы в я м і* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»). *Маршчына паміж б р ы в я м і стала ў Макара глыбейшай* (П. П е с т р а к Муж і жонка). *Я ведаю, ваш кліч нясецца р э х а й, што дзень, то новая расце ў лясах пагроза* (М. Ч а р о т. Зіма).

Назоўнік жаночага роду *шаша* сустракаецца таксама ў форме ніякага роду — *шасэ.*

*Зялёны домік дарожнага майстра стаіць каля самай ш а ш ы* (Я. Б р ы л ь. Светлае ранне). *Ужо тут недалёка была паваротка з ш а с э на Цімкавічы* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

## *Катэгорыя ліку назоўнікаў*

§ 50. Побач з іншымі катэгорыямі катэгорыя л і к у з'яўляецца важным сродкам у выражэнні назоўнікамі прадметнага значэння. У сучаснай беларускай мове адрозніваюцца дзве формы ліку: а д з і н о ч н а г а і м н о ж н а г а. Формы адзіночнага ліку служаць для ўказання на адзінкавыя прадметы рэчаіснасці, выдзеленыя з ліку многіх аднародных прадметаў або прадметаў у іх сукупнасці, цэласнасці, адзінстве *(дрэва, будынак, жывёла, колас);* назоўнікі множнага ліку выражаюць раздзельную множнасць аднародных прадметаў *(дрэвы, будынкі, жывёлы, каласы).*

Формы адзіночнага і множнага ліку, якія характэрны для большасці назоўнікаў, адрозніваюцца паміж сабою толькі ў колькасным абазначэнні прадметаў, аднак у радзе выпадкаў з формамі ліку звязваюцца розныя сэнсавыя значэнні і адценні (параўн.: *гразь — гра́зі, грош — гро́шы, вы́бар — вы́бары).*

Сэнсавыя разыходжанні слоў у залежнасці ад ужывання іх у той або іншай форме ліку асабліва характэрны для такіх назоўнікаў, якія не маюць парных утварэнняў і ўжываюцца або толькі ў адзіночным, або толькі ў множным ліку (гл. § 52, 53).

Катэгорыя ліку назоўнікаў можа выражацца як марфалагічна, г. зн. сістэмай канчаткаў *(дуб — дубы, бяроза — бярозамі),* так і сінтаксічна, г. зн. формамі дапасавання да назоўнікаў граматычна звязаных з імі слоў *(высокі дуб — высокія дубы, зелянее бяроза — зелянеюць бярозы).*

З а ў в а г а. Формы ліку нескланяльных назоўнікаў вызначаюцца звычайна па формах граматычна звязаных з гэтымі назоўнікамі слоў *(сіняе галіфэ — сінія галіфэ, прадаецца паліто — прадаюцца паліто).*

У некаторых назоўніках формы адзіночнага і множнага ліку знаходзяць сваё выражэнне ў змяненні марфалагічнай будовы суадносных асноў (*селянін — сяляне, грамадзянін — грамадзяне*) або наогул у замене саміх асноў (*чалавек — людзі*).

У залежнасці ад форм ліку назоўнікі падзяляюцца на тры групы: а) назоўнікі, якія маюць суадносныя формы адзіночнага і множнага ліку; б) назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку; в) назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку.

§ 51. Суадносныя па значэнню формы адзіночнага і множнага ліку ўтвараюць назоўнікі, якія абазначаюць прадметы і з'явы рэчаіснасці, што паддаюцца лічэнню, могуць уступаць у спалучэнне з колькаснымі лічэбнікамі і ўтвараць колькасна-іменныя словазлучэнні: *конь — два кані, луг — два лугі, возера — два возеры, дуб — тры дубы, задача — тры задачы, падзея — дзве падзеі.*

Заўвага. Сярод канкрэтных назоўнікаў асобна стаяць нескланяльныя назоўнікі, якія не маюць форм ліку (*бюро, дэпо, кіно, радыё, кенгуру, амплуа*).

Суадносныя формы абодвух лікаў — адзіночнага і множнага — могуць утвараць, акрамя канкрэтных, і некаторыя адцягненыя назоўнікі: *вучэнне — вучэнні, напрамак — напрамкі, думка — думкі, радасць — радасці, перажыванне — перажыванні* і інш. (гл. § 33, 34).

*Нібы зноў вярнуліся мінулыя радасці, мінулыя думы* (М. Лынькоў. Салют). *Яна старалася перамагчы ўсе вялікія трывогі свае і заспакоіць неспакойнае сэрца* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы).

§ 52. Толькі ў адзіночным ліку ўжываюцца:

1. Пераважная большасць назоўнікаў са зборным значэннем: *грамадства, жыхарства, птаства, студэнцтва, радня, дзетвара, машкара, агентура, прафесура, лістота, бедната, ядловец, старастат, генералітэт, люд, моладзь, вараннё, груганнё, трысцё, рыззё, пакулле, валоссе, шчаціннě, прыладдзе, ламачча, смецце, хворост, друз, лом, шрот* і інш.

*Птаства да таго было смелым, што і не ўважала ні стуку калёс, ні фыркання каня* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Над дарогаю ціхай хмарай вілася дробная, як пыл, машкара* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Сабраўшы сухога ламачча, Арэшка і Шыбаеў расклалі невялікі агонь* (У. Краўчанка. Рыгор Шыбай). *Ад мокрага смецця, пілавіння і трэсак паднімалася пара* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Вокны забіты, заложаны лучынаю, усякім рыззём* (Я. Колас. Паўлюковы думкі). *Шчаслівы люд глядзіць услед байцам дзівоснай складкі* (Я. Колас. Гудзе зямля...). *Вакол, пад дрэвамі, стаялі партызаны, пераважна моладзь* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

2. Большасць назоўнікаў, якія абазначаюць рэчыва або матэрыял (без указання на іх від ці сорт): *вугаль, жалеза, цэмент, цэгла, дзёгаць, бавоўна, драп, пух, проса, мука, мяса, мёд, малако, квас, смятана, сена, салома, кукуруза, сечка, трасянка, сілас, драўніна, гравій, пясок* і інш.

*У адным стозе Іван Касніцкі ўбачыў, што пярэбірак саломы навісае ўніз* (К. Чорны. «Святая» папружка). *Гасцей частуе гаспадыня, і на ўсіх чыста вокам кіне, то сыр, то масла ім падносіць і закусіць так шчыра просіць* (Я. Колас. Новая зямля). *Хоць невялікія прысмакі — цыбуля, перчык, ліст бабкоў ды сальца некалькі брускоў, мука і квас — і ўся прыправа, але ўсё ж снеданне цікава...* (там жа). *З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, несучы з сабою пясок, кусочкі дрэва, траву* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Заўвага. Назоўнікі, якія абазначаюць віды або сарты рэчыва, ужываюцца таксама ў множным ліку, параўн.: *масла — касметычныя маслы, метал — вадкія металы, соль — калійныя солі, гліна — чырвоныя гліны, смала — пахучыя смолы, сталь — высакаякасныя сталі, віно—сухія віны, табака—моцныя табакі* і інш.

*Пячорскі вугаль, кольскае жалеза, чыгун, медзь, хібінагорскія* *а п а т ы т ы, н е ф е л і н ы пойдуць морам да Сарок і адтуль новым водным шляхам у Ленінград і Паваложжа* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Поруч з галытвою ходзіць роскаш і багацце; разам з людскімі слязьмі мяшаюцца панскія вальсы, грыміць музыка з панскага саду; разам з мужыцкім потам цякуць дарагія* *в і н ы* (Я. К о л а с. Думкі ў дарозе). *Карэла-Мурманскі край нязмерна багаты каштоўнымі для тэхнікі матэрыяламі. Есць тут базальт, дыябаз, дыярыт, мармурападобны даламіт, аланецкі мармур, сігніт, палявы шпат,* *к в а р ц ы, к в а р ц ы т ы, вогнетрывалыя і іольдыевыя г л і н ы, слюда, кварцавы сланец, барыт,* *с а м а ц в е т ы, беламорскі лунны камень (лабрадор)* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Драсяны ў ж ы т а х красуюцца, у ярыне — свірэпка дзікая* (Я. К о л а с. Сялянскія думкі).

3. Абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць якасці, уласцівасці, дзеянні, стан: *чырвань, сінь, яснасць, дабрата, гнеў, любоў, адвага, спрыт, бегатня, малацьба, плач, смех, помста, сум, нуда, маркота* і інш.

*Убіраючы неба ў* *ч ы р в а н ь, зарава палыхала ўсё шырэй і шырэй* (М. Л ы н ь к о ў. Ірына). *С п а к о й і восеньская* *я с н а с ц ь былі ў прыродзе* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Глядзіш на дзеда і дзівішся, скуль у яго столькі гэтай* *я с н а с ц і мыслі,* *д а б р а т ы сэрца, сілы духу і жыццёвай* *м у д р а с ц і* (Я. К о л а с. З боку ад жыцця). *Л а г о д н а с ц ь, з г о д а і п а в а г а і вельмі сталая* *р а з в а г а ўвесь гэты дзень тут панавалі* (Я. К о л а с. Новая зямля). *С у м напоўніў яго сэрца, і ад гэтага ўсё навокал зноў пацямнела* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

4. Назоўнікі, якія абазначаюць грамадска-палітычныя вучэнні, формы дзяржаўнага ладу, вытворчыя працэсы, мерапрыемствы і г. д.: *марксізм, ленінізм, камунізм, сацыялізм, імперыялізм; электрыфікацыя, політэхнізацыя, яравізацыя* і інш.

*К а м у н і з м — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс* *э л е к т р ы ф і к а ц ы я ўсёй краіны* (У. І. Л е н і н). *Апяюць у песнях працу, гераізм, як на край балотны йшоў* *с а ц ы я л і з м* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай).

5. Назоўнікі, якія абазначаюць напрамкі свету, астранамічныя і геаграфічныя паняцці: *поўдзень, поўнач, захад, усход, Зямля, Месяц, Венера, Юпітэр, Еўропа, Азія, Афрыка, Амерыка, Антарктыда, Масква, Кітай, Пекін.*

З а ў в а г а. Геаграфічныя назвы могуць ужывацца ў множным ліку ў наступных выпадках:

а) калі існуюць у рэальнасці два ці некалькі паняццяў, адпавядаючых адной назве.

*У сучасны момант рэальным з'яўляецца факт існавання дзвюх* *Г е р м а н і й — Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы і Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі* (з газет).

б) Калі пэўная геаграфічная назва ўжываецца абагульнена для абазначэння тыповых для пэўнага перыяду паняццяў.

*Быльняговыя межы сыходзілі на нішто і калі ўспаміналіся, то хіба толькі ў старых песнях. «М а г н і т к і», «Д н е п р а б у д ы»,* *«А с і н б у д ы» стала ўваходзілі ў побыт* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Люблю мой край за тое, што ў ім часы другія, што згінула былое і* *К а м е н к і былыя* (А. К у л я ш о ў. Каменка).

6. Індывідуальныя ўласныя імёны і прозвішчы людзей: *Іван, Фёдар, Міхаіл, Сцяпан, Марына, Ганна, Чарнушэвіч, Раманоўскі, Дзямідаў.*

З а ў в а г а 1. Уласныя індывідуальныя імёны могуць ужывацца ў форме множнага ліку, калі яны ў рэальнасці абазначаюць некалькі асоб, названых адным іменем.

*У іх засталося* *п я ц ь* *В і ц я ў* (А. Я к і м о в і ч. Сын). *Былі ў бацькі тры сыны, ды ўсе ж яны* *В а с і л і* (Я. К у п а л а. Былі ў бацькі тры сыны...).

З а ў в а г а 2. Пры неабходнасці абазначыць цэлую групу асоб (звычайна сям'ю) адным прозвішчам апошняе ўжываецца ў форме множнага ліку.

*Сям'я* *К а с ц я н к о ў вячэрала* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Сёння пуста ў доме* *Г а л і н о ў с к і х* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Да хаты* *К а с т р ы ц к і х яна падышла ціха* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Сям'я* *Р у д з і н ы х на крэслы толькі тады садзілася, калі частавалі гарбатаю госця якога з гарадскіх* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *Гэта мой бацька Ціхан Заруба. Мы і ёсць* *З а р у б ы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *А мы...* *С і п а к і... мы пароды жылаватай — гужы з нас круці, не парвеш!* (там жа).

З а ў в а г а 3. У форме множнага ліку ўжываюцца таксама прозвішчы, якімі абазначаны тыповыя з'явы грамадскага жыцця.

*Няма патрэбы пераказваць змеցт шматлікіх чэхаўскіх навел. Прыпомніце іх, і перад вачыма ў вас у доўгай чарзе чэхаўскіх «герояў» — лягавых, грызловых, укусі-каланчоўскіх, настаўніка Ахінеева, памочніка паліцэйскага надзіраценя Ачумелава, гарадавога Жратвы, акцёра-палюбоўніка Паджарава, гімназіста Высекіна і шматлікіх запупырыных, мердзяковых, падзатылкіных, чарнасвінскіх, галапёсавых і сяміpылавых на чале з унтэрам Прышыбеевым— пройдзе здань царскай Расіі* (П. Галавач. Ці патрэбна нам навела?).

§ 53. Толькі ў множным ліку ўжываюцца:

1. Назоўнікі, якія абазначаюць парныя і састаўныя прадметы: *клешчы, абцугі, шчыпцы, ціскі, пласкагубцы, круглагубцы, кусачкі, ножанкі, ножны, граблі, вілы, вілкі, насілкі, лескі, козлы, ночвы, начоўкі, кросны, панажы, жорны, разваліа, сані, санкі, штаны, шаравары, плаўкі, трусы, падцяжкі, паўбацінкі, крагі, гетры, даспехі, латы, яслі, харомы, сені, сенцы, палаці, нары, краты, падмосткі, вароты, весніцы, поручні, парэнчы, дзверы, усходы (ступенькі), арэлі, шахматы, цымбалы, гуслі, лічыльнікі, ходзікі, куранты, акуляры, цуглі, шоры, набедры, восці, соты, шчэлепы, грудзі, вусны, прыгаршчы, паджылкі.*

*Хрыпла зарыпалі дзверы сянец, бразнула гучна клямка* (П. Галавач. Суседзі). *Адразу за дзвярыма вузкая лесвіца з драўлянымі слізкімі парэнчамі* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *З варот выйшаў і гаспадар доміка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Спацелы вараны стаеннік нервова грыз цуглі* (І. Шамякін. За жыццё). *Вось чутны курантаў удары* (М. Танк. Новаму году). *Цені крат застылі на сцяне* (М. Танк. Да дня). *Сегень сыходзіў ужо з падмосткаў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Граматычнай адзнакай слоў гэтага тыпу з'яўляецца тое, што яны могуць спалучацца са зборнымі лічэбнікамі: *двое, трое саней, драбін, дзвярэй, варот* і інш.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць прадметаў ці з'яў у іх адзінстве, цэласнасці: *джунглі, нетры, зараслі, субтропікі, плаўні, могілкі, усходы, ападкі, астанкі, пажыткі, прыпасы, боепрыпасы, брыжы, карункі, кудры, шчыкеты, фінансы, грошы, аліменты, клавікорды, забабоны, чары, мемуары.*

*І вось тады, у паўночны час, па цёмных нетрах і палянках ты падыходзіш, партызанка, хадою ціхаю да нас* (М. Танк. Беларусь). *Чародка качак з крыкам узнялася з асаковых зарасляў і спуджана кінулася да лесу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Высока ўзнялі яны* [хвоі] *свае пышныя кудры над маладым сасоннікам і купаюцца ў залаціста-блакітных сонечных хвалях* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *Яна свяціла зоркай яснай, яна гарнула і хіліла, бы нейкіх чар нязнаных сіла* (Я. Колас. Новая зямля).

3. Назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць асоб або пэўныя грамадскія пласты: *бацькі, людзі, кадры, вярхі, нізы.*

*Нарадзіўся ў іх сын, ды такі прыгожы, што бацькі не нацешацца з яго* (А. Якімовіч. Залатая яблынька). *Гэта нашы людзі, гэта нашы дзеці!* (Я. Колас. Восеньскае). *На заводзе расце колькасць высокакваліфікаваных тэхнічных кадраў* (з газет). *Купала, як і Горкі, выйшаў з нізоў народа* (В. Івашын. Янка Купала).

4. Назоўнікі, якія паходзяць ад прыметнікаў і абазначаюць віды раслін або віды выплат ці збораў: *азімыя, яравыя, пальмавыя, тутавыя, хваёвыя, бабовыя, сумчатыя; прэміяльныя, сутачныя, чаявыя, камісійныя* і інш.

*Вызваліўшыся ад снегу, хутка пайшлі ў рост азімыя* («Звязда»). *Механізатары саўгаса ў лепшыя тэрміны завяршылі ўборку каласавых* («Мінская праўда»).

5. Некаторыя рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць:

а) аднародную масу рэчыва ці матэрыял, віды стравы і інш.: *абоі, дровы, каноплі, пачаткі, дрожджы, духі, мазгі, лекі, кансервы, прысмакі, крупы, біткі, пікулі* (кулін.).

*На дварэ чырвонаармейцы пілавалі д р о в ы* (П. Г а л а в а ч. Кара). *У халодных сенцах стаялі ночвы з памытымі гуркамі і былі рассыпаны к р у п ы* (К. Ч о р н ы. Вераснёвыя ночы). *Арцём Ісакавіч пачаў корпацца ў цемры ночы ў сваім чамаданчыку, шукаючы патрэбных л е к а ў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

б) Назоўнікі, якія абазначаюць розныя адкіды або рэшткі якога-небудзь рэчыва: *высеўкі, пазадкі, пацяробкі, вычаскі, ачоскі, выграбкі, агрэбкі, выбіркі, выжымкі, падонкі, выскваркі, вытапкі, недаедкі, недапіткі, памыі, адкіды, адходы, аб'едкі, абдзіркі, апілкі, ачысткі.*

*У нашых кайстрах яшчэ н е д а е д к і хлеба і нават мяса: яго мы знайшлі на хутары* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Я кідаю Трэзару а б' е д к і са стала* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах). *Нібы п а м ы я м і абліты, стаяў ён некалькі хвілін* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

6. Некаторыя абстрактна-зборныя назоўнікі, у прыватнасці:

а) назоўнікі, якія абазначаюць дзеянні, працэсы, станы з адценнем працягласці ці паўтарэння: *паводзіны, абставіны, выбары, давыбары, перавыбары, зносіны, адносіны, суадносіны, пярэзвы, пяроймы, перагонкі, манеўры, абдымкі, дэбаты, крыватолкі, спевы, скокі, гулі, выкрутасы, залёты, козні, сухоты, дрыжыкі, пабоі, провады, праводзіны, агледзіны, розгляды, хітрыкі, кепікі, кпіны, веды, заняткі, замаразкі, прымаразкі.*

*Яго брыгада ішла першая на вытворчых м а н е ў р а х* (К. Ч о р н ы. Вінгель). *Па дварах чуўся гоман і п я р э з в ы* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Яна была вырашана перад самымі п е р а в ы б а р а м і* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Стаялі ўжо невялічкія п р ы м а р а з к і і было сцюдзёна* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *А я лічу, Аўдоцця Захараўна, што гэтыя р о з г л я д ы зусім лішнія* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі).

б) Назоўнікі, якія абазначаюць віды гульняў: *гарадкі, ба́бкі, кеглі, фа́нты, хованкі, жмуркі, гарэлкі, шашкі, шахматы.*

*Вечар скончыўся гульнямі. Селі гуляць у «ф а н т ы»* (Я. К о л а с. На ростанях). *«Давайце кінем гуляць у х о в а н к і», — сурова гаворыць ён* (Я. К о л а с. На ростанях). *Клопікаў пасля вячэры іграў у ш а ш к і са сваім старым дружбаком...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

в) Назоўнікі, якія абазначаюць народныя звычаі, абрады, рэлігійныя святы і г. д.: *вячоркі, імяніны, радзіны, памінкі, хрысціны (хрэсьбіны), пасядзелкі, заручыны, уваходзіны, зажынкі, дажынкі, запускі, каляды, дзяды, папрадухі.*

*Душою гэтых в я ч о р а к, галоўнай выдумшчыцай і завадатарам заўсёды была Наташа* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі). *У тую хату, дзе кравец шыў кажух, кожны вечар збіраліся п а с я д з е л к і: кравец ухітраўся і шыць і расказваць* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *У нядзелю Селівестр спраўляў у в а х о д з і н ы ў новую хату* (У. К р а ў ч а н к а. Застольная Селівестра Наўмыкі). *Два гады мы і косім і жнём, каб вялікія справіць д а ж ы н к і* (А. А с т р э й к а. Беларусь-партызанка).

г) Назоўнікі, якія абазначаюць прамежкі часу і прасторавыя паняцці: *канікулы, суткі, будні, сумеркі; гоні, пайгоні.*

*Лета. К а н і к у л а ў час. Парашылі яны школы і парк свой наведаць* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Чацвёртыя с у т к і гляджу закахана з акна на бязмежжа краіны маёй* (П. Б р о ў к а. Дарогай). *Эх, яшчэ не звоняць яго пераліvы сярод нашых г о н е й, на шырокіх нівах!* (М. Т а н к. Баян). *Але да фурманак было з п а й г а н о к, а гаварылі не вельмі моцна* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

7. Некаторыя геаграфічныя, а таксама астранамічныя назвы: *Горкі, Чонкі, Цімкавічы, Рачкевічы, Ванелевічы, Боркі, Жыгулі, Гімалаі, Нідэрланды, Філіпіны; сузор'е Блізняты.*

### *Катэгорыя склону назоўнікаў*

§ 54. Назоўнік можа выконваць функцыі розных членаў сказа (дзейніка, выказніка, дапаўнення, азначэння, акалічнасці), пры гэтым ён, будучы сінтаксічна звязаным з іншымі членамі сказа, набывае пэўныя склонавыя формы (канчаткі) — прамога склону (назоўнага) або ўскосных (роднага, давальнага, вінавальнага, творнага, меснага).

Змяненне форм назоўнікаў па склонах называецца скланеннем.

Кожнай склонавай форме назоўніка ўласціва тое ці іншае граматычнае значэнне, напрыклад, формай назоўнага склону перадаецца значэнне суб'екта дзеяння (*паляпшаецца дабрабыт працоўных*), формамі ўскосных склонаў назоўнікаў выражаюцца значэнні аб'екта дзеяння (*пабудаваць дом, будаўніцтва школы, падарунак дзецям, сустрэча з пісьменнікамі*), прыналежнасці (*хата рыбака*), адносін да асобы, прадмета (*брат інжынера, дырэктар завода*), якаснай ацэнкі (*чалавек невычэрпнай энергіі, дзяўчынка з блакітнымі вачамі*), сродку дзеяння (*убіраць поле камбайнам*), часу дзеяння (*адпачываць пасля працы*), месца дзеяння (*працаваць у саўгасе*), способу дзеяння (*гаварыць шэптам*) і інш.

Склонавыя значэнні назоўнікаў выражаюцца або толькі пры дапамозе канчаткаў, або пры дапамозе канчаткаў і прыназоўнікаў. Круг значэнняў той ці іншай склонавай формы назоўніка залежыць ад таго, з якім словам ён звязан ці ад якога слова ён граматычна залежыць (ад іншага назоўніка, ад дзеяслова, ад прыметніка і г. д.).

## *СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ*

§ 55. Паводле склонавых канчаткаў назоўнікі падзяляюцца на тры групы, якія ўмоўна прынята называць першым, другім і трэцім скланеннямі.

Да I скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку (*дуб, стол, дом, бор, шалаш, дзень, век, край, спей*) і назоўнікі ніякага роду з канчаткамі **-о, -ё, -а, -е** (*сяло, жыццё, возера, поле, надвор'е*).

Акрамя таго, па першаму скланенню змяняюць свае канчаткі назоўнікі мужчынскага роду на **-о** тыпу *Пятро*.

Да II скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткам **-а(-я)** у назоўным склоне адзіночнага ліку (*вада, мяжа, раўніна, гара, вежа, вышыня, цішыня, зямля, песня, гісторыя, аперацыя*).

Заўвага. Назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)** тыпу *мужчына, старшыня* і агульнага роду тыпу *сведка, запявала, плакса, няўмека, тупіца* скланяюцца і па першаму і па другому скланенню.

Да III скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з асновай на мяккія зычныя, на шыпячыя і **р** і з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку (*даль, рунь, сенажаць, мясцовасць, гладзь, сувязь, радасць, ноч, печ, мыш, Свіслач, Сож, шыр*).

Не адпавядаюць па сваіх склонавых канчатках ні аднаму з адзначаных тыпаў скланення:

а) назоўнікі ніякага роду на **-мя:** *імя, племя, стрэмя, семя, цемя, полымя, вымя, бярэмя;*

б) назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот і маюць канчатак **-я(-ё)** у назоўным склоне адзіночнага ліку: *дзіця, хлапчаня(-ё), ваўчаня(-ё), звераня(-ё), зайчаня(-ё), качаня(-ё), вараня(-ё), кацяня(-ё), птушаня(-ё), ягня(-ё), цяля(-ё), парася(-ё), кураня(-ё), шчаня(-ё), жарабя(-ё);*

в) асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з суфіксамі **-ін(-ын)** і вытворнымі ад іх **(-анін, -янін)**: *грамадзянін, селянін, гараджанін, мінчанін, мешчанін, дваранін, баярын, катаржанін;*

г) некалькі назоўнікаў, якія ўваходзяць у іншыя лексічныя групы: *сусед, чорт, калена, вока, вуха, неба, маці.*

Маючы ў форме ўскосных склонаў канчаткі, уласцівыя не аднаму якому-небудзь тыпу скланення, а розным тыпам скланення, гэтыя словы ўтвараюць разрад так званых р о з н а с к л а н я л ь н ы х назоўнікаў.

Па-за межамі асноўных тыпаў скланення застаюцца таксама назоўнікі, утвораныя ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у выніку субстантывацыі апошніх: *рабочы, ваенны, паляўнічы, незнаёмы, вартавы, падарожны, ранены, хворы, сувязны, працоўны, прахожы, арыштаваны, служачы, пражытае, былое, мінулае, сталовая, прыёмная, марожанае* і г. д. Скланяюцца гэтыя назоўнікі, як прыметнікі адпаведнага роду.

Ні да аднаго з тыпаў скланення, безумоўна, не могуць быць аднесены нязменныя словы, склонавыя значэнні якіх выражаюцца не канчаткамі, а сінтаксічна (*кулі, маэстра, буржуа, ледзі, кенгуру, шымпанзэ, какаду, кабарэ, кафэ, меню, рагу, філе, манпансье, бардо, метро, манто, трыко, кашнэ, атэлье, дэпо, кіно, фае, радыё, папуры, таксі, журы, інтэрв'ю, амплуа* і інш.).

§ 56. У залежнасці ад характару зычнага гука, на які заканчваюцца асновы назоўнікаў, адрозніваюцца назоўнікі:

а) з асновай на цвёрдыя зычныя: *вагон, метал, мёд, слуп, дуб, куст, плот, голас, зіма, вясна, вада, ніва, лаза, ліпа, хата, сяліба;*

б) з асновай на лабіялізаваны губны **ў**: *гнеў, спеў, нораў, прарыў, роў, сплаў, кроў;*

в) з асновай на зычныя **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц**: *гаспадар, касец, шалаш, дождж, калодзеж, плач, пушча, крыніца, вежа, хмара, ноч, поўнач, суш, Сож;*

г) з асновай на **г, к, х**: *луг, снег, бераг, круг, вянок, полк, позірк, шлях, рух, подых, рака, страха, карчага;*

д) з асновай на мяккія зычныя: *госць, князь, агонь, вугаль, камень, зямля, вышыня, песня, радасць, прыязнь, сувязь, гладзь, ніць, вось, роль;*

е) з асновай на **j**: *надзея, настрой, спакой, адчай, канвой, строй, рой, іней, вулей, ручэй, гай, глей, гравій.*

Віды асноў назоўнікаў разам з іншымі граматычнымі паказчыкамі (родам, канчаткамі) абумоўліваюць адрозненні як паміж агульнымі тыпамі скланення, так і паміж склонавымі формамі ў адным і тым жа тыпе скланення.

## ПЕРШАЕ СКЛАНЕННЕ

### *Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку*

§ 57. Для назоўнікаў мужчынскага роду характэрны наступныя разнавіднасці асноў:

а) цвёрдая аснова: *дуб, скарб, след, погляд, вобраз, небасхіл, канал, бур'ян, план, гераізм, прынцып, працэс, росквіт, граніт, салдат;*

б) аснова на **ў**: *роў, прарыў, разліў, павеў, сплаў, гнеў, спеў, нораў, рукаў, хлеў, леў, поплаў;*

в) аснова на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц**: *пясняр, двор, вецер, дождж, бліндаж, кірмаш, біч, пугач, драч, плашч, гасцінец, месяц;*

г) аснова на **г, к, х**: *снег, луг, начлег, абавязак, здабытак, рахунак, напрамак, юнак, шлях, рух, подых, выбух;*

д) аснова на мяккія зычныя: *мядзведзь, князь, пароль, крышталь, вучань, дзень, прамень, авадзень, карась, госць, лапаць, дзёгаць;*

е) аснова на **j**: *герой, прыбой, застой, рой, пакой, вадапой, ураджай, звычай, гай, глей, іней, салавей, верабей.*

## § 58. Узор скланення назоўнікаў мужчынскага роду

### Адзіночны лік

#### Цвёрдая аснова і аснова на ў

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *сын* | *стол* | *слон* | *лес* | *погляд* | *матыў* |
| Р. | *сын-а* | *стал-а* | *слан-а* | *лес-у* | *погляд-у* | *матыв-у* |
| Д. | *сын-у* | *стал-у* | *слан-у* | *лес-у* | *погляд-у* | *матыв-у* |
| В. | *сын-а* | *стол* | *слан-а* | *лес* | *погляд* | *матыў* |
| Т. | *сын-ам* | *стал-ом* | *слан-ом* | *лес-ам* | *погляд-ам* | *матыв-ам* |
| М. | *(аб) сын-у* | *стал-е* | *слан-е* | *лес-е* | *поглядз-е* | *матыв-е* |

#### Аснова на р, ж(дж), ш, ч(шч), ц

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *пясняр* | *дождж* | *шалаш* | *вепр* | *палац* |
| Р. | *песняр-а* | *даждж-у* | *шалаш-а* | *вепр-а* | *палац-а* |
| Д. | *песняр-у* | *даждж-у* | *шалаш-у* | *вепр-у* | *палац-у* |
| В. | *песняр-а* | *дождж* | *шалаш* | *вепр-а* | *палац* |
| Т. | *песняр-ом* | *даждж-ом* | *шалаш-ом* | *вепр-ам* | *палац-ам* |
| М. | *(аб) песняр-у* | *даждж-ы* | *шалаш-ы* | *вепр-ы* | *палац-ы* |

#### Аснова на г, к, х

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *юнак* | *бераг* | *подзвіг* | *поспех* |
| Р. | *юнак-а* | *бераг-а* | *подзвіг-у* | *поспех-у* |
| Д. | *юнак-у* | *бераг-у* | *подзвіг-у* | *поспех-у* |
| В. | *юнак-а* | *бераг* | *подзвіг* | *поспех* |
| Т. | *юнак-ом* | *бераг-ам* | *подзвіг-ам* | *поспех-ам* |
| М. | *(аб) юнак-у* | *бераз-е* | *подзвіг-у* | *поспех-у* |

#### Аснова на мяккія зычныя і на j

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *вучань* | *агонь* | *жураўель* | *баль* | *герой* | *гай* |
| Р. | *вучн-я* | *агн-ю* | *жураўл-я* | *бал-ю* | *героj-а* | *гаj-у* |
| Д. | *вучн-ю* | *агн-ю* | *жураўл-ю* | *бал-ю* | *героj-у* | *гаj-у* |
| В. | *вучн-я* | *агонь* | *жураўл-я* | *баль* | *героj-а* | *гай* |
| Т. | *вучн-ем* | *агн-ём* | *жураўл-ём* | *бал-ем* | *героj-эм* | *гаj-эм* |
| М. | *(аб) вучн-ю* | *агн-і* | *жураўл-і* | *бал-і* | *героj-у* | *гаj-і* |

### Множны лік

#### Цвёрдая аснова і аснова на ў

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *сын-ы* | *стал-ы* | *слан-ы* | *ляс-ы* | *погляд-ы* | *матыв-ы* |
| Р. | *сын-оў* | *стал-оў* | *слан-оў* | *ляс-оў* | *погляд-аў* | *матыв-аў* |
| Д. | *сын-ам* | *стал-ам* | *слан-ам* | *ляс-ам* | *погляд-ам* | *матыв-ам* |
| В. | *сын-оў* | *стал-ы* | *слан-оў* | *ляс-ы* | *погляд-ы* | *матыв-ы* |
| Т. | *сын-амі* | *стал-амі* | *слан-амі* | *ляс-амі* | *погляд-амі* | *матыв-амі* |
| М. | *(аб) сын-ах* | *стал-ах* | *слан-ах* | *ляс-ах* | *погляд-ах* | *матыв-ах* |

#### Аснова на р, ж(дж), ш, ч(шч), ц

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *песняр-ы* | *даждж-ы* | *шалаш-ы* | *вепр-ы* | *палац-ы* |
| Р. | *песняр-оў* | *даждж-оў* | *шалаш-оў* | *вепр-аў* | *палац-аў* |
| Д. | *песняр-ам* | *даждж-ам* | *шалаш-ам* | *вепр-ам* | *палац-ам* |
| В. | *песняр-оў* | *даждж-ы* | *шалаш-ы* | *вепр-аў* | *палац-ы* |
| Т. | *песняр-амі* | *даждж-амі* | *шалаш-амі* | *вепр-амі* | *палац-амі* |
| М. | *(аб) песняр-ах* | *даждж-ах* | *шалаш-ах* | *вепр-ах* | *палац-ах* |

Аснова на **г, к, х**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *юнак-і* | *бераг-і* | *подзвіг-і* | *поспех-і* |
| Р. | *юнак-оў* | *бераг-оў* | *подзвіг-аў* | *поспех-аў* |
| Д. | *юнак-ам* | *бераг-ам* | *подзвіг-ам* | *поспех-ам* |
| В. | *юнак-оў* | *бераг-і* | *подзвіг-і* | *поспех-і* |
| Т. | *юнак-амі* | *бераг-амі* | *подзвіг-амі* | *поспех-амі* |
| М. | *(аб) юнак-ах* | *бераг-ах* | *подзвіг-ах* | *поспех-ах* |

Аснова на мяккія зычныя і на **j**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *вучн-і* | *агн-і* | *журайл-і* | *бал-і* | *героj-і* | *гаj-і* |
| Р. | *вучн-яў* | *агн-ёў* | *журайл-ёў* | *бал-яў* | *героj-аў* | *гаj-оў* |
| Д. | *вучн-ям* | *агн-ям* | *журайл-ям* | *бал-ям* | *героj-ам* | *гаj-ам* |
| В. | *вучн-яў* | *агн-і* | *журайл-ёў* | *бал-і* | *героj-аў* | *гаj-і* |
| Т. | *вучн-ямі* | *агн-ямі* | *журайл-ямі* | *бал-ямі* | *героj-амі* | *гаj-амі* |
| М. | *(аб) вучн-ях* | *агн-ях* | *журайл-ях* | *бал-ях* | *героj-ах* | *гаj-ах* |

## Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду I скланення ў адзіночным ліку

§ 59. Назоўнікі мужчынскага роду I скланення ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць нулявы канчатак: *дуб, стол, дом, хлеў, разліў, дар, нож, дождж, шалаш, мяч, плашч, палац, луг, юнак, цэх, вучань, шынель, ураджай, ручэй, салавей.*

Заўвага. Некаторыя ўласныя імёны асоб мужчынскага полу ў назоўным склоне адзіночнага ліку могуць мець канчатак **-о**.

*Пятро, пануры, заклапочаны, моўчкі апусціўся на дол* (Я. Колас. Дачакаўся). *А тым часам атрадны артыст Паўло Сямёнавіч зноў выступаў перад новаю вёскай з сваёй новай «прэм'ерай»* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

§ 60. Пад уплывам народных гаворак у мастацкай літаратуры, асабліва першай палавіны XX стагоддзя, шырока ўжываліся формы клічнага склону назоўнікаў, якія ў наш час не з'яўляюцца літаратурнай нормай. У клічнай форме звычайна выступаюць уласныя або агульныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду і радзей назоўнікі, якія абазначаюць жывёл, птушак, паўзуноў, насякомых (часта ў пераносным значэнні), а таксама неадушаўлёныя назоўнікі, калі яны ўжыты ў значэнні адушаўлёных: *Сымоне, сыне, дзеду, коню, голубе, саколе, вужу, гадзе, жучку, ветру, громе, лесе.*

У залежнасці ад характару асновы назоўнікі ў клічнай форме могуць заканчвацца на розныя галосныя: **е, а, о, у, ю.**

Назоўнікі з асновай на цвёрдыя зычныя і на **ў** звычайна заканчваюцца ў клічнай форме галосным **е**, пры гэтым канцавыя цвёрдыя зычныя асновы чаргуюцца з адпаведнымі мяккімі зычнымі.

*Ад усяго сэрца і душы гавару табе шчырае слова, вялікі мой, гераічны і слаўны беларускі народзе* (Я. Купала. Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!). *Смялей, беларусе-араты! Смялей уздымай к сонцу вочы* (Я. Купала. Запела вясна сваю песню). *Лепш змагацца вольным, браце, чым цярпець ды гнуцца!* (Я. Колас. Будзь цвёрды). *Павесь шапачку, мой сыне* (Я. Колас. Першы заработак). *Ну, голубе, бывай здаровы і шчаслівы* (Я. Колас. Дрыгва). *«Сходзі за падводай, Ігнаце», — гаворыць хлапцу гаспадар* (А. Куляшоў. Каля самай граніцы). *Не едзь туды, Сілівоне, не едзь, не трэба табе быць там* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Усё ж такі пішу да вас, Вацлаве, словы нясмелага ліста* (М. Багдановіч. Ліст). *Эх, лес цёмнакудры, мілы мой лесе, удумныя дрэвы, зялёныя шаты, мой брат ты!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Гэй ты, братка Новы годзе, што з сабою нам нясеш?* (Цётка. З Новым годам). *Кланяйся, громе, роднаму полю, родны вітай ты мой кут!* (Я. Колас. Першы гром).

Слова *дзед*, якое мае цвёрдую аснову, у клічнай форме заканчваецца галосным **у**, а слова *сокал* — галосным **е** або **ю**.

*«На печ, д з е д у!» — крычаць унукі* (Ц ё т к а. Лета). *А скажы мне, д з е д у любы, чаму так на свеце стала, што адным даецца мала, а другому — аж да губы?* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Што ты робіш, д з е д у, што ты надумаўся?* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Я, д з е д у, што хочаш змайструю* (там жа). *Пакінь ў хаце свой начлег, устань са сну, с а к о л е!* (Я. К у п а л а. На полі тае). *Ох, с а к о л ю, непрымецен, ды вялік жаночы труд!* (Я. К о л а с. Батрак). *Эх, мой голубе-с а к о л ю! Многа баек ёсць на свеце* (там жа).

Назоўнікі з асновай на **р, ц** заканчваюцца ў клічнай форме галосным **у**, а назоўнікі з асновай на **ж** — галосным **а** або **у**.

*На твой зоў магутны цеснай грамадою хутка ўсе збяруцца... Не праспі, з в а н á р у!* (Ц. Г а р т н ы. Званар). *Вось гэты заклён з загаворамі ты, в е т р у, мой шчыры дружача, дамчы к маёй мілай* (Я. К у п а л а. Ночцы). *Здалёк мы, пане г а с п а д а р у* (Я. К о л а с. Новая зямля). *А не дарага будзе, васпане м а й с т р у?* (Я. К о л а с. Называецца — зарабіў). *Я ўважаю так, пане Д а ў н а р у: за свіронак сем пудоў, калі на жыта лічыць, і за паветку пяць* (там жа). *Вучыся, н я б о ж а, вучэнне паможа змагацца з нядоляй, з няволяй* (Я. К у п а л а. Вучыся...). *Ты ж чаго глядзеў? дзе быў? В у ж у, гадзе шальмаваны, лепш цябе б ён задушыў!* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

Словы *хлопец, маладзец, старац* і інш., якія маюць аснову на зычны **ц**, у клічнай форме заканчваюцца галосным **а** з заменай канцавога **ц** на **ч**.

*Зайграй, зайграй, х л о п ч а малы, і ў скрыпачкі і ў цымбалы* (П. Б а х р ы м. Зайграй, зайграй...). *Грай жа, х л о п ч а, і старога ты хоць раз успамяні, бо мне жыць, браток, нямнога: мае злічаны ўжо дні* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Ну, заходзь, м а л о й ч а* (там жа). *Памаліся, с т а р ч а, за дабро, за збожжа* (Я. К у п а л а. Памаліся...). *Яго «бацькам» ахрысціла памятна Украіна. Эх! і нам будзь бацькам мілым, у к р а і н ч а слаўны!* (Я. Купала. Памяці Шаўчэнкі).

Назоўнікі з асновай на **к** у клічнай форме звычайна заканчваюцца галосным **у**.

*Скажаш, напэўна, добры ч ы т а л ь н і к у: смутная песня твая, брат, пясняр! Ці ты не мог бы, рыфмаў с к л а д а л ь н і к у, з дум сваіх лепшы зрабіць для нас дар?* (Я. К у п а л а. Дапевак). *Ты, с ы н к у, яшчэ малы зусім* (К. Ч о р н ы. На варце). *А ты, х л о п ч ы к у, музыка?* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *А ты хто ж такі, к а х а н к у?* (там жа). *Скажы, п а н о ч к у, як далёка зямельны банк?* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Грай, д у д а р ы к у, грай, а ты, муха, выцінай!* (там жа).

Калі ж заднеязычныя асновы **г, к** чаргуюцца з шыпячымі **ж, ч,** то ў клічнай форме такія назоўнікі заканчваюцца галосным **а**.

*Хай па-твойму будзе, д р у ж а, — жалю мець не буду* (Я. К у п а л а. Уступ да паэмы). *Слухай, д р у ж а, і вучыся* (Я. К о л а с. Пад Новы год). *Кінь ты жарты, ч а л а в е ч а, бо тут жарты недарэчы* (Я. К о л а с. Як Янка забагацеў). *Што ты, ч а л а в е ч а, ды я ж гэта для смеху кажу!* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Вось пакуль што, мой б я д а ч а, дудку дам табе я ў дар* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Засні, мой хлопча-н е б а р а ч а!* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Ты ляці, ляці, саколе, здабываць радзіме волю, у бой ляці, к а з а ч а* (К. Б у й л а. Расстанне).

Назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** у клічнай форме звычайна заканчваюцца галосным **ю**.

*В у ч ы ц е л ю, у гэтай старонцы ёсць людзі, каторым няма чаго есці* (М. Б а г д а н о в і ч. Апокрыф). *Гой ты, к о н ю, гой ты, жук рагаты! Ускарміў я, жук, цябе мятліцай, успаіў я, жук, цябе расою* (М. Б а г д а н о в і ч. Смерць шэршня). *А на чым стаіш, я г а м о с ц ю?* (Я. К о л а с. Малады дубок). *Мой дружа, Ч э с ю, верны дружа мой, не раз, бывала,*

*марыў ты са мной аб людскай долі, аб сапраўднай волі, узятай пралетарамі ў баях* (А. Зарыцкі. Пяцёра). *Я с ю мой, з вайны вяртацца час* (там жа). *Г а ю мой, г а ю, г а ю зялёны, што ж ты не йграеш?* (К. Буйла. Гай). *Усё ў табе, мой родны к р а ю, апавіта горам* (Я. Колас. Родныя песні). *Здольны ж ты, мой д а б р а д з е ю!* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Некаторыя назоўнікі з асновай на **j** у клічнай форме зрэдку заканчваюцца галосным **е**.

*Пануй, М і к а л а е, часіна такая, трымайся прастола, а будзе вас гола* (Я. Колас. Малебен).

Слова *князь*, якое мае мяккую аснову, у клічнай форме заканчваецца галосным **а**, пры гэтым канцавы мяккі зычны асновы чаргуецца з шыпячым **ж**.

*Бачыш, к н я ж а, загоны, лясы, сенажаць, — ім пакорны я толькі з гуслямі, сілен, к н я ж а, караць, галаву сілен зняць, — не скуеш толькі дум ланцугамі* (Я. Купала. Курган).

§ 61. Назоўнікі мужчынскага роду I скланення ў родным склоне адзіночнага ліку незалежна ад характару асновы маюць канчатак **-а(-я)** або **-у(-ю)**.

Адрозненні ў формах роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду абумоўлены лексічнымі значэннямі розных разрадаў назоўнікаў, інакш кажучы, іх адносінамі да катэгорый канкрэтнасці-абстрактнасці, а таксама да катэгорый рэчыўнасці і зборнасці.

У кожным з гэтых лексіка-граматычных разрадаў назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове замацавалася больш ці менш сталае ўжыванне адных і другіх форм.

Канчатак **-а(-я)** маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) асоб і істот: *чалавека, агранома, Міхаіла, каня, ільва, тыгра, вала, дразда, салаўя, чмяля;*

б) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія паддаюцца лічэнню: *стала, нажа, пня, плуга, мяшка, кажуха, хлява, ручая;*

в) грамадскія арганізацыі, прадпрыемствы, установы: *прафсаюза, заўкома, кааператыва, калгаса, саўгаса, завода, трэста, гаркома, райсавета, фінаддзела, дзетсада;*

г) геаграфічныя і астранамічныя паняцці, населеныя пункты, мясцовасці і г. д.: *горада, райцэнтра, Мінска, Капыля, узгорка, бугра, парога, Дняпра,Ківача, Везувія, Месяца, Марса;*

д) пэўныя прамежкі часу, меры вагі, грашовыя адзінкі: *года, квартала, сезона, сеанса, мая, чэрвеня, лістапада, панядзелка, чацвярга, метра, кіламетра, вольта, ампера, літра, стога, кілаграма, пуда, рубля, долара, франка;*

е) часткі цела чалавека або жывёл: *носа, рота, хваста.*

З а ў в а г а. Сярод назоўнікаў, якія абазначаюць часткі цела чалавека, выключэнне складае слова *твар*, якое ў родным склоне адзіночнага ліку мае канчатак **-у**. *Крой прыліла да т в а р у* (П. Галавач. Кара). *Але выраз т в а р у Петруся казаў за тое, што гарматы не вельмі далёка* (Я. Колас. Дачакаўся). *Чалавек не азіраўся, і т в а р у яго Сяргей Пятровіч не ўбачыў* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

ж) Некаторыя канкрэтныя паняцці: *перпендыкуляра, катэта, радыуса, квадрата, ромба, бінома, лагарыфма, радыкала, двухчлена, кораня, дзейніка, назоўніка, дзеяслова, суфікса.*

З а ў в а г а. Словы *твор, сказ* (грам.), якія маюць у сучаснай літаратурнай мове канчатак **-а**, у мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя ўжываліся часам з канчаткам **-у**.

*Рытмічная пабудова с к а з у часам амаль пераходзіць у інтанацыю верша* (П. Галавач. Ці патрэбна нам навела?). *Я разумеў, што гэта патрабуе ад мяне — камуніста-пісьменніка — хутчэйшага напісання т в о р у, які дапамагаў бы партыі ў справе калектывізацыі* (П. Галавач. Як была напісана аповесць «Спалох на загонах»).

З канчаткам **-у(-ю)** ужываюцца наступныя асноўныя разрады назоўнікаў:

1. Абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць:

а) абстрактна-разумовыя паняцці або адцягненыя якасці, прыметы, уласцівасці: *прагрэсу, ідэалу, крызісу, застою, погляду, прынцыпу, характару, метаду, канфлікту, матыву, поваду, абавязку, запавету, этыкету, гонару, задору, гумару, аўтарытэту, розуму, сэнсу, густу, вопыту, узору, хаосу, звычаю, лёсу, кампрамісу, эфекту, прагнозу, гіпнозу, канфузу, трагізму, подзвігу, гераізму, патрыятызму, кантрасту, нюансу, тэмбру, колеру, сорту, блакіту, румянцу, спрыту, цяжару.*

б) Працэсы, дзеянні, стан, розныя адчуванні, пачуцці: *загаду, уздыму, ходу, выводу, доваду, даходу, выезду, аб'езду, нападу, абстрэлу, адказу, запалу, капрызу, ухілу, звону, гоману, шуму, штурму, пад'ёму, поступу, адпору, удару, разбору, прымусу, даносу, подпісу, пратэсту, жарту, гнёту, умалоту, звароту, старту, лёту, заклiку, ратунку, бегу, руху, вывіху, смеху, шолаху, торгу, позірку, ускрыку, рову, прарыву, адрыву, спеву, бою, спакою, адпачынку, сну, кашлю, болю, перапалоху, смутку, гневу, смаку, сораму.* Назоўнікі гэтай групы ў большасці выпадкаў з'яўляюцца аддзеяслоўнымі па ўтварэнню.

в) Напрамкі ў прасторы, месца, форму, памер, час і інш.: *з усходу, з захаду* (але: *з поўдня), стэпу, лугу, выгану, узлеску, краю, шляху, ускраю, краявіду, гарызонту, абрысу, складу, склону, схілу, нахілу, тылу, спаду, нізу, верху, кругу, свету, прастору, грунту, віру, строю, кроку, шагу, аб'ёму, памеру, узросту, калібру, мінімуму, максімуму, комплексу, эквіваленту, тэрміну, часу, антракту, моманту, перапынку, пачатку, веку.*

Заўвага. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры (асабліва першай палавіны XX стагоддзя) пры абазначэнні прасторавых адносін, месца дзеяння ці напрамку руху з канчаткам **-у** ўжываюцца таксама назоўнікі з канкрэтным значэннем: *(каля) мосту, берагу, парогу, ганку, узгорку, агароду, скверу, плоту, тыну, паркану, частаколу, тратуару, дому, палацу, даху, паверху, Мінску, гораду, пасёлку, стогу, рогу, пляцу* і інш.

*Ён недалёка ад берагу бліснуў залатой луской і знік пад шырокім лісцем лілей* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *У бок ад узгорку туліліся да яго знаёмыя стрэхі* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Цыбуля з агароду была свая, а ў дзежцы стаяла яшчэ крыху мукі* (К. Чорны. Дарагуся). *Агародамі выйшлі яны на выган і павярнулі па сцежачцы, што ішла каля плоту* (Я. Колас. Дачакаўся). *Музыка, песні чутны з палацу* (Я. Купала. Для куска хлеба). *Ён падышоў пад гумно, нагроб з стогу аўсянай саломы, ператрос на таку з сенам і занёс каровам* (К. Чорны. Зямля). *Ён гэтым летам ажаніўся, прывёз жонку з Мінску* (там жа).

Форму на **-у(-ю)** заўсёды маюць у гэтым значэнні і такія словы, як *пункт, рынак, кірмаш, фронт, тыл* і інш.

*Быў у Марынкі дзядзька родны, і вось калі прыйшоў загад з-пад фронту бегчы ў свет халодны, то дзядзька, меншы бацькаў брат, падбіў Марынку ехаць зімі і разам жыць з яго сям'ёй* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Зрабіўшы даволі вялікі абход, прабіраючыся глухімі мясцінамі, Палазок падкраўся да ўзгорка з тылу* (Я. Колас. Санітарка Таня). *Выган каля ссыпнога пункту пачаў патроху пусцець* (К. Чорны. Максімка). *І не адзін раз, бывала, у нядзельку вечарам, калі бацькі вернуцца з рынку і накупляюць сваім дзеткам і абновак і ўсялякіх гасцінцаў, з зайздрасцю пазіраў Юрка на радасць сваіх таварышаў* (Я. Колас. Сірата-Юрка).

г) Грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя і навуковыя плыні, навуковыя тэорыі і інш.: *капіталізму, феадалізму, матэрыялізму, дарвінізму, рэалізму, прагматызму, рэлятывізму, фаталізму, меркантылізму, фармалізму, футурызму, рамантызму, класіцызму* і інш. Выключэнне з гэтай групы слоў складаюць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм,* якія па традыцыі ўжываюцца з канчаткам **-а** *(камунізма, сацыялізма, марксізма, ленінізма).*

д) З'явы прыроды, стыхійныя падзеі, бедствы: *грому, дажджу, ветру, віхру, граду, смерчу, шторму, сухавею, патоку, прыліву, адліву, марозу, холаду, галалёду, змроку, золаку, світанку, досвітку, пажару* і інш.

Заўвага. Ужыванне ў мастацкіх творах і публіцыстыцы першай палавіны XX стагоддзя назоўнікаў разгледжаных вышэй груп з канчаткам **-а** ў родным склоне адзіночнага ліку не з'яўляецца літаратурнай нормай у наш час.



4. Зак. 802

*Навелы Сервантэса з'яўляюцца творамі вечна жывымі дзякуючы незвычайнай сіле іхняга* р э а л і з м а, *точнасці і шырыні паказу, праўдзівасці характару* (П. Г а л а в а ч. Ці патрэбна нам навела?). *Паркалёвая падушка была ў яго пад галавою, а ў падушцы мята і чабор — адзіны дар, які адно і магла прынесці сястра яго ў гадзіну найвялікшага* т р а г і з м а *брата свайго* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Калі ў нас сталі набіраць брыгаду на штурм* п р а р ы в а, *я папрасіўся, каб мяне туды паслалі* (П. Г а л а в а ч. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Пакаленне за пакаленнем прыходзіла, вырастала і адыходзіла ў нябыт, а бурная рэчка не змяняла свайго неспакойнага* н о р а в а (там жа). *Ветрам усходнім хай панясецца іскра святога* п а ж а р а (М. Ч а р о т. Песня свабоды).

2. Рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць разнастайныя рэчывы, матэрыялы, у тым ліку хімічныя элементы і злучэнні: *цукру, перцу, мёду, воску, вінаграду, шакаладу, сыру, маргарыну, крухмалу, квасу, чаю, сідру, соку, кактэйлю, ільну, гароху, ячменю, тытуню, хрэну, даўгунцу, соладу, пяску, пылу, дыму, попелу, шлаку, гравію, жвіру, глею, сланцу, мурагу, пуху, снегу, лёду, дроту, металу, шыферу, бастону, корту, бобрыку, паркалю, аксаміту, мармуру, чыгуну, цэменту, свінцу, толу, пораху, торфу, гною, нашатыру, лаку, крэму, вугалю, дзёгцю, клею, гіпсу, спірту, бензіну, кіслароду, азоту, цынку* і інш.

Канчатак -у маюць таксама тыя назоўнікі гэтай групы, якія ўжываюцца з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі **-к-, -ак-, -ок-**: *сырку, кваску, гарошку, вугальку, пясочку, жвірку, дымку* і інш.

З а ў в а г а 1. Словы *хлеб, авёс*, хоць і абазначаюць рэчывы, аднак ужываюцца толькі з канчаткам **-а** *(хлеба, аўса)*.

*Паснедаўшы на скорую руку і ўзяўшы ў адну кішэню лусту* х л е б а, *у другую жмень тры гароху, Міхась памкнуўся ўжо ісці* (Я. К о л а с. Школа). *Апошнія бабкі жыта і* а ў с а *ўжо звезены з калгасных прасторных палёў* (Я. К о л а с. Макарка Навак).

З а ў в а г а 2. Назоўнікі *бук, вяз, дуб, какос, клён, ясень* і іншыя, калі яны з'яўляюцца рэчыўна-зборнымі, г. зн. абазначаюць аднародную масу рэчыва (драўніну), заўсёды ўжываюцца з канчаткам **-у**; калі ж гэтымі назоўнікамі абазначаюцца канкрэтныя асобныя дрэвы, ужываецца канчатак **-а**.

*Прывёзшы дахаты шэсць кавалкаў* д у б у, *Андрэй да часу паскідаў іх на старану, дзе ляжалі яшчэ немалочанае жыта і салома* (Я. К о л а с. Малады дубок). *Раман Шулядзяк толькі што адпрог з плуга каня і пусціў яго папасвіцца ў маладым дубняку над ярам, а сам разлёгся пад ценем развіслага* д у б а (Я. К о л а с. Дачакаўся).

3. Назоўнікі са зборным значэннем: *натоўпу, народу, гурту, калектыву, актыву, пралетарыяту, канвою, абозу, флоту, скарбу, набытку, капіталу, тавару, інвентару, бору, лесу, гаю, парку, яру, дзірвану, шчакету, гушчару, чароту, лопуху, рамонку, хмызняку, лазняку, беразняку, бульбяніку, пырніку, мурашніку, крушынніку, алешніку, хвойніку, арэшніку, ельніку* і інш.

З а ў в а г а 1. У мове мастацкай літаратуры некаторыя зборныя назоўнікі ўжываліся (асабліва ў першай палавіне XX стагоддзя) з канчаткам **-а**, які ў гэтым разрадзе слоў для нашага часу не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*У хваляванні мора, у калыханні* б о р а — *многае мне міла, многае мне блізка* (Ц. Г а р т н ы. Мая стыхія). *Сцяпанавіч і камсамольцы з самага пачатку адчулі, што на іх устанавілася несупынная ўвага ўсяго* к а л е к т ы в а (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *Салдаты* [фашысты], *што стралялі ў чалавека, далучыліся да* к а н в о я (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Алесь стаяў каля* ч а с т а к о л а, *прыглядаўся* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

З а ў в а г а 2. Назоўнік *народ* пры ўжыванні яго з колькаснымі словамі *(многа, мала)* мае канчатак **-у**, а ў іншых выпадках — канчатак **-а**.

*Перад кардонам сабралася* м н о г а н а р о д у (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ён прагнуў самастойнай дзейнасці ў гушчы* н а р о д а (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

4. З канчаткам **-у(-ю)** ужываецца значная колькасць назоўнікаў у складзе ўстойлівых выразаў: *да часу, з году ў год, час ад часу, без году тыдзень, век ад веку, з поваду і без поваду, ні роду ні племені, з краю ў край, збіцца з тропу, збіцца з тону, збіцца з голасу, збіць з панталыку, збіць з толку, звесці са свету, звесці з розуму, з'ехаць з глузду, выйсці са строю, задаць перцу, задаць дыхту, паддаць жару, нагнаць жаху, даць дзёру, не даць маху, не пакінуць і следу, не даваць праходу, не даць ходу, не даваць спуску, не падаць выгляду, прыйсці да вываду,*

*скакаць да сёмага поту, не бачыць свету, пабачыць свету, не відаць і прасвету, пункт погляду, з першага погляду, не да твару, не да густу, няма адбою, без упынку, да ўпаду, з разгону.*

*Білі вакол перуны без упынку, ўвесь небасхіл то палаў, то чарнеў* (М. Багдановіч. З Олеся). *Паўтаралася* [гэта слова] *з любога поваду і без поваду* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Чараніцкі вось толькі нядаўна сышоў з поезда, збіты з толку і з тропу сваім падарожжам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Такое запытанне на адну хвіліну збіла яго з панталыку* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Ты што гэта, з глузду з'ехаў?* (К. Чорны. Зямля). *Праўда, партызаны пасля такога перцу задалі панам, ажно горача і моташна ім стала* (З. Бядуля. Салавей). *Сілівону Лагуцьку было больш за семдзесят, але здавалася, што гады прайшлі над ім, не пакінуўшы ні следу, ні знаку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Цяжка сказаць, што было ў яго на душы, а выгляду не падаў* (А. Кулакоўскі. Не выбралі). *Скакалі да сёмага поту* (К. Чорны. Зямля). *І драпнуў Вараны ў паплавы з пуду, аж зямля застагнала* (К. Чорны. Забойства).

§ 62. У давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-у**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j**— канчатак **-ю.**

*Вітанне вялікаму часу* (П. Броўка. Сёння слова бяру). *Мы ж, узняўшы ўсе кубкі, сказалі Тарасу: «Ты заслужаны ў нас чалавек, табе сотня гадоў»* (П. Броўка. Дзед Тарас). *Той, вядома, нічога не ведаў і не вінен, але Баляславу патрэбен ён быў за сведку* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Гэй! на змену байцу-камсамолу, піянер, будзь заўсёды гатоў!* (П. Трус. Расамахаю ночка ліпнёвая...). *І насупор дажджу і ветру вялі прасторныя шляхі цераз балоты, цераз нетры, цераз пяскі пустынь сухіх* (П. Глебка. Дужасць). *Не сабака страшны воўку, а яго звяга* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *Шоўк травы сытым статкам калгасным прымят,— пастуху тут прасторна і весела* (П. Панчанка. Я іду...). *Насустрач дню азяблыя асіны працягваюць вільготныя лісты* (П. Панчанка. Апошні хутаранін). *Кнігі ўсе былі незнаёмыя і малазнаёмыя Ігнасю* (Р. Мурашка. Сын). *Толькі вы, сябры, не верце супакою, бо заходні пахне вецер чадам боек* (П. Панчанка. Пагранічча).

§ 63. У вінавальным склоне адзіночнага ліку неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду маюць нулявы канчатак (як і ў назоўным склоне). Адушаўлёныя назоўнікі маюць канчатак **-а(-я)** (як і ў родным склоне).

*Самалёт набліжаўся, гул перайшоў у рэзкі рокат* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Першамай! Сёння горад і вёска апранулі святочны убор, і людскія патокі-усплёскі заліваюць шырокі прастор* (П. Глебка. Маёва-піянерскае). *Гулкі заклік да працы кідаюць гудкі* (А. Астрэйка. Раніца на аўтазаводзе). *А па хвалях белы месяц скача і крышталь ссыпае на лазу* (А. Астрэйка. На палянцы). *Гапа прыйшла ў радасны настрой* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях).

*Бародзіч прывёз навіну пра Гаруса* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Усё начальства паднялося на ногі. Паклікалі паліцмейстара, спраўніка, земскага начальніка, прыстава, казацкага афіцэра* (Я. Колас. Бунт). *У воласці я застаў пісара і яго памочніка* (Я. Колас. Выбар старшыні). *Кастусь Цыбук у чатырнаццатым годзе мядзведзя забіў* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *«Што з ім?» — з трывогай за Сяргея спытаў ён вартаўніка* (І. Шамякін. Крыніцы).

§ 64. У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** пад націскам маюць канчатак **-ом,** не пад націскам — **-ам**. Назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** пад націскам маюць канчатак **-ём,** не пад націскам — **-ем.**

*Асвяціўся прасторны пакой са сталом пасярэдзіне, пакрытым саматканым абрусам* (П. Пестрак. Першыя ўсходы). *Мікола, які да ўступлення ў калгас быў гаспадаром буланага каня, адчуваў сябе крыху абражаным* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Да пляца ідуць калоны за аркестрам* (П. Панчанка. Гарніст іграе збор). *Калі быў я такім, як яны, юнаком, я не марыў хіба будаваць гэты дом?* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *Расой, як жэмчугам, акроплены муроґ, гарыць зары малінавая стужка* (П. Панчанка. Нараджэнне дня). *Быў той дзень апошнім днём перамеру зямлі* (К. Чорны. Зямля). *Яно было яшчэ глыбока за пушчай, таму што над грэбенем лесу яшчэ ўсё нясмела займалася сапраўдная зара ўсходу* (Я. Брыль. Адзін дзень). *З цемры вынырнула высокая постаць з кіем у руцэ, у доўгай старой куртцы* (П. Пестрак. На світанні).

Заўвага 1. Прозвішчы на **-ін(-ын), -аў(-оў), -еў(-ёў)** у творным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-ым**: *Шамякіным, Лужаніным, Салаўёвым, Куляшовым.*

*Крамарчык прысеў побач з Турчыным* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Шчарбіна пабег за цягачом, а мы з Быстровым і лейтэнантам засталіся пры машыне* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *І тады адчуў Алёша, што між ім і Строніным — бяздонне* (К. Чорны. Бяздонне). *Ліберальнічаў ён цяпер і з Рудзіным* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Праз нейкі час мы знойку ідзём угору і там знаёмімся з інжынерам Ананневым* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

Іншамоўныя прозвішчы на **-ін(-ын), -аў(-оў)** скланяюцца, як і агульныя назоўнікі, і маюць у творным склоне адзіночнага ліку канчатак **-ам**: *Дарвінам, Чаплінам, Годвінам, Вірхавам, Франклінам, Бёклінам.*

Заўвага 2. Ад уласных прозвішчаў на **-ін(-ын), -аў(-оў), -еў(-ёў)** трэба адрозніваць геаграфічныя назвы на **-ін(-ын), -аў(-оў), -еў(-ёў),** якія ў творным склоне адзіночнага ліку маюць такі ж канчатак, як і агульныя назоўнікі, — **-ам**: *(пад) Жлобінам, Кобрынам, Столінам, Барысавам, Шкловам, Магілёвам, Гур'евам.*

*Нямала ўжо ў небе яна для людзей зрабіла карыснай работы, напрыклад, пад Крычавам стомленых жней схавала ў свой цень ад спякоты* (А. Куляшоў. Магілёўская хмарка). *Мы адказалі: «Біта! Пад Растовам і пад Масквой...» Цяпер мы прымусім бандыта расплаціцца сваёй галавой* (К. Крапіва. Апошняя стаўка Гітлера).

§ 65. У месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду ў залежнасці ад характару асновы і значэння могуць мець канчаткі **-е, -у, -ю, -ы, -і.**

1. Канчатак **-е** ўжываецца ў большасці назоўнікаў з цвёрдай асновай і асновай на **ў**, а таксама ў некаторых назоўніках з асновай на **г, х;** пры гэтым цвёрдыя зычныя асновы чаргуюцца з мяккімі, а заднеязычныя **г, х** — са свісцячымі **з, с:** *(аб, на) дубе, марозе, раёне, насыпе, голасе, змесце, востраве, рукаве, поплаве, разліве; беразе, парозе, версе, начлезе, плузе, лузе.*

*Дзейнічалі ў блізкім тыле* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пазванілі па тэлефоне* (там жа). *Яны спыняюцца ў цёмным куце* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *На небасхіле не відаць было ніводнага праменьчыка* (П. Кавалёў. Непагадзь). *На поплаве пасвіўся статак калгасных кароў. На ілбе выступіў пот* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Па аэрадроме імчала аўто* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *Сержант сказаў, што да вайны служыў у Брэсце* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

*На парозе з'явіўся Крамарчык* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Доўга хадзіў ляснік па беразе* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Было гэта на начлезе* (Я. Колас. На начлезе). *Аднойчы ў плузе на раллі жывёлы спрэчку завялі* (К. Крапіва. Стары і

малады). *Ад самага ранку касіў Паўлюк у пана н а  л у з е* (Я. К о л а с. Паўлюковы думкі). *Кірылкавы думкі разагнаў звонкі рогат н а другім п а в е р с е млына* (К. Ч о р н ы. Мельнікі). *І не было н а к а ж у с е ні аднаго жывога месца: так застракацілі яго белыя і чорныя ніткі і так патыкала яго іголка* (Я. К о л а с. Кажух старога Анісіма).

З а ў в а г а 1. У літаратурнай мове першай палавіны XX стагоддзя назоўнікі з цвёрдай асновай і асновай на **г**, **х** іншы раз ужываліся з канчаткам **-у**, які ў наш час у гэтай групе назоўнікаў не з'яўляецца нормай.

*Сувязь са мной — увесь час п а т э л е ф о н у* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Хутка машына імчала п а а э р а д р о м у, і ўсе бачылі біскупскія гербы* (Э. С а м у й л ё н а к. Урачыстая меса). *Партком знаходзіўся н а другім п а в е р х у клуба будаўнікоў* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казе мата).

Аднак некаторыя з такіх назоўнікаў у несвабодных (звязаных) канструкцыях, асабліва ў выпадках ужывання іх з прыназоўнікам **па**, маюць як норму канчатак **-у**.

*Бабруйскі кацёл не быў яшчэ ліквідаваны, і таму паехалі п а м а р ш р у т у Гомель — Магілёў — Орша — Мінск* (У. К а р п а ў. За годам год). *І мы, што змагаліся мужна, рупліва, засеем загоны таксама з'яднана і дружна, п а тым жа адвечным з а к о н у* (П. Б р о ў к а. Давайце рамоўкі наладзім).

З а ў в а г а 2. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры дапускаецца ўжыванне канчатка **-у** пад націскам.

*У т ы л у быў і на фронце ў сваёй вось тут старонцы* (К. К р а п і в а. Шкірута). *Куніцкі ў к у т у асцярожна, нібы не жадаючы трывожыць Сцяпанавіча, кашлянуў* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казе мата). *Н а л у г у касцы сышліся летняй роснай раніцою, бачаць, аж Сымон з'явіўся ды з даўжэзнаю касою!* (П. Б р о ў к а. Сымонка). *Напроці касцёла чалавек у к а ж у х у і добрых ботах, у шапцы з паламаным папалам казырком будзе прадаваць куфры* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Аднаго разу марознай раніцай брыў Лайрэн п а сыпкім с н я г у на шырокіх лыжах-снегаступах* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце).

Аднак назоўнік *пост* мае ў месным склоне адзіночнага ліку як норму канчатак -у.

*Шура стаяў н а сваім п а с т у за апошнім будынкам вёсачкі* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень).

З а ў в а г а 3. Іншы раз ужыванне ў месным склоне адзіночнага ліку канчатка **-е** або **-у** абумоўлена сэнсавымі адценнямі назоўніка. Параўн.: *на вугле зруба* і *на вуглу вуліцы.*

*Шырокі двор н а в у г л у пятай ад канца горада вуліцы ажывае* (К. Ч о р н ы. Бяздонне).

2. Канчатак **-у(-ю)** у месным склоне адзіночнага ліку маюць наступныя катэгорыі назоўнікаў мужчынскага роду:

а) агульныя асабовыя назоўнікі незалежна ад характару асноў: *(аб, пры) брату, сыну, трактарысту, паэту, салдату, гаспадару, мужу, байцу, кавалю, ратаю, будаўніку, конюху, металургу, камсоргу, археолагу, лексіколагу, драматургу.*

*Ганна жыла п р ы б р а т у* (К. Ч о р н ы. Радасць жанчыны). *Ў кут забілася і плача, каб не зналі людзі яе гора і трывогі і жальбы п а с ы н у* (Я. К о л а с. Перад судом). *Заплаканыя вочы прасілі гутаркі а б с ы н у* (Ц. Г а р т н ы. На перагібе). *У сваіх успамінах а б п а э т у нельга абмінуць нашых сустрэч на яго дачы ў Ляўках на Аршаншчыне* (Я. К о л а с. Янка Купала). *З твару спаўзлі маршчыны... Вытрас люльку, аб ногаць пастукаў... Успомніў а б к а м с а м о л ь ц у с ы н у, што ў лапцях у горад паблукаў* (М. Ч а р о т. Беларусь лапцюжная). Параўн. таксама назву верша Я. Купалы: *Гутарка а б кепскім г а с п а д а р у.*

З а ў в а г а. Ужыванне канчатка **-е** ў агульных асабовых назоўніках з цвёрдай асновай, канчатка **-ы** ў назоўніках з асновай на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і канчатка **-і** ў назоўніках з мяккай асновай і асновай на **j** не лічыцца сучаснай літаратурнай нормай, хоць у мастацкай літаратуры такія выпадкі і сустракаюцца.

*Ён проста такі нудзеў п а с ы н е* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Не спытае Даўбніцкі цяпер у яе ні а б б р а ц е сваім, ні аб іншым аб чым* (А. К у л [illegible] ш о ў. Грозная пушча). *Яны марылі аб доме, як старасвецкая паненка а б р ы ц а р ы на белым кані* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *«Вось што, браце, — пачаў, памаўчаўшы,ураднік голасам начальства: — зайтра ты паедзеш у Галадранку і навядзеш дакладныя спраўкі а б гэтым р э в а л ю ц ы я н е р ы»* (Я. К о л а с. Соцкі падвёў). *Судзіўся я п р ы ц а р ы. А ўсё, што было п р ы ц а р ы, цяпер скасавана* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»).

б) Уласныя імёны і прозвішчы на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц**, на мяккія зычныя, на **j** і на **г, к, х**: *(аб) Аляксандру, Мележу, Олдрыджу, Лукашу, Ярмошу, Багдановічу, Макуцю, Васілю, Тайлаю, Алегу, Фучыку, Цімоху.*

*Такія бароды насілі міністры пры цару Аляксандру Другім* (Я. Колас. На ростанях). *Чорны сум па Адасю пачаў душыць Леапольда Гушку* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Грукаючы па мёрзлай ягичэ зямлі тоўстымі дзеравянымі падэшвамі чаравікаў, яна ішла паволі і, гледзячы на шырокае панскае поле, засеянае летась мужыкамі, думала аб Андрэю на з'ездзе Саветаў і ціха ўсміхалася сваёй задумёнаю добраю жаночаю ўсмешкаю* (К. Чорны. Андрэй Клыга). *Аб Цімоху Крайчуку, выдатным калгасным пастуху, добрая слава ходзіць у сяле* (з газет).

Заўвага. Ужыванне канчатка **-ы** ў імёнах і прозвішчах на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і канчатка **-і** ў імёнах і прозвішчах на мяккія зычныя і **j** не з'яўляецца сучаснай літаратурнай нормай. Такія выпадкі сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры 20—30-х гадоў XX стагоддзя.

*Пярэчыць усё ж не захацела і, запёршыся ў сваім пакоіку, аддалася ўспамінам аб Рыгоры* (Ц. Гартны. На перагібе).

Уласныя імёны і прозвішчы на цвёрды зычны і на **ў** у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-е**: *(аб) Глебе, Максіме, Астапе, Тарасе, Ігнаце, Коласе, Куляшове, Калумбе, Чароце.*

*Цяпер, значыць, дзядзька Язэп думае толькі аб Міхале* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Мы так, як ніколі раней, гаварылі аб Міхале* (там жа). *Ужо Мікола быў тры разы на Сымоне і тры разы пад Сымонам, а бой усё ідзе* (Я. Колас. Дзяліцьба). *Што выведаў ты аб Кандраце?* (Я. Колас. Адплата).

в) Некаторыя канкрэтныя назоўнікі з асновай на **г, х**: *(аб) логу, мозгу, сцягу, мурагу, пірагу, тварагу, сельмагу, каўчэгу, даху, арэху, абуху, мяху, лемеху, моху, лопуху, чортапалоху, пораху, пуху, цэху, шляху.*

*Потым ён сеў у крэсла за сталом і прызвычаеным жэстам адшукаў на рагу стала каробку папярос і паверх яе — запалкі* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Вось і дом на рагу* (Н. Гілевіч. Першы снег). *На даху цэнтральны пост* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казёмата). *Яна пераначавала ў блізкай вёсцы пры шляху і вярнулася назад* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Ён нават разгортвацца не хацеў: як палажылі яго ў кутку, пад маім ложкам, так і ляжаў. Не на голай падлозе, а на імху* (Я. Брыль. Шчасце маленства).

г) Абстрактныя назоўнікі на **г, х**: *(аб) бегу, забегу, збегу, вывіху, выдыху, граху, дойгу, выбуху, подзвігу, падлогу, працягу, замаху, размаху, узмаху, промаху, поспеху, подыху, перапалоху, спалоху, нюху, паху, руху, зруху, смеху, спеху, страху, шолаху, уздыху, торгу, шагу, слыху, мігу* і інш.

*Калі Мішу не давалі лыж, ён арганізоўваў спаборніцтва ў бегу — ад аднаго тэлефоннага слупа да другога* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Трывожная ціш ляжала на ўсім працягу лініі фронта* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). *Каля гумён, на мурожнай траве, сядзелі паляўнічыя ў кругу, было іх больш за сотню чалавек* (М. Танк. Янук Сяліба).

Заўвага. У мастацкіх творах некаторыя з названых назоўнікаў сустракаюцца часам з канчаткам **-е**, які ў гэтай групе слоў з'яўляецца парушэннем сучаснай літаратурнай нормы.

*Смяяўся пушчар, а ў смесе за ценем цень новы снаваўся* (Я. Купала. З табою...). *А хлопцы проста збіліся з тропу і ў нейкім страсе і ў захопу на дзядзьку-кухара глядзелі, як бы яны аслупянелі* (Я. Колас. Новая зямля). *Сон трывожны ў спёртым дусе не дае спакою* (Я. Колас. Сціхнуў шум на калідоры...). *Вясна ў маладым і нястрыманым русе, а там... нават вецер прыціх у трысці* (А. Александровіч. Пагранічная вясна).

д) Усе назоўнікі мужчынскага роду з асновай на **к**: *(аб) агурку, досвітку, ветраку, пагорку, клумку, абавязку, адвячорку, баравіку, здабытку, пачатку, закутку, змроку, халадку, скрутку, прытулку* і г. д.

*Н а ў з г о р к у завярашчэла цыркулярная піла* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Н а а г а р о д з і к у каля хлява сонца пасерабрыла расу н а а г у р э ч н і к у* (там жа). *На радзіму я ізноў вяртаюся п а шырокім тым жа б а л ь ш а к у* (А. А с т р э й к а. Вятрак).

е) Запазычаныя назоўнікі з асновай на **г, к, х**: *(аб) абшлагу, архіпелагу, альманаху, блюмінгу, бульдогу, брайнінгу, блоку, бруку, друку, дэмпінгу, дыфтонгу, дыялагу, догу, жэмчугу, зігзагу, каталогу, краху, ланцугу, люку, лозунгу, маналогу, мітынгу, пфенігу, пудзінгу, рэйхстагу, рангу, рынгу, саркафагу, стэрлінгу, спінінгу, снайпінгу, фартуху, флагу, флангу, шлангу, штрыху, шаху* (шахм.), *эпілогу.*

*Ён ведаў, у чым справа, і таму на хаду... абмацаў больш слабыя звенні ў л а н ц у г у сваіх довадаў* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *Мікіта Палазок быў н а левым ф л а н г у наступаючай часці* (Я. К о л а с. Санітарка Таня).

ж) Назоўнікі з цвёрдай асновай і асновай на **г, х**, якія ўжываюцца ва ўстойлівых зваротах з прыназоўнікамі **у, на, па**: *на ляту, на раду, у ладу, у хаду, па ходу, на калу, на віду, у кругу, у дайгу.*

*Добры дзесятак драбін н а ж а л е з н ы м х а д у сёлета акаваў, не менш зрабіў новых плугоў, кожнай калгасніцы серп назубіў* (А. К у л а к о ў с к і. Гартаванне). *Усё гэта ўмомант агледзеў і ацаніў сержант, які яшчэ н а х а д у саскочыў з аўто* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *Пішучы пад іх дыктоўку, я н а л я т у адшліфоўваў чужыя фразы* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Кажа Новы год Старому: «Дык спыні шум буры, мо' пляцецца хто дадому, да свае пячуры, каб спаткаць мяне пачэсна, як вядзецца ў родзе, з жонкай, з дзеткамі сумесна, у л а д у і згодзе»* (Я. К о л а с. Пад Новы год). *Жывеш, ліпіш, як н а к а л у ты, і ногі й рукі ўдзеты ў путы* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Гэты неад'емны атрыбут старога сямейнага дабрабыту патрэбен быў п а х о д у п'есы* (М. Л ы н ь к о ў. Салют). *Вечарам застаў я дзеда Мікалая дома ў к р у г у сям'і* (А. Я к і м о в і ч. Коска).

3. Канчатак **-ы** ў месным склоне адзіночнага ліку маюць назоўнікі мужчынскага роду з асновай на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц**, канчатак **-і** — назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j**.

*Лагер размяшчаўся ў сасновым б а р ы* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Н а п л я ц ы ля воласці стаяла група людзей* (П. Г а л а в а ч. Суседзі). *Краіна наша сёння н а вялікім гістарычным р у б я ж ы* (П. Г а л а в а ч. Пра паэму «Над ракою Арэсай» Я. Купалы). *Яшчэ н а тым т ы д н і скончыў сеяць грэчку* (Я. К о л а с. Дзядзькаў сведка). *У в е с т ы б ю л і дыхнула на яго халаднаватым паветрам* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *У пустым, меншым п а к о і, дагарвала ў лямпе газа* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Кулямёт сабе Міша здабыў у б а і* (К. К р а п і в а. Міхаіл Сільніцкі).

З а ў в а г а 1. У першай палавіне XX стагоддзя побач з канчаткамі **-ы, -і** ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі з асновай на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц**, на мяккія зычныя і на **j** сустракаюцца з канчаткам **-у(-ю)**, якія ў наш час у гэтай групе імён не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*У той час, як Міша Піліпоўскі спакойна сядзеў сабе на дубовых лісцях у ляску пад дрэвам, у гарадку п а рыначным п л я ц у конна ехаў вайсковец* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Так у маўчанні і роздуме — роздуме аб сустрэчах і расставаннях, аб дружбе людзей, а б м і р у і вайне — мы зноў выйшлі да мора, якое несціхана і роўна пляскалася ў бераг жывою вясёлай хваляй* (У. К р а ў ч а н к а. Ілонка). *Сяброў, знаёмых і радню абабяжыць ён дзесяць раз н а д н ю* (К. К р а п і в а. Тата-заяц). [Мар'я] *думала а б вялікім д н ю Першага мая — свяце працы і свету* (К. Ч о р н ы. Свята працы і свету).

*У пайночным к р а ю на кургане сасна адзінока стаіць* (М. Б а г д а н о в і ч. У паўночным краю...). *Трэці [сын] згінуў у б а ю за свабоду і зямлю* (Я. К у п а л а. Было ў бацькі тры сыны...).

З а ў в а г а 2. Ужыванне ў месным склоне адзіночнага ліку назоўніка *двор* то з канчаткам **-ы**, то з канчаткам **-э** звязвалася раней з сэнсавымі адрозненнямі паміж гэтымі формамі (*на двары завода*, але: *на дварэ холадна*), што часткова знаходзіць сваё адлюстраванне і ў творах сучаснай літаратуры. Параўн.: *Ён быў н а д в а р ы сваё сядзібы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н а д в а р э даўно сцямнела* (Я. К о л а с. Паўлюкова бяда).

У сучаснай літаратурнай мове незалежна ад сэнсавых адценняў назоўнік *двор* часцей ужываецца з канчаткам **-ы** (па тыпу іншых неадушаўлёных назоўнікаў з асновай на **р**).

*Раз сышліся н а д в а р ы юныя рамеснікі* (А. А с т р э й к а. Размова аб прафесіі). *Сцямнела даўно н а д в а р ы, ды сон не схіліў галавы*, (П. Б р о ў к а. Па дарозе Мінск — Масква).

## *Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду I скланення ў множным ліку*

§ 66. У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі з цвёрдай асновай, з асновай на **ў** і на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** маюць канчатак **-ы**, а назоўнікі з мяккай асновай, з асновай на **j** і на **г, к, х** — канчатак **-і**.

*На дубах спелі ж а л у д ы* (К. Ч о р н ы. Вінгель). *Пушча таіла ў сабе недаступныя астравы, праходы да якіх ведалі нават не ўсе мясцовыя ж ы х а р ы* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень). *Па яе бледнаватым празрыстым твары прабягалі ц е н і цяжкай пакуты* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Р а і ўздужалі маладыя і мёду трохі ванасілі* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Мокры лёд укрываў двор, па якім цяклі р а ў ч у к і снегавой вады* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

З а ў в а г а. У афіцыяльных зваротах, а зрэдку і ў мастацкай літаратуры назоўнік *пан* ужываецца ў назоўным склоне множнага ліку з устарэлым канчаткам **-ове**.

*Паважаныя дамы і п а н о в е!* (з газет). *П а н о в е! час, ой, час збірацца!* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Ну, што, п а н о в е ягамосці: а ці не час ужо і ў госці?* (там жа). *Жыў Сымонка тут надзеяй, і так марыў ён аб тым, што п а н о в е-дабрадзеі ласку будуць мець над ім* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

§ 67. У родным склоне множнага ліку назоўнікі з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** пад націскам маюць канчатак **-оў**, не пад націскам — **-аў**; назоўнікі з мяккай асновай і асновай на **j** маюць пад націсам канчатак **-ёў**, не пад націскам — **-яў**.

*П л ы т о ў крануўся караван* (М. Т а н к. На Волзе). *Не сабе яны толькі агні здабывалі, а для ўсіх ж ы х а р о ў неабдымнай зямлі* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Якім пераможным бывае покліч сірэн і г у д к о ў нашых з а в о д а ў, калі ціхімі яшчэ вуліцамі спяшаюць на голас іх рабочыя дзённых змен* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Смерць героя не прыгнятае жывых, а кліча іх да новых п о д з в і г а ў* (К. К р а п і в а. Проба агнём). *Сама касіла, арала і па-хвацку віталася моцнай, шурпатай а д м а з а л ё ў рукой* (Я. Б р ы л ь. Казачок). *І Марыся ўчула гул далёкі і працяглы, як бы шмат р а ё ў пчаліных ляцела над сажалкай, як бы віхор ішоў над полем* (Э. С а м у й л ё н а к. Дачка эскадрона). *Пераразвон т р а м в а я ў больш не чую. Адпачынак. Скончан доўгі шлях* (П. П а н ч а н к а. У родных месцах).

Некаторыя назоўнікі з гэтымі асновамі (асабліва ў мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя) сустракаюцца таксама з нулявым канчаткам: *партызанаў — партызан, салдатаў — салдат, гадоў — год, разоў — раз, клопатаў — клапот, аршынаў — аршын, кілаграмаў — кілаграм, бацінкаў — бацінак, чаравікаў — чаравік.*

*Твая песня ў бітву водзіць мужных п а р т ы з а н а ў* (А. А с т р э й к а. З песняй Купалы). *Тут мае свой штаб і прыпынак атрад маладых п а р т ы з а н* (Я. К о л а с. Адплата). *Цяпер яму робіцца крыху ясней, чаму сярод с а л д а т а ў пападаліся і такія, на чыіх тварах адбіваўся смутак і гора* (Я. К о л а с. На чыгунцы). *Але вось змоўклі ў лесе с а л д а т галасы, стрэлаў больш не чуваць. Апусцелі лясы* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *І мела яна малога сына — так г а д о ў пяці* (А. Я к і-

мовіч. Удовін сын). *Цяпер ёй можна было даць год дваццаць сем* (К. Чорны. На граніцы). *А яна ўжо некалькі разоў перад гэтым выходзіла маўчком на двор і пазірала на дарогу* (Я. Колас. Калядны вечар). *Некалькі раз у дзень з жалезным грукатам імчаліся ў гэту сінюю шырыню з горада паязды* (К. Чорны. Захар Зынга). *Каму-каму, а Тураўцу было клопатаў больш, чым усім* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мы не зналі галубіным раннем ні трывог, ні гора, ні клапот* (М. Аўрамчык. Галубы). *Сярожа павярнуў з тратуара ўлева і, мільгаючы падэшвамі сваіх новых бацінкаў, пусціўся ўпоперак цераз вуліцу* (Я. Брыль. Светлае ранне). *Зашуршэў жарствяны пясок, зашоргалі дзесяткі бацінак, і ўвесь атрад умомант стаў у стройную калону* (А. Якімовіч. Таямнічы сундучок). *Грукаючы па мёрзлай яшчэ зямлі тоўстымі дзеравянымі падэшвамі чаравікаў, яна ішла паволі* (К. Чорны. Андрэй Клыга). *Мацвей стаяў над дзеравянаю скрынкаю, поўнаю старых чаравік, падэшваў і абрэзкаў* (К. Чорны. Зямля).

З нулявым канчаткам у родным склоне множнага ліку ўжываецца слова *чалавек*, калі яно выступае ў колькасна-іменных спалучэннях тыпу *двух, трох чалавек, пяць чалавек, некалькі чалавек.*

*Групамі па некалькі чалавек байцы дабеглі да горада* (К. Чорны. Вялікі дзень). *А ройна праз дзень у кабінет да старшыні валаснога выканкома зайшла дэлегацыя з пяці чалавек* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Заўвага 1. Назоўнік *госць* у сучаснай літаратурнай мове мае канчатак **-ей.**

*Гасцей было чалавек дзесяць* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *Шмат сабралася ў яго гасцей* (А. Якімовіч. Прагны багацей).

Аб склонавых формах назоўніка жаночага роду *госця* гл. § 88—101.

Заўвага 2. Назоўнік *лапаць* мае ў родным склоне множнага ліку канчатак **-ей** *(лапцей).*

*І багат бы я быў (хоць не бедзен і так), каб лапцей не насіў наш мужык небарак* (Я. Купала. Шавец). *Выйшлі на поле, вось жнеі з сярпамі, у лапцях лазовых, а хто без лапцей...* (Я. Колас. Жніво). *Ён нязграбна абівае снег з лапцей у парозе, пасля ківае галавою ўсім* (К. Чорны. Новыя людзі). *І цэлы дзень не меў ён часу высыпаць пясок з лапцей* (К. Чорны. Быльнікавы межы). *І, вытрасаючы мякіну з лапцей на дварэ і стукаючы цэпам, Павел не пакідаў думаць* (там жа).

Заўвага 3. Назоўнікі *агонь, шынель* маюць у родным склоне множнага ліку канчатак **-ёў** *(агнёў, шынялёў).*

*А агнёў на пуці не злічыш: і белыя, і зялёныя, і чырвоныя* (М. Лынькоў. Андрэй Лятун). *Людзі вылазілі са шчылін, атрасалі пыл, зямлю, якая панабівалася ў кішэні, за каўняры шынялёў і гімнасцёрак* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 4. Назоўнік *дзень* у родным склоне множнага ліку мае нулявы канчатак, пры гэтым адбываецца пераход карэннага галоснага **е** ў **ё (о)**, а канцавы асновы мяккі зычны **н'** пераходзіць у адпаведны цвёрды **н.**

*Быў гарачы летні дзень, адзін з тых дзён, аб якіх гавораць: вáрыць, як у гаршку* (Я. Колас. Недаступны). *Заданне было выканана на пяць дзён раней тэрміну* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казэмата). *З тых дзён многа зім пралецела і лет* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша).

Заўвага 5. Назоўнік *вулей* у родным склоне множнага ліку ў залежнасці ад месца націску мае або канчатак **-ёў** *(вуллёў)*, або канчатак **-яў** *(вулляў).*

*Ну, такіх цяпер нямнога знойдзеш ты багатыроў. Пчол адных было ў старога сотень тры ды больш вуллёў* (Я. Колас. Батрак). *На прыгуменні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам, а пад паветкаю прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вулляў некалькі на пчолы* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 68. У давальным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-ам;** назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ям.**

*Многа арлам тут прастору, радасць зямля наша родзіць, свецяць нам сонца і зоры, шчасце у дом наш прыходзіць* (А. Русак. Слаўся, Радзіма). *Яна працягнула руку камбрыгу, Серадзе, Івану і некалькім іншым хлопцам, што стаялі бліжэй* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Ой, каціліся песня дубравай ды зялёным кацілася ярам і прарочыла новую*

*славу Беларусі нізінам, а б ш а р а м* (П. Т р у с. Прысвячаецца Я. Купалу). *Ты ходзіш, маці, сцежкамі вайны, і з вуснаў рвуцца в о р а г а м праклёны* (П. Б р о ў к а. Маці). *Усё вясна старанна падлічыла, сонцам абагрэла кожны кут, паляўнічым прынясла дзічыны, р ы б а к а м расчысціла раку* (П. П а н ч а н к а. Вясною). *Мой дбайны век ш л я х а м вядзе дазор, усё зверана да дробязей, да рыскі* (У. Х а д ы к а. За строем дат і рубрык). *А грымнуў бой — на смерць ты* [радзіма] *білася, на смерць варожым д н я м і ротам* (У. Х а д ы к а. Радзіме). *І Петрык наш жыў, не загінуў, бо смерці г е р о я м няма!* (Я. К о л а с. Адплата).

З а ў в а г а. Да 30-х гадоў XX стагоддзя ў давальным склоне множнага ліку ўжываўся націскны канчатак **-ом (-ём)**, які быў замацаваны і ў якасці арфаграфічнай нормы.

У наш час гэты канчатак часам захоўваецца ў паэтычных творах, дзе яго ўжыванне абумоўлена патрабаваннямі рыфмы.

*На Сымона, як на дзіва, пан паказвае п а н о м, а Сымон стаіць маўкліва — знаць, не трапіць у свой дом* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *І ўсім добранька: раслінкам, пташкам, рыбе і з в я р о м, і тым беленькім хмурынкам, дзе грымеў нядаўна гром* (там жа). *Мёд разліваюць тыя гмахі. Віно найлепшае і ром, як плата шчырая к а с ц о м* (Я. К о л а с. Новая зямля). *О край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў! Што мілей у свеце божым гэтых светлых берагоў, дзе бруяцца срэбрам рэчкі, дзе бары-лясы гудуць, ... дзе ш л я х о м старым бярозы адзначаюць гожа пуць?* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Гайда, гайда ў свет, браточкі, к тым шырокім б е р а г о м!* (Я. К о л а с. Песні вясны). *Змей панёс ч а р а ў н і к о м грошы ад скупога* (Я. К у п а л а. Люлі, люлі, мужычок!).

§ 69. У вінавальным склоне множнага ліку адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду маюць формы роднага склону, а неадушаўлёныя — формы назоўнага.

*Удары партызан сталі зноў моцна трывожыць а к у п а н т а ў* (У. К р а ў ч а н к а. Рыгор Шыбай). *З калгаснай стайні с к а к у н о ў паспешна хлопцы запрагаюць* (М. Т а н к. На выбары). *Г е р о я ў стварае народ* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Нам дзяўчаты песнямі заменяць самых галасістых с а л а ў ё ў* (П. Б р о ў к а. Канец лета). *Лёгкі ветрык пакалыхвае ф і к у с ы* (К. К р а п і в а. З народам). *І я калі-небудзь табе раскажу ў р ы ў к і пачатых паэм* (А. К у л я ш о ў. Астраном).

§ 70. У творным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-амі**, а назоўнікі з асновай на мяккія і на **j** — канчатак **-ямі.**

*П е р а д самымі а г а р о д а м і стаяў высокі будынак* (К. Ч о р н ы. Рамонтная брыгада). *Тут пад жыта араў ён зямлю т р а к т а р а м і* (А. К у л я ш о ў. Пятага снежня). *Страляе лубін крохкімі с т р у к а м і* (Я. Б а ч ы л а. Міхась Дуброва). *Дымок цягнуўся спачатку скупымі с т р у м е н я м і* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Везлі скрынкі з н а б о я м і* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

З а ў в а г а. Назоўнік *госць* у творным склоне множнага ліку звычайна ўжываецца з канчаткам **-ямі**: *гасцямі (госцямі)*.

*За паўвярсты ў вёсцы былі яны чаканымі г а с ц я м і* (К. Ч о р н ы. Свята працы і свету). *У атрадах частымі г о с ц я м і сталі прадстаўнікі ЦК партыі і камсамола, журналісты і кінааператары* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Аднак у размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры гэты назоўнік сустракаецца і з канчаткам **-ьмі** *(гасцьмі)*.

*Само сабою зразумела, яго спаткалі тут пачэсна гаспадары з г а с ц ь м і сумесна* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Пазбыўшы важнае пытанне, чакалі першага спаткання з г а с ц ь м і, якіх сюды наедзе, мо' ўжо хто клыгае з іх недзе* (там жа).

§ 71. У месным склоне множнага ліку назоўнікі з асновай на цвёрдыя зычныя, на **ў**, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-ах**, а назоўнікі з мяккай асновай і асновай на **j** — канчатак **-ях.**

*Дрот н а с л у п а х гуў і звінеў* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Дрэвы н а с к в е р а х шумяць* (М. Т а н к. Першы снег). *У жоўтых к а ж у ш-*

*к а х ваверкі спрытна скачуць, як мячы* (П. Панчанка. Выязджалі лесарубы). *Нам спачываць не да твару ў променях славы* (А. Куляшоў. Простыя людзі). *Па краях палёў шырокіх цёмны лес сінее* (Я. Колас. На полі).

Заўвага. Да 30-х гадоў XX стагоддзя ў месным склоне множнага ліку ўжываўся націскны канчатак **-ох (-ёх)**, які быў замацаваны і ў якасці арфаграфічнай нормы. У наш час гэты канчатак часам захоўваецца ў паэтычных творах, дзе яго ўжыванне абумоўлена патрабаваннямі рыфмы.

*Ці ж яму, палёў дзіцяці, сыну лесу і дарог, на дарозе панскай стаці, жыць у замку, гарадох?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *На страсе, як на балоце, зрос зялёны мох; каты, часам і сабакі лазяць па вуглох* (Я. Купала. Мая хата). *Зарунелі пашы ў сініх паплавох* (А. Куляшоў. Песня перамог). *Быў дзядзька ў пушчах, у барох і расчытаць іх голас мог, і з старасвецкімі дубамі каротка знаўся, як з сябрамі* (Я. Колас. Новая зямля). *Стуліўся змрок у глухіх куткох, уцякае ночка-чарайніца* (Ц. Гартны. Напярэдадні). *Казалі, што Гарыдавец тады хаваў Шарона ў пуньках і ў стагох* (М. Танк. Янук Сяліба). *Калі Заруба падышоў бліжэй і лепш прыгледзеўся,— пазнаў людзей: адзін быў у казацкім башлыку, другі ў шынялі быў, у лапцёх* (там жа). *Палосы тыя заараны, і межы зрыты, і быльнёг даўно ў досвітных туманах праплакаў аб мінулых днёх* (У. Хадыка. Не гавары...). *Ах саколік, маё сонка, зноў у нашых ты краёх!..* (Я. Колас. Сымон-музыка).

## *Заўвагі аб скланенні некаторых назоўнікаў мужчынскага роду I скланення ў множным ліку*

§ 72. Назоўнік *конь* скланяецца ў множным ліку па двух варыянтах у залежнасці ад сэнсавых адрозненняў паміж імі.

1. Пры ўказанні на раздзельную множнасць *(два кані, тры кані* і г. д.) ён мае наступныя формы: Н. *кан-і*, Р. *кан-ёў*, Д. *кан-ям*, В. *кан-ёў*, Т. *кан-ямі*, М. *(аб) кан-ях.*

*А навакол красуе жыта, аўсы чупрынай шалясцяць. Усланы шлях наш аксамітам, кані, як шалыя, імчаць* (П. Глебка. Вітанне). *Каб канёў чатыры прыкупіць — усё было б вельмі добра* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Заўвага. У 20—30-х гадах XX стагоддзя назоўнік множнага ліку *кані* ўжываўся ў месным склоне з канчаткам **-ёх**, які ў наш час не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Сабірайцеся, таварышы! Па канёх!.. Даёш галоп! На Мелітопаль! Даёш галоп! На Мелітопаль! На коней, брат!* (П. Броўка. Праз горы і стэп).

2. Пры ўказанні на зборнасць, сукупнасць (*коні, двое коней, трое коней* і г. д.) гэты назоўнік мае ў множным ліку наступныя формы: Н. *кон-і*, Р. *кон-ей*, Д. *кон-ям*, В. *кон-ей*, Т. *кон-ьмі*, М. *(аб) кон-ях.*

*Коні, узмакрэлыя ад далёкай дарогі і хуткай язды, як толькі ім зноў дазволілі перайсці на ступу, пачалі задаволена фыркаць, рупліва тупаючы па глыбокім пяску* (Я. Брыль. Адзін дзень). *Усе чацвёра коней былі папрывязваны да загарады* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Май! — коням сена дай, а сам на печ уцякай* (народн.). *У стайні гулка разлягаўся голас Міколы, які крычаў на коней* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Хутка пара саней, запрэжаных лепшымі коньмі, паціху рушыла лесавой дарогай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Двое юнакоў на конях падвозілі ім матэрыял* (І. Шамякін. У добры час).

Заўвага. Форма роднага і вінавальнага склонаў *коняў*, якая часам сустракаецца ў мастацкай літаратуры 20—30-х гадоў XX стагоддзя, у наш час не з'яўляецца нормай.

[Хлёр з Петрусём] *кожную восень прыходзілі к яе бацьку... купляць коняў і таргаваліся да ачамернасці* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

§ 73. Назоўнік *ручай* у мове мастацкай літаратуры часам скланяецца па тыпу цвёрдых асноў мужчынскага роду *(ručча, руччу, руччом, аб руччы; руччы, руччоў, руччам, руччамі, аб руччах)*. Аднак гэтыя формы з'яўляюцца адхіленнем ад сучаснай літаратурнай нормы.

*Чырвоны колер ціхіх хваль... У іх відаць адбітак неба. І з тых краёў, дзе смерць і баль,* р у ч ч ы *крывавыя шле глеба* (М. Ч а р о т. Босыя на вогнішчы). *У вокны дождж буйны зазвоніць і з капяжоў* р у ч ч о м *сцякае, і снег жыўцом ён паядае* (Я. К о л а с. Новая зямля).

### *Выпадзенне галосных* о, е *пры скланенні назоўнікаў мужчынскага роду І скланення*

§ 74. Пры ўтварэнні форм ускосных склонаў назоўнікаў І скланення выпадзенне галосных **о, е** перад канцавым зычным асновы наглядаецца ў наступных выпадках:

1. Калі аснова назоўніка заканчваецца суфіксамі **-ец(-эц), -ац:** *касец — касца, шавец — шаўца, выдавец — выдаўца, жывапісец — жывапісца, бежанец — бежанца, маладзец — малайца, ленінградзец — ленінградца, тварэц — тварца, курэц — курца, горац — горца, дазорац — дазорца, сырэц — сырцу, вянец — вянца, танец — танца, рубец — рубца, свінец — свінцу, канец — канца, дубец — дубца, палец — пальца, перац — перцу.*

З а ў в а г а. Выпадзення галосных **о, е** пры скланенні назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксамі **-ец (-эц), -ац** не наглядаецца ў тых выпадках, калі гэтыя галосныя знаходзяцца пасля збегу двух зычных: *жнец — жняца, блізнец — блізняца, храбрэц — храбраца.*

2. Калі аснова назоўніка заканчваецца суфіксамі **-ок, -ак:** *бялок — бялка, клубок — клубка, значок — значка, гудок — гудка, віток — вітка, пясок — пяску, курок — курка, агурок — агурка, кружок — кружка, замок — замка, вянок — вянка; жаваранак — жаваранка, адпачынак — адпачынку, пачатак — пачатку, заработак — заработку, будынак — будынка, завулак — завулка, абутак — абутку, напітак — напітку, рамонак — рамонку.*

Сюды ж адносяцца і назоўнікі, аснова якіх заканчваецца памяншальна-ласкальным суфіксам **-ок(-ёк)** і вытворным ад яго **-очак(-ёчак):** *жучок — жучка, дамок — дамка, грудок — грудка, бычок — бычка, пастушок — пастушка, валок — валка, сняжок — сняжку, мядок — мядку, лужок — лужка, масток — мастка, лясок — ляска, канёк — канька, васілёк — васілька, каралёк — каралька; лісточак — лісточка, куточак — куточка, матылёчак — матылёчка.*

3. Калі аснова назоўніка заканчваецца спалучэннямі **-ей, -еў, -ёс, -об, -ац', -ец', -ет:** *верабей — вераб'я, муравей — мураўя, салавей — салаўя, леў — ільва, авёс — аўса, лоб — ілба, локаць — локця, лапаць — лапця, кіпець — кіпця, хрыбет — хрыбта.*

4. Калі аснова назоўніка заканчваецца спалучэннямі:

**-ал(-ал'):** *вугал — вугла, д'ябал — д'ябла, дышаль — дышля, кашаль — кашлю;*

**-ел(-ел'):** *вузел — вузла, дзяцел — дзятла, жуçравель — жураўля, камель — камля, карабель — карабля, рубель — рубля, туфель — туфля;*

**-ол(-ёл):** *арол — арла, пасол — пасла, шчыгол — шчыгла, чахол — чахла, асёл — асла;*

**-ан(-ан'):** *горан — горна, свіран — свірна, шворан — шворна, вучань — вучня, поршань — поршня, снежань — снежня, шэршань — шэршня;*

**-он(-он'), -ён:** *ражон — ражна, сон — сну, агонь — агню, лён — ільну;*

**-ен(-ен'):** *бубен — бубна, човен — чоўна, авадзень — авадня, дзень — дня, тыдзень — тыдня, галавень — галаўня, жнівень — жніўня, клубень — клубня, певень — пеўня, пляцень — плятня, пень — пня, поўдзень — поўдня;*

**-ар:** *куфар — куфра, майстар — майстра, свёкар — свёкра, сябар — сябра, цукар — цукру;*

**-ор(-ёр):** *віхор — віхра, бабёр — бабра, касцёр — кастра, капёр — капра, шацёр — шатра;*

**-ер:** *вецер — ветру, швагер — швагра.*

Заўвага 1. У некаторых назоўніках з асновай на спалучэнні **-ел (-ел'), -ёл, -ан', -ен' (-эн')** выпадзення галоснага **е (э)** перад канцавым зычным асновы не адбываецца: *касцёл — касцёла, попел — попелу, кісель — кісялю, кабель — кабелю, нікель — нікелю, штэпсель — штэпселя, корань — кораня, камень — каменя, алень — аленя, бюлетэнь — бюлетэня, ліпень — ліпеня, струмень — струменю, цень — ценю, цюлень — цюленя, чэрвень — чэрвеня, ясень — ясеня, ячмень — ячменю.*

Заўвага 2. У назоўніках *промень, чабор,* як правіла, не адбываецца выпадзення галосных **е, о** перад канцавым зычным асновы (*променя, променю, чабору* і г. д.), аднак у мове мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі, калі пры ўтварэнні склонавых форм гэтых назоўнікаў галосныя **е, о** выпадаюць.

*І дзівяцца промні бясконца, на росныя сейшы галінкі* (Я. Колас. Адплата). *Чатыры... вуліцы, нібы пучок промняў, адыходзілі ад саду* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Маючы пяцьдзесят год, яна не страціла прываблівай прыгажосці свайго твару, белага, асветленага цёплымі промнямі добрых блакітных вачэй* (І. Шамякін. У добры час). *І толькі калі ў бледным кароткім промні, што ўпёрся ў закураную сцяну, забруіўся дымок, яны звярнулі на яго ўвагу* (У. Карпаў. За годам год). *Трэба ісці чабру, сунічніку назбіраць, увечары чаю наварым* (П. Пестрак. Лясная песня).

Заўвага 3. Пры ўтварэнні склонавых форм у назоўніку *лён* галосны **ё** перад канцавым зычным асновы, як правіла, выпадае (*ільну, ільном* і г. д.). Выпадзенне галоснага **ё** ў гэтым назоўніку наглядаецца і тады, калі ён з'яўляецца часткай складанага слова (*ільнавод, ільнаводны, ільнаводства, ільнаводчы, ільновалакно, ільнозавод, ільнамялка, ільноапрацоўчы, ільнасемя*). Аднак у радзе складаных слоў гэты назоўнік ужываецца без выпадзення галоснага **ё** (*лёнанарыхтоўка, лёнанарыхтоўчы, лёнакамбайн, лёнамалатарня, лёнаачышчальнік, лёнапрамысловасць, лёнапрадзенне, лёнапрадзільны, лёнапрадзільня, лёнапункт, лёнасушылка, лёнасеялка, лёнацерабілка, лёнацерабільшчык, лёнатрапалка, лёнатрапальны, лёнатрыер, лёнаўборачны, лёначасанне, лёначасальны*).

## *Скланенне назоўнікаў ніякага роду*

§ 75. Назоўнікі ніякага роду адносяцца да таго ж тыпу скланення, што і назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку, хоць у паасобных склонавых формах адзіночнага і множнага ліку яны выяўляюць пэўныя своеасаблівасці, якія залежаць галоўным чынам ад характару асноў.

У назоўніках ніякага роду адрозніваюцца наступныя разнавіднасці асноў:

а) аснова на цвёрдыя зычныя: *сял-о, гумн-о, гнязд-о, звян-о, жнів-о, хараств-о, балот-а, зарыв-а, дзів-а, слов-а, геройств-а, сяброўств-а, насельніцтв-а;*

б) аснова на **р, ж, ш, ч(шч), ц:** *бядр-о, дабр-о, мор-а, паветр-а, збожж-а, застрэшш-а, сучч-а, вогнішч-а, сонц-а, сэрц-а, месц-а;*

в) аснова на **к, х:** *воблак-а, войск-а, павек-а, лык-а, мястэчк-а, ачк-о* (спарт.), *малак-о, ліх-а, рэх-а;*

г) аснова на мяккія зычныя: *асяроддз-е, разводдз-е, водгулл-е, галл-ё, жаданн-е, брусс-е, касс-ё, багацц-е, жыцц-ё, шчасц-е, лісц-е;*

д) аснова на **j:** *бязрыбj-э, бясхлебj-э, двукропj-э, капj-о, здароўj-э, пугаўj-о, узгорj-э, надворj-э.*

### § 76. Узор скланення назоўнікаў ніякага роду

Адзіночны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н | *кол-а* | *дрэв-а* | *шв-о* | *акн-о* | *мерапрыемств-а* |
| Р. | *кол-а* | *дрэв-а* | *шв-а* | *акн-а* | *мерапрыемств-а* |
| Д. | *кол-у* | *дрэв-у* | *шв-у* | *акн-у* | *мерапрыемств-у* |
| В. | *кол-а* | *дрэв-а* | *шв-о* | *акн-о* | *мерапрыемств-а* |
| Т. | *кол-ам* | *дрэв-ам* | *шв-ом* | *акн-ом* | *мерапрыемств-ам* |
| М. | *(аб) кол-е* | *дрэв-е* | *шв-е* | *акн-е* | *мерапрыемств-е* |

Аснова на **р, ж, ш, ч (шч), ц**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *возер-а* | *вядр-о* | *узбярэжж-а* | *рэчышч-а* | *месц-а* |
| Р. | *возер-а* | *вядр-а* | *узбярэжж-а* | *рэчышч-а* | *месц-а* |
| Д. | *возер-у* | *вядр-у* | *узбярэжж-у* | *рэчышч-у* | *месц-у* |
| В. | *возер-а* | *вядр-о* | *узбярэжж-а* | *рэчышч-а* | *месц-а* |
| Т. | *возер-ам* | *вядр-ом* | *узбярэжж-ам* | *рэчышч-ам* | *месц-ам* |
| М. | *(аб) возер-ы* | *вядр-ы* | *узбярэжж-ы* | *рэчышч-ы* | *месц-ы* |

Аснова на **к, х**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *воблак-а* | *ачк-о* | *мястэчк-а* | *рэх-а* |
| Р. | *воблак-а* | *ачк-а* | *мястэчк-а* | *рэх-а* |
| Д. | *воблак-у* | *ачк-у* | *мястэчк-у* | *рэх-у* |
| В. | *воблак-а* | *ачк-о* | *мястэчк-а* | *рэх-а* |
| Т. | *воблак-ам* | *ачк-ом* | *мястэчк-ам* | *рэх-ам* |
| М. | *(аб) воблак-у* | *ачк-у* | *мястэчк-у* | *рэх-у* |

Аснова на мяккія зычныя і на **j**-*о*, **j**-*э*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *пол-е* | *жаданн-е* | *пачуцц-ё* | *капj-о* | *вярхоўj-э* |
| Р. | *пол-я* | *жаданн-я* | *пачуцц-я* | *капj-а* | *вярхоўj-а* |
| Д. | *пол-ю* | *жаданн-ю* | *пачуцц-ю* | *капj-у* | *вярхоўj-у* |
| В. | *пол-е* | *жаданн-е* | *пачуцц-ё* | *капj-о* | *вярхоўj-э* |
| Т. | *пол-ем* | *жаданн-ем* | *пачуцц-ём* | *капj-ом* | *вярхоўj-эм* |
| М. | *(аб) пол-і* | *жаданн-і* | *пачуцц-і* | *капj-і* | *вярхоўj-і* |

Множны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *кол-ы* | *дрэв-ы* | *шв-ы* | *вокн-ы* | *мерапрыемств-ы* |
| Р. | *кол-аў* | *дрэў* | *шв-оў* | *акон (вокн-аў)* | *мерапрыемств-аў* |
| Д. | *кол-ам* | *дрэв-ам* | *шв-ам* | *вокн-ам* | *мерапрыемств-ам* |
| В. | *кол-ы* | *дрэв-ы* | *шв-ы* | *вокн-ы* | *мерапрыемств-ы* |
| Т. | *кол-амі* | *дрэв-амі* | *шв-амі* | *вокн-амі* | *мерапрыемств-амі* |
| М. | *(аб) кол-ах* | *дрэв-ах* | *шв-ах* | *вокн-ах* | *мерапрыемств-ах* |

Аснова на **р, ж, ш, ч (шч), ц**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *азёр-ы* | *вёдр-ы* | *узбярэжж-ы* | *рэчышч-ы* | *месц-ы* |
| Р. | *азёр (азёр-аў)* | *вёдзер (вёдр-аў)* | *узбярэжж-аў* | *рэчышч (рэчышч-аў)* | *месц (месц-аў)* |
| Д. | *азёр-ам* | *вёдр-ам* | *узбярэжж-ам* | *рэчышч-ам* | *месц-ам* |
| В. | *азёр-ы* | *вёдр-ы* | *узбярэжж-ы* | *рэчышч-ы* | *месц-ы* |
| Т. | *азёр-амі* | *вёдр-амі* | *узбярэжж-амі* | *рэчышч-амі* | *месц-амі* |
| М. | *(аб) азёр-ах* | *вёдр-ах* | *узбярэжж-ах* | *рэчышч-ах* | *месц-ах* |

Аснова на **к, х**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *воблак-і* | *ачк-і* | *мястэчк-і* |
| Р. | *воблак (воблак-аў)* | *ачок (ачк-оў)* | *мястэчак (мястэчк-аў)* |
| Д. | *воблак-ам* | *ачк-ам* | *мястэчк-ам* |
| В. | *воблак-і* | *ачк-і* | *мястэчк-і* |
| Т. | *воблак-амі* | *ачк-амі* | *мястэчк-амі* |
| М. | *(аб) воблак-ах* | *ачк-ах* | *мястэчк-ах* |

Аснова на мяккія зычныя і на **j**-*о*, **j**-*э*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *пал-і* | *жаданн-і* | *пачуцц-і* | *копj-і* | *вярхоўj-і* |
| Р. | *пал-ёў* | *жаданн-яў* | *пачуцц-яў* | *копj-аў* | *вярхоўj-аў* |
| Д. | *пал-ям* | *жаданн-ям* | *пачуцц-ям* | *копj-ам* | *вярхоўj-ам* |
| В. | *пал-і* | *жаданн-і* | *пачуцц-і* | *копj-і* | *вярхоўj-і* |
| Т. | *пал-ямі* | *жаданн-ямі* | *пачуцц-ямі* | *копj-амі* | *вярхоўj-амі* |
| М. | *(аб) пал-ях* | *жаданн-ях* | *пачуцц-ях* | *копj-ах* | *вярхоўj-ах* |

## *Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў ніякага роду I скланення ў адзіночным ліку*

§ 77. У назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** пад націскам маюць канчатак **-о**, не пад націскам — **-а**; назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** пад націскам маюць канчатак **-ё**, не пад націскам — **-е**.

*Пачалося лета, а зімі работа навалілася: касьба, а там і жніво* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Паселішча віднелася ў лагчыне, густа аздобленай садамі* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *А зярцо ў нас было тут крынічнае, такое заросла̀е, запушчанае* (У. Краўчанка. Сорак конскіх сіл). *Звоняць тугія сасновыя струны, рэха лясное калышацца звонка* (М. Танк. У лесе). *У небе свяціла сонца і плыло срабрыстае павуцінне* (У. Краўчанка. Радасць). *Слаўнае братняе пачуццё ўзнікла ў абодвух* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Аладаў ветравы холад, і цяплела надвор'е* (К. Чорны. Зямля). *Стаіць малы хлапчук, як пугаўё, сухі* (М. Танк. Нарач).

*Бедных мужыкоў вялі цераз сяло* (Я. Колас. Бунт). *Ён падрабязна расказваў пра становішча ў горадзе* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Неўзабаве ён унёс сюды хлеб і кіслае малако* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Панкел злаваў на сваё бяссілле* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Плячысты дымайскі дзяцюк, што ішоў у пракосе ўслед за русабародым, уваткнуўшы касcё ў зямлю, дастаў капшук і рыхтаваўся закурыць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Юзік стараўся збіць тонкім дубцом каліўё сухога зелля* (К. Чорны. Зямля).

§ 78. У родным склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** маюць канчатак **-а**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-я**.

*Набліжэнне жніва выклікала ў яе і радасць і трывогу* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Не паспелі яны адысці і сотні метраў ад месца адпачынку, як зусім блізка пачаўся бой* (І. Гурскі. У агні). *Калі ж Волечка з пустой міскай ад малака адышлася к печы, фельчар пачаў абслухваць і абмацваць хворага немца* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Пахла мокрая трава і зямля з-пад лісця і імху* (К. Чорны. Смерць). *Тым часам бялявае святло з ветравага надхмар'я чулася ў змроку скрозь* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

§ 79. У давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч (шч), ц** і на **к, х** маюць канчатак **-у**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ю**.

*Падазваў ён раз да сябе к акну Алёшу, як той ішоў са станцыі* (К. Чорны. Бяздонне). *Чыя песня-скарга ў неба ідзе дакорам, к месяцу і сонцу і к далёкім зорам?* (Я. Колас. Ворагам). *Алёша яшчэ не прывык к гэтаму новаму для яго жыццю* (К. Чорны. Бяздонне). *Мы выехалі па-летняму, па свайму дамашняму надвор'ю, а тут восень і халодны вецер* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

§ 80. У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** пад націскам маюць канчатак **-ом**, не пад націскам — канчатак **-ам**; назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** пад націскам маюць канчатак **-ём**, не пад націскам — **-ем**.

*Адна фортка ў акне знята з крукоў і стаіць з пабітым шклом пры сцяне* (К. Чорны. Ірынка). *Узяў Юзік біч, пакруціў у руках і паставіў у куток разам з цапільнам* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Да элеватара — ці дзень, ці ноч — грузавікі з даброн ідуць няспынна* (Н. Гілевіч. На схіле лета). *Маладосць у нас з арліным сэрцам*

(П. Броўка. Самая шчаслівая). *Сцёпа падышоў да століка з люстэркам* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *У мяне ў руках захісталася шклянка з малаком* (М. Чарот. Галя). *Жанкі са здзіўленнем паглядалі на дзяўчыну* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *У адным месцы Мірон Пятровіч злез з воза і пугаўём змераў глыбіню ворыва* (У. Краўчанка. Праз шэсць год).

Заўвага. Назоўнікі ніякага роду, якія з'яўляюцца назвамі населеных пунктаў на **-ін-***а* (**-ын-***а*), **-ін-***о* (**-ын-***о*), **-ав-***а* (**-ов-***а*), **-ев-***а* (**-ёв-***а*), у творным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-ам (-ом)**: *Жодзінам, Ленінам, Кажамякінам, Сіроцінам, Тросцінам, Ветрынам, Дзярэчынам, Беразіном, Кульшыном, Семежавам, Чарнагубавам, Коханавам, Койданавам, Косавам, Ліпавам, Воранавам, Багданавам, Шарашовам, Варапаевам, Малевам, Касценевам, Грабянёвам, Кашалёвам.*

§ 81. У месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак **-е**, пры гэтым канцавы цвёрды зычны асновы чаргуецца з адпаведным мяккім зычным; назоўнікі з асновай на **р, ж, ш, ч(шч), ц** маюць канчатак **-ы**, назоўнікі з асновай на **к, х** — канчатак **-у**, назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-і**.

*У маленстве яна была хваравітай, шчуплай дзяўчынкай* (І. Шамякін. Наташа). *Арабіна на ўзвышшы адсюль відна была вельмі добра* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Хатка стаяла на самым канцы мястэчка на нізкім месцы* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Снег на штучным малюпасенькім азярцы быў ушчэнт спярэшчаны заячымі слядамі* (К. Чорны. Нянавісць). *Сціхае гул. Толькі прапелер круціцца яшчэ ў воблаку снегу* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *І далёка скрозь па полі гладзь снягоў бялела* (Я. Колас. Заход сонца). *На ўзлессі дзяцел гулка дзёўб кару* (А. Куляшоў. Табуны). *Як зайсёды, яны раней заходзілі да перакладчыцы, каб даведацца аб здарэнні, а значыцца, і аб настроі начальніка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 1. У першай палавіне XX стагоддзя ў месным склоне адзіночнага ліку з прыназоўнікам **па** (зрэдку з прыназоўнікам **аб**) назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч (шч), ц**, а таксама на мяккія зычныя і на **j** часам ужываліся з канчаткам **-у (-ю)**.

*Буйнае, густое зарадзіла жыта, і такая слава па сялу пайшла* (П. Броўка. Дзяўчына з Палесся). *Яны перамёрзлі самі ў тую завейную ноч, калі разбрыліся па балоту, па лесе, шукаючы выйсця з марознай магілы* (М. Лынькоў. Астап). *Так і стаяў, смеючыся над катам, доўга па целу сцякала вада* (А. Куляшоў. Камсамольскі білет). *Стукнуў тады абухом па бервяну ў сцяне,— глуха адазвалася гніючым нутром бервяно* (П. Галавач. Не так). *Плыў жа я па возеру па Прошу да маленькай выспы найсцяж* (П. Броўка. Над Лепельскім возерам). *Цагліна гэта па сэрцу мне ўдарыла* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *Ехалі яны яшчэ гадзін шэсць і ўвесь час па бездарожжу* (І. Шамякін. Далёкая камандзіроўка). *Мы ідзём па полю, узяўшыся за рукі* (К. Буйла. Ідучы з поля). *Паплылі, паплылі жураўлі, быццам воблачкі па паднябессю* (А. Астрэйка. Вырай). *Па ўзгор'ю поля, па раўніне паўзуць сталёвыя валы* (Я. Колас. На новай зямлі). *Ад гасцінца да гасцінца, ад хаты да хаты звініць кобза украінцам аб вялікім святу* (Я. Купала. Памяці Шаўчэнкі).

Заўвага 2. У назоўніку *вядро* побач з канчаткам **-ы** ў месным склоне адзіночнага ліку дапускаецца ўжыванне канчатка **-э**: *у (на) вядрэ.*

Назоўнік *малако* ўжываецца ў месным склоне толькі з канчаткам **-э**: *у (аб) малацэ.*

## *Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў ніякага роду I скланення ў множным ліку*

§ 82. У назоўным і вінавальным склонах множнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя і на **р, ж, ш, ч (шч), ц** маюць канчатак **-ы**, а назоўнікі з асновай на **к, х**, на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-і**.

*Грозных танкаў сталёвыя жэрлы прапалолі шкляны небасхіл* (П. Панчанка. Падбіты танк). *Звінелі і бразгалі вёдры, і звонка*

*пераклікаліся жаночыя галасы* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Хоць зернейкі засохшымі былі, усё ж такі жыццёвая іх сіла збудзілася і буйна ўскаласіла парой вясенняй збожжа на раллі* (М. Багдановіч. Санет). *Самае галоўнае, што скончыліся бадзянні, невядомасць і трывога* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *І весела іскрацца сузор'і начэй* (П. Панчанка. Сувей).

*Чытала яна братавы пісьмы зайсёды з адчуваннем радасці і задаволенасці* (П. Кавалёў. Зіна Дарошка). *Пасля доўгай ночы дзень прабіваўся праз маленькія аконцы паволі і нясмела* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *Скора ластаўкі гняздзечкі пад страхой начнуць звіваці* (А. Гурыновіч. Вясна). *Сотні гармат абрушылі агонь на нямецкія ўмацаванні* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *У маланкавы дзень хмара кідае медныя кап'і, і грымяць на вадзе гулкім выбухам першыя кроплі* (П. Панчанка. Юнак).

§ 83. 1. У родным склоне множнага ліку пераважная большасць назоўнікаў ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** ужываецца як з нулявым канчаткам, так і з канчаткамі **-аў, -оў**: *акон — вокнаў, гумён (гумен) — гумнаў, дрэў — дрэваў, праў — правоў, сёл — сёлаў, крыл — крылаў, правіл — правілаў, валакон — валокнаў, гнёзд — гнёздаў, вёсел — вёслаў, азёр — азёраў, вёдзер — вёдраў, месц — месцаў, вучылішч — вучылішчаў, рэчышч — рэчышчаў, войск — войскаў, мястэчак — мястэчкаў, балот — балотаў.*

*У цяньку гумен і адрынак знаходзілі яны спакой душы і адпачынак целу* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Сцежкамі да гумнаў прахадзілі мужчыны* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *У прагаліне між дрэў відно было неба* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вецер зганяў пакурчаныя лісткі з дрэваў — чорныя, апошнія* (К. Чорны. Зямля). *Вайчуга з сёл сюды бяжыць і проста валіць на Міхала!* (Я. Колас. Новая зямля). *Дочкам горада і сёлаў свеціць новы дзень* (Я. Колас. Шчаслівым жанчынам). *Яны вярталіся да родных гнёзд, дамоў, куды з баямі батальён ішоў* (М. Танк. На рубяжы). *Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусліных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы* (Я. Колас. У старых дубах). *Віхар вогненны гуляе і рве мрок узлётам крыл, і гарыць і палыхае за лясамі небасхіл* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Крылаў жадала б яна на гэты час, каб пераляцець раптам к сыну* (Р. Мурашка. Сын). *Смуткуюць вольхі і лозы над срэбрам азёр* (Я. Колас. Адплата). *І выплывуць зоры на сіні начлег, на сінія хвалі азёраў* (М. Танк. Нарач). *Першы вечар апаў разам з намі ля вогнішч абозных* (М. Танк. Мы ў свой горад прыйшлі). *У асеннім даспелым гаі каля вогнішчаў хлопцы паселі* (А. Астрэйка. Лясныя агні).

Толькі з канчаткамі **-аў, -оў** ужываюцца ў родным склоне множнага ліку наступныя групы назоўнікаў з паказанымі асновамі:

а) аднаскладовыя назоўнікі ніякага роду *дно, шво (дн-оў, шв-оў)*;

б) некаторыя двухскладовыя назоўнікі ніякага роду: *кола, мора, пяро* і інш. *(кол-аў, мор-аў, пёр-аў)*;

*Ад клеці працягнуўся да самых варот след колаў цяжкога грузавіка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І яны змоўклі, прыслухваючыся да дробнага перастуку колаў, да роўнай хады паравозаў* (там жа). *Вялізны жалезны параход выйшаў з гавані і пайшоў, дні і ночы разбіваючы магутнымі грудзямі грозныя сівыя хвалі мораў, і прыйшоў, нарэшце, такі час, што ў невядомых шыротах далёкага акіяна сустрэла параход самая вялікая хваля* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі).

в) Назоўнікі ніякага роду, аснова якіх заканчваецца збегам зычных **бл** *(сцёбл-аў)*, **пл** *(дупл-аў)*, **йл** *(стойл-аў)*, **дл** *(кавадл-аў)*, **кл** *(пекл-аў)*, **рл** *(жэрл-аў, горл-аў)*, **рн** *(зёрн-аў)*, **дн** *(судн-аў)*, **льн** *(цапільн-аў)*, **тц** *(балотц-аў)*, **ўц** *(дрэўц-аў)*, **нц** *(сонц-аў)*, **рц** *(сэрц-аў, вядзерц-аў)*, **ств, цтв** *(мерапрыемств-аў, багацтв-аў)*, **тр** *(футр-аў)*.

*Ля сцен было паслана сена, ляжала некалькі нязгорненых прасцірадлаў і зрэбных дзяружак* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *І рык сіпатых горлаў быў яму адказам* (Э. Самуйлёнак. Герой нацыі). [Штанге] *паказаў гэту подлую механіку правакацыі і забойстваў дзеля нажывы* (там жа). *І ў гэтай дружнай руплівай працы ішлі напорыстыя пяцігодкі, поўнячы зямлю суладным гулам машын, суладным рухам працавітых рук, суладным біеннем чалавечых сэрцаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Утульна стаяць яны* [лаўкі] *на маленькіх расчышчаных пляцоўках у цяні дрэўцаў* (Я. Колас. Макарка Навак). *Яны прабіраліся цераз вязкія палянкі лясных балотцаў і ўсё ішлі, ішлі, спатыкаючыся, абмацваючы ў пацёмках кусты і пні* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Календрун»).

Заўвага. У мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя словы *сэрца, сонца, багацтва* ў родным склоне множнага ліку іншы раз ужываліся з нулявым канчаткам, што з'яўляецца адхіленнем ад сучаснай нормы.

*Сцягі радзіме працавіта ткалі, — у кожнай нітцы нашых сэрц прамень* (М. Танк. Ты будзеш жыць, Радзіма!). *Я спыніўся падзівіцца на хвіліну на агні, што не змарыў паўночны сон, на вітрыны, дзе палаюць мандарыны, мандарыны, бы мільёны сонц* (М. Танк. Мандарыны). *Не чапайся ты, аса! Багацтв не ўдзялю я,— ёсць дзявоцкая краса, узяць хочаш і тую* (Я. Купала. Не чапайся, панічок!..).

г) Назоўнікі, аснова якіх заканчваецца падоўжанымі зычнымі **жж, шш, чч:** *узбярэжж-аў, узвышш-аў, абліčч-аў.*

*Мы сцелемся ў халодных сенцах на нейкіх нізкіх скрынях — я і наш узводны, таварыш Скабакоў, вясёлы і рыжы хлапец, родам з нейкіх Аланецкіх азёрных рыбных узбярэжжаў* (К. Чорны. Начлег у вёсцы Сінегах). *А яшчэ зычыць усюды рэха ад гулу руж жаў і гармат* (А. Гурло. 9 студзеня 1905 г.).

2. Назоўнікі ніякага роду з мяккай асновай і асновай на **j** у родным склоне множнага ліку маюць канчаткі: пад націскам **-ёў**, а не пад націскам **-яў.**

*Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора буйных каласоў* (Я. Колас. На полі вясною). *Мы шмат перажылі выпрабаванняў* (А. Астрэйка. Салдаты міру). *Эх, сябры, не блага ўспомніць час ад часу пра баі, адвагу, пра паходы нашы... ды ўзяўшы, братцы, на калені сына да сібірскіх станцый, да ўзмор'яў сініх, у Маскву і ў Кіеў напісаць лісты вам* (М. Танк. Сябрам).

§ 84. У давальным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** маюць канчатак **-ам**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ям.**

*Гарадам, калгасным сёлам свеціць ясны дзень* (Я. Колас. Шчаслівым жанчынам). *Потым* [хвалі] *уздымаліся, як горы, і грудзямі бераг іх прымаў — быццам хто кавалак кінуў мора гэтым месцам, людзям для забаў* (П. Броўка. Над Лепельскім возерам). *Але я воблакам тым не зайздрошчу* (А. Куляшоў. Плыла, цалавалася хмара з зямлёй...). *А за сталом якраз дарэчы вясёлы весці разгавор, пачуццям даць развой, а часам трошкі папярэчыць* (Я. Колас. Рыбакова хата).

§ 85. У творным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** маюць канчатак **-амі**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ямі.**

*Сонца схавалася за дрэвамі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Праз усё лета на вешалах пад застрэшшамі сушацца тварожныя сыры* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У баначках з паадхільванымі вечкамі стаяць кансервы з фабрычным духам тамату ці алею* (Я. Скрыган. Як спявалі песню). *Кожны любаваўся новымі збудаваннямі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я па садзе іду — шмат пладоў залатых цешаць вока сузор'ямі вабнымі* (П. Панчанка. Я іду...).

§ 86. У месным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж, ш, ч(шч), ц** і на **к, х** маюць канчатак **-ах,** а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ях**.

*Шапка была б нават і ніштаватая, каб яшчэ да яе казырок і каб не распоркі скрозь па швах* (К. Чорны. Браты). *Прыбраная сцягамі, лозунгамі на чырвоных палотнішчах, кветкамі і дзеразой, электрастанцыя стаяла, нібы ў казцы* (І. Шамякін. У Маскву). *Сёлета настаўнік у сваіх дамаганнях атрымаў значную дапамогу ад камсамольскай ячэйкі і ад сельсавета новага складу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Велічны і прыгожы ўсход сонца ў перадгор'ях* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Заўвага. Да 30-х гадоў XX стагоддзя назоўнікі ніякага роду, як і назоўнікі мужчынскага роду, у месным склоне множнага ліку ўжываліся з канчаткамі **-ох, -ёх** (заўсёды пад націскам), якія былі замацаваны і ў якасці арфаграфічнай нормы. Наяўнасць гэтых форм у наш час абумоўлена патрабаваннямі рыфмы.

*Ваверкі-грызухі заселі ў дуплох, мядзведзь ад разрухі палез у бярлог* (Я. Купала. Віхор загуляў). *Зверства такога ў тутэйшых мясцох не бачыў ніхто і ніколі* (К. Крапіва. Шкірута). *Дзе цвілі туман, слізота ў інакшы час,— у палёх, палёх шырокіх вырастаў калгас* (А. Куляшоў. Радасць). *Жыццё чулася ў траве, у гаёчку, у лясочку, на палёх, і на лугах, і ў зялёненькім лужочку, і ў крынічных берагох* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Смуткавала дудка тая аб тых родных каранёх, аб праўдзівых песнях краю, мілым лузе і палёх* (там жа).

## *Беглыя галосныя ў склонавых формах назоўнікаў ніякага роду*

§ 87. У некаторых назоўніках ніякага роду пры ўжыванні іх з нулявым канчаткам у родным склоне множнага ліку перад канцавымі зычнымі асновы **к, л, м, н, р** узнікаюць беглыя галосныя **е(ё), а:** *люстэркі — люстэрак, вечкі — вечак, мястэчкі — мястэчак, крэслы — крэсел, вёслы — вёсел, пісьмы — пісем, вокны — вокан, гумны — гумен, палотны — палоцен (палацён), вёдры—вёдзер.*

## ДРУГОЕ СКЛАНЕННЕ

### *Скланенне назоўнікаў жаночага роду на* -а (-я)

§ 88. Для назоўнікаў жаночага роду, якія адносяцца да другога скланення, характэрны наступныя віды асноў:

а) аснова на цвёрдыя зычныя: *ніва, вада, вясна, школа, бяроза, хата;*

б) аснова на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц:** *гара, мяжа, паранджа, суша, задача, пушча, праца;*

в) аснова на **г, к, х:** *адвага, дуга, кніга, нага, чарга, туга, мука, шчака, вольха, страха, чаромха;*

г) аснова на мяккія зычныя: *вішня, пожня, хваля, зямля, кропля;*

д) аснова на **j:** *жняя, сям'я, надзея, сесія, лекцыя, станцыя.*

### § 89. Узор скланення назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)*

Адзіночны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *бяроз-а* | *пчал-а* | *вярб-а* | *далін-а* | *планет-а* | *з'яв-а* |
| Р. | *бяроз-ы* | *пчал-ы* | *вярб-ы* | *далін-ы* | *планет-ы* | *з'яв-ы* |
| Д. | *бяроз-е* | *пчал-е* | *вярб-е* | *далін-е* | *планец-е* | *з'яв-е* |
| В. | *бяроз-у* | *пчал-у* | *вярб-у* | *далін-у* | *планет-у* | *з'яв-у* |
| Т. | *бяроз-ай (-аю)* | *пчал-ой (-ою)* | *вярб-ой (-ою)* | *далін-ай (-аю)* | *планет-ай (-аю)* | *з'яв-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) бяроз-е* | *пчал-е* | *вярб-е* | *далін-е* | *планец-е* | *з'яв-е* |

Аснова на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *хмар-а* | *веж-а* | *сястр-а* | *задач-а* | *груш-а* | *вуліц-а* |
| Р. | *хмар-ы* | *веж-ы* | *сястр-ы* | *задач-ы* | *груш-ы* | *вуліц-ы* |
| Д. | *хмар-ы* | *веж-ы* | *сястр-ы* | *задач-ы* | *груш-ы* | *вуліц-ы* |
| В. | *хмар-у* | *веж-у* | *сястр-у* | *задач-у* | *груш-у* | *вуліц-у* |
| Т. | *хмар-ай (-аю)* | *веж-ай (-аю)* | *сястр-ой (-ою)* | *задач-ай (-аю)* | *груш-ай (-аю)* | *вуліц-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) хмар-ы* | *веж-ы* | *сястр-ы* | *задач-ы* | *груш-ы* | *вуліц-ы* |

Аснова на **г, к, х**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *рак-а* | *страх-а* | *дарог-а* | *чайк-а* | *сцежк-а* | *пляцоўк-а* |
| Р. | *рак-і* | *страх-і* | *дарог-і* | *чайк-і* | *сцежк-і* | *пляцоўк-і* |
| Д. | *рац-э* | *страс-е* | *дароз-е* | *чайц-ы* | *сцежц-ы* | *пляцоўц-ы* |
| В. | *рак-у* | *страх-у* | *дарог-у* | *чайк-у* | *сцежк-у* | *пляцоўк-у* |
| Т. | *рак-ой (-ою)* | *страх-ой (-ою)* | *дарог-ай (-аю)* | *чайк-ай (-аю)* | *сцежк-ай (-аю)* | *пляцоўк-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) рац-э* | *страс-е* | *дароз-е* | *чайц-ы* | *сцежц-ы* | *пляцоўц-ы* |

Аснова на мяккія зычныя і на ј

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *зямл-я* | *студн-я* | *вішн-я* | *хвој-а* | *жняј-а* |
| Р. | *зямл-і* | *студн-і* | *вішн-і* | *хвој-і* | *жняј-і* |
| Д. | *зямл-і* | *студн-і* | *вішн-і* | *хвој-і* | *жняј-і* |
| В. | *зямл-ю* | *студн-ю* | *вішн-ю* | *хвој-у* | *жняј-у* |
| Т. | *зямл-ёй (-ёю)* | *студн-яй (-яю)* | *вішн-яй (-яю)* | *хвој-ай (ј-аю)* | *жняј-ой (ј-ою)* |
| М. | *(аб) зямл-і* | *студн-і* | *вішн-і* | *хвој-і* | *жняј-і* |

Множны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *бяроз-ы* | *пчол-ы* | *верб-ы* | *далін-ы* | *планет-ы* | *з'яв-ы* |
| Р. | *бяроз* | *пчол* | *верб(-аў)* | *далін* | *планет* | *з'яў* |
| Д. | *бяроз-ам* | *пчол-ам* | *верб-ам* | *далін-ам* | *планет-ам* | *з'яв-ам* |
| В. | *бяроз-ы* | *пчол* | *верб-ы* | *далін-ы* | *планет-ы* | *з'яв-ы* |
| Т. | *бяроз-амі* | *пчол-амі* | *верб-амі* | *далін-амі* | *планет-амі* | *з'яв-амі* |
| М. | *(аб) бяроз-ах* | *пчол-ах* | *верб-ах* | *далін-ах* | *планет-ах* | *з'яв-ах* |

Аснова на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *хмар-ы* | *веж-ы* | *сёстр-ы* | *задач-ы* | *груш-ы* | *вуліц-ы* |
| Р. | *хмар* | *веж* | *сясцёр* | *задач* | *груш* | *вуліц* |
| Д. | *хмар-ам* | *веж-ам* | *сёстр-ам* | *задач-ам* | *груш-ам* | *вуліц-ам* |
| В. | *хмар-ы* | *веж-ы* | *сясцёр* | *задач-ы* | *груш-ы* | *вуліц-ы* |
| Т. | *хмар-амі* | *веж-амі* | *сёстр-амі* | *задач-амі* | *груш-амі* | *вуліц-амі* |
| М. | *(аб) хмар-ах* | *веж-ах* | *сёстр-ах* | *задач-ах* | *груш-ах* | *вуліц-ах* |

Аснова на **г, к, х**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *рэк-і* | *стрэх-і* | *дарог-і* | *чайк-і* | *сцежк-і* | *пляцоўк-і* |
| Р. | *рэк* | *стрэх* | *дарог* | *чаек* | *сцежак* | *пляцовак* |
| Д. | *рэк-ам* | *стрэх-ам* | *дарог-ам* | *чайк-ам* | *сцежк-ам* | *пляцоўк-ам* |
| В. | *рэк-і* | *стрэх-і* | *дарог-і* | *чаек* | *сцежк-і* | *пляцоўк-і* |
| Т. | *рэк-амі* | *стрэх-амі* | *дарог-амі* | *чайк-амі* | *сцежк-амі* | *пляцоўк-амі* |
| М. | *(аб) рэк-ах* | *стрэх-ах* | *дарог-ах* | *чайк-ах* | *сцежк-ах* | *пляцоўк-ах* |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *земл-і* | *студн-і* | *вішн-і* | *хвоj-і* | *жнеj-і* |
| Р. | *зямель* | *студн-яў* | *вішань* | *хвой* | *жней* |
| Д. | *земл-ям* | *студн-ям* | *вішн-ям* | *хвоj-ам* | *жнеj-ам* |
| В. | *земл-і* | *студн-і* | *вішн-і* | *хвоj-і* | *жней* |
| Т. | *земл-ямі* | *студн-ямі* | *вішн-ямі* | *хвоj-амі* | *жнеj-амі* |
| М. | *(аб) земл-ях* | *студн-ях* | *вішн-ях* | *хвоj-ах* | *жнеj-ах* |

## Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду II скланення ў адзіночным ліку

§ 90. У назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-а**, назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-я**.

*Крыху ў баку стаяла* *к р а м а*, *дзе ў вітрынах стракацела розная* *т к а н і н а* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Р а н і ц а разгаралася бязвоблачная, гарачая* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *С п ё к а стаяла ў паветры* (К. Ч о р н ы. Брыгадзірава памылка). *Трэці дзень на палявым таку гула складаная м а л а т а р н я* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка). *Д э м а н с т р а ц ы я шырылася і расла* (К. Ч о р н ы. Злачынца пакараны).

§ 91. У родным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц** маюць канчатак **-ы**, а назоўнікі з асновай на **г, к, х,** на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-і**.

*Дзе-нідзе ў расселінах раслі старыя сосны са стваламі колеру пацямнелай б р о н з ы* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *Па той бок а г а р о ж ы, направа а д б р а м ы, расло некалькі старых дубоў* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Яшчэ на ўзгорку да іх даляцела аднастайнае сакатанне к а с і л к і* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Усё вакол млела а д г а р а ч ы н і* (У. К р а ў ч а н к а. Жыта красуе). *Ад шашы д а х в о і зусім недалёка* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні).

§ 92. У давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду маюць наступныя канчаткі:

а) пры цвёрдай аснове — канчатак **-е**, пры гэтым канцавы цвёрды зычны асновы чаргуецца з адпаведным мяккім зычным.

*І ходзяць ледзь чутныя звоны к с а с н е ад сасны* (Я. К о л а с. Адплата). *Прыйшлі н я г о д з е той канцы, прыціхлі кулі бітвы лютай* (У. Х а д ы к а. Байцы). *Бездараж с і л е ударнай пакорыцца, хоць і здаецца вялікай і грознаю* (П. Г л е б к а. Будуйце шлях да мэты). *Дождж патрэбны быў б у л ь б е, а г а р о д н і н е, нават ільну, які пасеялі крыху пазней звычайнага* (П. К а в а л ё ў. Непагадзь).

б) Пры аснове на **р, ж(дж), ч, ш (шч), ц** — канчатак **-ы.**

*Але апраўданняў, акрамя таго, якое яна выказала с я с т р ы, не было* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Гімн чалавечай п р а ц ы спяваюць кельмы гучна* (М. А ў р а м ч ы к. Падарожжа ў сталіцу).

в) Пры аснове на **к** пад націскам — канчатак **-э,** не пад націскам — канчатак **-ы,** пры гэтым заднеязычны **к** чаргуецца з **ц:** *дачцэ, рацэ, руцэ, шчацэ, дошцы, рэчцы, усмешцы, гутарцы.*

*Ён не знаходзіў месца параненай р у ц э* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Ж о н ц ы мужа шкода, мужа маладога, добрага Рыгора* (Я. К о л а с. Пахаванне). *І ты бачыш, як макі на градах узнялі да нябёс каснікі каляровыя радуг. Ты жадаеш хутчэй паляцець у блакіт і дастаць іх і к а х а н ц ы сваёй падарыць на вясельнае плацце* (П. П а н ч а н к а.

Юнак). *Мае вы родныя, мой бацька, маці, як рад я кожнай вестачцы ад вас* (А. Астрэйка. Адказ бацькам).

Заўвага. Назоўнік *дачка* ў давальным склоне адзіночнага ліку побач з канчаткам **-э** ў мастацкай літаратуры зрэдку ўжываецца з націскным канчаткам **-ы**.

*Гэта самае Марта некалькі раз пераказвала і Міколу, седзячы за снеданнем; пераказвала і другой дачцы, Тэклечцы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *І дачцы не спіцца летняй ночкаю, у дачкі на сэрцы неспакой* (П. Панчанка. Апошні хутаранін).

г) Пры аснове на **г, х** назоўнікі жаночага роду маюць канчатак **-е,** пры гэтым заднеязычныя **г, х** чаргуюцца з **з, с:** *кнізе, заслузе, адвазе, вольсе, завірусе, страсе.*

*Таварышы здзіўляліся яго адвазе і настойлівасці* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Зябнуць вербы на марозе, тулячыся к стрэсе* (Я. Колас. Маці). *Не падабаецца гэта мачысе: трэба было б і да работы прывыкаць* (Я. Колас. Агатка).

д) Пры мяккай аснове і аснове на **j** назоўнікі жаночага роду маюць канчатак **-і.**

*Таварышы па майстэрні бачылі ўсю сцэну на вуліцы* (Р. Мурашка. Сын). *Ох, цяжка Галі ў няволі* [фашысцкай] *за калючым дротам!* (Я. Колас. Суд у лесе). *Партыі мы скажам: наша маці, мы гатовы ўсе ісці на бой, пазавеш і будзем мы змагацца для радзімы радаснай сваёй* (П. Броўка. Самая шчаслівая).

Заўвага. У пачатку XX стагоддзя назоўнікі *вышыня, глыбіня, цішыня* і пад. скланяліся звычайна па цвёрдай разнавіднасці асноў жаночага роду і мелі ў давальным склоне адзіночнага ліку канчатак **-е.**

*Ужо* [думка] *з песняй ляціць зноў да зорк вышыне* (Я. Купала. Мая думка).

§ 93. У вінавальным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-у**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ю.**

*Непадалёк танкісты наводзілі пераправу* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Вось па гэтай сцежачцы цераз сад выхад на вуліцу* (Р. Мурашка. Сын). *Птушкі ўжо даўно вялі ранішнюю пераклічку* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Усім загадалі захоўваць цішыню і не адыходзіць ад месца днёўкі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Цяпер яны спяшаліся да ўсходу сонца замаскіраваць пазіцыю* (там жа).

Заўвага. Пад уплывам народных гаворак у мове мастацкай літаратуры назоўнік *галава* ў вінавальным склоне адзіночнага ліку сустракаецца з нулявым канчаткам, пры гэтым націск пераносіцца на першы склад. *Нахіляе голаў да зямлі калоссе* (П. Глебка. Ураджай). *Як матулька, вярба хіліць голаў над ім, і глядзяцца кусты пышным верхам сваім* (Я. Колас. Ручэй). *І ён нахіляў голаў да зямлі ўсё ніжэй і ніжэй* (П. Галавач. Суседзі).

§ 94. У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж (дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** пад націскам маюць канчатак **-ой (-ою),** не пад націскам — **-ай(-аю);** назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** пад націскам маюць канчатак **-ёй(-ёю),** не пад націскам — **-яй (-яю).**

*Вось уваходзіць чалавек з сівізной у валасах* (К. Чорны. Новыя людзі). *Яна ставіць на зямлю свой кош з травою і выпростваецца* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Направа, з боку рэчкі, паднімаўся на ўзгорак абоз з цэглай* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Апошняе лета перад вайсковаю службаю я жыў у вёсцы* (М. Чарот. Галя). *Крыкі знаёмыя, тоны пявучыя льюцца вячэрняй парой* (Я. Колас. Гусі). *За гарою ціха-ціха песні заміраюць* (Я. Колас. Рольнік). *Чорнай навальнічнаю хмарай насоўвалася з захаду вайна* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам). *Зямля пад нагамі была густа засыпана рудою ігліцаю* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Маладая хвойка была ўся захоплена гэтай песняй* (Я. Колас. Сірата-Юрка). *Прычынаю гэтага*

*была, відаць, справа з новай* *м а й с т э р н я ю* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Разляглася вясна* *н а д* *з я м л ё й* *яснымі днямі ды цёплымі вятрамі* (К. Ч о р н ы. Свята працы і свету). *Ціха месяц адзінокі ходзіць у небе* *н а д* *з я м л ё ю* (Я. К о л а с. Месяц). *Прыселі* *п а д* *х в о я й* *старой* (Я. К о л а с. Адплата). *Але супроць вятроў зялёнаю* *с я м'ё й* *стаяць браты кругом, скарыўшы нетраў глыб* (П. Б р о ў к а. Бор).

§ 95. У месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду маюць наступныя канчаткі:

а) пры цвёрдай аснове — канчатак **-е**, пры гэтым адбываецца чаргаванне цвёрдага канцавога зычнага асновы з адпаведным мяккім зычным.

*Перамогу яны здабылі ў* *б а р а ц ь б е,* *у змаганні* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча).

б) Пры аснове на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** — канчатак **-ы.**

*Гадзіннік* *н а* *в е ж ы* *гулка выбіў дзве гадзіны* (К. Ч о р н ы. Браты).

З а ў в а г а. Некаторыя назоўнікі жаночага роду з асновай на **р, ж (дж), ш, ч(шч), ц** у пачатку XX стагоддзя часам ужываліся з канчаткам **-э** (пад націскам).

*А б* *высокай* *г а р э,* *дзе ніхто не арэ, казкі-байкі ліюцца крыніцай* (Я. К у п а л а. Песня званара). *П а* *г а р э,* *на каторай горад стаіць, уздоўж кожнай дарожкі цягнуцца ланцугі ліхтарных агнёў* (М. Б а г д а н о в і ч. Шаман).

в) Пры аснове на **к** назоўнікі жаночага роду пад націскам маюць канчатак **-э,** не пад націскам — канчатак **-ы,** пры гэтым заднеязычны асновы **к** чаргуецца са свісцячым **ц.**

[Пляцінскі] *панура слухаў, як яму з захапленнем* *а б* *д а ч ц э* *сваёй Рыце расказваў падсусед яго, Захар Зынга* (К. Ч о р н ы. Захар Зынга). *Вяснушчаты твар яго з барадаўкай* *н а* *ш ч а ц э* *свяціўся сапраўднай радасцю* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *На парозе стаяў салдат, перавязаны рамянямі, з вінтоўкай* *у* *р у ц э* (Э. С а м у й л ё н а к. Дачка эскадрона). *Ён ведаў усё, што рабілася ўчора* *ў* *л у ц э* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *Рыгор спыніўся* *н а* *пятай* *с т у п е н ь ц ы* *ганку* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Флягу напоўніў вадой* *п а* *салдацкай* *п р ы в ы ч ц ы* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *Н а* *п а л я н ц ы* *дуб стаіць з гняздом* (А. А с т р э й к а. Бусел). *Гудок* *н а* *ф а б р ы ц ы* *прымусіў яго паддаць ходу* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

З а ў в а г а. Назоўнік *дачка* побач з канчаткам **-э** ў месным склоне адзіночнага ліку зрэдку ўжываецца з націскным канчаткам **-ы.**

*Памяць аб Веры Харужай, вернай* *д а ч ц ы* *беларускага народа, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах* (з газет).

г) Пры аснове на **г, х** — канчатак **-е,** пры гэтым заднеязычныя **г, х** асновы чаргуюцца са свісцячымі **з, с.**

*Малако з бутэлькі палілося* *п а* *п а д л о з е,* *бутэлька з цвёрдым грукатам адкацілася ў кут* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Кандрату Назарэўскаму балела рана* *н а* *н а з е* (там жа). *Некалькі разоў адвячоркам яны чулі рух аўтамашын* *н а* *д а р о з е* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Сляпая просьба* *а б* *д а п а м о з е* *ўжо не так свабодна і лёгка ляцела насустрач яму* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Салома* *н а* *с т р а с е* *ўдзірванела пад зялёным пластом збітага моху і ўпарта працівілася дажджу і ветру* (К. Ч о р н ы. Заўтрашні дзень).

д) Пры аснове на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-і.**

*У недасяглай* *в ы ш ы н і* *замігцелі першыя зоры* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н а* *с т а н ц ы і* *не сціхала суматоха, бегатня, рух* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

З а ў в а г а. У пачатку XX стагоддзя назоўнікі *вышыня, глыбіня, цішыня* і інш. скланяліся звычайна па цвёрдай разнавіднасці асноў жаночага роду і мелі ў месным склоне адзіночнага ліку канчатак **-е.**

*Галінкі лясныя, паслушныя мне, то клоняцца ў дол, то шумяць ў вышыне* (Я. Купала. Лясная царэўна). *Мы гаворым удвух пры агні ў цішыне* (М. Багдановіч. Мы гаворым удвух...). *Я тайну ў глыбіне душы хаваю* (М. Багдановіч. Санет).

## Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду II скланення ў множным ліку

§ 96. У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** маюць канчатак **-ы**, а назоўнікі з асновай на **г, к, х**, на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-і**.

*Увачавідкі выраслалі на палях чорныя праталіны зямлі* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *А тым часам у сельсавеце лепшыя трапальшчыцы сабраліся на шклянку чаю* (К. Крапіва. Пачатак шчасця.) *Наліліся антонаўкі сокам густым* (П. Панчанка. Пяе беларускі народ.) *Гарацъ вяргіні пад акном чырвоным аксамітам* (А. Бачыла. Міхась Дуброва). *Пышна цвілі акацыі* (Т. Хадкевіч. Над Дунаем).

§ 97. У родным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду II скланення незалежна ад характару асновы маюць або нулявы канчатак, або радзей канчатак **-аў(-яў)**.

1. З нулявым канчаткам ужываюцца назоўнікі жаночага роду, аснова якіх заканчваецца адным зычным: *бяроз, кос, калон, паэм, палос, пчол, рам, рыс, скал, стрэл, струн, сцен, школ, моў, ніў, траў, слоў, прамоў, бур, брашур, веж, зор, кватэр, літар, меж, нор, пар, папер, руж, разор, справаздач, сцюж, сякер, фар, хмар, акруг, атак, вех, дарог, дуг, заслуг, інтрыг, кніг, крыг, мук, ног, перамог, рэк, рэплік, стрэх, трывог, фабрык, шчок, эпох, казуль, хваль, падзей, хвой, жней, швей, сямей, змей, свіней.*

*Скрозь цемрадзь прыветна свяціліся вокны сялянскіх хат чырвонымі і бледнаватымі плямкамі* (Я. Колас. Малады дубок). *Жанчына выцерла твар ад слёз і села побач на лаву* (К. Чорны. Спатканне). *Шуміць голле маладых асін і бяроз* (К. Чорны. Хвоі гавораць). *Зноў сярод ніў неабсяжных, шырокіх іду, як калісь, у задуме цяпер я* (М. Танк. Выраі). *Многа бур ты знёс на вяку сваім!* (Я. Колас. Дуб). *Срэбраводныя дажджавыя ніці густа-густа звіслі з хмар і белымі невадамі паплылі над зямлёю* (Я. Колас. Збоку ад жыцця). *Праз зашклёныя вітрыны віднелася шмат кніг у рознакаляровых вокладках* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *У бледнай празрыстай пазалоце ззялі вяршаліны стромкіх хвой і вячыстых дубоў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пад поўдзень рота заняла боем рад траншэй на ўскраі лесу* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Заўвага 1. У форме роднага склону множнага ліку перад канцавым асновы **j** назоўнікаў *сям'я, свіння* ўзнікае беглы галосны **е**, які знаходзіцца пад націскам (*сяме́j, свіне́j*).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры пад уплывам некаторых мясцовых гаворак назоўнікі жаночага роду II скланення, аснова якіх заканчваецца адным зычным, часта ўжываюцца ў родным склоне множнага ліку таксама з канчаткам **-аў (-яў)**, які ў гэтай групе назоўнікаў з'яўляецца адхіленнем ад агульнай літаратурнай нормы.

*Слёзаў я не маю, а ў душы так нудна* (М. Багдановіч. З Крымскага). *Пад шум бесканечны бярозаў і соснаў сахой недарэчнай аруць пясок млосна* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Глядзіцца месяц у выгары, дзе не змаўкае жабаў хор* (М. Чарот. Вечарам). *Ззяюць крамаў багатых рады* (М. Танк. Нарач). *І загарэлася сталь косаў на плячах пахіленых, шэрых* (там жа). *Багацее мясцовасць — мне пад вокны прыносяць сады спелых вішань барвовасць, кошык ягадаў, яблык пуды* (А. Куляшоў. Поспех). *Няма этапных калянаў, няма крывавых болей меж* (М. Танк. Сягоння). *Ой, не шапчы, мая бярозка, журлівым шопатам галінаў* (П. Броўка. Ой, не шапчы...). *Жанчынаў грамада, схіліўшыся, стаяла ля вады, палошчучы бялізну для салдат* (М. Танк. Янук Сяліба). *Ручаінаў шум усхваляваны, ён цурчаннем звініць, разносіцца* (К. Буйла. Увесну). *Прайшлі гады. І хмараў дым сышоў* (П. Броўка. Цар-дуб). *Мігціць шлях млечны зораў* (М. Танк.

Нарач). *Не дакінеш прос́та вокам да суседніх* *м е ж а ў*, *а на лузе іх шырокім што ні стог, то вежа!* (Я. Колас. Сцёпкаў сон). *А з-пад* *ц е р н і ц а ў* *кастрыца — быццам снег* (К. Крапіва. У сушні). *Выплывае з* *г л ы б і н я ў* *вугор пасваволіць на хвалі* (А. Зарыцкі. Выдатнейшы балетмайстар). *Ой, панёсся б з вамі, хмары, я ў той лес цяністы, дзе ўдыхалі б мае грудзі* *х в о я ў* *пах смалісты!* (Я. Колас. Хмара). *Замардавалі* [фашысты] *шэсцьдзесят* *с е м'я ў*, *партызанскіх бацькоў і дзяцей...* (Я. Брыль. Пачатак).

2. З канчаткам **-аў̆(-яў̆)** у родным склоне множнага ліку ўжываюцца назоўнікі жаночага роду, аснова якіх заканчваецца збегам зычных: *адозв-аў, бітв-аў, брытв-аў, кроκв-аў, малітв-аў, падэшв-аў, царкв-аў, лічб-аў, качэрг-аў, чэрг-аў, выдр-аў, шабл-яў, будоўл-яў, студн-яў, лазн-яў, стайн-яў, бойн-яў, харчэўн-яў, чытальн-яў, купальн-яў, спальн-яў, аўчарн-яў, пільн-яў, таможн-яў, бляхарн-яў, сталярн-яў, гульн-яў, пральн-яў, эскадрылл-яў, госц-яў.*

*Яна задыхалася ў клубах пылу, які ляцеў з-пад соцень машын, з-пад тысяч салдацкіх ног, што паблісквалі на сонцы сцёртымі цвікамі* *п а д э ш в а ў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Зноў бачу, як ідзе ў паход натоўп шматтысячны і грозны, сцягоў чырвоных, і* *а д о з в а ў*, *і песень сонечных узлёт* (М. Танк. Вагон калыша). *У новых бітвах сонца ўстане, да новых* *б і т в а ў* *будзь гатоў!* (М. Танк. Не забывай). *Унізе рассцілаўся горад з бліщчастымі вежамі* *ц э р к в а ў* *і касцёлаў* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Хмары спалі ці прапалі і на шэлег не зважалі ні* *м а л і т в а ў*, *ні тых слоў* (Я. Колас. За дождж). *Мінуўся* *г у л ь н я ў* *час* (А. Куляшоў. Шэршні). *Л а з н я ў* *болей — больш здароўя* (К. Крапіва. Будуйце лазні).

Некаторыя назоўнікі са збегам зычных у канцы асновы дапускаюць паралельнае ўжыванне іх як з нулявым канчаткам, так і з канчаткам **-аў̆ (-яў̆)**: *верб — вербаў, бомб — бомбаў, дамб — дамбаў, лямп — лямпаў, норм — нормаў, форм — формаў, ферм — фермаў, сцірт — сціртаў, шахт — шахтаў, мачт — мачтаў, рыфм — рыфмаў, тайн — тайнаў, цыстэрн — цыстэрнаў, пушч — пушчаў, плошч — плошчаў, іскр — іскраў, скарг — скаргаў, вольх — вольхаў, розг — розгаў, фаланг — фалангаў, шарэнг — шарэнгаў, штанг — штангаў, чаромх — чаромхаў* і інш.

*Садок быў, праўда, невялічкі: дзве верабіны ды тры дзічкі ды між* *в е р б* *ліпка маладая, бы іх унучка дарагая* (Я. Колас. Новая зямля). *Ой, не гніце, ветры,* *в е р б а ў* *над ракою, над ракою быстрай не шумі, чарот* (М. Танк. Ой, не гніце, ветры).

Назоўнікі, у якіх паміж канцавымі зычнымі асновы можа паяўляцца беглы або ўстаўны галосны (**е, ё, а**), выступаюць у родным склоне множнага ліку з нулявым канчаткам; калі ж гэтыя назоўнікі ўжываюцца без беглага або ўстаўнога галоснага паміж канцавымі зычнымі асновы, то яны выступаюць з канчаткам **-аў̆(-яў̆)**, напр.: *сасна — сосен — соснаў, баразна — баразён — бароэнаў, сястра — сясцёр — сёстраў, грэбля — грэбель — грэбляў, аглобля — аглабель — аглобляў, кропля — кропель — кропляў, зямля — зямель — земляў, сушня — сушань — сушняў, майстэрня — майстэрань — майстэрняў, малатарня — малатарань — малатарняў, кухня — кухань — кухняў, сотня — соцень — сотняў.*

*На іх долю нічога не давялося з панскіх* *з я м е л ь*, *а на гэтых землях асталяваліся саўгасы* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *І мы адплоцім ворагу за пагібель нашых дзяцей, матак і* *с я с ц ё р* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона). *Некалькі* *м а л а т а р а н ь* *гуло з цямна да цямна* (К. Чорны. Зямля). *Зусім малых дзяцей жанчыны неслі на руках. Трэба было бачыць твары гэтых жанчын, матак і* *с ё с т р а ў* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Нават на гумнах сціхаў гул* *м а л а т а р н я ў*, *і толькі воблакі дыму слаліся па гародах* *а д* *с у ш н я ў* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце).

Заўвага. Назоўнікі жаночага роду, у якіх аснова заканчваецца суфіксальным **-к-**, ужываюцца ў родным склоне множнага ліку толькі з нулявым канчаткам, прычым перад гэтым **-к-** заўсёды паяўляецца беглы або ўстаўны галосны (**е, а**): *вёсак, зямля-*

*нак, будак, рэек, кветак, красак, вестак, дарожак, думак, дошак, казак, баек, бэлек, хвоек, нянек, сцежак, стрэлак, бочак, авечак, птушак, качак, чаек, ластавак, распрацовак, установак, прыпевак, пляцовак, камандзіровак, мясцінак, рэчак, фігурак, зорак, лямпачак, хатак, хмарак, алешынак, бярозак, шпілек* і інш.

*Моцны пах антонавак, змешаны з пахам іржышча і свежай саломы, насычае паветра* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Многа баек ёсць на свеце* (Я. Колас. Батрак). *Меў Санька ў лесе многа ўлюблёных, запаветных мясцінак, любімых дрэў* (У. Краўчанка. Санькава ліпа). *Галіны алешынак і бярозак секлі яе твар, але яна бегла і бегла* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

§ 98. У давальным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, у тым ліку на **р, ж (дж), ш, ч (шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-ам,** а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ям.**

*Равуць прагавіта маторы, калёсы барозняць пясок, раскоцістым рэхам уторыць машынам суседні лясок* (Я. Колас. Адплата). *Чыя песняскарга ў неба йдзе дакорам, к месяцу і сонцу і к далёкім зорам?* (Я. Колас. Ворагам). *Думка, выказаная Тварыцкай, паклала пачатак спрэчкам, і праект быў адхілен* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Гляджу на ўсё ў радасным здзіўленні— як ластаўка гняздо старанна лепіць і як шчупак ў затоне ломіць аір, як дзед-садоўнік беліць ногі вішням і песню пра Купаліньку пяе* (П. Панчанка. Сэрца). *Падаслан пад ногі хвоям мох пушысты* (П. Панчанка. Пагранічча).

§ 99. У вінавальным склоне множнага ліку неадушаўлёныя назоўнікі жаночага роду маюць канчаткі назоўнага склону, адушаўлёныя — канчаткі роднага склону.

*Дождж барабаніў у шыбы акон* (П. Глебка. Трывога). *Цяпер брыгада ішла на свае знаёмыя мясціны* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ён так любіў кветкі і пчол, матылёў, вясёлых майскіх хрушчоў, залятаўшых у зялёны палісаднік* (М. Лынькоў. Ірына). *Ён злез з печы, апрануўся і ўзяў рукавіцы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Шукаў ахвяр сваіх каршун* (Я. Купала. З песень аб вясне). *Яшчэ не сціхла страляніна, а ўжо для нас з усіх бакоў нясуць жанчыны слівы, дыні, частуюць свежым малаком* (А. Бачыла. Радасць).

§ 100. У творным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, у тым ліку на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-амі,** а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ямі.**

*Каля пагрузачнай пляцоўкі расцягнуўся эшалон з платформамі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Ён слязамі жаль свой выліў, смутак імі спаласкаў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Куфэрак і пілы з сякерамі ўжо ляжалі ў санях* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Я спакойны юнак, можа нават крыху сарамлівы, не пакрыўджу і птушкі, бо знаю: ёй хочацца жыць; але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы, я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць* (П. Панчанка. Радзіме). *Воз са свіннямі цяжкі, наўдачу ці ён далёка мог ад'ехаць* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Наўкруга новы горад то з лініямі ясных фасадаў, то пачатага будаўніцтва з выцягнутымі над ім стрэламі кранаў* (Я. Скрыган. Дом № 9).

Заўвага. У размоўным стылі, а пад яго ўплывам і ў мове мастацкай літаратуры некаторыя назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя і мяккія зычныя могуць выступаць у творным склоне множнага ліку з канчаткам **-мі.**

*Слязьмі ворага не паб'еш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Абоз з свіньмі спыніўся на папаску* (К. Чорны. Трыццаць год). *Ён стаяў... босы, у калісьці жоўтых галіфэ, у непадпяразанай старой рубашцы з кішэньмі на грудзях* (К. Чорны. Звяга). *А ў іх над галоўмі буялі палі, ўспаміналі, што ў сённяшні ранак плылі над пасёлкамі хмар караблі, вялі іх удалеч вятры-капітаны* (П. Броўка. Браты).

§ 101. У месным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, у тым ліку на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-ах,** а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ях.**

*У чорных* *б а р о з н а х* *спіць буйны ўраджай* (М. Т а н к. Песня трактарыста). *Глядзеце, у п а р а х а ў н і ц а х набой каб не замок!* (М. Т а н к. Каліноўскі). *Сярод дзікіх пустынь, п а д а р о г а х, нікім не топтаных, я ў бяскрайнасць імчуся на лёгкім кані* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі). *Будзі, вясна, магутныя акорды, да творчай працы заклікай, гартуй нам дужасць у р у к а х, а на абліччах нашых — гордасць* (П. Г л е б к а. Заклік да вясны). *Міхал быў у шарачковай кароткай вопратцы н а к у д з е л я х* (К. Ч о р н ы. Вясна). *А б слаўных п а д з е я х над ракой Арэсай расказаў у сваёй выдатнай паэме Янка Купала* (К. К р а п і в а. «Над ракою Арэсай»).

## ***Скланенне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага і агульнага роду з канчаткам* -а(-я) *у назоўным склоне адзіночнага ліку***

### § 102. Узор скланення назоўнікаў мужчынскага роду на *-а(-я)*

Адзіночны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *мужчын-а* | *стараст-а* | *ваявод-а* | *прамоўц-а* |
| Р. | *мужчын-ы* | *стараст-ы* | *ваявод-ы* | *прамоўц-ы* |
| Д. | *мужчын-у* (*-е*) | *стараст-у* (*-е*) | *ваявод-у* (*-е*) | *прамоўц-у* (*-ы*) |
| В. | *мужчын-у* | *стараст-у* | *ваявод-у* | *прамоўц-у* |
| Т. | *мужчын-ам* | *стараст-ам* | *ваявод-ам* | *прамоўц-ам* |
| М. | (*аб*) *мужчын-у* (*-е*) | *стараст-у* (*-е*) | *ваявод-у* (*-е*) | *прамоўц-у* (*-ы*) |

Аснова на г, к

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *бацьк-а* | *калег-а* | *музык-а* |
| Р. | *бацьк-і* | *калег-і* | *музык-і* |
| Д. | *бацьк-у* | *калег-у* | *музык-у* |
| В. | *бацьк-у* | *калег-у* | *музык-у* |
| Т. | *бацьк-ам* | *калег-ам* | *музык-ам* |
| М. | (*аб*) *бацьк-у* | *калег-у* | *музык-у* |

Аснова на мяккія зычныя

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *старшын-я* | *суддз-я* |
| Р. | *старшын-і* | *суддз-і* |
| Д. | *старшын-ю* (*-і*) | *суддз-ю* (*-і*) |
| В. | *старшын-ю* | *суддз-ю* |
| Т. | *старшын-ём* (*-ёй*) | *суддз-ём* (*-ёй*) |
| М. | (*аб*) *старшын-ю* (*-і*) | *суддз-ю* (*-і*) |

Множны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *мужчын-ы* | *стараст-ы* | *ваявод-ы* | *прамоўц-ы* |
| Р. | *мужчын* | *стараст* (*-аў*) | *ваявод* | *прамоўц-аў* |
| Д. | *мужчын-ам* | *стараст-ам* | *ваявод-ам* | *прамоўц-ам* |
| В. | *мужчын* | *стараст* (*-аў*) | *ваявод* | *прамоўц-аў* |
| Т. | *мужчын-амі* | *стараст-амі* | *ваявод-амі* | *прамоўц-амі* |
| М. | (*аб*) *мужчын-ах* | *стараст-ах* | *ваявод-ах* | *прамоўц-ах* |

Аснова на г, к

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *ба́цьк-і* | *калег-і* | *музык-і* |
| Р. | *ба́цьк-аў* | *калег* | *музык* (*-аў*) |
| Д. | *ба́цьк-ам* | *калег-ам* | *музык-ам* |
| В. | *ба́цьк-аў* | *калег* | *музык* (*-аў*) |
| Т. | *ба́цьк-амі* | *калег-амі* | *музык-амі* |
| М. | (*аб*) *ба́цьк-ах* | *калег-ах* | *музык-ах* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *старшын-і* | *суддз-і* |
| Р. | *старшынь* | *суддз-яў* |
| Д. | *старшын-ям* | *суддз-ям* |
| В. | *старшынь* | *суддз-яў* |
| Т. | *старшын-ямі* | *суддз-ямі* |
| М. | (*аб*) *старшын-ях* | *суддз-ях* |

§ 103. Агульныя і ўласныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя зычныя, на **г, к** у назоўным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-а**, а назоўнікі з асновай на мяккія зычныя — канчатак **-я**: *мужчын-а, стараст-а, Кузьм-а, Мікіт-а, Даніл-а, прамоўц-а, калег-а, бацьк-а, Саўк-а, Янк-а, старшын-я, суддз-я, Вас-я, Косц-я, Пец-я.*

§ 104. Пад уплывам народных гаворак у мастацкай літаратуры, асабліва першай палавіны XX стагоддзя, асабовыя назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)** маглі выступаць у формах клічнага склону, якія ў наш час не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*Т а т у л ь к у, я хачу чытаць; т а т у л ь к у, хачу свет пазнаць; т а т у л ь к у, ехаць хачу праз моры; т а т у л ь к у, пабачыць хачу горы* (Ц ё т к а. Сынок маленькі). *Бяры хутчэй сявеньку, выходзь на ўзораны загон, сей, б р а т к у, памаленьку* (М. Ч а р о т. Аратаму). *«Ну, а што ж ты мне, старому, думай, хлопчыку, сказаць?» — «Тое, д з е д к у, што нікому, — табе толькі можна знаць»* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Будзь здароў, к о с ю! Хоць жаль мне цябе, — хворы Сымонка чакае!* (Я. К у п а л а. У пініпаўку).

§ 105. У родным і вінавальным склонах адзіночнага ліку адушаўлёныя назоўнікі на **-а(-я)** маюць канчаткі назоўнікаў жаночага роду II скланення (гл. § 91, 93).

*Некалькі чалавек сабралася перад домам сельскага с т а р а с т ы Спірыдона Ганарджыя* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Радасць у А л ё ш ы была шырокаю* (К. Ч о р н ы. Бяздонне). *У гэты момант усім здалося, што вусы ў д з я д з ь к і Людвіка яшчэ больш, як заўсёды, абвіслі ўніз* (К. Ч о р н ы. Навагодняя ноч). *Ужо ў самым тоне першых слоў с т а р ш ы н і ўсім пачулася значнасць яго размовы з дзяўчынай* (Я. К о л а с. Кінахроніка).

*С т а р а с т у асвяціла ўрэшце добрая думка* (Я. К о л а с. Кантракт). *Людзі ў зашмальцаваных шынялях, у ватоўках, у звычайных сялянскіх світках слухалі моўчкі п р а м о ў ц у* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Можа ён тут і не быў бы, каб не думка п р а б а ц ь к у* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Выберам раней с т а р ш ы н ю, каб ён правёў сход* (Я. К о л а с. У чым іх сіла).

§ 106. У давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)** звычайна скланяюцца па ўзору назоўнікаў мужчынскага роду I скланення (гл. § 62, 64, 65).

*У апошні раз надумаў Драздоўскі сход сабраць, наказаў с т а р а с т у, а сам пазваў Шклярскага пайсці на паляванне* (П. Г а л а в а ч. Рубанаўскі вузел). *І я гэтак сама сягоннячы рад, што нашы айсы падымаюцца ўгору, што слесару М і ш у, каторы мой брат, не будзе за брата малодшага сорам* (П. Г л е б к а. Перамога). *Не на людзях жа пускаць слёзы М і к о л к у, яму ж трынаццаць год, ён жа мужчына* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз). *Школьнікі цвёрда абяцалі с т а р ш ы н ю калгаса арганізаваць догляд маладняку* (з газет).

*Зусім змяніўся стары бондар Сымон, які зрабіўся с т а р а с т а м у сваёй вёсцы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Туравец быў добрым п р а м о ў ц а м* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Пасля поўдня Уладзік з д з я д з ь к а м Антосем выбраліся ехаць у лес* (К. Ч о р н ы. Спатканне). *І цяпер Каці было добра і ад гэтай дружбы з В а л о д з е м, і ад сяброўства з Мурашовай* (Я. С к р ы г а н. Каця з фармовачнай).

*Адзежа н а К і р ы л у правяла і прасохла, але Астаповіч прынёс яму бялізну і сухую вопратку* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Для яе нічога няма больш светлага, чым памяць а б б а ц ь к у, якога яна не бачыла*

(І. Шамякін. Крыніцы). *Калгаснікі доўга расказвалі нам аб сваім старшыню, аб яго старанкай працы на карысць калектыўнай гаспадаркі* (з газет).

Побач з адзначанымі канчаткамі ў назоўніках мужчынскага роду на **-а(-я)** у давальным і месным склонах, як і ў назоўным, родным і вінавальным, дапускаецца ўжыванне канчаткаў назоўнікаў жаночага роду другога скланення (гл. § 92, 95).

*І Арцём заварушыўся, пасунуўся, каб даць старасце месца* (Я. Колас. Недаступны). *Старшыні калгаса і членам праўлення нічога болей не заставалася, як толькі знайсці адпаведнага кандыдата* (Я. Колас. Кінахроніка). *А Ільі ўсё не верылася, што* [бандыты] *могуць забіць, што ён — жывы і зусім здаровы — праз некалькі хвілін будзе сцякаць крывёй ноччу ў лесе* (П. Галавач. Суседзі).

*Я вось толькі думаў аб старасце... Вам трэба старасту абраць, праз яго і будзеце ведаць пра ўсе парадкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Калі ўрэшце дайшло да яго, што пытаюцца аб старшыні, ён таксама рашуча заявіў: «Нічога не ведаю!»* (там жа).

У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі *суддзя, старшыня* ў жывой практыцы часцей сустракаюцца з канчаткам жаночага роду **-ёй(-ёю).**

*Ён быў настаўнікам, суддзёю, калі, бывала, між сабою пасварацца дзеткі ці паб'юцца* (Я. Колас. Новая зямля). *Мы слухалі з суддзёй пра селекцыю, і кожны з нас думаў сваё* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»). *Андрэй ужо сядзеў за сталом з старшынёй сельсавета, праглядаў нейкія паперы і запісваў сабе* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Ну, каго хочаце мець старшынёю?* (Я. Колас. Выбар старшыні).

Заўвага. З канчаткам назоўнікаў жаночага роду II скланення ў творным склоне адзіночнага ліку ў мове мастацкай літаратуры часам сустракаюцца і іншыя назоўнікі мужчынскага роду на **-а**, аднак гэтыя выпадкі з'яўляюцца адступленнем ад сучаснай літаратурнай нормы.

*Жывуць Таня з Данілаю, і цешыцца ён мілаю* (Я. Колас. Паслушная жонка). *І раптам Стронін сустрэўся вачыма з Алёшай, глянуў на рабочых* (К. Чорны. Бяздонне). *За родну песню будзь ваякай* (Я. Купала. Песняру-беларусу). *Звалі дзяўчыну Маланкай, хлопца, чуў, клікалі Янкай* (Я. Купала. Як у повесці). *Між Іванам і Васькай цячэ мірная бяседа* (М. Лынькоў. Над Бугам). *Ён быў музыкай* (З. Астапенка. Эдэм).

Назоўнікі мужчынскага роду на **-а** з цвёрдай асновай, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі і маюць націск на канчатку, у давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку выступаюць з канчаткамі назоўнікаў жаночага роду II скланення: *Кузьм-е, Кузьм-ой, (аб) Кузьм-е.*

*Ёй хацелася пагаварыць, але Кузьме не было часу, бо ён закапаўся ў сваёй рабоце* (Я. Колас. Адукацыя). *Насця трохі паплакала. Не будзе ёй долі з Кузьмой* (там жа).

§ 107. У назоўным, давальным, творным і месным склонах множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)** маюць тыя ж канчаткі, што і назоўнікі I і II скланенняў множнага ліку.

*На ярусах стаяць маладыя хлопцы і сталыя мужчыны з бомамі ў руках* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Шчыльнай сцяною ваякі стаяць, дуб іх шатром прыкрывае* (Я. Колас. Суд у лесе). *Параіліся тут суддзі і зірнулі на грамаду* (там жа).

[Валя] *усюды як быццам хацела давесці мужчынам, што ўсё... можа зрабіць і яна* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *На помсту клічуць кроў, ахвяры — забойцам месц няма нідзе!* (Я. Колас. Суд у лесе). *Губіч суддзям, суду раптам бух у ногі: — Вас прашу, грамаду — збіўся я з дарогі!* (там жа).

*Пасля падышоў Андрэй з некаторымі мужчынамі, найшло хлопцаў і дзяўчат, жанок* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Касьба ў Купалы асацыіруецца з народнай вайной, а касцы—з ваякамі* (В. Івашын. Янка Купала).

*Агітатар правёў у брыгадзе гутарку а б народных с у д д з я х, аб іх рабоце па ўмацаванню сацыялістычнай законнасці* (з газет).

§ 108. У родным і вінавальным склонах множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)** часцей ужываюцца з нулявым канчаткам, як і назоўнікі жаночага роду II скланення.

*Некалькі м у ж ч ы н паволі апускалі ў студню прынесеныя драбіны* (Я. К о л а с. Недаступны). *Большасць сержантаў, с т а р ш ы н і некаторыя афіцэры засталіся ў новай часці* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Той нават у прыклад другім старастам ставіў яго, Сымона, спецыяльна гаварыў аб ім на нарадзе ўсіх с т а р а с т* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Не абыякавым было гэта пытанне і д л я с т а р ш ы н ь калгасаў* («Звязда»). *Ляжаць зарытыя тут косці в а я к гаротных за жыццё* (Я. К у п а л а. На могілках). *Ён кінуў позірк н а м у ж ч ы н і, задаволены плёнам іх працы, весела загаварыў* (з газет).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі ўжывання такіх назоўнікаў з канчаткам **-аў (-яў)**.

*О Нёман, о бацька мой Нёман, як сонца, як дзень, дарагі! Касцямі з в я р у г а ў шалёных усланы твае берагі* (А. А с т р э й к а. Нёман).

З канчаткам **-аў(-яў)** у родным і вінавальным склонах множнага ліку ўжываюцца звычайна такія назоўнікі мужчынскага роду на **-а(-я)**, аснова якіх заканчваецца збегам зычных: *прамоўцаў, забойцаў, суддзяў, бацькаў, дзядзькаў.*

*Следства не знайшло ні забітага селькора, ні яго з а б о й ц а ў* (Э. С а м у й л ё н а к. Русалчыны сцежкі). *Выберам с у д д з я ў. Хто адвакат? Хто будзе за пракурора? Рук пракурорскіх злічана шмат, рук адваката — з ім горай* (Я. К о л а с. Суд у лесе).

З а ў в а г а. Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду на **-а (-я)** са збегам зычных у аснове ўжываюцца ў родным склоне множнага ліку як з нулявым канчаткам, так і з канчаткам **-аў(-яў)**.

*Няма там с т а р а с т, ваяводы, і паліцэйскага дзярма* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *С т а р а с т а ў* [фашысты] *панаставілі, нагналі паліцаяў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

## § 109. Узор скланення назоўнікаў агульнага роду на *-а (-я)*

А д з і н о ч н ы л і к

А с н о в а н а ц в ё р д ы я з ы ч н ы я

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *плакс-а* | *запявал-а* | *кніганош-а* |
| Р. | *плакс-ы* | *запявал-ы* | *кніганош-ы* |
| Д. | *плакс-е (-у)* | *запявал-е (-у)* | *кніганош-ы (-у)* |
| В. | *плакс-у* | *запявал-у* | *кніганош-у* |
| Т. | *плакс-ай (-ам)* | *запявал-ай (-ам)* | *кніганош-ай (-ам)* |
| М. | *(аб) плакс-е (-у)* | *запявал-е (-у)* | *кніганош-ы (-у)* |

А с н о в ы н а **г, к**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *калек-а* | *сведк-а* | *туляг-а* |
| Р. | *калек-і* | *сведк-і* | *туляг-і* |
| Д. | *калец-ы (-у)* | *сведц-ы (-у)* | *туляз-е (-у)* |
| В. | *калек-у* | *сведк-у* | *туляг-у* |
| Т. | *калек-ай (-ам)* | *сведк-ай (-ам)* | *туляг-ай (-ам)* |
| М. | *(аб) калец-ы (-у)* | *сведц-ы (-у)* | *туляз-е (-у)* |

А с н о в а н а м я к к і я з ы ч н ы я

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *ціхон-я* | *пустамел-я* |
| Р. | *ціхон-і* | *пустамел-і* |
| Д. | *ціхон-і (-ю)* | *пустамел-і (-ю)* |
| В. | *ціхон-ю* | *пустамел-ю* |
| Т. | *ціхон-яй (-ем)* | *пустамел-яй (-ем)* |
| М. | *(аб) ціхон-і (-ю)* | *пустамел-і (-ю)* |

Множны лік

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *плакс-ы* | *запявал-ы* | *кніганош-ы* |
| Р. | *плакс (-аў)* | *запявал* | *кніганош* |
| Д. | *плакс-ам* | *запявал-ам* | *кніганош-ам* |
| В. | *плакс (-аў)* | *запявал* | *кніганош* |
| Т. | *плакс-амі* | *запявал-амі* | *кніганош-амі* |
| М. | *(аб) плакс-ах* | *запявал-ах* | *кніганош-ах* |

Аснова на г, к

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *калек-і* | *сведк-і* | *туляг-і* |
| Р. | *калек* | *сведак (-аў)* | *туляг* |
| Д. | *калек-ам* | *сведк-ам* | *туляг-ам* |
| В. | *калек* | *сведак (-аў)* | *туляг* |
| Т. | *калек-амі* | *сведк-амі* | *туляг-амі* |
| М. | *(аб) калек-ах* | *сведк-ах* | *туляг-ах* |

Аснова на мяккія зычныя

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *ціхон-і* | *пустамел-і* |
| Р. | *ціхонь (-яў)* | *пустамель (-яў)* |
| Д. | *ціхон-ям* | *пустамел-ям* |
| В. | *ціхонь (-яў)* | *пустамель (-яў)* |
| Т. | *ціхон-ямі* | *пустамел-ямі* |
| М. | *(аб) ціхон-ях* | *пустамел-ях* |

§ 110. У назоўным, родным і вінавальным склонах адзіночнага ліку назоўнікі агульнага роду маюць канчаткі назоўнікаў жаночага роду II скланення (гл. § 90, 91, 93): *сірата, няўклюда, скнара, кніганоша, тупіца, выжыга, недарэка, соня; сіраты, няўклюды, скнары, кніганошы, тупіцы, выжыгі, недарэкі, соні; сірату, няўклюду, скнару, кніганошу, тупіцу, выжыгу, недарэку, соню.*

*Ліпка не плакала б — Ліпка н е  п л а к с а! — ды вось нехта нягодны зламаў два маленькія дрэўцы* (Я. Б р ы л ь. Светлае ранне). *Гэты ц і х о н я  Віктар Зялёнка наладзіў цэлы спектакль з нікчэмнай амёбай* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *І ён папоўз паўзком т у л я г і уніз к балоціне, на гаць* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *З дванаццаці год яго, с і р а т у, прыняў у пякарню багаты сваяк* (З. Б я д у л я. Таварыш Мінкін). *Вядома, зайздрасць брала с к н а р у, як да суседа сабіраліся сыны* (Э. В а л а с е в і ч. Скнара). *І што чакае ў будучыні к а л е к у  Міха і малога, неразумнага яшчэ Вано?* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Уга... знайшлі  ц і х о н ю... Гэта не дзед, а яхіда чыстая...* (М. Л ы н ь к о ў. Дзед Аўсей і Палашка).

§ 111. У давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі агульнага роду на **-а(-я)**, якія абазначаюць асоб жаночага полу, маюць канчаткі назоўнікаў жаночага роду II скланення (гл. § 92, 94, 95), а назоўнікі агульнага роду, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, — канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду I скланення (гл. § 62, 64, 65).

*Пісаў ён, каб ведалі людзі, што вестка не згіне нідзе, пісаў ён, каб слова ёй суддзі, як  с в е д ц ы, далі на судзе* (А. К у л я ш о ў. Балада пра вестку). *Яму як  с в е д к у  і актыўнаму ўдзельніку калгаснага будаўніцтва на працягу многіх гадоў асабліва радасным было адчуваць плён калектыўнай працы* (з газет). *У гуртку мастацкай самадзейнасці і на вечарынках яна заўсёды была з а п я в а л а й* (А. С т а х о в і ч. Шырокія гарызонты). *За гутаркаю пасыпаліся песні; з а п я в а л а м  вызваўся Хлор, завёўшы разухабістую вясельную песню* (Ц. Г а р т н ы.

Сокі цаліны). *Жыў ён са сваёй адзінай дачкой-к а л е к а й, гарбатай ад нараджэння* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Рука яго больш у локці не згіналася, ён астаўся к а л е к а м назаўсёды* (К. Ч о р н ы. Злачынца пакараны). *Ей у свеце рознай справы с в е д к а й быць прыйшлося* (Я. К о л а с. Батрак). *Пушча грозна гудзе. Будзе суд. З пушчы той ён ідзе, — на судзе быць не с в е д к а м — суддзёй* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *А б калгаснай л і с т а н о ш ы Веры Бандарчук, яе стараннай працы неаднаразова паведамлялася ў друку* (з газет).

З а ў в а г а 1. У давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі агульнага роду, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, часам сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры і з канчаткамі назоўнікаў жаночага роду II скланення.

*Чаму ж мне, к а л е ц ы, лета ці зіма, чаму ж мне падзецца няма дзе, няма?* (Я. К у п а л а. Падарожны). *І толькі ў злосці назваў Грышка Базыля насалём — у Базыля быў даўгаваты нос, — а Базыль Грышку абазваў р а б э й з а ю* (Я. К о л а с. У старых дубах). *І прад такім вось г а л а м о ў з а й не смей стаць роўна ты, а поўзай!* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Я хацеў бы прайсці па дарогах вайны л і с т а н о ш а й і бацькам назаўсёды вярнуць іх дзяцей адрасы* (А. К у л я ш о ў. Дом № 24). *...Вось хітрая барада, такім жа ц і х о н я й прыкідваўся, прыбядняўся!* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *І яму незвычайна моцна хацелася жыць, хацелася быць с в е д к а ю тых вынікаў жыцця, якія прынясуць з сабою камуністы, і тых форм новага будаўніцтва, у якія выльецца гэта жыццё* (Я. К о л а с. Сяргей Карага).

З а ў в а г а 2. Назоўнік *сірата* ва ўсіх склонах адзіночнага ліку мае толькі канчаткі назоўнікаў жаночага роду II скланення з цвёрдай асновай: Н. *сірат-а*, Р. *сірат-ы*, Д. *сірац-е*, В. *сірат-у*, Т. *сірат-ой(-ою)*, М. *(аб) сірац-е*.

*Гадавалася я круглай с і р а т о й — ні бацькоў, ні братоў, ні сясцёр і ніякіх родных* (З. Б я д у л я. Навагодняя ёлка). *Замалада яны* [бацькі] *паўміралі... і пакінулі сына круглым с і р а т о ю* (А. Я к і м о в і ч. Ля камінку).

§ 112. Прозвішчы на **-а(-я)**, якія паходзяць ад назваў прадметаў жаночага роду (за выключэннем прозвішчаў на ненаціскныя *-га, -ка, -ха*), скланяюцца незалежна ад полу іх носьбітаў па ўзору адпаведных агульных назоўнікаў жаночага роду II скланення (гл. § 88—95).

*Маркотна Л а г о д з е* (Я. К о л а с. У дварэ пана Тарбецкага). *Толькі ж памятай, што калі ты мяне выдасі Д у б і н е, то ні ад цябе, ні ад твайго хутара не астанецца і следу* (Я. К о л а с. Адзін). *Уперадзе на вазку — Рудзін, сядзеў ён з Н а з д р о й, а ззаду ехаў фурман земскага* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *Гарыдавец успомніў даўні Лог, як з Януком С я л і б а й палявалі* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Але тут перад ім мы з Н я д о л я й стаім* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Голубу хацелася пасля бачанага пагаварыць з М у ш к а й* (П. Г а л а в а ч. Уцякач).

Такім жа чынам скланяюцца прозвішчы на **-еня, -эня, -уня, -юня** *(Васіленя, Ляўчэня, Шабуня, Бацюня)* і складаныя прозвішчы, у якіх апошняя частка з'яўляецца назоўнікам жаночага роду на **-а** *(Вяршыгара, Майбарада, Папівода* і інш.).

Калі ж прозвішчамі з'яўляюцца назвы жаночага роду на ненаціскныя *-га, -ка, -ха (Кніга, Мурашка, Саладуха* і інш.), то ў давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку яны маюць канчаткі або назоўнікаў жаночага роду II скланення (калі яны абазначаюць асоб жаночага полу), або назоўнікаў мужчынскага роду I скланення (калі яны абазначаюць асоб мужчынскага полу): Д. *Канапельцы — Канапельку*, Т. *Канапелькай — Канапелькам*, М. *(аб) Канапельцы — Канапельку*.

*Ён пайшоў разам з Апанасам Рыгоравічам і К а н а п е л ь к а м* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ты К а н а п е л ь к а й будзь. Чым была, тым і будзь* (там жа).

Прозвішчы, якія паходзяць ад назоўнікаў ніякага роду на **-а (-я)** *(Шыла, Долата, Ворыва, Сукала* і інш.) або ад назоўнікаў, род якіх выразна не вызначаецца *(Біруля, Бядуля, Сыракомля, Вайда, Купала, Сапега, Машара, Пічэта, Панчанка* і інш.), пры абазначэнні асоб жаночага полу не скланяюцца, а пры абазначэнні асоб мужчынскага полу ў давальным, творным і месным склонах змяняюцца па тыпу назоўнікаў мужчынскага роду I скланення (гл. § 62, 64, 65).

*Лепшыя творы аб змрочным жыцці беларускага сялянства ў дакастрычніцкі час належаць Я. К у п а л у і Я. Коласу* (з газет). *Фатаграфія з Б у х ч а м і Седасам рыжэла з кожным годам* (К. Ч о р н ы. Нянавісць). *Дзед Талаш прыпыняе тэмп свае хады, прымае від чалавека ў глыбокай задумлёнасці, апускае ўніз вочы і павольна ідзе сваёю дарогаю і слухае, аб чым гаворыць пан Крулеўскі з Васілём Б у с ы г а м* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«Скнара, ...і корму не прынёс, а конь галодны стаяў», — гэта ён так думаў а б Г а м ы р у* (Я. К о л а с. На «святой зямлі»).

§ 113. У множным ліку назоўнікі агульнага роду скланяюцца па тыпу назоўнікаў жаночага роду II скланення.

У родным і вінавальным склонах множнага ліку назоўнікі агульнага роду, як і назоўнікі жаночага роду II скланення, звычайна выступаюць з нулявым канчаткам.

*Над свежым насыпам стаялі двое с і р о т* (Э. С а м у й л ё н а к. Дачка эскадрона). *«Не будзе толку,— сказаў ён, аглядаючы сход.— Выгналі кулакоў, трэба выгнаць і п а д п я в а л іхніх»* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *Той мусіць загінуць, хто меч узнімае на галавы мірных т р у д з я г. Няхай жа агорне ноч цёмна-нямая падступных п а д л ю г і т у л я г!* (Я. К о л а с. Шалёнага пса — на ланцуг!). *І паслаў тады атрад н а п а д л ю г* [фашыстаў] *гасцінцаў шмат* (П. Б р о ў к а. Партызан Бумажкоў).

Калі ж аснова назоўнікаў агульнага роду заканчваецца збегам зычных, то ў родным і вінавальным склонах множнага ліку яны ўжываюцца з канчаткам **-аў:** *плакс-аў, шалахт-аў, мурз-аў, падмятайл-аў* (прастамоўн.).

Назоўнік *сведка,* у якім паміж канцавымі зычнымі асновы можа паяўляцца беглы галосны **а,** выступае ў родным і вінавальным склонах множнага ліку з нулявым канчаткам; аднак калі гэты назоўнік ужываецца без беглага галоснага паміж канцавымі зычнымі асновы, то ён выступае ў гэтых склонах з канчаткам **-аў.**

*Сцёпка дастаў з кішэні некалькі памятых лісткоў, азірнуўся, каб не было лішніх с в е д а к* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Тацяна і Жэнька непрыкметна адышлі ў глыб лесу і развіталіся б е з с в е д к а ў* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры з канчаткам **-аў(-яў)** часам ужываюцца назоўнікі агульнага роду, аснова якіх не заканчваецца збегам зычных.

*У іх не першыя ўжо здарэнні, у тых р а с ц я п а ў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Шукай, шукай іх, п а д л ю г а ў!* (там жа). *Трупаў, к а л е к а ў няшчасных без ліку к зямлі прыпала, а з енку і крыку вокал гудзела, як дзе на пажары, аж нават сонца схавалася ў хмары* (Я. К у п а л а. Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску).

## ТРЭЦЯЕ СКЛАНЕННЕ

### *Скланенне назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку*

§ 114. У назоўніках жаночага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку адрозніваюцца наступныя асновы:

а) мяккая: *ніць, даль, сенажаць, завадзь, плынь, прыстань, сувязь, весць, трэль, здань, далонь, пасцель, столь, дэталь, вось, снасць, арцель, спіраль, аброць, косць, постаць, лань, гусь, рысь, нечаканасць, здольнасць, сумленнасць, маўклівасць, задуменнасць, шчырасць, панурасць, смеласць, радасць, прыгожасць;*

б) на губныя зычныя: *кроў, свякроў, любоў, глыб, верф;*

в) на шыпячыя і **р:** *ноч, рэч, печ, мыш, далеч, слодыч, безліч, поўнач, Свіслач, роспач, роскаш, горач, ціш, суш, моц, шыр.*

## § 115. Узор скланення назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне

Адзіночны лік

Аснова на мяккія зычныя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *косць* | *сенажаць* | *столь* | *далонь* | *гусь* |
| Р. | *касц-і* | *сенажац-і* | *стол-і* | *далон-і* | *гус-і* |
| Д. | *касц-і* | *сенажац-і* | *стол-і* | *далон-і* | *гус-і* |
| В. | *косць* | *сенажаць* | *столь* | *далонь* | *гусь* |
| Т. | *косц-ю* | *сенажацц-ю* | *столл-ю* | *далонн-ю* | *гусс-ю* |
| М. | *(аб) касц-і* | *сенажац-і* | *стол-і* | *далон-і* | *гус-і* |

Аснова на губныя зычныя

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *глыб* | *кроў* | *верф* |
| Р. | *глыб-і* | *крыв-і* | *верф-і* |
| Д. | *глыб-і* | *крыв-і* | *верф-і* |
| В. | *глыб* | *кроў* | *верф* |
| Т. | *глыбј-у* | *кроў-ю* | *верфј-у* |
| М. | *(аб) глыб-і* | *крыв-і* | *верф-і* |

Аснова на шыпячыя і **р**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *ноч* | *рэч* | *печ* | *мыш* | *шыр* |
| Р. | *ноч-ы* | *рэч-ы* | *печ-ы* | *мыш-ы* | *шыр-ы* |
| Д. | *ноч-ы* | *рэч-ы* | *печ-ы* | *мыш-ы* | *шыр-ы* |
| В. | *ноч* | *рэч* | *печ* | *мыш* | *шыр* |
| Т. | *ночч-у* | *рэчч-у* | *печч-у* | *мышш-у* | *шырј-у* |
| М. | *(аб) ноч-ы* | *рэч-ы* | *печ-ы* | *мыш-ы* | *шыр-ы* |

Множны лік

Аснова на мяккія зычныя

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *косц-і* | *сенажац-і* | *стол-і* | *далон-і* | *гус-і* |
| Р. | *касц-ей* | *сенажац-ей* | *стол-ей* | *далон-ей* | *гус-ей* |
| Д. | *касц-ям* | *сенажац-ям* | *стол-ям* | *далон-ям* | *гус-ям* |
| В. | *косц-і* | *сенажац-і* | *стол-і* | *далон-і* | *гус-ей* |
| Т. | *касц-ямі* | *сенажац-ямі* | *стол-ямі* | *далон-ямі* | *гус-ямі* |
| М. | *(аб) касц-ях* | *сенажац-ях* | *стол-ях* | *далон-ях* | *гус-ях* |

Аснова на губныя зычныя

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *глыб-і* | *верф-і* |
| Р. | *глыб-ей* | *верф-ей* |
| Д. | *глыб-ям* | *верф-ям* |
| В. | *глыб-і* | *верф-і* |
| Т. | *глыб-ямі* | *верф-ямі* |
| М. | *(аб) глыб-ях* | *верф-ях* |

Аснова на шыпячыя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *ноч-ы* | *рэч-ы* | *печ-ы* | *мыш-ы* |
| Р. | *нач-эй* | *рэч-аў* | *пяч-эй* | *мыш-эй* |
| Д. | *нач-ам* | *рэч-ам* | *печ-ам* | *мыш-ам* |
| В. | *ноч-ы* | *рэч-ы* | *печ-ы* | *мыш-эй* |
| Т. | *нач-амі* | *рэч-амі* | *печ-амі* | *мыш-амі* |
| М. | *(аб) нач-ах* | *рэч-ах* | *печ-ах* | *мыш-ах* |

## *Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду III скланення ў адзіночным ліку*

§ 116. У родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія і губныя зычныя маюць канчатак **-і**, а назоўнікі з асновай на шыпячыя і **р** — канчатак **-ы**.

*Ім аставалася прайсці д а п р ы с т а н і каля вярсты* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Шугнулі галубы з-п а д в е р ф і* (М. Л у ж а н і н. На новых прасторах). *练коп стаіць к а л я п е ч ы* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Веру я м а л а д о с ц і і шчасцю: у самоце не будзеш ты жыць, з тваім спрытам нідзе не прапасці і не ведаць дажджлівай імжы* (П. Г л е б к а. Спаткаем вясну). *Цягнік ішоў н а вялікай х у т к а с ц і* (У. К р а ў ч а н к а. Рыгор Шыбай). *У г л ы б і двара, пад разветлым каштанам, сядзеў за сталом Гунава* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *А гэта дубінка, з якою я так казыраўся н а п е ч ы, здалася мне проста смяхотнаю* (Я. К о л а с. Страшнае спатканне).

§ 117. У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія, губныя зычныя і на **р** маюць канчатак **-ю**, а назоўнікі з асновай на шыпячыя — канчатак **-у**.

*Пахла лесам, с м о л л ю* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *На лёгкім ветры паволі плыло н а д р у н н ю павуцінне* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *План аперацыі захапіў камісара сваёй шырынёй і с м е л а с ц ю* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Было тое сэрца дзяўчыне аддана і к р о ў ю за волю працоўных сцякло* (П. Г л е б к а. Курган). *Агонь запалілі мы п о ў н а ч ч у чорнай, — да штурму гартуйце жалеза і сэрца!* (М. Т а н к. Да штурму). *Пасля гэтага Лайрэн змоўк і пачаў разглядаць чорнае сталяванне з абшмальцаванай маціцай н а д п е ч ч у* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *А з боку гэтага следа — двайны след. Гэта імкнуў услед з а м ы ш ш у драпежнік тхор* (там жа).

З а ў в а г а 1. Назоўнікі *гразь, кроў* у мове мастацкай літаратуры пад уплывам паўднёва-заходніх гаворак часта ўжываюцца ў творным склоне адзіночнага ліку таксама з націскным канчаткам **-ёй (-ёю)** (па тыпу назоўнікаў II скланення, гл. § 94).

*Сам вінават — цябе аблае, за няма-што з г р а з ё й змяшае* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Абліты к р ы в ё ю Ваганаў без слова, без гуку асунуўся пад колы гарматы* (Я. К о л а с. Сяргей Карага).

З а ў в а г а 2. У мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя з канчаткамі **-ёй(-ёю)** (пад націскам) і **-ай(-аю), -яй(-яю)** (не пад націскам) нярэдка ўжываліся таксама іншыя назоўнікі III скланення *(свякроў, сенажаць, далонь, ноч, мыш, печ)*, аднак у наш час такія формы ў гэтай групе назоўнікаў з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы.

*Уецца туман с е н а ж а ц я й* (Я. К у п а л а. Песня). *Не хацелася ёй загаварыць з самою с в я к р ы в ё й* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Выцягнуўшы якую дошку з кучы, што ляжала пад плотам, уважліва прыглядаўся да яе, вадзіў яе шурпатай д а л о н я ю, нешта прымерваў на чвэрці, гаварыў задуменна...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н а д п е ч а ю вісела пазвязаная ёю ж самою некалі ўвосені цыбуля* (К. Ч о р н ы. Зямля). *І варона з шула крылламі ўзмахнула — вышай, вышай, вышай! Яна ўжо высока, чуць угледзіць вока; і здаецца м ы ш а й* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *У ручаінцы днём і н о ч а й вадзіца бурліць; у дзяўчынкі гараць вочы, кроў кіпіць, кіпіць* (Я. К у п а л а. Песня).

## *Асаблівасці склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду III скланення ў множным ліку*

§ 118. У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія і на губныя зычныя маюць канчатак **-і**, а назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя — канчатак **-ы**.

*Гудзе зямля, дрыжаць лясы, гамоняць гулка д а л і, і поўняць неба галасы крылатай, звонкай сталі* (Я. К о л а с. Гудзе зямля, дрыжаць лясы...). *Г у с і шэрыя крык узнялі над ракой ля прыціхшай вярбы*

(П. Панчанка. Апошні хутаранін). *У партовых гарадах — Гданьску, Гдыні і Шчэцыне — знаходзяцца суднабудаўнічыя в е р ф і* (І. І. Мамаеў. Эканамічная геаграфія зарубежных краін). *Н о ч ы цяпер вільготныя і цёмныя* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

§ 119. У родным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія і на губныя зычныя маюць канчатак **-ей,** назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя — націскны канчатак **-эй,** а ненаціскны — **-аў**.

*Максіма з сабой, хоць не б е з ц я ж к а с ц е й, але забралі сябры* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Гаворку мужчын раптам перарвала бразгатанне шамкоў і лёскат жалезных в о с е й з Грамабоевага надворку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Лапікі поля і с е н а ж а ц е й густа ўсеяны каменнем* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Была ў гэтай радасці задуменасць жоўтых д а л е й апусцелага поля і трывога шуму сініх кустоў* (К. Чорны. Зямля). *Ён пацёр далонню лоб і толькі цяпер адчуў стомленасць ад трох бяссонных н а ч э й* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Заўвага 1. Пад уплывам мясцовых гаворак у мове мастацкай літаратуры назоўнікі III скланення ў родным склоне множнага ліку часта ўжываюцца таксама з канчаткамі **-яў** (пры мяккай аснове), **-аў** (пры аснове на шыпячыя).

*Яна вясной атуляе музыкай наш бярэзнік, брызгае ў месячную павуціну гучным вадаспадам разнастайных т р э л я ў* (З. Бядуля. Салавей). *Ды ўсё ж святлеюць д а л я ў вочкі і іх бялюткія сарочкі* (Я. Колас. Новая зямля). *Туман. Раса шукае выйсця — стрывожаная вецярком, з пажоўклых жылаватых лісцяў, нібы з д а л о н я ў, лье цурком* (П. Панчанка. Тры дні з упартасцю тупою...). *Знойдзем пешню ці кол на паноў с я р о д с н а с ц я ў рыбацкіх!..* (М. Танк. Нарач). *Каб кветак вясновых багацце злілося з гамонкай пчалінай, каб пахі з усіх с е н е ж а ц я ў сышліся да новай хаціны* (П. Броўка Давайце рамоўкі наладзім). *Дым з п е ч а ў, выходзячы раніцай, па зямлі сцелецца* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *З густаты н о ч а ў, над снегавой шырынёй поля, выплываюць кароткія дні* (К. Чорны. Новыя людзі).

Заўвага 2. Назоўнік *рэч* у родным склоне множнага ліку мае як норму канчатак **-аў**.

*Паступова вызначаліся з цемры абрысы р э ч а ў* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

§ 120. У давальным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія і на губныя зычныя маюць канчатак **-ям,** а назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя — канчатак **-ам**.

*Хай ён там з амбона ў божу дудку дзьме. Хай бубніць варонам мудрасці свае. Хай есць клёцкі ў раі, колькі хоча сам. Хай там байкі бае ўсім святым г у с я м* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна). *Досыць працоўным маліцца р э ч а м папоўскай маны* (К. Крапіва. Мы не паклонімся богу).

§ 121. У вінавальным склоне множнага ліку адушаўлёныя назоўнікі жаночага роду III скланення маюць канчаткі назоўнікаў роднага склону, а неадушаўлёныя назоўнікі — канчаткі назоўнага склону.

*Дзяўчынка нават не заплакала, толькі заспяшалася і выгнала г у с е й з гароху* (З. Бядуля. Пастушка). *Яна сашчаміла пальцы і моцна прыціснула д а л о н і да грудзей* (І. Шамякін. У добры час). *Раскажы п р а цуды-в е р ф і, пра каралавую гаць, каб я мог у звонкіх вершах ўсё, што скажаш, перадаць* (Ю. Таўбін. Мараку). *Забрала Аленка свае пакуначкі, кніжкі і ўсе патрэбныя р э ч ы* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 122. У творным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду III скланення з асновай на мяккія і губныя зычныя маюць канчатак **-ямі,** а назоўнікі жаночага роду з асновай на шыпячыя зычныя — канчатак **-амі.**

*Возера глыбокае, як памяць, ад вады ўзняўся сіні дым, і дубы шырокімі лістамі б'юць, нібы д а л о н я м і, над ім* (П. Броўка. Палессе). *Асака адшумела даўно, і к а с ц я м і не звоніць чарот* (У. Хадыка.

Дзве песні). *З-за мяне маці не спіць цэлымі начамі* (З. Бядуля. У дрымучых лясах).

Заўвага. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры назоўнікі III скланення з мяккай асновай у творным склоне множнага ліку нярэдка ўжываюцца таксама з канчаткам **-мі**.

*Два атрады было ў нас. Ты знаеш сама — лёг адзін з іх касцьмі, камандзіра няма* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Мікола працягваў свістаць, пахаджваючы на памосце, і вымахваў пры гэтым аброцьмі* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Крамарчык, закрываючы папяросу далоньмі, прыкурыў ад папяросы Турчына* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Каржакаватая старадрэвіна тырчэла пры хаце голлем над самай дарогай, і кара на ёй унізе была здзёрта васьмі праезджых вазоў* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

§ 123. У месным склоне множнага ліку назоўнікі III скланення з асновай на мяккія і губныя зычныя маюць канчатак **-ях**, а назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя — канчатак **-ах.**

*Сонныя вароны відны былі на жардзяных загарадзях ля паплавоў* (К. Чорны. Брыгадзірава памылка). *Але там, дзесь у патаемных глыбях, нешта бурліла, кіпела, узнімалася, рвалася наверх* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Яна перастала спаць па начах* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

### РОЗНАСКЛАНЯЛЬНЫЯ НАЗОЎНІКІ

#### § 124. Узор скланення назоўнікаў ніякага роду на *-мя*

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *ім-я* | *плем-я* | *стрэм-я* |
| Р. | *ім-я* (*імен-і*) | *плем-я* (*племен-і*) | *стрэм-я* (*стрэмен-і*) |
| Д. | *ім-ю* (*імен-і*) | *плем-ю* (*племен-і*) | *стрэм-ю* (*стрэмен-і*) |
| В. | *ім-я* | *плем-я* | *стрэм-я* |
| Т. | *ім-ем* (*імен-ем*) | *плем-ем* (*племен-ем*) | *стрэм-ем* (*стрэмен-ем*) |
| М. | (*аб*) *ім-і* (*імен-і*) | *плем-і* (*племен-і*) | *стрэм-і* (*стрэмен-і*) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *бярэм-я* | *сем-я* | *полым-я* |
| Р. | *бярэм-я* | *сем-я* | *полым-я* |
| Д. | *бярэм-ю* | *сем-ю* | *полым-ю* |
| В. | *бярэм-я* | *сем-я* | *полым-я* |
| Т. | *бярэм-ем* | *сем-ем* | *полым-ем* |
| М. | (*аб*) *бярэм-і* | *сем-і* | *полым-і* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *ім-і* (*імён-ы*) | *плямён-ы* |
| Р. | *ім-яў* (*імён, імён-аў*) | *плямён* (*плямён-аў*) |
| Д. | *ім-ям* (*імён-ам*) | *плямён-ам* |
| В. | *ім-і* (*імён-ы*) | *плямён-ы* |
| Т. | *ім-ямі* (*імён-амі*) | *плямён-амі* |
| М. | (*аб*) *ім-ях* (*імён-ах*) | *плямён-ах* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *стрэм-і* (*страмён-ы*) | *бярэм-і* |
| Р. | *стрэм-яў* (*страмён, страмён-аў*) | *бярэм-яў* |
| Д. | *стрэм-ям* (*страмён-ам*) | *бярэм-ям* |
| В. | *стрэм-і* (*страмён-ы*) | *бярэм-і* |
| Т. | *стрэм-ямі* (*страмён-амі*) | *бярэм-ямі* |
| М. | (*аб*) *стрэм-ях* (*страмён-ах*) | *бярэм-ях* |

§ 125. 1. Назоўнікі ніякага роду *імя, стрэмя* ва ўскосных склонах адзіночнага ліку, акрамя вінавальнага склону, а таксама ва ўсіх склонах множнага ліку маюць варыянтныя формы і могуць скланяцца як з устаўкай **-ен-(-ён-),** так і без яе.

Назоўнік *племя* ў множным ліку скланяецца толькі з устаўкай **-ён-**, а ў адзіночным ліку — па ўзору назоўнікаў ніякага роду *імя, стрэмя.*

Назоўнікі на **-мя** без устаўкі **-ен-(-ён-)** скланяюцца па ўзору назоўнікаў I скланення ніякага роду з мяккай асновай тыпу *лісце* (гл. § 75—86).

*Грыміць пракурор на ўвесь лес а д і м я народу і краю, а рэплікі сыплюцца з месц і жару ўсё больш падсыпаюць* (Я. Колас. Суд у лесе). *На жыццёвым шляху ў яго* [Вілі Койфера] *не было ніякіх перашкод. Усё рабілася само сабою дзякуючы грошам і і м ю* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). [Максім] *пачаў прыдзірліва адносіцца да ўсяго, што было звязана з і м е м Васіля* (І. Шамякін. У добры час). *На с т р э м і сядла мільгануў сонечны прамень* (з газет).

З устаўкай гэтыя назоўнікі скланяюцца ў адзіночным ліку, за выключэннем творнага склону, па ўзору назоўнікаў III скланення з мяккай асновай тыпу *косць* (гл. § 114—117). У творным склоне яны маюць канчатак **-ем,** як і назоўнікі ніякага роду I скланення з мяккай асновай тыпу *лісце* (гл. § 80).

*Старэйшы ўнук бабулі быў аднаго ўзросту са мною і аднаго і м е н і* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Калгас названы і м е н е м слаўнага беларускага партызана Канстанціна Заслонава* (з газет).

У множным ліку назоўнікі на **-мя** з устаўкай скланяюцца, як назоўнікі ніякага роду I скланення з цвёрдай асновай тыпу *акно* (гл. § 82—86).

*Каб я ведаў вераб'іныя і м ё н ы, то даў бы яму* [вераб'ю] *самае прыгожае з іх* (Я. Колас. У чым іх сіла). *Аздобіць летапіс аб слаўных і кнігу праўды нашых дзён, як сказ геройства часаў даўных, вянок сягоннямшніх і м ё н* (Я. Колас. Суд у лесе). *Кавалерыйская шабля і маўзер у драўлянай кабуры целяпаліся л я с т р а м ё н* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І п л я м ё н адсталых масы развіваюцца сталі бурна* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос). *Доўга размаўляе з ім Цімох і называе яго рознымі і м ё н а м і* (Я. Колас. Чоран). *Справа тут, вядома, не толькі ў вялікіх і м ё н а х* (Я. Брыль. Вачыма друга).

2. Назоўнікі *бярэмя, вымя, семя, полымя, цемя* скланяюцца без устаўкі **-ен-(-ён-)**, прычым тры апошнія назоўнікі маюць толькі формы адзіночнага ліку.

### § 126. Узор скланення назоўнікаў ніякага роду на *-я (-ё),* якія абазначаюць маладых істот

Адзіночны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *дзіц-я* | *жараб-я (-ё)* | *цял-я (-ё)* | *ягн-я (-ё)* |
| Р. | *дзіцяц-і* | *жарабяц-і* | *цяляц-і* | *ягняц-і* |
| Д. | *дзіцяц-і* | *жарабяц-і* | *цяляц-і* | *ягняц-і* |
| В. | *дзіц-я* | *жараб-я (-ё)* | *цял-я (-ё)* | *ягн-я (-ё)* |
| Т. | *дзіц-ём (дзіц-ем)* | *жараб-ём* | *цял-ём* | *ягн-ём* |
| М. | *(аб) дзіцяц-і* | *жарабяц-і* | *цяляц-і* | *ягняц-і* |

Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *дзец-і* | *жарабят-ы* | *цялят-ы* | *ягнят-ы* |
| Р. | *дзяц-ей* | *жарабят* | *цялят* | *ягнят* |
| Д. | *дзец-ям* | *жарабят-ам* | *цялят-ам* | *ягнят-ам* |
| В. | *дзяц-ей* | *жарабят* | *цялят* | *ягнят* |
| Т. | *дзець-мі (дзец-ямі)* | *жарабят-амі* | *цялят-амі* | *ягнят-амі* |
| М. | *(аб) дзец-ях* | *жарабят-ах* | *цялят-ах* | *ягнят-ах* |

§ 127. Назоўнікі ніякага роду на **-я(-ё),** якія абазначаюць маладых істот, у родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць устаўку **-яц-,** а ва ўсіх склонах множнага ліку — устаўку **-ят-**. Гэтыя на-

зоўнікі скланяюцца аднолькава з назоўнікамі на **-мя,** калі апошнія маюць устаўку **-ен-.**

Назоўнік *дзіця,* які абазначае маладых асоб, у назоўным склоне адзіночнага ліку не мае ў літаратурнай мове варыянтнай формы на **-ё.** У склонавых формах множнага ліку ён ужываецца без устаўкі **-ят-.** У родным склоне множнага ліку назоўнік *дзіця* мае канчатак **-ей** (як у назоўніках жаночага роду III скланення з мяккай асновай), а ў творным склоне — варыянтныя канчаткі **-мі(-ямі).**

З а ў в а г а 1. Назоўнік *дзіцяня(-ё),* які абазначае маладых жывёл, скланяецца па тыпу назоўнікаў *жарабя(-ё), цяля(-ё), ягня(-ё)* і г. д. і мае ў адпаведных склонах адзіночнага і множнага ліку ўстаўку **-яц-** або **-ят-**: *дзіцяня(-ё), дзіцяняц-і, дзіцяняц-і, дзіцяня(-ё), дзіцян-ём (дзіцяняц-ем), аб дзіцяняц-і; дзіцянят-ы, дзіцянят, дзіцянят-ам, дзіцянят, дзіцянят-амі, аб дзіцянят-ах.*

З а ў в а г а 2. Для абазначэння маладых асоб мужчынскага полу ў мове мастацкай літаратуры пад уплывам размоўных стыляў можа выкарыстоўвацца форма *хлапчанё.* Гэта слова ў адзіночным і множным ліку скланяецца, як і іншыя адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот *(дзіцянё, жарабё, цялё, ягнё).*

*Х л а п ч а н ё заплакала* (К. Ч о р н ы. Начлег у вёсцы Сінегах). *Упартае х л а п ч а н ё, у бацьку пайшоў* (М. Л ы н ь к о ў. Васількі). *Аднак Марцін адчуў бадай зайздрасць і да гэтага х л а п ч а н я ц і* (А. К а р п ю к. У адным інстытуце). *Ён проста спаў — салодка, моцна спаў, як спяць пры маці, х л а п ч а н ё м нявінным* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *Глянь — узакідкі, быццам мужчыны, плывуць х л а п ч а н я т ы дняпроўскай затокай* (А. З а р ы ц к і. Пабрацімы).

З а ў в а г а 3. Па ўзору назоўнікаў ніякага роду на **-я(-ё)** з устаўкай **-ят-** скланяюцца ў множным ліку назоўнікі *дзяўчаты, зярняты,* а таксама словы размоўнага стылю *небажаты, вачаняты, кулачаняты* і інш.

*Гарэла лямпа, і д з я ў ч а т ы пралі* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ну, н е б а ж а т ы, будзем снедаць — у людзей садзяцца ўжо абедаць* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Упалі з я р н я т ы на камень шчарбаты ў полі* (А. К у л я ш о ў. Маці). *Адна з д з я ў ч а т... крыкнула ўслед Лаўрэну: «Куды ты, дзядзька Лаўрэн, пайшоў?»* (Э. С а м у й л ё н а к. Паляўнічае шчасце). *З сяўнёю, поўнаю з я р н я т, нас выйдзе шмат, як цёмны бор, на скібы чорныя разор* (М. Т а н к. Спатканне). [Марфачка] *бліскучымі в а ч а н я т а м і зірнула на брата* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Малы гуў нешта сам сабе ў калысцы, размахваючы к у л а ч а н я т а м і, лавіў неспадзеўкі сваю ўласную нагу і цягнуў яе ў рот* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

## § 128. Узор скланення асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксамі *-ін(-ын), -анін(-янін)*

А д з і н о ч н ы л і к

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *селянін* | *гараджанін* | *грузін* | *балгарын* |
| Р. | *селянін-а* | *гараджанін-а* | *грузін-а* | *балгарын-а* |
| Д. | *селянін-у* | *гараджанін-у* | *грузін-у* | *балгарын-у* |
| В. | *селянін-а* | *гараджанін-а* | *грузін-а* | *балгарын-а* |
| Т. | *селянін-ам* | *гараджанін-ам* | *грузін-ам* | *балгарын-ам* |
| М. | *(аб) селянін-у* | *гараджанін-у* | *грузін-у* | *балгарын-у* |

М н о ж н ы л і к

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *сялян-е* | *гараджан-е* | *грузін-ы* | *балгар-ы* |
| Р. | *сялян* | *гараджан* | *грузін* | *балгар* |
| Д. | *сялян-ам* | *гараджан-ам* | *грузін-ам* | *балгар-ам* |
| В. | *сялян* | *гараджан* | *грузін* | *балгар* |
| Т. | *сялян-амі* | *гараджан-амі* | *грузін-амі* | *балгар-амі* |
| М. | *(аб) сялян-ах* | *гараджан-ах* | *грузін-ах* | *балгар-ах* |

§ 129. Назоўнікі мужчынскага роду на **-ін(-ын), -анін(-янін),** якія абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага становішча, нацыянальнай прыналежнасці, месцазнаходжання і інш., у адзіночным ліку скланяюцца па ўзору назоўнікаў мужчынскага роду I скланення тыпу *сын* (гл. § 58—65), а ў множным ліку, акрамя назоўнага склону імён з суфіксам **-анін(-янін),** — па ўзору назоўнікаў жаночага роду II скланення тыпу *жанчына* (гл. § 96—101).

*Твар сур'ёзны ў с е л я н і н а, важны, задуменны, ходзіць, рукі залажыўшы за той пас раменны* (Я. К о л а с. Рольнік). *Эх, вясенька галад-*

*ненька! Каб ты толькі знала, колькі думак* *с е л я н і н у* *нанесла, нагнала!* (Я. К о л а с. Сялянская рада). *Бацька загаварыўся з* *с е л я н і н а м* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ленінградцы,* *т а т а р ы,* *узбекі, мы клянёмся варожай крывёй напаіць беларускія рэкі* (А. К у л я ш о ў. Над брацкай магілай). *Не было ж тады ні* *д в а р а н,* *ні духоўных, ні мужыкоў* (Я. К о л а с. Паўлюковы думкі). *А ратунак прыйшоў не з неба, а з вёскі ў вобразе простых* *с я л я н* (Я. К о л а с. У балоце). *Натоўпы* *м а г і л я ў ч а н,* *выбраўшыся са сховішчаў, абдымалі на дымных вуліцах родных салдат* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Назоўнікі з суфіксам **-анін(-янін)** маюць у назоўным склоне множнага ліку канчатак **-е:** *аднасяльчане, армяне, грамадзяне, дваране, магіляўчане, сяляне.*

*Міласэрныя сёстры,* *м я ш ч а н е,* *с я л я н е,* *чыгуначнікі, гандляры складаюць звычайны круг знаёмства швачкі Самабыліхі* (Я. К о л а с. У дварэ пана Тарбецкага). *Г р а м а д з я н е* *шчасце мелі на Хвядоса любаваццa* (К. К р а п і в а. Хвядос — чырвоны нос).

### § 130. Узор скланення назоўнікаў тыпу *сусед, калена*

| | Адзіночны лік | | Множны лік | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *сусед* | *кален-а* | *суседз-і* | *кален-і* |
| Р. | *сусед-а* | *кален-а* | *суседз-яў* (*-ей*) | *кален-яў* (*-ей*) |
| Д. | *сусед-у* | *кален-у* | *суседз-ям* | *кален-ям* |
| В. | *сусед-а* | *кален-а* | *суседз-яў* (*-ей*) | *кален-і* |
| Т. | *сусед-ам* | *кален-ам* | *суседз-ямі* | *кален-ямі* |
| М. | (*аб*) *сусед-у* | *кален-е* | *суседз-ях* | *кален-ях* |

§ 131. Назоўнікі мужчынскага роду *сусед* і ніякага роду *калена* ў адзіночным ліку маюць цвёрдую аснову і скланяюцца, як назоўнікі І скланення (гл. § 58—65). У множным ліку яны маюць мяккую аснову і выступаюць з канчаткамі, уласцівымі назоўнікам мужчынскага роду І скланення (гл. § 66—72).

Па тыпу назоўнікаў *сусед* і *калена* скланяецца таксама назоўнік мужчынскага роду *чорт.*

З а ў в а г а 1. Пад уплывам народных гаворак у мастацкай літаратуры, асабліва першай палавіны XX стагоддзя, назоўнікі *сусед, чорт* маглі выступаць у форме клічнага склону, якая для нашага часу не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Паслухай вось,* *с у с е д з е,* *што бацька мой расказваў мне* (К. К р а п і в а. Цыган і мядзведзь). *Эх, мілы мой ты! за панамі няма прадыху. Хто з грашамі і мажа збоку,— той і едзе, так вось і робіцца,* *с у с е д з е* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Гэта ты ўжо,* *с у с е д з е,* *залішне* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *А мне хацелася б,* *с у с е д з е,* *каб Янук з сябрамі некалі прыйшоў, сваё дзіця пабачыў на руках* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Глянь, вунь баба каля сіта, гэта,* *ч о р ц е,* *мая жонка* (Я. К у п а л а. Пані Твардоўская). *А не будзь,* *ч о р ц е,* *слабы і не рэмсціся да бабы: баба доўгі волас мае, каго хочаш ашукае — і Язэпа, і Міхала, а мяне не ашукала!* (Я. К о л а с. Новая зямля).

З а ў в а г а 2. У мове мастацкай літаратуры слова *чорт* у множным ліку, як і ў адзіночным, часам скланяецца па цвёрдай разнавіднасці.

*Як іх толькі не ўшчуваюць: вараць іх* *ч а р т ы* *ў катлох, скуру кіпцямі здзіраюць з іх зладзейскіх рук і ног...* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Няма на іх, вужак, паморку, вось на такіх* *ч а р т о ў* *лазатых, на гэтых джынджыкаў праклятых!* (Я. К о л а с. Новая зямля).

### § 132. Узор скланення назоўніка *неба*

| | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| Н. | *неб-а* | Н. | *нябёс-ы* |
| Р. | *неб-а* | Р. | *нябёс* (*-аў*) |
| Д. | *неб-у* | Д. | *нябёс-ам* |
| В. | *неб-а* | В. | *нябёс-ы* |
| Т. | *неб-ам* | Т. | *нябёс-амі* |
| М. | (*аб*) *неб-е* | М. | *нябёс-ах* |

§ 133. Слова *неба* скланяецца па ўзору назоўнікаў ніякага роду з цвёрдай асновай (гл. § 77—81), але ва ўсіх ускосных склонах множнага ліку ўжываецца з устаўкай **-ёс-** перад канчаткам.

Па тыпу назоўніка *неба* з устаўкай **-ёс-** перад канчаткам скланяецца ў множным ліку і слова *калёсы*.

Заўвага. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры назоўнік *калёсы* ў творным склоне множнага ліку нярэдка ўжываецца таксама з канчаткам **-мі**.

*У глыбокіх каляінах хавалася размешаная калясьмі гразь* (К. Чорны. Зямля). *Вуліца ў сялцы вузенькая, крывая, вытахчаная ламаччам, як грэбля ў балоце, гразкая, дрогкая пад калясьмі* (Р. Мурашка. Сын).

## § 134. Узор скланення назоўнікаў ніякага роду *вока, вуха, плячо*

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *вок-а* | *вух-а* | *пляч-о* |
| Р. | *вок-а* | *вух-а* | *пляч-а* |
| Д. | *вок-у* | *вух-у* | *пляч-у* |
| В. | *вок-а* | *вух-а* | *пляч-о* |
| Т. | *вок-ам* | *вух-ам* | *пляч-ом* |
| М. | (*аб*) *вок-у* | *вух-у* | *пляч-ы* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *воч-ы* | *вуш-ы* | *плеч-ы* |
| Р. | *вач-эй* | *вуш-эй* | *пляч-эй* |
| Д. | *вач-ам* | *вуш-ам* | *пляч-ам* |
| В. | *воч-ы* | *вуш-ы* | *плеч-ы* |
| Т. | *вач-амі* | *вуш-амі* | *пляч-амі* |
| М. | (*аб*) *вач-ах* | *вуш-ах* | *пляч-ах* |

§ 135. Назоўнікі *вока, вуха, плячо* ў адзіночным ліку скланяюцца, як назоўнікі I скланення ніякага роду з такімі ж асновамі (*воблака, сучча*), а ў множным ліку, — як назоўнікі III скланення (тыпу *ноч*), пры гэтым заднеязычныя **к, х** у словах *вока, вуха* чаргуюцца з шыпячымі **ч, ш**.

Заўвага. Калі назоўнікі *вока, вуха* абазначаюць раздзельную множнасць, у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку яны маюць канчатак **-і** (без чаргавання канцавога зычнага асновы).

*А ты, урвіцель, другі раз не хапай мяне за вухі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не пагляджу, што ты мой пляменнік, абодва вухі пушчу на мачалу!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 136. У родным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду *вока, вуха, плячо* ў сучаснай літаратурнай мове маюць націскны канчатак **-эй**.

*Хутка ён знік з вачэй за густою туманнай заслонай, якая ўкрыла ўсю шырокую пойму ракі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Дзесь далёка, як бы з-пад зямлі, да вушэй Рамана даляцеў нейкі глухі гром* (Я. Колас. Дачакаўся). *З-за плячэй Крамарчыка выступіў нехта ў мундзіры* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Заўвага 1. Ненаціскны канчатак **-аў** гэтых назоўнікаў у мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя для нашага часу не з'яўляецца нормай.

*Вось зноў нешта чуваць,— стаў дзядок пад акном. з плечаў торбы вісяць, бок падпёр кастылём* (Я. Купала. Не кляніце мяне...). *Ён кажа праўду: чорную навалу супольнай сілай толькі з плечаў скінем* (М. Танк. Нарач).

Заўвага 2. Побач з канчаткам **-эй** у назоўніках *вока, плячо* ў родным склоне множнага ліку дапускаецца ўжыванне нулявога канчатка, але ў літаратурнай мове апошні сустракаецца значна радзей, чым першы.

*Позірк гэтых воч быў накіраваны як бы ўнутр, у сябе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сяргей Пятровіч у вялікім сціску павольна рухаўся да дзвярэй, не спушчаючы воч з нахіленых плеч вялізнага пілота* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *З плеч ды ў печ* (народн.).

§ 137. У творным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду *вока, вуха, плячо* ў сучаснай літаратурнай мове маюць канчатак **-амі**.

*Ён абвёў в а ч а м і поле* (Я. Колас. Дачакаўся). *Два падсвінакі, трасучы в у ш а м і, весела хваталі з карыта ццеста* (К. Чорны. Верасневыя ночы). *А бацька з стрэльбай з а п л я ч а м і ішоў дадому хвайнякамі, ішоў паволі, не спяшаўся* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага 1. Ў мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя пад уплывам размоўных стыляў назоўнікі ніякага роду *вока, вуха, плячо* нярэдка ўжываліся таксама з канчаткам **-мі**.

*Перад в а ч м і пана Зыгмуся ўстае пані Даміцэля* (Я. Колас. Хатка над балотцам). *Андрэй шырока расчыненымі в а ч м і пазіраў на яе твар, які цяпер прасвечваўся радаснай усмешкай светлых вачэй* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Стары сівы мерын таропіць в у ш м і, боязна матляе галавой* (М. Лынькоў. Тонкая сітуацыя). *Клім Іваныч п л я ч м і — праз народ!* (М. Танк. Каліноўскі).

Заўвага 2. Пад уплывам некаторых народных гаворак у мове мастацкай літаратуры назоўнікі *вока, вуха, плячо* ўжываліся таксама са старым канчаткам парнага ліку **-ыма**, які ў наш час не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Агатка праводзіць в а ч ы м а кожную фурманку* (Я. Колас. Агатка). *Скварчэўскі, сочачы і в у ш ы м а і в а ч ы м а за ўсім, толькі ледзьве паварушваў рукамі, крывячы часта твар у бок флейты* (К. Чорны. Зямля). *Гучэла фабрыка, зіхацела веснавое неба, з а п л я ч ы м а яго, далёка ўжо, у лесе, пільня губіла свой несціханы кашаль* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Заўвага 3. Зрэдку ў мастацкай літаратуры назоўнікі *вока, плячо* сустракаюцца з канчаткам **-ымі**, які не з'яўляецца агульнай нормай.

*Стаіш бы ўкопаны прад імі і прагна мерыш іх в а ч ы м і, яны ж, ну, вочы адбіраюць, цябе аж дрыжыкі праймаюць* (Я. Колас. Новая зямля). *І вось ён лыпае в а ч ы м і і рукі зараз разнімае, старую песню зачынае* (там жа).

§ 138. У месным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду *вока, вуха, плячо* маюць канчатак **-ах**.

*Слёзы крыўды заблішчэлі н а яе в а ч а х* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *У яго в а ч а х увесь час стаяў дзед Талаш* (Я. Колас. Дрыгва). *Цімох прытаіўся, паслухаў, хоць і падганяў яго страх — нідзе ані зыку, ні руху, адзін толькі звон у в у ш а х* (Я. Колас. Адплата).

Заўвага 1. Да 30-х гадоў XX стагоддзя назоўнікі *вока, вуха, плячо*, як і назоўнікі I скланення, побач з канчаткам **-ах** у месным склоне множнага ліку мелі канчатак **-ох**, які быў замацаваны і ў якасці тагачаснай арфаграфічнай нормы. У сучасных літаратурных творах гэта форма захоўваецца ў сувязі з патрабаваннямі рыфмы.

*Сколькі болю ў в а ч о х хмурных, сколькі скаргі з губ збялелых...* (Цётка. Вясковым кабетам). *У в а ч о х — садок прыветны* (Я. Колас. Сымон-музыка). *А ў яго в а ч о х жывых думка нейкая бліскала* (там жа). *З карчмы выскачыў на поле, а ў в у ш о х — той струнны звон* (там жа). *Скакаць на вёсцы мала хто так мог: як выйдзе — шпоры на нагах звіняць, а гляне — пацямнее у в а ч о х* (М. Танк. Журавінавы цвет).

Заўвага 2. Пад уплывам народных гаворак, у якіх існуюць яшчэ старыя формы парнага ліку, у мове мастацкай літаратуры назоўнікі *вока, вуха* часам ужываюцца ў месным склоне множнага ліку з канчаткам **-у** з падваеннем папярэдніх зычных **ч, ш**.

*Пацямнела ў в а ч ч у, душу кінула ў дрож* (Я. Купала. Агароднік). *Нідзе ні зыку шарасцення, і толькі шум, бы кім насланы, бы тыя гулкія арганы, у в у ш ш у стаіць, грыміць і звоніць і штосьці няўцямнае гамоніць* (Я. Колас. Новая зямля). *Кружыліся, звінелі перад вачыма жоўтыя восы, мітусіліся недарэчныя зеленаватыя мухі, і тонкі камарыны звон стаяў у в у ш ш у. Часам мільгалі ў в а ч ч у нейкія чорныя кропкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *З радасным бляскам у в а ч ч у зірнуў ён на Ігнася* (Р. Мурашка. Сын).

## § 139. Узор скланення назоўніка *маці*

| | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| Н. | *мац-і* | *мацер-ы* |
| Р. | *мацер-ы* | *мацяр-эй* |
| Д. | *мацер-ы* | *мацяр-ам* |
| В. | *мацер-у* | *мацяр-эй* |
| Т. | *мацер-ай* (*-аю*) | *мацяр-амі* |
| М. | (*аб*) *мацер-ы* | *мацяр-ах* |

§ 140. У літаратурнай мове назоўнік *маці* ва ўскосных склонах адзіночнага ліку, а таксама ва ўсіх склонах множнага ліку скланяецца з устаўкай **-ер-**. У адзіночным ліку, акрамя назоўнага склону, ён мае

канчаткі назоўнікаў II скланення з асновай на **р** (гл. § 91—95), а ў множным — канчаткі назоўнікаў III скланення (гл. § 118—123).

*Балюча кальнула Ігнася і атуліла кволай жаласлівацю д а  м а ц е р ы* (Р. М у р а ш к а. Сын). *«Нічога, нічога, мамуся, не клапаціцеся», — адказаў ён м а ц е р ы* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Гутарка з м а ц е р а ю яшчэ больш падвесяліла Гапу* (Ц. Г а р т н ы. Трэскі на хвалях). *М а ц е р ы разумелі маці, цанілі яе пачуцці да дзіцяці* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Па Указу Вярхоўнага Савета СССР ад 8 ліпеня 1944 года ў Беларусі выплачана мнагадзетным м а ц я р а м каля паўмільярда рублёў дапамогі* («Беларусь», 1948, № 3).

З а ў в а г а. У тых выпадках, калі назоўнік *маці* ўжываецца без устаўкі **-ер-**, ён ва ўсіх склонах адзіночнага і множнага ліку мае адну форму.

*Маладая, шчаслівая м а ц і сядзіць над белай лазовай калыскай* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Дык глядзі ж, Міколка, слухайся м а ц і* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз). *Але бацька спрытна саскочыў з кузава, адчыніў дзверы кабіны і дапамог выйсці адтуль м а ц і* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. На сажалках). *Яна з маленства была яму за м а ц і* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *А можа, з м а ц і і сястрою сустрэцца марыш, любы мой?* (А. З а р ы ц к і. Сягоння ты самотны нейкі...). *Ён проста спаў — салодка, моцна спаў, як спяць п р ы м а ц і, хлапчанём нявінным* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *І ніхто не быў там лішнім, як ішлі байцы-героі: м а ц і мылі нам бялізну і хадзілі за сахою* (П. Б р о ў к а. Год дваццаты).

## СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ, ЯКІЯ ЎЖЫВАЮЦЦА ТОЛЬКІ Ў МНОЖНЫМ ЛІКУ

§ 141. Назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, скланяюцца па тыпу назоўнікаў, якія маюць абедзве формы ліку і адносяцца да I, II або III скланенняў.

§ 142. У назоўным склоне назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, з асновай на цвёрдыя, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** маюць канчатак **-ы** (*адкіды, боепрыпасы, кайданы, усходы, выбары, дрожджы, пласкагубцы*), а з асновай на мяккія зычныя, на **j** і на **г, к, х** — канчатак **-і** (*гуслі, гоні, абоі, памыі, ападкі, падмосткі, абцугі, даспехі*).

§ 143. У родным склоне назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, маюць канчаткі назоўнікаў I, II або III скланенняў.

1. З канчаткамі назоўнікаў I скланення **-аў(-яў), -оў** ужываюцца некаторыя назоўнікі з адным зычным у канцы асновы і пераважная большасць назоўнікаў са збегам зычных у аснове: *адкідаў, боепрыпасаў, ведаў, кайданоў, провадаў, родаў, розглядаў, трусоў, усходаў, штаноў, шчэлепаў, выбараў, мемуараў, абцугоў, бацькóў, даспехаў, дрыжыкаў, духоў, лекаў, плечыкаў, скокаў, субтропікаў, хітрыкаў, ходзікаў, арэляў, гоняў, гуляў, абояў, пабояў, памыяў; аліментаў, вуснаў, козлаў, ночваў, фінансаў, гетраў, круглагубцаў, пласкагубцаў, манеўраў, нa-бедраў, аб'едкаў, ападкаў, астанкаў, біткоў, гарадкоў* (спарт.), *нападкаў, недаедкаў, падмосткаў, пажыткаў, пазадкаў, сумеркаў, ціскоў, гусляў, джунгляў, кегляў* (спарт.), *будняў, козняў, плаўняў, поручняў.*

2. З нулявым канчаткам у родным склоне, які ўласцівы назоўнікам II скланення, ужываюцца наступныя назоўнікі з асновай на адзін зычны: *абставін, агледзін, адносін, варот, віл, драбін, дроў, заручын, зносін, імянін, канікул, крат, круп, паводзін, праводзін, радзін, уваходзін, хрэсьбін, шахмат.*

*З в а р о т выйшаў і гаспадар доміка* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Рыгор прысеў ля плуга ззаду д р а б і н* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Да бярозавых п р ы с а д пачалі раптам падыходзіць машыны* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

З а ў в а г а. Некаторыя назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, сустракаюцца як з канчаткам **-аў**, так і з нулявым канчаткам, праўда, перавага аддаецца першаму з іх: *забабонаў — забабон, латаў — лат, кальсонаў — кальсон, панталонаў — панталон, путаў — пут, сотаў — сот, сухотаў — сухот, цымбалаў — цымбал, чараў — чар, шараварaў — шаравар, шораў — шор.*

*Дайце мне волю, дайце арлiную, вырвiце з п у т а ў, аковаў!* (Я. Купала. Дайце мне...). *I тут у першы раз Мiхала вось гэта думка напаткала: купiць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскiх выпутацца п у т* (Я. Колас. Новая зямля). *Вобраз мiлы, пойны ч а р а ў, маладой вясенькi мараў, гожа з прошласцi ўстае* (Я. Колас. Успамiны). *Яна гарнула i хiлiла, бы нейкiх ч а р нязнаных сiла* (Я. Колас. Новая зямля).

Нулявы канчатак у родным склоне маюць таксама назоўнiкi са збегам канцавых зычных асновы, калi памiж гэтымi зычнымi ўзнiкае беглы або ўстаўны галосны **(а, е)**: *апалушкi — апалушак, апiлкi — апiлак, ачоскi — ачосак, ачысткi — ачыстак, вiлкi — вiлак, выбiркi — выбiрак, выграбкi — выграбак, выжымкi — выжымак, выскваркi — выскварак, вычаскi — вычасак, вышкi — вышак, вячоркi — вячорак, дажынкi — дажынак, дрожкi — дрожак, зажынкi — зажынак, зёлкi — зёлак, кусачкi — кусачак, лескi — лесак, могiлкi — могiлак, насiлкi — насiлак, начоўкi — начовак, ножанкi — ножанак, пагулянкi — пагулянак, паджылкi — паджылак, падцяжкi — падцяжак, палаткi — палатак, памiнкi — памiнак, пасядзелкi — пасядзелак, перагонкi — перагонак, плаўкi — плавак, развалкi — развалак, санкi — санак, суткi — сутак.*

Заўвага. Некаторыя назоўнiкi гэтай групы могуць ужывацца ў родным склоне з нулявым канчаткам (калi памiж збегам зычных асновы ўзнiкае беглы галосны) i з канчаткам **-аў** (калi беглы галосны адсутнiчае): *жорны — жарон — жорнаў, кросны — красён — кроснаў, ножны — ножан — ножнаў, сенцы — сянец — сенцаў, граблi — грабель — грабляў, каноплi — канапель — канопляў, абдымкi — абдымак — абдымкаў, прыцемкi — прыцемак — прыцемкаў.*

*Г р а б е л ь мiльганнем, звонам кос трымцяць лiлёвыя прасторы* (К. Крапiва. Жаба ў каляiне). *Сiлiвон майстраваў зуб'е, але думкi яго былi далёка а д г р а б л я ў, ад сенажацi* (М. Лынькоў. Векапомныя днi).

3. З канчаткамi назоўнiкаў III скланення **(-ей, -эй)** выступаюць у родным склоне наступныя назоўнiкi: *грудзей, дзвярэй, дражджэй, курэй, людзей, саней, сяней, кляшчэй.*

*З г р у д з е й нашых панясецца вiр песень грымучых* (Я. Купала. Зашумеў лес разгуканы). *Кацярына — гаспадыня, ...мае ўсякае начынне i к у р э й катух* (Я. Купала. Кацярына). *Хто бегаў з кiем каля хаты — ганяў к у р э й* (Я. Колас. Новая зямля). *Сiдарук, не зачыняючы д з в я р э й, спынiўся, пачырванеў i няёмка, блытаючыся, праказаў прывiтанне Мiкiту* (П. Галавач. Кара). *Узяў* [хлапчук] *з с а н е й жменю саломы, абцёр боты i пайшоў на ганак* (К. Чорны. Не хачу гэтак). *Паглядзеце вы на Цiта — вынес ён у хлеў карыта i падсвiнкаў, i свiней выгнаў з хаты i з с я н е й* (К. Крапiва. Цiт заводзiць новы быт).

§ 144. У давальным склоне назоўнiкi, якiя ўжываюцца толькi ў множным лiку, з асновай на цвёрдыя, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** i на **г, к, х** маюць канчатак **-ам,** а з асновай на мяккiя зычныя i на **j** — канчатак **-ям:** *прысад-ам, нетр-ам, санк-ам, гусл-ям, абоj-ам.*

Заўвага. Да 30-х гадоў XX стагоддзя назоўнiкi, якiя ўжываюцца толькi ў множным лiку, як i назоўнiкi I скланення, у давальным склоне ўжывалiся з нацiскным канчаткам **-ом(-ём),** якi i быў замацаваны ў якасцi арфаграфiчнай нормы. Ужыванне гэтых форм у мастацкiх творах нашага часу абумоўлена патрабаваннямi рыфмы.

*I ён тыя заработкi панясе, аддасць б а ц ь к о м, хоць на момант на кароткi завiтае ў родны дом* (Я. Колас. Сымон-музыка).

§ 145. У вiнавальным склоне неадушаўлёныя назоўнiкi, якiя ўжываюцца толькi ў множным лiку, маюць канчаткi назоўнага склону, а адушаўлёныя назоўнiкi *(бацькi, людзi)* — канчаткi роднага склону.

§ 146. У творным склоне назоўнiкi, якiя ўжываюцца толькi ў множным лiку, з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж(дж), ш, ч(шч), ц** i на **г, к, х** маюць канчатак **-амi,** а з асновай на мяккiя зычныя i на **j** — канчатак **-ямi:** *прысад-амi, цымбал-амi, нетр-амi, санк-амi, гусл-ямi, абоj-амi.*

Заўвага 1. Пад уплывам размоўнага стылю ў мастацкай лiтаратуры назоўнiкi *грудзi, дзверы, санi, дровы, грошы* ў творным склоне ўжываюцца таксама з канчаткам **-мi.** Назоўнiк жа *людзi* мае як норму канчатак **-мi:** *людзь-мi.*

*Дзвярмі ён грукнуў, выйшаў з хаты* (Я. Колас. Новая зямля). *Усе яны былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на дварэ крапіла зіма* (Я. Колас. Кантракт). *І Бірг сапраўды ўдыхнуў у сябе паветра, удыхнуў прагна, усімі шырокімі сваімі грудзьмі* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Звычайны прыліў Астапавага красамоўства, калі даводзілася яму гаварыць з новымі, цікавымі людзьмі, апаў, знік, і Астап гаварыў ужо вяла, даволі абыякава запрашаў на пачастункі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Людзі гэты плач пачулі, з лесу едучы з дрыўмі* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Людзі прыязджаюць з усёй ваколіцы лячыцца. Прыносяць шмат ахвяр палатном, салам, збожжам і грашмі. Цэлы дзень ідзе тут гандаль* (З. Бядуля. У глушы).

Заўвага 2. Назоўнікі *грошы, дзверы* ў мастацкай літаратуры пад уплывам мясцовых гаворак ужываюцца часам са старым канчаткам **-ыма**.

*Абутыя, адзетая, з грашыма ў кішэні, горда ішла Арынка з Гармізавага хутара, маладая, прыгожая, вясёлая, з высока паднятаю галавою* (Я. Колас. Арыніна перамога). *Направа, за прычыненымі дзвярыма, ішла для сялян лекцыя* (К. Чорны. Максімка). *Міхалка ціха рыпнуў дзвярыма і выйшаў на двор* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Бальнічная кватэра, дзе жыла раней Любка, стаяла пустой, з насцеж адчыненымі дзвярыма* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 147. У месным склоне назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, з асновай на цвёрдыя зычныя, на **р, ж(дж), ш, ч (шч), ц** і на **г, к, х** маюць канчатак **-ах,** а з асновай на мяккія зычныя і на **j** — канчатак **-ях:** *(аб) прысад-ах, цымбал-ах, ночв-ах, нетр-ах, санк-ах, сен-ях, гусл-ях, абоj-ах.*

Заўвага. Да 40-х гадоў XX стагоддзя некаторыя назоўнікі гэтай групы ўжываліся з націскным канчаткам **-ох(-ёх)**, які быў замацаваны і ў якасці арфаграфічнай нормы. Ужыванне гэтых форм у літаратурных творах нашага часу абумоўлена часцей патрабаваннямі рыфмы, часам жа яны выступаюць як стылістычныя сродкі размоўнага стылю.

*Нікне ночка. Дзень чуць значна з смехам ясным на вуснох ідзе з ёю ў стэп няўбачны і губляе ў глыбінох цёмна-сініх і далёкіх, там, дзе зорачкі гараць і дзе хмарак адзінокіх віхр не смее заганяць* (Я. Колас. Сымон-музыка). *А ў грудзёх сэрца птушкай заскача, хадыром хатка заходзіць, як ноч аб долі цяжкай мужычай нудна галосіць, заводзіць* (Я. Купала. Тры пары дня). *Шэрыя злямчаныя камякі ваты павыбіваліся з-пад лапікаў, а на самых грудзёх тырчэла драўляная рукаяць нажа, відаць, паляўнічага, мяркуючы па разьбе на ім* (М. Лынькоў. Астап). *Гэта на нашых грудзёх заламаліся хвалі, што над Еўропай, як чорная ноч, бушавалі* (М. Танк. Так).

## СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ, ЯКІЯ ПАХОДЗЯЦЬ АД ПРЫМЕТНІКАЎ І ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАЎ

### § 148. Узор скланення субстантываваных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў

Адзіночны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *вартав-ы* | *ранен-ы* | *сталов-ая* | *насяком-ае* |
| Р. | *вартав-ога* | *ранен-ага* | *сталов-ай* | *насяком-ага* |
| Д. | *вартав-ому* | *ранен-аму* | *сталов-ай* | *насяком-аму* |
| В. | *вартав-ога* | *ранен-ага* | *сталов-ую* | *насяком-ае* |
| Т. | *вартав-ым* | *ранен-ым* | *сталов-ай* | *насяком-ым* |
| М. | *(аб) вартав-ым* | *ранен-ым* | *сталов-ай* | *насяком-ым* |

Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *вартав-ыя* | *ранен-ыя* | *сталов-ыя* | *насяком-ыя* |
| Р. | *вартав-ых* | *ранен-ых* | *сталов-ых* | *насяком-ых* |
| Д. | *вартав-ым* | *ранен-ым* | *сталов-ым* | *насяком-ым* |
| В. | *вартав-ых* | *ранен-ых* | *сталов-ыя* | *насяком-ых* |
| Т. | *вартав-ымі* | *ранен-ымі* | *сталов-ымі* | *насяком-ымі* |
| М. | *(аб) вартав-ых* | *ранен-ых* | *сталов-ых* | *насяком-ых* |

§ 149. Назоўнікі, якія паходзяць ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, скланяюцца па ўзору поўных прыметнікаў, але ў адрозненне ад апошніх яны маюць самастойныя катэгорыі склону, роду і ліку.

§ 150. У разрад нескланяльных назоўнікаў уваходзяць імёны, якія не маюць форм склону і ліку, а выражаюць значэнні склону і ліку толькі сінтаксічна — пры дапамозе дапасаваных да іх прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і займеннікаў. Большую частку нескланяльных назоўнікаў складаюць словы іншамоўнага паходжання. Па лексічных і граматычных адзнаках нескланяльныя назоўнікі можна падзяліць на некалькі груп:

1. Неадушаўлёныя іншамоўныя назоўнікі ніякага роду, якія заканчваюцца на галосныя гукі: *авіза, амплуá, арыёза, балéра, барóка, брýта, вéта, гéта, дынáма, інкáса, інкóгніта, крэ́да, лібрэ́та, магнéта, нéта, пóла, піяніна, сáльда, сóла, сóльда, сапрáна, тáнга, фартэпіяна, фіяска, фóта, э́кстра, эмбáрга; адáжыо, аргó, бардó, бюрó, дамінó, дэпó, жабó, кілó, кінó, ландó, латó, мантó, метрó, палітó, панó, платó, ракакó, рандó, трумó, трыкó; капры́чыо, рáдыё, тры́о; інжэню́, інтэрв'ю, меню́, рагý, табý; атэльé, дасьé, дэфілé, жэлé, кальé, камюнікé, манпансьé, пап'é-машэ́, парцьé, пікé, рэзюмé, рэлé, фаé, філé; галіфэ́, дражэ́, кабарэ́, кашнэ́, кафэ́, кліша́, купэ́, партманэ́, пенснэ́, плісэ́, пюрэ́, турнэ́, шасэ́; áлібі, жалюзі́, джэ́рсі, канфецí, кéпі, ліберці́, салáмі, таксí, хáкі, шасí; алéгры, журы́, папуры́, пары́.*

Заўвага. Некаторыя іншамоўныя назоўнікі ніякага роду (*паліто, піяніна, фартэпіяна* і інш.) у гутарковай мове змяняюцца па склонах і ліках, што знайшло сваё адлюстраванне і ў мове мастацкай літаратуры.

*І не разгарну я твае кнігі, покі ты не купіш сабе палі та* (Я. Колас. Адукацыя). *Яму трэба набыць «Універсітэт на даму», а яна з паліто м лезе* (там жа). *«Паліто ўжо ў цябе?» — здзіўлена сказаў Коля Высоцкі, з зайздрасцю разглядаючы Піліпоўскага ў новым чорным паліце з жоўтымі меднымі гузікамі* (К. Чорны. Трыццаць год). *І польты, расхінуўшы ветла рукі, адшукваюць сабе гаспадароў* (П. Панчанка. Беластоцкія вітрыны). *Абедзве — высокія, ценкія, у чорных доўгіх польтах і чорных капелюшах* (З. Бядуля. Салавей). *Яго крануў рэзкі выгук песні і адначасна музыкі на фартэпіяне* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

2. Адушаўлёныя назоўнікі іншамоўнага паходжання, якія абазначаюць жывёл: *ды́нга, зéбу, какадý, калібры, кенгурý, марабý, пóні, фламінга, шымпанзэ́.*

3. Іншамоўныя адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду, а таксама асобныя іншамоўныя назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці, грамадскага становішча, роду дзейнасці, заняткаў і заканчваюцца на галосныя гукі: *аташэ́, буржуá, гідáльга, дэ́ндзі, імпрэсáрыо, кóмі, кýлі, кюрэ́, маэ́стра, мікáда, ранцьé, урдý, хіндзі, я́нкі; лéдзі.*

4. Адушаўлёныя іншамоўныя назоўнікі жаночага роду, якія служаць формай звароту і заканчваюцца на цвёрды зычны гук: *міс, місіс, мадáм.* Сюды адносяцца таксама некаторыя жаночыя ўласныя імёны іншамоўнага паходжання: *Кармэ́н, Элéн* і інш.

5. Прозвішчы асоб жаночага полу, якія (прозвішчы) паходзяць ад назваў прадметаў ніякага роду, а таксама ад назваў прадметаў, род якіх яскрава не вызначаецца: *Шыла, Сукала, Капабланка, Манюшка, Сямашка, Машара, Сасюра, Сцяпура, Пічэта* і інш.

6. Прозвішчы асоб жаночага полу, якія (прозвішчы) заканчваюцца на зычныя: *Сокал, Булат, Чаркас, Колас, Гогаль, Карабань, Копаць, Таўлай, Шыбай, Мележ, Пашкевіч, Чарнушэвіч, Гайдар, Гарыдавец, Грыг, Фучык, Стэльмах* і інш.

7. Уласнабеларускія і іншамоўныя прозвішчы асоб мужчынскага і жаночага полу, якія (прозвішчы) заканчваюцца на націскное **-о:** *Гурло, Вітко, Лапо, Чуйко, Груцо; Гюго, Гуно, Гізо, Дзідро, Дзюкло, Дэфо, Русо* і інш. Сюды адносяцца таксама іншамоўныя імёны і прозвішчы,

якія заканчваюцца спалучэннямі **-іо, -ыо, -ао, -ео, -льё:** *Антоніо, Бакачыо, Бідлао, Галілео, Мао, Мельё, Эскамільё* і інш.

Заўвага. Беларускія прозвішчы на націскное -о, якія паходзяць ад назваў прадметаў ніякага роду тыпу *Вясло, Сцябло, Талакно*, скланяюцца, калі іх носьбітамі з'яўляюцца асобы мужчынскага полу.

8. Прозвішчы, якія заканчваюцца на **-іх(-ых)** і маюць форму прыметнікаў роднага склону множнага ліку: *Баранавых, Белых, Чарных, Чуткіх, Сядых, Крутых, Чарамных* і інш.

9. Іншамоўныя прозвішчы і імёны, якія заканчваюцца на **-і(-ы):** *Кіці, Мімі, Бэці, Гандзі, Вердзі, Пучыні, Расіні, Тасканіні, Гарыбальдзі, Джоні, Нізамі, Мурадэлі, Паганіні, Руставелі, Тарычэлі, Кавальеры, Куінджы, Веспучы, Кюры* і інш.

10. Многія іншамоўныя прозвішчы і імёны на **-а(-я):** *Нана, Джардана Бруна, Дзюма, Заля, Катаяма, Дзюбуа, Фарыа* і інш.

11. Іншамоўныя прозвішчы на **-е(-э):** *Літке, Тарле, Фрунзе, Арджанікідзе, Эйве, Мелье, Фур'е, Струве, Дантэ, Бізэ, Гейнэ, Гётэ* і інш.

12. Іншамоўныя імёны і прозвішчы на **-у(-ю):** *Амаду, Керду, Ганчу, Мілку, Петру, Петрэску, Нэру, Шэню* і інш.

13. Іншамоўныя геаграфічныя назвы, якія заканчваюцца на галосныя гукі: *Сухумі, Батумі, Тбілісі, Дэлі, Горы, Сочы, Плаешці, Чыкага, Осла, Іашкар-Ала, Глазга, Ватэрлоо, Мантэвідэо, Бруге, Баку; Самалі, Чылі, Перу; Гобі; По, Місісіпі, Місуры; Гаіці, Барнео* і інш.

14. Літарныя абрэвіятуры, якія заканчваюцца на галосны гук, а таксама большасць абрэвіятур, якія заканчваюцца на розныя зычныя гукі: *ЦСУ, ЦДСА, БПІ, БДУ; СССР, КПСС, РТС, АН БССР, ААН* і інш.

## ФОРМЫ НАЗОЎНІКАЎ З СУФІКСАМІ АЦЭНКІ

§ 151. Суфіксы ацэнкі служаць для выражэння дадатковых стылістычных (эмацыянальна-экспрэсіўных) адценняў памяншальнасці, ласкальнасці, павелічальнасці, зневажальнасці, фамільярнасці і інш. Такія суфіксы прынята называць формамі суб'ектыўнай ацэнкі. У большасці выпадкаў гэтыя формы ўжываюцца ў гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры.

### *Ацэначныя суфіксы назоўнікаў мужчынскага роду*

§ 152. Суфікс **-ак-*а*(-як-*а*).** Пры дапамозе суфікса **-ак-*а*(-як-*а*)** утвараюцца назоўнікі, якія маюць адценне зневажальнасці. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць жывых істот: *каняка, скарпіяка.* Параўн. таксама назоўнік *чарцяка.*

Тып непрадуктыўны.

§ 153. Суфікс **-ец(-эц).** Суфікс **-ец(-эц)** ужываецца для ўтварэння неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальнае або памяншальна-ласкальнае адценне: *дзірванец, камянец* (дыялектн.), *марозец, паплавец, папялец, хутарэц, шынялец* і інш. Асобна стаяць назоўнікі *блінец, грабянец,* якія ўжо ў значнай ступені страцілі адценне памяншальнасці.

Тып малапрадуктыўны.

§ 154. Суфікс **-ік(-ык).** Гэты суфікс ужываецца для ўтварэння адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *конік, саколік, тхорык, дроздзік, камарык, калаўроцік, канверцік, капялюшык, лапцік, макецік, пакецік, столік, тварык, халацік, цвецік, чаборык, ветрык, дожджык.*

Заўвага. У некаторых назоўніках, якія з'яўляюцца тэрмінамі, напрыклад у назоўніках *кубік* (медыц.), *хамуцік* (тэхн.), *шарык* (тэхн., медыц.), суфікс **-ік(-ык)** выконвае словаўтваральную функцыю і не надае памяншальна-ласкальнага адцення.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 155. Суфікс **-чык.** Пры дапамозе суфікса **-чык** утвараюцца часцей за ўсё неадушаўлёныя назоўнікі, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *агеньчык, акрайчык, артыкульчык, вугольчык, вузельчык, гародчык, дыванчык, загончык, каменьчык, карэньчык, касцюмчык, кубельчык* (дыялектн.), *пакойчык, праменьчык, ражончык, раменьчык, струменьчык, талончык, хлеўчык* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 156. Суфікс **-ок(-ак).** Суфікс **-ок(-ак)** ужываецца для ўтварэння адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальнае або памяншальна-ласкальнае адценне, а таксама адценне фамільярнасці, іроніі і г. д. Пры гэтым, калі ўтвараючая аснова заканчваецца на **г, к, х,** адбываецца чаргаванне гэтых зычных з **ж, ч, ш:** *браток, панок, сусядок, сынок, таварышок; бычок, парсючок, шчупачок; астравок, валасок, дамок, каласок, курганок, лісток, лужок, лянок, масток, паясок, равок, цвічок, чубок, вецярок, дзянёк, разумок, смяшок, шумок; калгаснічак, унучак, чалавечак; бярэзнічак, ганачак, гаршчочак, клуначак, клубочак, пакуначак, малюначак, пясочак, яблычак* і інш.

Заўвага. У назоўніках, якія з'яўляюцца спецыяльнымі тэрмінамі, напрыклад: *бычок* (заал.), *грыбок* (медыц.), *жучок* (тэхн.), *язычок* (анат.), суфікс **-ок** мае словаўтваральнае значэнне.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 157. Суфікс **-очак.** Гэты суфікс надае назоўнікам вельмі высокую ступень ласкальнасці-памяншальнасці: *браточак, сваточак, матылёчак, гаёчак, галасочак, каласочак, лясочак, садочак* і інш.

Такія назоўнікі можна суадносіць і з назоўнікамі на **-ок(-ак),** прычым у такім разе ў іх вылучаецца толькі суфікс **-ак:** *браток — браточак, сваток — сваточак* і г. д.

Тып прадуктыўны.

§ 158. Суфікс **-ук(-юк).** Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца адушаўлёныя назоўнікі з памяншальна-ласкальным адценнем, напрыклад: *сябрук, Паўлюк, Пятрук, Янук.*

Тып малапрадуктыўны.

### *Ацэначныя суфіксы назоўнікаў жаночага роду*

§ 159. Суфікс **-іц-***а***(-ыц-***а***).** Пры дапамозе суфікса **-іц-***а***(-ыц-***а***)** утвараюцца адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *сястрыца, вадзіца, зямліца, травіца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 160. Суфікс **-аньк-***а.* Суфікс **-аньк-***а* ўжываецца для ўтварэння адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *дочанька, дзеванька, Машанька, гусанька, кароўанька, птушанька* (размоўн.), *галованька, ручанька, рэчанька, дарожанька, ночанька* і інш. Такія ўтварэнні сустракаюцца галоўным чынам у паэтычных творах.

§ 161. Суфікс **-інк-***а***(-ынк-***а***).** Вытворны суфікс **-інк-***а***(-ынк-***а***)** служыць для ўтварэння неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *расінка, іскрынка, сняжынка* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 162. Суфікс **-ушк-***а.* Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца адушаўлёныя назоўнікі з памяншальна-ласкальным адценнем: *дачушка, цялушка.*

Тып непрадуктыўны.

## *Ацэначныя суфіксы назоўнікаў ніякага роду*

§ 163. Суфіксы **-айк**-*а*, **-ейк**-*а*. Суфікс **-айк**-*а* ўтварае неадушаўлёныя назоўнікі ад асноў на цвёрды, а суфікс **-ейк**-*а* — ад асноў на мяккі зычны. Такія назоўнікі звычайна маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *горайка, сэрцайка, голлейка, жыццейка, зеллейка, крыллейка, лецейка, лісцейка, полейка, сонейка* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 164. Суфікс **-ечк**-*а*. Пры дапамозе суфікса **-ечк**-*а* ўтвараюцца неадушаўлёныя назоўнікі, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *гняздзечка, лісцечка, месцечка, здароўечка* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 165. Суфікс **-ц**-*а(о)*. Гэты суфікс ужываецца для ўтварэння неадушаўлёных назоўнікаў, якія маюць памяншальнае або памяншальна-ласкальнае адценне: *балотца, бярвенца (бервянцо), гуменца, долатца, дрэўца, золатца, каліўца, паленца, азярцо, жытцо* і інш. Пры ўтварэнні назоўнікаў ад асноў на **-л** апошні змякчаецца: *дульца, крыльца, рыльца, сальца, шыльца, сяльцо* і інш.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

## *Ацэначныя суфіксы, якія ўжываюцца з назоўнікамі розных родаў*

§ 166. Суфікс **-ін**-*а*(**-ын**-*а*). Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду з павелічальна-ўзмацняльным адценнем, якое сумяшчаецца з адценнем адзінкавасці, *галасіна, даміна, каласіна, хароміна* і інш. Асобна стаіць назоўнік жаночага роду *хаціна*, для якога характэрна памяншальна-пагарджальнае адценне.

§ 167. Суфікс **-іск**-*а*(**-ыск**-*а*). Запазычаны з польскай мовы суфікс **-іск**-*а*(**-ыск**-*а*) утварае адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія маюць павелічальнае або пагарджальнае адценне: *каніска, агніска, вятрыска, сям'іска, лагавіска* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 168. Суфікс **-ішч**-*а* (**-ышч**-*а*). Адзначаны суфікс ужываецца для ўтварэння адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду з павелічальным або павелічальна-зневажальным адценнем: *галасішча, дамішча, збанішча, кабанішча, каршунішча, шчупачышча, каласішча, кусішча, нажышча, насішча, пылішча, халадзішча; галавішча, ручышча, сілішча; акнішча, вядрышча* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 169. Суфікс **-к**-*а*. У большасці выпадкаў пры дапамозе суфікса **-к**-*а* ад невытворных і вытворных асноў утвараюцца адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі жаночага роду з памяншальна-ласкальным адценнем: *гаспадынька, кабетка, скацінка, пчолка, бярозка, галоўка, грушка, дарожка, каморка, кніжка, коска, кудзелька, ладонька, палічка, саломка, сценка, сошка, сякерка, цялежка, школка, шуфлядка, шчочка, яблынька, дуброўка, крынічка, кучка, навінка, ночка, нядзелька, пагодка, рэчка, траўка, хмарка, чародка; сястрычка, вадзічка, травічка; асцінка, гарбінка, збажынка, крупінка, саломінка, слязінка, травінка, хацінка, хваінка, хусцінка.*

Тып прадуктыўны.

Зрэдку пры дапамозе суфікса **-к**-*а* ўтвараюцца адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду і неадушаўлёныя назоўнікі ніякага роду, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *верабейка, салавейка; брушка, вочка, вушка, слоўка* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 170. Суфікс **-ачк**-*а*. Вытворны суфікс **-ачк**-*а* звычайна ўжываецца для ўтварэння адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў жаночага роду, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *мамачка, удовачка, каровачка, мурашачка, птушачка, цялушачка, бочачка, вёсачка, вербачка, вудачка, кветачка, лямпачка, паперачка, рамачка, скрыначка, трэсачка, хатачка, шапачка, ямачка, вестачка, думачка, хвіліначка, частачка* і інш.

Тып надзвычай прадуктыўны.

Акрамя таго, у размоўна-бытавым стылі з суфіксам **-ачк**-*а* сустракаецца некалькі назоўнікаў мужчынскага роду з такім жа адценнем: *татачка, братачка, сватачка*.

Тып непрадуктыўны.

§ 171. Суфікс **-еньк**-*а*. Пры дапамозе вытворнага суфікса **-еньк**-*а* ўтвараюцца адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія маюць памяншальна-ласкальнае адценне: *дзядуленька, сватуленька, сынуленька, татуленька, бабуленька, матуленька*. Сюды ж адносіцца назоўнік *зязюленька*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 172. Суфікс **-уг**-*а* (**-юг**-*а*). Гэты суфікс ужываецца для ўтварэння часцей за ўсё адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага і агульнага роду са зневажальным адценнем: *зладзюга, лайдачуга, падлюга, рыштанцюга* (прастамоўн.), *вайчуга, звяруга* і інш. Сюды ж адносіцца і неадушаўлёны назоўнік *вятруга*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 173. Суфікс **-ул**-*я*. Пры дапамозе суфікса **-ул**-*я* ўтвараюцца адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія маюць ласкальнае і памяншальна-ласкальнае адценні: *дзядуля, сынуля, татуля, бабуля, матуля, капрызуля* і інш. Сюды ж адносяцца ўласныя імёны: *Ганнуля, Настуля, Януля* і інш.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 174. Суфікс **-ухн**-*а*(**-юхн**-*а*). Суфікс **-ухн**-*а*(**-юхн**-*а*) ужываецца для ўтварэння адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду з ласкальным адценнем: *бацюхна, братухна, дзедухна, дзядзюхна, сватухна, татухна, бабухна, матухна, цётухна, дзетухна*. Усе гэтыя назоўнікі характэрны для народнай мовы, часам яны сустракаюцца і ў мове мастацкай літаратуры.

Тып непрадуктыўны.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ

### *АФІКСАЛЬНАЕ СЛОВАЎТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ*

§ 175. Афіксальны спосаб словаўтварэння назоўнікаў мае тры разнавіднасці:

а) суфіксальнае ўтварэнне, якое характарызуецца тым, што да ўтваральнай асновы далучаюцца пэўныя словаўтваральныя суфіксы: *барабан*-**шчык**, *будзі*-**льнік**, *шыр*-**ын**-*я*, *уладарніц*-**тв**-*а*, *апіса*-**нн**-*е*, *звяр*-**j**-*о* і інш.;

б) прэфіксальнае ўтварэнне, якое характарызуецца тым, што да ўтваральнай асновы далучаюцца пэўныя словаўтваральныя прэфіксы: **пры**-*гарад*, **са**-*аўтар*, **ня**-*воля*, **ня**-*доля* і інш.;

в) прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне, якое характарызуецца тым, што да ўтваральнай асновы адначасова далучаюцца пэўныя словаўтваральныя прэфіксы і пэўныя словаўтваральныя суфіксы: **пад**-*акон*-**нік**, **пад**-*асін*-**авік**, **уз**-*гор*-**ак**, **пры**-*мор*-**j**-*е* і інш.

§ 176. Сярод разнавіднасцей афіксальнага словаўтварэння назоўнікаў **суфіксацыя** займае асноўнае месца. Суфіксальным спосабам могуць утварацца назоўнікі мужчынскага, жаночага, ніякага і агульнага роду ад розных часцін мовы.

## *Суфіксы назоўнікаў мужчынскага роду*

§ 177. Суфікс **-аж.** Усе назоўнікі з суфіксам **-аж,** якія ўжываюцца ў беларускай мове, запазычаны з іншых моў. Сярод гэтых назоўнікаў устанаўліваюцца два словаўтваральныя тыпы. Да першага тыпу адносяцца назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў і маюць зборнае або колькаснае значэнне: *арбітраж, бракераж, карданаж, пікетаж, рэзерваж, фураж, этыкетаж, лістаж, метраж, кіламетраж, танаж* і інш.

Другі тып складаюць назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў або суадносяцца з імі; яны абазначаюць пэўны працэс дзеяння: *віраж, інструктаж, мантаж, масаж, пілатаж, рэпартаж, сабатаж, трэнаж, фіксаж* і інш.

Абодва тыпы назоўнікаў з'яўляюцца непрадуктыўнымі. Такія назоўнікі ўжываюцца галоўным чынам у дзелавым, навукова-тэхнічным і публіцыстычным стылях.

§ 178. Суфікс **-ак(-як).** Сярод назоўнікаў з суфіксам **-ак(-як)** выдзяляюцца:

1. Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў і абазначаюць асоб па іх прафесіі, нацыянальнай прыналежнасці або месцу жыхарства, па іх становішчу ці спецыфічных рысах і г. д.: *марак, рыбак; аўстрыяк, прусак, пярмяк, туляк, сібірак* (параўн. *паляк, славак, турак*); *бядак, вядзьмак, дзівак, дружбак, зямляк* і інш. Сюды адносяцца таксама назоўнікі, якія абазначаюць прадметы паводле іх якасцей і ўласцівасцей або таго матэрыялу, з якога яны зроблены ці складаюцца: *вапняк, вушак, вятрак, гарляк* (размоўн.), *касцяк, мядзяк, сасняк, смаляк* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія ўтвораны ад асновы займеннікаў і абазначаюць асоб па іх сваяцкіх сувязях. Такім, у прыватнасці, з'яўляецца назоўнік *сваяк.*

Тып непрадуктыўны.

3. Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў прыметнікаў і абазначаюць асоб і жывёл паводле пэўных прымет, а таксама прадметы і з'явы па іх якасці і стану: *басяк, гарняк, дабрак, здаравяк, мярцвяк, прасцяк, таўсцяк, халасцяк, чужак, юнак; бяляк, сівак, шарак; асабняк, бальшак, гніляк, кругляк, паражняк, праснак, сіняк, скразняк, сыпняк* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

4. Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў лічэбнікаў і абазначаюць прадметы з агульным значэннем колькасці і меры: *трацяк, чацвяртак, пятак, васьмак, дзесятак, дваццатак, трыццатак* і інш.

Назоўнікі гэтай групы сустракаюцца галоўным чынам у размоўным стылі.

Тып непрадуктыўны.

5. Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў і абазначаюць:

а) асоб па іх дзеяннях і стану: *важак, вазак, спявак* і інш. Асобна стаяць назоўнікі *вырадак, заморак, падростак, перарастак;*

б) прадметы і з'явы, што ўзніклі як вынік таго дзеяння, аб якім паведамляецца ва ўтвараючай аснове, а таксама прадметы паводле іх прызначэння: *абавязак, абносак, абрубак, абрывак, адломак, адрэзак, асмалак, ахапак, дамешак, заробак, здымак, злепак, напамінак, наедак,*

*паскрэбак, перапынак, прывесак, прыгарак, прытулак, скрутак, спісак, упадак, урывак, учынак; дзяржак, ляжак, разак, цясак, чарпак* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 179. Суфіксы **-нак, -унак.** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-нак** ад асноў дзеясловаў утворана нязначная колькасць назоўнікаў, якія абазначаюць розныя з'явы і ўзніклі як вынік таго, што названа ва ўтвараючай аснове: *адпачынак, растанак* (размоўн.), *світанак* (размоўн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Вытворны суфікс **-унак** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў таксама ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць розныя з'явы і паняцці па іх адносінах да таго, што названа ва ўтвараючай аснове: *гатунак, кірунак, ладунак* (размоўн.), *ласунак, лятунак* (размоўн.), *мацунак* (размоўн.) *рабунак, ратунак* і інш. Акрамя таго, адзначаныя назоўнікі іншы раз могуць абазначаць таксама прадметы і з'явы, якія з'яўляюцца вынікам таго дзеяння, што названа ва ўтвараючай аснове: *падарунак, пакунак, пацалунак, пачастунак.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 180. Суфікс **-чак.** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-чак** ад асноў прыметнікаў утвораны назоўнікі *смяльчак, весяльчак,* якія абазначаюць асобу, у пэўнай ступені надзеленую той якасцю, што названа ва ўтвараючай аснове.

Тып непрадуктыўны.

§ 181. Суфікс **-няк.** Вытворны суфікс **-няк** ужываецца для ўтварэння ад асноў назоўнікаў (часцей) і ад асноў прыметнікаў (радзей) такіх назоўнікаў, якія абазначаюць мінералы, групы раслін, дрэў, кустоў і г. д.: *жалязняк, плітняк, жытняк, дубняк, лазняк, хмызняк, сушняк* і інш. Асобна стаіць назоўнік *маладняк,* які можа абазначаць не толькі пэўную групу раслін або дрэў, але і пэўную групу людзей або жывёл. Сюды прымыкае назоўнік *слізняк.*

Абодва тыпы назоўнікаў малапрадуктыўныя.

§ 182. Суфіксы **-ль, -аль.** Суфікс **-ль** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў, а суфікс **-аль** — ад асноў назоўнікаў.

Назоўнікі з суфіксам **-ль** абазначаюць асоб паводле іх заняткаў: *каваль, стругаль* (размоўн.) і інш. Сюды ж прымыкаюць і назоўнікі, якія з'яўляюцца прозвішчамі людзей: *Макаль, Стукаль, Хапаль* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі з суфіксам **-аль** звычайна з'яўляюцца мянушкамі людзей або жывёл. Па свайму лексічнаму значэнню гэтыя назоўнікі сінанімічны адпаведным прыметнікам і належаць да размоўнага стылю: *насаль — насаты, рагаль — рагаты* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 183. Суфікс **-ан(-ян).** Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі звычайна ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў і абазначаюць асоб або жывёл паводле характэрных для іх прымет і ўласцівасцей (часцей за ўсё адмоўнага характару): *пузан, велікан, грубіян; кажан, крылан, лабан* і інш.

Асобна стаіць прастамоўнае *штурхан* «штуршок», якім абазначаецца вынік пэўнага дзеяння.

*Вось Чоран зрушыў Лысага, адкідае яго моцнымі штурханамі рагатае галавы* (Я. Колас. Чоран).

Прыведзеныя назоўнікі сустракаюцца галоўным чынам у гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры; яны адносяцца да непрадуктыўных тыпаў.

§ 184. Суфікс **-ант(-ент).** У сучаснай беларускай мове суфікс **-ант(-ент)** выдзяляецца ў тых назоўніках, якія з'яўляюцца запазыча-

нымі з іншых моў. У большасці выпадкаў гэтыя назоўнікі ўтвораны ад асноў назоўнікаў або суадносяцца з імі і абазначаюць асоб па іх адносінах да таго, што названа ўтвараючай асновай: *акупант, арыштант, візітант, дуэлянт, дыверсант, дысертант, дыспутант, дэбютант, кватарант, курсант, музыкант, практыкант, рызыкант* (размоўн.), *секундант, сімулянт, спекулянт, экскурсант; канкурэнт, рэзідэнт, рэцэнзент* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

З адзначаным суфіксам сустракаецца нязначная колькасць назоўнікаў, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць асоб па іх занятках (часовых або пастаянных): *апанент, асістэнт, рэферэнт* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 185. Суфікс **-ар(-яр).** Пры дапамозе суфікса **-ар(-яр)** назоўнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, часцей за ўсё абазначаюць асоб па іх прафесіі, роду заняткаў і г. д.: *аўчар, бляхар, бунтар, варатар, вясляр, гандляр, гусляр, друкар, дудар, званар, камінар, карчмар, касар, млынар, нітар, пляткар* (размоўн.), *пчаляр, пясняр, разбяр, свінар, сталяр, шкаляр, штукар, цвікар,* а таксама *аптэкар, бібліятэкар* і інш. Асобна стаіць назоўнік *юбіляр.*

Заўвага. У гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі, калі падобныя назоўнікі абазначаюць абстрактныя паняцці: *вагар, дымар.* Напрыклад: *Грозны вагар зямельных бунтаў пакаціўся па неабсяжных прасторах царскай Расіі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Абкураныя карпусы цэхаў вагонных майстэрняў чадзілі чорным дымам кароткіх сваіх дымароў* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата).

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, абазначаюць асоб або прадметы паводле тых прымет, якія названы ва ўтвараючай аснове: *дзікар, гушчар, сухар* і інш. Параўн. таксама *цяжар.*

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, звычайна абазначаюць асоб паводле іх дзейнасці: *даяр, змагар, лекар, махляр, пекар, пісар, токар, уладар* і інш.

Сюды прымыкае індывідуальнае ўтварэнне *лгар.*

*Ён станецца лгаром і проста нячэсным чалавекам* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Тып малапрадуктыўны.

§ 186. Суфікс **-атар.** Вытворны суфікс **-атар** выдзяляецца ў запазычаных назоўніках, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў і назоўнікаў. Такія назоўнікі могуць абазначаць асоб па іх сацыяльнаму, службоваму і іншаму становішчу або прадметы, у прыватнасці, прыборы, прыстасаванні і г. д.: *арганізатар, імправізатар, інфарматар, каланізатар, камплектатар, класіфікатар, ліквідатар, схематызатар, тарыфікатар, экзаменатар, эксперыментатар, эксплуататар; губернатар, імператар, махінатар, правакатар; аналізатар, вентылятар, дэгазатар, пластыфікатар, утылізатар, каталізатар* і інш.

Абодва тыпы назоўнікаў малапрадуктыўныя.

Акрамя таго, адзначаны суфікс выдзяляецца ў назоўніку *наватар,* які ўтвораны ад асновы прыметніка і абазначае асобу паводле пэўнай прыметы.

Тып малапрадуктыўны.

§ 187. Суфікс **-ат(-ят).** Гэты суфікс можа ўтвараць назоўнікі ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў. Усе назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў, запазычаны з іншых моў. Часцей за ўсё яны абазначаюць розныя арганізацыі і ўстановы, радзей — асоб па іх адносінах да пэўнай мясцовасці або да пэўных прадметаў, рэчаў і г. д.: *дырэктарат, дэ-*

*канат, камісарыят, консулат, рэктарат, сакратарыят, старастат, султанат, трыбунат, халіфат, эмірат; азіят, адрасат, стыпендыят* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, заўсёды абазначаюць пэўны працэс дзеяння: *бразгат, візгат, грукат, плёскат, скрыгат, стукат, трэскат, тупат, цокат, шоргат* і інш. Параўн. бязафіксныя ўтварэнні: *клёкат, рогат, рокат, строкат, шопат.*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 188. Суфікс **-ач(-яч).** Пры дапамозе суфікса **-ач(-яч)** назоўнікі могуць утварацца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць асоб па іх прафесіі або па іх спецыфічных рысах, уласцівасцях: *скрыпач, трубач, цыркач* (размоўн.), *сілач,* а таксама дыялектнае *бубнач. Тут ускочыў у хату бубнач і схапіў з-пад паліцы бубен* (К. Чорны. Малюнак).

Тып малапрадуктыўны.

Заўвага. Некаторыя назоўнікі данага тыпа характарызуюцца living рознымі экспрэсіўна-эмацыянальнымі адценнямі: *барадач, брухач, трыбухач.* Гэтыя назоўнікі суадносяцца не толькі з назоўнікамі *барада, бруха, трыбух,* але і з прыметнікамі *барадаты, брухаты, трыбухаты.*

Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, абазначаюць асоб па характэрных для іх прыметах: *лайкач* (размоўн.), *ліхач* (размоўн.), *ціхач* (размоўн.) і інш. Сюды ж адносяцца некаторыя назоўнікі, якія з'яўляюцца прозвішчамі людзей: *Дзікач, Сухач, Строгач* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, могуць абазначаць:

а) асоб па дзеянню, названаму ўтвараючай асновай: *глядач, дзеяч, рвач, слухач, уцякач, чытач* і інш.

Заўвага. У размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца таксама назоўнікі *засядач, клікач, насмяхач, пазірач, туляч.*

*Нават некаторыя заседачы ўсміхаліся ў вусы — калі Бушмар выступаў перад судом* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Чаго яго, гэтага клікача, прынясло сюды?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Яшчэ хвіліна, і пырсне смех, вот жа насмяхач* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Там жа ў якасці пазірача стаяў і сам стараста* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ты, гаротнік, туляч беззямельны, доляй закінуты ў горад...* (Я. Купала. Лірнік вясковы).

б) Жывёл або птушак: *драч, крумкач, туркач* і інш.

в) Прадметы паводле іх прызначэння: *дзяркач, капач, пугач, сякач, тайкач, цягач* і інш. Параўн. прастамоўнае *штурхач.*

*Яго* [Грышку] *упіхнулі добрым штурхачом у грамаду заарыштаваных* (М. Чарот. Свінапас).

Тып малапрадуктыўны.

§ 189. Суфікс **-аш(-яш).** Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі могуць утварацца:

а) ад асноў назоўнікаў: *лядаш.*

*З саламянай страхі над акенцамі звісалі доўгія ледашы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Нейгамонная дзетвара коўзалася на ледзяшах з узгорку, што ля самага берага невялічкай рэчкі* (там жа).

б) Ад асноў прыметнікаў: *пусташ.*

*Бязмежная пусташ, бяскрайні простор і дзебры ільдзістага поля...* (Я. Колас. Слава героям!).

в) Ад асноў дзеясловаў: *звадыяш.*

*Хлопца брала злосць на Чыкілевіча як галоўнага звадыяша і баламута* (Я. Колас. Адшчапенец).

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 190. Суфіксы **-еж, -ёж.** Суфіксы **-еж, -ёж** выдзяляюцца ў назоўніках, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў. Даныя назоўнікі абазначаюць адпаведныя працэсы дзеяння або прадметы, якія з'яўляюцца вы-

нікам пэўнага дзеяння: *капеж, галдзёж, грабёж, карцёж, крадзёж, плацёж, чарцёж* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 191. Суфікс **-ей.** Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў прыметнікаў утворана нязначная колькасць назоўнікаў, якія абазначаюць асоб паводле пэўных прымет або стану: *багацей, грамацей.*

Тып непрадуктыўны.

§ 192. Суфіксы **-нь, -ень (-вень), -ань.** Пры дапамозе суфіксаў **-нь, -ень (-вень), -ань** назоўнікі звычайна ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць:

а) асоб паводле іх заняткаў або стану, у якім яны знаходзяцца: *вучань, вязень, лежань* (размоўн.), *сідзень* (размоўн.) і інш.;

б) жывёл або птушак па іх спецыфічных рысах: *папаўзень* (заал.), *певень* і інш.;

в) прадметы і з'явы прыроды, якія з'яўляюцца вынікам пэўнага дзеяння: *апоўзень, вываранень, выкапень, зазубень, кіпень, лівень* і інш.;

г) месяцы года: *студзень.*

Тыпы малапрадуктыўныя.

Акрамя таго, пры дапамозе суфікса **-ень(-ань)** назоўнікі могуць утварацца таксама ад асноў назоўнікаў. Такія назоўнікі звычайна абазначаюць жывых істот паводле пэўных адзнак і некаторыя месяцы года: *галавень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, снежань.*

Тып непрадуктыўны.

§ 193. Суфікс **-ер(-эр).** Гэты суфікс вылучаецца ў запазычаных назоўніках *мільянер* і *мільярдэр,* якія ўтвораны ад асноў лічэбнікаў і абазначаюць асоб паводле размеру таго капіталу, якім яны валодаюць.

Тып непрадуктыўны.

§ 194. Суфікс **-анер.** З вытворным суфіксам **-анер** ужываецца рад назоўнікаў, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання на **ij (ыj).** Такія назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх светапогляду, прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы, арганізацыі, установы і г. д.: *рэвалюцыянер, рэакцыянер, фракцыянер, акцыянер, міліцыянер, місіянер, пенсіянер* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 195. Суфікс **-ёр(-ор).** Суфікс **-ёр(-ор)** ужываецца ў радзе запазычаных назоўнікаў, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць асоб па іх прафесіі, роду заняткаў і г. д.: *баксёр, білецёр, вахцёр, дактрынёр, крэдытор, танцор* і інш.

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 196. Суфікс **-ец.** Пры дапамозе суфікса **-ец** і яго фанетычных варыянтаў **-эц, -ац** назоўнікі часцей за ўсё ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць асоб, якія з'яўляюцца паслядоўнікамі пэўных вучэнняў, а таксама асоб па іх прыналежнасці да пэўнай арганізацыі або ўстановы, па месцу іх жыхарства або прыналежнасці да пэўнай нацыянальнасці: *ленінец, мічурынец; армеец, гвардзеец, камсамолец; горац, чужынец; ветрынец, жлобінец, кобрынец, лагішынец, ленінградзец, слаўгарадзец, старобінец; аргенцінец, адыгеец, азербайджанец, алжырац, аўстрыец, аўстраліец, бельгіец, в'етнамец, іранец, канадзец, карэец, кітаец, непалец, парагваец, тыбецец, філіпінец, цэйлонец* і інш. Утварэнне некаторых назоўнікаў суправаджаецца стратай спалучэнняў **ij(ыj)** ва ўтвараючай аснове: *запарожац, абісінец, абхазец, аджарац, албанец, баварац, галандзец, германец, ісландзец, іспанец, нарвежац, партугалец, эстонец, японец* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

Асобную групу складаюць назоўнікі, якія суадносяцца з дзеепрыметнікамі і аддзеяслоўнымі назоўнікамі на **-нне(-анне, -енне, -энне).** Такія назоўнікі звычайна абазначаюць асоб паводле іх дзейнасці або стану, у якім яны знаходзяцца: *акружэнец, вылучэнец, выраджэнец, выхава-*

*нец, забеспячэнец, пасяленец, паўстанец, перасяленец, прымірэнец, ураджэнец* і інш. Па іх узору ўтворан назоўнік *навучэнец.*

Тып прадуктыўны.

Менш ужывальнымі з'яўляюцца назоўнікі, якія ўтвораны пры дапамозе суфікса **-ец(-ац)** ад асноў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць:

а) асоб па ўласцівых ім рысах і прыметах: *баязлівец, ганарлівец, любімец, незнаёмец, палахлівец, шчаслівец; старац, мудрэц, храбрэц, удалец; вайсковец, вясковец; абарванец* і інш.;

б) птушак і рыб паводле пэўных прымет: *глушэц, жывец* і інш.;

в) прадметы і з'явы па іх прыметах, а таксама прадметы, якія з'яўляюцца вынікам пэўных дзеянняў: *макрэц, румянец, сівец, сырэц, чырвонец; саджанец, сеянец* і інш.

Заўвага. У размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца таксама назоўнікі *дужэц, цікавец, збяглец, улюбёнец: Спрытны хлопец і дужэц* (Я. Колас. Паслушная жонка). *І цікаўцы кідаліся бегчы за ім* (К. Чорны. Злачынца пакараны). *Збегляцоў віталі радаснымі крыкамі «ўра!»* (Р. Мурашка. Сын). *А маці сілы не мела падняць непрытомнае цела свайго ўлюбёнца, дрыжачымі паслабеўшымі рукамі толькі выцягла яго з разоры* (там жа).

Тыпы прадуктыўныя, аднак лексічна абмежаваныя.

Зрэдку сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвораны пры дапамозе суфікса **-ец(-эц)** ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі абазначаюць галоўным чынам асоб паводле іх дзейнасці або заняткаў: *выдавец, ганец, грабец, ігрэц* (размоўн.), *касец, купец, курэц, лавец, прадавец, спажывец, стралец, тварэц* і інш. Асобна стаяць назоўнікі *кравец, плывец, сявец, шавец, жнец,* якія маюць ускладненую ўтваральную аснову.

Тып малапрадуктыўны.

Заўвага. У радзе назоўнікаў гэтага тыпу побач з суфіксам **-ец(-эц, -ац)** ужываецца суфікс **-ц**-*а: выканаўца, вынаходца, дазорца, творца* і інш. Аднак сустракаюцца і такія выпадкі, калі назоўнікі з суфіксам **-ц**-*а* не маюць паралельных форм з суфіксам **-ец**. Да ліку такіх назоўнікаў адносяцца *вытворца, забойца, збаўца, знаўца, уладца* і інш.

Асабліва інтэнсіўна ўтвараліся назоўнікі пры дапамозе суфікса **-ц**-*а* ў 20—30-я гады XX стагоддзя, бо ў той час гэты суфікс выступаў як літаратурная норма.

§ 197. Суфікс **-лец.** Вытворны суфікс **-лец** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Назоўнікі з гэтым суфіксам абазначаюць асоб па іх занятках або становішчу, у якім яны знаходзяцца: *кармілец, пагарэлец, сядзелец* і інш. Параўн. таксама індывідуальнае ўтварэнне *блукалец: А ў душы бяздомнага блукальца ўсё жыве ўсхвалёванае мора...* (А. Звонак. Пагаслі дня жывыя гукі). Асобна стаяць назоўнікі *прышэлец, тапелец.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 198. Суфікс **-овец(-авец).** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-овец(-авец)** назоўнікі ўтвараюцца часцей за ўсё ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць асоб па іх адносінах да пэўнай арганізацыі, таварыства або ўстановы: *дынамавец, іскравец, спартакавец, тарпедавец;* сюды ж адносяцца размоўныя *дэповец, выканкомавец, мясцкомавец, райкомавец, эмтэзсавец;* асоб па месцу іх жыхарства: *ардашовец, відзавец, мастовец, шчорсавец* і інш.

Акрамя таго, суфікс **-авец** сустракаецца ў многіх назоўніках, якія з'яўляюцца прозвішчамі людзей *(Гаравец, Дубавец, Духавец, Лескавец, Ліпавец, Лыскавец, Ляхавец, Маркавец, Цітавец, Янкавец),* назвамі рэк *(Мухавец)* і інш.

Тып прадуктыўны.

Зрэдку пры дапамозе суфікса **-авец(-овец)** утвараюцца назоўнікі ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць прадметы паводле ўласцівых ім прымет: *дзьмухавец.*

*На белых галоўках дзьмухаўцу абапал дарогі густа туманіліся кроплі расы* (І. Мележ. Гарачы жнівень).

Тып непрадуктыўны.

§ 199. Суфікс **-унец.** Вытворны суфікс **-унец** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў прыметнікаў; яны абазначаюць жывых істот, прадметы і з'явы паводле іх якасцей або ўласцівасцей: *даўгунец, слабунец* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 200. Суфіксы **-анец(-янец), -інец(-ынец).** Пры дапамозе вытворных суфіксаў **-анец(-янец)** і **-інец(-ынец)** звычайна ўтвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць асоб, якія з'яўляюцца паслядоўнікамі пэўных вучэнняў, або асоб па іх прыналежнасці да пэўнай арганізацыі, па іх адносінах да пэўнай грамадскай плыні, па месцу іх жыхарства, па іх нацыянальнай прыналежнасці: *вальтэр'янец, гегельянец, рэспубліканец; хутаранец; аршанец, кармянец, нараўлянец, нарачанец, амерыканец, афрыканец, гаіцянец, італьянец, карсіканец, мараканец, мексіканец, перуанец; пехацінец, сочынец, чыцінец, кубінец.*

Тып прадуктыўны.

§ 201. Суфікс **-ізм.** З гэтым суфіксам і яго вытворнымі **-лізм (-алізм), -нізм(-анізм, -інізм), -тызм** ужываюцца абстрактныя запазычаныя назоўнікі, якія абазначаюць:

а) грамадска-палітычныя фармацыі: *феадалізм, капіталізм, сацыялізм, камунізм;*

б) спосабы грамадска-палітычнага кіравання: *абсалютызм, манархізм, царызм;*

в) розныя вучэнні, грамадскія, палітычныя, літаратурныя і іншыя плыні або напрамкі: *дарвінізм, ленінізм, марксізм, матэрыялізм, махізм, рэвізіянізм, трацкізм; аўтанамізм, дэмакратызм, правінцыяналізм; абскурантызм, бюракратызм; канструктывізм, класіцызм, сімвалізм, футурызм* і інш.;

г) від заняткаў: *аўтамабілізм, планерызм, альпінізм;*

д) розныя схільнасці, якасці, уласцівасці: *авантурызм, бандытызм, гераізм, лірызм, ідыятызм, кар'ерызм, паразітызм, траўматызм, флегматызм, фенаменалізм* і інш.

Асобную групу складаюць назоўнікі з канкрэтным значэннем: *арганізм, фразеалагізм, празаізм, беларусізм, германізм, лацінізм, паланізм, цюркізм, архаізм, гістарызм* і інш.

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 202. Суфікс **-ік(-ык).** Пры дапамозе суфікса **-ік(-ык)** назоўнікі могуць утварацца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў на **-ня,** абазначаюць асоб па роду іх заняткаў або дзейнасці: *тамажнік, цырульнік;* параўн. таксама *сотнік* (гіст.). Сюды адносіцца індывідуальнае ўтварэнне *лазнік.*

*Пракоп падставіў спіну, а Мікола са спрытам запраўскага л а з н і к а шараваў яму спіну...* (Я. Колас. Адшчапенец).

Тып непрадуктыўны.

Асобную групу складаюць назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў інтэрнацыянальнага ўжывання. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць асоб па іх адносінах да пэўнай галіны навукі і культуры, па іх прывычках, схільнасцях, здольнасцях і г. д.: *акадэмік, гісторык, хімік, празаік, сатырык, алкаголік, меланхолік* і інш.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў якасных або адносных прыметнікаў з суфіксамі **-н-, -льн-, -ат, -аст-,** абазначаюць:

а) асоб паводле іх дзейнасці або роду заняткаў, а таксама асоб паводле пэўных рыс характару ці па іх адносінах да якіх-небудзь з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці: *дарожнік, зубнік, рамонтнік, транспартнік, чыгуначнік; палярнік, скораснік, ударнік; выдатнік, гаротнік, забаўнік, зай-*

*здроснік, заможнік, злоснік, карнік, нягоднік, паслядоўнік, папярэднік, прыватнік, разумнік, самотнік, свавольнік, скромнік, смяротнік, сучаснік, уласнік, шкоднік.*

б) Жывёл паводле характэрных для іх прымет: *аўсянік* (заал.), *драпежнік, драцянік* (заал.), *стаеннік; валасацік, галавасцік, губасцік.*

в) Прадметы і з'явы па іх якасцях і ўласцівасцях або прызначэнню: *аўсянік* (бат.), *бульбянік, імшанік, пясчанік, халаднік; ранішнік, месячнік, нядзельнік, суботнік; купальнік, прапускнік* і інш.

Тып прадуктыўны.

Некалькі асобна стаяць назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў адносных прыметнікаў з суфіксам **-ав-**. Такія назоўнікі абазначаюць асоб па іх дзейнасці або паходжанню, а таксама прадметы паводле іх якасці і прызначэння: *біржавік, бытавік, кадравік, масавік, маставік, партавік, планавік, страявік, баравік, бранявік, грузавік, дажджавік, ледавік, махавік* (тэхн.), *паравік, паштавік, пылавік, рагавік, чарнавік, штурмавік, шумавік.* Параўн. дыялектнае *селавік,* а таксама *вайскавік* (пры норме *вайсковец).*

*Аднойчы, будучы ў воласці, Алеся сустрэла свайго* *с е л а в і к а* *Саладуху Лявона* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). *Глядзельная зала, перапоўненая нямецкімі* *в а й с к а в і к а м і* *і розным гітлераўскім чыноўным людам, раўла ад захаплення і не скупілася на шумныя апладысменты* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў зборных лічэбнікаў, абазначаюць прадметы з агульным значэннем колькасці або меры чаго-небудзь: *чацвярык, пяцярык, шасцярык, семярык, васьмярык.* Усе гэтыя словы з'яўляюцца ўстарэлымі і ўжываюцца ў сферы бытавых адносін.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць прадметы паводле пэўнага дзеяння ці прызначэння: *цягнік, помнік* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 203. С у ф і к с **-авік.** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-авік** ад асноў назоўнікаў утвораны назоўнікі *драбавік, грыбавік* (размоўн.), *махавік* (грыб), якія абазначаюць прадметы і расліны паводле спецыфічных для іх адзнак. Але ўказаныя назоўнікі не страцілі яшчэ сваёй суадноснасці і з адпаведнымі прыметнікамі. Асобна стаіць назоўнік *рухавік* (тэхн.), які суадносіцца з асновай дзеяслова.

Тып непрадуктыўны.

§ 204. С у ф і к с **-нік.** Суфікс **-нік** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў і дзеепрыметнікаў.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў, абазначаюць:

а) асоб па роду іх заняткаў, схільнасці да чаго-небудзь і інш.: *атамнік, візнік* (устар.), *грыбнік* (размоўн.), *дворнік, дружыннік, каморнік, крамнік, лыжнік, пасаднік* (устар.), *плытнік, скарбнік, цэментнік, чарцёжнік; імяніннік, кніжнік, мяшочнік, паклёпнік, паклоннік, разраднік, шкурнік.*

б) Прадметы паводле іх прызначэння: *кароўнік, парасятнік, цялятнік, багажнік, качарэжнік, лыжачнік, патроннік, свечачнік, сяннік, чайнік.*

в) Сукупнасць дрэў, кустоў, раслін: *алешнік, бярэзнік, ельнік, хвойнік, лімоннік, маліннік, рабіннік, ракітнік;* параўн. таксама: *агурочнік, бруснічнік, бурачнік, багуннік, гарбузнік, чарнічнік, ягаднік* і інш.

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў лічэбнікаў, абазначаюць асоб па іх службовых абавязках або па іншых грамадскіх адзнаках: *дзесятнік, тысячнік* (гіст.), *дваццаціпяцітысячнік, трыццацітысячнік.*

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, могуць абазначаць:

а) асоб па роду іх заняткаў ці дзейнасці або па схільнасці да чаго-небудзь: *будаўнік, вартаўнік, кіраўнік, вынаходнік, заложнік, перавознік, прад'яўнік, валаводнік, гвалтаўнік, жартаўнік, заступнік, прыслужнік, рабаўнік, упаднік, чараўнік.*

б) Прылады дзеяння: *выпарнік, паглыбнік, прывязнік* (тэхн.), *спарнік.*

в) Розныя паняцці: *дзельнік, множнік* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца таксама аддзеяслоўныя назоўнікі *паляўнік, помстнік, сяўнік*, якія не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*Каля сіняга мора, у далёкай тайзе, дзе Амур свае воды да мора нясе, — асяліўся нанайскі народ-паляўнік* (У. Дубоўка. Айога). *Будзе ўзнімацца ў вяках вобраз грознага помстніка за раны роднай зямлі — беларускага партызана* (К. Чорны. На парозе вызвалення). *Адборныя жыта зярняты саджае сяўнік у гектары* (Я. Купала. Новая восень).

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеепрыметнікаў, звычайна абазначаюць асоб паводле выніку таго дзеяння, якое названа ўтваральнай асновай: *абраннік, выбраннік, выгнаннік, пасланнік* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 205. Суфікс **-льнік**. Пры дапамозе вытворнага суфікса **-льнік** ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць:

а) асоб паводле іх дзейнасці або схільнасці да якога-небудзь дзеяння: *апавядальнік, выхавальнік, даглядальнік, заснавальнік, збіральнік, кідальнік, наведвальнік, назіральнік, наймальнік, парушальнік, прадаўжальнік, прадракальнік, прыгнятальнік, распаўсюджвальнік, сказальнік, стваральнік, сумяшчальнік, укрывальнік, уладальнік, утаймавальнік, утрымальнік, хавальнік, шукальнік* і інш.

Сюды адносяцца таксама прыватныя ўтварэнні *змагальнік, лаяльнік* і інш.

*Вялікі змагальнік за волю брыдзе па страшэнных снягах* (З. Бядуля. Год за годам). *Айцец Мадэст быў вельмі заўзяты п'яніца і лаяльнік* (Я. Колас. У палескай глушы).

б) Прадметы, прылады ці рэчывы па іх прызначэнню або ўласцівасцях: *акісляльнік, апыляльнік, выключальнік, вымяральнік, выпаральнік, знішчальнік, паглынальнік, паскаральнік, разрыхляльнік, раставальнік, узбуджальнік, умывальнік, будзільнік, маразільнік, напільнік, халадзільнік* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 206. Суфікс **-оўнік**. Вытворны суфікс **-оўнік** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў; яны могуць абазначаць:

а) асоб па іх сацыяльнаму становішчу, роду заняткаў, званню і інш.: *палкоўнік, садоўнік, саноўнік, чыноўнік* і інш.

б) Сукупнасць раслін або іх частак: *бабоўнік, бульбоўнік, макоўнік, мядоўнік, вужоўнік, дзядоўнік,* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 207. Суфікс **-чык (-шчык)**. Ужыванне суфікса **-чык (-шчык)** абумоўлена характарам утваральнай асновы. Калі ўтваральная аснова заканчваецца зычнымі **д, т, з, с,** то ўтварэнне назоўнікаў адбываецца пры дапамозе суфікса **-чык**: *вадаправод-чык, буфет-чык, воз-чык, паднос-чык.* Утваральная аснова назоўніка *перабеж-чык* заканчваецца зычным **г,** які чаргуецца з **ж.**

У тых выпадках, калі ўтваральная аснова заканчваецца зычнымі **б, п, в (ў), м, н, р, л, j** або спалучэннямі **jт, нт,** утварэнне назоўнікаў адбываецца пры дапамозе суфікса **-шчык:** *загіб-шчык, скуп-шчык, кладаўшчык, паром-шчык, ваграи-шчык, звар-шчык, тэкстыль-шчык, закройшчык, флейт-шчык, брыльянт-шчык.*

Суфікс **-чык(-шчык)** служыць для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць асоб па іх прафесіі або роду заняткаў, якія ўстанаўліваюцца па тых прадметах, што названы ва ўтвараючай аснове: *апаратчык, верталётчык, газетчык, зенітчык, канатчык, падводчык, пракатчык, ракетчык, трафарэтчык; арматуршчык, барабаншчык, бровоаршчык, вугальшчык, гарпуншчык, канторшчык* (размоўн.), *карусельшчык* (размоўн.), *ліхтаршчык* (размоўн.), *пайшчык, паромшчык, табуншчык, тэкстыльшчык, фасоншчык, экскаваторшчык* і інш.

Заўвага. Устарэлымі з'яўляюцца назоўнікі *кормшчык, фурманшчык*.

*Каб цераз парогі правесці ганкі, каля Екапбпілса мы кормшчыкаў бралі* (А. Зарыцкі. На дзвінскіх парогах). *Панурыя ішлі ля вазоў фурманшчыкі* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, абазначаюць асоб па розных відах іх дзейнасці: *выкладчык, даглядчык, змазчык, наводчык, накладчык, перабежчык, перавозчык, перапісчык, разведчык, рэзчык, укладчык, адпрайшчык, выбаршчык, забастоўшчык, зваршчык, перакупшчык, разборшчык*. Параўн. таксама назоўнік *выдумшчык*, які абазначае асобу па яе схільнасці да пэўнага дзеяння.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры зрэдку сустракаецца таксама назоўнік *грэбшчык*.

*Здалёк ледзь-ледзь даносяцца галасы грэбшчыкаў* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Некаторыя назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, могуць абазначаць як асоб, так і прылады дзеяння: *перадатчык, разліўшчык, тралёўшчык* і інш.

Тып прадуктыўны.

Рад назоўнікаў, утвораных суфіксам **-чык (-шчык)**, суадносіцца як з назоўнікамі аддзеяслоўнага паходжання, так і з дзеясловамі: *даносчык, змоўшчык, зрыўшчык, наборшчык, нагаворшчык, перакладчык, пераплётчык* і інш.

§ 208. Суфікс **-льшчык**. Пры дапамозе вытворнага суфікса **-льшчык** ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле пэўных дзеянняў або паводле таго стану, у якім яны знаходзяцца: *абівальшчык, баранавальшчык, бурыльшчык, вудзільшчык, вязальшчык, гранільшчык, драбільшчык, круцільшчык, купальшчык, лудзільшчык, матальшчык, мяняльшчык, насільшчык, насыпальшчык, падавальшчык, падмятальшчык, плакальшчык, прасавальшчык, прыбіральшчык, раскідальшчык, рысавальшчык, свідравальшчык, снавальшчык, сціртавальшчык, трапальшчык, церабільшчык, цыравальшчык, часальшчык, чарпальшчык, шыфравальшчык, шліфавальшчык* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 209. Суфікс **-аўшчык**. Вытворны суфікс **-аўшчык** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць асоб паводле роду іх заняткаў: *вагаўшчык, дахаўшчык, кранаўшчык, кубаўшчык, фруктаўшчык, футраўшчык* і інш.

Заўвага. У гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры замест суфікса **-аўшчык** можа ўжывацца суфікс **-оўшчык**, напрыклад: *Там трэцяя змена дахоўшчыкаў накрывала нядаўна надбудаваны на адзін паверх дом* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

Тып малапрадуктыўны.

§ 210. Суфікс **-ін(-ын)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі са значэннем адзінкавасці; яны абазначаюць асоб, якія належаць да пэўнай сацыяльнай групы або да пэўнай

нацыі: *баярын* (гіст.), *армянін, асецін, балгарын, грузін, мардвін, татарын* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 211. Суфіксы **-анін(-янін), -чанін.** Пры дапамозе вытворных суфіксаў **-анін(-янін), -чанін** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага паходжання, месца жыхарства або нацыянальнай прыналежнасці: *дваранін, селянін, хутаранін; капылянін, мазыранін, парыжанін, суражанін, барысаўчанін, гамяльчанін, мядзяльчанін; асірыянін, англічанін* і інш.

Пры ўтварэнні назоўнікаў ад асноў на зычныя **г, д, т, м, в** адбываецца чаргаванне гэтых зычных з **ж, ц', мл', ў(ўл')**: *Волг-а — валж-анін, горад — гарадж-анін, Егіпет — егіпц-янін, Рым — рымл-янін, Кіеў — кіеўл-янін, Пастав-ы — пастаў-чанін.*

Пры ўтварэнні назоўнікаў ад назваў населеных пунктаў на **-ск** адбываецца выпадзенне гэтага суфікса: *Бабруйск — бабруй-чанін, Віцебск — віцябл-янін, Мінск — мін-чанін.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 212. Суфікс **-ір(-ыр)**. У большасці выпадкаў пры дапамозе суфікса **-ір(-ыр)** утвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання; яны абазначаюць асоб па роду іх заняткаў, па становішчу ў калектыве, па пасадзе і інш.: *банкір, брыгадзір, камандзір, канваір, касір, фуражыр* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Зрэдку сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвораны пры дапамозе суфікса **-ір(-ыр)** ад асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць асоб або прадметы паводле характэрных для іх прымет: *багатыр* (багаты чалавек), *пустыр* (пустое месца) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 213. Суфікс **-іст(-ыст)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб па іх прафесіі, занятках: *баяніст, бандурыст, вакаліст, гарманіст, гарніст, журналіст, матарыст, машыніст, сігналіст, танкіст, тарпедыст, трактарыст, фалькларыст, цымбаліст;* па навуковаму светапогляду, па адносінах да пэўных грамадскіх з'яў, палітычных, ідэйных, літаратурных і іншых плыней: *дарвініст, ідэаліст, інтэрнацыяналіст, камуніст, марксіст, рэфарміст, сімваліст, футурыст, хвасціст;* па спецыфічных прыметах і схільнасцях да чаго-небудзь: *авантурыст, актывіст, анекдатыст, гумарыст, каламбурыст, скандаліст, талмудыст, універсаліст, ухіліст, шантажыст* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 214. Суфікс **-іт**. Часцей за ўсё пры дапамозе суфікса **-іт** утвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць:

а) асоб паводле роду або характару заняткаў: *барацьбіт, варажбіт, малацьбіт, просьбіт* (устар.). Сюды адносяцца прыватныя ўтварэнні *дружбіт, дзяльбіт, сяўбіт.*

*Уваходзяць па чарзе дружкі і дружбіты* (Я. Купала. Галька). *У дзяльбітаў аж духі заняло* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Гэй, сяўбіт, ёсць прыбыт на тваім палетку* (М. Чарот. У 1000 — зоры).

б) Назвы хвароб: *бранхіт, міякардыт, плеўрыт, пульпіт, трахеіт.*

в) Назвы мінералаў і руд: *жыгуліт, магнетыт, металіт, саламіт, фасфарыт* і інш. Параўн. таксама назоўнік *метэарыт.*

Тып малапрадуктыўны.

Часам пры дапамозе суфікса **-іт** утвараюцца назоўнікі ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага становішча: *наймiт.*

Тып непрадуктыўны.

§ 215. Суфікс **-біт**. Вытворны суфікс **-біт** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць асоб паводле выконваемых імі дзеянняў: *носьбіт, сейбіт.*

Тып непрадуктыўны.

§ 216. Суфікс **-іч(-ыч)**. Суфікс **-іч(-ыч)** ужываецца для ўтварэння ад асноў назоўнікаў такіх назоўнікаў, якія абазначаюць асоб па сацыяльнаму становішчу, па сваяцкіх адносінах, па месцу жыхарства: *княжыч, паніч, шляхціч, дзедзіч* (устар.), *родзіч, масквіч, кастраміч.* Сюды ўваходзяць таксама назоўнікі, якія з'яўляюцца імёнамі па бацьку адпаведных асоб: *Ільіч, Кузьміч, Лукіч, Савіч, Фаміч.*

Тып непрадуктыўны.

У размоўным стылі пры дапамозе суфікса **-ыч** ад асноў прыметнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя якасці ў адпаведнасці з тым, што названа ўтвараючай асновай: *горыч, слодыч.*

Тып непрадуктыўны.

§ 217. Суфіксы **-евіч(-эвіч), -овіч(-авіч)**. Пры дапамозе суфікса **-евіч(-эвіч)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб па іх сацыяльнаму становішчу або паходжанню: *каралевіч, царэвіч.*

Тып непрадуктыўны.

Вялікую групу складаюць назоўнікі з суфіксамі **-евіч, -овіч(-авіч)**, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў і з'яўляюцца імёнамі па бацьку адпаведных асоб: *Аляксеевіч, Андрэевіч, Мацвеевіч, Мікалаевіч, Нупрэевіч, Сяргеевіч, Цімафеевіч; Пятровіч, Аляксандравіч, Барысавіч, Іванавіч, Ігнатавіч, Максімавіч, Марцінавіч, Сцяпанавіч, Ягоравіч* і інш.

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

Ад імён па бацьку на **-евіч, -овіч(-авіч)** у беларускай мове ўтвараецца значная колькасць уласных прозвішчаў асоб мужчынскага і жаночага полу з націскнымі суфіксамі **-евіч(-эвіч), -овіч**: *Барысевіч, Тарасевіч, Лукашэвіч, Пятровіч, Александровіч, Багдановіч, Гаўрыловіч, Марціновіч.*

Самастойную групу складаюць прозвішчы асоб мужчынскага і жаночага полу, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-евіч(-эвіч), -овіч** ад назоўнікаў іншых груп: *Валасевіч, Казакевіч, Абуховіч, Лабановіч, Скуратовіч* і інш.

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 218. Суфікс **-ок(-ёк)**. Суфікс **-ок(-ёк)** ужываецца толькі тады, калі на яго падае націск. З дапамогай гэтага суфікса звычайна ўтвараюцца назоўнікі ад асноў беспрыставачных дзеясловаў; яны могуць абазначаць:

а) асоб па іх дзеянню або стану: *знаток, ігрок, стралок, сядок, хадок, ядок, яздок* і інш.;

б) прадметы паводле іх прызначэння, а таксама такія прадметы, якія называюць адпаведны акт дзеяння або якія з'яўляюцца вынікам пэўнага дзеяння: *вазок, званок, ляток, свісток, глыток, гудок, ківок, кіпяток, маток, мазок, плявок, прыжок* (спарт.), *рывок, скачок, штуршок.*

Большасць назоўнікаў з гэтым суфіксам ужываецца ў размоўным стылі.

Тып прадуктыўны, аднак лексічна абмежаваны.

У радзе выпадкаў пры дапамозе суфікса **-ок(-ёк)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот або прадметы зменшанага памеру: *пастушок, парсючок; кажушок, ланцужок, палазок, рычажок, цвічок* і інш.

Заўвага. Суфікс **-ок(-ёк)** у падобных назоўніках можа быць не толькі словаўтваральным, але і суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі. Розніца паміж словаўтваральным суфіксам і суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі ўстанаўліваецца кантэкстам.

Тып прадуктыўны.

§ 219. Суфіксы **-тай (-атай), -цяй.** Суфікс **-тай (-атай)** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі звычайна абазначаюць асоб па іх занятках: *завадатай, хадатай, ратай* (устар.), а таксама *гультай*.

Тып непрадуктыўны.

Пры дапамозе суфікса **-цяй** назоўнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць асоб, якія надзелены адмоўнай характарыстыкай: *слюнцяй, цюхцяй*. Назоўнікі з суфіксам **-цяй** належаць да размоўнага стылю.

Тып непрадуктыўны.

§ 220. Суфікс **-ун**. У большасці выпадкаў гэты суфікс ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Утвораныя такім чынам назоўнікі могуць абазначаць:

а) асоб паводле іх дзеянняў або схільнасці да пэўных дзеянняў: *бягун, крыкун, лгун, лятун, піскун, прыгун* (спарт.), *свістун, сыкун, хапун, шаптун;*

б) жывёл паводле іх дзеянняў або стану: *брыкун, грызун, пайзун, скакун, сысун, цвыркун;*

в) прадметы і з'явы паводле іх уласцівасцей і прызначэння: *байтун, зыбун, калун, падун, плывун, трасун, шатун* і інш.

Большасць назоўнікаў з суфіксам **-ун** ужываецца пераважна ў гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры.

Тып малапрадуктыўны.

У размоўным стылі зрэдку сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвораны пры дапамозе суфікса **-ун** ад асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць асоб па характэрных для іх прыметах: *бальшун, весялун, дзікун, ласун, прыгажун, слабун, хітрун* і інш.

Тып непрадуктыўны.

Часам пры дапамозе суфікса **-ун** утвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў і абазначаюць асоб паводле пэўных адзнак і ўласцівасцей: *лясун, ляўшун* (размоўн.), *пластун* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 221. Суфікс **-ух(-юх)**. Суфікс **-ух(-юх)** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў; яны могуць абазначаць асоб па роду іх заняткаў або прадметы паводле іх прызначэння: *конюх, пастух, свінух* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 222. Суфікс **-цель**. Назоўнікі з гэтым суфіксам звычайна ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў і абазначаюць асоб паводле іх дзейнасці або прадметы ці прылады дзеяння: *вадзіцель, вызваліцель, выхавацель, вяршыцель, душыцель, збавіцель, карміцель, крыўдзіцель, натхніцель, пакарыцель, прасіцель, правіцель, прымірыцель; аднавіцель, аслабіцель, выключацель, глушыцель, закрапіцель, праявіцель, уцяпліцель* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 223. Суфікс **-онак(-ёнак)**. Назоўнікі з суфіксам **-онак (-ёнак)** звычайна ўтвораны ад асноў назоўнікаў і з'яўляюцца прозвішчамі асоб мужчынскага і жаночага полу: *Багданёнак, Барысёнак, Васілёнак, Кавалёнак, Казачонак, Лапцёнак, Лемяшонак, Макаёнак, Мартынёнак, Паўлючонак, Пісаронак, Самуйлёнак, Стальмашонак, Тарасёнак* і інш.

Тып прадуктыўны.

Заўвага. У некаторых мясцовых гаворках, а пад іх уплывам і ў мове мастацкай літаратуры пры дапамозе суфіксаў **-онак(-ёнак), -анёнак** утвараюцца таксама назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот: *арлёнак, зубронак, ласёнак, сланёнак, куранёнак, мушанёнак* і інш.

*Што ж ты... не спіш, мой мілы хлопчык, мой арлёнак?* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Знайшоўся мушанёнак нейкі малы, што званіў-такі не кепска ў цымбалы* (М. Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *У яго, як у маладога кацянёнка, пазліпайшыся вочы, — ён дрэнна, зусім дрэнна бачыць* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 224. Суфікс **-чонак.** Вытворны суфікс **-чонак** ужываецца ў размоўным стылі для ўтварэння ад асноў назоўнікаў такіх назоўнікаў, якія абазначаюць недарослых асоб паводле іх нацыянальнай прыналежнасці: *башкірчонак, татарчонак, турчонак.*

Тып непрадуктыўны.

§ 225. Суфікс **-чук.** Пры дапамозе суфікса **-чук** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць недарослых асоб або прадметы зменшанага памеру: *барчук* (устар.), *кавальчук, пісарчук, слесарчук, цыганчук, пяньчук, раўчук, хляўчук* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Акрамя таго, суфікс **-чук** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў, якія з'яўляюцца прозвішчамі асоб мужчынскага і жаночага полу: *Бандарчук, Гаўрыльчук, Кавальчук, Курыльчук, Патапчук, Пракапчук, Прахарчук, Сіманчук, Сцепанчук* і інш.

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 226. Суфікс **-ыш(-іш).** Пры дапамозе гэтага суфікса могуць утварацца назоўнікі ад асноў прыметнікаў і дзеясловаў. Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, абазначаюць асоб або прадметы паводле тых прымет, аб якіх гаворыцца ва ўтвараючай аснове: *галыш, гладыш, малыш, мякіш.* Гэтыя назоўнікі належаць да размоўнага стылю.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, абазначаюць жывых істот ці прадметы і з'явы, якія з'яўляюцца вынікам пэўных дзеянняў: *падкідыш, прыёмыш; выйгрыш, пройгрыш, розыгрыш, спарыш.* Параўн. таксама дыялектнае *скавыш.*

*Ніхто не зверне іх з дарогі: ні навальніцы, ні скавыш...* (П. Глебка. Трывожны сігнал).

Тып малапрадуктыўны.

## *Суфіксы назоўнікаў жаночага роду*

§ 227. Суфіксы **-адзь(-ядзь), -эдзь.** Пры дапамозе суфікса **-адзь (-ядзь)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць з'явы прыроды або прадметы паводле спецыфічных для іх прымет: *цемрадзь* (размоўн.), *рухлядзь* (гіст.).

Тып непрадуктыўны.

Суфіксы **-ядзь, -эдзь** ужываюцца таксама для ўтварэння назоўнікаў ад асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць абстрактныя якасці, адцягненыя ад пэўных прадметаў: *роўнядзь, макрэдзь.*

Тып непрадуктыўны.

§ 228. Суфікс **-азь (-язь).** Пры дапамозе суфікса **-азь- (-язь)** ад іменных асноў утвораны назоўнікі *ветразь, дробязь,* якія абазначаюць адзіночныя прадметы (у прамым і пераносным значэнні) або сукупнасць прадметаў па характэрных для іх адзнаках: *На чоўне стаяў пад ветразем рыбак і прасціраў руку ўдалеч* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я — адна толькі нітка у тых ветразях ў пурпуровых, што гісторыі подых нясуць на сабе і не ведаюць стомы ў штормах суровых* (М. Танк. Партыя). *Ляцеў ён на ветразі сэрца сюды* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Даліны крыюцца туманам, і поле ў ветразі завей* (П. Трус. Навошта сэрца я параніў?). *Кожная дробязь нервавала яго без меры* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *І дзіўна вось такая дробязь: яму прастору крокаў тры...* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Потым яна прынесла ў хату ўдавы Марты цукру, хлеба, крупы, мукі і жменьку дробязі* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *У чарацяным гушчары шчабечадьі шастае нейкая птушыная дробязь* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Тып непрадуктыўны.

§ 229. Суфіксы **-ар-*а*** і **-вар-*а***. Пры дапамозе суфікса **-ар-*а*** ад асновы назоўніка ўтворан назоўнік *машкара*, якому ўласціва значэнне зборнасці.

Тып непрадуктыўны.

Вытворны суфікс **-вар-*а*** вылучаецца ў назоўніку *дзетвара*, які ўтворан ад асновы назоўніка і таксама мае значэнне зборнасці.

Тып непрадуктыўны.

§ 230. Суфікс **-ах-*а***. Гэты суфікс ужываецца для ўтварэння ад асноў дзеясловаў невялікай колькасці назоўнікаў, якія абазначаюць прадметы і з'явы паводле таго дзеяння, што названа ва ўтвараючай аснове: *апранаха* (прастамоўн.), *абліваха* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 231. Суфіксы **-ацыj-*а***, **-ізацыj-*а*** (**-ызацыj-*а***), **-фікацыj-*а***, **-іфікацыj-*а***(**-ыфікацыj-*а***). Пералічаныя суфіксы звычайна ўжываюцца ў назоўніках іншамоўнага паходжання, якія абазначаюць працэсы дзеянняў, вынікі дзеянняў або стан: *акупацыя, жэстыкуляцыя, кантрактацыя, ліквідацыя, маніфестацыя, нумарацыя, публікацыя, спекуляцыя, фільтрацыя, гербарызацыя, рытмізацыя, стылізацыя, утылізацыя, газіфікацыя, кінафікацыя, электрыфікацыя* і інш.

Некаторыя назоўнікі з гэтымі суфіксамі ў залежнасці ад умоў ужывання могуць мець і адцягненае значэнне працэсу і канкрэтнае значэнне прадметнасці: *ізаляцыя, рэфармацыя, рэвалюцыя, сігналізацыя* і інш.

Асобную групу складаюць назоўнікі, якія маюць толькі канкрэтнае значэнне: *каналізацыя, карпарацыя, пракламацыя* і інш.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 232. Суфіксы **-б-*а***, **-іб-*а***. Пры дапамозе суфікса **-б-*а*** ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адпаведныя працэсы: *барацьба, варажба,* (размоўн.), *ганьба, гульба* (размоўн.), *дзяльба* (размоўн.), *дружба, журба, касьба, мальба, пальба* (размоўн.), *просьба, разьба, служба, стральба, сяўба, хадзьба, хвальба* (размоўн.); параўн. таксама прыватнае ўтварэнне *гасціба.*

*Ніхто не мог зразумець, для чаго яны ўстроілі гэткую ўрачыстую гасцібу* (М. Чарот. На пасеках).

Асобна стаіць назоўнік *сяліба,* які абазначае вынік дзеяння.

Тып непрадуктыўны.

З суфіксам **-іб-*а*** ўтворан назоўнік *сядзіба,* які абазначае вынік пэўнага дзеяння.

Тып непрадуктыўны.

§ 233. Суфікс **-об-*а***. Пры дапамозе суфікса **-об-*а*** ад асноў дзеясловаў са страчаным паказчыкам класа ўтвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць пэўныя працэсы: *вучоба, хвароба.*

Тып непрадуктыўны.

У гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры сустракаецца назоўнік *худоба,* які ўтворан ад асновы прыметніка і абазначае сукупнасць рагатай жывёлы па характэрных для яе прыметах.

*Чым жа цяпер худобу карміць?* (Я. Колас. Дрыгва).

Тып непрадуктыўны.

§ 234. Суфікс **-в-*а***. Суфікс **-в-*а*** ўжываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў. У першым выпадку назоўнікі абазначаюць асоб або прадметы і заўсёды маюць зборнае значэнне: *братва* (размоўн.), *дзятва* (размоўн.), *ліства.*

*«Гуляй, братва!» — весела гукнуў Сёмка* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Хата поўная дзятвы* (Я. Колас. На прадвесні). *На дзераве зжоўкла ўся ліства* (Я. Колас. Сябрам).

Тып непрадуктыўны.

У другім выпадку назоўнікі абазначаюць працэсы і прылады дзеяння: *бітва, клятва, малітва, брытва, дратва, прошва* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 235. Суфікс **-атв-***а*, **-ытв-***а*. У размоўным стылі вытворныя суфіксы **-атв-***а*, **-ытв-***а* ўжываюцца для ўтварэння ад асноў прыметнікаў назоўнікаў *басатва, галытва*, якія маюць зборнае значэнне; яны абазначаюць пэўныя групы асоб паводле іх сацыяльнага або матэрыяльнага становішча. Акрамя таго, назоўнік *галытва* можа ўжывацца з адцягненым значэннем якасці.

*Хапала там і ўсякай басатвы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Побач з галытвою ходзіць роскаш і багацце* (Я. Колас. Думкі ў дарозе).

Тып непрадуктыўны.

§ 236. Суфіксы **-еўн-***а*(**-эўн-***а*), **-ёўн-***а*(**-оўн-***а*). З гэтымі суфіксамі ад асноў назоўнікаў утвораны назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага паходжання: *каралеўна, царэўна, князёўна, папоўна, дзякоўна.*

Тып непрадуктыўны.

§ 237. Суфікс **-еч-***а*(**-эч-***а*). Гэты суфікс надае назоўнікам адценне высокай ступені праяўлення прызнака.

Пры дапамозе суфікса **-еч-***а*(**-эч-***а*) назоўнікі часцей за ўсё ўтвараюцца ад асноў прыметнікаў; яны звычайна абазначаюць жывых істот або розныя з'явы паводле характэрных для іх прымет: *малеча, галеча, далеча, макрэча, пустэча, сінеча* і інш. Усе такія назоўнікі належаць да размоўнага стылю, аднак яны знаходзяць пэўнае адлюстраванне і ў мове мастацкай літаратуры.

*Неўгамонная пісклявая малеча віхрам насілася ля агарожы* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Дарма ты прымаеш мяне за старэчу* (А. Александровіч. Сэрца). *Галечу ўсім няслі яны* (П. Броўка. 1914). *У самую гушчэчу лесу залезла збітая з дошак, з фанеры кухня* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гарчэча ў роце* (К. Чорны. Звяга). *Агорнутыя сіняватай смугою, журботна пазіралі далечы і ніклі ў святле жнівеньскага сонца* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *На дварэ макрэча* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Пры гэтым часта выяўлялася прастэча і непасрэднасць дзіцячай істоты* (Я. Колас. У палескай глушы). *Купаліся далі ў ласкавай сінечы* (Я. Колас. Роднаму краю). *Ох, і халаднеча!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Тып непрадуктыўны.

Значна радзей суфікс **-еч-***а*(**-эч-***а*) ужываецца ў размоўным стылі для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі абазначаюць пэўны працэс дзеяння: *задыхнеча, калатэча, талачэча.*

*Не спачуваў дзед Купрыян усёй гэтай валтузні і калатэчы* (Я. Колас. Дрыгва). *Канца няма той талачэчы* (Я. Колас. Новая зямля). *Ні прус цябе тут не джгне, ні блыха не ўкусіць, а ні той задыхнечы хатняй, млоснай* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Тып непрадуктыўны.

Яшчэ радзей сустракаюцца назоўнікі з суфіксам **-эч-***а*, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў; па свайму значэнню яны блізкія да першай групы: *камарэча, халадэча.*

*Так і ляжыць яно* [балота], *засланае прэллю гнілых туманоў, поўнае машкары, камарэчы, разносячы заразу* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Такая халадэча на дварэ* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Тып непрадуктыўны.

§ 238. Суфікс **-ізн-***а*. Пры дапамозе суфікса **-ізн-***а* ад асноў прыметнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя якасці: *белізна* (параўн.: *бялізна*), *гнілізна, жаўцізна, круцізна, крывізна, левізна, навізна, прамізна, сівізна, старызна* (размоўн.), *суравізна* (размоўн.), *худзізна, шырызна* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 239. Суфікс **-ік-*а*(-ык-*а*).** Гэты суфікс выдзяляецца ў іншамоўных словах, якія з'яўляюцца навуковымі, літаратурнымі і іншымі тэрмінамі: *акрабатыка, сімволіка, схаластыка, строфіка, тоніка* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 240. Суфікс **-ін-*а*(-ын-*а*).** Пры дапамозе суфікса **-ін-*а*(-ын-*а*)** ад асноў назоўнікаў са значэннем зборнасці або рэчыўнасці ўтвараюцца назоўнікі са значэннем адзінкавасці; яны абазначаюць розныя прадметы і з'явы: *алешына, балоціна* (размоўн.), *бульбіна, бярэзіна, валасіна, гарошына, дзярніна, дравіна* (размоўн.), *жалезіна, палатніна, паркеціна* (размоўн.), *падпорына, пасудзіна, паперына* (размоўн.), *саломіна, сняжына* (размоўн.), *сяніна* (размоўн.), *травіна, цагліна, хварасціна, чараціна, чарэмшына, шкарлупіна, шраціна, яліна* і інш. Сюды прымыкаюць таксама назоўнікі *людзіна* (размоўн.) і *жывёліна.*

Тып малапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі на **-ін-*а*(-ын-*а*)** значэнне адзінкавасці сумяшчаюць са значэннем выніку дзеяння: *выбоіна, выгарына, выжарына, драпіна, зарубіна, намуліна* (размоўн.), *праломіна, разваліна, расколіна, упадзіна, уточына* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Асобна стаіць невялікая група назоўнікаў, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў і абазначаюць мяса той жывёлы або рыбы, аб якіх сказана ва ўтвараючай аснове: *асятрына, бараніна, каніна, ласіна, свініна, цюленіна* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 241. Суфікс **-ацін-*а*(-яцін-*а*).** У радзе выпадкаў вытворны суфікс **ацін-*а*(-яцін-*а*)** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў, якія таксама абазначаюць мяса пэўнай жывёлы або рыбы: *бычаціна, гусяціна, кураціна, парасяціна, самяціна, цяляціна* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Акрамя таго, з суфіксамі **-ацін-*а*(-яцін-*а*), -ачын-*а*(-ячын-*а*)** у размоўным стылі ўжываецца рад назоўнікаў, якія ўтвораны ад асноў прыметнікаў і абазначаюць прадметы паводле тых спецыфічных прымет, што названы ва ўтвараючай аснове: *здыхляціна* (прастамоўн.), *кісляціна, мярзляціна, трухляціна, тухляціна, мярцвячына* і інш. Некаторыя з гэтых слоў захоўваюць яшчэ суадносасць і з асновамі назоўнікаў на **-як:** *здыхляціна — здыхляк, мярзляціна — мярзляк, трухляціна — трухляк, мярцвячына — мярцвяк.*

§ 242. Суфікс **-авін-*а*.** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-авін-*а*** ўтвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду; яны звычайна абазначаюць прадметы і з'явы паводле тых адзнак і асаблівасцей, што названы ва ўтвараючай аснове: *баравіна, верхавіна, гадавіна, гарлавіна, дамавіна, катлавіна, лугавіна, пупавіна, раўчавіна* (размоўн.), *садавіна, седлавіна, сэрцавіна* і інш. Некаторыя з адзначаных назоўнікаў суадносяцца таксама з прыметнікамі на **-ав-*ы*:** *баравіна — баравы, гадавіна — гадавы, дамавіна — дамавы, лугавіна — лугавы, садавіна — садавы* і інш.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Зрэдку пры дапамозе суфікса **-авін-*а*** ўтвараюцца назоўнікі ад асноў прыметнікаў; яны абазначаюць розныя рэчывы і з'явы паводле іх прымет: *сыравіна, дзіковіна* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 243. Суфіксы **-ін-*я*(-ін-*а*), -ын-*я*(-ын-*а*).** Суфіксы **-ін-*я*, -ын-*я*** ўжываюцца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў прыметнікаў і назоўнікаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, звычайна абазначаюць адцягненыя якасці, стан: *быстрыня, вастрыня, велічыня, вышыня, гарачыня, глыбіня, гушчыня, далечыня, даўжыня, таўшчыня, цвярдыня*

(кніжн.), *цеплыня, цішыня, чысціня, шырыня; навіна, старына* і інш. Асобна па значэнню стаяць назоўнікі *раўніна, цаліна, чужына, цясніна.*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць асоб жаночага полу па іх паходжанню або сацыяльнай прыналежнасці: *графіня, княгіня, манахіня, рабыня, шахіня.* Асобна па значэнню стаяць назоўнікі *багіня, гераіня.* Параўн. таксама прастамоўнае *сябрыня.*

*Сябрыняю гасціла ў тым маёнтку жонка Радзівіла* (А. Александровіч. Цені на сонцы).

Тып непрадуктыўны.

§ 244. Суфікс **-нін-***а*. Вытворны суфікс **-нін-***а* вылучаецца ў радзе аддзеяслоўных назоўнікаў (галоўным чынам у размоўным стылі), якія абазначаюць адцягненыя дзеянні: *беганіна, блытаніна, груканіна, карпаніна, мазаніна, мешаніна, мітусяніна, пісаніна, страляніна, таўканіна, трасяніна, тузаніна, тупаніна, цеганіна, штурханіна* і інш.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 245. Суфікс **-іц-***а*(**-ыц-***а*). У большасці выпадкаў пры дапамозе суфікса **-іц-***а*(**-ыц-***а*) утвараюцца назоўнікі ад асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць асоб, жывых істот, расліны, прадметы і з'явы па іх прыметах: *маладзіца, модніца, сініца, касцяніца, гарчыца, жывіца, кісліца, розніца, святліца, цяпліца, чарніца, драбніца, таямніца, цямніца* і інш. Сюды ж адносяцца і прыватныя ўтварэнні *сур'ёзніца, роўніца: Сама ўжо ў сёмым класе, маму вось-вось дагоніць ростам, насатая, блакітнавокая сур'ёзніца* (Я. Брыль. Апошняя сустрэча). *Войтава дарога і накіраванасць пераважнай большасці сялянства ляжаць у розных роўніцах* (Я. Колас. Дрыгва).

Тып малапрадуктыўны.

Зрэдку сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-іц-***а*(**-ыц-***а*) ад асноў назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць расліны і з'явы паводле тых прымет, якія названы ўтваральнай асновай: *пушыца, цямрыца* (размоўн.) і інш.

*Мы прайшлі вялікае топкае балота, травяныя тарфянікі, усыпаныя купінамі, зарослыя асакой і пушыцай* (І. Гурскі. Жалейкава града). *Тонуць думы ў спакоі трывожна-святым, над зямлёй расплываюцца з сумнай цямрыцай* (Я. Купала. З вячэрніх дум).

Тып непрадуктыўны.

З суфіксам **-іц-***а*(**-ыц-***а*) ужываецца таксама рад назоўнікаў жаночага роду, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду і абазначаюць асоб або жывёл: *царыца, арліца, асліца, ваўчыца, ласіца, львіца, мядзведзіца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 246. Суфікс **-авіц-***а*. Назоўнікі з суфіксам **-авіц-***а* ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў і абазначаюць з'явы прыроды або працэсы дзеяння ці стан: *бліскавіца, дыхавіца, касавіца.*

Тып непрадуктыўны.

§ 247. Суфікс **-ніц-***а*. У сучаснай беларускай мове існуюць два розныя па свайму паходжанню віды суфікса **-ніц-***а*. Да першага віду адносіцца суфікс **-ніц-***а*, які ўзнік на базе суфікса **-іц-***а* ў выніку перараскладання ўтваральнай асновы на **-н.** Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў і асноў дзеясловаў.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў, абазначаюць розныя прадметы, прызначаныя для ажыццяўлення якога-небудзь дзеяння або для змяшчэння ці размяшчэння чаго-небудзь: *байніца, калясніца, ракетніца; газніца, грабніца, грыбніца, каравайніца* (устар.), *кропельніца* (медыц.), *мыльніца, памыйніца, пірожніца, пясочніца, салатніца, сальніца, скарбніца, тавотніца, тварожніца, хлебніца.*

Асобна стаяць назоўнікі *жытніца, зарніца, вечарніца* (устар.), *дзянніца* (паэт.), *начніца* (паэт.), якія абазначаюць з'явы прыроды або аб-

страктныя паняцці паводле іх паходжання. Гэтыя назоўнікі суадносяцца не толькі з асновамі назоўнікаў, але і з асновамі прыметнікаў на **-н.**

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць галоўным чынам прадметы паводле іх прызначэння: *дайніца, прасніца, разніца* (прастамоўн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Да другога віду адносіцца суфікс **-ніц-***а*, які ўзнік на базе суфікса **-нік** назоўнікаў мужчынскага роду шляхам замены канцавога **-к** на **-ц-***а*. Такім чынам, гэты суфікс з'яўляецца другасным па свайму паходжанню.

Назоўнікі з адзначаным суфіксам **-ніц-***а* абазначаюць асоб жаночага полу паводле тых жа адзнак, што і назоўнікі мужчынскага роду з суфіксам **-нік:** *асветніца (асветнік), абранніца (абраннік), вандроўніца (вандроўнік), заступніца (заступнік), здрадніца (здраднік), жартаўніца (жартаўнік), насмешніца (насмешнік), падарожніца (падарожнік), памочніца (памочнік), прыслужніца (прыслужнік), прыхільніца (прыхільнік), удзельніца (удзельнік), чараўніца (чараўнік)* і інш.

Асобна стаяць назоўнікі *малочніца, птушніца,* у адносінах да якіх назоўнікі мужчынскага роду з'яўляюцца другаснымі.

Тып прадуктыўны.

§ 248. Суфікс **-льніц-***а*. Гэты суфікс таксама мае два віды. Да першага віду адносіцца суфікс **-льніц-***а*, які ўзнік на базе суфікса **-ніц-***а* ў выніку перараскладання асновы дзеясловаў. Назоўнікі з гэтым суфіксам часцей за ўсё абазначаюць прылады або прадметы дзеяння: *мяльніца, паласкальніца, плявальніца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Да другога віду адносіцца суфікс **-льніц-***а*, які ўзнік на базе суфікса **-льнік** у выніку замены канцавога **-к** на **-ц-***а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам абазначаюць асоб па іх дзейнасці, суадносячыся з назоўнікамі мужчынскага роду, якія маюць суфікс **-льнік:** *вязальніца (вязальнік), казальніца (казальнік), наглядальніца (наглядальнік), пачынальніца (пачынальнік), распаўсюджвальніца (распаўсюджвальнік)* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 249. Суфікс **-аўніц-***а* **(-оўніц-***а***)**. Вытворны суфікс **-аўніц-***а* **(-оўніц-***а***)** узнік на базе суфікса **-ніц-***а* ў выніку перараскладання асновы на **-аў(-оў).** Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, прызначаныя для змяшчэння або размяшчэння чаго-небудзь, а таксама дрэвы або расліны па іх прыметах: *парахаўніца, шпакоўніца, шратоўніца; лістоўніца, смакоўніца, шаўкоўніца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 250. Суфікс **-к-***а*. Пры дапамозе суфікса **-к-***а* назоўнікі часцей за ўсё ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду і ад асноў дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, звычайна абазначаюць асоб паводле тых рыс і асаблівасцей, аб якіх сказана ва ўтвараючай аснове. Гэта аснова можа быць:

а) невытворная: *беларуска (беларус), кіргізка (кіргіз), туркменка (туркмен), цыганка (цыган); дэлегатка (дэлегат), манашка (манах), салдатка (салдат), спартсменка (спартсмен), старожка (стораж), фельчарка (фельчар)* і інш.

Заўвага. Сюды адносіцца назоўнік *паэтка*, які шырока ўжываўся ў 20—30-я гады XX стагоддзя: *Гэты верш заўсёды неразлучан з маладою паэткаю* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

б) Вытворная (з суфіксамі **-ар(-яр), -іст(-ыст), -ант, -іт, -ач, -ун, -ін**): *вядзьмарка (вадзьмар), гандлярка (гандляр), кухарка (кухар); актывістка (актывіст), парашутыстка (парашутыст), тэлеграфістка (тэлеграфіст), фігурыстка( фігурыст); аркестрантка (аркестрант), дыверсантка*

(*дыверсант*), *кватарантка* (*кватарант*); *варажбітка* (*варажбіт*), *малацьбітка* (*малацьбіт*); *скрыпачка* (*скрыпач*), *цыркачка* (*цыркач*), *дзікунка* (*дзікун*); *асяцінка* (*асяцін*), *грузінка* (*грузін*). У назоўніках, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў з суфіксамі **-ак**, **-ук**, **-ух**, адбываецца чаргаванне канцавога зычнага ўтвараючай асновы: *дзівачка* (*дзівак*), *зямлячка* (*зямляк*), *рыбачка* (*рыбак*), *сваячка* (*сваяк*), *спявачка* (*спявак*); *паляшучка* (*паляшук*), *пастушка* (*пастух*).

Асобна стаяць назоўнікі *ашуканка, баязліўка, японка, перасяленка, ураджэнка; армянка, татарка, гараджанка, сялянка, хутаранка, кіяўлянка, мінчанка* і інш., якія суадносяцца толькі з назоўнікамі на **-ец** і **-ін**: *ашуканец, баязлівец, японец, перасяленец, ураджэнец; армянін, татарын, гараджанін, селянін, хутаранін, кіяўлянін, мінчанін*.

Тыпы прадуктыўныя.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць галоўным чынам розныя працэсы, дзеянні, вынікі дзеянняў або стан: *варка, гаворка, зборка, кладка, коўка, кройка, ломка, праўка, рубка, сушка, хватка, чутка, чытка; абрэзка, адпіска, ацэнка, выдумка, выплаўка, высадка, высылка, закупка, закройка, замінка, перабежка, праверка, прамерка, прыдзірка, разгадка, ссыпка; афарбоўка, апрацоўка, вярбоўка, маскіроўка, маршыроўка, рысоўка, трэніроўка, фарміроўка, фармуліроўка, фаршыроўка; днёўка, зімоўка, начоўка* і інш.

Некаторыя аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксам **-к-**_а_ маюць не толькі значэнне пэўнага дзеяння, але могуць абазначаць і канкрэтныя прадметы, напрыклад: *заклёпка, занавеска, запалка, кладка, накідка, павязка, падкладка* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

У радзе выпадкаў пры дапамозе суфікса **-к-**_а_ ўтвараюцца назоўнікі ад асноў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. Звычайна гэтыя назоўнікі абазначаюць розныя прадметы і з'явы па ўласцівых ім рысах і прыметах або па тым стане, у якім яны знаходзяцца: *вадзянка, вятранка, вясёлка, зялёнка, зямлянка, лубянка, суконка; бакоўка, ватоўка, духоўка, кладоўка, пухоўка, фальшыўка, гарачка, калючка, лятучка, пякучка, цягучка, шыпучка, радзімка, невідзімка, дранка, мазанка, паранка, пляцёнка, сушанка* (размоўн.), *тушонка* і інш. Па лексічнаму значэнню такія назоўнікі звычайна раўназначныя адпаведным словазлучэнням прыметніка і назоўніка: *аўсянка* (аўсяныя крупы), *бляшанка* (бляшаная банка), *грунтоўка* (у розных значэннях), *насоўка* (насавая хустка), *мураванка* (мураваны дом).

Тып прадуктыўны.

Зрэдку з суфіксам **-к-**_а_ сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў парадкавых і зборных лічэбнікаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць пэўныя паняцці меры і колькасці, а таксама прадметы, звязаныя з гэтымі паняццямі: *двойка, тройка, чацвёрка, пяцёрка, шасцёрка, сямёрка, васьмёрка, дзевятка, дзесятка, сотка* і інш. Сюды ж прымыкае і назоўнік *адзінка*, які ўтвораны ад асновы колькаснага лічэбніка *адзін*.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 251. Суфікс **-лк-**_а_ (**-алк-**_а_). Пры дапамозе суфікса **-лк-**_а_ (**-алк-**_а_) ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць прылады дзеяння або месца, дзе адбываецца пэўнае дзеянне: *абганялка, веялка, грабалка* (размоўн.), *капалка, качалка, карчавалка, маталка, мачалка, паганялка, сеялка, скакалка* (размоўн.), *скрабалка* (размоўн.), *сшывалка, трапалка, чарпалка, часалка; даілка, капцілка, касілка, малацілка* (размоўн.), *паілка, тачылка* (размоўн.), *тушылка* (размоўн.), *цадзілка; вешалка, ушывалка* (размоўн.), *чыталка* (размоўн.), *курылка* (размоўн.), *парылка* (размоўн.), *сушылка* (размоўн.) і інш.

Тып прадуктыўны ў размоўным стылі.

§ 252. Суфікс **-ёлк-**_а_. У размоўным стылі суфікс **-ёлк-**_а_ ўтварае ад асноў дзеясловаў такія назоўнікі, якія абазначаюць прылады дзеяння:

*круцёлка, мяцёлка, свісцёлка* і інш. Сюды прымыкаюць прыватныя ўтварэнні *кацёлка, свяцёлка* (святліца): *Вось толькі няхай падгуляе, няхай ачнецца ў ім яго маладая бунтоўная кроў, — не выцерпіць, прасуне рукі ў каменні-жарнавікі і пойдзе з гэтымі каменнямі, як з лёгкімі к а ц ё л к а м і, упрысядкі па хаце* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Дзедава с в я ц ё л к а хораша і проста — дзед Даніла з густам* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

Тып малапрадуктыўны.

§ 253. С у ф і к с **-улк-***а* (**-ульк-***а*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў дзеясловаў у размоўным стылі ўтвараецца нешматлікая група назоўнікаў, якія абазначаюць прадметы дзеяння або прадметы, што з'яўляюцца вынікам пэўнага дзеяння: *качулка, пісулька, свістулька* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 254. С у ф і к с ы **-нк-***а*, **-анк-***а*(**-янк-***а*). У большасці выпадкаў суфіксы **-нк-***а*, **-анк-***а*(**-янк-***а*) ужываюцца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Суфікс **-нк-***а* вылучаецца ў назоўніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на **-аць(-яць),** а суфікс **-анк-***а*(**-янк-***а*) — у назоўніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на **-іць(-ыць).** Назоўнікі з гэтымі суфіксамі могуць абазначаць асоб, прадметы, пэўныя працэсы, дзеянні, стан і г. д.: *запяканка, ляжанка, мачанка, абяцанка* (размоўн.), *гулянка* (размоўн.), *лаянка, маўчанка* (размоўн.), *прагулянка, спяванка* (размоўн.), *стаянка; служанка, дзялянка, п'янка, трасянка* і інш.

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца назоўнікі *беганка, дужанка* і інш.: *Ад шпаркай б е г а н к і Панас моцна засопся* (Я. К о л а с. Дрыгва). *І сярод начной цішы пачалася д у ж а н к а* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Хіба грэх складаць к а з а н к і або песенькі? Чаму? Але ж гэтыя с п я в а н к і так і чуюцца яму* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

Пры дапамозе суфікса **-анк-***а*(**-янк-***а*) ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць:

а) асоб па сваяцкіх адносінах: *пісаранка* (устар.), *старасцянка* (устар.), *пападзянка* (устар.).

У назоўніках, якія абазначаюць асоб паводле іх нацыянальнай прыналежнасці, звычайна адбываецца чаргаванне канцавога зычнага ўтваральнай асновы: *грачанка, турчанка, француженка.* Асобна стаяць назоўнікі *карэянка, кітаянка,* якія суадносяцца з назоўнікамі *карэец, кітаец.*

б) Птушак паводле іх спецыфічных прымет: *валасянка, канаплянка, крыланка, чарацянка.*

в) Прадметы, рэчывы і расліны паводле таго, што названа ва ўтваральнай аснове: *вушанка, вапнянка, дуплянка, хвашчанка* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Іншы раз суфікс **-анк-***а*(**-янк-***а*) утварае назоўнікі ад асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць асоб жаночага полу паводле характэрных для іх рыс: *бялянка* (размоўн.), *смуглянка* (размоўн.).

Тып непрадуктыўны.

§ 255. С у ф і к с ы **-оўк-***а*(**-ёўк-***а*), **-аўк-***а*(**-яўк-***а*). Адзначаныя суфіксы ў большасці выпадкаў утвараюць назоўнікі ад асноў назоўнікаў і асноў дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, могуць абазначаць асоб па роду іх заняткаў або прадметы і з'явы паводле тых адзнак і асаблівасцей, аб якіх сказана ва ўтваральнай аснове: *вучнёўка, пакаёўка, старажоўка* (размоўн.), *газоўка, жвіроўка* (устар.), *курсоўка, лесніцоўка, лістоўка, нажоўка, пляцоўка, пуцёўка, спіртоўка, галадоўка, канцоўка, маёўка, крываўка, макаўка* і інш. Сюды ж адносіцца прыватнае ўтварэнне *рудаўка* — балотная вада.

*Дзе-нідзе паміж травы ірдзелася мутна-меднага колеру балотная р у д а ў к а* (З. Б я д у л я. На балоце).

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць прадметы або з'явы паводле пэўнага дзеяння: *бліскаўка, ляскаўка, мігаўка, пляскаўка, пырскаўка* і інш. Усе гэтыя назоўнікі адносяцца да размоўнага стылю.

Тып малапрадуктыўны.

Ад асновы лічэбніка ўтвораи назоўнік *саракоўка* (устар.) з агульным значэннем пэўнай грашовай адзінкі.

Тып непрадуктыўны.

§ 256. Суфікс **-ожк-*а*(-ёжк-*а*).** Суфікс **-ожк-*а*(-ёжк-*а*)** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі звычайна абазначаюць пэўныя працэсы, дзеянні: *бамбёжка, даўбёжка, дзялёжка, зуброжка, кармёжка* і інш. Яны шырока ўжываюцца ў размоўным стылі і складаюць у ім прадуктыўны тып.

§ 257. Суфікс **-отк-*а*(-атк-*а*)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць або прадметы дзеяння або фізіялагічныя з'явы, уласцівыя чалавеку ці іншым жывым істотам: *бразготка, трашчотка, прамакатка; дрыготка, пякотка, хрыпотка, шархотка* і інш. Усе гэтыя назоўнікі належаць да размоўнага стылю.

Тып малапрадуктыўны.

§ 258. Суфікс **-ушк-*а*(-юшк-*а*).** Назоўнікі з суфіксам **-ушк-*а*(-юшк-*а*)** звычайна ўтвараюцца ад асноў прыметнікаў, лічэбнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў прыметнікаў, абазначаюць асоб, прадметы і паняцці па іх прыметах: *весялушка* (размоўн.), *хітрушка* (размоўн.), *цяплушка* (размоўн.) і інш.

*Людзей пасадзілі ў цяплушкі і павезлі* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Але штосьці не пяюцца песні-весялушкі* (М. Чарот. Родныя птушкі). *У меру вясёлая і сур'ёзная, лёгкая ў танцы, простая, мілая чарнушка ў скромнай стракаценькай сукенцы, — такой я сёння бачу Машу тых дзён* (Я. Брыль. Ёй мы не скажам).

Тып непрадуктыўны.

Ад асноў лічэбнікаў утвораны толькі два назоўнікі са значэннем колькасці або меры чаго-небудзь: *чацвяртушка* (размоўн.), *васьмушка* (размоўн.).

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, могуць абазначаць жывых істот паводле іх спецыфічных прымет або прадметы па іх паходжанню ці прызначэнню: *нясушка, пяюшка, уюшка; бразгатушка, вяртушка* (тэлефонная), *завітушка, калатушка, кармушка, лавушка* і інш. Усе такія назоўнікі належаць да размоўнага стылю.

Тып малапрадуктыўны.

§ 259. Суфіксы **-чк-*а*, -ачк-*а*(-ячк-*а*).** Суфіксы **-чк-*а*** і **-ачк-*а*(-ячк-*а*)** ужываюцца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць прадметы дзеяння, працэсы дзеяння і вынікі дзеяння: *трапачка, жвачка, спячка, балячка* (размоўн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 260. Суфікс **-ель.** Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць пэўныя працэсы або вынікі дзеяння: *гібель, купель, мяцель* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 261. Суфікс **-л-*я*.** Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад асноў дзеясловаў і абазначаюць пэўныя працэсы: *будоўля, гадоўля, лоўля* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 262. Суфікс **-оўл-*я*.** Вытворны суфікс **-оўл-*я*** служыць для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў і асноў прыметнікаў. Гэтыя назоў-

нікі звычайна абазначаюць абстрактныя паняцці паводле спецыфічных адзнак і асаблівасцей: *галадоўля, дарагоўля* і інш.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 263. Суфікс **-ул-*я***. Пры дапамозе суфікса **-ул-*я*** ад асноў прыметнікаў і асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць жывёл або прадметы па іх прыметах або таму дзеянню, што названа ва ўтваральнай аснове: *рагуля* (размоўн.), *крывуля* (размоўн.), *хадуля* (размоўн.) і інш.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 264. Суфікс **-эл-*я***. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асновы прыметніка ўтворан назоўнік *пустэля* са значэннем адцягненай якасці. Гэты назоўнік ужываецца ў размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры.

*А ноч ціхутка; ў багне цёмнай пустэлі страшнай і бязмоўнай гарацъ дрыготна, ззяюць зоркі* ... (Я. Колас. Новая зямля). *У іх кішэнях была пустэля* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Тып непрадуктыўны.

§ 265. Суфікс **-нь**. Пры дапамозе суфікса **-нь** звычайна ўтвараюцца назоўнікі ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць пэўныя працэсы або вынікі дзеяння: *ірдзень* (размоўн.), *квецень, кіпень, цвецень, плынь, стынь; казань* (дыялектн.), *мешань* (дыялектн.) і інш. Асобна стаіць назоўнік *прыстань*, які мае канкрэтнае значэнне.

Тып малапрадуктыўны.

§ 266. Суфіксы **-ень, -ань**. Адзначаныя суфіксы служаць для ўтварэння назоўнікаў ад асноў прыметнікаў. Такія назоўнікі звычайна абазначаюць адцягненыя якасці: *жоўцень, шэрань*.

Тып непрадуктыўны.

§ 267. Суфікс **-мень**. Вытворны суфікс **-мень** ужываецца для ўтварэння ад асноў прыметнікаў такіх назоўнікаў, якія абазначаюць адцягненыя якасці і з'явы прыроды: *глухмень, сухмень*.

Тып непрадуктыўны.

§ 268. Суфікс **-н-*я***. У большасці выпадкаў пры дапамозе суфікса **-н-*я*** ўтвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць месца вытворчасці розных прадметаў: *бандарня, друкарня, дзягцярня, пякарня, слясарня, сталярня* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

У асабовых назоўніках, утвораных ад асноў назоўнікаў, суфікс **-н-*я*** мае значэнне зборнасці: *салдатня, шафярня*.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць працэсы, дзеянні або месца, дзе адбываецца дзеянне: *балбатня, брахня, валтузня, грызня, гульня, калатня, мазня, мітусня; вартоўня* (размоўн.), *зборня, лазня, стайня, сушня, пожня* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Зрэдку пры дапамозе суфікса **-н-*я*** ўтвараюцца назоўнікі ад асноў зборных лічэбнікаў. Гэтыя назоўнікі маюць зборнае значэнне ці абазначаюць адзінкавыя канкрэтныя прадметы: *двайня, трайня, чацвярня, пяцярня, шасцярня;* параўн. таксама *васмярня* «адрэзак палатна пэўнай велічыні» (устар.).

Асобна стаіць назоўнік *сотня*, утвораны ад асновы колькаснага лічэбніка *сто (сот-)*.

Тып непрадуктыўны.

§ 269. Суфікс **-льн-*я***. Назоўнікі з вытворным суфіксам **-льн-*я*** звычайна ўтвораны ад асноў дзеясловаў і абазначаюць месца якога-небудзь дзеяння: *бялільня, мачыльня, плавільня, прадзільня, радзільня, сушыльня, саладзільня, свяцільня; капальня, пральня, раздзявальня, спачывальня, спальня, чытальня, шліфавальня* і інш.

З а ў в а г а. У мове 20—30-х гадоў XX ст. ужываліся назоўнікі *сталавальня, швальня* і інш., якія для нашага часу не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*Там, за дзіцячаю с т а л а в а л ь н я ю, у вялікім пакоі абсталёўвалася чытальня* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар). *Работа ў ш в а л ь н і не ладзілася* (З. Б я д у л я. У дрымучых лясах).

Назоўнікі з суфіксам **-льн-***я* суадносяцца таксама з прыметнікамі, параўн.: *бялільня — бялільны, чытальня — чытальны, плавільня — плавільны* і г. д.

Тып прадуктыўны.

§ 270. С у ф і к с **-оўн-***я*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць месца для змяшчэння або размяшчэння таго, аб чым сказана ва ўтвараючай аснове: *вазоўня* (размоўн.), *жароўня, лядоўня, мядоўня* (размоўн.), *саладоўня* (размоўн.), *шпакоўня* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 271. С у ф і к с **-отн-***я*(**-атн-***я*, **-ятн-***я*). Часцей за ўсё вытворны суфікс **-атн-***я*(**-ятн-***я*) ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў; яны абазначаюць адцягненыя дзеянні, якія мнагакратна паўтараюцца: *бегатня, бразгатня, грукатня, піскатня, стукатня, таўкатня, цвіркатня* і інш. Такія назоўнікі належаць да размоўнага стылю.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Іншы раз пры дапамозе суфікса **-отн-***я*(**-атн-***я*, **-ятн-***я*) утвараюцца назоўнікі таксама ад асноў назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць месца, дзе знаходзіцца тое, аб чым гаворыцца ва ўтвараючай аснове: *галубятня, дрывотня.*

Тып непрадуктыўны.

§ 272. С у ф і к с **-арн-***я*(**-ярн-***я*). Вытворны суфікс **-арн-***я*(**-ярн-***я*) служыць для ўтварэння назоўнікаў пераважна ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць месца вытворчасці або прылады, прызначаныя для вытворчасці таго, што названа ва ўтвараючай аснове: *кнігарня, малатарня, смалярня, сячкарня* і інш. Параўн. таксама індывідуальнае ўтварэнне *прачкарня*

*Для рабочых, для работніц выгады, аж міла. Яслі, лазня і п р а ч к а р н я, колькі хочаш мыла* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай).

Тып малапрадуктыўны.

Сустракаюцца нешматлікія выпадкі, калі пры дапамозе суфікса **-арн-***я*(**-ярн-***я*) назоўнікі ўтвораны ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць прылады дзеяння: *малатарня.* Сюды трэба аднесці і прыватнае ўтварэнне *сявярня.*

*І зямлю ў дыван цудоўны зернем ткуць с я в я р н і* (П. Б р о ў к а. Чырвон-гарадок).

Тып непрадуктыўны.

§ 273. С у ф і к с **-осць(-асць)**. Самая вялікая колькасць назоўнікаў з суфіксам **-осць(-асць)** утворана ад невытворных і вытворных асноў прыметнікаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць стан або адцягненыя якасці: *весялосць, маладосць, прыгажосць; бялявасць, румянасць, стракатасць, цьмянасць; бадзёрасць, вёрткасць, гарбатасць, гнуткасць, лёгкасць, мудрасць, панурасць, рухавасць, свежасць, спрытнасць, старасць, цвёрдасць, затхласць, парнасць, сухасць; вечнасць, лютасць, тонкасць, цэласць, цяжкасць, чуткасць; беднасць, міласць, лютасць; вобразнасць, мастацкасць, сюжэтнасць; малочнасць, таварнасць, ураджайнасць; большасць, меншасць* і інш.

Невялікую групу складаюць назоўнікі з канкрэтным значэннем зборнасці або адзінкавасці: *воблачнасць, расліннасць, туманнасць, канечнасць* (анат.) і інш.

Тып надзвычай прадуктыўны і лексічна багаты.

У радзе выпадкаў пры дапамозе суфікса **-осць(-асць)** утвараюцца назоўнікі ад асноў дзеепрыметнікаў залежнага стану цяперашняга

і прошлага часу. Звычайна такія назоўнікі абазначаюць пэўныя працэсы, і вынікі дзеяння або стан і ўжываюцца пераважна ў кніжных стылях: *брыкетуемасць* (тэхн.), *кіруемасць, вывадзімасць* (с.-г.), *судзімасць; абмежаванасць, арганізаванасць, заклапочанасць, згуртаванасць, напружанасць, прыніжанасць, раскіданасць, спрошчанасць, узбуджанасць, азерненасць* (с.-г.), *стомленасць, удасканаленасць; выгнутасць, разбітасць, размытасць, скрытасць, увагнутасць, уздутасць, уцягнутасць* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 274. Суфікс **-насць.** Вытворны суфікс **-насць** служыць для ўтварэння ад асноў прыметнікаў нязначнай колькасці назоўнікаў, якія абазначаюць розныя з'явы паводле іх якасцей, уласцівасцей і г. д.: *будучнасць, гатоўнасць, жыўнасць.* Параўн. таксама назоўнік *бытнасць* з іншай утвараючай асновай.

Тып малапрадуктыўны.

§ 275. Суфікс **-льнасць.** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-льнасць** ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя паняцці і ўласцівасці паводле пэўных дзеянняў, імкненняў да дзеянняў, стан і г. д.: *адкрывальнасць, асыпальнасць, ачаравальнасць, выбіральнасць, вызначальнасць, дапускальнасць, датыкальнасць, заражальнасць, затапляльнасць, захапляльнасць, згаральнасць, змяшчальнасць, наглядальнасць, нараджальнасць, націскальнасць, перадавальнасць, перасякальнасць, праламляльнасць* (фіз.), *прыжывальнасць, прыстасавальнасць, растваральнасць, скарачальнасць, сціскальнасць, уніжальнасць* і інш. Большасць назоўнікаў гэтай групы суадносіцца таксама з прыметнікамі на **-альн-**ы: *ачаравальнасць — ачаравальны, вызначальнасць — вызначальны, датыкальнасць — датыкальны, назіральнасць — назіральны, прыстасавальнасць — прыстасавальны, растваральнасць — растваральны* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны ў кніжных стылях.

§ 276. Суфікс **-от-**а(**-ат-**а). Гэты суфікс ужываецца для ўтварэння назоўнікаў ад невытворных і вытворных асноў прыметнікаў з суфіксамі **-н, -л**. Звычайна такія назоўнікі сустракаюцца ў размоўным стылі і абазначаюць адцягненыя паняцці паводле пэўных прымет: *дурнота, лянота, слаўнота, яснота; брудната, гарката, глухата, дабрата, ліхата, любата, мерзлата, немата, паўната, пекната, правата, прастата, пустата, слепата, сухата, цесната, чарната, частата* і інш. У мове мастацкай літаратуры назоўнікі *глухата, слепата, цемната* могуць ужывацца з суфіксам **-от-**а, які ў радзе выпадкаў надае новае сэнсавае адценне.

*Паліліся мае слёзы на жывыя вербалозы, на сухія ачароты, на глухоты, на сляпоты* (Я. Купала. Паліліся мае слёзы). *Ад цямноты людзі спяць* (Цётка. Мае думкі).

Асобна стаяць назоўнікі, якія маюць зборнае значэнне: *басота* (размоўн.), *блазнота* (размоўн.), *галота* (размоўн.), *бедната, драбната.*

Тып малапрадуктыўны.

Часам пры дапамозе суфікса **-от-**а (**-ат-**а) назоўнікі ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў. Такія назоўнікі могуць абазначаць адцягненыя дзеянні або стан: *дрымота, згрызота, ікота, ламота, пякота, пяшчота, рвота, хлюпата, ташната.* Назоўнікі *нудота, спякота, стагнота* (размоўн.), *хрыпата* і інш. суадносяцца таксама з асновамі назоўнікаў.

У мове мастацкай літаратуры пад уплывам мясцовых гаворак і размоўнага стылю ўжываюцца таксама іншыя назоўнікі з гэтым суфіксам.

*Прыйшла згінота на Міхала* (Я. Колас. Новая зямля). *Ганна бачыць усю нікчэмнасць дзякоўскай плевузготы* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Пад вечар усё сціхла, толькі зрэдку чулася невыразнае мармытанне, соннае чвяканне губамі альбо стагноты* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *У прадранішняй сціхоце нельга было пагадзіцца з тым, што тут, у Рудні, вораг...* (Б. Мікуліч. Дужасць).

Тып малапрадуктыўны.

Зрэдку сустракаюцца выпадкі, калі пры дапамозе суфікса **-от-*а* (-ат-*а*)** назоўнікі ўтвораны ад асноў назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць адцягненыя паняцці паводле пэўных прымет або ступень праяўлення пэўнага прызнака: *бядота, дзівота* (размоўн.), *журбота, сумота; духата, смехата (смяхота)* і інш.

Акрамя таго, падобныя назоўнікі могуць мець зборнае значэнне: *блазнота, лістота* (размоўн.).

*Моладзі бадай што не было — не ў звычай гэта, каб б л а з н о т а хадзіла на сходкі* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Сонца... залоціць да бляску і так жоўтую дробную л і с т о т у на бярэзіне* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Тып непрадуктыўны.

Ад асновы лічэбніка *адзін* пры дапамозе суфікса **-от-*а*** ўтворан назоўнік *адзінота,* які мае адцягненае значэнне.

Тып непрадуктыўны.

§ 277. С у ф і к с **-ур-*а* (-атур-*а*).** Запазычаны з лацінскай мовы суфікс **-ур-*а* (-атур-*а*)** служыць для ўтварэння назоўнікаў ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання. Назоўнікі з гэтым суфіксам звычайна маюць зборнае значэнне: *агентура, адвакатура, аспірантура, кліентура, ардынатура, інспектура, прафесура; апаратура, рэцэптура, квадратура, кубатура, мускулатура* і інш.

Асобна стаяць назоўнікі са значэннем адзінкавасці: *кандыдатура, карэктура, камендатура, прэфектура, пракуратура, рэгістратура* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 278. Суфікс **-ут-*а*.** Пры дапамозе суфікса **-ут-*а*** ад асноў дзеясловаў утвораны назоўнікі *мазута, мільгута* (размоўн.), якія могуць абазначаць рэчыва па яго прызначэнню або з'яву прыроды паводле таго, што названа ўтвараючай асновай.

Тып непрадуктыўны.

§ 279. С у ф і к с **-ух-*а* (-юх-*а*).** Суфікс **-ух-*а* (-юх-*а*)** ужываецца для ўтварэння ў размоўным стылі назоўнікаў ад асноў дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, могуць абазначаць:

а) асоб паводле пэўных дзеянняў: *балбатуха, вяртуха, крыкуха, павітуха, папрадуха, рагатуха, фарсуха, шаптуха* і інш.;

б) жывёл і птушак па іх дзеяннях і якасцях: *грызуха, квактуха, сакатуха, шчабятуха,* а таксама *палятуха* (заал.) і інш.;

в) прадметы і з'явы паводле таго стану, у якім яны знаходзяцца: *зыбуха, крутуха* і інш. Параўн. таксама прыватнае *замятуха.*

*На вёсцы ішла з а м я т у х а. Хадзілі ўсе злосныя, раздражнёныя...* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі).

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў прыметнікаў, абазначаюць:

а) асоб па спецыфічных для іх рысах і прыметах: *весялуха, маладуха, сляпуха, таўстуха, хітруха* і інш.;

б) прадметы і з'явы паводле іх якасцей: *жаўтуха, сівуха, сінюха* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў назоўнікаў, звычайна абазначаюць прадметы і з'явы паводле іх якаснай характарыстыкі: *галадуха, саладуха, сярпуха* (бат.).

Тып непрадуктыўны.

§ 280. С у ф і к с **-уш-*а*.** Пры дапамозе суфікса **-уш-*а*** ў размоўным стылі ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць прылады дзеяння: *валакуша, калатуша.*

Тып непрадуктыўны.

§ 281. Суфікс **-чын-***а* **(-шчын-***а***).** Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі ўтвараюцца:

а) ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца прозвішчамі; такія назоўнікі абазначаюць адмоўныя сацыяльна-палітычныя з'явы: *абломаўшчына, антонаўшчына, аракчэеўшчына, зубатаўшчына, сталыпіншчына, хлестакоўшчына, кераншчына, пілсудчына* і інш.;

б) ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца назвамі населеных пунктаў; такія назоўнікі абазначаюць мясцовасці, што прылягаюць да пэўнага населенага пункта: *Брэстчына, Гродзеншчына, Гомельшчына, Кіеўшчына, Магілёўшчына, Мазыршчына, Палтаўшчына, Разаншчына, Тамбоўшчына, Бабруйшчына, Віцебшчына, Мінішчына, Навагрудчына, Піншчына, Полаччына, Случчына* і інш.

Заўвага. У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца назоўнікі з суфіксам **-шчын-***а*, утвораныя ад асноў агульных назоўнікаў: *літаратуршчына, непатрэбшчына, партызаншчына.*

*У большасці выпадкаў гэта літаратуршчына, штучная кніжнасць* (К. Чорны. Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў). *Адным словам, далікатна кажучы, на паверхню ўсплыла ўсялякая непатрэбшчына* (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). *Ён і сам не супроць быў пайсці ў партызаншчыну, як ён казаў, але ж ці прымуць?* (І. Гурскі. Жалейкава града).

Тып малапрадуктыўны.

Некаторыя назоўнікі з суфіксам **-чын-***а* **(-шчын-***а***)** суадносяцца з прыметнікамі, аднак ва ўтваруючай аснове прыметнікавыя суфіксы адсутнічаюць; такія назоўнікі абазначаюць звычайна розныя сацыяльныя і бытавыя з'явы з больш ці менш ярка выражанай стылістычнай ацэнкай: *будзёншчына* (размоўн.), *ваеншчына, дарэмшчына* (размоўн.), *здзельшчына, казёншчына, крымінальшчына, мінуўшчына* (размоўн.), *паншчына, старадаўшчына* (размоўн.), *халтуршчына* і інш. Асобна па значэнню стаіць назоўнік *бацькаўшчына.*

Тып малапрадуктыўны.

Некаторыя назоўнікі, напрыклад *складчына* (размоўн.), *штурмаўшчына* і інш., суадносяцца з дзеясловамі. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць вынік дзеяння, аб якім сказана ва ўтваруючай аснове, або характэрную прымету па адпаведнаму дзеянню.

Тып малапрадуктыўны.

§ 282. Суфікс **-аўшчын-***а* **(-оўшчын-***а***).** Пры дапамозе вытворнага суфікса **-аўшчын-***а* **(-оўшчын-***а***)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адмоўныя сацыяльна-палітычныя з'явы: *групаўшчына, цэхаўшчына; папоўшчына, махноўшчына, біронаўшчына, пятлюраўшчына* і інш. Асобна стаіць назоўнік *чартаўшчына.*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 283. Суфікс **-чыц-***а* **(-шчыц-***а***).** Назоўнікі з суфіксам **-чыц-***а* **(-шчыц-***а***)** утвараюцца ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксам **-чык** шляхам замены канцавога **-к** на **-ц-***а*. Такія назоўнікі абазначаюць асоб жаночага полу паводле іх спецыяльнасці або роду заняткаў: *апаратчыца (апаратчык), буфетчыца (буфетчык), газетчыца (газетчык), картатэччыца (картатэччык), кулямётчыца (кулямётчык), лётчыца (лётчык), пераплётчыца (пераплётчык), табельшчыца (табельшчык), тэкстыльшчыца (тэкстыльшчык), фасоншчыца (фасоншчык), экскаватаршчыца (экскаватаршчык)* і інш. Сюды адносіцца прыватнае ўтварэнне *бібліятэччыца.*

*Двор тут зусім пусты, толькі калі-нікалі пройдзе то бібліятэччыца, то хто-небудзь з прыбіральшчыкаў...* (К. Чорны. Браты).

Тып прадуктыўны.

§ 284. Суфікс **-льшчыц-***а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад асноў дзеясловаў на **-а.** Па значэнню яны суадносяцца з назоўнікамі мужчынскага роду на **-льшчык:** *бялільшчыца (бялільшчык), вязальшчыца (вязальшчык), купальшчыца (купальшчык), прыбіральшчыца*

*(прыбіральшчык), стругальшчыца (стругальшчык), трапальшчыца (трапальшчык), цыравальшчыца (цыравальшчык), шыфравальшчыца (шыфравальшчык)* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 285. Суфікс **-ш-***а*. Пры дапамозе суфікса **-ш-***а* ў размоўным стылі ўтвараюцца назоўнікі жаночага роду ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду; яны абазначаюць асоб жаночага полу па іх занятках, а таксама асоб жаночага полу, якія з'яўляюцца жонкамі тых, хто названы ва ўтвараючай аснове: *касірша* (побач з *касірка), кандуктарша* (побач з *кандуктарка), генеральша* (побач з *генераліха), доктарша* (побач з *доктарка, доктарыха)* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 286. Суфікс **-ых-***а* (**-іх-***а*). Адзначаны суфікс ужываецца для ўтварэння назоўнікаў пераважна ад асноў назоўнікаў. Звычайна такія назоўнікі абазначаюць:

а) асоб жаночага полу па іх занятках ці прафесіі або асоб, якія з'яўляюцца жонкамі тых, хто названы ва ўтвараючай аснове: *краўчыха, паварыха, ткачыха; дзячыха, каваліха, мельнічыха, старасціха,* а таксама: *Купрыяніха, Лявоніха, Сымоніха, Хвядосіха* і інш.;

б) самак жывёл і птушак: *дзічыха, зайчыха, ласіха, сланіха, трусіха; вераб'іха, сакаліха* і інш.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

У некаторых выпадках суфікс **-ых-***а* (**-іх-***а*) ужываецца таксама для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць розныя з'явы паводле пэўнага дзеяння або стану: *абляпіха* (у значэнні віду ягад і ў значэнні мокрага снегападу), *шуміха* (размоўн.); параўн. таксама *неразбярыха*.

Тып непрадуктыўны.

§ 287. Суфіксы **-ыс-***а*, **-эс-***а*. Суфіксы **-ыс-***а*, **-эс-***а* выдзяляюцца ў назоўніках іншамоўнага паходжання, якія абазначаюць асоб жаночага полу паводле іх прафесіі або прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы: *актрыса, дырэктрыса* (устар.), *паэтэса; баранэса, вікантэса, прынцэса.*

Тып непрадуктыўны.

§ 288. Суфікс **-яв-***а*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў прыметнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя прыметы: *сінява, чарнява* (дыялектн.).

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы назоўнікаў ніякага роду

§ 289. Суфікс **-ан-***ё(я)*. Пры дапамозе суфікса **-ан-***ё(я)* ад асноў назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду ўтвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот: *хлапчанё(я); аслянё(я), бабранё(я), ваўчанё(я), вярблюджанё(я), зайчанё(я), казлянё(я), кацянё(я), ласянё(я), лісянё(я), мышанё(я), сабачанё(я), вужанё(я), буслянё(я), галубянё(я), гусянё(я), журайлянё(я), крумкачанё(я), куранё(я), лебедзянё(я), сычанё(я), ястрабянё(я)* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 290. Суфіксы **-нн-***е*, **-енн-***е* (**-энн-***е*). Гэтыя суфіксы служаць для ўтварэння назоўнікаў ад розных асноў дзеясловаў. У большасці выпадкаў яны абазначаюць адцягненыя дзеянні ці вынікі дзеянняў або стан: *апісанне, абмеркаванне, баранаванне, буксаванне, бурчанне, бушаванне, віншаванне, глытанне, гулянне, жаванне, жаданне, каласаванне, лізанне, ляжанне, майчанне, плаванне, прасаванне, спяванне, ссыханне, стаянне, утрыманне, хаванне, хістанне, цоканне, шорханне, шчабятанне, гудзенне, здрабненне, пахудзенне, разуменне, цвіценне, шыпенне; аднаў-*

*ленне, аслабленне, вызваленне, выпадзенне, выступленне, захапленне, здзіўленне, змякчэнне, кармленне, паніжэнне, павышэнне, плаўленне, скарачэнне, скрыўленне, спляценне, спусташэнне, спыненне, укараненне* і інш.

Многія назоўнікі з гэтымі суфіксамі могуць абазначаць як адцягненыя дзеянні, так і канкрэтныя прадметы: *угнаенне, узбраенне, умацаванне, харчаванне* і інш.

Некаторыя назоўнікі на **-нн-***е*, **-енн-***е* (**-анн-***е*) маюць толькі канкрэтнае значэнне: *абмундзіраванне, адзенне* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 291. Суфіксы **-в-***а* (**-в-***о*), **-ів-***а* (**-ыв-***а*), **-ав-***а* (**-яв-***а*). У большасці выпадкаў пры дапамозе гэтых суфіксаў утвараюцца назоўнікі ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі звычайна абазначаюць розныя прадметы і з'явы, якія падлягаюць пэўным дзеянням або з'яўляюцца вынікам такіх дзеянняў: *варыва, зябліва, крэсіва, курыва, месіва, мроіва, паліва, жніва* (параўн. *жніво* ў іншым значэнні), *шво, логава* і інш.

Заўвага. У народных гаворках і размоўным стылі сустракаецца рад іншых назоўнікаў такога ж утварэння: *едзіва, змесціва, хмеліва, мліва, печыва, прадзіва, поліва, сеіва, швіва, хлёбава, лятво.*

*З едзіва нічога не засталося* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Прывезлі з млыну воз мліва* (З. Бядуля. Тры пальцы). *Многа трэба прадзіва, каб столькі палатна наткаць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Разам з ім* [Саламонам] *жылі накаленыя печы, мяшкі з мукою, велізарныя дзежы з рошчынаю, груды цеста і рознага гатунку печыва на бляхах, дошках і падлозе* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *З акна ўзвіваюцца і ўзбліскваюць гранаты — адна, другая, трэцяя — цэлае сеіва* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Летнія ночы прыйдуць, разальюць хмеліва чар сваіх, закруцяць, замуцяць цябе, закружаць галаву* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Яна змоўкла, утулілася ў сваё швіва* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Пры нармальнай кіслотнасці страўнікавага змесціва апаражненне жоўцевага пузыра было нармальным* («Весці АН БССР»). *Ён на яе ўзнёс храпавы вулей, у якім, што-праўда пчолы не жылі — лятво ўсё дзятлы выдзеўблі, але ахвотна гаспадарылі чмялі* (М. Танк. Янук Сяліба).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Зрэдку пры дапамозе суфікса **-ів-***а* назоўнікі ўтвараюцца ад асноў прыметнікаў; яны абазначаюць адцягненыя паняцці або рэчывы паводле характэрных прымет: *зяленіва, малодзіва.*

Тып непрадуктыўны.

У гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры сустракаюцца назоўнікі, якія ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў; яны маюць зборнае значэнне або абазначаюць адцягненыя паняцці са значэннем адзінкавасці.

*Яўхім касавурый вока на кут, дзе стаяла сёе-тое з хлебава ды з пітва* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Густое цемрыва траслося па кутках* (К. Чорны. Нянавісць).

Тып непрадуктыўны.

§ 292. Суфікс **-тв-***о*. Пры дапамозе вытворнага суфікса **-тв-***о* ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць прадметы як вынік пэўнага дзеяння або прызначаныя для ажыццяўлення таго дзеяння, што названа ва ўтвараючай аснове: *шытво* (размоўн.), *пітво* (размоўн.).

Тып непрадуктыўны.

§ 293. Суфіксы **-льн-***а*, **-ільн-***а*. Суфікс **-льн-***а* ўжываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў, а суфікс **-ільн-***а* — ад асноў назоўнікаў. Утвораныя такім чынам назоўнікі абазначаюць або прылады дзеяння, або прадметы, якія складаюць частку таго, што названа ва ўтвараючай аснове: *дзяржальна* (размоўн.), *вудзільна, касільна, цапільна;* параўн. таксама *грабільна.*

Абодва тыпы назоўнікаў з'яўляюцца непрадуктыўнымі.

§ 294. Суфікс **-ішч-***а*(**-ышч-***а*). Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі ўтвараюцца галоўным чынам ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць месца, дзе знаходзіцца (знаходзілася) або змяшчаецца (змяшчалася) тое, аб чым

сказана ва ўтвараючай аснове: *гарадзішча, гумнішча, дварышча, замчышча, печышча, вогнішча, глінішча, канюшынішча, крынічышча, пажарышча, папялішча, рэчышча* і інш. Асобна стаіць назоўнік *тапарышча.*

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, звычайна абазначаюць месца, дзе адбывалася ці адбываецца тое дзеянне, аб якім сказана ва ўтвараючай аснове: *зімовішча, паселішча, сцелішча; выжарышча, ігрышча, пабоішча, прыпынішча, скопішча, сховішча* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 295. Суфікс **-авішч-***а*. Вытворны суфікс **-авішч-***а* ўжываецца для ўтварэння ад асноў назоўнікаў невялікай колькасці назоўнікаў, якія абазначаюць прылады дзеяння або месца дзеяння: *кайлавішча* (горн.), *малатавішча, метлавішча, станавішча* (параўн. *становішча), такавішча* і інш. Большасць гэтых слоў належыць да размоўнага стылю.

Тып непрадуктыўны.

§ 296. Суфікс **-анішч-***а* **(-янішч-***а***)**. Назоўнікі з вытворным суфіксам **-анішч-***а* **(-янішч-***а***)** утвараюцца ад асноў назоўнікаў і абазначаюць месца, дзе знаходзілася або знаходзіцца тое, аб чым сказана ва ўтвараючай аснове: *балацянішча, тарфянішча; аўсянішча, бульбянішча, канаплянішча* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 297. Суфікс **-бішч-***а*. Пры дапамозе вытворнага суфікса **-бішч-***а* ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць звычайна месца дзеяння: *сельбішча, стойбішча, стрэльбішча, гульбішча* (размоўн.). Два апошнія назоўнікі суадносяцца таксама з асновамі назоўнікаў *стральба, гульба.*

Тып непрадуктыўны.

§ 298. Суфікс **-лішч-***а*. Вытворны суфікс **-лішч-***а* ўжываецца для ўтварэння назоўнікаў ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць месца, дзе адбываецца дзеянне, або якую-небудзь установу паводле таго дзеяння, аб якім гаворыцца ва ўтвараючай аснове: *вучылішча, судзілішча, схавалішча* (дыялектн.), *чысцілішча* (устар.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 299. Суфікс **-j-***о* **(-j-***э***)**. У сучаснай беларускай мове суфікс **-j-***о* **(-j-***э***)** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў са зборным і адцягненым значэннем; прычым гэты суфікс выдзяляецца толькі ў тых выпадках, калі ўтвараючая аснова (іменная ці дзеяслоўная) заканчваецца на губныя зычныя або зацвярдзелы **р**: *звяр-j-о (звяр'ё), куп-j-о (куп'ё), лам-j-о (лам'ё), стар-j-о (стар'ё), трап-j-о (трап'ё), цыб-j-о (цыб'ё); аскеп-j-э (аскеп'е), атрэп-j-э (атрэп'е), вотруб-j-э (вотруб'е), зрэб-j-э (зрэб'е), пер-j-э (пер'е); адмоў-j-э (адмоўе), здароў-j-э (здароўе)* і інш. Большасць такіх назоўнікаў утвараецца пераважна ў размоўным стылі.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Заўвага. У тых выпадках, калі ўтвараючая аснова заканчваецца не на губныя зычныя і **р**, суфікс **-j-** асіміляваўся з папярэднім зычным, выклікаўшы яго падаўжэнне: *багацце, вяселле, галлё, кассё, жыццё* і інш.

§ 300. Суфіксы **-оўj-***э*, **-аўj-***о*. Назоўнікі з вытворнымі суфіксамі **-оўj-***э*, **-аўj-***о* ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў і маюць зборнае значэнне ці абазначаюць асобныя прадметы і з'явы: *вайк-аўj-о (вайкаўё), карч-оўj-э (карчоўе), куст-оўj-э (кустоўе), пн'-оўj-э (пнёўе); пуг-аўj-о (пугаўё), вярх-оўj-э (вярхоўе), ніз-оўj-э (нізоўе)*. Такія назоўнікі характэрны галоўным чынам для размоўнага стылю.

У мове мастацкай літаратуры пад уплывам народных гаворак сустракаюцца таксама іншыя назоўнікі з гэтымі суфіксамі: *граб-аўj-о (грабаўё* «грабільна»), *кас-аўj-о (касаўё* «касільна»), *маст-аўj-о (мастаўё* «шпалы на чыгуначным палатне» або «маставая з бярвенняў»), *сват-аўj-о (сватаўё), смех-аўj-о (смехаўё), дубр-оўj-э (дуброўе).*

*Гэтыя групы гітлераўскага* *г а д а ў я* *раз'язджалі і па ўсіх вёсках* (К. Ч о р н ы. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *П а м а с т а ў і, як рысы-жылы, чыгунных рэек паясы пабеглі параю няўхільнай аж за азёры, за лясы* (П. Г л е б к а. Трывожны сігнал). *С в а т о ў я-хрушчы... з бацькам-маткай штосьць размаўляюць* (М. Б а г д а н о в і ч. Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык). *І сабраў сваіх падданых і павёў, павёў я цераз горы, цераз долы за гай, за* *д у б р о ў е* (Я. К у п а л а. Кароль).

Тып малапрадуктыўны.

§ 301. С у ф і к с **-л-***о* (**-л-***а*). Пры дапамозе суфікса **-л-***о* (**-л-***а*) ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія звычайна абазначаюць прылады дзеяння: *памяло, сядло, трапло, скрэбла, цёрла, мыла, шыла, грузіла, зубіла, кадзіла, крапіла* (царк.), *праміла, тачыла, пакрывала, сукала, шаптала* (тэхн.) і інш.

У гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры з падобным значэннем ужываюцца назоўнікі *вешала, давіла, купіла, махала, пудзіла, седала, стругала, жытло* і інш.

*Свіран і ток як* *м а х а л а м* *хто змёў* (Я. К у п а л а. Адвечная песня). *Купіў бы, ды* *к у п і л а* *няма* (прыказка). *Дымок віецца над маім* *ж ы т л о м* (А. З в о н а к. Паўночнае ззянне).

Тып малапрадуктыўны.

§ 302. С у ф і к с **-дл-***а*. У літаратурнай мове з суфіксам **-дл-***а*, запазычаным з польскай мовы, ужываецца толькі аддзеясслоўны назоўнік *кавадла* з агульным значэннем прылады, на якой ажыццяўляецца пэўнае дзеянне.

З а ў в а г а. У некаторых беларускіх народных гаворках, а пад іх уплывам і ў мове мастацкай літаратуры ўжываецца таксама рад іншых назоўнікаў, утвораных ад дзеяслоўных асноў пры дапамозе суфікса **-дл-***а*. Гэтыя назоўнікі абазначаюць прадметы па характэрнай для іх функцыі, а таксама (зрэдку) асоб па іх знешніх прыметах або выгляду: *крапідла, круцявідла, малявідла, прасцірадла, страшыдла.*

*Стаялі на століку тым* *к р а п і д л а* *ды чаша з вадой, ды іншыя там прычындалы...* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Можа з сетак* *м а л я в і д л а* *твае пагляну́ць мне чарты* (М. Б а г д а н о в і ч. Купідон). *Пасля дзесятага поту музыка ледзь-ледзь супакоіў іх, прыручыў скокамі смычка і заліхвацкімі* *к р у ц я в і д л а м і* *віхурыстых пальцаў* (З. Б я д у л я. Тры пальцы). *Ляжала некалькі нязгорненых* *п р а с ц і р а д л а ў...* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Павесіў рукі і стаяў нязграбна, як* *с т р а ш ы д л а, што курэй пужае ў аўсу* (З. Б я д у л я. Злодзей).

Тып непрадуктыўны.

§ 303. С у ф і к с **-ств-***а* (**-цтв-***а*). Пры дапамозе суфікса **-ств-***а* (калі ўтвараючая аснова заканчваецца на **к, т, ц, ч**, ён выступае ў выглядзе **-цтв-***а*) назоўнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць пэўныя дзяржаўна-тэрытарыяльныя аб'яднанні, грамадскія арганізацыі, а таксама від заняткаў, розныя працэсы, прыметы, стан і г. д.: *ваяводства, графства, княства, ханства, царства; агенцтва, выдавецтва, лясніцтва, таварыства; акцёрства* (размоўн.), *бандарства* (размоўн.), *брыгадзірства* (размоўн.), *пякарства* (размоўн.), *сталярства* (размоўн.), *цяслярства* (размоўн.), *штукарства* (размоўн.), *шавецтва* (размоўн); *геройства, гультайства, дзікунства, знахарства, вар'яцтва, дзівацтва, юнацтва, сваяцтва* і інш.

Некаторыя назоўнікі з гэтымі суфіксамі абазначаюць групы асоб паводле іх сацыяльнага паходжання або прафесіі, а таксама групы іншых жывых істот: *дваранства, мяшчанства, панства, сялянства, казацтва; бядняцтва, серадняцтва, кулацтва; настаўніцтва, студэнцтва; птаства* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

У радзе выпадкаў пры дапамозе суфікса **-ств-***а* (**-цтв-***а*) утвараюцца назоўнікі ад асноў прыметнікаў і дзеясловаў. Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, звычайна абазначаюць адпаведныя адцягненыя

якасці або ўласцівасці: *каварства, нікчэмства, пастаянства, прыгоства, умельства, далікацтва* (размоўн.). Параўн. таксама *падданства.*

Тып малапрадуктыўны.

Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць адцягненыя дзеянні або стан ці вынікі дзеянняў: *вынаходства, дзяжурства, прытворства, расстройства, свавольства, спаборніцтва, хадайніцтва* і інш.

Тып прадуктыўны, аднак лексічна нешматлікі.

§ 304. Суфікс **-інств-***а* (**-ынств-***а, о*). Пры дапамозе вытворнага суфікса **-інств-***а* (**-ынств-***а, о*) назоўнікі могуць утварацца ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць пэўны перыяд існавання або стан, у якім знаходзіцца хто-небудзь: *дзяцінства, мацярынства, старшынство, першынство.*

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 305. Суфіксы **-оўств-***а* (**-еўств-***а*), **-аўств-***о*. Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў; яны абазначаюць які-небудзь від заняткаў або адцягненае дзеянне, стан, адцягненую якасць: *крайцоўства, пастухоўства, старастоўства, жаніхоўства, ткачоўства, шаўцоўства; вучнёўства, старшынёўства; кумаўство, сватаўство, франтаўство.* Усе такія назоўнікі належаць да размоўнага стылю.

Па значэнню асобна стаяць назоўнікі *бацькоўства,* а таксама *каралеўства.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 306. Суфікс **-ніцтв-***а*. Вытворны суфікс **-ніцтв-***а* ўжываецца для ўтварэння назоўнікаў ад іменна-дзеяслоўных асноў. Звычайна гэтыя назоўнікі абазначаюць адцягненыя працэсы, якасці: *культурніцтва, уладарніцтва* і інш. Асобна па значэнню стаіць назоўнік *бавоўніцтва (баваўнаводства).*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

### Суфіксы назоўнікаў агульнага роду

§ 307. Суфікс **-аг-***а* (**-яг-***а*). Пры дапамозе суфікса **-аг-***а* (**-яг-***а*) назоўнікі ўтвараюцца часцей за ўсё ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі характэрны для размоўнага стылю; яны абазначаюць асоб паводле іх дзеянняў або стану: *бадзяга, туляга* і інш. Параўн. таксама назоўнік *трудзяга:*

*Мы — народ калгасны, вольныя т р у д з я г і і зямлі Савецкай горда носім сцягі* (Я. Колас. Восеньскае).

Назоўнікі гэтай групы сустракаюцца звычайна ў гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры.

Тып непрадуктыўны.

Пры дапамозе суфікса **-яг-***а* ад асновы прыметніка ў размоўным стылі ўтворан назоўнік *скупяга,* які абазначае асоб паводле ўласцівых ім прымет адмоўнага характару.

Тып непрадуктыўны.

§ 308. Суфікс **-іц-***а*. Гэты суфікс ужываецца пераважна ў размоўным стылі для ўтварэння назоўнікаў ад асноў прыметнікаў. Такія назоўнікі абазначаюць асоб паводле пэўных прымет адмоўнага характару: *дурніца, тупіца.*

Тып непрадуктыўны.

§ 309. Суфікс **-к-***а*. Пры дапамозе суфікса **-к-***а* ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле пэўных адзнак: *выскачка, зазнайка, папрашайка, služка, дружка* (дыялектн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 310. Суфікс **-ак-***а* (**-як-***а*). Суфікс **-ак-***а* (**-як-***а*) утварае назоўнікі ад асноў дзеясловаў і прыметнікаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, абазначаюць асоб па характэрных для іх дзеяннях, прыметах і г. д.: *выскаляка, выхваляка, гу-*

*ляка, задавака, задзірака, зявака, крыўляка, пісака, разявака, умека, чытака* і інш. Большасць такіх назоўнікаў належыць да размоўнага стылю.

Тып малапрадуктыўны.

Ад асновы прыметніка ў размоўным стылі ўтворан назоўнік *здаравяка,* які абазначае асоб па іх прыметах.

Тып непрадуктыўны.

§ 311. Суфікс **-ук-***а* **(-юк-***а***).** Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў і прыметнікаў.

Ад асновы дзеясловаў утворан назоўнік *манюка,* які абазначае асоб па ўласцівых ім рысах або адзнаках.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў, абазначаюць асоб па ўласцівых ім прыметах: *злюка* (размоўн.), *паганюка* (дыялектн.).

Тып непрадуктыўны.

§ 312. Суфікс **-л-***а.* Пры дапамозе адзначанага суфікса ў размоўным стылі ад асноў дзеясловаў пэўнай лексічнай групы ўтвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб па іх якасных прыметах: *абірала, абдзірала, аб'ядала, дурыла, завадзіла, заграбала, заправіла, запявала, зубрыла, мяняла, падмятала* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 313. Суфікс **-он-***я.* Пры дапамозе суфікса **-он-***я* ў размоўным стылі ад асновы прыметніка ўтворан назоўнік *ціхоня,* які абазначае асоб паводле пэўнай прыметы.

Тып непрадуктыўны.

§ 314. Суфікс **-с-***а.* Пры дапамозе гэтага суфікса ў размоўным стылі ад асноў дзеясловаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб па характэрных для іх дзеяннях або прыметах: *крыкса, плакса, хныкса.*

Тып непрадуктыўны.

§ 315. Суфікс **-уг-***а.* Назоўнікі з суфіксам **-уг-***а* ўтвараюцца ад асноў прыметнікаў і дзеясловаў.

Ад асновы прыметніка ўтворан назоўнік *хітруга* (размоўн.), які абазначае асоб па характэрнай для іх прымеце. Параўн. таксама назоўнік *спрытнюга.*

Тып непрадуктыўны.

Ад асноў дзеясловаў у размоўным стылі ўтвораны назоўнікі *валацуга, хапуга,* якія абазначаюць асоб паводле характэрных для іх дзеянняў і прымет.

Тып непрадуктыўны.

§ 316. Суфікс **-ул-***я* **(-юл-***я***).** У размоўным стылі пры дапамозе суфікса **-ул-***я* **(-юл-***я***)** ад асноў прыметнікаў утвараюцца назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле пэўных адзнак: *гразнуля, чысцюля.*

Тып непрадуктыўны.

§ 317. Суфікс **-уш-***а.* Пры дапамозе суфікса **-уш-***а* ў размоўным стылі ад асновы дзеяслова ўтворан назоўнік *клікуша,* які абазначае асоб паводле пэўнага дзеяння.

Тып непрадуктыўны.

## ПРЭФІКСАЛЬНАЕ УТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ

§ 318. У параўнанні з суфіксацыяй прэфіксацыя назоўнікаў займае нязначнае месца. Прэфіксальным спосабам утвараюцца назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду толькі ад назоўнікаў.

§ 319. Прэфікс **без-(бес-).** З дапамогай прэфікса **без-(бес-)** утвараецца невялікая колькасць абстрактных назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, прычым у апошніх адначасова адбываецца фанетычнае пераафармленне асновы (паяўленне беглых галосных, змякчэнне канца-

вых зычных і інш.). Прэфікс **без-(бес-)** звычайна ўказвае на адсутнасць таго, што названа ўтвараючай асновай: *беспарадак, бездараж* (размоўн.), *безладзь* (размоўн.), *безлюдзь* (размоўн.), *бессань* (размоўн.), *бесцань* (размоўн.). Назоўнік *бездань* (размоўн.) мае адцягненае значэнне.

Утвораныя гэтым спосабам назоўнікі звычайна суадносяцца з формай роднага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **без.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 320. Прэфікс **вод-**. Прэфікс **вод-** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага (часцей) і жаночага (радзей) роду, якія абазначаюць розныя з'явы навакольнага свету. Ён указвае на меншую ступень праяўлення таго прызнака, які названы ўтвараючай асновай: *водбліск, водсвет, водгалас, водгук, водмель* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 321. Прэфікс **да-**. Пры дапамозе прэфікса **да-** ўтвараюцца асабовыя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду. Гэты прэфікс указвае на ўзрост або стан асобы, які папярэднічае таму, што названа ўтвараючай асновай: *дапрызыўнік, дашкольнік, дашкольніца.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 322. Прэфікс **за-**. Пры дапамозе гэтага прэфікса ўтвараюцца назоўнікі мужчынскага і жаночага роду з прасторава-лакальным значэннем. Прэфікс **за-** служыць для абазначэння месца, дзе знаходзіцца тое, што названа ўтвараючай асновай, а таксама ўказвае на меншую ступень праяўлення таго прызнака, які названы ўтвараючай асновай: *заграніца, закутак, залысіна.* Асобна па значэнню стаіць назоўнік *запазуха.*

Тып непрадуктыўны.

§ 323. Прэфікс **звыш-** ужываецца для ўтварэння назоўнікаў пераважна мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць прадметы і з'явы. Гэты прэфікс указвае на большае праяўленне або перавышэнне таго, аб чым сказана ва ўтвараючай аснове: *звышкамплект, звышгенератар, звышпрыбытак, звышціск, звышвартасць, звышмагутнасць, звышправоднасць* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 324. Прэфікс **не- (ня-)**. Пры дапамозе прэфікса **не- (ня-)** утвараюцца назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія абазначаюць розныя з'явы, адцягненыя паняцці і дзеянні. Гэты прэфікс указвае на адсутнасць таго або супрацьлегласць таму, што названа ўтвараючай асновай; у радзе выпадкаў **не- (ня-)** сінанімічны прэфіксу **без- (бес-)**: *непарадак, неспакой, неўраджай, непагода, няўдача, няволя, нядоля, непавага, няласка, небяспека, нелюбоў, няміласць, нячуласць, несправядлівасць, няроўнасць, недакладнасць, неадпаведнасць, няздольнасць, няпэўнасць, нядбайнасць, нездароўе, няведанне, невыкананне, неўмяшанне, няшчасце* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 325. Прэфікс **неда-**. Складаны прэфікс **неда-** ўжываецца для ўтварэння агульных назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія абазначаюць адцягненыя дзеянні. Гэты прэфікс указвае на недастатковае праяўленне таго, аб чым сказана ва ўтвараючай аснове: *недаўлік, недаацэнка, недаплата, недаразвіццё, недавыкананне* і інш. Прыведзеныя назоўнікі суадносяцца таксама і з адпаведнымі дзеясловамі: *недаацаніць, недаплаціць* і г. д.

Тып малапрадуктыўны.

§ 326. Прэфікс **па- (по-)**. Гэты прэфікс вылучаецца ў зусім нязначнай колькасці назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду; ён служыць для абазначэння месца, на якім або ў рамках якога знаходзіцца тое, што названа ўтвараючай асновай: *паверх, покуць* (размоўн.), *понізь* (размоўн.). Асобна па значэнню стаіць назоўнік *павека.*

Тып непрадуктыўны.

§ 327. Прэфікс **пад-.** Пры дапамозе прэфікса **пад-** утвараюцца агульныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць розныя прадметы і з'явы. Гэты прэфікс указвае на непаўнату або меншую ступень праяўлення таго, што абазначана ўтвараючай асновай: *пададдзел, падатрад, падвід, падзагаловак, падкамітэт, падклас, падпункт, падраздзел, падтып, падтэкст; падбэлька, падгрупа, падсетка, падрубрыка, падсекцыя, падсям'я* (заал.). Асобна па значэнню стаяць назоўнікі *падстэп, падтропік, падпаха* (размоўн.).

У гэту групу ўваходзяць таксама некаторыя назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб: *падпалкоўнік, падшкіпер, падштурман, падстараста* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 328. Прэфікс **пасля-.** Пры дапамозе гэтага прэфікса ў навукова-тэхнічным стылі ўтвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць адцягненыя дзеянні або працэсы. Прэфікс **пасля-** ўказвае на ажыццяўленне або працяканне пэўнага дзеяння пасля таго дзеяння, якое абазначана ўтвараючай асновай: *паслядзеянне, пасляўздзеянне.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 329. Прэфікс **пера-.** Прэфікс **пера-** ўжываецца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія абазначаюць адцягненыя дзеянні; ён паказвае на неадпаведнасць або большае праяўленне ці паўтарэнне таго, аб чым сказана ва ўтвараючай аснове: *перавыдатак, перарасход, пераразлік, пераразбор, перавытворчасць, пераспеласць, перакройка, пераналадка, перабалаціроўка, паравёрстка, пераацэнка, перападрыхтоўка, перакваліфікацыя, перакрышталізацыя, перарэгістрацыя, пераафармленне, перавыкананне, перанасяленне, пераўтамленне* і інш. Некаторыя з пералічаных назоўнікаў суадносяцца таксама з адпаведнымі дзеясловамі: *пераразабраць, пераналадзіць* і г. д.

Тып прадуктыўны.

§ 330. Прэфікс **перад- (прад-).** Пры дапамозе гэтага прэфікса ўтвараюцца агульныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. У назоўніках, якія абазначаюць прадметы, прэфікс **перад- (прад-)** указвае, што гэтыя прадметы размешчаны перад тым або знаходзяцца недалёка да таго, што названа ўтвараючай асновай: *перадпакой, перадкамера, прадмесце.* Сюды прымыкае таксама назоўнік *перадстэп.*

У назоўніках, якія абазначаюць розныя з'явы і працэсы, прэфікс **перад- (прад-)** указвае, што гэтыя з'явы або працэсы папярэднічаюць таму, што названа ўтвараючай асновай: *перадгісторыя, прадвесне* (размоўн.), *прадспеў, перадпража* і інш. Звычайна гэтыя ўтварэнні суадносяцца з формай творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **перад (прад).**

Тып малапрадуктыўны.

§ 331. Прэфіксы **пра-, про-.** Сярод назоўнікаў, утвораных пры дапамозе прэфікса **пра-**, вылучаюцца:

а) назоўнікі, якія абазначаюць асоб паводле ўзыходзячай (або нізыходзячай) лініі прамых ступеней сваяцтва: *прадзед, прабабка, праўнук, праўнучка;*

б) назоўнікі, якія абазначаюць месца першапачатковага размяшчэння ці знаходжання пэўных асоб, жывёл, прадметаў і з'яў або паказваюць найбольшую старажытнасць таго, што названа ва ўтвараючай аснове: *прарадзіма, прамова* (лінгв.).

Тып непрадуктыўны.

Асобна стаіць невялікая група назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, утвораных пры дапамозе прэфікса **пра-,** які гістарычна ўзыходзіць да прэфікса **про-.** Гэты прэфікс указвае на блізкасць да таго або на агульнасць з тым, што абазначана ўтвараючай асновай, ці на ніжэйшую,

больш раннюю, папярэднюю ступень таго, аб чым сказана ва ўтваральнай аснове: *прафашыст, праконсул, правобраз, прагімназія* (устар.).

Тып непрадуктыўны.

З дапамогай прэфікса **про-** (ён ужываецца толькі пад націскам), утвараюцца назоўнікі мужчынскага і жаночага роду з агульным значэннем адцягненага дзеяння або якасці. Гэты прэфікс указвае на непаўнату або першапачатковы стан таго, што названа ўтваральнай асновай: *прозелень, просінь.* Параўн. таксама прастамоўнае *прозалаць.*

*Золакам вясёлым узышла і ззяе новая раніца — п р о з а л а ц ь зарніц* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Мястэчка).

Тып малапрадуктыўны.

§ 332. П р э ф і к с **пры-.** З гэтым прэфіксам утвараюцца адзінкавыя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду з агульным прасторавым значэннем. Прэфікс **пры-** служыць для ўказання на прасторавую блізкасць да таго або на сумежнасць з тым, што абазначана ўтваральнай асновай: *прыганак, прыгарад, Прыбалтыка.* Асобна па значэнню стаіць слова *прыназоўнік.* Звычайна такія назоўнікі суадносяцца з формамі меснага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **пры.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 333. П р э ф і к с **супраць- (проці-).** Гэты прэфікс ужываецца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія абазначаюць адцягненыя дзеянні. Прэфікс **супраць- (проці-)** служыць для ўказання на супрацьлегласць таму, аб чым сказана ва ўтваральнай аснове: *супрацьстаянне (процістаянне), супрацьціск (проціціск), процівага, проціпаказанне* і інш. Параўн. таксама запазычаныя назоўнікі *процівагаз, проціваяд.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 334. П р э ф і к с **са- (су-).** Пры дапамозе гэтага прэфікса ўтвараюцца асабовыя і неасабовыя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Прэфікс **са- (су-)** звычайна служыць для ўказання на сумеснасць з тым, што абазначана ўтваральнай асновай: *сааўтар, сабрат, саўдзельнік, суапякун, сунаймальнік, сунаследнік, сумножнік, суарэна, сужыццё.* Асобна па значэнню стаяць назоўнікі *садаклад, садакладчык.*

Тып малапрадуктыўны.

## *Прэфіксы іншамоўнага паходжання*

§ 335. П р э ф і к с ы **анты-, контр-.** Прэфікс **анты-** (грэч.) служыць для ўказання на супрацьлегласць таму, што названа ўтваральнай асновай: *антыфашыст, антыдэмакратызм, антымарксізм, антымілітарызм, антысемітызм, антыцыклон* і інш.

Тып непрадуктыўны.

У блізкім да прэфікса **анты-** значэнні выступае прэфікс **контр-** (лац.): *контрагент, контррэвалюцыянер, контрадказ, контрудар, контратака, контрпрапанова* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 336. П р э ф і к с **архі-.** Прэфікс **архі-** (грэч.) указвае на больш высокую ці самую высокую ступень таго, што абазначана ўтваральнай асновай: *архідыякан, архіепіскап, архірэй, архімільянер, архіскептык.*

Тып непрадуктыўны.

§ 337. П р э ф і к с **дыс-.** Прэфікс **дыс-** (лац.) указвае на страту або парушэнне таго, што названа ўтваральнай асновай: *дысгармонія, дыспрапорцыя, дыскваліфікацыя* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 338. П р э ф і к с **дэ-.** Прэфікс **дэ-** (лац.) служыць для ўказання на супрацьлегласць таго, што абазначана ўтваральнай асновай: *дэмантаж,*

*дэмаскіроўка, дэмабілізацыя, дэманетызацыя, дэмуніцыпалізацыя, дэпалярызацыя* і інш.

Тып непрадуктыўны

§ 339. Прэфікс **рэ-**. Прэфікс **рэ-** (лац.) указвае на паўтарэнне або ўзнаўленне таго ці на супрацьстаўленне таму, што названа ўтваральнай асновай: *рэагент, рээмігрант, рээкспарт, рэвакцынацыя, рэкрышталізацыя, рэмілітарызацыя, рэнатуралізацыя, рэтрансляцыя, рэкапітуляцыя, рээвакуацыя* і інш.

Тып непрадуктыўны.

## ПРЭФІКСАЛЬНА-СУФІКСАЛЬНАЕ УТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ

§ 340. У агульнай сістэме словаўтварэння назоўнікаў прэфіксальна-суфіксальны спосаб займае параўнальна нязначнае месца. Прэфіксальна-суфіксальным спосабам утвараюцца назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду пераважна ад асноў назоўнікаў. Назоўнікі ж, утвораныя гэтым спосабам ад асноў іншых часцін мовы, сустракаюцца вельмі рэдка.

§ 341. Прэфікс **а-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **а-** і суфікса **-ак** утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, абазначаюць галоўным чынам асоб паводле характэрных для іх адзнак: *асілак, адонак* і інш.

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі, утвораныя ад асноў дзеясловаў, абазначаюць прадметы, якія з'яўляюцца вынікам пэўных дзеянняў: *акурак, атопак* (размоўн.) і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 342. Прэфікс **а-** і суфікс **-ец.** Пры дапамозе прэфікса **а-** і суфікса **-ец** ад асновы назоўніка ўтворан назоўнік мужчынскага роду *акраец,* які мае агульнае значэнне прадмета з пэўнай знешняй прыметай.

Тып непрадуктыўны.

§ 343. Прэфікс **ад- (ат-)** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **ад- (ат-)** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем непаўнаты праяўлення таго, што абазначана ўтваральнай асновай: *адвячорак, адгалосак, атожылак* (размоўн.).

Тып непрадуктыўны.

§ 344. Прэфікс **ад-** і суфікс **-j**-э. Пры дапамозе прэфікса **ад-** і суфікса **-j**-*э* ад асновы назоўніка ўтворан назоўнік ніякага роду *адгор'е* з агульным значэннем непаўнаты праяўлення прызнака, названага ўтваральнай асновай.

Тып непрадуктыўны.

§ 345. Прэфікс **без- (бес-)** і суфікс **-к**-*а.* Пры дапамозе прэфікса **без- (бес-)** і суфікса **-к**-*а* ад асноў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ўтвараюцца назоўнікі жаночага роду з агульным значэннем адсутнасці таго, што названа ўтваральнай асновай: *бесказырка, безнасенка* (бат.), *безрукайка.* Такія назоўнікі суадносяцца звычайна з формамі роднага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **без.**

Тып непрадуктыўны.

§ 346. Прэфікс **без- (бес-)** і суфікс **-іц**-*а.* Пры дапамозе прэфікса **без- (бес-)** і суфікса **-іц**-*а* ў размоўным стылі ад асноў назоўнікаў утвараюцца адцягненыя назоўнікі жаночага роду, якія маюць агульнае значэнне адсутнасці таго, што абазначана ўтваральнай асновай: *бязрыбіца, бясхлебіца, бяздожджыца.* Усе гэтыя назоўнікі суадносяцца з формамі роднага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **без.**

Тып непрадуктыўны.

§ 347. Прэфікс **без- (бес-)** і суфіксы **-ј-э**, **-оўј-э**. Пры дапамозе прэфікса **без- (бес-)** і суфікса **-ј-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца адцягненыя назоўнікі ніякага роду, якія маюць агульнае значэнне адсутнасці таго, аб чым сказана ва ўтваруючай аснове: *бескультур'е, бязрыб'е, бясхлеб'е, бясхмар'е.*

Заўвага. У размоўным стылі ўжываецца таксама ўтвораны па гэтаму ж тыпу назоўнік *безгалоўе*, які мае рад пераносных значэнняў.

*Мала ўсялякага безгалоўя, а тут на табе, яшчэ гэта хвароба* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *«Прыйдзі хоць раз дадому ў часе!» — звярнулась жонка да Міхася. Ох, гэта нуднае прыслоўе, бадай яму ўжо безгалоўе!* (Я. Колас. Новая зямля). *Суцэпка так памёр ад нейкага безгалоўя — мала ж ёсць напасцей у няшчасных, бедных вёсках?* (З. Бядуля. Тулягі).

Тып малапрадуктыўны.

З такім жа агульным значэннем у гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры пры дапамозе прэфікса **без- (бес-)** і вытворнага суфікса **-оўј-э** ўтвараюцца назоўнікі *безграшоўе бездажджоўе.*

Тып непрадуктыўны.

Назоўнікі гэтых тыпаў звычайна суадносяцца з формамі роднага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **без.**

§ 348. Прэфікс **за-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **за-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць прадметы і з'явы, размешчаныя за тым, аб чым сказана ва ўтваруючай аснове: *задворак, запечак, засценак.* Гэтыя словы суадносяцца з формамі творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **за.**

Асобна стаяць назоўнікі, якія ўказваюць на пачатак таго або меншае (слабейшае) праяўленне таго, што названа ўтваруючай асновай: *зазімак, замаразак, зацемак, зацішак, загрывак, закутак, застрэшак* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 349. Прэфікс **за-** і суфікс **-нік.** Пры дапамозе прэфікса **за-** і суфікса **-нік** ад асновы назоўніка ўтвораны назоўнік мужчынскага роду *затыльнік* з агульным значэннем «размешчаны за тым, што абазначана ўтваруючай асновай». Асобна па значэнню стаіць граматычны тэрмін *займеннік.*

Тып непрадуктыўны.

§ 350. Прэфікс **за-** і суфіксы **-ј-э, -оўј-э.** Пры дапамозе прэфікса **за-** і суфіксаў **-ј-э, -оўј-э** ад іменных асноў утвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі з агульным значэннем «знаходзіцца за тым, што названа ўтваруючай асновай»: *Заазер'е, Загор'е, Запаляр'е, Задняпроўе, Задністроўе* і інш. Гэтыя назоўнікі звычайна суадносяцца з формамі творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **за.**

Тып непрадуктыўны.

§ 351. Прэфікс **між-** і суфікс **-ј-э.** Пры дапамозе прэфікса **між-** і суфікса -ј-э ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць месца, што знаходзіцца паміж тымі прадметамі, аб якіх сказана ва ўтваруючай аснове: *міжброўе, міжбор'е, міжгор'е, міжзем'е* і інш. Такія назоўнікі звычайна суадносяцца з формамі роднага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **між.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 352. Прэфікс **на-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **на-** і суфікса **-ак** у размоўным стылі ад асновы назоўніка ўтвораны назоўнік мужчынскага роду *надворак,* значэнне якога зближаецца са значэннем «знаходзіцца на двары (а не ў памяшканні)».

Тып непрадуктыўны.

§ 353. Прэфікс **на-** і суфікс **-нік.** Прэфікс **на-** і суфікс **-нік** ужываюцца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага роду ад асноў назоўнікаў усіх трох родаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць у асноўным прадметы,

размешчаныя на чым-небудзь або прызначаныя для таго, аб чым сказана ва ўтваруючай аснове: *навочнік, навушнік, наканечнік, налакотнік, налобнік, наморднік, наплечнік, наручнік, наскурнік, наспіннік, наякарнік* і інш. Асобна стаяць назоўнікі *намеснік, напарнік, нахлебнік,* якія абазначаюць асоб па характэрных для іх адзнаках. Некаторыя з прыведзеных назоўнікаў суадносяцца таксама з адпаведнымі прыметнікамі: *навочнік — навочны, наплечнік — наплечны* і г. д.

Тып малапрадуктыўны.

§ 354. Прэфікс **на-** і суфікс **-j-э**. Пры дапамозе прэфікса **на-** і суфікса **-j-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць з'явы прыроды і прасторавыя паняцці паводле таго, аб чым сказана ва ўтваруючай аснове: *надвор'е, нагор'е.*

Тып непрадуктыўны.

§ 355. Прэфікс **над-** і суфікс **-j-э**. Пры дапамозе прэфікса **над-** і суфікса **-j-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія абазначаюць розныя прадметы і з'явы, размешчаныя над тым, аб чым сказана ва ўтваруючай аснове: *надлоб'е, надзем'е, надхмар'е* і інш. Гэтыя словы звычайна суадносяцца з формамі творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **над.**

Тып непрадуктыўны.

§ 356. Прэфікс **неда-** і суфікс **-ак.** Прэфікс **неда-** і суфікс **-ак** звычайна ўжываюцца для ўтварэння назоўнікаў мужчынскага роду ад асноў дзеясловаў. Гэтыя назоўнікі абазначаюць непаўнацэнныя прадметы і з'явы, што ўзніклі як вынік таго дзеяння, якое названа ўтваруючай асновай: *недаборак, недагарак, недаедак, недакосак, недакурак, недаломак, неданосак, недаробак, недародак, недаростак, недатопак, недашкробак* і інш. Усе гэтыя назоўнікі адносяцца да размоўнага стылю.

Тып прадуктыўны.

§ 357. Прэфікс **па-** і суфікс **-ак**. Пры дапамозе прэфікса **па-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць прадметы і з'явы паводле таго, што названа ўтваруючай асновай: *пагорак, падворак, падонак* (размоўн.), *пазадак* (размоўн.) і інш. Параўн. таксама назоўнік *пасёлак,* які можа суадносіцца і з дзеясловам *пасяліцца.*

Тып непрадуктыўны.

§ 358. Прэфікс **па-** і суфікс **-нік.** Пры дапамозе прэфікса **па-** і суфікса **-нік** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб паводле іх узаемаадносін або заняткаў: *паплечнік, паграпічнік.*

Тып непрадуктыўны.

§ 359. Прэфікс **па-** і суфікс **-к-*а***. Пры дапамозе прэфікса **па-** і суфікса **-к-*а*** ад асновы назоўніка ўтвораны назоўнік жаночага роду *пагалоска* з агульным значэннем непаўнаты праяўлення таго, што абазначана ўтваруючай асновай.

Тып непрадуктыўны.

§ 360. Прэфікс **пад-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **пад-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем меншай ступені праяўлення таго, што названа ўтваруючай асновай. Гэтыя назоўнікі могуць абазначаць:

а) асоб па іх сацыяльнаму ці службоваму становішчу або па іх узросту: *падпанак, падчасак, падлетак.* Параўн. таксама аддзеяслоўны назоўнік *падпасак;*

б) маладых жывёл: *падсвінак, падцёлак;*

в) прадметы і з'явы, якія знаходзяцца перад тым або ніжэй таго ці блізка ад таго, што названа ўтваруючай асновай: *падбародак, падвячорак, паддашак, падкаленак, падкрылак, падлесак, падмурак, падпечак.* Параўн. таксама *падгрывак, падсітак.* Некаторыя з прыведзеных слоў

суадносяцца таксама з формамі творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам **пад.**

Большасць назоўнікаў гэтых груп належыць да размоўна-бытавога стылю.

Тып малапрадуктыўны.

§ 361. Прэфікс **пад-** і суфіксы **-авік, -нік.** Пры дапамозе прэфікса **пад-** і суфіксаў **-авік, -нік** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «знаходзіцца або размяшчаецца ніжэй ці блізка ад таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *падасінавік, падбярозавік, паддубавік, падліпавік; падаконнік, падрамнік, падсвечнік* і інш. Усе гэтыя словы суадносяцца з формай творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **пад.**

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 362. Прэфікс **пад-** і суфіксы **-j-э, -оўj-э.** Пры дапамозе прэфікса **пад-** і суфіксаў **-j-э, -оўj-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду з агульным значэннем «знаходзіцца ніжэй таго або блізка ад таго, што названа ўтвараючай асновай»: *падгалоўе, падгор'е, паднеб'е, падрабе́р'е, падчарэўе; Падняпроўе, Паддняпроўе, Падняпроўе, Паддняструоўе*.

Заўвага. Па тыпу прыведзеных вышэй назоўнікаў утвораны таксама назоўнікі *падвочча, падвоканне, падкрылле, падклецце, падлессе, падзямелле, падножжа, паднябенне, падстолле, паднябессе, падстрэшша* і інш. Аднак у сучаснай мове ў выніку пэўных фанетычных змен у гэтых назоўніках суфікс **-j-** адсутнічае.

Усе словы з прэфіксам **пад-** і суфіксамі **-j-э, -оўj-э** суадносяцца з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам **пад.**

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 363. Прэфікс **пера-** і суфікс **-ак (-ек).** Пры дапамозе прэфікса **пера-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «падобны да таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *лералесак, перашыек.*

Тып непрадуктыўны.

§ 364. Прэфікс **перад-** і суфікс **-ак (-ек).** Пры дапамозе прэфікса **перад-** і суфікса **-ак (-ек)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «знаходзіцца, размяшчаецца перад тым, што абазначана ўтвараючай асновай»: *перадкрылак* (заал.), *пераддашак* (размоўн.). Гэтыя словы суадносяцца з формамі творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **перад.**

Тып непрадуктыўны.

§ 365. Прэфікс **перад-** і суфікс **-нік.** Пры дапамозе прэфікса **перад-** і суфікса **-нік** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «знаходзіцца, размяшчаецца перад тым, што абазначана ўтвараючай асновай»: *перадплужнік, перадрамнік* і інш. Словы гэтага тыпу суадносяцца з формай творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **перад.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 366. Прэфікс **перад- (прад-)** і суфікс **-j-э.** Пры дапамозе прэфікса **перад- (прад-)** і суфікса **-j-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду з агульным значэннем «знаходзіцца перад тым або блізка ад таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *пераддзвер'е, прадгор'е, прадрабер'е.* Параўн. таксама назоўнік *прадбур'е*, у якім прэфікс **прад-** выражае часавае значэнне. Такія назоўнікі звычайна суадносяцца з формай творнага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **перад (прад).**

Тып малапрадуктыўны.

§ 367. Прэфікс **пра-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **пра-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца галоўным чынам канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «знаходзіцца

паміж чым-небудзь»: *прагалак* (размоўн.), *пралесак, прамежак, прасёлак, прасценак* (размоўн.).

Тып непрадуктыўны.

§ 368. Прэфікс **пра-** і суфікс **-к-*а*.** Пры дапамозе прэфікса **пра-** і суфікса **-к-*а*** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі жаночага роду з агульным значэннем «знаходзіцца дзе-небудзь або паміж чым-небудзь»: *пралеска, праслойка.*

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 369. Прэфікс **пры-** і суфікс **-ак.** Пры дапамозе прэфікса **пры-** і суфікса **-ак** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць прадметы, размешчаныя побач з тым або блізка ад таго, што названа ўтваруючай асновай: *прыгорак, прылавак, прылесак, прылістак* (бат.), *прыпечак, прыскрынак, прыямак* (спец.) і інш. Усе гэтыя словы суадносяцца з формай меснага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **пры.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 370. Прэфікс **пры-** і суфіксы **-ік, -нік.** Пры дапамозе прэфікса **пры-** і суфіксаў **-ік, -нік** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем «знаходзіцца непасрэдна каля таго, што названа ўтваруючай асновай»: *прылазнік, прыбярэжнік* (бат.), *прываротнік* (анат.), *прыклетнік.* Гэтыя словы суадносяцца з формай меснага склону адпаведных назоўнікаў з прыназоўнікам **пры.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 371. Прэфікс **пры-** і суфікс **-j-э.** Пры дапамозе прэфікса **пры-** і суфікса **-j-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца назоўнікі ніякага роду, якія звычайна абазначаюць пэўную мясцовасць або месца каля таго, што названа ўтваруючай асновай: *прыазёр'е, прыяр'е, Прыазоўе, Прыамур'е, Прымор'е, прыгалоўе, прылоб'е* і інш. Такія назоўнікі звычайна суадносяцца з формай меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам **пры.**

Тып малапрадуктыўны.

§ 372. Прэфікс **уз-** і суфікс **-ак (-ек).** Пры дапамозе прэфікса **уз-** і суфікса **-ак (-ек)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем месца, якое знаходзіцца на краю таго або побач з тым, што названа ўтваруючай асновай: *узлесак, узмежак, ускраек* і інш. Асобна па значэнню стаіць назоўнік *узгорак.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 373. Прэфікс **уз-** і суфікс **-j-э.** Пры дапамозе прэфікса **уз-** і суфікса **-j-э** ад асноў назоўнікаў утвараюцца канкрэтныя назоўнікі ніякага роду з агульным значэннем месца, якое знаходзіцца на краю таго або побач з тым, што абазначана ўтваруючай асновай: *узгор'е, узмор'е.*

Тып непрадуктыўны.

§ 374. Прэфікс **са-** і суфікс **-вец.** Пры дапамозе прэфікса **са-** і суфікса **-вец** ад асновы дзеяслова ўтвораны назоўнік мужчынскага роду *саслужывец,* які абазначае асобу па сумеснаму дзеянню з кім-небудзь.

Тып непрадуктыўны.

§ 375. Прэфікс **су-** і суфікс **-нік.** Пры дапамозе прэфікса **су-** і суфікса **-нік** ад асновы назоўніка ўтвораны назоўнік мужчынскага роду *субяседнік,* які абазначае асобу па сумеснаму дзеянню з кім-небудзь.

Тып непрадуктыўны.

§ 376. Прэфікс **су-** і суфікс **-j-э.** Пры дапамозе прэфікса **су-** і суфікса **-j-э** ад асновы назоўніка ўтвораны назоўнік ніякага роду *сузор'е* з агульным значэннем сукупнасці, зборнасці таго, што абазначана ўтваруючай асновай.

Тып непрадуктыўны.

§ 377. Бязафіксным спосабам назоўнікі часцей за ўсё ўтвараюцца ад дзеясловаў; яны маюць агульнае значэнне адцягненага дзеяння ці стану. Сярод гэтых назоўнікаў з дастатковай выразнасцю ўстанаўліваюцца наступныя тыпы:

а) назоўнікі, утварэнне якіх суправаджаецца чаргаваннем або ўзнаўленнем канцавых зычных асновы: *кліч (клікаць), плач (плакаць); пакламжа (пакласці), пакража (пакрасці); адзнака (адзначыць), заўвага (заўважыць), пазыка (пазычыць), пацеха (пацешыць), разруха (разрушыць)* і інш.

Тып прадуктыўны.

б) Назоўнікі, утварэнне якіх суправаджаецца пераносам націску: *агляд (аглядаць), адклад (адкладаць), загар (загараць), напамін (напамінаць); заклік (заклікаць), запуск (запускаць), накіп (накіпаць), нараст (нарастаць); падруба (падрубіць), загуба (загубіць)* і інш.

Тып прадуктыўны.

в) Назоўнікі, утварэнне якіх суправаджаецца пераносам націску і адначасова чаргаваннем галосных або ўзнаўленнем зычных асновы: *абмен (абмяніць), апёк (апячы), залом (заламаць), зацёк (зацякаць), набор (набіраць), намёк (намякаць), напор (напіраць); допыт (дапытаць), подсціл (падсцілаць), поціск (паціскаць), пропуск (прапускаць), рогат (рагатаць), роспыт (распытаць); абнова (абнавіць), будова (будаваць), дапамога (дапамагаць), заваёва (заваяваць), замена (замяняць), разора (разараць), скобля (скабліць); заслуга (заслужыць), павага (паважаць), пагроза (пагражаць), разлука (разлучаць)* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

г) Назоўнікі, утварэнне якіх суправаджаецца пераносам націску і змякчэннем канцавога зычнага асновы: *завязь (завязаць), загарадзь (загарадзіць), навісь (навісаць), прывязь (прывязаць).* Іншы раз у такім выпадку назіраецца таксама і чаргаванне зычных або галосных асновы: *заедзь (заядаць), замець (замятаць), прораз (праразаць), прымесь (прымяшаць), споведзь (спавядаць), спогадзь (спагадаць)* і інш. Параўн. таксама размоўны назоўнік *поўзь (паўзці): Волкая ветраная поўзь* (Я. Скрыган. Па дарозе).

Тып малапрадуктыўны.

д) Назоўнікі, утварэнне якіх адбываецца без пераносу націску і без адпаведнага чаргавання зычных ці галосных асновы: *грук (грукаць), выган (выгнаць), дазвол (дазволіць), занос (заносіць), надрэз (надрэзаць), прывоз (прывозіць), прыход (прыходзіць), развод (разводзіць), стук (стукаць), уваход (уваходзіць); аздоба (аздобіць), задума (задумаць), запруда (запрудзіць), мара (марыць), намова (намовіць), перашкода (перашкодзіць), узнагарода (узнагародзіць)* і інш.

Тып прадуктыўны і лексічна не абмежаваны.

§ 378. Нешматлікую групу складаюць назоўнікі, якія ўтвораны ад якасных прыметнікаў або суадносяцца з імі. Утварэнне падобных назоўнікаў звычайна суправаджаецца змякчэннем канцавога зычнага асновы (за выключэннем шыпячых, губных і **р**). Як правіла, такія назоўнікі маюць абстрактнае значэнне якасці і стану: *бель (белы), дрэнь (дрэнны), жудзь (жудкі), мель (мелкі), муць (мутны), нізь (нізкі), прыць (прыткі), прэль (прэлы), сінь (сіні), ціш (ціхі)* і інш. Асобна стаіць назоўнік *жоўць (жоўты),* які можа мець не толькі абстрактнае, але і канкрэтнае значэнне.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

У некаторых выпадках побач са змякчэннем канцавога зычнага асновы ўтварэнне назоўнікаў можа суправаджацца чаргаваннем гэтага зычнага або пераносам націску і чаргаваннем галосных у аснове: *гладзь (гладкі), цвердзь (цвёрды); высь (высокі), даль (далёкі), дзіч (дзікі),*

*гніль (гнілы), цвіль (цвілы), глуш (глухі), глыб (глыбокі), суш (сухі), шыр (шырокі); зелень (зялёны), моладзь (малады), погань (паганы), чырвань (чырвоны).*

Асобна стаіць назоўнік *чэрнь (чорны)*, пры ўтварэнні якога адбываецца змякчэнне зычнага асновы і чаргаванне карэннага галоснага.

Тып малапрадуктыўны.

§ 379. Асобную групу складаюць назоўнікі *трэць* і *чвэрць (чэцверць)*, якія ўтвораны ад парадкавых лічэбнікаў *трэці* і *чацвёрты* і маюць агульнае значэнне колькасці або меры чаго-небудзь.

Тып непрадуктыўны.

## УТВАРЭННЕ СКЛАДАНЫХ НАЗОЎНІКАЎ

§ 380. Складаныя назоўнікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове ўтвараюцца шляхам злучэння ў адно цэлае дзвюх асноў ці іх частак або двух слоў, якія адносяцца да тых ці іншых знамянальных часцін мовы.

У якасці першай часткі складанага назоўніка выступаюць назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, прыслоўі, дзеясловы, у якасці другой часткі выступае аснова назоўніка або дзеяслова. У радзе выпадкаў утворанае слова можа быць аформлена пры дапамозе суфіксаў назоўнікаў. У залежнасці ад гэтага ў сучаснай беларускай мове вылучаецца некалькі тыпаў складаных назоўнікаў.

§ 381. Складаныя словы з асновай назоўніка і дзеяслова (або аддзеяслоўнага назоўніка). Асаблівасцю складаных назоўнікаў гэтага тыпа з'яўляецца тое, што першая аснова далучаецца да другой пры дапамозе злучальнага галоснага **а(я)**. Першая частка ў тым словазлучэнні, з якім суадносіцца складаны назоўнік, заўсёды падпарадкоўваецца другой: *каменяцёс* (камень цясаць), *палкаводзец* (палкі вадзіць), *рукамыйнік* (рукі мыць), *вайначоска* (воўну часаць), *ільнамялка* (лён мяць), *лесазахоўванне* (лес захоўваць), *мухамор* (мух марыць), *зубаскал* (зубы скаліць), *шаўкапрад* (шоўк прасці), *караед* (кару есці) і інш. Паміж часткамі словазлучэнняў, з якімі суадносяцца складаныя назоўнікі гэтага тыпа, могуць быць розныя сінтаксічныя адносіны.

Першая частка абазначае: а) аб'ект дзеяння: *рыбалоў* (лавіць рыбу), *мылавар* (варыць мыла), *хлебапёк, свінапас, дажджамер, пухаед,* (заал.), *кустарэз, стагакід, дрывасек, мукамол, мінамёт, сукнароб, светалюб* (бат.), *півавар;* б) суб'ект дзеяння: *лістапад* (падае лісце), *санцапёк* (сонца пячэ), *крыгаход, рыбаход, снегапад, водаварот, вадазліў, небасхіл, вадаспад, сонцаварот, плытаход, градабой, крывацёк.*

Па сваёй структуры складаныя назоўнікі гэтага тыпа падзяляюцца на дзве групы: другая частка можа быць або бяссуфікснай, або ўскладненай пэўным суфіксам.

У складаных назоўніках бяссуфіксная дзеяслоўная па паходжанню другая частка адрозніваецца ад першай (іменнай) больш шырокім і агульным значэннем і самастойна не існуе, інакш кажучы, апошняя частка хоць і супадае графічна з асобным словам, але разыходзіцца з ім па лексічнаму і граматычнаму значэнню; параўн. *ледакол* і *кол, вадавоз* і *воз, буралом* і *лом, меданос* і *нос.*

У якасці другой часткі складаных назоўнікаў звычайна выступае дзеяслоўны корань або дзеяслоўная аснова на j: **-рэз** *(рэзаць) — тарфарэз,* **-піс** *(пісаць) — рукапіс,* **-вед** *(ведаць) — мовавед,* **-вей** *(веяць) — ветравей, буравей,* **-стой** *(стаяць) — травастой,* **-сей** *(сеяць) — мукасей,* **-рый** *(рыць) — пескарый, землярый,* **-дуй** *(дуць) — ветрадуй.*

Часцей за ўсё б я с с у ф і к с н ы м спосабам утвараюцца назоўнікі з наступнымі дзеяслоўнымі марфемамі ў якасці другой часткі слова: **-мер:** *вадамер, вакамер, вугламер, газамер, гукамер, дажджамер, малакамер, расамер, растамер, парамер, паветрамер, пыламер, светамер*

(тэхн.), *секундамер, сіламер, схіламер, хвалямер, цвёрдамер, цепламер, часамер, частатамер:*

**-рэз:** *балтарэз, вадарэз, гайкарэз, зубарэз, каменярэз, купінарэз, кустарэз, ледарэз, лістарэз, разьбарэз* (тэхн.), *сукарэз, тарфарэз, трубарэз, хлебарэз, шкларэз;*

**-ед:** *дрываед, змеяед, караед, караняед, кветкаед, кнігаед* (заал.), *кураед, лістаед* (заал.), *медаед, мурашкаед* (заал.), *мясаед, перцаед, пчалаед, пупышкаед* (заал.), *пухаед, сенаед, скураед* (заал.), *яйцаед;*

**-воз:** *бамбавоз, бензінавоз, вадавоз, вуглявоз, землявоз, лесавоз, нафтавоз, паравоз, паветравоз* (горн.), *рудавоз, турбавоз* (тэхн.), *цеплавоз, цяжкавоз;*

**-ход:** *атамаход, веснаход, дымаход, ледаход, мараход, параход, плытаход, пяткаход* (заал.), *рыбаход, снегаход, цеплаход;*

**-правод, -адвод, -падвод:** *бензаправод, водаправод, газаправод, дымаправод, мукаправод, нафтаправод, паветраправод, параправод, токаправод, трубаправод, шляхаправод, громаадвод, параадвод, токападвод;*

**-нос:** *ваданос, дрыванос, дубанос, каўчуканос, меданос, пылканос* (с.-г.), *цукранос* (бат.), *эфіранос* (бат.);

**-вар:** *кашавар, кінавар, мылавар, медавар, півавар, салявар, содавар, сыравар, сталявар, цукравар, шклавар, фарбавар;*

**-роб:** *бавайнароб, бракароб, земляроб, маслароб, сукнароб, сырароб, цестароб, хлебароб, шклароб* (спец.);

**-піс:** *гукапіс, жыццёпіс, клінапіс, летапіс, машынапіс, рукапіс, светапіс, сценапіс, часопіс;*

**-лоў:** *звералоў, кіталоў, крабалоў, мышалоў, птушкалоў, рыбалоў, тыгралоў;*

**-сос:** *вуглясос, землясос, крывасос, малакасос, пыласос, салясос, тарфасос;*

**-абарот, -зварот:** *грузаабарот, дымаабарот, жыраабарот* (фінанс.), *пашаабарот, рамаабарот* (с.-г.), *тавараабарот, землезварот, кровазварот, кругазварот;*

**-абмен:** *газаабмен, кнігаабмен, масаабмен, тавараабмен, сортаабмен, цеплаабмен;*

**-люб:** *кнігалюб, светалюб, санцалюб, славалюб, чалавекалюб, уладалюб;*

**-мёт**: *агнямёт, бамбамёт, газамёт, гранатамёт, кулямёт, мінамёт, пескамёт* (тэхн.);

**-вед:** *краявед, мовавед, прававед, сэрцавед, усходавед;*

**-коп**: *вуглякоп, далакоп, землякоп, рудакоп, салякоп;*

**-клад:** *дрываклад, капаклад, сціртаклад, тарпаклад, яйцаклад;*

**-гляд:** *вакагляд, далягляд, кругагляд, светагляд* і інш.

Радзей утвараюцца назоўнікі з наступнымі дзеяслоўнымі марфемамі: **-кол:** *крывакол, ледакол;* **-вал:** *буравал, канавал, сукнавал;* **-сек:** *дрывасек, ледасек;* **-варот:***водаварот, кругаварот;* **-пуск:** *вадапуск, дымапуск;* **-мол:** *мукамол;* **-гон:** *бурагон, ветрагон, плытагон;* **-дзёр:** *жывадзёр, зубадзёр, цвікадзёр;* **-топ:** *маслатоп, салатоп;* **-луп:** *казалуп, скуралуп;* **-кос:** *сенакос;* **-сед:** *дамасед;* **-пыт:** *следапыт;* **-грыз:** *лістагрыз;* **-здым:** *дзерназдым;* **-гар:** *дымагар;* **-стой:** *травастой;* **-пал:** *вугляпал;* **-сей:** *мукасей;* **-скат:** *вадаскат;* **-лаз:** *вадалаз, верхалаз;* **-плёт:** *вершаплёт;* **-схіл:** *небасхіл;* **-мес:** *цестамес;* **-крут:** *трубакрут;* **-пой:** *вадапой;* **-слеп:** *кураслеп;* **-від:** *краявід;* **-кур:** *вінакур, смалакур;* **-падзел:** *водападзел, складападзел, словападзел;* **-пёк:** *санцапёк, хлебапёк;* **-ліў, -адліў, -зліў:** *вадаліў, водаадліў, вадазліў;* **-кід, -скід:** *стагакід, вадаскід;* **-цёк:** *крывацёк;* **-лом:** *буралом, хвалялом;* **-мор:** *мухамор, клапамор;* **-трэс:** *саламатрэс* (с.-г.).

З а ў в а г а. У некаторых назоўніках дзеяслоўныя марфемы ўжо страцілі або страчваюць канкрэтнае лексічнае значэнне і выконваюць чыста граматычную функцыю. Так, у словах *жывёлавод, буракавод, ільнавод, птушкавод, садавод, пчалавод, раслінавод, лесавод, трусавод, кветкавод, авечкавод, кукурузавод, палявод, канаплявод*

і інш. асновы гістарычна ўзніклі са словазлучэнняў *вадзіць жывёлу, буракі, лён* і г. д., у якіх дзеяслоў *вадзіць* выступаў у значэнні «займацца развядзеннем хатніх жывёл, сельскагаспадарчых культур». Дзеяслоў *вадзіць* у сучаснай беларускай мове не ўжываецца ў гэтым значэнні. Замест яго выступае прыставачны дзеяслоў *разводзіць*. Гэта сведчыць аб тым, што ў падобных словах марфема **-вод** у некаторай ступені адрываецца ад канкрэтнага дзеяслова выходнага словазлучэння, выступае ў абстрактным значэнні і ідзе па шляху ператварэння ў суфікс. У словах *дабрадзей, чарадзей, ліхадзей* марфема **-дзей** таксама займае прамежкавае становішча паміж дзеяслоўнай марфемай і афіксам, таму што дзеяслоў *дзеяць* у словазлучэнні *дзеяць дабро* ўжо не з'яўляецца нормай у сучаснай беларускай мове.

У складаных назоўніках з бяссуфікснай дзеяслоўнай асновай другая частка з'яўляецца звычайна бесприставачнай асновай. Аднак іншы раз у назоўніках, якія звязаны са спецыяльнай тэрміналагічнай лексікай, у якасці другой часткі ўжываюцца прыставачныя дзеяслоўныя асновы: *правод, адвод, падвод, спуск — шляхаправод, парападвод, токаадвод, вадаспуск.*

Складаныя назоўнікі з суфіксам у другой частцы належаць да мужчынскага, жаночага і ніякага роду: *буравеснік, канькабежац, кнігапрадавец, шклаплаўшчык, маслабойня, торфаздабыча, травасеянне, вайнаткацтва, галавакружэнне* і інш. Другая частка такіх назоўнікаў можа ўжывацца як самастойнае слова або існаваць толькі ў саставе складанага слова.

Складаныя словы мужчынскага роду з суфіксамі **-нік, -альнік (-яльнік), -шчык, -ільчык, -цель, -авік** у другой частцы, якая ўжываецца самастойна, лексічна разнастайныя і колькасна вялікія: *законапарушальнік, рыбапрыёмнік, паператрымальнік, пазыкатрымальнік, таваратрымальнік, стогаскладальнік, бульбакапальнік, светавымяральнік, параразмеркавальнік, саломападавальнік, вуглепагружальнік, хвалеўтваральнік, мінашукальнік, газараспыляльнік, электразваршчык, вуглепастаўшчык, сталеліцейшчык, пенькапрадзільшчык, збожжанарыхтоўшчык, рудапрамывальшчык, саломараскідальшчык, саломакапніцель, ветрарухавік.*

Найбольш часта ўтвараюцца складаныя назоўнікі мужчынскага роду, другая частка якіх з суфіксам **-ец** ужываецца толькі ў саставе складанага слова: *лістаносец, сцяганосец, браняносец, мінаносец, мовазнавец, музыказнавец, таваразнавец, краязнавец, мастацтвазнавец, малатабоец, каменябоец, песнятворац, міратворац, крывапівец, байкапісец, іканаборац, флатаводзец, заканадавец.*

Заўвага. Побач з суфіксам **-ец** у літаратуры 20—30-х гадоў XX ст. сустракаюцца паралельныя формы з суфіксам **-ца**, але ў наш час апошні паступова выцясняецца першым: *прыродазнаўца — прыродазнавец, заканадаўца — заканадавец, царазабойца — царазабоец.*

Акрамя слоў мужчынскага роду, значнае месца займаюць таксама складаныя назоўнікі жаночага роду, другая частка якіх звычайна існуе ў якасці самастойнага слова. Не ўжываюцца самастойна, а выступаюць толькі як часткі складаных слоў наступныя асновы: **-манка** *(ліхаманка)*, **-вёртка** *(ліставёртка, вухавёртка* (заал.), **-адтайка** *(параадтайка)* і некаторыя іншыя.

Некаторыя складаныя назоўнікі жаночага роду суадносяцца з адпаведнымі назоўнікамі мужчынскага роду. Аднак большасць назоўнікаў жаночага роду не мае суадносных утварэнняў у мужчынскім родзе.

У якасці другіх частак назоўнікаў жаночага роду з суфіксам **-к-***а*, **-лк-***а*, **-оўк-***а* выступаюць наступныя словы: **-сеялка** *(травасеялка, лесасеялка, ільнасеялка)*, **-рэзка** *(сіласарэзка, буракарэзка, хлебарэзка, гароднінарэзка)*, **-саджалка** *(бульбасаджалка, кукурузасаджалка, расадасаджалка)*, **-нарыхтоўка** *(сенанарыхтоўка, бульбанарыхтоўка, мясанарыхтоўка, дрованарыхтоўка, збожжанарыхтоўка, воўнанарыхтоўка, ільнонарыхтоўка, хлебанарыхтоўка, бавоўнанарыхтоўка)*, **-сушылка** *(зерне-*

*сушылка, снопасушылка, сенасушылка, бавоўнасушылка, насеннесушылка, ільносушылка, лесасушылка),* **-драбілка** *(кукурузадрабілка, макухадрабілка, зернедрабілка, карадрабілка, вугледрабілка, лёдадрабілка, каменедрабілка),* **-распрацоўка, -апрацоўка** *(лесараспрацоўка, ільноапрацоўка),* **-капалка** *(буракакапалка, бульбакапалка),* **-мыйка** *(пасудамыйка, сукнамыйка, вуглямыйка, буракамыйка),* **-чарпалка** *(землечарпалка, водачарпалка),* **-мяшалка** *(кормамяшалка, бетонамяшалка),* **-грабілка** *(сенаграбілка),* **-маскіроўка** *(гукамаскіроўка, светамаскіроўка),* **-мялка** *(ільнамялка),* **-церабілка** *(ільноцерабілка),* **-плюшчылка** *(зернеплюшчылка),* **-мясілка** *(цестамясілка),* **-пілка** *(лесапілка),* **-трапалка** *(ільнотрапалка),* **-касілка** *(сенакасілка, хлебакасілка),* **-дзёрка** *(крупадзёрка),* **-пагрузка** *(вуглепагрузка),* **-сарціроўка** *(бульбасарціроўка),* **-выціскалка** *(лімонавыціскалка),* **-разбівалка** *(сенаразбівалка),* **-пасадка** *(лесапасадка, бульбапасадка),* **-закупка** *(збожжазакупка),* **-цёрка** *(канюшынацёрка, фарбацёрка),* **-топка** *(снегатопка, салатопка),* **-уборка** *(збожжаўборка, бавоўнаўборка, сенаўборка, буракаўборка),* **-цягалка** *(лесацягалка),* **-вязалка** *(сенавязалка, снопавязалка),* **-ачыстка** *(снегаачыстка, зернеачыстка, газаачыстка, водаачыстка),* **-пераклічка** *(радыёпераклічка),* **-пастаноўка** *(радыёпастаноўка),* **-рубка** *(мясарубка).*

Меншай прадуктыўнасцю характарызуюцца складаныя назоўнікі, у якіх апошняя частка з суфіксамі **-л-***я*, **-н-***я* выступае ў выглядзе слоў **-гадоўля, -бойня, -пякарня, -варня:** *трусагадоўля, птушкагадоўля, авечкагадоўля, свінагадоўля, жывёлагадоўля, сырабойня, маслабойня, свінабойня, жывёлабойня, хлебапякарня, сыраварня, цукраварня, саляварня, сакаварня.* Адзінкавыя назоўнікі ўтвораны і пры дапамозе суфікса **-асць:** *шкловытворчасць, кормавытворчасць.*

Не менш распаўсюджанымі ў параўнанні з назоўнікамі жаночага роду з'яўляюцца і назоўнікі ніякага роду, у якіх апошняя аснова з суфіксамі **-ств-***а*, **-ішч-***а*, **-энн-***е* можа быць таксама як самастойным словам, так і састаўной часткай складанага слова.

Вялікую групу складаюць назоўнікі:

а) з асновамі **-знаўства, -сховішча, -утварэнне, -будаванне** ў другой частцы складанага слова: *раслінназнаўства, мастацтвазнаўства, краязнаўства, літаратуразнаўства, глебазнаўства, мовазнаўства, прыродазнаўства, таваразнаўства, грамадазнаўства, машыназнаўства, рыбазнаўства, музыказнаўства, славяназнаўства, правазнаўства, кнігазнаўства, збожжасховішча, бульбасховішча, нафтасховішча, бензінасховішча, сенасховішча, сіласасховішча, вадасховішча, газасховішча, кнігасховішча, насеннясховішча, бамбасховішча, ледасховішча, паперасховішча, казнасховішча, параўтварэнне, гораўтварэнне, глебаўтварэнне, газаўтварэнне, цеплаўтварэнне, формаўтварэнне, відаўтварэнне, сортаўтварэнне, жоўцеўтварэнне, кроваўтварэнне, вагонабудаванне, станкабудаванне, матарабудаванне.*

б) З асновамі **земле-, света-, месца-, вада-, леса-, слова-** ў першай частцы складанага слова: *землеўпарадкаванне, землеўгнаенне, землекарыстанне, землеапісанне, землетрасенне, землечарпанне, землеўладкаванне, светаразуменне, светарассеянне, светалячэнне, светаадчуванне, светаўспрыманне, светадрукаванне, светавыпраменьванне, светакапіраванне, месцанараджэнне, месцапрабыванне, месцараспалажэнне, месцазнаходжанне, месцапражыванне, водазабеспячэнне, водазмяненне, водазмяшчэнне, водалячэнне, водакарыстанне, лесанасаджэнне, лесаўпарадкаванне, лесаразвядзенне, лесазахоўванне, словаўтварэнне, словазлучэнне, словаўжыванне, словазмяненне, словатлумачэнне.*

Адзінкавымі з'яўляюцца складаныя назоўнікі агульнага роду: *кніганоша, лістаноша, механоша, пустамеля.*

Да складаных слоў з асновай назоўніка і дзеяслова адносяцца таксама назоўнікі, у якіх другая частка іншамоўнага паходжання; яны

праніклі ў беларускую мову з іншых моў галоўным чынам праз рускую мову. Характэрнай асаблівасцю складаных назоўнікаў гэтай групы з'яўляецца адсутнасць словазлучэнняў, з якімі можна было б іх суадносіць. Другая частка такіх слоў страчвае сваё канкрэтнае лексічнае значэнне і набліжаецца да суфікса.

Найбольш пашыранымі іншамоўнымі марфемамі трэба лічыць наступныя: **-граф:** *географ, этнограф, бібліёграф, картограф, фатограф, ксілограф, асцылограф;* **-скоп:** *тэрмаскоп, тэлескоп, электраскоп, спектраскоп, стэрэаскоп, калейдаскоп, стаматаскоп, склераскоп;* **-метр:** *электрометр, вальтметр, кубаметр, дэцыметр, кіламетр, арыфмометр, псіхрометр, гектаметр, хранометр, барометр, тэрмометр;* **-фон:** *магнітафон, ксілафон, электрафон, металафон, грамафон, патэфон, тэлефон.*

Радзей ужываюцца марфемы **-філ:** *бібліяфіл, англафіл, славянафіл, тэрмафіл;* **-фор:** *светафор, семафор, аэрафор, электрафор;* **-фоб:** *славянафоб, юдафоб, англафоб;* **-фаг:** *бактэрыяфаг, іхтыяфаг;* **-грам:** *міліграм, дэцыграм, кілаграм;* **-пат:** *гамеапат, нейрапат, гідрапат, лагапат.*

Тып жывы, прадуктыўны і лексічна багаты, за выключэннем складаных назоўнікаў з марфемамі іншамоўнага паходжання.

§ 382. Складаныя назоўнікі з дзвюма асновамі назоўнікаў. Да гэтага тыпа адносяцца словы, якія складаюцца з дзвюх асноў назоўнікаў, аб'яднаных пры дапамозе злучальнага галоснага або без яго: *мясакамбінат, шклозавод, землеўласнік, газабалон, законапраект, жалезабетон, конезавод, авечкаферма, тарфакрошка, законапалажэнне, траваполле* і інш.

Складаныя назоўнікі гэтага тыпа падзяляюцца на дзве групы ў залежнасці ад таго, суфіксальным або бяссуфіксным словам з'яўляецца другая частка складання.

Да першай групы належаць складаныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду з б я с с у ф і к с н а й другой часткай, якая часцей за ўсё ўжываецца ў якасці самастойнага слова: *торфабрыкет, рыбазавод, краявід, водазабор, целасклад, дубанос, травасумесь, суднакаманда, сартазмена* (с.-г.), *шкловалакно.*

Абедзве часткі складаных назоўнікаў у тым словазлучэнні, з якім яны суадносяцца, могуць быць або граматычна незалежнымі, раўнапраўнымі, або такімі, у якіх першая частка падпарадкавана другой. У першым выпадку складаныя назоўнікі суадносяцца са злучальнымі спалучэннямі, дзе абедзве часткі знаходзяцца ў адносінах непасрэднай сувязі: *вербалоз* — вярба і лаза, *лесастэп* — лес і стэп, *светацень, вайкаліс, сталебетон, лесатундра, серавадарод, англасаксы, чэхаславакі* і інш.

У другім выпадку складаныя назоўнікі суадносяцца з падпарадкавальнымі спалучэннямі, дзе граматычныя адносіны выражаюцца ўскоснымі склонамі з прыназоўнікамі або без іх:

а) назоўнікі мужчынскага роду: *светапогляд* (погляд на свет), *газабалон* (балон для газа), *металалом, хлебазавод, ільнокамбайн, птушкакамбінат, мясапрадукты, зернятрэст, збожжаэлеватар, гукарад* (рад гукаў), *словаспіс* (спіс слоў);

б) назоўнікі жаночага роду: *пчоласям'я, трусаферма, лесарама, кармакухня, шклатара, шкламаса, сартазмена, мешкатара, пчалапасека, ільнотраста, ільносалома, лесапаласа;*

в) назоўнікі ніякага роду: *пенашкло, ільнасемя, шкловалакно, пенькавалакно, бавоўнавалакно, ільновалакно.*

З а ў в а г а. У назоўніках ніякага роду тыпу *траваполле, народаўладдзе* гістарычна быў суфікс -j-, які ў сучаснай беларускай мове ў выніку пэўных фанетычных змен адсутнічае.

У якасці другой часткі складанага слова з дзвюма назоўнікавымі асновамі часцей выступаюць словы, якія ўжываюцца самастойна. З імі

ўтвараецца вялікая група назоўнікаў: **-завод** *(рыбазавод, станказавод, малаказавод, торфазавод, цукразавод, сеназавод, лесазавод, маслазавод)*; **-бетон** *(шклобетон, пемзабетон, дрэвабетон, сталебетон)*; **-склад** *(збожжасклад, вуглясклад, дрывасклад, целасклад, жалезасклад, гароднінасклад)*; **-камбінат** *(млынакамбінат, рыбакамбінат, лесакамбінат, шоўкакамбінат)*; **-ферма** *(трусаферма, каняферма, авечкаферма, свінаферма, птушкаферма)*; **-база** *(нафтабаза, фільмабаза)*.

Другая група ўключае складаныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду з суфіксам у другой частцы, якая ў большасці выпадкаў ужываецца як самастойнае слова. Найбольш часта ў якасці другой часткі ўжываюцца словы з рознымі суфіксамі:

а) для назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксамі **-ік, -нік, -аўнік, -ец:** *пладалісцік, землеўласнік; шарыкападшыпнік, роданачальнік, жывёлапрамысловец, нафтапрамысловец, бронецягнік;*

б) для назоўнікаў жаночага роду з суфіксамі **-к-**а, **-іц-**а: *кветканожка, лістаблошка, свінаматка, насаглотка, яйцаклетка, тарфакрошка, аўцаматка, зубалячэбніца.*

Заўвага. Да гэтага тыпа прымыкаюць састаўныя запазычаныя назоўнікі, часткі якіх злучаюцца пры дапамозе дэфіса: *метр-свяча, тона-кіламетр, гектават-гадзіна, кілаграм-калорыя.*

Тып прадуктыўны.

§ 383. Складаныя назоўнікі з асновамі прыметніка і назоўніка заўсёды аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальнай галоснай *(беларус, галалёд, дзікабраз, пустасмех, сухацвет, вузкакалейка, раўнавага, драбналессе, жаўталісце, сухажылле, пустазелле* і інш.

Гэтыя назоўнікі суадносны са словазлучэннямі, у якіх першая частка падпарадкоўваецца другой і з'яўляецца азначэннем да яе. Параўн. *касагор* — касая гара, *чарназём* — чорная зямля.

У залежнасці ад будовы другой часткі складаныя назоўнікі гэтага тыпа падзяляюцца на дзве групы.

Першая група ўключае назоўнікі бяссуфікснага ўтварэння; сюды адносяцца перш за ўсё назоўнікі мужчынскага роду: *крутаяр, лёгкаатлет, яснавід, крывашып, чарнаслій, дабрабыт.* Асобна стаяць назоўнікі ніякага роду з падаўжэннем зычнага ў канцы другой асновы, у якіх суфікс **-j-** у сучаснай беларускай мове адсутнічае: *паўналецце, сухапуцце, рэдкалессе, слабаволле, паўнаводдзе* і інш. Сустракаюцца назоўнікі і жаночага роду, але іх вельмі мала: *Белавежа, Крывашыя.*

Апошняя частка складаных назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду разгледжанай групы часцей ужываецца як самастойнае слова: *пустацвет, чарнакорань, парналіст, вастраліст, суханос, сіваграк* і г. д.

Другая група аб'ядноўвае назоўнікі з рознымі суфіксамі. У назоўніках мужчынскага роду ў другой аснове вылучаюцца суфіксы **-ец(-ац), -нік:** *чырвонаармеец, чырванафлоцец, чарнасоценец, ссыльнапасяленец, чужаземец, чарнагорац, чарнакніжнік, белабілетнік.*

У назоўніках жаночага роду вылучаюцца суфіксы **-к-**а, **-іц-**а, **-ін-**а: *беларучка, касаваротка, вузкакалейка, крываручка, пласкадонка, беларыбіца, чарналесіца, старасветчына.*

Тып прадуктыўны.

§ 384. Складаныя назоўнікі з асновамі прыметніка і дзеяслова (або аддзеяслоўнага назоўніка). Словы, утвораныя ад асновы прыметніка ў першай частцы і дзеяслова ў другой, належаць да малапрадуктыўнага тыпа. Яны ў асноўным запазычаны з рускай мовы: *старавер, старажыл, дальнамер, пустазвон, разнабой, старадум, сухалюб, краснабай, сухавей, пустабрэх, яснабачанне, навайтварэнне, чыстапісанне, навайвядзенне, узаемапранікненне.*

Другая частка складаных назоўнікаў гэтага тыпа, ускладненая суфіксам або без яго, можа ўжывацца ў выглядзе марфемы або сама-

стойнага слова: *сухаед, сырадой, сыраежка, белашвейка, узаемазнішчэнне, галоўнакамандаванне.*

§ 385. Складаныя назоўнікі з асновамі лічэбніка і назоўніка. Да гэтага тыпа адносяцца складаныя назоўнікі, у якіх першай часткай асновы з'яўляюцца колькасныя або парадкавыя (радзей дробавыя або зборныя) лічэбнікі (часцей у форме роднага склону), а другой — назоўнік. Гэтыя асновы аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальнай галоснай ці без яе: *аднадумец, другаразраднік, першакласнік, першадрукар, трохвугольнік, трохвёрстка, стагоддзе, сямібор'е, шасцідзёнка, пяцігодка, першавобраз, дваццаціпяцірублёўка, першапрычына, двухсетка, аднадушша, двукоссе, трохполле, сямірэчча, паўтаратонка, двоемужжа, троежонства.*

Па сваёй структуры назоўнікі гэтага тыпа падзяляюцца на дзве групы.

Да першай групы належаць складаныя назоўнікі з бяссуфікснай другой часткай. Большасць з іх з'яўляюцца назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду: *Першамай, сяміцвет, адначлен, васьміног, сямірэчча, першавыданне, двукроп'е, сямізор'е, сямібор'е, двухузгор'е, трохсотгоддзе, саракагоддзе.* Сюды адносяцца таксама складаныя назоўнікі з няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі **(многа-, мала-, шмат-)**: *мнагаполле, многаначалле, маладушша, мнагаслоўе, малакроўе, шматкроп'е.*

Да другой групы належаць складаныя назоўнікі, апошняя частка якіх аформлена суфіксам. З суфіксамі **-нік, -ец(-овец), -ац, -ак, -ін(-анін)** ужываюцца назоўнікі мужчынскага роду: *трыпутнік* (бат.), *трыножнік, дваццаціпяцітысячнік, аднадумец, аднавясковец, аднадворац, аднагодак, першазімак, малагодак, аднапалчанін, аднасяльчанін.* З суфіксамі **-к-***а*, **-іц-***а* ўжываюцца назоўнікі жаночага роду: *сямітонка, трохрадка, трохходоўка* (шахм.), *двухсетка* (радыё), *аднастволка, аднакалейка, сараканожка, першакрыніца.* З суфіксам **-оўе** ўжываюцца назоўнікі ніякага роду: *двухрадкоўе, чатырохрадкоўе.* Сюды адносяцца таксама складаныя назоўнікі з няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі **(шмат-, мала-)**: *шматтыражка, малалесіца.*

Асобную групу ўтвараюць складаныя назоўнікі з лічэбнікам **паў-(напаў-)** у першай частцы і назоўнікам у другой, якія аб'ядноўваюцца без злучальнай галоснай. Другая частка ў складзе гэтых назоўнікаў мае форму назоўнага або роднага склону: *паўпадвал, паўшоўк, паўзмрок, паўвостраў, паўкруг, паўзабыццё, паўсвятло, паўсукно, паўгоддзе, паўвярсты, паўгадзіны, паўхаты, паўвоза, паўсотні, паўгорада, паўакна, паўметра, паўяблыка, паўгода, напаўдзікун, напаўхмызняк.*

Тып прадуктыўны.

§ 386. Складаныя назоўнікі з займеннікам і асновай дзеяслова (або аддзеяслоўным назоўнікам). Да гэтага тыпа адносяцца словы з займеннікамі *сам, усё, свае, сабе, сябе* ў першай частцы і з дзеяслоўным коранем або суфіксальным аддзеяслоўным назоўнікам у другой: *самарух, самасуд, самапуск, самавар, самапомач, самаадвод, самажнейка, самаацэнка, самасаграванне, самапазнанне, самазапальванне, усёведанне, сябелюб.* Найбольш часта складаныя назоўнікі гэтага тыпа ўтвараюцца шляхам злучэння займенніка *сам* з назоўнікамі.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры, акрамя таго, сустракаюцца складаныя назоўнікі, першай часткай якіх з'яўляюцца займеннікі *кожны, нешта, той.* Яны выступаюць звычайна як індывідуальныя ўтварэнні.

*Яно само ўсё ішлося, а яны мелі радасць ад свае кожнадзённасці* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Паехаў быў вучоны нештавед аж у Амерыку, за свет* (К. Крапіва. Поп і папугай). *Збіта, як стог сена, ў качарэжнік смецце,— вон не выкідана, мабыць, з тагалецця* (Я. Купала. Гутарка аб кепскай гаспадыні).

У складаных назоўніках разгледжанага тыпа абедзве часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучальных галосных, прычым першая частка

ў тым словазлучэнні, з якім суадносіцца складанае слова, падпарадкоўваецца другой.

Па наяўнасці або адсутнасці суфікса ў другой частцы складаныя назоўнікі гэтага тыпа падзяляюцца на бяссуфіксныя і суфіксальныя.

Вялікую групу складаюць назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду з бяссуфікснай асновай: *самакат, самаход, самапал, самагон, самадур, самацёк, самаклад, самавук, самастрэл, самацвет, самавяз, самахвал, саматрас* (тэхн.), *самаед, самасціл* (тэхн.), *самапавага, самадапамога, самаахова, самаабарона, самамэта, самадысцыпліна, самарэклама, самапачуццё, самаразвіццё, самазабыццё.*

Другая частка складаных назоўнікаў мужчынскага роду, як правіла, самастойна не ўжываецца. Наадварот, назоўнікі жаночага і ніякага роду характарызуюцца тым, што ў радзе выпадкаў другая частка выступае ў выглядзе самастойнага слова.

Да другой групы адносяцца складаныя назоўнікі з суфіксам у апошняй частцы. Часцей за ўсё ў гэтым тыпе ўжываюцца назоўнікі ніякага роду з суфіксамі **-енн-***е***(-энн-***е***), -нн-***е*: *самалячэнне, самаўзнікненне, самазараджэнне, самавызначэнне, самаакісленне, саманазіранне, самазнішчэнне, саматармажэнне, самаўнушэнне, самаўзгаранне, самавыхаванне, самапазнанне, самаабслугоўванне.* Другая частка такіх складаных назоўнікаў можа ўжывацца як самастойнае слова.

Невялікую групу складаюць назоўнікі жаночага роду з суфіксам **-к-***а***(-лк-***а***)**: *самапрадка, самаходка* (размоўн.), *самаправодка, самакасілка, саманарыхтоўка, самазагатоўка, самажнейка, самапіска, самамаскіроўка, самаацэнка, самападрыхтоўка, самапаілка, самастрахоўка* (размоўн.).

Яшчэ меншую групу складаюць назоўнікі мужчынскага роду з суфіксамі **-ак, -ец, -ац, -авік:** *самародак, самазванец, самаўправец, самадзержац* (гіст.), *самарухавік.*

Тып прадуктыўны.

Асобна стаяць складаныя словы, першай часткай якіх з'яўляецца займеннік *(сам)*, а другой — назоўнік: *самамэта, самарэклама, самадысцыпліна.*

§ 387. Складаныя назоўнікі з асновай прыслоўя і дзеяслоўнага кораня. Састаўныя часткі гэтых назоўнікаў аб'ядноўваюцца без злучальнай галоснай. У якасці першай часткі выступаюць прыслоўі **скора-, лёгка-, цяжка-, тонка-,** а ў якасці другой — дзеяслоўныя марфемы **-ход, -ед, -воз** і інш.: *скарапіс, скараход, легкадум, цяжкадум, ціхаход, усюдыход, пешаход, пустаход, дармаед, цяжкавоз.*

Усе гэтыя назоўнікі з'яўляюцца бяссуфікснымі, прычым другая частка, як правіла, не ўжываецца ў якасці самастойнага слова.

Невялікую групу складаюць словы, у якіх другая частка з'яўляецца суфіксальным назоўнікам і звычайна ўжываецца ў якасці самастойнага слова: *гучнагаварыцель, скарапад'ёмнік, скорасшывальнік, скорагаворка, скорадрукарня.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 388. Складаныя назоўнікі з асновамі дзеяслова і назоўніка. У большай колькасці назоўнікаў гэтага тыпа першая частка супадае з формай дзеяслова другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу: *абібок, прайдзісвет, вернігоры, звярнігалава, верціхвостка, круцігалоўка, гарыхвостка, пакацігарошак, вернідуб, сарвігалава, узвейвецер, перакаці-поле;* параўн. таксама ўласныя імёны *Пілінога, Дзюбніглаз, Валівода, Варывода, Малібожка, Гуляй-Поле, Гуляй-Горад, Качай-Балота* (назва вёскі) і інш.

Калі першая частка з'яўляецца асновай дзеяслова абвеснага ладу, то далучэнне да яе другой адбываецца пры дапамозе злучальнай галоснай: *лежабок, скалазуб, цісказуб* (заал.), *шалахвост, свістапляска.*

Тып малапрадуктыўны.

## *Складанаскарочаныя словы (абрэвіятуры)*

§ 389. Складанаскарочаныя словы, або абрэвіятуры,— гэта асобы тып слоў, якія ўтвараюцца шляхам скарачэння словазлучэння або складанага слова тэрміналагічнага характару. Складанаскарочаныя словы падзяляюцца на некалькі тыпаў у залежнасці ад характару частак, якія ўваходзяць у іх састаў:

1. Складанаскарочаныя словы, якія ўтвараюцца шляхам злучэння частак слоў або частак і поўных слоў (складовы тып): *цэхком, педінстытут, дзяржцырк.*

2. Складанаскарочаныя словы, якія ўтвараюцца шляхам злучэння пачатковых літар і вымаўляюцца па назвах літар або па гуках (ініцыяльны тып): *БВА, БДУ, МУС.*

3. Складанаскарочаныя словы, якія складаюцца з частак слоў і гукаў (змешаны тып): *райана, райЗАГС.*

§ 390. Складанаскарочаныя словы складовага тыпа ўтвараюцца шляхам злучэння:

а) адной часткі і поўнага слова: *прамкамбінат, дзяржстрах, жанаддзел, райаддзел, заапарк, дзяржплан, райцэнтр, нарсуд, галоўурач, педсавет, драмгурток, бумтрэст, генплан, жылплошча, аўтабаза, партбюро;*

б) дзвюх частак і поўнага слова: *Белдзяржпраект, сельгасарцель, Белкаапсаюз, Матавелазавод, Беллітфонд, Белпрамсавет, Белторфпраект, райбудкантора, галоўпалітасвета, Белдзяржэстрада, палітасветвучылішча;*

в) трох частак і поўнага слова: *галоўбудмехмантаж, белмастакпрамсаюз, галоўкаапгасгандаль, дзяржсельгасвыдавецтва, райсельгасінспекцыя;*

г) дзвюх частак: *мясцком, педфак, юнкор, лясгас, гарсавет, дзяржбуд, камбрыг, калгас, камбат, соцстрах;*

д) трох частак: *рабселькор, камсамол, райкамунгас, райвыканком, галоўсельснаб, аблкамунгас, галоўпрамбуд, фабзаўком;*

е) чатырох і больш частак: *белгалоўсельснаб, мінгарвыканком, сантэхлегпром;*

ж) часам складанаскарочаны назоўнік складаецца з некалькіх частак і некалькіх поўных слоў, якія могуць знаходзіцца або ў сярэдзіне, або ў канцы складанаскарочанага слова: *белмаслатлушчаснабзбыт, мінгарспецгароднінагандаль.* Ужыванне такіх слоў абмежавана афіцыяльным і газетным стылямі.

Да гэтага тыпа прымыкае невялікая колькасць складанаскарочаных назоўнікаў, якія ўтвараюцца злучэннем «вышчарбленых» слоў у адно: *ваенкамат, наркамат, эсмінец, рацыя* (радыястанцыя).

Ва ўсіх назоўніках гэтага тыпа першая частка з'яўляецца скарачэннем адпаведнага прыметніка ў іменным словазлучэнні: *дзяржкрэдыт* — дзяржаўны крэдыт, *піянератрад* — піянерскі атрад, *лясгас* — лясная гаспадарка.

Граматычны род складанаскарочаных слоў, у якіх апошняя частка з'яўляецца поўным словам, вызначаецца на аснове роду апошняй часткі: *сельсавет* — сельскі савет (мужчынскі род), *педпрактыка* — педагагічная практыка (жаночы род), *партбюро* — партыйнае бюро (ніякі род).

Назоўнікі, якія складаюцца з частак слоў, звычайна адносяцца да мужчынскага роду, таму што апошняя частка іх, як правіла, заканчваецца зычным гукам: *універмаг, Гомсельмаш, нафтабуд, юрфак, саўнаргас.*

Тып прадуктыўны і лексічна багаты.

§ 391. Складанаскарочаныя словы ініцыяльнага тыпа ўтвараюцца шляхам злучэння пачатковых літар двух або некалькіх слоў.

Па характару вымаўлення абрэвіятуры данага тыпа падзяляюцца на тры групы. Да першай групы адносяцца абрэвіятуры, якія вымаўляюцца па гуках, абазначаных адпаведнымі літарамі: *МУС, МАЗ* (Мінскі аўтазавод), *МЮД* (Міжнародны юнацкі дзень), *нэп, ТАСС, ДРЭС, ЗАГС, ГЭС.*

Да другой групы належаць абрэвіятуры, якія вымаўляюцца па назвах літар: *ЦВК* — цэ-вэ-ка, *МСГ* — эм-эс-гэ (Міністэрства сельскай гаспадаркі), *ЦК КПСС* — цэ-ка ка-пэ-эс-эс, *ССП* — эс-эс-пэ, *РТС* — эр-тэ-эс, *ММС* — эм-эм-эс, *ВЛКСМ* — вэ-эл-ка-эс-эм, *ДПУ* — дэ-пэ-у (Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне), *РВК* — эр-вэ-ка (Раённы выканаўчы камітэт).

Да трэцяй групы адносяцца абрэвіятуры, якія ў адной сваёй частцы вымаўляюцца па назвах літар, а ў другой — па гуках: *ЦДСА* — цэ-дэ-са (Цэнтральны дом Савецкай Арміі), *ДТСААФ* — дэ-тэ-сааф, *ФЦДГА* — эф-цэ-дэ-га (філіял Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва).

Складанаскарочаныя словы ініцыяльнага тыпа істотна адрозніваюцца ад звычайных слоў. Сэнс абрэвіятуры становіцца зразумелым тады, калі вядома, якое слова абазначаецца кожнай літарай абрэвіятуры: *МАЗ* — Мінскі аўтамабільны завод.

Складанаскарочаныя словы ініцыяльнага тыпа не распадаюцца, як іншыя самастойныя словы, на марфалагічныя часткі (корань, прыстаўку, суфікс).

Як правіла, назоўнікі гэтага тыпа не змяняюцца па склонах. Формы склонаў могуць набываць толькі некаторыя абрэвіятуры, а іменна абрэвіятуры, якія складаюцца з двух або некалькіх зычных і галоснай паміж імі *(МАЗ, МАЗы, МАЗаў, МАЗамі)* або з галоснай і зычнай *(ІЛ, ІЛы, на ІЛах).*

Абрэвіятуры ініцыяльнага тыпа звычайна не маюць і граматычных паказчыкаў ліку. Толькі некаторыя з іх дапускаюць ужыванне ў множным ліку: *МАЗы, ЗІЛы, ІЛы.*

Складанаскарочаныя словы ініцыяльнага тыпа не маюць таксама паказчыкаў граматычнага роду. Граматычны род такіх абрэвіятур часцей за ўсё вызначаецца па характару апошняга гука: калі, у прыватнасці, апошні гук абрэвіятуры зычны, то слова адносіцца да мужчынскага або ніякага роду *(ЦК* — Цэнтральны Камітэт, *ДСТ* — Добраахвотнае спартыўнае таварыства).

У некаторых выпадках род абрэвіятуры вызначаецца па роду апорнага слова таго словазлучэння, ад якога яна ўтворана: *ДРЭС* — Дзяржаўная раённая электрычная станцыя.

У складанаскарочаных словах ініцыяльнага тыпа абмежаваны словаўтваральныя сувязі, таму ад іх, як правіла, новыя словы не ўтвараюцца. Зрэдку новыя словы ад такіх назоўнікаў ужываюцца толькі ў размоўным стылі: *МТС* — эмтээсавец, эмтээсаўскі.

§ 392. Складанаскарочаныя словы змешанага тыпа па свайму характару набліжаюцца да ініцыяльных. Тут вылучаюцца словы, якія складаюцца:

а) з часткі слова і пачатковых гукаў (радзей — назваў літар) тых слоў, якія ўваходзяць у адпаведнае словазлучэнне: *БЕЛТА* (Беларускае тэлеграфнае агенцтва), *БелНДВІ* (Беларускі навукова-даследчы ветэрынарны інстытут), *райана, гарана, аблана, педвну, райЗАГС;*

б) з пачатковых гукаў слоў і часткі слова: *МІФЛІ* (Маскоўскі інстытут філасофіі і літаратуры), *ЛІФЛІ* (Ленінградскі інстытут філасофіі і літаратуры).

Род такіх абрэвіятур вызначаецца галоўным чынам па роду апорнага слова: *ІРЛІ* (Інстытут рускай літаратуры).

# НАЦІСК У НАЗОЎНІКАХ

§ 393. У назоўніках сучаснай беларускай мовы націск рознамясцовы, гэта значыць ён можа знаходзіцца на любым складзе: на першым (*бўсел, брóвар, вóраг, нéрат, пóрах, бўра, жы́ла, я́ма, вóка, лíсце, мóра, пóле*), на другім (*загáд, касцёр, нарóд, парóг, тумáн, варóна, карóва, салóма, палéна, сядлó*), на трэцім (*гаспадáр, журавéль, карабéль, камандзíр, барадá, рэвалю́цыя, чарадá, бервянó, жарабя́*), на чацвёртым (*арганізáтар, прапаганды́ст, кандыдатўра, маніфестáцыя, перабудóва, верацянó, перамяшчэ́нне*), на пятым (*веласіпеды́ст, сацыялагíзм, перавыхавáнне, паранагравáнне*), на шостым (*рэвалюцыянéр, прафесіяналíзм*) і г. д.

Пры змене склонавых форм назоўнікаў націск можа знаходзіцца на адным і тым жа складзе (*вéрш — вéршы, нарóд — нарóды, балóта — балóты, кóла — кóлы, нíва — нíвы*) і можа пераходзіць з аднаго складу на другі (*вартаўнíк — вартаўнікí, кавáль — кавалí, страхá — стрэ́хі, сцянá — сцéны, акнó — вóкны*). Усё гэта сведчыць аб тым, што для назоўнікаў сучаснай беларускай мовы характэрны два віды націску — нерухомы і рухомы.

## *Назоўнікі з нерухомым націскам*

### Назоўнікі з нерухомым націскам на корані

§ 394. Нерухомы націск на корані мае большасць назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Мужчынскі род: а) на першым каранёвым складзе: *бак, барс, бланк, бляск, бот, быт, бэз, вар, войт, воск, газ, гак, гвалт, гнеў, град, грам, гром, груз, грук, гук, дах, дыск, жах, жар, залп, знак, квас, клас, крок, крык, мел, метр, мрок, мыс, нюх, пах, піск, пункт, пуск, рак, рыс, свіст, свет, скарб, твар, ціск, чад, шум; áрышт, áтам, бéркут, бўйвал, вéнік, вóлат, вóжык, вóраг, гáнак, гóман, гóнар, грáдус, жáваранак, íней, клáпан, клóпат, кўбак, лáпаць, лóжак, лўбін, ля́мант, мéсяц, пóпел, рóзум, тáлент, тэ́рмін, цўкар, я́вар; вóднік, вўчань, вя́зень, гóрац, дáчнік, двóрнік, дзённік, зíмнік, злóснік, квéтнік, кнíжнік, лóдачнік, мáятнік, мнóжнік, пíльшчык, пóтнік, пы́льнік, плы́тнік, смéтнік, сы́рнік, трэ́скат, фáктар, шкóднік; вéтрык, двóрык, дóжджык, жáрцік, лáпцік, мóсцік, нóсік, сáдзік, стóлік, цвéцік; бяздóмнік, бяспўтнік, бяссмéртнік, выклáдчык, забéг, завáл, загáр, закáз, залёт, занóс, нагля́дчык, нагрўднік, наплéчнік, пад'ёмнік, паднóсчык, падрóстак, правóбраз, пракóнсул, прылáвак, прымўрак, прыпёк, прыплóд, прыцэ́л, разгрóм, размáх, расстрэ́л, саáўтар, сусвéт, узмáх, уклáд; недагля́д, недарóд, недахóп, паравáл, паранóс, параклáдчык, перапíсчык, паравóзчык, паражы́так, перапы́нак* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры некаторыя назоўнікі (*вяз, клён, комін, хлопец* і інш.) характарызуюцца няўстойлівым націскам: у множным ліку яны ўжываюцца з націскам як на корані, так і на канчатку.

*З краю на ўзгорку былі заўсёды добра відаць доўгія будыніны калгасных абор, свірнаў і некалькі вялізных стагодніх вя́заў* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Некалькі старых вязóў і клёнаў расло на дзядзінцы* (З. Бядуля. У дрымучых лясах). *Ліпы і кляны́ не варушылі голым яшчэ сваім веццем* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Кóміны двух заводзікаў ледзь дымілі ў неба* (К. Чорны. Спатканні з аспаватым чалавекам). *З закураных камінóў круціўся ўверх, быццам кудзеля, белы дым* (З. Бядуля. Плач пралесак). *Хлóпцы весела засмяяліся* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ідзе-цячэ ў хлапцóў размова* (Я. Колас. Новая зямля).

б) На другім каранёвым складзе: *абзáц, абцáс, абшáр, агрэ́х, азáрт, алéй, алéнь, алмáз, анóд, асóт, астрóг, атрáд, барáк, бая́н, білéт, булён, вагóн, вулкáн, гарóд, дыплóм, дэсáнт, жандáр, завóд, закóн, зенíт, кавáлак, кампóт, канáл, канвéрт, кардóн, касцёл, касцю́м, магнáт, магнíт, макéт, матóр, матрóс, метáл, мядзвéдзь, пажáр, палáц, палóн, пакéт, па-*

*па́р, парка́н, паро́г, паро́м, паса́г, патро́н, праду́кт, рае́н, рамо́нт, саве́т, сакрэ́т, саю́з, сезо́н, сена́т, сігна́л, сусе́д, тава́р, тало́н, фанта́н, чабо́р, шака́л, эфі́р; бура́чнік, буса́чнік, буфе́тчык, бярэ́знік, выда́тнік, гарбу́знік, даро́жнік, камо́рнік, капу́снік, каро́ўнік, каўба́снік, лімо́ннік, malі́ннік, пажа́рнік, паля́рнік, паро́мшчык; вузе́льчык, кало́сік, ражо́нчык, тало́нчык, хаму́цік; запаро́жац, загаво́ршчык, навуго́льнік, вынахо́днік* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры некаторыя назоўнікі (*тума́н, чаро́т* і іншыя) могуць мець націск не толькі на корані, але і на канчатку: *На Валю шугае тума́нам* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Сівым тумано́м атулілася Гнілое балота* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Узышло яркае сонца і пад яго праменнямі хутка раставалі і знікалі белыя пасмы тума́наў* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Сярод балот і тумано́ў не косіш болей для паноў* (З. Бядуля. Кліч волі). *Лянівa шэпчуцца чаро́ты* (М. Машара. Урачыстасць). *А рэчачка бяжыць, шапоча, калыша травы, чараты́* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Стала зноў добра чуваць, як шумяць верхавінкамі чараты́* (Я. Брыль. На Быстранцы).

в) На трэцім і на наступных каранёвых складах (па паходжанню гэтыя назоўнікі з'яўляюцца пераважна іншамоўнымі): *абажу́р, аванга́рд, аграно́м, акано́м, апара́т, атама́н, бараба́н, вітамі́н, генера́л, гарнізо́н, гарніту́р, дэлега́т, кабіне́т, капіта́н, капіта́л, леапа́рд, легіе́н, парасо́н, партыза́н, педаго́г, семіна́р, тратуа́р, чамада́н; алкаго́лік, армату́ршчык, мандары́ннік, трафарэ́тчык; апендыцы́т, арыгіна́л, гемаглабі́н, касмапалі́т, мерыдыя́н; бібліятэ́кар* і інш.

Жаночы род: а) на першым каранёвым складзе: *ба́ба, ба́ня, ба́за, ба́йка, ба́нда, ба́нка, блу́за, бля́ха, бо́мба, бо́чка, бу́льба, бу́ра, ва́пна, ва́рта, ве́жа, ве́ра, во́ля, во́спа, во́йна, ву́да, ву́ліца, вы́дра, га́йка, га́лка, гі́ра, гле́ба, глі́на, гру́ша, гры́ва, да́та, да́ча, до́гма, до́за, до́ля, ду́ля, е́жа, е́лка, жа́ба, жы́ла, ка́ва, ка́мера, ка́ра, ка́ша, ко́ўдра, крэ́йда, кра́ма, кры́га, ку́ля, ку́ча, ла́ва, лі́па, ло́дка, лу́жа, ля́мпа, ма́ма, ма́ра, ма́са, ма́ска, ме́ра, мо́ва, мо́да, мо́рква, му́ха, мя́та, ні́ва, но́рма, па́ра, пля́ма, пра́ўда, про́за, пу́га, пу́шча, ра́ма, ра́на, ру́жа, ры́ба, рэ́йка, са́жа, сі́ла, ску́ра, сла́ва, слі́ва, спра́ва, стра́ва, сцю́жа, то́на, ту́ндра, ха́та, хва́ля, хі́ба, хма́ра, цэ́гла, ша́пка, ша́хта, шру́ба, шы́ба, шы́на, я́гада, я́ма; во́сень, во́сь, га́вань, гразь, гаць, мыш, ноч, печ, соль; бель, высь, глыб, гладзь, мазь, мель, прэдь; бі́тва, бры́тва, во́льнасць, ве́чнасць, гну́ткасць, го́рдасць, до́ўбня, дро́бязь, дру́жба, кла́дка, кля́тва, ла́піна, лу́жына, лы́сіна, пра́ўка, про́сьба, пру́ткасць, ста́расць, схі́льнасць, чу́тка, чы́стка, чы́тка; пе́сенька, пчо́лка, ру́чка, сце́нка, шчо́чка; апра́ва, атру́та, ахо́ва, бязла́дзіца, бяссо́нніца, бясхле́біца, забе́лка, загу́ба, заду́ма, заме́на, зама́зка, загру́жанасць, закру́гленасць, пагро́за, падру́ба, прамудрасць, прыні́жанасць, разбі́тасць, раскі́данасць, размо́ва, разру́ха* і інш.

б) На другім каранёвым складзе: *ава́рыя, агрэ́сія, аку́ла, анке́та, аптэ́ка, арэ́нда, асо́ба, ата́ва, ата́ка, бала́да, бацы́ла, блока́да, будо́ва, бяро́за, варо́на, вяро́ўка, гадзі́на, газе́та, гіта́ра, грана́та, грані́ца, далі́на, даро́га, дружы́на, дубро́ва, жало́ба, зало́за, кало́да, калі́на, каро́ва, каро́на, кало́на, капу́ста, кватэ́ра, краі́на, крушы́на, крыні́ца, кудзе́ля, лагчы́на, лапа́та, лучы́на, магі́ла, малі́на, маты́ка, міну́та, нага́йка, нату́ра, нядзе́ля, папе́ра, пячо́ра, пячу́ра, рабі́на, радзі́ма, сало́ма, таблі́ца, трыбу́на, трыво́га, турбі́на, фане́ра; паля́на, паса́да, хваро́ба; бадзе́расць, варо́жасць, гаро́тнасць, мало́чнасць, маста́цкасць, машта́бнасць, адзе́жына, бало́ціна, гаро́шына, жале́зіна, хава́ншчына, атле́тыка, лінгві́стыка, сімво́ліка, схала́стыка; гало́ўка, зяме́лька, пало́ска, пасце́лька, сіро́тка, старо́нка, цялежка́, шыне́лька* і інш.

в) На трэцім і наступных каранёвых складах: *канцыля́рыя, папяро́са; акраба́тыка, сінані́міка* і інш.

Ніякі род: а) на першым каранёвым складзе: *блю́да, во́йска, го́ра, го́рла, дрэ́ва, ду́ла, зе́лле, крэ́сла, ле́та, лі́ха, лы́ка, ма́сла, мы́ла, мя́са, са́ла, свя́та, се́на, сі́та, сло́ва, сэ́рца, це́ла, це́ста, шы́ла; бо́ртніцтва, бра́цтва, ва́рварства, пі́сарства, шэ́фства, ва́рыва, во́рыва, крэ́-*

*сіва, кýрыва, пáліва, прáдзіва, жы́тнішча, пéчышча, пóйла, стóйла, цёрла, плáванне, снéданне; дрэ́ўца, кры́льца, ры́льца, шкéльца, жы́цейка, лéцейка, мéсцейка, сóнейка, сэ́рцайка; пасéлішча, выкáрмліванне, выпíльванне, залéжванне, закýпніцтва, застýпніцтва, нявóльніцтва, перакýпніцтва, сузóр'е, сулáддзе, суцéнне, узвы́шша, узлéссе, узмéжжа, узмóр'е* і інш.

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры назоўнік *воблака* ў множным ліку ўжываецца з націскам на корані і з націскам на канчатку, параўн.: *Беласнежныя вóблакі ціха плылі над вадой* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Стаіць на ўзлессі дом ад казак недалёка: і мачты за акном, і ветразі аблóкаў* (А. Куляшоў. Юнацкі свет). *Што тварыцца — невядома ў нутрах гнеўных аблакóў* (Я. Колас. Вераб'іная ноч).

Заўвага 2. Назоўнік *мора* ў літаратурнай мове мае нерухомы націск на корані, аднак у мастацкай літаратуры ён часам сустракаецца і з націскам на канчатку.
*Бавоўны белыя мары́ плывуць на нашу стэп* (П. Броўка. Браты). *Прад табой усталі б з далячыняў маякі марóў* (К. Кірэенка. Маладосць). *На варце краіны — на сушы, у марáх — байцы-камсамольцы ў першых радах* (Я. Колас. Чырвонасцяжнаму камсамолу).

б) На другім каранёвым складзе: *балóта, калéна, кары́та, палéна; вясéлле, агéнцтва, акцёрства, герóйства, грамáдства, дзяжýрства, калéцтва, нарóдніцтва, сусéдства, сялянства, крыні́чышча, палóтнішча; акéнца, бярвéнца, гумéнца, цяпéльца; бездарóжжа, узбалóцце* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі, калі назоўнік *балóта* мае ў множным ліку націск не на корані, а на канчатку.
*А там, дзе ўчора багна прэла, гнілі век-векам балаты́, збажынка сёння зарунела і спее колас залаты* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

в) На трэцім каранёвым складзе (звычайна гэтыя назоўнікі ўтвораны пры дапамозе суфіксаў ад адпаведных назоўнікаў мужчынскага роду): *партызáнства, сакратáрства, тавары́ства, хулігáнства* і інш.

## Назоўнікі з нерухомым націскам на канчатку

§ 395. Нерухомы націск на канчатку мае невялікая група невытворных і вытворных назоўнікаў жаночага і ніякага роду, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку: а) *дрыгвá, жудá, зарá, імглá, іржá, карá, крапівá, мукá, нудá, смугá; хадá, хвалá, яздá, хлусня́, дзетварá, машкарá, варажбá, касьбá, маладзьбá, пальбá, сяўбá, хадзьбá, глухатá, любатá, мерзлатá, прастатá, слепатá, збажынá, зверынá, свежынá, старынá, цалінá, ярынá, вастрыня́, дабрыня́, таўшчыня́, цішыня́, белізнá, гнілізнá, жаўцізнá, круцізнá, крывізнá, левізнá, навізнá, прамізнá, сівізнá* і інш.;
б) *малакó, шкло, ярмó, дабрó, дно, зло, нутрó, раднó, пшанó, жнівó, святлó, цяглó, цяплó, пітвó, шытвó, бадыллё, галлё, вараннё, жыллё, звяр'ё, куп'ё, стар'ё, кумаўствó, сватаўствó, старшынствó, удаўствó, франтаўствó, харасгвó, выццё, зліццё, рыццё, забыццё, набыццё, жытцó, свінчó* і інш. Асобна стаяць назоўнікі *лязó, сцябó*, якія маюць формы не толькі адзіночнага, але і множнага ліку.

## Назоўнікі з нерухомым націскам на суфіксе

§ 396. Нерухомы націск на суфіксе маюць:
1. Назоўнікі мужчынскага роду з суфіксамі **-ор(-ёр), -ыр(-ір), -іст, -ат, -ант, -ент, -ізм, -анец(-янец), -анін(-янін), -атар, -атнік(-ятнік), -оўнік:** *баксёр, грымёр, прызёр, танцóр, шахцёр; брыгадзíр камандзíр, касíр, фуражы́р; гармані́ст, журналíст, камунíст, марксíст, танкíст, штабíст, штангíст; адрасáт, рэктарáт, эмірáт; арыштáнт, дыверсáнт, кватарáнт, музыкáнт, сімулянт; апанéнт, асістэ́нт, канкурэ́нт, рэцэнзéнт; камунíзм, ленінíзм, ліры́зм, сацыялíзм, туры́зм; амерыкáнец, афрыкáнец, мексікáнец, рэспублікáнец, хутарáнец; галічáнін, егіпця́нін, мінчáнін;*

*вентылятар, губернатар, імператар, кампілятар, ліквідатар, наватар, правакатар; гусятнік, куратнік, парасятнік, трусятнік, цялятнік, ягнятнік; бабоўнік, бульбоўнік, зімоўнік, мядоўнік, садоўнік.*

Акрамя таго, у радзе назоўнікаў націск знаходзіцца на суфіксах **-іт(-ыт), -ін(-ын), -ар(-яр):** *бранхіт, фасфарыт; асяцін, грузін, мардвін; фармуляр, юбіляр.*

2. Назоўнікі жаночага роду з суфіксамі **-арн**-*я*, **-отк**-*а*, (**-атк**-*а*), **-от**-*а*, **-оўн**-*я*, **-ільн**-*я* **-еч**-*а*(**-эч**-*а*), **-неч**-*а*, **-ух**-*а*(**-юх**-*а*), **-осць**, **-ур**-*а*, **-ацы**-*я*, **-ацін**-*а* (**-яцін**-*а*), **-анін**-*а*(**-янін**-*а*): *кнігарня, малатарня, сталярня, сячкарня; брусчатка, дрыготка, пякотка, трашчотка; блазнота, дурнота, ікота, ламота, рвота, спякота, сумота; вазоўня, шпакоўня; бялільня, прадзільня, сушыльня; галеча, малеча, прастэча, пустэча, халаднеча; балбатуха, жаўтуха, квактуха, рагатуха, сівуха, хітруха; весялосць, маладосць, прыгажосць; агентура, кандыдатура, кубатура; пракуратура; акупацыя, ізаляцыя, каналізацыя, электрыфікацыя; гусяціна, кураціна, кісляціна, тухляціна; беганіна, блытаніна, мешаніна, цяганіна.*

Рад назоўнікаў жаночага роду мае націск на суфіксах **-ін**-*а(я)*, **-ын**-*а(я)*, **-анк**-*а(*-**янк**-*а)*, **-ніц**-*а*, **-іц**-*а*: *багіня, гераіня, княгіня, шахіня; гардыня, цвярдыня; каніна, свініна, раўніна, цясніна, чужына; бляшанка, валасянка, вушанка, дуплянка, калыханка, маўчанка, служанка; бальніца, байніца, газніца, грабніца, драбніца, зарніца, начніца, чараўніца; ваўчыца, гарчыца, жывіца, ласіца, маладзіца, святліца, цяпліца, царыца, бліскавіца, касавіца* і інш.

Заўвага. Назоўнік *бальніца* ў мове мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове можа ўжывацца з націскам на корані: *Той доўга ляжаў у б о л ь н і ц ы і ледзьве ачуняў* (К. Чорны. Лявон Бушмар).

3. Назоўнікі ніякага роду з суфіксам **-анішч**-*а* (**-янішч**-*а*): *аўсянішча, бульбянішча, канаплянішча* і інш.

Акрамя таго, нерухомы націск маюць некаторыя назоўнікі з суфіксам **-енн**-*е* (**-энн**-*е*): *вызваленне, кармленне, праўленне, пранікненне, цвіценне, шыпенне; прашэнне, цячэнне* і інш.

4. Назоўнікі агульнага роду з суфіксамі **-аг**-*а*(**-яг**-*а*), **-ак**-*а*(**-як**-*а*): *бадзяга, туляга; гуляка, пісака, чытака* і інш.

### Назоўнікі з нерухомым націскам на прыстаўцы

§ 397. Нерухомы націск на прыстаўцы маюць:

1. Нешматлікія назоўнікі мужчынскага роду з словаўтваральнымі прыстаўкамі **вод- за-, па-, пра-, пры-:** *водбліск, водгалас, водгук, водсвет; замаразак, зараснік, зацемак; пасынак, парастак; прадзед, праўнук; прымаразак, прыпечак, прыцемак.*

Асобную групу складаюць назоўнікі мужчынскага роду з нерухомым націскам на прыстаўках дзеяслоўнай асновы **во-, вод-, до-, по-, под-, про-, роз- (рос-)**, у якіх адбыліся пэўныя фанетычныя змены: *вобыск, воклік, вокрык; водклік, водкуп, водпіс, водпуск, водруб, водціск; довад, догляд, доказ, докід, допіс, допыт, доступ, дотык; побыт, погляд, подзвіг, подых, позірк, покід, покрыў, попыт, посвіст, поступ, поціск, почырк, пошук; подбег, подкуп, подпіс, подступ, подсціл; пробліск, пропуск; роздум, росквіт, роскід, роспіс, роспыт, росчырк* і інш. Параўн. месца націску ў адпаведных дзеясловах: *абыскаць, адклікаць, дагледаць, паглядаць, падбягаць, прапускаць, раскідаць* і інш.

Нерухомы націск маюць і некаторыя назоўнікі мужчынскага роду з прыстаўкамі дзеяслоўнай асновы **вы-, за-, на-, над-, пры-, пера-, пярэ-:** *выбар, выбух, вывіх, выган, выгляд, выдых, выклад, выкрут, выкрык, выкуп, вынас, выпас, выпуск, выраб, выраз, высеў, выстрал, выступ, выхад, выхлап, выварат, выкапень, выхадзец, вывадак, выліваk, вырадак, выбаршчык, вывершчык, выдумшчык; завад, закід, закіс, заклік,*

*за́куп, за́піс, за́пуск, за́сціл; на́кід, на́кіп, на́мысел, на́раст, на́рыс, на́ступ, на́сып, на́ціск, на́дпіс; пры́клад, пры́ступ; пе́ракіс, пе́рапіс; пяро́зімак, пяро́палах* і інш.

2. Нешматлікія назоўнікі жаночага роду з словаўтваральнымі прыстаўкамі **по-, про-**: *по́нізь* (размоўн.), *про́зелень, про́сінь*.

Асобную групу складаюць назоўнікі жаночага роду з нерухомым націскам на прыстаўках дзеяслоўнай асновы **по-, про-**, у якіх адбыліся пэўныя фанетычныя змены: *по́мач, по́крыўка, по́ліўка, по́сцілка; про́галадзь, про́паведзь, про́разь, про́халадзь* і інш. Параўн. месца націску ў адпаведных дзеясловах: *памага́ць, прагалада́цца* і інш.

Націск знаходзіцца на прыстаўцы **без-** у тых выпадках, калі назоўнікі жаночага роду маюць чыстую аснову на мяккі зычны або *ж*: *бе́здань, бе́зладзь, бе́злюдзь, бе́ссань, бе́сцань, бе́здараж*.

У некаторых назоўніках жаночага роду нерухомы націск знаходзіцца на прыстаўках дзеяслоўнай асновы **вы-, за-, на-, пры-**: *вы́барка, вы́веска, вы́грузка, вы́думка, вы́кідка, вы́клейка, вы́лазка, вы́наска, вы́печка, вы́піска, вы́плаўка, вы́праўка, вы́разка, вы́садка, вы́сечка, вы́сылка, вы́сыпка, вы́стаўка, вы́трымка, вы́хадка, вы́цяжка, вы́шыўка, вы́скачка, вы́слуга, вы́гнутасць, вы́трыманасць; за́гарада, за́суха, за́гваздка, за́саўка, за́шчапка, за́тхласць, за́вязь, за́вадзь, за́гарадзь, за́ездзь, за́кісь, за́маразь, за́меиь; на́брыдзь, на́вісь, на́кіп, на́ледзь, на́расць; пры́вязь, пры́месь* і інш.

### *Асаблівасці націску ў складаных назоўніках*

§ 398. Складаным назоўнікам сучаснай беларускай мовы ўласцівы н е р у х о м ы націск. Толькі адзінкавыя складаныя назоўнікі, якія ў корані апошняй састаўной часткі маюць беглы галосны, характарызуюцца р у х о м ы м націскам. Гэта назоўнікі тыпу *працадзе́нь*, якія ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку і ў родным склоне множнага ліку маюць націск на корані, а ва ўсіх іншых склонах адзіночнага і множнага ліку — на канчатку.

§ 399. Пераважная большасць складаных і складанаскарочаных назоўнікаў складовага тыпа мае націск на корані апошняй састаўной часткі: *агнямё́т, бурава́л, бурало́м, вадаме́р, вадаспа́д, верталё́т, ветраве́й, галаварэ́з дабрабы́т, дабрадзе́й, дармае́д, душагу́б, земляме́р, касаго́р, кантраба́нда, курасле́п, кулямё́т, мінамё́т, небакра́й, небасхі́л, небаскро́б, палявод, плытаго́н, параво́з, параход, свінабо́й, сенако́с, садаво́д, самалё́т, сухаве́й, хлебапё́к, хлебаро́б, яснацве́т; бураве́снік, лістано́сец, самазва́нец, моваазна́ўства, прыродазна́ўства, справазда́ча, сцягано́сец; абко́м, выканко́м, калга́с, камсо́рг, камсамо́л, лясга́с, леспрамга́с, лінко́р, райко́м, рыбга́с, саўга́с, саўнарга́с, саўнарко́м; прадатра́д, прафсаю́з, райцэ́нтр, сельсаве́т* і інш.

§ 400. У радзе выпадкаў складаныя назоўнікі маюць націск на суфіксе: *водазабеспячэ́нне, газаўтварэ́нне, лесаразвядзе́нне, мылаварэ́нне, хлебапячэ́нне; лесакіраўні́цтва, суднабудаўні́цтва; кругаваро́т* і інш.

§ 401. Зрэдку сустракаюцца выпадкі, калі складаныя назоўнікі маюць націск на канчатку. Такі націск уласцівы толькі назоўнікам ніякага роду тыпу *ільнова.такно́, кровазліццё́*, а таксама назоўнікам жаночага і ніякага роду з часцінкай **паў-** у першай састаўной частцы: *паўімгла́, паўсукно́* і інш.

§ 402. У некаторых складаных назоўніках націск знаходзіцца на каранёвым складзе першай састаўной часткі: *ле́тапіс, ру́капіс, ско́рапіс*.

§ 403. Вельмі рэдкімі з'яўляюцца выпадкі, калі націск падае на галосную, якая злучае састаўныя часткі складанага назоўніка: *куро́дым, сыро́ватка* і інш.

§ 404. Складанаскарочаныя назоўнікі, утвораныя з пачатковых гукаў асобных слоў, з'яўляюцца аднаскладовымі і маюць нерухомы націск, як і простыя аднаскладовыя назоўнікі: *ЗІЛ, МАЗ, МУР, ТАСС, дзот, дот, нэп, цэц* і інш.

§ 405. У складанаскарочаных назоўніках, якія ўтвораны з пачатковых літар асобных слоў, націск заўсёды знаходзіцца на апошнім складзе: *БССР* (бэ-эс-эс-э́р), *ІТР* (і-тэ-э́р), *КПСС* (ка-пэ-эс-э́с), *МТС* (эм-тэ-э́с), *КДБ* (ка-дэ-бэ́), *ПТР* (пэ-тэ-э́р), *РВК* (эр-вэ-ка́), *РДК* (эр-дэ-ка́), *СССР* (эс-эс-эс-э́р), *ЦК* (цэ-ка́) і інш.

§ 406. Складанаскарочаныя назоўнікі, якія ўтвораны з пачатковых складоў і пачатковых гукаў асобных слоў, маюць нерухомы націск на розных складах: *БЕЛТА́, РОСТА, ІРЛІ, аблана́, райза́, райфа́, сельпо́* і інш.

§ 407. Рад складаных назоўнікаў у сучаснай беларускай мове маюць два націскі. Гэта назіраецца тады, калі ў састаў складанага назоўніка ўваходзяць два самастойныя і адносна раўнапраўныя словы, напрыклад: *вагóн-рэстара́н, салóн-вагóн, ха́та-чыта́льня, шкóла-інтэрна́т* і інш.

## Назоўнікі з рухомым націскам

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з аднаго каранёвага складу на другі

§ 408. Пераход націску з аднаго каранёвага складу на другі характэрны для назоўніка ніякага роду *возера*, які ў адзіночным ліку мае націск на першым каранёвым складзе, а ў множным ліку — на другім каранёвым складзе: *во́зера — азёры.*

У спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* назоўнік *возера* мае ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку націск на тым жа каранёвым складзе, што і ў адзіночным ліку: *два во́зеры, тры во́зеры, чатыры во́зеры.*

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з аднаго суфікса на другі

§ 409. Націск пераходзіць з аднаго суфікса на другі толькі ў рознаскланяльных назоўніках *армянін, дваранін, мешчанін, селянін.* У адзіночным ліку гэтыя назоўнікі маюць націск на суфіксе адзінкавасці **-ін**, а ў множным ліку — на суфіксе асобы **-ан(-ян)**: *армяні́н — армя́не, дваранін — двара́не, мешчанін — мяшча́не, селяні́н — сяля́не.*

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з кораня на канчатак

§ 410. Сярод назоўнікаў, у якіх націск пераходзіць з кораня на канчатак, вылучаецца некалькі груп:

а) першую групу складаюць назоўнікі мужчынскага роду, якія ў адзіночным ліку маюць націск на корані, а ў множным ліку — на канчатку: *брат — браты́, дзед — дзяды́, дом — дамы́, дуб — дубы́, клін — кліны́, кум — кумы́, лес — лясы́, муж — мужы́, пан — паны́, плот — платы́, плуг — плугі́, пот — паты́, рот — раты́, сват — сваты́, сын — сыны́, хлеб — хлябы́; бе́раг — берагі́, бу́сел — буслы́, ве́рас — верасы́, ве́чар — вечары́, во́бад — абады́, во́лас — валасы́, го́лас — галасы́, го́рад — гарады́, грэ́бень — грабяні́, дзя́дзька — дзядзькі́, ко́лас — каласы́, пра́вад — правады́, ся́бар — сябры́, хо́лад — халады́, ху́тар — хутары́* і інш.

У гэту групу ўваходзяць таксама назоўнікі ніякага роду *жыта — жыты́, поле — палі́, пра́ва — правы́.*

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры многія з назоўнікаў гэтай групы ў асобных склонах маюць celrознае месца націску. Так, напрыклад, аднаскладовыя назоўнікі *брод, воз, грунт, дым, круг, лад, луг, мел, мёд, порт, сад, снег, тыл* у месным склоне адзіночнага ліку маюць паралельныя формы з націскам на корані (норма) і з націскам на канчатку (адхіленне ад нормы).

*Плюхацела вада ў бро́дзе* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Хлопец стройны коні поіць тамака ў брады́* (Я. Купала. Усе разам). *Хлапчук сядзіць на во́зе* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *На еазу́ сядзелі двое* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *І ўсё згарэла дачысцютка, прапала марна ў чорным ды́ме* (Я. Колас. Новая зямля). *У дыму́ пажараў патанулі далі* (М. Танк. Янук Сяліба). *У сне́зе туліцца дарога* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Увесь у снягу́ ён паволі сунуўся дадому* (З. Бядуля. У дрымучых лясах).

Заўвага 2. Некаторыя аднаскладовыя, а таксама двух- і трохскладовыя назоўнікі (*год, зяць, мур, раз, склеп, сцяг, час, шрам, штаб; вецер, мароз, доктар, заяц, каштан, курган, корпус, лекар, майстар, пашпарт, цэбар* і іншыя) у множным ліку ўжываюцца з націскам не толькі на канчатку, але і на корані.

*Салома кудламі вісела: яе вятры́ параздзімалі* (Я. Колас. Новая зямля). *Сумна вётры веюць* (Я. Колас. Я не знаю...). *Гады́ за гадамі плылі* (Я. Колас. Майму другу). *Шумна праходзяць творчыя го́ды* (Я. Колас. Партыя і народ). *Зайцо́ў не гоніць і не ловіць* (Я. Колас. Новая зямля). *Бродзіць вецер шумлівы, станогі, белых за́йцаў на моры пасе...* (З. Бядуля. Бродзіць вецер). *Моцна яе грудзі марaза́мі скуты* (Я. Колас. На рэчцы зімою). *Надышлі маро́зы, рэчкі закавалі* (Я. Колас. Зіма). *Узняты сотні рук сяброўскіх да полымя сцягоў чырвоных* (М. Аўрамчык. Шляхамі дружбы). *Сця́гі савецкія, сця́гі народныя хай нас вядуць па шляху перамог!* (Гімн Савецкага Саюза).

б) Другую групу складаюць аднаскладовыя назоўнікі мужчынскага роду, якія ў адзіночным ліку маюць націск на корані (за выключэннем меснага склону), а ў месным склоне адзіночнага і ва ўсіх склонах множнага ліку — на канчатку: *бок — на баку́ — бакі́, бой — у баі́ — баі́, вір — у віры́ — віры́, гай — у гаі́ — гаі́, край — у краі́ — краі́, мур — у муры́ — муры́, рай — у раі́ — раі́, рой — аб раі́ — раі́, строй — у страі́ — страі́* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры першай трэці XX стагоддзя некаторыя назоўнікі, у прыватнасці *бор*, у месным склоне адзіночнага ліку ўжываліся іншы раз з націскам на корані, што ў сучаснай мове з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы: *У вечным бо́ры цемнатворы скачуць, плачуць, весяляцца* (Я. Купала. У вечным боры).

в) Трэцюю групу складаюць назоўнікі мужчынскага роду, якія ў назоўным (часам і ў вінавальным) склоне адзіночнага ліку маюць націск на корані, ва ўсіх іншых склонах адзіночнага, а таксама ў множным ліку маюць націск на канчатку: *біч — біча́ — бічы́, боршч — баршчу́ — баршчы́, горб — гарба́ — гарбы́, двор — двара́ — двары́, драч — драча́ — драчы́, дрозд — дразда́ — драздьі́, збан — збана́ — збаны́, кіт — кіта́ — кіты́, ключ — ключа́ — ключы́, крот — крата́ — краты́, кот — ката́ — каты́, куст — куста́ — кусты́, леў — ільва́ — ільвы́, ліст — ліста́ — лісты́, лось — ласяі́ — ласі́, меч — мяча́ — мячы́, морж — маржа́ — маржы́, нож — нажа́ — нажы́, пень — пня — пні, плыт — плыта́ — плыты́, смоўж — смаўжа́ — смаўжы́, стол — стала́ — сталы́, струк — струка́ — струкі́, хвост — хваста́ — хвасты́, цвік — цвіка́ — цвікі́, шпак — шпака́ — шпакі́, абу́х — абуха́ — абухі́, асёл — асла́ — аслы́, барсу́к — барсука́ — барсукі́, бізу́н — бізуна́ — бізуны́, інды́к — індыка́ — індыкі́, каву́н — кавуна́ — кавуны́, кама́р — камара́ — камары́, кула́к — кулака́ — кулакі́, муро́г — мурагу́ — мурагі́, піро́г — пірага́ — пірагі́, тапо́р — тапара́ — тапары́, шчупа́к — шчупака́ — шчупакі́, язы́к — языка́ — языкі́* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове некаторыя назоўнікі гэтай групы ва ўскосных склонах адзіночнага ліку ўжываюцца таксама з націскам на корані: *«Во́ўка ўпалявау?» — запытаў дзеда* (Я. Колас. Дрыгва). *Дзед сядзеў на кучы лам'я, прыкрытага тоўстым пла́стам яловых лапак* (там жа). *З бл́інам у руцэ ён важна крочыў па вуліцы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Над зба́нам узняў ён лом, ад гліны яго абцёршы* (У. Нядзведскі. Скарб). *Вось гэта дошка, якая ладымаецца ўверх разам з цві́кам* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

г) Чацвёртую групу складаюць назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія ў адзіночным ліку і ў назоўным і вінавальным склонах множ-

нага ліку маюць націск на корані, а ва ўсіх іншых склонах множнага ліку — на канчатку: *вус — ву́са — ву́сы — вусо́ў, зуб — зу́ба — зу́бы — зубо́ў, ноч — но́чы — но́чы — начэ́й.*

У спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* назоўнікі мужчынскага роду *вус, зуб* у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на канчатку: *два вусы́, тры зубы́* і г. д.

У размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры назоўнік жаночага роду *ноч* у спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку таксама можа мець націск на канчатку.

*Дзве н а ч ы́ пошукаў нічога не далі* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Тры дні і тры н а ч ы́ бушаваў агонь* (М. З а р э ц к і. Сцежкі-дарожкі). *Чатыры н а ч ы́ спатрэбілася разведчыку, каб дакладна вывучыць абарону немцаў* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Асобна стаяць нешматлікія назоўнікі множнага ліку, якія ў назоўным і вінавальным склонах маюць націск на корані, а ва ўсіх астатніх склонах — на канчатку: *гру́дзі — грудзе́й, дро́жджы — дражджэ́й, лю́дзі — людзе́й, са́ні — сане́й.*

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з канчатка на корань

§ 411. 1. Часцей за ўсё націск пераходзіць з канчатка на корань у назоўніках жаночага роду. У адзіночным ліку гэтыя назоўнікі маюць націск на канчатку, а ў множным — на корані, напрыклад: *аса́ — во́сы, асака́ — асо́кі, барада́ — баро́ды, баразна́ — баро́зны, барана́ — баро́ны, бяда́ — бе́ды, вада́ — во́ды, вайна́ — во́йны, вярба́ — ве́рбы, вясна́ — вё́сны, вяха́ — ве́хі, галава́ — гало́вы, гара́ — го́ры, града́ — гра́ды, дзяжа́ — дзе́жы, дзясна́ — дзё́сны, дуга́ — ду́гі, душа́ — ду́шы, жняя́ — жне́і, зіма́ — зі́мы, зямля́ — зе́млі, каза́ — ко́зы, капа́ — ко́пы, каса́ — ко́сы, лаза́ — ло́зы, мяжа́ — ме́жы, мятла́ — мё́тлы, нага́ — но́гі, нара́ — но́ры, пара́ — по́ры, піла́ — пі́лы, пліта́ — плі́ты, пчала́ — пчо́лы, пята́ — пя́ты* і інш.

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры (асабліва ў мове вершаў) некаторыя з адзначаных назоўнікаў, а іменна *зіма, зямля, нага, рука, страха, саха,* ва ўскосных склонах адзіночнага ліку іншы раз сустракаюцца з націскам на корані, а назоўнікі *струна, сцяна* ў множным ліку — з націскам на канчатку; такое ўжыванне гэтых назоўнікаў абумоўлена ўплывам некаторых мясцовых гаворак.

*Люблю я з і м у з маразамі, завеі белыя ў палях...* (Я. К о л а с. Песні зімы). *На з е́ м л ю сцелецца навал* (Цётка. Лес). *У старых чаравіках на босу н о́ г у ён паволі клыпаў па дарозе* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Ты ў чыю гаворыш р у́ к у і сыкаеш вужакаю?* (Я. К о л а с. Зяць). *Рве без жалю вецер с т р э́ х у* (Я. К о л а с. Удовіна хата). *І вось жыві тут, разжывайся, хоць сам у с о́ х у запрагайся* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Водзіць пальцам худым па сталёвых с т р у н а́ х, к песні-музыцы ладзіцца, строе; Водклік б'ецца ад струн па сцюдзёных с ц я н а́ х, заміраючы ў сховах пакояў* (Я. К у п а л а. Курган).

Назоўнікі гэтай групы ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў назоўным (вінавальным) склоне множнага ліку маюць націск на канчатку: *дзве шчакі́, тры касы́, чатыры жняі́* і г. д.

2. Націск можа пераходзіць з канчатка на корань і ў невялікай колькасці назоўнікаў ніякага роду. У адзіночным ліку гэтыя назоўнікі маюць націск на канчатку, а ў множным — на корані: *акно́ — во́кны, бервяно́— бярве́нні, брыво́ — бро́вы, бяльмо́—бе́льмы, валакно́—вало́кны, вядро́ — ве́дры, вясло́ — вё́слы, гняздо́ — гнё́зды, гумно́ — гу́мны, дупло́ — ду́плы, звяно́ — зве́нні, крыло́ — кры́лы, палатно́ — пало́тны, памяло́ — памё́лы, пісьмо́ — пі́сьмы, плячо́ — пле́чы, сядло́ — сё́длы* і інш.

Адзначаныя назоўнікі ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на канчатку: *два вядры́, тры пісьмы́, чатыры акны́* і г. д.

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з суфікса на канчатак

§ 412. Пераход націску з суфікса на канчатак уласцівы некаторым назоўнікам мужчынскага роду, якія ўтвораны ад розных часцін мовы пры дапамозе суфіксаў **-ец, -ік, -нік, -ан, -ач, -ак(-як), -няк, -ок(-ёк), -ар, -еж(-ёж), -іт, -шчык(-аўшчык), -ун, -ух, -ук, -чук.** Гэтыя назоўнікі маюць у назоўным (а часам і ў вінавальным) склоне адзіночнага ліку націск на адзначаных суфіксах, ва ўсіх жа іншых склонах адзіночнага ліку і ў множным ліку яны маюць націск на канчатку: *барэ́ц — барца́ — барцы́, ганéц — ганца́ — ганцы́, глушэ́ц — глушца́ — глушцы́, касéц — касца́ — касцы́, купéц — купца́ — купцы́, лавéц — лаўца́ — лаўцы́, мудрэ́ц — мудраца́ — мудрацы́, бранявíк — браневіка́ — браневікí, грузавíк — грузавіка́ — грузавікí, ледавíк — ледавіка́ — ледавікí, паравíк — паравіка́ — паравікí, будаўнíк — будаўніка́ — будаўнікí, выпускнíк — выпускніка — выпускнікí, жартаўнíк — жартаўніка́ — жартаўнікí, кіраўнíк — кіраўніка́ — кіраўнікí, буда́н — будана́ — буданы́, вуса́ч — вусача́ — вусачы́, дзярка́ч — дзеркача́ — дзеркачы́, каса́ч — касача́ — касачы́, крумка́ч — крумкача́ — крумкачы́, вапня́к — вапняку́ — вапнякí, вятра́к — ветрака́ — ветракí, дзіва́к — дзівака́ — дзівакí, зямля́к — земляка́ — землякí, касця́к — касцяку́ — касцякí, мара́к — марака́ — маракí, свая́к — сваяка́ — сваякí, дубня́к — дубняку́ — дубнякí, лазня́к — лазняку́ — лазнякí, маладня́к — маладняку́ — маладнякí, бяло́к — бялка́ — бялкí, вазо́к — вазка́ — вазкí, гудо́к — гудка́ — гудкí, замо́к — замка́ — замкí, друка́р — друкара́ — друкары́, млына́р — млынара́ — млынары́, пясня́р — песняра́ — песняры́, сталя́р — сталяра́ — сталяры́, капéж — капяжу́ — капяжы́, плацёж — плацяжу́ — плацяжы́, барацьбíт — барацьбіта́ — барацьбіты́, кранаўшчы́к — кранаўшчыка́ — кранаўшчыкí, бягу́н — бегу́на — бегуны́, скаку́н — скакуна́ — скакуны́, шату́н — шатуна́ — шатуны́, кажу́х — кажуха́ — кажухí, вяпру́к — вепрука́ — вепрукí, пісарчу́к — пісарчука́ — пісарчукí.*

### Назоўнікі, у якіх націск пераходзіць з канчатка на суфікс

§ 413. 1. Націск можа пераходзіць з канчатка на суфікс у некаторых назоўніках жаночага роду, якія заканчваюцца на **-ін-**я(**-ын-**я), **-ат-**а. Гэтыя назоўнікі ў адзіночным ліку маюць націск на канчатку, а ў множным ліку — на суфіксе: *велічыня́ — велічы́ні, вышыня́ — вышы́ні, глыбіня́ — глыбíні, далечыня́ — далячы́ні, старшыня́ — старшы́ні; віднатá — віднóты, дабратá — дабрóты, кіслатá — кіслóты, пустатá — пустóты, частатá — частóты, яснатá — яснóты.*

Канкрэтныя назоўнікі гэтай групы ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на канчатку: *дзве кіслаты́, тры старшыні́* і г. д.

2. Асобна стаіць невялікая група рознаскланяльных назоўнікаў ніякага роду, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць націск на канчатку, а ва ўсіх іншых склонах адзіночнага ліку і ва ўсіх склонах множнага ліку — на суфіксе: *асляня́ — асляня́ці — асляня́ты, арляня́ — арляня́ці — арляня́ты, бабраня́ — бабраня́ці — бабраня́ты, бусляня́ — бусляня́ці — бусляня́ты, ваўчаня́ — ваўчаня́ці — ваўчаня́ты, зайчаня́ — зайчаня́ці — зайчаня́ты, казляня́ — казляня́ці, — казляня́ты, кацяня́ — кацяня́ці — кацяня́ты, ласяня́ — ласяня́ці — ласяня́ты, лісяня́ — лісяня́ці — лісяня́ты, мышаня́ — мышаня́ці — мышаня́ты, цяля́ — цяля́ці — цяля́ты* і г. д.

# ПРЫМЕТНІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ПРЫМЕТНІКУ

§ 414. Да прыметнікаў адносяцца словы, якія служаць для абазначэння якасцей або прымет, уласцівых жывым істотам, прадметам і з'явам. Прыметнікі могуць абазначаць:

а) прыметы, якія ўласцівы жывым істотам, прадметам і з'явам у той ці іншай ступені (*в я с ё л ы чалавек, р у п л і в а я гаспадыня, з я л ё н ы луг, в ы с о к і ўраджай, ц ё п л ы вечар, і с к р ы с т ы снег, л ё г к і я пушынкі, ц ё м н а я хмара, г л ы б о к а я рака*). Такія прыметнікі называюцца я к а с н ы м і.

У групу якасных уваходзяць, па-першае, прыметнікі, якія з пункту погляду сучаснай мовы з'яўляюцца ўжо невытворнымі; усе яны старадаўняга паходжання (*доўгі, стары, новы, круты, сухі, пусты, белы, глухі, тоўсты, вялікі, мудры, чысты, хітры, дзікі, цэлы, свежы, злы, жоўты, рыжы, цвёрды, ціхі, ліхі, густы, косы, худы, голы, востры, малады, дужы, роўны, ясны, просты, позні, смелы* і інш.); па-другое — прыметнікі вытворныя, па паходжанню пазнейшыя (*радасны, спакойны, праўдзівы, шчаслівы, шумлівы, квяцісты, ружовы, тэрміновы, працавіты, гулкі, парыўчаты* і інш.).

б) Прыметы, якія ўзнікаюць з адносін данага прадмета да іншага прадмета або паняцця, напрыклад з адносін прадмета да часу яго існавання (*с я г о н н я ш н я е пасяджэнне, у ч а р а ш н і я вынікі, л е т а ш н я я трава*), да месца яго знаходжання (*п р ы д н я п р о ў с к і я лясы, п р а в а ф л а н г о в ы салдат, н а р а ч а н с к і я рыбаловы, в і ц е б с к і я дываны, п а л я в а я кветка, л я с н ы я ягады, к а с м і ч н а е цела*), да матэрыялу або рэчыва, з якога ён зроблен ці складаецца (*ч ы г у н н ы я рэйкі, с н е ж н ы я гурбы, ш к л я н ы дах, п я с ч а н ы курган, в і ш н ё в ы сад, л а з о в ы куст*), да прызначэння (*с п у с к а в ы кручок, с а д о в ы нож, с л у ж б о в ы пакой, с т у д э н ц к і інтэрнат, б е н з і н а в ы бак, г і м н а с т ы ч н а я зала*), да ўладальніка (*к а л г а с н а е поле, г р а м а д с к а я маёмасць, к а м а н д з і р с к і я рэчы*), да колькасці (*т р о х р а з о в ы ўдар, п а д в о й н ы зычны*), да дзеяння (*н а в у ч а л ь н ы год, н а м ы ў н а я плаціна, п р ы в і т а л ь н ы салют, п р а д з і л ь н ы цэх, л і ч ы л ь н ы апарат, в ы м я р а л ь н ы механізм*). Такія прыметнікі называюцца а д н о с н ы м і.

Па паходжанню ўсе адносныя прыметнікі з'яўляюцца вытворнымі.

У групе адносных прыметнікаў асобную разнавіднасць складаюць так званыя п р ы н а л е ж н ы я прыметнікі, якія паказваюць індывідуальную прыналежнасць прадмета асобе (*б а ц ь к а ў дом, л е с н і к о в а хата, ж о н ч ы н а хустка, З о с і н а звяно*).

Як відаць з папярэдняга, паміж якаснымі і адноснымі прыметнікамі існуюць выразныя сэнсавыя адрозненні, аднак граніцы паміж гэтымі групамі прыметнікаў не заўсёды з'яўляюцца стабільнымі, нерухомымі.

Так, у выпадках вобразна-пераноснага ўжывання адносныя прыметнікі лёгка набываюць якасныя адценні і пераходзяць у групу якасных прыметнікаў, параўн.: *Там, за ярам, лес дубовы чуць сінееццa праз бель* (Я. Колас. Дай зірну ў сваё аконца). *Ведаеш што, бухгалтар, жарты ў цябе даволі дубовыя* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Не бяры з сабой караляў, — будзе неба зорнае; не бяры шаўковай хусткі, — будзе ночка цёплая* (М. Танк. Як задрэмлюць). *Шаўковыя дымы плылі роўнымі слупамі з каміноў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Думка яго не заходзіла далей прыемнасці зіхацець у сваім кабінеце, у першым радзе тэатральных крэслаў або за плячыма каго-небудзь большага за яго...* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Тэатральным жэстам аддаўшы каманду сваёй ахове, Свістун садзіўся на каня* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А ён жа лёс зямное кулі пачаў выблытваць з ланцугоў* (М. Лужанін. Жывыя рысы Ільіча). *Мары ў мяне, дарэчы, Нічыпар, зусім канкрэтныя, зямныя* (І. Мележ, Мінскі напрамак).

Пры пераносным ужыванні лёгка пераходзяць у групу якасных і тыя адносныя прыметнікі, якія ўтвораны ад назваў жывых істот.

*У тых людзей, якія тут жылі, і ў тых, што тут бывалі, размах жыцця быў вераб'іны* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Людзі пачалі паважаць маладую настаўніцу і ўжо рэдка называлі яе паненкай, а проста таварышам, асабліва калі не было якога сабачага вока поблізу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 415. Прыметнікам уласцівы граматычныя формы роду (у адзіночным ліку), склону і ліку, аднак гэтыя формы звычайна з'яўляюцца залежнымі, г. зн. не маюць граматычнай самастойнасці, і служаць толькі сродкам сінтаксічнай сувязі прыметнікаў з паясняемымі імі назоўнікамі ці іншымі словамі ў ролі назоўнікаў (*смачны абед, смачнае снеданне, смачная вячэра; смачнага абеду, смачнага снедання, смачнай вячэры; смачныя абеды, снеданні, вячэры* і г. д.

Заўвага 1. Запазычаныя прыметнікі *алкалі* (хім.), *пікала* (муз.), *піке* (тэкст.), *электрык* (колер) не змяняюцца ў залежнасці ад роду, склону і ліку.

Заўвага 2. Прыметнікі, якія абазначаюць якасці, уласцівыя асобам толькі жаночага полу і толькі жывёлам-самкам, не маюць форм мужчынскага і ніякага роду: *замужняя, цяжарная; жарэбная, котная, паросная, шчэнная, цельная.*

Заўвага 3. Прыметнік *многія* ў сучаснай мове не мае форм адзіночнага ліку.

§ 416. Асаблівасці значэння прыметніка як назвы прыметы і залежны характар яго граматычных катэгорый і форм непасрэдна ўплываюць на сінтаксічнае ўжыванне прыметніка. Часцей за ўсё ён выступае ў функцыі азначэння пры членах сказа, выражаных назоўнікамі ці іншымі словамі ў значэнні назоўнікаў, і дапасуецца да іх у родзе (толькі ў адзіночным ліку), склоне і ліку.

*Чырвоныя ландышы восенню позняй красуюцца ля каляін прыдарожных. Па ўсёй Белавежы, па пушчы Ружанскай, на слаўных курганах, слядах партызанскіх* (М. Танк. Чырвоныя ландышы). *Вароты ў гумне былі адчынены і адтуль даносілася прагавіта-заядлае «хрум-хрум! хрум-хрум!». Гэта дзядзька Марцін рэзаў сечку на саматужнай сячкарні* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Акрамя функцыі азначэння, прыметнік выконвае таксама функцыю іменнага выказніка.

*А дзядзька — о, ён акуратны! Работнік дзядзька наш выдатны* (Я. Колас. Новая зямля). *Ноч была бязмесячная* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Плынь стала цёмнай і павольнай* (І. Шамякін. Далёкая камандзіроўка).

Выступаючы ў функцыі таго ці іншага члена сказа, прыметнік можа мець пры сабе паясняльныя, граматычна і па сэнсу залежныя ад яго



11. Зак. 892

словы (назоўнікі, займеннікі, прыслоўі, неазначальную форму дзеяслова). У такіх выпадках прыметнік выступае ў якасці галоўнага слова найменшай сінтаксічнай адзінкі — словазлучэння.

*Па ўзгорках высокіх, багатых пяскамі, даўно пралягла ты двума паяскамі* (Я. Колас. Дарога). *Белая постаць, ледзь прыкметная ў змроку, высунулася на вуліцу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Цягнік прыпыніўся на хвіліну на невялікай станцыі, апошняй перад гарадком* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Уся бялізна на мне была мокрая ад поту* (І. Шамякін. У снежнай пустыні).

## ЯКАСНЫЯ ПРЫМЕТНІКІ

§ 417. Уласцівасць якасных прыметнікаў абазначаць прымету, якая праяўляецца ў прадмеце ў большай ці меншай ступені, абумоўлівае сабою магчымасць утварэння гэтымі прыметнікамі асобых (суфіксальных, прэфіксальных, прэфіксальна-суфіксальных або аналітычных) форм, якія выражаюць тую або іншую ступень якасці: а) форм вышэйшай і найвышэйшай ступеней якасці, якая выяўляецца ў прадмеце шляхам параўнання з іншым прадметам: *глыбейшы, найглыбейшы, больш глыбокі, самы глыбокі* (гл. § 418—428); б) форм, якія абазначаюць высокую ці вельмі высокую або нізкую ці вельмі нізкую ступень якасці, што выяўляецца ў прадмеце без параўнання з іншым прадметам: *вялізны, глыбозны, маленькі, маленечкі, малюсенькі, малюпасенькі, малюпасенечкі* (гл. § 466—483); в) форм, якія выражаюць непаўнату якасці: *глыбакаваты, малаваты, бялявы.*

Некаторыя якасныя прыметнікі беларускай мовы могуць утвараць таксама кароткія (іменныя) формы (гл. § 429).

Характэрнай асаблівасцю якасных прыметнікаў з'яўляецца не толькі тое, што яны маюць развітую сістэму форм для выражэння сэнсавых адценняў, але і тое, што яны больш актыўна, чым адносныя прыметнікі, удзельнічаюць у словаўтварэнні іншых часцін мовы — назоўнікаў, прыслоўяў і дзеясловаў.

### *Формы ступеней параўнання якасных прыметнікаў*

§ 418. Як было адзначана, якасныя прыметнікі могуць набываць формы дзвюх ступеней параўнання — вышэйшай і найвышэйшай.

Формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў паказваюць, што данаму прадмету якасць уласціва ў большай ці меншай ступені, чым іншаму прадмету, або таму ж самаму прадмету, але пры іншых абставінах ці ў іншы час.

*Алешка быў на адзін курс старэйшы за Лабановіча* (Я. Колас. На ростанях). *А яшчэ ў наступным пакоі, меншым за гэтыя два, тры сталы, некалькі крэслаў і заслонаў і шафа з паперамі* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Белы вечар быў цяплейшы за ўчарашні* (К. Чорны. Зямля). *Калі ўвайшлі на ўскраіну, Сцяпан Касцевіч стаў весялейшым* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў паказваюць, што данаму прадмету якасць уласціва ў найбольшай або найменшай ступені параўнальна з іншымі прадметамі.

*Тут смех і жарты, таўканіна, — найцікавейшая часіна* (Я. Колас. Новая зямля). *З Новым годам і шчасцем, Расія, найслаўнейшая наша сястра!* (П. Панчанка. З Новым годам, Расія!). *Канстанцін Сяргеевіч даваў яму часам самыя далікатныя даручэнні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Тут Свістун?» — «Тут, таварыш камандзір партызанскага злучэння!» — малайцавата адказыраў адзін з хлопцаў, найбольш увішны на выгляд* (там жа).

Формы ступеней параўнання прыметнікаў могуць быць простыя (сінтэтычныя), калі яны ўтвараюцца шляхам далучэння да асновы суфіксаў або прыставак ці тых і другіх адначасова, і складаныя (аналітычныя), калі яны ўтвараюцца шляхам спалучэння з прыметнікам пэўных займеннікаў і прыслоўяў.

§ 419. Простыя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца звычайна пры дапамозе суфікса **-ейш-(-эйш-)** і адпаведных канчаткаў, якія змяняюцца ў залежнасці ад склону, роду і ліку.

*А бацька бровы пасувае, пільчак чысцейшы адзявае* (Я. Колас. Новая зямля). *Яна была маладзейшая за Марціна намнога* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Вашыновічава дзяўчына прыгажэйшая за Ганну* (К. Чорны. Зямля). *Хітры ты хлопец, нічога не скажаш. Але ж, відаць, камандзір у вас яшчэ хітрэйшы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На лаўцы каля дзвярэй сядзела чатырох: старэйшы дзядзька ў саламяным капелюшы..., другі мужчына, відаць, не шмат маладзейшы за яго, але свяжэйшы, паголены* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Заўвага. Прыметнік *тутэйшы*, які ўтвораны пры дапамозе суфікса **-эйш-**, не мае значэння ступені параўнання. Сюды ж можна аднесці і прыметнік *учарайшы* (з суфіксам **-айш-***ы*), які часам сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры.

*Уражанні ўчарайшага дня выплывалі ў яго памяці жывымі звеннямі сапраўдных праяў тутэйшага калгаснага жыцця і клалі рэзкую граніцу паміж двума светамі сялянскага побыту* (Я. Колас. Адшчапенец).

У некаторых выпадках прыметнікі з суфіксам **-ейш-(-эйш-)** ужо страцілі або страчваюць значэнне вышэйшай ступені параўнання і выражаюць безадносна высокую якасць прадмета. У такім значэнні выступаюць прыметнікі *дайнейшы, далейшы*, а таксама часам прыметнікі *ранейшы, пазнейшы, бліжэйшы, прасцейшы.*

*... Дзе-нідзе тырчэлі абросшыя мохам дайнейшыя пні* (Я. Колас. Малады дубок). *Сам ён цяпер не паказваўся людзям на вочы..., чакаючы далейшых падзей* (Я. Колас. Адшчапенец). *Назар заняў сваё ранейшае месца за рулём і ўпэўнена павёў машыну ўзнімаць новыя скібы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *З-за бліжэйшых кустоў выехала некалькі, раней не заўважаных, коннікаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Пад'ёмнікамі тут не карыстаюцца, хоць рацыяналізатары не адзін раз прапаноўвалі сваімі сіламі зрабіць такія прасцейшыя механізмы* («Звязда»).

Прыметнікі з суфіксамі **-ейш-(-эйш-)** могуць таксама выражаць значэнне безадносна самай высокай ступені якасці. Гэтым значэннем яны збліжаюцца з формамі найвышэйшай ступені якасці (гл. § 423).

*А ўвечар, калі загамоніць увесь велізарнейшы дом, — ружовым, зялёным, чырвоным, блакітным і сінім агнём ад самага верху да долу гарыць ён...* (П. Глебка. Агні) *Друг! помні сказ ты знаменіты старадаўнейшага пісьма: на свеце тайн такіх няма, што асталіся б не раскрыты* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Мінск — адзін са старажытнейшых славянскіх гарадоў* (з газет). *Гэта камяніца ў сваім часе была выдатнейшаю праявою ў жыцці Панямоння* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Напружаная заклапочанасць збегла з Мікітавага твару, а замест яе засвяцілася лагоднейшая ўсмешка* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ен крайне ўважліва выконваў складанейшыя працы* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора). *Чатыры вагоны. Нядрэнна, Канстанцін Сяргеевіч, калі яны ўжо нагружаны снарадамі. А калі і не нагружаны, таксама не страшна... Мацнейшы ўдар выйдзе...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вяла ўдаль суровая дарога. Завеі лютыя збівалі след. Цяпер жыву, удумлівы і строгі, як песень-зор лірычнейшы паэт* (У. Хадыка. Гудуць слупы). *Мяне кліча ў госці друг мой лепшы — шэры дрозд — цудоўнейшы спявак* (П. Панчанка. Вясною). *Грандыёзнейшыя поспехі савецкага*

*народа з'яўляюцца яскравым сведчаннем жыццёвай сілы, трываласці і непахіснасці сацыялістычнага ладу* (з газет).

Значэнне найвышэйшай ступені якасці асабліва выразна праяўляецца ў формах прыметнікаў на **-ейш-***ы***(-эйш-***ы***)** у тых выпадках, калі ў сказе ўжываецца адмоўе *няма* ці дзеяслоў *быць* або іншыя дзеясловы з адмоўем *не.*

*Цяпер жа мне здаецца, што няма чалавека, шчаслівейшага за мяне* (П. Галавач. Дасужая). *Сцёпка зрабіўся цікавейшым чалавекам, якога яшчэ не было ў Заборцах* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Дзесяць гадоў таму назад у Вепрах не было дзяўчыны цікавейшай за Аўгіню* (Я. Колас. Дрыгва). *Мой друг і сучаснік! Не знаю святлейшай часіны як зноў перачуць, над жыцця свайго картаю, той момант, калі стаў жывой, неадлучнай часцінай турботаў тваіх і душы твае, партыя!* (М. Лужанін. Партыі). *Але ніякія пакутлівыя дні не ведалі цяжэйшых песень, як песні гэтай жудаснай вайны* (П. Глебка. Песні мінулай вайны).

Такое ж значэнне маюць прыметнікі на **-ейш-***ы* (**-эйш-***ы*), калі пры іх ёсць назоўнікі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі *за, на* і паясняльным займеннікам *увесь* (часам ён субстантывуецца і выступае ў функцыі назоўніка).

*«Там не напісана, пане старшыня, а намалёвана», — паправіў пісар, які быў цверазейшы за ўсіх* (М. Чарот. Дзіўная заява). *...Мацнейшы за ўсіх ён тут* (К. Чорны. Па дарозе). *Павал, як і раней бацька, на ўвесь прыход багацейшым быў...* (П. Галавач. Дзве сцежкі).

Значна радзей простыя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца пры дапамозе суфікса **-ей** (пасля зычных **р, ж, ш, ч** пад націскам **-эй,** не пад націскам **-ай**). Такія прыметнікі не змяняюцца ў залежнасці ад склону, роду і ліку.

*Снапы ў жніво насіў у мэтлі, — а ўсё, каб ласкавей была* (Я. Купала. І што я ёй зрабіў такое?). *Даражэй за ўсё — свабода* (Я. Колас. З песень адзінокага). *Эх, што можа быць даражай вольнай волечкі, палёў?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Смерць у цішы страшней за раптоўную смерць у бурах* (К. Чорны. Буры).

Некалькі прыметнікаў утвараюць простую форму вышэйшай ступені параўнання пры дапамозе суфікса **-ш-** і адпаведных канчаткаў, якія змяняюцца ў залежнасці ад роду, склону і ліку. Пры ўтварэнні гэтай формы звычайна наглядаецца суплетыўнасць асноў: *малы — меншы, вялікі — большы, добры — лепшы, дрэнны — горшы,* але: *малады — малодшы.*

*За дзяўчынкай ішоў меншы за яе хлопчык* (К. Чорны. Сцяпанавы дзеці). *Лявей чыгункі другое мястэчка, яшчэ большае за Панямонь* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Хату сабе збудаваў амаль што першы ў вёсцы, лепшую за тую, што згарэла* (І. Шамякін. У добры час). *Што я — горшая за людзей?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *З іх адзін толькі Сцёпка і быў самастойным гаспадаром, у якога дома была толькі старая маці ды брат малодшы за яго на два гады* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Пры абазначэнні ўзросту ад прыметніка *малады* можа ўтварацца і форма *маладзейшы: Успаміналі старое, уздыхалі. А маладзейшыя тым часам весяліліся па-свойму* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). Пры абазначэнні ж пасады або звання ад прыведзенага прыметніка ўтвараецца толькі форма *малодшы: малодшы сержант, малодшы лейтэнант.* Гэта форма выражае ў даных выпадках значэнне безадносна нізкай якасці.

Ад асновы прыметніка *стары* простыя формы вышэйшай ступені параўнання пры абазначэнні ўзросту могуць утварацца як пры дапамозе суфікса **-ш-** і адпаведных канчаткаў, так і пры дапамозе суфікса

**-эйш-** і адпаведных канчаткаў. Аднак у сучаснай літаратурнай мове нормай лічыцца форма на **-эйш-**.

*А больш у нас яшчэ дзяўчыны дзве ёсць, старшыя за мяне сёстры, дык яны дома, нідзе не служылі* (К. Чорны. На пыльнай дарозе). *...Старэйшы Агап быў танклявы і надзіва шпаркі ў рухах і ў гаворцы, малодшы — Ягор, наадварот, — тоўсты, шырокі ў плячах, маўклівы і цяжкаваты* (Т. Хадкевіч. Сяброўства).

Ужыванне толькі формы *старшы* замацоўваецца як норма пры абазначэнні пасад і званняў тыпу *старшы лейтэнант*.

*Заслонаў, прылёгшы ля самага штабеля і назіраючы за станцыяй, заўважыў чалавека, які пайшоў да дзяжурнага. Відаць, старшы кандуктар* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Старшы механік прытармазіў і паволі з'ехаў з шашы на палявую дарогу* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Здавалася, што Віктар Зялёнка адчуваў настрой старшага агранома машынна-трактарнай станцыі і цярпліва чакаў, пакуль яна супакоіцца і загаворыць да яго першая* (там жа). *З палаткі выйшаў камандзір і камісар дывізіёна старшы палітрук Міхееў* (І. Шамякін. Браты). *Старшы лейтэнант стаў адразу збірацца* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Форма *старшы* выражае ў такіх выпадках значэнне безадносна высокай ступені якасці.

Заўвага. У беларускай літаратурнай мове XIX і першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя простая форма вышэйшай ступені параўнання з суфіксам **-ш-ы** магла ўтварацца таксама ад прыметнікаў *багаты, мілы, вясёлы, крывавы, здаровы, слабы, дужы, сіні*, якія цяпер утвараюць форму на **-ейш-ы (-эйш-ы)**. Такім чынам, у наш час гэтыя выпадкі не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*Мільшая мне хатка, як чужая вёска* (Ф. Багушэвіч. Мая хата). *Каб я быў багатшы ад усіх на свеце?* (Ф. Багушэвіч. Хцівец і скарб на святога Яна). *Людзі мруць, а ўсё ждуць багатшай уроды* (Я. Купала. Чым хата багата?). *Чорт цешыцца: будзе для пекла ахвяра; штохвіля крываўшую помсту знаходзіць* (Я. Купала. Адплата кахання). *Мы ў паніжэнні, у вечным трудзе, з днём кожным слабшыя па сіле, бясцэльна па калючай грудзе блудзілі, горасна блудзілі* (Я. Купала. Наша мінуўшчына). *Усё да дружбы, ўсё да большай тваім думам збор вясёльшы* (Я. Купала. Сон на кургане). *Бацька здароўшы, ён, бачыш, пайшоў з Антусём* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Хто быў дужшы і праворны, той грунт лепшы карыстаў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Чым больш Васіль гаварыў, тым вясёльшым рабіўся* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Дым віецца высока пад столь, ад маркоты становіцца сіньшым* (П. Глебка. Арка над акіянам).

Некаторыя прыметнікі на **-ш-ы** могуць таксама выражаць значэнне самай высокай ступені якасці прадмета. Гэта значэнне прыметнік набывае звычайна пры спалучэнні з формамі *за ўсіх, не было, не будзе, нічога не было* і т. п., а таксама з формай меснага склону назоўнікаў.

*І Серж думае, што ён лепшы за ўсіх, за ўсіх разумней, ды і мае права мець ва ўсім над усімі перавагу* (К. Чорны. Насцечка). *Ты лепшая за нас усіх* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Не было лепшай спявачкі і танцоркі, як Ніна Васільеўна* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На свежае вока магло здавацца, што з пункту гледжання прыроднай прыгажосці нічога горшага нельга знайсці, чым гэты куток* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Шаройка штогод атрымліваў прэміі за лепшага ў раёне каня, за лепшую свінаматку, за найвышэйшы ураджай бульбы* (І. Шамякін. У добры час).

§ 420. Пры ўтварэнні простых форм вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з дапамогай суфіксаў **-ейш-ы(-эйш-ы), -ей(-эй)** адбываюцца наступныя чаргаванні зычных у канцы ўтваральнай асновы:

**г — ж:** *дарагі — даражэйшы, доўгі — даўжэйшы, строгі — стражэйшы;*

**к — ч:** *звонкі — званчэйшы, тонкі — танчэйшы, мяккі — мякчэйшы, лёгкі — лягчэйшы, горкі — гарчэйшы;*

**х — ш:** *ціхі — цішэйшы, сухі — сушэйшы, глухі — глушэйшы;*

**з — ж:** *нізкі — ніжэйшы, блізкі — бліжэйшы;*

**д — дз'**: *малады — маладзейшы;*

**т — ц'**: *круты — круцейшы, просты — прасцейшы, чысты — чысцейшы, густы — гусцейшы, тоўсты — таўсцейшы.*

Заўвага. Пры ўтварэнні форм вышэйшай ступені параўнання на **-ейш-ы** (**-эйш-ы**), **-ей** (**-эй**) ад прыметнікаў з суфіксам **-к-і** (**-ок-і**) у адных выпадках гэты суфікс захоўваецца, пераходзячы ў зычны **ч** (*гладкі — гладчэйшы, яркі — ярчэйшы, шпаркі — шпарчэйшы*), а ў другіх выпадае, і тады суфіксы **-ейш-ы** (**-эйш-ы**), **-ей**(**-эй**) далучаюцца непасрэдна да кораня; пры гэтым у канцы кораня адбываецца чаргаванне цвёрдых і мяккіх зычных (*салодкі — саладзейшы, кароткі — карацейшы, глыбокі — глыбейшы*).

Чаргаванні **г — ж, к — ч, х — ш** з'яўляюцца вынікам гістарычных змен заднеязычных **г, к, х** у шыпячыя перад галосным пярэдняга рада **-е(-э)** са старога **-ѣ** (так званая першая палаталізацыя).

Чаргаванне **з — ж** у формах *блізкі — бліжэйшы, нізкі — ніжэйшы* тлумачыцца аналогіяй форм тыпу *дарагі — даражэйшы.*

§ 421. Складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца шляхам сінтаксічнага спалучэння з прыметнікам прыслоўяў *больш (болей), яшчэ больш, куды больш, менш (меней), яшчэ менш, куды менш.*

*Паветра стала больш свежым, холадам праймала цела* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Яна адразу змянілася, пасталела, як дарослая жанчына, у якой ёсць куды болей важныя інтарэсы, чым забаўка з кацяняткам* (Я. Колас. На ростанях). *Ёсць жа ў калгасе людзі: ці нельга было паставіць сюды чалавека менш занятага, маладзейшага?* (А. Кулакоўскі. Хораша ўзыходзіць сонца).

Часам у ролі паказчыка ступені якасці, названай прыметнікам, выступае спалучэнне абодвух прыслоўяў *больш, менш* у выглядзе аднаго слова *больш-менш.*

*Цэлую гадзіну ехалі першыя пяць кіламетраў, занятыя дарогай, і толькі дабраўшыся да лесу, змаглі пераключыцца на больш-менш сучасную хуткасць, прадоўжыць размову* (І. Шамякін. Нашы знаёмыя). *Тэрыторыя раўніны — больш-менш роўная прастора* («Весці АН БССР»).

У некаторых выпадках складаныя формы вышэйшай ступені параўнання могуць утварацца таксама шляхам спалучэння прыслоўя з простай формай параўнання на **-ейш-ы**(**-эйш-ы**). Аднак такія формы з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*О, не! У пана Лабановіча ёсць* [дзяўчына] *больш шчаслівейшая ад мяне* (Я. Колас. У палескай глушы). *А вось, як глянуць на поўдзень, карціна больш прыемнейшая* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Пайсці з табой я, канешне, магу, але ж патрэбен тут загад больш вышэйшага начальства* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Нашу зямлю, наша жыццё мы сваёй працай зробім яшчэ больш прыгажэйшымі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з'яўляюцца прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Шырокае ўжыванне гэтых форм у розных стылях літаратурнай мовы тлумачыцца тым, што яны ўтвараюцца не толькі ад тых прыметнікаў, якія не могуць мець суфіксаў **-ейш-ы**(**-эйш-ы**), **-ш-ы** (*спякотны, дрымотны, грымотны, каржакаваты, гразкі, важкі, стромкі, коўзкі, дзёрзкі, гаваркі, гаманкі, едкі, вёрткі, стойкі* і інш.), але і ад тых, якія гэтыя суфіксы могуць мець. У апошнім выпадку складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў выступаюць паралельна з простымі формамі, чаргуюцца з імі і часта з'яўляюцца стылістычным сродкам мовы.

*...Гэты, як ён казаў, рускі мужык за яго хітрэйшы і больш кемлівы ў многа разоў* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 422. З'яўляючыся тым ці іншым членам сказа (азначэннем, выказнікам, а пры ўмове субстантывацыі — дзейнікам, дапаўненнем або ака-

лічнасцю), формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў маюць пры сабе, як правіла, граматычна залежную форму назоўніка (ці займенніка), што абазначае прадмет, з якім параўноўваецца якасць данага прадмета. Такі залежны назоўнік (займеннік) ставіцца звычайна ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за*.

*Бaйдзей гады на два быў* *с т а р э й ш ы з а Л а б а н о в і ч а* (Я. Колас. На ростанях). *Ты* *з а м я н е с т а р э й ш ы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *О гэты, брат, яшчэ* *м у д р э й ш ы з а т а г о!* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Адчуваючы, што левая палавіна цела* *ц я ж э й ш а я з а п р а в у ю,* *Кастусь Прыбыткоўскі сеў на адкосе і спусціў ногі ўніз* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *А ты ж* *з а м я н е* *гадоў на дзесяць, мусіць,* *с т а р э й ш ы* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Твой сын* *м а л о д ш ы з а м а й г о* (І. Шамякін. Хлопчык з-за акіяна). *Ведаю: ёсць гарады на свеце, якія захвалены аж да дзір. Мы Мінск* *н е г о р ш ы з а і х* *нашым дзецям у спадчыну аддадзім* (П. Панчанка. Свой горад). *У гэтым сэнсе натура яго была* *б о л ь ш г н у т к а я з а Т о ў х а р т а в у* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Заўвага. У мове мастацкіх твораў 20—30-х гадоў XX стагоддзя, а часам і пазней сустракаюцца выпадкі, калі пры формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў залежны назоўнік (займеннік) ужываецца ў форме роднага склону з прыназоўнікам *ад* (*ш ч а с л і в е й ш а я а д я е, н і ж э й ш ы а д б р а т а, б о л ь ш ы а д ц я б е, ц я м н е й ш ы а д н о ч ы*) або без прыназоўніка (*с в я т л е й з о р а ч к і, в е с я л е й ш ы с в а і х с я б р о ў, п р ы г а ж э й ш ы с я с т р ы*). Аднак ужыванне залежнага слова ў гэтых формах не з'яўляецца нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

*А цяпер ты ходзіш з Янкам... Чым я* *г о р ш ы а д я г о?* (П. Броўка. Здрада). *Таварышу — ў ногі дыван саматканы, а ворагу — лютасць* *в а с т р э й а д к і н ж а л а* (П. Броўка. Каўказ). *Кавалак засохлага хлеба, абліты крынічнаю вадою,* *с м а ч н е й б у л к і* *быў для зморанага голадам* (М. Чарот. Свінапас). *А колькі вуліц там прыгожых,* *п р а с п е к т а* *добрага* *ш ы р э й* (П. Броўка. Петразаводск). *Хіба ёсць што на свеце гэтай* *с т а л і м а ц н е й?* (П. Броўка. Наша марка).

Пры формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў могуць ужывацца таксама параўнальныя звароты са злучнікамі *чым* (*чымся*), *як*. У гэтых зваротах назва прадмета параўнання (калі яна ёсць) мае форму назоўнага, вінавальнага або меснага склонаў.

*Трэба было прыдумваць нешта другое,* *б о л ь ш д а с к а н а л а е, ч ы м с я* *звычайны напад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вынікі былі* *б о л ь ш ы я, ч ы м* *нават чакалі* (І. Шамякін. У добры час). *Што ёсць на свеце* *д з і ў н е й ш а е, я к* *ты?* (Я. Колас. Думкі ў дарозе). *Але ўраджай, казалі, хоць на выстаўку вязі! Калі не ў два, дык у паўтара раза* *б о л ь ш ы, я к у* *нас* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *У слаўнай Празе, ў старажытным Градзе, не злічыш спраў даўнейшага майстэрства: спічастых вежаў, што ўзляцелі ў неба, разбяных дрэў,* *ш у м н е й ш ы х, я к у* *пушчы* (М. Лужанін. Злата Улічка).

§ 423. Простыя формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца шляхам далучэння да простых форм вышэйшай ступені прыстаўкі **най-**: *найглыбейшы, найдабрэйшы, найгоршы.*

*Прырода —* *н а й ц і к а в е й ш а я* *кніга, якая разгорнута прад вачыма кожнага з нас* (Я. Колас. У палескай глушы). *Цяпер над імі вісіць* *н а й т а н ч э й ш а я* *смуга, і ўсё там павявае вялікім спакоем* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Бачыш, Алесь, сонца прыгожае заўсёды, але* *н а й п р ы г а ж э й ш а е* *яно ў ранняй і вячэрняй зары...* (Я. Брыль. На Быстранцы). *У* *н а й л е п ш а й* *згодзе жыве дзед Павал са сваімі ўнучкамі і любіць іх* (Я. Колас. З боку ад жыцця). *Развітальная хваля* *н а й г о р ш а я,* *яна можа і сэрца спаліць* (У. Дубоўка. Залатая асенняя раніца).

Сюды ж адносіцца форма *найвялікшы*, утвораная не прыставачным, а прыставачна-суфіксальным спосабам (формы *вялікшы* няма ў літаратурнай мове).

*Вайна ўяўлялася найвялікшым злом, якое трэба было спыніць* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *І найвялікшыя змены ў грамадскім ладзе, зробленыя расійскай пралетарскай рэвалюцыяй, сталі пачаткам найвялікшых змен ва ўсіх галінах разумнай дзейнасці чалавека...* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

Заўвага. Некаторыя прыметнікі ў форме найвышэйшай ступені, утвораныя ад формы вышэйшай ступені з суфіксам **-ш-**, не замацаваліся ў якасці агульналітаратурнай нормы. Яны з'яўляюцца асаблівасцю мовы мастацкіх твораў перыяду галоўным чынам першай трэці XX стагоддзя.

*... Дык вось, на смерць ісці іх змусіў найнешчасліўшы чалавек* (Я. Купала. Там...). *З падружкай мілаю і лес — як найбагатшы стане харам...* (Я. Купала. Паляўнічы і пара галубкоў). *О наймільшыя панове! Аж мне робіцца маркотна...* (Я. Купала. Пераклад з польскай У. Вольскага «Галька»). *Так будзе ён царам прыроды, сам найдасканальшага роду, і будзе цар гэты навек названне насіць — чалавек* (Я. Купала. Адвечная песня). *Хто найшчырэйшыя парывы сваіх думак, свайго сэрца аддае савецкім нівам, дрогнуць светам з сэрцам рвецца?* (Я. Купала. Камсамолу). *Засвецяць ў інеі праменні, як найдарожшыя каменні* (Я. Колас. Новая зямля). *Па найдарожшых запаветах мы кіравалі свой паход* (М. Лужанін. Жывыя рысы Ільіча). *Ён вочы узняў да блакітных палёў, ён вочы ўзняў да найсінішых нябёс* (У. Дубоўка. Кругі).

Радзей простая форма найвышэйшай ступені ўтвараецца шляхам далучэння прыстаўкі **най-** да якасных прыметнікаў без суфіксаў **-ейш-***ы* **(-эйш-***ы***)**, **-ш-***ы*. Усе такія прыклады сустракаюцца толькі ў мове мастацкіх твораў некаторых пісьменнікаў і не з'яўляюцца агульнай нормай.

*Раптам вестка: прыйшоў кавалер ўсіх крыжоў і медаляў, найадважны ваяка Сымон Перагуд* (П. Броўка. 1914). *У часіну найлюбую страляніна тут як тут!* (П. Броўка. Нязлоўны). *...Каб у росце найадменным уздымаліся заводы...* (П. Броўка. Праводзіны). [Ляснік] *ведаў, што гэтыя людзі былі найзлосныя ворагі паноў...* (М. Чарот. Свінапас). *Ні земным праклёнам, ні карай найвышняй ніхто не заплявіць святое імя...* (П. Глебка. У тыя дні).

§ 424. Складаныя формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў могуць утварацца ў сучаснай беларускай мове двума шляхамі:

а) шляхам спалучэння займенніка *самы* з якасным прыметнікам.

*Ужо ведалі, што гэта самы просты чалавек* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *У цемры ўспыхвае раптам цудоўная мелодыя самай прыгожай і самай любімай песні* (Я. Брыль. Ты — мой найлепшы друг). *Самыя разнастайныя думкі хвалявалі Ігната* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Здаецца, што яна абхадзіла ўсе самыя патаемныя мясціны гэтага вялікага лесу* (І. Шамякін. Наташа).

Пры падкрэсліванні значэння найвышэйшай ступені якасці займеннік *самы* можа спалучацца з простай формай вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў на **-ейш-***ы* **(-эйш-***ы***)**, **-ш-***ы*.

*Сурвіла з Мазавецкім самыя багацейшыя ў нас* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Сонца апусцілася на ўзровень маладых сосен і, здавалася, завісла на вяршынях трох самых вышэйшых* (І. Шамякін. За жыццё). *Раз, ужо ў канцы лета, ён выбіўся на край самага большага лесу тут* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Хацелася сказаць яму, што дзядзька, самы лепшы друг мой дзядзька Міхась, у многім быў дзіўны* (Я. Брыль. На Быстранцы).

У некаторых выпадках ужыванне падобных форм звязваецца з асаблівасцямі лексічнага значэння прыметнікаў. Так, форма *самы старэйшы* адрозніваецца па свайму сэнсаваму адценню ад формы *самы стары*. Параўн.: *Самаму старэйшаму сыну было трыццаць год* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Сход адкрыў самы стары рабочы.*

Пры асаблівым падкрэсліванні значэння найвышэйшай ступені займеннік *самы* спалучаецца з простымі формамі найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў.

*Не адбылося ў гэты час у горадзе ніякага нават самага найдрабнейшага здарэння, сведкай чаго ён не быў бы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вось вам, таварышы, самы найлепшы прыклад! — Змітра пайшоў у натоўп і ўзяў Алеся за руку* (Я. Брыль. Іржавая стрэлка).

б) Шляхам спалучэння прыслоўяў *найбольш, найменш* з якасным прыметнікам.

*На папяроснай паперы надрукаваны былі на машынцы найбольш важныя паведамленні... Савецкага інфармбюро* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Хлопец перажываў цяпер найбольш, відаць, шчаслівую пару маладосці...* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Ачагі сусліка размешчаны ў найменш лясістай частцы Беларусі* («Весці АН БССР»).

§ 425. Формы найвышэйшай ступені параўнання, якія захоўваюць сваё першапачатковае значэнне параўнання, маюць звычайна пры сабе залежныя назоўнікі або займеннікі, якія ставяцца ў родным склоне з прыназоўнікамі *з, сярод,* у вінавальным склоне з прыназоўнікам *за* або ў месным склоне з прыназоўнікамі *на, у.*

*Беларусь цябе вітае, найраднейшая з родных сясцёр* (П. Панчанка. З новым годам, Расія!). *Калі ўжо гаварыць аб ёй, дык усюды, дзе ні пабывала Марына, яна была самай абыходлівай і ласкавай сярод медсясцёр* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *У гэтай маўклівасці было адзінае для ўсіх іх пачуццё — вялікае і наймацнейшае за ўсё, што асталося цяпер у іх жыцці* (К. Чорны. Маленькая жанчына). *Глухая вулічка, на якой яны жылі, здавалася самай прыгажэйшай на свеце* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Найгарчэйшыя ў лузе ягады каліны* (Я. Купала. Песня).

Простыя і складаныя формы прыметнікаў (з прыстаўкай **най-** і з словамі *самы, найбольш, найменш*), якія выражаюць не ступень параўнання, а проста безадносна самую высокую (ці самую нізкую) меру якасці, не маюць пры сабе залежных назоўнікаў або займеннікаў.

*Адно здарэнне аб казле тым, што мела месца прошлым летам, апавядалі хлопцу Яську, як найцікáвейшую казку* (Я. Колас. Новая зямля). *Навука, літаратура, мастацтва, усе шматлікія галіны чалавечых ведаў атрымалі найшырэйшыя магчымасці для свайго бурнага росквіту* (М. Лынькоў. Розум, чэсць і сумленне). *У мяне цяпер адна найважнейшая прымета, — ў вокны крадзецца вясна ўсхваляванага паэта* (А. Куляшоў. Расцвілі сады). *Мастак абавязан у сваёй творчасці ўмець выяўляць найбольш характэрныя рысы сучаснасці* (з газет).

§ 426. Як простыя, так і складаныя формы ступеней параўнання ўласцівы пераважнай большасці якасных прыметнікаў. Аднак у сувязі з асаблівасцямі значэння, утварэння (паходжання) і марфалагічнай структуры многія якасныя прыметнікі ўтвараюць або толькі складаныя формы або зусім не ўтвараюць ніякіх форм ступеней параўнання.

§ 427. Толькі складаныя формы ступеней параўнання ўтвараюць у асноўным наступныя групы якасных прыметнікаў.

1. Некаторыя невытворныя якасныя прыметнікі: *бравы, упарты, бадзёры, пануры, прыкры, варожы, горды, благі, любы, ліхі, убогі, хцівы* і інш.

2. Многія прыметнікі, якія ўтвораны суфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным і іншымі спосабамі:

а) шматлікая група якасных прыметнікаў з суфіксам **-н-ы**, якія ўтвораны ў пераважнай большасці ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў: *радас-*

*ны, надзейны, марозны, жудасны, сумны, мірны, дымны, звычайны, адважны, душны, бурны, стыхійны, гнейны, трывожны, каларытны, апетытны, інтэлігентны, пяшчотны, маркотны, велічны, даходны, росны, сумленны, яўны, узорны, трывожны, пакутны, сардэчны, умалотны, слушны, зацяжны, здрадны, задумны, адказны, натужны, прывычны, уздымны, увішны, дбайны, напускны, чытэльны, praлійны, сходны, старанны, чуйны* і інш.

б) Даволі вялікая група якасных прыметнікаў з суфіксам **-ічн-***ы* **(-ычн-***ы***)**, утвораных ад іншамоўных асноў: *крытычны, паэтычны, трагічны, гераічны, іранічны, артыстычны, рытмічны, флегматычны, меланхалічны, песімістычны, камічны, эластычны, пластычны, рэалістычны, арыстакратычны, меладычны* і інш.

в) Пераважная большасць якасных прыметнікаў з суфіксамі **-льн-***ы*, **-альн-***ы*, **-яльн-***ы*, утвораных ад іменных і дзеяслоўных асноў, сярод якіх ёсць значная колькасць і запазычаных з іншых моў: *эмацыянальны, натуральны, максімальны, мінімальны, назіральны, суцяшальны, унушальны, спрыяльны, пагражальны, адчувальны, аглушальны, переканальны, патрабавальны, паказальны, абаяльны* і інш.

г) Амаль усе якасныя прыметнікі з суфіксамі **-ів-***ы*, **-лів-***ы*, утвораныя ад іменных і дзеяслоўных асноў: *фальшывы, бурлівы, імклівы, дакорлівы, гутарлівы, мігатлівы, куслівы, задумлівы, пагрозлівы, ветлівы, зіхатлівы, смяшлівы, празарлівы, клапатлівы, абразлівы, шкадлівы, дажджлівы, урадлівы, услужлівы, крыклівы, дакучлівы* і многія інш.

д) Значная колькасць якасных прыметнікаў з суфіксамі **-ат-***ы*, **-аст-***ы*, **-іт-***ы*, **-авіт-***ы*: *шурпаты, кашлаты, касматы, махнаты, стракаты, мурзаты, хрыпаты, віхрасты, гарласты, выгінасты, віхлясты, гузаты, сярдзіты, самавіты, прагавіты, хваравіты, таленавіты, сакавіты, цегавіты* і інш.

е) Значная колькасць якасных прыметнікаў з суфіксам **-іст-***ы* **(-ыст-***ы***)**: *агністы, скалісты, валакністы, квяцісты, урачысты, звілісты, прамяністы, празрысты, сняжысты, прысадзісты, задзёрысты, разложысты, цяністы, камяністы, вадзяністы* і інш.

ж) Невялікая колькасць якасных прыметнікаў з суфіксамі **-ов-***ы*, **-ав-***ы* **(яв-***ы***)**: *тэрміновы, выпадковы, ганаровы, прынцыповы, багровы, тыповы, перадавы, іржавы, масавы, дзіравы, агнявы, дзелавы, кучаравы* і інш.

з) Значная колькасць якасных прыметнікаў з суфіксамі **-к-***і*, **-ск-***і* **(-цк-***і***)**: *вёрткі, кемкі, колкі, дзёрзкі, гнуткі, пухкі, крохкі, ліпкі, рэзкі, ломкі, гаваркі, гаманкі, трапяткі, едкі, стромкі, коўзкі, слізкі, стойкі, пругкі, дзівацкі, кепскі, хвацкі, геройскі, таварыскі, важнецкі, прасцецкі, вар'яцкі, зверскі, маладзецкі, здаравецкі, здрадніцкі* і некаторыя інш.

і) Нязначная колькасць якасных прыметнікаў з суфіксамі **-іч-***ы*, **-ч-***ы*: *ваяўнічы, маляўнічы, таямнічы, бунтаўнічы, чараўнічы, творчы, станоўчы, прымірэнчы, пеўчы* і некаторыя інш.

к) Даволі шматлікая група якасных прыметнікаў з суфіксам **-л-***ы*, утвораных ад дзеяслоўных асноў: *заядлы, пахілы, працяглы, зразумелы, цвілы, пажылы, чулы, хрыплы, подлы, рослы, вялы, звыклы, тухлы, сціслы, узнёслы, бывалы* і інш.

л) Якасныя прыметнікі з суфіксамі дзеепрыметнікаў: **-ім-***ы*, **-ом-***ы*, **-уч-***ы*, **-юч-***ы*, **-ач-***ы*: *любімы, рухомы, вядомы, невідомы, пякучы, траскучы, гаючы, балючы, бліскучы, дрыжачы* і інш. Сюды ж прымыкаюць прыметнікі з суфіксамі **-ушч-***ы*, **-ашч-***ы* тыпу *немагушчы, прапашчы, валачашчы*.

м) Якасныя прыметнікі з суфіксамі ацэнкі: *новенькі, маленькі, малюсенькі, малюпасенькі (малюпаценькі), даўжэзны, таўшчэзны, высачэзны, даўжэразны, таўшчэразны, глыбозны, шырозны, дзівосны, вялізны* і інш.

н) Даволі вялікая група якасных прыметнікаў, утвораных прэфіксальным і прэфіксальна-суфіксальным спосабамі: *бестурботны, бескла-*

*лотны, бездапаможны, бясспрэчны, бязмежны, бяссэнсавы, бязладны, бязлітасны, бязвыхадны, непраходны, неабсяжны, нясцерпны, прыўдалы, разудалы, раскудравы, разухабісты, разлюбезны, распракляты, бяспрыкладны* і інш.

о) Даволі значная група складаных якасных прыметнікаў: *маламоцны, малазначны, малазаметны, разнастайны, жыватворны, глыбакаводны, мнагаводны, злаякасны, мнагалюдны, многапакутны, нізкарослы, дабрадушны, высокапрадукцыйны, высакародны, аднатонны, цвердалобы, быстракрылы, самабытны, зларадны, старадаўні, баяздольны, усясільны* і інш.

§ 428. Не ўтвараюць ні простых ні складаных форм ступеней параўнання тыя прыметнікі, якія абазначаюць абсалютную якасць прадмета, гэта значыць колькасна нязменную, статычную якасць. Сюды адносяцца галоўным чынам наступныя групы якасных прыметнікаў:

а) некаторыя прыметнікі, якія абазначаюць стан асобы ці іншай жывой істоты: *жывы, мёртвы, сонны; халасты, жанаты, замужняя, удавая, дойная, кормны;*

б) некаторыя прыметнікі, якія абазначаюць прымету асобы ці жывой істоты (а іншы раз і прадмета) на аснове якой-небудзь характэрнай фізічнай знешняй адзнакі: *бязногі, аднарукі; барадаты, вусаты, чубаты, лычаты, хвастаты, рагаты* і інш.;

в) некаторыя прыметнікі, якія абазначаюць масці жывёл і колер жывых істот ці прадметаў: *вараны, гняды, буры, буланы, шэры, шызы, русы.*

У гэту групу якасных прыметнікаў можна ўключыць таксама прыметнікі, якія абазначаюць колер прадметаў або масць жывёл праз іх адносіны да іншых прадметаў: *карычневы, кары, крэмавы, кафейны, бэзавы, васільковы, мышасты, паласаты, попельны, зямлісты, серабрысты, залацісты, бронзавы, ліловы, вішнёвы, бурачны, гранатавы, фіялетавы* і інш.

Як відаць з прыкладаў, большасць гэтых прыметнікаў у сваім выходным значэнні з'яўляюцца адноснымі.

г) Прыметнікі, якія з'яўляюцца якаснымі толькі ў пераносным значэнні: *казённыя адносіны да справы, жалезная воля, льняныя валасы, пшанічныя вусы, цагляны карак, медны лоб, слёзная просьба, алавяныя вочы, крыштальная гладзь возера, каменнае сэрца, магільная цішыня, магістральная тэма* і г. д.

Заўвага. У асобных выпадках падобныя прыметнікі ўтвараюць складаныя формы ступеней параўнання.
*Максім Горкі, самы народны з пісьменнікаў, настойліва клапаціўся аб тым, каб літаратура была народнай, каб літаратары працавалі для народа, для яго шчасця, а не для шчасця кучкі эксплуататараў* (П. Галавач. Я знаю счастье!.. Я храбро бился!..). *Тут ты проста парушыў дысцыпліну, а ў нас дысцыпліна самая ваенная* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

д) Прыметнікі, якія ўжываюцца ва ўстойлівых словазлучэннях (звычайна ў складаных тэрмінах) і маюць вузкае, спецыялізаванае значэнне: *лёгкая прамысловасць, лёгкая артылерыя, лёгкая атлетыка, цяжкая прамысловасць, цяжкая атлетыка, Блізкі Усход, Далёкі Усход.*

е) Некаторыя прыметнікі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі і суфіксамі непаўнаты якасці: *жоўценькі, цалюткі, раўнюткі, цеплаваты, стараваты, сухаваты* і інш.

ж) Значная колькасць прыметнікаў, якія не ўваходзяць у разгледжаныя вышэй лексічныя і словаўтваральныя групы. Утвараюцца гэтыя прыметнікі амаль выключна ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў суфіксальным і прэфіксальна-суфіксальным спосабамі (пераважна пры дапамозе суфіксаў **-н-***ы*, **-ск-***і* (**-цк-***і*), **-оўск-***і*, **-ав-***ы* (**-ов-***ы*), **-аўн-***ы* (**-оўн-***ы*) і прыставак **без-** і **не-**): *дарэмны, пераможны, згодны, млосны, нішчымны, павальны,*

*уладны, законны, належны, ахвярны, падпольны, легальны, працоўны, прыцэльны, пякельны, роспачны, праклённы, нявольны, наліўны, выносны, няўхільны, няспынны, няўлоўны, нячутны, неаглядны, вандроўны, пухаўны, наўмысны, надзвычайны, беспрабудны, заўчасны, часовы, нізавы, радавы, пудовы, каляровы, вызваленчы, аздараўленчы, абаронча, юнацкі, бацькоўскі, прыяцельскі, братэрскі, бунтарскі, прафесарскі, гіганцкі, мастацкі, гвардзейскі, мяшчанскі, сіроцкі, уласніцкі, чыноўніцкі, шляхецкі, злачынніцкі, бандыцкі, д'ябальскі, правакатарскі, тыранскі, зладзейскі, лакейскі, грабежніцкі, разбойніцкі, здрадніцкі, падлізніцкі, гультайскі, гаротніцкі, жабрацкі, рабскі* і інш.

3) Многія складаныя якасныя прыметнікі: *светазарны, ласкава-прыветны, смутна-журботны, крутаверхі, таўсташыі, цяжкавагавы, светлажоўты, светла-шэры, бледна-зялёны, агніста-рыжы, сінявокі, светла-румяны, беласнежны, беланогі, белакрылы, чорнагаловы, сівагрывы, круглагаловы, ясназоры, яснавокі, касавокі, доўгавалосы чарнапёры, шыракагорлы, лапавухі, тупарылы, крутарогі, цёмна-блакітны, культурна-масавы, плоскашвейны, вузкарадковы. малапаслушны, пяшчотна-кволы, сяміпудовы* і інш.

## *Кароткія формы якасных прыметнікаў*

§ 429. У сучаснай беларускай літаратурнай мове кароткія формы якасных прыметнікаў ужываюцца звычайна толькі ў ролі выказніка або ў ролі іменнай часткі састаўнога ці складанага выказніка (нярэдка ў застылых выразах).

Утвараюць кароткія формы пераважна тыя прыметнікі, якія абазначаюць унутраны стан або знешнія прыметы і якасці асобы: *ахвоч, вінават, вінен, павінен, рад, гатоў, жадзён* (размоўн.), *гол, сыт, галодзен, жыў, здароў, дуж, слаб, спрыцен, молад, стар, дасуж, спакоен, весел, жанат, хіцёр, нелюдзім, волен, строг, здацен, здолен, згодзен.* Акрамя таго, у кароткай форме могуць ужывацца некаторыя прыметнікі з больш агульным значэннем якасці: *багат, бедзен, дараг, повен, славен, вялік, мал, блізак, далёк, вузак, шырок, прост, глыбок, нізак, высок, лёгак, тонак, каротак, свецел, цёмен, гож, прыгож, харош, чыст, ясен, даступен, горак* і інш.

Трэба адзначыць, што ў сучаснай літаратурнай мове кароткія формы ад прыведзеных і некаторых іншых прыметнікаў не з'яўляюцца адзінаўжывальнымі. Побач з імі ад тых жа прыметнікаў утвараюцца таксама поўныя формы, параўн.:

*Хто вандровак не прагне, пабачыць зямлі* н е а х в о ч? (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *Я на вецер, — адрэзаў ён, — словы кідаць* н е а х в о ч ы... (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады). *Усё роўна* в і н а в а т *ты перада мной* (М. Т а н к. Конь і леў). *Але хто ж* в і н а в а т ы *ў такім становішчы? Самі.* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Вераб'і* н е в і н а в а т ы *тут ні ў чым* (М. Т а н к. Як вясна прыйшла). *А* в і н а в а т ы я *ў гэтым былі маладзейшыя...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Кажу: «Хіба я* в і н е н, *што мушу тут стаяць?»* (М. Л у ж а н і н. Хадок). *Фронт разваліўся. Хто ў тым* в і н н ы? (Я. К о л а с. На шляхах волі). *Брат мой* н я в і н н ы (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Відаць, па-твойму, я, Пятрок, нічога ўжо* н е в а р т! (П. Б р о ў к а. Чырвонгарадок). *Цудоўныя людзі! Чаго* в а р т ы *адзін старшыня сельсавета!* (І. Ш а м я к і н. За жыццё). *Тут кожны пяцярых* в а р т ы (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *І хлопец спатканню з дзяўчынаю* р а д (П. Г л е б к а. Герой і партызанка). Р а д ы *я: сяброў у нас не меней, чым у сонца залатых праменняў* (П. П а н ч а н к а. Лётчыкам «Нармандыі»). *Тата будзе таксама* р а д ы (П. П е с т р а к. Сіла дружбы). *За гэты мурожны, шаўковы прастор* г а т о ў *я памерці цяпер*

(П. Броўка. Магіла). *Параход гатовы, каб адплыць* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

Магчымасці ўтварэння кароткіх форм часта абмяжоўваюцца гукавымі і граматычнымі асаблівасцямі прыметнікаў. Так, прыметнікі, аснова якіх заканчваецца зычным **в**, звычайна не ўтвараюць кароткай формы ў мужчынскім родзе: *ацесліўы, бравы, забыўлівы, крывы, рухавы, цікавы, новы, урадлівы, уласцівы, шчаслівы* і інш. (але параўн.: *гатоў, здароў*). Аналагічна гэтаму ў мужчынскім родзе не ўтвараюць кароткай формы прыметнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных **жн, сн, чн, цн, шн, дн, тн, мн, нн, пн, рн, ўн, йн, тр**: *важны, няважны, дружны, асцярожны, злосны, балесны* (абл.), *непахісны, перадчасны* (але *цесен*), *вечны, недарэчны, небяспечны, неразлучны, прывычны, смачны, удзячны, моцны, страшны, родны, неабходны* (але *бедзен, галодзен, жадзён, згодзен*), *маркотны, смутны, індэферэнтны, прыкметны* (але *здацен, прымецен, спрыцен*), *дарэмны, нязломны, прыемны, сумны* (але *разумен, цёмен*), *неўгамонны, сквапны* (але *дапупен*), *пакорны, непакорны, чорны, чароўны, пэўны* (але *повен, славен, ровен*), *безнадзейны, надзейны, звычайны, супакойны* (але *спакоен, дастоен*), *востры, храбры* (але *хіцёр*).

Заўвага. У мове літаратурных твораў ад прыведзеных вышэй і ім падобных прыметнікаў кароткія формы часам утвараюцца і ў мужчынскім родзе, але гэтыя выпадкі не з'яўляюцца агульнай нормай, яны часцей за ўсё характарызуюць паэтычны і размоўны стылі.

*Барсукі стаіліся па норах у чаканні ціхае начы. Навакольны звон ім недарэчан, што балоты высушыў у рад...* (П. Броўка. Палессе). *Дойга блукалі. Ні хлеба, ні працы. Голад, як цень, неразлучан* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *Калі вера ёсць у грудзях, дык ніхто не страшан* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Чаго смуцен, мой Даніла?* (Я. Колас. Паслушная жонка). *Гусі, гусі, вырай вольны! Сумен крык ваш, гусі* (Я. Колас. Гусі). *Я пэвен, што Незвычайны мяне не ашукае* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Быў ветліў з усімі, як толькі ільга, і асабліва з начальствам* (П. Глебка. Арка над акіянам).

Калі ў мужчынскім родзе прыметнікі апошняй групы па фанетычных і марфалагічных прычынах не могуць свабодна ўтвараць кароткіх форм, то ў жаночым і ніякім родзе, а таксама ў множным ліку кароткія формы ад гэтых прыметнікаў з'яўляюцца звычайнымі, прычым яны не выходзяць за межы літаратурнай нормы.

*Для яе ўсё было нова, цікава* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ды гэта ўсё не важна. Важна пачуццё, што* [мельнік] *тут старшы, што гаспадар* (К. Чорны. Мельнікі). *Год дзевятнаццаты. Прадвесня такая, што дасюль чутна. Як перадчасна, як балесна Свярдлова свежая труна* (М. Лужанін. Жывыя рысы Ільіча). *...Такому вялікаму і дружнаму калектыву ніякая завіруха не страшна* (І. Шамякін. Сялянка). *Не прайсці чужаземцам, моцна сіла ў народзе* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *Трэба, каб усе камандзіры, палітрукі як след разумелі, як небяспечна ў цяперашні час, у іх становішчы, бязвер'е* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Мне ўсё дарага тут, люба, родна, прыгожа...* (П. Броўка. Спатканне). *Так і хочацца, бачачы смутку пячаць* [у Стасі], *чаго смутна? — спытаць, ды не зручна пытаць* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Вецер над дамамі сцягамі палошча. Неўгамонна сёння гарадская плошча* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Ад сонца яснага яна уся чорна і лёсу горкаму яна пакорна* (У. Дубоўка. Чые рукі прыгажэйшыя?). *Дзіўна тут усё і незнаёма: песня-крык і востры пах пладоў...* (П. Панчанка. У Тэгеране). *У жыцці ўсё вынесу, мне не страшны ворагі* (М. Чарот. Песня).

Такім чынам, кароткія формы прыметнікаў складаюць непрадуктыўную катэгорыю ў граматычнай сістэме сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэтыя формы ўтвараюцца ад параўнальна невялікай групы якасных прыметнікаў, прычым нават і ў гэтых нешматлікіх выпадках магчымасці ўтварэння кароткіх форм часта абмежаваны пэўнымі фанетычнымі

і марфалагічнымі ўмовамі (характарам асновы). Непрадуктыўнасць кароткіх форм прыметнікаў выражаецца і ў тым, што яны не змяняюцца па склонах і выступаюць (заўсёды ў застылай форме назоўнага склону) толькі ў ролі выказніка. Гэтай функцыяй абумоўлен пераход кароткіх форм некаторых прыметнікаў (напрыклад, *гатоў, рад*) у асобы разрад так званых прэдыкатыўных слоў, або ў катэгорыю стану.

Заўвага 1. У выразе *ад мала да вяліка* кароткая форма роднага склону субстантываваных прыметнікаў *малы, вялікі* з'яўляецца перажытачнай і не ўваходзіць у жывую сістэму скланення прыметнікаў сучаснай мовы.

Заўвага 2. Кароткія формы назоўнага, вінавальнага і роднага склонаў адзіночнага ліку прыметніка *сіні* захоўваюцца часам у традыцыйна-фальклорных формулах, адлюстраваных у сучасных паэтычных творах.

*Калі б між намі ўсталі горы, я мог бы іх скапаць, скрышыць; а разлілося б сіне мора, — яго я змог бы пераплыць* (М. Танк. Каторы дзень). *Лодкі выплылі на Нарач, бы на сіне мора* (М. Танк. Нарач). *А сам пайшоў на бераг з братам, дзе леглі на пясчаны ўзгорак і проста ў твар вятроў кудлатых дзьмуць пачалі на сіне мора* (М. Танк. Казка пра музыку). *Падышлі да сіня мора. Мора дрэмле, серабрыцца* (там жа). *Вяль Музыку так гаворыць: мы гасцей з-за сіня мора без цябе тут прывітаем* (там жа).

Аб сцягнутых (усечаных) формах прыметнікаў гл. § 455, 456.

## *Пераход прыметнікаў у назоўнікі (субстантывацыя)*

§ 430. Пераход прыметнікаў у назоўнікі (субстантывацыя) адбываецца ў тых выпадках, калі пэўная якасць, уласцівая прадмету, абстрагуецца ад яго і робіцца паказчыкам самой прадметнасці.

У працэсе субстантывацыі прыметнікі страчваюць сваё агульнае, шырокае значэнне якаснасці і набываюць больш вузкае значэнне прадметнасці, у некаторых жа выпадках адбываецца таксама змяненне зыходнага значэння прыметнікаў; напрыклад, прыметнік *маладыя* набыў значэнне «толькі што ўступіўшыя ў шлюб», прыметнік *малы* — значэнне «хлопчык», прыметнік *малыя* — значэнне «дзеці», прыметнік *крылатыя* — значэнне «птушкі» і інш.

У сучаснай беларускай мове ў залежнасці ад ступені субстантывацыі можна вылучыць дзве асноўныя групы прыметнікаў:

а) прыметнікі, якія поўнасцю перайшлі ў клас назоўнікаў і не ўжываюцца ў сваіх першапачатковых значэннях і функцыях; да гэтай групы адносяцца, напрыклад, некаторыя назвы асоб па роду іх занятках або па сацыяльнаму становішчу: *дазорны, дзесяцкі* (гіст.), *ездавы, зодчы, ляснічы, падлойчы* (гіст.), *соцкі* (гіст.), *сувязны, служачы, камандуючы, паняты, памагаты;* сюды прымыкаюць многія ўласныя прозвішчы, утвораныя ад прыналежных прыметнікаў: *Жураўлёў, Сцяпанаў, Тарасаў, Еўдакімаў, Сідараў, Гаўрылаў, Старавойтаў, Салаўёў, Шчукін, Плоткін, Курыцын* і інш.; геаграфічныя назвы, утвораныя ад прыналежных ці па тыпу прыналежных прыметнікаў: *Барысаў, Петрыкаў, Тураў, Лоеў, Брагін* і інш.; многія батанічныя тэрміны: *аралієвыя, ароідныя, аронікавыя, архідныя, арэшнікавыя, асаковыя, бабовыя* і інш.; некаторыя заалагічныя тэрміны: *асятровыя, аленевыя, брuханогія, дваякадыхальныя* і інш.; назвы памяшканняў: *чайная, блінная, шашлычная, каўбасная.*

б) Прыметнікі, якія не поўнасцю субстантываваліся і могуць ужывацца як ва ўласным значэнні, так і ў значэнні назоўнікаў: *кур'ерскі поезд — кур'ерскі, гасцінная сустрэча — гасціная, шампанскае віно — шампанскае, буланы конь — буланы, пеўчыя птушкі — пеўчыя, радавы салдат — радавы, прыдворны чалавек — прыдворны, дакладная запіска — дакладная, адбіўная катлета — адбіўная, паляўнічыя прылады — паляўнічы, ротны камандзір — ротны, слясарная майстэрня — слясарная, яравыя культуры — яравыя, цывільны чалавек — цывільны, галосны гук — галосны, зычны гук — зычны* і інш. Параўн. у наступных прыкладах:

*У паляўнічы кут прывёў дакладны шлях* (А. Куляшоў. Глушцы). *Ён глядзеў на ўсё з усмешкай сваімі вострымі прыплюшчанымі вачыма паляўнічага* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Падумаеш, якая сур'ёзная справа — пракладка запасных пуцей. Што мы будзем рабіць на гэтых запасных?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Над калыскай матка ночку каратае, хворага сыночка цешыць, забаўляе* (Я. Колас. Уночы). *Хворых сапраўды было вельмі мала* (І. Шамякін. За жыццё). *Не сходзіць вечна з вартавога вока прыдбаны скарб...* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык). *Прытуліўшы плечы к дубу, ціху ловіць вартавы* (Я. Колас. Засада). *Дзяжурны ўрач тэрмінова выклікаў яе ў шпіталь* (І. Шамякін. Хлопчык з-за акіяна). *З дзвярэй выйшаў дзяжурны сустракаць цягнік* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Ад субстантывацыі прыметнікаў ва ўласным сэнсе гэтага тэрміна неабходна адрозніваць выпадкі, калі азначаемы назоўнік апускаецца ў сувязі з ужываннем яго ў папярэднім кантэксце, а яго ролю пачынае выконваць адпаведны прыметнік. *Самы стрыжань ракі як бы разбіваўся тут на дзве няроўныя палавіны. Большая імклівая цякла далей. Меншая заварочвала назад і ўсё кружыла, віравала між густымі лазнякамі берага* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 431. Пераход прыметнікаў у клас назоўнікаў, як правіла, не выклікае страты граматычных форм, якія былі першапачаткова ўласцівы гэтым прыметнікам. Аднак змена значэння і функцый субстантываваных прыметнікаў усё ж адбіваецца пэўным чынам на ўжыванні іх форм.

1. Форма роду субстантываваных прыметнікаў звычайна адпавядае форме роду таго назоўніка, да якога гэты прыметнік дапасоўваўся. Таму ў выпадках, калі няма суадносных пар назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, у значэнні якіх выступае субстантываваны прыметнік, апошні мае толькі адну фіксаваную форму роду:

а) толькі форму мужчынскага роду: *ездавы* (салдат, баец), *радавы* ( салдат, баец, воін), *ротны, узводны* (камандзір), *дазорны* (баец, салдат), *ваенны* (чалавек), *канвойны* (салдат, афіцэр), *барадаты* (мужчына, чалавек), *выхадны* (дзень), *рабочы* (чалавек), *участковы* (міліцыянер, землямер), параўн. таксама гістарызмы *земскі, соцкі, дзесяцкі* (начальнік), *станавы* (прыстаў).

б) Толькі форму жаночага роду: *пасяўная, уборачная* (кампанія), *накладная* (квітанцыя), *адбіўная* (катлета), *прахадная* (будка), *перадавая* (пазіцыя, лінія), *страявая* (падрыхтоўка), *Першая конная* (армія). Сюды ж можна аднесці субстантываваныя прыметнікі *чайная, сталовая, закусачная, сасісачная, блінная, пярэдняя, гасціная, настаўніцкая, прафесарская, більярдная, аперацыйная, перавязачная, апаратная, прыёмная* і некаторыя іншыя, запазычаныя з рускай мовы, у якой яны раней дапасоўваліся звычайна да назоўнікаў *изба, комната.* Аналагічна гэтаму толькі ў форме жаночага роду ўжываюцца запазычаныя з рускай мовы субстантываваныя прыметнікі *халодная, каўбасная, кацельная, кладовая, пераплётная,* якія таксама так ці інакш звязваюцца з паняццем «комната».

*Дзед Пілiп расчыняе дзверы халоднай* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Каўбасную, маслабойню і сыраварню Кругалевіч арганізаваў у першы год свайго старшынства* (І. Гурскі. Шумяць лясы зялёныя). *На выкарыстанне фрэзернага торфу павінны арыентавацца не толькі электрастанцыі, але таксама і невялікія прамысловыя кацельныя* (з газет).

Некаторыя субстантываваныя прыметнікі жаночага роду ўжываюцца ў складзе фразеалагічных спалучэнняў слоў.

*Скуль яго з немачай гэтай нялёгкая гоніць* (Я. Купала. Вецер).

У выпадках наяўнасці суадносных пар назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, у значэнні якіх выступае субстантываваны прыметнік,

апошні можа ўжывацца ў абедзвюх формах роду: *стары — старая, малы — малая* (форма *малое* мае больш агульнае значэнне — «дзіця»), *сувязны — сувязная, грузавы* (аўтамабіль) — *грузавая* (машына), *хворы — хворая, старшы — старшая, галоўны — галоўная, малады — маладая* і інш. Сюды ж адносяцца шматлікія ўласныя прозвішчы тыпу *Сцяпанаў — Сцяпанава, Міхайлаў — Міхайлава.*

в) Некаторыя субстантываваныя прыметнікі ўжываюцца толькі ў форме ніякага роду, яны выступаюць у шырокім адцягненым значэнні якасці: *новае, старое, маленькае, вялікае, злое, добрае* і інш.

*Не пра быўшае* к а й д а н н а е *гэту песню я складаю* (Я. Купала. Святочныя вершы). *І вось яно прыйшло на шляхі — наша* а г у л ь н а е, г а л о ў н а е *і ўрэзала ў зямлю лемяхі* (А. Куляшоў. На лузе ўначы). *Б ы л о м у — б ы л о е, н о в а м у — н о в а е* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *В я л і к а е пачынаецца з м а л е н ь к а г а.* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Ён* [Туравец] *бачыў, што Аўдоцця пачула ў яго голасе н я д о б р а е* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Спявалі і в я с ё л а е, с м е ш н а е і н е с м е ш н а е* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Работнікі аптэкі... ажыўлена гаварылі пра нешта і, відаць, пра с у м н а е, бо сумныя былі і галасы* (там жа). *Максім падумаў, што п р а ф е с і я н а л ь н а е, н а с т а ў н і ц к а е трымаецца ў Макушэнкі вельмі моцна* (І. Шамякін. У добры час). *У хваляванні мора, ў калыханні бора — м н о г а е мне міла, м н о г а е мне блізка* (Ц. Гартны. Мая стыхія).

У радзе выпадкаў субстантываваныя прыметнікі ніякага роду ўжываюцца ў складзе ўстойлівых словазлучэнняў.

*Музыкант... палічыў за л е п ш а е пайсці спаць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Назад ад машын!» — палічыў п а т р э б н ы м крыкнуць падпалкоўнік* (там жа). *Я не лічу, пан афіцэр, г а н е б н ы м, каб мець знаёмства з Заслонавым і Харошавым* (там жа). *«Вось і зманіў ты, Піліпчык, я ж гаварыў, што зманіў!» — І Васілька вылузаўся з рук дзяўчыны, бо лічыў н е п р ы с т о й н ы м для сябе ўсякія там мілошчы з чужымі людзьмі* (там жа).

2. Ва ўжыванні форм склону субстантываваных прыметнікаў назіраюцца наступныя асаблівасці.

У родным склоне адзіночнага ліку субстантываваныя прыметнікі мужчынскага роду, якія з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі, а таксама прыметнікі ніякага роду на **-ава, -ова, -ева, -ёва,** якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі, маюць канчатак нячленных прыметнікаў **-а:** *Сцяпанава, Сініцына, Дзятлава, Сычкова.*

У творным склоне адзіночнага ліку субстантываваныя прыметнікі мужчынскага і ніякага роду на **-аў, -ава,** якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі, выступаюць, падобна назоўнікам мужчынскага і ніякага роду, з канчаткам **-ам** (у адрозненне ад звычайнага канчатка прыметнікаў **-ым**): *Барысавам, Кіравам, Каханавам, Дзятлавам, Ланькавам, Шарашовам, Сінягавам.*

Некаторыя субстантываваныя прыметнікі, якія з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі, ужываюцца толькі ў форме роднага склону множнага ліку: *Баранавых, Мелкіх, Чарных.*

Толькі ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку жаночага роду ўжываецца субстантываваны прыметнік *на бакавую,* які ператварыўся ў фразеалагізм прыслоўнага тыпу.

*Мы вось, як толькі прывал ці адпачынак, адразу н а б а к а в у ю, а камандзіру роты і справаздачы розныя трэба даваць і людзей праверыць* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

3. Пры ўжыванні форм ліку субстантываваных прыметнікаў назіраюцца наступныя асаблівасці:

а) субстантываваныя прыметнікі мужчынскага і ніякага роду, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі (тыпу *Тураў, Каханава, Слаўнае*), а таксама прыметнікі ніякага роду з абстрактным значэннем якасці і са

значэннем рэчыва (тыпу *мінулае, злое, святое, незвычайнае, балючае, добрае, гаручае)* маюць толькі форму адзіночнага ліку.

Субстантываваныя прыметнікі, якія з'яўляюцца ўласнымі індывідуальнымі прозвішчамі (тыпу *Сцяпанаў, Андрэеў, Мядзведзеў, Прыдатны)*, таксама ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку. Аднак у тых выпадках, калі пры дапамозе субстантываванага прыметніка неабходна назваць каго-небудзь з членаў сям'і або цэлую сям'ю, ужываецца форма множнага ліку.

*Да Міхалёвай хаты вечарамі падыходзілі адзінокія фігуры, асцярожна стукалі ў шыбу, выклікалі з* М і х а л ё в ы х *каго-небудзь на двор* (П. Г а л а в а ч. Рубанаўскі вузел).

Не могуць мець форм множнага ліку нячленныя субстантываваныя прыметнікі, паколькі яны не змяняюцца па ліках у сучаснай мове.

*Паклоны б'е* с т а р *мне і* м о л а д (Я. К у п а л а. Голад).

б) Вялікая група субстантываваных прыметнікаў ужываецца толькі ў форме множнага ліку. Сюды, напрыклад, адносяцца прыметнікі, якія з'яўляюцца спецыяльнымі тэрмінамі ў галіне батанікі *(багноўкавыя, балотнікавыя, бальзамінавыя, барбарысавыя, браткавыя, бружмелевыя, брызглінавыя, букавыя, бярозавыя, бяскветкавыя, валяр'янавыя, варсянкавыя, васкоўнікавыя, верасовыя, вінаградныя, вужоўнікавыя, вязавыя, вярбовыя, гарбузовыя, гарлачыкавыя, гарычкавыя, голанасенныя, губацветныя, двухдольныя, дзеразовыя, драсёнавыя, жабінкавыя* і інш.); у галіне заалогіі *(беспазваночныя, вераб'іныя, веслаогія, вугрападобныя, вусаногія, галянастыя, двухкапытныя, двухкрылыя, дзесяціногія, дзікабразавыя, жвачныя, жывародзячыя, земнаводныя, іглаекурыя, карпавыя, калючапёрыя, камбаловыя, крыланогія, курыныя, кішачнадыхаючыя, кругларотыя, лускакрылыя, перапончатакрылыя* і інш.).

З ліку іншых разрадаў субстантываваных прыметнікаў, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, можна адзначыць прыметнікі *азімыя, дамашнія, звышурочныя, кармавыя, каласавыя, камандзіровачныя, камісійныя, пад'ёмныя, прэміяльныя, сутачныя, чаявыя* (устар.).

Некаторыя субстантываваныя прыметнікі ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку ў складзе фразеалагічных спалучэнняў слоў.

*Вы чулі, што сказаў гэты дзяцел? Сцягнуць яго з сядла ды ўсыпаць* г а р а ч ы х*!* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

4. Субстантываваныя прыметнікі, падобна звычайным якасным прыметнікам, могуць ужывацца ў формах ступеней параўнання, прычым значэнне параўнання якасці яны страчваюць, але захоўваюць адценне безадносна высокай якасці, якое сумяшчаецца са значэннем прадметнасці.

*Тым часам хлопцы падрасталі,* с т а р э й ш ы м *дома памагалі* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Вячэра неўзаметку перайшла ў бяседу. А хто* м а л а д з е й ш ы, *той зацягнуў і песню* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). С л а б е й ш ы х, *спяшаючыся, панеслі на грузавік, туды ж пагрузіліся і ўсе, хто трымаўся яшчэ на нагах* (там жа). Б я д н е й ш ы я *на пасёлкі ідуць,* б а г а ц е й ш ы я *на хутары* (П. Г а л а в а ч. Рубанаўскі вузел). *Ён падумаў, што зараз павінен сказаць* с а м а е в а ж н а е, *што належыць ім ведаць* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 432. Падобна назоўнікам, субстантываваныя прыметнікі выступаюць у сказе ў функцыі дзейніка, дапаўнення, акалічнасці або прыдатка і могуць мець пры сабе азначэнні, выражаныя прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і займеннікамі.

*Першы раз* д а р о с л ы б е л ы *пацісnуў яму руку, як зусім роўнаму!* (І. Ш а м я к і н. Хлопчык з-за акіяна). *Загадчык УЗО,* м я с ц о в ы г а р а д с к і р а б о ч ы, *трымаў у руках заяву Рубанаўкі* (П. Г а л а в а ч. Рубанаўскі вузел). *Калі Чмаруцька падышоў бліжэй, яму здалося, што ён яшчэ пачуў такія гукі, як тады, калі ўпала* г э т а б е л а е (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *І ніхто і ніпіто не перашкаджае думкам тваім:*

*вось прыйдзе — прыйдзе Вадзім з вайны. І насустрач яму выведзе яна гэтых любых і слаўных: прымай, Вадзім, і шануй іх* (там жа).

З'яўляючыся тым ці іншым членам сказа, субстантываваныя прыметнікі (у тым ліку тыя, якія паходзяць ад дзееприметнікаў) могуць мець пры сабе таксама залежныя паясняльныя назоўнікі, а ў некаторых выпадках і прыслоўі.

*Дзяжурны па гарнізону абвясціў трывогу* (з газет). *Камандуючы фронтам бачыў, як сержанты кантрольнага пункта... правяралі дакументы ў афіцэра сувязі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Тая сапраўды паверыла, што яе* [дачку] *паслалі адпачыць на які тыдзень-другі ў вёсцы, да добрых знаёмых Веры* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## СКЛАНЕННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 433. У сучаснай беларускай мове склонавыя формы маюць толькі членныя прыметнікі (аб некаторых рэштках форм нячленных прыметнікаў гл. у § 429).

Склонавыя формы членных прыметнікаў адрозніваюцца ў залежнасці ад роду, ад канцавога зычнага асновы, а таксама ад месца націску (на аснове або на канчатку), прычым род і месца націску ўплываюць на формы словазмянення прыметнікаў толькі ў адзіночным ліку.

У мужчынскім і ніякім родзе склонавыя формы прыметнікаў, за выключэннем назоўнага і вінавальнага склонаў, супадаюць, таму гэтыя дзве разнавіднасці скланення будуць разглядацца разам.

Формы прыметнікаў у множным ліку адрозніваюцца толькі ў залежнасці ад характару канцавога зычнага асновы.

### *Скланенне адносных і якасных прыметнікаў у адзіночным ліку*

#### § 434. Узор скланення прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду

Аснова на цвёрдыя зычныя

ненаціскныя канчаткі

| | м. р. | н. р. | м. р. | н. р. | м. р. | н. р. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *нов-ы* | *нов-ае* | *шчыр-ы* | *шчыр-ае* | *свеж-ы* | *свеж-ае* |
| Р. | *нов-ага* | | *шчыр-ага* | | *свеж-ага* | |
| Д. | *нов-аму* | | *шчыр-аму* | | *свеж-аму* | |
| В. | *нов-ы* | *нов-ае* | *шчыр-ы* | *шчыр-ае* | *свеж-ы* | *свеж-ае* |
| | *нов-ага* | | *шчыр-ага* | | *свеж-ага* | |
| Т. | *нов-ым* | | *шчыр-ым* | | *свеж-ым* | |
| М. (аб) | *нов-ым* | | *шчыр-ым* | | *свеж-ым* | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *харош-ы* | *харош-ае* | *дзіцяч-ы* | *дзіцяч-ае* | *ніц-ы* | *ніц-ае* |
| Р. | *харош-ага* | | *дзіцяч-ага* | | *ніц-ага* | |
| Д. | *харош-аму* | | *дзіцяч-аму* | | *ніц-аму* | |
| В. | *харош-ы* | *харош-ае* | *дзіцяч-ы* | *дзіцяч-ае* | *ніц-ы* | *ніц-ае* |
| | *харош-ага* | | *дзіцяч-ага* | | | |
| Т. | *харош-ым* | | *дзіцяч-ым* | | *ніц-ым* | |
| М. (аб) | *харош-ым* | | *дзіцяч-ым* | | *ніц-ым* | |

нацiскныя канчаткі

| | м. р. | н. р. | м. р. | н. р. | м. р. | н. р. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *густ-ы* | *густ-ое* | *стар-ы* | *стар-ое* | *чуж-ы* | *чуж-ое* |
| Р. | *густ-ога* | | *стар-ога* | | *чуж-ога* | |
| Д. | *густ-ому* | | *стар-ому* | | *чуж-ому* | |
| В. | *густ-ы* | *густ-ое* | *стар-ы* | *стар-ое* | *чуж-ы* | *чуж-ое* |
| | | | *стар-ога* | | *чуж-ога* | |
| Т. | *густ-ым* | | *стар-ым* | | *чуж-ым* | |
| М. | (аб) *густ-ым* | | *стар-ым* | | *чуж-ым* | |

Аснова на **г, к, х**

ненацiскныя канчаткі

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *строг-i* | *строг-ае* | *дзiк-i* | *дзiк-ае* | *цiх-i* | *цiх-ае* |
| Р. | *строг-ага* | | *дзiк-ага* | | *цiх-ага* | |
| Д. | *строг-аму* | | *дзiк-аму* | | *цiх-аму* | |
| В. | *строг-i* | *строг-ае* | *дзiк-i* | *дзiк-ае* | *цiх-i* | *цiх-ае* |
| | *строг-ага* | | *дзiк-ага* | | *цiх-ага* | |
| Т. | *строг-iм* | | *дзiк-iм* | | *цiх-iм* | |
| М. | (аб) *строг-iм* | | *дзiк-iм* | | *цiх-iм* | |

нацiскныя канчаткі

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *дараг-i* | *дараг-ое* | *трапятк-i* | *трапятк-ое* | *сух-i* | *сух-ое* |
| Р. | *дараг-ога* | | *трапятк-ога* | | *сух-ога* | |
| Д. | *дараг-ому* | | *трапятк-ому* | | *сух-ому* | |
| В. | *дараг-i* | *дараг-ое* | *трапятк-i* | *трапятк-ое* | *сух-i* | *сух-ое* |
| | *дараг-ога* | | *трапятк-ога* | | *сух-ога* | |
| Т. | *дараг-iм* | | *трапятк-iм* | | *сух-iм* | |
| М. | (аб) *дараг-iм* | | *трапятк-iм* | | *сух-iм* | |

Аснова на мяккiя зычныя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *сiн-i* | *сiн-яе* | *леташн-i* | *леташн-яе* |
| Р. | *сiн-яга* | | *леташн-яга* | |
| Д. | *сiн-яму* | | *леташн-яму* | |
| В. | *сiн-i* | *сiн-яе* | *леташн-i* | *леташн-яе* |
| Т. | *сiн-iм* | | *леташн-iм* | |
| М. | (аб) *сiн-iм* | | *леташн-iм* | |

§ 435. Формы назоўнага склону. Прыметнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрдыя маюць як не пад націскам, так і пад націскам канчатак **-ы**, а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-і**.

*Голас у яе быў малад***ы**, *свеж***ы**, *сакавіт***ы** (Я. Колас. У палескай глушы). *А месца мне тут вельмі падабаецца, і народ тутэйшы добр***ы** (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Залаціцца ціх***і** *дзень* (К. Чорны. На граніцы).

Прыметнікі ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ае**, пад націскам — **-ое**; прыметнікі з асновай на мяккія зычныя маюць канчатак **-яе** (ён заўсёды ненаціскны).

*Шчодра ліло цяпло яскрав***ае** *красавіцк***ае** *сонца* (І. Шамякін. Маленькая парыжанка). *Чаго спяшацца, надвор'е гэткае добр***ае** (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Гожа звіваецца ў лозах зялёных, бы срэбра жыв***ое**, *рака* (Я. Колас. На лузе). *Бяру ў прыгаршні празрыстае вады — і сонца трапятк***ое** *у руках* (П. Панчанка. Бяроза). *Неба сі-*

*няе стала самой сінявой, бо красуюць фіялкі адна ля адной* (У. Дубоўка. Дзяўчына і кілім).

§ 436. Формы роднага склону. Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрдыя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ага,** пад націскам — **-ога;** прыметнікі з асновай на мяккія зычныя маюць канчатак **-яга** (ён заўсёды ненаціскны).

*Града хмызнячн***ага** *зарасніку ішла ў гэтым месцы пайз дарогу* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вакол стар***ога** *графск***ага** *саду і парку шуміць калгасная збажына* (Я. Брыль. Хоць бы самым маленькім). *Дождж перастаў. Прыпякала сонца. Ад мокр***ага** *касцюма стар***ога** *і сукенкі дзяўчыны ўзнімалася лёгкая пара* (І. Шамякін. Крыніцы). *Хацелася пагаварыць, адысціся з думкамі ад гэтага смутна-балюч***ага** *настрою* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *К вечару пакідае звінець неабдымная шырыня летн***яга** *дня, і кладзецца цішыня на зямлю* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

§ 437. Формы давальнага склону. Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-аму,** пад націскам — **-ому;** прыметнікі з асновай на мяккія зычныя маюць канчатак **-яму** (ён заўсёды ненаціскны).

*Здавалася, не будзе канца яе лютай сіле, яе злосн***аму** *завыванню* (Я. Колас. На ростанях). *А лес, нерухліва развесіўшы свае галіны, маўкліва слухаў гэты гімн вясне і малад***ому** *жыццю* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ён крокі пазнае сваіх і чужых па лёгк***аму** *шэлесту веццяе* (П. Глебка. На варце).

§ 438. Формы вінавальнага склону. У вінавальным склоне прыметнікі мужчынскага і ніякага роду, якія дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў, маюць формы назоўнага склону **(-ы, -і; -ае, -ое, -яе),** а прыметнікі, якія дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў,— формы роднага склону **(-ага, -ога, -яга).**

*У туманах павольна, засцілаючы дарожн***ы** *адхон густым дымам, пад'язджаў да горада поезд* (П. Галавач. Праз гады). *Я песні бяру свае ў дальн***і** *паход* (М. Танк. Нарач). *Жанчына прыклала далоню да ілба і акінула вачыма шырок***і** *слуцк***і** *далягляд* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Схіліла рабіна зялён***ае** *вецце* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Яго цягнула ў рабоч***ае** *асяроддзе* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *А дубы шапацелі нясмела, нібы слухалі мудрае веча...* (М. Чарот. Прыпяць). *Хвалі ўзняліся і сонца вячэрн***яе** *з неба змылі і кінулі ў мора, у рокат, у гром* (М. Танк. У шторм). *Я малака гладыш са смакам выпіў і сеў на прызбе пад старою ліпай, трымаючы мал***ога** *хлапчука на дужых і ўпэўненых руках* (П. Панчанка. Маё і тваё маленства). *Лясніцкі расказаў пра свае апошнія прыгоды... Толькі не памянуў зусім пра свой візіт да Раісы ды замест Халімы ўставіў у апавяданне аднаго знаём***ага** *хлопца — не хацеў напамінаць пра яго* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 439. Формы творнага склону. У творным склоне прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць як не пад націскам, так і пад націскам канчатак **-ым,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-ім.**

*Жыта ў полі налілося воскам жоўт***ым** *і густ***ым** (П. Броўка. Кацярына). *Хай слава ярк***ім** *сонечн***ым** *агнём над змагаром гарыць на вечны час* (М. Танк. Янук Сяліба). *Бор адгукаўся глух***ім** *адгалоскам* (П. Панчанка. Хвала вам!). *Нахіліліся травы перад захадам сін***ім** (П. Броўка. Хлеб).

§ 440. Формы меснага склону. У месным склоне прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрдыя зычныя маюць як не

пад націскам, так і пад націскам канчатак **-ым**; прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) маюць канчатак **-ім**.

*У белым снезе ўся зямля* (П. Глебка. Зіма). *Аўтобус едзе па новым драўляным мосце цераз раку* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *У страі, у пярэднім радзе, ішоў чырвонагвардзеец Тарэнта Шкробат* (П. Галавач. Праз гады). *Хмары ўсё плылі па высокім небе* (К. Чорны. Зямля). *Коні мірна хадзілі па лесе глухім* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Ужо зацвілі ліпы, і ў ціхім вячэрнім змроку плыў над сядзібай машынна-трактарнай станцыі густы струмень мядовых пахаў* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *На дзікім каменні, на дзікім і жорсткім, шыпшына не звяла, пасцеле цвяцістасць* (У. Дубоўка. У снежных далінах, далінах бяскрайных).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры ёсць выпадкі, калі да назоўніка, ужытага ў форме меснага склону, прыметнік дапасуецца ў форме давальнага склону. Такія выпадкі з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы.

*Па цяжкаму бруку з вялікіх каменняў вуліца паднімаецца ад чыгункі ўгору...* (К. Чорны. Захар Зынга). *Цэлае лета пабокаўцы хадзілі за каморнікам на полі, сенажацях, хмызняку балотнаму...* (П. Галавач. Кнак). *Імчыць ён* [Васіль] *па светламу полю імкліва* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Машына, цяжкая і нерухомая, паволі сунецца па роўнаму фрэзернаму полю, усмоктваючы ў сябе тарфяную крошку і пыл* (П. Галавач. Праз гады).

## § 441. Узор скланення прыметнікаў жаночага роду

Аснова на цвёрдыя зычныя

ненаціскныя канчаткі

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *нов-ая* | *шчыр-ая* | *свеж-ая* | *харош-ая* |
| Р. | *нов-ай (-ае)* | *шчыр-ай (-ае)* | *свеж-ай (-ае)* | *харош-ай (-ае)* |
| Д. | *нов-ай* | *шчыр-ай* | *свеж-ай* | *харош-ай* |
| В. | *нов-ую* | *шчыр-ую* | *свеж-ую* | *харош-ую* |
| Т. | *нов-ай (-аю)* | *шчыр-ай (-аю)* | *свеж-ай (-аю)* | *харош-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) нов-ай* | *шчыр-ай* | *свеж-ай* | *харош-ай* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *дзіцяч-ая* | *ніц-ая* |
| Р. | *дзіцяч-ай (-ае)* | *ніц-ай (-ае)* |
| Д. | *дзіцяч-ай* | *ніц-ай* |
| В. | *дзіцяч-ую* | *ніц-ую* |
| Т. | *дзіцяч-ай (-аю)* | *ніц-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) дзіцяч-ай* | *ніц-ай* |

націскныя канчаткі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *густ-ая* | *стар-ая* | *чуж-ая* |
| Р. | *густ-ой (-ое)* | *стар-ой (-ое)* | *чуж-ой (-ое)* |
| Д. | *густ-ой* | *стар-ой* | *чуж-ой* |
| В. | *густ-ую* | *стар-ую* | *чуж-ую* |
| Т. | *густ-ой (-ою)* | *стар-ой (-ою)* | *чуж-ой (-ою)* |
| М. | *(аб) густ-ой* | *стар-ой* | *чуж-ой* |

Аснова на **г, к, х**

ненаціскныя канчаткі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *строг-ая* | *дзік-ая* | *ціх-ая* |
| Р. | *строг-ай (-ае)* | *дзік-ай (-ае)* | *ціх-ай (-ае)* |
| Д. | *строг-ай* | *дзік-ай* | *ціх-ай* |
| В. | *строг-ую* | *дзік-ую* | *ціх-ую* |
| Т. | *строг-ай (-аю)* | *дзік-ай (-аю)* | *ціх-ай (-аю)* |
| М. | *(аб) строг-ай* | *дзік-ай* | *ціх-ай* |

націскныя канчаткі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *дараг-ая* | *трапятк-ая* | *сух-ая* |
| Р. | *дараг-ой (-ое)* | *трапятк-ой (-ое)* | *сух-ой (-ое)* |
| Д. | *дараг-ой* | *трапятк-ой* | *сух-ой* |
| В. | *дараг-ую* | *трапятк-ую* | *сух-ую* |
| Т. | *дараг-ой (-ою)* | *трапятк-ой (-ою)* | *сух-ой (-ою)* |
| М. | *(аб) дараг-ой* | *трапятк-ой* | *сух-ой* |

Аснова на мяккія зычныя

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *сін-яя* | *леташн-яя* |
| Р. | *сін-яй (-яе)* | *леташн-яй (-яе)* |
| Д. | *сін-яй* | *леташн-яй* |
| В. | *сін-юю* | *леташн-юю* |
| Т. | *сін-яй (-яю)* | *леташн-яй (-яю)* |
| М. | *(аб) сін-яй* | *леташн-яй* |

§ 442. Формы назоўнага склону. Прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць канчатак **-ая,** прыметнікі з асновай на мяккія зычныя маюць канчатак **-яя.**

*Асенн***яя** *чорн***ая** *ноч пацямнела, калі Андрэй выйшаў на вуліцу* (М. Чарот. На Пасеках). *Свеж***ая** *лыжня вяла праз горад у поле* (І. Шамякін. Крыніцы). *У пакоіку яго спаткала гаспадыня, нізк***ая** *жанчына* (Я. Колас. У палескай глушы).

§ 443. Формы роднага склону. Прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ай,** пад націскам — **-ой,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя — канчатак **-яй.** Гэтыя канчаткі з'яўляюцца для роднага склону асноўнымі, найбольш пашыранымі ў сучаснай літаратурнай мове. Аднак побач з імі суіснуюць таксама канчаткі **-ае, -ое, -яе,** якія ўжываюцца пераважна ў мове літаратурна-мастацкіх твораў і ў размоўных стылях.

*Плуг пайшоў роўна, адвальваючы скібы цёпл***ай,** *бур***ай** *зямлі* (П. Пестрак. Лясная песня). *Ніякая іншая пташка, нават праслаўлены салавей, не можа параўнацца ў сваіх спевах з песняю лясн***ой** *жаваранкі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Толькі цяпер, калі Лабановіч апынуўся адзін на грэблі, ён адчувае ўсю глыбіню, глуш і затоеную ціш асенн***яй** *ночы* (там жа). *Саколіч суцяшаў яе і сам гатоў быў расчуліцца ад яе харош***ае** *душэўн***ае** *чысціні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Барсукі стаіліся па норах у чаканні ціх***ае** *начы* (П. Броўка. Палессе). *Ноч праходзіць, золак сіні захістаўся на двары, не заснула Кацярына аж да ранн***яе** *зары* (П. Броўка. Кацярына).

Формы прыметнікаў **-ае, -ое, -яе** часам ужываюцца ў адным і тым жа выказе або ў адным кантэксце побач з формамі **-ай, -ой, -яй.** У такіх выпадках яны звычайна надзелены стылістычнымі функцыямі, прычым у паэтычнай мове паралелізм гэтых форм залежыць і ад патрабаванняў рытму і размеру.

*За квасам елі верашчаку, а потым блінчыкі на маку, а там ламанцы, праснакі з пшанічн***ай** *добр***ае** *мукі* (Я. Колас. Новая зямля). *Гуляйце, вейце, снежныя вятры, ад ранн***яй** *да вячэрн***яе** *зары* (М. Танк. Янук Сяліба). *З далёк***ай** *стромк***ае** *вяршыні звісаў, як нітка, ручаёк* (М. Лужанін. Ручай).

§ 444. Формы давальнага склону. У давальным склоне прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ай,** пад націскам — **-ой,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя — канчатак **-яй** (ён заўсёды ненаціскны).

*Яна дасць энергію заводам некалькіх гарадоў, сельскай гаспадарцы і электрыфікаваным чыгункам* (П. Галавач. Праз гады). *Гэтыя бровы... надавалі верхняй частцы твару суровы выраз* (І. Шамякін. У добры час). *Яны ламалі тоўстыя лусты яшчэ не вельмі чорствага хлеба, мачалі яго ў гарачы, духмяны тлушч і елі спакойна, на поўны рот, як могуць есці толькі тыя, што ведаюць цану і дарагой ядзе і цяжкай працы* (Я. Брыль. На Быстранцы).

§ 445. Формы вінавальнага склону. У вінавальным склоне прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць канчатак **-ую,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя — канчатак **-юю.**

*Вясной сорак трэцяга года Павел Арсеньевіч увайшоў у баявую, дружную, зямляцкую сям'ю атрада «Камсамольскі»* (Я. Брыль. Сэрца камуніста). *П'юць грудзі прагна ранішнюю сінь* (М. Танк. Жураві навы цвет). *Ідуць маладыя глядзець гаспадарку ў палі залатыя пад летнюю хмарку* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве).

§ 446. Формы творнага склону. У творным склоне прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ай,** пад націскам — **-ой,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя — канчатак **-яй.** У мове мастацкай літаратуры і ў размоўных стылях побач з гэтымі канчаткамі прыметнікі жаночага роду нярэдка маюць канчаткі **-аю, -ою, -яю.**

*Ноч прыгожай дрэмаю абняла прастор і нямой паэмаю тчэ ў душы узор* (М. Машара. Ноч зімовая). *Хочацца шчырай душою край неабсяжны абняць* (П. Броўка. Майскія сцягі). *Шумяць і плачуць вярбы галіны парой асенняй, парой дажджлівай* (М. Танк. Плакучая вярба). *На людзей гарматы глядзелі смерцю дзікай* (М. Чарот. Ленін). *З задніх фурманак яго постаць вырысоўвалася шырокаю цёмнаю лапінаю* (К. Чорны. Па дарозе). *Беглі бурнымі шляхамі рэкі ранняю вясной* (П. Броўка. Кацярына).

У стылістычных мэтах або для захавання пэўнага рытму і размеру (у паэтычных творах) прыметнікі на **-аю, -яю, -ою** часам ужываюцца побач з прыметнікамі на **-ай, -яй, -ой** у адным і тым жа сказе або кантэксце.

*І ўяўлялася, што там, за гэтаю старою, пыльнай сцяною з неба, з-за рэдкіх хмар, лінуліся на зямлю ручаіны яснага змроку* (К. Чорны. Мельнікі). *Аднойчы з вячэрняю яснай заранкай прыйшла на магілу сястра-партызанка* (П. Броўка. Магіла байца). *У вёску прыгожаю ранняй вясной з'явіліся два незнаёмых* (П. Глебка. Арка над акіянам).

§ 447. Формы меснага склону. У месным склоне прыметнікі жаночага роду з асновай на цвёрдыя зычныя (у тым ліку на **г, к, х**) маюць не пад націскам канчатак **-ай,** пад націскам — **-ой;** прыметнікі з асновай на мяккія зычныя маюць канчатак **-яй** (заўсёды ненаціскны).

*Ён думаў і аб сваёй новай школе* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ногі нячутна ступаюць па мяккай слізгоце шыпулек* (Я. Скрыган. Таіса). *Сонца іскрыцца і ўсхліпвае, — купаецца ў сіні вясенняй* (М. Чарот. Вясенні балаган).

Заўвага. Відаць, пад уплывам адпаведных канчаткаў роднага склону прыметнікі жаночага роду зрэдку ўжываюцца ў месным склоне з канчаткамі **-ае, -яе, -ое.** Аднак гэтыя формы не атрымалі агульнага пашырэння ў літаратурнай мове і знаходзяцца па-за межамі яе сучасных норм. Сустракаюцца такія формы толькі ў мове мастацкай літаратуры: *у глухое далі* (Я. Купала. Над ракою Арэсай); *у неабсяжнае свабодзе* (Я. Купала. Арлянятам); *у крыві людскоe* (Я. Купала. Грабежнік); *на вытворчае нарадзе* (А. Александровіч. Напор); *на шматпакутнае зямлі* (М. Танк. Пралескі); *на люднае плошчы* (М. Танк. Мы ў свой горад прыйшлі); *у срэбнае аправе* (М. Танк. Янук Сяліба); *на вольнае зямлі* (там жа); *на роднае зямлі* (П. Броўка. Шчорс); *па роднае зямлі* (П. Броўка. Паэт); *аб смачнае ядзе* (П. Броўка. Рыбак).

## *Скланенне адносных і якасных прыметнікаў у множным ліку*

### § 448. Узор скланення прыметнікаў у множным ліку

Аснова на цвёрдыя зычныя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *нов-ыя* | *густ-ыя* | *шчыр-ыя* | *стар-ыя* |
| Р. | *нов-ых* | *густ-ых* | *шчыр-ых* | *стар-ых* |
| Д. | *нов-ым* | *густ-ым* | *шчыр-ым* | *стар-ым* |
| В. | *нов-ыя* | *густ-ыя* | *шчыр-ыя* | *стар-ыя* |
| | *нов-ых* | — — | *шчыр-ых* | *стар-ых* |
| Т. | *нов-ымі* | *густ-ымі* | *шчыр-ымі* | *стар-ымі* |
| М. | (*аб*) *нов-ых* | *густ-ых* | *шчыр-ых* | *стар-ых* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *свеж-ыя* | *харош-ыя* | *дзіцяч-ыя* | *ніц-ыя* |
| Р. | *свеж-ых* | *харош-ых* | *дзіцяч-ых* | *ніц-ых* |
| Д. | *свеж-ым* | *харош-ым* | *дзіцяч-ым* | *ніц-ым* |
| В. | *свеж-ыя* | *харош-ыя* | *дзіцяч-ыя* | *ніц-ыя* |
| | *свеж-ых* | *харош-ых* | — — | — — |
| Т. | *свеж-ымі* | *харош-ымі* | *дзіцяч-ымі* | *ніц-ымі* |
| М. | (*аб*) *свеж-ых* | *харош-ых* | *дзіцяч-ых* | *ніц-ых* |

Аснова на **г, к, х** і на мяккія зычныя

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *строг-ія* | *дараг-ія* | *дзік-ія* | *трапятк-ія* |
| Р. | *строг-іх* | *дараг-іх* | *дзік-іх* | *трапятк-іх* |
| Д. | *строг-ім* | *дараг-ім* | *дзік-ім* | *трапятк-ім* |
| В. | *строг-ія* | *дараг-ія* | *дзік-ія* | *трапятк-ія* |
| | *строг-іх* | *дараг-іх* | *дзік-іх* | *трапятк-іх* |
| Т. | *строг-імі* | *дараг-імі* | *дзік-імі* | *трапятк-імі* |
| М. | (*аб*) *строг-іх* | *дараг-іх* | *дзік-іх* | *трапятк-іх* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *ціх-ія* | *сух-ія* | *сін-ія* | *леташн-ія* |
| Р. | *ціх-іх* | *сух-іх* | *сін-іх* | *леташн-іх* |
| Д. | *ціх-ім* | *сух-ім* | *сін-ім* | *леташн-ім* |
| В. | *ціх-ія* | *сух-ія* | *сін-ія* | *леташн-ія* |
| | *ціх-іх* | *сух-іх* | — — | — — |
| Т. | *ціх-імі* | *сух-імі* | *сін-імі* | *леташн-імі* |
| М. | (*аб*) *ціх-іх* | *сух-іх* | *сін-іх* | *леташн-іх* |

§ 449. Формы назоўнага склону. У назоўным склоне множнага ліку прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак **-ыя**, прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-ія**.

*Адгрымелі ліпеньск***ія** *і жнівеньск***ія** *начн***ыя** *навальніцы, гучна адспяваўшы песні лету* (Я. Колас. На ростанях). *Надзвычай выразн***ыя** *дзявочы***я** *галасы заглушылі піяніна. Спачатку здалося, што гэта радыё... Не, галасы жыв***ыя**, *блізк***ія**, *моцн***ыя** *і шчыр***ыя** (І. Шамякін. Крыніцы). *За шыбамі тлеюць у інеі сін***ія** *зоры* (М. Танк. Нарач).

§ 450. Формы роднага склону. У родным склоне множнага ліку прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак **-ых**, а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-іх**.

*Як вынік слаўн***ых** *спраў, як веліч мудр***ых** *дум, шумяць палі багатым ураджаем* (П. Панчанка. Бяроза). *Нёс цябе* [маладосць] *між даляў дараг***іх** (А. Куляшоў. Маладосць).

§ 451. Формы давальнага склону. У давальным склоне множнага ліку прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак

**-ым**, прыметнікі з асновай на мяккія (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-ім.**

*Добра тады пагулялі, было свята, усім святам, можна сказаць, свята... І пілося і елася, каб заўсёды так усім добр***ым** *людзям...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Слава травам, слава кветкам, слава летн***ім** *ярк***ім** *дням* (П. Глебка. Летні дзень).

§ 452. Формы вінавальнага склону. У вінавальным склоне прыметнікі, якія дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў, маюць канчаткі назоўнага склону **(-ыя, -ія),** а прыметнікі, якія дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў, — канчаткі роднага склону **(-ых, -іх).**

*Канец зімы прынёс туманн***ыя** *дні і цёмн***ыя** *вечары* (К. Чорны. Свята працы і свету). *На сін***ія** *травы, на сосны густ***ыя** *павольна спускаўся жнівеньскі вечар* (П. Панчанка. Конь). *Доўг***ія** *дні ўспамінаючы, голле з лістамі гамоніць* (П. Броўка. Над Свіцяззю).

§ 453. Формы творнага склону. У творным склоне прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак **-ымі,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-імі.**

*Паабапал дарогі пацягнуўся бор з высок***імі** *стар***ымі** *соснамі, галіны якіх павіслі над шашой* (І. Шамякін. Крыніцы). *Начамі месячн***ымі** *аж да дня бялела ў прымаразках цішыня* (М. Танк. Журавінавы цвет).

§ 454. Формы меснага склону. У месным склоне прыметнікі з асновай на цвёрдыя зычныя маюць канчатак **-ых,** а прыметнікі з асновай на мяккія зычныя (у тым ліку на **г', к', х'**) — канчатак **-іх.**

*Ноч была халаднаватая, вецер дзьмуў няроўна: і гусцеў і змяншаўся. У хвойн***ых** *лясах вечны іх гул то чуцён быў далёка ў полі, то ападаў зусім* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Сонца зайграла на мокр***ых** *лісцях дуба* (І. Шамякін. Крыніцы). *Над ракой у лозах рэдк***іх** *плавае густы туман* (П. Панчанка. Разведчык). *Ну, хлопцы, ўдаль па хвалях сін***іх,** *каб дома быць нам да зары* (М. Танк. Нарач).

## Сцягнутыя формы поўных адносна-якасных прыметнікаў

§ 455. У мове паэтычных твораў (асабліва XIX і першай трэці XX стагоддзя) нярэдка сустракаюцца так званыя сцягнутыя, або ўсечаныя, формы прыметнікаў. У адрозненне ад кароткіх форм (гл. § 429) яны ўтвараюцца шляхам сцяжэння поўных двухскладовых канчаткаў у аднаскладовыя і належаць не толькі якасным, але і адносным прыметнікам. Ужываюцца сцягнутыя формы пераважна ў ролі азначэння.

§ 456. Сцяжэнне поўных форм наглядаецца пераважна ў наступных склонах:

а) у назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду:

*Каўказскія казкі, як ласка дзявоча, далёка, прывабна, скрозь сонца, скрозь ночы разносяць па свеце людскія прыселлі і думы, і сказы, што даў Руставелі* (Я. Купала. Сонечнаму Шата Руставелі). *Можа знойдзецца дзявоча сэрца, кары-вочы, што над думамі заплачуць...* (Я. Купала. Пераклад з украінскай «Ой вы, думы, мае думы» Т. Шаўчэнкі). *Доўга матка так глядзела, дочку праважала, покі хустка яе бела з вочак не прапала* (Я. Колас. Доля батрачкі).

б) У вінавальным склоне адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду:

*А дзявочу красу, нібы тую расу, піў цагляны падвал цёмнай ночы* (Я. Купала. Дзве сястры). *І бяжыць у даль імглісту рад заплa-*

*каных бяроз* (Я. Колас. З дарогі). *У песнях гучных спазнаеш сваю Савецкую краіну: прастор без бяльнікавых меж, з я л ё н у гладзь, як вокам скінуць* (М. Чарот. Дзяўчына, якая не сумуе). *Снег знікае... Сустракаюць м а л а д у вясну* (У. Дубоўка. Снег знікае). *Быццам цень, праходзім ноччу сонным лагерам між хатамі, зніштажаючы гранатамі банду в о ў ч у* (М. Танк. Не шкадуйце, хлопцы, пораху).

в) У назоўным склоне множнага ліку:

*Там, пад наміткай туманаў, відзен гай сасновы, што прабег паўзверх курганаў, як д з я в о ч ы бровы* (Я. Колас. На полі). *Зіхацяць на сонцы в о с т р ы пікі* (М. Чарот. Марына). *Мы ж не з медзі, не з каменю, мы — сыны твае, сыны ч а л а в е ч ы!* (М. Лужанін. Праводзіны).

г) У вінавальным склоне множнага ліку:

*Не прамяняю я грук фабрык і заводаў на шум лясоў і песні с а л а ў і н ы* (М. Чарот. Лірычны эскіз). *Кіну смутак я, маркоту аж на н і ц ы лозы* (У. Дубоўка. Снег знікае). *На густых лістах малін б у й н ы росы запаліў. Ну і жаўрук!* (М. Танк. Жаўрук).

## *Скланенне прыналежных прыметнікаў*

§ 457. У сучаснай беларускай літаратурнай мове прыналежныя прыметнікі скланяюцца пераважна па тыпу членных прыметнікаў з цвёрдай асновай. Аднак побач з гэтым сістэма склонавых форм прыналежных прыметнікаў мае рад характэрных асаблівасцей.

### § 458. Узор скланення прыналежных прыметнікаў

Адзіночны лік

| | мужчынскі род | | ніякі род | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *бацькаў* | *матчын* | *бацькав-а* | *матчын-а* |
| Р. | *бацькав-ага* | *матчын-ага* | *бацькав-ага* | *матчын-ага* |
| Д. | *бацькав-аму* | *матчын-аму* | *бацькав-аму* | *матчын-аму* |
| В. | *бацькаў* | *матчын* | *бацькав-а* | *матчын-а* |
| | *бацькав-ага* | *матчын-ага* | *бацькав-ага* | *матчын-ага* |
| Т. | *бацькав-ым* | *матчын-ым* | *бацькав-ым* | *матчын-ым* |
| М. | *(аб) бацькав-ым* | *матчын-ым* | *бацькав-ым* | *матчын-ым* |

жаночы род

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *бацькав-а* | *матчын-а* |
| Р. | *бацькав-ай (-ае)* | *матчын-ай (-ае)* |
| Д. | *бацькав-ай* | *матчын-ай* |
| В. | *бацькав-у* | *матчын-у* |
| Т. | *бацькав-ай* | *матчын-ай* |
| М. | *(аб) бацькав-ай* | *матчын-ай* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *бацькав-ы* | *матчын-ы* |
| Р. | *бацькав-ых* | *матчын-ых* |
| Д. | *бацькав-ым* | *матчын-ым* |
| В. | *бацькав-ы* | *матчын-ы* |
| | *бацькав-ых* | *матчын-ых* |
| Т. | *бацькав-ымі* | *матчын-ымі* |
| М. | *(аб) бацькав-ых* | *матчын-ых* |

## *Асаблівасці скланення прыналежных прыметнікаў у адзіночным ліку*

§ 459. Прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку (а таксама ў вінавальным, калі яны дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў) маюць чыстую аснову: *сына***ў** *партфель, Рыгора***ў** *сад, старшынё***ў** *дом, дзяўчыні***н** *твар, Зосі***н** *падарунак; у сына***ў** *партфель, у Рыгора***ў** *сад, у старшынё***ў** *дом, на дзяўчыні***н** *твар, на Зосі***н** *падарунак* (параўн. канчаткі непрыналежных прыметнікаў мужчынскага роду: *малад-ы, моцн-ы, поўн-ы, свеж-ы*).

Заўвага. У мове мастацкіх твораў (асабліва твораў вершаваных) часам сустракаюцца выпадкі ўжывання прыналежных прыметнікаў мужчынскага роду ў назоўным і вінавальным склонах з канчаткам членных прыметнікаў **-ы**, аднак гэта форма не з'яўляецца нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

*Чуў здалёку той даўны трывожлівы звон Яраслава***вы** *сын Усяволад* (Я. Купала. Пераклад «Слова аб палку Ігаравым»). *Красуй, Пятро***вы** *горад, стой а непахісна, як Расія* (Я. Купала. Пераклад «Меднага конніка» А. С. Пушкіна). *Болем затрорся бацька***вы** *твар — цяжка жылося, мацней цяжар* (А. Александровіч. Дваццаць). *О княжа вялікі, Усяволадзе! Ці не думкай табе б прыляцелі здалёку, каб трон-пасад бацька***вы** *залаты ўберагчы ў ліхалецці?* (Я. Купала. Пераклад «Слова аб палку Ігаравым»).

§ 460. Прыналежныя прыметнікі ніякага роду ў назоўным склоне (а таксама ў вінавальным, калі яны дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў) маюць канчатак нячленных прыметнікаў **-а**: *сынав***а** *паліто, Рыгорав***а** *пытанне, старшынёв***а** *заданне, дзяўчынін***а** *хваляванне, Зосін***а** *акно; на сынав***а** *паліто, на Рыгорав***а** *пытанне, пра старшынёв***а** *заданне, на дзяўчынін***а** *хваляванне, у Зосін***а** *акно* (параўн. канчаткі прыметнікаў непрыналежных: *малад-***ое**, *моцн-***ае**, *поўн-***ае**, *свеж-***ае**).

Заўвага. Поўныя формы (**-ае, -ое**) такіх прыналежных прыметнікаў сустракаюцца толькі ў мастацкай літаратуры, а таксама ў размоўных стылях; яны з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы.

*Белае Ларысін***ае** *адзенне першае кінулася ім у вочы* (Р. Мурашка. Сын). *Сэрца матчын***ае** *цешыць звонкім смехам дзетвара* (А. Александровіч. Маці і сястра).

§ 461. Прыналежныя прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне (а таксама ў вінавальным, калі яны дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў) маюць, як правіла, канчатак членных прыметнікаў **-ага**: *бацькав***ага** *таварыша, матчын***ага** *твару*. Канчатак нячленных прыметнікаў маюць толькі тыя прыналежныя прыметнікі, якія з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі асоб (усе яны субстантываваліся): *Іванов***а**, *Зайцав***а**, *Сцяпунін***а** (гл. § 430, 431).

Заўвага. Ужыванне ў родным і вінавальным склонах формы **-а** ў прыналежных прыметніках, якія не адносяцца да ўласных прозвішчаў, з'яўляецца адступленнем ад сучаснай літаратурнай нормы. Звычайна гэта форма сустракаецца ў паэтычнай мове і выклікана патрабаваннямі размеру або рытму верша.

*Я даўно, дзядок, збіраўся дзеду нештачка сказаць, ды ніяк не прыбяруся, не асмелюся ніяк — смеху дзедав***а** *баюся!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *І Тамаш услед за Кацяй распачаў размову: «Хто ў жыцці адведаў гора болей Тамашов***а***»* (П. Броўка. Чырвон-гарадок). *Ен злаваў і непакоіўся, пачуўшы ганчака, калі зайцоў той з ярыны ганяў, ці стрэл Ігнатав***а** *драбавіка* (М. Танк. Янук Сяліба). *Вось да Скібав***а** *сына ўсе прыйшлі* (М. Танк. Сказ пра Вяля).

*Ля буслав***а** *гнязда лётае, завіхаецца рознае птаства* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ен, здрыгануўшыся, азірнуўся і ўбачыў Андрэя, гаспадаров***а** *сына* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

§ 462. Прыналежныя прыметнікі жаночага роду ў назоўным склоне маюць, як правіла, канчатак нячленных прыметнікаў **-а**: *сынав***а** *хата, Рыгорав***а** *кніга, старшынёв***а** *дачка, дзяўчынін***а** *рука, Зосін***а** *сястра* (параўн. канчаткі непрыналежных прыметнікаў: *малад-***ая**, *моцн-***ая**, *поўн-***ая**).

Заўвага. Ужыванне ў назоўным склоне формы **-ая** ў прыналежных прыметніках жаночага роду з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы. Гэта форма зрэдку сустракаецца толькі ў мове мастацкай літаратуры.

*Трэці раз ужо вясною узнімалася рака, як хадзіла сіратою бабылёвая дачка* (П. Броўка. Кацярына). *Збоку дзесь голасна і музычна выводзіць трэлі пастуховая труба* (Я. Колас. У палескай глушы).

У другім з гэтых прыкладаў прыметнік *пастуховая* страціў значэнне індывідуальнай прыналежнасці і перайшоў у агульны разрад адносных прыметнікаў, што адпаведна выклікала і ўжыванне членнай формы **-ая**. Параўн. таксама прыметнік *нёмнавая* ў наступным прыкладзе: *Чыстая нёмнавая вада, жоўценькі пясочак на дне, прыгожы беражок — усё гэта вабіла такою спакусаю, што маладыя настаўнікі змушаны былі спыніцца* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 463. Прыналежныя прыметнікі жаночага роду ў вінавальным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак нячленных прыметнікаў **-у**: *бацькаву хату, матчыну руку.*

Заўвага. У мове мастацкіх твораў гэтыя прыметнікі часам ужываюцца і з канчаткам **-ую**, аднак такая форма з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы.

*Хутар той ад Пнівадзіч хоць і быў усяго за пяць вёрст, але год ужо мо' з дзесяць, як Сегенецкі ў братавую хату носа не патыкаў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Акрыляла ж колькі шчасця бабылёвую дачку, калі стомленая маці цалавала у шчаку!* (П. Броўка. Кацярына).

Параўн. таксама выпадак, калі прыналежны прыметнік, ужыты пераносна, набыў якаснае значэнне: *Прываласклі, ў астрог упхнулі, у гэту чортавую пасць* (Я. Колас. «Верныя сябры»).

### *Асаблівасці скланення прыналежных прыметнікаў у множным ліку*

§ 464. Прыналежныя прыметнікі множнага ліку ў назоўным склоне (а таксама ў вінавальным, калі яны дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў) маюць канчатак нячленных прыметнікаў **-ы**: *бацькавы таварышы, матчыны рукі.*

Заўвага. У творах мастацкай літаратуры такія прыметнікі часам ужываюцца і з поўным канчаткам **-ыя**, аднак гэта форма з'яўляецца адступленнем ад сучаснай нормы.

*Мы з табой абодва сёння Святаслававыя дзеці* (Я. Купала. Пераклад «Слова аб палку Ігаравым»).

Асобна стаяць прыметнікі, якія страцілі значэнне індывідуальнай прыналежнасці і набылі агульнае адноснае або якаснае значэнне. У такіх выпадках яны маюць толькі поўную форму.

*Абодва вы кавалёвыя мяхі, тудэма-сюдэма, непаваротлівыя...* (Я. Купала. Паўлінка). *Яна, выйшаўшы з берагоў, уздыме на свае асілкавыя плечы гэтыя ярусы лесу і панясе аж да Дняпра* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *А на дубах, як шапкі тыя, чарнеюць гнёзды буславыя* (Я. Колас. Новая зямля).

## ФОРМЫ ПРЫМЕТНІКАЎ З СУФІКСАМІ АЦЭНКІ

§ 465. Формы прыметнікаў, якія ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў ацэнкі, служаць для выражэння розных эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў і адценняў ступеней або меры якасці прадмета (ласкальнасці, памяншальнасці, павелічальнасці і інш.). Гэтыя формы ўтвараюцца шляхам далучэння ацэначных суфіксаў да асноў толькі некаторых груп якасных прыметнікаў. У большасці выпадкаў прыметнікі з суфіксамі ацэнкі ўжываюцца ў размоўных стылях і ў мове мастацкай літаратуры.

### *Суфіксы з павелічальна-ўзмацняльным значэннем*

§ 466. Суфікс **-ізн**-*ы*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асновы прыметніка *вялікі* ўтворана форма *вялізны*, якая выражае адценне больш высокай ступені якасці параўнальна са значэннем формы *вялікі*. Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 467. С у ф і к с **-ізман-**_ы_. Пры дапамозе гэтага суфікса ад формы прыметніка *вялізны* (з выпадзеннем **н**) утворана форма *вялізманы*, якая выражае адценне вельмі высокай ступені якасці.

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры 20—30-х гадоў XX стагоддзя гэты суфікс часам ужываўся таксама ў выглядзе **-ізманн-**_ы_.

*Хмары белыя — быццам кусты беласнежных в я л і з м а н н ы х руж* (П. Г л е б к а. Хада падзей). *У нашым в я л і з м а н н ы м доме чатырыста дваццаць кватэр* (П. Г л е б к а. Агні).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 468. С у ф і к с **-ізарн-**_ы_. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асновы прыметніка *вялізны* (з выпадзеннем **н**) утворана форма *велізарны (вялізарны)*, якая выражае прыблізна такое ж дадатковае адценне, як і форма *вялізманы*.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 469. С у ф і к с **-эзн-**_ы_. Пры дапамозе суфікса **-эзн-**_ы_ ад асноў прыметнікаў *вялікі, высокі, доўгі, тоўсты, шырокі* ўтвараюцца формы *велічэзны, высачэзны, даўжэзны, таўшчэзны, шырачэзны*, якія выражаюць адценне надзвычай высокай ступені якасці.

Утварэнне гэтых форм суправаджаецца чаргаваннем зычных **г — ж, к — ч, ст — шч.**

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 470. С у ф і к с **-энн-**_ы_(**-енн-**_ы_). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў прыметнікаў *высокі, здаровы* ўтвораны формы *высачэнны, здаравенны*, якія выражаюць прыблізна такое ж адценне, як і формы на **-эзн-**_ы_.

З а ў в а г а. Асобна стаіць прыметнік *свяшчэнны*, які паходзіць ад старажытнага дзеепрыметніка *священ*. Гэты прыметнік не выражае значэння, характэрнага для пералічаных вышэй форм.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 471. С у ф і к с **-эрн-**_ы_. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў прыметнікаў *доўгі, тоўсты, цяжкі* ўтвораны формы *даўжэрны, таўшчэрны, цяжэрны*, якія выражаюць адценне вельмі высокай ступені якасці.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 472. С у ф і к с **-эразн-**_ы_. Пры дапамозе гэтага суфікса ад форм прыметнікаў *даўжэрны, таўшчэрны* ўтвораны формы *даўжэразны, таўшчэразны*, якія выражаюць адценне надзвычай высокай ступені якасці.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 473. С у ф і к с **-озн-**_ы_. Пры дапамозе гэтага суфікса ад прыметнікаў *высокі, глыбокі* ўтвораны формы *высозны, глыбозны*, якія выражаюць адценне вельмі высокай ступені якасці.

З а ў в а г а. У індывідуальным ужыванні часам сустракаюцца таксама формы *шыкозны, брыдозны*, утвораныя адпаведна ад асноў назоўнікаў *шык, брыда*.

*А як пабачыў* [Сцёпка] *яшчэ такую ш ы к о з н у ю кнігу, дык і зусім уладу над сабою страціў* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

Тып непрадуктыўны.

### *Суфіксы з памяншальна-ласкальным значэннем*

§ 474. С у ф і к с ы **-еньк-**_і_ (**-эньк-**_і_), **-аньк-**_і_. Пры дапамозе гэтых суфіксаў і адпаведных канчаткаў ад прыметнікаў з асновай на зычны ўтвараюцца формы, якія выражаюць адценне ласкальнасці або паказваюць на зменшаную ступень якасці: *беленькі, гусценькі, вясёленькі, дробненькі, добранькі, доўгенькі, жоўценькі, кволенькі, кругленькі, крывенькі, лагодненькі, маленькі, маладзенькі, меншанькі, міленькі, новенькі, поўненькі, прыгожанькі, просценькі, родненькі, роўненькі, слабенькі, сівенькі, старэнькі, свежанькі, скоранькі, сухенькі, харошанькі, худзенькі, хітранькі, цесненькі, цэленькі, цёпленькі, чысценькі, чырвоненькі, шчупленькі, шэранькі, ясненькі* і інш.

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры першай трэці XX стагоддзя ёсць таксама выпадкі ўжывання формы *цяжанькі*, якая пранікла, відаць, з мовы вуснай народнай творчасці або з размоўнага стылю.

*Браздзыць, скача сошка то на пень, то з пня... Ц я ж а н ь к а я ношка, араты, твая!* (Я. К у п а л а. Араты). *Як я выйду, маладзенька, за вароты ў поле, паліюцца самі слёзы з ц я ж а н ь к а й нядолі* (Я. К у п а л а. Песня).

Пры ўтварэнні памяншальна-ласкальных форм ад асноў прыметнікаў з суфіксам **-к-** апошні звычайна выпадае: *вузкі — вузенькі, гладкі — гладзенькі, кароткі — кароценькі, жыдкі — жыдзенькі, нізкі — нізенькі, рэдкі — рэдзенькі, тонкі — тоненькі, салодкі — салодзенькі, лёгкі — лёгенькі (лёганькі)*. Аднак у памяншальна-ласкальных формах, утвораных ад асноў прыметнікаў з суфіксам **-ок-***і*, апошні не выпадае: *высокі—высокенькі, глыбокі — глыбокенькі, шырокі — шырокенькі.*

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

§ 475. С у ф і к с **-енечк-***і*. Пры далучэнні памяншальнага суфікса **-ечк-***і* да асновы прыметніка з памяншальным суфіксам **-еньк-** утвараецца складаны суфікс **-енечк-***і*, які выражае адценне ласкальнасці і ўказвае на вельмі павышаную або вельмі паніжаную ступень якасці: *маленечкі, маладзенечкі.*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 476. С у ф і к с **-явеньк-***і*. Пры далучэнні суфікса **-еньк-***і* да асноў прыметнікаў з суфіксам **-яв-** утвараецца складаны суфікс **-явеньк-***і*, які выражае адценні ласкальнасці і непаўнаты якасці: *бялявенькі, чарнявенькі.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 477. С у ф і к с **-ваценьк-***і*. Пры далучэнні суфікса **-еньк-***і* да асновы прыметнікаў з суфіксам **-ават-** утвараецца складаны суфікс **-аваценьк-***і*, які выражае адценні ласкальнасці і непаўнаты якасці: *даўгаваценькі, рыжаваценькі.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 478. С у ф і к с **-ічк-***і*. Гэты суфікс вылучаецца толькі ў адным прыметніку *невялічкі*, які выражае зменшаную ступень якасці і мае ласкальнае адценне.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 479. С у ф і к с **-ютк-***і* **(-утк-***і***)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца прыметнікі, якія маюць ласкальнае адценне і падкрэсліваюць паўнату або, наадварот, зменшаную ступень якасці: *бялюткі, драбнюткі, малюткі, паўнюткі, ранюткі, раўнюткі, свяжуткі, танюткі, чысцюткі, цалюткі, цямнюткі, цьмянюткі, ціхуткі, яснюткі.*

З а ў в а г а. Побач з формай *танюткі* ў мове мастацкай літаратуры першай трэці XX стагоддзя зрэдку сустракаецца форма *цянюткі*, утвораная ад дыялектнага прыметніка *ценькі*.

*А замест кноту — ц я н ю т к і я, як павуціна, дроцікі* (З. Б я д у л я. Дзесяць).

§ 480. С у ф і к с **-юсеньк-***і* **(-усеньк-***і***)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў прыметнікаў на зычныя ўтвараюцца формы, якія выражаюць адценне ласкальнасці і павышаную або паніжаную ступень якасці: *бялюсенькі, зелянюсенькі, драбнюсенькі, маладзюсенькі, малюсенькі, навюсенькі, паўнюсенькі, раўнюсенькі, раднюсенькі, танюсенькі, цямнюсенькі, чысцюсенькі, ціхусенькі, яснюсенькі.*

Тып прадуктыўны.

§ 481. С у ф і к с **-юпасеньк-***і* **(юпаценьк-***і***)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад прыметніка *малы* ўтвараюцца формы *малюпасенькі, малюпаценькі*, якія выражаюць адценне ласкальнасці і вельмі паніжаную ступень якасці.

Тып непрадуктыўны.

§ 482. С у ф і к с **-юсенечк-***і* **(-усенечк-***і***)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца формы, якія выражаюць адценне ласкальнасці і на-

ступную за формамі на **-юсеньк-**і, больш высокую ступень якасці: *зелянюсенечкі, раўнюсенечкі, малюсенечкі, танюсенечкі, ціхусенечкі* і інш.

Тып прадуктыўны, аднак лексічна нешырокі.

§ 483. Суфікс **-юпасенечк-**і (**-юпаценечк-**і). Пры дапамозе гэтага суфікса ад прыметніка *малы* ўтворана форма *малюпасенечкі (малюпаценечкі)*, якая па эмацыянальна-сэнсаваму адценню стаіць блізка да форм на **-юсенечк-**і.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 484. Лексічны разрад прыметнікаў сучаснай беларускай мовы вельмі шырокі і багаты: у ім вылучаюцца, з аднаго боку, невытворныя словы (іх параўнальна нямнога: *новы, востры, доўгі, косы, малады, круты, русы, сухі, чужы, свежы, тоўсты, тлусты, чысты, цёплы, цэлы, малы, ліхі, тупы, дужы, шызы, мёртвы, благі, строгі, белы, левы, правы, поўны, густы, бадзёры, вясёлы, здаровы, шчыры, нямы, худы, цвёрды, цвярозы, руды, густы, сівы, ціхі, просты* і некаторыя іншыя), а з другога боку — словы, якія ўтвораны ад саміх жа прыметнікаў або ад іншых часцін мовы (такія словы складаюць асноўную масу прыметнікаў).

Новыя прыметнікі могуць утварацца: спосабам суфіксацыі (*перад-***ав***-ы, мір-***н***-ы, май-***ск***-і, шчас-***лів***-ы*), спосабам прэфіксацыі (**бяз**-*вух-і,* **звыш**-*магутн-ы,* **не**-*спрыяльн-ы,* **су**-*залежн-ы*), прэфіксальна-суфіксальным спосабам (**над**-*нёман-***ск**-*і,* **за**-*дняпр-***оўск**-*і,* **пры**-*школь-***н**-*ы,* **пад**-*вод-***н**-*ы*) і спосабам складання дзвюх або некалькіх асноў (*чырвона-зялёны, белагрывы, трохдзённы, тагачасны, шматпавярховы, крэдытаздольны*). Акрамя таго, разрад прыметнікаў усё больш і больш папаўняецца дзеепрыметнікамі, якія, страціўшы сувязь з дзеясловамі, набылі якаснае значэнне (*пачынаючы паэт, падкаваны чалавек*).

### СУФІКСАЛЬНАЕ ЎТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

### *Утварэнне прыналежных прыметнікаў*

§ 485. Суфіксы **-оў (-ёў), -аў, -еў.** Прыналежныя прыметнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад цвёрдых і мяккіх асноў назоўнікаў мужчынскага роду:

а) ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі людзей: *Адасёў, Андрэеў, Аляксееў, Адамаў, Базылёў, Васілёў, Вінцусёў, Габрусёў, Івасеў, Міхалёў, Міхасёў, Лукашоў, Петрусёў, Паўлюкоў, Талашоў, Тамашоў, Самусёў, Мікалаеў, Агееў, Антосеў, Максімаў, Лявонаў, Янкаў, Рыгораў, Прохараў, Дзям'янаў, Пракопаў, Цімохаў, Мікітаў, Мартынаў, Панасаў, Саўкаў, Данілаў, Іванаў, Мітрафанаў, Піліпаў, Віктараў, Барысаў, Ігараў, Свірыдаў, Кандратаў, Якубаў, Раманаў, Язэпаў* і г. д.

Заўвага 1. Ад імя *Якаў* адпаведны прыналежны прыметнік утвараецца шляхам далучэння суфікса **-аў** да асновы **якав-**.

*Ніжэй схіліліся змочаныя расой жытнія каласы, захавалі дарожку на Якаваў хутар. Ноч густым змрокам чорным абматала Якаваў двор, будынкі* (П. Галавач. Кнак).

Заўвага 2. Некаторыя прыметнікі, утвораныя ад уласных імён, у выніку пераноснага ўжывання іх, страцілі значэнне прыналежнасці і набылі якаснае значэнне.

*Праклянуць злога ката людзі, аплююць яго каінаў труп* (Я. Колас. Ціша і бура). *Брэшаш, каінаў вылюдак* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Да гэтай групы належаць і прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-аў, -еў** ад імён мужчынскага роду з памяншальна-ласкальным адценнем значэння: *Толеў, Колеў, Колькаў, Ясеў, Грышаў, Валерыкаў,*

*Кірылкаў, Лёнеў, Лёнькаў, Макаркаў, Міхалкаў, Мішаў, Мішкаў, Пецеў, Пецькаў, Пашкаў, Грышаў, Грышкаў, Цішкаў, Шуркаў, Паўлікаў, Пілілчыкаў, Сцёпкаў, Сёмаў, Сёмкаў, Ванькаў* і г. д.

Заўвага. Утварэнне прыналежных прыметнікаў мужчынскага роду з памяншальна-ласкальным значэннем пры дапамозе суфікса -ін- з'яўляецца адступленнем ад сучаснай літаратурнай нормы: *Сёмкіна хата* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *Коліна машына* (I. Грамовіч. Рына-Марына); *Толіна раніца* (Я. Брыль. На Быстранцы); *Коліны заходы* (Я. Колас. На ростанях); *Колін спрыт* (там жа); *Васіны ногі* (I. Мележ. Мінскі напрамак). *Жэнькіных грудзей* (I. Шамякін. Глыбокая плынь);

б) Ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі людзей: *Джамбулава песня* (Я. Купала. Джамбулу); *Руставелевы думы* (Я. Купала. Сонечнаму Шата Руставелі); *Барутава хата* (Я. Колас. На прасторах жыцця); *Гармізаў хутар* (Я. Колас. Адзін); *Лойкаў атрад* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *Дзеткавы і Чмаруцькавы прыгоды* (там жа); *Хамёнкава сям'я* (Я. Брыль. На Быстранцы); *Нахлябічава гумно* (К. Чорны. Ідзі, ідзі); *Дубягавы рукі* (М. Танк. Балада пра партызана Дубягу); *Скібава жонка* (М. Танк. Сказ пра Вяля); *Якавенкаў узвод* (I. Мележ. Мінскі напрамак); *Гушчыкавы госці* (У. Дубоўка. Як чалавек гарох пільнаваў); *Коласавы словы* (У. Дубоўка. Кругі).

Заўвага 1. Утварэнне прыналежных прыметнікаў гэтага тыпа пры дапамозе суфікса -ін- з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы.

...*Больш нічога не сказаўшы, павярнуўся і шпарка выйшаў з прасторнага, абнесенага высокім парканам Шаройкінага двара* (I. Шамякін. У добры час).

Заўвага 2. Некаторыя прыметнікі, утвораныя ад уласных прозвішчаў і міфічных імён, страцілі значэнне прыналежнасці і набылі агульнае адноснае або якаснае значэнне: звычайна яны ўжываюцца ў фразеалагічных выразах і ў складаных спецыяльных тэрмінах: *праметэеў агонь, сізіфава праца, эолава арфа, пірава перамога, еўстахіева труба* (анат.), *фалопіева труба, кесарава сячэнне* (медыц.), *мальпігіеў слой* (анат.), *фраунгоферавы лініі* (фіз.), *жакардаў станок* (тэкст.), *бікфордаў шнур* (тэхн.), *піфагорава тэарэма* (матэм.), *Калгуеў востраў* (геагр.), *мамаева нашэсце* (гіст.), *шамякаў суд* (літ.) і інш.

в) Ад асноў назоўнікаў, якія абазначаюць асоб па сваяцкіх адносінах: *бацькаў, татаў, дзедаў, прадзедаў, дзядзькаў, цесцеў, мужаў, братаў, сынаў;* сюды ж адносяцца прыметнікі, утвораныя ад памяншальна-ласкальных форм: *дзядулеў, татулеў.*

Заўвага. Прыметнік жаночага роду *братавая*, характэрны для размоўных стыляў, субстантываваўся і ўжываецца толькі ў поўнай форме.

...*Гэтак гутарыў Хлор, прыйшоўшы к сваёй братавай назаўтра пасля сватоў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

г) Ад асноў назоўнікаў, якія абазначаюць асоб па прафесіі, спецыяльнасці, роду заняткаў, пасадзе, грамадскаму становішчу і г. д.: *аграномаў, гаспадароў, брыгадзіраў, доктараў, дацэнтаў, кавалёў, кухараў, краўцоў, інжынераў, леснікоў, лейтэнантаў, камандзіраў, камісараў, майстраў, музыкаў, настаўнікаў, паштальёнаў, паэтаў, песняроў, пчаляроў, пастухоў, пісараў, папоў, рыбакоў, рэдактараў, старшынёў, старастаў, салдатаў, сапёраў, цараў, князеў, чумакоў.*

д) Ад асноў назоўнікаў, якія абазначаюць асоб па адносінах да іншых асоб (*сябраў, таварышаў, суседаў, чужакоў*), па сямейнаму стану (*бабылёў*), па ўзросту (*хлапчукоў*), па якіх-небудзь іншых характэрных якасцях (*малойцаў, герoеў, смельчакоў; злодзееў*) і інш.

Заўвага. У індывідуальным ужыванні сустракаюцца таксама прыметнікі, утвораныя ад некаторых назваў асоб з абагульнена-зборным значэннем.

*Палі ворагавы сілы, горад здабылі мы* (Я. Купала. Пераклад з польскай «Каралі» У. Сыракомлі). *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам абернецца у ворагавым горле крывасмочым...* (Я. Купала. Выбр. тв., 1947, 395).

е) Ад асноў назоўнікаў, якія абазначаюць міфічных істот: *богаў, чортаў, д'яблаў, сфінксаў.*

З а ў в а г а. Побач са значэннем прыналежнасці прыметнік *чортаў* часта набывае якаснае значэнне, прычым ён у такіх выпадках ужываецца звычайна ў фразеалагічных выразах: *чортава племя, чортава доля, чортавы сыны, чортава балота, чортава зелле, чортава баба, чортаў вір, чортава акно, чортава процьма* і інш.

ж) Прыналежныя прыметнікі пры дапамозе паказаных суфіксаў могуць утварацца таксама ад назоўнікаў, якія абазначаюць жывёл, звяроў, птушак і іншых жывых істот, аднак ужыванне такіх прыметнікаў абмяжоўваецца галоўным чынам жанрам казак і размоўнымі стылямі: *арлоў, буслаў, баброў, бабрукоў, барсукоў, бегемотаў, вераб'ёў, верабейкаў, жукаў, зайцаў, зайкаў, канёў, каршуноў, парсюкоў, камароў, шарснёў, мамантаў, сланоў, мядзведзеў, сабакаў, цюцькаў, салаўёў, салавейкаў, кракадзілаў, сомаў* і інш.

Трэба адзначыць, што ў выпадках, калі такія прыметнікі ўжываюцца ў поўнай (члennай) форме, яны набываюць агульнае адноснае, а часта і якаснае значэнне і страчваюць значэнне індывідуальнай прыналежнасці, параўн.: *бабровая шапка, кратовыя норы, глушцовы ток, мамантавая косць, шарснёвы мёд.* (Аб утварэнні такіх прыметнікаў гл. § 491).

з) У мове мастацкай літаратуры пры персаніфікацыі прыналежныя прыметнікі з гэтымі суфіксамі часам утвараюцца таксама ад назваў канкрэтных прадметаў, прыродных з'яў, абстрактных і грамадскіх паняццяў. Усе такія выпадкі адносяцца да індывідуальнага словаўжывання ў таго ці іншага пісьменніка: *п а л а ц а в ы вокны* (Я. К у п а л а. Палац); *в е т р а в ы песні* (Я. К у п а л а. Адвечная песня); параўн. у поўнай форме: *Эх, гуляюць віхры ў полі, в е т р а в ы я дзеці!* (Я. К о л а с. Мяцеліца); *с а м а л ё т а в а крылле* (Я. К у п а л а. Алеся); *н о ч к а в а пустыня* (Я. К о л а с. Сымон-музыка); *с о н ц а ў падол* (Я. К о л а с. Рыбакова хата); *с о н ц а в а сявенька* (там жа); *с о н ц а в ы косы* (Я. К о л а с. М. Д. М.); *с о н ц а в ы пажары* (Я. К у п а л а. Уступ да паэмы); *с о н ц а в а дачка* (У. Д у б о ў к а. Кругі); *с о н ц а в а вячэра* (там жа); *с о н ц а ў сад* (там жа); *лісточкі с о н ц а в ы* (там жа); *маці с о н е й к а в а* (там жа); *с о н е й к а ў палац* (там жа); *м е с я ц а в а святло* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне); *с э р ц а в ы струны* (Я. К у п а л а. З зорак усходніх...); *д н я п р о в ы хвалі* (Я. К у п а л а. Магіла льва); *гамонкі д н я п р о в ы* (П. Б р о ў к а. Беларусь); *р у ч а й к о в а пляскатанне* (Ц. Г а р т н ы. Мая хата); *Н ё м а н а в а дно* (П. П а н ч а н к а. Помнік); *ножка у с л о н а в а* (П. Г а л а в а ч. Сваё ўласнае); *т р а к т а р а в ы сляды* (А. К у л я ш о ў. Першая сустрэча з трактарыстам Анісам); *с е м а ф о р а в а рука* (П. П а н ч а н к а. Так пачынаецца народны гнеў); *в о г н і ш ч а в а рука* (А. К у л я ш о ў. На лузе ўначы); *с в е т а в а столь* (У. Д у б о ў к а. Імжа, і склізоты, і прыкрая золь...); *л ё с а в а ласка* (У. Д у б о ў к а. Перад іменем любові); *дзяды к а с т р ы ч н і к а в ы* (Я. К у п а л а. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...); *дні к а м у н і з м а в ы* (П. Г л е б к а. Будуйце шлях да мэты); *к а с т р ы ч н і к а в ы дні* (П. Г л е б к а. Хада падзей); *с а ў г а с а в ы палі* (там жа).

Як відаць з прыведзеных матэрыялаў, прыналежныя прыметнікі з суфіксамі **-оў(-ёў), -аў, -еў** складаюць прадуктыўныя словаўтваральныя тыпы, аднак ужыванне іх абмежавана галоўным чынам размоўнымі стылямі, блізкімі да жывой народнай мовы, і мовай мастацкай літаратуры. У іншых жа стылях літаратурнай мовы на месцы прыналежных прыметнікаў звычайна ўжываюцца назоўнікі ў прыйменных канструкцыях з родным склонам тыпу *дом бацькі, праект інжынера.*

§ 486. С у ф і к с **-н-***і* (**-оўн-***і*, **-нін**). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду, якія абазначаюць асоб па сваяцкіх адносінах, утвараецца некалькі прыметнікаў: *братні, сынні (сыноўні), сватні, мужні (мужнін).* Трэба, аднак, заўважыць, што ў сучаснай

мове функцыю прыналежных выконваюць часцей адпаведныя прыметнікі на **-аў** *(братаў, сынаў, сватаў, мужаў)*, прыметнікі ж на **-н-і** (асабліва прыметнік *братні*) звычайна ўжываюцца ў больш шырокіх, адносна-якасных значэннях (гл. аб гэтым таксама ў § 536): *люд братні* (Я. Купала. Зашумеў лес разгуканы); *братні край* (Я. Колас. Узбекістану). Параўн. таксама прыметнік, утвораны ад назоўніка *кат*: *катні здзек* (Я. Купала. Там); *меч катні* (Я. Купала. Песня вольнага чалавека); *катнія жаданні* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Што датычыцца прыметнікаў на **-н-і**, утвораных ад назваў жывёл, птушак і г. д., то ўсе яны набылі агульныя адносныя і якасныя значэнні: *аленняя вупражка* (І. Шамякін. У снежнай пустыні); параўн. у фразеалагічным звароце: *алені мох* (У. Дубоўка. Перад іменем любові); *бараняя шапка* (І. Шамякін. У добры час); *Ці падстаўляў ты калі хоць раз свой баранні лоб пад кулю?* (Я. Колас. Пісаравы імяніны); параўн. у фразеалагічным звароце: *Прыдатны сагне яе* [Зосю] *у баранні рог* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *А ўсё асвоіцца Раіна не магла з бядой і стратай. Нейкая туга лягла, як цень вароннага крыла* (М. Танк. Янук Сяліба).

§ 487. Суфікс **-j (-і, -ы).** Гэты суфікс гістарычна ўзыходзіць да суфікса **-ьj-**, які супаў з канчаткам **-і(-ы).** У сувязі з гэтым прыметнікі на **-j** у сучаснай мове нярэдка разглядаюць як невытворныя словы: *дружы, лісі, воўчы, авечы, рыбі, пастушы, чалавечы* і інш.

Заўвага. Суфікс **-j** часам можа далучацца да асновы прыналежных прыметнікаў на **-оў**, у выніку чаго ўтвараецца складаны суфікс **-оўj-**.
*Кацілася яно па рэйках бясконцых чыгунак... пакуль не дакацілася нізкім сыноўім паклонам у адзін навагрудскі калгас* (Я. Брыль. Пісьмо з Амерыкі). *Студэнт з пашанай і нейкім цёплым, ледзь не сыноўім пачуццем думаў аб тым, што гэтыя рукі бывалі калісьці ў наручніках, сціскалі краты панскай турмы* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Усе прыметнікі гэтага разраду ўжываюцца не ва ўласна прыналежным значэнні, а ў больш шырокіх адносна-якасных значэннях.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны агульнымі назвамі людзей, жывёл, птушак і некаторых іншых жывых істот.

§ 488. Суфікс **-ін (-ын).** Пры дапамозе суфікса **-ін (-ын)** прыналежныя прыметнікі ўтвараюцца ад мяккіх і цвёрдых асноў назоўнікаў жаночага роду:

а) ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі асоб жаночага полу: *Аленін, Аляксандрын, Аксеннін, Анэцін, Арынін, Аўгіннін, Верын, Ганнін, Гарпінін, Евін, Зоін, Кацярынін, Людмілін, Лізавецін, Ларысін, Марынін, Макрынін, Матрунін, Мар'ін, Наталлін, Раінін, Сцепанідзін, Тацянін, Тавіфін, Ульянін;* сюды ж адносяцца прыметнікі, утвораныя ад ласкальных форм жаночых імён: *Валін, Галін, Ганусін, Гэлін, Зосін, Лідзін, Лізін, Любін, Людзін, Марылін, Марысін, Насцін, Наташын, Надзін, Стэпін, Таклюсін, Юсцін* і г. д.

Заўвага. Некаторыя прыметнікі гэтай групы страцілі значэнне прыналежнасці і перайшлі ў агульны разрад адносных прыметнікаў. Гэта звычайна наглядаецца ў тых выпадках, калі яны ўжываюцца ў фразеалагічных выразах тыпу *Мар'іна балота* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

Тып вельмі прадуктыўны ў размоўных стылях і ў мове мастацкай літаратуры.

б) Ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца назвамі асоб жаночага полу па сваяцкіх адносінах, сямейнаму стану і іншых адзнаках: *мацерын, сястрын, удовін, бабін, дзяўчынін, кабецін* (размоўн.), *гаспадынін;* сюды ж адносяцца прыметнікі, якія ўтвараюцца ад ласкальных назваў: *мамін, матулін, бабулін.*

Заўвага 1. Слова *дзядзіна* ўжываецца ў размоўных стылях, а часам і ў мастацкай літаратуры як субстантываваны прыметнік.

*Васіль моўчкі слухаў размову мацеры і несціхана мерыў узрокамі то дзядзьку Хлора, то д з я д з і н у Юстыну* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Заўвага 2. Прыметнік *бабін* у фразеалагічным выразе *бабіна лета* страціў значэнне прыналежнасці.

*Над полем, высока ў блакіце, плыло белае павуцінне «б а б і н а г а лета»* (І. Шамякін. Наташа).

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

в) Ад асноў назоўнікаў, якія з'яўляюцца назвамі міфічных істот: *ведзьмін, русалчын.*

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

г) Ад асноў некаторых назоўнікаў, якія з'яўляюцца назвамі жывёл, звяроў, птушак і іншых жывых істот: *каровін, кабылін, зязюлін, канін, рыбін, варонін, сініцын.*

Заўвага. Пры пераносным ужыванні, напрыклад у фразеалагічным выразе *сукін сын* прыметнік *сукін* страчвае значэнне прыналежнасці і набывае якаснае значэнне.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

д) У асобных выпадках пры персаніфікацыі прыналежныя прыметнікі з суфіксам **-ін(-ын)** утвараюцца таксама ад назоўнікаў жаночага роду, якія абазначаюць прадметы, з'явы прыроды і іншыя паняцці. Гэта наглядаецца звычайна ў мове мастацкай літаратуры як адлюстраванне індывідуальнай словатворчасці пісьменнікаў: *с к р ы п ч ы н ы струны* (Я. Купала. Забытая скрыпка); *мова г р у ш ы н а* (Я. Купала. Груша); *с а ж а л ч ы н верх* (Я. Купала. Яна і я); *з о р ч ы н смех* (Я. Колас. Сымон-музыка); *х м а р ч ы н а слёзка* (там жа); *магутнасць А м а з о н ч ы н а* (М. Лужанін. Над Волгай). Параўн. таксама выпадак утварэння прыметніка на **-ін** ад назоўніка мужчынскага роду: *Скончыўшы высокія адведзіны, я паклаў Вялікую Мядзведзіцу спаць на верхавіну Д э м а в е н д з і н у* (П. Панчанка. Дэмавенд, галоўная гара іранцаў).

Тып малапрадуктыўны.

§ 489. Пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў ад назоўнікаў жаночага роду з асновай на суфіксальнае **-к-***а* перад суфіксам **-ін(-ын)** адбываецца чаргаванне зычнага **к** з **ч**: *А л е н ч ы н дворык* (Я. Колас. На прасторах жыцця); *А р ы н ч ы н а радасць* (Я. Колас. Адзін); *В о л ь ч ы н бацька* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *Л ю б ч ы н ы сяброўкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *М а р' я н ч ы н а вуха* (Я. Колас. На «святой зямлі»); *Н а т а л ь ч ы н а хаціна* (Я. Купала. Магіла льва); *З о с ь ч ы н бацька* (К. Чорны. Ідзі, ідзі); *П а л а ш ч ы н ы штучкі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *б а б ч ы н а каморка* (Я. Колас. На ростанях); *б а б у л ь ч ы н ы пачастункі* (П. Кавалёў. Сонца ў вокны); *д а ч ч ы н ы радасці* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *ж н е й ч ы н галасок* (Я. Колас. Жніўныя песні); *ж о н ч ы н ы вочы* (П. Броўка. Развітальнае слова); *м а т ч ы н ы слёзы* (М. Танк. У вагоне); *с у с е д ч ы н а акно* (М. Лужанін. Някепскі хлопец); *ц ё т ч ы н а рука* (Я. Колас. Сірата-Юрка); *смехі р у с а л ч ы н ы* (Я. Купала. Явар і каліна); *б е л ч ы н а гняздо* (М. Чарот. Свінапас); *п ч о л ч ы н а мяса* (Я. Колас. Даняў); *л а с т а ў ч ы н а гняздо* (Я. Брыль. У Забалоцці днее); *л а с т а ў ч ы н шчэбет* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *п е р а п ё л ч ы н ы песні* (А. Куляшоў. Дом № 24); *с і ў ч ы н катух* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). Параўн. таксама ў складзе тэрмінаў: *з я з ю л ь ч ы н лён* (Я. Колас. Загібелька); *з я з ю л ь ч ы н мох* (П. Панчанка. Зубры).

Выпадкаў, калі ва ўтваральнай аснове прыметніка не наглядаецца чаргавання **к — ч,** нямнога, прычым усе яны з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы: *З о с ь к і н а гора* (З. Бядуля. Салавей); *З о с ь к і н а хата* (там жа); *З о с ь к і н ы вочы* (там жа); *ж н е й-*

*кіна песня* (Я. Купала. Жнеям); *галубкіны косці* (Я. Купала. Ястраб); *ксянжулькіна Мальвіна* (Я. Колас. «Сцяты Ян»); *мышкіны распіскі* (Я. Колас. Новая зямля).

Чаргаванне **х — ш** пры ўтварэнні прыналежных прыметнікаў з дапамогай суфікса **-ін (-ын)** наглядаецца радзей, што тлумачыцца лексічнай абмежаванасцю назоўнікаў з асновай на **х**, ад якіх утвараюцца адпаведныя прыметнікі (тут прадстаўлены галоўным чынам прастамоўныя словы тыпу *парабчыха, купчыха* і інш.): *парабчышын сын* (К. Чорны. Вясна). Параўн., аднак, выпадак без чаргавання зычных **х — ш** у аналагічным становішчы: *Ваяцкасць малога Сцёпкі выявілася ў тым, што ён штурхнуў санітарыхіну дачку і абсыпаў пяском Вадап'янавага сына* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага).

### Утварэнне адносна-якасных прыметнікаў

§ 490. Суфіксы **-ав-ы (-яв-ы)**, **-ляв-ы**, **-арляв-ы**. Пры дапамозе суфіксаў **-ав-ы (-яв-ы)**, **-ляв-ы**, **-арляв-ы** ад розных відаў асноў утвараюцца адносныя і ў невялікай колькасці якасныя прыметнікі.

а) Ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-ав-ы (-яв-ы)** утворана і ўтвараецца ў наш час вялікая колькасць прыметнікаў з разнастайнымі адноснымі значэннямі: *абрыкосавы, апельсінавы, арэхавы, асінавы, бавоўнавы, балансавы, бярозавы, валавы, вежавы, ветравы, гадавы, гадзіннікавы, газавы, гарохавы, гіпсавы, гукавы, дымавы, дражджавы, журавінавы, замкавы, запалкавы, зрокавы, збожжавы, кавалкавы, кармавы, кадравы, класавы, коркавы, лекавы, лёдавы, ліставы, лугавы, люстэркавы, макавы, мазгавы, мачтавы, маршавы, межавы, насавы, пальмавы, палкавы, пашавы, папаравы, прасторавы, ракітавы, рубінавы, макавы, стойлавы, страхавы, танкавы, тлушчавы, узроставы, франтавы, фінансавы, харавы, ценявы, цынкавы, чаротавы, язмінавы, яравы* і інш.

Аб прадуктыўнасці гэтага тыпа сведчаць таксама шматлікія ўтварэнні ў галіне навукова-тэхнічнай тэрміналогіі: *альбінавы, ацэтонавы, бентанітавы, графітавы, гумінавы, дыябазавы, каалінітавы, капронавы, кварцавы, лігнінавы, метылавы, метыленавы, мікралітавы, неонавы, падшыпнікавы, светлавы, сілавы, суглінкавы, сфагнавы, тканкавы, тазавы, трасавы, фазавы, фармалінавы, этылавы, золавы* і інш.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры (галоўным чынам перыяду да 40-х гадоў XX стагоддзя) сустракаецца рад прыметнікаў на **-ав-ы (-яв-ы)**, якія цяпер ужо не ўжываюцца ў літаратурнай мове: *летавая пара* (Я. Купала. Пераклад з польск. «Родны дом» М. Канапніцкай); *звон кайданавы* (Я. Купала. Чаго хмурыцца?..); *струнавы звон* (Я. Купала. Жальцеся, грайкія струны...); *пусткавая паша* (Я. Купала. Палац); *казкавы сказ* (Я. Купала. Мая навука); *брукавыя вуліцы* (Я. Колас. У глыбі Палесся); параўн. якасны прыметнік у словазлучэнні *брукавыя людзі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *афарызмавая хваля* (Я. Колас. На ростанях); *селавы пастушок* (П. Глебка. Партызаны); *шляхавыя дарогі* (М. Чарот. Свінапас); *воплескавы гром* (П. Панчанка. Кінамеханік); *елкавыя лапы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Некаторыя адносныя прыметнікі з суфіксам **-ав-ы** ўтвораны ад назваў жывых істот: *коцікавы, кракадзілавы, леапардавы, мамантавы, тыгравы.*

Група якасных прыметнікаў, утвораных ад асноў назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-ав-ы (-яв-ы)**, параўнальна невялікая: *баявы, дзелавы, дзіравы, загадкавы, іржавы, каравы, кастравы, кашчавы, кудравы, кучаравы, курчавы, ласкавы, ліхаманкавы, маразявы* (размоўн.), *масавы, нізавы, перадавы, плюгавы, рухавы, яскравы.* Параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры: *азёры халаджавыя* (П. Глебка. Арка над акіянам); *пілявы хлапчук* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *дуплявы дуб* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»).

Якасны прыметнік *кастлявы* ўтвараецца пры дапамозе суфікса **-ляв-**ы.

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

б) Ад асноў прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-ав-**ы (**-яв-**ы) утвараюцца прыметнікі пераважна са значэннем непаўнаты якасці — «трохі», «нямнога», «крыху»: *бялявы, гаркавы, кіслявы, саладжавы, маладжавы, радкавы, русавы (русявы), зелянявы, чарнявы, сінявы, святлявы, смуглявы, трухлявы.*

Заўвага. У мове мастацкіх твораў (асабліва ў 20—40-х гадах XX стагоддзя) побач з прыметнікам *бялявы* сустракаецца яго варыянт *бялёвы*, які не набыў значэння агульнай нормы: *абрусікі бялёвыя* (М. Багдановіч. Бяседная); *бялёвыя пальчаткі* (П. Глебка. Дваццаты год); *сіня-бялёвы туман* (П. Глебка. Арка над акіянам); *вечар бялёвы* (П. Глебка. Дванаццаты з'езд КПБ).

Асобна стаяць прыметнікі *белавы, легкавы, чарнавы*, якія не выражаюць адцення непаўнаты якасці, а выступаюць з агульным якасным значэннем.

Прыметнікі *жаўтлявы, танклявы* ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-ляв-**ы (параўн. *кастлявы*).

Прыметнікі *сухарлявы, хударлявы* ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-арляв-**ы.

Тыпы непрадуктыўныя.

в) Ад асноў дзеясловаў пры дапамозе суфікса **-ав-**ы (**-яв-**ы) утвараюцца якасныя прыметнікі, якія абазначаюць прымету па адпаведнаму дзеянню; яны складаюць колькасна невялікую групу: *гугнявы, кульгавы, млявы.* Сюды ж можна аднесці прыметнікі *картавы, цікавы, шапялявы,* праўда, у іх суфікс цяжка вылучаецца ў сучаснай мове.

Прыметнікі *вяртлявы, крутлявы, пісклявы* ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-ляв-**ы (параўн.: *кастлявы, жаўтлявы, танклявы).*

Тып непрадуктыўны.

г) Прыметнік *вонкавы* ўтвараецца ад асновы прыслоўя *вонк-і.*

Прыметнік *абыякавы* суадносіцца з асновай прыслоўя *абыяк* (параўн. таксама словазлучэнне *абы-які*).

Тып непрадуктыўны.

§ 491. Суфікс **-ов-**ы (**-ёв-**ы). Пры дапамозе суфікса **-ов-**ы (**-ёв-**ы), які выступае толькі пад націскам, ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў утвараюцца пераважна адносныя прыметнікі з разнастайнымі прыватнымі значэннямі: *альховы, кляновы, дубовы, сасновы, лазовы, юхтовы, яловы, палыновы, быльняговы, бабровы, барсуковы, прадуктовы, фруктовы, баравіковы, харчовы, мармуровы, пісьмовы, мясцовы, садовы, месцачковы, пяньковы, свінцовы, васковы, дывановы, навуковы, вечаровы, жвіровы, дзярновы, цярновы, лямцовы, чабаровы, мультановы, папяровы, лядовы, хмызняковы, мацерыковы, саланчаковы, сцябловы, заліковы, цукровы, рахунковы, уліковы, васільковы, вераснёвы, вішнёвы, выкапнёвы, галаўнёвы, гандлёвы, жыллёвы, жыццёвы, камлёвы, кішанёвы, каранёвы, ліпнёвы, паўднёвы, пакаёвы, пачуццёвы, пакрыццёвы, паркалёвы, тапалёвы, тытунёвы, тыднёвы, хваёвы* і інш.

Колькасць якасных прыметнікаў на **-ов-**ы (**-ёв-**ы) параўнальна невялікая: *памылковы, прынцыповы, пунсовы, ліловы, тэрміновы, прымусовы, ружовы, тыповы, суровы, багровы, ганаровы, пурпуровы, прыбытковы, адмысловы, пасляховы, дэталёвы* і некаторыя іншыя.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры (асабліва 20—40-х гадоў XX стагоддзя) пры дапамозе суфікса **-ов-**ы (**-ёв-**ы) нярэдка ўтвараліся таксама прыметнікі *сталёвы, металёвы, крышталёвы, маёвы, жытнёвы, стылёвы*, якія не замацаваліся ў якасці агульнай нормы (сучасная норма: *стальны, металічны, крыштальны, майскі, жытні, стылявы*).

Па-за межамі сучаснай нормы знаходзяцца таксама наступныя прыметнікі на **-ов-**ы (**-ёв-**ы), якія сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры: *песнь паграбовая* (Я. Купала. Над магіламі); *кветачкі ліллёвы* (Я. Купала. Пераклад з польскай «Як кароль у паход выходзіў» М. Канапніцкай); *труба берастовая* (Я. Купала. Кароль): *радыёвы гоман* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай

явы...); *цэмантовыя тратуары* (К. Чорны. Бацькаўшчына); *квадратовыя літары* (З. Бядуля. Салавей); *хвілёвы фотаздымак* (З. Бядуля. Маці); *джыгіналёвыя штанцы* (Я. Колас. Так і трэба ашуканцу); *драбязговыя правы* (Я. Колас. У палескай глушы); *красавіковае неба* (М. Танк. Новы вырай); *красавіковы вечар* (А. Александровіч. Цені на сонцы); *караблёвыя сосны* (А. Александровіч. Сасна); *цвет каштановы* (П. Броўка. Кіеў); *тыфусовы пагром* (П. Броўка. Праз горы і стэп); *смаловы пах* (М. Чарот. Балотам снежным...); *лакіровыя боты* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *раніцовыя вершы* (У. Хадыка. Пры дарозе...).

Асобна трэба вылучыць некалькі адносных прыметнікаў, якія ўтвораны ад назваў жывых істот: *ласёвы, карасёвы, самовы, сіговы, тхаровы, шчупаковы, цецеруковы.*

Тып жывы і прадуктыўны ў сучаснай мове.

§ 492. Маючы аднолькавае паходжанне, суфіксы **-ав-***ы* (**-яв-ы**), **-ов-***ы* (**-ёв-***ы*) у большасці выпадкаў выконваюць аднолькавыя або вельмі блізкія сэнсавыя функцыі, таму некаторыя прыметнікі ўтвараліся раней і ўтвараюцца цяпер як пры дапамозе першага, так і пры дапамозе другога суфікса, аднак у наш час наглядаецца тэндэнцыя замацаваць у якасці нормы адзін з двух існуючых варыянтаў, напрыклад: *агнявы* (пры *агнёвы*), *аркестравы* (пры *аркестровы*), *бурштынавы* (пры *бурштыновы*), *веснавы* (пры *вясновы*), *галіновы* (пры *галінавы*), *гумавы* (пры *гумовы*), *грунтавы* (пры *грунтовы*), *гуртавы* (пры *гуртовы*), *дармавы* (пры *дармовы*), *дзярновы* (пры *дзернавы*), *зімовы* (пры *зімавы*), *канцавы* (пры *канцовы*), *кіламетравы* (пры *кіламетровы*) , *ліпавы* (пры *ліповы*), *манеўровы* (пры *манеўравы*), *партовы* (пры *партавы*), *пуховы* (пры *пухавы*), *стэпавы* (пры *стэповы*), *шаўковы* (пры *шоўкавы*), *цыратовы* (пры *цыратавы*) і інш.

Параўн. таксама выпадкі, калі адзін з варыянтаў у наш час з'яўляецца толькі адлюстраваннем ранейшага стану літаратурнай мовы або выступае ў якасці індывідуальнага ўтварэння: *адналькковы* (пры норме *аднолькавы*), *палёвы* (пры норме *палявы*).

У некаторых выпадках паралельнае ўтварэнне прыметнікаў з суфіксамі **-ав-***ы*, **-ов-***ы* абумоўлена неабходнасцю размежаваць іх сэнсавыя адценні, параўн.: *про́мыславы* і *прамысло́вы, тыпавы́* і *тыпо́вы, ча́савы* і *часо́вы.*

§ 493. Суфікс **-ев-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-ев-***ы* ўтвараюцца адносныя прыметнікі ад асноў неадушаўлёных назоўнікаў на мяккі зычны і на j: *алюмініевы, ансамблевы, восевы, германіевы, глеевы, гноевы, жоўцевы, гуматканевы, кальцыевы, клубневы, магніевы, марлевы, мэблевы, насенневы, натрыевы, паверхневы, палевы* (колер), *скроневы, сныцевы* (бат.), *тарфагноевы, чарэшневы, яблыневы, ясеневы.*

Заўвага. Не з'яўляюцца літаратурнай нормай наступныя прыметнікі на **-ев-***ы*, якія сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры: *церневы гасцінец* (Я. Купала. Тарасова доля); *лісцевая галоўка* (Я. Колас. Новая зямля); *лісцевае мора* (П. Галавач. Дасужая); *грыфелевыя дошкі* (Я. Колас. У палескай глушы).

Асобна стаяць прыметнікі на **-ев-***ы*, якія ўтвараюцца ад назваў жывых істот: *ласосевы, пеўневы.* Параўн. таксама субстантываваны прыметнік *мядзведзевыя* (заал.).

Тып жывы і прадуктыўны ў сучаснай мове.

§ 494. Суфікс **-ават-***ы* (**-яват-***ы*). Пры дапамозе суфікса **-ават-***ы* (**-яват-***ы*, **-акават-***ы*, **-как-ават-***ы*) утвараюцца якасныя прыметнікі звычайна ад асноў назоўнікаў на зычныя і ад асноў прыметнікаў. У залежнасці ад значэння ўтваральнай асновы гэтыя прыметнікі падзяляюцца на два асноўныя тыпы.

1. Прыметнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, выражаюць сэнсавыя адценні: «падобны на што-небудзь або на каго-небудзь», «мае ўласцівасці, якасці, адзнакі чаго-небудзь», «схільны да чаго-небудзь», «змяшчае ў сабе тое, што абазначана ўтваральнай асновай»: *блінаваты, васпаваты, вяснушкаваты, вуглаваты, вуграваты, вузлаваты, гламаздаваты* (раз-

моўн.), *глеяваты, гультаяваты* (размоўн.), *гузаваты, дзікаваты, дугаваты, дуплаваты* (побач з *дуплясты, дуплісты*, гл. § 500, 506), *жвіраваты, жулікаваты* (размоўн.), *жылаваты, звераваты* (размоўн.), *зубкаваты, зухаваты* (размоўн.), *камляваты* (размоўн.), *камлюкаваты* (размоўн.), *камякаваты, каржакаваты, клубкаваты, карлікаваты, карчаваты, карчакаваты (карчукаваты), кручкаваты* (размоўн.), *лапцяваты* (размоўн.), *ленаваты, лускаваты, мешкаваты* (размоўн.), *медзведзяваты* (размоўн.), *мулаваты* (геал.), *мужыкаваты* (размоўн.), *нехлюяваты* (размоўн.), *панаваты* (размоўн.), *прышчаваты, пылаваты, стырчкаваты* (размоўн.), *стрынгаляваты* (размоўн.), *сцяблаваты, сеткаваты, слупкаваты, стаўбунаваты* (размоўн.), *сукаваты, тарчакаваты* (размоўн.), *узгоркаваты, франтаваты* (размоўн.), *храшчаваты, цяльпукаваты* (размоўн.), *шляхтаваты* (размоўн.).

Заўвага. Прыметнік *замыславаты*, які часам сустракаецца ў літаратурных творах, запазычан з рускай мовы.

Асобна стаіць прыметнік *вінаваты*, у якім сцёрлася значэнне, уласціваe разгледжанай групе прыметнікаў.

У прыметніку *карэнкаваты* (размоўн.) вылучаецца ўскладнены суфікс **-кават-***ы*.

Прыметнікі размоўнага стылю *карлаваты, каструбаваты, целекаваты* ўжо страцілі жывую суадноснасць з адпаведнымі назоўнікамі; іх трэба разглядаць як словы са звязанымі асновамі.

Тып жывы і прадуктыўны.

2. Прыметнікі, утвораныя ад асноў прыметнікаў (у большасці невытворных), выражаюць сэнсавыя адценні непаўнаты, недастатковасці якасці — «злёгку», «крыху», «чуць», «некалькі»: *азатнаваты, белаваты, брудраваты, бледнаваты, велікаваты, высакаваты, вузкаваты, глухаваты, гразкаваты, грузнаваты, гаркаваты, грубаваты, дзікаваты, душнаваты, дурнаваты, драбнаваты, даўгаваты, жаўтаваты, зеленаваты, кіславаты, крываваты, макраваты, мутнаваты, нізкаваты, праставаты, рыжаваты, рудаваты, ружаваты, сіняваты, стараваты, смуглаваты, сыраваты, сіваваты, смешнаваты, страшнаваты, слабаваты, сумнаваты, сухаваты, слепаваты, саленаваты, таўставаты, хітраваты, хвараваты, хрыплаваты, халаднаваты, цемнаваты, цеплаваты, чарнаваты, чырванаваты, шэраваты.*

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

Асобна ад абодвух разгледжаных тыпаў стаяць прыметнікі *прадаўгаваты, сіпаваты, аляпаваты, астаркаваты*, якія, напэўна, трэба суадносіць з асновамі дзеясловаў, і прыметнікі *ніштаваты* (размоўн.), *ніякаваты* (размоўн.), якія суадносяцца з асновамі займеннікаў і прыслоўяў. Магчыма, што прыметнікі размоўнага стылю *аляпаваты, астаркаваты* маюць звязаныя асновы.

§ 495. Суфіксы **-іт-***ы*, **-аміт-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-іт-***ы* ад асновы дзеяслова ўтворан прыметнік *сярдзіты*, які выступае ў значэнні «мае ў вялікай меры тое, што абазначана ўтвараючай асновай».

Пры дапамозе суфікса **-аміт-***ы* ад іменнай асновы ўтворан прыметнік *знакаміты* (размоўн.) са значэннем, блізкім да значэння прыметніка *славуты.*

Заўвага. У мове мастацкіх твораў часам сустракаецца запазычаны з рускай мовы прыметнік *знамяніты*: *знаманіты будынак* (Я. Колас. Адшчапенец); *знамянітыя калдуны* (Я. Колас. У палескай глушы); *знамянітыя піражкі* (Я. Колас. На ростанях).

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 496. Суфікс **-авіт-***ы*. Пры дапамозе складанага суфікса **-авіт-***ы* ад асноў назоўнікаў, а таксама ад асноў некаторых прыметнікаў, займеннікаў і дзеясловаў утвараюцца якасныя прыметнікі са значэннямі «валодае ў вялікай меры або характарызуецца тым, што абазначана

асновай», «схільны да таго, што абазначана асновай»: *басавіты, глянцавіты, дзелавіты, дамавіты, духавіты, карчавіты, ледавіты, пладавіты, працавіты, прагавіты, радавіты, сакавіты, самавіты, санавіты, станавіты, таленавіты, хваравіты, цягавіты, ядавіты,*

Тып малапрадуктыўны.

§ 497. Суфікс **-ат-**ы (**-нат-**ы, **-янят-**ы). Пры дапамозе суфікса **-ат-**ы прыметнікі ўтвараюцца пераважна ад назваў частак цела, якія (часткі) з'яўляюцца ў пэўных абставінах найбольш яркімі адразняльнымі рысамі асобы ці жывой істоты. Такія прыметнікі выражаюць звычайна значэнне: «характарызуецца тым або мае ў вялікай меры ці ў вялікім аб'ёме тое, што абазначана ўтвараючай асновай». Амаль усе гэтыя прыметнікі адносяцца да размоўных стыляў: *барадаты, валасаты, валахаты* (абл.), *вірлаты* (абл.), *вусаты, гарбаты, галаваты, губаты, дзюбаты, зубаты, крылаты, кірпаты, кудлаты, куксаты, лабаты, лычаты, мардаты, мурлаты, насаты, наздраты, пузаты, рагаты, расахаты, разгаты, трыбухаты, хвастаты, чубаты, цыбаты.*

Асобна і па значэнню і па ўтвараючай аснове стаяць прыметнікі *гамзаты* (размоўн.), *жалабаты, жанаты, зіркаты, касматы, ´кучматы, карабаты, лахматы, лупаты* (размоўн.), *мурзаты, паласаты, пляскаты, пукаты, сіпаты, сапаты, стракаты, смаркаты* (размоўн.), *хрыпаты* і інш.

Прыметнікі *багаты, бухматы, зякраты* (абл.), *калматы, калашматы, кашлаты, куртаты, таўсматы, лазаты, махнаты* ў дачыненні да сучаснай словаўтваральнай сістэмы з'яўляюцца невытворнымі, яны маюць звязаныя асновы.

У прыметніку *пярнаты* вылучаецца суфікс **-нат-**ы.

Прыметнік *пухнаты* можна суадносіць або з асновай назоўніка *пух* (тады ў ім вылучаецца ўскладнены суфікс **-нат-**ы), або з асновай дзеяслова *пухнуць* ці з асновай прыметніка *пульхны* (тады ў ім вылучаецца суфікс **-ат-**ы).

У прыметніку *дуплянаты*, які часам сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры, вылучаецца складаны суфікс **-янат-**ы.

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 498. У тых выпадках, калі ўтвараючая аснова прыметніка заканчваецца суфіксамі **-к-(-ок)** або **-ц-(-ец)**, пры далучэнні да іх суфікса **-ат-**ы адбываецца чаргаванне **к—ч, ц—ч**: *барадаўка — барадаўчаты, брусок — брусчаты, галоўка — галоўчаты, варсінка — варсінчаты* (біял.), *вяснушка — вяснушчаты, дымка — дымчаты, губка — губчаты, долька — дольчаты, зорка — зорчаты, каробка — каробчаты, кольца — кольчаты, карунка — карунчаты, крапка — крапчаты* (біял.), *мяцёлка — мяцёлчаты* (бат.), *палец — пальчаты, пласцінка — пласцінчаты, перапонка — перапончаты, рамка — рамчаты, сумка — сумчаты* (заал.), *сетка — сятчаты, ступенька — ступеньчаты, стрэлка — стральчаты* (архіт.), *тасёмка — тасёмчаты, уступка — уступчаты, створка — створчаты, дошка — дашчаты, клетка — клятчаты, іголка — ігольчаты, трубка — трубчаты, рубец — рубчаты* і інш.

Выключэнне з гэтага агульнага правіла складаюць прыметнікі *зіркаты, пляскаты, пукаты, стракаты.*

§ 499. Суфікс **-чат-**ы. Пры дапамозе гэтага суфікса прыметнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў і дзеясловаў.

Прыметнікі, утвораныя ад асноў назоўнікаў, выступаюць са значэннем «мае ў сабе ці на сабе тое або складаецца з таго ці падобны на тое, што абазначана ўтвараючай асновай»: *бугарчаты, бярвенчаты, грабеньчаты, зубчаты* (пры *зубчасты*), *каленчаты* (тэхн.), *кратчаты* (пры *кратчасты*), *палавінчаты, рэпчаты, сустаўчаты, сцябельчаты, фестончаты* (архіт.).

Аддзеяслоўныя прыметнікі на **-чат-**ы выступаюць са значэннем «мае схільнасць да дзеяння, абазначанага ўтвараючай асновай»: *рассыпчаты*

(побач з *рассыпчасты, рассыпісты*), *расплыўчаты* (побач з *расплывісты*), *пераліўчаты*.

Тып малапрадуктыўны і лексічна нешырокі.

§ 500. Суфікс **-аст-**_ы_ (**-яст-**_ы_). Пры дапамозе суфікса **-аст-**_ы_ (**-яст-**_ы_), які выконвае функцыю, блізкую да функцыі суфікса **-ат-**_ы_, прыметнікі ўтвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў. Такія прыметнікі часцей выступаюць са значэннем «характарызуецца тым або мае ў вялікай меры тое ці падобен да таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *брыжасты, валлясты* (абл.), *віхрасты, вушасты, галавасты* (пры *галаваты*), *галінасты, гарласты, грудасты, гузасты, грывасты, дуплясты, дзюбасты* (пры *дзюбаты*), *зубасты* (пры *зубаты*), *зіркасты, ігласты, ікласты, каранасты, карчасты, кіпцюрасты, кіпцясты, лычасты* (пры *лычаты*), *клыкасты, мардасты* (пры *мардаты*), *махрасты* (пры *махрысты*), *мышасты, скуласты, спічасты, рыласты, языкасты* (пры *языкаты*).

Параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры: *дзічка-яблыня крамнястая* (Я. Купала. Яна і я); *жылястае карэнне* (Я. Купала. Вольха); *музыка лісцястая* (Я. Купала. Сад); *клубястыя хмары* (Я. Колас. На ростанях); *крыжастая бліскавіца* (Я. Колас. Новая зямля); *чорт валасасты* (Я. Колас. Сьвяты Ян); *На высокім беразе рэчкі, у маладым асінніку, стаялі чатыры варожыя танкі — «тыгры»... Галоўны ліпскі верхалаз Генька Собаль першым заўважыў гэтыя пісягастыя трафеі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Меншую групу складаюць прыметнікі, якія ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-аст-**_ы_ (**-яст-**_ы_) ад дзеяслоўных асноў. Такія прыметнікі звычайна выступаюць са значэннем «схільны да пэўнага дзеяння, характарызуецца дзеяннем, абазначаным утваравочай асновай»: *бадасты* (абл.), *блішчасты, віхлясты, выгінасты, выкручасты, закручасты, пакручасты, павілясты*.

Параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры: *задзірастыя словы* (П. Галавач. Кара); *выхілястая дарога* (Ц. Гартны. Пераплёт).

Тып жывы і прадуктыўны, аднак лексічна нешырокі.

§ 501. Суфікс **-част-**_ы_. У некаторых прыметніках, утвораных ад асноў назоўнікаў, вылучаецца вытворны суфікс **-част-**_ы_, які сінанімічны па значэнню разгледжаным вышэй суфіксам **-ат-**_ы_, **-аст-**_ы_: *блінчасты, жалабчасты, зубчасты*.

Прыметнікі *дзірчасты, дзюбчасты* суадносяцца як з асновамі **дзір-**_а_, **дзюб-**_а_ (тады ў іх вылучаецца суфікс **-част-**_ы_), так і з асновамі **дзірк-**_а_, **дзюбк-**_а_ (тады ў іх наглядаецца звычайнае чаргаванне зычных **к — ч** і ў якасці суфікса выступае толькі **-аст-**_ы_). Параўн. таксама ў індывідуальным ужыванні прыметнік *клубчасты*: *клубчасты хвост дыму* (Я. Колас. У палескай глушы).

Тып малапрадуктыўны.

§ 502. Суфікс **-ів-**_ы_ (**-ыв-**_ы_). Пры дапамозе суфікса **-ів-**_ы_ (**-ыв-**_ы_) ад іменных і дзеяслоўных асноў утвараюцца якасныя прыметнікі са значэннем «мае што-небудзь або схільны да чаго-небудзь, што абазначана ўтвараючай асновай»: *вашывы* (размоўн.), *ільсцівы, кастрывы, літасцівы, лянівы, міласцівы, праўдзівы, ілжывы, паршывы, пляшывы, плаксівы, раўнівы, пачцівы, шалудзівы* (размоўн.), *фальшывы, хцівы, чарвівы, юродзівы*.

Асобна ад гэтай групы слоў стаіць прыметнік *уласцівы*, у якім суфікс **-ів-**_ы_ страціў сваё зыходнае словаўтваральнае значэнне.

Тып непрадуктыўны.

§ 503. Суфікс **-лів-**_ы_. Пры дапамозе суфікса **-лів-**_ы_ ўтвараюцца якасныя прыметнікі ад двух відаў асноў — дзеяслоўных і назоўнікавых.

а) Прыметнікі, якія ўтвараюцца ад дзеяслоўных асноў, выступаюць пераважна ў значэнні «схільны да чаго-небудзь або мае ў сабе што-не-

будзь, што абазначана ўтвараючай асновай»: *абыходлівы, блудлівы, бразгатлівы, вынаходлівы, вынослівы, гаварлівы, грэблівы, гутарлівы, гуллівы, даверлівы, дакучлівы, дапытлівы, жартаўлівы (жартлівы), задумлівы, заманлівы, зґаворлівы, знаходлівы, здагадлівы, зіхатлівы, зычлівы (жычлівы), імклівы, кемлівы, куслівы, маўклівы (маўчлівы), мігатлівы, мітуслівы, надаедлівы, назойлівы, падатлівы, пакорлівы, пераборлівы, прадбачлівы, прадпрыемлівы, пранізлівы (пранозлівы), праніклівы, прываблівы, прыдзірлівы, руплівы, сварлівы, супакойлівы, супярэчлівы, угодлівы, удумлівы, удушлівы, уедлівы, устойлівы, шчабятлівы, цярплівы* і інш.

Заўвага. У значэнні прыметніка *настойлівы* ў 20—30-х гадах XX стагоддзя ўжываўся часам прыметнік *настойны*.

*У яе галаве поўзалі ўпартыя, настойныя... думкі* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *У яго былі свае думкі: яны не былі настойнымі і ўпартымі* (К. Чорны. Бяздонне).

Асобна вылучаецца група аддзеяслоўных прыметнікаў на **-ліў-ы**, якія індывідуальна ўтвораны пісьменнікамі або характэрны для размоўнага стылю; некаторыя з іх стаяць на мяжы літаратурнай нормы: *грымлівыя сцены завода* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *мірглівыя зоркі* (там жа); *заварожлівая ўхмылка* (там жа); *рыбкі шмыглівыя* (Я. Купала. Вясна); *абурлівая рэпліка* (Я. Колас. У глыбі Палесся); *уніклівая думка* (Я. Колас. У палескай глушы); *прыкідлівы дакор* (Я. Колас. У глыбі Палесся); *бачлівы погляд* (Я. Колас. На прасторах жыцця); *рухлівы цень* (Я. Колас. Адшчапенец); *пакеплівыя вочы* (П. Глебка. Дзяўчына савецкае краіны); *нехта зняверлівы* (П. Глебка. Апошняя стрэча); *душа заходлівая* (М. Лынькоў. Баян); *дрыгатлівае бярвенне насцілу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *дрымлівыя рэкі* (У. Хадыка. Хай выюць ветры непагоды...); *зваблівая дзяўчына* (У. Хадыка. Пароша); *бурклівае чыркание* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес); *бурчлівы скрогат* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека); *журлівы шопат галінаў* (П. Броўка. Ой, не шапчы, мая бярозка); *дзень прыпарлівы* (М. Танк. Неапаль); *трапятлівая рука* (А. Александровіч. Таварыш сын); *шамятлівае шуршэнне* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах); *шалпатлівы гушчар трысця* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Тып лексічна багаты і асабліва прадуктыўны ў мове мастацкай літаратуры.

б) Прыметнікі, якія ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-ліў-ы** ад назоўнікавых асноў, выступаюць звычайна ў значэнні «мае ў сабе тое або характарызуецца тым ці схільны да таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *агідлівы, гаспадарлівы, дажджлівы, дураслівы, жахлівы, жаласлівы, засушлівы, зласлівы, крыклівы, міласлівы, санлівы, сарамлівы, слязлівы, сіратлівы, шчаслівы* і інш.

Заўвага 1. Побач з прыметнікам *сарамлівы* ў мове мастацкай літаратуры ўжываецца часам прыметнік *сарамяжлівы*, які суадносіцца з асновай назоўніка *сарамяга*.

*Лабановічу падабалася прыгожанькая, крыху сарамяжлівая, чарнавокая Лідачка* (Я. Колас. На ростанях).

Заўвага 2. Прыметнікі *гаратлівы, смехатлівы, страхатлівы* суадносяцца па ўтварэнню з асновамі назоўнікаў *гарот-а, смехат-а, страхат-а (страхоцц-е)*, але яны могуць разглядацца і як словы, утвораныя пры дапамозе суфікса **-атліў-ы** ад асноў назоўнікаў *гор-а, смех, страх*. У выніку перараскладання асновы гэтых прыметнікаў суфікс **-атліў-ы** набывае значэнне самастойнага суфікса, аб чым сведчыць, у прыватнасці, утварэнне прыметніка *віратлівы*, які суадносіцца з назоўнікам *вір*.

*Трымацца ў адзенні на гэтай віратлівай вадзе было надзвычай цяжка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Як толькі прагудзе гудок надвечар, заціхне віратлівы гул машын, я развінаю стомленыя плечы...* (П. Глебка. Зімовы адпачынак).

Акрамя разгледжаных вышэй адназоўнікавых прыметнікаў на **-ліў-ы**, у мове мастацкай літаратуры ёсць значная колькасць прыметнікаў, якія

з'яўляючыся адзнакай размоўнага стылю або індывідуальнай словатворчасці пісьменнікаў, не набылі значэння агульнай нормы: *я горды дызухлівы* (Ц. Гартны. Ізноў вясна); *песня сумлівая* (Ц. Гартны. Восеннае); *праглівыя ўзрокі* (Ц. Гартны. Вечнае); *языч-лівыя перасудніцы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *грамлівы голас* (Я. Купала. Канюх); *слізлівая п'яўка* (Я. Купала. Вецер); *нудлівы* выраз (Я. Купала. Нядзеля); *пышлівы сусед* (Я. Купала. Пераклад «Меднага конніка» А. С. Пушкіна); *ганьблівыя словы* (З. Бядуля. Салавей); *удачлівае паляванне* (там жа); *хвараблівыя ўздыхі* (там жа); *велічлівая поза* (Я. Колас. Рыбакова хата); *драбязлівая рэч* (Я. Колас. Дрыгва); *лес страхлівы* (Я. Колас. Новая зямля); *крык распачлівы* (Я. Колас. Над Свіслаччу); *твар выразлівы* (Я. Колас. Покліч); *дымлівыя фабрыкі* (П. Броўка. Гады, як шторм); *змрочлівы час* (П. Броўка. Хлеб); *задушлівы кашаль* (там жа); *удзіклівым моры злосці* (У. Хадыка. Рэвалюцыі салдат); *людзі прымхлівыя* (І. Шамякін. У добры час).

Тып жывы і прадуктыўны.

Асобна можна адзначыць прыметнікі з суфіксам **-лів**-*ы*, якія суадносяцца як з дзеяслоўнымі, так і з назоўнікавымі асновамі: *вірлівы* (вірыць, вір), *дакорлівы* (дакараць, дакор), *зняважлівы* (зневажаць, зняўвага), *разважлівы* (разважаць, развага), *зманлівы* (зманіць, зман), *пакутлівы* (пакутаваць, пакута), *адборлівы* (адбіраць, адбор), *шумлівы* (шумець, шум), *запаслівы* (запасаць, запас), *клапатлівы* (клапаціцца, клопат), *абразлівы* (абражаць, абраза), *пагардлівы* (пагарджаць, пагарда), *здрадлівы* (здраджваць, здрада), *спагадлівы* (спагадаць, спагада), *паслужлівы* (паслужыць, паслуга), *урадлівы* (урадзіць, урода), *паваротлівы* (паварочвацца, паварот), *спакуслівы* (спакушацца, спакуса), *шкадлівы* (шкодзіць, шкода), *збрадлівы* (зброджваць, зброда), *крыўдлівы* (крыўдзіцца, крыўда), *помслівы* (помсціць, помста) і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 504. Суфікс **-чыв**-*ы*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад дзеяслоўных асноў, якія звычайна ўскладнены прыстаўкамі, у размоўным стылі ўтвараюцца якасныя прыметнікі са значэннем «схільны да чаго-небудзь, што абазначана ўтвараючай асновай»: *запальчывы, забыўчывы, прывязчывы, прыліпчывы, ужыўчывы.*

Прыметнікі *аглядчывы, уступчывы* суадносяцца адпаведна як з асновамі дзеясловаў *агляда-цца, уступа-ць,* так і з асновамі назоўнікаў *аглядк-а, уступк-а.* У апошнім выпадку ў іх трэба вылучаць суфікс **-ыв**-*ы*. Параўн. таксама прыметнік *няўпарчывы,* утвораны, відаць, ад асновы **упарт-**.

*Ну, я, канечна, чалавек натуры няўпарчывай: чаму ж, думаю сабе, ад добрага суседа ласкі не прыняць?* (Я. Купала. Прымакі).

§ 505. Суфікс **-ін**-*ы* (**-ын**-*ы*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад назоўнікаў, якія абазначаюць жывых істот (звяроў, птушак, рыб і інш.), а таксама людзей (рэдка), утвараюцца адносныя прыметнікі са значэннямі «мае адносіны да таго або характарызуецца тым ці ўласцівы таму, што абазначана ўтвараючай асновай», «належыць цэламу класу істот», «паходзіць ад пэўнай істоты», «зроблены з скуры пэўнай істоты». У выпадках пераноснага ўжывання гэтыя прыметнікі могуць набываць якасныя адценні.

а) Прыметнікі, утвораныя ад іменных асноў на **-а(-я)**: *дзяціны, удавіны, белужыны, блышыны, гагарыны, галчыны, жабіны, кабыліны, казіны, курыны, качыны, мушыны, малпіны, павіны, перапяліны, пчаліны, стракаізіны, сеўружыны, савіны.*

Заўвага. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад іменных асноў, якія заканчваюцца суфіксам **-к**-*а*, апошні выпадае: *мурашка — мурашыны, птушка — птушыны.*

б) Прыметнікі, утвораныя ад іменных асноў на зычныя: *бусліны, бычыны, вепручыны, галубіны, грачыны, гусіны, дупяліны, жураўліны, звярыны, карасіны, казліны, камарыны, крумкачыны, кацiны, лебядзіны, мышыны, павучыны, пацучыны, псіны, саміны, сакаліны, сабаліны, рысіны, рачыны, тхарыны, турыны, трусіны, чмяліны, шакаліны, шпачыны, шчупачыны, ястрабіны.*

Як відаць з прыкладаў, у выпадках, калі ўтвараючая аснова заканчваецца заднеязычнымі **г, к, х,** у прыметніку адбываецца чаргаванне гэтых гукаў з шыпячымі **ж, ч, ш.**

в) Прыметнікі, утвораныя ад іменных асноў на **j**: *вераб'іны, змяіны, салаўіны.*

Тып жывы, але малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 506. С у ф і к с **-іст-*ы* (-ыст-*ы*).** Пры дапамозе суфікса **-іст-*ы* (-ыст-*ы*)** утвараюцца якасныя прыметнікі ад асноў назоўнікаў, дзеясловаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і прыслоўяў. У залежнасці ад гэтага яны адрозніваюцца і сэнсавымі адценнямі.

1. Прыметнікі, якія ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў (усе гэтыя асновы заканчваюцца зычнымі), выражаюць значэнні «мае што-небудзь, змяшчае што-небудзь (нярэдка ў вялікай колькасці) ці падобны да чагонебудзь, што абазначана ўтваруючай асновай». Тып гэтых прыметнікаў колькасна вялікі і вельмі прадуктыўны ва ўсіх стылях сучаснай мовы: *абрывісты, агністы, багавіністы, багуністы, багністы, балоцісты, басісты* (размоўн.), *брыльянцісты, валакністы, валасісты, ваўністы, вячысты* (паэт.), *выбоісты, гарысты, ганарысты* (размоўн.), *галасісты, глеісты, глiністы, дажджысты, дзірваністы, дрыгвісты, дуплісты, жвірысты, жылісты* (размоўн.), *жаралісты, зярністы, закавырысты* (размоўн.), *заладзісты, зямлісты, імглісты, ільдзісты, імшысты, іскрысты, іглісты, камяністы, каласісты, краплісты, квяцісты, кусцісты, касцісты, кражысты, карчысты, куп'істы, крамяністы, кудзелісты, каляіністы, лапушысты, лясісты, мазолісты, маршчыністы, макрысты, мускулісты, мятлісты, мясісты, наравісты, падзолісты, народзісты, парожысты, перысты, пеністы, плячысты, порысты, прамяністы, пружыністы, пушысты, рабрысты, развілісты, скалісты, слаісты, скнарысты* (размоўн.), *смалісты, серабрысты, тваністы, узорысты, ухабісты, фанабэрысты* (размоўн.), *хвалісты, цяжысты* (медыц.), *цяністы, цярністы, шатрысты, шклісты, ямісты, яршысты* (размоўн.).

Аб прадуктыўнасці гэтага тыпа сведчаць таксама шматлікія прыметнікі, якія адносяцца да навуковай тэрміналогіі: *гравялісты грунт, гідраслюдзістыя мінералы, вапністыя пяскі, вуглістыя гліны, сажыстыя ўключэнні ў лёсавай пародзе* (геал., мінерал.); *рашэцістыя косці, сасудзістыя рэфлексы, слізістая абалонка, парошыстая парша бульбы, залозісты экстракт* (біял.); сюды ж адносяцца прыметнікі тыпу *азоцісты, бромісты, ёдзісты, жалезісты, хлорысты* і інш.

Магчымасці свабоднага ўтварэння прыметнікаў на **-іст-*ы*** (**-ыст-*ы***) ад асноў назоўнікаў шырока выкарыстоўваюцца пісьменнікамі ў мове мастацкай літаратуры, аб чым сведчыць і цэлы рад больш ці менш індывідуальных наватвораў гэтага тыпа: *б я л ь м і с т а е вока* (З. Б я д у л я. Салавей); *ц я м р ы с т а я вата* (там жа); *т у м а н і с т а е паветра* (З. Б я д у л я. Дзесяць); *рунь с а ч ы с т а я* (Я. К у п а л а. Летапіснае); *с н я ж ы с т а я дарожка* (Я. К у п а л а. Пераклад з польскай «Трох Будрысаў» А. Міцкевіча); *в ы к р у т а с і с т ы я словы* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця); *працяг у з р о ч ы с т ы* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам); *тапалі г а л і н і с т ы я* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах); *рэдактар а к у л я р ы с т ы* (там жа.). Параўн. таксама прыметнік *лявоністы*, каламбурна ўжыты М. Лыньковым у «Векапомных днях»: *Дарэмна ты, Сайка Лявонавіч, у старыя мяне залічваеш... Дайтка нам, Дубок, чаго-небудзь л я в о н і с т а г а.*

Заўвага. Суфікс **-іст- (-ыст-)** у складзе прыметнікаў *асабісты, урачысты*, утвораных ад асноў назоўнікаў, ужо не выражае значэнняў, уласцівых разгледжанаму тыпу.

2. Прыметнікі, якія ўтвараюцца ад дзеясловаў (звычайна прэфіксальных) выражаюць значэнне «схільны да дзеяння, абазначанага ўтваральнай асновай»: *адрывісты, бруісты, закацісты, залівісты, захлёбісты, звілісты, задзірысты (задзёрысты), надрывісты, пакладзісты, пералівісты, развесісты, раскідзісты, расплывісты, учэпісты.*

Ад асноў дзеясловаў, як і ад асноў назоўнікаў, прыметнікі на **-іст-***ы* (**-ыст-***ы*) могуць свабодна ўтварацца, аб чым сведчыць цэлы рад індывідуальных наватвораў у мове мастацкай літаратуры, не замацаваных у якасці агульнай нормы; напрыклад: *ірдзістыя палотнішчы* (Ц. Гартны. Над вялікімі магіламі); *нязведзістая доля* (Я. Купала. Шчаслівасць); *шум пакоцісты* (Я. Купала. У купальскую ноч); *праменні зіхацістыя* (Я. Купала. Усюды лета...); *думка назалістая* (Я. Купала. На пагранічча); *выгіністае рала* (К. Чорны. Вясна); *выносістыя хвоі* (там жа); *ускідзістыя слупы зямлі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес); *варыстая печ* (там жа); *настрой неастоісты* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека); *зыбістае шкло* (П. Глебка. Гораду на Дзвіне); *нясклёпісты бар'ер* (Я. Колас. На ростанях); *зрывісты бераг* (там жа).

Заўвага. У прыметніку *празрысты* суфікс **-ыст-** зросся з утваральнай асновай, страціў словаўтваральнае значэнне, уласцівае разгледжанай групе прыметнікаў, і не вылучаецца ў сучаснай мове.

Тып аддзеяслоўных прыметнікаў на **-іст-***ы* жывы і прадуктыўны ў сучаснай мове.

У некаторых выпадках прыметнікі з гэтым суфіксам суадносяцца як з асновамі дзеясловаў, так і з асновамі адпаведных назоўнікаў; напрыклад: *буяністы (буяніць, буян), парывісты (парывацца, парыў), перавязісты (перавязваць, перавязь), перарывісты (перарываць, перарыў), пружыністы (пружыніць, пружына), размашысты (размахваць, размах), раскацісты (раскатваць, раскат), фарсісты (фарсіць, форс)* і інш.

3. Прыметнікі, якія ўтвараюцца ад асноў прыметнікаў (часта гэтыя асновы заканчваюцца суфіксамі **-н-, -ан-, -ян-, -ав-, -яв-** і інш.), набываюць значэнні «мае вялікую колькасць чаго-небудзь», «мае прымесь чаго-небудзь», «падобны на тое, што абазначана ўтваральнай асновай»: *адложысты, агромністы, вадзяністы, ледзяністы, крывяністы, ракавісты, паджарысты, пясчаністы, сярністы, мучністы, тарфяністы, травяністы, шаўкавісты* і інш.

У мове мастацкай літаратуры наглядаецца таксама ўжыванне цэлага рада індывідуальна ўтвораных прыметнікаў на **-іст-***ы* (**-ыст-***ы*), якія не замацаваліся як агульная норма: *свяжысты вятрыска* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *маладзісты руж* (там жа); *руцяністыя лісточкі* (Ц. Гартны. Узышоў месяц); *развістыя думкі* (Ц. Гартны. Злітасць); *сцюдзёністы дождж* (Я. Купала. З асенніх напеваў); *адвечністы шум* (Я. Купала. Над Іматрай); *твар святлісты* (Я. Купала. Лясная царэўна); *песня агнявістая* (Я. Купала. Святочныя вершы); *стужка агнявістая* (Я. Колас. Веснавыя хмаркі); *цвятлівісты сад* (П. Глебка. Трывожны сігнал); *лес цемраністы* (Я. Колас. Новая зямля).

Тып прадуктыўны.

4. Прыметнікі, утвораныя ад лічэбнікаў, служаць для выражэння якаснай характарыстыкі ў адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы: *двоісты, троісты.*

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны толькі двума прыведзенымі словамі.

5. Тып прыметнікаў адпрыслоўнага ўтварэння абмежаваны адным словам *знарочысты,* якое сустракаецца зрэдку толькі ў мове мастацкай

літаратуры: *з н а р о ч ы с т ы прыцiск* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына); *з н а р о ч ы с т а я грубасць* (П. Г л е б к а. Святло з усходу); *з н а р о ч ы с т а я суровасць* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 507. С у ф і к с **-к-***і* (**-ок-***і*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад іменных асноў і асноў дзеясловаў утвараюцца толькі якасныя прыметнікі.

1. Прыметнікі, утвораныя ад іменных асноў, выступаюць у значэнні «мае ў сабе тое або характарызуецца тым, што абазначана ўтвараючай асновай»: *брыдкі* (размоўн.), *вадкі, гладкі, громкі, глейкі, гулкі, гразкі* (размоўн.), *жалкі, жудкі, жорсткі, золкі, звонкі, мелкі, мяккі, нізкі, пухкі, стромкі, солкі, слізкі, салодкі, рэдкі, тонкі, хуткі, цяжкі, шорсткі.*

У індывідуальным ужыванні сустракаюцца таксама іншыя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікавых асноў пры дапамозе суфікса **-к-**: *б о я з к а я мітусня і хваляванне дарослых* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні); *п ы л к і дол* (Я. К о л а с. Нязбытныя надзеі); *с т р у н к і бярэзнік* (Я. Б р ы л ь. У чыстым полі пад ракітай).

З а ў в а г а. Ад назоўніка *строма* адпаведны прыметнік часам утвараецца таксама несуфіксальным спосабам.

*Засталіся дубровы, сосны с т р о м ы я ў лесе* (П. Б р о ў к а. Паланянка). *Бачыш Карпацкія с т р о м ы я горы* (П. Б р о ў к а. Кіеў). *Там слухае здаўна Дунайца размовы на беразе с т р о м ы м дом ціхі, сасновы* (П. Б р о ў к а. Дом у Пароніне). *Знала, ён прыйдзе, нас не разлучаць с т р о м ы я горы, цёмныя кручы* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Знала, ён прыйдзе). *А калі на горных на грамадах пена хваль,— паслухаю іх грому і напеву шумных вадападаў, што спадаюць з скал арліных, с т р о м ы х* (М. Т а н к. Снег).

У некаторых прыметніках іменная аснова ўжо вельмі цяжка вылучаецца, і яны набліжаюцца да разраду невытворных: *вохкі (вогкі), волкі* (абл.), *вузкі, гідкі, ёлкі, кароткі, плоскі, рэдкі, яркі, пругкі* і інш.

У прыметніках *глыбокі, высокі, далёкі, шырокі* вылучаецца суфікс **-ок-***і*.

У адлічэбнікавых прыметніках *дваякі, траякі* вылучаецца суфікс **-як-***і*.

Адыменныя прыметнікі на **-к-***і* складаюць малапрадуктыўны словаўтваральны тып.

2. Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфікса **-к-***і* ад дзеяслоўных асноў, выступаюць у значэннях «схільны да пэўнага дзеяння», «мае ўласцівасць праяўляць пэўнае дзеянне», «характарызуецца дзеяннем, якое абазначана ўтвараючай асновай»: *варкі, вёрткі* (размоўн.), *вязкі, гадкі* (размоўн.), *гаманкі* (размоўн.), *гнуткі, гонкі, груваскі* (размоўн.), *грузкі, дайкі, дзёрзкі* (размоўн.), *дрогкі, дрыготкі, едкі, зоркі, зыбкі, зыркі* (размоўн.), *зябкі, клейкі, колкі, коўзкі, коўкі, крохкі, ліпкі, ломкі, мулкі, меткі, мылкі, маркі, мазкі* (пры *мазлівы*), *носкі* (параўн. таксама складаны прыметнік *яйцаноскі*), *падкі* (размоўн.), *палкі, плямкі, пахкі, плыткі, плаўкі* (параўн. *тугаплаўкі*), *плыўкі, пудкі* (пры больш пашыраным *пужлівы*), *сыпкі, стойкі* (параўн. *тэрмастойкі*), *садкі* (спец.), *трапяткі, таропкі, траскі, храбусткі, ходкі, хлюпкі, хліпкі* (размоўн.), *хісткі, хваткі* (размоўн.), *цямкі* (размоўн.), *чуткі, ядкі* (размоўн. у значэнні «прыгодны для яды») і інш.

Параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры прыметнікі больш вузкага ўжывання (некаторыя з іх утвораны прэфіксальна-суфіксальным спосабам): *г р а й к і я струны* (Я. К у п а л а. Жальцеся, грайкія струны); *к е м к і знахар* (Я. К у п а л а. На пагранічны); *с л е п к і выбух* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні); *н е ў в а р о т к і я словы* (там жа); *н е п а д а т к а я сястра* (там жа); *д а п а д к і таварыш* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

Некаторыя прыметнікі гэтай групы страцілі ўжо непасрэдную суадноснасць са значэннем утвараючай дзеяслоўнай асновы і набылі больш агульныя якасныя адценні. Так, напрыклад, значэнні прыметнікаў *лоўкі, рэзкі, шпаркі, шыбкі, хлёсткі* ў сучаснай мове нельга выводзіць са зна-

чэнняў адпаведных дзеясловаў *лавіць, рэзаць, шпарыць* (хутка бегчы), *шыбаць (шыбаваць), хлястаць.*

Аддзеяслоўныя прыметнікі з суфіксам **-к-***і* складаюць прадуктыўны тып.

§ 508. Суфікс **-ск-***і*. Пры дапамозе суфікса **-ск-***і* ад асноў назоўнікаў утвараюцца ў пераважнай большасці адносныя прыметнікі.

У залежнасці ад значэння ўтваралючай асновы прыметнікі з суфіксам **-ск-***і* падзяляюцца на некалькі груп.

1. Прыметнікі, якія ўтвораны ад назваў асоб (звычайна ад назваў мужчынскага роду), суадносяцца па сваўму значэнню з прыналежнымі прыметнікамі на **-аў, -оў, -ёў** або выступаюць з адценнем «уласцівы таму ці мае адносіны да таго, хто названы ўтваральнай асновай»: *пяснярскі, геройскі, бунтарскі, піянерскі, пралетарскі, таварыскі, прыяцельскі, фельчарскі, доктарскі, генеральскі, афіцэрскі, кавалерскі, мяшчанскі, пісарскі, рэдактарскі, аўтарскі, сталярскі, прафесарскі, кухарскі, камандзірскі, камісарскі, мулярскі, бухгалтарскі, партызанскі, суседскі, пушкінскі, мічурынскі, кавальскі, мужчынскі, цяслярскі, бабыльскі, дваранскі, друкарскі, жыхарскі, млынарскі, снайперскі, акцёрскі, лекарскі, штурманскі, дыспетчарскі, пракурорскі, арганізатарскі, рацыяналізатарскі, шахцёрскі, рэжысёрскі, дырыжорскі, кампазітарскі.* Сюды ж трэба аднесці прастамоўны прыметнік *бабскі.*

У прыметніку *братэрскі* вылучаецца суфікс **-эрск-***і*.

Да разгледжаных прыметнікаў, якія ўтвораны ад назваў асоб, па значэнню прымыкаюць прыметнікі, утвораныя ад назваў, якія абазначаюць калектывы, аб'яднанні і групы людзей: *людскі, грамадскі, сялянскі, камсамольскі.*

Некаторыя прыметнікі гэтай групы, пераважна ўтвораныя ў пачатку XX стагоддзя і ў 20—30-я гады, не замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы: *чалавецкая душа* (М. Багдановіч. Мая гаспадыня); *дэмакрацкая песня* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *аўстрыяцкая школа* (Я. Купала. Адзінаццаць месяцаў); *работніцкі рух* (М. Чарот. Ваш сцяг абаронім); *змагарніцкая пара* (М. Чарот. Я малады...); *калгасніцкія даяркі* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык); *службацкі спрыт* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *камунскі двор* (П. Галавач. Пра паэму «Над ракою Арэсай» Я. Купалы).

Тып жывы і прадуктыўны.

2. Прыметнікі, якія ўтвораны ад назваў народаў і плямён, або суадносяцца па значэнню з прыналежнымі прыметнікамі, або выражаюць значэнні «ўласцівы таму ці мае адносіны да таго, што абазначана ўтваральнай асновай»: *славянскі, рускі, беларускі, украінскі, польскі, татарскі, балгарскі, грузінскі, драўлянскі, палянскі, аварскі, скіфскі.*

Абедзве разгледжаныя групы прыметнікаў складаюць адзін прадуктыўны тып.

3. Прыметнікі, утвораныя ад назваў жывёл, складаюць лексічна абмежаваную групу: *зверскі, конскі, свінскі.*

Тып непрадуктыўны.

4. Прыметнікі, утвораныя ад тапанімічных назваў, выражаюць прымету па адносінах да месца, якое абазначана ўтваральнай асновай: *мазырскі, гомельскі, магілёўскі, барысаўскі, бярэзінскі, шклоўскі, быхаўскі, капыльскі, мядзельскі, лепельскі, даўгінаўскі, кобрынскі, пінскі, мірскі, ружанскі, свірскі, скідзельскі, старобінскі, чэрвеньскі, брагінскі* і інш.

Заўвага. Ад асноў назоўнікаў, якія ў сваім складзе ўжо маюць суфікс **-ск-***і* (са старажытнага **-ьскъ**), прыметнікі ўтвараюцца шляхам простага далучэння канчатка **-і**: *Мінск — мінскі, Бабруйск — бабруйскі, Віцебск — віцебскі, Ельск — ельскі, Чачэрск — чачэрскі, Хоцімск — хоцімскі, Дзяржынск — дзяржынскі, Лагойск — лагойскі,*

*Багушэўск — багушэўскі, Рудзенск — рудзенскі, Арэхаўск — арэхаўскі, Першамайск — першамайскі, Салігорск — салігорскі.* Такім жа чынам утвораны і прыметнікі тыпу *слуцкі, клецкі, полацкі.* (Аб злучэнні **-цк-і** на месцы суфікса **-ск-і** гл. § 509).

Тып лексічна даволі шырокі, але малапрадуктыўны, таму што новыя геаграфічныя назвы ўзнікаюць не вельмі часта.

5. Прыметнікі, утвораныя ад назваў пор года і месяцаў, выражаюць прымету па адносінах да часу, які абазначан адпаведнай утваруючай асновай: *восеньскі, студзеньскі, майскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, жнівеньскі, снежаньскі.* Некалькі адасоблена ў гэтай групе стаяць прыметнікі, якія ўтвараюцца ад назваў свят: *першамайскі, кастрычніцкі, купальскі.*

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

6. Прыметнікі, утвораныя ад назваў канкрэтных прадметаў, а таксама ад назваў розных паняццяў, выражаюць прыметы па адносінах да таго, што адпаведна абазначана ўтваруючымі асновамі: *гарадскі, заводскі, сельскі, хутарскі, складскі, медыцынскі, марскі, ордэнскі, манастырскі, семінарскі, прыходскі, акіянскі.*

Сюды належаць і прыметнікі *канцылярскі, філасофскі,* утвораныя ад асноў, у якіх выпадае з асновы спалучэнне **ij (ыj),** параўн.: *канцыля***рыj***-а, філасоф***ij***-а.*

З а ў в а г а. У размоўным стылі, а таксама ў мове мастацкай літаратуры прыметнікі гэтай групы часам утвараюцца ад складанаскарочаных слоў: *с е л ь с а в е ц к і старшыня* (П. Б р о ў к а. Кацярына); *с е л ь с а в е ц к і я абшары* (П. Б р о ў к а. Чырвон-гарадок).

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 509. 1. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад геаграфічных назваў на заднеязычныя **г, х** перад суфіксам **-ск-***і* звычайна адбываецца чаргаванне гэтых заднеязычных з шыпячымі **ж, ш:** *анежскі, волжскі, варажскі, калужскі, ладажскі, нарвежскі, пражскі, рыжскі, чэшскі, старадарожскі, радужскі.*

З а ў в а г а 1. Ад прыметнікаў, у якіх перад суфіксам **-ск-***і* адбываецца чаргаванне **г, х** з **ж, ш,** неабходна адрозніваць прыметнікі, утвораныя пры дапамозе гэтага **ж** суфікса ад асноў на **ж, ш:** *блужскі, суражскі, веліжскі, мсціжскі, рубежскі, добрушскі, застружскі, бусяжскі.*

З а ў в а г а 2. У некаторых прыметніках, асабліва пазнейшага паходжання, чаргаванне канцавых заднеязычных асновы **г, х** з **ж, ш** не адбываецца: *бугскі, казахскі, карабахскі, цюрыхскі.*

2. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад асноў на заднеязычны **к** перад суфіксам **-ск-***і* адбываецца звычайна чаргаванне гэтага **к** з **ч**, у выніку чаго на стыку асновы і суфікса паяўляецца спалучэнне **чск,** якое фанетычна відазмяняецца спачатку ў **цск,** а затым у **цк,** што знаходзіць адлюстраванне і ў арфаграфіі: *рыбацкі, маладняцкі, збіральніцкі, мужыцкі, настаўніцкі, мастацкі, вандроўніцкі, юнацкі, батрацкі, бядацкі, жабрацкі, кулацкі, серадняцкі, ваяцкі, уласніцкі, начальніцкі, садоўніцкі, бязбожніцкі, крамольніцкі, прасцяцкі, каморніцкі, разбойніцкі, грабежніцкі, забіяцкі* (размоўн.), *драпежніцкі, абшарніцкі, здрадніцкі, дзівацкі, нявольніцкі, нябожчыцкі, каталіцкі, разведчыцкі, падпалкоўніцкі, начлежніцкі, казацкі, гаротніцкі, чараўніцкі, невуцкі, паляшуцкі, чыноўніцкі, стражніцкі, урадніцкі, памешчыцкі, кастрычніцкі, сакавіцкі, красавіцкі, славацкі, гарадоцкі, давыд-гарадоцкі, чырвонагарадоцкі, жалудоцкі, чашніцкі, беластоцкі, уладзівастоцкі, мастоцкі, хойніцкі.*

З а ў в а г а. У некаторых прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, чаргаванне канцавога асновы **к** з **ч** адсутнічае: *геленджыкскі, узбекскі, окскі, оскскі, лакскі, таджыкскі, нальчыкскі.*

3. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад асноў на **т** на стыку асновы і суфікса **-ск-***і* паяўляецца спалучэнне **тск,** якое фанетычна змяняецца ў **цк:** *марксісцкі, савецкі, дэлегацкі, дэпутацкі, кандыдацкі, студэнцкі, салдацкі, адвакацкі, турысцкі, джыгіцкі, дзекабрысцкі, гіганцкі, старасвецкі, бандыцкі, кадэцкі, магнацкі, сіроцкі, вар'яцкі, хвацкі, прапагандысцкі,*

*канструктывісцкі, рэвізіянісцкі, рэфармісцкі, пазітывісцкі, сімвалісцкі, фармалісцкі, інтэлігенцкі, эстэцкі;* параўн. таксама *княжацкі* (з *княжат-скі*), *шляхецкі* (з *шляхет-скі*); *брэсцкі, карпацкі, калькуцкі, судэцкі, ташкенцкі.*

4. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад асноў на **ч** на стыку асновы і суфікса **-ск-***і* паяўляецца група **чск**, якая фанетычна змяняецца спачатку ў **цск**, а затым у **цк**, што знаходзіць адлюстраванне і ў арфаграфіі: *ткацкі, уцякацкі.* Параўн. устарэлы прыметнік *дзедзіцкі* (ад *дзедзіч*): *д з е д з і ц к і дамастроеўскі лад* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *водгук д з е д з і ц к а й варожасці* (там жа). Параўн. таксама прыметнікі *дзявоцкі* (з *дзявоч-ск-і*), *жаноцкі* (з *жаноч-ск-і*), *старэцкі* (з *старэч-ск-і*).

Найбольшую колькасць слоў з такой асновай складаюць прыметнікі, якія ўтвораны ад беларускіх геаграфічных назваў на **-іч-***ы*: *асіповіцкі, баранавіцкі, бешанковіцкі, бялыніцкі, васілевіцкі, ганцавіцкі, дунілавіцкі, жыткавіцкі, капаткевіцкі, карэліцкі, калінкавіцкі, касцюковіцкі, крывіцкі, клімавіцкі, ляхавіцкі, парыцкі, плешчаніцкі, пухавіцкі, радашковіцкі, свіслацкі, уваравіцкі, ушацкі, халопеніцкі, свяцілавіцкі* і інш.

5. Пры ўтварэнні прыметнікаў ад асноў назоўнікаў на **ц** на стыку ўтваральнай асновы і суфікса **-ск-***і* паяўляецца група **цск**, якая фанетычна відазмяняецца ў злучэнне **цк**, замацаванае і арфаграфіяй: *выдавецкі, ігрэцкі, кравецкі, курэцкі, маладзецкі, спажывецкі, шавецкі, хлапецкі, нямецкі, палавецкі.*

Заўвага. У словах размоўнага стылю *важнецкі, здаравецкі, прасцецкі,* утвораных ад прыметнікавых асноў *важн-ы, здаров-ы, прост-ы,* вылучаецца складаны суфікс **-ецк-***і*: *прапанова в а ж н е ц к а я* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *з д а р а в е ц к і кулак* (Я. Колас. Нёманаў дар); *А нос у інспектара быў з д а р а в е ц к і* (Я. Колас. У глыбі Палесся); *п р а с ц е ц к а я магіла* (Я. Колас. Сялянская доля).

У гэтай групе асабліва многа такіх прыметнікаў, якія ўтвораны ад геаграфічных назваў: *астравецкі, асавецкі, докшыцкі, лельчыцкі, івянецкі, рэчыцкі, камянецкі, лунінецкі, лошыцкі, лучыцкі, гарадзецкі, свяціцкі, бродніцкі, ратайчыцкі, плешчыцкі, соржыцкі, беліцкі, крупецкі, званецкі, галоўчыцкі, сялецкі; суэцкі, майнцкі, ніццкі* і інш. У цэлым радзе прыметнікаў, у залежнасці ад будовы ўтваральнай асновы, суфікс **-ск-***і*, захоўваючы ўласцівыя яму значэнні, ускладняецца іншымі элементамі і выступае ў выглядзе вытворных суфіксаў **-анск-***і* (**-янск-**і), **-іянск-***і*, **-енск-***і*, **-аўск-***і*, **-оўскі-***і*, **-еўск-***і*, **-ейск-***і*, **-ійск-***і* (**-ыйск-***і*), **-інск-***і* (**-ынск-***і*).

§ 510. Суфікс **-анск-***і* (**-янск-***і*), **-іянск-***і* (**-ыянск-***і*). Пры дапамозе суфіксаў **-анск-***і* **(-янск-***і***)**, **-іянск-***і* **(-ыянск-***і***)** прыметнікі ўтвараюцца пераважна ад геаграфічных назваў на **ч, ча, ша, шча, жа, ля, ма, на, ня, та, це** і з некаторымі іншымі асновамі: *Нарач — нарачанскі, Быч — бычанскі, Елча — елчанскі, Зарэчча — зарэчанскі, Парэчча — парэчанскі, Крыўча — крыўчанскі, Свеча — свечанскі, Орша — аршанскі, Суша — сушанскі, Гарадзішча — гарадзішчанскі, Езярышча — езярышчанскі, Селішча — сялішчанскі, Козішча — казішчанскі, Пялішча — пялішчанскі, Сакалішча — сакалішчанскі, Мяжа — мяжанскі, Задзежжа — задзежанскі, Лоўжа — лоўжанскі, Туроўля — тураўлянскі, Віроўля — віраўлянскі, Нароўля — нараўлянскі, Карма — кармянскі, Хлеўна — хляўнянскі, Балотня — балатнянскі, Чацвярня — чацвярнянскі, Рэкта — рэкцянскі, Вусце — вусцянскі.* Сюды ж адносіцца рад прыметнікаў, утвораных ад іншамоўных геаграфічных назваў: *керчанскі, павянчанскі, афрыканскі, амерыканскі, неапалітанскі, перуанскі, італьянскі, мараканскі, егіпцянскі.*

Прыметнікаў, утвораных пры дапамозе ўказаных суфіксаў ад іншых семантычных разрадаў назоўнікаў, параўнальна нямнога: *парабчанскі, рэспубліканскі, артэзіянскі; вальтар'янскі, гегельянскі, кантыянскі, ласальянскі, ніцшэанскі, шэлінгіянскі* і інш.

Тып жывы і прадуктыўны.



14. Зак. 892

§ 511. Суфікс **-енск-*і***. Пры дапамозе суфікса **-енск-*і*** прыметнікі ўтвараюцца толькі ад геаграфічных назваў, прычым пераважна ад асноў на **ба, ва, ля, ня:** *Газьба — газьбенскі, Лахва — лахвенскі, Відомля — відомленскі, Глінна — глінненскі, Рагозна — рагозненскі, Расна — расненскі, Прысна — прысненскі, Пышна — пышненскі, Лёзна — лёзненскі, Стрэльня — стрэльненскі, Гарадзечна — гарадзечненскі, Астроўна — астровенскі.*

З а ў в а г а. Ад назоўніка *Маладзечна* адпаведны прыметнік утвараецца пры дапамозе суфікса **-ск-*і***: *маладзечанскі.*

Такім жа чынам утвараюцца прыметнікі ад многіх геаграфічных назваў, якія з'яўляюцца субстантываванымі прыметнікамі: *Слаўнае — слаўненскі, Крапіўнае — крапівенскі, Краснае — красненскі, Хобнае — хобненскі, Скароднае — скародненскі.*

У групу прыметнікаў на **-енск-*і*** ўключаюцца і прыметнікі, утвораныя ад небеларускіх геаграфічных назваў: *Пенза — пензенскі.*

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 512. Суфіксы **-аўск-*і*, -еўск-*і*, -оўск-*і*** (**-ёўск-*і***). Пры дапамозе гэтых суфіксаў утвараецца вялікая колькасць прыметнікаў (пераважна адносных) ад асноў наступных разрадаў назоўнікаў:

1. Ад асноў агульных назоўнікаў, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу; па значэнню гэтыя прыметнікі суадносяцца з адпаведнымі прыналежнымі прыметнікамі, а часам набываюць і якасныя адценні: *бацькоўскі (бацькаўскі), дзедаўскі (дзядоўскі), прадзедаўскі, хлапцоўскі, сяброўскі, вучнёўскі, леснікоўскі, ткачоўскі, шаўцоўскі, краўцоўскі, парабкоўскі, пастухоўскі, старажоўскі, папоўскі, дзякоўскі, ксяндзоўскі, князеўскі, каралеўскі;* параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры: *с ы н о ў с к а я спагада* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны); *з у х а ў с к а я палачка* (Я. К о л а с. Так і трэба ашуканцу).

Асобна трэба адзначыць прыметнік *маладнякоўскі*, утвораны ад назвы літаратурнай арганізацыі «Маладняк»: *м а л а д н я к о ў с к а е слова* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся).

З а ў в а г а. У мове літаратурных твораў 30—50-х гадоў XX стагоддзя з гэтым суфіксам часам сустракаецца таксама прыметнік *ф а ш ы с т о ў с к і* (пры сучаснай літаратурнай норме *фашысцкі*): *ф а ш ы с т о ў с к а я хеўра* (Я. К у п а л а. Нашаму святу); *ф а ш ы с т о ў с к і я псы* (Я. К у п а л а. Беларускім партызанам); *ф а ш ы с т о ў с к а я панама* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам); *куля ф а ш ы с т о ў с к а я* (М. Т а н к. Янук Сяліба); *ф а ш ы с т о ў с к а я зграя* (П. П а н ч а н к а. Шчаслівы верасень).

2. Ад асноў уласных назоўнікаў, якія з'яўляюцца прозвішчамі асоб мужчынскага полу; прыметнікі гэтай падгрупы суадносяцца па значэнню або з прыналежнымі прыметнікамі або ўжываюцца ў больш шырокіх значэннях: «мае адносіны да...», «такі, як у каго-небудзь»: *купалаўскі, коласаўскі, горкаўскі, гайдараўскі, чапаеўскі, рэнтгенаўскі, будзёнаўскі, пульманаўскі* (вагон); параўн. таксама індывідуальныя ўтварэнні ў «Векапомных днях» М. Лынькова: *слышэнеўскі (Слышэня), дубкоўскі (Дубок), лойкаўскі (Лойка), дзеткаўскі (Дзетка), чмаруцькаўскі (Чмаруцька), свістуноўскі (Свістун);* у «Соках цаліны» Ц. Гартнага: *лінеўскі (Лінь).*

З а ў в а г а. Асобную групу складаюць прыметнікі на **-оўск-*і*, -еўск-*і***, якія субстантываваліся і з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі асоб. У адных выпадках гэтыя суфіксы паявіліся ў выніку пераразкладання асноў (калі ўтвараючай асновай з'яўляецца аснова прыналежнага прыметніка на **-аў, -оў, -еў**), а ў другіх яны выступаюць непасрэдна пасля назоўнікавых асноў у выглядзе складаных марфем: *Казлоўскі, Рудакоўскі, Бараноўскі, Жукоўскі, Раманоўскі, Іваноўскі, Сідараўскі, Вярбоўскі, Баркоўскі, Зубоўскі, Грыбоўскі, Гуткоўскі, Шарахоўскі, Каткоўскі, Нікіфароўскі, Прыбыткоўскі, Маеўскі, Курчэўскі, Захарэўскі, Грушэўскі, Леваноўскі* і інш.

3. Ад асноў уласных назоўнікаў, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі; такія прыметнікі маюць значэнне «знаходзіцца ў тым месцы ці па-

ходзіць з таго месца, якое абазначана ўтвараючай асновай»: *дняпроўскі, высокаўскі, нёманаўскі, клёнаўскі, клёнкаўскі, клінкоўскі, лядцаўскі, навасёлкаўскі, лапінкаўскі, сцяпанкаўскі, стайкаўскі, глінкаўскі, засценкаўскі, холмаўскі, пустынкаўскі, старынкаўскі, кочышчаўскі, даўлядаўскі, перадзелкаўскі, маслакоўскі, пугляёўскі, пашукоўскі, федзюкоўскі, беразцоўскі, русакоўскі, прудкоўскі, чэрнеўскі, перахрэсцеўскі, жыгулёўскі* і інш.

4. Ад асноў агульных назоўнікаў; такія прыметнікі ў адпаведнасці са значэннем утвараючай асновы выражаюць значэнні «адбываецца ў пэўны месяц года», «мае адносіны да чаго-небудзь»: *лютаўскі, верасноўскі, кастрычнікаўскі, лістападаўскі; тэхнікумаўскі, з'ездаўскі;* параўн. таксама індывідуальнае ўтварэнне *сходаўскі: Для парадку і па сходаўскай традыцыі старшыня пазваніў* (Я. Колас. Адшчапенец).

Усе разгледжаныя тыпы прыметнікаў з гэтымі суфіксамі з'яўляюцца жывымі і прадуктыўнымі, прычым яны нярэдка папаўняліся і папаўняюцца нават утварэннямі ад асноў складанаскарочаных назоўнікаў. Такія прыметнікі характэрны галоўным чынам для размоўнага стылю і мовы мастацкай літаратуры: *павяткомаўскае памяшканне* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне); *чонаўскі атрад* (там жа); *жактаўская кватэра* (там жа); *рабфакаўскі прывет* (А. Александровіч. Напор); *ваенторгаўскі тытунь* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе); *эмтээсаўскія машыны* (І. Шамякін. У добры час); *днепрабудаўскі шум* (Я. Купала. Трэба нам песень); *прамкамбінатаўская трохтонка* (Я. Брыль. На Быстранцы); *абкомаўская пастанова* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *кніжка загсаўская* (там жа); *разгромлены эсэсаўскі батальён... прымаў чынны ўдзел у розных гестапаўскіх аперацыях* (там жа); *пралеткультаўскія і рапаўскія тэорыі* («Весці АН БССР»).

Параўн. таксама гэтага ж тыпу прыметнікі *калгасаўскі, саўгасаўскі,* якія ў наш час ужо не ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры: *Дзядзька Павал за платамі параконным плугам арэ калгасаўскія капуснікі* (К. Чорны. Малюнак). *Думкі Кірылкі пачалі плысці роўна аб полі, аб ветры, аб мяшках з мукою, аб саўгасаўскіх плугах, якія трэба будзе заўтра памагаць кавалю правіць* (К. Чорны. Мельнікі).

§ 513. Суфікс **-ейск-***і*. Пры дапамозе суфікса **-ейск-***і* ад іменных асноў на **ij (ыj), еj** утвараецца ўсяго некалькі прыметнікаў: *біблейскі, гвардзейскі, армейскі, архейскі* (геал.). Асобна стаіць прыметнік *еўрапейскі,* утвораны ад асновы назоўніка *Еўроп-а.*

Тып непрадуктыўны.

§ 514. Суфікс **-ійск-***і* **(-ыйск-***і***).** Пры дапамозе суфікса **-ійск-***і* **(-ыйск-***і*) ад іменных асноў на зычныя ўтвораны прыметнікі *алімпійскі, балтыйскі, піфагарыйскі* і некаторыя іншыя.

Заўвага. У 20—30-х гадах XX стагоддзя ў беларускай мове побач з прыметнікам *балтыйскі* ўжываўся таксама прыметнік *балтыцкі,* суадносны з асновай назоўніка *Балтык-а.*

Тып непрадуктыўны.

§ 515. Суфікс **-інск-***і* (**-ынск-***і*). Пры дапамозе суфікса **-інск-***і* **(-ынск-***і*) прыметнікі ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў, якія абазначаюць асоб жаночага полу, і ад асноў некаторых назоўнікаў, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі: *мацярынскі, екацярынінскі; гагрынскі, батчынскі, цельмінскі, сочынскі* і інш.

Заўвага. Асобна стаяць субстантываваныя прыметнікі на **-інск-***і*, якія з'яўляюцца ўласнымі прозвішчамі асоб: *Камінскі, Жабінскі, Гагалінскі, Ясінскі, Ярмалінскі, Пляцінскі, Касінскі, Язвінскі, Ліпінскі, Бабчынскі, Ціхінскі, Ключынскі, Рыпінскі, Кучынскі, Каплінскі, Чаплінскі* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 516. Суфікс **-н-ы**. Пры дапамозе гэтага суфікса прыметнікі з разнастайнымі адноснымі і якаснымі значэннямі ўтвораны раней і ўтвараюцца ў наш час ад наступных часцін мовы:

а) ад назоўнікаў з асновай на зычны, якія абазначаюць прадметы, рэчывы, падзеі, працэсы, адцягненыя паняцці і зрэдку асоб; гэтыя прыметнікі звычайна выражаюць значэнні «мае адносіны да чаго-небудзь», «мае якасць таго або мае тое, што абазначана ўтвараючай асновай»: *бітумны, варыянтны, веласіпедны, вучылішчны, выйгрышны, выплатны, гібрыдны, дагаворны, доследны, даходны, інжынерны, інтэлігентны, іспытны, карцінны, канвеерны, кукурузны, комплексны, мантажны, палётны, прыродны, прыладны, прыёмны, прасторны, прадметны, полымны, раплодны, прычынны, пякарны, сумны, стратны, спрытны, спадчынны, разумны, узорны, халодны, цэнны, электронны* і інш.

Аналагічным чынам адбываецца ўтварэнне прыметнікаў і ад іменных асноў на **j (ij, ыj)**: *аварыя — аварыйны, адчай — адчайны, алей — алейны, аранжарэя — аранжарэйны, галантарэя — галантарэйны, звычай — звычайны, застой — застойны, закрой — закройны, забой — забойны, завея — завейны, латарэя — латарэйны, лішай — лішайны, музей — музейны, малярыя — малярыйны, надзея — надзейны, ураджай — ураджайны, хвоя — хвойны, экскурсія — экскурсійны, эвалюцыя — эвалюцыйны*. Параўн. таксама: *кісейны, лінейны, сямейны, шырокакалейны, ладзейны* (ад *ладjа*), *ружэйны* (ад *ружjо*).

Заўвага 1. Прыметнікі *дысперсны, дыфузны* ўтвораны ад іменных асноў, у якіх выпадае спалучэнне **ij** (*дысперсij-а, дыфузij-а*).

Заўвага 2. Ад назоўнікаў *пенсія, порцыя, правізія, сесія* адпаведныя прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-ённ-ы** (**-онн-ы**): *пенсіённы, парцыённы, правізіённы* (побач з *правізійны*), *сесіённы*.

Заўвага 3. Прыметнік *дывізіённы* па значэнню суадносіцца як з асновай назоўніка *дывізія* (у такім выпадку вылучаецца суфікс **-ённ-ы**), так і з асновай назоўніка *дывізіён* (у такім выпадку вылучаецца суфікс **-н-ы**).

Заўвага 4. Ад нескланяльных назоўнікаў на **-е (-э)** адпаведныя прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-йн-ы**: *кофе — кафейны, купэ — купейны, піке — пікейны, рэле — рэлейны*.

Па ўзору прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-н-** ад асноў простых назоўнікаў, у сучаснай беларускай мове прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца таксама ад некаторых складанаскарочаных назоўнікаў (*калгасны, саўгасны, прафсаюзны* і інш.) і ад значнай колькасці складаных назоўнікаў з дзвюма і больш асновамі (*авіядэсантны, балтарэзны, біквадратны, бахчаводны, бромавадародны, вадавозны, вадазліўны, вадалазны, ветрагонны, вінаробны, водападзельны, водаправодны, вуглекіслотны, газагенератарны, газаправодны, дажджамерны, дзеепрыслоўны, жалезабетонны, кінапракатны, цеплавозны, лесасплаўны, лесаэкспартны, тэрмаэлектронны, турбагенератарны, чарназёмны* і інш.).

Тып адыменных прыметнікаў з суфіксам **-н-ы** вельмі прадуктыўны і лексічна багаты.

б) Ад асноў дзеясловаў; такія прыметнікі выражаюць значэнні «мае ўласцівасць падвяргацца пэўнаму дзеянню», «здольны ўтвараць пэўнае дзеянне», «з'яўляецца вынікам пэўнага дзеяння»: *адкідны, адразны, адсыпны, адцяжны, вывадны, выварны, выграбны, выпарны, выпісны, выразны, высыпны, вытраўны, вышукны, захлапны, зацiскны, зварны, запражны, заліўны, забіўны, завадны, набіўны, нажытны, навясны, надстаўны, накідны, накладны, наплаўны, напускны, наразны, нацяжны, нашыўны, падшпільны, падчапны, падціскны, падразны, прышыўны, рассоўны, рассыльны, скрытны, упраўны, чутны, чаканны* і інш.

Заўвага 1. Прыметнік *мыйны* ўтвораны не ад асновы інфінітыва, а ад асновы цяперашняга часу. Параўн. таксама *землярыйны*.

Заўвага 2. Прыметнікі *ліцейны, піцейны* (устар.), суадносяцца па ўтварэнню з дзеясловамі *ліць, піць* і з назоўнікамі *ліццё, піццё* (ад *ліцjо, піцjо*); у абодвух выпадках вылучаецца ўскладнены суфікс **-ейн-ы**.

Тып аддзеяслоўных прыметнікаў з суфіксам **-н-**_ы_ таксама вельмі прадуктыўны, аднак лексічна менш шырокі, чым папярэдні тып.

Цэлы рад прыметнікаў з суфіксам **-н-**_ы_ ў сучаснай мове суадносіцца як з дзеяслоўнымі асновамі, так і з асновамі назоўнікаў аддзеяслоўнага паходжання: *адходны* (*адходзіць* і *адход*), *дапускны* (*дапускаць* і *допуск*), *згубны* (*згубіць* і *згуба*), *захопны* (*захапіць* і *захоп*), *зарадны* (*зарадзіць* і *зарад*), *залётны* (*залятаць* і *залёт*), *забаронны* (*забараняць* і *забарона*), *завозны* (*завозіць* і *завоз*), *кормны* (*карміць* і *корм*), *накатны* (*накаціць* і *накат*), *наносны* (*наносіць* і *нанос*), *пагардны* (*пагарджаць* і *пагарда*), *прыблудны* (*прыблудзіцца* і *прыблуда*), *прастудны* (*прастудзіцца* і *прастуда*), *пераходны* (*пераходзіць* і *пераход*), *разносны* (*разносіць* і *разноска*) і інш.

в) Ад асноў займеннікаў утворана толькі два прыметнікі *нічыйны* і *нішчымны* (ад формы *ні з чым*). Яны выражаюць значэнне адсутнасці чаго-небудзь у чым-небудзь.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

г) Ад асноў прыслоўяў; такія прыметнікі выражаюць якасць прадмета па розных акалічнасцях (часу, месца і г. д.), абазначаных утваральнымі асновамі: *апастэрыёрны, апрыёрны, дарэчны, дарэмны, зайсёдны, зайчасны, міжвольны, навылётны, навакольны, наймысны, найкосны, наяўны, паўсюдны, павольны, папярочны, сумысны, сапраўдны, ускосны.*

Сюды ж трэба аднесці прыметнікі, утвораныя ад складаных прыслоўяў: *штодзённы, штохвілінны* (параўн. таксама прыметнік *штогодні* з суфіксам **-н-**_і_).

Тып малапрадуктыўны і лексічна небагаты.

§ 517. Пры ўтварэнні прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-н-**_ы_ ва ўтваральнай аснове адбываюцца наступныя традыцыйныя чаргаванні зычных гукаў:

1. Калі ўтваральная аснова (назоўніка ці дзеяслова) заканчваецца заднеязычным **г**, то ў прыметніку замест яго перад суфіксам **-н-**_ы_ рэгулярна паяўляецца шыпячы **ж**: *адліга — адліжны, абцягваць — абцяжны, адцягваць — адцяжны, выцягваць — выцяжны, вяртлюг* (анат., тэхн.) — *вяртлюжны, дапамагаць, дапамога — дапаможны, дарога — дарожны, зацягваць — зацяжны, запрагаць — запражны, каталог — каталожны, кальчуга — кальчужны, кніга — кніжны, натуга—натужны, нацягваць—нацяжны, начлег — начлежны, падлога — падложны, перавага — пераважны, пасаг — пасажны, папруга — папружны, прысяга — прысяжны, плуг — плужны, пірог — пірожны, перамога — пераможны, сычуг* (анат., кул.) — *сычужны, сцягваць — сцяжны, снег — снежны, рычаг — рычажны, развага — разважны, трывога — трывожны, увага — уважны* і інш.

2. Калі ўтваральная аснова назоўніка заканчваецца заднеязычным **к** (ён можа быць самастойным суфіксам або знаходзіцца ў складзе гукавых спалучэнняў **ак, ок, ік, ык, эк**), то ў прыметніку замест **к** перад суфіксам **-н-**_ы_ рэгулярна паяўляецца шыпячы **ч**: *абаранaчны, асколачны, асяродачны, азбучны, аймачны, аміячны, армячны, арыфметычны, антычны, асептычны, атлетычны, ацёчны, балістычны, барачны, батанічны, башмачны* (тэхн.), *белетрыстычны, бібліятэчны, біяфізічны, брусочны, бурачны, бурдзючны, бусачны, галактычны, гальштучны, гатычны, геральдычны, графічны, завулачны, загаловачны, значны, зычны, заточны, замочны, іпатэчны, каньячны, кулачны, кумпячны, керамічны, кішлачны, курдзючны, латочны, лексічны, мяшочны, маячны, малочны, наждачны, падзячны, падбародачны, пазваночны, панічны, паточны, патачны, прывычны, пінжачны, пясочны, рачны, рынaчны, склочны, смачны, станочны, уючны, фабрычны, чалавечны, чувячны, часночны, чарвячны, шашлычны, штучны, шчочны* (анат.), *электрастатычны, язычны, яблычны* і інш.

Перад суфіксам **-к-**_а_ ўтваральнай іменнай асновы можа знаходзіцца другі які-небудзь зычны (цвёрды, мяккі або **ў**). У такіх выпадках утва-

рачая аснова заканчваецца гукавымі спалучэннямі **ач, еч** (з устаўнымі **а, е**):

а) *барка — барачны, глотка — глотачны, гарэлка — гарэлачны, вокладка — вокладачны, ватрушка — ватрушачны, вадзянка — вадзяначны, булка — булачны, запалка — запалачны, кадушка — кадушачны, казка — казачны, кібітка — кібітачны, клёпка — клёпачны, клямка — клямачны, кнопка — кнопачны, лёгкае — лёгачны, лодка — лодачны, лунка — луначны, лыжка — лыжачны, лямка — лямачны, мензурка — мензурачны, марка — марачны, марыянетка — марыянетачны, матка — матачны, махорка — махорачны, навалка — навалачны, нырка — нырачны, падсумак — падсумачны, падзагаловак—падзагаловачны, павозка—павозачны, палка — палачны, пакрышка — пакрышачны.* Такое ж чаргаванне наглядаецца пры ўтваральнай аснове на **-ўк-***а*: *вінтоўка — вінтовачны, вяроўка — вяровачны, конаўка — конавачны, крываўка — крывавачны.*

Чаргаванне **к — ач** адбываецца і ў шматлікіх прыметніках, якія ўтвораны ад іменных асноў дзеяслоўнага паходжання: *абліцоўка — абліцовачны, абмундзіроўка — абмундзіровачны, абрэзка — абрэзачны, адсылка — адсылачны, ацэнка — ацэначны, блакіроўка — блакіровачны, вальцоўка — вальцовачны, драпіроўка — драпіровачны, загартоўка — загартовачны* і інш.

б) *бутэлька — бутэлечны, бэлька — бэлечны, камізэлька — камізэлечны, кілька — кілечны, люлька — люлечны, лялька — лялечны, рэдзька — рэдзечны, шпулька — шпулечны, шпілька — шпілечны; байка — баечны, балалайка — балалаечны, закройка — закроечны, гайка — гаечны, канарэйка — канарэечны, капейка — капеечны, свайка* (гульня) — *сваечны, рэйка — рэечны, тройка — троечны, фуфайка — фуфаечны, яйка — яечны.*

3. Калі ўтваральная аснова назоўніка заканчваецца зычным **ц** (ён можа быць самастойным суфіксам або знаходзіцца ў складзе суфіксаў **-іц-***а*, **-ыц-***а*, **-ец**), то ў адпаведным прыметніку наглядаецца чаргаванне **ц — ч**: *аколіца — аколічны, байніца — байнічны, бальніца — бальнічны, бліскавіца — бліскавічны, брусніцы — бруснічны, ваколіца — ваколічны, вусеніца — вусенічны, вустрыца — вустрычны, вянец — вянечны* (анат.), *гарчыца — гарчычны, гаўбіца — гаўбічны, глаголіца* (лінгв.) — *глаголічны, граніца — гранічны, гусеніца* (тэхн.) — *гусенічны, дыхавіца — дыхавічны, ігліца — іглічны, капліца — каплічны, касцяніца — касцянічны, канец — канечны, крыніца — крынічны, клубніцы — клубнічны, ключыца — ключычны, лесвіцы — лесвічны, мяцеліца — мяцелічны, матрыца — матрычны, навальніца — навальнічны, паліца — палічны, паясніца — паяснічны, патыліца — патылічны, пшаніца — пшанічны, суніцы— сунічны, сталіца — сталічны, сківіца — сківічны, селядзец — селядзечны, розніца — рознічны, відэльцы — відэлечны, сонца — сонечны;* параўн. таксама *сенцы — сенечны* (абл.).

Тое ж наглядаем у прыметніку *амунічны*, утвораным, відаць, не ад асновы *амуніцыј-*, а ад асновы *амуніц-*.

4. Калі ўтваральная іменная або дзеяслоўная аснова заканчваецца заднеязычным **х**, то ў адпаведным прыметніку адбываецца чаргаванне **х — ш:** *жаўтуха — жаўтушны, залатуха — залатушны, замах — замашны, завіруха — завірушны, лопух — лапушны, лямех — лямешны, пазуха — пазушны, паспех — паспешны, прапахваць — прапашны, страх — страшны, спех — спешны, смех — смешны, слухаць — слушны, сінюха* (бат., медыц.) — *сінюшны, сівуха — сівушны, увіхацца — увішны.*

5. Калі ўтваральная іменная або дзеяслоўная аснова заканчваецца зычным **в**, то ў прыметніку ў адпаведнасці з агульным гукавым законам пераходу **в** у **ў** перад суфіксам **-н-***ы* наглядаецца чаргаванне **в — ў:** *абівацць — абіўны, балавацца — balaўны, ворыва — ворыўны, выявіць —*

*выяўны, галава — галоўны, галаўны, дзяржава — дзяржаўны, дуброва — дуброўны, дырэктыва — дырэктыўны, жніво — жніўны, зяленіва — зяленіўны, зліваць — зліўны, замова — замоўны, заліваць — заліўны, забавіць — забаўны, забіваць — забіўны, набіваць — набіўны, надставіць — надстаўны, нажываць — нажыўны, наліваць — наліўны, намываць — намыўны, нашываць — нашыўны, пажыва — пажыўны, падсяваць — падсяўны, пазываць — пазыўны, прыставіць — прыстаўны, прызываць — прызыўны, прыбіваць— прыбіўны, працаваць — працоўны, прамываць — прамыўны, покрыва — покрыўны, умова — умоўны.*

6. Калі ўтваральная аснова заканчваецца цвёрдым зычным **л**, то апошні ў прыметніку чаргуецца з мяккім **л**: *валейбол — валейбольны, карнавал — карнавальны, квартал — квартальны, кізіл — кізільны, мінускул — мінускульны* (лінгв.), *маюскул — маюскульны* (лінгв.), *мадрыгал — мадрыгальны, насціл — насцільны* (спарт., ваен.), *падвал — падвальны, пасылаць — пасыльны, патэнцыял — патэнцыяльны, парабала— парабальны* (матэм.), *перасылаць — перасыльны, пыл — пыльны, сухадол — сухадольны, стол — стольны* (устар.), *смала — смольны, светасіла — светасільны* (фіз.), *саўдзел — саўдзельны, самастрэл — самастрэльны* (гіст.), *удзел — удзельны, школа — школьны, шквал — шквальны, цэлы — цэльны, фінал — фінальны.*

7. Пры ўтварэнні прыметнікаў з дапамогай суфікса **-н**-*ы* ад асноў на мяккі зычны **н** апошні чаргуецца з адпаведным цвёрдым **н**: *гартань — гартанны, імгненне — імгненны, кішэня — кішэнны, конь — конны, латунь — латунны, летуценне — летуценны, насенне — насенны, пакаянне — пакаянны, рамень — раменны, сумленне — сумленны, струмень— струменны, старанне — старанны, вышыня — вышынны, глыбіня — глыбінны, дайжыня — дайжынны, тайшчыня — тайшчынны.*

Аналагічным чынам перад суфіксам **-н**-*ы* мяккія зычныя **з, ц (ц** з **т')** утваральнай асновы чаргуюцца з адпаведнымі цвёрдымі **з, т**: *дробязь — дробязны, зліць — злітны, знаць — знатны, нажыць—нажытны, смерць— смертны* і інш.

§ 518. Суфікс **-льн**-*ы*. Пры дапамозе суфікса **-льн**-*ы* прыметнікі ўтвараюцца ад асноў на **-а(-я), -і(-ы), -е, -ну** неазначальнай формы дзеясловаў.

а) Прыметнікі, якія ўтвараюцца ад асновы на **-а(я)**, выступаюць са значэннямі «прызначаны для выканання пэўнага дзеяння», «здольны выконваць пэўнае дзеянне», «з'яўляецца вынікам пэўнага дзеяння»: *абагачальны, абагравальны, абараняльны, абарачальны, абвадняльны, абмежавальны, абцікальны, абцякальны, аб'яднальны, агараджальны, аглушальны, акісляльны, апавядальны, апавяшчальны, апазнавальны, апераджальны, апісальны, апрасняльны, апраўдальны, апытальны, аращальны, брашуравальны, варсавальны, віншавальны, віальны, габлявальны, гартавальны, глытальны, змацавальны, змяшчальны, капальны, кідальны, мігальны, насычальны, пазнавальны, палягчальны, прамакальны, суправаджальны, стругальны, спачувальны, спальны, рэзальны, раздрабняльны, узмацняльны, часальны, чытальны, штампавальны* і інш.

Некаторыя прыметнікі з суфіксам **-льн**-*ы* выражаюць значэнні «падвержаны або падвяргаецца пэўнаму дзеянню», «мае ўласцівасць падвяргацца дзеянню», «схільны да пэўнага дзеяння», «характарызуецца пэўным дзеяннем»: *паражальны, успрымальны, узгаральны, шклавальны, засваяльны, заспакаяльны, абвалакальны* (медыц.), *даказальны*. Асобна стаяць прыметнікі на **-льн**-*ы*, якія з'яўляюцца граматычнымі тэрмінамі: *давальны, вінавальны, скланяльны, спрагальны, трывальны.*

Некаторыя прыметнікі на **-льн**-*ы* ўтвараюцца толькі ад асноў з прыстаўкай **не-**, таму іх трэба лічыць прэфіксальна-суфіксальнымі ўтварэннямі (*незгасальны, недатыкальны, недакранальны, непранікальны* і інш.), а некаторыя існуюць толькі ў якасці другой часткі складаных слоў (*гле-*

*байтваральны, словаўтваральны, формаўтваральны, газаачышчальны, зернеачышчальны, смеццеачышчальны, кормапрыгатавальны, кроваспыняльны, берагаўмацавальны* і інш.).

У мове мастацкай літаратуры 20—30-х гадоў XX стагоддзя сустракаюцца таксама некаторыя іншыя прыметнікі на **-льн**-*ы*, якія ў далейшым не замацаваліся як літаратурная норма: *вершавальная творчасць* (Я. Колас. На прасторах жыцця); *канчальныя малітвы* (Я. Колас. У палескай глушы); *аканчальныя формы жыцця* (там жа); *парывальнае жыццё* (там жа); *зацягальная аповесць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны); *спадабальнае слова* (там жа).

Заўвага 1. Прыметнік *чытабельны* (размоўн. — «годны для чытання») утвораны пры дапамозе ўскладненага суфікса **-бельн**-*ы* па аналогіі з такімі прыметнікамі, як *транспартабельны, рэнтабельны, рэспектабельны, прэзентабельны*.

Заўвага 2. У прыметніку *чытэльны* вылучаецца ўскладнены суфікс **-эльн**-*ы*.

Разгледжаны падтып прыметнікаў жывы, надзвычай прадуктыўны і лексічна багаты ў сучаснай мове.

б) Прыметнікі якія ўтвараюцца ад асновы на **-і(-ы)** неазначальнай формы дзеяслова, таксама звычайна выражаюць значэнне «прызначаны для выканання пэўнага дзеяння»: *брадзільны, бурыльны* (тэхн.), *бялільны, важыльны, валачыльны, варсільны* (побач з *варсавальны*), *вастрыльны, вудзільны, гладзільны, гранільны, давільны, даільны, драбільны, дубільны* (тэхн.), *дзялільны* (тэхн.), *зубільны, круцільны, курыльны, кіпяцільны, кроільны, лавільны, лічыльны, лудзільны, лушчыльны, мясільны, мачыльны, малацільны, насільны, палільны, паільны, парыльны, прадзільны, плюшчыльны* (тэхн.), *плавільны, радзільны, сушыльны, смалільны, сінільны, свяцільны, салільны, саладзільны, тачыльны, травільны* (спец.), *тамільны* (тэхн.), *халадзільны, цэрабільны, цадзільны, чысцільны*. Параўн. таксама складаныя прыметнікі: *лёдадрабільны, ільноцерабільны, лесасушыльны, медзеплавільны, бавоўнапрадзільны* і інш.

У індывідуальным ужыванні сустракаецца прыметнік *жывільны*: *жывільны сок, жывільная сіла* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Заўвага 1. У прыметніку *прадзільны*, утвораным ад асновы *прад-* (не *прас-ці*), вылучаецца суфікс **-ільн**-*ы*.

Заўвага 2. Прыметнік *тлумачальны* ўтвараецца пры дапамозе суфікса **-альн**-*ы* ад асновы *тлумач-* (не *тлумачы-ць*).

Разгледжаны падтып прыметнікаў таксама прадуктыўны ў сучаснай мове, аднак лексічна менш шырокі за папярэдні (самі дзеясловы на **-іць (-ыць)**, ад якіх можна ўтвараць такія прыметнікі, складаюць меншую групу ў параўнанні з дзеясловамі на **-аць, -яць**).

в) Прыметнікі, утвораныя ад асновы неазначальнай формы дзеяслова на **-е-**, прадстаўлены толькі словам *глядзельны* і індывідуальным наватворам *ірдзельны*: *ірдзельныя абрусы* (П. Глебка. Зіма).

Падтып гэтых прыметнікаў непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

г) Прыметнікі, утвораныя ад асновы неазначальнай формы дзеяслова з суфіксам **-ну-**, таксама прадстаўлены адным словам *цягнульны* (спец.).

Падтып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 519. Суфікс **-цельн**-*ы*. У некаторых выпадках ад неазначальнай формы дзеясловаў на **-іць (-ыць)** адпаведныя прыметнікі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-цельн**-*ы*: *вярыцельны* (дыпл.), *дзяліцельны* (побач з *дзялільны*), *мніцельны, мысліцельны, слабіцельны* (медыц.), *прымірыцельны* (апошні прыметнік можа суадносіцца таксама з асновай назоўніка *прымірыцель*, і тады ў ім вылучаецца толькі суфікс **-н**-*ы*).

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 520. Суфікс **-альн**-*ы* (**-яльн**-*ы*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў запазычаных назоўнікаў на цвёрдыя зычныя і на **(-ij, -ыj)** утва-

раюцца адносныя і якасныя прыметнікі са значэннямі «падобны на што-небудзь», «мае адносіны да чаго-небудзь», «характарызуецца тым, што абазначана ўтвараючай асновай»: *антыцыклканальны* (біял.), *артэрыяльны, афіцыяльны, алювіяльны* (геал.), *базідыяльны* (біял.), *бактэрыяльны, гарызантальны, гарманальны* (біял.), *геніяльны, дакументальны, дыяметральны, дэлювіяльны* (геал.), *занальны, ілювіяльны* (геал.), *індустрыяльны, інструментальны, каланіяльны, камедыяльны, кафедральны, катаральны, кантынентальны, камунальны, лексікальны* (устар.), *машынальны, мемарыяльны, многатанальны, натуральны, партальны, парцыяльны, правінцыяльны, прэміяльны, прэфіксальны* (лінгв.), *пірамідальны, прапарцыянальны, патрыярхальны, парадаксальны, рацыянальны, спектральны, структуральны* (лінгв.), *суфіксальны* (лінгв.), *трапецаідальны, тэатральны, трыумфальны, тэрытарыяльны, фацыяльны, фармальны, хранікальны, франтальны, фундаментальны, цэнтральны, эмбрыянальны, эксперыментальны, эпігастральны, эпахальны* і інш.

З а ў в а г а. Прыметнікі *натарыяльны, радыяльны* ўтвораны ад асноў назоўнікаў, у якіх выпадае суфікс **-ус-**.

Вытворным ад суфікса **-альн-***ы* з'яўляецца суфікс **-уальн-***ы*, які вылучаецца ў прыметніках *індывідуальны, інтэлектуальны, кантэкстуальны, працэсуальны, пунктуальны.*

Разнавіднасцю суфікса **-яльн-***ы* з'яўляецца вытворны суфікс **-янальн-***ы*, які вылучаецца ў прыметніках *аказіянальны, канстытуцыянальны, нацыянальны, прафесіянальны, эмацыянальны.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў пры дапамозе суфіксаў **-альн-***ы* **(-яльн-***ы***)**, **янальн-***ы*, **-уальн-***ы*, складаюць малапрадуктыўны тып, хоць ён і налічвае значную колькасць слоў.

§ 521. С у ф і к с **-ан-***ы* (**-ян-***ы*, **-ен-***ы*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў (звычайна такіх, якія абазначаюць матэрыял, рэчыва), а таксама зрэдку ад асноў прыметнікаў і дзеясловаў утвораны і ўтвараюцца адносныя і якасныя прыметнікі са значэннямі «зроблены, складаецца або прыгатаваны з чаго-небудзь», «мае адносіны да таго або ўласцівасці, якасці таго, што абазначана ўтвараючай асновай назоўніка»: *алавяны, аржаны, аўсяны, берасцяны, бляшаны, бульбяны, картапляны* (размоўн.), *вадзяны, гліняны, дашчаны, драцяны, жардзяны, земляны, ільняны, касцяны, крывяны, канапляны, ледзяны, масляны, паветраны, палатняны, саляны, саламяны, слюдзяны, скураны, сярэбраны (срэбраны), тарфяны, травяны, унутраны (нутраны), цагляны, чарацяны, шарсцяны, шкляны, ветраны, дрыгвяны, люстраны, крамяны, каляны, смаляны, палымяны, пясчаны, супясчаны, румяны, цямраны, цьмяны, ядраны.*

Прыметнікі *драўляны* (варыянты *дзеравяны, дзераўляны*), *драўняны, дрывяны* адрозніваюцца паміж сабою характарам утвараючай асновы і адпаведна па значэнню: *драў-лян-ы* (< *дрэва*), *драўн-ян-ы* (< *драўніна*), *дрыв-ян-ы* (< *дровы*).

Побач з прыметнікам *лісцяны* ў мове мастацкай літаратуры часам ужываецца яго варыянт *лісцвяны*, утвораны, відаць, ад асновы зборнага назоўніка *лісцв-а.*

Прыметнік *полбены* (<*полба*) утвараецца пры дапамозе суфікса **-ен-***ы*.

Акрамя разгледжаных прыметнікаў, у мове мастацкай літаратуры (асабліва першай палавіны XX стагоддзя) сустракаецца рад прыметнікаў на **-ан-***ы* (**-ян-***ы*), якія не замацаваліся ў якасці агульнай нормы: *б а л а ц я н ы лепет* (А. К у л я ш о ў. Крыўда); *думы в я с н я н ы я* (Я. К у п а л а. На заходнебеларускія матывы); *в я с н я н а я пара* (М. Т а н к. Нарач); *ж а л я з я н ы тын* (Я. К у п а л а. Яна і я); *к в я ц я н а я каронка* (Ц. Г а р т н ы. Мая хата); *м я д з я н ы я пятакі* (З. Б я д у л я. Са-

лавей); *мядзяныя горы* (Я. Колас. На ростанях); *сняжаныя шумы* (Я. Купала. У пiлiпаўку); *разьбяны ганак* (У. Хадыка. Песнi з поўдня); *квятчаныя красы* (Я. Купала. Яна i я); *iрдзяныя лiсточкi* (М. Багдановiч. Японская); *святляная мара* (Я. Купала. Вясна); *маразяная зiма* (Я. Купала. За сахой, бараной); *барацьбяная смага* (Я. Купала. Пераклад «Слова аб палку Iгаравым»); *песня жаласняная* (Я. Купала. Люлi, люлi, мужычок); *вядзьмяны крык шамана* (А. Александровiч. Будзе, спраўдзiцца ўсё гэта); *галава капусцяная* (Я. Колас. На ростанях); *барвяныя языкi полымя* (М. Лынькоў. Векапомныя днi).

Асобна стаяць прыметнiкi *экстраны, эскадраны.*

У прыметнiках *духмяны, слухмяны, паслухмяны, цiхманы* вылучаюцца суфiксы **-мян-**ы, **-ман-**ы, якiя ўтварылiся шляхам спалучэння суфiкса **-ан-**ы (**-ян-**ы) з гукам **м.** Параўн. наяўнасць гэтага гука ў канцы ўтвараючых асноў такiх прыметнiкаў, як *крам-яны, палым-яны, рум-яны, цьм-яны.*

Прыметнiк *рахманы,* якi, вiдаць, запазычаны з цюркскiх моў, неабходна разглядаць як слова са звязанай асновай, у якiм суфiкс не вылучаецца ў якасцi самастойнай марфемы.

Тып прыметнiкаў з суфiксам **-ан-**ы (**-ян-**ы) жывы, але малапрадуктыўны.

§ 522. Суфiкс **-арн-**ы (**-ярн-**ы). Пры дапамозе суфiкса **-арн-**ы (**-ярн-**ы, **-тарн-**ы) ад асноў назоўнiкаў iншамоўнага паходжання ўтвараюцца пераважна адносныя прыметнiкi са значэннямi «мае адносiны да чаго-небудзь», «паходзiць ад чаго-небудзь», «характарызуецца чым-небудзь» i г. д.: *альвеалярны, аўтарытарны, аўрыкулярны* (медыц.), *вестыбулярны, глабулярны, гiпафiзарны, гуманiтарны, дысцыплiнарны, карпускулярны* (фiз.), *камплементарны* (спец.), *канiкулярны, лапiдарны, легендарны, лейкацытарны, малекулярны, парцэлярны* (экан.), *парламентарны, паразiтарны, плебiсцытарны* (побач з *плебiсцытны*), *плацэнтарны* (анат.), *пленарны, рэгулярны, сумарны, сакрэтарны, салiдарны, рудыментарны* (анат.), *тэстыкулярны, тытулярны* (гiст.), *таталiтарны, унiтарны, утылiтарны, фалiкулярны* (анат., медыц.), *фабулярны* (лiт.), *фрагментарны, цыркулярны, шыкарны, эрытрацытарны* (бiял.), *элементарны, эпiстальярны.*

Асобна трэба вылучыць прыметнiк *адзiнарны,* утвораны ад лiчэбнiка *адзiн.*

Тып прыметнiкаў на **-арн-**ы малапрадуктыўны i лексiчна абмежаваны галоўным чынам спецыяльнай тэрмiналогiяй.

§ 523. Суфiкс **-ачн-**ы (**-ечн-**ы). Ад некаторых назоўнiкаў (галоўным чынам дзеяслоўнага паходжання) прыметнiкi ўтвараюцца пры дапамозе суфiкса **-ачн-**ы: *здатачны, перадатачны, раздатачны, распiвачны.*

Прыметнiк *стрыечны* суадносiцца як з назоўнiкам *стрый* (тады у iм неабходна вылучаць суфiкс **-ечн-**ы), так i з назоўнiкам *стрыек* (тады ў iм неабходна вылучаць суфiкс **-н-**ы).

Прыметнiкi *аперэтачны, аборачны* суадносяцца з назоўнiкамi *аперэта, абора* (суфiкс **-ачн-**ы) i з iх памяншальнымi формамi *аперэтка, аборка* (суфiкс **-н-**ы i чаргаванне **к — ач**).

Тып малапрадуктыўны i лексiчна абмежаваны.

§ 524. Суфiкс **-эбн-**ы. Пры дапамозе гэтага суфiкса ад асноў назоўнiкаў i дзеясловаў утвараюцца адзiнкавыя прыметнiкi: *лячэбны, урачэбны.*

Прыметнiкi *лiчэбны, хвалебны* маюць двайную суадноснасць: з асновамi дзеясловаў *лiчыць, хвалiць* (суфiкс **-ебн-**ы) i з асновамi назоўнiкаў *лiчба, хвальба* (суфiкс **-н-**ы).

Тып непрадуктыўны i лексiчна абмежаваны.

§ 525. Суфiкс **-енн-**ы. Пры дапамозе суфiкса **-енн-**ы ад асноў назоўнiкаў утвараюцца адносныя i часткова якасныя прыметнiкi: *абе-*

*дзенны, вогненны, клятвенны, казарменны, кроквенны, малітвенны* (побач з *малітоўны*), *падэшвенны, похвенны, рэформенны, фірменны, форменны, фурменны, царственны.*

Прыметнік *задуменны* мае двайную суадноснасць: з дзеясловам *задумацца* (суфікс **-енн-***ы*) і з назоўнікам *задуменне* (без суфікса).

Аб прыметніках *здаравенны, страшэнны,* у якіх суфікс **-енн-***ы* (**-энн-***ы*) мае іншае значэнне, чым у разгледжаных прыкладах, гл. § 470.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 526. С у ф і к с **-есн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-есн-***ы* ад асноў назоўнікаў утвораны прыметнікі *славесны* (побач з *слоўны*), *цялесны.*

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 527. С у ф і к с **-ічн-***ы* (**-ычн-***ы*) і яго вытворныя. Пры дапамозе суфікса **-ічн-***ы* (**-ычн-***ы*) утвараюцца адносныя і часткова якасныя прыметнікі ад наступных відаў асноў запазычаных назоўнікаў:

а) ад асноў назоўнікаў на цвёрдыя зычныя **б, д, л, м, н, п, р, т:** *рамбічны, перыядычны, крышталічны, металічны, сімвалічны, вулканічны, сцэнічны, тытанічны, цыкланічны, мікраскапічны, аўтаматычны, акрабатычны, артыстычны, сатырычны, цыліндрычны, дыэтычны, герметычны, ідэнтычны, фактычны.*

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры ёсць адзінкавыя выпадкі індывідуальнага ўтварэння прыметнікаў пры дапамозе суфіксаў **-ічн-***ы* (**-ычн-***ы*) ад асноў незапазычаных назоўнікаў і дзеясловаў, аднак такія прыметнікі не замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы.

*Што з сякерай тут ламочаш — па скарб лезеш захаваны. Псуці хочаш нам машыны нашай фабрыкі ц я м р ы ч н а й...* (Я. К у п а л а. Сон на кургане). *І ў летнім водары п'я н і ч н ы м усё былое паўстае* (М. Т а н к. Ляжаць пакошаныя травы).

У асобных выпадках, калі прыметнікі ўтвараюцца ад назоўнікаў жаночага роду на **-а**, адбываецца перараскладанне асновы, у выніку чаго паяўляюцца вытворныя суфіксы **-аічн-***ы*, **-атычн-***ы*: *алгебраічны, празаічны, драматычны, прызматычны, сістэматычны, парадыгматычны* (лінгв.).

б) Ад асноў назоўнікаў на **j (-ій, -ый)**; пры гэтым **j** утваральнай асновы выпадае, а **і** ўваходзіць у склад суфікса: *агранамічны, аналагічны, біялагічны, бактэрыялагічны, гарманічны, геаграфічны, геалагічны, гідралагічны, гістарычны, дэмакратычны, дыпламатычны, драматургічны, ідэалагічны, іранічны, істэрычны, лексікалагічны, лексікаграфічны, летаргічны, манархічны, меланхалічны, меладычны, метэаралагічны, мінералагічны, нейрапаталагічны, псіхалагічны, паталагічны, стэрэаскапічны, стратэгічны, сімпатычны, сіметрычны, тэарэтычны, тэхналагічны, тапаграфічны, тэрміналагічны, фізіялагічны, фатаграфічны, хірургічны, хімічны, энергічны, эмпірычны, элегічны, эпідэміялагічны.*

в) Асобную групу складаюць прыметнікі, утвораныя ад асноў на **-эз, -із, -іс, -ос;** у гэтых выпадках звычайна адбываецца працэс перараскладання асноў, у выніку чаго паяўляюцца вытворныя суфіксы **-этычн-***ы*, **-ітычн-***ы*, **-атычн-***ы*: *паэтычны, сінтэтычны, аналітычны, каталітычны, хаатычны, эліптычны, электрафарэтычны (электрафарэз).*

Пры ўтварэнні прыметнікаў *касмічны, канічны* ва ўтваральнай іменнай аснове адбылося выпадзенне суфіксаў *(космас, конус).*

г) Ад асноў назоўнікаў на **-ізм, -іст;** і ў гэтых выпадках (за выключэннем некаторых прыметнікаў тыпу *платанічны*) звычайна адбываецца працэс перараскладання асновы, у выніку чаго паяўляецца вытворны суфікс **-істычн-***ы*: *камуністычны, сацыялістычны, матэрыялістычны, рэалістычны, імперыялістычны, натуралістычны, фармалістычны, песімістычны, сімвалістычны, імпрэсіяністычны.* Параўн. таксама гэты ж суфікс у прыметніку *мікрафауністычны,* утвораным ад асновы на **-а** *(мікрафауна).*

У радзе выпадкаў прыметнікі на **-ічн-***ы* (**-ычн-***ы*) могуць суадносіцца з рознымі відамі іменных асноў: *камічны (комік* і *камізм), трагічны*

*(трагік* і *трагізм), рамантычны (рамантык, рамантыка* і *рамантызм), арганічны (арганіка* і *арганізм), механічны (механіка* і *механізм), гераічны (герой, героіка* і *гераізм), рахітычны (рахітык* і *рахітызм), флегматычны (флегма, флегматык* і *флегматызм)* і інш.

Тып малапрадуктыўны і абмежаваны асновамі запазычаных назоўнікаў.

д) Непрадуктыўны і лексічна абмежаваны тып складаюць запазычаныя з рускай мовы прыметнікі на **-ічн-***ы* (**-ычн-***ы*), якія ўтвораны ад асноў парадкавых лічэбнікаў: *пярвічны, трацічны, чацвярцічны;* сюды ж адносіцца і прыметнік *утарычны*.

§ 528. Суфікс **-іўн-***ы* (**-ыўн-***ы*, **-тыўн-***ы*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў запазычаных назоўнікаў утвараюцца пераважна адносныя прыметнікі:

а) ад асноў назоўнікаў на зычныя **с**, **т**: *атрыбутыўны, афектыўны, абартыўны, дэфектыўны, імпульсіўны, інстынктыўны, канспектыўны, праектыўны* (матэм.), *прагрэсіўны, суб'ектыўны, спартыўны, сепаратыўны, рэфлектыўны, рэзультатыўны, ультыматыўны, факультатыўны, эфектыўны, экстрактыўны;*

б) ад асноў назоўнікаў на **-іј** (**-ыј**, **-цыј**): *агрэсіўны, абструктыўны, асімілятыўны, дэдуктыўны* (філас.), *дэпрэсіўны, дэструктыўны, інтраспектыўны* (псіхал.), *інтуітыўны, канфедэратыўны, кааператыўны, карпаратыўны, кансерватыўны, канспіратыўны, канвульсіўны, камулятыўны* (медыц.), *кампілятыўны, меліяратыўны, рэактыўны, рэверсіўны* (тэхн.), *рэгенератыўны* (тэхн.), *рэгрэсіўны, рэгулятыўны, рэзалютыўны, рэлятыўны, рэпрэсіўны, рэтраспектыўны, рэцэсіўны* (біял.), *субстантыўны, суспензіўны* (хім.), *экспансіўны, экспрэсіўны, эксудатыўны* (медыц.), *эфузіўны* (геал.), *федэратыўны, фіктыўны, фрыкатыўны* (лінгв.), *флектыўны* (лінгв.).

Па ўтваральнай аснове цэлы рад прыметнікаў на **-іўн-***ы* (**-ыўн-***ы*, **-тыўн-***ы*) суадносіцца з прыметнікамі, якія маюць суфікс **-н-***ы*, аднак першыя адрозніваюцца ад другіх сваімі значэннямі або адценнямі значэнняў, параўн.: *аператыўны — аперацыйны, вегетатыўны — вегетацыйны, дэманстратыўны — дэманстрацыйны, дэкаратыўны — дэкарацыйны, дэкларатыўны — дэкларацыйны, індуктыўны* (лаг., фіз.) — *індукцыйны* (фіз., электр.), *інструктыўны — інструкцыйны, камунікатыўны — камунікацыйны, камутатыўны — камутацыйны, кансультатыўны — кансультацыйны, канструктыўны — канструкцыйны, канстытутыўны — канстытуцыйны, карэлятыўны — карэляцыйны, прадуктыўны — прадукцыйны, рэпрадуктыўны* (псіхал.) — *рэпрадукцыйны* і інш.

Тып малапрадуктыўны і абмежаваны асновамі запазычаных назоўнікаў.

§ 529. Суфікс **-озн-***ы* і яго вытворныя. Пры дапамозе суфікса **-озн-***ы* (**-ёзн-***ы*, **-езн-***ы*) і яго вытворных **-тозн-***ы*, **-атозн-***ы* ад асноў запазычаных назоўнікаў утвараюцца пераважна адносныя прыметнікі, прычым большая колькасць іх належыць медыцынскай тэрміналогіі: *вянозны, гангрэнозны, гранулёзны, грыпозны, карбункулёзны, кавернозны, крупозны, медыкаментозны, парэнхіматозны, паратыфозны, пустулёзны, тыфозны, фібрынозны, фіброзны, цікозны, шкарлятынозны, эмфізематозны, экзематозны.*

З ліку якасных трэба адзначыць прыметнікі *грацыёзны, нервозны, пампезны.*

У прыметніку *прэтэнцыёзны* вылучаецца суфікс **-ыёзн-***ы*.

Аб значэнні суфікса ў прыметніках *глыбозны, высозны* гл. у § 473.

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 530. Суфікс **-орн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-орн-***ы* ад асноў запазычаных назоўнікаў на **-іј** (**-ыј**) і на зычныя ўтвараецца некалькі адносных і якасных прыметнікаў: *галюцынаторны* (медыц.), *ілюзорны,*

*камбінаторны* (лінгв.), *курсорны* (пед.), *рэфлекторны* (фізіял.), *экспіраторны* (лінгв.).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 531. Суфікс **-отн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-отн-***ы* ад іменнай асновы ўтворан прыметнік *цынготны*. Параўн. таксама ў індывідуальным ужыванні прыметнік *бліскотны*: *чорны блiскотны чуб* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 532. Суфікс **-оўн-***ы* (**-аўн-***ы*). Пры дапамозе суфікса **-оўн-***ы* (**-аўн-***ы*) ад асноў назоўнікаў утвараюцца прыметнікі пераважна з якасным значэннем: *вярхоўны, грунтоўны, густоўны, духоўны, дыхтоўны* (абл.), *змястоўны, каштоўны, малітоўны* (побач з *малітвенны*, гл. § 525), *саноўны, сакаўны, раптоўны, тактоўны* (побач з *тактычны*), *цудоўны, чыноўны, шыкоўны* (побач з *шыкарны*).

Некаторыя прыметнікі можна суадносіць з асновамі назоўнікаў (тады ў іх вылучаецца суфікс **-оўн-***ы*) і дзеясловаў на **-ава-***ць* (тады ў іх вылучаецца суфікс **-н-***ы*): *гартоўны, гвалтоўны, рызыкоўны, чароўны*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 533. Суфікс **-ўн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-ўн-***ы* ад асновы дзеяслова ўтворан толькі адзін прыметнік — *шыўны* (спец.).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 534. Суфікс **-очн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-очн-***ы* ад асноў лічэбнікаў і назоўнікаў утвораны прыметнікі *адзіночны, святочны*.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 535. Суфікс **-эўн-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-эўн-***ы* ад іменных асноў утвораны прыметнікі *душэўны, плачэўны*.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 536. Суфікс **-н-***і*. Пры дапамозе суфікса **-н-***і* ад асноў некаторых назоўнікаў і прыслоўяў утвараюцца адносныя і якасныя прыметнікі ў межах лексічна невялікай групы: *асенні, астатні, бліжні, братні, верхні, вясенні, вячэрні, дальні, жытні, задні, замужні, заходні, зімні, крайні, летні, лішні, папярэдні, пярэдні, парожні, позні, ранні, сподні, староннi, суботні, суседні, сярэдні, усходні, хатні, штогодні*. Сюды ж адносяцца *іншагародні, міжгародні*.

Параўн. таксама ў мове Я. Купалы прыметнік *дастатні*: *Хлапец я здатны і дастатні* («І што я ёй зрабіў такое?»).

Тып жывы, але непрадуктыўны ў сучаснай мове.

§ 537. Суфікс **-шн-***і* і яго вытворныя. У некаторых прыметніках вылучаецца суфікс **-шн-***і*, які спачатку паявіўся, відаць, там, дзе ўтваральная аснова прыслоўя заканчвалася зычным **с'** (*летась—леташні, колісь — колішні*), а затым поўнасцю марфалагізаваўся і стаў утвараць прыметнікі таксама ад асноў, якія не маюць на канцы зычнага **с'**. Звычайна ў такіх выпадках наглядаецца далейшае перараскладанне (а часам і апрошчанне) асновы, і гэты суфікс часцей выступае ў складаным выглядзе (**-ашн-***і*, **-яшн-***і*, **-ешн-***і*, **-ішн-***і*, **-ышн-***і*): *апошні, дамашні, заўчорашні, учарашні (учорашні), пазаўчорашні, заўтрашні, сягоняшні (сёняшні), цяперашні, знешні*; размоўныя *даўнішні, заўсёдашні, бывалашні, тамашні, нікудышні, тадышні (тагдышні)*; параўн. таксама *надоешні*.

Заўвага. Побач з прыметнікам *ранішні*, які суадносіцца з назоўнікам *рань*, у мове мастацкай літаратуры часам ужываецца прыметнік *ранічны*, які суадносіцца з назоўнікам *раніца*: *ранічны спакой, ранічнае паветра* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

§ 538. Суфікс **-ч-***ы* (**-ўч-***ы*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад іменных і дзеяслоўных асноў утвараюцца прыметнікі, якія ў большасці сваёй выражаюць значэнні «характарызуецца тым або мае адносіны да таго ці прызначаны для таго, мае адносіны да таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *абарончы, абвінавaўчы, абнаўленчы, аднаўленчы*,

*адбудоўчы, аздараўленчы, выбарчы, вызваленчы, выканаўчы, вымаўленчы, вытворчы, шкловытворчы, выхаваўчы, выяўленчы, гаспадарчы, гончы, дарадчы, даследчы, зодчы, запаленчы* (медыц.), *збаўленчы, забойчы, надбудоўчы, нарыхтоўчы, параўнаўчы* (пры больш пашыраным *параўнальны*), *паражэнчы, папраўчы, праходчы* (горн.), *пісчы, пераканаўчы, следчы, распарадчы, станоўчы, творчы, устаноўчы, узнаўленчы* і інш.; сюды ж адносяцца гістарызмы *крайчы, лоўчы, падлоўчы*, якія з'яўляюцца субстантываванымі прыметнікамі.

Параўн. таксама некаторыя прыметнікі на **-ч-ы** ў індывідуальным ужыванні: *жыўчая вада* (Я. Купала. Жальцеся, грайкія струны...); *ажыўчая раса* (Я. Купала. Песня сонцу); *людчы свет* (Я. Купала. Да песень); *дазорчае вока* (Я. Колас. Новая зямля).

Сярод прыметнікаў на **-ч-ы** асобна стаяць словы *ашуканчы, перасяленчы, прымірэнчы*, якія суадносяцца як з асновамі назоўнікаў *ашуканства, перасяленне, прымірэнне*, так і з асновамі назоўнікаў *ашуканец, перасяленец, прымірэнец* (у апошнім выпадку наглядаецца звычайнае чаргаванне зычных **ц — ч**).

Цэлы рад прыметнікаў з суфіксам **-ч-ы (-ўч-ы)** утвораны ад складаных назоўнікаў, другой часткай якіх з'яўляюцца словы і марфемы *-роб, -робства, -гадоўля, -знаўства, -вод, -водства* і інш.: *авечкагадоўчы, аленегадоўчы, баваўнаводчы, бібліятэказнаўчы, братазабойчы, буракаводчы, вершазнаўчы, глебазнаўчы, грамадазнаўчы, звերагадоўчы, земляробчы, звераводчы, канапляводчы, кукурузаводчы, курагадоўчы, кветаводчы, кіназнаўчы, краязнаўчы, козагадоўчы, конегадоўчы, лесаводчы, літаратуразнаўчы, мастацтвазнаўчы, народазнаўчы, насенняводчы, паляўніцтвазнаўчы, паляводчы, прыродазнаўчы, пладаводчы, пчалаводчы, собалегадоўчы, сабаляводчы, садаводчы, рахункаводчы, раслінаводчы, тэатразнаўчы, тутаводчы, табакаводчы, хмеляводчы, цэгларобчы* і інш.

Прыметнікі з суфіксам **-ч-ы (-ўч-ы)** складаюць прадуктыўны тып.

§ 539. Суфікс **-нiч-ы**. Пры дапамозе суфікса **-нiч-ы** ад асноў дзеясловаў на **-а-ць** утвораны нямногія прыметнікі: *ваяўнічы, маляўнічы, паляўнічы*; параўн. таксама прыметнік *паплаўнічы*, які суадносіцца з асновай назоўніка *поплаў*.

Асобна стаяць прыметнікі *будаўнічы, бунтаўнічы, вартаўнічы, кіраўнічы, прад'яўнічы, прадстаўнічы, ратаўнічы, чараўнічы*, якія суадносяцца як з асновамі адпаведных дзеясловаў *будаваць, бунтаваць, вартаваць, кіраваць, прад'яўляць, прадстаўляць, ратаваць, чараваць* (у гэтым выпадку вылучаецца суфікс **-нiч-ы**), так і з асновамі назоўнікаў *будаўнік, бунтаўнік, вартаўнік, кіраўнік, прад'яўнік, прадстаўнік, ратаўнік, чараўнік* (у апошнім выпадку наглядаецца звычайнае чаргаванне зычных асновы **к — ч**).

Тып малапрадуктыўны.

§ 540. Суфікс **-яч-ы**. Пры дапамозе суфікса **-яч-ы** ад асновы назоўнікаў на **-а (-я)**, якія абазначаюць жывёл і птушак, утвараюцца прыметнікі са значэннямі «мае адносіны да таго, паходзіць ад таго, уласцівы таму, характэрны для таго, падобен на тое, што абазначана ўтваральнай асновай»: *быдлячы, бычачы, варанячы, жарабячы, кабылячы* (побач з менш пашыраным *кабыліны*), *каравячы, парасячы, птушачы, свінячы, цялячы, шчанячы, шчыглячы, ягнячы*. Параўн. таксама ў мове мастацкай літаратуры дыялектны прыметнік *каровечы* з суфіксам **-еч-ы**: *шустрыя авечкі цёрліся пад каровечымі нагамі* (К. Чорны. Вясна).

Прыметнік *дзіцячы* ўтвораны ад назоўніка, які ўваходзіць у семантычную групу назваў асоб.

Як відаць, прыметнікі з суфіксам **-яч-**_ы_ па сваайму значэнню блізка стаяць да прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-ін-**_ы_ (гл. § 505).

Тып жывы, але непрадуктыўны і лексічна абмежаваны адзначанай катэгорыяй іменных асноў.

### ***Словаўтварэнне прыметнікаў пры дапамозе суфіксаў дзеепрыметнікавага паходжання***

§ 541. Побач з прыметнікамі, утворанымі пры дапамозе іменных па паходжанню суфіксаў, у беларускай літаратурнай мове ёсць некалькі груп прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфіксаў, якія паходзяць ад суфіксаў дзеепрыметнікаў: **-ач-**_ы_ (**-яч-**_ы_), **-ашч-**_ы_ (**-яшч-**_ы_), **-уч-**_ы_ (**-юч-**_ы_), **-ушч-**_ы_ (**-юшч-**_ы_), **-м-**_ы_, **-ом-**_ы_, **-ем-**_ы_, **-ім-**_ы_, **-т-**_ы_, **-н-**_ы_, **-ан-**_ы_, **-он-**_ы_ (**-ён-**_ы_), **-ен-**_ы_. Адны з такіх прыметнікаў (асабліва даўняга ўтварэння) ужо зусім адарваліся ад класа дзеепрыметнікаў і не суадносяцца з імі, а другія (іх пераважная большасць) паявіліся ў выніку развіцця ў дзеепрыметніках якасна-адносных значэнняў і, такім чынам, захоўваюць суадноснасць з адпаведнымі дзеепрыметнікамі.

§ 542. С у ф і к с ы **-ач-**_ы_ (**-яч-**_ы_), **-уч-**_ы_ (**-юч-**_ы_). Пры дапамозе гэтых суфіксаў утвораны і ўтвараюцца пераважна якасныя прыметнікі, якія маюць значэнне «схільны да таго або надзелены ўласцівасцю, прыметамі таго, што абазначана ўтвараючай асновай».

Утварэнне гэтых прыметнікаў адбываецца шляхам далучэння паказаных суфіксаў да асноў непераходных і пераходных дзеясловаў:

а) да асновы неазначальнай формы на **-а-**_ць_ (**-я-**_ць_); пры гэтым канцавы галосны асновы звычайна выпадае: *бразгучы, вяжучы, дрымучы, жыгучы, зыбучы, лінючы, плачучы, пішучы, сасучы, рэжучы, рашучы, траскучы, дрыжачы, ляжачы, бліскучы,* параўн. таксама прыставачна-суфіксальны прыметнік *неўміручы.*

б) Да асновы неазначальнай формы на **-е-**_ць_ (**-э-**_ць_): *гарачы, гаручы* (у значэнні іншым, чым *гарачы), вісячы, звінячы* (параўн. таксама *звінючы* ў значэнні «звонкі»), *кіпячы* (параўн. таксама *кіпучы), сядзячы, балючы, грымучы, ліпучы, лятучы, смярдзючы, скрыпучы, рыпучы, шыпучы, шыпячы* і інш.

в) Да асновы неазначальнай формы на **-і-**_ць_ (**-ы-**_ць_): *вяселячы* (газ), *мыслячы, падыходзячы, хадзячы, гаючы.*

Параўн. у індывідуальным ужыванні: *Магілы зараслы суглінак п а л ю ч ы я ветры стапталі* (А. А л е к с а н д р о в і ч. На магіле М. Багдановіча).

г) Да асновы неазначальнай формы на **-о-**_ць_: *калючы, колючы.*

д) Да асновы неазначальнай формы на **-у-**_ць_: *мінучы, цягнучы;* параўн. таксама прэфіксальна-суфіксальны прыметнік *нягаснучы.*

У прыметніках *пахучы, цягучы* адбылося выпадзенне зычнага **н** з утваральнай асновы.

е) Да асновы неазначальнай формы на зычныя: *бягучы, вядучы, нясучы, падучы* (размоўн.), *паўзучы, пякучы, сякучы, стрыгучы* (медыц.), *трасучы, цякучы.*

Асобна ў гэтай групе стаяць прыметнікі *будучы, жывучы, плывучы, пявучы,* у якіх утваральная аснова на зычныя не з'яўляецца асновай неазначальнай формы дзеясловаў.

ж) Да асновы дзеясловаў цяперашняга часу на **-aj (-яj), -ej (-эj), -yj:** *адстаючы, аглюцынíруючы* (лінгв.), *анестэзуючы* (медыц.), *апалесцыруючы, арганізуючы, абязбольваючы, абеззаражваючы, ап'яняючы, акаючы* (лінгв.), *екаючы* (лінгв.), *íкаючы* (лінгв.), *окаючы* (лінгв.), *дзекаючы* (лінгв.), *цекаючы* (лінгв.), *цокаючы* (лінгв.), *блукаючы, брыючы* (авіяц.), *выпраменьваючы, вытвараючы* (экан.), *галадаючы, дамініруючы-*

*чы, дзеючы, дрэйфуючы, дубліруючы, думаючы, дэсаніруючы* (муз.), *змякчаючы, здабываючы, здавальняючы, здзіўляючы, існуючы, квітнеючы* (параўн. *квітучы* — з іншай асновай), *кіруючы, ныючы, падрастаючы, падаючы, паміраючы, пануючы, пачынаючы, паспяваючы, пратэстуючы, плануючы, плаваючы, пікіруючы, першынствуючы (пяршынствуючы), прагрэсіруючы, пульсуючы, стаячы, спадаючы, рэзаніруючы, рашаючы, танцуючы, усыпляючы, узрастаючы, убываючы, хвалюючы* і інш. Параўн. таксама прэфіксальна-суфіксальныя прыметнікі *невылягаючы, невысыхаючы, незамярзаючы, нержавеючы.*

Тып прадуктыўны ў сучаснай мове, асабліва ў галіне навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 543. Суфіксы **-ашч-***ы* (**-яшч-***ы*), **-ушч-***ы* (**-юшч-***ы*). Пры дапамозе гэтых суфіксаў (у асобных выпадках разам з прыстаўкамі) ад асноў дзеясловаў утворана ўсяго некалькі прыметнікаў, якія не маюць суадносных дзеепрыметнікаў: *валачашчы, валяшчы, гуляшчы, заваляшчы, прапашчы, відушчы, завідушчы, невідушчы* (побач з *невідучы*), *заграбушчы, непітушчы, немагушчы.* Параўн. адыменныя прыметнікі *непуцяшчы, лядашчы,* а таксама запазычаныя з рускай мовы прыметнікі *настаяшчы, вышастаяшчы,* якія ў стылістычных мэтах часам ужываюцца ў мове мастацкай літаратуры.

Усе гэтыя прыметнікі (за выключэннем прыметніка *вышастаяшчы*) належаць да размоўнага стылю.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 544. Суфікс **-ўш-***ы*. Прыметнікі з гэтым суфіксам паходзяць ад дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу, утвораных ад асноў дзеясловаў закончанага трывання. У сувязі з тым што дзеепрыметнікі на **-ўш-***ы*, як правіла, не могуць страчваць значэння часу і трывання, група адпаведных прыметнікаў вельмі абмежавана ў лексічных адносінах. Сюды можна аднесці толькі прыметнікі *выбыўшы, прыбыўшы, наспеўшы* і некаторыя іншыя. Параўн. таксама ў індывідуальным ужыванні прыметнік *збыдлеўшы: Там збыдлеўшыя брацці родныя забіваюцца* (Я. Купала. З песень нядолі).

Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць звычайна значэнне «характарызуецца пэўным дзеяннем ці станам» і захоўваюць прамую, непасрэдную суадносасць з адпаведнымі дзеепрыметнікамі.

Тып малапрадуктыўны.

§ 545. Суфікс **-л-***ы*. Пры дапамозе суфікса **-л-***ы* ад дзеясловаў утвараюцца прыметнікі, якія абазначаюць стан прадмета як вынік пэўнага дзеяння. У сувязі з гэтым прыметнікі на **-л-***ы* могуць утварацца толькі ад асноў непераходных дзеясловаў, у прыватнасці:

а) ад асновы неазначальнай формы на **-а-***ць* (**-я-***ць*): *адсталы, бывалы, вылінялы, гадавалы, дбалы, злінялы, з'ялчалы, заняпалы, заляжалы, імшалы, лінялы, ляжалы, набрынялы, палінялы, паляжалы, пераляжалы, сталы, трывалы, упалы, удалы, хаджалы* (у значэнні «бывалы»), *язджалы* (у значэнні «прыгодны для язды» або «езджаны»).

Група гэтых прыметнікаў параўнальна невялікая.

б) Ад асновы неазначальнай формы на **-е-***ць* (**-э-***ць*): *азвярэлы, амярцвелы, асавелы, адрахлелы, аселы, асірацелы, аслупянелы, атарапелы, ачумелы, ашалелы, гарэлы, даспелы, змакрэлы, змарнелы, змізарнелы, змярцвелы, згалелы, здзічэлы, здранцвелы, здрахлелы, здубелы (здубянелы), здурнелы, зжаўцелы, зледзянелы, заўдавелы, зачарсцвелы, зблажэлы, зброснелы, збуцвелы, збяднелы, звар'яцелы, занямелы, застарэлы, закамянелы, закаранелы, закарчанелы, закарэлы, закасцянелы, закурэлы, загарэлы, загрубелы, загусцелы, задзеравянелы, карэлы, набалелы, падгарэлы, падапрэлы, пагрубелы, пабрыдчэлы, паздаравелы, памярцвелы, памужнелы, памутнелы, памаладзелы, пачарнелы, пастарэлы, пахудзелы, пасінелы, пасівелы, пасвяжэлы, паржавелы, пераспелы,*

*перапрэлы, перакіпелы, схуднелы, струхлелы, спелы, разамлелы, распанелы, умелы, устарэлы, узмужнелы, уздзірванелы.*

Група гэтых прыметнікаў самая вялікая сярод утварэнняў на **-л-**ы.

в) Ад асновы неазначальнай формы з суфіксам **-ну**-*ць*: *адрузлы, асіплы, асмяглы, ахрыплы, бляклы, вялы, гіблы, грузлы, дохлы, драхлы, друзлы, жоўклы, жухлы, затхлы, звыклы, змёрзлы, змоклы, згорклы, здохлы, збляклы, замоклы, запухлы, засмаглы, засохлы, закіслы, завялы, зяблы, мёрзлы, набухлы, напухлы, падпухлы, падмоклы, падмёрзлы, павялы, паніклы, пасохлы, прыгорклы, прытухлы, працяглы, пратухлы, прапахлы, прасохлы, пракіслы, прамёрзлы, праёлклы, празяблы, пухлы, спрэлы, раскіслы, размяклы, тухлы, трухлы, усохлы, чахлы, чэзлы.*

Прыметнік *сціслы* абазначае не стан, у якім знаходзіцца прадмет, а ўжываецца ў значэнні «кароткі».

Прыметнікі *сіплы, хрыплы* суадносяцца як з асновай неазначальнай формы на **-е**-*ць*, так і з асновай на **-ну**-*ць* (*сіпець — сіпнуць, хрыпець — хрыпнуць*).

Група гэтых прыметнікаў таксама даволі вялікая.

г) Ад асновы неазначальнай формы на **-у**-*ць*: *мінулы, чулы, прачулы.*

Група гэтых прыметнікаў лексічна абмежаваная.

д) Ад асновы неазначальнай формы на **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*): *гнілы, прагнілы, перагнілы, падгнілы, жылы, пажылы, паджылы, цвілы, зацвілы, выцвілы, стылы, настылы, прастылы;* асобна стаіць субстантываваны прыметнік *служылы* (гіст.).

Гэтыя прыметнікі складаюць невялікую групу.

е) Ад асновы неазначальнай формы на зычныя: *беглы, збеглы, пабеглы* (спец.), *прабеглы* (у значэнні «бывалы, цёрты»), *абрыдлы, вымерзлы, дарослы, злеглы, зайшлы* (абл.), *палеглы, прарослы, прышлы, перарослы, рослы, разлезлы, узнёслы.*

Прыметнікі гэтай групы нешматлікія.

Як відаць з прыведзеных матэрыялаў, прыметнікі з суфіксам **-л**-*ы* складаюць у сучаснай мове прадуктыўны словаўтваральны тып, прычым ён актыўна папаўняецца словамі, якія адначасова могуць ужывацца і ў значэнні дзеепрыметнікаў на **-л**-*ы*. Дзякуючы гэтаму многія прыметнікі на **-л**-*ы*, асабліва тыя, якія ўтвораны ад прыставачных дзеясловаў, з'яўляюцца суадноснымі з адпаведнымі дзеепрыметнікамі на **-л**-*ы*.

§ 546. Суфіксы **-м**-*ы*, **-ем**-*ы*, **-ім**-*ы*, **-ом**-*ы* (**-ём**-*ы*). Пры дапамозе гэтых суфіксаў (нярэдка ў спалучэнні з прыстаўкай **не-**) ад асноў пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання ўтвараюцца прыметнікі, якія выражаюць магчымасць або немагчымасць, дапушчальнасць або недапушчальнасць дзеяння, абазначанага адпаведнай асновай. Значная ж частка гэтых прыметнікаў паходзіць ад адпаведных дзеепрыметнікаў.

а) Прыметнікі з суфіксам **-м**-*ы* ўтвараюцца ад асноў неазначальнай формы на **-а**-*ць*, **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*) дзеясловаў закончанага трывання: *нявeдамы, (не)любімы, радзімы, непрымірымы, неацанімы, (не)ажыццявімы, значымы* (лінгв.), *(не)дзялімы, аддзялімы, множымы* (матэм.), *(не)магчымы, мыслімы, (не)судзімы.* Прыметнік *(не)цярпімы* ўтваран ад асновы неазначальнай формы на **-е**-*ць* дзеяслова незакончанага трывання. Параўн. таксама прыметнік *нелюдзімы.*

Гэтыя прыметнікі складаюць малапрадуктыўны падтып.

б) Пры дапамозе суфікса **-ем**-*ы* ад асновы на **-уј** дзеяслова незакончанага трывання *кіраваць* утваран прыметнік *кіруемы.*

Падтып непрадуктыўны.

в) Пры дапамозе суфікса **-ом**-*ы* ад асновы неазначальнай формы на **-а**-*ць* утвораны прыметнікі *(не)вядомы, (не)свядомы, (не)рухомы.* Прыметнік *(не)ядомы* ўтваран ад асновы неазначальнай формы на зычны (*есц-і*). Параўн. таксама субстантываваны прыметнік *насякомае.* Пры-

метнік *(не)знаёмы* ўтворан ад асновы дзеяслова цяперашняга часу на **-а**-*ць* пры дапамозе суфікса **-ём**-*ы*.

Падтып непрадуктыўны.

§ 547. Суфіксы **-н**-*ы*, **-ен**-*ы*, **-он**-*ы* (**-ён**-*ы*). У большасці выпадкаў прыметнікі з гэтымі суфіксамі выражаюць значэнне «падвержаны пэўнаму дзеянню, характарызуецца дзеяннем»; яны звычайна паходзяць ад адпаведных дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, але ёсць і такія прыметнікі, якія не суадносяцца з дзеепрыметнікамі.

а) Прыметнікі з суфіксам **-н**-*ы* паходзяць ад адпаведных дзеепрыметнікаў залежнага стану або ўтварыліся ад асновы неазначальнай формы на **-а**-*ць*, радзей — на **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*) пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *абураны, арганізаваны, вытрыманы, выхаваны, друкаваны, дыпламаваны, дыстыляваны, дысцыплінаваны, дыферэнцыраваны, дэкласаваны, дэмабілізаваны, дэмаралізаваны, дэнатураваны* (хім.), *дэнатуралізаваны* (юрыд.), *дэцэнтралізаваны, жаданы, жованы, занядбаны, змардаваны, змарнаваны, змораны, зморшчаны, з'яднаны, звязаны, згуртаваны, здушаны, зладжаны, застуджаны, затузаны, замілаваны, замораны, ізаляваны, ілюстраваны, імправізаваны, інкруставаны, інсцэніраваны, кованы, калектывізаваны, кваліфікаваны, крышаны, клеены, клеймаваны, кляпаны, кончаны, кошаны, мечаны, мораны, мочаны, мучаны, мяшаны, марожаны, напрактыкаваны, начытаны, ношаны, паліраваны, пакамечаны, паяны, патэнтаваны, прыніжаны, прыбліжаны, пражаны, пісаны, пілаваны, пешчаны, перчаны, перасечаны, перакрыжаваны, пытляваны, пудраны; адданы, вершаваны, гашаны* (спец.), *ётаваны* (лінгв.), *даданы* (лінгв.), *каханы, паліваны, палоханы, пажаданы, складаны* і інш.

Асобна стаяць прыметнікі, якія ўтвораны прыставачна-суфіксальным спосабам: *нязнаны нечуваны, неспадзяваны, несціханы, нестрыманы* (параўн. прыметнік *стрыманы* ў іншым значэнні). Параўн. таксама ў індывідуальным ужыванні прыметнік *невіданы: Мы створым жыццё н е в і д а н а е, там будзе ўсім брацтва чаканае* (М. Чарот. Жывое балота).

Падтып прыметнікаў з суфіксам **-н**-*ы* вельмі прадуктыўны.

б) Прыметнікі з суфіксам **-ен**-*ы* паходзяць ад дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, якія ўтвораны ад асновы неазначальнай формы на **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*) пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *голены, дадзены, дублены, знясілены, знясклаўлены, здаволены, затоены, затуманены, захвалены, зачумлены, замаслены, занепакоены, заняволены, запаганены, заплямлены, засаромлены, зададзены* (матэм.), *кормлены, крадзены, кроены, маслены, надломлены, намазолены, насуплены, прасолены, прасветлены, прамаслены, поены, плоены, плецены, плаўлены, перасолены, перанаселены, стомлены, стоены, смолены, смалены, сінены, ранены, раздроблены, разгублены, траўлены, умоўлены, утомлены, узброены, удасканалены, упэўнены* і інш.

Гэтыя прыметнікі таксама складаюць прадуктыўны словаўтваральны падтып.

в) Прыметнікі з суфіксам **-он**-*ы* (**-ён**-*ы*) паходзяць ад дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, якія ўтвораны ад асновы неазначальнай формы на **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*) або ад асновы на **-ну**-*ць* пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *замкнёны, кіпячоны, натхнёны, разароны, разбуйнёны* і інш.

Некаторыя прыметнікі гэтай падгрупы ўжо не суадносяцца з дзеепрыметнікамі, прычым асобныя з іх адрозніваюцца ад дзеепрыметнікаў і месцам націску: *адушаўлёны* (грам.), *вучоны* (параўн. *вучаны*), *куплёны* (параўн. *куплены*), *падазроны, пасаджоны* (устар., параўн. *пасаджаны*), *праніклёны, пракажоны, сцеражоны, салёны* (параўн. *солены*), *раздражнёны* (параўн. *раздражнены*), *улюбёны, утрапёны, ціснёны, шалёны, хрышчоны.* Параўн. таксама ў індывідуальным ужыванні прымет-

нік *абрыдоны*: *Зашумеў а б р ы д о н ы вецер у закуце кудлатым* (М. Ч а р о т. Марына).

Да гэтай групы адносяцца і некаторыя прэфіксальна-суфіксальныя прыметнікі: *нескані*чоны (параўн. *не скончаны*), *незлічоны* (параўн. *не злічаны*).

Падтып непрадуктыўны.

§ 548. С у ф і к с **-т**-*ы*. Прыметнікі з гэтым суфіксам паходзяць ад дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, якія ўтвораны ад асноў неазначальнай формы на **-а**-*ць*, **-і**-*ць* (**-ы**-*ць*), **-о**-*ць*, **-у**-*ць*, **-ну**-*ць* і ад асноў на зычныя пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *адкрыты, біты, віты, гнуты, дуты, жаты, закінуты, забіты, знябыты, колаты, мыты, мяты, надколаты, надзьмуты, нацягнуты, падцягнуты, пацёрты, прачуты, прапіты, прадузяты, пракляты, прыўзняты, развіты, разбіты, цёрты* (аб чалавеку). Некаторыя з такіх прыметнікаў ужо не суадносяцца з дзеепрыметнікамі: *заўзяты, заняты*.

Тып прадуктыўны ў сучаснай мове.

## ПРЫСТАВАЧНАЕ УТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 549. З дапамогай прыставак новыя прыметнікі ўтвараюцца ад саміх жа прыметнікаў або суадносяцца з пэўнымі прыназоўнікава-склонавымі формамі назоўнікаў. Па свайму паходжанню словаўтваральныя прыстаўкі прыметнікаў, як і суфіксы, падзяляюцца на дзве групы: 1) прыстаўкі незапазычаныя (**без-, небез-, да-, за-, звыш-, не-, пра-, пры-, раз-, су-**) і 2) прыстаўкі, якія паходзяць з лацінскай і грэчаскай моў (**а-, анты-, архі-, інтэр-, пра-, ультра-, экстра-**). Па ўжыванню апошнія з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі.

§ 550. П р ы с т а ў к а **без- (бяз-)**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі і адпаведных канчаткаў (**-і, -ы**) ад формы роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *без* утвараюцца якасныя і адносныя прыметнікі са значэннем «не мае таго, што абазначана ўтваральнай асновай»: *безбароды, безвалосы, безгаловы, бязбокі, бязбровы, бязвокі, бязвусы, бязвухі, бяззубы, бязлісты, бязмозгі* (размоўн.), *бязногі, бязносы, бязрогі, бязрукі, бяскрылы, бяспальцы, бясполы, бясхвосты, без'языкі*. У прыметніках гэтай групы суфікс адсутнічае але словаўтваральную ролю суфікса выконвае побач з прыстаўкай канчатак (прыметнікаў тыпу *безбарод, безвалос, бязбок* не існуе).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны групай слоў, якія абазначаюць часткі арганізма чалавека і іншых жывых істот ці часткі раслін.

У некаторых выпадках пры дапамозе прыстаўкі **без-** новыя прыметнікі ўтвараюцца таксама ад суфіксальных асноў прыметнікаў, напрыклад: *бязатамны (бязатамная зона), бязмесячны (бязмесячная ноч), беспартыйны* (параўн. *партыйны чалавек*).

Тып прадуктыўны, аднак лексічна небагаты. Відаць, у далейшым ён будзе папаўняцца словамі, якія страчваюць суадноснасць з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *без* (параўн. *класавы* і *бяскласавы, карысны* і *бескарысны*).

§ 551. П р ы с т а ў к а **небез- (небяз-)**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі ад суфіксальных прыметнікаў у пісьмовых стылях утвараюцца якасныя і адносныя прыметнікі са значэннем «надзелены пэўнай якасцю, уласцівасцю» або «не пазбаўлены чаго-небудзь»: *небезвыніковы, небезвядомы, небездакорны, небеззаганны, небезнадзейны, небезрэзультатны, небезуважны, небескарыслівы, небескарысны, небеспадстаўны, небеспаспяховы, небязгрэшны, небяскрыўдны, небясспрэчны*.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 552. Прыстаўка **да-**. Прыметнікі з гэтай прыстаўкай, якая выражае часавае значэнне папярэднічання чаму-небудзь, складаюць малапрадуктыўны тып: *дагістарычны, дакапіталістычны, дапятроўскі, дамарксісцкі, дасавецкі, дахрысціянскі, даўрачэбны (даўрачэбная дапамога)*.

§ 553. Прыстаўка **за-**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі ў размоўным стылі ад якасных прыметнікаў утвараюцца формы, якія набываюць значэнне «трохі або вельмі перавышае ступень якасці, абазначаную ўтвараючай асновай»: *завузкі, завялікі, задарагі, задоўгі, залішні, заслабы, замалы, замалады, замоцны, зашырокі, зацесны, зацяжкі*. Па значэнню асобна ад гэтых прыметнікаў стаіць форма *замінулы*, якая таксама характэрна для размоўнага стылю.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 554. Прыстаўка **звыш-**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі ад прыметнікаў утвараюцца новыя словы, якія выражаюць перавышэнне якасці, абазначанай утвараючай асновай: *звышбуйны, звышвынаходлівы, звышгераічны, звышмагутны, звышпатрыятычны, звыштэрміновы, звышкарысны, звышустойлівы* і інш.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 555. Прыстаўка **не- (ня-)**. З дапамогай прыстаўкі **не-** ад прыметнікаў утвараюцца словы са значэннем, супрацьлеглым значэнню адпаведных непрыставачных прыметнікаў: *неабавязковы, неабдымны, неактуальны, невыразны, недасканалы, недружалюбны, некультурны, ненатуральны, непадзельны, непазнавальны, непакорны, непапулярны, непаслядоўны, непісьменны, непрадукцыйны, непрыветлівы, неспрыяльны, несяброўскі, неўласцівы, нешматлікі, неэканомны, нияскравы, нявеглівы, нявопытны, нядужы, нязменны, няхітры, няцвёрды, нячулы, няшчыры, няясны*.

Заўвага. У размоўных прыметніках *неахайны, нехлямяжы* прыстаўка **не-** ўжо не вылучаецца ў сучаснай мове.

Тып вельмі прадуктыўны; практычна з прыстаўкай **не-** можа ўжывацца амаль кожны прыметнік.

§ 556. Прыстаўка **пад-**. Гэта прыстаўка ў прыметніках выражае адценне непаўнаты якасці: *падслепаваты* (размоўн.).

Заўвага. У прыметніках *падласы, паджары* прыстаўка **пад-** не вылучаецца ў сучаснай мове.

Тып непрадуктыўны.

§ 557. Прыстаўка **паза-**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі ўтвараюцца прыметнікі са значэннем «адбыўся раней таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *пазалеташні, пазаўчарашні, пазамінулы*.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 558. Прыстаўка **пра-**. Прыстаўка **пра-** служыць для выражэння безадносна самай высокай ступені якасці: *прамудры, праславуты*. Параўн. таксама ўстарэлыя кніжныя прыметнікі *правялебны, прападобны, праасвяшчэнны*.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

Асобную групу складаюць прыметнікі тыпу *праіндаеўрапейскі, працюркскі*. У такіх словах прыстаўка **пра-** служыць для ўказання на папярэднія этапы развіцця якасці, абазначанай прыметнікам, да якога далучаецца гэта прыстаўка.

Заўвага. Слова *праславянскі* суадносіцца як з прыметнікам *славянскі*, так і з назоўнікам *праславяне* (параўн. *прадзед, прабабка, прарадзіма*).

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 559. Прыстаўка **перад-**. Пры дапамозе гэтай прыстаўкі ўтвараюцца прыметнікі са значэннем «непасрэдна папярэднічае ў часе таму, што абазначана ўтвараючай асновай»: *перадапошні, перадстарэчы*.

Тып непрадуктыўны.

§ 560. Прыстаўка **пры-**. Гэта прыстаўка служыць для ўзмацнення ступені якасці, выражанай адпаведным непрыставачным прыметнікам: *прыўдалы*. Параўн. таксама прыметнік *прыгожы*, у якім ужо не вылучаецца гэта прыстаўка з пункту погляду сучаснага словаўтварэння.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 561. Прыстаўка **рас-**. Прыстаўка **рас-** падобна прыстаўцы **пры-** (гл. § 560) служыць для ўзмацнення ступені якасці, выражанай адпаведным беспрыставачным прыметнікам: *раскосы (раскосыя вочы), разухабісты, разлюбезны*. Усе гэтыя словы характэрны для размоўнага стылю мовы.

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 562. Прыстаўка **са-**. Гэта прыстаўка паказвае, што пэўная прымета або якасць належыць (уласціва) дзвюм або некалькім асобам: *савінаваты* (юрыд.).

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 563. Прыстаўка **су-**. Гэта прыстаўка ўжываецца для выражэння значэння суадноснасці пэўнай якасці паміж прадметамі: *сувымерны, суразмерны, сузалежны* (грам.), *сугучны, супараўнальны*.

У прыметніку *суцэльны* прыстаўка служыць для ўзмацнення значэння якасці.

Тып малапрадуктыўны.

§ 564. Прыстаўка **а-**. Прыстаўка **а-**, якая паходзіць з грэчаскай мовы, служыць для выражэння значэння адсутнасці, неадпаведнасці або адмаўлення пэўнай якасці, названай суадносным непрыставачным прыметнікам: *алагічны, амаральны, апалітычны, аперыядычны* (фіз.), *арытмічны, асіметрычны, ацыклічны* (хім.).

Некаторыя з гэтых прыметнікаў можна суадносіць з адпаведнымі назоўнікамі з прыстаўкай **а-**, параўн.: *алагізм — алагічны, арытмія — арытмічны, асіметрыя — асіметрычны*. У гэтых выпадках утварэнне прыметнікаў адбываецца суфіксальным спосабам.

Па свайму значэнню прыстаўка **а-** сінанімічна прыстаўкам **не-** і **без-** (гл. § 550, 555).

Тып малапрадуктыўны.

§ 565. Прыстаўка **анты-**. Прыстаўка **анты-**, якая паходзіць з грэчаскай мовы, служыць для выражэння значэння «накіраваны супраць таго, супрацьлеглы або супраціўны таму, што абазначана адпаведным непрыставачным прыметнікам»: *антыалкагольны, антываенны, антыгігіенічны, антыгістарычны, антыгітлераўскі, антыграмадскі, антыдэмакратычны, антыімперыялістычны, антыкамуністычны, антыклерыкальны, антымарксісцкі, антымастацкі, антымілітарысцкі, антынавуковы, антынародны, антыпартыйны, антыпралетарскі, антыпрыгонніцкі, антырэлігійны, антысавецкі, антысанітарны, антысейсмічны, антытаксічны, антыфашысцкі*.

Заўвага. Некаторыя прыметнікі непасрэдна суадносяцца з назоўнікамі, у складзе якіх ёсць прыстаўка **анты-**: параўн., *антыбіётыкі—антыбіятычны, антысеміт — антысеміцкі, антысептыка — антысептычны*. У гэтых выпадках утварэнне прыметнікаў адбываецца толькі суфіксальным спосабам.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 566. Прыстаўка **архі-**. Прыстаўка **архі-**, якая паходзіць з грэчаскай мовы, служыць для ўзмацнення ступені якасці, выражанай адпаведным непрыставачным прыметнікам. Яе значэнне можна перадаць прыслоўямі *вельмі, надзвычай, празмерна* або выразамі *ў самай высокай ступені, праз меру: архіразумны, архідурны, архірэакцыйны, архіпошлы*. Звычайна прыметнікі з гэтай прыстаўкай служаць для выражэння розных адмоўных якасцей, што характарызуюць чалавека. Прыметнікі з прыстаўкай **архі-** звычайна сустракаюцца ў кніжных стылях.

Тып непрадуктыўны.

§ 567. Прыстаўка **інтэр-**. Прыстаўка **інтэр-**, якая паходзіць з лацінскай мовы, сінанімічна па значэнню з прыназоўнікамі *між, паміж;* яна (звычайна разам з суфіксамі) утварае ўсяго некалькі спецыяльных тэрмінаў: *інтэрвакальны* (лінгв.), *інтэрнацыянальны, інтэрсекцыйны.*

Тып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 568. Прыстаўка **пра-**. Прыстаўка **пра-** (з лац. pro-) служыць для выражэння значэння «на баку таго, у абарону таго, што абазначана адпаведным непрыставачным прыметнікам»: *прасавецкі, прагерманскі, праамерыканскі, прафашысцкі.*

Заўвага. Гэту прыстаўку нельга змешваць з прыстаўкай **пра-** ў словах тыпу *праіндаеўрапейскі* (гл. § 558).

Тып малапрадуктыўны.

§ 569. Прыстаўка **ультра-**. Прыстаўка **ультра-**, якая паходзіць з лацінскай мовы, служыць для выражэння ўзмоцненай меры якасці, яна паказвае, што гэта якасць праяўляецца ў самай апошняй ступені або даходзіць да самай крайняй мяжы: *ультралевы, ультраправы, ультракансерватыўны, ультрарадыкальны, ультрарэакцыйны.* Параўн. таксама значэнне гэтай прыстаўкі ў складзе спецыяльных тэрмінаў: *ультракароткахвалевы, ультрамікраскапічны, ультрагукавы, ультрафіялетавы, ультракароткі.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 570. Прыстаўка **экстра-**. Прыстаўка **экстра-**, якая паходзіць з лацінскай мовы, сінанімічна па значэнню словам *вельмі, надзвычай* (параўн. таксама прыстаўку **архі-**): *экстраардынарны.*

Тып непрадуктыўны.

## ПРЫСТАВАЧНА-СУФІКСАЛЬНАЕ УТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 571. Пад прыставачна-суфіксальнымі трэба разумець такія прыметнікі, якія ўтвараюцца ад розных прыназоўнікава-склонавых форм назоўнікаў або суадносяцца з гэтымі формамі, і ад дзеясловаў з адмоўнай часціцай *не.* Пры гэтым прыназоўнікі і часціца *не* ператвараюцца ў адпаведныя прыстаўкі прыметнікаў.

§ 572. Прыметнікі з прыстаўкай **ад-** і суфіксамі **-н-***ы*, **-ав-***ы*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *ад;* яны выражаюць значэнне «паходзіць або ўтвораны ад таго, што абазначана адпаведным назоўнікам». Сюды ўключаюцца пераважна мовазнаўчыя тэрміны: *адыменны, аддзеяслоўны, адпрыслоўны, адпрыметнікавы, адлічэбнікавы.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 573. Прыметнікі з прыстаўкай **без-** (**бяз-**) і суфіксамі **-н-***ы*, **-н-***і*, **-оўн-***ы*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *без;* яны выражаюць значэнне «не мае ці адбываецца без таго, што названа ўтваральнай асновай»: *безалкагольны, безапеляцыйны, безбандэрольны, безбялковы, безбілетны, бяскрайні, бязмежны, безгустоўны, бяздонны, беспаветраны, бяскрыўдны, бязводны, бязвыплатны* (юрыд.), *бязвольны, бяздарны, бязвыхадны, бязлітасны, безабаротны* (гандл.), *бязвобразны, бясхітрасны, безрэзультатны, бяссуфіксны, беспрыставачны, безрысорны, бязродны* і інш.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 574. Прыметнікі з прыстаўкай **да-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-ов-***ы*, **-н-***ы*, **-н-***і*, **-енн-***ы*, **-ск-***і* (**-цк-***і*). Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *да;* яны выражаюць значэнне «адносіцца да пэўнага часу або папярэднічае таму, што абазначана адпаведным назоўнікам»: *дародавы, датэрмі-*

*новы, дапрызыўны, дарэвалюцыйны, дачасны, дашлюбны, дазамужні, даабедзенны, дакастрычніцкі.*

Заўвага 1. Прыметнік *дапатопны* набыў у сучаснай мове якаснае значэнне.

Заўвага 2. Некаторыя аналагічныя прыметнікі маюць у сучаснай мове двайную суадноснасць — з формай роднага склону назоўніка і з прыметнікамі (у апошнім выпадку словаўтваральную функцыю выконвае толькі прыстаўка **да-**): *даваенны (да вайны, да-ваенны), дашкольны (да школы, да-школьны), дарэформенны (да рэформы, да-рэформенны)* і інш.

Па свайму значэнню асобна стаяць прыметнікі *даслоўны* (літаральны) і *дацэнтральны* (цэнтраімклівы).

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 575. Прыметнікі з прыстаўкай **за-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-н-***ы*, **-ск-***і*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *за;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца па той бок або за тым, што абазначана адпаведным назоўнікам»: *затактавы* (муз.), *завочны, заглотачны* (побач з *заглоткавы* — анат.), *закулісны, заштатны, зашчочны* (анат.), *зашыйны* (анат.), *запечны, зарубежны, зарэчны, заскурны* (анат.), *застольны, замагільны, заазёрны, заатлантычны, завоблачны, завушны, загарадны, заакіянскі, заморскі, забалканскі, замежны, заграніны.* Параўн. таксама прыметнік *заўчасны*, суадносны з формай вінавальнага склону *ў час.*

Прыметнікі *забайкальскі, задняпроўскі, заўральскі, заплечны,* і іншыя суадносяцца як з формай творнага склону *(за Байкалам, за Дняпром, за Уралам, за плячамі),* так і з адпаведнымі прыставачнымі назоўнікамі *(Забайкалле, Задняпроўе, Зауралле, заплечча;* параўн. *Запаляр'е — запалярны).* У апошнім выпадку ў гэтых прыметніках словаўтваральнымі з'яўляюцца толькі адпаведныя суфіксы.

Прыметнік *заздароўны* суадносіцца па ўтварэнню з формай вінавальнага склону назоўніка з прыназоўнікам *за;* ён выражае значэнне «ў карысць таго, што абазначана адпаведным назоўнікам».

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 576. Прыметнікі з прыстаўкай **звыш-** і суфіксам **-н-***ы*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *звыш;* яны выражаюць значэнне «перавышае меру таго, што абазначана адпаведным назоўнікам»: *звышпланавы, звышурочны.*

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 577. Прыметнікі з прыстаўкай **каля-** і суфіксам **-н-***ы*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *каля;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца паблізу, каля таго, што абазначана адпаведным назоўнікам»: *калясонечны (калясонечная прастора), каляплодны (каляплодная вадкасць* — анат.).

Тып жывы, але малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 578. Прыметнікі з прыстаўкай **між-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-ов-***ы*, **-н-***ы*, **-н-***і*, **-ск-***і*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай роднага або творнага склону множнага ліку назоўнікаў з прыназоўнікам *між;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца, існуе паміж тымі прадметамі або распаўсюджваецца на тыя прадметы, якія абазначаны адпаведнымі назоўнікамі»: *міжаконны, міжагрэгатны (міжагрэгатны бычок*—гідратэхн.), *міжбрыгадны, міжвенны* (анат.), *міжвідавы* (біял.), *міжгародні, міжгатунковы, міжгорны, міжзорны, міжзубны* (лінгв.), *міжкалгасны, міжкватэрны* (буд.), *міжклетачны* (біял.), *міжкосны, міжледавіковы* (геал.), *міжнародны, міжнацыянальны, міжпаверхавы, міжпародны* (біял.), *міжпланетны, міжпляменны, міжпрамывачны* (тэхн.), *міжрадковы* (с.-г.), *міжраённы, міжрамонтны, міжродавы* (медыц.), *міжрэберны* (анат.), *міжрэспубліканскі, міжсартавы* (спец.), *міжсасуд-*

*ны, міжслойны (міжслойная асіміляцыя*—лінгв.), *міжсаюзніцкі* (паліт.), *міжсаюзны, міжсесіённы, міжсківічны* (анат.), *міжстадыяльны, міжфракцыйны, міжцэхавы.*

Заўвага. Прыметнік *міжвольны* суадносіцца з прыслоўем *міжволі* і з'яўляецца суфіксальным утварэннем.

Тып жывы і прадуктыўны ў сучаснай літаратурнай мове.

§ 579. Прыметнікі з прыстаўкай **на-** і суфіксам **-н-***ы*. Гэтыя прыметнікі суадносяцца па ўтварэнню з формай меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *на;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца або размяшчацца на паверхні таго ці ў тым месцы, якое абазначана адпаведным назоўнікам»: *нагорны, нааконны, навугольны, навочны, нагрудны, надворны, надульны, наземны, накаленны, наканечны, накосны, налобны, намагільны, наплечны, нарукаўны, наручны, нарэберны, наскурны, настольны, нацельны.*

Прыметнік *надзённы* суадносіцца па ўтварэнню з формай вінавальнага склону назоўніка *дзень* з прыназоўнікам *на;* па значэнню ён стаіць асобна ад прыведзеных вышэй прыметнікаў.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 580. Прыметнікі з прыстаўкай **над-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-ов-***ы*, **-ів-***ы*, **-н-***ы*, **-ск-***і*, **-оўск-***і*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *над;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца над тым, вышэй таго або паблізу таго, што абазначана адпаведным назоўнікам»: *надазёрны, надаконны, надбройны, надбрушны* (анат.), *надвоблачны, надводны, надвочны, надгартанны, надглебавы, надглотачны* (побач з *надглоткавы*), *наддзвярны, надземны, надкаленны, надкасцявы* (анат.), *надкласавы, надлабковы* (анат.), *надлапатачны* (анат.), *надлобны* (анат.), *надлокцевы, надмагільны, наднёманскі, надныравы* (анат.), *надпалубны* (марск.), *надпечны, надрадковы, надсківічны* (анат.), *надхмарны, надшахтавы* (горн.), *надчарэўны* (анат.), *надрудны* (геал.), *надмярзлотны (надмярзлотныя воды* — геал.).

Па свайму значэнню прыметнікі гэтага тыпа з'яўляюцца антанімічнымі прыметнікам з прыстаўкай **пад-** і суфіксам **-н-***ы* (гл. § 583).

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 581. Прыметнікі з прыстаўкай **не-** і суфіксам **-н-***ы*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суаднsocяцца з дзеясловамі з адмоўнай часціцай *не: неаглядны, неад'емны, неадкладны, неадлучны, неадольны, неадхільны, неаплатны, неаслабны, недасяжны, ненажэрны, непарушны, непарыўны, несупынны, нязгасны, нязломны, нязмерны, нязмыўны, няспынны, нястрымны, нясцерпны, няўлоўны, няўмольны, няўпынны, няўхільны, няшчадны, неадступны, неахопны.* Прыметнікі гэтай групы абазначаюць якасці, супрацьлеглыя тым, якія абазначаны ўтвараючай асновай.

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 582. Прыметнікі з прыстаўкай **па-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-н-***ы*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай давальнага або меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *па;* яны выражаюць значэнні «адбыўся пасля таго, што абазначана адпаведным назоўнікам», «прызначаны на ўвесь перыяд», «устаноўлены або размеркаваны ў адпаведнасці з чым-небудзь», «адпавядае чаму-небудзь» і пад.: *паабедзенны, парэформенны, пасмяротны, пажыццёвы, падаходны (падатак), падушны (падушная подаць* — гіст.), *падворны (падворны збор), пазямельны, памаёмасны, пачасовы, пачарговы, паўрочны, патыднёвы, пасутачны, пасаслойны* (гіст.), *паартыкульны, пааркушны, пажэтонны, падэкадны, падзённы, падывізіённы, пагектарны, пагадовы, пабрыгадны, пабатальённы, пакватальны, пакалонны, пазменны, памесячны, паэскадронны, паштучны, паўзводны, патомны* (у значэнні «тама́мі»),

*пасямейны, паслойны, параённы, парадковы, паслоўны;* параўн. таксама прыметнікі *пайменны, пагалоўны, падворны, паржышчавы, пасільны.*

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 583. Прыметнікі з прыстаўкай **пад-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-ов-***ы*, **-н-***ы*, **-льн-***ы*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *пад;* яны выражаюць наступныя асноўныя значэнні: «знаходзіцца пад тым, ніжэй таго або каля таго, што названа ўтвараючай асновай»; «з'яўляецца аб'ектам якога-небудзь дзеяння», «залежыць ад чаго-небудзь», «знаходзіцца ў пэўным стане або пад пэўным уздзеяннем чаго-небудзь»: *падаконны, падарбітальны* (анат.), *падбародны, падбрушны, падбрушынны, падбункерны* (тэхн.), *падбэлечны, падвоблачны, падвочны* (анат.), *падгалоўны, падглебавы, падглоткавы* (анат.), *падгорны, падгрудны, падгубны, паддонны, паддужны, падземны, падкаленны, падкалодны, падкасцявы* (анат.), *падключычны* (анат.), *падкрыльны* (авіяц.), *падлапатачны, падлёгачны* (анат.), *падлёдны, падлобны* (анат.), *падлопасцевы* (тэхн.), *падлюстравы, падногцевы* (анат.), *падножны, падныдачны* (анат.), *падпатылічны, падперамычны* (спец.), *падпокрыўны, падпялёсткавы* (бат.), *падрадковы, падракушачны* (геал.), *падрукаўны, падрэберны* (анат.), *падскарынкавы, падсківічны* (анат.), *падскроневы* (анат.), *падскурны, падсмольны (падсмольныя воды), падснежны, падсонечны, падстраўнікавы* (анат.), *падсэрцавы* (анат., медыц.), *падсядловы, падхвосны, падхмарны, падчарапны, падчарэўны, падшыйны, падшэрсны, пад'язычны, падлесны, падгародны;* параўн. таксама *падручны; падабаронны, падапечны, падвыпрабавальны* (субст.), *паддопытны, паддоследны, падкантрольны, падмандатны, паднаглядны, падсправаздачны, паднявольны, падспудны* (устар.), *падсудны, падуладны, падцэнзурны* (устар.), *падшэфны, падыспытны* (субст.), *пад'ярэмны.*

Многія прыметнікі гэтай групы па сваіму значэнню з'яўляюцца антанімічнымі прыметнікам з прыстаўкай **над-** і адпаведнымі суфіксамі.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 584. Прыметнікі з прыстаўкай **паза-** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-н-***ы*, **-ск-***і*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *паза;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца па-за межамі таго або не мае адносін, не залежыць ад таго, што абазначана ўтвараючай асновай»: *пазадагаворны, пазаеўрапейскі, пазакаштарысны, пазакласавы, пазаматачны* (медыц.), *пазапартыйны, пазапланавы, пазаслужбовы, пазасудовы* (юрыд.), *пазасялібны, пазачасовы* (філас.), *пазашкольны, пазашлюбны, пазаштатны, пазабюджэтны, пазавайсковы.*

Заўвага 1. Прыметнік *пазачарговы* суадносіцца і з формай назоўніка творнага склону *паза чаргой* (у такім разе ён з'яўляецца прыставачна-суфіксальным) і з прыметнікам *чарговы* (у такім разе ён з'яўляецца прыставачным).

Заўвага 2. Прыметнік *пазамінулы* суадносіцца з прыметнікам *мінулы* і з'яўляецца прыставачным па ўтварэнню (гл. § 557).

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 585. Прыметнікі з прыстаўкай **перад- (прад-)** і суфіксамі **-ав-***ы*, **-н-***ы*, **-ск-***і*, **-аўск-***і*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай творнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *перад;* яны выражаюць значэнні: «адбываецца напярэдадні таго, што абазначана ўтвараючай асновай», «знаходзіцца, размяшчаецца перад чым-небудзь або каля чаго-небудзь»: *перадабедзенны, перадаперацыйны, перадваенны, перадвеснавы, прадвыбарны, перадвячэрні, перадзаходні, перадкастрычніцкі, перадз'ездаўскі, перадкрызісны, перадмайскі, перадавальнічны, перадпасяўны, перадпускавы, перадракавы* (медыц.), *перадранішні, перадсвітальны, перадсвяточны, перадсмяротны, перадуборачны, перадбрушынны* (анат.), *перадгорны, перадкамерны* (тэхн.),

*перадмаставы* (*перадмаставое ўмацаванне* — ваен.), *пераднаціскны* (лінгв.).

З а ў в а г а. Прыметнікі *перадапошні, перадстарэчы* ўтвораны прэфіксальным спосабам ад прыметнікаў *апошні, старэчы* (гл. § 559).

Тып жывы і прадуктыўны.

§ 586. П р ы м е т н і к і з п р ы с т а ў к а й **праз-** і с у ф і к с а м **-н**-*ы*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай вінавальнага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *праз;* яны выражаюць перавышэнне звычайнай меры якасці: *празмерны.*

Тып непрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

§ 587. П р ы м е т н і к і з п р ы с т а ў к а й **пры**- і с у ф і к с а м і **-н**-*ы*, **-ск**-*і*, **-оўск**-*і*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *пры;* яны выражаюць значэнні «знаходзіцца каля таго, паблізу таго ці побач з тым, што абазначана ўтвараючай асновай», «адбываецца ці адбываўся ў пэўны перыяд»: *прыазёрны, прыамурскі, прыанальны* (медыц.), *прыатлантычны, прыбярэжны, прывакзальны, прыволжскі, прыгранічны, прыгуменны, прыдарожны, прыдворны, прыдняпроўскі, прыкаспійскі, прымежны, прыпалюсны, прырэйкавы, прырубежны, прысядзібны, прысценны, прыстэпавы, прыстваловы, прыстанцыйны, прырэчышчавы, прырэчны, прыфрантавы, прышкольны, прыяравы, прыжыццёвы.*

Некаторыя аналагічныя прыметнікі суадносяцца як з формай меснага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *пры,* так і з формай назоўнага склону прэфіксальных назоўнікаў: *прыбалтыйскі — пры Балтыцы, Прыбалтыка; прычарнаморскі — пры Чорным моры, Прычарнамор'е; прыморскі — пры моры, Прымор'е; прыкарпацкі — пры Карпатах, Прыкарпацце; прыўральскі — пры Урале, Прыўралле; прыгуменны — пры гумне, прыгуменне.* Прыметнік *прыпалярны* суадносіцца толькі з назоўнікам *Прыпаляр'е.*

Тып прадуктыўны і лексічна не абмежаваны.

§ 588. П р ы м е т н і к і з п р ы с т а ў к а й **-су** і с у ф і к с а м **-н**-*ы*. Гэтыя прыметнікі ўтвараюцца ад іменных асноў; яны паказваюць збліжэнне ці супадзенне ў прасторы або ў часе: *суладны, сумежны, сумесны, сучасны.*

Прыметнік *суадносны* ўтвораны, відаць, ад дзеяслова *суадносіць;* параўн., аднак, і слова *адносны.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 589. П р ы м е т н і к і з п р ы с т а ў к а й **унутры-** і с у ф і к с а м і **-ав**-*ы*, **-н**-*ы*, **-льн**-*ы*, **-ск**-*і*. Гэтыя прыметнікі па ўтварэнню суадносяцца з формай роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *унутры;* яны выражаюць значэнне «знаходзіцца ўнутры, у сярэдзіне або ў межах чаго-небудзь, што абазначана ўтвараючай асновай»: *унутрыатамны, унутрывідавы, унутрывантробны* (медыц.), *унутрыглебавы* (*унутрыглебавае арашэнне*), *унутрыгаспадарчы, унутрыбрыгадны* (*унутрыбрыгаднае спаборніцтва*), *унутрыфермскі* (*унутрыфермскі транспарт*), *унутрыквартальны* (*унутрыквартальнае азеляненне*), *унутрыгарадскі, унутрызаводскі, унутрысістэмны* (*унутрысістэмнае забеспячэнне сыравінай*), *унутрыдзяржаўны, унутрытрывальны* (грам.), *унутрыцэнтральны* (біял.).

Тып жывы і прадуктыўны.

## УТВАРЭННЕ СКЛАДАНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 590. У сучаснай беларускай літаратурнай мове складаныя прыметнікі могуць утварацца рознымі шляхамі, у прыватнасці шляхам зліцця ў адно слова дзвюх ці болей асноў прыметнікаў (*чырвоны* і *зялёны* — *чырвона-зялёны, блакітны, сіні* і *шэры* — *блакітна-сіне-шэры*), шляхам злучэння асноў незалежных назоўнікаў (*хлеб* і *булкі* — *хлебабулачны*),

шляхам зліцця ў адно цэлае элементаў словазлучэнняў, у якіх адзін элемент знаходзіцца ў сінтаксічнай залежнасці ад другога, напрыклад прыметніка з назоўнікам *(круглы бок — круглабокі)*, лічэбніка з назоўнікам *(сем год — сямігадовы)*, займенніка з назоўнікам *(той час — тагачасны)*, дзеяслова з назоўнікам *(лес пілiць — лесапільны)* і інш. У адпаведнасці з гэтымі спосабамі вылучаюцца розныя словаўтваральныя тыпы складаных прыметнікаў.

У большасці выпадкаў першая аснова складанага прыметніка далучаецца да наступнай пры дапамозе злучальных галосных **а, е (я)**, другая ж (ці апошняя) набывае адпаведны канчатак, а часта і прыметнікавы або дзеепрыметнікавы суфікс. У апошнім выпадку мы маем справу з сінтаксіка-марфалагічным спосабам словаўтварэння.

### *Прыметнікі, якія ўтвараюцца шляхам злучэння дзвюх і болей асноў прыметнікаў*

§ 591. У адно складанае слова асновы прыметнікаў могуць злучацца ў двух выпадках:

а) калі гэтыя асновы абазначаюць раўнапраўныя якасці: *гандлёва-пасажырскі, інжынерна-тэхнічны, ліцейна-механічны, камсамольска-маладзёжны, марксісцка-ленінскі, партыйна-ўрадавы, адміністрацыйна-гаспадарчы, памешчыцка-буржуазны, лічыльна-вылічальны, будаўніча-мантажны, квадратна-гнездавы, жыллёва-бытавы, глуханямы, асенне-зімовы, пераплётна-брашуровачны, паштова-тэлеграфны, паточна-скорасны, пладова-ягадны, саюзна-рэспубліканскі, ртутна-кварцавы* (спец.), *раслінна-жывёльны, слаіста-кучавы, свінцова-цынкавы, сярэдне-задні* (лінгв.), *змычна-праходны* (лінгв.), *руска-кітайскі, беларуска-рускі, блакітна-жоўты, шэра-зялёны, кісла-салодкі.*

Ва ўсіх гэтых выпадках абедзве асновы прыметнікаў поўнасцю захоўваюць свой гукавы склад, прычым першая аснова далучаецца да другой пры дапамозе злучальных галосных **а, е.** Побач з гэтым ёсць складаныя словы, якія ўтвараюцца шляхам злучэння «ўрэзанай» і поўнай прыметнікавай асновы, напрыклад: *амерыкана-англійскі, медыка-санітарны, медыка-хірургічны.*

Тып вельмі прадуктыўны.

б) Калі адна прыметнікавая аснова абазначае галоўную якасць, а другая дадатковую (другарадную, пабочную): *агніста-чырвоны, аксамітна-чорны, бледна-жоўты, бледна-сіні, крывава-чырвоны, медна-чырвоны, нябесна-блакітны, папяліста-шэры, снежна-белы, светла-шэры, светла-жоўты, светла-зялёны, светла-кары, светла-карычневы, светла-каштанавы, светла-русы, светла-ружовы, светла-сіні, светла-чырвоны, светла-шэры, цёмна-буры, цёмна-русы, цёмна-сіні, цёмна-шэры, цёмна-гняды, цёмна-зялёны, цёмна-карычневы, цёмна-руды, цёмна-чырвоны, ярка-жоўты, ярка-сіні, ярка-чырвоны, панура-суровы, салодка-журботны, смутна-балючы.*

Нярэдка дадатковыя адценні значэння ў такіх складаных прыметніках перадаюцца асновамі з суфіксам **-ават-**_ы_, які выражае значэнне непаўнаты якасці: *жаўтавата-сіні, жаўтавата-шэры, жаўтавата-кары, жоўта-сінява́ты, шаравата-цьмяны, сінявата-светлы, сінявата-зялёны, сінявата-шэры, сінявата-празрысты, шэра-ружаваты; белавата-сіні, зеленавата-срабрысты, рыжавата-залацісты, прадаўгавата-круглы, сутулавата-гарбаты, сухавата-афіцыйны.*

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі, калі дадатковае адценне непаўнаты якасці выражаецца ў складаным прыметніку прыслоўнай асновай, у прыватнасці асновай *счырвана- (счырван-)*.

*Захад* *с ч ы р в а н а - р у ж о в ы; дзень пахован ужо ім, бы замёрлі яго словы на крыжы на залатым* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Ступіў наш дзядзька крокам смелым,*

*ідзе к стылу, што быў пабліжай, да барады* *с ч ы р в о н а-р ы ж а й* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Агоньчык колер свой мяняе і* *с ч ы р в а н-ж о ў т ы* *блеск прымае* (там жа).

У гэтай катэгорыі прыметнікаў, як і ў папярэдняй, першая аснова далучаецца да другой пры дапамозе злучальнага галоснага **а**.

Тып жывы і вельмі прадуктыўны, асабліва ў мове мастацкай літаратуры і ў вусных стылях.

### *Прыметнікі, якія суадносяцца са словазлучэннямі няпэўна-колькасных лічэбнікаў з прыметнікамі або назоўнікамі і прыслоўяў з прыметнікамі або дзеясловамі*

§ 592. Найбольш часта ў якасці першай асновы такіх прыметнікаў ужываюцца словы *мала, многа, шмат, лёгка, глыбока, доўга, скора, хутка* і некаторыя іншыя. Першая аснова ў складзе гэтых прыметнікаў служыць звычайна для ўдакладнення або для ўзмацнення значэння, выражанага другой асновай, хоць у радзе выпадкаў другая аснова не існуе ў якасці самастойнага слова: *малавядомы, маласвядомы, маларухавы, маларухомы, маласакавіты, маласапраўдны, малаістотны, малазаможны, малапісьменны, малакультурны, маламаёмасны, малапаспяховы, малакроўны, малалесны, малалетні, малалікі, малалюдны, маласільны, маласольны, малазямельны, малавопытны, малатурботны, малашэрсны, малаімаверны, маларослы, маластойкі, малатрывалы, малазразумелы, малазнаёмы, малапатрабавальны, малапераканальны, маларазважлівы, малаклапатлівы, малацямлівы, маласпажыўны, маласпрыяльны, малаўжывальны, малавыразны, малапрадуктыўны, маларазвіты; мнагадзетны, мнагаснежны, мнагаатамны* (фіз.), *мнагапланавы, мнагагранны, мнагаводны, мнагаплодны* (бат.), *мнагацветны* (бат.), *мнагашпіндэльны* (тэхн.), *мнагаступенны; шматгадовы, шматфазны* (электр.), *шматскладовы* (лінгв.), *шматразцовы* (тэхн.), *шматматорны* (тэхн.), *шматклетачны* (біял.), *лёгкапраходны, легкаплаўкі, лёгкавыканальны, лёгкавыпарвальны, лёгказасваяльны, лёгказамяняльны, лёгкапранікальны; глыбокашаноўны, доўгацярплівы, скарацечны, скарастрэльны.*

Тып жывы і надзвычай прадуктыўны.

### *Прыметнікі, якія суадносяцца са словазлучэннямі прыслоўя або няпэўна-колькаснага лічэбніка і дзеепрыметніка або дзеяслова*

§ 593. Да ліку слоў гэтай групы належаць, па-першае, прыметнікі, якія ўтвораны шляхам непасрэднага злучэння прыслоўя і дзеепрыметніка, і, па-другое, прыметнікі, якія суадносяцца з дзеяслоўна-прыслоўнымі словазлучэннямі (дзеяслоў пры гэтым набывае форму дзеепрыметніка): *высокаадукаваны, вышэйадзначаны, вышэйназваны, вышэйпададзены, вышэйпаказаны, вышэйпамянёны, вышэйпрыведзены, вышэйсказаны, вышэйстаячы, ніжэйадзначаны, ніжэйназваны, ніжэйпададзены, ніжэйпамянёны, ніжэйпералічаны, ніжэйпрыведзены, ніжэйсказаны; доўгаіграючы, доўгачаканы, скоравысыхаючы, хуткарэжучы, паўторнарогдзячая, глыбокапаважаны, лёгкаранены, лёгкаўзброены, цяжкаўзброены, густацёрты* (аб фарбах), *добраўпарадкаваны, густанаселены, рэдканаселены, узаемаабумоўлены, хітрасплецены, часоваабавязаны, малаабгрунтаваны, малаабдуманы, малаадукаваны, малаакрэслены, малаасветлены, малавызначаны, малавывучаны, малакваліфікаваны, малапранаезджаны, маланаселены, малапаношаны, малапатрыманы, малапрасолены, малапрыстасаваны, маласпрактыкаваны, малазаселены, маладасведчаны, малаезджаны, маласпрыяючы* (побач з *маласпрыяльны*), *малапаспяваючы* (пед.).

Некаторыя прыметнікі, у прыватнасці прыметнікі з першай асновай **нова-** (такога прыслоўя няма ў беларускай мове), утвараюцца па мадэлі разгледжаных вышэй слоў: *новаабраны (новавыбраны), нававыдадзены, нававынайдзены, нованароджаны, нованаселены, новапабудаваны, новаспечаны, новастораны, новаўведзены, новаўтвораны, новапрыбыўшы* і інш.

Заўвага 1. Прыметнікі *мёртванароджаны, слепанароджаны* суадносяцца з дзеяслоўна-прыметнікавымі словазлучэннямі *нарадзіцца мёртвым, нарадзіцца сляпым.*

Заўвага 2. Прыметнікі *залататканы, залатакованы* суадносяцца з дзеепрыметнікава-іменнымі словазлучэннямі *тканы золатам, каваны золатам.*

Тып жывы і прадуктыўны.

### *Складаныя прыметнікі, якія ўтвараюцца далучэннем да прыметніка або дзеепрыметніка слова* паў

§ 594. Слова **паў** (у мінулым гэта быў назоўнік) служыць для ўказання на тое, што пэўная якасць, абазначаная другой асновай, уласціва прадмету не поўнасцю, а толькі часткова (напалавіну): *паўавальны, паўаголены, паўадзеты, паўадкрыты, паўантрацытавы, паўаўтаматычны, паўафіцыяльны, паўбеспрацоўны, паўвандроўны, паўгалосны* (лінгв.), *паўголы, паўдзікі, паўжартаўлівы, паўжывы, паўзабыты, паўзакрыты, паўзаслонены, паўзачынены, паўільняны, паўкачавы, паўкваліфікаваны, паўкроўны* (с.-г.), *паўкруглы, паўлегальны, паўляжачы, паўмеханізаваны, паўмёртвы, паўмяккі, паўнасычаны, паўнатуральны, паўнепрытомны, паўпадвальны, паўпісьменны, паўпразрысты, паўпранікальны, паўпрафесіянальны* і інш. Параўн. таксама прыметнік *паўвогнеўстойлівы* са складанай другой асновай.

Заўвага. Некаторыя прыметнікі суадносяцца таксама з адпаведнымі складанымі назоўнікамі: *паўдзённы* (поўдзень), *паўвекавы* (паўвека), *паўгадавы* (паўгода), *паўкаланіяльны* (паўкалонія), *паўлітровы* (паўлітра), *паўмесячны* (паўмесяца), *паўмятровы* (паўметра), *паўправадніковы* (паўправаднік) і інш.

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

### *Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе словазлучэнняў назоўнікаў з залежнымі ад іх прыметнікамі (дзеепрыметнікамі)*

§ 595. Пры ўтварэнні гэтым спосабам складаных прыметнікаў першая (прыметнікавая) аснова далучаецца да другой (назоўнікавай) пры дапамозе злучальнага галоснага **а**, прычым другая аснова ў залежнасці ад марфалагічных асаблівасцей адпаведных назоўнікаў набывае або толькі канчатак прыметніка, або канчатак і пэўны прыметнікавы суфікс (часцей суфіксы **-ав-***ы*, **-ов-***ы*, **-н-***ы*):

а) *басаногі, белабароды, белабокі, белавалосы, белавокі, белавусы, белагаловы, белагруды, белагрывы, белазубы, белакрылы, беланогі, беластволы, белатвары, белацелы, блакітнавокі, бледнатвары, брытагаловы, быстравокі, быстраногі, вастраносы, вастралісты, вастракрылы, вастразубы, вастрадзюбы, вастравухі, вастравокі, вастраверхі, вастратвары, вастрахвосты, высакастволы, вузкатвары, вузкалобы, вузкалісты, вузкагруды, вузкагорлы, вузкагаловы, вялікагаловы, галаногі, голагаловы, гарбаносы, густавалосы, густалісты, даўгатвары, даўгарукі, даўганосы, даўганогі, даўгавухі, русагаловы, русавалосы, ружовашчокі, рыжабароды, рыжавусы, светлавокі, светлавалосы, сівавусы.*

Заўвага. Некаторыя словы, якія нагадваюць прыведзеныя вышэй складаныя прыметнікі, у сучаснай мове ўжо не маюць адпаведных сабе словазлучэнняў прыметнікаў з назоўнікамі; іх неабходна разглядаць як словы з апрошчанай асновай: *белакуры, бізарукі, белабрысы, даўгалыгі* (размоўн.), *лапавухі* (размоўн.), *чарнамазы* (размоўн.), *вірлавокі, клышаногі, валавокі.*

Асобна ў гэтым разрадзе складаных прыметнікаў стаяць некаторыя тэрміны з галіны хімічных навук (з другой асновай *-кісл-ы*): *азотнакіслы, азоцістакіслы, воцатнакіслы, вуглякіслы, лімоннакіслы, малочнакіслы, мыш'яковістакіслы, саліцылавакіслы, салянакіслы, сернакіслы, сернавацістакіслы, сярністакіслы, фосфарнакіслы, хромавакіслы, шчаўевакіслы.* Гэтыя прыметнікі суадносяцца з адпаведнымі іменнымі словазлучэннямі *азотная кіслата, саляная кіслата, фосфарная кіслата* і г.д.

Тып жывы і прадуктыўны.

б) *Доўгачасовы, доўгатэрміновы, круглагадовы, косавугольны* (матэм.), *караткахвалевы, даўгахвалевы, даўгавечны, дабрадушны, дабраякасны, густашэрсны, вузкадонны, вузкаплёначны, высакагорны, высакасортны, лёгкаматорны, буйнаплодны, буйнапанельны, буйназярністы, беласнежны, далёкаўсходні, левабаковы, левабярэжны, шырокарадковы, шырокаэкранны, чужаземны, чырванасцяжны, чыстагатунковы, чыстапародны, чыстасардэчны, усходнеславянскі, прыродазнаўчанавуковы, старажытны* (параўн. словазлучэнне *старое жыццё*).

Асобна стаіць прыметнік *галаштанны* (размоўн.), паралельна з якім не існуе суадноснага словазлучэння *голыя штаны.*

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

### *Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе словазлучэнняў лічэбнікаў з назоўнікамі*

§ 596. Пры ўтварэнні складаных прыметнікаў з лічэбнікава-назоўнікавых словазлучэнняў першае слова (лічэбнік) набывае звычайна форму роднага склону, а да другой асновы (назоўніка) далучаецца або толькі канчатак, або канчатак і суфікс прыметніка (часцей суфіксы **-ав**-*ы*, **-ов**-*ы*, **-ев**-*ы*, **-н**-*ы*):

а) *аднабокі, аднавокі, аднавухі, аднагаловы, аднагорбы, адналісты, аднаногі, аднапальцы, аднаплечы, аднаполы* (біял.), *аднарогі, аднарукі, двухвокі, двухгорбы, двухкрылы, двухногі, двухпальцы* (заал.), *двухполы* (біял.), *двухрукі, двухрогі, двухгаловы, трылісты, чатырохрукі, чатырохпальцы, чатырохногі, чатырохлісты* (бат.), *чатырохгалосы* (муз.), *шасцігаловы, шасціногі, сямігаловы, сяміпальцы, дзесяціногія* (заал.), *стогалосы, тысячагалосы.*

Утварэнне складаных прыметнікаў разгледжанай групы аналагічна ўтварэнню прыметнікаў на базе словазлучэнняў прыметніка з назоўнікам (гл. § 595).

Тып жывы і прадуктыўны.

б) *Аднаактовы, аднаатамны* (фіз.), *аднабаковы, аднавалентны, аднабортны, аднавёславы, аднавосевы, аднагадовы, аднагалосны, аднагучны, аднадзённы, аднапалубны, аднаполюсны, аднакватэрны* (параўн. таксама *манатонны*), *першабытны, першагатунковы, першакласны, першакурсны, першарадны, першаразрадны, першародны, першачарговы, двухатамны* (фіз.), *двухаблічны, двухгранны, двухвосевы, двухвінтавы, двухкамплектны, двухчленны* (матэм.), *двухфазны* (электр.), *другачарговы, другаразовы, другакласны, трохактовы, трохбаковы, трохбальны, трохвугольны, трохгадзінны, трохзменны, трохпялёсткавы* (бат.), *трохствольны, трэцеразрадны, трэцеступенны, трэцясортны, чатырохмесячны, чатырохгадзінны, пяцізначны, пяціпавярховы, пяцітонны, шасцістаронні, сямімільны, сямірублёвы, васьмістопны, васьміпудовы, дзесяцікласны, дваццаціgранны, трыццацігадовы, саракавёдзерны, саракаградусны, статысячны, трохсотгадовы, тысячатонны.*

Пры ўтварэнні прыметнікаў гэтай групы лічэбнікі *два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, адзінаццаць — дзевяцьсот* набываюць форму роднага склону. Лічэбнікі *адзін, першы* далучаюцца да

наступнай асновы ў форме *адна, перша*, а лічэбнік *трэці* — у форме *трэце (трэця)*.

Па асаблівасцях утварэння асобна стаяць складаныя прыметнікі *дваюрадны, траюрадны, двудушны, дваяшлюбны, дваякавыпуклы* (параўн. *дваякаўвагнуты* — фіз., *дваякадыхальныя* — заал.), *трыкутны*.

Заўвага 1. У прыметніку *аднаспальны* другая частка суадносіцца з дзеясловўнай асновай *спа-* (параўн. словазлучэнні *спаць аднаму, адзін спіць*).

Заўвага 2. Другая частка прыметніка *аднастайны* з дзеясловам *стаяць* у сучаснай мове ўжо не суадносіцца; гэты прыметнік у адносінах да сучаснай словаўтваральнай сістэмы мае апрошчаную аснову.

Заўвага 3. У прыметніках *першанароджаны, першародзячая* (медыц.), *першадрукаваны* другая частка (дзеепрыметнік) суадносіцца з адпаведнымі дзеясловамі: *нарадзіцца, (на)радзіць, друкаваць*.

Заўвага 4. У слове *трыадзіны* лічэбнік *тры* спалучаецца з прыметнікам *адзіны*.

Тып жывы і прадуктыўны.

Асобна неабходна адзначыць складаныя прыметнікі, якія суадносяцца са словазлучэннем лічэбніка *паўтара (паўтары)* з назоўнікамі ў форме роднага склону: *паўтарагадовы* (паўтара года), *паўтарамесячны* (паўтара месяца), *паўтараметровы* (паўтара метра), *паўтаратонны* (паўтары тоны).

Тып жывы і прадуктыўны.

## *Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе словазлучэнняў займеннікаў з іншымі часцінамі мовы*

§ 597. У залежнасці ад таго, з якімі часцінамі мовы і якія займеннікі спалучаюцца ў працэсе ўтварэння складаных прыметнікаў, можна вылучыць:

1. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі займеннікаў з назоўнікамі: *іншаземны, іншародны, іншапляменны, іншанацыянальны, іншамоўны, іншакраінны, іншагародні, своекарыслівы, своекоштны, своечасовы, тагасветны, тагачасны, усебаковы, усямерны, усясветны, усенародны, усерасійскі, усебеларускі, усеўкраінскі, усесаюзны, усеславянскі*.

Асобна стаіць прыметнік *самавольны*, паралельна з якім не існуе словазлучэння *сама воля*, і прыметнікі *самаадвольны, своеасаблівы, усемагутны, усеагульны*, у якіх займеннікі злучаны непасрэдна з прыметнікамі *адвольны, асаблівы, магутны, агульны* (параўн., аднак, выраз *усё агулам*).

Прыметнікі *іншадумны, іншасказальны*, відаць, трэба суадносіць з прыслоўна-дзеяслоўнымі словазлучэннямі (параўн.: *інакш думаць, інакш сказаць*).

Заўвага 1. Прыметнік *свавольны* ўтварыўся суфіксальным спосабам ад складанага назоўніка *сваволя* (параўн. таксама дзеяслоў *сваволіць*).

Заўвага 2. Прыметнік *сяголетні* (сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры як дыялектызм) утваран суфіксальным спосабам ад складанага прыслоўя *сяголета*.

Заўвага 3. Прыметнікі *штовячэрні, штогадзінны, штогадовы (штогодні), штодзённы, штомесячны, штохвілінны* утвораны суфіксальным спосабам ад складаных прыслоўяў *штовечар, штогадзіны, штогод, штодзень, штомесяц, штохвіліны*. Па гэтаму ж тыпу ўтварыліся і прыметнікі *штосекундны, штосутачны, штотыднёвы* (патэнцыяльна магчыма ўжыванне і адпаведных прыслоўяў).

Падтып жывы і прадуктыўны.

2. У асобны тып можна вылучыць прыметнікі, утвораныя ад словазлучэнняў, у якіх займеннік ужываецца ў форме ўскосных склонаў з прыназоўнікам: *патойбаковы, паўсямесны, паўсядзённы* (параўн. *па той бок, па ўсіх месцах, па ўсіх днях*).

Падтып малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны.

3. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі займеннікаў з дзея-

словамі. Ад дзеяслова ў такіх выпадках утвараецца прыметнік або дзеепрыметнік, якія выступаюць у якасці другой часткі слова:

а) *самаахвярны, самаакупны, самабытны, самавыхаваўчы, самагубны, самадзейны, самазагаральны, самазамыкальны, самазапальны, самазарадны, самакіравальны, самаходны, самалюбівы (самалюбны), саманадзейны, самападавальны, самапальны, самаплаўкі, самаробны, самадзельны, самародны, самарушны, самасейны, самаскідальны, самаўзбудны* (фіз.), *самаўзгаральны, самаўладарны, самаўладны, самаўпраўны, самаўстаноўны* (тэхн.), *самачынны, сябелюбівы (сябелюбны)*; параўн. таксама прыметнік *самастойны*, які ўжо не суадносіцца са словазлучэннем *сам стаіць; усеабдымны, усеаб'ёмны, усёахопны, усяведны, усёдаравальны, усёпаглынальны, усёпажыральны, усёпранікальны, усяедны*.

Падтып жывы і прадуктыўны.

б) *самааддалы, самаздаволены, самазаспакоены, самазваны, самазаспакоены, саматканы* (параўн. таксама фалькл. *самабраны*), *самаўлюбёны, самаўпэўнены; самадзеючы, саманаразаючы* (тэхн.), *самапішучы, самарэгіструючы* (тэхн.), *самарэгулюючы* (тэхн.), *усеперамагаючы* (побач з менш пашыраным *усеперαможны*).

Падтып жывы і прадуктыўны.

## Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе словазлучэнняў назоўнікаў з назоўнікамі

§ 598. Найбольш часта складаныя прыметнікі гэтага тыпа ўтвараюцца ад іменных словазлучэнняў з родным склонам, якія звычайна суадносяцца непасрэдна з дзеяслоўнымі словазлучэннямі (параўн. *нарыхтоўка сена — нарыхтоўваць сена — сенанарыхтовачны*): *вагонарамонтны, паравозарамонтны, суднарамонтны, турбарамонтны, жалезапракатны, лістапракатны, металапракатны, рэйкапракатны, сталепракатны, трубапракатны, бавоўнанарыхтоўчы, воўнанарыхтоўчы, дрэванарыхтоўчы, збожжанарыхтоўчы, корманарыхтоўчы, лесанарыхтоўчы, мясанарыхтоўчы, шэрсценарыхтоўчы, яйцанарыхтоўчы, воўнаапрацоўчы, глебаапрацоўчы, ільноапрацоўчы, дрэваапрацоўчы, жалезаапрацоўчы, кормаапрацоўчы, каноплеапрацоўчы, лесаапрацоўчы, металаапрацоўчы, нафтаперапрацоўчы, рыбаапрацоўчы, шэрсцеапрацоўчы, шоўкаапрацоўчы, дрэваапрацоўчы, бавоўнаўборачны, ільноўборачны, каноплеўборачны, торфаўборачны, рудапрамывачны, збожжаздатачны, пуцеўкладачны, птушкаадкормачны, сталеразлівачны, збожжаўборачны, паравозазборачны; водапад'ёмны* (параўн. *пад'ём вады*), *вуглепад'ёмны* (горн.), *рудапад'ёмны* (тэхн.), *збожжагандлёвы* (параўн. *гандаль збожжам*), *хлебагандлёвы, рыбагандлёвы, кнігагандлёвы; воданапорны*.

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

Акрамя разгледжаных прыметнікаў, ёсць невялікая група прыметнікаў, якія ўтвараюцца ад іменных словазлучэнняў з родным склонам, не суадносных з дзеяслоўнымі словазлучэннямі: *ветрасілавы* (параўн. *сіла ветру*), *парасілавы* (тэхн.), *энергасілавы* (тэхн.), *злабадзённы, пескаструменны*. Асобна стаіць прыметнік *параконны* (ад *пара коней*).

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

Некаторыя прыметнікі суадносяцца з іменнымі словазлучэннямі, у якіх залежнае слова мае форму творнага склону: *кірпаносы (нос кірпай), кліналісты* (бат. — *ліст клінам*).

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

Даволі часта адбываецца ўтварэнне прыметнікаў шляхам злучэння двух незалежных назоўнікаў, напрыклад: *галенаступнёвы (голень і ступня), гліна-саламяны (гліна і салома), дымагарны (дым і гар), краевугольны (край і вугал), крухмала-патачны (крухмал і патака), нікеле-хро-*

*мавы (нікель і хром), мяса-сальны (мяса і сала), тлушча-малочны (тлушч і малако), зернебабовы (зерне і боб), тазасцегнавы (таз і сцягно), хлебабулачны (хлеб і булкі), рабоча-сялянскі (рабочы і селянін).* Першая састаўная частка гэтых прыметнікаў далучаецца да другой пры дапамозе злучальных галосных **а, е,** другая ж частка набывае суфікс і канчатак прыметніка.

Тып жывы і прадуктыўны.

### *Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе словазлучэнняў з прыметнікам у ролі галоўнага слова*

§ 599. Складаныя прыметнікі гэтай катэгорыі можна разбіць на некалькі тыпаў.

1. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннем прыметніка *падобны* з залежным ад яго назоўнікам у вінавальным склоне з прыназоўнікам *на;* прыметнік у гэтым выпадку з'яўляецца другой часткай складанага слова, аснова назоўніка далучаецца пры дапамозе злучальных галосных **а, е,** а прыназоўнік апускаецца: *адзёрападобны* (медыц.), *алеепадобны, верацёнападобны, валікападобны, варападобны, бочкападобны, вілападобны, вогнепадобны, воласападобны, вуглепадобны, вугрападобны, газападобны* (фіз.), *гарбузападобны, гноепадобны, громападобны, гронкападобны, грушападобны, грэбенепадобны, долатападобны, дрэвападобны, дыскападобны, дугападобны, жабападобны, каметападобны, карытападобны, кашападобны, кіселепадобны, клінападобны, конусападобны, кроплепадобны, кубападобны, лейкападобны, лінзападобны* (анат., фіз.), *лопасцепадобны, малпападобны, мохападобны* (бат.), *міндалепадобны, пылападобны, уліткападобны* (анат.), *цестападобны, шарападобны, янотападобны* (заал.).

У некаторых выпадках прыметнікі гэтага тыпа маюць паралельныя ўтварэнні з другой часткай *-відны,* якая па сваіму значэнню нагадвае суфікс: *амёбавідны* (заал.), *шчытавідны* (анат., лінгв.), *чарпалавідны* (анат., лінгв.). Аднак у сучаснай мове заўважаецца тэндэнцыя да замацавання ў якасці адзінай нормы слоў з другой часткай *-падобны.*

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

2. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі прыметнікаў *здольны, прыдатны* з родным склонам залежнага назоўніка з прыназоўнікам *да* (апошні апускаецца пры ўтварэнні складанага слова): *абараназдольны, баяздольны, дзеяздольны, жыццяздольны, крэдытаздольны, працаздольны, падатказдольны, патэнтаздольны* (юрыд.), *плацежаздольны* (гандл.), *праваздольны* (юрыд.), *ворывапрыдатны* (с.-г.); параўн. таксама прыметнік *электранейтральны.*

Тып жывы і прадуктыўны, аднак лексічна небагаты.

3. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі прыметнікаў *агульны, карысны, неабходны* з залежнымі ад іх назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *для* (апошні апускаецца пры ўтварэнні складанага слова): *агульнагарадскі* (параўн. *агульны для горада), агульнадзяржаўны, агульназаводскі, агульнафабрычны, агульнапартыйны, агульнасялянскі, агульнанародны, агульнарэспубліканскі, агульнасаюзны, агульнанацыянальны, агульнасусветны, агульнарускі, агульнабеларускі, агульнаславянскі, агульнаеўрапейскі, агульнакітайскі, агульначалавечы.*

Слова *агульны* можа злучацца з асновамі прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. У такіх складаных прыметніках яно звычайна ўзмацняе і ўдакладняе значэнне другой часткі: *агульнавядомы, агульназразумелы, агульнадаступны, агульнаўжывальны, агульнапашыраны, агульнапрызнаны, агульнапрыняты, агульнараспаўсюджаны, агульнаўстаноўлены* і інш.

Тып жывы і прадуктыўны.

4. Даволі шырока складаныя прыметнікі ўтвараюцца таксама на базе іншых відаў словазлучэнняў з прыметнікамі ў ролі галоўнага слова, напрыклад з прыметнікамі *ўстойлівы, бяспечны (небяспечны), трывалы: вогнеўстойлівы, водаўстойлівы, жыццеўстойлівы, марозаўстойлівы, засухаўстойлівы, зімаўстойлівы, ракаўстойлівы, светаўстойлівы, цеплаўстойлівы, холадаўстойлівы; вогненебяспечны,* параўн. *выбуханебяспечны, сацыяльна небяспечны; вогнетрывалы, водатрывалы, горачатрывалы, кіслотатрывалы, марозатрывалы, цеплатрывалы* і інш.

Тыпы жывыя і прадуктыўныя.

5. Малапрадуктыўныя тыпы складаюць такія прыметнікі, як *верагодны, мэтазгодны, жыццядзейны, жыццярадасны, сярэднясутачны, радыёактыўны.*

## *Прыметнікі, якія ўтвараюцца на базе дзеяслоўна-іменных словазлучэнняў*

§ 600. У залежнасці ад таго, на базе якіх дзеяслоўна-іменных словазлучэнняў фарміруюцца складаныя прыметнікі, можна вылучыць наступныя іх віды.

1. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі пераходных дзеясловаў з залежнымі ад іх назоўнікамі ў форме вінавальнага склону. У якасці першай часткі такіх прыметнікаў выступае іменная аснова, якая далучаецца да другой пры дапамозе злучальных галосных **а, е, я,** а ў якасці другой часткі — аддзеяслоўны прыметнік з адпаведнымі суфіксам і канчаткам (у радзе выпадкаў другая частка не ўжываецца як самастойнае слова, а выступае ў якасці своеасаблівай словаўтваральнай марфемы): *аўтамабілебудаўнічы, вагонабудаўнічы, станкабудаўнічы, трактарабудаўнічы, электравозабудаўнічы* (параўн. таксама *энергабудаўнічы); вугляносны, газаносны, джаланосны* (заал.), *залатаносны, камфараносны, кветаносны* (бат.), *крывяносны, металаносны, меданосны, нафтаносны, пладаносны, срэбраносны, шэрсцяносны, яданосны; вершазнаўчы, глебазнаўчы, заканазнаўчы, кіназнаўчы, краязнаўчы, літаратуразнаўчы, мастацтвазнаўчы, мовазнаўчы, музеязнаўчы, прыродазнаўчы, тэатразнаўчы, усходазнаўчы; заканадаўчы; законадарадчы* (юрыд.); *масларобчы; вустрыцаводчы, жывёлаводчы, кукурузаводчы, лесаводчы, насеняводчы, раслінаводчы, рыбаводчы, садаводчы, тытуняводчы* (параўн. таксама *буракаводны, ільнаводны, пладаводны, пчалаводны, рыбаводны, шаўкаводны); авечкагадоўчы, аленегадоўчы, жывёлагадоўчы, козагадоўчы, конегадоўчы, курагадоўчы, зверагадоўчы, птушкагадоўчы, свінагадоўчы; здароўеахоўны, глебаахоўны, лесаахоўны, полеахоўны* (параўн. таксама прыметнік *ветраахоўны*, які суадносіцца са словазлучэннем *ахоўваць ад ветру); зерняедны, машкаедны, насякомаедны, траваедны, рыбаедны, раслінаедны* (заал.); *водалюбівы, дзеталюбівы, міралюбівы, працалюбівы, праўдалюбівы, светалюбівы* (бат.), *цеплалюбівы* (параўн. таксама паралельныя ўтварэнні *дружалюбны, карысталюбны, міралюбны, праўдалюбны, цеплалюбны); кроватачывы, слёзатачывы; добразычлівы; злапамятлівы; бавоўнаачышчальны, бавоўнапрадзільны, водазмяшчальны, водаачышчальны, водаразмеркавальны, водачарпальны, воўнатрапальны, вуглеабагачальны, вуглеачышчальны* (горн.), *вуглепадавальны, вугледрабільны, вузлавязальны* (тэхн.), *глебаўтваральны, гноевылучальны* (медыц.), *гораўтваральны, гукапераймальны, дноачышчальны* (тэхн.), *жалезаплавільны, жыццесцвярджальны, канавакапальны, кроваспыняльны, мочавыдзяляльны, паветранагнятальны, паркалефарбавальны, словаўтваральны* (лінгв.), *слінавыдзяляльны* (фізіял.), *шкловыдзімальны, шоўкааддзяляльны* (заал.), *шоўкаматальны* і інш.

Да разгледжаных груп складаных прыметнікаў адносяцца таксама словы, другой часткай якіх з'яўляюцца дзеепрыметнікі: *водарэгулюючы, гукаправодзячы, металарэжучы* (побач з *металарэзны*), *кармаздабываючы, кіслотаўтвараючы* (побач з *кіслотатворны*), *плодавыганяючы* (медыц.) і інш.

У радзе выпадкаў прыметнікі, якія могуць быць успрыняты як складаныя словы разгледжанага тыпа, суадносяцца адначасова з дзеяслоўна-іменнымі словазлучэннямі і са складанымі назоўнікамі, утворанымі шляхам злучэння іменнай і дзеяслоўнай асноў: *васкабойны* (воск біць, васкабой), *вадазліўны* (ваду зліваць, вадазліў), *вуглявозны* (вугаль вазіць, вуглявоз), *гуказапісны* (гук запісваць, гуказапіс), *землякопны* (зямлю капаць, землякоп), *звералоўны* (звяроў лавіць, звералоў), *клеяварны* (клей варыць, клеявар), *масларобны* (масла рабіць, маслароб), *мылаварны* (мыла варыць, мылавар), *рудакопны* (руду капаць, рудакоп), *дажджамерны* (дождж мерыць, дажджамер), *трубаправодны* (трубамі праводзіць, трубаправод), *шкларэзны* (шкло рэзаць, шкларэз) і інш.

Тып надзвычай прадуктыўны і лексічна багаты.

2. Прыметнікі, суадносныя з дзеяслоўнымі словазлучэннямі, у якіх залежны назоўнік мае форму іншых ускосных склонаў (часта з прыназоўнікам): *цэнтраімклівы* (механ.), *цэнтрабежны* (механ.), *дымамаскіравальны, газагартавальны, грэбенечасальны* (тэкст.), *гідракапіравальны* (тэхн.), *водалячэбны* (медыц.), *кумысалячэбны, электралячэбны, радыёвяшчальны, светакапіравальны, тэлевымяральны, электрадаільны, электраасвятляльны, электракапіравальны, электрадажджавальны, электрахаладзільны, электраўзрыўны, электрасталеплавільны, электранагравальны, электрапад'ёмны; мараплавальны, паветраплавальны, мараходны водапаліўны, свабодамысны, родадапаможны* (медыц.), *богаслужэбны, членараздзельны.*

Сюды прымыкаюць складаныя прыметнікі, другой часткай якіх з'яўляюцца дзеепрыметнікі: *верацярпімы, водадзейнічаючы* (мех.), *млекакормячыя* (субст.), *мэтаімкнёны, мэтанакіраваны, тэрмаэлектрарухаючы, электрарухаючы.* Асобна стаіць прыметнік *горназдабываючы* (параўн. словазлучэнне *горная здабыча).*

Тып жывы і прадуктыўны.

3. Прыметнікі, суадносныя са словазлучэннямі дзеяслова з назоўнікам, якія канструктыўна падобны да неразвітых двухсастаўных сказаў: *водапранікальны* (параўн. *вада пранікае*), *газапранікальны, паветрапранікальны, паранепранікальны, пыланепранікальны, цепланепранікальны, галавакружны, суднаходны* і інш.

Тып жывы і прадуктыўны.

## НАЦІСК У ПРЫМЕТНІКАХ

§ 601. Усе прыметнікі характарызуюцца нерухомым націскам, гэта значыць месца націску прыметнікаў не мяняецца ў залежнасці ад змены іх граматычных форм.

Варыянтнасць націску наглядаецца толькі ў некаторых прыметніках, прычым у адных выпадках яна абумоўлена сэнсавымі адрозненнямі прыметнікаў, а ў другіх — узаемадзеяннем сістэмы націску літаратурнай мовы з акцэнталагічнымі асаблівасцямі мясцовых гаворак народнай мовы.

### *Націск у невытворных прыметніках*

§ 602. Большая частка невытворных прыметнікаў мае націск на корані: *бóрзды, бóсы, брáвы, бýры, бы́стры, вéшчы* (устар.), *вóглы* (абл.),

*во́стры, го́жы, го́лы, го́рды, дзі́кі, до́бры, ду́жы, жо́ўты, ка́ры, кво́лы, кру́глы, ла́сы, лы́сы, мё́зены, мі́лы, мо́кры, му́дры, ні́цы, пе́шы, по́лы, пра́вы, про́сты, пры́кры, пэ́ўны, п'я́ны, ро́зны, ро́ўны, ру́сы, ры́жы, рэ́звы, све́жы, све́тлы, сі́ні, ско́ры, сме́лы, сму́глы, стро́гі, стро́мы, сы́ты, тлу́сты, хво́ры, хі́жы, хі́тры, хму́ры, хра́бры, це́сны, цё́плы, ці́хі, цэ́лы, ча́сты, чо́рны, чы́сты, шу́стры, шчо́дры, шчы́ры, шы́зы, шэ́ры, я́ркі, я́сны; вясё́лы, дасу́жы, дзябё́лы, мацё́ры, удо́вы* і інш.

Невялікую групу складаюць невытворныя прыметнікі з націскам на канчатку: *благі́, глухі́, густы́, жывы́, круты́, крывы́, прамы́, малы́, пусты́, рабы́, руды́, скупы́, сухі́, сыры́, тугі́, тупы́, худы́, чужы́, вараны́, малады́, халасты́* і некаторыя іншыя.

Некаторыя невытворныя прыметнікі маюць варыянтны націск — на каранёвым складзе і на канчатку: *до́ўгі — даўгі́* (пры перавазе першага варыянта), *сі́вы — сівы́* (пры перавазе першага варыянта), *то́ўсты — таўсты́* (пры перавазе першага варыянта), *ко́сы — касы́, цвё́рды — цвярды́* (другі варыянт дыялектны) і інш.

*Змрок д о́ ў г а й асенняй ночы дрыжэў ад агнёў* (К. Ч о р н ы. Максімка). *Д о́ ў г і я палосы з адбіткам рам наўкось перасякалі вуліцы* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *У кустах лазіў густы змрок... пасылаў д а ў г і я свае цені да самай дарогі* (К. Ч о р н ы. Забойства). *Кароткая песня, а гора д а ў г о́ е. Пакрыліся косы жанчын сівізною* (П. П а н ч а н к а. Песня пра чатыры магілы). *Ліст д а ў г і́ я пішу на звычайнай паперы* (А. К у л я ш о ў. Ліст з палону). *Скора, скора дзьмухне холад, снег пасыпле з с і́ в ы х хмар* (Я. К о л а с. Пад шум ветру). *Там да с і́ в а е сяброўкі голуб с і́ в ы буркаваў* (М. Л у ж а н і н. Галубы). *У добрым калгасе бліз Нёмна с і в о́ г а я знаў аднаго каваля маладога* (П. Б р о ў к а. Каваль). *Шумлівазвонны волат Нарач калышыцца ў с і в о́ й імгле* (У. Д у б о ў к а. Браніслава). *Залацістыя валасы ільснілі дзвюма т о́ ў с т ы м і косамі, якія спускаліся ніжэй паясніцы* (П. П е с т р а к. Дзіця). *Пагабляваныя т а ў с т ы́ я бярвенні яшчэ былі жоўтыя і пахлі смалой* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *А навала шуміць, і шуміць, і не моўкне, дождж ліецца халодны, сякучы і к о́ с ы* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам). *Б'е трава высокая, к а с а́ я* (А. К у л я ш о ў. Шэршні). *...Падлюга як апеpазаў па галаве нечым ц в я р д ы́ м, я і скруціўся на месцы* (П. П е с т р а к. Гараць вёскі). *Ц в ё р д ы м марацкім крокам падышла Марыля да камандзіра атрада* (А. К у л а к о ў с к і. Марскія шляхі).

Наяўнасць варыянтнага націску ў разгледжаных прыметніках тлумачыцца галоўным чынам уплывам на літаратурную мову жывых народных гаворак, якія маюць свае асаблівасці націску. У літаратурную пісьмовую мову гэтыя асаблівасці пранікаюць пераважна праз размоўныя стылі і мастацкую літаратуру.

У некаторых выпадках рознамясцовы націск з'яўляецца сродкам сэнсавай дыферэнцыяцыі прыметнікаў, параўн.: *нё́мы* «дзікі», «роспачны» і *нямы́* «безгалосы», «бязмоўны», «бязгучны»; *ўда́лы* «ўдачны», «які добра ўдаўся», «трапны» і *ўдалы́* «маладзецкі», «адважны», «зухаваты», «хвацкі», «заліхвацкі».

*Дзе песні чуюцца — там віўся н ё́ м ы лямант* (П. Г л е б к а. Якубу Коласу). *Гаспадарскі н ё́ м ы голас па ўсім полі праімчаў* (П. Б р о ў к а. Кацярына). *Сялянскія ўсе манаткі пeратрасаюць для паноў... Галосіць вёска ў н ё́ м ы голас...* (У. Д у б о ў к а. Браніслава). *Цішыня, цішыня... Ды такая н я м а́ я, што калі не прывык, ты пачуеш над краем сэрца кожнага крык* (П. Г л е б к а. Партызаны). *Калыша водклікі н я м ы́ прастор* (М. М а ш а р а. Летні вечар). *У д а́ л ы пачатак вясны змяніўся халадамі* (Я. К о л а с. На ростанях). *... Байсак быў у лагодным настроі пасля ў д а́ л а й вылазкі на шашу* (М. Л ы н ь к о ў. Века-

помныя дні). *Таксама і з Чангарскай дывізіі ў д а л ó й сюды з'явілася іх восем наступнаю вясной* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай). *Жарты ... песні чуваць у д а л ó й грамады* (М. Ч а р о т. Касавіца).

### *Націск у вытворных прыметніках*

§ 603. У вытворных (прыставачных, суфіксальных і прыставачна-суфіксальных) прыметніках націск можа знаходзіцца або на ўтвараючай аснове, або на суфіксе, або на канчатку, прычым неабходна адзначыць, што адзінствам націску характарызуюцца не ўсе словаўтваральныя тыпы, г. зн. прыметнікі з адным і тым жа суфіксам або прыстаўкай і суфіксам могуць мець націск і на ўтвараючай аснове, і на суфіксе, і на канчатку. У залежнасці ад таго, дзе пераважна знаходзіцца націск, вылучаецца дзве найбольш агульныя акцэнталагічныя групы вытворных прыметнікаў: а) прыметнікі з націскам пераважна (або выключна) на ўтвараючай аснове; б) прыметнікі з націскам пераважна (або выключна) на суфіксе.

### Прыметнікі з націскам на ўтвараючай аснове

#### *Націск у прыставачных (несуфіксальных) прыметніках*

§ 604. У гэтых прыметніках націск падае звычайна на каранёвы склад, г. зн. прыстаўка не ўплывае на месца націску: *азíмы, бязбóкі, бязбрóвы, бязвóкі, бязвýсы, бязвýхі, бязглýзды, бяззýбы, бязлíсты, бязмóзгі, бязнóгі, бязнóсы, бязрóгі, бязрýкі, бяскóнцы, бяскры́лы, бяспáльцы, бяспóлы, бясхвóсты, задóўгі* (размоўн.), *замáлы* (размоўн.), *заслáбы* (размоўн.), *зацяжкі* (размоўн.); *прамýдры, раскóсы* і інш.

У прыставачных прыметніках *задарагí* (размоўн.), *замалады́* (размоўн.) націск, як і ў адпаведных непрыставачных прыметніках, знаходзіцца на канчатку.

#### *Націск у суфіксальных і прыставачна-суфіксальных прыметніках*

§ 605. У прыметніках, суфікс якіх супадае з канчаткам, націск знаходзіцца звычайна на каранёвых складах і адпавядае націску таго слова (назоўніка), ад якога ўтворан прыметнік: *бядáчы, жабрáчы, прарóчы, чалавéчы, патрыя́ршы* (устар.), *кабéчы* (абл.), *хлапéчы, вужáчы, вóўчы, гадзю́чы, сабáчы, сайгáчы, хамя́чы.*

У некаторых прыметніках гэтага тыпа, у прыватнасці ў прыметніках *авéчы, варóжы, сірóчы, заéчы* (абл.), націск не адпавядае націску назоўнікаў, ад якіх яны ўтварыліся, параўн.: *аўцá, вóраг, сіратá, зáяц.*

У прыметніку *свíны* націск падае на канчатак.

§ 606. У прыметніках з суфіксамі **-ав**-*ы*, **-яв**-*ы*, **-ляв**-*ы*, **-ев**-*ы* націск звычайна знаходзіцца на ўтвараючай аснове: *áктавы, бáзавы, бáйкавы, бóлевы, вóнкавы, вóсевы, вýсцевы, гýмавы, дáхавы, зрóкавы, квéткавы, кісцевы, клáсавы, клýбневы, кóркавы, лéкавы, лíсцевы, лíчбавы, лóжкавы, лóкцевы, мáкавы, мáрлевы, мáсавы, пíрасткавы, плéсневы, скрóневы, хмáравы, хмéлевы, цéневы, я́блыневы; аблóгавы, абрóцевы, абрýсавы, бавóўнавы, вясёлкавы, гадзíннікавы, далóневы, лíчы́нкавы, павéрхавы, падмýркавы, рамóнкавы, фасóлевы, чарóтавы, чарэ́шневы, язмíнавы; абрыкóсавы, адвячóркавы, журавíнавы; алізары́навы, ацэтылéнавы, пеніцылíнавы, піраксілíнавы* і інш.

Аналагічна гэтаму на ўтвараючай аснове націск знаходзіцца і ў многіх прыставачна-суфіксальных прыметніках: *бязрóтавы, бязрэ́йкавы, бясклáсавы, бясквéткавы* (субст.), *бясплáнавы, бяссэ́нсавы, даклáсавы, міжрóдавы, міжцэ́хавы, надглéбавы, надглóткавы, надклáсавы, надшáх-*

*тавы, падло́кцевы, падва́хтавы, падвё́славы, падглё́бавы, падгло́ткавы, падло́пасцевы, падно́гцевы, падскро́невы, падску́ркавы, падсэ́рцавы, прырэ́йкавы, прырэ́чышчавы.*

Заўвага 1. Прыметнік *стэпавы* ў мове мастацкіх твораў часам ужываецца з націскам на суфіксе (**-о́в-***ы*) і на канчатку (**-ав-***ы́*), што з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*Шлях, што далей — шырай і шырай у стэпо́вых прасторах раскінуты* (М. Чарот. Прыпяць). *Там хлапцу стэпо́вы вецер твар бязлітасна пячэ* (П. Броўка. Паэма пра Смалячкова). *Цераз чорныя ночы стэпо́выя паскакалі адважныя ўсе* (П. Броўка. Праз горы і стэп). *Ён свайго асядлаў стэпаво́га каня, асядлалі сваіх і сябры, і радня* (У. Дубоўка. Дзяўчына і кілім).

Заўвага 2. Прыметнікі *ліпавы, гумавы* ў мове мастацкіх твораў часам ужываюцца таксама з націскам на суфіксе (**-о́в-***ы*): *ліпо́выя кветкі* (П. Броўка. Добры друг); *трубка гумо́вая* (там жа).

Невялікую групу складаюць прыметнікі з націскам на суфіксе **-ав-***ы*, **-яв-***ы*: *дзіра́вы, іржа́вы, кара́вы, карта́вы, кашча́вы, крыва́вы, кульга́вы, кучара́вы, курча́вы, піскля́вы, плюга́вы, прышча́вы, руха́вы, сліня́вы, ціка́вы, цямра́вы* (абл.), *яскра́вы, шапля́вы, парахня́вы.* Сюды ж адносяцца ўсе прыметнікі на **-ав-***ы* (**-кав-***ы*), **-яв-***ы*, **-ляв-***ы*, **-арляв-***ы*, якія выражаюць адценні непаўнаты якасці: *бяля́вы, гарка́вы, жаўтля́вы, зелянка́вы, кісля́вы, кругля́вы. маладжа́вы, руса́вы, саладжа́вы, сіня́вы, смугля́вы, сухарля́вы, танкля́вы, трухля́вы, хударля́вы, чарня́вы, ялка́вы.*

Заўвага. Прыметнік *ласкавы* мае варыянтны націск — на ўтвараючай аснове і на суфіксе, прычым паміж гэтымі варыянтамі часам адчуваюцца сэнсавыя адрозненні: *ла́скавае слова*, але *ласка́вае дзіця, ласка́вы чалавек, ласка́вая сястра, ласка́вае цяля, ласка́вае кацяня.*

Параўнальна невялікую групу складаюць прыметнікі на **-ав-***ы*, **-яв-***ы* з націскам на канчатку: *агняві́, берагаві́, браняві́, бакаві́, бараві́, быляві́, бытаві́, віхраві́, вузлаві́, галасаві́, гадаві́, гасцяві́, гнаяві́, гнездаві́, грузаві́, групаві́, гукаві́, дажджаві́, дамаві́, дзелаві́, ездаві́, жарнаві́, звенняві́, каласаві́, кальцаві́, кармаві́, касцяві́, краяві́, кругаві́, крыжаві́, куляві́, курсаві́, лакцяві́, легкаві́, ліставі́, мазгаві́, нізаві́, нуляві́, паляві́, паяві́, перадаві́, пескаві́, плытаві́, прызаві́, пускаві́, пуцяві́, радаві́, руляві́, саляві́, светаві́, сілаві́, слаяві́, снегаві́, ствалаві́, страяві́, тыпаві́, хараві́, цеплаві́, цыклаві́, чарнаві́, штармаві́, штыляві́, шчытаві́, яраві́* і інш.

Некаторыя прыметнікі гэтай групы маюць варыянтны націск — на канчатку і на суфіксе (**-ов-***ы*) пры перавазе першага варыянта: *веснаві́ — вясно́вы, грунтаві́ — грунто́вы, гуртаві́ — гурто́вы, дармаві́ — дармо́вы, канцаві́ — канцо́вы* і інш. Параўн.: *веснаві́ павеў* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі); *на веснаву́ю сяўбу* (П. Галавач. Пра паэму «Над ракою Арэсай» Янкі Купалы); *веснаво́е шалясценне* (П. Панчанка. Сустрэча); *вясно́вых лістоў* (П. Броўка. Беларусь); *вясно́вая зарніца* (М. Машара. З песень аб хлебе).

Прыметнік *штармавы* часам ужываецца з націскам на ўтваральнай аснове — *што́рмавы.*

*Я ў далячынь гляджу і без тугі вітаю што́рмавыя хвалі* (М. Танк. Чарнаморскія чайкі); *што́рмавай парой* (М. Танк. Востраў Цьета).

Прыметнік *прыфрантавы* часам ужываецца з націскам на суфіксе (**-о́в-***ы*): *прыфранто́вая вёска* (П. Панчанка. Ноч перад святам).

Месца націску ў прыметніках *відаві́* і *відавы, сураві́* і *суро́вы* абумоўлена сэнсавымі адрозненнямі гэтых слоў.

§ 607. У прыналежных прыметніках з суфіксамі **-аў, -еў** націск заўсёды знаходзіцца на аснове і адпавядае націску тых назоўнікаў, ад якіх яны ўтвораны: *Віктараў, Я́нкаў, Рыго́раў, Прако́паў, Анто́сеў, Аляксе́еў, Мікала́еў, Мака́ркаў, Пе́цькаў, То́леў, Ясеў.*

§ 608. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-лів-***ы*, націск падае пераважна на ўтвараючую аснову: *адыхо́длівы, даве́рлівы,*

*дапы́тлівы, выно́слівы, ве́тлівы, здага́длівы, згаво́рлівы, ке́млівы, прадба́члівы, прадпрые́млівы, пераб́орлівы, пако́рлівы, прарэ́злівы, пранізлівы, паго́длівы, спага́длівы, засу́шлівы, уду́шлівы, уго́длівы, пада́тлівы* і інш.

Меншую групу складаюць прыметнікі з націскам на суфіксе **-лів**-*ы: блудлі́вы, гаварлі́вы, гутарлі́вы, кплі́вы, руплі́вы, куслі́вы, гуллі́вы, мітуслі́вы, мігатлі́вы, хлуслі́вы, жартаўлі́вы, сварлі́вы, імклі́вы, злаclі́вы, сарамлі́вы, вірлі́вы, дажджлі́вы, слязлі́вы, сіратлі́вы, жахлі́вы* і інш.

§ 609. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-чыв**-*ы*, націск заўсёды падае на аснову: *агля́дчывы, забы́ўчывы, запа́льчывы, прывя́зчывы, прылі́пчывы, ужы́ўчывы, усту́пчывы.*

§ 610. У пераважнай большасці прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-к**-*і*, націск падае на ўтвараючую аснову: *гла́дкі, гну́ткі, го́нкі, кро́хкі, па́лкі, па́хкі, сы́пкі, таро́пкі* і інш. (гл. прыклады ў § 507). Толькі ў некалькіх прыметніках націск знаходзіцца на канчатку: *гаваркі́, гаманкі́, трапяткі́, ядкі́* (размоўн.).

З а ў в а г а. Як адхіленне ад літаратурнай нормы ў мове мастацкіх твораў пад уплывам паўночна-заходніх гаворак з націскам на канчатку сустракаюцца часам таксама прыметнікі *вузкі́, мяккі́* і інш.

*Воддаль чарнеюць в у з к і я загоны, і валуны, і рыбацкія хаты* (М. Т а н к. Нарач). *Не новы тып, усім вядомы, ліпучы надта і м я к к і; усюды ён як быццам дома, — як караед які благі* (М. М а ш а р а. Падарожныя нататкі). *Да цябе любоў, павага — глыбі Влтавы, высь Градчанаў, вецер з гор м я к к і, вясняны* (П. Б р о ў к а. Яро!.. Яро!..).

Прыметнік *цяжкі* мае двухварыянтны націск — на аснове і на канчатку (з аднолькавай ступенню ўжывальнасці абодвух варыянтаў).

*Ланцуг няволі ц я́ ж к і м молатам разбілі мы на векі вечныя* (П. Г л е б к а. Слова перамогі). *Па баках дарогі жыта спее. Ц я́ ж к а е калоссе гнецца да зямлі* (П. Г а л а в а ч. Уцякач). *Дыханне Волкава было ц я́ ж к а е, гарачае* (І. Ш а м я к і н. У снежнай пустыні). *Не клялі мы ц я ж к о́ г а часу, а змагаліся з ім аддана* (У. Д у б о ў к а. Студэнт). *Паплывуць платы ц я ж к і я па рацэ сягоння* (М. Т а н к. Каламыйка). *Мне не забыць ц я ж к і х гадоў...* (П. Б р о ў к а. Лясы наддзвінскія). *Мы з пароды мужнай, працавітай, гартавалі нас ц я ж к і я бітвы* (П. П а н ч а н к а. Гэтак будзе). *Высока — ад самай падлогі аж да столі — за ц я ж к о́ й дарагой рамай зіхаціць кавалак сцяны* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах).

§ 611. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-ск**-*і* (**-цк**-*і*) і яго вытворных **-аўск**-*і*, **-інск**-*і*, націск звычайна знаходзіцца на ўтвараючай аснове: *бра́цкі, во́інскі, ку́харскі, ле́карскі, ле́ктарскі, ма́йскі, плы́тніцкі, пры́яцельскі, гро́дзенскі, лю́таўскі, трэ́стаўскі; асве́тніцкі, вадзі́цельскі, выкла́дчыцкі, грама́дскі, дружба́цкі, друка́рскі, засту́пніцкі, кава́льскі, канду́ктарскі, нава́тарскі, наста́ўніцкі, пасла́нніцкі, раме́сніцкі, слуха́цкі, сусе́дскі, цясля́рскі, шахцёрскі, кузба́саўскі, пастэ́раўскі, рабко́раўскі, сельско́раўскі, юнко́раўскі, рэнтге́наўскі, спарта́каўскі, эзо́паўскі; агаро́дніцкі, агіта́тарскі, актыві́сцкі, аспіра́нцкі, вынахо́дніцкі, выхава́льніцкі, гаспада́рскі, грамадзя́нскі, дэлега́цкі* і інш.

У разгледжанай групе прыметнікаў з гэтымі суфіксамі націск адпавядае націску назоўнікаў, ад якіх яны ўтвораны. Выключэнне складаюць адзінкавыя прыклады: *сяля́нскі (селянін), гвардзе́йскі (гва́рдыя), шляхе́цкі (шля́хта), галіцы́йскі (Галі́цыя), еўразі́йскі (Еўра́зія), кампане́йскі (кампа́нія), ліберы́йскі (Ліб́ерыя), інданезі́йскі (Інданэ́зія), валенсі́йскі (Вале́нсія), каліфарні́йскі (Каліфо́рнія), калумбі́йскі (Калу́мбія), міліцэ́йскі (мілі́цыя)* і некаторыя іншыя.

Прыметнік *заводскі* ўжываецца нярэдка таксама з націскам на канчатку: *завадскі́, завадско́га, завадско́му* і г. д.

Адрозненне ў націску прыметнікаў *лю́дскі* і *людскі́* звязана з сэнсавымі адрозненнямі паміж імі: першы прыметнік мае значэнне «добры», «сапраўдны», другі — значэнне «чалавечы».

*Л ю́ д с к а г а хлеба не бачылі людзі* (У. Д у б о ў к а. Крычаўская спакуса). *Л ю д с к о́ й не пачуеш гамонкі, не стукне там конь капытом* (Я. К у п а л а. Замчышча).

Некалькі прыметнікаў з суфіксам **-ск-***і* (**-аўск-***і*) маюць націск на канчатку: *гарадскі, данскі, кумаўскі, марскі, складскі, прыхадскі, фатаўскі, франтаўскі, хутарскі.*

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры першай палавіны XX стагоддзя прыметнік *марскі* ўжываўся звычайна з націскам на аснове.

*Блакітны змрок на хвалях м о́ р с к і х сышоў на сон далін і гор* (У. Х а д ы к а. Песні з поўдня). *Цёмна-сінія м о́ р с к і я хвалі ў салёнай купалі нас пене* (У. Д у б о ў к а. Што складаюць пра каханне вершы). *Прыпомніў ён горы і м о́ р с к і прыбой...* (П. Б р о ў к а. Шпак). *Мы падхапілі ўсе, да зор яе* [песню] *паднялі, і пакацілася яна, як м о́ р с к і вал* (П. Г л е б к а. Песня).

§ 612. У невялікай групе прыметнікаў з вытворнымі ад **-ск-***і* суфіксамі **-анск-***і* (**-янск-***і*), **-айск-***і*, **-ійск-***і* (**-ыйск-***і*) націск падае на гэтыя суфіксы: *гаіця́нскі, негрыця́нскі, лютэра́нскі, італья́нскі, малдава́нскі, перуа́нскі, амерыка́нскі, патрыцыя́нскі, рэспубліка́нскі, спарта́нскі, неапаліта́нскі, неамальтузія́нскі, піфагарэ́йскі, эпікурэ́йскі, судзе́йскі, еўрапе́йскі, алімпі́йскі, балты́йскі, мальты́йскі, камбаджы́йскі, капры́йскі, далмаці́нскі, сястры́нскі, мацяры́нскі* і некаторыя іншыя.

Націск на суфіксе маюць таксама прыметнікі на **-оўск-***і* (**-ёўск-***і*): *бацько́ўскі, барцо́ўскі, дзядо́ўскі, вучнё́ўскі, краўцо́ўскі, купцо́ўскі, ксяндзо́ўскі, жаніхо́ўскі, сыно́ўскі, сябро́ўскі, старцо́ўскі, шальмо́ўскі, папо́ўскі, дзяко́ўскі, парабко́ўскі, дняпро́ўскі, жыгулё́ўскі, крамлё́ўскі.*

Націск большасці разгледжаных вышэй прыметнікаў не адпавядае націску назоўнікаў, ад якіх яны ўтвораны. Адпаведнасць націску назіраецца толькі ў тых выпадках, калі прыметнік суадносіцца з асновамі назоўнікаў на **-анін, -анец,** якія маюць націск на суфіксе, параўн. *малдава́нін — малдава́нскі, італья́нец — італья́нскі, рэспубліка́нец — рэспубліка́нскі, спарта́нец — спарта́нскі.*

З а ў в а г а. Прыметнік *дзядоўскі* ў мове мастацкай літаратуры зрэдку сустракаецца таксама з націскам на ўтвараючай аснове.

*Ну дзе тут утрымацца! Мы імчымся, забыўшы пра «загібы» і «ўхілы», на звонкі голас д з е́ д а ў с к а й дуды* (П. П а н ч а н к а. Маладосць у паходзе).

§ 613. У прыметніках з суфіксамі **-н-***ы*, **-н-***і*, **-шн-***і* націск звычайна падае на ўтвараючую аснову: *а́збучны, а́ркушны, ба́ечны, ба́зісны, бра́тні, ве́ерны, ве́лічны, ве́рхні, ве́чны, во́льны, ву́гальны, вы́йгрышны, гло́тачны, гу́чны, да́льні, да́ўні, дба́йны, до́блесны, ё́лачны, жа́берны, жы́тні, і́мпартны, ка́зачны, ко́лішні, за́ўтрашні, зру́чны, кве́тачны, ко́нны; абве́сны, адмо́ўны, ако́нны, арце́льны, балко́нны, бура́чны; абаро́нны, бесстаро́нні, інжыне́рны, задуме́нны, арыгіна́льны, дысертацы́йны; адміністрацыйны, перпендыкуля́рны, акліматызацы́йны* і многія іншыя.

На ўтвараючай аснове знаходзіцца націск і ў прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-льн-***ы*, **-ельн-***ы*: *загараджа́льны, засцерага́льны, кляпа́льны, світа́льны, паі́льны, вяры́цельны* і інш.

З а ў в а г а 1. Прыметнікі *мурожны, дзіўны, смутны, будны, страшны* і некаторыя іншыя ў мове мастацкай літаратуры 20—40-х гадоў XX стагоддзя ўжываліся таксама з націскам на канчатку, што з'яўляецца адлюстраваннем асаблівасцей націску прыметнікаў у некаторых мясцовых гаворках.

*На ўсход і на захад, да цёмнага лесу граніц, лугоў м у р а ж н ы́ х дагараюць на сонцы пакосы* (М. Т а н к. Дарога). *Помню тонкі стан дзявочы, м у р а ж н ы́ я паплавы* (П. Г л е б к а. Вее вецер). *Я там хадзіў крыху шчаслівы, захоплены з дзівос д з і ў н ы́ х...* (М. Л у ж а н і н. Вадапад). *З вялікім землятрусам, д з і ў н ы́ м цяпер для нас, той першы ў Беларусі пачаў жыццё калгас* (М. Л у ж а н і н. Хадок). *Жадання часы мне ясна відны, абернем у свята мы дзень наш б у д н ы́* (Я. К о л а с. Адплата).

З а ў в а г а 2. Прыметнікі *ко́лішні, учара́шні* ў мове мастацкай літаратуры (асабліва 20—30-х гадоў) сустракаюцца таксама з націскам на другім складзе.

*Без рамантыкі, прыкрай і лішняй, і зусім непатрэбнай хвальботы адзначаем — батрак к а л і ш н і і навуку любіў і работу* (У. Д у б о ў к а. Студэнт). *Гэта будзе памятка жывая ўпартасці прыгнечаных к а л і ш н і х...* (У. Д у б о ў к а. Кругі). *Мара к а л і ш н я я стала ўжо явай* (П. Г л е б к а. У шчаслівай сям'і). *Пустыр закінуты к а-*

*лішні і той увесь зазеляней* (П. Глебка. Ягады). ... *Каб адплаціла злая глеба за наш калішні горкі пот...* (П. Броўка. Пачатак вясны). *Ідуць на новае змаганне сыны учо́рашніх рабоў* (П. Глебка. Арка над акіянам). ...*учо́рашнія словы Халімы* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі).

У даволі вялікай групе адыменных і аддзеяслоўных прыметнікаў з суфіксам **-н-ы** націск знаходзіцца на канчатку: *вушны́, грудны́, грыбны́, губны́, двайны́, дзвярны́, лясны́, мучны́, мясны́, начны́, пушны́, пячны́, ручны́, свіны́, спінны́, стальны́, трайны́, штабны́, штрафны́, астраўны́, валасны́, галасны́, галаўны́, імянны́, казырны́, карпусны́, крапасны́, лапушны́, нумарны́, патайны́, паязны́, паясны́, племянны́, пяцярны́, семярны́, скарасны́, чарапны́, чацвярны́, шасцярны́, сараматны́; грабны́, зварны́, заварны́, зліўны́, злучны́, змыўны́, ляпны́, паказны́, піўны́, разны́, скідны́, скупны́, спінны́, сплаўны́, спускны́, ссыльны́, сыпны́, сцяжны́, сшыўны́, шыўны́, абіўны́, абцяжны́, адбіўны́, адварны́, адкідны́, адкупны́, адпускны́, адразны́, адрыўны́, адстаўны́, адсыпны́, адступны́, выпускны́, вынасны́, выпісны́, вырабны́, выразны́, высыпны́, вытраўны́, выхлапны́, выцяжны́, вышукны́, выязны́, дапускны́, забіўны́, забяжны́, завадны́, заказны́, закладны́, закупны́, заліўны́, запісны́, запражны́, запускны́, застаўны́, захлапны́, заціскны́, зацяжны́, наварны́, нажыўны́, накідны́, накіпны́, наліўны́, намыўны́, наплаўны́, наплыўны́, напускны́, наразны́, нарыўны́, насыпны́, націскны́, нацяжны́, нашыўны́, падвазны́, падгібны́, падкупны́, падліўны́, падпісны́, падпускны́, падразны́, падрыўны́, падстаўны́, падсяўны́, падціскны́, падчапны́, падшыўны́, пад'язны́, пазыўны́, пакупны́, паліўны́, пасяўны́* і інш.

Заўвага. У мове мастацкіх твораў 20—40-х гадоў XX стагоддзя прыметнікі *начны́, зямны́, выхадны́, рачны́* і некаторыя іншыя сустракаюцца таксама з націскам на ўтвараючай аснове.

*Дрыжыць агонь, як песня жалю, дрыжыць агонь у цьме начной пад адзінокаю сасной, як плеск апошні рэ́чнай хвалі* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Старым скрыпам крыкнулі звеpы ў но́чнай цішы* (К. Чорны. Новыя людзі). *Сонца з вяршалін выцягвае сецcю но́чныя жахі і ноч-навальніцу* (У. Дубоўка. Два вершы). *І на прасторах зе́мнай кулі грымяць мажныя крокі...* (П. Глебка. Адзіная айчына). *Як толькі выхо́дны дзянёк настае, ён вуды і снасці збірае свае* (П. Глебка. Рыбак).

Прыметнік *буйны* сустракаецца з варыянтным націскам — на аснове і на канчатку, прычым у якасці літаратурнай нормы замацоўваецца другі варыянт, а першы варыянт з'яўляецца вынікам уплыву фальклорных твораў і паўночна-ўсходніх гаворак.

*Сёстры плачуць горка бу́йнымі слязамі: «Ой, Рыгор, Рыгорка! Што зрабіў ты з намі?»* (Я. Колас. Пахаванне). *Вольны брат, засявай палі, насыпай бу́йным зернем засек!* (П. Панчанка. Вызваленаму брату). *У чорных баразнах спіць бу́йны ўраджай. Гэй, трактар — жалезны мой конь, паспяшай...* (М. Танк. Песня трактароў). *Дробна-дробна шапацела груша-дзічка на ўзмежку поля, стракацелі ля дарогі кветкі брат-сястрыца, бу́йнага дзяцельніку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

*І шуршаць пяскі буйны́я, як жарства рачная* (Я. Колас. На ніве). ... *А сама слязу буйну́ю рукавом змахнула* (Я. Колас. Перад судом). *Вось і схлынулі хмары, і дождж пераціх, чуцен кропель буйны́х перазвон* (П. Панчанка. У навальніцу). *Пярэстая хмара ўзмахнула крыламі, халодныя кроплі буйно́га дажджу забомкалі тонка па гонтах над намі* (П. Глебка. Ноч у вайсковых лагерах). *Буйны́я антоны і слуцкія бэры, чарэшні і вішні былі за сталом* (П. Броўка. Беларусь).

Неабходна адзначыць, што ў такіх спалучэннях, як *буйныя ветры, буйная радасць, буйная сіла, буйны рост* прыметнік *буйны* мае націск звычайна толькі на аснове.

§ 614. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-чат-ы**, націск знаходзіцца пераважна на ўтвараючай аснове: *бярве́нчаты, гра-*

*бе́нчаты, кале́нчаты, палаві́нчаты, рэ́пчаты, рассы́пчаты, расплы́ўчаты, суста́ўчаты, сцябе́льчаты, фесто́нчаты.*

Толькі ў некаторых прыметніках гэтага тыпа націск знаходзіцца на суфіксе: *бугарча́ты, зубча́ты, кратча́ты.*

§ 615. У прыналежных прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-ін (-ын)**, націск знаходзіцца пераважна на аснове: *ба́бін, ма́мін, Ната́шын, Зо́сін, Та́нін, Мары́лін, Людмі́лін* і г. д.

Націск на суфіксе знаходзіцца толькі ў некаторых прыметніках гэтага тыпа: *сястры́н, дачлы́н.*

§ 616. У прыметніках, утвораных пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў **-еньк**-*і* (**-эньк**-*і*), **-аньк**-*і*, націск знаходзіцца пераважна на ўтвараючай аснове: *бе́ленькі, вы́зенькі, дро́бненькі, но́венькі, зялёненькі, высо́кенькі, чарня́венькі, страка́ценькі, ме́ньшанькі, прыго́жанькі, хі́транькі* і інш.

У некаторых прыметніках з гэтымі суфіксамі націск знаходзіцца на суфіксе: *даражэ́нькі, маладзе́нькі, старэ́нькі, гусце́нькі, крыве́нькі, мале́нькі.*

Варыянтны націск — на суфіксе і на аснове — адзначаецца ў такіх прыметніках, як *сі́венькі — сіве́нькі, мі́ленькі — міле́нькі* (фалькл.), і ў некаторых іншых.

§ 617. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-уч**-*ы* (**-юч**-*ы*), **-ач**-*ы* (**-яч**-*ы*), **-ўш**-*ы*, **-л**-*ы*, **-м**-*ы*, **-ім**-*ы*, **-ем**-*ы*, **-н**-*ы*, **-ен**-*ы*, **-т**-*ы*, суадносных з суфіксамі дзеепрыметнікаў, націск знаходзіцца пераважна на ўтвараючай аснове: *вя́жучы, зыхо́дзячы, ко́лючы, мы́слячы, нягаснучы, пі́шучы, пла́чучы, рэ́жучы, ця́гнучы, наспе́ўшы, вы́быўшы; ліня́лы, стая́лы, трыва́лы, збуцве́лы, пачарне́лы, устарэ́лы, пані́клы, пасо́хлы, сі́плы, хры́плы, міну́лы, чу́лы, сты́лы, бе́глы, вы́мерзлы, даро́слы, ро́слы, узнёслы; няве́дамы, любі́мы, радзі́мы, зна́чымы, магчы́мы, цярпі́мы, кіру́емы; друкава́ны, жада́ны, змо́раны, зла́джаны, ко́ваны, начы́таны, пе́шчаны, пе́рчаны; здаво́лены, кро́ены, ко́рмлены, пла́ўлены, умо́ўлены, упэ́ўнены, бі́ты, гну́ты, ко́латы, мя́ты, падця́гнуты, пракля́ты, разбі́ты, цёрты* і інш.

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры 20-х гадоў XX стагоддзя прыметнік *пракляты* часам ужываўся з націскам на першым складзе ўтвараючай асновы.

*Для гэтай п р о́ к л я т а й дзяўчыны падзяку не прыдумаў свет* (У. Д у б о ў к а. Браніслава).

Значна меншую групу складаюць прыметнікі з націскам на суфіксе: *бразгу́чы, дрыму́чы, жыгу́чы, зыбу́чы, ліню́чы, рашу́чы, траску́чы, бліску́чы, балю́чы, грыму́чы, ліпу́чы, неўміру́чы, скрыпу́чы, смярдзю́чы, рыпу́чы, шыпу́чы, гаю́чы, калю́чы, бягу́чы, вяду́чы, нясу́чы, паду́чы, паўзу́чы, пяку́чы, сяку́чы, стрыгу́чы, трасу́чы, цяку́чы, адстаю́чы, квіту́чы, дрыжа́чы, ляжа́чы, гара́чы, вісячы, звіня́чы, кіпя́чы, сядзя́чы, шыпя́чы, хадзя́чы, стая́чы; валача́шчы, валя́шчы, заваля́шчы, гуля́шчы, прапа́шчы, віду́шчы, невіду́шчы, заграбу́шчы, непіту́шчы, нездаля́шчы; вядо́мы, знаёмы, падазро́ны, праніклёны, цісне́ны, улюбёны* і некаторыя іншыя.

У некалькіх прыметніках з суфіксам **-л**-*ы* націск знаходзіцца на канчатку: *гнілы́, жылы́, пажылы́.*

### Прыметнікі з націскам на суфіксе

§ 618. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-ават**-*ы*, (**-яват**-*ы*), **-авіт**-*ы*, **-іт**-*ы*, **-ат**-*ы*, **-аст**-*ы* (**-яст**-*ы*), **-част**-*ы*, націск заўсёды знаходзіцца на гэтых суфіксах: *васпава́ты, вуглава́ты, дужава́ты, жвірава́ты, драбнава́ты, макрава́ты, сухава́ты, халаднава́ты, чарнава́ты, басаві́ты, дзелаві́ты, працаві́ты, сярдзі́ты, вуса́ты, наса́ты, хваста́ты, чуба́ты;*

*галіна́сты, віхра́сты, галава́сты, дупля́сты* і інш. (гл. прыклады ў § 497—501).

§ 619. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-ан**-*ы* (**-ян**-*ы*), **-мян**-*ы*, націск знаходзіцца пераважна на суфіксе: *валася́ны, ваўня́ны, вашча́ны, гліня́ны, крамя́ны, цагля́ны, канапля́ны, палатня́ны, палымя́ны, паслухмя́ны, духмя́ны, саламя́ны* і інш.

У некаторых прыметніках з гэтымі суфіксамі націск заўсёды знаходзіцца на канчатку: *дрывяны́, дрыгвяны́, земляны́, касцяны́, крывяны́, ледзяны́, лубяны́, ніцяны́, нутраны́, парцяны́, прасяны́, пруцяны́, скураны́, слюдзяны́, смаляны́, сурмяны́, травяны́, шарсцяны́, шкляны́*.

З націскам на канчатку ў мове мастацкай літаратуры часам ужываюцца таксама прыметнікі *берасцяны, медзяны, цагляны, цьмяны*.

*Світальны голас труб б е р а с ц я н ы́ х* (П. П а н ч а н к а. Маё і тваё маленства). *Той год адгарадзіў мяне сцяной... ад апекі ўсемагутнай м е д з я н о́ й капейкі* (там жа). *Радасны смутак агарнуў разам з м е д з я н ы́ м і косамі сонца* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Да самае позняй начы іграе старая шарманка. Вартуе пралёт ц а г л я н ы́, і дудкі высвістваюць спрытна, спачатку галосяць адны, а потым далучыцца скрыпка* (М. Л у ж а н і н. Шарманка). *Крыжуюцца, у бляску зіхцяць вадою іскрыстай каналы; наводдаль, як горы, стаяць будынкі ў ц ь м я н ы́ х пакрывалах* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам).

У прыметніку *тарфяны* націск звычайна знаходзіцца на канчатку, але разам з тым сустракаюцца выпадкі з націскам на суфіксе.

*Сцвярджаеце вы: на Палессі, на Піншчыне — т а р ф я́ н ы я залежы для прамысловасці* (П. П а н ч а н к а. Мая геаграфія).

У прыметніку *ядраны* націск падае звычайна на ўтваральную аснову — *я́драны*. Адзінкавыя адступленні ад гэтага правіла наглядаюцца толькі ў мове мастацкай літаратуры першай трэці XX стагоддзя.

*Жыта я д р а н о́ е вакол палавее* (Ц. Г а р т н ы. Мілы мне бясконца...). *Каб з кожнае нівы угору, пішчом, кіпеў ураджай масляністым зяленівам, каб гурт каласоў — чалавеку ў плячо, я д р а́ н ы х цяжкіх, як зялёныя венікі* (М. Л у ж а н і н. Над Волгай).

У прыметніку *вялізманы* (дыялектн.) націск звычайна знаходзіцца на першым складзе суфікса **-ізман**-*ы*.

*У змроку здаваліся з клёну лісты в я л і з м а н н ы м войскам кажанным* (У. Д у б о ў к а. Камсамолка Ганна). *Над змрочнаю кантораю в я л і з м а н ы стажар...* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам). *Там, пад рукою ударных брыгад, прастор ажыў неаглядны, в я л і з м а н ы: праменнай энергіі вадаспад ідзе на службу сацыялізму* (М. Л у ж а н і н. Над Волгай).

§ 620. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-арн**-*ы* (**-ярн**-*ы*), націск заўсёды падае на суфікс: *легенда́рны, дысцыпліна́рны* і інш. (гл. прыклады ў § 522).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры 30—40-х гадоў XX стагоддзя прыметнік *вялізарны* часам ужываўся таксама з націскам на першым складзе суфікса.

*У пыльным закуце, схіліўшы галаву, стаіць в я л і з а р н ы, чырвона-чорны, зубамі жоўтымі грызе-жуе траву...* (П. П а н ч а н к а. Зубр). *Перад вачмі пажар в я л і з а р н ы, густы, цяжкі ваенны дым* (П. П а н ч а н к а. Дарога вайны).

§ 621. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-эбн**-*ы*, **-есн**-*ы*, **-эўн**-*ы*, націск заўсёды знаходзіцца на суфіксе: *хвалёбны, ляча́бны, нябе́сны, душэ́ўны* і інш.

§ 622. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-ів**-*ы* (**-ыв**-*ы*), **-ін**-*ы* (**-ын**-*ы*), **-іўн**-*ы* (**-ыўн**-*ы*), **-ічн**-*ы* (**-ычн**-*ы*), націск знаходзіцца, як правіла, на гэтых суфіксах: *ільсці́вы, кастры́вы, праўдзі́вы; сакалі́ны, ваўчы́ны, звяры́ны, камары́ны, тхары́ны; агрэсі́ўны, прагрэсі́ўны, рамбі́чны, паэты́чны, дыпламаты́чны, механі́чны, аргані́чны, флегматы́чны* (гл. прыклады таксама ў § 502, 505, 527, 528).

§ 623. У большасці прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-іст-ы (-ыст-ы)**, націск знаходзіцца на суфіксе: *агнíсты, басíсты, валакнíсты, гары́сты, ганары́сты, галасíсты, дажджы́сты, зярнíсты, залацíсты, камянíсты, каласíсты, лясíсты, мясíсты, плячы́сты, скалíсты, дваíсты, траíсты* і інш. (гл. прыклады таксама ў § 506).

Аднак значную па колькасці групу складаюць таксама прыметнікі з суфіксам **-іст-ы (-ыст-ы)**, у якіх націск падае на ўтваральную аснову: *глéісты, глíністы, жы́лісты, задóрысты, кудзéлісты, каляíністы, маршчы́ністы, падзóлісты, парóдзісты, парóжысты, пéрысты, пéністы, пóрысты, пружы́ністы, развíлісты, скнáрысты, узóрысты, ухáбісты, фанабэ́рысты, я́місты; рашэ́цісты, сасýдзісты, слíзісты, парóшысты, залóзісты, азóцісты, брóмісты, ёдзісты, жалéзісты, хлóрысты, адры́вісты, закáцісты, залíвісты, захлёбісты, звíлісты, задзíрысты, надры́вісты, паклáдзісты, паралíвісты, развéсісты, раскíдзісты, расплы́вісты, учэ́пісты* і інш.

З а ў в а г а 1. Прыметнік *прамянíсты* звычайна мае націск на суфіксе. Аднак у мове мастацкай літаратуры (асабліва перыяду 30—40-х гадоў XX стагоддзя) ён сустракаецца часам і з націскам на ўтваральнай аснове. Параўн.: *Вы хочаце затуліць п р а м я н і с т ы лік расквітнейшай свабоды?* (Ц. Г а р т н ы. Над вялікімі магіламі). *Было гэта ўвосень. За ім на ўвесь шлях гарэў, развяваўся п р а м я н і с т ы сцяг* (П. Б р о ў к а. Чатыры шляхі). *Купала ў бронзавай велічы горда любуецца родным п р а м é н і с т ы м горадам* (П. П а н ч а н к а. Пад'язджаючы да Мінска).

З а ў в а г а 2. Прыметнік *мазолíсты* звычайна мае націск на ўтваральнай аснове. Нешматлікія адступленні ад гэтай нормы наглядаюцца толькі ў мове мастацкай літаратуры і ў размоўным стылі: *з рукі правай м а з а л í с т а й* (Я. К у п а л а. Пераклад з польскай «Варажбіткі» М. Канапніцкай); *м а з а л í с т а жменя* (Я. К у п а л а. Чым хата багата); *жменяй м а з а л í с т а й* (Я. К у п а л а. На пагранічны); *праз боль і стому м а з а л í с т ы х рук* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Векапомная восень).

§ 624. У прыналежных прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-оў (-ёў)**, і ў адносна-якасных прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-ов-ы (-ёв-ы)**, націск заўсёды знаходзіцца на суфіксе: *гаспадарóў, сталярóў, Васілёў; дубóвы, саснóвы, вераснёвы, хваёвы, тытунёвы* і інш. (гл. прыклады таксама ў § 491).

З а ў в а г а 1. У прыметніку *шáўковы* націск, як правіла, падае на суфікс, але ў мове мастацкай літаратуры ёсць выпадкі ўжывання гэтага прыметніка і з націскам на ўтваральнай аснове.

*Ты вясёлы ідзеш пасля ліўня да ш о́ ў к а в ы х руняў* (П. П а н ч а н к а. Юнак). *Стане поле каласіцца, ляжа ш о́ ў к а в ы м абрусам* (П. Б р о ў к а. Будзем сеяць, беларусы!).

З а ў в а г а 2. Прыметнік *пурпурóвы* ў мове мастацкай літаратуры 20-х гадоў XX стагоддзя часам ужываўся з націскам на ўтваральнай аснове.

*Залюбуюцца людзі на поступ, гэта сёння я сэрцам пасяг, і п у р п у́ р а в а й восені россып Беларусі збіраю ў пасаг* (П. Г л е б к а. Як раней).

З а ў в а г а 3. Прыметнікі *пуховы, садовы* ў мове мастацкай літаратуры ўжываюцца часам з націскам на канчатку — *пухавы́, садавы́*.

*Хусцінкамі п у х а в ы́ м і захуталі* [сцяжынкі] *плечы хвой* (П. Б р о ў к а. Аб тым, што ў думках...). *Праходзіць Ціт ў кружку сваім і чуе: з вецярком дыхнула пахам с а д а в ы́ м, капустай, агурком* (П. Б р о ў к а. Чырвон-гарадок).

З а ў в а г а 4. Прыметнікі *часóвы* і *чáсавы* адрозніваюцца сэнсавымі адценнямі: першы выступае ў значэнні «кароткатэрміновы», «непрацяглы», другі — у значэнні «мае адносіны да часу».

§ 625. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў **-озн-ы, -эзн-ы, -эльн-ы, -энн-ы, -эрн-ы, -орн-ы, -отн-ы, -оўн-ы, -очн-ы**, націск заўсёды знаходзіцца на суфіксе: *глыбóзны, шырачэ́зны, чытэ́льны, высачэ́нны, цяжэ́рны, ілюзóрны, цынгóтны, вярхóўны, каштóўны, адзінóчны* і інш. (гл. прыклады ў § 469—471, 473, 530—532, 534).

§ 626. У простых формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-ейш-ы (-эйш-ы)**, а таксама ў простых формах найвышэйшай ступені параўнання, утвораных пры дапамозе прыстаўкі **най-** і суфікса **-ейш-ы (-эйш-ы)**, націск звычайна знаходзіцца на суфіксе: *весялéйшы, даражэ́йшы, найраднéйшы, найдаражэ́йшы*. Аднак параўн.: *магýтнейшы, выдáтнейшы, галóўнейшы*.

У простых формах ступеней параўнання прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса **-ш**-*ы*, націск знаходзіцца на аснове: *лéпшы, малóдшы, гóршы.*

§ 627. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-аваценьк**-*і*, націск знаходзіцца на другім складзе суфікса: *рыжавáценькі, даўгавáценькі, белавáценькі.*

§ 628. У прыметніках, утвораных пры дапамозе памяншальна-ласкальнага суфікса **-енечк**-*і*, націск падае звычайна на першы склад суфікса: *маладзéнечкі, малéнечкі.* Аднак параўн.: *карóценечкі, бéленечкі, салóдзенечкі.*

§ 629. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса **-явеньк**-*і*, націск падае на першы склад суфікса: *бялявенькі, чарнявенькі.*

§ 630. У прыметніках, утвораных пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў **-юсеньк**-*і* (**-усеньк**-*і*), **-юсенечк**-*і* (**-усенечк**-*і*), націск падае на першы склад суфікса: *малю́сенькі, зялянюсенькі, раўню́сенькі, танюсенькі, цямню́сенькі; малю́сенечкі, раўню́сенечкі, ціхýсенечкі.*

§ 631. У прыметніках, утвораных пры дапамозе памяншальна-ласкальнага суфікса **-ютк**-*і*, націск падае на суфікс: *бялю́ткі, драбню́ткі, раўню́ткі, чысцю́ткі, яснюткі, цямню́ткі.*

§ 632. У прыметніках, утвораных пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў **-юпатк**-*і*, **-юпасеньк**-*і* (**-юпаценьк**-*і*), **-юпасенечк**-*і* (**-юпаценечк**-*і*), націск падае на другі склад суфікса: *малюпáткі, малюпáсенькі (малюпáценькі), малюпáсенечкі.*

§ 633. У прыметніку *невялічкі* націск падае на суфікс.

## Націск у кароткіх формах прыметнікаў

§ 634. У кароткіх формах прыметнікаў націск звычайна адпавядае націску поўных прыметнікаў, ад якіх утвараюцца гэтыя формы, параўн.: *ахвóч — ахвóчы, вінавáт — вінавáты, гатóў — гатóвы, гол — гóлы, сыт — сы́ты, дасýж — дасýжы, спакóен — спакóйны, вóлен — вóльны, здáцен — здáтны, згóдзен — згóдны, багáт — багáты, бéдзен — бéдны, пóвен — пóўны, слаб — слáбы, слáвен — слáўны, вялíк — вялíкі, блізак — блізкі, шырóк — шырóкі, свéцел — свéтлы, цёмен — цёмны, прыгóж — прыгóжы, дастýпен — дастýпны* і г. д.

Неадпаведнасць націску ў кароткіх формах націску поўных форм назіраецца толькі ў некаторых прыметніках, параўн.: *слабы́ — слаб, стары́ — стар, вясёлы — вéсел, дарагí — дóраг, малы́ — мал, хітры — хіцёр.*

## Націск у складаных прыметніках

§ 635. У складаных прыметніках націск знаходзіцца або толькі на другой частцы (*вечназялёны, густацёрты, малавядóмы, мнагаснéжны, мнагадзéтны, мнагажы́льны, шматгадóвы, шматразóвы, басанóгі, даўгавýхі, крывабóкі, аднаплéчы, двухгóрбы, двухрóгі, аднарóдны, аднамéрны, аднаспáльны, першаклáсны, першабы́тны, двухтóмны, двухдóльны, трохпáльцы, іншазéмны, самабы́тны, старамóдны* і інш.), або адначасова на другой частцы (асноўны) і на першай (дадатковы, пабочны) (*гандлѐва-пасажы́рскі, пераплѐтна-брашурóвачны, парнікòва-цяплíчны, вытвòрча-фінáнсавы, прэфіксàльна-суфіксáльны, тýрбарэактыўны, агніста-чырвóны, рабòча-сялянскі, мнòгакалярóвы, дòўгацярплівы, бròмістававадарóдны, азòтнакíслы, чатырòхвалéнтны, ільнòцерабільны* і інш.).

# ЛІЧЭБНІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ЛІЧЭБНІКУ

§ 636. Лічэбнік — часціна мовы, якая абазначае абстрактны лік, колькасць прадметаў або ўказвае на парадак прадметаў пры лічэнні.

Лічэбнікі, якія абазначаюць абстрактны лік і колькасць прадметаў, называюцца колькаснымі (*адзін, два, тры; дзесяць сталоў, дваццаць пяць кніг*). Лічэбнікі, якія ўказваюць на парадак прадметаў пры лічэнні, называюцца парадкавымі (*другі, трэці, чацвёрты; дваццаты год*).

Па саставу лічэбнікі падзяляюцца на простыя (*пяць, шэсць, сем*), складаныя (*дваццаць, трыццаць, пяцьдзесят*) і састаўныя (*дваццаць два, сто сорак пяць*).

§ 637. Большасць колькасных лічэбнікаў не мае граматычнага роду (за выключэннем слоў *два, дзве, тысяча* і некаторых іншых), у іх адсутнічае граматычная форма ліку, у асноўным (акрамя зборных лічэбнікаў) яны не маюць адцення прадметнасці, не могуць спалучацца з прыметнікамі (у выразах тыпу *два прыгожыя дамы* прыметнік адносіцца не да лічэбніка, а да назоўніка).

§ 638. Лічэбнікі неабходна адрозніваць ад назоўнікаў са значэннем ліку (*двойка, тройка, дзесятак, сотня*). Гэтыя назоўнікі змяняюцца па ліках (*двойкі, тройкі, дзесяткі, сотні*), маюць род, могуць мець пры сабе азначэнне: *Кожнай тройцы камандавалі: «Рукі ўгору, саскоквай!»* (К. Крапіва. «Я быў у Трасцянцы»). *Як непарушная скала над морам, стаіць над балотамі гэты маўклівы волат, аглядаючы неабсяжныя разлогі Пінскага Палесся на далёкія дзесяткі вёрст* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Назоўнікі з лікавым значэннем могуць самі ўступаць у спалучэнне з лічэбнікамі (*дзве тройкі*): *Жыў тут дзед Андрэй, яшчэ крэпак, дуж, хоць мінула другая трыццатка* (Я. Колас. Дуб).

Такія назоўнікі заўсёды кіруюць родным склонам: *Можа з дзесятак морквачак і вырваў* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Усё гэта служыла яму — пану, уладару палаца і сотняў навакольных вёсак...* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Лічэбнікі, якія ўжыты без назоўніка, указваюць на абстрактны лік (*два, пяць*), у лікавых жа назоўніках пры адсутнасці спалучэння з назвамі прадметаў на першы план выступае прадметнае значэнне або апрадмечанае значэнне ліку: *Я хаджу ад ганка к ганку; хто дасць хлеба, хто траяк* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Былі тут пасекі. Штогоду тут сотні бліжшага народу дзялянкі лесу карчавалі і на трацяк іх засявалі — капу да скарбу, дзве дадому...* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 639. У складзе колькасна-іменных спалучэнняў, а таксама самастойна лічэбнік у сказе можа быць:

а) дзейнікам: *Там работа ніколі не спыніцца: захварэе* ***адзін,*** *а на работу станучь* ***дзесяць*** (Я. Колас. Адшчапенец). *На ніжэйшых палатках пáрылася* ***двое*** (К. Чорны. Мяшчане ў густой пáры). ***Трыццаць пяць кіламетраў*** *— гэта не так далёка* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Чым новыя вёсны сустрэў ён і леты, як сонца свяціла яму з сінявы? І што ён убачыў тады? Пра гэта раскажа* ***дзесяты,*** *жывы* (А. Куляшоў. Хлопцы апошняй вайны).

б) Выказнікам: *Усё-такі два розумы, дзве галавы —* ***не адзін, не адна*** (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа).

в) Азначэннем: *Недалёка ад печы стаяла чорная дошка на* ***трох нагах*** (Я. Колас. Школа). *Я помню Маскву* ***сорак першага*** *года* (К. Буйла. 9 мая 1945 года).

г) Дапаўненнем: Надзя. *За каго ж ты мяне лічыш?* Валодзя. *За харошую дзяўчыну.* Надзя. *Якая можа кахаць* ***двух*** *адразу?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

д) Акалічнасцю: *Бульба, як арэхі, па* ***тры*** *пад карчом* (Я. Купала. Гутарка аб кепскім гаспадару). Зоя Кірылаўна. *А калі я яго бачу дома? У* ***восем*** *выходзіць, у* ***адзінаццаць*** *прыходзіць* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

§ 640. Пры лічэбніках *два, тры, чатыры* назоўнік ужываецца ў форме назоўнага склону множнага ліку *(два дамы, тры сцяны, чатыры акны).* Лічэбнікі ад *пяці* і вышэй у назоўным склоне патрабуюць пасля сябе роднага склону множнага ліку *(пяць сталоў, сто кіламетраў, пяцьсот вёдраў).* Ва ўскосных склонах лічэбнікі дапасуюцца да назоўнікаў *(двух чалавек, пяццю метрамі, аб ста рублях).*

Пры слове *пайтара* назоўнік стаіць у форме роднага склону адзіночнага ліку *(пайтара года, пайтара дня).*

Няпэўна-колькасныя лічэбнікі ў назоўным склоне патрабуюць тых жа склонаў назоўнікаў, што і лічэбнікі ад *пяці* і вышэй. Ва ўскосных склонах словы *некалькі, колькі, столькі* маюць такія ж формы, як прыметнікі, і дапасуюцца да назоўнікаў.

§ 641. Лічэбнікі *два, тры, чатыры* і назоўнікі, што да іх адносяцца, утвараюць колькасна-іменнае спалучэнне. Да такога назоўніка можа адносіцца прыметнік, які дапасуецца да яго ў ліку і склоне: *З іх* ***два найболей біты я, вядомыя шляхі*** (Я. Колас. Да тыдня беларускай культуры). *Толькі* ***дзве ніжнія галіны*** *значна патаўсцелі, сталі даўжэйшымі: адна з іх звесілася цераз плот на вуліцу, а другая — на прыгуменне* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* таксама звычайна маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *Соцкі і* ***два дзесяцкія*** *стаялі на двары, чакаючы начальства* (Я. Колас. Соцкі падвёў). Жлукта. *Мне трэба* ***два мяккія*** *да Ташкента* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Трапіліся на вочы тыя* ***два забітыя,*** *што ляжалі ля дзвярэй* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

Часам прыметнік пры назоўніку, які ўваходзіць у колькасна-іменнае спалучэнне, мае форму роднага склону множнага ліку: *Некаторыя з маладзейшых сядзелі на падаконніках, а* ***два пажылых мужчыны*** *прымасціліся ў кутку проста на падлозе* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Пабудаваў дом на чатыры пакоі, купіў* ***дзве пародзістых каровы*** (І. Мележ. Далёкае і блізкае). *Такі карцэр — гэта каменны мяшок у падвале, даўжынёю* ***два доўгіх крокі,*** *шырынёю — адзін крок* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Форма роднага склону множнага ліку пераважна ўжываецца, калі неабходна падкрэсліць не якасную, а колькасную прымету, а таксама калі прыметнік адносіцца да назоўніка жаночага роду.

У назоўніках, якія паходзяць ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў і ўваходзяць у колькасна-іменнае спалучэнне з лічэбнікамі *два, тры, ча-*

*тыры,* таксама часам ужываецца форма роднага склону множнага ліку: *Гэта было даўно — тады, як праходзілі па вёсцы д в а н е з н а ё м ы х і заклікалі ўсіх гнаць статак на панскае поле, займаць панскія лясы, зямлю* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Прэпазіцыйныя азначэнні, якія адносяцца да назоўнікаў з колькасна-іменных спалучэнняў, таксама маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *Намуляў ён рукі і плечы за н я ш ч а с н ы я д в а з л о т ы* (Я. К о л а с. Паўлюковы думкі). *Паручнік збялеў. Гэтак жа выглядалі і а с т а т н і я т р ы а ф і ц э р ы* (Э. С а м у й л ё н а к. Сон).

Форма роднага склону множнага ліку тут сустракаецца вельмі рэдка: *Трэба яшчэ дайсці да першай станцыі, а там яшчэ ц э л ы х ч а т ы р ы* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Хутка ляжа як належыць снег, трэба бярвенне падвозіць, а нам жа выпадае зрабіць нямала, толькі а с н о ў н ы х т р ы л і н і і* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Прэпазіцыйныя азначэнні, якія адносяцца да назоўнікаў, што залежаць ад лічэбнікаў *пяць* і вышэй, часам таксама ўжываюцца ў форме назоўнага склону множнага ліку. Пераважна гэта датычыць такіх слоў, як *першыя, другія, цэлыя, апошнія, астатнія, гэтыя, добрыя* і г. д.

*Па істоце г э т ы я ш э с ц ь р а з д з е л а ў — закончаны расказ* (Я. К о л а с. Як я пісаў аповесць «Адшчапенец»). *А п о ш н і я д в а ц ц а ц ь к і л а м е т р а ў прыйшлося ісці пехатой* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Гэта дарога была камяністай і няроўнай п е р ш ы я т р ы ц ц а ц ь г о д жыцця* (Я. К у п а л а. Прамова).

§ 642. Калі лічэбнік з назоўнікам, які адносіцца да яго, ужываецца з прыназоўнікам *па* ў размеркавальным значэнні, то ён (гэты лічэбнік) мае форму вінавальнага склону *(па пяць, па шэсць, па дзесяць яблыкаў раздаў).* Словы *тысяча, мільён* і г. д. у такіх выпадках маюць форму давальнага склону *(па тысячы, па мільёну).*

Лічэбнік *адзін* з прыназоўнікам *па* ў размеркавальным значэнні мае форму меснага склону: *У кожным з чатырох чоўнаў было п а а д н ы м мужчыне* (Я. М а ў р. Сын вады).

Зрэдку ў мове мастацкай літаратуры трапляюцца адступленні ад гэтай нормы: *Самалёты ляцелі п а а д н а м у, па тры, несучы свой смертаносны груз...* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

§ 643. Устойлівасць спалучэння лічэбніка з назоўнікам яскрава праяўляецца ў тым, што змена парадку іх прыводзіць да змены сэнсу. Калі назоўнік знаходзіцца перад лічэбнікам, то выраз указвае на лік не дакладна, а прыблізна.

*Цяпер ёй можна было даць г о д д в а ц ц а ц ь с е м* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *К р о к а х у п я ц і ззаду ішлі Здэнек і Арцём* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах).

Нярэдка прэпазіцыйны назоўнік мае форму роднага склону множнага ліку нават тады, калі пры гэтым лічэбніку ён павінен быць у іншай склонавай форме: *Паснедаўшы на скорую руку і ўзяўшы ў адну кішэню лусту хлеба, у другую ж м е н ь т р ы г а р о х у, Міхась памкнуўся ўжо ісці* (Я. К о л а с. Школа). *Генька Мухаў пісаў р а з о ў д в а* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *Праз некалькі хвілін ён ужо быў у лагу, у густой мяккай траве, на адгоне в ё р с т п а ў т а р ы ад могілак* (Ц. Г а р т н ы. Сымонка-інжынер).

Прыблізна лік указваецца і тады, калі да назоўніка адносіцца не адзін, а два лічэбнікі: *Завёў свіней, д з в е-т р ы а в е ч к і* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Добра ведаю старадаўнюю драўляную свісцёлку на ш э с ц ь-с е м галасоў* (З. Б я д у л я. Жалейка).

Для прыблізнага ўказання на лік часам ужываецца некалькі сродкаў: змена парадку слоў, спецыяльныя прыназоўнікі (*пад, з, каля, за* і інш.), форма склону назоўніка і г. д.: *Тым часам з дому для падмогі, саху забраўшы і нарогі, Антось прыехаў і на грэчку узняў м а р г о ў с а*

*д в а папару* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Гэтаму чалавеку было г о д з а с о р а к* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Ад месца выгрузкі да вялікага сяла было к і л а м е т р а ў п а д д в а ц ц а ц ь* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

## КОЛЬКАСНЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 644. Гэтыя лічэбнікі могуць абазначаць колькасць як спалучэнне пэўнага ліку адзінак *(два сталы, пяць пальцаў, дзесяць машын, дваццаць вагонаў)* або спалучэнне няпэўнага ліку *(многа сталоў, мала год, некалькі чалавек)*, колькасць як адно цэлае, як сукупнасць *(двое, трое, чацвёра)*, колькасць як пэўную частку цэлага *(пяць шостых)*.

У залежнасці ад гэтага колькасныя лічэбнікі падзяляюцца на чатыры групы: 1) пэўна-колькасныя; 2) няпэўна-колькасныя; 3) зборныя; 4) дробавыя.

### *Пэўна-колькасныя лічэбнікі*

§ 645. Л і ч э б н і к *а д з і н*. Лічэбнік *адзін* змяняецца па родах *(адзін дом, адно акно, адна вёска)*, ліках *(адзін дзень, адны суткі)* і склонах. Ён дапасуецца да назоўніка, з якім спалучаецца. Слова *адзін* у форме множнага ліку як лічэбнік выступае толькі пры назоўніках, якія не маюць формы адзіночнага ліку (*адны вароты*). У другіх выпадках *адны* ўжываецца ў функцыі іншых часцін мовы.

*У лузе было пуста і бязлюдна. А д н ы толькі драчы не ведалі супачынку не шкадавалі горла* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Пакінутыя а д н ы, вучні памаленьку пачыналі разварушвацца, знаёміцца* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *На дварэ было больш людзей. А д н ы ляжалі на зямлі, другія стаялі* (К. Ч о р н ы. Будзем жыць).

Слова *адны* пры назоўніках у форме множнага ліку суадносіцца са зборнымі лічэбнікамі *(адны суткі, двое сутак, трое сутак)*.

Паколькі назоўнік у форме адзіночнага ліку ўказвае на адзінкавы прадмет, слова *адзін* пры такіх назвах нярэдка апускаецца.

*Яно* [пісьмо] *прыйшло толькі яшчэ праз т ы д з е н ь* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Х в і л і н у ўсе маўчаць* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры).

У падобных выпадках лічэнне адбываецца наступным чынам: *стол, два сталы, тры сталы, чатыры сталы* і г. д., *кіламетр, два кіламетры, тры кіламетры* і г. д.

*Ідзеш к і л а м е т р, д в а і т р ы, праходзіш пусткі, пералескі* (Я. К о л а с. Загібелька). *Так лялалі д з е н ь, так кружылі д в а ды на хвою паблізу прыселі* (Я. К о л а с. Дуб). *Служыць т ы д з е н ь, служыць д в а* (К. К р а п і в а. Біблія).

Пры лічэнні без указання на прадмет слова *адзін* нярэдка замяняецца словам *раз (адзін раз, два разы, тры разы — раз, два, тры)*. Апошняе пачынае выступаць эквівалентам лічэбніка *адзін*.

*Р а з, д в а, т р ы. Р а з, д в а, т р ы. Камера цесная — тры крокі і — паварот* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Вынікі года падводзім — р а з; перспектыўныя планы складаем — д в а; да пасяўной рыхтуемся — т р ы* (А. Б я л е в і ч. Добрыя людзі).

Лічэбнік *адзін* не апускаецца тады, калі без яго змяняецца сэнс выразу або выраз становіцца бессэнсоўным, пры выражэнні множнасці праз адмаўленне адзінкавасці, пры назоўніку ў выразах з адмоўем, пры лагічным падкрэсліванні.

*Мікіта панура маўчаў, адчуваючы, што на ім цяпер ляжыць адказнасць, бо ён а д з і н м у ж ч ы н а ў хаце, ён галава* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Тут н е а д н о людское п а к а л е н н е сваіх байцоў за волю аддало* (З. Б я д у л я. Беларусь). *Н і а д з і н к а с е ц вясковы з ім*

*управіцца не мог* (Я. Колас. Батрак). *Лейтэнант некалькімі словамі перадаў загад: акружыць вёску, не выпускаць ні аднаго чалавека* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Я шчыра дружыў з ім адзін год і ненавідзеў яго потым трыццаць гадоў* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм).

Лічэбнік *адзін* скланяецца, як указальны займеннік *той*.

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. р. і | н. р. | ж. р. | |
| Н. | *адзін* | *адно* | *адна* | *адны* |
| Р. | *аднаго* | | *адной (аднае)* | *адных* |
| Д. | *аднаму* | | *адной* | *адным* |
| В. | як Н. або Р. | | *адну* | як. Н. або Р. |
| Т. | *адным* | | *адной (-ою)* | *аднымі* |
| М. | *(аб) адным* | | *адной* | *адных* |

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры як адлюстраванне асаблівасцей некаторых гаворак у родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку жаночага роду сустракаецца і канчатак **-эй** (у творным склоне і **-эю**):

*І яшчэ рабілі спробы ды дзівіліся нямала: ні аднэй нідзе мікробы — праспіртован дасканала* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос). *Не хацелася ёй аднэй астацца ў пустцы каля лесу...* (З. Бядуля. На каляды к сыну). *З упалых вачэй Аўдоцці каціліся па яе блядых шчоках адна за аднэю, зліваючыся, буйныя, як каралі, чыстыя слёзы* (Ц. Гартны. Распусніца). *Тады з аднэй авечкі я вoйну дам на свечкі табе, госпадзі!* (К. Крапіва. Новая екценія).

§ 646. Лічэбнік *два (дзве)*. Лічэбнік *два* ўжываецца пры назоўніках мужчынскага і ніякага роду, *дзве* — пры назоўніках жаночага роду. Адрозненне паміж формамі мужчынскага і ніякага роду, з аднаго боку, і формамі жаночага роду, з другога, захоўваецца і ва ўскосных склонах.

*І таму занепакоіўся нават, калі ўбачыў у аддаленні двух хлопцаў з клункамі за плячыма* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У гэтых агністых двух словах цудоўная сіла жыве* (Я. Колас. Чырвонай Арміі). *Андрэй з дзвюма ротамі пайшоў з боку ракі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *двума* | *дзвюма* |
| М. | *(аб) двух* | *дзвюх* |

Заўвага 1. Па рэформе правапісу 1933 года былі ўведзены адзіныя формы для ўскосных склонаў мужчынскага, ніякага і жаночага роду. У 1957 годзе гэта правіла было адменена.

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры часам знаходзяць адлюстраванне дыялектныя формы мужчынскага роду *двох, двом, двома,* аб *двох* і адпаведна для жаночага роду — *дзвёх, дзвём, дзвёма,* аб *дзвёх.*

*А пасля мяне і яшчэ двох засадзілі ў астрог* (Цётка. Лясы). *Быў надоечы сход і выбраў мяне і яшчэ двох суседзяў* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *А тады — уся зямля табе ў адным месцы ў дзвёх ці трох палосках, сенакос — тут жа пад бокам* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Апроч Сымонкі, яны мелі яшчэ дзвёх дзяўчатак: Параску — старшую і Марыльку — малодшую* (Ц. Гартны. Сымонка-інжынер).

§ 647. Лічэбнікі *тры, чатыры*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *тром* | *чатыром* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *трыма* | *чатырма* |
| М. | *(аб) трох* | *чатырох* |

Лічэбнікі *тры, чатыры* не маюць форм роду. У творным склоне гэтых лічэбнікаў захавалася форма парнага ліку: *Яны рухаюцца няспынна т р ы м а, ч а т ы р м а калонамі, колькі можа ўмясціць вуліца* (Я. К о л а с. Падарожжа ў Парыж).

§ 648. Л і ч э б н і к і *п я ц ь — т р ы ц ц а ц ь*. Лічэбнікі *пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, дваццаць, трыццаць, адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, семнаццаць, васемнаццаць, дзевятнаццаць* скланяюцца, як назоўнікі жаночага роду з мяккай асновай (тыпу *сенажаць, косць*).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяць* | *дваццаць* | *адзінаццаць* |
| Р. | *пяці* | *дваццаці* | *адзінаццаці* |
| Д. | *пяці* | *дваццаці* | *адзінаццаці* |
| В. | *пяць* | *дваццаць* | *адзінаццаць* |
| Т. | *пяццю* | *дваццаццю* | *адзінаццаццю* |
| М. | *(аб) пяці* | *дваццаці* | *адзінаццаці* |

З а ў в а г а. Пад уплывам народных гаворак у мове мастацкай літаратуры часам маюць месца формы творнага склону на **-ма** (узнікненне гэтых канчаткаў звязана з уздзеяннем форм лічэбнікаў *два, тры, чатыры — двума, трыма, чатырма*): *Тут стрэльбы нашы ў галавах — п я ц ь м а патронамі набіты, каб не было часамі швах, калі абмацаюць бандыты* (К. К р а п і в а. Шкірута). *Выдыгалі каля іх хлопцы — у картовых пакамячаных галіфэ, у тоўстых саматканых суконных фрэнчах з ш а с ц ь м а кішэнямі, некаторыя з чубамі, як у Алеся Галаскока* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца формы роднага і меснага склонаў на **-ёх**: *З ш а с ц ё х год не можа ён ужо расці на волі, а бярэцца за работу* (К. Ч о р н ы. Быльнікавы межы). *Як пачаў думаць аб гэтых в а с ь м ё х пакаленнях, аб вечнасці, яму жудасна зрабілася* (З. Б я д у л я. Салавей).

§ 649. Л і ч э б н і к і *п я ц ь д з е с я т — в о с е м д з е с я т*. У лічэбніках *пяцьдзесят, шэсцьдзесят, семдзесят, восемдзесят*, утвораных ад двух слоў (напр. *пяць + дзесят* (ад *дзесяць*), скланяюцца абедзве часткі.

| | |
|---|---|
| Н. | *пяцьдзесят* |
| Р. | *пяцідзесяці* |
| Д. | *пяцідзесяці* |
| В. | *пяцьдзесят* |
| Т. | *пяццюдзесяццю* |
| М. | *(аб) пяцідзесяці* |

Як відаць з прыведзенай парадыгмы, формы роднага, давальнага і меснага склонаў гэтых лічэбнікаў супадаюць.

§ 650. Л і ч э б н і к і *с о р а к, д з е в я н о с т а, с т о*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *сорак* | *дзевяноста* | *сто* |
| Р. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| Д. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| В. | *сорак* | *дзевяноста* | *сто* |
| Т. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| М. | *(аб) сарака* | *дзевяноста* | *ста* |

Лічэбнікі *сорак, сто* ў родным, давальным, творным і месным склонах маюць аднолькавыя формы (*сарака, ста*), лічэбнік *дзевяноста* мае ва ўсіх склонах адну і тую ж форму.

§ 651. Л і ч э б н і к і *д з в е с ц е — д з е в я ц ь с о т*. У складаных лічэбніках *дзвесце, трыста, чатырыста, пяцьсот, шэсцьсот, семсот, восемсот, дзевяцьсот* скланяюцца абедзве часткі.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *дзвесце* | *пяцьсот* |
| Р. | *двухсот* | *пяцісот* |
| Д. | *двумстам* | *пяцістам* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *двумастамі* | *пяццюстамі* |
| М. | *(аб) двухстах* | *пяцістах* |

Першая частка гэтых лічэбнікаў скланяецца такім жа чынам, як і ў выпадках, калі ўжываецца самастойна (*пяць, пяці, пяцццю*), у другой частцы ўжываюцца формы скланення лічэбніка *сто*.

Словы *дзвесце, трыста, чатырыста* ў вінавальным склоне могуць мець формы назоўнага (*узяў трыста рублёў*) або вінавальнага (*прывёў трохсот чалавек*) склону, словы *пяцьсот — дзевяцьсот* у вінавальным склоне маюць форму назоўнага склону (*узяў пяцьсот рублёў, прывёў пяцьсот чалавек*).

§ 652. Лічэбнікі *тысяча, мільён, мільярд*. Словы *тысяча, мільён, мільярд, більён, трыльён, квадрыльён* і іншыя маюць род (*цэлая тысяча рублёў, адпусцілі цэлы мільён рублёў*), змяняюцца па ліках (*тысяча — тысячы, мільён — мільёны*), ва ўсіх склонах кіруюць назоўнікам у форме роднага склону (*тысяча рублёў, тысячы рублёў, тысячу рублёў*), могуць мець пры сабе азначэнне (*другая тысяча рублёў*). Па гэтых прыметах яны набліжаюцца да назоўнікаў са значэннем ліку (*сотня*). Але *тысяча, мільён, мільярд* і іншыя ўваходзяць як частка ў састаўныя лічэбнікі (*дзве тысячы пяцьсот трыццаць восем*), і гэта зближае іх з лічэбнікамі. У складзе састаўных лічэбнікаў, а таксама калі пры словах *тысяча, мільён, мільярд*... ёсць назоўнік, яны з'яўляюцца лічэбнікамі. Без назоўніка, а таксама ў форме множнага ліку яны выступаюць як назоўнікі.

*У бібліятэцы сабрана тысяча трыста экземпляраў кніг* (Я. Колас. У калгасе «Новы шлях»). *Цэлых тысячу рублёў даў чырвонцамі за шэсцьсот золатам* (К. Крапіва. Вайна). *«Ты ведаеш, што ў нашай краіне штогод прыбывае тры мільёны насельніцтва» — перакануча казала яна сястры* (І. Грамовіч. Рына-Марына). *Мільёны людзей рабочых і сялян думаюць так, як і мы* (К. Чорны. На граніцы).

Да слоў *тысяча, мільён, мільярд* азначэнне дапасуецца ў родзе, ліку і склоне, выказнік — у ліку, асобе (іменны — у ліку, склоне, родзе).

Найбольш яскрава значэнне гэтых слоў як лічэбнікаў выступае, калі выказнік пры іх мае форму множнага ліку (*тысяча кніг ляжаць на паліцах бібліятэкі*).

Слова *тысяча* скланяецца, як назоўнік *ноч*, але ў форме творнага склону магчымы варыянт: *тысяччу* і *тысячай*.

Н. *тысяча*
Р. *тысячы*
Д. *тысячы*
В. *тысячу*
Т. *тысяччу* або *тысячай*
М. *(аб) тысячы*

Словы *мільён, мільярд, більён* і інш. скланяюцца, як назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку:

Н. *мільён*
Р. *мільёна*
Д. *мільёну*
В. *мільён*
Т. *мільёнам*
М. *(аб) мільёне*

### Няпэўна-колькасныя лічэбнікі

§ 653. Група лічэбнікаў, якія абазначаюць няпэўную колькасць, нешматлікая: *некалькі, столькі, колькі, гэтулькі, многа, нямнога, мала, шмат*. Зрэдку ў кантэксце дакладна называецца колькасць, на якую ня-

пэўна ўказваюць лічэбнікі гэтай групы. Аднак часцей за ўсё гэта няпэўнае абазначэнне колькасці так і застаецца без удакладнення.

*Старшыня адразу даў д в а ц ц а ц ь  п я ц ь  р у б л ё ў, а калі выберуць яго, то яшчэ, казаў, дасць г э т у л ь к і* (Я. Колас. Выбар старшыні). *Казюк захадзіў па зямлянцы, хоць разысціся там было цяжка — т р ы  к р о к і ўдоўж і  с т о л ь к і  ж упоперак* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Няпэўна-колькасныя лічэбнікі спалучаюцца з назвамі прадметаў, якія паддаюцца лічэнню *(некалькі сталоў, многа кніг)*. Словы гэтай групы, за выключэннем лічэбніка *некалькі*, могуць таксама спалучацца з назоўнікамі, якія маюць рэчыўнае і абстрактнае значэнні.

*А  к о л ь к і  с м е х у  і сваволля, і жартаў, плюскату, штурхання над гэтым Нёмнам у купанне!* (Я. Колас. Новая зямля). *Вось затым было над балотамі, мусіць, г э т у л ь к і  і журбы* (У. Хадыка. Вецер лётае, вецер гойсае...). *Ну, як тут пчол не завясці: ім  с т о л ь к і  выгад тут, прастору!* (Я. Колас. Новая зямля). *Відно, што кожная літара каштавала ёй  н я м а л а  намаганняў* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). *Лесу  м н о г а, ды розных парод* (К. Крапіва. Лясная казка).

Заўвага 1. Няпэўна-колькасныя лічэбнікі трэба адрозніваць ад падобных да іх прыслоўяў. Апошнія, як вядома, адносяцца да дзеясловаў; няпэўна-колькасныя ж лічэбнікі звычайна маюць пры сабе назоўнік, а калі яго і няма, то ён лёгка падразумяваецца.

*Ці  м а л а  ён, ці  м н о г а  быў у такім стане — ён не мог ведаць...* (К. Чорны. Вялікі дзень). ... *Яны пасябравалі зноў і пасябравалі пры  н е к а л ь к і  дзіўных абставінах* (І. Шамякін. У добры час). *К о л ь к і  перахваляваўся* [Алесь], *хоць імкнуўся не паказаць гэтага на людзях, у часе ледаходу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Гэта было звычайнай з'явай у яго рабоце: паклічуць да аднаго хворага, а лячыць даводзіцца  н е к а л ь к і х* (І. Шамякін. У добры час).

Заўвага 2. Слова *колькі* ў сучаснай беларускай мове шырока ўжываецца ў значэнні *некалькі*.

*Ганна пачала ўгаворваць яго  к о л ь к і  дзён паляжаць і нічога не рабіць* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *«Ці не знойдзецца ў вас сена прадаць хоць пудоў  к о л ь к і?» — запыталася яна* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Маці за руку гасця ўзяла,  к о л ь к і  слоў сказала напаследак* (А. Куляшоў. Бюро даведак).

У дзелавых стылях гэты няпэўна-колькасны лічэбнік у такім значэнні не сустракаецца.

§ 654. Словы *колькі, некалькі, столькі, гэтулькі* скланяюцца так, як і прыметнікі ў множным ліку:

Н. *некалькі*
Р. *некалькіх*
Д. *некалькім*
В. як Н. або Р.
Т. *некалькімі*
М. *(аб) некалькіх*

§ 655. У функцыі няпэўна-колькасных лічэбнікаў можа ўжывацца цэлы рад іншых слоў: *багата, безліч, процьма, поўна* і інш. Большасць з іх выступае ў значэнні, блізкім да слова *многа*, і ўжываецца ў гутарковай мове.

*Дзіўным спосабам нязвыклым ён лячыў людзей  б а г а т а* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос). *Сагнаў ён* [фашыст] *б е з л і ч  гунаў дзікіх, армады зграй — сваіх, чужых...* (Я. Колас. Маскве). *Божа! Колькі прастаяла, колькі часу ўбіла,  п р о ц ь м у  грошай на дарогу марна загубіла* (Я. Колас. Каля парога).

Значэнне няпэўнай колькасці ў кантэксце могуць набываць і пэўна-колькасныя лічэбнікі.

*Ну, як табе ўжо не абрыдне казаць адно  с т о  р а з  на тыдні? Сказала  с о р а к  р а з  і — квіта!* (Я. Колас. Новая зямля). *Па траве яму насустрач з залатой расою  с т о  т ы с я ч  с о н ц а ў  праплыве* (П. Пан-

чанка. Франтавік). *«І што яно будзе?» — у соты, у тысячны раз пытае сябе Пракоп і не знаходзіць адказу* (Я. Колас. Адшчапенец).

Заўвага. У значэнні велізарнай колькасці ўжываецца таксама форма роднага склону назоўнікаў: *І вось я ўводжу ў хату цэлую чараду малых. Лапцікі, боты, валёначкі... І снегу ж нанеслі!* (Я. Брыль. У сям'і). *А гасцей, гасцей наедзе: арандатараў, паноў, многа будзе на абедзе розных клерыкаў, ксяндзоў* (Я. Колас. «Святы Ян»).

## Зборныя лічэбнікі

§ 656. Лічэбнікі, якія адносяцца да гэтай групы, абазначаюць пэўную колькасць як сукупнасць і ў значнай ступені маюць прадметнае значэнне: *двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера.* У словах гэтай групы адсутнічаюць катэгорыі роду і ліку. Зборныя лічэбнікі, утвораныя ад слоў звыш *дзесяці*, сустракаюцца рэдка.

*Адтуль выйшлі з пакункамі двое сялян* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Трое парабкаў маўкліва на руках яго няслі* (П. Броўка. 1914). *На возе сядзела чацвёра маладых хлопцаў са станкавым кулямётам* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Усіх, разам з бацькамі, было дванаццаць душ у хаце. Дзевяцера дзяцей, і ўсе засталіся жывыя, як наўдачу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Мандрыкін. *І ўсё ў мяне так гладка па клетачках распісана: столькі вось свінаматак, кожная апаросіцца два разы, кожны раз дзесяцера парасят* (К. Крапіва. Канец дружбы). *Дванаццацера дзяцей было...* (А. Кулакоўскі. Радзіны ў Забродскіх). *Каб навучыцца табе шанаваць не толькі аднаго* [каня], *а дваццацера* (П. Галавач. Праз гады).

Зборныя лічэбнікі часцей ужываюцца ў размоўных стылях і радзей у навуковым і афіцыйным стылях.

Зборныя лічэбнікі спалучаюцца толькі з пэўнымі групамі назоўнікаў:

1. З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: *Выцягнулася* [свіння] *пад сонцам, а каля яе парасят з дзесяцера мітусяцца* (К. Крапіва. Пальчык). ...*«Вось гэтыя пяцёра* [цялят],— *яна абыходзіла і па чарзе гладзіла кожнага, — ад кароў, што прыгналі восенню...»* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

2. З назоўнікамі, якія маюць форму толькі множнага ліку або якія абазначаюць парныя прадметы: *Ды не — казалі, ён не такі: ён для ўсіх адчыняў сваю хату, дзяліў двое навушнікаў на чатырох суседзяў і сяброў, дзяліўся з імі родным хлебам розуму і радасці, якія ішлі з Усходу* (Я. Брыль. У сям'і). *Перад асабняком на вуліцы стаяла двое саней* (П. Галавач. Праз гады). *Усе трое дзвярэй царквы былі адчынены насцеж* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

3. Са словамі *людзі, дзеці, гоні, коні, свінні* і некаторымі іншымі, якія ўжываюцца са значэннем зборнасці: *Двое дворных людзей уводзяць на сцэну Зоську з завязанымі назад рукамі* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Не чакаючы, каб зусім закацілася сонца за гай, Зося пакінула ганоў трое недавораных, запрагла каня, сабралася якраз і паехала дахаты* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Пытляваны. *Атрымалі мы васьмёра коней з воінскай часці* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

4. Са словамі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *Аж зірк — на спатканне яму высоўваюцца нейк адразу трое мужчын* (Я. Колас. Дрыгва). *Так, напэўна, думалі гэтыя двое рабочых* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І чацвёра асуджаных накінуліся на пятага* (Э. Самуйлёнак. Цагліна казёмата). *Тут перапынілі чалавека трое паліцэйскіх* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

Зборныя лічэбнікі выступаюць у сказе і без назоўніка. Апошні часам падразумяваецца, вядомы з кантэксту. Часам жа зборны лічэбнік сам абазначае асобу: ужыванне лічэбніка без назоўніка для ўказання на асобу нярэдка бывае няпэўным, у такіх выпадках у ім спалучаецца значэнне колькасці як сукупнасці з адценнем няпэўнасці.

*Тут Міхалку падхапілі пад рукі, д в о е цягнулі яго за полы каптана, некалькі чалавек пхалі, і такім парадкам дамарослага пісара цягнулі праз усю хату, як мурашкі хрушча* (Я. К о л а с. Кантракт). *Ля камля стаяла т р о е, а ля верхавіны — д в о е. У пары з плячыстым Савам Супруном стаяў Андрэй ля верхавіны* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

*Аднойчы раніцой, калі Язэп яшчэ ляжаў у пасцелі, у хату ўвайшлі д в о е. Адзін—у форме сяржанта-эсэсаўца, з маўзерам у жоўтым скураным кабуры на баку, другі — у цывільным, з чорнымі пафарбаванымі вусікамі* (А. Ш а ш к о ў. Абуджэнне). *Яго цяпер ужо моцна трымалі д в о е ў ч о р н ы х п а л і т о* (Э. С а м у й л ё н а к. «Тэорыя Каленбрун»). *І сам Марцін не абы-які работнік — адзін за т р а і х працуе ў гаспадарцы* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Адзін з сошкаю, а с я м ё р а з ложкаю* (народн.).

Зборныя лічэбнікі ўжываюцца і тады, калі ў адзінства, якое імі абазначана, уваходзяць асобы мужчынскага і жаночага полу.

*«Нічога сабе сямейка, са мной с я м ё р а», — падумала Васілене і спаймала сябе на тым, што ўжо згадзілася з думкай жыць у гэтай хаце* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). В а л я. *Вялікая сям'я ў іх?* Н а д з я. *Т р о е, самі ўдваіх і Генька пракляты* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба).

Нярэдка лічэбнікі гэтай групы выступаюць у спалучэнні з займеннікамі.

*Усе т р о е выйшлі з хаты* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Нас т р о е ды бацька за дарадцу* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах).

§ 657. Зборныя лічэбнікі *двое, трое* скланяюцца, як займеннікі *мае, твае, свае; чацвёра, пяцёра,*— як слова *адны.*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *двое* | *шасцёра* |
| Р. | *дваіх* | *шасцярых* |
| Д. | *дваім* | *шасцярым* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *дваімі* | *шасцярымі* |
| М. | *(аб) дваіх* | *шасцярых* |

§ 658. Словы *абодва, абедзве,* якія таксама адносяцца да зборных лічэбнікаў, ужываюцца адпаведна з назоўнікамі мужчынскага, ніякага і жаночага роду: *абодва берагі, абодва акны, абедзве сцяны.*

Лічэбнікі *абодва, абедзве* маюць лексічнае значэнне «ўсе два, усе дзве»: *«Сыны?» — «Але ж, мой сынок! Два іх у мяне, а б о д в а і ў арміі. Адзін недзе ў Брэсце быў, другі аж за Львовам, у пагранічніках»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *У нас заела стужку ў кулямёце, акрамя таго, падбілі нам матор і а б е д з в е пярэднія шыны* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры).

Пры скланенні першая частка гэтых лічэбнікаў (*або-, абе-*) застаецца нязменнай, другая змяняецца, як лічэбнікі *два, дзве.*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. | *(аб) абодвух* | *абедзвюх* |

Заўвага. У перыяд, калі ўжыванне ва ўскосных склонах адзіных форм лічэбніка *два (дзве)* для мужчынскага і жаночага роду лічылася нормай, уніфікаваны былі і формы ўскосных склонаў лічэбніка *абодва, абедзве.*

§ 659. Лічэбнік *абое* ўжываецца для абазначэння асоб мужчынскага і асоб жаночага полу; сукупнасці дзяцей, маладых істот.

*Не лёгкі шлях прайшлі а б о е* [Марына і Даніла] (Я. Колас. Рыбакова хата). *Шчаслівейшы за ўсіх у поўным, шумлівым вагоне,* [Толя] *узяў яе* [Люды] *рукі ў летніх бездапаможных пальчатках і пачаў іх цэрці, ды так, што а б о е яны засмяяліся* (Я. Брыль. На Быстранцы). *А ў панамара Юстына таксама хварэлі, дык а б о е і памёрлі без доктара* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»).

Скланяецца гэты лічэбнік наступным чынам:

Н. *абое*
Р. *абаіх*
Д. *абаім*
В. *абаіх*
Т. *абаімі*
М. *(аб) абаіх*

Побач з формамі тыпу *абаіх, абаім...* у мове мастацкай літаратуры пашыраны і формы *абоіх, абоім...,* аднак перавага аддаецца першым.

*Сэнс гэтага пытання быў ясны для іх* [Ядвісі і Лабановіча] *а б а і х* (Я. Колас. У палескай глушы). *Дык маліліся ў згодзе, каб за божым прыказам, калі смерць к ім надойдзе, а б а і х брала разам* (Я. Купала. Дзед і баба). *А б а і х* [Сідара і Юсту] *паганю!* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях).

*І дзіўна — а б о і м* [Людзе і Толю] *было неяк вельмі прыемна і няёмка* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Старая падышла да маладых, а б о і х пацалавала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ім а б о і м не хацелася адыходзіць ад гэтае тапалькі: такой яна была прывабна маладой, такой ціхай і ласкавай у гэты прыгожы летні вечар* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

## Дробавыя лічэбнікі

§ 660. Да гэтай групы адносяцца лічэбнікі, якія абазначаюць частку ад цэлага або цэлае і частку ад гэтага цэлага: *пяць шостых, адна і пяць дзесятых, паўтара, паўтараста.*

§ 661. Лічэбнік *паўтара* ўжываецца пры словах мужчынскага і ніякага роду, *паўтары* — пры словах жаночага роду. Назоўнік, які спалучаецца з гэтым лічэбнікам, мае форму роднага склону адзіночнага ліку.

*Калі несці яе, вельмі намнога спознішся, ды наўрад ці выцягнеш на якіх п а ў т а р а дзесятка кіламетраў* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *П а ў т а р ы нядзелі Зялёнка не паказвалася на лекцыях* (Цётка. Зялёнка).

Назоўнік, які спалучаецца з лічэбнікам *паўтараста,* мае форму роднага склону множнага ліку: *На буланцы сядзіць Янка. П а ў т а р а с т а рублёў санкі...* (З. Бядуля. Летапісцы).

Словы *паўтара, паўтары, паўтараста* ва ўсіх склонах захоўваюць аднолькавую форму *(няма паўтара пуда, паўтары сотні, узяў паўтара пуда, паўтары сотні* і г. д.).

§ 662. Дробавыя лічэбнікі, якія абазначаюць частку ад цэлага, у лічніку маюць колькасны лічэбнік, у назоўніку — парадкавы *(пяць шостых).* Назоўнік, які залежыць ад дробавага абазначэння, мае форму роднага склону адзіночнага ліку.

*Хаўруснікаў маіх многа, калі б я назваў тых, каго я ведаю асабіста, то гэта была б якая-небудзь а д н а  м і л ь ё н н а я  ч а с т к а іх* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Досыць было аднаго памылковага або на а д н у  д з е с я т у ю  с е к у н д ы  спозненага павароту руля, каб ад матацыкліста і машыны засталося літаральна мокрае месца* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

Пры скланенні дробавых лічэбнікаў змяняюцца асобна лічнік і назоўнік.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *адна пятая* | *дзве трэція* | *пяць дзевятых* |
| Р. | *адной пятай* | *дзвюх трэціх* | *пяці дзевятых* |
| Д. | *адной пятай* | *дзвюм трэцім* | *пяці дзевятым* |
| В. | *адну пятую* | *дзве трэція* | *пяць дзевятых* |
| Т. | *адной пятай* | *дзвюма трэцімі* | *пяццю дзевятымі* |
| М. | *(аб) адной пятай* | *дзвюх трэціх* | *пяці дзевятых* |

У назоўным склоне дробавага лічэбніка, які ў лічніку мае словы *два, тры* або *чатыры,* побач з формамі тыпу *дзве трэція* сустракаюцца і формы тыпу *дзве трэціх: ... Ячменю высяваецца д з в е  т р э ц і х, а жыта адна трэцяя* (Я. К о л а с. Справа, якая заслугоўвае ўвагі).

§ 663. Слова *паў* звычайна выступае ў спалучэнні з назоўнікам (у форме роднага склону адзіночнага ліку — *паўгода*). Асобна ў якасці лічэбніка ў сучаснай беларускай мове яно не ўжываецца.

*Шчупак, брат, ёмкі: на паўпуда, але сарваўся* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Бліны, верашчака — на паўгода раз, нават чамяруха рэдка ў які час* (Я. К у п а л а. Гутарка аб кепскім гаспадару).

Слова *паў* абазначае не толькі палову (*паўпуда* — палова пуда), але ў спалучэнні з некаторымі словамі і недастатковасць якасці (гл. § 385, 594).

Слова *паў* не скланяецца; назоўнік, які ўваходзіць у спалучэнне з ім, змяняецца, як і адпаведныя простыя назоўнікі, толькі ў вінавальным склоне ён заўсёды мае форму, адпаведную форме роднага склону адзіночнага ліку.

Н. *паўметра*
Р. *паўметра*
Д. *паўметру*
В. *паўметра*
Т. *паўметрам*
М. *(аб) паўметры*

Складаныя словы, у якія ўваходзіць лічэбнік *паў,* толькі зрэдку маюць форму множнага ліку. Часам лічэбнік *паў* спалучаецца з назоўнікамі, якія не маюць формы адзіночнага ліку: *Ну няхай жа б дзе з краю прыпусціў, дык не — п а ў г а н е й  збіў, каб яму грудзі ўзбіла* (К. К р а п і в а. Людзі-суседзі).

З а ў в а г а 1. У словах *палукаш, полудзень* і некаторых іншых *палу, полу* страчвае лічэбнікавае значэнне.

*Дагарэлі дровы — п о л у д з е н ь  гатовы* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Андрэй палажыў у п а л у к а ш свой чамадан* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга).

З а ў в а г а 2. Нярэдка *паў-, напаў-, упаў-* і інш. з'яўляюцца ў слове прыстаўкамі і не выконваюць функцыі лічэбніка:

*Андрэй гаварыў п а ў ш э п т а м* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *«Я табе, брат, раю яшчэ раз у люстэрка зазлянуць»,— вырывалася ў яго н а п а ў с у р'-ё з н а, н а п а ў ж а р т а м* (там жа). *Пятро, сціснуўшы зубы, у п а ў г о л а с а вылаяўся* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна казамата).

## ПАРАДКАВЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 664. Лічэбнікі гэтай групы абазначаюць парадак прадметаў пры лічэнні, месца прадмета ў радзе аднародных прадметаў: *першы дзень, другі дзень, трэці дзень* і г. д.

Парадкавыя лічэбнікі маюць цэлы рад рыс, агульных з прыметнікамі. Яны дапасуюцца да азначаемага слова ў родзе, ліку і склоне. З колькаснымі лічэбнікамі іх звязвае паходжанне: большасць з іх утворана ад адпаведных колькасных лічэбнікаў (*пяты* — ад *пяць*, *шосты* — ад *шэсць* і г. д.). У склад састаўных парадкавых лічэбнікаў можа ўваходзіць цэлы рад колькасных. Сама структура састаўнога парадкавага лічэбніка аформлена такім жа чынам, як і састаўнога колькаснага (параўн. *тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят восьмы — тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят восем*).

§ 665. Парадкавыя лічэбнікі ўтвараюцца ад колькасных. Толькі слова *першы* не мае агульнай асновы з лічэбнікам *адзін*. У лічэбніках *другі, трэці, чацвёрты* аснова значна адрозніваецца ад асноў лічэбнікаў *два, тры, чатыры*.

Парадкавыя лічэбнікі *пяты — трыццаты* ўтвараюцца ад адпаведных колькасных лічэбнікаў; апошні зычны асновы становіцца цвёрдым (*пяць — пяты*), у асновах *сем, восем* (*сёмы, восьмы*) ён быў цвёрдым і раней.

Парадкавыя лічэбнікі *пяцідзесяты — васьмідзесяты*, выключаючы *саракавы*, складаюцца з формы роднага склону першай часткі і асновы **-дзесят**. Словы *двухсоты — дзевяцісоты* ўтвараюцца ад формы роднага склону адпаведнага колькаснага лічэбніка і асновы *-сот*.

Лічэбнік *саракавы* ўтвораны пры дапамозе суфікса **-ав-**, лічэбнікі *тысячны, мільённы* — пры дапамозе суфікса **-н-**.

Словы *соты, дзевяносты* паявіліся ў выніку далучэння да асновы канчатка **-ы**.

§ 666. Скланяюцца парадкавыя лічэбнікі так жа, як і прыметнікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *другі* | *трэці* | *двухсоты* |
| Р. | *другога* | *трэцяга* | *двухсотага* |
| Д. | *другому* | *трэцяму* | *двухсотаму* |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. | *другім* | *трэцім* | *двухсотым* |
| М. | *(аб) другім* | *трэцім* | *двухсотым* |

## САСТАЎНЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 667. Лічэбнікі, якія складаюцца з некалькіх слоў, называюцца састаўнымі: *трыста сорак пяць, трыста сорак пяты*.

Пры скланенні састаўных колькасных лічэбнікаў змяняецца кожнае слова.

Н. *трыста сорак пяць*
Р. *трохсот сарака пяці*
Д. *тромстам сарака пяці*
В. як Н. або Р.
Т. *трымастамі сарака пяццю*
М. *(аб) трохстах сарака пяці*

Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў змяняецца толькі апошняе слова, прычым толькі яно мае форму парадкавага лічэбніка.

Н. *трыста сорак пяты*
Р. *трыста сорак пятага*
Д. *трыста сорак пятаму*
В. як Н. або Р.
Т. *трыста сорак пятым*
М. *(аб) трыста сорак пятым*

Састаўныя лічэбнікі, якія заканчваюцца словамі *тысячны, мільённы* і г. д., утвараюцца з форм роднага склону адпаведных колькасных лічэбнікаў і названых вышэй слоў (*тысячны, мільённы*): *трохсотсаракадвухтысячны, шасцісотпяцідзесяцісямімільённы.*

Пры скланенні ў гэтых састаўных лічэбніках змяняецца толькі апошняя частка.

Н. *пяцісоттрыццацішасцітысячны*
Р. *пяцісоттрыццацішасцітысячнага*
Д. *пяцісоттрыццацішасцітысячнаму*
В. як Н. або Р.
Т. *пяцісоттрыццацішасцітысячным*
М. *(аб) пяцісоттрыццацішасцітысячным*

Састаўныя парадкавыя лічэбнікі, якія ўжываюцца пры летазлічэнні, у мове мастацкай літаратуры могуць выступаць з апушчэннем слоў *тысяча*, а часта — і слова *дзевяцьсот*. У дзелавых стылях гэтага не назіраецца.

*Гэта было ў цёмны восеньскі вечар тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года* (Я. Маўр. Сям'я). *У Скіп'ёўскім Пераброддзі аселі і забудаваліся пасля восені дзевяцьсот семнаццатага года тутэйшыя беззямельцы і бясхатнікі* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Мой родны Мінск жыве перад вачыма такім, як быў у слаўным трыццаць восьмым* (П. Панчанка. Маладосць у паходзе).

### Асаблівасці ўжывання лічэбнікаў у гутарковай мове

§ 668. У гутарковай мове назіраецца схільнасць не скланяць лічэбнікі, асабліва састаўныя. Захаванне нязменнымі форм назоўнага склону лічэбнікаў у тых выпадках, калі патрабуюцца формы ўскосных склонаў, з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы. Але ў мове мастацкай літаратуры такое ўжыванне лічэбнікаў часам назіраецца.

*Шкада яму тых, так дарма кінутых бацькам Нічыпара, пяцьдзесят рублёў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Даўжыня іх цела дасягала восем-дзесяць метраў* (Я. Маўр. Чалавек ідзе).

## ЛІЧЭБНІКІ Ў РОЛІ ІНШЫХ ЧАСЦІН МОВЫ

§ 669. У функцыі іншых часцін мовы асабліва часта выступае колькасны лічэбнік *адзін.*

Лічэбнік *адзін* можа ўжывацца ў ролі займенніка: *І вось тады адзін ксёндз уздумаў: трэба прасіць «пана бога», каб ён праз смерць збавіў скарэй пана ад пакуты, і што трэба, каб маліліся чым пабольш народу* (К. Чорны. На варце). *Адзін пасажыр як прычапіўся — прадай ды прадай* (Ц. Гартны. Трэскі на хвалях). *Як прыйшла ў нардом, у залу, дзе клубіўся сіні дым, там да ночы прастаяла познім вечарам адным* (П. Броўка. Кацярына).

Слова *адно* ўжываецца ў значэнні няпэўнага займенніка, але з абмежавальным адценнем, у функцыі суадноснага слова: *Адно, што засталося ў ёй, гэта страх* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І адно ёй засталося, што пакорліва маўчаць* (П. Броўка. Кацярына).

Размеркавальнае значэнне з захаваннем лічэбнікавага адцення маюць выразы са словамі *адзін, другі.* У многім па сваёй функцыі лічэбнікі тут набліжаюцца да займеннікаў.

*Адна гаворыць груба, другая тонка* (Я. Колас. Кірмаш). *Адзін рйдзіць тое, другі — другое; крычаць, таўкуцца, — толькі рэха ходзіць па балоце* (Я. Колас. У балоце). *Адзін чалавек — высокі, з густой барадой, другі — зусім яшчэ малады хлопец* (К. Чорны. На варце).

Спалучэнні тыпу *адзін аднаго, адзін за адным* маюць займеннікавае значэнне: *«Гасцінец будзе», — цешаць яны адна адну* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *І нічога не гавораць гэтыя маладыя людзі адно аднаму, а ўсё так ясна паміж імі* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Ён* [вецер] *сагнаў хмары ў адно месца, і яны лезлі адна на адну, ачышчаючы неба* (К. Чорны. На граніцы).

*Адзін* у кантэксце можа мець і значэнне абмежавальнай часціцы з адценнем вылучэння: *Міхалюк у адной сарочцы ўдагонку на падворак: пазаплоткамі ляціць, цешыцца, смяецца* (Цётка. Міхаська). *Ён заскакаў на месцы, басанож па роснай траве, у адных трусах, размахваючы рукамі* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Названы лічэбнік можа выступаць у функцыі часціцы *толькі*, прычым нярэдка побач з лічэбнікам ужываецца і гэта часціца: *Між голых сцен, несамавітых, такіх панурых, абабітых, астаўся стол адзін на месцы...* (Я. Колас. Новая зямля). *Пры адной толькі думцы пабачыцца з ляснічым мароз прабягаў па скуры Васіля* (Я. Колас. Васіль Чурыла).

Слова *адно* ў мове мастацкай літаратуры можа адыгрываць ролю злучніка, але гэта не з'яўляецца літаратурнай нормай: *Як жывы, адно не дыша* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос). *Падлогі ў хаце няма, адно ўтрамбаваны нагамі пясок* (К. Чорны. Браты). *Спіць мой край, адно не дрэмле варта яго надзейна ўзброеных сыноў* (П. Броўка. Думы аб правадыру).

Слова *адзін* у кантэксце можа набываць прыслоўнае значэнне (*сабраць у адно* — разам, *адзін раз* — аднойчы): *Здаецца, ахапіў бы ўвесь свет і зліўся ў адно з ветрам лёгкім, каб нешта цікавае, патрэбнае казаць убогім вёскам* (З. Бядуля. Удосвітку). *Немцы адзін раз скатавалі яго старэйшага сына* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Аднаго дня на світанні ён і Паддубны выходзілі з хаты Тацяны* (там жа).

Значэнне, падобнае да значэння слова *аднойчы*, мае і эквівалент лічэбніка *адзін* слова *раз* (гл. § 645).

*Да пажывы Цюцька ласы раз у школу йдзе, ён абшнырыў усе класы ды няма нідзе* (К. Крапіва. У папа ды быў сабака).

Шырока бытуе *адзін* у абмежавальным значэнні, часта набліжаючыся па сэнсу да слоў *адзінокі, адзінока, асобна, у адзіноце* і г. д.: *Гэтаксама адна маці,— праўда, дасціпная,— адна ў полі, адна ў хаце, корміць, абмывае* (Я. Колас. Першы заработак). *«Адны дома?» — запытаўся ціхенька санітар гаспадыню. «Адна. Зараз павінен быць гаспадар», — адказала яна* (К. Чорны. Будзем жыць). *Даспявае маліна ў зялёным садку; ходзіць красна-дзяўчына адна па цяньку* (А. Куляшоў. Песня лістаносца).

Лічэбнік *адзін* можа мець значэнні «аднолькавы», «адзіны», «пэўны», «той самы», «нейкі»: *Усё ж мы людзі аднае прафесіі і ў аднолькавым становішчы знаходзімся* (К. Крапіва. З народам).

*Забуяе ў славе буйнай, зазвініць залатаструнне родны край адной Камунай* (Я. Купала. На смерць Сцяпана Булата). *Але ён у хаце адзін гаспадар* (Я. Колас. Радасная сустрэча). Лютынскі. *Ат! глупства! ліст ад аднае асобы, які, быццам, пагражае нашаму сямейнаму шчасцю і супружаскай вернасці* (К. Крапіва. Канец дружбы).

Часта лічэбнік *адзін* ужываецца ў выдзяляльным значэнні: *Адзін з вартавых кінуў вінтоўку і пабег да склада* (У. Шахавец.

Будзьце здаровы). *Спачатку Лясніцкі меркаваў, што здраднік — адзін з гэтых шаснаццаці* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Лічэбнік *адзін* можа субстантывавацца і выступаць у функцыі назоўніка: *Каб яму* [народу], *бы равесніку бога, былі сілы ліхія пакорны, каб адзін не сказаў на другога: «Не таварыш я твой, бы ты — чорны»* (Ц. Гартны. Паэта, маці і муза).

§ 670. Парадкавыя лічэбнікі ў пэўных спалучэннях могуць набываць значэнне якаснай прыметы. Асабліва часта гэта назіраецца ва ўстойлівых словазлучэннях *(першы снег, трэці гатунак)*.

*Драбіны былі высланы саломаю, і вулей ляжаў, як пан у вагоне першага класа жыватом угару* (Я. Колас. Калодка пчол). *На ўрочышчах даўнейшых створаны першай маркі трактарны завод* (П. Глебка. Мінскія ўрочышчы).

Слова *першы* ў гэтых выпадках вельмі часта набывае значэнне «лепшы, вышэйшы»: *«А чыя ж то скрыпка гэта?»— зноў спытаўся гаспадар. «А яго! О, граць ён мэта, першай гільдыі штукар»* (Я. Колас. Сымон-музыка). *І тут Вавёрцы Ліс дае параду: «Кума, ты да Вайка звярніся, дантыст ён першага разраду»* (Э. Валасевіч. Даверлівая Вавёрка).

Аднак слова *першы* можа мець значэнне і «горшы, ніжэйшы» (*слесар першага разраду*).

У сувязі з набыццём якаснага значэння слова *першы* можа мець і формы ступеней параўнання.

*Пайшла слава пра фалангу Андрэя Андрэевіча. Баявая фаланга, брыгадзір найпершы* (М. Лынькоў. Баян).

Слова *другі* нярэдка выступае ў якасці займенніка (у значэнні слова *іншы): Палессе засталося дзесь ззаду. Другая краіна, другія малюнкі* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

Спалучэнні *адзін за другім, адзін да другога, адзін-другі* набываюць у сказе займеннікавае значэнне: *Каровы злосныя бягуць, адна другую б'юць рагамі і толькі штурхаюць нагамі* (Я. Колас. Новая зямля).

Займеннікавае значэнне маюць лічэбнікі і пры іх размеркавальным ужыванні; пры гэтым бываюць такія варыянты: *першы — другі, адзін — другі*, «назва прадмета без слова *адзін*» — *другі:*

*Мова першай бабы падобна да кароткіх слоў: «Ды-ды-ды!» Другая сыпала танчэй і яшчэ скарэй: «Дэ-дэ-дэ!»* (Я. Колас. Кірмаш). *Смех дрыжаў у адным месцы, песні чуліся ў другім* (Я. Колас. Паўлюкова бяда). *Гудзе пчала над галавою, другая ў вуха — тыц знячэўку!* (Я. Колас. Новая зямля).

Парадкавы лічэбнік, захоўваючы значэнне колькасці, можа разам з тым набліжацца ў пэўнай ступені да прыметніка.

*І якому-небудзь, даруй божа, гаду печанаму, злодзею-прайдзісвету гэты пайтаратысячны баян дастанецца* (М. Лынькоў. Баян). *Да канца гэтага года ўвойдуць у строй яшчэ дзве стотысячныя турбіны* («Звязда»).

§ 671. Лічэбнікі могуць уваходзіць у склад фразеалагізмаў, дзе нярэдка выступаюць у функцыі іншых часцін мовы. Пры разбурэнні фразеалагізма або дзякуючы падтрымцы гэтага фразеалагізма лічэбнік і ў іншых спалучэннях адыгрывае ролю, падобную да ролі прыметніка, назоўніка, займенніка, прыслоўя і г. д.

*Кожны раз студыйцы, дзякуючы заядлай вайне між драматургам і рэжысёрам, адрываліся ад ігры і прыслухоўваліся да гутаркі, ловячы з яе пятае праз дзесятае...* (З. Бядуля. Салавей). *Бяда — няма куды падацца і рук няма за што зацяць. Жыццё ні ў дзесяць і ні ў пяць* (Я. Колас. Рыбакова хата). *А тады і вам, і мне, і пятаму, і дзесятаму не прыйшлося б па гэтулькі даваць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ходзіць па іх часамі ажно ў дзесятую вёску*

(Я. Брыль. У сям'і). *І тыя паны, што вярнуліся ў свае маёнткі, адчувалі сябе на сёмым небе і лічылі, што цяпер яны сапраўдныя, настаяшчыя, паўнапраўныя іх уладары* (Я. Колас. Дрыгва).

## НАЦІСК У ЛІЧЭБНІКАХ

§ 672. Лічэбнік *адзін* ва ўсіх склонах мае націск на апошнім складзе канчатка *(аднаму́)*, у творным склоне множнага ліку на передапошнім складзе *(адны́мі)*. Словы *два, тры* маюць націскны канчатак у творным склоне, *чатыры* — ва ўсіх склонах.

Націск на канчатку маюць пры скланенні і лічэбнікі ад *пяці* да *дзесяці, дваццаць, трыццаць.*

У лічэбніках *адзінаццаць — дзевятнаццаць* націск падае на склад **-на-** *(чатырна́ццаць).*

*Адзіна́ццаць месяцаў кроў цуркам цякла; рабавала панства Беларусь датла* (Я. Купала. Адзінаццаць месяцаў...). *Чатырна́ццаць год мне і завусь Ігнась* (З. Бядуля. Хлопчык з-пад Гродна).

Лічэбнікі *пяцьдзеся́т, шэсцьдзеся́т, се́мдзесят, во́семдзесят* пры скланенні маюць націск на канчатку першай часткі *(пяці́дзесяці, шасці́дзесяці* і г. д.).

У словах *дзвесце—дзевяцьсот* націск падае на другую частку *(дзевяцісо́т, дзевяцііста́мі).*

У зборных лічэбніках канчаткі націскныя *(дваі́х, дваі́мі).*

Словы *тысяча, мільён, мільярд* ва ўскосных склонах захоўваюць націск на тым жа складзе, што і ў назоўным склоне.

# ЗАЙМЕННІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ЗАЙМЕННІКУ

§ 673. З а й м е н н і к — часціна мовы, якая ўказвае на прадметы і якасці, не называючы іх. Займеннік мае абагульнена-прадметнае і абагульнена-якаснае значэнні.

У адпаведнасці з гэтым займеннікі падзяляюцца на н а з о ў н і к а в ы я: *ты, ён (яна, яно), мы, вы, яны, сябе, нехта, нешта, ніхто, нішто, хто, што* і інш. і п р ы м е т н і к а в ы я: *мой, твой, свой, наш, ваш, той, гэты, такі, гэтакі, сам, самы, увесь, усякі, які, каторы* і інш.

§ 674. Займеннікі вельмі няпэўна ўказваюць на прадметы і якасці, а таму патрабуюць канкрэтызацыі, раскрыцця свайго зместу:

*«Ён* [Васілька] *цяпер у цёткі Аксінні жыве».—«У Багуцкай?»—«Так. У Багуцкай».—«А ё н?» — «Х т о ё н?»—«Ну, Багуцкі, Косця...» Надзя замяшалася крыху: «Ён? Што гаварыць аб ім?»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Матушка Агрыпіна паставіла на стол страву і пачала яго* [папа] *клікаць. «Ну, што ж я н ы?»—«Х т о?»—«Мужыкі».—«Не хочуць думаць аб душы...»* (М. Ч а р о т. Бацюшка).

Канкрэтызуюцца займеннікі кантэкстам, сітуацыяй, у якой адбываецца размова, жэстам і г. д.

*Сцяпанавіч не здолеў адказаць, як расчыніліся дзверы і з'явіліся я н ы. У пакой асцярожна адзін за адным увайшлі Рубінчык, Андрэй, Бекман, Змітрок, тэхнік, а за ім, дасягаючы галавой сталявання і крыху збянтэжаны сваім нязвыклым ростам, Апенка* (Э. С а м у й л ё н а к. Цагліна каземата). *У і х жа цяпер зусім другі клопат. Калі Сілівон Сяргеевіч гаварыў «і х», ён меў на ўвазе маладзейшых. І другі сэнс ён укладаў у гэтыя словы. У і х — значыць у вясковага актыву, у камуністаў, у камсамольцаў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Прывет в а м, племя маладое, зямель савецкіх яснацвет!* (Я. К о л а с. Камсамольцам). *«Што я пытаюся? І ты, відаць, адтуль жа, сынок, як і т о й, што вунь... ляжыць вунь і нічога яму не трэба...» Яна адхінула коўдру. На пасцілцы ляжаў чалавек з бледным нерухомым тварам»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Часцей за ўсё займеннік знаходзіцца ў кантэксце замест раней ужытага слова, выступаючы ў якасці марфалагічнага сіноніма:

*Супакоены і задаволены пакінуў С а ш а сцэну. Цяпер я м у хацелася толькі аднаго: проста і шчыра пагаварыць з Жэняй. Але пакуль ё н хаваў у футляр баян, я н а некуды знікла* (І. Ш а м я к і н. Першае спатканне). *К а в а л ь не знаходзіў месца. Е н пачаў збірацца на работу* (К. Ч о р н ы. Звяга).

§ 675. Па значэнню займеннікі падзяляюцца на наступныя разрады:

1. А с а б о в ы я: *я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны;*
2. З в а р о т н ы: *сябе;*
3. П р ы н а л е ж н ы я: *мой, наш, твой, ваш, свой;*

4. П ы т а л ь н а-а д н о с н ы я: *хто, што, які, каторы, чый;*

5. У к а з а л ь н ы я: *гэты, той, такі, гэтакі;*

6. А з н а ч а л ь н ы я: *сам, самы, увесь (уся, усе), усякі (усялякі), кожны, іншы (інакшы);*

7. А д м о ў н ы я: *ніхто, нішто, нічый, ніякі;*

8. Н я п э ў н ы я: *нехта, нешта, некаторы, нейкі, нечы, хтосьці, штосьці, якісьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь* і інш.

§ 676. Асаблівасці займеннікаў як часціны мовы абумоўліваюць і спецыфіку іх сінтаксічнага ўжывання. Зваротны і асабовыя займеннікі звычайна могуць мець пры сабе толькі адасобленае дапасаванае азначэнне. Такое азначэнне знаходзіцца пераважна пасля слова, да якога яно адносіцца, але часам можа стаяць і перад ім.

*І на будоўлях з намі* в ы, *жывы, такі ж імклівы, смелы, грозны, бурны* (П. П а н ч а н к а. Маякоўскаму). *Жывыя малюнкі вёскі роднай паўсталі перад вачыма, жывыя вобразы яе равесніц. Вось* я н ы, *вясёлыя, вольныя сёння, мусіць, сабраліся з хлопцамі за гумном на бярвенні, сядзяць і спяваюць, як і раней* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Сур'ёзны, сталы не па летах, гадуе* ё н *у сэрцы план — зажыць палюдску — а не гэтак, як у пячуры таракан* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

Неадасобленае азначэнне пры ўказаных займенніках вельмі рэдка сустракаецца ў давальным і вінавальным склонах. Такія выпадкі з'яўляюцца перажыткам старадаўняй мовы, водгукам канструкцый з так званымі другім давальным і другім вінавальным.

*Сяргей падхапіўся, забыўшыся на боль у руцэ і галаве, хутка паправіў сваё адзенне, зашпіліў гузікі. І нядужаму* я м у *хацелася перад ёй быць у найлепшым выглядзе* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

Калі да асабовых і зваротнага займеннікаў адносіцца недапасаванае прэпазіцыйнае азначэнне, то займеннік, як правіла, субстантывуецца.

*«Прыбыў у ваша распараджэнне, таварыш маёр, — далажыў Голераў і, адразу ж перайшоўшы на сяброўскае «*т ы*», дадаў: «Акулачыўся ты, Уладзімір Тарасавіч»* (А. Ш а ш к о ў. Ля сцен Кенігсберга).

Да асабовага займенніка могуць адносіцца словы *сам, увесь, адзін;* па функцыі яны блізкія да азначэння, але ў сказе асабовы займеннік і такое слова ўтвараюць цеснае спалучэнне, якое выступае ў якасці дзейніка.

*Бондарную майстэрню, з гатовымі бочкамі ды кучамі абручоў і клёпак, падпаліў* я с а м, *у адплату за смерць бацькі* (З. Б я д у л я. Анчар). *Ногі млелі,* у в е с ь ё н [стары] *засопся* (Я. М а ў р. Чалавек ідзе).

Дапасаванае азначэнне можа паясняць няпэўныя і некаторыя адмоўныя займеннікі, прычым стаіць такое азначэнне пераважна пасля паясняемага слова. У такіх спалучэннях займеннік у пэўнай ступені набывае адценне атрыбутыўнасці, а азначэнне — субстантыўнасці. Калі ж дапасаванае азначэнне стаіць перад займеннікам, то апошні нярэдка субстантывуецца.

*Сват жа* н і ч о г а *благога не кажа* (Я. К у п а л а. Паўлінка). Н е х т а *злосны, страшны хадзіў у полі, па вуліцы, слухаў пад вокнамі, бразгаў трывожна аканіцамі...* (П. Г а л а в а ч. Дасужая). *Лёгкі смутак па* ч ы м с ь ц і *неасэнсаваным, але блізкім, неабходным для жыцця і шчасця крануў яе сэрца* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Той* [Віктар] *нешта трымаў, а гэтае* н е ш т а *білася і вырывалася* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Няпэўныя, некаторыя адмоўныя, азначальныя і ўказальныя займеннікі могуць утвараць пры дапамозе прыназоўніка **з** спалучэнні з назоўнікамі або займеннікамі ў форме роднага склону. Няпэўныя займеннікі могуць спалучацца з назоўнікамі ў форме меснага склону з прыназоўнікам **у**.

*Нарэшце ўсё ж н е х т а з р а н е н ы х адчыніў яму дзверы, і хлапчук непрыкметна нырнуў за перагародку* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *«Недзе і ў нас у пограбе ёсць с ё е-т о е з п а с ц е л і, — сказала жанчына,— але там, мабыць, завалена ўсё»* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *Даведалася дзяўчынка, што ў іх за справа, і кажа: «Няхай т о й з в а с, чыя кабыла, выпража яе з калёс ды вядзе ў руках, а той, чые калёсы, няхай цягне іх на сабе ў другі бок»* (А. Я к і м о в і ч. Разумная дачка). *За акном прайшоў н е х т а ў в о п р а т ц ы з ч ы р в а н н ю, сыпануў праз акно пук яскравых праменняў, сыпануў імі ў Надзін твар і разам з ёю засмяяўся радасцю бязмежнай новага жыцця* (П. Г а л а в а ч. Дасужая).

У сказе займеннікі могуць выступаць у ролі розных членаў сказа:

а) дзейніка: *Х т о с ь ішоў, н е х т а ехаў, ш т о с ь не проста было... Набліжалася рэха і ў цымбалах гуло* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *І кожную песню запявае цётка Наташа, жонка старшыні. Спявае я н а званчэй і прыгажэй за многіх маладых* (І. Ш а м я к і н. Наташа).

б) Выказніка: *«Цяпер, браце, наша свята! — сказаў бацька Міколку. — Цяпер паравозы н а ш ы, дзяржава н а ш а»* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз). *Няхай хоць тысяча капцоў стаіць тут, а гэты бераг як быў н а ш спрадвеку, то н а ш ы м і застанецца* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *І цяпер вам не цяжка будзе наладзіць нашу навагоднюю ёлку. Яна будзе т а к а я, ды не т а к а я* (К. К р а п і в а. З новым шчасцем!). *Яна была і спраўная, і працавітая, ды гэта ўсё — не т о е* (Я. Б р ы л ь. Галя).

в) Дапаўнення: *І Канстанцін Прыбыткоўскі зразумеў у с ё* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *І хоць я м у хацелася самому ўзначаліць атрад, усе таварышы вельмі мякка, але настойліва прасілі я г о астацца на месцы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

г) Азначэння: *Высокі Бераг, родны, мілы! Люблю я т в о й пясчаны скат і хвоек нізкіх гурт пахілы, капцоў гранічных цэлы рад* (Я. К о л а с. Высокі Бераг). *Жонка я г о Марына — вядомая на ў в е с ь раён звеннявая па ільну — была т а к а я ж вясёлая, як і муж* (І. Ш а м я к і н. Завіруха).

д) Акалічнасці: *У бліжэйшы час п а г э т ы м святою нядзеляй пайшла дзеўка макам-цветам, як кажуць, з кудзеляй* (Я. К о л а с. Батрак).

## АСАБОВЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 677. Да гэтай групы належаць займеннікі а с а б о в ы я: *я, ты, вы* і а с а б о в а-ў к а з а л ь н ы я: *ён, яна, яно, яны.*

Асабовыя займеннікі не замяняюць якога-небудзь іншага слова, сваё канкрэтнае значэнне яны набываюць у працэсе гутаркі.

Асабова-ўказальныя займеннікі ўжываюцца тады, калі гутарка ідзе пра ўжо вядомую асобу або прадмет.

### *Асабовыя займеннікі 1-ай і 2-ой асобы*

§ 678. Займеннік *я* абазначае таго, хто гаворыць, *ты* — асобу, да якой звяртаюцца з гаворкай. Часам у мове мастацкай літаратуры сустракаюцца звароты і да прадметаў.

*Возера! Возера! Іду к т а б е смутны...* (Я. К у п а л а. Лясное возера). *Далёкае неба! Сіняе неба! І як можа асмеліцца думка чалавека выдумаць у т а б е, яснае неба, пекла, агонь, што ніколі не тухне, смалу, што вечна кіпіць* (Я. К о л а с. Думкі ў дарозе).

Асабовыя займеннікі *я, ты* не маюць катэгорыі роду, род выказніка залежыць ад полу асобы, якая імі абазначаецца.

*Я імкнуўся аднавіць усе драбніцы гэтага жыцця — сваё маленства, юнацтва, юнацкія захапленні, светлыя гадзіны творчасці, сваю сталасць* (Я. Купала. Прамова). *«Не, я не пра благое хачу расказаць, — спалохалася жанчына. — Я проста хацела расказаць пра сваю сяброўку з нашага калгаса»* (І. Шамякін. Абразы).

*Не такой дарогай ішоў ты і хочаш далей ісці, ох, не такой* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Ты зрабіла нягоднікам мяне* (І. Шамякін. Агонь і снег).

Даволі часта ў літаратурнай мове займеннік *ты* мае абагульнена-асабовае значэнне, у гэтых выпадках *ты* — гэта не толькі той, да каго звяртаюцца з гаворкай, а наогул кожны. Гэты займеннік можа мець і няпэўна-асабовае значэнне.

*Успомні ты, як дом Раманавых каронай пазалочанай на часткі сэрца кроіў, а з мужыка лапцюжна-абарванага гарачая сачылася хмель-кроў* (П. Трус. Успомні). *Надзя пачала гаварыць, стала ціха ў хаце. «Жыццё будаваць — не простая рэч. Толку мала, што ты крычыш за хутар. На хутары ты адзін, як дзічка ў полі, а ў калектыве вас многа; вось і разумей, дзе каму лепей* (П. Галавач. Дасужая). *Уга... успамянулі вы снег леташні... Калісьці яшчэ хлопцы скурылі. Як атрымаюць ліста, пачытаюць — і пайшло на курыва, пакуль ты тае паперы на баку купіш* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Колькі шчасця і радасці вы пабачыце там! І цябе не пакідае думка, што ўсё гэта наша, савецкае, створанае нашымі рукамі* (Я. Колас. Слава Вялікаму Кастрычніку).

Займеннік *ты* можа быць выкарыстаны і пры звароце чалавека да самога сябе.

*«Хоць ты тут лопні — усё роўна не заснеш!» — зазлаваўся ён* [Кастусь] *і плюнуў, абціраючы цыбук палой кажуха* (З. Бядуля. Злодзеі). *Мне цяпер праходу няма ад людзей. Мне сорамна ў вочы глядзець. Я, вядома, чужы чалавек тут, мяне амаль што не ведаюць. Але вось выйдзеш на вуліцу, па ваду пойдзеш, дык ад цябе людзі адварочваюцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У мове мастацкай літаратуры слова *ты* можа ўжывацца ў значэнні займенніка 3-яй асобы.

*І хадзіў Амелька, сярод людзей цёрся ды ўсё азіраўся: ці няма якіх хітрыкаў збоку, ці не збіраецца падкалупіць цябе хто* (М. Лынькоў. «Салавей-разбойнік»). *Крапівою б каторага, каб ты сесці паўгода не мог!..* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе). *Хлопец ты, думаю я пра яго, таксама не маладзён — казаў, што шэсцьдзесят год, — але няўжо ж ты і праўда так ужо знябыўся ды здарожыўся?!* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе).

Займеннік *ты* часам выкарыстоўваецца для выражэння пагардлівых адносін да пэўнай асобы, асабліва пры адасабленні гэтага займенніка.

*«Ты! Не крычы гэтак!» Скуратовіч так і павёў Міхалку дадому, не выпускаючы з рук пляча* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Слухай, ты! — сказаў Курыдзе, з халоднай нянавісцю пазіраючы ў непрытомныя вочы Абхазава — Ты! Ротмістр!»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 679. Асабовы займеннік 1-ай асобы множнага ліку *мы* звычайна абазначае групу асоб, у якую ўваходзіць і той, хто гаворыць. Гэты займеннік можа мець такія разнавіднасці значэння: *мы* — я з імі, *мы* — пэўная група асоб, *мы* — я з табой, *мы* — я з ім.

Паўлінка. *«Трэба, кажа, сякую ці такую зрабіць пастанову. Мы, кажа, не дзеці — маем свой розум і можам сабой пакіравацца»* (Я. Купала. Паўлінка). *Мы сцелемся ў халодных сенцах на нейкіх нізкіх скрынях — я і наш узводны, таварыш Скабакоў, вясёлы і рыжы*

*хлапец, родам з нейкіх Аланецкіх азёрных рыбных узбярэжжаў...* (К. Чорны. Начлег у вёсцы Сінегах). Зоська. *Сабраліся мы ўсе— ты, тата, я, Сымон, Данілка і малыя ды пайшлі гэтак за ім, кінуўшы і хату і гаспадарку ўсю сваю* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Зусім край акрыяў, калі мы правялі гэту вадзяную жылу, канал наш...* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі).

Займеннік *мы* можа абазначаць і не зусім пэўную групу людзей. Пры такім ужыванні ён набліжаецца да слова *ты* з абагульнена-асабовым значэннем.

*Чытаючы кніжку, мы часта адчуваем пачуццё жалю, што вось закончана апошняя старонка, вырашан лёс герояў, адгучала ўнутраная музыка слова. Але ў памяці, і надоўга, застаюцца яркія вобразы, не згасае хваляванне, якое здолеў перадаць нам аўтар, не знікаюць карціны, намаляваныя смелай рукой* (Я. Колас. Ён жыве сярод нас). *Калі стаць на пункт погляду, быццам мы «ніколі не даведаемся, як узнікае свядомасць», то гэта раўназначна таму, каб прызнаць бяссілле чалавека ў пазнанні самога сябе, законаў сваёй псіхікі* («Весці АН БССР»).

Такое значэнне займеннік *мы* мае пераважна ў навуковым і публіцыстычным стылях.

У навуковых творах слова *мы* ўжываецца і ў значэнні «я» (так званае аўтарскае *мы*).

*Мы спыніліся толькі на асноўнейшых працах акад. Карскага, якія напісаны ім да з'яўлення «Беларусаў»* («Беларусь»). *Шмат артыкулаў аб яго творчасці з'явілася ў апошні час у славянскіх краінах народнай дэмакратыі, але спыніцца на іх у гэтай рабоце мы не маем магчымасці* («Вучоныя запіскі БДУ»).

У мове мастацкай літаратуры займеннік *мы* ў значэнні «я» набывае адценне жартаўлівасці.

Лютынскі. *Цяпер мы возьмемся за цябе, як мае быць. Можа, паспрабуем распранупца? Падымі сваю лапку* (К. Крапіва. Канец дружбы). *«А мы зараз змераем яе», — усхапілася Харошка. «Мы, а не вы», — таксама жартаўліва праказаў Грушэўскі* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

З адценнем спагады ці жартаўлівасці, зрэдку іроніі гэты займеннік выкарыстоўваецца ў адносінах да асобы, да якой звяртаюцца з гаворкай (замест *ты*).

Лютынскі. *Ну, разам будзем падаць. З мілым, кажуць, у шалашы рай.* Наталля. *А можа, я не захачу яшчэ падаць з табою.* Лютынскі. *Ого, якія мы сталі* (К. Крапіва. Канец дружбы). *«Дык што, — пытаецца тата, — я чуў, мы атрымалі дзве пяцёркі?»* (Я. Брыль. Светлае ранне). *Маеўскі пяшчотна пагладзіў яе руку. «Ну, вось і слёзы... Куды ж нам да партызан са слязамі? — Ён на момант задумаўся, а потым ціха сказаў: — Пачакай крыху, Танюша»* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Слова *мы* ўжываецца і для абазначэння сукупнасці, у якую ўваходзяць аўтар і чытач.

*Мы знаем, ён рыбак з уроды, і ўсякіх рыб ён знае ходы, калі якая нерастуе, што ёй пад густ, чаго бракуе...* (Я. Колас. Новая зямля). *У гэтым артыкуле я хачу закрануць некаторыя пытанні беларускай мовы, якія хвалююць не толькі мяне, але і іншых пісьменнікаў. Перш за ўсё мы павінны ясна ўразумець сучасны стан нашай мовы і яе будучы лёс* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы).

§ 680. Займеннік *вы* ўжываецца пры звароце да групы асоб (дзвюх ці некалькіх) або да аднаго чалавека (т. зв. форма ветлівасці).

*«Партызанскае камандаванне, падпольны райком спадзяюцца на вас, — Лясніцкі на момант змоўк, абвёў усіх пільным позіркам, — і таму дае вам самыя адказныя заданні. Вы ўжо мелі некалькі такіх*

*заданняў»* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Насустрач яму ішла Ларыса. «Куды гэта вы сабраліся?»* (Р. Мурашка. Сын).

Выдзелены знакамі прыпынку займеннік *вы*, які ўжыты пры звароце да адной асобы, набывае адценне пагарды.

*І ўжо рэзка, неяк страпянуўшыся ўсёй постаццю,* [дырэктар] *да касіра: «Слухайце, вы...»* (М. Лынькоў. Маладосць). *«Слухайце, вы!» — я ад абурэння не знаходзіў слоў* (А. Чарнышэвіч. Дробязі).

### § 681 Скланенне асабовых займеннікаў

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *я* | *ты* | *мы* | *вы* |
| Р. | *мяне* | *цябе* | *нас* | *вас* |
| Д. | *мне* | *табе* | *нам* | *вам* |
| В. | *мяне* | *цябе* | *нас* | *вас* |
| Т. | *мной (-ю)* | *табой (-ою)* | *намі* | *вамі* |
| М. | *(аба) мне* | *(аб) табе* | *нас* | *вас* |

Асабовыя займеннікі не маюць форм граматычнага роду і ліку. Словы *мы, вы* не з'яўляюцца формамі множнага ліку займеннікаў *я, ты*. Характэрнай асаблівасцю слоў *я, мы* з'яўляецца тое, што асновы ўскосных склонаў тут не маюць нічога агульнага з асновамі назоўнага склону (параўн. *я — мяне, мы — нас*). Аснова займенніка *я* ў родным і вінавальным склонах **-мян-** *(мяне)*, у давальным, творным і месным **-мн-** *(мне, мной, аба мне)*. У формах роднага і вінавальнага склонаў слова *ты* ў выніку змякчэння **т** вылучаецца аснова **цяб-**. Асновы ўскосных склонаў займеннікаў *мы, вы* нязменныя *(нас, нам, намі, вас, вам, вамі)*.

### *Асабова-ўказальныя займеннікі*

§ 682. Для асабова-ўказальных займеннікаў 3-яй асобы характэрна наяўнасць катэгорый роду і ліку. Існуюць формы мужчынскага роду — *ён*, жаночага — *яна*, ніякага — *яно*, множнага ліку — *яны*. Гэтыя займеннікі ўжываюцца для абазначэння тых прадметаў ці асоб, пра якія ўжо ішла гутарка, а таксама для ўказання на пэўную асобу ці прадмет. Займеннікі 3-яй асобы ўжываюцца і тады, калі паміж двума субяседнікамі гутарка ідзе пра іншую асобу.

*Гналі пастушкі каровы на раніцу — трое хлопцаў. Вёска стаяла ў лагчыне, і калі яны выйшлі з каровамі на ўзгорак, убачылі, што там, дзе новае шасэ перакрыжоўваецца з чыгункай, сядзіць чалавек. У яго ў руках нешта белае — няйначай папера. Але як толькі ён пачуў каровін рык і хлапецкі гоман, паперу зараз жа схаваў і дастаў з кішэні нешта другое* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Саша адступіў ад дзвярэй, і яны зайшлі ў пакой. «Вы — Саша Караневіч?» — спытала чырванашчокая, звярнуўшыся да Ільюка. «Не. Ён!» — паказаў той на сябра* (І. Шамякін. Першае спатканне).

Часам шырокі кантэкст падказвае, замест якога слова ўжываецца займеннік.

*І там, дзе гарэла ў вятрах Паваложжа, галоднае смагла ў лядах блакад, мы вечны помнік яму* [Леніну] *заложым — на мільярды кілават* (М. Лужанін. Над Волгай). *Выводзіў дзядзька лысым-лысы сяло ў скарбовыя палі: «Наконт яе дэкрэт падпісан. Пайшлі дзяліць!» — І ўсе ішлі* (М. Лужанін. У Кастрычніку).

Акрамя адзначаных, асабова-ўказальныя займеннікі 3-яй асобы могуць мець і іншыя значэнні. Ужытыя ў адносінах да асобы, да якой звяртаюцца з гаворкай, яны часта набываюць адценне жартаўлівасці, зневажальнасці, іроніі.

*«Ці ж толькі тых, хто звярэдзіўся, просяць садзіцца? — спытаў ляснік і падняў вышэй адзін вус: — або ты бачыла, як я ляжаў?» — «Падумаеш, якая цікавасць,—бачыць як ён ляжаў», — сказала Ганна і стала пазіраць у другі бок* (Я. Колас. Нёманаў дар). *«Я не разумею вашага пытання, пан камандуючы...» — «Ён не разумее! Ён разыгрывае перада мною цнатлівую дзяўчыну!»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *«Чуеце? — наперадзе цішэюць галасы, — значыцца, зараз канец лесу». — «Адкуль і што яна чуе? У вас жа вушы пазавязваны гэтаю шарсцяною посцілкаю», — дзівіўся Грушэўскі* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Сустракаюцца выпадкі, калі гэтыя займеннікі маюць значэнне, блізкае да абагульнена-асабовага, часам жа пры дапамозе іх робіцца няпэўнае ўказанне на асобу.

*Якуб Панасавіч умеў з'ядноўваць людзей. Рабіў ён гэта не на сходах, не ўзнёслымі прамовамі, а чулым падыходам. То скажа яму ласкавае слова, то параіць, як і што зрабіць, то запытае пра тое, што якраз чалавека хвалюе* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Неўзабаве ён зусім мякка заўважыў Паўлу: «Горш за ўсё, дык гэтыя сцягачы». ...Тамаш, зноў пачынаючы курыць, сказаў: «Ён то ўсякі з іх цягаўся па свеце. Брадзяжыў. Але цяпер як асеўся на зямлі, дык от будзе сядзець і рабіць. Што ён вінаваты, што нідзе прытулку не меў...»* (К. Чорны. Зямля).

У мове мастацкай літаратуры часам наглядаецца пашырэнне форм ветлівасці і на 3-ю асобу, г. зн. ужыванне займенніка *яны* замест *ён, яна*. Гэта надае фразе прастамоўны характар, паколькі такая замена не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*«Спачатку на насілках мы іх везлі, — прадаўжаў першы партызан, з павагай паглядаючы на Вольгу, — а потым узялі ў аднаго знаёмага вось гэтыя сані»* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *А я ўжо з просьбіцай да вас, з невялічкай: будзе які выпадак, дык вы ім, начальніку нашаму, намякніце, што прасіць іх хацеў, дабрадзея нашага, каб яны ашчаслівілі мяне ў дзень майго анёла, ды пабаяўся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

### § 683. Скланенне асабова-ўказальных займеннікаў

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *ён яно* | *яна* | *яны* |
| Р. | *яго* | *яе* | *іх* |
| Д. | *яму* | *ёй* | *ім* |
| В. | *яго* | *яе* | *іх* |
| Т. | *ім* | *ёй (-ёю)* | *імі* |
| М. | *(аб) ім* | *ёй* | *іх* |

Склонавыя формы асабова-ўказальных займеннікаў падобны да форм указальных займеннікаў і поўных прыметнікаў (параўн. *гэтага, гэтаму, гэтым; сініх, сінім, сінімі*). Асаблівасцю займеннікаў 3-яй асобы з'яўляецца тое, што формы ўскосных склонаў у іх утвараюцца не ад асновы назоўнага склону.

## ЗВАРОТНЫ ЗАЙМЕННІК

§ 684. Займеннік *сябе* ўжываецца для абазначэння аб'екта, які адначасова з'яўляецца і суб'ектам дзеяння. Зваротны займеннік звычайна выступае ў якасці дапаўнення. Гэта слова не мае формы назоўнага склону, яму не ўласцівы формы роду і ліку. Яно можа адносіцца да ўсіх трох асоб як у адзіночным, так і ў множным ліку.

*І ў тон адзін з зямлёю я пяю, і кожны міг* *с я б е* *я пазнаю часцінкай злітаю вялікага сусвету* (Я. К о л а с. Я жыву). *Мой мілы таварыш, мой лётчык, вазьмі ты з с а б о ю мяне!* (Я. К у п а л а. Хлопчык і лётчык). *«Ах, соня якая я! Дагэтуль спаць!» — дакарала яна с я б е.* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *«Экзальтаваны дурань» — так называлі яго, зразумела, паміж с а б о й, некаторыя афіцэры* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Вароны ў высі крык заўзяты узнялі, бы клянуць с я б е* (Я. К у п а л а. У лесе).

Зваротны займеннік *сябе* скланяецца, як і асабовы займеннік *ты*:

Н. —
Р. *сябе*
Д. *сабе*
В. *сябе*
Т. *сабой (-ою)*
М. *(аб) сабе*

## ПРЫНАЛЕЖНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 685. Да групы прыналежных адносяцца займеннікі *мой, твой, свой, наш, ваш.*

Займеннікі *мой, наш* указваюць на прыналежнасць прадмета 1-ай асобе, *твой, ваш* — 2-ой. Займеннік *свой* можа адносіцца да любой з трох асоб як у адзіночным, так і ў множным ліку.

Займеннікі *мой, твой, свой, наш, ваш* дапасуюцца да азначаемага слова ў родзе, ліку і склоне.

*Ой вы, хмаркі, неба дзеці! Як вы сэрцу м а й м у мілы!* (Я. К о л а с. Веснавыя хмаркі). *Т в а е вынаходствы не т в а я заслуга, а ўсіх папярэдніх людзей, у тым ліку і першабытных* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Радасць вы н а ш а! Вам сонца свеціць, як нам не свяціла. Ленінцы вы, камсамольцы, гордасць вы н а ш а і сіла!* (К. Б у й л а. Моладзі). *Сялянская хата стаяла над светлай ракою. І жыў там араты з Агатай с в а ё й і дачкою* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

Прыналежныя займеннікі ў пэўнай ступені суадносныя з асабовымі і зваротнымі займеннікамі, параўн.: *я — мой, ты — твой, мы — наш, вы — ваш, сябе — свой.*

У сказе прыналежныя займеннікі звычайна бываюць азначэннем, часам жа яны з'яўляюцца выказнікам або ўваходзяць у склад састаўнога выказніка: *Бераг стаў н а ш ы м* (М. Л ы н ь к о ў. Над Бугам). *Бачу, — т в а е валасы, т в а я паходка, нават рост т в о й* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга).

Прыналежныя займеннікі *мой, наш* у мове мастацкай літаратуры могуць мець значэнне «той або тое, аб чым ідзе размова, пра каго або пра што расказвае аўтар».

*Як жа здзівіўся і як узрадаваўся м о й нястомны вандроўнік, выйшаўшы з вагона і згледзеўшы цэлы гурт маладых, бадай што ўсіх знаёмых настаўнікаў!* (Я. К о л а с. На ростанях). *М а е закаханыя, поўныя мар, пад ціхай вярбою сядзяць над Дзвіною* (А. З а р ы ц к і. На дзвінскіх парогах). *Экскурсанцкім жвавым маршам далей крочыць пара н а ш а* (К. К р а п і в а. Хвядос — чырвоны нос).

§ 686. Для абазначэння прыналежнасці 3-яй асобе, акрамя займенніка *свой*, ужываецца форма роднага склону асабова-ўказальных займеннікаў *яго, яе, іх.*

*Вечна клапатлівая маці з'яўлялася ў я г о думках* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *А потым твар я е заліўся чырванню* (І. Ш а м я к і н.

Глыбокая плынь). *Няма ў кнігах роду* і х, *імя* і х *толькі — адшчапенцы, а гэта ведама без кніг* (Я. Купала. Адшчапенцам).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры, акрамя разгледжаных прыналежных займеннікаў, сустракаюцца таксама займеннікі *ягоны, ейны, іхні, наскі, нашынскі*. Асабліва часта ўжываюцца словы *ягоны, іхні*.

*А я, заўважыўшы падкурчаныя пальцы Міколкавай левай рукі і тры калодачкі ўзнагарод на* ягоных *грудзях,— захацеў абняць хлопца яшчэ раз* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). Ягоная *хата — будан партызанскі* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *Бальшавік быў* іхні *бацька, пралетарый родам, зведаў сушы, зведаў моры, бітвы і паходы* (Я. Купала. Сыны).

*Томас глядзеў, як спрытна ложыць яна лапікі на куртачку і як жвава бегаюць з іголкаю* ейныя *пальцы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *А людзі? Ведама як людзі, як кожны* наскі *чалавек* (Я. Купала. На Даўгінаўскім гасцінцы). Наскія *дарогі,* наскія *пуціны ў пясках не знікнуць, у лясках не згінуць* (П. Глебка. Зацвілі зарніцы). *«Якая гэта Тацяна? Вёскі якой?» — «Ды* нашынская *Тацяна... Лёксы Козішкі дачка»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

## § 687. Скланенне прыналежных займеннікаў

### Займеннікі *мой, твой, свой*

Адзіночны лік

| | м. р. | | | н. р. | | | ж. р. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *мой* | *твой* | *свой* | *маё* | *тваё* | *сваё* | *мая* | *твая* | *свая* |
| Р. | *майго* | *твайго* | *свайго* | | | | *маёй* | *тваёй* | *сваёй* |
| Д. | *майму* | *твайму* | *свайму* | | | | *маёй* | *тваёй* | *сваёй* |
| В. | як Н. або Р. | | | *маё* | *тваё* | *сваё* | *маю* | *тваю* | *сваю* |
| Т. | *маім* | *тваім* | *сваім* | | | | *маёй (-ёю)* | *тваёй (-ёю)* | *сваёй (-ёю)* |
| М. | *(аб) маім* | *тваім* | *сваім* | | | | *маёй* | *тваёй* | *сваёй* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *мае* | *твае* | *свае* |
| Р. | *маіх* | *тваіх* | *сваіх* |
| Д. | *маім* | *тваім* | *сваім* |
| В. | як | Н. або | Р. |
| Т. | *маімі* | *тваімі* | *сваімі* |
| М. | *(аб) маіх* | *тваіх* | *сваіх* |

### Займеннікі *наш, ваш*

Адзіночны лік

| | м. р. | | н. р. | | ж. р. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *наш* | *ваш* | *наша* | *ваша* | *наша* | *ваша* |
| Р. | *нашага* | *вашага* | | | *нашай (-ае)* | *вашай (-ае)* |
| Д. | *нашаму* | *вашаму* | | | *нашай* | *вашай* |
| В. | як Н. або Р. | | як Н. | | *нашу* | *вашу* |
| Т. | *нашым* | *вашым* | | | *нашай (-аю)* | *вашай (-аю)* |
| М. | *(аб) нашым* | *вашым* | | | *нашай* | *вашай* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *нашы* | *вашы* |
| Р. | *нашых* | *вашых* |
| Д. | *нашым* | *вашым* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *нашымі* | *вашымі* |
| М. | *(аб) нашых* | *вашых* |

Прыналежныя займеннікі скланяюцца, як прыметнікі: *мой, твой, свой* — як прыметнікі з мяккай асновай, *наш, ваш* — як прыметнікі з цвёрдай асновай.

У родным склоне адзіночнага ліку займеннікаў жаночага роду *мая, твая, свая, наша, ваша* побач з формамі *маёй, тваёй, сваёй, нашай, вашай* існуюць формы *мае, твае, свае, нашае, вашае*. Апошнія, аднак, маюць пашырэнне пераважна ў мове мастацкай літаратуры.

*Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы! Не раз, утомлены дарогай, жыццём вясны* м а е *убогай, к табе я ў думках залятаю...* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Сустрэнь, поле, прытулі ты! Я пазбыты* т в а е *ласкі!* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Валя асцярожна папраўляе рукаў* с в а е *чырвонае блузкі* (М. Л ы н ь к о ў. Апошні звярыядавец). *Але* н а ш а е *працы яна не чураецца* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо).

З а ў в а г а. У назоўным і вінавальным склонах адзіночнага і множнага ліку займеннікі жаночага і ніякага роду пад уплывам поўных прыметнікаў часам ужываюцца зканчаткамі **-ая, -ае; -ую, -ае; -ыя**. Аднак гэтыя формы не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*На гэты ласкавы і просты наказ чырвонаармейцы даюць свой адказ: «За* н а ш у ю *волю...» — «З а* н а ш у ю *працу...» — «За нашу зямлю...» — «І з а* н а ш а е *права — мы будзем да скону, да смерці змагацца і згінем адважна, і згінем са славай»* (П. Г л е б к а. Дваццаты год). *Ён пра* н а ш а е *свята дазнаўся з газет* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Паволі, з жалем, стары загаварыў: «Тут некалі стаяла* н а ш а я *хата»* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Байцы ж* н а ш ы я *— героі. Ты не знойдзеш гэткіх армій* (Я. К у п а л а. Як у госці сын прыехаў...). *«Дзе ж* в а ш ы я *сыны, дзядзька Рыгор?» — спытаўся Андрэй* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Словы *іхні, іхняе, іхняя* скланяюцца, як прыметнікі з мяккай асновай, словы *ягоны, ягонае, ягоная* — як прыметнікі з цвёрдай асновай. Відаць, пад уплывам формы *адны* ў множным ліку сустракаюцца формы займенніка *іхні* з **-ы** *(іхны)*.

*Панам пацеха і забава, і ў* і х н і м *гусце гэта справа* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Сябра Адасёў апавядаў пра стачку на* і х н і м *заводзе* (П. Г а л а в а ч. Навела без назвы). *Шмат што заварушыцца ў* і х н і м *уяўленні...* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Перад гэтым мы былі ў* і х н ы м *штабе на допыце* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне). *Вабяць вочы, нібы ўспаміны, цэлы свет іграе ў* і х н ы м *ззянні* (З. Б я д у л я. Буду піць пахучы смутак змрокаў). *Заўсёды з імі наша думка, і з намі — дбайнасць* і х н ы х *тэм. Патрон ваеннага падсумка мы на выпадак беражэм* (У. Х а д ы к а. Хай выюць ветры непагоды...).

## УКАЗАЛЬНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 688. Для займеннікаў *той, гэты, такі, гэтакі* характэрна ўказанне на прадметы або іх якасці. Канкрэтнае значэнне гэтых слоў раскрываецца пры дапамозе кантэксту.

*Перад заслонай.* Я з в а. *Ідзі запасайся мятлой, а я папрашу, каб паднялі* г э т у *заслону і паказалі гледачу майго суседа* (К. К р а п і в а. Мілы чалавек). *Андрэй прыходзіў у краму да бацькі, але за справу не браўся шчыра, сумаваў. Бацька першыя дні на* г э т а *скрозь пальцы глядзеў, думаў — пройдзе, а потым парашыў, што час сыну за справу брацца* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі).

У беларускай літаратурнай мове пашыраны канструкцыі, у якіх канкрэтнае значэнне займеннікаў *той, такі, гэтакі* раскрываецца дададнай часткай або параўнальным зваротам.

Т ы х, *што блізка жывуць, шлях асобны дахаты, што далёка —* т ы х *пуць пазбіраў у атрады* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Які знаёмы гэты плашч! Няўжо* т о й с а м ы, *які бачыў Аляксей каля Мятлінкі* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *«*Г э т а к і *ён сіцыліст, як ты маёй ка-*

*быле дзядзька!» — адказаў яму Андрэй Падгорны* (Я. Колас. Соцкі падвёў).

§ 689. Займеннік *гэты* звычайна ўказвае на прадмет, які знаходзіцца непадалёку, у непасрэднай блізкасці або пра які гаварылася нядаўна, які наогул вядомы. Займеннік *той* ужываецца для абазначэння аддаленага прадмета ці такога, пра які гаварылася раней.

*З другога канца межаваў двор са скарбовымі сенажацямі, якія нейкім дзівам падпалі пад панскую апеку Няслаўскага. Гэтай скарбовай сенажаці добра перападала ад сельскіх хлапцоў-зухаў: добрую палавіну сапсавалі начлегамі* (Р. Мурашка. Сын). *Вунь той агеньчык — нашай хаты* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Я пазіраў на яго ды думаў: Няўжо гэта той самы чалавек? Быць не можа! Той быў роўны, а гэты — як абаранак... Той быў тоўсты, а гэты на цэлы пуд худзейшы. Той хадзіў па воласці, як сам цар, крычаў, аж шыбы бражджалі, а гэты сагнуўся, як жабрак...* (Я. Колас. Выбар старшыні).

Займеннік *гэты (гэта)* можа ўказваць на з'явы, падзеі вельмі адцягнена; такое адцягненае значэнне займенніка высвятляецца не ў ізаляваных выразах, а ў складаных канструкцыях і шырокім кантэксце.

*У канторы нікога не было, і гэта ўзрадавала Алеся* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Цераз тое ж сухое балота атрад Паўленкі адышоў у лес. У атрадзе было толькі чацвёра раненых. Партызаны вынеслі шмат трафейнай зброі, боепрыпасаў, узялі ў палон дзевяць гітлераўцаў, у тым ліку начальніка станцыі. Даведаўшыся аб гэтым, Карп крыху супакоіўся...* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Было гэта з Ладымерам Стальмаховічам зімою. Мароз быў добры, пара была пасля Новага года. У яго жылаватых руках задрыжала восілка і загойдалася вядро. Ацынкованая бляха завішчала, заскрыгітала. Конь глянуў на яго пудлівым зіркам, строс са скуры пацяруху і драпануў са двара* (К. Чорны. Вясна).

Заўвага 1. Значэнне, аналагічнае значэнню займенніка *гэты*, часам мае форма **то**: *«Вось гэта добра, калі то праўда!» — азваўся Максім, і ў вачах яго бліснула радасць і задавальненне* (Я. Колас. Дрыгва). *А дзе ж пажар? То ж дзядзька люльку курыць* (К. Крапіва. Пажар). *Сідар азірнуўся — то аклікнуў яго таварыш* (Ц. Гартны. Сымонка-інжынер).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры пад уплывам мясцовых гаворак сустракаецца займеннік *гэны*, які мае значэнне *«больш далёкі, няпэўны»*. Слова *гэны* можа ўжывацца ў значэнні займенніка *гэты* тады, калі ў сказе ўжо ёсць займеннік *гэты*; замена робіцца ў стылістычных мэтах. Займеннік *гэны* трапляе ў мову мастацкай літаратуры з народных гаворак, для літаратурнай жа мовы ён не характэрны.

Данілка. *А ў ногі не калоліся гэныя зоркі?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *«Што, дзядуля: гэны блазан свой табе, чужы, ці як?» — «Не, панюхна, не сваяк,— так нядоляй са мной звязан»* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Былі гэтыя хлопцы з партызан і прывезены былі з турмы, бо далі згоду вучыцца ў гэтай школе. Былі ў іх намеры выкарыстаць гэную школу як апошні сродак ратаваць сябе ўцёкамі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Указальны займеннік *той* ужываецца пры назве прадмета, пра які толькі што ішла гаворка; у такіх выпадках лексічнае значэнне гэтага слова бывае аслаблена.

*Усплыў месячык на ўзвыш баяць свету казкі. Неба слухае той сказ, хмаркі не схіснуцца...* (Я. Колас. Песня аб вясне). *«Ці не знойдзецца ў вас сена прадаць хоць пудоў колькі?» — запыталася яна* [незнаёмая]. *«Дзе тое ў нас сена», — адказала Вера Мікалаеўна* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі).

Нярэдка займеннік *той* мае значэнне, блізкае да значэння займенніка *такі*; у гэтым выпадку слова *той* указвае на з'яву або прадмет, які параўноўваецца з іншымі, ці на падобныя да іх.

*Не пазнаеш зямлі і вясковых людзей — не, не тыя, не тыя яны* (Я. Колас. Нашы дні). *Будзе, будзе туга... Яна ўжо вось і пачалася... Ды ўжо не тая будзе туга, не тое чаканне!..* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Толік паімчаў на сваім матацыкле ў поле, калі яшчэ сонца не*

*займалася, не* т о й *гэта хлопец, каб праспаў* (У. К р а ў ч а н к а. Праз шэсць гадоў).

Займеннік *той* (часцей пры назоўніках са значэннем часу або месца) можа мець значэнні «працілеглы», «папярэдні», «мінулы» і г. д.

*Раніцой жа перадалі загад, каб як мага хутчэй перагналі калгасную жывёлу на* т о й *бераг ракі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Цялушку ўзялі на* т ы м *тыдні* (К. К р а п і в а. Канец дружбы).

Займеннік *той* можа мець пры сабе словы *самы* або *жа;* у гэтым выпадку ён набывае значэнне «іменна той, такі самы, ранейшы, а не якінебудзь іншы».

*Т о й  с а м ы завод з высокім чорным комінам глянуў на іх знаёмымі абрысамі. Т ы я  с а м ы я  дамы, т ы я  с а м ы я  баракі* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Т ы я  ж  на  пойначы — з вёснаў да вёснаў — ў сцюжнай Карэліі высяцца сосны* (Я. К у п а л а. Сосны). *Вее ветрык, а ў ім часам дыму пачуеш дамешак, а астатняе ўсё т о е  ж  с а м а е, як да вайны: т а я  ж  с а м а я  ноч, т ы я  ж  с а м ы я  дрэвы, на'т у зорах, што свецяць над намі, імёны адны* (А. К у л я ш о ў. Дом № 24).

Займеннікі *такі, гэтакі (гэткі)* указваюць на падобныя якасці прадметаў, на падабенства іх паміж сабой.

*Усе выйшлі з-за стала, і ніхто не ведаў, ці гэта праўду расказваў Сабастыян Рамашка, ці выдумляў. У яго праўда выходзіла, як выдумка, а выдумка, як праўда... Ён і дома быў* т а к і (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *У перадку* [драбін] *стаяў на каленцах высокі, шырокі ў плячах здаравец і, нокаючы і пасвістваючы пужкай, падганяў каня... «Ці, можа, і бацька* г э т а к і, *як сын?» — «Трохі не* т а к і, *дзякаваць яму»* (Р. М у р а ш к а. Сын).

Часам словы *такі, гэтакі* выступаюць з самым агульным значэннем. Яны замяняюць словы і выразы простай мовы, але канкрэтызацыі іх не адбываецца ды па стылістычных умовах яна і не патрэбна.

*Суседкам гаварыла, што сынок* т а к і  і  г э т к і, *хваліла яго* (З. Б я д у л я. На каляды к сыну). *Маці кужаль прадзе і расказвае дзіўныя казкі. «У* т а к о й-т а, т а к о й-т а *чужой старане жыў асілак ліхі, чалавек, як вядома, не наскі; узлятаў ён да гор і па морскім разгульваў дне»* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі).

§ 690. Указальныя займеннікі ў кантэксце могуць выступаць у ролі асабовых займеннікаў. Нярэдка такое ўжыванне названых слоў абумоўлена стылістычнымі прычынамі. Яно дазваляе пазбегнуць двухсэнсавасці.

*Відаць, ёй не хацелася шукаць маткі, а можа яна проста не ведала, куды* т а я *пайшла* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). Х а р к е в і ч. *Што табе! За тое ж з усімі разбярэшся і Міхалку так солі падсыпеш...* М і к о л а. *Г э т а м у-то я падсыпаў бы...* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *Ваяводам на Палессе трэба паслаць пана Даўнаровіча. Г э т ы зробіць усё* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

З а ў в а г а. У спалучэннях *той-сёй, такі-сякі* захоўваюцца ўказальныя займеннікі, якія не ўжываюцца асобна ў сучаснай беларускай мове *(сёй, сякі)*. Агульнае значэнне займеннікаў *той-сёй, такі-сякі* — указанне на няпэўных асоб *(той-сёй)*, на няпэўную якасць *(такі-сякі)*.

## § 691. Скланенне ўказальных займеннікаў

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. | н. р. | ж. р. | |
| Н. | *гэты* | *гэта* | *гэта* | *гэтыя* |
| Р. | *гэтага* | | *гэтай* | *гэтых* |
| Д. | *гэтаму* | | *гэтай* | *гэтым* |
| В. | як Н. або Р. | *гэта* | *гэту* | як Н. або Р. |
| Т. | *гэтым* | | *гэтай (-аю)* | *гэтымі* |
| М. | *(аб) гэтым* | | *гэтай* | *гэтых* |

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *той* | *тое* | *тая* | *тыя* |
| Р. | *таго* | | *той (тае)* | *тых* |
| Д. | *таму* | | *той* | *тым* |
| В. | як Н. або Р. | *тое* | *тую* | як Н. або Р. |
| Т. | *тым* | | *той (-ою)* | *тымі* |
| М. | *(аб) тым* | | *той* | *тых* |

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *такі* | *такое* | *такая* | *такія* |
| Р. | *такога* | | *такой* | *такіх* |
| Д. | *такому* | | *такой* | *такім* |
| В. | як Н. або Р. | *такое* | *такую* | як Н. або Р. |
| Т. | *такім* | | *такой (-ою)* | *такімі* |
| М. | *(аб) такім* | | *такой* | *такіх* |

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *гэтакі* | *гэтакае* | *гэтакая* | *гэтакія* |
| Р. | *гэтакага* | | *гэтакай* | *гэтакіх* |
| Д. | *гэтакаму* | | *гэтакай* | *гэтакім* |
| В. | як Н. або Р. | *гэтакае* | *гэтакую* | як Н. або Р. |
| Т. | *гэтакім* | | *гэтакай (-аю)* | *гэтакімі* |
| М. | *(аб) гэтакім* | | *гэтакай* | *гэтакіх* |

Указальныя займеннікі скланяюцца, як прыметнікі. Асаблівасцю займеннікаў *той, такі* з'яўляецца тое, што яны маюць націск на канчатку. Праўда, першы з іх у мове мастацкай літаратуры (пераважна ў паэзіі) сустракаецца і з іншым націскам (не *таго́*, а *то́га*).

*Шкода мне зялёнай нівы, што шуміць у полі, т о г а дуба, што над рэчкай песціцца ў прыволлі* (Я. К о л а с. Сохну марна я ў астрозе). *З т о г а акопа відна ўжо яму перамога* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі).

Рад асаблівасцей маюць у мове мастацкай літаратуры займеннікі жаночага і ніякага роду.

Займеннік *гэты* ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду можа мець не толькі кароткую *(гэта)*, але і поўную форму: *гэтая хата, гэтае поле*. Аднак поўная форма не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Нібы рвалася на кавалкі яна — цішыня г э т а я — і асыпалася сухой ігліцай хвой* (М. Л ы н ь к о ў. Сінія галіфэ). *Каб г э т а е здарэнне раней, у ранейшай яго звычайнай абстаноўцы, кравец бы охкаў, тросся, гаварыў бы беспарапынна...* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *І, відаць, Ларысе зусім не хацелася гаманіць на г э т у ю тэму* (Р. М у р а ш к а. Сын).

У родным склоне побач з формамі *гэтай, той* сустракаюцца формы *гэтае, тае*.

*Рвецца дух мой на свабоду з г э т а е магілы* (Я. К о л а с. Сохну марна я ў астрозе). М а ш а. *Калі мала работы, дык гэта дрэнна для чалавека. Разгультаіцца, і т а е яму не хочацца рабіць, якая ёсць* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). *Неўзабаве, каля т а е ўсё школы, пачынаюць збірацца* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах).

Ад займенніка *тая* ў мове мастацкай літаратуры пад уплывам народных гаворак даволі пашырана форма роднага, давальнага, творнага і меснага склонаў *тэй*. Але гэта форма не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Горкім жалем, цяжкім смуткам ад т э й песні вее...* (Я. К о л а с. Перад дарогай). *Сам Алесь сямігадовы, як ліст, скалануўся, бо ў т э й бацькавай прамове страх яму пачуўся* (Я. К о л а с. Першы заработак). *З т э й пары пад вольным небам вунь як вырас бальшавік* (К. К р а п і в а. Чырвоная мятла добра мяла). *«Ты тутэйшая?» — запыталася тая ў Ганны. «Не, вунь з т э й вёскі, за рэчкай»* (К. Ч о р н ы. Радасць жанчыны).

У гэтых жа склонах зрэдку сустракаецца форма *таей* (у творным і *таею*), якая таксама не з'яўляецца літаратурнай нормай.

*Не называю яе раем, т а е й хаціначкі ў гаі...* (Я. К у п а л а. З успамінаў пра дзяцінства. З Шаўчэнкі). Д а н і л а. *Дык вось табе работа: прайсці т а е ю дарогаю, якую ты ведаеш, праз гэты лес да самай Гневані* (К. К р а п і в а. Даніла).

## АЗНАЧАЛЬНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 692. Азначальныя займеннікі *сам, самы, увесь, усякі (усялякі), кожны, іншы (інакшы)* указваюць на абагульненую якасць прадмета. Па сваёй функцыі ў сказе яны падобны да прыметнікаў.

§ 693. Займеннік *сам* ужываецца пры назоўніках ці асабовых займенніках, падкрэсліваючы, што іменна названая асоба з'яўляецца суб'ектам або аб'ектам дзеяння. Падобную функцыю гэты займеннік выконвае і тады, калі такі назоўнік або займеннік адсутнічае.

*Сляды гэтых невядомых яму людзей засталіся ў паперах, а дзе яны с а м і?* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Кастусь Прыбыткоўскі с а м колькі разоў быў у ліку тых маладых пасажыраў і разам з усімі стаяў перад Волькаю і гаварыў з ёю* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес).

У некаторых выпадках гэты займеннік лагічна не выдзяляе назоўніка, а як бы звяртае ўвагу на тое, што пра пэўны прадмет ці асобу ўжо гаварылася; слова *сам* указвае на сувязь з папярэднім або паследуючым у кантэксце.

*Лабановіч, ідучы каля кузні, акінуў яе поглядам. Яму ўспомнілася, што ў гэтай кузні спрытны каваль Хаім нацягаў шыны на іх колы, што ў гэтую кузню не адзін раз прыязджаў ён і прыходзіў з дзядзькам Марцінам па розных гаспадарчых справах. І гэта кузня і с а м о мястэчка тады нейк выглядалі па-другому, рабілі большае ўражанне, можа з тае прычыны, што ён тады быў малы* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Мятлінка абудзілася не адразу. Спачатку ў сярэдзіне яе ляпнула аб пабеленую сцяну хаты з высокім дахам адкінутая акяніца. Золак адбіўся ў шыбах, як вясёлкавы зайчык. С а м о е акно таксама неўзабаве расчынілася і ў палісаднік высунулася жаночая галава з наспех сабранымі ў вузел валасамі* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах).

Часам займеннік *сам* указвае на найвышэйшую ступень якасці ў прадмеце, набываючы значэнне «ўвасоблены» (параўн.: *ён — само здароўе, ён — увасобленае здароўе*).

*Міхал — с а м слых, але дарэмны вушэй чуллівых натужэнні: нідзе ні зыку шарасцення* (Я. К о л а с. Новая зямля). [Яны] *... выглядаюць так, як можа выглядаць с а м о здароўе, с а м а сіла, с а м а пайнакроўная маладосць!* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры).

Займеннік *сам* можа мець значэнні «самастойна», «без чыёй-небудзь дапамогі», а таксама «адзін».

*«Без помачы с а м і не вылезуць», — важна гаварыў вусаты* (Я. К о л а с. У балоце). К а ц я р ы н а. *Гэта шчасце тваё с а м о прыйшло табе ў рукі* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Ад нязвыклага зіхацення снегу с а м і жмурыліся вочы* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *А чаму зрубілі? С а м Дубовік не адолеў бы такую даміну пабудаваць. А таму зрубілі, што калгасам, калектывам не тое, што дом пабудаваць, горы звярнуць можна* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі).

§ 694. Займеннік *самы* ўжываецца пры іншых займенніках і пры назоўніках. Ён указвае на мяжу ў часе або прасторы, на найбольшае праяўленне якасці асобы, прадмета, з'явы, на найбольшую колькасць чаго-небудзь.

*Ад с а м а г а ранку касіў Паўлюк у пана на лузе* (Я. К о л а с. Паўлюковы думкі). *Ён заехаў пад с а м ы аполкавы хлеў, дзе было гаспадарчае прыладдзе, і тупнуў нагамі ў голую зямлю* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Паглядзі, сусед, на пушчу, як трашчаць галіны, — там у с а м у ю ўжо гушчу вецер сілы кінуў* (Я. К у п а л а. Буралом). *«Адтуль, адтуль заходзь — там с а м а я рыба ходзіць!» — ра́дзіць дзед* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

Пры дапамозе займенніка *самы* ўтвараецца найвышэйшая ступень параўнання прыметнікаў.

*Толькі с а м ы я траскучыя маразы засцілалі яе плёнкаю лёду* (Я. К о л а с. Калядны вечар). *Калі няма Фімы, няхай дзядзька дае с а м а е цяжкае заданне* (С. Б а р а н а в ы х. Калі ўзыходзіла сонца).

Гэты займеннік указвае і на істотнасць з'явы, прадмета, часам ён зблізкаецца па функцыі з займеннікам *сам* (калі апошні як бы звязвае сказ з папярэднім або паследуючым сказам).

*Яна рванула канверт гэтак, што парвала с а м ы ліст* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Пісар Дулеба хоць трохі і прыціх, але ўсё яшчэ храбрыцца. І не пісарства дарага яму — пляваць ён хоча на яго і плюе, — яму абыходзіць с а м ы прынцып: ну, што будзе, калі гэтыя сацыялісты возьмуць верх?* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *С а м ы горад акружае прыгожае каменнае ўзбярэжжа, дзе заўсёды прагульваецца шмат вясёлых, шчаслівых людзей* (Я. М а ў р. Лацароні).

Ужываецца займеннік *самы* і для падкрэслівання таго, што іменна гэта асоба, гэты прадмет маюцца на ўвазе, іменна ім уласцівы пэўныя якасці і г. д.: *«Сідор Гарасімыч!» — «Я с а м ы», — здзіўлена адгукнуўся Сідор і прыпыніўся* (Ц. Г а р т н ы. Трэскі на хвалях). М у ж ч ы н а. *Гэта ж Гудовіч!* Ж а н ч ы н а. *Ён с а м ы* (К. К р а п і в а. З народам).

§ 695. Займеннік *увесь*, як і займеннікі *ўсякі, кожны, іншы*, мае асобныя формы для мужчынскага, ніякага і жаночага роду, а таксама агульную для ўсіх трох родаў форму множнага ліку. Гэты займеннік указвае на паўнату ахопу прадмета пэўным дзеяннем, станам, на зборнасць, ён мае значэнне «цэлы, цалкам» і інш.

*На пытаннях барацьбы за якасць мастацкай літаратуры была сканцэнтравана ўвага ў с я г о з'езда* (Я. К у п а л а. Створым літаратуру лепшую ў свеце). *І вось ужо ў с ё сяло стала яму відаць* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі). *У с я станцыя была забіта вагонамі і цягнікамі* (Я. К о л а с. Сяргей Карага). *Амаль не ў с е сцены і платы ў вёсцы размалёваны яго рукой* (З. Б я д у л я. Велікодныя яйкі). *Даль неаглядная, даль засмучоная, смугай спавіта ў с я ты!* (Я. К о л а с. У дарозе). *Але затое Каспар як ёсць у в е с ь аддаўся рабоце* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

§ 696. Займеннік *усякі* выдзяляе любы прадмет з групы аднародных або якасна розных прадметаў. Гэты займеннік сінанімічны словам *любы, розны*. Калі займеннік *усякі* ўжываецца з назоўнікам, ён па ролі ў сказе

падобны да прыметніка, калі ўжываецца без назоўніка, то падобны да апошняга. Слова *ўсякі* ў пэўным кантэксце можа надаваць адценне зневажальнасці, пагарды.

*Уся лава проці печы была застаўлена міскамі, гарнушкамі, гаршкамі і ў с я к і м і прыпасамі для вячэры* (Я. К о л а с. Калядны вечар). *Ты што рабіў? За гэта самае ў с я к і мужык, самы цёмны, цябе не памілуе!* (К. Ч о р н ы. На варце). *Ён рассцелецца святлом падлог і запахне чыстым пахам смольным, каб у с я к і з нас ізноў тут змог жыць шчаслівым, радасным і вольным* (К. Б у й л а. Заспявайце песню...). *У с я к а м у свая рана баліць* (народн.). *Ды дзе ж ты набярэшся на ў с я к а г а лысага чорта?* (Я. К о л а с. Дзядзькаў сведка).

Займеннік *усялякі*, які пашыраны ў мове мастацкай літаратуры, у асноўным мае той жа сэнс, што і *ўсякі*, аднак ён часцей з большай катэгарычнасцю выражае значэнні «розны», «самы разнастайны».

*У с я л я к і х там жывёлін у тым садзе ёсць даволі, — шчыплюць траўку паміж дрэў* (К. К р а п і в а. Біблія). *Там у с я л я к а я работа ёсць* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

§ 697. Для вылучэння прадмета з групы аднародных прадметаў, указання на ахоп пэўным дзеяннем, станам прадметаў паасобку ўжываецца займеннік *кожны (кожнае, кожная, кожныя)*. Гэта слова набліжаецца па сэнсу да займенніка *ўсякі*, але ў адрозненне ад апошняга ў большай ступені выражае значэнне раздзяляльнасці.

*У к о ж н ы міг, у к о ж н ы час душою, сэрцам я між вас* (Я. К о л а с. Абаронцам роднай зямлі). *Вам на памяць серп і молат даравала доля, каб з вас к о ж н ы быў, як волат, не гнуў плеч ніколі* (Я. К у п а л а. Арлянятам). *К о ж н ы з вас цяпер — салдат, на якога з надзеяй глядзіць увесь народ* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах).

§ 698. Займеннік *іншы (іншае, іншая, іншыя)* указвае на адрозненне якасці пэўнага прадмета ад якасцей другіх прадметаў, на адрозненне якасці прадмета ў цяперашні час ад яго якасці ў прошлым або ў будучым, а таксама на выдзяленне данага прадмета з групы іншых. Займеннік *інакшы* ў большай ступені, чым *іншы*, указвае на адрозненне якасцей прадметаў.

*Яна не чуе крыку болю, бо вабіць хмарку і н ш ы край* (Я. К о л а с. Нязбытныя надзеі). *Станіслава і Паўлу ядналі цяпер і н ш ы я, чым у школьныя гады, клопаты* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *І роля яе ў гэтым баі была зусім і н ш а я, чым яна жадала* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). Н а с ц я. *Ты і н а к ш ы стаў!* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *І, можа, тады ўпершыню зразумелі, што свет не такі, як у кнігах, — і н а к ш ы: ля фанзаў кітайскіх тады ўжо шумелі вятры і сцягі рэвалюцыі нашай* (П. П а н ч а н к а. Нас ленінскі сцяг парадніў).

### § 699. Скланенне азначальных займеннікаў

Займеннік *сам*

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *сам* | *само* | *сама* | *самі* |
| Р. | *самога* | | *самой* | *саміх* |
| Д. | *самому* | | *самой* | *самім* |
| В. | *самога* | *само* | *саму (самую)* | як Н. або Р. |
| Т. | *самім* | | *самой (-ою)* | *самімі* |
| М. | *(аб) самім* | | *самой* | *саміх* |

## Займеннік *самы*

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *самы* | *самае* | *самая* | *самыя* |
| Р. | *самага* | | *самай* | *самых* |
| Д. | *самаму* | | *самай* | *самым* |
| В. | як Н. або Р. | *самае* | *самую* | як Н. або Р. |
| Т. | *самым* | | *самай (-аю)* | *самымі* |
| М. | *(аб) самым* | | *самай* | *самых* |

## Займеннік *увесь*

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *увесь* | *усё* | *уся* | *усе* |
| Р. | *усяго* | | *усёй* | *усіх* |
| Д. | *усяму* | | *усёй* | *усім* |
| В. | як Н. або Р. | *усё* | *усю* | як Н. або Р. |
| Т. | *усім* | | *усёй (-ёю)* | *усімі* |
| М. | *(аб)усім* | | *усёй* | *усіх* |

Формы ўскосных склонаў займеннікаў *сам* і *самы* адрозніваюцца паміж сабою націскам, а ў сувязі з гэтым і галосным у канчатку (параўн.: *само́га — са́мага, само́му — са́маму* і г. д.).

Заўвага. Часам у мове мастацкай літаратуры (зрэдку ў мове публіцыстыкі) сустракаюцца формы роднага і давальнага склонаў адзіночнага ліку ад займенніка *сам* з націскам на апошнім галосным *(самаго́, самаму́)*, аднак такое ўжыванне з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*Перш за ўсё шмат залежыць ад здольнасцей самаго пісьменніка* (Я. Колас. Стварыць сапраўднае сацыялістычнае мастацтва). *Ён ні аб чым не думаў, толькі вялікі гнеў панаваў у яго душы на самаго сябе* (З. Бядуля. Сорам). *Ці даўно яму самаму, калі вучыўся ён у семінарыі, крычалі мешчанчукі: «Лямец! лямец! На якой бярозе ты лапці павесіў?»* (Я. Колас. У палескай глушы).

З народных гаворак у мову мастацкай літаратуры трапляюць формы займенніка *сам—самых, самым, самымі, аб самых.* Літаратурнай нормай яны не з'яўляюцца.

*Але чуў ён, чуў душою, сэрцам чуткім і жывым у тым звоне штось такое, што жыло і ў ім самым* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Фасад муру спыніў яе пагляд і раптам напомніў ёй аб кватэры Цыбуліна, аб ім самым, аб нядаўнім жаданні ўгледзець яго праз вакно* (Ц. Гартны. На новым месцы). *У-у, як многа яшчэ работы — і каля зямлі, і каля будынкаў, і з самымі людзьмі* (Я. Скрыган. Зноў у дарозе).

Пад уплывам роднага склону займеннікаў тыпу *гэтае, нашае* сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры формы азначальных займеннікаў — *усяе, самае.*

*Юзік з усяе моцы крапіўся, каб не ўмяшацца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Мы чулі гудкі заводаў усяе сталіцы, калі работу займала другая змена* (Я. Скрыган. Гордасць). *Можа гэты — малады, смелы, прыгожы, варты яе самае* (К. Чорны. Трыццаць год). *«Няўжо і бацька думае аба мне так, як Хрысціна?» — штодня пыталася яна ў самае сябе і пільна сачыла за бацькам і мачыхай, ловячы кожнае іх слова, кожны погляд* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У рэдкіх выпадках трапляецца форма творнага склону *ўсяею.*

*Сцёпка абладжваў сцэну і адначасна спакойна і без мітусні кіраваў усяею работаю* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Займеннікі *ўсякі (усялякі), кожны, іншы (інакшы)* скланяюцца, як поўныя прыметнікі з цвёрдай асновай.

Заўвага. Побач з поўнымі формамі назоўнага склону часам ужываюцца ўсечаныя і кароткія формы, якія з'яўляюцца адхіленнем ад нормы.

*Вузел хлеба за плячыма, а ў спарышыках — з пшана каша, квас ці і н ш а справа* (Я. Колас. Батрак). *А парадак там у войску, к о ж н а ўлічана хвіліна* (Я. Купала. Як у госці сын прыехаў...). *А на пачэсным гэтым месцы садзіўся госць — і то не к о ж а н* (Я. Колас. Новая зямля).

## ПЫТАЛЬНА-АДНОСНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 700. У гэту групу ўваходзяць займеннікі, пры дапамозе якіх высвятляецца пытанне аб прадмеце ці асобе *(хто, што)*, аб іх якасцях *(які)*, аб прыналежнасці прадмета *(чый)* або яго месцы сярод іншых прадметаў *(каторы)*. Пры дапамозе гэтых займеннікаў суадносіцца даданая частка складаназалежнага сказа з пэўным словам галоўнай часткі ці з усёй галоўнай часткай. У першым выпадку займеннікі з'яўляюцца пытальнымі, у другім — адноснымі. Нярэдка пры адносным ужыванні даданая частка напаўняе канкрэтным зместам займеннікі галоўнай часткі, да якіх адносіцца гэта даданая частка.

*«Проста скарб гэты хлопец. Нібы прысутнічаў там», — сказаў Прыборны. «Х т о?» — не зразумеў Маеўскі. «Адзін наш партызан», — адказаў Прыборны* (І. Шамякін Глыбокая плынь). Валя. *Ш т о ты там цікавае ўбачыў?* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *«Патрэбны тэмпы, — сказаў Куніцкі. — Тэмпы давай, старычок ты мой!» — «Я к і я тэмпы?» — «Такія. Бальшавіцкія»* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *«Ч ы й жа ты?» — «Я Сымонаў Чуйкаў...»* (К. Чорны. Бацькаўшчына). Ліпавец. *Гляньце, яшчэ адзін ідзе. К а т о р ы гэта?* Мелех. *Ні то чацвёрты, ні то пяты* (П. Глебка. Святло з Усходу).

*Спраўнік паслаў у вёску выведаць, х т о пісаў петыцыю* (Я. Колас. Бунт). *Там была Магда, а тут — Люда, малодшая Максімава сястра, адзіная дачка дзядзькі Антося Нагорнага, партызанскага дзеда з надняманскай вёскі, я к о г а пасля вайны прыслалі ў Лазовічы загадваць старым, калісьці купецкім, млынам* (Я. Брыль. На Быстранцы). *«Каб у нас быў такі Васіль, то мы б не зналі, на к а т о р у ю нагу і ступіць,— жартавалі дзяўчаты,—дзіва што ёй весела»* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Цяпер вядома, ч ы і х гэта рук справа* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *І раптам я зразумеў, ш т о́ ўпрыгожвала гэты лапік вады, ш т о́ прыцягвала сюды людзей...* (А. Шашкоў. На рачных плёсах). *Найлепшы твор — гэта той, я к і мае найбольшую ідэйную нагрузку пры найкарацейшым і найдасканалейшым слоўным выражэнні* (Я. Колас. За высокую ідэйнасць і мастацкую дасканаласць).

Займеннікі *хто, што* і іншыя ў адносным ужыванні выступаюць не толькі ў даданай частцы складаназалежнага сказа, але і ў простым сказе. Пераважна гэта назіраецца тады, калі яны ўваходзяць у склад устойлівых спалучэнняў або выступаюць у такім сказе, дзе даданая частка спрасцілася, ператварылася ў член простага сказа.

*Белагвардзейцы, іх генералы беглі, ўцякалі а х т о куды* (Я. Купала. Песня). *Салдат у мыслях прыкідае — ёсць ш т о і ёсць з ч ы м параўнаць* (Я. Колас. Зварот). *У мяне таксама свой калектыў: ёсць з к і м параіцца* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Пішу яму, каб чытаў кнігі, і называю я к і я* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У гэта глухое месца рэдка х т о паказваўся* (З. Бядуля. Салавей).

Займеннікі *які, каторы, чый* маюць формы роду і ліку *(які, якая, якое, якія, каторы, каторае, каторая, каторыя, чый, чыё, чыя, чые)*.

§ 701. Займеннік *хто* звычайна мае месца ў пытанні аб асобе. Выказнік, як правіла, знаходзіцца пры ім у форме адзіночнага ліку мужчынскага роду. Калі пры гэтым займенніку ёсць указальны займеннік *такі,*

то апошні дапасуецца да назоўніка-дзейніка ў родзе і ліку. Пры займенніку *хто,* які выступае ў якасці злучальнага слова, выказнік можа мець форму множнага ліку, у гэтым выпадку адбываецца дапасаванне даданай часткі не да дзейніка, а да суадноснага слова галоўнай.

*А хто ж Марына і Даніла?* (Я. Колас. Рыбакова хата). *«Хто ён такі, Вадзім Пятровіч?» — «Гэта мой канторскі рахункавод»* (Р. Мурашка. Сын). *Жэню* [цётка] *спаткала проста, потым здзіўлена глянула, як бы поглядам спытала: «А гэта хто такі?»* (П. Галавач. Дасужая). *Я запытаўся, хто гэта такія Тацяна ды Люба* (А. Бялевіч. Добрыя людзі). *Камандзір роты быў адным з тых, хто разам з Тураўцом ствараў брыгаду* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Даволі пашыраны ў сучаснай беларускай літаратурнай мове займеннік *хто* ў размеркавальным значэнні, канструкцыі з гэтым словам сходныя з канструкцыямі *адны..., другія..., трэція...*

*Хто з далёкае крушні цягаў валуны, хто нёс дошкі з плаціны, шалёўкі, шчыты, хто галіны, ссякаючы ў лузе кусты* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Усё ж такі хто кум, хто брат, хто сват, а хто хоць дзесятая вада на кісялі, а пабачыцца трэба* (Я. Скрыган. Затока ў бурах).

§ 702. Займеннік *што* ўжываецца ў пытаннях аб прадметах, а таксама аб жывёлах (хоць у апошнім выпадку сустракаецца і займеннік *хто*). Як і займеннік *хто,* займеннік *што* не мае катэгорый граматычнага роду і ліку. Дзеяслоў-выказнік пры ім знаходзіцца ў форме адзіночнага ліку ніякага роду. Калі *што* з'яўляецца злучальным словам і выступае ў якасці дзейніка даданай часткі, дзеяслоў-выказнік у радзе выпадкаў дапасуецца да таго слова галоўнай часткі, да якога адносіцца гэта даданая частка.

Колькі галасоў. *А што мы спяём?* Паўлінка. *«Дый куды ж ты, дуб зялёны, пахінаешся?..»* (Я. Купала. Паўлінка). Надзя. *Што я там рабіць буду?* Страмілін. *Машыны будзеш рабіць* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Пасля вядома стала, што адбылося за тую раніцу на шашы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Усё тое і ўсе тыя, што, як карны лёс, віселі над ім, засталіся далёка і сюды не дасягнуць* (К. Чорны. Вялікі дзень).

§ 703. У запытаннях аб якасці прадмета выступае займеннік *які.* Гэта слова можа мець значэнне, аналагічнае значэнню займенніка *каторы,* — ён выдзяляе прадмет з рада падобных, устанаўлівае, якім па парадку з'яўляецца прадмет (гл. § 704).

Валя. *Якую ты дэталь штампуеш?* Валодзя. *Паваротны кулак* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *«Які твой погляд, таварыш Петрык» — «Пайсці на правал плана»* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»). *Ох, гэта дзецям знаць цікава, калі якая будзе страва, ў якім ліку, ў якім парадку?* (Я. Колас. Новая зямля). *Якая ж цяпер гадзіна?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Слова *які* шырока ўжываецца ў клічных сказах для выражэння ступені якасці прадмета, у гэтых выпадках яно збліжаецца з займеннікам *такі* ў падобнай жа функцыі (гл. § 689).

*Які чысты, які стройны, які з твару малажавы!* (Я. Купала. Як у госці сын прыехаў...). *Песня якая гаротная!* (К. Крапіва. З народам).

У беларускай літаратурнай мове слова *які* пашырана ў якасці злучальнага слова. Звычайна яно дапасуецца да таго слова галоўнай часткі, да якога адносіцца даданая. У складаназалежных сказах з даданымі выказнікавымі формы склону і ліку злучальнага слова могуць залежаць ад слова даданай часткі, да якога адносіцца *які.* У складаназалежных сказах з даданымі дзейнікавымі склонавая форма адноснага слова абумоўлена сінтаксічнай функцыяй яго ў даданай частцы.



19. Зак. 892

*І Раман дастаў з-за пазухі пракламацыю, якую ён знайшоў два гады таму назад, будучы ў павятовым горадзе на першых выбарах* (Я. Колас. Соцкі падвёў). *Якія капітаны, такі і параход* (А. Александровіч. Напор). *Уявілася, якой магла б быць гаворка паміж імі, калі б давялося заступаць вартаўніком* (А. Кулакоўскі. Не выбралі).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры зрэдку сустракаецца займеннік *якавы (якавое, якавая, якавыя)*, адпаведны рускаму *каковой*.

*Ен над службай разважае — Што за служба? Якава?* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Якавы ж тады лад з імі можа быць?* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа).

§ 704. Займеннікі *каторы (каторае, каторая, каторыя)* ужываецца пры неабходнасці выдзеліць прадмет з групы іншых, высветліць, які́м па парадку з'яўляецца прадмет.

*Настаўнік углядаўся ў яго, каб лепей запомніць, затым коратка распытваў яго, колькі яму гадоў, каторую зіму ходзіць у школу* (Я. Колас. На ростанях). *Мала ведаючы іх, — не пазнаеш, каторы Ціхан, каторы Цімох* (Я. Брыль. Галя). *Каторы дзень стаяць у мяне ў цэху чатыры станкі* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба).

Як і займеннік *хто*, слова *каторы* можа мець размеркавальнае значэнне.

*А потым падыдзе ціхом да сцяны — на картках там дочкі яе і сыны. Каторая з дзіцем, каторы з сям'ёй, каторая — ў школе, каторы — герой!* (П. Броўка. Маці).

Пры назоўніках са значэннем часу *(дзень, ноч, год, пара, вясна, зіма* і інш.), а таксама пры слове *раз* займеннік *каторы* нярэдка мае значэнне, блізкае да значэнняў «многа», «не першы».

*Каторы час прайшоў з таго, як умовіліся сустрэцца, а таго ні духу* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Вось каторая вясна ўжо будзе прыбіраць, аквечваць наш садок!* (В. Таўлай. Бацьку). *Вясна прыйшла — каторы раз ужо ў маім жыцці!* (К. Буйла. Роздум).

Пэўнае пашырэнне *каторы* мае і ў якасці злучальнага слова, часцей за ўсё ў складаназалежных сказах з дададзенымі азначальнымі. Ужываецца яно значна радзей, чым *які*, але са значэннем, падобным да значэння апошняга.

*Птушкі маюць сваю дарогу, па каторай лятуць з году ў год* (Цётка. Пералётныя птушкі). *Згуртованы народ, катораму зямля і неба падуладны* (У. Хадыка. Радзіме). *Цякла тут з лесу невялічка травой зарошчая крынічка, абодва берагі каторай лазняк, ракітнік абступалі* (Я. Колас. Новая зямля). *Бачыў такога, каторы вершы піша?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Бываюць жа такія людзі, каторыя ў гэты час ліха ведае аб чым думаюць ды яшчэ другім назаляюць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Слова *каторы* ў форме множнага ліку *(каторыя)*, а са словам *час* і ў форме адзіночнага ліку можа мець значэнне «некаторыя, некаторы».

*«Ціха! — сказаў ён. — У мяне тут яшчэ многа заяў, і мы павінны іх разгледзець. Тут у калгас просяцца каторыя»* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *Мужчыны слухалі, пасміхваліся, а каторыя недаверліва глядзелі на Пракопа* (Р. Сабаленка. Юнацтва ў дарозе). *У той жа дзень, праз час каторы, прыйшоў сюды Марцін з каморы* (Я. Колас. Новая зямля).

§ 705. Пры дапамозе займенніка *чый* высвятляецца пытанне аб прыналежнасці прадмета. Гэты займеннік можа ўжывацца і як адноснае слова, форма яго ў такім выпадку залежыць ад таго слова дададзенай часткі, да якога ён адносіцца.

*Чыімі рукамі вы дабро збіралі? На чые вы слёзы дабрабыт куплялі?* (Я. Колас. Ворагам). *У памяці пасталі жывыя вобразы бы-*

*лых маіх таварышаў... Жора Кастыль, сапраўднага імя* ч ы й г о *я так і не ведаю дагэтуль* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне).

§ 706. Шляхам паўтарэння пытальна-адносных займеннікаў (часцей — *што, хто*) дасягаецца ўзмацненне іх значэння.

*Х т о-х т о, а ён добра разумеў — жыццём сваім, каркам сваім —хто за рэвалюцыю, а хто супроць* (М. Л ы н ь к о ў. Маладосць). *К а м у-к а м у, а Тураўцу было клопатаў больш, чым усім* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Ч а г о-ч а г о, а кусок хлеба дзіця свайму бацьку не пашкадуе* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Удзень былі яны светла-пурпурныя, а ўночы залаціліся месяцам. Ч а г о-ч а г о ў іх не было!* (З. Б я д у л я. На каляды к сыну).

### § 707. Скланенне пытальна-адносных займеннікаў

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *хто* | *што* |
| Р. | *каго* | *чаго* |
| Д. | *каму* | *чаму* |
| В. | *каго* | *што* |
| Т. | *кім* | *чым* |
| М. | *(аб) кім* | *чым* |

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | м. і н. р. | | ж. р. | |
| Н. | *чый* | *чыё* | *чыя* | *чые* |
| Р. | *чыйго* | | *чыёй* | *чыіх* |
| Д. | *чыйму* | | *чыёй* | *чыім* |
| В. | як Н. або Р. | *чыё* | *чыю* | *чыіх* |
| Т. | *чыім* | | *чыёй (-ёю)* | *чыімі* |
| М. | *(аб) чыім* | | *чыёй* | *чыіх* |

Займеннікі *хто, што* скланяюцца, як *той*, формы назоўнага і ўскосных склонаў суплетыўныя. Займеннік *чый* мае склонавыя формы, падобныя да склонавых форм займенніка *мой*. Займеннікі *які, каторы* скланяюцца, як прыметнікі з цвёрдай і зацвярдзелай асновамі.

## АДМОЎНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§708. Словы, што ўваходзяць у гэту групу, утвораны ад адпаведных пытальна-адносных займеннікаў пры дапамозе прыставак **ні-, не-** *(ніхто, нішто, ніякі, нічый, некага, нечага)*. Адмоўныя займеннікі ўказваюць на поўную адсутнасць прадметаў, якасцей, прымет, прыналежнасці каму-небудзь. *Ніхто, нішто, ніякі, нічый* ужываюцца звычайна ў сказах, дзе пры выказніку ёсць адмоўе.

П ы т л я в а н ы. *Н і х т о ўмелым не родзіцца* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). *Нашых песень, светлых думак н і ш т о не зацемрыць* (Я. К у п а л а. Нашаму святу). *Н і я к а й няма пераправы!* (Я. К о л а с. Даняў). *Мінула ўжо ледзь не цэлая гадзіна, а н і х т о не заходзіць і рэгістратарша не прыносіла н і ч ы ё й амбулаторнай карткі* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы).

Адмоўны займеннік часам можа мець пры сабе ўдакладненне: якая група прадметаў (ці асоб) поўнасцю не з'яўляецца аб'ектам ці суб'ектам дзеяння.

*Да яго з вяскоўцаў н і х т о не пайшоў* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Карыстаўся Міхал у сялян вялікай пашанай, як н і х т о з калеў у акрузе* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Н і х т о з іх адзін не мог бы выканаць яе* (Я. М а ў р. ТВТ).

Займеннікі *некага, нечага* не маюць формы назоўнага склону. Яны ўжываюцца ў безасабовых сказах з інфінітывам у ролі галоўнага слова.

*Ляжыць Іван, а работа ўся стаіць, рабіць* н е к а м у, *хата не падмецена, усюды непарадак* (Я. К о л а с. Выстагнаўся). *І* н е к а г а *ёй выпраўляці, і* н е к а г а *ёй сустракаці, адно — галасіць засталося і ў горы няўгойным гарэць* (П. П а н ч а н к а. Адпомсцім!). *Зноў жа,* н е ч а г а *хваліцца тым, што яшчэ не зроблена* (К. К р а п і в а. Беларускія прыказкі). *Ну, Рыва, глупства казаць* н е ч а г а (М. Л ы н ь к о ў. Гой).

Аднак больш характэрнымі для беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца не гэтыя займеннікі, а спалучэнні *няма каго, няма чаго.*

*Ох, Андрэй Міхайлавіч, біць вас* н я м а  к а м у (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *І* н я м а  ч а г о *баяцца гэтых палепшанняў* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *«Так... На буржуазію спадзявацца* н я м а  ч а г о...*» — працягнуў Андрэй* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

### Скланенне адмоўных займеннікаў

§ 709. Адмоўныя займеннікі скланяюцца, як адпаведныя пытальна-адносныя. Словы *некага, нечага* формы назоўнага склону не маюць (*некага, нечага, некаму, нечаму...*). Прыназоўнікі звычайна знаходзяцца на месцы паміж адмоўем і займеннікам. Формы ўскосных склонаў займеннікаў *ніхто, нішто* пры наяўнасці прыназоўнікаў могуць мець два варыянты (напр. *ні на кога, ні да чога* і *ні на каго, ні да чаго*), але больш уласцівы беларускай літаратурнай мове формы тыпу *ні на кога, ні да чога.*

П ы т л я в а н ы. *Мы з табой усё роўна* н і  д а  ч а г о *не дагаворымся* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). Д а н і л к а. *Я* н і  ў  к а г о *не магу гэтага даведацца* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Чаму вы* н і  ў  к о г а *іншага не пытаецеся ды канешне ў гэтага заціскайлы* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Паддубны думаў і так і гэтак і* н і  д а  ч о г а *пэўнага не прыйшоў* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

З а ў в а г а. Ужыванне прыназоўніка перад адмоўем, як правіла, з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы.

Займеннікі *ніхто, нішто* ў значэнні «прадмет, які не мае каштоўнасці, нікчэмнасць», субстантывуюцца і ва ўскосных склонах прыназоўнікам не раздзяляюцца.

*Як спыніўся Ігналя пры гэтым апошнім успаміне мінулага дня, дык ужо* а б  н і ч ы м *іншым думаць не мог* (З. Б я д у л я. Сорам). *Жывём адны, і мы* д а  н і к о г а, *і да нас ніхто не прыязджае* (М. Ч а р о т. Самалёт).

*Цьфу! Лае, бэсціць з-за* н і ч о г а! *А мух, брат, мух у носе многа!* (Я. К о л а с. Новая зямля).

Да адмоўных займеннікаў часам далучаецца ўзмацняльная часціца **а-** (*аніхто, анішто, аніякі, анічый*). Ступень адмаўлення ў гэтым выпадку бывае большай.

*Пакінуць пана без працы не было ж* а н і я к а й *рацыі!* (К. К р а п і в а. Кат у няміласці). *Углядаецца на поўнач, —* а н і к о г а, *анідзе* (П. Б р о ў к а. Кацярына). *Не, народа майго* а н і х т о *не сагне!* (П. П а н ч а н к а. Беларусі). *Растрывожаная рыбіна, яна не бярэ* а н і ч о г а! (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка).

## НЯПЭЎНЫЯ ЗАЙМЕННІКІ

§ 710. Займеннікі, пры дапамозе якіх робіцца самае агульнае, няпэўнае ўказанне на асобы, прадметы, якасці, прыметы, прыналежнасць, месца прадмета сярод іншых, з'яўляюцца няпэўнымі. Словы з гэтай групы, як правіла, не канкрэтызуюцца ў кантэксце.

Няпэўныя займеннікі ўтвараюцца ад пытальна-адносных пры дапамозе прыстаўкі **не-** *(нехта, нешта, некаторы, нечы, нейкі)*, часціц **-сьці** *(хтосьці, штосьці, чыйсьці, якісьці)*, **-небудзь** *(хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, каторы-небудзь, чый-небудзь)*, **абы-** *(абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый)*.

§ 711. Займеннік *нешта* ўказвае на няпэўны прадмет, ён можа абазначаць і нейкую невядомую істоту, штосьці наогул жывое. Слова *нехта* мае значэнне «няпэўная асоба», часам пры гэтым адзначаецца, з якой групы выдзелена гэта асоба.

*Каюта гайдалася, быццам калыска, і нешта скрыпела, і нешта раўло...* (П. Панчанка. Патрыятычная песня). *Нешта застагнала, а потым тое, што варочалася і адбівалася, супакоілася* (К. Чорны. На варце). *Нарэшце вада ў лунцы захвалявалася, і раптам сярод дробных ільдзінак зачарнелася нешта цёмна-шызае, вялізнае, з шэрымі плямамі* (А. Шашкоў. На рачных плёсах). *На двары нехта мігнуўся пайз вокны* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *«Малады ці стары?» — пытае нехта з публікі* (Цётка. Зялёнка). *Нехта з яго* [Сцяпана Сцяпанавіча] *калег паклікаў да сябе Сцяпана Сцяпанавіча, але той як быццам і не чуў запрашэння* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

Займеннік *нехта* можа надаваць адценне зневажальнасці, абыякавасці: *Тут у нас ёсць нехта Шаблюк, старэйшы настаўнік...* (І. Шамякін. Крыніцы).

Формы ўскосных склонаў гэтых займеннікаў у меншай ступені характэрны для літаратурнай мовы, чым форма назоўнага склону. Замест першых у кантэкст часта ўводзяцца іншыя няпэўныя займеннікі *(кагосьці, чагосьці* і г. д.). Аднак у мове мастацкай літаратуры формы ад *нехта, нешта* бытуюць шырока.

*Мусіць ты, Ганна, чакала некага?* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Нібы лаяў сябе, нібы некага, а потым з усяго размаху шпурнуў біклажку на рэйкі* (С. Баранавых. Калі ўзыходзіла сонца). *Кожная фраза павінна быць нечым абумоўлена і ў сваю чаргу нешта абумоўліваць у сэнсе развіцця драматургічнага дзеяння* (К. Крапіва. Канфлікт — аснова п'есы). *Кажуць хлопцы, што быццам і ты устрывожана нечым цяпер...* (П. Панчанка. Лірычнае).

§ 712. Займеннік *некаторы* ўказвае на выдзяленне нейкіх прадметаў з групы іншых, на непаўнату ахопу групы дзеяннем, станам; займеннік *нейкі* ўказвае на няпэўную прымету прадмета, *нечы* — на няпэўную прыналежнасць. Словы *некаторы, нейкі* могуць субстантывавацца. У пэўных стылістычных умовах займеннік *нейкі* надае адценне зневажальнасці.

*Настаўнікі застаюцца на некаторы час...* (Я. Колас. У палескай глушы). *Некаторыя з моладзі пачыналі ўжо жартаваць: «За гэты час, што яны там корпаюцца, мы ўвесь катлаван выкапалі б...»* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Толькі позірк яго быў нейкі разгублены* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Люба чытала нейкую кнігу* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Сэрца так стукала, што ён думаў, нібы гэта нечыя ногі тупаюць каля пуні* (З. Бядуля. Сорам). *Што гэта — рэха ці нечы стрэл?* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Ён, напэўна, і не ведае, што ў горадзе пражывае нейкі Чарскі* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

§ 713. Паміж няпэўнымі займеннікамі, утворанымі з дапамогай часціцы **-сьці**, і займеннікамі з часціцай **-небудзь** існуе сэнсавае адрозненне, якое ў асноўным заключаецца ў тым, што апошнія маюць адценне выдзялення.

*«Ах, галубкі! Як жывыя!» — крыкне хто-небудзь з жанок* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Я хачу атрымаць якую-небудзь канкрэтную прапанову* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Толькі дым*

*ад люлек звісаў над столлю, хрыпеў часам* *ч ы й-н е б у д з ь* *цыбук ды стукаў хто люлькаю аб кіпець, выбіваў з яе попел* (Я. К о л а с. Бунт). *Часамі к а т о р ы-н е б у д з ь выходзіў за ярусы да лесу праверыць, каб не было чаго неспадзяванага* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Х т о с ь ц і глянуў на гадзіннік. Было ўжо за дванаццаць* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Шушукне ш т о с ь ц і хвайнякам і падыхне, ды так глыбока, паблеклым травам, лазнякам* (Я. К о л а с. Май). *Юнак далучыўся да нас па дарозе, на я к о й с ь ц і маленькай станцыі* (А. Ш а ш к о ў. На рачных плёсах). *Але ў гэты час бразнула клямка, і ч ы е с ь ц і ногі затухкалі ў сенях* (Я. К о л а с. Адшчапенец).

З а ў в а г а 1. У мове мастацкай літаратуры часам ужываюцца няпэўныя займеннікі з часціцай **-сь (-ся, -сі)**, а таксама са спрашчэннем часціцы **-сьці — -сьць.**

*Х т о с ь ішоў, нехта ехаў, я к і я с ь машыны гулі, набліжалася рэха, мацнела ў ствалах і галлі* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *Пасля працы ходзіць сумная, выраз твару задуменны найболей, нібы думае ш т о с ь, вырашае нешта цяжкае-цяжкае* (М. Л ы н ь к о ў. Гой). *Байкі ўсё гэта ч ы е с ь* (Ц. Г а р т н ы. Чырвоная радзіма). *Раз заведзены там лад не парушвайся, бы сцены,— цвёрды ч ы й с я быў загад* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Нейкія няясныя вобразы ўсплывалі самі сабою, аб ч ы м с і казалі і клікалі невядома куды* (Я. К о л а с. У палескай глушы).

*Але ў нядзелю зранку, зусім знянацку ш т о с ь ц ь нейкае перавяло Палуцін думку на Янку...* (Ц. Г а р т н ы. Чырвонаармеец Панкел Ліпа). *Нават беднага Сцёпку падгледзела ч ы ё с ь ц ь зоркае вока* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

З а ў в а г а 2. У некаторых аўтараў ужываюцца няпэўныя займеннікі з часціцай **-кольвек (-кольвечы, -колечы).** Значэнне іх аналагічна значэнню займеннікаў з часціцай **-небудзь.** Аднак утварэнне няпэўных займеннікаў пры дапамозе часціцы **-кольвек** не адпавядае нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

*«А каняку ч а г о-к о л ь в е к падкінула?» — перайшоў к другому ён* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Ну, можа, ш т о-к о л ь в е к для жарту тут сказана* (П. П а н ч а н к а. Пра назвы). *Праўда, цётка была бедная, у самой неставала хлеба, але ўсё ж яна рабіла ш т о-к о л е ч ы, каб даць хоць якую палёгку свайму пляменніку* (Я. К о л а с. Сірата-Юрка). *Заскочу да Глытваў і папрашу к а г о-к о л е ч ы зайсці пераначаваць* (Ц. Г а р т н ы. «Больш за ўсіх»). *Цяпер жа ў ім Ніне ш т о-к о л ь в е ч ы і не падабалася* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы).

§ 714. Займеннікі з часціцай **абы-,** указваючы на няпэўную асобу, прадмет, якасць, прыналежнасць, нярэдка адначасова даюць адмоўную характарыстыку гэтай асобе, прадмету і г. д.

*Кантрабанду прынёс і схаваў у гумне не а б ы-х т о — Сцяпан...* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *Яна гаварыла неяк разгублена, а б ы-ш т о...* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). Н і ч ы п а р. *Якую ж вам костку?* Т у л я г а. *А б ы-я к у ю — свіную, кароўю, толькі вялікую і не вельмі свежую* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім).

§ 715. У значэнні няпэўных займеннікаў ужываюцца пытальна-адносныя *хто, што, які, каторы, чый.*

*А кроплі ўсё плюскацяць і плюскацяць пад капяжом, як бы там плача х т о* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *І так характар яе вызнаў, што і не сніў аб ч ы м благім* (Я. К у п а л а. І што я ёй зрабіў такое?). *«Глянь, ці не жывёлы я к і я там?» — сказаў Тайдо, паказаўшы рукою далёка на ўсход* (Я. М а ў р. Сын вады). *Паступова праходзіць і няёмкасць. Ужо к а т о р ы і смешнае слова ўставіць, і пойдзе рогат, дружны, вясёлы* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *І не трэба ч ы ё й ласкі, хай сабе трашчыць мароз, мы расказваць будзем казкі — у мяне іх цэлы воз* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

§ 716. Па значэнню няпэўнымі з'яўляюцца спалучэнні *той-сёй, сёе-тое, такі-сякі,* у якія ўваходзяць указальныя займеннікі. *Той-сёй* указвае на няпэўныя асобы, *сёе-тое* — на няпэўныя прадметы, набліжаючыся па значэнню да займенніка *некаторыя. Такі-сякі* мае значэнні «некаторы», «які-небудзь», а таксама «нязначны». У апошнім выпадку азначаемаму часам надаецца адценне адмоўнай характарыстыкі. З гэтым звязана магчымасць ужывання займенніка *такі-сякі* ў якасці формы лаянкі ці як замяняльніка нейкіх лаянкавых слоў. *Такі-сякі* можа ўказваць і на замену якой-небудзь назвы, якую няма неабходнасці прыводзіць.

Магчымы два варыянты размяшчэння частак спалучэння: *той-сёй — сёй-той; сёе-тое — тое-сёе; такі-сякі — сякі-такі.*

*Той-сёй і гаварыў часамі: глядзіце, які стаў Гумоўскі, хоць бяры ды ў вуха кладзі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Якаў чытаў тое-сёе нават з твораў Маркса, аказаўся знаўцам палітычнай эканоміі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Усе, усміхаючыся, зірнулі на кавалерыста, сёй-той запытаўся: «Што-та сталася з тваім стаеннікам?»* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Сёе-тое ўжо беззваротна адпала: ні смажанай качкі, ні юшкі сёння не будзе* (Я. Брыль. На Быстранцы).

*У «Хроніцы панямонскага жыцця» трэба было зрабіць сякія-такія дадаткі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Тут ён успомніў, што самому трэба купіць такія-сякія падарункі жонцы і дзецям* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

*Што заснуў там, шынкар? Гэй, сякі ты такі!* (Я. Купала. У шынку). *Я гэта павярнуўся ды хацеў ісці, а ён: «Ты што гэта, забыўся, такі ды сякі, як паварочвацца трэба?»* (К. Крапіва. Доўг). *Ці не ведаеш ты (там сякая-такая), дзе наш свярдзёлак?* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Спалучэнне *ні з таго ні з сяго* з'яўляецца ўстойлівым, яно мае значэнні «раптоўна», «без прычыны».

*Доўга стаіць так Міхалка. Потым, ні з таго ні з сяго, захочацца прабегчыся, і ён, як куля, рванецца на двор* (Я. Колас. «Дзеравеншчына»). *Ні з сяго ні з таго пачыналіся сваркі* (Я. Скрыган. На выселках).

§ 717. Да няпэўных займеннікаў прымыкаюць і спалучэнні *хто-ніхто, што-нішто* і падобныя, якія абазначаюць нейкую колькасць няпэўных асоб, прадметаў і г. д.

*Я буду наведваць вас часта, ды яшчэ хто-ніхто са знаёмых можа заглянуць...* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). Скіба. *Трэба сказаць каму-нікаму з камуністаў, каб не спяшаліся выязджаць адгэтуль* (К. Крапіва. Партызаны). *Жонка настойвала паехаць у Глушэц на рынак, прадаць пару пудоў збожжа і купіць што-нішто, неабходнае для гаспадаркі...* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Гарлахвацкі. *Бо вы самі разумееце, што і я тут рызыкую чым-нічым* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

## § 718. Скланенне няпэўных займеннікаў

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *хтосьці* | *абы-хто* |
| Р. | *кагосьці* | *абы-каго* |
| Д. | *камусьці* | *абы-каму* |
| В. | *кагосьці* | *абы-каго* |
| Т. | *кімсьці* | *абы-кім* |
| М. | *(аб) кімсьці* | *абы аб кім* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *нехта* | *нешта* | *хто-небудзь* |
| Р. | *некага* | *нечага* | *каго-небудзь* |
| Д. | *некаму* | *нечаму* | *каму-небудзь* |
| В. | *некага* | *нешта* | *каго-небудзь* |
| Т. | *некім* | *нечым* | *кім-небудзь* |
| М. | *(аб) некім* | *нечым* | *кім-небудзь* |

Няпэўныя займеннікі скланяюцца, як адпаведныя пытальна-адносныя. Пры формах ускосных склонаў прыназоўнік ва ўсіх выпадках знаходзіцца перад займеннікам (*пасварыліся за нешта, узяў кнігу ў кагосьці, пайшоў да каго-небудзь*). У словах з часціцай **абы-** прыназоўнік

знаходзіцца паміж часціцай і займеннікам *(абы ў каго, абы пра што, абы на якім, абы на чым).*

Заўвага. Формы адмоўнага займенніка *нечага (ўзяць нечага)*, формы ўскосных склонаў няпэўнага займенніка *нешта (не хапала нечага)* і формы ўскосных склонаў няпэўнага займенніка *нечы (каля нечага дома)* з'яўляюцца аманімічнымі. Аманімічны і формы адмоўнага займенніка *некага (паслаць некага)*, формы ўскосных склонаў няпэўнага *нехта (прыслаў некага)*, а ў мове мастацкай літаратуры часам як адступленне ад нормы і формы ўскосных склонаў няпэўнага займенніка *нейкі (некага).*

*Ішлі праз нейкі пляц, ці проста гала, праз два завулкі, крывыя, вузкія і няроўныя, і хутка выйшлі да некага будынку...* (Ц. Гартны. Чырвонаармеец Панкел Ліпа).

У займенніках *сёй-той, сёе-тое, такі-сякі* скланяецца кожная частка. Прыназоўнік ці злучнік можа знаходзіцца або перад гэтымі часткамі, або перад усім спалучэннем.

*Трэ' было б яшчэ парадзіцца аб сім, аб тым перад ад'ездам, а ты тут увесь час прасядзеў...* (Ц. Гартны «Больш за ўсіх»). *З самай вясны ў пятніцу, як заходзіла сонца, на вуліцу павыходзілі суседзі, як у святы дзень, маючы час, і сталі гаманіць то тое, то сёе* (К. Чорны. Вясна). *І Яська зрэдку ўставіць слова, пра сёе-тое распытае...* (Я. Колас. Новая зямля). *Ты, Мікалай Патапавіч, дапамажы мне ў тым-сім* (А. Кулакоўскі. Не выбралі).

Заўвага. Пытальна-адносныя, адмоўныя і няпэўныя займеннікі, калі перад імі ёсць прыназоўнік, у размоўным стылі часам атрымліваюць прыстаўное спалучэнне **во (ва).** Такое ўжыванне займеннікаў не з'яўляецца літаратурнай нормай, яно сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры як адлюстраванне асаблівасцей жывой гутарковай мовы.

*За вошта зневажаеш так паэтаў?* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Лабановіч зразумеў, на вошта намякае яго зямляк і блізкі сябар Садовіч* (Я. Колас. На ростанях). *Перад ім стаяў маленькі складаны столік, і ён на ім запісваў у кнігу прозвішчы праштрафленых за невашта сялян* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *На невашта ты трэба яму* (У. Краўчанка. Вясна на Палессі). *У сэрцы не было ні гневу, ні крыўды ні на кога і ні за вошта* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *«Хочаш электрычнай справе вучыцца?» — «Больш ні пра вошта і не думаю...»* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

## АСАБЛІВАСЦІ СУФІКСАЛЬНАГА ФОРМАЎТВАРЭННЯ ЗАЙМЕННІКАЎ

§ 719. У мове мастацкай літаратуры як адлюстраванне размоўных стыляў трапляюцца займеннікі тыпу *нічагусенька, нічагенечка, нічагутка, саменькі, усенькі, нештачка.* Утвораны гэтыя словы ад няпэўных, адмоўных і азначальных займеннікаў пры дапамозе суфіксаў **-усеньк-, -енечк-, -утк-, -еньк-, -ачк-.**

У пераважнай большасці выпадкаў займеннікі з гэтымі суфіксамі не маюць адцення ласкальнасці, а ўказваюць на найбольшую ступень адмаўлення, на гранічную мяжу дзеяння, стану і г. д. Аднак зрэдку яны захоўваюць значэнне памяншальнасці ці ласкальнасці.

Кацярына. *Ты ж дурненькі, нічагусенька не разумееш* (К. Крапіва. Партызаны). *Сам агонь у полі тлее, нікагусенька няма* (Я. Колас. Сымон-музыка). *«Усе гады так вучылася* [Аня], *— з сумам падумала Вера, — ні канспекціка свайго, нічагенечка»* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга). *Адкіну яму летам пару ахапкаў сена, — і нічагуткі* (З. Бядуля. Сорам). *Маўчаў луг, маўчала поле: на вуліцы ў сяле не відаць было нікагутка* (Я. Колас. Недаступны). *Заўтра ў саменькі ранак пастукчуся ў акно* (А. Куляшоў. Песня лістаносца). *Нябось — лёг учора з вечара і праз усенькую ноч праляжаў* (Ц. Гартны. Штрэйкбрэхер). *Усё хаваецца, дрыжыць, усенек лес цямненькім стаў* (Цётка. Лес). *Слухай, хлопча, мой малойчык! Хочаш нештачка ты знаць?* (Я. Колас. Сымон-музыка).

## ПЕРАХОД ІНШЫХ ЧАСЦІН МОВЫ Ў ЗАЙМЕННІКІ

§ 720. Некаторыя часціны мовы ў пэўных сінтаксічных умовах страчваюць сваё лексічнае значэнне і пачынаюць выступаць у функцыі, блізкай да функцыі займеннікаў, — выражаюць агульнае значэнне ўказання на прадмет ці прымету.

Найбольш часта набывае займеннікавае значэнне лічэбнік *адзін.*

Лічэбнік *адзін* можа выконваць ролю няпэўнага займенніка *нейкі* (з адценнем пагарды ці без яго). Займеннікавае значэнне маюць і спалучэнні *адзін аднаго, адзін другога.* Слова *другі* ўжываецца ў ролі азначальнага займенніка *іншы.*

*А потым у адзін дзень здарылася такое, ад чаго яна спачатку разгубілася* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Адну толькі вестку адзін сувязны даставіў для Сашы цікавую надта* (А. Зарыцкі. Таварыш Саша). *Жыла-была адна Свіння, паслушная сваёй прыродзе...* (К. Крапіва. Давялося Свінні на неба глядзець...). *З пырскамі кропляў да ног іх адна за адною жытнія хвалі, як хвалі марскія, плылі* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *І госці свой банкет канчаюць, адны другім дабра жадаюць...* (Я. Колас. Новая зямля). *Мінуліся ліхія зімы, другія зоры прад вачыма, і па-другому б'ецца сэрца* (Я. Купала. Шляхі).

## УЖЫВАННЕ ЗАЙМЕННІКАЎ У РОЛІ ІНШЫХ ЧАСЦІН МОВЫ

§ 721. Шырокае ўжыванне займеннікаў у ролі сінонімаў назоўнікаў стварае магчымасці для іх субстантывацыі і набыцця своеасаблівых значэнняў.

§ 722. Субстантывуюцца асабовыя займеннікі *ён, яна,* якія нярэдка выступаюць са значэннем «каханы, каханая». У такім выпадку гэтыя словы могуць мець пры сабе неадасобленае азначэнне.

*Я проста адчуваў, што недзе, адным з усходніх цягнікоў, яна, хвалюючыся, едзе і, мусіць, кліча, каб прыйшоў* (М. Лужанін. Я ўсіх сустрэў). *Сцёпка ўздыхнуў, а потым сказаў: «Я хацеў бы, каб мяне пакахала... Ну, адна яна»* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Ён прыветліва смяецца, ён з армейцамі пяе, і паміж усіх прыкмеціў незабыўную яе* (П. Броўка. Кацярына).

Займеннік *ён* можа мець значэнне «галава сям'і, бацька, гаспадар», займеннік *яна* — «гаспадыня».

*Адзіночкі студэнты і дзве працоўныя сям'і занялі залу, сталоўку, кабінет... Выціснулі «яго». Ён застаўся ў ранейшай спальні. Можа, зусім вызвалілі б ад «яго» гэты асабняк, але ў сына-спеца знайшліся тамсям свае людзі...* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Яна зноў старанна выцерла слёзы, каб не кідалася ў вочы цікаўным людзям, апранулася і выйшла, яшчэ раз папрасіўшы Зосю, каб тая нічога не казала «яму»* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У пэўнай ступені субстантывуюцца асабовыя займеннікі *мы, яны,* якія ўказваюць: першы — на стан сяброў, другі — на варожы лагер. Як сінонім да слова *вораг* выступае і займеннік *ён* (зрэдку — *ты*). Апошні можа ўказваць і на таемную, невядомую, варожую чалавеку сілу.

*Яны і мы. Гэтымі словамі Міхалка падзяляў людзей сваёй ваколіцы на два лагеры — на ворагаў і прыяцеляў савецкай улады* (З. Бядуля. Год за годам). *Сягоння ты ў цемрадзі глядзіш і маўчыш, заўзятая постаць дарэшты абвяла. Струхлеў тваёй сілы абломаны крыж — тут сіла другая над краем паўстала* (У. Хадыка. На росквіце). *Маці па стуку пазнала, што гэта не Кастусь і не сябры яго, а чужыя, яны* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Вось заварушылася падводнае лісце: некалькі крабаў падпаўзлі, каб падзівіцца на агонь. А там глыбей сядзіць «ён», слухае і чакае афяры* (Я. Маўр. Сын вады).

§ 723. Субстантываваныя прыналежныя займеннікі *мой, мая* маюць адпаведна значэнні «муж», «жонка». Пры звароце субяседніка да аднаго з супругаў з падобным значэннем выступаюць і словы *твой, твая, ваш, ваша.*

*Зараз павінен мой вярнуцца, дык скажы, што мы з Волькаю ў Дымайку пайшлі...* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Мая ездзіла на тым тыдні ў Мінск* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Куды ж ваш паехаў?* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

З большай або меншай ступенню субстантывацыі слова *наш (наша)* можа мець значэнні: «савецкі, чырвоны, родны, блізкі, айчынны, той, што належыць да пэўнай мясцовасці, арганізацыі» і г. д.

*І цябе не пакідае думка, што ўсё гэта наша, савецкае, створанае нашымі рукамі* (Я. Колас. Слава Вялікаму Кастрычніку). *У нас цяпер чырвоныя — нашы* (З. Бядуля. На балоце). Броня. *Што вы гралі?* Гудовіч. *Песні. Нашы, народныя: «Перапёлачку», «Вярбу»...* (К. Крапіва. З народам). *«У нашым раёне пра гэта паклапаціліся»— «А чаго нашы спяць!» — занерваваўся Мешкеліс* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Займеннік *свой* пры субстантывацыі выступае з такімі ж значэннямі, як і *наш.* Гэта слова можа ўжывацца і ў функцыі назоўніка і ў функцыі прыметніка.

*Вас, галубчыкі-зайцы, як вернуцца свае, на першую асіну...* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *«Хто ты гэткі?» — «Свой, тутэйшы»* (Я. Купала. Хто ты гэткі?). *Я на пошце з дзяўчынай спаткаўся, і не выпадкова я прынёс ёй адказы: свая ад свайго не ўцякла* (А. Куляшоў. Дом № 24). *У голасе чалавека зноў пачулася нотка трывогі, — што такія за людзі: свае, не свае?..* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Субстантывуюцца прыналежныя займеннікі *(мой, твой, свой)* тады, калі яны выступаюць у форме ніякага роду.

*А каморнік пад гоман сялян рабіў сваё* (Я. Колас. Нёманаў дар). Сухадольскі. *Гады бяруць сваё* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Сваё ён* [лагер] *адслужыў і памірае са славаю, як герой* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). Жлукта. *Дзе маё не прападала* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Пажыві з маё, тады і пабачыш, з бацькавых слоў не пасмяешся* (М. Лынькоў. Гой). *Ну, а цяпер — гуляй бедната! Тваё пачынае брацьу...* (М. Чарот. На пасеках).

§ 724. Калі займеннік *увесь* у форме ніякага роду *(усё)* або множнага ліку *(усе)* ужываецца без назоўніка, ён субстантывуецца і выступае ў функцыі назоўніка.

*Цемра густымі пластамі ляжыць на балоце і як бы душыць усё* (З. Бядуля. Мядзведзь). *Ды вось прыйшло, нарэшце, даўно чаканае пісьмо з нечаканай прыпіскай, і Толя забыўся пра ўсё і пакінуў усё— паплыў* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Адна калгасная сям'я: адзін — за ўсіх, усе — за аднаго* (А. Бялевіч. Добрыя людзі).

§ 725. Займеннікі вельмі часта адыгрываюць ролю часціц. Асабовыя займеннікі ў функцыі гэтай часціны мовы выступаюць у пэўных формах: *я* — у форме роднага склону (спалучэнне *ў мяне*), *ты* — у форме давальнага склону *(табе)*, *ён* — у форме вінавальнага склону ў складзе спалучэння *(хто яго знае, хто яго ведае)* і ў форме ніякага роду *(яно).*

*Ты, брат, глядзі ў мяне* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Весела зрабілася на зямлі: тут табе і трава і дрэвы растуць, вецер гэтак шуміць у лісцях, птушкі спяваюць, проста ў хату не хочацца ісці* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Не той Грамабой... Ён табе і разу дарэмна не ступіць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *«Усё жыве і душу мае: краска, дрэва і жучок...» — «Хто ж яго, Сымонка, знае, і не нам судзіць аб тым...»* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Работы, дык яно хапае: дроў насеч, вады нанасіць, печы выпаліць ды школу прыбраць* (Я. Колас. На

ростанях). *Аж* *я н о* *і зіма прайшла, і настала лета, а чаканню не было канца* (Я. Скрыган. Затока ў бурах).

Для абазначэння абыякавасці таго, хто гаворыць, да ўдзельніка гутаркі ці абыякавасці дзеючай асобы да навакольнага, да таго, аб чым гаварылася раней, ужываецца форма давальнага склону зваротнага займенніка, які ў такім выпадку выконвае ролю часціцы.

*Алесь за комінак схаваўся, адтуль на Яську прыглядаўся і думаў там* *с а б е* *без шуму якуюсь смешную, знаць, думу, бо зрэдку ў голас усміхаўся* (Я. Колас. Новая зямля). *Безупынна шуміць калаўротак, і на шуме яго кладзецца старэчы голас бабулі: «Жылі* *с а б е*, *былі* *с а б е* *дзед і баба...»* (Я. Брыль. У сям'і). *Запусцім люстраных карпаў — хай* *с а б е* *гадуюцца* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

Прыналежныя займеннікі *твой, ваш* могуць выступаць у функцыі, блізкай да функцыі ўзмацняльнай часціцы.

*І што* *т в о й* *трактар? Трактар каштуе вялікіх грошай: і сам ён дарагі, і бензін трэба аплаціць, аліву* (Я. Колас. Адшчапенец). Н і ч ы п а р. *Загаварыўся тут з табой, а ў мяне яшчэ двор не прыбраны.* Ц ё ц я К а ц я. *Прыбярэш, дзе* *т в о й* *двор дзенецца?* Н і ч ы п а р. *Дырэктар прыйдзе, нагонку дасць.* Ц ё ц я К а ц я. *Вельмі* *т в о й* *дырэктар на двор углядаецца* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Ды не бачыў я* *в а ш а г а* *спірту!* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

У беларускай літаратурнай мове займеннікі *такі, гэтакі* даволі часта ўжываюцца са значэннем большай ступені якасці, у такіх выпадках яны таксама набліжаюцца па значэнню да часціц.

*Усюды так ціхусенька, спакой* *т а к і* *наўкруг!* (Я. Колас. Думкі). *Ды* *т а к і* *ж разбалаваны* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *І вечары* *т а к і я* *ціхія, цудоўныя!..* (Я. Брыль. У сям'і). Ж л у к т а. *Шчыра дзякую, што прыйшлі, не пагрэбавалі.* К а н я г і н. *Ну, што вы!* *Г э т а к і* *гонар! Хіба можна грэбаваць!* (К. Крапіва. Мілы чалавек). *Г э т к а я* *маладзенькая і ўжо за настаўніцу* (Р. Мурашка. Сын).

У якасці часціцы ў мове мастацкай літаратуры ўжываецца і ўказальны займеннік *гэта.*

*«У вас ціха, я думала, што вы ўжо спіцё, а вы ўсё з* *г э т а й* *кніжкай», — сказала, прысаджваючыся, бабка* (Я. Колас. У палескай глушы). *А хіба ж* *г э т а* *Юзік не быў тут?* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Чаго ты смяешся* *г э т а*, *здаецца, і прычыны няма?* (М. Лынькоў. Гой). *А мы толькі* *г э т а* *разгаварыліся...* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Падобнае значэнне мае і слова *той.*

*Дзе была вакол пустэча, як* *т а я* *магіла, ўсталі фабрыкі, заводы — рэспублікі сіла* (Я. Купала. Беларусі ардэнаноснай). *Думкі самі ішлі і праходзілі, бы* *т ы я* *лёгкія хмары на небе, ішлі і раставалі, як сняжынкі* (Я. Колас. На начлезе). *Вось прывалаку торбу язёў, дык будзе каяцца. А вам на* *т у ю* *злосць і панюхаць не дам* (К. Крапіва. З нарадам). *Твар яе быў белы, як* *т а я* *бяроста* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Азначальны займеннік *увесь* адыгрывае ролю часціцы пераважна пры дзеясловах, радзей — пры назоўніках і прыметніках.

*А панна Паўлінка* *ў с ё* *жартуе* (Я. Купала. Паўлінка). *Гнеды жаваў* *у с ё* *канюшынную атаву, але часамі хрумканне сціхала* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Прайшоў некаторы час, звер* *у с ё* *яшчэ быў жывы* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Тут сабраўся наш* *у с ё* *адборны краю партызанскага народ* (П. Панчанка. Кінамеханік). *Кабет там было не вельмі многа.* *У с ё* *мужчыны, найбольш маладыя* (К. Чорны. На граніцы).

У функцыі пытальнай часціцы выступае займеннік *што.*

*«Хто гэта? Каморнік, ці* *ш т о?» — спытаў Казімір Жыбуль, падыходзячы да адной кучкі* (Я. Колас. Нёманаў дар). *«Паглядзець лісіную*

*пластку, ці ш т о?»* — *падумаў Лаўрэн* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *«Ш т о, ці ўжо скончыла пісаць, мама?» — запыталася Алеська* (Ц. Гартны. Распусніца). *«Ш т о, непарадак?» — спытаўся Толя* (Я. Брыль. На Быстранцы).

У слове *нешта* значэнне часціцы асабліва выразна праяўляецца ў канструкцыях, дзе гэта слова садзейнічае падкрэсліванню недакладнасці меры часу, вагі, адлегласці. Часам яно набывае адценне прыслоўнага значэння.

*Н е ш т а пудоў каля паўтараста атрымалі* (К. Крапіва. «Над ракою Арэсай»). *Безумоўна, заслужаны чалавек... Н е ш т а каля паўстагоддзя працаваў на ніве народнай асветы* (І. Шамякін. Крыніцы). *«Даўно няма?» — спытаўся Сцяпан. «Ды ўжо ... н е ш т а з тыдзень»* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). Паўлінка. *Што ж гэта н е ш т а татавага зяця так позна ні слыху ні духу?* (Я. Купала. Паўлінка).

Займеннік *н е ч а г а* можа выконваць ролю часціцы або прыслоўя.

*Пятрусь сеў на воз, сарваў сваю злосць на кані, сцебануў яго пугаю разоў са тры, каб заадно н е ч а г а і жонцы задаць страху* (Я. Колас. Кірмаш). Рыгор. *Не любіш, дык не дражніся, скажы проста. Н е ч а г а ўжо адзін канец* (К. Крапіва. Партызаны). *А ўсё ж ткі, Ганначка, ты н е ч а г а смутная* (Я. Колас. Нёманаў дар). *Сёмка спяшаў у другі канец вуліцы, дзе зноў н е ч а г а збіралася грамада* (К. Чорны. Вясковая ветэрынарыя). *Пан Зыгмунт асцярожна апусціў яго на ганак, н е ч а г а зняў шапку...* (М. Лынькоў. Ядвісін дуб).

Слова *штосьці (штось)* выступае ў функцыі, блізкай да функцыі часціцы, але часта з адценнем прыслоўнага значэння; гэта адценне можа праяўляцца ў большай або меншай ступені.

*Ш т о с ь ц і нас забыў саколік, мо' не вернецца ніколі* (З. Бядуля. Госць). *Яе татка добры, але ч а г о с ь яна баіцца яго* (Я. Колас. У палескай глушы). *Вынікам разведкі было тое, што прывялі ў атрад уначы ш т о с ь ц і каля дзесяці канфідэнтаў і трох правакатараў, супрацоўнікаў дэфензівы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## НАЦІСК У ЗАЙМЕННІКАХ

§ 726. Амаль ва ўсіх займенніках ва ўскосных склонах націск падае на канчатак *(мяне́, цябе́, яго́, сябе́, майго́, таго́, усяго́, чыйго́, каго́)*. Творны склон множнага ліку асабовых займеннікаў мае націск на аснове *(на́мі, ва́мі, і́мі)*. Творны склон множнага ліку прыналежных *(мой, твой, свой)*, указальных *(той, такі)*, азначальных *(увесь)*, пытальна-адносных *(які, чый)* займеннікаў ужываецца з націскам на першым складзе канчатку *(маі́мі, ты́мі, такі́мі, усі́мі, які́мі, чыі́мі)*.

Займеннікі *наш, ваш*, а таксама *гэты, самы* ва ўскосных склонах захоўваюць націск на першым складзе *(на́шага, на́шаму, на̀шых, са́мага, гэ́тага)*. Азначальны займеннік *сам* у адрозненне ад *самы* заўсёды, акрамя назоўнага склону множнага ліку *(са́мі)*, мае націск на канчатку *(само́му, самі́мі)*.

Ва ўскосных склонах адмоўных *ніхто, нішто* націск падае на канчатак *(нікі́м)*, калі канчатак двухскладовы — на першы склад яго *(ніко́му)*.

Адмоўныя *некага, нечага*, няпэўныя *нехта, нешта* ва ўсіх склонах маюць націск на прыстаўцы *(не́кім, не́чаму)*. Націск на адмоўі захоўваецца і тады, калі гэтыя словы маюць пры сабе прыназоўнік *(не́ на кага, не́ за шта, аб не́кім, за не́шта)*.

# ДЗЕЯСЛОЎ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ДЗЕЯСЛОВЕ

§ 727. Дзеяслоў — гэта знамянальнае слова, якое называе дзеянне. Пад дзеяннем (у граматычным сэнсе гэтага слова) разумеецца таксама любы працэс (стан, праяўленне прызнака, змена прызнака, выражэнне пэўных адносін да чаго- ці каго-небудзь), які ўяўляецца як працякаючае ў часе дзеянне.

Такім чынам, у якасці лексічнай адзінкі дзеяслоў абазначае дзеянне, у прыватнасці, фізічнае дзеянне (*жаць, касіць, малаціць, будаваць, піліць*), рух (*ісці, бегчы, ехаць, ляцець, плыць*), мову і думку (*гаварыць, думаць, казаць* і інш.), стан (*сядзець, ляжаць, стаяць, вісець*), пераход з аднаго стану ў другі (*замярзаць, закіпаць, раставаць*) і г. д.

З марфалагічнага боку дзеяслоў характарызуецца катэгорыямі стану, пераходнасці-непераходнасці, зваротнасці-незваротнасці, трывання (віду), ладу, часу, асобы. Акрамя таго, многім дзеяслоўным формам уласціва катэгорыя ліку, а некаторым формам — і катэгорыя роду.

Асноўная сінтаксічная функцыя дзеясловаў у сказе — быць выказнікам. Іменныя формы дзеяслова (а зрэдку і інфінітыў) могуць выступаць і ў якасці іншых членаў сказа: дзейніка, азначэння, дапаўнення, акалічнасці.

*Сарваць планы агрэсіі — важнейшая задача народаў свету* («Звязда»). *Маці адзела Славу, вынесла на двор, пасадзіла пры асвечаным сонцам сцяне і сама пачала секчы дровы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Не быць недапетай той песні, што высіла ўзлёт галавы* (П. Броўка. Памяці Паўлюка Труса). *У школе ёсць машынка стрыгчыся* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *З цёмнага запечка вынес гаспадар да стала ўслончык і запрасіў Панаса сесці* (П. Галавач. Спалох на загонах). *Нават на лыжах, здаецца, сама выйшла спаборнічаць з намі зіма* (А. Александровіч. Мяцеліца).

Адным з важных сінтаксічных прызнакаў дзеяслова з'яўляецца яго здольнасць кіраваць скланяльнымі часцінамі мовы, якія выступаюць у ролі прамога або ўскоснага дапаўнення ці ў ролі акалічнасці. Характэрна, што здольнасць кіраваць пэўным склонам (з прыназоўнікам або без яго) уласціва ўсім дзеяслоўным формам: *пісаць пісьмо, пішу пісьмо, пішуць пісьмо, пісаў пісьмо, буду пісаць пісьмо, пісаў бы пісьмо, пішы пісьмо, пішучы пісьмо, напісаўшы пісьмо* і г. д.; *ісці з таварышам, іду з таварышам, ідуць з таварышам, ішоў з таварышам, буду ісці з таварышам, ішоў бы з таварышам, ідзі з таварышам, ідучы з таварышам, ішоўшы з таварышам* і г. д.

Дзеяслоў у сказе азначаецца прыслоўем; дзеяслоў з прыслоўем звязваюцца па спосабу прымыкання.

*Покатам ляжалі выносныя сосны, ляжалі ўздоўж і накрыж, як пасля якой буры* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 728. У сучаснай беларускай мове дзеяслоў утварае багатую, складаную і шырока разгалінаваную сістэму форм, якія на аснове ўласцівых ім функцый і адпаведнага марфалагічнага афармлення можна падзяліць на наступныя чатыры агульныя разрады:

1. Неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў).
2. Асабовыя формы дзеяслова (якія змяняюцца па асобах, ліках і ладах).
3. Дзеепрыметнікі (іменныя формы дзеяслова).
4. Дзеепрыслоўі.

## ІНФІНІТЫЎ

§ 729. Інфінітыў (неазначальная форма дзеяслова) умоўна разглядаецца як зыходная, пачатковая форма дзеяслова, якая ўжываецца для называння таго ці іншага дзеяння. У гэтых адносінах інфінітыў можа прыраўноўвацца да формы назоўнага склону адзіночнага ліку скланяльных часцін мовы (у прыватнасці, назоўніка).

Інфінітыў — нязменная дзеяслоўная форма, г. зн. ён не змяняецца па асобах, ліках і ладах. Інфінітыву ўласцівы толькі катэгорыі трывання і стану: *адбудаваць — адбудоўваць, адбудавацца — адбудоўвацца.* І толькі ў пэўных сінтаксічных умовах інфінітывам могуць выражацца катэгорыі часу і ладу: *а ён — страляць* (у сэнсе «пачаў страляць» — значэнне прошлага часу); *дагнаць яго!* (значэнне загаднага ладу); *адпачыць бы* (у безасабовых сказах — значэнне ўмоўнага ладу).

У састаў інфінітыва ўваходзіць аснова з суфіксамі інфінітыва **-ць, -ці, -чы (-ч)**: *рабіць, чытаць, несці, везці, плесці, пячы, секчы (сеч), бегчы, валачы.*

Суфікс **-ць** далучаецца, як правіла, калі аснова заканчваецца галосным гукам: *малоць, іграць, нармаваць, пеніць, цямнець, сохнуць* і інш. Калі ж аснова заканчваецца зычным гукам, тады інфінітыў ужываецца з суфіксам **-ці**: *грэбці, грызці, паўзці* і інш.

Заўвага. Зубныя зычныя **д, т** на канцы асновы перад суфіксам інфінітыва **-ці** ў выніку гістарычнага чаргавання пераходзяць у **с**: *прасці* з *пряд-ти* (параўн. *прад-у*), *месці* з *мет-ти* (параўн. *мят-у*).

У выніку змен у марфалагічным чляненні слова можа выдзяляцца інфінітыўны суфікс **-сці**, які па аналогіі часам далучаецца і да асноў не на зубныя: *райсці, дзяўбсці, грабсці, сапсці* і інш.

*Ніхто не адважваўся ў буру грабсці* (П. Броўка. Кастрычніцкі марш). *Кабыла спынілася: павіслая ніжняя губа яе яшчэ ніжэй апусцілася, і яна нават сапсці ўжо не магла* (З. Бядуля. Без споведзі).

Аднак літаратурнай нормай лічыцца ўжыванне такіх дзеясловаў не з суфіксам **-сці**, а з суфіксам **-ці**.

Суфікс **-чы (-ч)**, які ўзнік у выніку фанетычных змен на стыку асновы (на заднеязычныя **г, к**) з суфіксам інфінітыва **(-ти)**, у сучаснай мове ўласцівы невялікай колькасці дзеясловаў: *бегчы, берагчы, валачы, легчы, магчы, прэгчы, пячы, секчы (сячы, сеч), стрыгчы, сцерагчы, таўчы, цячы.* Усе гэтыя дзеясловы адносяцца да пятага непрадуктыўнага класа (гл. § 771).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры (у паэзіі) сустракаюцца выпадкі ўжывання інфінітыва на **-ць** пры аснове на зычны і, наадварот, інфінітыва на **-ці** пры аснове на галосны.

*Хоць ваўку з'есць барана й не штука, але й баран з лап воўчых вырвацісяможа...* (Я. Купала. Воўк і баран). *Закурылася чупрына... Спаці хоча госць* (Я. Купала. Кацярына). *Гэта маці дзяцей ратаваці з дубровы ідзе!* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

Такое ўжыванне інфінітыва лічыцца адхіленнем ад сучаснай літаратурнай нормы.

Прыставачныя дзеясловы захоўваюць такую ж форму інфінітыва, як і беспрыставачныя: *вітаць — прывітаць, класці — пакласці, пячы — напячы, секчы (сячы, сеч) — рассекчы (рассячы, рассеч).*

## ДЗЕЯСЛОВЫ ПЕРАХОДНЫЯ І НЕПЕРАХОДНЫЯ

§ 730. У залежнасці ад адносін дзеяння да аб'екта дзеясловы падзяляюцца на дзве вялікія групы: дзеясловы пераходныя і неперахо дныя.

Да пераходных адносяцца дзеясловы, што выражаюць дзеянне, якое непасрэдна або ўскосна пераходзіць на другі прадмет (у граматычным сэнсе гэтага слова): *жаць авёс, кляпаць касу, прыпыніць бег, выпіць квасу, смуткаваць па сябрах, камандаваць палком* і інш.

Тыя дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што непасрэдна пераходзіць на другі прадмет (прычым у сказе гэты прадмет звычайна абазначаецца формамі імені ў вінавальным склоне без прыназоўніка), называюцца прама-пераходнымі: *рваць траву, чытаць ліст, чакаць сястру.*

Аднак форма вінавальнага склону аб'екта не з'яўляецца адзіна магчымай. Пры ўмове, калі ў якасці аб'екта выступае толькі частка прадмета (так званы частковы аб'ект), назоўнік мае форму не вінавальнага, а роднага склону: *выпіць вады, насыпаць пяску, адрэзаць хлеба.* У форме роднага склону можа выступаць аб'ект і пры адмоўі **не**: *не спаткаў сястры, не дапісаў пісьма* (хоць дапускаецца ўжыванне назоўніка і ў форме вінавальнага склону: *не спаткаў сястру, не дапісаў пісьмо).*

*І волі ж дэспаты не змогуць, бо волю сонейку раўня* (Я. Купала. Песня вольнага чалавека). *І ніхто не засціць маяка сталеццяў* (А. Александровіч. Ёсць на свеце шчасце).

Заўвага 1. Форма роднага склону назоўніка, які выступае ў ролі прамога аб'екта, ужываецца таксама пры дзеясловах з лексічным значэннем *даць, браць, прасіць* і г. д., калі маецца на ўвазе «браць на час», «прасіць на час»: *дай карандаша, вазьму нажа.* Напрыклад: *Рукі просяць вінтоўкі, адвыклі ад струнаў сваіх* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

Заўвага 2. Блізкімі па значэнню да прамога аб'екта з'яўляюцца і назоўнікі ў форме давальнага склону з прыназоўнікам **па** (у размеркавальным значэнні): *далі кожнаму па яблыку, вучні атрымалі па сшытку.*

У якасці аб'екта пры прама-пераходных дзеясловах можа выступаць і дадзены дапаўняльны сказ: *Чуткім слыхам адчую, як звоніць крыштальны струмень той празрыстай крынічкі, што схована лозамі ў цень* (А. Звонак. Песня вясны). Параўн.: *адчую звон крынічкі.*

Пераходныя дзеясловы маюць наступныя значэнні:

а) канкрэтнага дзеяння, якое накіравана на прадмет і выклікае ў ім якія-небудзь змены *(секчы дровы, жаць жыта, сядлаць каня, штабеляваць лес);*

б) уздзеяння аднаго прадмета на другі *(вецер трывожыць траву, плады згінаюць вецце дрэў);*

в) успрыняцця *(дзяўчынка сніла кроплі дажджу, Лабановіч адчуваў радасць),*

г) руху і перамяшчэння ў прасторы *(несці тэлеграмы);*

д) фізічнага і духоўнага стану *(ветрык цешыць душу леснікову, песціць вока травінка, чалавека апанавалі думы, цемень напоўніла пакойчык);*

е) змен у фізічным або духоўным стане *(вецер халадзіў зямлю, думкі хвалявалі душу)* і інш.

*Снежань срэбнымі ключамі замыкае ручаі* (П. Броўка. Кацярына). *Дом за нумарам дваццаць чатыры, даўні сябра мой шчыры! — Не кранула бамбёжка яго, не пасекла шрапнель* (А. Куляшоў. Дом № 24). *І сніў ён сяброў па заставе, нібыта, як некалі, зноў*

*ён з імі ляжыць на атаве, прыехаўшы ў госці дамоў* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль). *У блакнот свой з а н о ш у пачатак вандроўнага дзённіка...* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *А з а л а ц і л а восень поле іржышчам, дрэвы лісцем, гумны снапамі; а б в е я л а хаты жытнім пылам; вострым пахам кастрыцы н а п о ў н і л а вуліцу...* (К. Чорны. Бsurvivalнікавы межы). *Кожны знае, што з працы смачна хлеба скарынка, хмельны сок у бярозы, п е с ц і ц ь вока травінка* (П. Броўка. Паланянка). *Дзьмуў вецер і х а л а д з і ў зямлю* (К. Чорны. Зямля). *Ці ёсць думкі маладыя? Тыя думкі, тыя мыслі, што душу нам х в а л я в а л і, з-за каторых хмары звіслі, за што з нівы нас сарвалі?* (Я. Колас. Сябрам).

§ 731. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што ўскосна пераходзіць на прадмет (гэты прадмет у сказе звычайна абазначаецца формамі імені ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў, за выключэннем вінавальнага без прыназоўніка), называюцца ў с к о с н а-п е р а х о д н ы м і: *сябраваць з кнігай, дзякаваць за навуку, возера дыша туманам.*

Ускосна-пераходныя дзеясловы звычайна абазначаюць не дзеянні (у прамым сэнсе слова), а рознага роду стан суб'екта; аб'ект жа не абазначае прадмета, які падвяргаецца дзеянню, а толькі ўказвае, што даны прадмет звязаны з гэтым станам, акрэслівае гэты стан шляхам указання на прадмет. Напрыклад: *Думы, мары мае!.. Г а н а р у с я я тым, што навек з а ў л а д а л і вы сэрцам маім...* (А. Куляшоў. Кожны мае свой бор...). *Хіба ж дапусціць ён сябе да таго, каб с я б р а в а ц ь з гэтым жаночым насеннем?* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Мы б хацелі, каб чулі яны, як с м у т к у е радзіма над імі!* (П. Броўка. Помнік). *Дзецям ногі б а л я ц ь, іх дарога цяжкая стамляе...* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

§ 732. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, не звязанае з аб'ектам (дзеянне, якое мысліцца адцягнена ад аб'екта), называюцца н е п е р а х о д н ы м і.

Непераходныя дзеясловы пераважна абазначаюць стан асобы ці прадмета, пастаянную яго характарыстыку, якасць, прадстаўленую ў выглядзе дзеяння: *бялець, чырванець, сінець, старэць, мякчэць, мялець; дырэктарстваваць, лідэрстваваць, фразёрстваваць, ліберальнічаць, сакрэтнічаць, сталярнічаць* і інш.

*Брук г р ы м і ц ь, як сталь, п р у ж ы н я ц ь нервы, на вінтоўкі ўзвінчаны штыкі — горда йдуць, праходзяць па панелі камсамольцаў першыя палкі* (А. Куляшоў. Манеўры). *Высачэзнае жыта тады ц в і л о, д р а м а л а на пасеках ціш...* (А. Вялюгін. Залатая кніга). *М і л ь г а ц я ц ь маленькія шыбіны акон* (З. Бядуля. Маці). *За рэчкай г у д з е ў трактар* (З. Бядуля. У тыя дні).

Кожны пераходны дзеяслоў, які атрымлівае часціцу **-ся,** становіцца непераходным ці ўскосна-пераходным: *згінаць голле — згінацца, адрасаваць зварот — адрасавацца, крануць струны — кранууца з месца* і інш.

§ 733. Паміж пераходнымі і непераходнымі дзеясловамі рэзкай мяжы не існуе. Нярэдка пераходныя дзеясловы ўжываюцца без аб'екта, але гэты аб'ект лёгка падразумяваецца.

*У гэты дзень Ніна ў полі ж а ц ь папрабавала, але жаць сагнуўшыся немагчыма было* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Лізавета ўсміхаецца міла. Да стала з а п р а с і л а: «Калі ласка!»* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Міхал стаіць, штосьці разважае, відаць, ён месца прымячае, а кашаль, падла, так і д у ш ы ц ь* (Я. Колас. Новая зямля). Пры выдзеленых дзеясловах прамы аб'ект адсутнічае, аднак ён настолькі відавочны *(жаць збажыну, запрасіла мяне, душыць Міхала),* што непасрэднага ўказання на яго і не патрэбна. Такім чынам, гэтыя дзеясловы

застаюцца пераходнымі, толькі значэнне пераходнасці ў іх некалькі аслабляецца.

Калі пры дзеясловах, якія могуць ужывацца як пераходныя, аб'ект адсутнічае і ён нават не падразумяваецца, тады дзеясловы страчваюць значэнне пераходнасці і абазначаюць пастаянны прызнак дзеючай асобы ці прадмета.

*Даль беласнежная вабіць і радуе* (А. Александровіч. Мяцеліца). *Зыгмусь, не пакідай мяне, забяры мяне ад Лямэнта. Выратуй мяне з гэтага пекла. Ты можаш, ты служыш, ты зарабляеш* (К. Чорны. Ірынка).

Акрамя таго, пераходныя дзеясловы могуць ужывацца ў пераносным значэнні і ў пэўных выпадках страчваць пераходнасць. Так, дзеясловы *пець, іграць* — пераходныя *(пець песню, іграць марш)*, аднак пры пераносным ужыванні яны могуць выступаць і як непераходныя *(пяюць пеўні, неба грае блескам)*.

Непераходныя дзеясловы ў сваю чаргу могуць ужывацца ў пераносным значэнні і ў пэўных выпадках набываць пераходнасць. Напрыклад: *А мы з панам Адольфам сыпнем «Лявоніху», сапраўды сыпнем* (Я. Купала. Паўлінка). *Вецер і сцюжа мяцеліцу кружаць* (А. Александровіч. Мяцеліца). *А на эстрадзе, у тлуме хмельным мастакі трамбонілі факстрот* (А. Александровіч. Вуліца). *«Дык кажаш, свіснулі падсвінка?» — «А божухна мой, я ж не кажу, што свіснулі... Узялі, таварыш начальнік»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## ДЗЕЯСЛОВЫ ЗВАРОТНЫЯ І НЕЗВАРОТНЫЯ

§ 734. У залежнасці ад адносін дзеяння, выражанага дзеясловам, да суб'екта дзеясловы падзяляюцца на зваротныя і незваротныя.

Да зваротных адносяцца галоўным чынам дзеясловы, што абазначаюць дзеянне, якое накіравана на суб'ект, «звяртаецца» да самога суб'екта. Утвараюцца зваротныя дзеясловы шляхам далучэння да інфінітыва ці да любой спрагальнай або неспрагальнай формы суфікса **-ся**: *стрыгчы — стрыгчыся, стрыгу — стрыгуся, стрыжэш — стрыжэшся, стрыжы — стрыжыся, стрыгучы — стрыгучыся* і г. д.

Суфікс **-ся**, злучаючыся з інфінітывам на **-ць** або з формай 3-яй асобы множнага ліку зканчаткамі **-уць- (-юць), -аць (-яць)**, набывае форму **-ца**: *вітаць — вітацца, вітаюць — вітаюцца; бараніць — бараніцца, бароняць — бароняцца.*

Заўвага. У мове вершаваных твораў як адхіленне ад літаратурнай нормы ў якасці суфікса зваротных дзеясловаў можа ўжывацца **-сь** (калі перад суфіксам **-сь** — галосны гук): *кружыцесь, прыпынілась* і інш.

*Што ж вы* [думкі] *неспакойна кружыцесь, як пчолы?* (Я. Колас. Рана вам журыцца...). *Усё жыццё нам прыходзілась мераць агнявыя балоты і нстры* (М. Чарот. Завіруха). *Прыцьмілась сонца яснае, прыціх шум баравы; на полі пустка страшная — ні збожжа, ні травы* (Я. Купала. Зіма).

§ 735. Зваротныя дзеясловы ўтвараюцца пераважна ад прама-пераходных дзеясловаў. Нягледзячы на тое што прама-пераходныя дзеясловы ўтвараюць суадносныя пары са зваротнымі *(браць — брацца, несці — несціся, займаць — займацца)*, круг лексічных значэнняў зваротных форм часта не супадае з незваротнымі. Зваротныя формы, як правіла, маюць больш разгалінаваную і багатую сістэму значэнняў (так, замацаваліся новыя значэнні, напрыклад, у слове *несціся* — адкладваць яйкі; у слове *займацца* — рабіць што-небудзь, мець прафесію і г. д.). Параўн.: *Вораг быў блізка і нават ужо займаў тэрыторыю. Бумажкоў займаўся арганізацыяй насельніцтва на абарону* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў).



20. Зак. 892

Часам зваротныя формы настолькі адрываюцца па свайму значэнню ад незваротных, што прыходзіцца гаварыць ужо не аб зваротнай форме дзеяслова, а аб новым слове (параўн. *раздаць што-небудзь каму-небудзь* і *раздацца ў шырыню*).

Заўвага. Зрэдку сустракаюцца выпадкі, калі лексічнае значэнне зваротнай і незваротнай форм вельмі блізкае або нават зусім супадае. Да такіх сінанімічных пар незваротных і зваротных дзеясловаў адносяцца: *пытаць — пытацца, забыць — забыцца* і некаторыя іншыя.

*Ты мяне не пытаеш, чаму я так доўга маўчу; я таксама ў цябе не пытаю, бо гэта не трэба, я пытацца пра тое, што ведаю сам, не хачу* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Мо' з'ездзім з табой на Падол. Забыў? Я ж прасіла. Забыўся? Нічога* (П. Прыходзька. Арлы на ўзлёце). *Сцяг брыгады зашыты ў ёй... Я... зусім забыўся...* і далей: *Сцяг? Аб ім я забыў зусім... Гэта праўда. На сцяг зусім ён забыўся* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Я табе абяцаю і попелам родным клянуся, што з дарогі ўначы не саб'юся, вярнуся, вярнуся!..* (там жа). *Дзе ж Марыля? Што такое? Абяцалася сустрэцца* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека).

У некаторых выпадках незваротныя дзеясловы, якія былі некалі суадноснымі з адпаведнымі зваротнымі, знікаюць з ужывання, і тады застаюцца дзеясловы толькі зваротныя: *Іванок Перагуд карыстаўся тут славаю дзівака і філосафа* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Можа яна каялася ў сваім апошнім, праўда, грубаватым жарце...* (Я. Колас. У палескай глушы). У сучаснай мове дзеяслоў *карыстаць* амаль не ўжываецца (параўн. у ранняй паэзіі Я. Купалы: *Ці ж не з працы маёй карыстае другі?!*), а дзеяслоў *каяць* зусім выйшаў з ужытку. У такіх выпадках формаўтваральны суфікс **-ся** набліжаецца па сваёй функцыі да словаўтваральнага сродку (параўн. утварэнне дзеясловаў прыставачна-суфіксальным спосабам, § 939—975).

§ 736. У сучаснай мове зваротныя формы могуць утварацца не толькі ад пераходных, але і ад многіх непераходных дзеясловаў. Далучэнне суфікса **-ся** да непераходных дзеясловаў узмацняе значэнне непераходнасці, падкрэслівае выяўленне знешняга прызнака або надае дзеяслову значэнне безасабовасці.

Дзеясловам тыпу *адысціся, грукацца, дыміцца, вірыцца, струменіцца* і інш., якія ўжываюцца з падобным жа значэннем і ў незваротнай форме, суфікс **-ся** надае значэнне засяроджанасці, сканцэнтраванасці дзеяння ў самім вытворцы гэтага дзеяння і разам з гэтым узмацняе значэнне непераходнасці.

*Разведчыкі далёка адышліся наперад* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Калі ж грукаўся снежань касцяною нагою, пошчак ветру у свірні на цымбалах іграў, — мы пяклі праснакі напалам з лебядою і чакалі вясны, каб адтала кара* (П. Броўка. Зямля). *Сумаваці мусіш гэтак, як сумуюць хмары, і зіхцець, як зіхацяцца сонцавы пажары* (Я. Купала. Уступ да паэмы). *Караван стралой імчыцца, хмарай снежны пыл вірыцца* (А. Александровіч. Беларуская казка). *Вёску абдзёртую думкі трывожылі, блукаўся старац разуты, раздзеты* (Я. Купала. Беларусі ардэнаноснай).

У дзеясловах *бялецца, чарнецца, чырванецца, сінецца, зелянецца* і інш. суфікс **-ся** падкрэслівае значэнне выяўлення знешняга прызнака (пераважна колеру, афарбоўкі).

*Мінаюцца Татры Высокія, бялеюцца Татры Беланскія...* (М. Лужанін. У Татрах). *Узыходзіла сонца, і ў першых яго праменнях чырванеўся на ўзлессі вялікі камень — шматвяковая сведка бур у чалавечых душах* (К. Чорны. Родныя мясціны). *Там, за ярам, лес дубовы чуць сінеецца праз бель* (Я. Колас. Дай зірну ў сваё аконца). *Расліннасць усё яшчэ гусцілася і ўпарта зелянелася* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Узыходзіць сонца, вокны ружовяцца* (К. Чорны. Лета). *А навокал пад снягамі зашарэлася сяло* (П. Броўка. Кацярына). *Рознакаляровыя хусткі і шапкі блішчаць на сонцы, пярэс-*

*ц я ц ц а, нібы невядомыя расліны на дзівосным полі* (З. Б я д у л я. Таварыш Мінкін).

З а ў в а г а. Суадносныя па значэнню дзеясловы першага Б прадуктыўнага класа (гл. § 747) *бялець, чарнець, чырванець, сінець* і інш. маюць значэнне «станавіцца якім-небудзь, набываць пэўны прызнак», параўн.: *І зіма, як дым, прапала! З е л я н е е луг, ралля* (Я. К о л а с. Вясна). Аднак гэтыя ж дзеясловы могуць ужывацца і ў значэнні «выдзяляцца пэўным прызнакам (у прыватнасці, афарбоўкай)»; яны становяцца такім чынам у сінанімічныя рады з суадноснымі дзеясловамі на **-ся**: *Між спелага жыта с і н е е валошка* (Я. К о л а с. Дарога). *Трохі воддаль на прыгорку вёска іх ч а р н е е* (Я. К о л а с. Сцёпкаў сон). *Толькі лес адзін б я л е е...* (Я. К о л а с. Пад Новы год).

Далучэнне суфікса **-ся** да некаторых непераходных дзеясловаў надае ім значэнне безасабовасці: *жыць — жыцца, працаваць — працавацца, дыхаць — дыхацца, стаяць — стаяцца, сядзець — сядзецца* і інш.

*Трэба было жыць далей, а яно не ж ы л о с я* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *І хоць нейкае нечуванае багацце раптоўна і не прыйшло, але праз усе гады добра е л а с я і п і л о с я, добра п р а ц а в а л а с я і слаўна д ы х а л а с я цудоўным скіп'ёўскім паветрам* (К. Ч о р н ы. Скіп'ёўскі лес). *Світае. Далеч снежная імгліцца. Аленям не с т а і ц ц а на нагах* (А. З в о н а к. Паўночнае ззянне). *Гаспадар жа на полі, аднаму не с я д з і ц ц а* (П. Б р о ў к а. Хлеб).

Безасабовыя дзеясловы, утвораныя ад такіх непераходных дзеясловаў, служаць для выражэння духоўнага або фізічнага стану.

§ 737. Дзеясловы, якія маюць толькі зваротную форму (г. зн. якія не маюць адпаведных незваротных дзеясловаў), не ўтвараюць якой-небудзь цесна спаянай групы па значэнню. Найбольш агульным семантычным прызнакам іх з'яўляецца абазначэнне засяроджанасці, замкнутасці дзеяння ў самім вытворцы гэтага дзеяння: *адважыцца, адцурацца, баяцца, ганарыцца, каяцца, саромецца, скардзіцца, смяяцца, спорыцца, сумецца* і інш.

*Хто а д в а ж ы ў с я толькі зграджаць ім? Музыка які?* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *Ён з першых дзён а д ц у р а ў с я дзіцячых гульняў вясёлых: на конях тых не катаўся, што на драўляных колах* (А. К у л я ш о ў. Быліна пра волата). *Лабановіч таксама пайшоў да сябе ў школу, думаючы, што ён зрабіў вельмі добра, і нават г а н а р ы ў с я сваім учынкам* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Кінь с а р о м е ц ц а мовы сваёй, звацца сябе беларусам пачні...* (М. Ч а р о т. Звон). *Ціха с к а р д з і ў с я зорам над студняю жураўель* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *Хлопчык закрыў рукамі твар і пачаў с м я я ц ц а* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Работа с п о р ы ц ц а* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Беларускія ткачыхі). *Ліда с у м е л а с я. Яна не чакала такіх суровых слоў* (Я. К о л а с. На ростанях).

## СТАН ДЗЕЯСЛОВА

§ 738. Катэгорыя стану абазначае такія адносіны паміж суб'ектам і аб'ектам дзеяння, якія знаходзяць сваё выражэнне ў форме дзеяслова. Так, у сказе *Раніцамі сонца асвятляла знаёмыя лясы* граматычны суб'ект *сонца* з'яўляецца ў той жа час і вытворцам дзеяння, названага дзеясловам *асвятляла*, а граматычны аб'ект абазначае той прадмет, на які накіравана дзеянне. У сказе ж *Раніцамі знаёмыя лясы асвятляліся сонцам* (К. Ч о р н ы. Подзвіг ціхага чалавека) граматычны суб'ект *лясы* з'яўляецца па сутнасці не вытворцам дзеяння, а аб'ектам, на які накіравана дзеянне, утвараемае чымсьці (кімсьці) іншым, а іменна прадметам, назва якога выступае ў сказе ў якасці граматычнага аб'екта *(сонцам)*. Такім чынам, адносіны паміж аб'ектам і суб'ектам дзеяння ў апошнім сказе прама процілеглыя тым адносінам, якія былі ў першым сказе. Гэтыя адносіны знайшлі сваё выражэнне ў парадку слоў, а таксама ў форме дзеяслова (параўн. *асвятляла — асвятлялася*).

У пэўных выпадках аб'ект можа супадаць з суб'ектам, і дзеянне як бы замыкаецца ў самім сабе: *Мы спыніліся ля ручая* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

Такая сістэма ўзаемаадносін паміж суб'ектам і аб'ектам можа знаходзіць сваё граматычнае афармленне толькі ў тых дзеясловах, якія патрабуюць пасля сябе прамога аб'екта, г. зн. у прама-пераходных дзеясловах.

Адрозніваюцца тры станы пераходных дзеясловаў: незалежны, залежны і зваротна-сярэдні. Значэнне стану граматычна афармляецца ў дзеясловах пры дапамозе суфікса **-ся** або выражаецца асобнымі дзеяслоўнымі формамі — дзеепрыметнікамі (гл. § 873—881).

§ 739. Да незалежнага стану адносяцца ўсе прама-пераходныя дзеясловы; дзеянне, названае ў такіх дзеясловах, актыўна накіравана на прадмет — прамы аб'ект гэтага дзеяння.

*Покуль сенам карову у пуньцы карміла сястра, брат жаданыя дровы у хату прынёс са двара. Покуль міскі адмыла дзяўчына ад пылу ўсяго, спрытна печ растапілі хлапечыя рукі яго* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *Маладая палячка заплятае вянок* (П. Броўка. Стася).

§ 740. Да залежнага стану адносяцца дзеясловы з суфіксам **-ся,** пры дапамозе якіх выражаюцца пэўныя адносіны паміж граматычным суб'ектам і аб'ектам, а іменна калі граматычны аб'ект з'яўляецца вытворцам дзеяння, названага ў дзеяслове, а граматычны суб'ект — прадметам, на які накіравана гэта дзеянне. Такім чынам, у залежных канструкцыях асоба або прадмет, якія выступаюць у ролі дзейніка, самі не ўтвараюць дзеяння, а толькі падвяргаюцца ўздзеянню з боку актыўнага ўтваральніка дзеяння. Напрыклад: *Літаратурнай прозы рэдакцыя атрымлівала вельмі мала; яе амаль не было зусім, калі не лічыць тых допісаў — літаратурных малюнкаў, якія пісаліся некаторымі селькорамі да юбілейных свят і ўсялякіх газетных кампаній* (К. Чорны. Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў).

Дапаўненне, выражанае назоўнікам у форме творнага склону, называецца творным дзеючай асобы.

Адсутнасць творнага дзеючай асобы аслабляе, а ў некаторых выпадках і поўнасцю ліквідуе значэнне залежнасці: *На тых сумліцкіх сенажацях, што былі пры дарожным скрыжаванні, сена было заўсёды змешана з мноствам скошаных аднагодніх дрэўцаў. Яны скошваліся з травою разам штогод і штогод зноў насяваліся і пасля зноў скошваліся* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *А росная трава мякчэй косіцца* (К. Чорны. Вясна).

Заўвага. Значэнне залежнасці ў закончаным трыванні выражаецца звычайна дзеепрыметнікамі: *Намі збудован Магнітабуд, шлях Беламорскі — тэхнікі цуд* (Я. Купала. З'езду Саветаў).

Катэгорыя стану (у прыватнасці, залежнага) знаходзіцца ў цеснай сувязі з катэгорыямі ладу, трывання і асобы. Так, у форме залежнага стану могуць свабодна ўжывацца толькі дзеясловы 3-яй асобы абвеснага (радзей умоўнага) ладу незакончанага трывання. Дзеясловы ў формах 1-ай і 2-ой асобы ў залежным стане амаль не ўжываюцца, а ў форме загаднага ладу ўжыванне іх як залежных наогул немагчыма. Рэдка сустракаюцца дзеясловы залежнага стану закончанага трывання; значэнне залежнасці пры гэтым таксама аслабляецца: *Я думаў — пройдзе ўсё, і ў лютым холадзе ліст абарвецца ветрам і дажджом* (М. Танк. Якубу Коласу).

Яркасць значэння залежнага стану знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з тым, штó абазначае назоўнік у творным склоне (граматычны аб'ект) — асобу ці прадмет. Найбольш ярка значэнне залежнасці выступае

тады, калі аб'ект гэты — асоба (ці персаніфікаваны прадмет або паняцце).

*Тэма народнага лёсу была галоўнай ва ўсёй дакастрычніцкай творчасці Я. Купалы. Яна мастацкі раскрывалася паэтам у той час галоўным чынам у плане паказу народнага гора і рэвалюцыйнай барацьбы беларускіх мас пад цяжарам феадальнай і капіталістычнай эксплуатацыі* (В. Барысенка. Янка Купала). *Няхай жыве паход, каторым падымаецца на бой людскі паўстаўшы род, каторым ноч знішчаецца, бяда перамагаецца, зямля ўся вызваляецца, мір людзям здабываецца... — няхай жыве паход!* (А. Куляшоў. Песня аб слаўным паходзе).

Калі ж граматычны аб'ект — назоўнік неадушаўлёны, у прыватнасці са значэннем прылады дзеяння, тады значэнне залежнасці выступае не так ярка.

*Неўзабаве будзе расці трава на месцы, дзе ўлетку і ўвосень зямля разварочвалася нямецкімі бомбамі* (К. Чорны. На парозе вызвалення). *Запаліўшы ў палях электрычныя сонцы, у адказ, што гэта праўда, не мана, гулі і гулі трактары бясконца, і ўздымалася плугамі цаліна* (А. Куляшоў. На лузе ўначы). *Дзе-небудзь пад лясным сухастоем чарвівее грыб, і ніхто не патрывожыць яго павольнага знікнення са свету, пакуль ён не размыецца дажджамі* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

Залежныя канструкцыі больш уласцівы публіцыстычнаму і дзеласому стылям і менш характэрны для мовы мастацкай літаратуры.

§ 741. Да зваротна-сярэдняга стану адносяцца дзеясловы з суфіксам **-ся**, якія паказваюць, што дзеянне «звяртаецца» да самога суб'екта, замыкаецца ў ім. У залежнасці ад лексічнага значэння дзеяслоўных асноў агульнае значэнне зваротна-сярэдняга стану можа набываць розныя дадатковыя адценні, у адпаведнасці з якімі выдзяляюцца наступныя прыватныя значэнні зваротна-сярэдняга стану: уласна-зваротнае, узаемна-зваротнае, агульна-зваротнае, ускосна-зваротнае, актыўна-безаб'ектнае, пасіўна-якаснае і зваротна-залежнае.

1. Дзеясловы ўласна-зваротнага значэння. Сюды адносяцца дзеясловы, якія абазначаюць розныя фізічныя дзеянні, накіраваныя на знешні бок асобы або жывёлы: *абўцца, распрануцца, распе645разацца, адзецца, памыцца* і некаторыя іншыя. Суфікс **-ся** ў такіх дзеясловах набліжаецца па значэнню да зваротнага займенніка *сябе: памыўся — памый сябе.* Такім чынам, граматычны суб'ект пры ўласна-зваротных дзеясловах з'яўляецца ў той жа час і аб'ектам дзеяння.

*Пракоп моўчкі расперазаўся і зняў сярмягу* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ля ручая умываўся салдат раніцою, каб не палохаць сустрэчных акопнай зямлёю* (А. Куляшоў. Простыя людзі).

2. Дзеясловы ўзаемна-зваротнага значэння. Да гэтай групы адносяцца дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне дзвюх або некалькіх асоб (а таксама жывёл, прадметаў): *абнімацца, сустракацца, прывітацца, біцца, цалавацца* і інш. Суфікс **-ся** мае ў такіх дзеясловах (калі яны ўжываюцца ў форме множнага ліку) значэнне «адзін аднаго»: *б'юцца* — б'юць адзін аднаго, *прывіталіся* — прывіталі адзін аднаго і г. д. (У форме адзіночнага ліку такія дзеясловы выражаюць узаемна-зваротнае значэнне толькі пры ўмове ўжывання пры іх ускоснага аб'екта, выражанага назоўнікам у творным склоне з прыназоўнікам **з**: *прывітаўся з настаўнікам, сустракаўся з таварышам).*

*«Завошта вы біліся, Лявон?» — спытаў настаўнік Лявона* (Я. Колас. У палескай глушы). *І бацька і сын павіталіся за рукі* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Блізкімі да ўзаемна-зваротных па свайму значэнню з'яўляюцца дзеясловы так званага сумеснага дзеяння, якія маюць значэнне не

«адзін аднаго», а «з кім-, чым-небудзь»: *спаткацца, сысціся, пераплесціся, сустрэцца, зліцца, спрачацца, таргавацца, мірыцца, дзяліцца* і інш.

*Мы вось параіліся тут з людзьмі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сны чаргаваліся з явай, а ява са снамі* (А. Куляшоў. Простыя людзі). *Прыемна вясновай лагоднай парой сысціся, пагутарыць паміж сабой* (А. Александровіч. Між кветак і дрэў).

3. Дзеясловы агульна-зваротнага значэння. Сюды адносяцца дзеясловы, якія выражаюць:

а) знешнія, фізічныя змены ў стане ці руху прадмета: *рухацца, калыхацца, каціцца, тапіцца, варушыцца, станавіцца, садзіцца, купацца, кружыцца, мяняцца* і інш.;

б) унутраны, духоўны стан, перажыванні асобы ці жывой істоты: *палохацца, радавацца, смуціцца, цешыцца, хвалявацца, хмурыцца* і інш.

Такія дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое замыкаецца ў самім вытворцы. Суфікс **-ся** ў гэтых дзеясловах не мае значэння зваротнага займенніка *сябе;* тут магчыма толькі далучэнне займенніка *сам (самому): купаецца* (сам), *купацца* (самому).

*Комель — слуп-скала дыша сілаю, а ўгару зірнеш — шапка валіцца* (Я. Колас. Дуб). *Хмаркі насіліся над лесам* (З. Бядуля. На каляды к сыну). *Абрысы вуліцы губляліся ў змроку* (К. Чорны. Зямля). *Твар пануры, але ён часта мяняецца* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Усё нуджуся я па вёсцы роднай...* (З. Бядуля. За тканінай).

4. Дзеясловы ўскосна-зваротнага значэння. Да гэтай групы адносяцца дзеясловы, якія называюць дзеянне, што выконваецца ўтваральнікам яго для сябе самога, у сваіх інтарэсах: *збірацца, будавацца, сталавацца, частавацца, карміцца* і інш. Аб'екты, на якія было б накіравана дзеянне суадноснага незваротнага дзеяслова, не ўжываюцца зусім або выступаюць як ускосныя аб'екты, параўн.: *збіраць* (рэчы ў дарогу) — *збірацца* (з рэчамі ў дарогу), *будаваць* (дом) — *будавацца.*

*Увесну тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года ён пачаў будавацца* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Гэтыя тры дні Лабановіч жыў і сталаваўся ў пісара* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Выпраўляў кульгавы Цыпрук хлопчыкаў да купца ў лес на заработкі. Гэтым карміласся сям'я* (З. Бядуля. Малыя дрывасекі).

5. Дзеясловы актыўна-безаб'ектнага значэння ўказваюць на схільнасць суб'екта да якога-небудзь дзеяння; прычым гэта дзеянне ўсведамляецца як прызнак, уласцівы суб'екту (аб'ект жа не толькі не ўказваецца, але яго і не можа быць): *сабака кусаецца, агонь пячэцца, конь брыкаецца* і інш.

*Усе рэчы агледзеў патроху, і ўзяў я ў дарогу толькі лыжку, па праву запіхнуўшы яе за халяву, хоць яна мне і муліцца, ды неабходна ў паходзе...* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Але Юзікаў конь хадзіў на выгане, ніяк не хацеў лавіцца і нават два разы ўбрыкнуў Юзіка...* (К. Крапіва. Пальчык).

6. Дзеясловы пасіўна-якаснага значэння выражаюць здольнасць прадмета падвяргацца якому-небудзь дзеянню (гэта асабліва ярка выступае ў формах цяперашняга часу): *палка гнецца, лыкі дзяруцца, посуд б'ецца* і інш.

*Дзяры лыкі, калі дзяруцца* (З. Бядуля. Летапісцы). *Спёк бы хоць бульбы, ды гэта ж бульба не водзіцца тут* (А. Александровіч. Вечар). *Але рыба цяпер лепш бярэцца на аўсянікаў* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Каля нашай вёскі мядзведзі вадзіліся* (Я Колас. У палескай глушы).

7. Дзеясловы зваротна-пасіўнага значэння. Дзеясловы гэтай групы выражаюць пасіўныя ўспрыняцці асобы, прычым назва гэтай

асобы выступае ў якасці ўскоснага аб'екта ў давальным склоне, а дзейнікам з'яўляецца назва таго, хто ці што ўспрымаецца: *яму ўспомніўся сон, мне бачыліся сёлы* і інш.

*Доўга п о м н і ц ц а будзе мне гэтае чорнае ранне і халодная сцежка мая* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады). *А мне б а ч а ц ц а сёлы, пабялёныя хаты, а мне ч у ю ц ц а песні, што спяваюць дзяўчаты* (П. Б р о ў к а. Параходу «Украіна»). *Я не знаю, калі п а л ю б і л а с я сонцу зямля, а зямлі п а л ю б і л а с я сонца, — не ведаю я...* (А. К у л я ш о ў. Зямля і сонца). *І с н і ц ц а старому Міхайлу адзін дзіўнюсенькі сон* (З. Б я д у л я. Туга старога Міхайлы).

8. Дзеясловы з в а р о т н а-з а л е ж н а г а значэння. Сюды адносяцца дзеясловы, якія маюць адценне залежнасці, аднак творны дзеючай асобы не названы: *выпускаліся лістоўкі, размяркоўваліся сродкі, выдаюцца кніжкі, прывозяцца тавары* і інш.

*У многіх месцах в ы п у с к а л і с я лістоўкі і нелегальныя партыйныя газеты* (Гісторыя КПСС). *Пачалася ліквідацыя асобных нямецкіх груп, з н і ш ч а л і с я цэлыя часці, р а з б у р а л і с я варожыя камунікацыі, з н і ш ч а л і с я эшалоны, с е я л а с я паніка ў асяроддзі ворага* (К. Ч о р н ы. Леў Даватар). *На месцы голых выганаў з а с а д ж в а ю ц ц а паркі* (К. Ч о р н ы. Ясны дзень краіны).

## КЛАСЫ ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 742. Усе дзеясловы ў сучаснай беларускай мове размяркоўваюцца па пэўных класах. Кожны клас характарызуецца сваёй, толькі яму ўласцівай сістэмай форм спражэння. Размеркаванне дзеясловаў па класах залежыць ад суадносін асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу.

Класы дзеясловаў могуць быць прадуктыўнымі або непрадуктыўнымі. Калі суадносіны асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу характэрны не толькі для вузка абмежаванай колькасці дзеясловаў, а і для наватвораў, тады класы з такімі суадносінамі асноў называюцца п р а д у к т ы ў н ы м і. Класы ж, у якіх суадносіны асноў уласцівы толькі пэўным дзеясловам, называюцца н е п р а д у к т ы ў н ы м і. Колькасць дзеясловаў, што адносяцца да непрадуктыўных класаў, невялікая (калі не лічыць розных прыставачных утварэнняў, такіх дзеясловаў у беларускай мове налічваецца каля чатырохсот). Аднак пад уплывам прадуктыўных класаў дзеясловы, якія адносяцца да непрадуктыўных класаў, паступова пачынаюць набываць формы спражэння, уласцівыя прадуктыўным класам.

Як правіла, дзеясловы з вытворнай асновай, утвораныя па прадуктыўных словаўтваральных мадэлях, адносяцца да прадуктыўных класаў. Але разам з тым да прадуктыўных класаў могуць адносіцца і дзеясловы з невытворнай асновай або дзеясловы, утвораныя па непрадуктыўных словаўтваральных мадэлях.

### *Прадуктыўныя класы дзеясловаў*

§ 743. У залежнасці ад характару суадносін асновы цяперашняга часу і асновы інфінітыва выдзяляюцца чатыры прадуктыўныя класы дзеясловаў.

Да п е р ш а г а класа адносяцца дзеясловы з інфінітывам на **-аць (-яць)** або **-эць (-ець)** і формай 3-ай асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу на **-аюць (-яюць), -эюць (-еюць):** *вітаць — вітаюць, гуляць — гуляюць, грэць — грэюць, зелянець — зеленеюць.*

Да **другога** класа адносяцца дзеясловы з інфінітывам на **-нуць** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга часу на **-нуць,** прычым суфікс **-ну-** захоўваецца і ў аснове прошлага часу: *вярнуць — вернуць (вярнуў), гарнуць — горнуць (гарнуў).*

Да **трэцяга** класа адносяцца дзеясловы з інфінітывам на **-аваць (-яваць)** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга часу на **-уюць (-ююць):** *будаваць — будуюць, хваляваць — хвалююць.*

Да **чацвёртага** класа адносяцца дзеясловы з інфінітывам на **-іць (-ыць)** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга часу на **-яць (-аць):** *бараніць — бароняць, бачыць — бачаць.*

Заўвага. Першы прадуктыўны клас, куды ўваходзяць дзеясловы з інфінітывам на **-аць(-яць)**, **-эць(-ець)** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга часу на **-аюць (-яюць)**, **-эюць (-еюць)**, іншы раз разбіваецца на два асобныя класы: першы — з інфінітывам на **-аць (-яць)** і другі — з інфінітывам на **-эць (-ець).** У такім выпадку замест чатырох прадуктыўных класаў будзе налічвацца пяць.

## Першы прадуктыўны клас

### *Падклас А*

§ 744. Да падкласа А першага прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на **-аць (-яць),** а форма 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу — на **-аюць (-яюць).** Галосны **а** ў інфінітыве можа быць суфіксам (*улад-***а***-ць*), часткай суфікса (*асцярожн-іча-ць),* канцавым галосным невытворнай асновы (*зна-ць, дба-ць).*

Перад галосным **а** ў аснове інфінітыва могуць быць цвёрдыя ці зацвярдзелыя зычныя (*кідаць, ламаць, пужаць),* мяккія зычныя (*трапляць, раўняць),* а таксама **j** (*паяць, прыяць).*

Аснова цяперашняга часу ва ўсіх дзеясловах падкласа А адрозніваецца ад асновы інфінітыва наяўнасцю **j** *пасля* **а:** *кідаць — кідаj-уць, трапляць — трапляj-уць, паяць — паяj-уць.*

Беспрыставачныя дзеясловы, якія адносяцца да падкласа А першага прадуктыўнага класа, маюць значэнне незакончанага трывання. Далучэнне прыставак пераводзіць гэтыя дзеясловы ў закончанае трыванне: *думаць — выдумаць, надумаць, падумаць.*

У падклас А ўваходзяць як пераходныя, так і непераходныя дзеясловы.

Аснова інфінітыва ў беспрыставачных дзеясловах гэтага падкласа мае, як правіла, не менш двух складоў. Выключэннем з'яўляюцца толькі дзеясловы *дбаць, граць, ззяць, знаць, пхаць, чхаць,* якія маюць адзін склад.

§ 745. Дзеясловы падкласа А ўтвараюцца як ад дзеяслоўных, так і ад іменных асноў.

1. Ад дзеяслоўных асноў утварэнне дзеясловаў падкласа А адбываецца пры дапамозе суфіксаў **-а- (-я-), -ва-.** Гэтыя формаўтваральныя суфіксы надаюць значэнне незакончанага трывання прыставачным дзеясловам законачанага трывання розных класаў: *распытаць — распытваць, закідаць — закідваць; забінтаваць — забінтоўваць, завуаліраваць — завуаліроўваць, ахарактарызаваць — ахарактарызоўваць; апрануць — апранаць; забараніць — забараняць, вырашыць — вырашаць, прымусіць — прымушаць* і інш.

2. Ад іменных асноў утварэнне дзеясловаў падкласа А адбываецца пры дапамозе суфіксаў **-а-, -іча-, -ніча-, -ка-:** *абедаць, уладаць, сватаць, адсутнічаць, самавольнічаць, акрабатнічаць, сакрэтнічаць, муркаць, мяўкаць* і інш.

Асобныя дзеясловы ўтвараюцца прыставачна-суфіксальным спосабам: *апраўдаць, зацугляць, расцугляць* і некаторыя іншыя.

§ 746. Да падкласа Б першага прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на **-эць (-ець),** а форма 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу — на **-эюць (-еюць).**

Галосны **е (э, а)** у аснове інфінітыва з'яўляецца суфіксам. Выключэнне складаюць толькі некалькі невытворных дзеясловаў (*гавець, грэць, ірдзець, калець, карпець* (прастамоўн.), *карцець* (размоўн.), *карэць* (прастамоўн.), *млець, пець, прэць, пятрэць* (прастамоўн.), *спець, тлець, чаўрэць* (дыялектн.), *чмурэць* (дыялектн.), *дранцвець, квітнець, абыраць* (дыялектн.) і прыставачныя ўтварэнні ад іх), дзе **е (э, а)** з'яўляецца канцавым галосным невытворнай асновы і выступае толькі як паказчык падкласа.

Аснова цяперашняга часу ва ўсіх дзеясловах падкласа Б адрозніваецца ад асновы інфінітыва наяўнасцю **j** пасля **е (э):** *квітнець — квітнеj-уць, мацнець — мацнеj-уць, хварэць — хварэj-уць.*

Усе беспрыставачныя дзеясловы падкласа Б маюць значэнне незакончанага трывання і з'яўляюцца непераходнымі (за выключэннем дзеясловаў *грэць, пець,* якія маюць значэнне пераходнасці).

Аснова інфінітыва ў беспрыставачных дзеясловах гэтага падкласа мае не менш двух складоў. І толькі невытворныя дзеясловы *грэць, млець, пець, прэць, спець* і вытворныя *днець, цьмець* маюць аднаскладовую інфінітыўную аснову.

§ 747. Дзеясловы падкласа Б утвараюцца толькі ад іменных (назоўнікавых і прыметнікавых) асноў пры дапамозе прадуктыўнага суфікса **-е- (-э-, -а-):** *гарбець, днець, рунець, сірацець, тупацець, шаргацець; багацець, бляднець, вадзянець, меншаць, мякчэць, старэць, цвярдзець, цямнець, цяплець* і шмат іншых. Пры ўтварэнні такіх дзеясловаў асновы якасных прыметнікаў выкарыстоўваюцца шырэй, чым асновы назоўнікаў.

У гэты падклас уваходзяць і дзеясловы, утвораныя пры дапамозе непрадуктыўнага суфікса **-яне- (-ане-):** *дубянець, карчанець, касцянець, пруцянець, слупянець.*

Асобныя дзеясловы падкласа Б утвараюцца прыставачна-суфіксальным спосабам — пры дапамозе суфікса **-е- (-э-, -а-)** у спалучэнні з прыстаўкай **абез-** (*абезгалосець, абяззубець, абязводзець*), **а- (аб-)** (*абветрацць, аб'інець*), **з- (с-)** (*зблажэць, спахмурнець*), **за-** (*заінець, занядужаць*), **па-** (*павышэць, пачарвець*), **у-** (*уцалець*) і інш.

## Другі прадуктыўны клас

§ 748. Да другога прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з суфіксам **-ну-** ў інфінітыве, прычым гэты суфікс захоўваецца і ў формах прошлага часу: *мінуць — мінуў, свіснуць — свіснуў.* Суфікс **-ну-** захоўваецца і ў форме 3-яй асобы множнага ліку будучага простага часу; такім чынам, гэта форма супадае з інфінітывам.

Дзеясловы другога прадуктыўнага класа ў пераважнай большасці маюць значэнне закончанага трывання, і толькі невялікая колькасць дзеясловаў адносіцца да незакончанага трывання: *гарнуць, гнуць, імкнуць, сунуць, цягнуць* і некаторыя іншыя.

Аснова інфінітыва ў беспрыставачных дзеясловах другога прадуктыўнага класа, за выключэннем дзеясловаў *гнуць, пхнуць, пнуць, тнуць, тхнуць, чхнуць,* мае не менш двух складоў.

Заўвага. У некаторых дзеясловах у сувязі з гістарычнымі зменамі гукавога складу каранёвай марфемы суфікс **-ну-** ў сучаснай мове не заўсёды лёгка вылучаецца. Параўн.: *гнуць, пнуць, тнуць, тхнуць.*

§ 749. Дзеясловы другога прадуктыўнага класа ўтвараюцца толькі ад дзеяслоўных асноў пры дапамозе суфікса **-ну-** (і яго варыянта **-ану-**), які ўносіць значэнне аднакратнасці, імгненнасці дзеяння: *ліць* — *лінуць*, *рыпаць* — *рыпнуць*, *кусаць* — *кусну́ць*; параўн. таксама *ірвануць*, *крутануць*, *шарганучь* і інш.

Заўвага. Значэнне аднакратнасці, імгненнасці адсутнічае ў невытворных дзеясловах на **-нуць**: *вярнуць*, *гарнуць*, *гнуць*, *імкнуць*, *кануць*, *мінуць*, *сунуць*, *цягнуць*.

### Трэці прадуктыўны клас

§ 750. Да трэцяга прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з асновай інфінітыва на **-аваць (-яваць)** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу на **-уюць (-ююць)**: *будаваць* — *будуюць*, *кіраваць* — *кіруюць*, *маляваць* — *малююць*. Такім чынам, суфіксу **-ава- (-ява-)** у аснове інфінітыва адпавядае суфікс **-у- (-ю-)** у аснове цяперашняга часу. Суфікс **-ава- (-ява-)** выдзяляецца ў аснове інфінітыва амаль усіх дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа, за выключэннем невытворных (*жаваць*, *каваць*, *кляваць*, *псаваць*, *снаваць*, *соваць*, *цкаваць* і інш.), у якіх спалучэнне **-ава- (-ява)** з'яўляецца часткай асновы.

Усе беспрыставачныя дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа маюць значэнне незакончанага трывання. І толькі ў радзе дзеясловаў, пераважна іншамоўнага паходжання, форма закончанага трывання супадае з формай незакончанага: *дэмакратызаваць*, *металізаваць*, *атакаваць*, *тэлеграфаваць* і інш. (гл. § 822).

Аснова інфінітыва дзеясловаў гэтага класа мае не менш трох складоў. Выключэннем з'яўляюцца дзеясловы *дняваць*, *злаваць* і пералічаныя вышэй невытворныя дзеясловы з суфіксам **-а-**.

§ 751. Дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў і часткова ад асноў якасных прыметнікаў. Утварэнне дзеясловаў на **-аваць** ад іншых часцін мовы адбываецца ў адзінкавых выпадках (параўн., напрыклад, гукапераймальнае *кукаваць*).

1. Ад асноў назоўнікаў утварэнне дзеясловаў гэтага класа адбываецца пры дапамозе суфіксаў **-ава- (-ява-), -ствава-, -ірава- (-ырава-), -ізава- (-ызава-)**: *вапнаваць*, *мураваць*, *начаваць*, *шufляваць*, *дырэктарстваваць*, *гастраліраваць*, *шаржыраваць*, *гіпербалізаваць*, *інвентарызаваць* і інш. У папаўненні дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа вялікую ролю адыгрывае калькаванне.

2. Ад асноў якасных прыметнікаў дзеясловы гэтага класа ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў **-ава- (-ява-)** і **-ізава-**: *мілаваць*, *раўнаваць*, *хітраваць*; *яравізаваць*, *азімізаваць* і інш.

### Чацвёрты прадуктыўны клас

§ 752. Да чацвёртага прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з асновай інфінітыва на **-іць (-ыць)** і формай 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу на **-аць (-яць)**. Канцавыя зычныя асновы інфінітыва могуць быць мяккімі (*бараніць*, *будзіць*, у тым ліку на **j** — *клеіць*), цвёрдымі і зацвярдзелымі (*пра́жыць*, *лячыць*, *варыць*). Аснова на **j** выразна выступае толькі ў формах цяперашняга часу абвеснага ладу і ў формах загаднага ладу (*клеj-у*, *клеj-аць*; *клеj*); у інфінітыве ж **j** зліваецца з суфіксальным **і** (*клеj-іць*).

§ 753. Адной з характэрных рыс дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа з'яўляецца чаргаванне канцавых зычных асновы ў асабовых формах цяперашняга (будучага простага) часу, а таксама ў дзеепрыметніках залежнага стану прошлага часу: *насіць* — *нашу* — *ношаны*, *ламіць* — *ламлю* — *абломлены*, *адкарміць* — *адкармлю* — *адкормлены*.

Чаргаванню падлягаюць канцавыя губныя і зубныя зычныя: **б — бл, п — пл, в — ўл (вл), ф — фл, м — мл,** напрыклад: *рабіць — раблю, купіць — куплю, лавіць — лаўлю, амярцвіць — амярцвлю, графіць — графлю, таміць — тамлю;* **с — ш, г — ж, ц** (з мяккага **т**) **— ч, дз** (з мяккага **д**) **— дж, сц** (дзе **ц** з мяккага **т**) **— шч:** *касіць — кашу, грузіць — гружу, каціць — качу, адводзіць — адводжу, пагасціць — пагашчу.*

§ 754. Чацвёрты прадуктыўны клас складаецца ў асноўным з пераходных дзеясловаў. Беспрыставачныя дзеясловы, як правіла, маюць значэнне незакончанага трывання, за выключэннем невялікай групы невытворных *(кончыць, купіць, пусціць* і некаторыя інш.*)*, а таксама двухвідавых дзеясловаў *(жаніць, раніць).*

Дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа звычайна двухскладовыя і многаскладовыя. Аднаскладовую аснову маюць толькі некаторыя дзеясловы *(кпіць, льсціць, сніць, шкліць).*

§ 755. Дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа ўтвараюцца:

а) суфіксальным і прыставачна-суфіксальным спосабамі ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў і лічэбнікаў;

б) шляхам словаскладання.

1. Ад асноў назоўнікаў (у тым ліку і запазычаных) дзеясловы гэтага класа ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-):** *зубіць, маршчыніць, помсціць, страшыць, дрэйфіць, каніфоліць, найтовіць* (марск.) і інш., а таксама пры дапамозе гэтага ж суфікса і прыставак **а- (аб-), абез-, ад-, вы-, з- (с-), за-** і інш.: *азмрочыць, абнадзеіць* (параўн. наватвор *абілеціць), ачалавечыць, абяззброіць, абясколерыць, адахвоціць, адцяніць, выпраменіць, здарожыцца, занарадзіць, падахвоціць, падначаліць, перамясціць, перасіліць, прыручыць, прызвычаіць, рассакрэціць, укараніць, узаконіць* і інш.

2. Ад асноў якасных прыметнікаў дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа таксама ўтвараюцца як пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-):** *жаўціць, зеляніць, радніць, сутуліць, лаўчыцца* і інш., так і пры дапамозе прыставак **а- (аб-), ад-, вы-, з- (с-), за-, на-, па-, пад-, пера-** і інш. у спалучэнні з суфіксам **-і- (-ы-),** напрыклад: *абледзяніць, абядніць, адасобіць, адрозніць, высветліць, змякчыць, састарыць, запэўніць, наблізіць, падоўжыць, падкісліць, перапоўніць, праясніць, прыпадобніць, расчуліць, уласкавіць, узмацніць* і інш.

3. Прыставачна-суфіксальным спосабам адбываецца ўтварэнне дзеясловаў гэтага ж класа і ад некаторых прыслоўяў. У словаўтварэнні прымаюць удзел прыстаўкі **ад-, з-, за-, раз-** у спалучэнні з суфіксам **-і- (-ы-):** *здаволіць, запаволіць, распаўсюдзіць* і некаторыя іншыя.

4. Пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-),** а таксама гэтага ж суфікса ў спалучэнні з прыстаўкамі **па-** і **у-** ўтвараюцца дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа ад асноў зборных лічэбнікаў, напрыклад: *дваіць, траіць, падзесяцярыць, удзевяцярыць* і некаторыя іншыя.

5. Да чацвёртага прадуктыўнага класа адносяцца і некаторыя складаныя дзеясловы: *самаўхіліцца, самапацясніцца, богатварыць* і інш.

### Узаемадзеянне прадуктыўных класаў

§ 756. У сістэме прадуктыўных класаў наглядаюцца з'явы пераходу дзеясловаў з аднаго класа ў другі.

1. Пад уплывам форм дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа некаторыя дзеясловы падкласа Б першага прадуктыўнага класа змяняюць асабовыя формы і няправільна ўжываюцца з канчаткамі, уласцівымі дзеясловам чацвёртага прадуктыўнага класа: *апрыкрыў* (замест *апрыкраў,* інфінітыў *апрыкраць*), *заружовіў* (замест *заружавеў,* інфінітыў *заружавець), саромiцца, засароміўся* (замест *саромеецца, засаромеўся,* інфінітыў *саромецца, засаромецца*), *зардзіць* (замест *зардзее,*

інфінітыў *зардзець)* і інш. Такія асабовыя формы сустракаюцца і ў мове мастацкай літаратуры.

*Няма зацікаўленасці да прамовы Гарбулёва, якога чулі шмат разоў:* *а п р ы к р ы ў* (З. Б я д у л я. Таварыш Мінкін). *Твар яе з а р у ж о в і ў...* (П. Б р о ў к а. Хлеб). *Я прыйшоў паглядзець сёння ў гэты пакой на дзяўчынку з прыветным задумлівым тварам. Мне здалася яна ціхай, простай такой, што ж с а р о м і ц ц а так маладзенькая пара?* (П. Б р о ў к а. Начальнік ЗАГСа). *Лабановіч не знайшоўся што сказаць: ён крыху з а с а р о м і ў с я* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Над зямлёй з а р д з і ц ь вясёлка пасля бураў, ліхаценняў; бацьку, маці жыць нялёгка,— хай жа лёгка жывуць дзеці* (Я. К у п а л а. З Новым годам!).

2. Пад уплывам дзеясловаў падкласа А першага прадуктыўнага класа поўнасцю перайшлі ў гэты падклас дзеясловы *ўладаць (валодаць), халадаць,* якія раней адносіліся да падкласа Б.

3. Пад уплывам дзеясловаў падкласа А першага прадуктыўнага класа дзеяслоў *мерыць,* які адносіцца да чацвёртага прадуктыўнага класа, можа набываць формы *мераць, мераю, мераеш, мераюць* (г. зн. па I А класу): *Трэба яшчэ дайсці да першай станцыі, а там яшчэ цэлых чатыры. Не так-та скора і лёгка а д м е р а ц ь іх сваімі нагамі* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). Нормай трэба лічыць формы *мерыць, меру, мерыш, мерац*ь (г. зн. па IV прадуктыўнаму класу), параўн.: *Якою мераю м е р ы ц е вы, такою а д м е р ы ц ц а і вам* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Сажнем, лентаю м е р ы м мы палі, сенажаць* (А. К у л я ш о ў. Дружба).

4. Пад уплывам чацвёртага прадуктыўнага класа набываюць уласцівыя яму формы і некаторыя дзеясловы падкласа А першага прадуктыўнага класа. Так, замест *муляць, выкрасаць* могуць ужывацца формы *муліць, выкрасіць* (і адпаведна — усе асабовыя формы па IV класу), параўн.: *Ці не м у л і ц ь вам сяннік?* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Каб толькі в ы к р а с і ц ь агню* (Я. К у п а л а. На папасе). Аднак такое ўжыванне не лічыцца нормай.

5. Як дыялектная сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры форма 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу *захватуе* (па III прадуктыўнаму класу) ад дзеяслова *захватваць: Глянеш вакола — сэрца з а х в а т у е...* (М. Ч а р о т. Да працы). Параўн. запазычанае *наказуе* ад дзеяслова *наказваць: І ўсякую гардыню н а к а з у е гасподзь* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся).

Нормай лічыцца ўтварэнне асабовых форм ад дзеяслова *захватваць* па падкласу А першага прадуктыўнага класа.

6. Спарадычна адзначаюцца выпадкі ўплыву другога прадуктыўнага класа на ўтварэнне некаторых форм дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа. Так, у Я. Купалы замест *спыніўся* сустракаецца дыялектная форма *спынуўся: Сам с п ы н у ў с я у халоднай за... свабоду веры* (Янка і свабода). *Ты с п ы н у ў с я ад нас за дзесятай гарой...* (Хлеб).

## *Непрадуктыўныя класы дзеясловаў*

§ 757. Дзеясловы, якія па суадносінах асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу не могуць быць аднесены ні да аднаго з прадуктыўных класаў, у сучаснай беларускай мове складаюць адносна нешматлікую групу, прыкладна ў межах чатырохсот слоў (не лічачы розных прыставачных утварэнняў ад адных і тых жа дзеясловаў). Гэтыя дзеясловы атрымалі назву непрадуктыўных, а класы, у якія яны групуюцца, — непрадуктыўных класаў. У сувязі з тым, што непрадуктыўныя дзеясловы характарызуюцца радам дробных асаблівасцей, іншы раз уласцівых вельмі невялікай групе слоў, а то і паасобным словам, класіфікацыя гэтых дзеясловаў становіцца значна больш падрабязнай і менш даклад-

най. Няпэўнасць класіфікацыі непрадуктыўных дзеясловаў абумоўліваецца яшчэ і тым, што на іх пастаянна ўплываюць дзеясловы прадуктыўных класаў, і дзякуючы гэтаму ўплыву колькасць непрадуктыўных дзеясловаў бесперапынна змяншаецца, — яны пераходзяць у склад прадуктыўных класаў.

У сучаснай беларускай мове можна вылучыць прыкладна адзінаццаць больш-менш акрэсленых непрадуктыўных дзеяслоўных класаў, і, акрамя таго, некалькі дзеясловаў, якія стаяць адасоблена ў дзеяслоўнай сістэме.

### Першы непрадуктыўны клас

§ 758. Да першага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы (іх крыху больш за сто), у якіх аснова інфінітыва заканчваецца галосным (**а** або **я**), а аснова цяперашняга часу — зычным гукам: *скакаць — скачуць, веяць — веюць (вej-уць)*. Такім чынам, аснова інфінітыва ў гэтых дзеясловах аналагічная аснове інфінітыва першага прадуктыўнага класа, з той, аднак, розніцай, што суфікс **-а-** ў аснове цяперашняга часу адсутнічае (*піс-а-ць*, але *піш-уць; свіст-а-ць*, але *свішч-уць*). У той жа час у дзеясловах першага прадуктыўнага класа гэты суфікс захоўваецца як у аснове інфінітыва, так і ў аснове цяперашняга часу.

Усе дзеясловы першага непрадуктыўнага класа маюць асабовыя формы I спражэння.

Беспрыставачныя дзеясловы першага непрадуктыўнага класа могуць быць трохскладовымі (*клапатаць, ракатаць*), двухскладовымі (*хваста́ць, шаптаць*) і аднаскладовымі (*браць, рваць*), у апошнім выпадку ў склад кораня ўваходзяць толькі зычныя гукі.

Дзеясловы першага непрадуктыўнага класа падзяляюцца на тры падкласы ў залежнасці ад асаблівасцей утварэння асабовых форм і характару асновы.

§ 759. Да падкласа А першага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, у якіх канцавыя зычныя асновы інфінітыва чаргуюцца з адпаведнымі зычнымі асновы цяперашняга часу: *рэзаць — рэжуць, часаць — чэшуць, мармытаць — мармычуць, клікаць — клічуць, трапаць — трэплюць* і інш.

У падкласе А наглядаюцца чаргаванні:

1. Зубных **з, с** з шыпячымі **ж, ш** у дзеясловах *вязаць, казаць, лізаць, мазаць, нізаць, рэзаць, лузаць; абавязаць, аперазаць* (*адперазаць, сперазаць, расперазаць, падперазаць*), *заказаць* (і *наказаць, паказаць*); *пісаць, часаць*.

2. Зубнога **т** з афрыкатай **ч** (пераважна ў дзеясловах са значэннем гуку, утвораных ад назоўнікаў на **-ат**): *балбатаць, бразгатаць, булькатаць, вуркатаць, гагатаць, грукатаць, екатаць, клекатаць, лапатаць, лекатаць, сакатаць, рагатаць, ракатаць, скавытаць, скагатаць, скрыгітаць, хлябтаць, лепятаць, ляскатаць, плюскатаць, стракатаць, стукатаць, цакатаць, шчабятаць, туркатаць, друзгатаць, трапятаць, шаптаць, жлуктаць, клапатаць, таптаць* і некаторыя іншыя.

3. Заднеязычных **г, к, х** з шыпячымі **ж, ч, ш**: *стругаць, клікаць, плакаць, скакаць, смыкаць, сукаць, брахаць, калыхаць, чмыхаць, пыхаць* (у значэнні «несці жарам, быць гарачым»), *курлыкаць, мыкаць, хныкаць;* сюды ж прымыкаюць таксама *лгаць — лгу, лжэш, лжэ, лжом* (дыялектн. *лгом*), *лгуць; ткаць — тку, тчэш, тчэ, тчом* (дыялектн. *тком*), *ткуць*.

4. Гукавога спалучэння **ск** або **ст** з афрыкатай **ч**: *паласкаць, пляскаць, свістаць, хвастаць, храбустаць*.

5. Губных **п, м** са спалучэннямі гэтых жа губных з **л**: *драмаць, кляпаць, сыпаць, трапаць, целяпаць*.

6. Цвёрдых зычных з мяккімі або зацвярдзелымі зычнымі:

а) **л — л', м — м', н — н', в — в', с — с'**: *слаць — сцялю, сцелюць; слаць — шлю, шлюць; жмаць* (дыялектн.) — *жме, жмуць; стагнаць — стогне, стогнуць; рваць — рве, рвуць; ссаць — ссе, ссуць.*

Заўвага 1. У дзеяслове *слаць — сцелюць* адзначаецца таксама чаргаванне галоснага **е** ў аснове цяперашняга часу з адсутнасцю галоснага ў аснове інфінітыва. Гэтым дзеяслоў *слаць — сцелюць* зближаецца з дзеясловамі падкласа В (гл. § 761).

Заўвага 2. Па падкласу А першага прадуктыўнага класа ўтвараюцца формы ад дзеяслова *дзьмуць* (старажытная форма інфінітыва — *дьмати*; сучасная форма *дзьмуць* узнікла пад уплывам дзеяслова *дуць*): *дзьму, дзьмеш, дзьме, дзьмуць.*

б) **р** (цвёрдае) — **р** (зацвярдзелае); *араць — ару, арэш, аром, аруць;* прастамоўн. *жраць, — жрэ, жром, жруць;* **д—дж:** *ждаць — жджэш.*

Заўвага. Дзеяслоў *жраць* дыялектна можа мець формы *жару, жарэш, жаруць*, аднак гэтыя формы з'яўляюцца вытворнымі не ад інфінітыва *жраць*, а ад *жэрці* (гл. IV непрадуктыўны клас, § 769).

§ 760. Да падкласа Б першага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на **-яць** пасля галосных, а форма 3-яй асобы — на **-юць** пасля галосных; аснова інфінітыва і цяперашняга часу заканчваецца на **j**: *баяць, бляяць, веяць, дзеяць, лаяць, пяяць, сеяць, таяць, хаяць, каяцца, смяяцца.*

§ 761. Да падкласа В першага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, у якіх адзначаецца чаргаванне галосных **е (я), а** ў аснове цяперашняга часу з адсутнасцю галоснага ў аснове інфінітыва: *браць (бяруць), драць (дзяруць), праць (пяруць* — «б'юць бялізну»), *зваць — завуць.*

§ 762. Дзеясловы першага непрадуктыўнага класа падвяргаюцца надзвычай моцнаму ўплыву з боку дзеясловаў першага прадуктыўнага класа. У выніку атрымліваецца, што многія дзеясловы маюць паралельныя формы спражэння: *казытаць — казытаюць, казычуць; калыхаць — калыхаюць, калышуць; клікаць — клікаюць, клічуць; дыхаць — дыхаюць, дышуць; кляпаць — кляпаюць, клеплюць; паласкаць — паласкаюць, палошчуць; смыкаць — смыкаюць, смычуць; шчыпаць — шчыпаюць, шчыплюць; курлыкаць — курлыкаюць, курлычуць; мыкаць — мыкаюць, мычуць; хныкаць — хныкаюць, хнычуць; пыхаць — пыхаюць, пышуць; чмыхаць — чмыхаюць, чмышуць.* Адны з гэтых дзеясловаў (*махаць, тыкаць, дыхаць, кляпаць, шчыпаць, лузаць, курлыкаць*) часцей утвараюць формы па першаму прадуктыўнаму класу, і такія формы паступова замацоўваюцца ў якасці літаратурнай нормы. Напрыклад, у А. Куляшова: *Гінуць дажджыстыя хмар валаконцы, д ы х а е свежасцю сіняя гладзь* (На шляху); у Я. Скрыгана: *Журавы к у р л ы к а ю ц ь, стройна, ключом, хаваючыся за лесам* (Па дарозе).

Другія ж дзеясловы яшчэ захоўваюць у якасці нормы спражэнне па першаму непрадуктыўнаму класу (*казытаць, калыхаць, клікаць, паласкаць, смыкаць*), хоць іншы раз у мастацкай літаратуры ўжываюцца формы, утвораныя па першаму прадуктыўнаму класу.

*Ад патэльні разыходзіцца густымі хвалямі смачны пах, які апетытна к а з ы т а е ў носе, прыемна гладзіць горла і раскудзельваецца невідочным туманам па ўсіх кутках і шчылінах убогай хаткі* (З. Б я д у л я. Дэлегатка). *Ён ляжыць у крыві, нерухомы, пад ціхаю ліпаю. Я крычу, як глухому, крычу яму, к л і к а ю, к л і к а ю* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

Некаторыя ж дзеясловы (*сукаць, хныкаць, чмыхаць*) маюць амаль раўнацэнныя формы спражэння як па першаму прадуктыўнаму, так і па першаму непрадуктыўнаму класу, аднак формы, утвораныя па першаму прадуктыўнаму класу, успрымаюцца як размоўныя.

Заўвага 1. Некаторыя дзеясловы першага непрадуктыўнага класа дыялектна ўтвараюць формы па чацвёртаму прадуктыўнаму класу.

*Чакай жа, радзіма* *с а б е р ы ц ц а* *з сілай, мы ворага скрышым, мы ворага знішчым, спусціўшы галовы, не прыйдзем дахаты* (П. Б р о ў к а. Развітальнае слова). *Ляжыць на печы Напрэй, д р э м і ц ь* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *То разбяжыцца, то пухам з а с ц е л і ц ц а, гойкае, кружыць, спявае мяцеліца* (П. Б р о ў к а. Мяцеліца). *Вясною п а с ы п я ц ь амелькі насенне для новае эры* (У. Д у б о ў к а. Шуміць шыгаллём і лістамі). *Пры даліне за дальняю рысай і лясой і балот вершаваных месяц т о п ч ы ц ц а біскупам лысым і п а л о ш ч а ц ц а рызы ў туманах* (У. Х а д ы к а. Пры дарозе, дзе жоўтыя травы). *І доўга цягнулася гэта, як б а і ц ь народная весць, на згубу бунтарскіх паэтаў, на цэнзарскі гонар і чэсць* (Я. К у п а л а. Паэт і цэнзар).

Нягледзячы на тое што адзначаныя формы сустракаюцца ў мове мастацкіх твораў, яны кваліфікуюцца як рэзкае адхіленне ад літаратурнай нормы.

З а ў в а г а 2. У паўночных і паўночна-ўсходніх гаворках адзначаюцца выпадкі ўтварэння форм па першаму непрадуктыўнаму класу ад дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа: *дзіўлюцца* (замест *дзівяцца*), *клеюцца* (замест *клеяцца*), *лічуць* (замест *лічаць*), *молюцца* (замест *моляцца*), *роюць* (замест *рояць*), *раюцца* (замест *раяцца*) і інш. Такія формы часамі трапляюць у мову мастацкай літаратуры. *Дзівам д з і ў л ю ц ц а з праявай маткі ды сыны: скуль такую ўзялі славу наспы-курганы?* (Я. Купала. Курганы). *Колькі л і ч у ц ь паўстанчыя сілы?* (М. Т а н к. Кастусь Каліноўскі). *Ноч ледзь ветрам дыхае, шолахі нясе, ярка зоры ціхія м о л ю ц ц а красе* (М. М а ш а р а. Ноч зімовая). *Мяркуюць так і р а ю ц ц а, ідучы сват і кум...* (Я. К у п а л а. Безназоўнае).

## Д р у г і   н е п р а д у к т ы ў н ы   к л а с

§ 763. Да другога непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з інфінітывам на **-аць (-яць), -ець (-эць),** г. зн. з суфіксам **-а-** або **-е-** ў інфінітыве, і з формай цяперашняга часу без гэтага суфікса: *ляжаць — ляжу, звінець — звіню, стаяць — стаю, імжэць — імжу.* Дзеясловы гэтага класа спрагаюцца па II спражэнню.

Па будове інфінітыва дзеясловы другога непрадуктыўнага класа збліжаюцца з першым прадуктыўным класам, а па форме цяперашняга часу — з чацвёртым прадуктыўным класам.

У залежнасці ад суфікса інфінітыва дзеясловы другога непрадуктыўнага класа падзяляюцца на два падкласы.

§ 764. У першы падклас (А) уваходзяць дзеясловы з інфінітывам на **-аць (-яць)** і асновай цяперашняга часу на зычны: *дрыжаць — дрыжу, дрыжыш.* Сюды адносяцца наступныя дзеясловы з канцавым шыпячым у аснове цяперашняга часу: *блішчаць, бурчаць, верашчаць, гучаць, дрыжаць, журчаць, мчаць, крычаць, ламаць, ляжаць, маўчаць, пішчаць, трашчаць, тырчаць, цурчаць,* а таксама дзеясловы *спаць* (з чаргаваннем у аснове цяперашняга часу **п' — пл'**: *сплю, спіш, спіць, спім, спіце, спяць), гнаць* (з паяўленнем беглага галоснага ў аснове цяперашняга часу: *ганю, гоніш, гоніць, гонім, гоніце, гоняць)* і два дзеясловы з асновай цяперашняга часу на **j**: *баяцца, стаяць.*

З а ў в а г а. Дыялектна ўжываюцца старажытныя формы цяперашняга часу ад дзеяслова *гнаць (жану, жанеш, жануць)*, якія могуць сустракацца і ў мове мастацкай літаратуры.

*Хутка ён* [гром] *п р а ж а н е час пажараў, крыві...* (М. Ч а р о т. Гром).

Усе беспрыставачныя дзеясловы падкласа А — незакончанага трывання. Амаль усе дзеясловы гэтага падкласа — двухскладовыя (за выключэннем трохскладовага *верашчаць* і аднаскладовых *мчаць, гнаць, спаць).*

§ 765. У другі падклас (Б) уваходзяць дзеясловы з інфінітывам на **-ець (-эць)** і асновай цяперашняга часу на зычны: *гарэць — гару, гарыш; смылець — смылю, смыліш.*

Да гэтага падкласа адносяцца дзеясловы: *вісець, вярцець, гарэць, глядзець, звінець, зіхацець, капацець, кіпець, кішэць, курэць, ліпець, ляцець, мігацець, мігцець, мільгацець, рупець, свірчэць, сквірчэць, смылець, сядзець, тарахцець, трымцець, хрусцець, хрыпець, цярпець, шамацець, шчымець, шыпець; бразгацець, гудзець, грукацець, грымець, дудзець, дымець, імглець, лапацець, ляскацець, нудзець, свярбець, слізгацець, тупацець, храбусцець, шалясцець, шаргацець, шумець, свіцецца,*

*бліскацець, дрыгацець, імжэць, смярдзець, ненавідзець, скрыпець, рыпець, шапацець.*

Заўвага. У мове мастацкіх твораў ужываюцца інфінітывы *блішчэць, гучэць, дрыжэць, цурчэць* і некаторыя іншыя (па падкласу Б), аднак літаратурнай нормай будзе ўжыванне гэтых дзеясловаў з суфіксам **-а-** ў інфінітыве: *блішчаць, гучаць, дрыжаць, цурчаць* і інш. (па падкласу А).

Большасці дзеясловаў гэтага падкласа ўласцівы тыя ж чаргаванні зычных, якія адзначаюцца ў дзеясловах чацвёртага прадуктыўнага класа (**з — ж, с — ш, дз — дж, ц — ч, м — мл, п — пл, ст — шч**): *вісець — вішу, вісяць; кіпець — кіплю, кіпяць; сядзець — сяджу, сядзяць; хрусцець — хрушчу, хрусцяць* і інш.

Заўвага. Дзеяслоў *ляцець* у форме 1-ай асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу дыялектна можа ўжывацца без чаргавання **ц** (з **т** мяккага) — **ч**: *ляту, паляту*, а ў форме 3-яй асобы множнага ліку — *лятуць, палятуць, налятуць* і інш. Такое ўжыванне сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры.

*Як ён, край шаную родны, не л я т у ў чужыя...* (Я. Купала. Я не сокал...). *Трудна, маці, ў курнай хаце,— п а л я т у у свет* (Я. Купала. Думкі). *Л я т у ц ь і л я т у ц ь сняжынкі, спадаюць на ціхі дол, чысцюткай-чысцюткай беллю заслалі палі вакол* (П. Броўка. Аб тым, што ў думах). *Парой н а л я т у ц ь успаміны, як з выраю птушкі вясной, і ўстануць тады прад табой пражытых гадоў пуцявіны* (А. Александровіч. Успаміны).

Беспрыставачныя дзеясловы падкласа Б маюць значэнне незакончанага трывання і амаль усе з'яўляюцца непераходнымі (за выключэннем дзеясловаў *вярцець, ненавідзець* і ў пэўных значэннях *глядзець, цярпець*); па свайму саставу ўсе яны двух- і трохскладовыя (акрамя дзеяслова *ненавідзець*).

§ 766. Дзеясловы другога непрадуктыўнага класа падлягаюць некатораму ўплыву з боку дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа: *ляжаць — пралежыў* (замест *пралежаў*), *маўчаць — змоўчыў* (замест *змоўчаў*), *глядзець — угледзіўся* (замест *угледзеўся*) і інш.

*Што было, і сам не помню, год п р а л е ж ы ў у бальніцы...* (Я. Купала. Калека). *Нават вецер над імі усхвалёваны з м о ў ч ы ў, толькі сэрцы спявалі* (П. Броўка. Паланянка). *Зноў у г л е д з і ў с я з тою, з той, што жыта ляшыла* (П. Броўка. Хлеб).

Такое ўжыванне форм прошлага часу ў сучаснай беларускай літаратурнай мове не лічыцца нормай.

## Трэці непрадуктыўны клас

§ 767. Да трэцяга непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з суфіксам **-ну-** ў інфінітыве, якія захоўваюць суфіксальнае **н** у аснове цяперашняга часу і страчваюць суфікс **-ну-** ў формах прошлага часу: *пáхнуць — пáхну, пáхнеш, пáхне, пáхнем, пáхнеце, пáхнуць*, але *пах, пáхла, пáхлі.*

Заўвага. Дзеяслоў *стынуць*, які адносіцца да трэцяга непрадуктыўнага класа, як норма ўжываецца ў інфінітыве без суфікса **-ну-**: *стыць, застыць* і інш.

У трэці непрадуктыўны клас уваходзіць звыш сарака беспрыставачных дзеясловаў (*вязнуць, вянуць, гаснуць, гінуць, дохнуць, жухнуць, зызнуць, зябнуць, меркнуць, моўкнуць, ліпнуць, пухнуць, сіпнуць, тухнуць, тхнуць, цягнуць, чахнуць, мерзнуць, хрыпнуць; гразнуць, грузнуць, пáхнуць, прагнуць, смагнуць (смягнуць), горкнуць, слепнуць, гуснуць, кіснуць, мокнуць, мякнуць, віснуць, глухнуць, стынуць* (дыялектн.), *нікнуць, друзнуць, уваскрэснуць, жоўкнуць, блякнуць, сохнуць, ціхнуць*) і невялікая група прыставачных дзеясловаў, якія для сучаснай мовы з'яўляюцца невытворнымі або ўваходзяць у групы слоў са звязанымі асновамі (*прасякнуць, пазбегнуць, абрыднуць, абрызгнуць, спрахнуць, спасцігнуць, заскарузнуць, захраснуць*, а таксама *адвергнуць, выввергнуць, падвергнуць, звергнуць, увергнуць; абвыкнуць, адвыкнуць, звык-*

*нуць, прывыкнуць; набухнуць, разбухнуць, набракнуць, разбракнуць; дасягнуць, перасягнуць, прысягнуць*).

Беспрыставачныя дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа неперах одныя і маюць значэнне незакончанага трывання. Такія дзеясловы абазначаюць стан прадмета. Прыставачныя ж дзеясловы, якія абазначаюць не стан, а дзеянне (*пазбегнуць, спасцігнуць, адвергнуць, перасягнуць* і інш.), з'яўляюцца пераходнымі.

§ 768. Па характару суадносін асноў інфінітыва і цяперашняга часу дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа маюць многа агульных рыс з дзеясловамі другога прадуктыўнага класа. Розніца толькі ў тым, што апошнія захоўваюць суфікс **-ну-** (**-н-**) ва ўсіх формах, а першыя страчваюць яго ў формах прошлага часу. Гэтым падабенствам і абумоўліваецца той значны ўплыў, які аказваюць дзеясловы другога прадуктыўнага класа на дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа. Дзякуючы гэтаму ўплыву ў некаторых дзеясловах трэцяга непрадуктыўнага класа замацавалася форма прошлага часу з суфіксам **-ну-** ў якасці літаратурнай нормы.

1. Найбольш ярка ўплыў дзеясловаў другога прадуктыўнага класа праяўляецца ў беспрыставачных дзеясловах пры ўтварэнні форм мужчынскага роду адзіночнага ліку. Так, у якасці літаратурнай нормы ўжываюцца дзеясловы *блякнуў, віснуў, вязнуў, гінуў, горкнуў, гразнуў, грузнуў, дохнуў, жойкнуў, жухнуў, зябнуў, меркнуў, мойкнуў, нікнуў, прагнуў, сіпнуў, слепнуў, смагнуў, тхнуў, хрыпнуў, ціхнуў*.

Дзеясловы *вянуць, глухнуць, ліпнуць, пáхнуць, тухнуць, цягнýць, чахнуць* ужываюцца пераважна з суфіксам **-ну-** ў форме мужчынскага роду адзіночнага ліку прошлага часу, але могуць мець у якасці размоўных паралелей і формы без гэтага суфікса. Формы ж *кіснуў, мокнуў, стынуў, уваскрэснуў, сохнуў, гаснуў, пухнуў, мерзнуў*, наадварот, не лічацца літаратурнай нормай, хоць і сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры; у якасці нормы застаюцца дзеясловы без **-ну-**, а іменна: *кіс, мок, стыў, уваскрэс, сох, гас, пух, мёрз*.

У формах жаночага роду адзіночнага ліку і ў формах множнага ліку прошлага часу ўплыў другога прадуктыўнага класа некалькі меншы. Тут у якасці літаратурнай нормы з суфіксам **-ну-** ўжываецца толькі некалькі дзеясловаў (і тыя размоўнага характару): *гуснуць, зызнуць, тхнуць*. Некалькі больш дзеясловаў сустракаецца з суфіксам **-ну-**, якія маюць у якасці паралельных формы без **-ну-** (апошнія кваліфікуюцца як размоўныя або дыялектныя): *блякнула, віснула, друзнула, ціхнула, цягнула, хрыпнула*. Значна больш дзеясловаў як норму маюць формы без **-ну-** (*вя́лі, гаслі, гіблі, горклі, глухлі, жойклі, зяблі, кіслі, ліплі, мерзлі, мерклі, пахлі, праглі, слеплі, уваскрэслі*), хоць у мове мастацкай літаратуры паралельна сустракаюцца і формы з суфіксам **-ну-**: *І шмат нагаварылі гэтакіх слоў, што аж вушы в я н у л і* (З. Б я д у л я. Тулягі). *Я падпоўз да сяла, калі г а с н у л і зоркі* (П. П а н ч а н к а. Кожны з нас зберагае радзімы куток...). *Г і б н у л а жыццё Дажджбожага ўнука; у калатнінах князевых людзі свой век скарачалі* (Я. К у п а л а. «Слова аб палку Ігаравым»). *А моладасць п р а г н у л а ласкі, а моладасць ласкі не знала* (Я. К у п а л а. Паклон мой народу за песні).

У дзеясловах жа *вязнуць, гразнуць, грузнуць, дохнуць, жухнýць, мокнуць, мойкнуць, мякнуць, нікнуць, пухнуць, сіпнуць, смагнуць, сохнуць, стынуць, тухнуць, чахнуць* адзінай літаратурнай нормай для жаночага роду адзіночнага ліку і для множнага ліку з'яўляюцца формы без суфікса **-ну-**.

2. Іншае становішча ў прыставачных дзеясловах. Уплыў другога прадуктыўнага класа на ўтварэнне форм прошлага часу тут вельмі нязначны, і нормай з'яўляецца ўжыванне форм *заграз, аслеп, размяк, пагас, панікла, завя́лі* і інш. (а не *загразнуў, аслепнуў, панікнула, завя-*



21. Зак. 892

*нулі* і інш.). І толькі ў тых дзеясловах, у якіх прыстаўка ў сучаснай мове не аддзяляецца, формы мужчынскага роду адзіночнага ліку прошлага часу ўтвараюцца з суфіксам **-ну-**: *уракнуў, прасякнуў, абвергнуў, пазбегнуў, абрыднуў, абрызгнуў, заскарузнуў.* Выключэнне складаюць формы *абвык, набрак, набух, захрас,* якія ўжываюцца пераважна без **-ну-**. Астатнія ж формы (жаночага роду адзіночнага ліку і множнага ліку) і ад гэтых дзеясловаў утвараюцца без суфікса **-ну-**: *абвыкла, набракла, уракі, захраслі* і інш.

Заўвага 1. Прыставачныя дзеясловы ад *гінуць* і *цягнуць*, а таксама дзеяслоў *дасягнуць* ва ўсіх формах прошлага часу ўжываюцца з суфіксам **-ну-**: *загінуў, прыцягнуў, зацягнула, дасягнула, выцягнулі.* Формы без суфікса **-ну-** (*зацяг, пагібла, дасяглі* і інш.) не лічацца нормай.

Заўвага 2. Рад дзеясловаў у размоўным стылі мае паралельныя формы прошлага часу з суфіксам **-ну-**. Сюды адносяцца прыставачныя ўтварэнні ад дзеясловаў *віснуць, гаснуць, горкнуць, гразнуць, друзнуць, жоўкнуць, жухнуць, кіснуць, мякнуць, нікнуць, сіпнуць, слепнуць, сохнуць, ціхнуць, чахнуць.* Такія формы могуць ужывацца ў мове мастацкай літаратуры.

*Ціхі вечар. Знікнула спякота...* (М. Багдановіч. Ціхі вечар). *Зачахла, заныла роўна, заціхнула трубка...* (У. Нядзведскі. Будні салігорскія). Параўн.: *Чуць-чуць заціх гарматаў гук — сякер, лапатаў чуцен стук...* (М. Чарот. Будзь на варце). *Колькі часу так прайшло — не знаў, непрыкметна ахінала змора. Толькі б як дабрацца да відна, толькі б знік з вачэй праклятых морак...* (А. Звонак. Доктар Назарэнка).

У некаторых выпадках наглядаецца і адваротная з'ява: дзеясловы другога прадуктыўнага класа падлягаюць уплыву трэцяга непрадуктыўнага класа. Так, дыялектна ўжываецца форма *прыцісла* замест *прыціснула.*

*А мо' дзе дрэва камлём прыцісла і не дыхнуў мо' нават...* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

## Чацвёрты непрадуктыўны клас

§ 769. Да чацвёртага непрадуктыўнага класа адносяцца бяссуфіксныя дзеясловы з інфінітывам на **-ці, -сці,** якія спрагаюцца па І спражэнню: *грызці — грызу, грызуць; класці — кладу, кладуць; дзерці — дзяру, дзяруць; сапці — сапу, сапуць.*

Беспрыставачныя дзеясловы чацвёртага непрадуктыўнага класа, акрамя дзеясловаў *пáсці* і *сесці,* маюць значэнне незакончанага трывання.

У залежнасці ад структуры асновы дзеясловы гэтага класа падзяляюцца на тры падкласы.

1. Да першага падкласа (А) адносяцца дзеясловы, у якіх аснова інфінітыва і аснова цяперашняга часу супадаюць: *лезці — лез, лезла; несці — нёс, несла; грабці — гроб, грэбла; раўці — роў, раўла.* Сюды ўваходзяць пяць дзеясловаў з асновай на **з** (*везці, вярзці, грызці, лезці, паўзці*), тры дзеясловы з асновай на **с** (*несці, трэсці, пасці*), пяць дзеясловаў на **б** (*грэбці, дзяўбці, даўбці, скрабці, скубці*), тры дзеясловы на **п** (*сапці, храпці, чаўпці*) і адзін дзеяслоў на **в,** якое чаргуецца з **ў** (*раўці*). У гэты ж падклас уключаюцца і ўсе прыставачныя дзеясловы ад пералічаных дзеясловаў.

Заўвага. Дзеясловы з асновай на губны зычны ў інфінітыве могуць мець паралельныя формы на **-ці** і на **-сці:** *дзяўбці — дзяўбсці, раўці — раўсці, скрабці — скрабсці, скубці — скубсці (скусці);* формы на **-сці** разглядаюцца як дыялектныя.

2. Да другога падкласа (Б) адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на **-сці,** а аснова цяперашняга часу — на **д** або **т:** *басці* (дыялектн.), *брысці, весці, гусці, класці, красці, прáсці, месці, пáсці; гнесці, плесці, сесці, цвісці* і вытворныя (прыставачныя) ад іх. У формах прошлага часу канцавыя зычныя асновы **(д, т)** выпадаюць, і ў мужчынскім родзе адзіночнага ліку далучаецца суфікс **-ў** (*вёў, гуў, клаў, краў,*

*праў, меў, паў, гнёў, плёў, сеў, цвіў)*, а ў жаночым родзе **-л-***а* *(вяла́, гула́)*, у множным ліку — **-л-***і* *(вялі, гулі)*. У формах цяперашняга часу канцавыя **д, т** захоўваюцца і чаргуюцца з **дз, ц:** *вяду — вядзеш, вядуць; пляту — пляцеш, плятуць* і інш.

3. Да трэцяга падкласа (В) адносяцца чатыры дзеясловы: *перці, мерці, церці, распасцерці*. У аснове цяперашняга часу ў іх выпадае беглы галосны **е:** *пру, прэш, пром, працé, пруць; тру, трэш* і інш. У формах прошлага часу гэта **е** захоўваецца: *пёр, пе́рла, пе́рлі; цёр, церла, церлі* і інш.

Заўвага. У гэты ж падклас уключаюцца два дзеясловы *дзерці* і *жэрці*, у якіх не адбываецца выпадзення беглага **е(э)** у формах цяперашняга часу. Аднак формы прошлага часу дзеяслова *дзерці* выйшлі за межы літаратурнай нормы і замяніліся адпаведнымі формамі дзеяслова *драць* (так, замест *дзёр, дзерла, дзерлі* ўжываюцца формы *драў, драла, далі)*.

§ 770. Да чацвёртага непрадуктыўнага класа адносяцца два дзеясловы з інфінітывам на **-сці,** якія маюць некаторыя індывідуальныя асаблівасці пры ўтварэнні форм цяперашняга і прошлага часу.

1. Дзеяслоў *клясці* ўтварае формы цяперашняга часу з суфіксам **-н-** у аснове: *кляну, клянеш, кляне, клянём, кленяце, клянуць*. У прошлым часе ўтвараюцца формы ад асновы **кля-** пры дапамозе далучэння суфікса **-л- (-ў-):** *кляў, кляла, кляло, клялі, кляўшы*.

2. Дзеяслоў *расці* (гістарычна *раст-ти)* утварае формы цяперашняга часу ад асновы, якая заканчваецца на **-ст:** *расту, расцеш, расце, расцём, расцяце, растуць*. Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы **рос- (рас-):** *рос, расла, расло, раслі*.

## Пяты непрадуктыўны клас

§ 771. Да пятага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на **-чы (-ч)**, а аснова цяперашняга і прошлага часу — на заднеязычныя **г** або **к**, якія ў радзе форм чаргуюцца адпаведна з **ж, ч:** *валачы — валаку, валачэш, валачэ, валачом, валачаце, валакуць, валок, валаклі, валачыце, валокшы; легчы — лягу, ляжаш, ляжа, ляжам, ляжаце, лягуць, ляжце, лёгшы*.

Заўвага. У гаворках (асабліва паўднёвай часткі Беларусі) сустракаюцца формы 1-ай асобы множнага ліку цяперашняга часу без чаргавання заднеязычных асновы з шыпячымі: *валаком, берагом, прагом, пяком, сяком, стрыгом, сцерагом, таўком, цяком, запрагом, адракомся* (замест *валачом, беражом, пражом, пячом, сячом, стрыжом, сцеражом, таўчом, цячом, запражом, адрачомся)*.

У пяты непрадуктыўны клас уваходзіць адзінаццаць беспрыставачных дзеясловаў *(валачы, берагчы, легчы, магчы, прэгчы* (у значэнні «смажыць»), *пячы (пякчы), секчы (сеч, сячы), стрыгчы, сцерагчы, таўчы, цячы)* і невялікая група дзеясловаў са звязанымі асновамі *(адпрэгчы, запрэгчы, падпрэгчы, перапрэгчы, прыпрэгчы, распрэгчы; адрачы, зрачыся, урачы, вырачыся)*.

Усе беспрыставачныя дзеясловы пятага непрадуктыўнага класа, за выключэннем дзеяслова *легчы*, маюць значэнне незакончанага трывання.

## Шосты непрадуктыўны клас

§ 772. Да шостага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, аснова інфінітыва якіх заканчваецца галосным **а (я)**, а аснова цяперашняга часу — санорным зычным **н** або **м:** *пачаць — пачну, узняць — узніму*.

У залежнасці ад характару чаргавання канцавога зычнага асновы — з **н (ін, ын,)** або з **м (ім, ым)** — дзеясловы шостага непрадуктыўнага класа падзяляюцца на два падкласы.

1. У першы падклас (А) уваходзяць дзеясловы *жаць, мяць, пяць (распяць, адпяць), цяць (адцяць, зацяць)* і група дзеясловаў са звязанай асновай *(пачаць, зачаць)*, дзе вылучаецца аснова **-ча-**.

З а ў в а г а. Інфінітывы дзеясловаў *пяць* і *цяць* у літаратурнай мове малаўжывальны і могуць замяняцца адпаведна інфінітывамі *пнуць, тнуць* (другі прадуктыўны клас).

Спрагаюцца дзеясловы падкласа А шостага непрадуктыўнага класа па I спражэнню, параўн.: *мяць — мну, мнеш, мне, мнём, мняце, мнуць; мяў, мяла, мялі; мні, мніце; мяты.*

Усе беспрыставачныя дзеясловы гэтага падкласа пераходныя і маюць значэнне незакончанага трывання (за выключэннем дзеяслова *цяць*, які набыў значэнне закончанага трывання).

2. У другі падклас (Б) уваходзяць дзеясловы, утвораныя пры дапамозе прыставак ад аднаго кораня **-ня-** **(-я-)**: *узняць, заняць, падняць, прыняць, зняць, узяць, уняць, даняць, пераняць, паняць* (моду), *праняць, адняць, наняць, абняць, выняць, успрыняць* і інш.

У тых выпадках, калі прыстаўка заканчваецца зычным гукам *(узняць, падняць, зняць, адняць, абняць)*, гук **а** (арфаграфічна **я**) у формах цяперашняга (будучага простага) часу чаргуецца з **ім**: *узніму, падніму, зніму, адніму, абніму* і інш. Як варыянты гэтых форм могуць выступаць і формы з **д** замест устаўнога **н** (за выключэннем тых дзеясловаў, у якіх прыстаўка заканчваецца на **д**): *уздыму, падыму, здыму, абдыму* (але *адыму, падыму*, дзе ўстаўны зычны наогул адсутнічае).

Калі ж прыстаўка заканчваецца галосным гукам *(заняць, даняць, пераняць, паняць, праняць, наняць, прыняць, выняць, успрыняць)*, тады гук **а** (арфаграфічна **я**) у формах цяперашняга (будучага простага) часу чаргуецца з **йм**: *займу, дайму, перайму, пайму, прайму, найму; прыму, выму, успрыму* (у апошніх трох словах **й** асновы злілося з прыставачным **ы**).

Дзеяслоў *узяць* утварае формы наступным чынам: *вазьму, возьмеш, возьме, возьмем, возьмеце, возьмуць; узяў, узяла, узяло, узялі; вазьмі, вазьміце; узяўшы, узяты.*

## Сёмы непрадуктыўны клас

§ 773. Да сёмага непрадуктыўнага класа адносяцца пяць беспрыставачных дзеясловаў I спражэння з плаўнымі **л, р** і поўнагалоссем у аснове інфінітыва: *бароць, калоць, малоць, палоць, пароць.* Поўнагалоссе адсутнічае ў формах цяперашняга часу і захоўваецца ў формах прошлага часу: *бару, бораш, бора, борам, бораце, боруць; бароў, барола, баролі.* Формы цяперашняга часу дзеяслова *малоць* утвараюцца ад асновы **мел'-** **(мял'-)**: *мялю, мелеш, меле, мелем, мелеце, мелюць* (параўн. у прошлым часе: *малоў, малола, малолі*).

З а ў в а г а. У паўночна-заходніх беларускіх гаворках дзеясловы сёмага непрадуктыўнага класа падлягаюць уплыву чацвёртага прадуктыўнага класа (ва ўтварэнні форм цяперашняга часу): *коліць, поліць* (2-ая асоба адзіночнага ліку), *меляць* (3-я асоба множнага ліку). Гэта з'ява знаходзіць адлюстраванне і ў мове мастацкай літаратуры. Напрыклад: *Зарадзіўся лён багаты, ён здалёку ўсім відзён. П о л і ц ь Даша. З ёй дзяўчаты прачышчаюць дбайна лён* (П. Б р о ў к а. Добры друг). *Думкі к о л я ц ь мазгі Антона, нібы іголкі* (З. Б я д у л я. Дзве ночы). Адлюстраванне такіх форм у мове мастацкай літаратуры нельга лічыць нормай.

## Восьмы непрадуктыўны клас

§ 774. Да восьмага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з суфіксам **-ва-** ў аснове інфінітыва, які ў аснове цяперашняга часу чаргуецца з **j**: *даваць — даю (даjу), прызнавацца — прызнаюся, пераставаць — перастаюць.*

Сюды ўваходзяць дзеясловы незакончанага трывання *даваць, дзяваць, ставаць* (а таксама ўсе прыставачныя дзеясловы, суадносныя з прыведзенымі вышэй дзеясловамі: *удаваць, аддаваць, прыдаваць, прадаваць, паддаваць, перадаваць, прыставаць, уставаць, прыўставаць, пераставаць* і інш.) і тры групы дзеясловаў са звязанымі асновамі: *адзяваць, надзяваць, раздзяваць, спадзявацца; прызнаваць, пазнаваць, дазнавацца; адтаваць, пратаваць, падтаваць, абтаваць, раставаць.*

Заўвага 1. У гаворках можа спрагацца па восьмаму непрадуктыўнаму класу дзеяслоў *пазяваць: пазяю, пазяеш, пазяе: Сонца пад пайдня — ён тады ўстае, рухне як свіння, сядзе, пазяе* (Я. Купала. Янка Канцавы). Літаратурнай нормай лічацца дзеяслоў *пазяхаць* і формы, утвораныя ад яго па першаму прадуктыўнаму класу.

Заўвага 2. Ад дзеясловаў першага прадуктыўнага класа *падсяваць, засяваць, высяваць, абграваць, падаграваць, прыправаць* (а таксама ад дзеясловаў з іншымі прыстаўкамі ад асноў гэтых дзеясловаў) у гаворках могуць утварацца формы цяперашняга часу па восьмаму непрадуктыўнаму класу: *засяю, абаграю, прыпраю* і інш.

§ 775. Некаторыя дзеясловы восьмага непрадуктыўнага класа падлягаюць уплыву з боку першага прадуктыўнага класа і пры ўтварэнні форм цяперашняга часу не страчваюць суфікса **-ва-**: *адзяваюся, спадзяваюся* і некаторыя іншыя. *І бацька бровы пасувае, пільчак чысцейшы адзявае* (Я. Колас. Новая зямля). Формы ж без суфікса **-ва-** *(адзяюся, спадзейся)* пачынаюць ужо выходзіць за межы літаратурнай нормы, хоць яшчэ і ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры. Напрыклад: *Спяшаючыся, яны адзяюцца* (К. Чорны. Бяздонне). *Не спадзейся, сын і матка, ад жыцця патолі* (Я. Купала. Не спадзейся...).

## Дзевяты непрадуктыўны клас

§ 776. Да дзевятага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з аднаскладовай асновай на **і**: *біць, ліць, віць, піць.* У аснове цяперашняга часу каранёвы **і** чаргуецца з **j**: *б'ю (бjу), лью (л'jу), ую (уjу), п'ю (пjу);* у аснове прошлага часу і загаднага ладу галосны **і** застаецца: *біў, піў, біла, білі; бі, лі, біце, ліце.*

Заўвага. Формы з адсутнасцю чаргавання **і — j** у аснове цяперашняга часу не лічацца літаратурнымі, хоць зрэдку і сустракаюцца ў мове паэтычных твораў, параўн.: *І ў час, калі гарэннем зор вію я нервы на вяроўкі,— ты топчаш жытні перабор, ты ходзіш нават без сяброўкі* (У. Хадыка. Спадалі кроплі на пясок).

## Дзесяты непрадуктыўны клас

§ 777. Да дзесятага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з аднаскладовай асновай на **ы (і)**: *брыць, выць, крыць, мыць, ныць, рыць, шыць, гніць.* У аснове цяперашняга часу каранёвыя **ы (і)** не чаргуюцца з **j**, яны застаюцца: *брыю, выю, шыю, гнію.* Гэта ж **ы (і)** застаецца і ў формах загаднага ладу: *брый, крый, гній.*

## Адзінаццаты непрадуктыўны клас

§ 778. Да адзінаццатага непрадуктыўнага класа адносяцца некалькі дзеясловаў з асновай інфінітыва на галосны, аснова цяперашняга часу ў якіх ускладняецца суфіксамі **-j-**, **-в-** або **-н-**. У залежнасці ад суфікса асновы цяперашняга часу ўсе дзеясловы адзінаццатага непрадуктыўнага класа падзяляюцца на тры падкласы.

1. У першы падклас (А) уваходзяць дзеясловы *дуць, чуць, абуць, разуць,* якія спрагаюцца з суфіксам **-j-** у аснове цяперашняга часу: *чую (чуjу), чуеш, чуе, чуем, чуеце, чуюць, чуй, чуючы* (але *чуў, чула, чулі, чуты).*

Заўвага 1. Дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа *каваць, псаваць* падлягаюць уплыву з боку дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа (падкласа А), і ў мове

мастацкай літаратуры можна сустрэць формы *куць (куй, кулі), псуць (псуў, псулі)* замест *каваць, псаваць*. Напрыклад: *З слёз—астуджаных крышталяў—бранзалетку можна выкуць* (У. Хадыка. Пароша). *Кажуць людзі, што пакляўся ён двум не дараваць грахоў прад смерцю: біскупу Сямашку і яшчэ яловаму суку, што век шкодзіў, псуў яго майстэрства* (М. Танк. Люцыян Тапола).

Заўвага 2. Дзеяслоў трэцяга прадуктыўнага класа *жаваць* дыялектна можа ўтвараць формы прошлага часу па ўзору дзеясловаў падкласа А адзінаццатага непрадуктыўнага класа: *жуў, жулá, жуló, жулí*. Напрыклад: *Буйвалы жулі жвачку* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

2. У другі падклас (Б) уключаюцца дзеясловы *жыць, плыць, слыць* (і прыставачныя *ўжыць, пражыць, прыплыць, праслыць*, а таксама складаныя *злоўжыць* і інш.). Гэтыя дзеясловы маюць суфікс **-в-** у аснове цяперашняга часу: *жыць — жыву, жывеш, жыве, жывуць, жыві, жывіце, жывучы́* (але *жыў, жылá, жыло, жылі, жыўшы*).

3. У трэці падклас (В) уключаюцца дзеясловы *дзець, стрэць, стаць*, а таксама некалькі груп дзеясловаў са звязанымі асновамі: *надзець, раздзець, удзець, здзець, уздзець; пратáць, растаць, адтаць*.

Заўвага. Па аналогіі з прыведзенымі дзеясловамі ўжываецца і інфінітыў *стыць* (замест інфінітыва трэцяга непрадуктыўнага класа *стынуць*).

Дзеясловы падкласа В маюць суфікс **-н-** у аснове цяперашняга часу: *застаць — застану, застанеш, застане, застанем, застанеце, застануць, застань, застаньце* (але *застаў, застала, засталі, заставшы*).

На дзеясловы гэтага падкласа робяць моцны ўплыў дзеясловы другога прадуктыўнага класа, і дзякуючы гэтаму ўплыву ўваходзяць ва ўжыванне такія формы, як *сустрэнуць* (інфінітыў замест *сустрэць*), *стануў* (замест *стаў*) і г. д., якія, аднак, не з'яўляюцца нормай.

*Ды толькі я веру, што дзень вызвалення на Нарачы бераг прыйду я сустрэнуць* (М. Танк. Нарач). *З-пад прысад агароду бледны ўбег ваявода ў палац свой са злосцю й трывогай; дзе ў бакоўку ўход — стануў, у пасцель жонкі глянуў, глянуў там і не ўбачыў — нікога* (Я. Купала. Удагонку).

## Дзеясловы з індывідуальнымі асаблівасцямі формаўтварэння

§ 779. У сучаснай беларускай мове ёсць дзевяць дзеясловаў, якія застаюцца па-за межамі праведзенай класіфікацыі. Суадносіны асноў інфінітыва і цяперашняга часу, а таксама асаблівасці ўтварэння асобных форм гэтых дзеясловаў не падыходзяць ні пад адзін з разгледжаных вышэй прадуктыўных і непрадуктыўных класаў. Сюды адносяцца:

1. Дзеясловы з суплетыўнымі асновамі *ехаць* і *ісці*. Дзеяслоў *ехаць* утварае формы цяперашняга часу і загаднага ладу ад асновы **ед-** *(еду, едзеш, едзе, едзем, едзеце, едуць, едучы, едзь, едзьце)*, а формы прошлага часу — ад асновы **еха-** *(ехаў, ехала, ехалі, ехаўшы)*. Дзеяслоў *ісці* ўтварае формы цяперашняга часу і загаднага ладу ад асновы **ід-** *(іду, ідзеш, ідзе, ідзём, ідзяце, ідуць, ідучы, ідзі, ідзіце)*, а формы прошлага часу — ад асновы **іш- (ішо-)**: *ішоў, ішла, ішло, ішлі, ішоўшы.*

2. Дзеясловы, якія захавалі старажытную сістэму формазмянення: *быць, даць, есці*. Адзінай формай цяперашняга часу ад дзеяслова *быць* з'яўляецца форма 3-яй асобы адзіночнага ліку *ёсць*. Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы **бы-**: *быў, была, было, былі, быўшы;* формы будучага часу — ад асновы **буд-**: *буду, будзеш, будзе, будзем, будзеце, будуць*. Дзеясловы *есці* і *даць* маюць для цяперашняга часу асновы адпаведна **е-, ес- (ед-)** і **да-, дас- (дад-)**, а для прошлага часу адпаведна **е-** і **да-**: *ем, ясі, есць, ядзім (ямо), ясце (ясцё), ядуць; дам, дасі, дасць, дадзім (дамо), дасце (дасцё), дадуць;* формы загаднага ладу: *еж (ежце); дай, дайце;* формы прошлага часу: *еў, ела, елі, еўшы; даў, дала, дало, далі, даўшы.*

Заўвага. Магчымыя ў мове мастацкай літаратуры формы абвеснага ладу *ямо, дадзём, дадом* і пад. лічацца дыялектызмамі.

3. Дзеясловы *пецъ, мецъ,* якія ўтвараюць формы цяперашняга часу ад асноў **пеј- (пяј-), мај-:** *пяю, пяеш, пяе, пяём, пеяце, пяюць; маю, маеш, мае, маем, маеце, маюць.* Формы прошлага часу гэтых дзеясловаў утвараюцца ад асноў **пе-, ме-:** *пеў, пелі, меў, мелі.*

4. Два рознаспрагальныя дзеясловы: *хацецъ* і *бегчы.* Дзеяслоў *хацецъ* спрагаецца па ўзору падкласа Б другога непрадуктыўнага класа (*хацецъ,* як *тупацецъ*), і толькі ў 3-яй асобе множнага ліку цяперашняга часу ён мае канчатак **-уць,** а не **-яць:** *хочуць.* Дзеяслоў *бегчы* спрагаецца па II спражэнню ў адзіночным ліку і ў 1-ай і 2-ой асобе множнага ліку (*бягу, бяжыш, бяжыць, бяжым, бежыцё*); у 3-яй асобе множнага ліку гэты дзеяслоў мае канчатак **-уць:** *бягуць.*

## ТРЫВАННЕ (ВІД) ДЗЕЯСЛОВА

§ 780. Т р ы в а н н е (в і д) дзеяслова — граматычная катэгорыя, якая ўказвае на адносіны дзеяння, абазначанага дзеясловам, да мяжы гэтага дзеяння. Выдзяляюцца два трыванні дзеяслова: незакончанае і закончанае.

Дзеясловы н е з а к о н ч а н а г а трывання абазначаюць дзеянне ў яго працяканні, працягласці, без указання на мяжу. Такія дзеясловы маюць значэнне незакончанасці дзеяння, яго паўтараемасці (*пісаць, рабіць, працаваць, выконваць, прачытваць*). У большасці сваёй дзеясловы незакончанага трывання з'яўляюцца невытворнымі.

Дзеясловы з а к о н ч а н а г а трывання абазначаюць дзеянне з указаннем яго мяжы, выніку. Яны маюць значэнне пачатку або заканчэння дзеяння, імгненнасці яго (*напісаць, зрабіць, купіць, даць, заспяваць, папрацаваць, панавыкошваць, пасядзець, грукнуць*). Амаль усе дзеясловы закончанага трывання з'яўляюцца вытворнымі.

Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання, якія маюць аднолькавае лексічнае значэнне, утвараюць відавыя пары, або пары па трыванню (*прарошчваць — прарасціць, стукаць — стукнуць, пісаць — напісаць, чытаць — прачытаць*).

Дзеясловы, якія не маюць суадносных з імі па трыванню слоў з аднолькавым лексічным значэннем, з'яўляюцца няпарнымі (*апынуцца, спатрэбіцца, прысутнічаць, пагульваць*).

Некаторыя з дзеясловаў у адной і той жа форме могуць выступаць са значэннем як закончанага, так і незакончанага трывання — гэта двухвідавыя дзеясловы (*атакаваць, кальцаваць, мадэліраваць*).

### *Суадносныя відавыя пары беспрыставачных і прыставачных дзеясловаў*

§ 781. Ад дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе прыставак утвараюцца дзеясловы закончанага трывання. У тых выпадках, калі лексічнае значэнне дзеяслова пры гэтым не змяняецца, дзеяслоў закончанага трывання і дзеяслоў незакончанага трывання складаюць відавую пару.

Прыставак, якія служылі б толькі для ўтварэння віду, няма. У функцыі відаўтваральных прыставак выступаюць тыя ж прыстаўкі, што і для ўтварэння дзеясловаў з новым лексічным значэннем. Напрыклад: *стукаць — пастукаць, бегчы — пабегчы* (словаўтваральная прыстаўка) і *крамсаць — пакрамсаць, лінаць — палінаць* (відаўтваральная прыстаўка). Для відаўтварэння выкарыстоўваюцца прыстаўкі **а- (аб-), ад-, з- (с-, са-), за-, вы-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-, уз-.** Найбольш часта ў гэтай функцыі ўжываюцца прыстаўкі **па-, з- (с-, са-), а- (аб-).**

Нярэдка беспрыставачны і прыставачны дзеясловы суадносяцца не ва ўсіх сваіх значэннях, а ў адным (ці некалькіх). У сувязі з гэтым адзін і той жа дзеяслоў (але ў розных сваіх значэннях) можа ўваходзіць у некалькі відавых пар з прыставачнымі дзеясловамі: *вязаць панчохі — звязаць панчохі, вязаць вузлы — завязаць вузлы; клеіць маркі — наклеіць маркі, клеіць канверт — склеіць канверт, клеіць пакой шпалерамі — паклеіць пакой, клеіць афішы — расклеіць афішы.*

Ад аднаго і таго ж беспрыставачнага дзеяслова можа ўтварацца некалькі прыставачных сінанімічных па значэнню. Гэтыя прыставачныя дзеясловы або маюць некаторыя адценні ў значэнні, або адносяцца да розных стыляў мовы: *гадаваць — узгадаваць, выгадаваць; гінуць — згінуць, загінуць; грэць — нагрэць, сагрэць; дранцвець — здранцвець, адранцвець; дзяліць — раздзяліць, падзяліць; зубрыць — зазубрыць, вызубрыць; калечыць — акалечыць, скалечыць; кіснуць — закіснуць, скіснуць; кітаваць — абкітаваць, закітаваць; крышыць — пакрышыць, раскрышыць; лупцаваць — адлупцаваць, вылупцаваць; месці — замесці, падмесці; саладзіць — засаладзіць, пасаладзіць; сніць — прысніць, саснiць; тлумачыць — вытлумачыць, растлумачыць.*

§ 782. Прыстаўка **па-** ўтварае найбольшую колькасць дзеясловаў, якія ўваходзяць у відавыя пары з беспрыставачнымі дзеясловамі. Асабліва часта гэта прыстаўка змяняе трыванне дзеясловаў са значэннем нарастання стану: *багацець — пабагацець, буйнець — пабуйнець, беднець — пабяднець, бялець — пабялець, вечарэць—павечарэць, віднець—павіднець, вузець — павузець, грубець—пагрубець, гусцець — пагусцець, дабрэць — падабрэць, драбнець — падрабнець, жаўцець — пажаўцець, зелянець — пазелянець, лысець — палысець, мацнець — памацнець, мужнець — памужнець, мутнець — памутнець, мялець — памялець, прасцець — папрасцець, прыгажэць — папрыгажэць, радзець — парадзець, разумнець — паразумнець, святлець — пасвятлець, сівець — пасівець, сінець — пасінець, слабець — паслабець, сталець — пасталець, старэць— пастарэць, танець — патанець, худзець — пахудзець, цішэць — пацішэць, цямнець — пацямнець, цяплець — пацяплець, чарнець — пачарнець, чырванець — пачырванець, шарэць — пашарэць, шырэць — пашырэць, ярчэць — паярчэць, яснець — паяснець* і інш.

*Усход даўно* п а ш а р э ў (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *П а ц я м н е л а. Вецер сціх* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *Зморшчыны на твары п а г л ы б е л і* (З. Б я д у л я. У тыя дні).

Відавое значэнне мае прыстаўка **па-** і пры многіх дзеясловах фізічнага і абстрактнага дзеяння як з іменнымі, так і не з іменнымі асновамі: *абедаць — паабедаць, бяліць — пабяліць, вастрыць — павастрыць, вашчыць — павашчыць, вячэраць — павячэраць, грузіць — пагрузіць, званіць — пазваніць, знаёміць — пазнаёміць, калечыць — пакалечыць, камячыць — пакамячыць, караць — пакараць, карміць — пакарміць, крыўдзіць — пакрыўдзіць, лакіраваць —палакіраваць, мірыць — памірыць, множыць — памножыць, нікеліраваць — панікеліраваць, парадкаваць — папарадкаваць, радаваць — парадаваць, саліць — пасаліць, хваліць — пахваліць, шкадаваць — пашкадаваць, шкодзіць — пашкодзіць* і інш.

*З-пад рукі глянула сонца і дбала па вуліцах* п а р а с к і д а л а *праменныя ручнікі* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Пасля навальніцы). *На чорным друзе каля ганку* п а р о с *алешнік малады* (П. Г л е б к а. Зварот). *Мы з табою браты, нас Радзіма ўсіх* п а б р а т а л а, *летуценні ў нас і надзеі адны* (С. Г р а х о ў с к і. Мары ў нас і надзеі адны). *Няўжо яна думала* п а с к а р д з і ц ц а *бацьку на сваё жыццё?* (Р. М у р а ш к а. Салаўі святога Палікара).

Не ўтвараюць відавой пары з беспрыставачнымі дзеясловамі дзеясловы з прыстаўкай **па-**, якія маюць значэнне абмежаванасці і пачатку

дзеяння, поўнага ахопу дзеяннем: *памаляваць, папісаць, панесці, пабаранаваць* (гл. § 925, 926).

§ 783. Прыстаўка **з-** **(с-, са-)** у параўнанні з прыстаўкай **па-** радзей ужываецца для відаўтварэння. У відавыя пары могуць уваходзіць дзеясловы, якія маюць значэнне фізічнага і абстрактнага дзеяння, а таксама значэнне змены пэўнага стану. Сярод аддзеяслоўных утварэнняў відавых пар больш, чым сярод адыменных: *агітаваць — сагітаваць, арганізаваць — сарганізаваць, берагчы — зберагчы, блытаць — зблытаць, варыць — зварыць, ганіць — зганіць, гарэць — згарэць, гаснуць—згаснуць, грэць — сагрэць, жаць — зжаць, канструяваць — сканструяваць, канцэнтраваць — сканцэнтраваць, касіць — скасіць, кіснуць — скіснуць, лавіць — злавіць, ліняць — зліняць, магчы — змагчы, малаціць — змалаціць, маніць — зманіць, манціраваць — зманціраваць, мерзнуць — змерзнуць, млець — самлець, моршчыць — зморшчыць, мяць — змяць, нішчыць — знішчыць, падабацца — спадабацца, палохаць — спалохаць, рабіць — зрабіць, таўчы — стаўчы, тлець — сатлець, трываць — стрываць, хаваць — схаваць, хлусіць — схлусіць, цярпець — сцярпець* і інш.

Аднак даволі значную колькасць відавых пар даюць і беспрыставачныя дзеясловы з іменнай асновай, да якіх далучана прыстаўка **з-**: *брашураваць — збрашураваць, ганьбаваць — зганьбаваць, гатаваць — згатаваць, глуміць — зглуміць, гнаіць — згнаіць, горкнуць — згоркнуць, грашыць — саграшыць, групаваць — згрупаваць, калечыць — скалечыць, песціць — спесціць, планаваць — спланаваць, праектаваць — спраектаваць, фальшывіць — сфальшывіць, фантазіраваць — сфантазіраваць, фарміраваць—сфарміраваць, фармуляваць—сфармуляваць, хітраваць—схітраваць, цэментаваць — сцэментаваць, цямнець — сцямнець, эканоміць — сэканоміць* і інш.

*Быў час між лета і вясны. Спачатку дрэвы сонца грэла, а потым білі перуны і хата цэлы дзень* г а р э л а. З г а р э л і *ўсе будынкі, сад і дзве калоды пчол пад клёнам...* (А. К у л я ш о ў. Антон Шандабыла). *Такая пакуль што доля жаночая, але мы яе, гэту долю,* н і ш ч ы м *ужо.* з н і ш ч ы м, *пераробім!* (П. Г а л а в а ч. Загубленае жыццё). *Сын* з б я л е ў, *потым твар ягоны* с ч ы р в а н е ў *плямамі* (П. Г а л а в а ч. Сваё ўласнае). С с у т у л і ў с я *Джон, акуляры працёр* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Нараджэнне чалавека).

Дзеясловы з прыстаўкай **з-**, якія ўказваюць на поўны ахоп прадмета дзеяннем, на дзеянне, што прыводзіць да знікнення аб'екта гэтага дзеяння, на аддаленне, адхіленне, пазбаўленне ад чаго-небудзь, сканцэнтраванне ў адным месцы, не складаюць відавых пар з адпаведнымі беспрыставачнымі дзеясловамі (гл. § 917, 918): *змыліць, зраніць, зрэзаць, скляпаць.*

§ 784. Пры дапамозе прыстаўкі **а-** **(аб-)** змяняюць трыванне дзеясловы, якія маюць значэнне паступовай змены стану, прычым большасць з іх — адыменныя: *бяднець — абяднець, ледзянець — аледзянець, лысець — аблысець, мялець — абмялець, глухнуць — аглухнуць, горкнуць — агоркнуць, грубець — агрубець, дзічэць — адзічэць, дубянець — адубянець, дурнець — адурнець, звярэць — азвярэць, камянець — акамянець, нямець — анямець, пусцець — апусцець, п'янець—ап'янець, слабець — аслабець, слепнуць — аслепнуць, смялець — асмялець, тлусцець — атлусцець, тупець — атупець* і інш.

Колькасць дзеясловаў са значэннем абстрактнага і фізічнага дзеяння, якія ўваходзяць у парныя ўтварэнні, меншая, пераважаюць пры гэтым дзеясловы з іменным коранем. Сярод іменных утварэнняў выдзяляюцца словы са значэннем «нараджэнне дзіцянят самкамі некаторых жывёл»: *кітаваць — абкітаваць, рабаваць — абрабаваць, сядлаць — абсядлаць, ганьбаваць — аганьбаваць, дурманіць — адурманіць, калечыць — акалечыць, канапаціць — аканапаціць, публікаваць — апубліка-*

*ваць, тынкаваць — атынкаваць, тлуміць — атлуміць, фарбаваць — афарбаваць, характарызаваць — ахарактарызаваць, чарніць — ачарніць, чысціць — ачысціць, шальмаваць — ашальмаваць, шаляваць — ашаляваць, шкліць — ашкліць, штрафаваць — аштрафаваць, муляць — абмуляць, мяняць — абмяняць, рушыць — абрушыць, стрыгчы — абстрыгчы, трапаць — абтрапаць, трэсці — абтрэсці, бараніць — абараніць, будзіць — абудзіць, студзіць — астудзіць, труціць — атруціць, церабіць — ацерабіць, жарабіцца — ажарабіцца, каціцца — акаціцца, парасіцца — апарасіцца, цяліцца — ацяліцца* і інш.

*Гэта а к а н ф у з і л а Лісніцкага, ён пачырванеў* (П. Г а л а в а ч. Чацвёртае спатканне). *І там, дзе навек а т р у п е л а учора, новым стагоддзям пачаты лік...* (М. Л у ж а н і н. Над Волгай). *Здавалася, яе сэрца а ч а р с ц в е л а да ўсялякага болю, як да свайго, так і да чужога* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына). *Насцярожыліся вінтоўкі, а ш ч э р ы л і с я штыкі* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *Люблю я гэтым белым полем, дзе месяц пыл а ц е р у ш ы ў, назад варочацца паволі...* (П. Г л е б к а. Зіма).

Як словы з новым лексічным значэннем выступаюць дзеясловы з прыстаўкай **а- (аб-)**, якія ўказваюць на рух вакол ці міма чаго-небудзь, на празмернасць дзеяння, на забеспячэнне, пакрыццё чым-небудзь (гл. § 909, 910): *абплаваць, абкарміць, абдарыць, абрасіць.*

§ 785. Прыстаўка **на-** змяняе від дзеясловаў, якія абазначаюць абстрактнае і фізічнае дзеянне. Гэтыя дзеясловы могуць быць як з іменнай, так і не з іменнай асновай: *вербаваць — навербаваць, грэць — нагрэць, запасіць — назапасіць, капаць — накапаць, капіць — накапіць, карміць — накарміць, маляваць — намаляваць, мачыць — намачыць, моршчыць — наморшчыць, нізаць — нанізаць, палохаць — напалохаць, паліраваць — напаліраваць, пісаць — напісаць, пужаць — напужаць, раіць — нараіць, тапырыць — натапырыць, тачыць — натачыць, трапіць — натрапіць, электрызаваць — наэлектрызаваць; брудзіць — набрудзіць, ваксаваць — наваксаваць, вашчыць — навашчыць, грыміраваць — нагрыміраваць, друкаваць — надрукаваць, крухмаліць — накрухмаліць, ладзіць — наладзіць, лакіраваць—налакіраваць, магніціць — намагніціць, мазоліць — намазоліць, мыліць — намыліць, смяшыць — насмяшыць, смуродзіць — насмуродзіць, хмурыць — нахмурыць, чадзіць — начадзіць, шпігаваць — нашпігаваць* і інш.

М е ш ч а н ч у к. *Ты што, грэўся ў саломе?* Ц ы в і н. *Г р э ў с я.* М е ш ч а н ч у к. *Н а г р э ў с я?* (К. Ч о р н ы. Драма «Бацькаўшчына»). *Знаю, гнеўны і суровы, ён свае н а с у п і ў бровы* (А. А л е к с а д р о в і ч. Ой, напэўна...).

У тым выпадку, калі прыстаўка **на-** далучаецца да дзеяслова, які ўжо меў прыстаўку, змяняецца не толькі трыванне дзеяслова (незакончанае на закончанае), але і значэнне яго — ён указвае на празмернасць дзеяння, пашырэнне яго на вялікую колькасць прадметаў: *наабкопваць, наабменьваць, наадклейваць, навыварочваць, навыдумляць, навыцярушваць, назавострываць, назапакоўваць,назарабляць, нападкрэсліваць, напратоптваць, нарасточваць.*

Не ўваходзяць у суадносныя пары з беспрыставачнымі дзеясловамі дзеясловы з прыстаўкай **на-**, якія выражаюць значэнне накіраванасці дзеяння на паверхню прадмета, ажыццяўлення дзеяння на гэтай паверхні, празмернасці дзеяння, яго пашырэння на вялікую колькасць прадметаў (гл. § 921, 922): *наскочыць, наклеіць, накупацца.*

§ 786. Прыстаўка **за-** мае відавое значэнне ў многіх дзеясловах з іменным коранем. У словах з дзеяслоўным коранем гэта прыстаўка радзей выступае як формаўтваральная. Сярод дзеясловаў з прыстаўкай **за-**, якія ўступаюць у суадносныя відавыя пары з беспрыставачнымі дзеясловамі, нямала слоў іншамоўнага паходжання. Дзеясловы з фор-

маўтваральнай прыстаўкай **за-** маюць значэнне фізічнага і абстрактнага дзеяння і паступовай змены стану: *вабіць — завабіць, гаіць — загаіць, гасіць — загасіць, гінуць — загінуць, зубрыць — зазубрыць, калыхаць — закалыхаць, кілзаць — закілзаць, кіпяціць — закіпяціць, мардаваць — замардаваць, марочыць — замарочыць, марынаваць — замарынаваць, маскіраваць — замаскіраваць, мокнуць — замокнуць, мясіць — замясіць, палохаць — запалохаць, рэгістраваць — зарэгістраваць, слухаць — заслухаць, тануць — затануць, тапіць — затапіць, тушыць — затушыць, чахнуць — зачахнуць* і інш.; *асфальтаваць — заасфальтаваць, бракаваць — забракаваць, бранiраваць — забраніраваць, гартаваць — загартаваць, гаціць — загаціць, грунтаваць — загрунтаваць, драпіраваць — задрапіраваць, інтрыгаваць — заінтрыгаваць, кампасціраваць — закампасціраваць, камянець — закамянець, канспектаваць — заканспектаваць, каснець — закаснець, катаваць — закатаваць, кітаваць — закітаваць, масціць — замасціць, пакаваць—запакаваць, патрабаваць — запатрабаваць, планаваць — запланаваць, праектаваць — запраектаваць, прыходаваць — запрыходаваць, саліць — засаліць, сіласаваць — засіласаваць, смагнуць — засмагнуць, смажыць — засмажыць, тармазіць — затармазіць, цвярдзець — зацвярдзець, чарсцвець — зачарсцвець, шнураваць — зашнураваць, шпакляваць — зашпакляваць, шыфраваць — зашыфраваць* і інш.

*Прабачайце, панічок: я прыйшла з а п ы т а ц ц а ў вас, ці баліць яшчэ ў вас галава, ці перастала?* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Патраўка была нецікавая. Госць і гаспадар пабойталі трохі лыжкамі і з а б р а к а в а л і яе* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Восем ран зажыло, я вярнуўся да строю, толькі раны адной не магу з а г а і ц ь* (П. Б р о ў к а. Рана). ... *Ці на светлым смычку твае слёзы яшчэ не з а с о х л і?* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады). *А бывае — здрабнее, з а к а ж а н е е чалавек — шкада глянуць!* (І. Г р а м о в і ч. У лесе на палянцы).

Прыстаўка **за-** з'яўляецца словаўтваральнай, калі дзеяслоў з ёю абазначае пачатак дзеяння, накіраванасць яго за які-небудзь прадмет, празмернасць дзеяння, запаўненне пустаты, пакрыццё чым-небудзь (гл. § 920): *застагнаць, завандраваць, задарыць, зафарбаваць* і інш.

§ 787. Відавых пар, у якія ўваходзяць дзеясловы з прыстаўкай **вы-**, параўнальна нямнога, прычым большасць з гэтых дзеясловаў сінанімічныя ўтварэнням з іншымі прыстаўкамі (*вучыць — вывучыць, завучыць; жарыстаць — выкарыстаць, скарыстаць; красці — выкрасці, украсці; ляпіць — вылепіць, зляпіць; лупцаваць — вылупцаваць, адлупцаваць*). Гэта прыстаўка змяняе від дзеясловаў з іменным і не з іменным коранем.

Даволі паслядоўна ў відавыя пары ўваходзяць словы з гэтай прыстаўкай, якія і без прыстаўкі маюць значэнне «выняцце, выдаленне прадмета ці часткі яго з іншых » (гл. § 915), а таксама некаторыя дзеясловы, якія абазначаюць паступовае змяненне стану, працяглае дзеянне: *гадаваць — выгадаваць, гравіраваць — выгравіраваць, зубрыць — вызубрыць, купаць — выкупаць, лаяць — вылаяць, ліняць — выліняць, мазаць —вымазаць, масціць — вымасціць, мераць — вымераць, мыць — вымыць, паласкаць — выпаласкаць, пячы — выпечы, плавіць — выплавіць, пэцкаць — выпэцкаць, расціць —вырасціць, сохнуць — высахнуць, тапіць — вытапіць, тлумачыць — вытлумачыць, трываць — вытрываць, цярпець — выцерпець, шараваць — вышараваць; брукаваць — выбрукаваць, дубіць — выдубіць, карчаваць — выкарчаваць, клянчыць — выкленчыць, муштраваць — вымуштраваць, патрашыць — выпатрашыць, раўняць — выраўняць, сушыць — высушыць, чарціць — вычарціць, чысціць — вычысціць* і інш:

*Я быў пасланы ў Крым на лячэнне. Мне ўдалося в ы л е ч ы ц ц а* (К. Ч о р н ы. Аўтабіяграфія). *Я вясёлым сцяжынкам рад — тройчы в ы с а х і в ы м а к* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча). *Ен, малы, в ы р а с ц е*

*і таксама, як цяпер, моцна і горда пройдзе па зямлі, па дарозе...* (К. Ч о р н ы. На пыльнай дарозе).

Не ўваходзяць у відавыя пары з беспрыставачнымі дзеясловамі дзеясловы з прыстаўкай **вы-**, якія абазначаюць накіраванасць руху знутры прадмета або навакольнага асяроддзя, паўнату праяўлення дзеяння: *выплыць, выжаўціць* (гл. § 915).

§ 788. Прыстаўка **пра-** з'яўляецца сродкам змянення віду пры некаторых дзеясловах, якія без прыстаўкі абазначаюць рух праз прадмет шляхам прабівання яго, пры некаторых дзеясловах, блізкіх па значэнню да дзеясловаў мовы і думкі і інш. Многія з гэтых дзеясловаў утвораны ад іншамоўных асноў: *бляяць — прабляяць, будзіць — прабудзіць, гучаць — прагучаць, дыктаваць — прадыктаваць, дэкламаваць — прадэкламаваць, дэманстраваць — прадэманстраваць, ілюстраваць — праілюстраваць, інструктаваць — праінструктаваць, інфармаваць — праінфармаваць, кансультаваць — пракансультаваць, кіпяціць — пракіпяціць, кіснуць — пракіснуць, мерзнуць — прамерзнуць, свідраваць — прасвідраваць, скланяць — праскланяць, спрагаць — праспрагаць, спяваць — праспяваць, транжырыць — пратранжырыць, чытаць — прачытаць, шаптаць — прашаптаць, штудзіраваць — праштудзіраваць; аналізаваць — прааналізаваць, буравіць — прабуравіць, вентыліраваць — правентыліраваць, гумаваць — прагумаваць, дзіравіць — прадзіравіць, кантраляваць — пракантраляваць, лепятаць — пралепятаць, нумараваць — пранумараваць, сігналізаваць — прасігналізаваць, экзаменаваць — праэкзаменаваць* і інш.

*Чацвёртага слова трымаў Гафрон, можа нязграбнае стылем слова — ён не ч ы т а ў яго з кніжных балон, ён п р а ч ы т а ў яго з фактаў жыццёвых* (П. Г л е б к а. Арка над акіянам). *Проста на ўсё сваё сяло п р а с л а в і л а с я* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *...Бо колькі вобразаў ты надзвычайных хацеў раскрыць і свету паказаць, і колькі бацькаўшчыне светлых дайнаў тваё хацела сэрца п р а с п я в а ц ь* (М. Т а н к. Петрасу Цвірку).

Прыстаўка **пра-** з'яўляецца словаўтваральнай у дзеясловах, якія абазначаюць рух праз прадмет або міма яго, паўнату або непаўнату дзеяння, запаўненне ім пэўнага прамежку часу, памылковасць дзеяння (гл. § 930): *працячы, праплыць, праварыць, праспяваць* (цэлую гадзіну), *празяваць* і інш.

§ 789. Прыстаўка **раз- (рас-)** як формаўтваральная выступае ў дзеясловах, якія і без прыстаўкі маюць значэнне раздзялення на часткі, у некаторых дзеясловах са значэннем працяглага неаднаразовага дзеяння і ў радзе дзеясловаў, што абазначаюць дзеянні, якія прыводзяць да змены стану або настрою чалавека: *будзіць — разбудзіць, бурыць — разбурыць, верадзіць — разверадзіць, дзяліць — раздзяліць, дражніць — раздражніць, крышыць — раскрышыць, мяняць — размяняць, пароць — распароць, тармасіць — растармасіць, тасаваць — растасаваць, таяць — растаяць, трушчыць — раструшчыць, фасаваць — расфасаваць, хваляваць — расхваляваць, гневаць — разгневаць, драбіць — раздрабіць, райнаваць — разрайнаваць, сартаваць — рассартаваць, смяшыць — рассмяшыць, транжырыць — растранжырыць, трывожыць — растрывожыць* і інш.

*Мяне р а з б у д з і ў тэлефонны званок...* (А. А л е к с а н д р о в і ч. На векі вякоў). *Жыць табе, мой хлопча, трэба: ты малы яшчэ, дзіця; р а с к в і т н е е твая глеба, прыйдзе час твайго жыцця...* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Р а с т л у м а ч ы ў яму настаўнік пахаджэнне дробаў, іх сутнасць, складанне, адніманне, множанне і дзяленне* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Пасля можна будзе р а з д з я л і ц ц а на групы і кожны няхай аглядае, што хоча, — хто цікавіцца падрабязней жыллём, няхай заходзіць у хаты, як самы родны чалавек* (І. Г р а м о в і ч. Калі паспелі антонаўкі).

Не ўтвараюць відавых пар з беспрыставачнымі дзеясловамі дзеясловы з прыстаўкай **раз-**, якія абазначаюць рух ад цэнтра ў розныя бакі, знішчэнне вынікаў ранейшага дзеяння, інтэнсіўнасць дзеяння (гл. § 934): *расцягнуць, расшнураваць, расспявацца.*

§ 790. Колькасць відавых пар, у якія ўваходзяць дзеясловы з прыстаўкай **у-** і адпаведныя беспрыставачныя дзеясловы, невялікая. Некаторыя з гэтых прыставачных дзеясловаў сінанімічныя дзеясловам з іншымі прыстаўкамі *(бараніць — убараніць, абараніць; берагчы — уберагчы, зберагчы);* дзеясловы, у якіх прыстаўка **у-** змяняе від, абазначаюць больш-менш працяглае дзеянне або паступовае змяненне стану: *вязнуць — увязнуць, гадзіць — угадзіць, красці — украсці, масціць — умасціць, наследаваць — унаследаваць, пільнаваць — упільнаваць, славіць—уславіць, сцерагчы—усцерагчы, трамбаваць—утрамбаваць, гразнуць — угразнуць, джаліць — уджаліць, камплектаваць — укамплектаваць, мацаваць — умацаваць, парадкаваць — упарадкаваць* і інш.

*Дык урачыста, з пачуццём братэрства нашых сэрцаў, — хорам, браты, у с л а в і м залп «Аўроры», хвалу Кастрычніку спяём* (А. Александровіч. За сталом братэрства). *Я іду, грукачу назнарок, каб у ч у л і суседзі мой крок* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Аднаго цяпер хачу я, ды не знаю, як прасіць, хай прыедзе і ў р а т у е, з ім хачу я плыць і плыць!* (П. Броўка. Прыязджаў марак у госці).

Не ўступаюць у суадносныя відавыя пары з беспрыставачнымі дзеясловамі дзеясловы, якія пры далучэнні да іх прыстаўкі **у-** абазначаюць накіраванасць дзеяння ўнутр прадмета або асяроддзя, паўнату ці непаўнату дзеяння, аддзяленне часткі ад прадмета, змяншэнне яго колькасці або аб'ёму (гл. § 935): *улезці, упісаць, утрымаць, ухапіць.*

§ 791. Прыстаўка **уз- (ус-)** у функцыі відавой ужываецца пры некаторых дзеясловах, што ўказваюць на дзеянне, у выніку якога змяняецца стан прадмета ці асобы; перш за ўсё гэта дзеясловы, якія выступаюць са значэннем «выклікаць трывогу, хваляванне»: *араць — узараць, бударажыць — узбударажыць, бунтаваць — узбунтаваць, каламуціць — ускаламуціць, клычыць — усклычыць, расці — узрасці, гадаваць — узгадаваць, мацнець — узмацнець, мужнець — узмужнець, радаваць — узрадаваць, трывожыць — устрывожыць* і інш.

*Г а д а в а ў... думаў, выйдзе што-небудзь, чакаў і... у з г а д а в а ў на сваю галаву* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Мінула ў нас многа гадоў залатых, тады ў з г а д а в а л і дзяцей мы сваіх* (П. Броўка. Чатыры шляхі). *Што змалку жыццё надало, у з р а ш ч у, загартую у дзеях* (У. Хадыка. Апошняя крайка мяжы). *У с т р ы в о ж ы ў іх на ранку крык і рогат невядомы, ногі тупалі па ганку, рукі грукалі ў харомы* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла).

Прыстаўка **уз-** утварае новае слова тады, калі дзеяслоў з ёю абазначае рух угару, узнікненне дзеяння, якое праяўляецца інтэнсіўна, паўнату дзеяння *(усцягнуць, узрушыць).*

§ 792. Сярод нешматлікіх відавых пар беспрыставачных дзеясловаў і адпаведных дзеясловаў з прыстаўкай **ад-** вылучаюцца такія, што маюць значэнне «пакрываць паверхню чым-небудзь», дзеяння і яго выніку, аддзялення ад чаго-небудзь. У гэтай групе сустракаецца рад дзеясловаў іншамоўнага паходжання: *глянцаваць — адглянцаваць, друкаваць — аддрукаваць, лакіраваць — адлакіраваць, лупцаваць — адлупцаваць, мабілізаваць — адмабілізаваць, нікеляваць — аднікеляваць, паліраваць — адпаліраваць, помсціць — адпомсціць, прасаваць — адпрасаваць, прэпараваць — адпрэпараваць, рамантаваць — адрамантаваць, рапартаваць — адрапартаваць, рэдагаваць — адрэдагаваць, рэгуляваць — адрэгуляваць, салютаваць — адсалютаваць, святкаваць — адсвяткаваць, сырэць — адсырэць, шліфаваць — адшліфаваць, шукаць — адшукаць* і інш.

*Садовічу, Райскаму і Тукалу было даручана напісаць пратакол настаўніцкага сходу і* а д р э д а г а в а ц ь *яго пастанову* (Я. К о л а с. На ростанях). *Яе вучні* а д э к з а м е н а в а л і с я (там жа). *Мне добра пець акрэсленей і звычней, і з новым крокам, новым днём турбот — семнаццаты успомніць добры год,* а д с в я т к а в а ц ь *семнаццаты Кастрычнік* (У. Х а д ы к а. За строем дат і рубрык). *Паслухай, нягоднік!.. Ці помніш, калі ты першы яе* а д ц у р а ў с я? (П. Б р о ў к а. Здраднік).

§ 793. Яшчэ менш відавых пар беспрыставачных і прыставачных дзеясловаў, у якіх прыстаўка **пры-** выконвае толькі функцыю паказчыка змены трывання: *вітаць — прывітаць, галубіць — прыгалубіць, гатаваць — прыгатаваць, няволіць — прыняволіць, раўнаваць — прыраўнаваць, сніць — прысніць, туліць — прытуліць, хінуць — прыхінуць, чакаць — прычакаць.*

Р ы г о р. *А тут цябе* ч а к а л і, ч а к а л і *і ніяк* п р ы ч а к а ц ь *не маглі* (К. Ч о р н ы. Базылевічава сям'я). *Турсевіч выбег у сенцы, адтуль да гаспадыні з загадам* п р ы г а т а в а ц ь *вячэру* (Я. К о л а с. У палескай глушы). П р ы с н і ў с я *Дубягу ў абозе сон, што ў родную хату прыехаў ён* (М. Т а н к. Балада пра партызана Дубягу). П р ы в і т а л і *высь блакітную спевы жаўрука ў белым тумане* (М. Ч а р о т. Чырвоныя веснянкі).

§ 794. Прыстаўка **пера-** ў нязначнай колькасці відавых пар выступае як сродак формаўтварэння. Сярод дзеясловаў з гэтай прыстаўкай вылучаюцца некалькі, што маюць значэнне «прабыць той прамежак часу, аб якім гаворыцца ў корані» *(начаваць, зімаваць): зімаваць — перазімаваць, ліцаваць — пераліцаваць, начаваць — пераначаваць, хварэць — перахварэць, хрысціцца — перахрысціцца.*

*Скажы нам, дзе пагрэцца можна,* п е р а н а ч а в а ц ь. *Блукаючы, ідзём другую ноч...* (М. Т а н к. Янук Сяліба). *Старая паляшучка, знахарка Мар'я, набожна* п е р а х р ы с ц і л а с я, *падняўшы вочы на абраз* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Падышоўшы да панны Людмілы, Лабановіч спыніўся і сказаў ёй: «Чаму вы, панна Людміла, не* п е р а х р ы с ц і л і с я, *убачыўшы мяне?»* (там жа).

§ 795. У некалькі відавых пар з беспрыставачнымі дзеясловамі ўваходзяць і дзеясловы з прыстаўкай **пад-**: *бадзёрыць — падбадзёрыць, гатавацца — падгатавацца, каваць — падкаваць, красціся — падкрасціся, рахаваць — падрахаваць, рыхтаваць — падрыхтаваць.*

*Маня, старшая дачка пісара, ужо не маладая дзяўчына, гадоў за дваццаць пяць, па ўсяму відаць было,* п а д г а т а в а л а с я *спаткаць настаўнікаў* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *«Нічога, нічога, Рына! Усё пройдзе. Усё будзе добра», —* п а д б а д з ё р ы ў *ён* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына). *Перамагаючы гушчар,* п а д к р а ў с я *я ціцком* (П. Б р о ў к а. Паляванне)... *Пэўна ж Андрэю з дарогі захацелася* п а д с і л к а в а ц ц а (Я. К о л а с. На ростанях).

### Суадносныя відавыя формы, утвораныя пры дапамозе суфіксаў

§ 796. Суадносныя відавыя пары дзеясловаў закончанага трывання з асновай на **а** і дзеясловаў незакончанага трывання з суфіксам **-ва-**. Колькасць відавых пар з гэтымі дзеясловамі вельмі вялікая. Пры ўтварэнні дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфікса **-ва-** націск або захоўваецца, або змяняецца, але ён заўсёды падае на склад перад суфіксам незакончанага трывання. У дзеясловах закончанага трывання, у якіх адбываецца змена націску пры ўтварэнні новай формы трывання, ён падае або на суфікс **-а-**, або на прыстаўку **вы-**: *абдумаць — абдумваць, абстукаць — абстукваць, аваладаць — аваладваць, адведаць — адведваць, адхукаць — адхукваць, ахутаць — ахутваць, запырскаць — запырскваць, наведаць — наведваць, прамазаць — прамазваць,*

*прамераць — прамерваць, раскідаць — раскідваць, расхлёбаць — расхлёбваць, сашморгаць — сашморгваць, ускарабкацца — ускарабквацца, аблузаць — аблузваць, абшукаць — абшукваць, апрайдаць — апрайдваць, даказаць — даказваць, звязаць — звязваць, нанізаць — нанізваць, падпісаць — падпісваць, прыгадаць — прыгадваць, развітацца — развітвацца, распытаць — распытваць, сыскаць — сысквацъ, учытацца — учытвацца, вывязаць — вывязваць, выстукаць — выстукваць, выпісаць — выпісваць* і інш.

Змена націску пры суфіксальным утварэнні форм трывання нярэдка прыводзіць да пэўных змен у аснове — адбываецца ўзнаўленне этымалагічных галосных або абумоўленыя фанетычнымі прычынамі пазіцыйныя чаргаванні галосных.

Узнаўленне этымалагічнага **э**: *аббрахаць — аббрэхваць, выразаць — вырэзваць, прычасаць — прычэсваць, растрапаць — растрэпваць, счарпаць — счэрпваць.*

Узнаўленне этымалагічнага **е**: *абмятаць — абметваць, абмяшаць — абмешваць, даляжаць — далежваць, развянчаць — развенчваць.*

Узнаўленне этымалагічнага **е** і пераход яго ў **ё**: *адкляпаць — адклёпваць, выдзеўбці — выдзёўбваць, выклепаць — выклёпваць, выплескаць — выплёскваць, высербаць — высёрбваць, выхлебаць — выхлёбваць, дадзяўбці — дадзёўбваць, дахлябтаць — дахлёбтваць, падвярстаць — падвёрстваць, распляскаць — расплёскваць, сасцябаць — сасцёбваць.*

Узнаўленне этымалагічнага **о**: *абламаць — абломваць, абматаць — абмотваць, адтаптаць — адтоптваць, акапаць — акопваць, апрастаць — апростваць, выкалаць — выколваць, выканаць — выконваць, выкарпаць — выкорпваць, выкайзаць — выкойзваць, выпалаць — выполваць, выпрастаць — выпростваць, пераканаць — пераконваць, разараць — разворваць, расхвастаць — расхвоствать.*

Узнаўляецца этымалагічны галосны (**е** затым пераходзіць у **ё**) і ў словаўтваральных суфіксах **-ав-, -яв-**, якія захоўваюцца перад відаўтваральным суфіксам **-ва-**, пры гэтым зычны **в** словаўтваральнага суфікса пераходзіць у **ў**: *абліцаваць — абліцоўваць, аблюбаваць — аблюбоўваць, адлюстраваць — адлюстроўваць, адпрацаваць — адпрацоўваць, апанаваць — апаноўваць, выхаваць — выхоўваць, дашрубаваць — дашрубоўваць, замураваць — замуроўваць, накіраваць — накіроўваць, падмацаваць — падмацоўваць, перашнураваць — перашнуроўваць, прыстасаваць — прыстасоўваць, расчараваць — расчароўваць, убінтаваць — убінтоўваць, абгабляваць — абгаблёўваць, абкляваць — абклёўваць, абмаляваць — абмалёўваць, абсталяваць — абсталёўваць, абшаляваць — абшалёўваць, адваяваць — адваёўваць, замаляваць — замалёўваць, перашпакляваць — перашпаклёўваць.*

Мяккасць, як і цвёрдасць, карэннага зычнага перад суфіксам **-ва-** захоўваецца: *абстраляць — абстрэльваць, абмуляць — абмульваць, адгуляць — адгульваць, ачуняць — ачуньваць, выменяць — выменьваць, раскланяцца — раскланьвацца.*

У дзеясловах незакончанага трывання захоўваецца **j** кораня, які (**j**) у дзеясловах закончанага трывання папярэднічае суфіксу **-а-**: *адстаяць — адстойваць, адхаяць — адхайваць, адчаяцца — адчайвацца, выстаяць — выстойваць, высмеяць — высмейваць, падсмяяцца — падсмейвацца, развеяць — развейваць, састаяцца — састойвацца, усеяць — усейваць, упаяць — упайваць.*

§ 797. Дзеясловы закончанага трывання з асновай на **і** і дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-ва- (-іва-)** даюць вялікую колькасць відавых пар. Змена націску ў выніку відаўтварэння часта прыводзіць да ўзнаўлення этымалагічных **е (э), о,** да пераходу **е** ў **я**. У дзеясловах незакончанага трывання захоўваецца мяккасць зычных **н** і **л,** што знаходзяцца перад суфіксам **-ва-**: *абагуліць—абагульваць, выстраліць—*

*выстрэльваць, забяліць — забельваць, знясіліць — знясільваць, падвесяліць — падвясельваць, падгаліць — падгольваць, падсаліць — падсольваць, падтуліць — падтульваць, прасаліць — прасольваць, разняволіць— разнявольваць, расчуліць — расчульваць, расшавяліць — расшавельваць, удасканаліць — удасканальваць, абзваніць — абзвоньваць, абясцэніць— абясцэньваць, адурманіць — адурманьваць, атуманіць — атуманьваць, ацаніць — ацэньваць, выклініцца — выкліньвацца, выпраменіць — выпраменьваць, змяніць — зменьваць, падсініць — падсіньваць; правароніць — правароньваць, прыструніць — прыструньваць, узаконіць — узаконьваць, успеніць — успеньваць.*

Дзеясловы, якія ў форме закончанага трывання мелі **j** перад суфіксам, захоўваюць яго і ў форме незакончанага трывання: *абнадзеіць— абнадзейваць, адкроіць — адкройваць, выстраіць — выстройваць, засвоіць — засвойваць, настроіць — настройваць, падгаіць — падгойваць, падклеіць — падклейваць, прызвычаіць — прызвычайваць, раздаіць — раздойваць, раздвоіць —раздвойваць, раззброіць — раззбройваць, разлінеіць — разлінейваць, расслаіць — расслойваць, супакоіць — супакойваць, угнаіць — угнойваць, удастоіць —удастойваць, утаіць — утойваць* і інш.

У суадносных відавых формах дзеясловаў з асновай **на і** і дзеясловаў з суфіксам **-ва-** знаходзяць адлюстраванне чаргаванні зычных. Гэтыя чаргаванні з'яўляюцца дадатковымі паказчыкамі трывання.

Чаргаванне **з—ж:** *абеззаразіць — абеззаражваць, адмарозіць — адмарожваць, перавузіць — перавужваць, працверазіць — працвярэжваць, прытармазіць — прытарможваць.*

Чаргаванне **дз—дж:** *абгарадзіць — абгароджваць, адгладзіць—адгладжваць, апярэдзіць — апярэджваць, асадзіць — асаджваць, засудзіць — засуджваць, насаладзіць — насалоджваць, падмаладзіць — падмалоджваць, пераскародзіць — пераскароджваць, перацадзіць — перацэджваць, прастудзіць — прастуджваць, разладзіць — разладжваць, расхаладзіць — расхалоджваць.*

Чаргаванне **с—ш:** *абрасіць — аброшваць, абяссэнсіць — абяссэншваць, агаласіць — агалошваць, адпрасіцца — адпрошвацца, вывесіць — вывешваць, недаквасіць — недаквашваць, падмясіць — падмешваць, прыкрасіць — прыкрашваць, прыхлусіць—прыхлушваць, укасіць—укошваць;* але: *закусіць — закусваць.*

Чаргаванне **ц—ч:** *абкалаціць — абкалочваць, абюракраціць — абюракрачваць, завінціць — завінчваць, затраціць — затрачваць, праканапаціць — праканапачваць, пракруціць — пракручваць, прачарціць — прачэрчваць, прыахвоціць — прыахвочваць, расплаціцца — расплачвацца.*

Чаргаванне **сц—шч:** *абястлусціць—абястлушчваць, адхрысціцца — адхрышчвацца, прарасціць — прарошчваць, узгрувасціць — узгрувашчваць, узмасціцца — узмошчвацца.*

Губныя зычныя, якія знаходзяцца перад суфіксам, даюць чаргаванні **б—бл, м—мл, п—пл, в—ўл** (па фанетычных прычынах **в** пераходзіць у **ў**). Суфікс формаўтварэння ў гэтых умовах выступае без рэдукцыі пачатковага галоснага, у поўным выглядзе — **-іва-.**

Чаргаванне **б—бл:** *вызубіць — вызублівацъ, зарубіць — зарублівацъ, падцерабіць — падцярэблівацъ, перавабіць — перавабліваць, прыаздобіць — прыаздоблівацъ, прыгубіць — прыгублівацъ.*

Чаргаванне **м—мл:** *абкуродыміць — абкуродымлівацъ, абразуміць — абразумлівацъ, азнаёміць — азнаёмлівацъ, атаясаміць — атаясамліваць, застраміць — застрэмлівацъ, прышчаміць — прышчэмлівацъ, скарміць — скормлівацъ.*

Чаргаванне **п—пл:** *адтапіць — адтопліваць, надлупіць — надлуплівацъ, падцяпліць — падцепліваць, прыкупіць — прыкупліваць, расча-*

*піць — расчэплівацъ, стапіць — стаплівацъ, уляпіць — улеплівацъ, усхапіцца — усхоплівацца.*

Чаргаванне ■ — **ўл** (з **вл**): *абезгаловіць — абезгалоўлівацъ, абумовіць — абумоўлівацъ, абяскровіць — абяскроўлівацъ, абясславіць — абясслаўлівацъ, акрывавіць — акрываўлівацъ, ашчасліваць — ашчасліўлівацъ, зацікавіць — зацікаўлівацъ, натравіць — натраўлівацъ, прадзіравіць — прадзіраўлівацъ, улавіць — улоўлівацъ, устанавіць — устанаўлівацъ.*

§798. Дзеясловы закончанага трывання з асновай на **ы** і незакончанага трывання з суфіксам **-ва-** складаюць значную колькасць суадносных відавых пар. У выніку таго, што націск заўсёды пераходзіць на склад перад суфіксам незакончанага трывання, у адпаведных фанетычных умовах адбываецца ўзнаўленне этымалагічных **е (э), о,** пераход **е** ў **я:** *абзадачыць — абзадачвацъ, адгаварыць — адгаворвацъ, адмачыць — адмочвацъ, засушыць — засушвацъ, змарыць — зморвацъ, падвашчыць — падвошчвацъ, падлячыць — падлечвацъ, падсачыць — падсочвацъ, падхарашыцца — падхарошвацца, перадарыць — перадорвацъ, перасмяшыць — перасмешвацъ, прываражыць — прыварожвацъ, прыстрачыць — прыстрочвацъ, прыцерушыць — прыцярушвацъ, стачыць — сточвацъ, уціхамірыць — уціхамірвацъ.*

§ 799. Ад вытворных дзеясловаў непрадуктыўных класаў з асновай на **е, о, ці, чы** пры дапамозе суфікса **-ва-** ўтвараецца надзвычай мала суадносных дзеясловаў незакончанага трывання. Пры гэтым у пэўных фанетычных умовах узнаўляюцца этымалагічныя **е (э), о,** адбываецца пераход **е** ў **ё, е** ў **я,** адлюстроўваюцца чаргаванні зычных **дз—дж, к—ч, ц—ч, сц—д:** *абтаўчы — абтоўквацъ, абвярцець — абверчвацъ, захварэць — захворвацъ, пераадолець — пераадольвацъ, абкалоць — абколвацъ, дапалоць — даполвацъ, адсапціся — адсопвацца, адскрэбці — адскрэбвацъ, утаўчы — утоўквацъ, прадугледзець — прадугледжвацъ, разбалецца — разбольвацца, падпароць — падпорвацъ, пермалоць — перамолвацъ, закрасціся — закрадвацца, перадзяўбці — перадзёўбвацъ, саскубці — саскубвацъ.*

§ 800. Пръставачныя дзеясловы закончанага трывання з прадуктыўным суфіксам **-ну-** ўтвараюць суадносныя пары з пръставачнымі дзеясловамі незакончанага трывання з суфіксам **-ва- (-іва-).** У дзеясловах незакончанага трывання пры гэтым нярэдка ўзнаўляецца зычны са спалучэнняў **згн, скн, стн,** акрамя таго, адбываецца рад такіх жа змен у галосных, як і ў папярэдніх групах відавых пар: узнаўленне этымалагічных **о, е,** пераход ■ ў **а, е** ў **ё,** а таксама чаргаванні *губны — губны* + **л.** Часам па словаўтварэнню пръставачны дзеяслоў незакончанага трывання суадносіцца з беспръставачным дзеясловам незакончанага трывання, хоць уваходзіць у відавую пару з пръставачнай формай закончанага трывання (*плюнуць — пляваць, выплюнуць — выплёўваць*): *абгарнуць — абгортвацъ, аблізнуць — аблізвацъ, абярнуць — абарочвацъ, выблісн уць — выбліскваць, выкінуць — выкідвацъ, выслізнуць — выслізгвацъ, здзьмухнуць — здзьмухвацъ, падскокнуць — падскоквацъ, падхвоснуць — падхвостваць, падштурхнуць — падштурхвацъ, перамаргнуцца — пераморгвацца, перашапнуцца — перашэптвацца, пракалупнуць — пракалупвацъ, прысвіснуць — прысвіствацъ, прыхварнуць—прыхворвацъ, размахнуць — размахвацъ, саслізнуць — саслізгвацъ, саскаўзнуць — саскоўзвацъ, спаласнуць — спалоскваць, спіхнуць — спіхвацъ, сплюнуць — сплёўвацъ.*

§ 801. Дзеясловы незакончанага трывання з непрадуктыўным суфіксам **-ва-** ўтвараюцца ад дзеясловаў закончанага трывання, у большасці сваёй пръставачных. Амаль усе гэтыя дзеясловы адносяцца да непрадуктыўных класаў. Перад суфіксам у форме незакончанага трывання аказваецца галосны асновы **(а, е (э), у, ы, і),** аднак гэты галосны не ўваходзіць у склад суфікса.

У большасці дзеясловаў з непрадуктыўным відавым суфіксам **(-ва-)**, перад якім знаходзіцца галосны асновы **ы**, націск падае на суфікс, адступленне ад гэтага назіраецца ў дзеясловах прадуктыўных класаў: *абмы́ць — абмыва́ць, адры́ць — адрыва́ць, вы́брыць — выбрыва́ць, забы́ць — забыва́ць, завы́ць — завыва́ць, закры́ць — закрыва́ць, засты́ць— застыва́ць, зжы́ць — зжыва́ць, падшы́ць — падшыва́ць, прыбы́ць — прыбыва́ць, прызабы́ць — прызабыва́ць, спачы́ць — спачыва́ць, ужы́ць — ужыва́ць, абве́трыць — абве́трываць, задо́брыць — задо́брываць, западо́зрыць — западо́зрываць, пераваструы́ць — переаво́стрываць, прыпу́дрыць — прыпу́дрываць.*

У непрадуктыўных дзеясловах з асновай на **і** націск падае на суфікс, у іншых дзеясловах — на корань: *адгні́ць — адгніва́ць, адлі́ць—адліва́ць, адпі́ць — адпіва́ць, вы́кпіць — выкпіва́ць, перабі́ць — перабіва́ць, прыві́ць — прывіва́ць, абву́гліць — абву́гліваць, абку́кліцца — абку́клівацца, адро́зніць — адро́зніваць, апрэ́сніць — апрэ́сніваць, задо́ўніць — задо́ўніваць, падкрэ́сліць — падкрэ́сліваць, прама́сліць — прама́сліваць, перадра́жніць — перадра́жніваць, упэ́ўніць — упэ́ўніваць.*

Дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-ва-**, утвораныя ад форм з асновай на **а** і **у**, заўсёды маюць націск на суфіксе: *абу́ць — абува́ць, прадчу́ць — прадчува́ць, раздз́ць — раздува́ць, разу́ць — разува́ць, ушчу́ць — ушчува́ць, адда́ць — аддава́ць, дайгра́ць — дайграва́ць, прада́ць — прадава́ць.*

У формах, утвораных ад дзеясловаў з асновай на **е (э)**, націск падае на суфікс, прычым галосны асновы па фанетычных прычынах змяняецца **(э—а, е—я)**: *абагрэ́цца — абаграва́цца, вы́спець — выспява́ць, датле́ць— датлява́ць, дзець — дзява́ць, запаце́ць — запацява́ць, падзе́ць — падзява́ць, падпе́ць — падпява́ць, перапрэ́ць — пераправа́ць, разадзе́ць — разадзява́ць, наспе́ць — наспява́ць, уразуме́ць — уразумява́ць.*

§ 802. Нешырокае ўжыванне пры відаўтварэнні мае і суфікс **-оўва-**, які ўзнік дзякуючы бытаванню ў дзеясловах спалучэнняў словаўтваральнага суфікса **-ав-** і формаўтваральнага суфікса **-ва-** (гл. § 796). Формы з суфіксам незакончанага трывання **-оўва-** суадносяцца з дзеясловамі, якія маюць аснову на **а**: *абслухаць — абслухоўваць, аб'яднаць — аб'ядноўваць, выкарыстаць — выкарыстоўваць, з'яднаць — з'ядноўваць, заслухаць — заслухоўваць, параўнаць — параўноўваць, перасядлаць — перасядлоўваць, прыслухацца — прыслухоўвацца, рассядлаць — рассядлоўваць, скарыстаць — скарыстоўваць, уз'яднаць — уз'ядноўваць.*

§ 803. У суадносных відавых парах выступаюць дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-а-** і дзеясловы закончанага трывання з прадуктыўным суфіксам **-ну-**. Суфікс **-ну-** пры гэтым нярэдка надае дзеяслову значэнне аднакратнасці дзеяння, яго імгненнасці. Амаль усе дзеясловы, што ўваходзяць у гэту групу суадносных відавых пар, беспрыставачныя.

Пры ўтварэнні формы закончанага трывання часам атрымліваецца спалучэнне трох зычных; сярэдні з іх **(г, к, т)** выпадае. Змяненне відаўтваральнага суфікса зрэдку суправаджаецца чаргаваннямі **к—ч, ск—шч, х—ш,** а таксама ўнутранай флексіяй *(затыкаць — заткнуць).*

Колькасць відавых пар дзеясловаў з суфіксамі **-а-** і **-ну-** вялікая: *аклікаць — акліснуць, бліскаць — бліснуць, бразгаць — бразнуць, брыкаць — брыкнуць, булькаць — булькнуць, варушыць — варухнуць, вішчаць — віскнуць, грукаць — груканць, дзьмухаць — дзьмухнуць, замыкаць — замкнуць, звяртаць — звярнуць, калупаць — калупнуць, ківаць — кіўнуць, крычаць — крыкнуць, лускаць — луснуць, маргаць — маргнуць, ныраць — нырнуць, папракаць — папракнуць, пішчаць — піснуць, пляскаць — пляснуць, пырскаць — пырснуць, пыхаць—пыхнуць, размыкаць — разамкнуць, свістаць — свіснуць, сцёбаць — сцёбнуць, фыркаць — фыркнуць, ціўкаць—ціўкнуць, цюкаць—цюкнуць, чмыхаць—*

*чмыхнуць, шлёпаць — шлёпнуць, шчоўкаць — шчоўкнуць, яўкаць — яўкнуць* і інш.

У тых выпадках калі суфікс **-ну-** выступае ў варыянце **-ану-**, дзеяслоў набывае экспрэсіўнае адценне, ён абазначае больш энергічнае дзеянне: *дрыгануць, зыбануць, жыгануць, капянуць, крутануць, кусануць, лупянуць, мільгануць, разануць, сігануць, скрыгануць, слізгануць, таргануць, тузануць, хапануць, хістануць, чарпануць, чыркануць, шапянуць, шмыгануць, штурхануць, шыбануць* і інш.

*І, як бы абурыўшыся затхласцю панямонскага жыцця, ён з сілаю таўхануў нагою веснічкі* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Сама ж думае сабе: «Секане катá па лбе!»* (Я. Колас. Паслушная жонка). *Здаецца, сыпануў* іх [хаты] *нехта тут, і яны засталіся кучкамі, як упалі, і з таго часу моцна ўраслі ў зямлю* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

§ 804. Суадносныя відавыя пары ўтвараюць прыставачныя дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-а-** і формы закончанага трывання з непрадуктыўным суфіксам **-ну-**: *дагасаць — дагаснуць, наліпаць — наліпнуць, павісаць — павіснуць, падмакаць — падмокнуць, перамярзаць — перамерзнуць, пераціхаць — пераціхнуць, прымаўкаць — прымоўкнуць, прысыхаць — прысохнуць, прытухаць — прытухнуць, разбракаць — разбракнуць, раскісаць — раскіснуць, успухаць — успухнуць.*

§ 805. Відавыя пары складаюць дзеясловы закончанага трывання з асновай на **і, ы, е, у** і дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-а- (-я-)**. Большасць слоў, што ўваходзяць у гэтыя пары, прыставачныя. Націск у формах незакончанага трывання, як правіла, падае на суфікс.

У відавых парах дзеясловаў з асновай на **ы** і форм з суфіксам **-а-** ў сувязі са зменай націску адбываецца пераход **е** ў **я, о** ў **а**, змен у зычных асновы не назіраецца: *абвастры́ць — абвастрáць, аблягчы́ць — аблягчáць, адзнáчыць — адзначáць, азары́ць — азарáць, акружы́ць — акружáць, апустóшыць — апусташáць, асвяжы́ць — асвяжáць, вы́бачыць — выбачáць, вы́зверыцца — вызвярáцца, вы́лучыць — вылучáць, давяршы́ць — давяршáць, даручы́ць — даручáць, завéрыць — завярáць, залічы́ць — залічáць, заўвáжыць — заўважáць, здáрыцца — здарáцца, змéншыць — змяншáць, кóнчыць — канчáць, надакýчыць — надакучáць, пагóршыць — пагаршáць, падóўжыць — падаўжáць, палéпшыць — паляпшáць, паскóрыць — паскарáць, паўтары́ць — паўтарáць, ператвары́ць — ператварáць, прыглушы́ць — прыглушáць, раствары́ць — раствapáць, суцéшыць — суцяшáць, удáрыць — ударáць, уручы́ць — уручáць* і інш.

Суадносных відавых пар дзеясловаў закончанага трывання з асновай на **і** і форм незакончанага трывання з суфіксам **-а- (-я-)** вялікая колькасць. У большасці выпадкаў мяккасць зычнага, які знаходзіцца перад суфіксам, захоўваецца: *абагульніць — абагульняць, абвадніць — абвадняць, адмяніць — адмяняць, адчыніць—адчыняць, акрыліць—акрыляць, апаражніць — апаражняць, выкараніць — выкараняць, высветліць — высвятляць, высеЛіць — высяляць, дазволіць — дазваляць, дапоўніць — дапаўняць, замяніць — замяняць, зазямліць — зазямляць, запыніць — запыняць, зацямніць — зацямняць, звольніць — звальняць, надзяліць — надзяляць, натхніць — натхняць, падагульніць — падагульняць, падрыхліць — падрыхляць, папоўніць — папаўняць, прадухіліць — прадухіляць, прыпыніць — прыпыняць, разбараніць — разбараняць, расчыніць — расчыняць, спапяліць — спапяляць, ускладніць — ускладняць, ухваліць — ухваляць* і інш.

Ва ўтварэннях з коранем **ступ-** і ў слове *хапіць* мяккасць зычнага перад суфіксам не захоўваецца: *абступіць — абступаць, адступіць — адступаць, адступіцца — адступацца, выступіць — выступаць, хапіць — хапаць* (але *расхапіць — расхоплівацъ*).

У радзе выпадкаў утварэнне гэтых відавых форм суправаджаецца чаргаваннямі зычных **з — ж, дз — дж, с — ш, сц — шч, б — бл, п — пл, м — мл, ф — фл, в — ўл** (з **вл**).

Чаргаванне **з — ж:** *абразіць — абражаць, адгрузіць — адгружаць, выразіць — выражаць, заразіць — заражаць, знізіць — зніжаць, падблізіцца — падбліжацца, сказіць — скажаць.*

Чаргаванне **с — ш:** *арасіць — арашаць, вымусіць — вымушаць, завысіць — завышаць, запрасіць — запрашаць, пагасіць — пагашаць, спакусіць — спакушаць, уваскрэсіць — уваскрашаць.*

Чаргаванне **дз — дж:** *адрадзіць — адраджаць, зарадзіць — зараджаць, зацвердзіць — зацвярджаць, згадзіцца — згаджацца, падрадзіць — падраджаць, перашкодзіць — перашкаджаць, прабудзіцца — прабуджацца, распарадзіцца — распараджацца, сцвердзіць — сцвярджаць.*

Чаргаванне **сц — шч:** *абвясціць — абвяшчаць, абчысціць — абчышчаць, апавясціць — апавяшчаць, аснасціць — аснашчаць, замясціць — замяшчаць, згусціць — згушчаць, патаўсціць — патаўшчаць, пачасціць — пачашчаць, прычасціць — прычашчаць, спрасціць — спрашчаць.*

Чаргаванне **ц — ч:** *абагаціць — абагачаць, намеціць — намячаць, перанасыціць — перанасычаць, прысвяціць — прысвячаць, скараціць — скарачаць.*

Чаргаванне **б — бл:** *абрабіць — абрабляць, адасобіць — адасабляць, аздобіць — аздабляць, азлобіць — азлабляць, аслабіць — аслабляць, заглыбіцца — заглыбляцца, зарыбіць — зарыбляць, паглыбіць — паглыбляць, перайвасобіць — перайвасабляць, раздрабіць — раздрабляць, улюбіць — улюбляць.*

Чаргаванне **п — пл:** *адляпіць — адляпляць, адтапіць — адтапляць, акрапіць — акрапляць, асляпіць — асляпляць, ахапіць — ахапляць, ачапіць — ачапляць, затапіць — затапляць, затупіць — затупляць, купіць — купляць, прахапіцца — прахаплядца, трапіць — трапляць.*

Чаргаванне **м — мл:** *аформіць — афармляць, ашаламіць — ашаламляць, выдумаць — выдумляць, выпраміць — выпрамляць, паведаміць — паведамляць, сашчаміць — сашчамляць.*

Чаргаванне **в — вл (вл=ўл):** *абнавіць — абнаўляць, адмовіць — адмаўляць, адставіць — адстаўляць, адушавіць — адушаўляць, аправіць — апраўляць, благаславіць — благаслаўляць, выявіць — выяўляць, дамовіцца — дамаўляцца, закрывіць — закрыўляць, збавіць — збаўляць, здзівіць — здзіўляць, знясlavіць — знеслаўляць, падавіць — падаўляць, пастанавіць — пастанаўляць, прынаравіць — прынараўляць, разгавецца — разгаўляцца, разявіць — разяўляць, уміласцівіць — уміласціўляць, усынавіць — усынаўляць.*

Толькі ў дзеясловах з адным коранем **-граф-** сустракаецца чаргаванне **ф — фл:** *адграфіць — адграфляць, празрафіць — праграфляць, разграфіць — разграфляць.*

Зусім нязначную колькасць відавых пар даюць суадносныя дзеясловы закончанага трывання з асновай на **у** і формы незакончанага трывання з суфіксам **-а-:** *закрануць — закранаць, крануць — кранаць, мінуць — мінаць, нахінуць — нахінаць, падапрануць — падапранаць, паглынуць — паглынаць, прамінуць — прамінаць, прыхінуць — прыхінаць, развінуць — развінаць.*

У частцы дзеясловаў з асновай на **у** ўтварэнне формы незакончанага трывання суправаджаецца чаргаваннем: нуль гука — **і, ы, я, -ін:** *запнуцца — запінацца, заснуць — засынаць, прадзьмуць — прадзімаць, прачнуцца — прачынацца, разагнуць — разгінаць, упамянуць — упамінаць.*

Мала відавых пар утвараюць дзеясловы закончанага трывання з асновай на **е** і формы незакончанага трывання з суфіксам **-а-:** *абгледзець— аблядаць, адкіпець — адкіпаць, самаўзгарэцца — самаўзгарацца.*

§ 806. Суадносныя відавыя пары ўтвараюць дзеясловы закончанага трывання на **-чы, -ці** і формы незакончанага трывання з суфіксам **-а-**. Колькасць відавых пар, у якія ўваходзяць дзеясловы з асновай на **-чы**, невялікая. У частцы форм відаўтварэнне суправаджаецца чаргаваннем **к — ч:** *аберагчы — аберагаць, абнемагчы — абнемагаць, адстрыгчы — адстрыгаць, асцерагчы — асцерагаць, дапамагчы — дапамагаць, знемагчы — знемагаць, перамагчы — перамагаць, прыпрэчы — прыпрагаць, абсячы — абсякаць, адрачыся — адракацца, дацячы — дацякаць, напячы — напякаць, прадрачы — прадракаць, разваланы — развалакаць, расцячыся — расцякацца.*

Колькасць відавых пар, у якія ўваходзяць дзеясловы закончанага трывання на **-ці** і формы незакончанага трывання з суфіксам **-а-**, невялікая. Пры ўтварэнні форм незакончанага трывання тут не адбываецца ніякіх змен, акрамя пераходу **э** ў **а**; у відавых парах назіраецца таксама чаргаванне **сц — д, сц — т, е — і:** *абскубці — абскубаць, абтрэсці — абтрасаць, аскрэбці — аскрабаць, выграбці — выграбаць, выскубці — выскубаць, падгрэбці — падграбаць, разгрызці — разгрызаць.*

Чаргаванне **сц — д:** *адпасці — адпадаць, адсесці — адсядаць, выкрасці — выкрадаць, дапрасці — дапрадаць, заесці — заядаць, занянасці — занепадаць, накласці — накладаць, раскласці — раскладаць, насесці — насядаць.*

Чаргаванне **сц — т:** *абплесці — абплятаць, адрасці — адрастаць, зацвісці — зацвітаць, нагнясці — нагнятаць, падмесці — падмятаць.*

Чаргаванне **е — і:** *абцерці — абціраць, аддзерці — аддзіраць, адперці — адпіраць, замерці — заміраць, распасцерці — распасціраць.*

§ 807. У некалькіх дзеясловах закончанага трывання, якія не маюць відавога суфікса, форма незакончанага трывання ўтвараецца пры дапамозе суфікса **-а-**, пры гэтым адбываецца чаргаванне **а (я) — -ін (-ын), а (я) — -ім (-ым):** *абжаць — абжынаць, абмяць — абмінаць, абцяць — абцінаць, зачаць — зачынаць, напяць — напінаць, пачаць — пачынаць, распяць — распінаць, абняць — абнімаць, адняць — аднімаць, даняць — данімаць, зняць — знімаць, падняць — паднімаць, пераняць — пераймаць, суняць — сунімаць.*

§ 808. Вельмі рэдкім сродкам утварэння суадносных відавых форм з'яўляецца чаргаванне нулявога гука з **і, ы:** *абажрацца — абжырацца, адабраць — адбіраць, ададраць — аддзіраць, падазваць — падзываць, перарваць — перарываць, праспаць — прасыпаць, адаслаць — адсылаць, выслаць — высцілаць, прыдрацца — прыдзірацца, спаслацца — спасылацца, адаслаць — адсылаць, выслаць — высцілаць.*

§ 809. У некаторых дзеясловах суадносныя відавыя формы адрозніваюцца толькі месцам націску. Часам у сувязі са зменай націску адбываецца пераход **е** ў **я, э** ў **а:** *адрэ́заць — адраза́ць, вы́мераць — вымяра́ць, вы́разаць — выраза́ць, зады́хацца — задыха́цца, закі́даць — закіда́ць, наты́каць — натыка́ць, рассы́паць — рассыпа́ць, склі́каць — скліка́ць.*

*Шквал сціхаў. На цёмным небасхіле* в ы́ с ы п а л а *ноч мільёны зор, і спяваў эвенк аб краі мілым, аб далёкім чуме паміж гор...* (А. З в о н а к. Там, дзе займаецца дзень). *Нападала роспач, а ці змора, —* в ы с ы п а́ л і *ў небе словы-зоры, асвятлялі сцежкі ў цёмным лесе...* (П. Б р о ў к а. Не паверу смерці). *Паходжвае Зюмель надзьмуты, надзейшы парадны мундзір: у дваццаць гадзін тры мінуты сяброў ён* з а к л і к а ў *на пір* (Я. К о л а с. Суд у лесе). *З узгорка несліся насустрач сонцу словы гімна, слаліся над сумнымі палявымі прасторамі,* з а к л і к а́ л і (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах).

§ 810. Нязначную колькасць відавых пар утвараюць суадносныя суплетыўныя формы дзеясловаў: *абламыць — абкладаць, браць — узяць, гаварыць — сказаць, легчы — класціся, разысціся — разыходзіцца, увайсці — уваходзіць.*

§ 811. Сярод утварэнняў незакончанага трывання ёсць нямала двaякіх форм. Гэта перш за ўсё формы з суфіксамі **-а-** і **-ва- (-іва-, -ыва-).** Нават слоўнікі нярэдка даюць па дзве, а часам і больш форм незакончанага трывання. Часцей за ўсё на першым месцы аказваюцца формы з суфіксам **-а-**, але тэндэнцыя да пашырэння форм з суфіксам **-ва- (-іва-, -ыва-)** з'яўляецца вельмі выразнай і прыкметнай. Ужыванне таго або іншага суфікса незакончанага трывання часам звязваецца са стылістычнымі мэтамі. Нярэдка суфікс **-ва- (-іва-, -ыва-)** у большай ступені ўносіць адценне паўтаральнасці дзеяння, яго кратнасці. Такое адценне ярчэй праяўляецца пры выражэнні прамога аб'екта формай множнага ліку.

Ад дзеяслова закончанага трывання могуць утварацца дзве формы незакончанага трывання і з суфіксамі **-ва-** і **-іва-**; **-ва-** і **-оўва-**; **-оўва-** і **-іва-**. Пры дзеясловах, у якіх форма трывання змяняецца пры дапамозе змены націску, могуць быць дзеясловы незакончанага трывання, утвораныя і шляхам далучэння суфікса.

Варыянты форм незакончанага трывання назіраюцца амаль пры ўсіх асновах дзеясловаў закончанага трывання. Аднак часцей за ўсё такія паралельныя ўтварэнні бываюць пры дзеясловах з асновамі на **і, ы, ці.** Варыянтныя формы не ў аднолькавай ступені ўласцівы розным стылям мовы. Формы на **-а- (-я-)** пераважна з'яўляюцца кніжнымі, формы на **-ва- (-іва-, -ыва-)** — гутарковымі: *абляпіць — абляпляць, аблепліваць; абняславіць — абнеслаўляць, абняслаўліваць; абурыць—абураць, абурваць; адшчапіць — адшчапляць, адшчэпліваць; апярэдзіць — апераджаць, апярэджваць; ахаладзіць — ахаладжаць, ахалоджваць; вывалачы — вывалакаць, вывалакваць; выгара́ць — вы́гараць, выга́рваць; вылічыць — вылічаць, вылічваць; вытрымаць — вытрымоўваць, вытрымліваць; вышчарбіць — вышчарбляць, вышчэрбліваць; вышчарыць — вышчараць, вышчэрваць* і многа іншых.

*Палянку сцяной* *а к р у ж ы л і* *елкі* (І. Грамовіч. У лесе на паляне). *Ціхі сонечны лес* *а б к р у ж а ў* *невялікую паляну* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Лес* *а б к р у ж в а ў* *гэту мясціну з трох бакоў* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Выгляд сярэдняй школы заўсёды* *а б у д ж а ў* *у яго неадольнае жаданне працаваць* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *А месяц* *а б у д ж в а ў* *праявы у каруселях снегавых* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). ... *Пазычыў жыта на хлеб і* *а д р а б л я ў* *за яго* (П. Галавач. Не так). *Доўг трэба аддаваць, а процанты* *а д р о б л і в а ц ь* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Ці ж Паўлу прыемна* *в ы с л у х в а ц ь* *грызню? За шапку і выйшаў за дзверы* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). Цёця Каця. *Бач, ласы які да бабскіх плётак! У самога вушы вялікія, хадзі ды* *в ы с л ух о ў в а й!* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

§ 812. У многіх дзеясловах незакончанага трывання адбываецца ўзнаўленне этымалагічных галосных (гл. § 796—800).

*І раптам, падкраўшыся зусім блізка,* [воўк] *маланкаю кідаецца на вепра і хватае яго зубамі за чэрава знізу і з такою ж быстрынёю* *а дс к о к в а е* *ад яго* (Я. Колас. Дрыгва). *Наперадзе дарогу* *з а г а р од ж в а ў* *лес, і хто ведае, куды і колькі часу трэба ісці, каб абмінуць яго* (А. Якімовіч. У дарозе). *Ён цяпер цёрся паміж людзей і ўсё як бы каго* *ў г а в о р в а ў:* *«Дык няйначай трэба гэта, мужчынкі, зрабіць»* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Сонцава не прыйшлося* *ў п р о ш в а ц ь* *расказаць пра сястру: звычайна маўклівы, ён на гэты раз пачаў гаварыць нечакана ахвотна* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Аднак у мове мастацкай літаратуры часам захоўваецца **а** ў тых выпадках, калі павінен быў бы ўзнавіцца гук **о.** Такое ўжыванне з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*А д с к а к в а е* *хрусткі кавалачак лёду* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Паблізу рыбу* *в ы л а ў л і в а ю ц ь* (Э. Самуйлёнак. Буду-

чыня). *Дружна дамбу ўзяліся рабіць на зары — загараджвалі мы шлях Пятлянцы стары* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Магдалена тым жа вечарам пачала ўгаварваць дачку* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *На лаянку прыйшоў Лявон, пачаў упрашваць матку пакінуць лаянку, не крыўдзіць Ніны* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

### Ступеннае ўтварэнне трывання

§ 813. Ад дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе прыставак утвараюцца дзеясловы закончанага трывання. Большасць з іх набывае новае лексічнае значэнне. У якасці сродкаў словаўтварэння выступаюць прыстаўкі **аб- (аба-, а-), ад- ( ада-), вы-, да-, з- (с-, са-), за-, на-, над- (нада-), неда-, па-, пад- (пада-), папа-, пера-, пра-, процi-(і супраць-), пры- раз- (раза-, рас-), у- (ува-), уз- (уза-, ус-)**. Некаторыя з гэтых прыставак пры пэўных групах дзеясловаў служаць для змянення формы трывання: **аб- (аба-, а-), ад-, вы-, з- (с-, са-), за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-, уз-.**

Дзеясловы, якія змянілі форму трывання, але захавалі ранейшае лексічнае значэнне, складаюць суадносную відавую пару з беспрыставачнымі дзеясловамі. Але і тыя дзеясловы, далучэнне да якіх прыстаўкі ўтварыла новую форму трывання, і тыя, якія змянілі сваё лексічнае значэнне, складаюць першую ступень відавога ўтварэння: *пісаць — напісаць; пісаць — распісаць, выпісаць, запісаць, надпісаць, падпісаць, перапісаць; лічыць — падлічыць; лічыць — аблічыць, адлічыць, вылічыць, залічыць, налічыць, недалічыць, разлічыць, улічыць.*

Да першай ступені відавога ўтварэння адносяцца дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-а-** і адпаведныя ім формы закончанага трывання з прадуктыўным суфіксам **-ну- (-ану-)**. Гэты суфікс нярэдка надае слову адценне імгненнасці дзеяння, яго інтэнсіўнасці, аднакратнасці: *бадаць — баднуць, бахаць — бахнуць, бомкаць — бомкнуць, боўтаць — боўтнуць, бухаць — бухнуць, войкаць — войкнуць, вякаць — вякнуць, гікаць — гікнуць, гопаць — гопнуць, дзвынкаць — дзвынкнуць, калыхаць — калыхнуць, кукарэкаць — кукарэкнуць, лопаць — лопнуць, мазаць — мазнуць, мармытаць — мармытнуць, нюхаць — нюхнуць, папікаць — папікнуць, плюскаць — плюснуць, стукаць — стукнуць, сыкаць — сыкнуць, фукаць — фукнуць.*

§ 814. Другая ступень відавога ўтварэння заключаецца ў тым, што прыставачныя дзеясловы закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў **-ва- (-іва-, -ыва-), -а- (-я-), -оўва-** набываюць форму незакончанага трывання: *аблакаціцца — аблакочвацца, аддзерці — аддзіраць, заараць — заворваць, захінуць — захінаць, зачысціць — зачышчаць, змахнуць — змахваць, закаяцца — закайвацца, запячы — запякаць, засланіць — засланяць, застраміць — застрэмліваць, паднацiснуць — паднацiскаць, падпіхнуць — падпіхаць — падпіхваць, падтачыць — падточваць, перагрузіць — перагружаць, перапалоць — пераполваць, перапрэць — пераправаць, пераставіць — перастаўляць, назначыць — назначаць, наліпнуць — наліпаць, напытаць — напытваць, пазнаць — пазнаваць, правіснуць — правісаць, прарасці — прарастаць, раскіснуць — раскісаць, скарыстаць — скарыстоўваць, счарпаць — счэрпваць, урубіцца — урублівацца.*

Звычайна ад дзеясловаў, якія пры далучэнні прыстаўкі не змяняюць свайго лексічнага значэння, не ўтвараюцца новыя відавыя формы (формы незакончанага трывання пры дапамозе суфікса). Але часам усё ж такія формы сустракаюцца. У такіх выпадках беспрыставачны і прыставачны дзеясловы незакончанага трывання выступаюць як сінонімы. Яны адносяцца або да розных стыляў, або маюць некаторыя адценні ў значэнні. Дзеяслоў з суфіксам незакончанага трывання пераважна ўказвае

на большую ступень праяўлення дзеяння, на большую мнагакратнасць, часам адрозненні паміж беспрыставачным і прыставачным дзеясловамі незакончанага трывання звязаны з большай або меншай канкрэтнасцю дзеяння: *публікаваць — апублікаваць — апублікоўваць; стрыгчы — абстрыгчы — абстрыгаць; шліфаваць — адшліфаваць — адшліфоўваць; гладзіць — выгладзіць — выгладжваць; друкаваць — выдрукаваць — выдрукоўваць; мераць — вымераць — вымяраць; расці — вырасці — вырастаць; райнаваць — выраўнаваць — выраўноўваць; тапіць — вытапіць — вытопліваць; брукаваць — забрукаваць — забрукоўваць* і г. д.

*Цяпер, трапіўшы сюды, прымаю яе як рэвалюцыю інтэрнацыянальную, а ўсе яе ранейшыя ўяўленні даводзіцца разбураць* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Вайна без літасці разбурыла ўсе іх планы* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Там, дзе важылі жыта, мужчын было, як вады ў поўным збанку* (К. Чорны. Максімка). *Узважвалі на далонях, пацілалі адзін кавалак аб другі, ацэньвалі бляск на зломе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *За годам год жыццё гартуе нас* (В. Вітка. Бацька). *Хіба мала першамайцы загартоўвалі сябе, рыхтуючыся да рашаючай бойкі* (І. Навуменка. Вайна каля Цітавай копанкі). *Вытворчасць гэту, безумоўна, трэба было неяк выкарчоўваць. Але як і калі было яе карчаваць, калі сабе на сон ён рэдка выкройваў не больш чатырох-пяці гадзін у суткі* (А. Васілевіч. Дома). *Скончылася тым, што Саламон яму дыктаваў, а той пад дыктоўку «шліфаваў» матывіроўкі...* (З. Бядуля. Таварыш Мінкін). *Гарбулёў гаварыў гладка, адшліфоўваў кожны сказ, даваў прыгожыя слоўцы* (там жа).

§ 815. Трэцяя ступень відавога ўтварэння заключаецца ў тым, што да прыставачнага дзеяслова незакончанага трывання далучаецца прыстаўка **на-** або **па-**. Часам гэтыя прыстаўкі ці іх спалучэнне **(пана-)** утвараюць дзеяслоў закончанага трывання непасрэдна ад дзеяслова першай ступені, але ў гэтым выпадку ва ўтварэнні новага слова ўдзельнічае і суфікс. Дзеясловы трэцяй ступені відавога ўтварэння заўсёды маюць новае лексічнае значэнне: *наабабіваць, наабіраць, наабточваць, наадмерваць, наадсякаць, навыграбаць, навыточваць, навычэрпваць, назапісваць, назахопліваць, назгортваць, наззываць, нападвязваць, нападцягваць, наперадаваць, наперасаджваць, напрасвідроўваць, напратыкаць, напрывабліваць, напрыклейваць, наразвешваць, наразломліваць, нарасточваць, насаскрабаць, насточваць, наўкопваць, наўскідваць, паабварваць, паабчышчаць, паадгладжваць, паадлічваць, паадсыхаць, падапілоўваць, падачытваць, пазагароджваць, пазакрэсліваць, пазашпільваць, пазгортваць, пазнішчаць, павыбельваць, павыдойваць, павыцярушваць, панасушваць, пападтыкаць, паперакручваць, паразвальваць* і інш.

Такім чынам, у ступенным утварэнні трывання яскрава выдзяляюцца дзеясловы, якія пры далучэнні прыстаўкі або суфікса набываюць новае лексічнае значэнне, і дзеясловы, якія пры далучэнні прыстаўкі або суфікса захоўваюць ранейшае лексічнае значэнне. Першыя з гэтых дзеясловаў уступаюць у новыя суадносныя відавыя пары, другія, як правіла, не даюць такіх утварэнняў.

| | | |
|---|---|---|
| I ступень: | *рабіць — зрабіць* | *рабіць — вырабіць* |
| II ступень: | | *вырабіць — выраблаць* |
| III ступень: | | *навырабляць, панавырабляць* |

### *Няпарныя дзеясловы*

§ 816. Значная колькасць дзеясловаў не ўваходзяць у суадносныя відавыя пары, г. зн. з'яўляюцца **н я п а р н ы м і**, або аднавідавымі. Аднавідавымі могуць быць беспрыставачныя дзеясловы і дзеясловы з прыстаўкамі колькасна-часавага значэння. Дзеясловы з прыстаўкамі прасторавых адносін маюць суадносныя відавыя формы.

### Няпарныя дзеясловы незакончанага трывання

§ 817. Дзеясловы незакончанага трывання, якія абазначаюць бесперапыннае дзеянне, не звязанае з вынікам ці з асобнымі момантамі працякання, дзеянне, якое не можа разумецца як імгненнае або кароткачасовае, не ўтвараюць адпаведнай формы закончанага трывання. Не маюць суадносных відавых утварэнняў многія дзеясловы са значэннем перамяшчэння, стану, адыменныя дзеясловы з суфіксам **-ніча-**, безасабовыя дзеясловы: *агінацца, аднеквацца, адпавядаць, адсутнічаць, апавядаць, апасацца, апякунстваваць, арудаваць, бадзяцца, балаганіць, беззаконнічаць, важнічаць, валацужнічаць, верхаглядпічаць, вымагаць, вяшчаць, гаманіць, галадаць, ганарыцца, гультаяваць, дабрадзейнічаць, далікатнічаць, дармаеднічаць, дзекаць, дзеяць, дзічыцца, завяшчаць, загадваць, залежаць, замінаць, засціць, зводнічаць* і інш. Усяго такіх дзеясловаў налічваецца звыш 150.

§ 818. Не маюць суадносных форм закончанага трывання многія прыставачныя ўтварэнні незакончанага трывання з суфіксамі **-ва-, -іва-, -ыва-.** Гэта дзеясловы з прыстаўкай **па-**, якія абазначаюць дзеянне, што адбываецца перыядычна, час ад часу або праяўляецца ў слабай ступені, дзеясловы з прыстаўкамі **пад-** і **пры-**, якія абазначаюць дзеянне, што суправаджае іншае дзеянне; дзеясловы з прыстаўкай **перад-**, якія маюць значэнне працяглага і ўзаемнага для некалькіх прадметаў (асоб, істот) дзеяння; дзеясловы з прыстаўкай **раз- (рас-)**, якія ўказваюць на ўзмоцненае праяўленне дзеяння: *паблісквадь, пабразгваць, павісквадь, пагладжваць, пагукваць, падрэмваць, пазвоньваць, пакрыкваць, пакусваць, палусквадь, палясквадь, паморгваць, панукваць, папісваць, паплюхваць, парыпваць, паскубваць, пастукваць, патузваць, пафырквадь, пахвальваць, пацмокваць, пачмыхваць, пашчоўкваць, пашчыпваць, падзвоньваць, падпяваць, падсвістваць, падцмокваць, падшчоўкваць, перабрэхвацца, перастрэльвацца, перастуквацца, прыплясваць, прысвістваць, прыстукваць, прытупваць, прыцмокваць, прышэптваць, разгульваць, распяваць, расхаджваць* і інш.

### Няпарныя дзеясловы закончанага трывання

§ 819. Некаторыя дзеясловы закончанага трывання з прадуктыўным суфіксам **-ну-**, якія абазначаюць раптоўнае, аднакратнае дзеянне, пераход з аднаго стану ў другі, не ўтвараюць адпаведных форм незакончанага трывання: *адкаснуцца, адхіснуць, апынуцца, ахамянуцца, ачнуцца, рухнуць, рынуць, сунуць.*

§ 820. Многія прыставачныя дзеясловы не маюць адпаведных па віду форм незакончанага трывання. Агульнае для іх — абазначэнне пачатку дзеяння або завяршэння яго; дзеясловы, якія ўказваюць на заканчэнне дзеяння, могуць мець адценні «энергічнае, моцнае праяўленне дзеяння», «немагчымасць далейшага працякання дзеяння». Значэнне пачатку дзеяння выражаюць многія дзеясловы з прыстаўкамі **за-, па-, раз- (рас-), уз- (ус-)**, значэнне завяршэння дзеяння маюць многія дзеясловы з прыстаўкамі **аб-, ад-, вы-, да-, за-, з-, на-, па-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас-), у-:** *абблукаць, абскакаць, адбалбатаць, адгараваць, адгрукатаць, ад'енчыць, адкрасаваць, адкрычаць, адкукаваць, адпакутаваць, адшумець, выараць, выенчыць, выпакутаваць, выхадзіць, дабегацца, даваявацца, дагаспадарыцца, забалбатаць, заблішчаць, забразгаць, зведаць, згаладацца, з'ездзіць, набедавацца, нагаладацца, пабадзяцца, пабалаваць, пабоўтаць, пабразгаць, пабраць, паварыць, павезці, павеяць, павудзіць, пераспаць, перахварэць, прабегаць, прагаварыць, прадрамаць, праенчыць, прачакаць, прывянуць, прыгоркнуць, прыдбаць, разбурчацца, разбуяніцца, раскрычацца, распецца, расхацець, расхварэцца, скусаць, сха-*

*дзіць, убегацца, укарміць, узбегацца, узбушавацца, узварухнуцца, узгуляцца, уз'юшыцца* і інш.

§ 821. Прыставачныя дзеясловы, да якіх далучаюцца яшчэ прыстаўкі **на-, па-**, таксама з'яўляюцца няпарнымі. У гэтых дзеяслоўных утварэннях атрымліваюцца спалучэнні дзвюх прыставак: *наабворваць, наабломліваць, наабмотваць, наадбіраць, нааддзіраць, наапілоўваць, навыбіваць, навыварочваць,назавострываць, назагортваць, назвальваць, назганяць, назграбаць, нападкрэсліваць, нападсоўваць, напераздымаць, наперакладаць, наперастаўляць, напракопваць, напрапорваць, напрапускаць, напратоптваць, напрыбудоўваць, напрывязваць, напрыдумваць, наразліваць, нарасказваць, нарасколваць, нараскручваць, наскочваць, нассыпаць, насчэпліваць, наўзвалакваць, наўсплываць, паабкошваць, паапаўзаць, паапускаць, паабсыхаць, паадвучваць, паадгніваць, павывінчваць, павыгароджваць, падажынаць, падаплятаць, падаядаць, пазабягаць, пазагортваць, пазакрываць, пазараўноўваць, пазбіраць, пазгрызаць, паскусваць, пасашморгваць, панагінацца, панакурваць, папабразгаць, пападкрэсліваць, пападсцілаць, пападціраць, пападціскаць, папераграбаць, паперакусваць, паперачытваць, папрамакаць, папрасвідроўваць, папраточваць, папрацэджваць, папрыгортваць, папрыкіпаць, паразгладжваць, парасплюшчваць, парасскубваць, парасцвітаць, парасшнуроўваць, паўгравацца, паўздзіраць, паўзлазіць, паўліпаць, паўмуроўваць, паўплятаць, паўспухаць, паўстаўляць, паўсхопліваццa, паўсцягваць* і інш.

### Двухвідавыя дзеясловы

§ 822. Дзеясловы, якія ў адной форме могуць выражаць значэнні то закончанага, то незакончанага трывання, называюцца двухвідавымі. Параўн. у наступных сказах значэнні дзеяслова *ліквідаваць*: *«Аб дзядзі Косці, брат, брэшуць, штодня брэшуць, усё ліквідуюць* (незакончанае трыванне). *А ён недзе жыве і ў вус не дзьме, не зважае на ўсю гэту брахню... Такія людзі не так ужо лёгка трапляюцца ім у лапы. Ён вось з СС выхваляўся сёння, што ліквідавалі* (закончанае трыванне). *А пан саветнік будзе зноў сёння пацець усю ноч, са страхам чакаючы ўсё новых і новых дыверсій. Проста лысіну сабе выскубае ад злосці». — «А табе адкуль гэта вядома?» — «Ды я ж служу ў яго, у дыспетчарскім упраўленні. Адтуль мне відней, як і дзе яны ліквідавалі. Ліквідуюць-ліквідуюць, а дарогі трашчаць...»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Двухвідавымі з'яўляюцца многія дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа (дзеясловы з суфіксамі **-ава-, -ірава-**), а таксама асобныя дзеясловы на **-аць, -іць.** Сярод гэтых дзеясловаў многа запазычаных: *аб'ектываваць, авансаваць, адрасаваць, акліматызаваць, акрэдытаваць, актывізаваць, акупіраваць, акцэнтаваць, амартызаваць, амніcціраваць, ампутаваць, анатаваць, ангажыраваць,ануляваць, вітамінізаваць, вульгарызаваць, газіраваць, газіфікаваць, гарантаваць, гафрыраваць, грануляваць, дагматызаваць, дазіраваць, дакументаваць, даследаваць, датаваць, драматызаваць, дыскваліфікаваць, ігнараваць, ідэалізаваць, ізаляваць, імпартаваць, індустрыялізаваць, індывідуалізаваць, інструментаваць, інтэнсіфікаваць, інтэрнацыяналізаваць, каапераваць, каардынаваць, каланізаваць, калектывізаваць, кальцаваць, камандзіраваць, кананізаваць, канвеерызаваць, кандэнсаваць, канкрэтызаваць, канстатаваць, канфіскаваць, лакалізаваць, легалізаваць, лімітаваць, мадэліраваць, мадэрнізаваць, манапалізаваць, манкіраваць, матарызаваць, матывіраваць, матэрыялізаваць, машынізаваць, механізаваць, нармалізаваць, нарміраваць, натуралізаваць, нацыяналізаваць, нейтралізаваць, нівеліраваць, палярызаваць, парадзіраваць, паралізаваць, пастуліраваць, пастэрызаваць, пашпартызаваць, персаніфікаваць, прэміраваць, радыёфікаваць,*

*рамантызаваць, расследаваць, ратыфікаваць, рацыяналізаваць, рэабілітаваць, рэагаваць, рэалізаваць, рэвалюцыянізаваць, рэгламентаваць, рэквізаваць, рэпатрыіраваць, рэстаўрыраваць, салідарызавацца, санкцыяніраваць, сервіраваць, сімвалізаваць, сімуляваць, сінтэзаваць, сістэматызаваць, тарыфікаваць, трансліраваць, транспартаваць, тыпізаваць, тэлефанізаваць, тэрарызаваць, уніфікаваць, утылізаваць, фарсіраваць, фінішаваць, фрэзераваць, характарызаваць, цэнтралізаваць, эвакуіраваць, экранізаваць, электрызаваць, электрыфікаваць, яравізаваць* і інш.

Двухвідавыя дзеясловы ўсё часцей пачынаюць утвараць асобныя формы для закончанага і незакончанага трывання. Утварэнне такіх форм адбываецца або пры дапамозе суфікса (формы незакончанага трывання), або пры дапамозе прыставак (формы закончанага трывання). Гэтыя новаўтвораныя формы часам могуць змяняць значэнне трывання пры дапамозе тых жа сродкаў, што і іншыя парныя дзеясловы: *арыентавацца — зарыентавацца, дэзарганізаваць — дэзарганізоўваць* і г. д.

*У пайзмроку Мацуту цяжка было а р ы е н т а в а ц ц а* (незакончанае трыванне) *у мясцовасці* (В. В о л ь с к і. У лясах над Бярозай). *Яна павінна а р ы е н т а в а ц ц а* (закончанае трыванне), *вычакаць момант, мець сваю ініцыятыву і сказаць, каму перадаць закапаны куфар. Для гэтага яна ўжо цяпер павінна трымацца блізка фронта, на ўсходзе, блізка ўсходняга гарадка* (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Яны не маглі адразу правільна разабрацца, з а р ы е н т а в а ц ц а ў падзеях, якія тады адбываліся* («Камуніст Беларусі»). *Штораз ён п р а п а н а в а ў* (незакончанае трыванне) *ёй такія праекты і замыслы, што Надзя аж за галаву хапалася* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ён сам пайшоў да іх, п р а п а н а в а ў* (закончанае трыванне) *свае паслугі, паставіў умову: працаваць таемна* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *«Вось тут трэба прысесці», — з а п р а п а н а в а л а Зося* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Я вось расказвала табе аб адным чалавечку, што мне атруту п р а п а н о ў в а ў...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

### Катэгорыя трывання ў дзеясловах са значэннем руху

§ 823. Беспрыставачныя дзеясловы са значэннем руху адносяцца да незакончанага трывання. У адпаведнасці з асаблівасцямі лексічнага значэння яны падзяляюцца на два падвіды. Дзеясловы руху, якія абазначаюць дзеянні, што адбываюцца без перапынку, у адным кірунку і ў пэўны час, адносяцца да някратнага падвіда, яны ўказваюць на лінейны рух. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянні, што адбываюцца з перапынкамі, не ў адзін прыём, не ў адным кірунку і не ў адзін час, адносяцца да кратнага падвіда, іх яшчэ называюць маторна-кратнымі дзеясловамі. Дзеясловы кратнага і някратнага падвідаў утвараюць адпаведныя пары, прычым некаторыя з іх маюць суплетыўныя асновы: *бегаць — бегчы, ездзіць — ехаць, хадзіць — ісці, катаць — каціць, лазіць — лезці, лятаць — ляцець, насіць — несці, поўзаць — паўзці, плаваць — плыць, саджаць — садзіць, цягаць — цягнуць.*

*Б я ж ы ц ь і гукае: «Чаго вы? Не бойцеся, цётухны, маткі!» А цёткі стралою ў дубровы, у лагер б я г у ць без аглядкі* (Я. К о л а с. Адплата). *Замаразкі пачыналіся першыя..., а я кожную суботу да сваіх б е г а л а вечарамі...* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *В ё з чалавек у горад дровы прадаваць* (А. Я к і м о в і ч. Бацькаў дар). *Была ў яе калясачка, у якой в а з і л а калісь маленькага Ігнася* (Р. М у р а ш к а. Сын).

Дзеясловы кратнага падвіда *ганяць, лятаць* пры далучэнні да іх прыставак у большасці выпадкаў не змяняюць відавога значэння, прыставачны дзеяслоў застаецца дзеясловам незакончанага трывання. Дзеясловы някратнага падвіда *гнаць, ляцець* пры далучэнні да іх прыстаўкі становяцца дзеясловамі закончанага трывання. Прыставачныя дзеясловы някратнага і кратнага падвідаў уступаюць у суадносныя відавыя пары:

*абагнаць — абганяць, адагнаць — адганяць, выгнаць — выганяць, дагнаць — даганяць, сагнаць — зганяць, загнаць — заганяць, нагнаць — наганяць, падагнаць — падганяць, перагнаць — пераганяць, прагнаць — праганяць, прыгнаць — прыганяць, разагнаць — разганяць, узагнаць — узганяць, абляцець — аблятаць, адляцець — адлятаць, вылецець — вылятаць, даляцець — далятаць, зляцець — злятаць, заляцець — залятаць, наляцець — налятаць, падляцець — падлятаць, пераляцець — пералятаць, праляцець — пралятаць, прыляцець — прылятаць, узляцець — узлятаць.*

Дзеясловы някратнага падвіда *бегчы, везці, весці, ісці, каціць, лезці, несці, паўзці, садзіць, цягнуць,* калі да іх далучаецца прыстаўка, становяцца дзеясловамі закончанага трывання. Прыставачныя дзеясловы закончанага трывання пры дапамозе суфікса могуць утвараць формы незакончанага трывання: *аббегчы — аббягаць, адбегчы — адбягаць, выбегчы — выбягаць, забегчы — забягаць, прыбегчы — прыбягаць; абвезці — абвозіць, адвезці — адвозіць, вывезці — вывозіць, завезці — завозіць, прывезці — прывозіць; абвесці — абводзіць, адвесці — адводзіць, вывесці — выводзіць, завесці — заводзіць, прывесці — прыводзіць; абысці — абыходзіць, адысці — адыходзіць, выйсці — выходзіць, зайсці — заходзіць, прыйсці — прыходзіць; абкаціць — абкочваць, адкаціць — адкочваць, выкаціць — выкочваць, закаціць — закочваць, прыкаціць — прыкочваць; аблезці — аблязаць, адлезці — адлязаць, вылезці — вылязаць, залезці — залязаць, прылезці — прылязаць; абнесці — абносіць, аднесці — адносіць, вынесці — выносіць, занесці — заносіць, прынесці — прыносіць; абпаўзці — абпаўзаць, адпаўзці — адпаўзаць, выпаўзці — выпаўзаць, запаўзці — запаўзаць, прыпаўзці — прыпаўзаць; абсадзіць — абсаджваць, адсадзіць — адсаджваць, высадзіць — высаджваць; абцягнуць — абцягваць, адцягнуць — адцягваць.*

Дзеясловы кратнага падвіда *бегаць, брадзіць, вазіць, вадзіць, катаць, лазіць, насіць, поўзаць, саджаць, хадзіць, цягаць,* набываючы прыстаўку, становяцца дзеясловамі закончанага трывання, часцей за ўсё няпарнымі. Дзеясловы *ганяць* і *лятаць* у спалучэнні з прыстаўкай могуць таксама, як і названыя вышэй, выражаць значэнне поўнай завершанасці дзеяння, вычарпанасці яго і г. д. У гэтым выпадку і яны з'яўляюцца няпарнымі дзеясловамі закончанага трывання: *аббегаць, абвазіць, абвадзіць, абкатаць, аблазіць, абнасіць, абпоўзаць, абсаджаць, абхадзіць, абцягаць, адбегаць, выбегаць, прабегаць* і інш.; *абганяць, аблятаць усюды, адганяць, адлятаць сваё* і інш.

Дзеясловы кратнага падвіда з прыстаўкай **з-**, якія абазначаюць рух туды і назад, з'яўляюцца дзеясловамі закончанага трывання: *збегаць, звазіць, зганяць, знасіць* і інш.

Дзеясловы някратнага падвіда з прыстаўкай **па-** ўказваюць на пачатак дзеяння: *пабегчы, пабрысці, павезці, павесці, пагнаць* і інш., дзеясловы кратнага падвіда з гэтай жа прыстаўкай указваюць на дзеянне, якое адбываецца абмежаваны час: *пабегаць, пабрадзіць, павазіць, павадзіць* і інш.

З а ў в а г а. Калі дзеяслоў руху ўжываецца ў пераносным значэнні, то адпаведнасці кратных і някратных дзеясловаў могуць парушацца. Р у с а к о в і ч. *Я в я д у перапіску з вадзіцелямі* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба). *Партызаны в я л і прыцэльны агонь* (І. Г у р с к і. Лясныя салдаты).

## СПРАЖЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 824. С п р а ж э н н е — гэта сукупнасць форм словазмянення дзеяслова.

У сістэму форм словазмянення дзеяслова ўваходзяць у першую чаргу формы л а д у (абвесны, загадны і ўмоўны). Абвесны лад мае формы

часу (цяперашні, прошлы і будучы). У кожным часе дзеяслоў мае формы ліку (адзіночны і множны) і формы асобы (першая, другая і трэцяя). Дзеясловы прошлага часу адзіночнага ліку абвеснага ладу і адзіночнага ліку ўмоўнага ладу маюць, акрамя таго, і формы роду (мужчынскі, жаночы і ніякі).

Формы асобы дзеясловаў называюцца спрагальнымі. Такія ж дзеяслоўныя ўтварэнні, як інфінітыў (неазначальная форма), дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе, па асобах не змяняюцца і таму да спрагальных форм не адносяцца. Аднак інфінітыў, дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе маюць многа рыс, агульных са спрагальнымі формамі (інфінітыў, а таксама дзеепрыслоўе — трыванне і стан; дзеепрыметнік — лік, час, трыванне і стан). Па гэтай прычыне інфінітыў, дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе ўключаюцца ў агульную сістэму дзеяслоўных форм.

Такім чынам, сістэма форм дзеяслова складаецца з інфінітыва як зыходнай, пачатковай формы дзеяслова, спрагальных форм абвеснага, загаднага і ўмоўнага ладу, неспрагальных форм — дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя.

Заўвага. Асобныя дзеясловы (або групы дзеясловаў) не ўтвараюць усіх форм, уласцівых катэгорыі дзеяслова. Асабліва гэта датычыць 1-ай асобы адзіночнага ліку дзеяслова (так, амаль не ўжываюцца ў 1-ай асобе адзіночнага ліку дзеясловы *драбязіць*, *шалясцець* і інш.), дзеепрыметнікаў залежнага стану (напрыклад, ад дзеясловаў *бурчаць, дрыжаць, імчаць* і інш.).

§ 825. Усе дзеяслоўныя формы ўтвараюцца ад дзвюх асноў: асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу (а ў дзеясловах закончанага трывання — ад асновы будучага простага часу).

Ад асновы інфінітыва ўтвараюцца формы прошлага часу абвеснага ладу, формы ўмоўнага ладу, дзеепрыметнікі прошлага часу і дзеепрыслоўі на **-шы, -ўшы.**

Ад асновы цяперашняга часу ўтвараюцца асабовыя формы цяперашняга (будучага простага) часу абвеснага ладу, формы загаднага ладу, дзеепрыметнікі цяперашняга часу і дзеепрыслоўі на **-учы, -ючы.**

Асновай інфінітыва лічыцца аснова без інфінітыўнага суфікса **-ць, -ці, -чы,** напрыклад: *касі-ць (касі-ў, касі-ў бы, касі-ўшы), кры-ць (кры-ў, кры-лі б, кры-ты, кры-ўшы), піса-ць (піса-ў, піса-лі б, піса-ны, піса-ўшы), чыта-ць (чыта-ў, чыта-ны, чыта-ўшы), бра-ць (бра-ў, бра-лі б, бра-ны, бра-ўшы), пая-ць (пая-ў, пая-ў бы, пая-ны, пая-ўшы), мле-ць (мле-ў, мле-ў бы, мле-ўшы), няс-ці (нёс бы, нёс-шы), паўз-ці (поўз, поўз бы, поўз-шы), бераг-чы (бярог, бярог-шы).*

Аснова інфінітыва, як гэта відаць з прыкладаў, супадае з асновай прошлага часу, і таму замест паняцця «аснова інфінітыва» можа ўжывацца паняцце «аснова прошлага часу». Такія ж варыянты асноў, як **няс- — нёс-, паўз- — поўз-, бераг- — бярог-,** залежаць выключна ад пазіцыйных чаргаванняў галосных.

Заўвага. Для вызначэння асновы, ад якой утвараюцца формы ўмоўнага ладу, дзеепрыметнікі прошлага часу і дзеепрыслоўі на **-шы, -ўшы,** у дзеясловах некаторых непрадуктыўных груп лепш карыстацца не асновай інфінітыва, а асновай прошлага часу. Параўн.: *пя-чы,* але *пёк, пёк бы, пек-шы; ся-чы (се-ч),* але *сек, сек бы, сек-шы; выцвіс-ці,* але *выцві-ў, выправяну-ць,* але *правя-ў, правя-ў бы, правя-лы, правя-ўшы; выцвіс-ці,* але *выцві-ў, выцві-ў бы, выцві-лы, выцві-ўшы.* Такое несупадзенне асновы прошлага часу і асновы інфінітыва тлумачыцца тым, што ў гэтых асновах адбыліся пэўныя гістарычныя чаргаванні зычных.

Асновай цяперашняга часу лічыцца аснова 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу абвеснага ладу без асабовых канчаткаў **-уць (-юць), -аць (-яць):** *няс-уць (няс-у, няс-еш, няс-і), паўз-уць (паўз-у, паўз-і), бераг-уць (бераг-у,* у астатніх формах — з чаргаваннем **г — ж:** *бераж-эш, бераж-ы), бяр-уць (бяр-у, бяр-эш, бяр-ы), піш-уць (піш-у, піш-аш, піш-ам, піш-ы), сцел-юць (сцел-еш, сцел-ем,*

*сцял-і), маўч-аць (маўч-у, маўч-ыш, маўч-ым, маўч-ыце, маўч-ы), кос-яць (кос-іш, кос-іць, кас-і).*

У тых выпадках, калі асабовыя канчаткі **-юць, -яць** знаходзяцца пасля галосных і літары **ю, я** абазначаюць спалучэнні **j** з наступнымі **у** або **а**, то **j** адносіцца да асновы, напрыклад: *крыj-уць (крыj-у, крыj-еш, крыj=крый), чытаj-уць (чытаj-у, чытаj-еш, чытаj=чытай), паяj-уць (паяj-у, паяj-ем, паяj=паяй), млеj-уць (млеj-у, млеj-еш, млеj=млей), клеj-аць (клеj-у, клеj=клей, клеj-ены).*

Заўвага 1. Асновы цяперашняга і прошлага часу іншы раз супадаюць: *нясці — нясуць, паўз-ці — паўз-уць.*

Заўвага 2. Формы загаднага ладу ў асобных выпадках могуць супадаць не з асновай цяперашняга часу, а з асновай інфінітыва, напрыклад: *б'юць (бj-уць)*, але *бі* (параўн. *бі-ць*); *п'юць (пj-уць)*, але *пі* (параўн. *пі-ць*) і інш.

§ 826. Па ўтварэнню форм цяперашняга (будучага простага) часу і форм, вытворных ад асновы цяперашняга часу, дзеясловы падзяляюцца на два тыпы спражэння: першае (I) і другое (II). Кожнаму тыпу спражэння ў цяперашнім часе ўласцівы свае асабовыя канчаткі (за выключэннем 1-ай асобы адзіночнага ліку, дзе асабовыя канчаткі I і II спражэнняў супадаюць).

| | Першае спражэнне | Другое спражэнне |
|---|---|---|
| | Адзіночны лік | |
| 1-я | *-у (-ю)* | *-у (-ю)* |
| 2-я | *-еш (-эш, -аш)* | *-іш (-ыш)* |
| 3-я | *-е (-э, -а)* | *-іць (-ыць)* |
| | Множны лік | |
| 1-я | *-ём (-ем, -ом, -ам)* | *-ім (-ым)* |
| 2-я | *-еце (-яце, -аце)* | *-іце (-ыце)* |
| 3-я | *-уць (-юць)* | *-аць (-яць)* |

§ 827. Дзеясловы I і II спражэнняў лёгка адрозніваюцца тады, калі ў асабовых формах гэтых дзеясловаў націск падае на канчатак, напрыклад: *бярэш, п'еш — маўчыш, сядзіш; бярэ, п'е — маўчыць, сядзіць; бяром, п'ём — маўчым, сядзім; берацé, п'яцé — маўчыцé, седзіцé; бяруць, п'юць — маўчаць, сядзяць.* Калі ж у асабовых формах націск падае не на канчатак, а на аснову, то пры размеркаванні такіх дзеясловаў па спражэннях могуць сустрэцца некаторыя цяжкасці, асабліва калі аснова заканчваецца на **j** або на мяккі зычны. Між тым вызначэнне спражэння мае пэўнае практычнае значэнне: гэта неабходна для правільнага ўтварэння такіх форм дзеяслова, як дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, а таксама для правільнага напісання асабовых канчаткаў.

Размеркаванне па спражэннях дзеясловаў абвеснага ладу цяперашняга часу з ненаціскнымі асабовымі канчаткамі (акрамя 1-ай асобы адзіночнага ліку, дзе канчатак можа быць і націскным) праводзіцца наступным чынам:

1. Дзеясловы, якія ў неазначальнай форме заканчваюцца на **-іць (-ыць)**, а таксама дзеясловы *вярцець, гнаць, ненавідзець* адносяцца да II спражэння.

2. Усе астатнія дзеясловы адносяцца да I спражэння, напрыклад: *казаць — кажаш, кажа, кажам, кажаце, кажуць; будаваць — будуеш, будуе, будуем, будуеце, будуюць; несці — нясеш, нясе, нясём, несяце, нясуць; пячы — пячэш, пячэ, пячом, печаце, пякуць* і інш. Да I спражэння адносяцца і дзеясловы, якія ў неазначальнай форме заканчва-

юцца на **-ць** з папярэднімі галоснымі **і(ы)** тыпу *біць, брыць, віць, выць, крыць, ліць, мыць, піць, рыць, шыць.*

З а ў в а г а 1. Дзеясловы, утвораныя пры дапамозе прыставак, адносяцца да таго спражэння, да якога належаць і адпаведныя непрыставачныя дзеясловы. Напрыклад: *выменяць, памяняць — выменяеш, памяняеш, выменяем, памяняем, выменяюць, памяняюць* (I спражэнне, як *мяняць); паганяць — паганяеш, паганяем, паганяюць* (I спражэнне, як *ганяць); прагнаць — прагоніш, прагонім, прагоняць* (II спражэнне, як *гнаць); павылазіць — павылазіш, павылазіце, павылазяць* (II спражэнне, як *лазіць*).

З а ў в а г а 2. Дзеясловы *есці, даць* з'яўляюцца рознаспрагальнымі (гл. § 779).

## *Катэгорыя асобы дзеяслова*

§ 828. Катэгорыя а с о б ы ўказвае на адносіны дзеяння, абазначанага дзеясловам, і суб'екта да гаворачай асобы. Граматычна такія адносіны выражаюцца асабовымі канчаткамі (у формах цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу і ў пэўнай ступені ў формах загаднага ладу), асабовымі займеннікамі (у формах прошлага часу абвеснага ладу і ў формах умоўнага ладу), назоўнікамі (у тых жа формах, што і асабовыя займеннікі, для абазначэння 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку) ці спалучэннем гэтых сродкаў (асабовымі займеннікамі ці назоўнікамі і асабовымі канчаткамі ў формах цяперашняга і будучага часу і ў формах загаднага ладу).

Катэгорыя асобы выяўляецца ў формах ладу і часу, найбольш поўна ў формах цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу.

Дзеяслоў мае формы трох асоб адзіночнага і множнага ліку.

Формы 1-ай асобы абазначаюць дзеянне таго, хто гаворыць, асобна ці разам з іншымі *(чытаю, чытаем, я чытаў, мы чыталі).*

Формы 2-ой асобы абазначаюць дзеянне таго, да каго звяртаюцца з гаворкай *(чытаеш, чытаеце, ты чытаў, вы чыталі).*

Формы 3-яй асобы ўказваюць на дзеянне таго, пра каго або пра што ідзе размова *(чытае, чытаюць, ён чытаў, яны чыталі, кніга ляжыць, чалавек бяжыць).*

Формы 1-ай і 2-ой асобы адносяцца да людзей, а ў выпадках увасаблення — да любых прадметаў і жывых істот. Формы 3-яй асобы наогул могуць адносіцца да любых прадметаў і істот.

Пры 1-ай і 2-ой асобе дзеясловаў цяперашняга і будучага часу дзейнік неабавязковы; пры формах прошлага часу і ўмоўнага ладу ён патрэбны; пры формах 3-яй асобы дзейнік, як правіла, ужываецца. У гутарковай мове дзейніка можа не быць і ў тых выпадках, калі толькі ён можа ўказаць на граматычную асобу. Асоба тады падказваецца іншымі сродкамі: рэплікамі, сітуацыяй і г. д.

§ 829. Формы 1-ай асобы адзіночнага ліку абазначаюць дзеянне таго, хто гаворыць.

*«Я с п я ш а ю с я чым найхутчэй выехаць, — сказаў каморнік, — я вельмі заняты цяпер»* (К. Ч о р н ы. Зямля). *«І п а е д у, — пачаў Гунава зноў. — І з а п л а ч у!»* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *А я ўжо х а ц е ў крыўдзіцца* (К. К р а п і в а. Зацікаўленая асоба).

У сентэнцыях, прыказках і прымаўках форма 1-ай асобы адзіночнага ліку можа мець абагульнена-асабовае значэнне.

*Чужую бяду рукамі р а з в я д у. Як е м — і глух і нем. Адну казу м а ю і тую штодзень п а д ы м а ю.*

§ 830. Формы 2-ой асобы адзіночнага ліку ўказваюць на дзеянне таго, да каго звяртаюцца з гаворкай.

*«Ты? Адкуль ты?» — «У госці прыехаў. З Урала». — «Што там р о б і ш?» — «Працую там»* (А. К у л я ш о ў. Грозная пушча). *«Ну, я чуў...» — «Што ты ч у ў?!» — «Як чыталі Толікаў ліст...»* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *Ты ўжо с п і ш, сынок?* (Я. К о л а с. Трывога).

Асабовая форма 2-ой асобы адзіночнага ліку можа ўжывацца ў значэнні 1-ай асобы.

*Хадзіў я там, вітаў усход і першыя праменні сонца, штодзень выводзяць у паход, а з ім і хмарак карагод, замлеўшы смехам на сасонцы. З а п ы н і ш крок. Спакой і ціш — былінка нават не схіснецца, а ты разважліва стаіш, бы нейкі сон дзівосны сніш, і песня нейкая снуецца* (Я. К о л а с. Загібелька). *Ды дзе ён Андрэя знойдзе, калі і я добра не ведаю, дзе той ходзіць. Толькі па ночы і ў б а ч ы ш яго калі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Б'е ш с я, б'е ш с я, а ў радок не лезе нават самы просценькі герой* (П. П а н ч а н к а. З Янкам Купалам).

Гэта асабовая форма можа мець значэнне формы 3-ай асобы адзіночнага ліку.

*У запек Яська йдзе, садзіцца — да дзела ж трэба прыступіцца! Хоць і папаў ён у няволю, але выконваў сваю ролю, бо так і гонар ты свой з г у б і ш* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Звозіў копы Андрэй на лясной дзялянцы ля парома. Накладаў на вазы і звозіў на ўзгорак, дзе пад вечар стог меліся класці. Аднаму не зусім было зручна: то разлазіцца воз, некаму ўтаптаць, то толькі п а ч н е ш рубель уціскаць, вяроўка выслізнецца, пакуль ты яе ізноў у ц э л і ш накінуць. Накладаў і лаяўся, каня лаяў* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *А рабіць трэба было, хоць і свету не б а ч ы ш... І яна жала, нікому нічога не кажучы* (Я. Б р ы л ь. Маці).

Шырока бытуе форма 2-ой асобы адзіночнага ліку ў абагульненым значэнні.

*Ну што гэта за работа, калі ты да яе не м а е ш сэрца?* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Ці ты проста мужык, ці ты са служачых, а як зямлі не л ю б і ш, а як людзей не л ю б і ш — нічога не будзе* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Дзень быў хмарны і марозны — адзін з тых зімовых дзён, якія пачынаюцца чароўнымі раніцамі: у с т а е ш, в ы х о д з і ш на двор і не м о ж а ш адарваць позірку ад дрэў — такімі казачна цудоўнымі, фантастычна прыгожымі робіць іх іней* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

Асабовыя формы з падобным значэннем могуць мець адценне немагчымасці дзеяння.

*А прастор, дык прастор — і канца не відаць, не а х о п і ш, не з м е р ы ш зямлі* (Я. К о л а с. Палессе). *Мяккім, глыбокім снегам была засыпана ўся дарога. А ён усё ішоў і ішоў, нібы недзе там, угары, прарваліся вялізныя мяхі з пухам і не д а ч а к а е ш с я, калі ён высыплецца ўвесь* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

У абагульнена-асабовым значэнні форма 2-ой асобы адзіночнага ліку пашырана ў прыказках і прымаўках.

*Пагуляў і будзе, бо ты гуляеш з агнём. А ёсць прыказка: каля вады н а м о ч ы ш с я, каля агню а п я ч э ш с я* (Я. К о л а с. На ростанях). *«Перад смерцю не н а с к а ч а ш с я! — весела падміргнуў чарнявы кулямётчык. — Калі ласка, пад душ!» — І ён паліў іх* [фашыстаў] *гарачым свінцовым струменем* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Глыбей у з а р э ш — болей з б я р э ш. Сябра за грошы не к у п і ш.*

§ 831. Дзеяслоўныя формы 3-яй асобы адзіночнага ліку абазначаюць тое ці таго, пра што або пра каго ідзе гутарка.

*«Зноў дождж п о й д з е», — с к а з а ў сам сабе чалавек* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Нарэшце, ён б а ч ы ц ь на ганку дзяўчыну. Ч а к а е яна. Ужо маладзік на гулянку з-за цёмнага в ы п л ы ў гумна* (А. К у л я ш о ў. Баранаў Васіль). *А ты скажы, што за госць, што так р в е ц ц а да нас, на ноч і завіруху не зважаючы?* (І. Ш а м я к і н. Сялянка).

Гэта форма можа выступаць у значэнні 1-ай асобы адзіночнага ліку.

*«Эх ты, мазюр, — сказаў сам сабе пад нос Кірылка, — дабраў розуму. Ужо ён нешта лепшае ў в е д а ў!»* (К. Ч о р н ы. Мельнікі).

Асабовая форма 3-яй асобы адзіночнага ліку часта ўжываецца ў адносінах да 2-ой асобы; тады пра таго, хто прысутнічае, гавораць

так, быццам ён адсутнічае. Часам гэтыя формы маюць адценне зневажальнасці, зрэдку жартаўлівасці.

Карнейчык. *А можа, я ў лес?.. да хлопцаў?* Лютынскі. *Кінь глупства! Цераз хату не можа перайсці,— у лес ён пойдзе* (К. Крапіва. Канец дружбы). Ліда. *Слухай. Гэта проста непрыгожа. Прыходзіць заплаканая, змарнелая і — нічога не здарылася! Дзе ты гэта скрытнасці навучылася?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Запрагай хутчэй, чаго стаіш? Вечна сам не здагадаецца!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Асабовая форма 3-яй асобы можа мець няпэўна-асабовае значэнне. *«Хто пытае, той не блудзіць», — сказаў Мікалай, здалёк угледзеўшы капялюш* (Я. Колас. Знайшлі). *Калі ў краме ёсць нястача, дык «усушка» там, няйначай, ці «утруска», ці мо' «мышы» — так заўсёды ў актах піша...* (К. Крапіва. Калі ў краме ёсць нястача...). *Знае ён усё на свеце, вестак больш, як у газеце, — чуў — не чуў, а навіну скажа вам, ды не адну...* (К. Крапіва. Плеткары). *Ваўка страшыць, а сам у кусты хаваецца.*

§ 832. Формы 1-ай асобы множнага ліку абазначаюць дзеянне групы, у якую ўваходзіць той, хто гаворыць, або дзеянне групы гаворачых асоб.

*У цяжкія часы панства і царызму мы, беларусы, на свет цэлы неслі сваю вялікую крыўду* (Я. Купала. Прамова). *Зрэшты, і мы называемся грозна — першы разлік штурмавога кулямётнага ўзвода... Па лісці бручкі, у якой мы заляглі перад узгорачкам, аднастайна бубніць халодны дождж* (Я. Брыль. Ты мой найлепшы друг). *«У нашай гімназіі быў пажар, і мы цэлы месяц не будзем вучыцца», — весела адказаў сын* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Гэта дзеяслоўная форма ўжываецца ў значэнні 1-ай асобы адзіночнага ліку. У мове мастацкай літаратуры ў гэтым выпадку яна можа мець адценне жартаўлівасці.

Надзя. *Дзе ж вас, такога пестуна, будзе хто ўшчуваць. Хоць на галаве хадзіце.* Генадзій. *Зараз мы паходзім крыху на галаве* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Ён нават у думках пагразіў Васілю: «Нічога, браце, як-небудзь і мы не адстанем. Таксама не лыкам шытыя. І тут не пуста», — ён пастукаў пальцам сам сабе па ілбе* (І. Шамякін. У добры час). *«Героем будзь, ваякаю слаўным». — «Ды ўжо ж, як-небудзь мо' не падкачаем...»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

Форма 1-ай асобы множнага ліку можа мець значэнне так званага аўтарскага «мы».

*Але не за гэта называлі яго князем. Былі тут іншыя прычыны, з якімі мы і пазнаёмім нашых чытачоў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ніжэй прыводзім схематычны геалагічны разрэз чацвярцічных адкладанняў Юрэвіцкага масіву* («Весці АН БССР»).

З адценнем спачування, спагадлівасці або іроніі гэта форма можа адносіцца да 2-ой асобы.

*Па некалькі разоў у дзень да ложка хворага падыходзіў стары лысы вопытны доктар. Праціраючы акуляры і жмурачы блізарукія вочы, пытаў: «Ну, Мартын Андрэевіч, як мы папраўляемся?»* (В. Каваль. Мацней за смерць).

Асабовая форма 1-ай асобы множнага ліку абазначае дзеянне вялікай групы, неакрэсленай множнасці, у якую можа ўваходзіць і той, хто гаворыць. У прыказках і прымаўках гэта форма мае абагульнена-асабовае значэнне.

*Калі мы адчуваем даль — азіраемся з вышыні, едзем стэпам, — заўсёды прыходзяць самыя нечаканыя думкі* (І. Шамякін. Непаўторная вясна). *У які б куток Беларусі мы ні паехалі: ці на Па-*

*лессе ў Тураўшчыну, ці на азёрную Полаччыну, ці ў калгасы Піншчыны, Гродзеншчыны — скрозь ад малога да старога п а ч у е м, з якой велізарнай любоўю вымаўляецца імя Янкі Купалы* (П. Б р о ў к а. Народны паэт). Р ы г о р. *П а ж ы в ё м — п а б а ч ы м* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Што ж ы в ё м, то в у ч ы м с я. Як м а е м, так у ж ы в а е м.*

§ 833. Дзеяслоўныя формы 2-ой асобы множнага ліку ўказваюць на дзеянне групы асоб, да якіх звяртаюцца з гаворкай, або на сумеснае з іншымі асобамі дзеянне таго, да каго звяртаюцца. Гэта форма ўжываецца ў адносінах да аднаго субяседніка як афіцыйная або ветлівая. Яна можа мець і абагульнена-асабовае значэнне.

*«Правільна! — падхапіў сакратар. — Вы, моладзь, вы м о ж а ц е ўсё!»* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Дык а д п а ч ы л і б, дзядзька Антось* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *«Вы, Андрэй, першы раз і д з я ц е, а мы ўжо там былі», — сказаў Пятрусь* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Г а в а р ы л і за вочы — г а в а р ы ц е і ў вочы* (народн.). *Паколькі тут ніякіх наземных збудаванняў метро няма, дык вы проста с п у с к а й ц е с я па прыступках у агароджаную жалезнымі кратамі дзірку, што каля тратуара, і а п ы н і ц е с я ў метро. Толькі не з а б л ы т а й ц е с я: тут вузлавыя станцыі, адпаведна лініям метро, будуюцца часта ў два паверхі і маюць па шэсць і восем платформ* (К. К р а п і в а. Лондан).

§ 834. Формы дзеяслова 3-яй асобы множнага ліку абазначаюць дзеянне асоб ці прадметаў, пра якія ідзе размова.

*На двары забрахаў стары Жук. Усе к і н у л і с я да акна: «П р ы е х а л і!» Андрэй з Алесем, накінуўшы кажухі, п а й ш л і спатыкаць Тараса з Паўлюком...* (Я. К о л а с. Калядны вечар). *Чутна было, як с т у к а л і па дрэвах сякеры, з в і н е л і, уядаючыся ў дрэвы вострым зуб'ём пілы, раз-поразу с т у к а л і, падаючы, спіленыя дрэвы... Коні і ш л і па пратоптанай дарозе* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі).

Калі дзейніка пры асабовай форме няма, то выраз нярэдка мае значэнне няпэўнасці. Часам з кантэксту вядома, хто ўтварае гэта дзеянне. У некаторых выпадках наўмысна не называюць суб'екта дзеяння, хоць пра яго і знаюць.

*У гэты час ціха п а с т у к а л і ў дзверы* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *«Калі ж нас... — пачала яна нерашуча, — не б я р у ц ь яшчэ ў партызаны, не х о ч у ц ь браць...» — «Не д а в я р а ю ц ь хіба?» — «Не... Чаму...» — «Ш к а д у ю ц ь, што яшчэ замалыя?»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Я не хачу, каб у вёсцы з а г а в а р ы л і, што да доктаркі прыязджаў жаніх* (І. Ш а м я к і н. Непаўторная вясна). *Здаволены пісьмом, ён хацеў быў выйсці і папрасіць вячэру. Але ў гэты момант у бакоўку энергічна п а с т у к а л і і, не чакаючы адказу, ш т у р х н у л і дзверы. Ён зразумеў, што гэта гаспадыня, і хутка адчыніў* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

У няпэўна-асабовым значэнні форма 3-яй асобы множнага ліку пашырана ў прыказках, прымаўках, сентэнцыях і падобных да іх выразах.

*Гуслям, княжа, не п і ш у ц ь законаў* (Я. К у п а л а. Курган). Д з е д Б а д ы л ь. *П а з н а ю ц ь нашу дачку і ў андарачку* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Бывае, с ц е л ю ц ь гэтак мякка, ой, як жа цвёрда спіцца* (М. Ч а р о т. У жыцці радасць рассыпаю). *Клін клінам в ы г а н я ю ц ь.*

Формы 3-яй асобы множнага ліку могуць быць ужыты ў адносінах да адной асобы; у такіх выпадках яны нярэдка падкрэсліваюць угодлівасць таго, хто гаворыць. Часам яны маюць значэнне формы ветлівасці.

*З уласных рук мелі ласку паднесці мне чарку-с... Піце, к а ж у ц ь, і я з вамі вып'ю за ваша здароўе* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Пан Гунава хлеб-соль пад маім дахам е л і* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

## Безасабовыя дзеясловы
## і безасабовае ўжыванне асабовых дзеясловаў

§ 835. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што адбываецца само па сабе, без дзеючай асобы або прадмета, называюцца **безасабовымі**: *світае, вечарэе, шанцуе* і інш. Па гэтай прычыне ў сказах, дзе ўжываюцца безасабовыя дзеясловы, не можа быць дзейніка.

*На шыбах пачынае днець* (М. Танк. Маці). *Сэрца сціснула жалем — чагось мне шкада* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *Збіралася к начы на дождж* (К. Чорны. Аксеніны сляды). *На дварэ падмарожвала* (К. Чорны. Спатканне). *Захапіла навальніцаю неаглядны ўвесь прастор* (У. Дубоўка. Захапіла навальніцаю...).

Безасабовыя дзеясловы ўжываюцца толькі ў формах абвеснага і ўмоўнага ладу і ў інфінітыве, напрыклад: *Нельга сказаць, каб інспектару вельмі мякка спалася, і таму прачнуўся ён досыць рана* (К. Крапіва. Певень). *Надвор'е якое брыдкае. Хоць бы падмарозіла* (К. Чорны. Вясна). *Як толькі Міхал Тварыцкі ступіў на цвёрдую ўзгаркаватую глебу, яго хаду стала чуць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Значэння асобы і значэння роду безасабовыя дзеясловы не выражаюць, хоць маюць граматычную форму 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга або прошлага часу (у прошлым часе — форму ніякага роду). Не ўласціва безасабовым дзеясловам і значэнне загаднага ладу, таму што адсутнічае асоба або прадмет, да якога можна было б звярнуцца з прапановай выканаць гэта дзеянне.

У групе безасабовых выдзяляюцца **ўласна-безасабовыя** дзеясловы і формы асабовых дзеясловаў, ужытыя ў якасці безасабовых.

Уласна-безасабовыя дзеясловы могуць выражаць фізічныя і фізіялагічныя працэсы *(замуравала вокны, хварага трасе, сэрца сціскае жалем, пяршыць у горле)*, з'явы прыроды і іх успрыняцце *(раздняла, праяснела, марозіць, захаладала)*, псіхічныя перажыванні *(карціць, рупіць, занудзіла)*.

Такія ж значэнні ў асноўным маюць і формы асабовых дзеясловаў, ужытыя ў функцыі безасабовых.

*З неба ліўся агонь істужкамі і вузламі. Зямля ўзнімалася ўгару, і неба спускалася нізка. Тонка свістала і гулка выла і суха грымела і ўздрыгвала на ўвесь свет* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *У барку навокал шурхатала і шастала. Людзі пільна прыслухоўваліся. Нарэшце, зблізку затрашчэла за дрэвамі* (З. Бядуля. На балоце). *Здавалася: ад завірух, ад сцюжы, ветру ледзяного жыцця канчалася дарога, парой ажно займала дух* (А. Александровіч. Перамога). *Гэтак прайшло колькі хвілін. Дзеду палягчэла* (З. Бядуля. Летапісцы). *Раней на дварэ падмарожвала, нават і зусім было ўкавала ўсю гразь і ваду. Нават снегам было пацерусіла трохі зверху. А гэта зноў пусціла, зноў цёпла стала і мокра* (К. Чорны. Зямля).

Прадуктыўным спосабам утварэння безасабовых дзеясловаў з'яўляецца ўтварэнне іх ад асабовых дзеясловаў у форме 3-яй асобы адзіночнага ліку шляхам далучэння суфікса **-ся:** *спіцца, гасціцца, жывецца, жадаецца, мроіцца* і інш. (тое ж і ў формах прошлага часу: *спалася, гасцілася, жылося* і інш.).

*І цяслярства хлапцам не адразу давалася — то не так склюдавалася, то не так пазавалася* (А. Зарыцкі. Світанскія сады). *Напяклося ўсяго, насмажылася, наварылася, а як змеркла, папрыходзілі сваякі і сябрына ўся, і калі пачалі мы гаману за сталом, дык елі, пілі і гаманілі да трэціх пеўняў* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Адышла зіма. На полі задымілася вясной* (П. Броўка. Кацярына). *Вось дзе была праўда, вялікая і горкая: жылося, было-*

*с я і п р ы ч а к а л а с я* (К. Ч о р н ы. Вялікае сэрца). *Свісцёлкі — цацкі мірныя, купляй, каму ж а д а е ц ц а!* (А. К у л я ш о ў. Песня аб слаўным паходзе).

## ЛАД ДЗЕЯСЛОВА

§ 836. Катэгорыя л а д у — граматычная катэгорыя дзеяслова, якая выражае адносіны дзеяння да рэчаіснасці. Гэтыя адносіны ўстанаўліваюцца тым, хто гаворыць. Дзеянне можа ўспрымацца як такое, што сапраўды мае (ці не мае) месца (у цяперашнім, прошлым ці будучым часе), як магчымае, пажаданае, неабходнае. У залежнасці ад гэтага выдзяляюцца тры лады дзеяслова: абвесны, загадны і ўмоўны.

### *Абвесны лад*

§ 837. А б в е с н ы лад абазначае дзеянне як рэальны факт, сцвярджаючы ці адмаўляючы яго наяўнасць. Абвесны лад найбольш цесна звязаны з катэгорыямі часу і асобы. Катэгорыя абвеснага ладу выяўляецца ў формах цяперашняга, прошлага і будучага часу. Дзеясловы абвеснага ладу маюць формы ўсіх трох асоб адзіночнага і множнага ліку, за выключэннем безасабовых дзеясловаў. Безасабовыя дзеясловы часам могуць мець пры сабе слова *яно*, але апошняе не з'яўляецца пры гэтым сродкам выражэння катэгорыі асобы.

*А ведаеш, бабка, х о ч а ш, я с к а ж у табе, што ты цяпер д у м а е ш?* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Рабочыя п р а х о д з я ц ь. Міхалючок а с т а е ц ц а адзін* (К. Ч о р н ы. Лета). *Мы па сігналу ваеннай трывогі ўсе як адзін у с т а в а л і на бой* (П. Г л е б к а. Слава Кастрычніку). *І я д у м а ў, што ў аконцы ты, як я, с т а я л а, на апошні погляд сонца смутна п а з і р а л а* (Я. К о л а с. Заход сонца). *П а ч ы н а л а с я раніца. Вецер п а ч а ў сціхаць. Ён с а г н а ў хмары ў адно месца, і яны л е з л і адна на адну, ачышчаючы неба* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *Я Зоську ў г а в а р у, і яна з намі п о й д з е* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо).

*Нібы і нязручна, каб свой чалавек ды каля хаты тваё, не раўнуючы, як сабака на холадзе. Каля вады яно ўсё ж такі п р о й м е* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

Значэнні абвеснага ладу ўключаюць у сябе значэнні цяперашняга, прошлага і будучага часу (гл § 859—871).

### *Загадны лад*

§ 838. З а г а д н ы лад выражае пабуджэнне да выканання дзеяння. Гэта пабуджэнне накіравана да іншай асобы з боку таго, хто гаворыць. яно можа быць рознай ступені катэгарычнасці: загад, патрабаванне, заклік, прапанова, просьба, парада.

*На ўсякі выпадак дзед падаўся трохі назад, бліжэй к лесу, і раптам пачуў грозны вокліч: «С т о й! Хто ідзе?»* (Я. К о л а с. Дрыгва). С ы м о н. *П е р а с т а н ь лезці ў вочы!* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). П ы т л я в а н ы. *Загадваю: Калі хто захоча запрагаць, г а н і вон з канюшні* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). *А з м о ў к н і ты, балабон!* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Мора калышыцца, мора жытнёвае, спелым калоссем звіняць берагі. В ы й д з і, п р ы с л у х а й с я, — там, за дуброваю, новы складаецца гімн...* (П. Т р у с. Выйдзі, паслухай...). *«С я д з ь, — сказаў Амбражэвіч. — А д п а ч н і»* (Р. М у р а ш к а. Салаўі святога Палікара). *Р а с к а ж ы ж чужому краю пра жыццё тваіх сыноў!* (Я. К о л а с. Нёман). *«У с т а в а й, сынок», — гаворыць жанчына*

(К. Чорны. Начлег у вёсцы Сінегах). *Я прашу цябе, зайдзі!* (І. Грамовіч. Калі паспелі антонаўкі). Аўдоцця. *Глядзі, дачушка, разглядайся, каб пасля не каялася* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі).

Пабуджэнне можа быць накіравана не толькі да іншай асобы, але і да неадушаўлёных прадметаў, абстрактных паняццяў, якія ўяўляюцца як адушаўлёныя.

*Жыві ж і красуйся у вёсны і зімы, краіна свабодных, шчаслівых Радзіма!* (П. Глебка. Прывітанне Радзіме). *Сцяной высокай падымайся, бор, паблытай, ночка, сцежкі і сляды і пагасі праменне ясных зор, каб звяры — немцы не прыйшлі сюды* (М. Танк. Янук Сяліба). *Сонца маё, узыдзі, шчасце маё абудзі, сэрца маё супакой маладое* (М. Лужанін. Чаканне).

§ 839. Характар выражэння загаднасці ў пэўнай ступені залежыць ад трывання дзеяслова. У формах загаднага ладу незакончанага трывання падкрэсліваецца працягласць ці паўтаральнасць дзеяння.

*Запрагай, Сымон Максімавіч, буланага* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Будзі жаўрукамі жытнёвую рунь, палі незгасальную ў небе зару. Вясна красна на ўвесь свет!* (М. Танк. Мінулі завеі). Сярго. *Выкарыстоўвайце лясістасць месц, трымайце сувязь, дзейнічайце дружна і аб усім даносьце неадкладна* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Сам пушчы панскія сячы, будуй дамы і грэблі!* (А. Куляшоў. Антон Шандабыла).

У формах загаднага ладу закончанага трывання ўвага сканцэнтроўваецца на выніку дзеяння, загад выражаецца пры гэтым з меншай катэгарычнасцю.

*Скажы мне, дарога, хто ездзіць табою* (Я. Колас. Дарога). *Перадай нашым, скажы: вось там і там загінуў брыгадны камісар Андрэй Аляксандр Дзям'янавіч...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А цяпер прызнайся па-братняму: кахаеш яе, гэту Жэню?* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Вясна камунізма ўжо недалёка, адчуй і праслаў гэты час!* (П. Панчанка. Сабе і другім).

Дзеясловы незакончанага трывання з адмоўем нярэдка выражаюць забарону, прычым формы незакончанага трывання ўжываюцца з адмоўем часцей, чым формы закончанага трывання.

*А ты не перабівай* (М. Лынькоў. Апошні зверыядавец). *Нікуды табе ехаць не трэба, і да Гамрэкелі ты больш не хадзі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Не адступай, брат, у змаганні, ідзі далей, як ты ішоў! У новых бітвах сонца ўстане, да новых бітваў будзь гатоў! Не забывай!* (М. Танк. Не забывай). *Не хадзі да Хакіма! І прыкладу з яго не бяры!..* (І. Грамовіч. Прыязджай, сынок!).

Дзеясловы загаднага ладу закончанага трывання з адмоўем выражаюць перасцярогу.

*Абавязкова паведаміць не забудзься: калі ў Дуброве будзеце вы будаваць гідрастанцыю* (М. Танк. Пасланне ў Дуброву). *Не зрабі пакоі мёртвым складам рэчаў* (П. Панчанка. Навасёлы).

Слова *глядзі* пры дзеясловах незакончанага трывання прыводзіць да ўзмацнення загаднасці, а пры дзеясловах закончанага трывання — да ўзмацнення перасцярогі.

*Глядзі каня пільнуй, ды ў клінках усе палоскі адсей, каб жа, крый божа, не заялавела зямля...* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Глядзіце, Аляксандр Пятровіч, не закахайцеся* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Глядзі не праваронь, Павал...* (П. Галавач. Суседзі).

§ 840. Форма загаднага ладу звычайна ўжываецца без асабовага займенніка, бо ўжо ў самой гэтай форме заключаецца ўказанне на асобу. Аднак часам займеннікі 2-ой асобы маюць месца пры загадным

ладзе. У радзе выпадкаў гэта звязана з неабходнасцю падкрэсліць суб'ект дзеяння. Такое падкрэсліванне адбываецца пры супрацьстаўленні або супастаўленні дзеяння аднаго суб'екта з дзеяннем другога суб'екта, пры выдзяленні аднаго або некалькіх суб'ектаў з групы іншых суб'ектаў.

*Я табе гавару на глум, а т ы в а з ь м і на розум* (І. М е л е ж. Далёкае і блізкае). *Хоць мамка не любіць сабачак, але т ы ўсё ж п р ы в я з і мне такога маленькага-маленькага сабачку...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Вось што, — сказаў ён* [Андрэй Міхайлавіч], *падаючы сумку Тапурыя, — на курган пайду я адзін. А т ы б я р ы наш правіянт, і д з і на левы курган, р а с к л а д з і там агонь, а д п а ч н і і р ы х т у й абед»* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Мы нясем яго на шынялі, т ы с п р ы я й нам, дзе можна, т ы нямецкія патрулі а б м і н а й, а б ы х о д з ь асцярожна* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

Часта асабовы займеннік ужываецца пры наяўнасці зваротку.

*Т ы, Г а н ь к а, агню мне н а ш ч у п а й у копцы* (Я. К у п а л а. Сват). *Гэй, браты, кавалі жыцця новага, в ы п р ы м і ц е мяне ў грамаду сваю* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Кавалям жыцця). *Т ы, чалавеча, п а ч а к а й* (К. Ч о р н ы. Не хачу гэтак). *Па дарозе тваёй зелянеюць гаі, т ы іх, рэчышча, новай вадой н а п а і* (А. К у л я ш о ў. Новае рэчышча).

Асабовы займеннік можа быць у прэпазіцыі ці постпазіцыі адносна формы загаднага ладу. Месца займенніка ў сказе часам звязана з неабходнасцю адцяніць характар волевыяўлення таго, хто гаворыць. Постпазіцыйны займеннік, як правіла, змякчае загад, прэпазіцыйны робіць яго больш катэгарычным. Істотна ўплывае на характар экспрэсіі сказа адасобленасць займенніка незалежна ад таго, прэпазіцыйны ці постпазіцыйны гэты займеннік, катэгарычнасць загаду ўзмацняецца.

*А ты, лузан, з м о ў ч ы...* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Не, т ы д а й нам сапраўдную латынь* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім). *Мой мілы таварыш, мой лётчык в а з ь м і т ы з сабою мяне!* (Я. К у п а л а. Хлопчык і лётчык). *Сілівонка, с х а д з і на вуліцу ды п а п і л ь н у й т ы гэтага чалавека* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Г а в а р ы т ы, дзядзька, аб чым-небудзь», — хочацца сказаць мне* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць).

*Васіль Іванавіч рыўком адвёў убок мыльную храпу яго каня, якая ўперлася яму ў грудзі. «Т ы, не ч а п а й! Што за народ?» — лена спытаўся коннік і пахіліўся быў, ледзь утрымаўшыся ў сядле* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«С л у х а й, т ы! — сказаў Гунава. — З н і м і з галавы гэта варонняе гняздо»* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *С л у х а й ц е, в ы, галовы кручаныя! Ваша справа — круціць і годзе...* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах).

§ 841. Паколькі загад звычайна аддаецца таму, з кім гавораць — субяседніку, то найбольш поўна значэнне загаднага ладу праяўляецца ў формах 2-ой асобы. Гэтыя формы з'яўляюцца і самымі пашыранымі.

Формы загаднага ладу ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу. Большасць дзеясловаў мае формы загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку з канчаткамі **-і, -ы.** Канчатак часцей за ўсё знаходзіцца пад націскам. Ненаціскны канчатак мае месца ў многіх формах з асновай на некалькі зычных і з націскной прыстаўкай **вы-.**

§ 842. Формы загаднага ладу з канчаткам **-і, -ы** маюць за невялікім выключэннем дзеясловы другога прадуктыўнага класа, дзеясловы з націскам на **-іць, -ыць** у інфінітыве чацвёртага прадуктыўнага класа, амаль усе дзеясловы першага непрадуктыўнага класа, дзеясловы другога — сёмага непрадуктыўных класаў і частка дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа: *абярні, адамкні, адаткні, адкасніся, апрані, ачніся, вярні, выслізні, гарні, імкні, разамкні, падмані, папікні; будзі, бury, вазі, варушы, вучы, гавары, гаі, даві, зубры, кіпяці, кпі,*

*лажы́, мясі, насі, паі, прасі, сачы́, студзі, твары́, хадзі; ары́, бляі, бяры́, вяжы́, заві, кажы́, ліжы́, пішы́, скачы́, тапчы́, балбачы́, грукачы́, стагні, шапчы́; бурчы́, верашчы́, журчы́, імчы́, ламі, тарчы́, трашчы́, вісі, вярці, гары́, дрыжы́, звіні, кіпі, мігці, хрусці; брыдзі, вядзі, гудзі, грабі, кладзі, мяці, нясі, паўзі, расці, скрабі, трасі, цвіці; валачы́, бяжы́, беражы́, пячы́, сячы́, стрыжы́, сцеражы́, таўчы́, аднімі, вазьмі, знімі, жні, даймі, мні, пачні, распні, успрымі; калі, малі, палі, пары́; жыві, плыві, слыві; адвы́кні, адсо́хні, ахры́пні, вы́цягні, гібні, го́ркні, гра́зні; гру́зні, заціхні, знікні, кісні, ме́рзні, мо́кні, пазбе́гні.*

У дзеясловах пятага непрадуктыўнага класа пры ўтварэнні форм загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку адбываецца чаргаванне **г — ж, к — ч:** *бегчы — бяжы, берагчы — беражы, легчы — ляжы, секчы — сячы, стрыгчы — стрыжы, сцерагчы — сцеражы, адпрэгчы — адпражы.*

§ 843. На **-й** заканчваюцца формы загаднага ладу, якія ўтвораны ад дзеясловаў з асновай цяперашняга часу на **j** *(чытаю — чытай).* Формы загаднага ладу на **-й** маюць дзеясловы першага і трэцяга прадуктыўных класаў, некалькі дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа, некалькі дзеясловаў першага і другога непрадуктыўных класаў, частка дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа, дзеясловы восьмага і дзесятага непрадуктыўных класаў. Націск у формах загаднага ладу такі ж, як і ў формах цяперашняга часу: *бе́гай, блука́й, бу́ркай, вага́й, варо́чай, ве́шай, віта́й, ганя́й, гарта́й, дбай, ду́май, ківа́й, купа́й, матля́й, плю́хай, пыта́й, раша́й, сцёбай, хава́й, цяга́й, чыта́й; абе́дай, бадзя́йся, вянча́й, ігра́й, ліста́й, слу́хай; гаве́й, грэй, ірдзе́й, кале́й, мадзе́й, спей, дурэ́й, падо́лей; буду́й, бушу́й, вандру́й, гарцу́й, жуй, кіру́й, лупцу́й, пільну́й, рату́й, хвалю́й, шану́й, насле́дуй; драй, рай, строй; вей, сей, лай, тай, хай, бай, стой, бо́йся; дава́й, аддава́й, спадзява́йся, пазяха́й, дуй, псуй, чуй, абу́й, разу́й, прыку́й; брый, вый, гній, крый, мый, ный, рый, шый.*

Дзеясловы дзевятага непрадуктыўнага класа ўтвараюць формы загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку без **й:** *апаві, бі, ві, лі, пі.*

§ 844. Дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа з націскам на корані, некаторыя дзеясловы другога прадуктыўнага класа, невялікая група дзеясловаў з націскам на корані першага непрадуктыўнага класа, група дзеясловаў з адзінаццатага непрадуктыўнага класа ў загадным ладзе маюць формы на зычны: *будара́ж, бянтэ́ж, валту́зь, граб, жмур, зыч, ква́пся, крамзо́ль, лазь, плаў, скуго́ль, цеш, напру́ж, нацэ́ль, уда́р; сунь, хлынь, рынь, адхлы́нь; маж, плач, рэж, сып; адзе́нь, адста́нь, раздзе́нь, стань, стрэнь, стынь.*

§ 845. У выніку ўзаемадзеяння класаў дзеясловаў (гл. § 756), а таксама ўплыву на літаратурную мову мясцовых гаворак ад аднаго слова часам утвараецца дзве (а ў некаторых выпадках і тры) формы загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку. Адзін з такіх варыянтаў з'яўляецца літаратурным, другі — размоўным: *адводзь — адвадзі, аднось — аднасі, падаі — падой, праводзь — правадзі, напаі — напой, палажы — палож, вынь — вымі, грукай — гручы, дыхай — дышы, казычы — казытай, калышы — калыхай, сукай — сучы, высвеці — высвець, ачысці — ачысць* і інш.

*Перапынак. Роўна поўдзень. Паўгадзіны* а д п а ч н і (А. А л е к с а н д р о в і ч. Нараджэнне чалавека). *Лепей* л я ж; а д п а ч ы н ь. *Ужо высока выплыла Сітца. Чуеш, з стрэх ночы капае сінь і адліга б'е ў акяніцы* (М. Т а н к. Каліноўскі).

§ 846. Формы загаднага ладу 2-ой асобы множнага ліку ўтвараюцца пры дапамозе канчатка **-це** ад форм загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку: *апраніце, вя́рніце, гарніце, імкніце, бу́дзьце, буры́це, ары́це, вядзіце, бяжы́це, пачніце, каліце, плывіце, адвы́кніце, знікніце,*

*бе́гайце, чыта́йце, абе́дайце, спе́йце, буду́йце, кіру́йце, пільну́йце, се́йце, ба́йце, спадзява́йцеся, чу́йце, бры́йце, шы́йце; будара́жце, жму́рце, ла́зьце, пла́ўце, адхлы́ньце, рэ́жце, ста́ньце; біце, ліце.*

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры пэўнае пашырэнне маюць формы загаднага ладу 2-ой асобы множнага ліку з канчаткамі **-еце (-эце)** ад дзеясловаў, якія ў 1-ай асобе адзіночнага ліку цяперашняга-будучага часу ўжываюцца з націскам на канчатку. Такія выпадкі з'яўляюцца адлюстраваннем асаблівасцей некаторых беларускіх гаворак і ранейшай арфаграфічнай нормы (да рэформы правапісу 1933 г.).

*Загрымеце громам, стаўшы цёмнай хмурай. Толькі ж не пабеце жыта градам, бурай. Хмаркі залатыя, сонца, неба дзеці! Вы прывет мой шчыры ў вёску занясеце* (Я. Колас. Вячэрнія хмаркі). *Пачакайце, прыпынеце! Вось жа, вось пад намі Камень* (К. Крапіва. Хвядос—чырвоны нос). Пацієўскі. *Найлепш зрабеце ўсё на месцы, а то яшчэ гатова пачацца цяганіна* (К. Чорны. Лета). *Зашумеце, ды сыры-боры, загрукэце, перуны-громы, запалеце ў забранай краіне палацыхаромы!* (М. Чарот. Марына). *«Хусткі вось добрыя, паглядзеце...» — «Можа, што трэба, зайдзеце».— Усе заклікалі да сябе пакупца* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Сядзеце вось лепш, калі сядзіце* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *«І мяне з сабой вазьмеце...» — Ды не чулі гусі крыку* (М. Танк. Казка пра музыку).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры знаходзяць адлюстраванне і гутарковыя формы, дзе канчатак **-це** далучаецца да варыянтнай формы 2-ой асобы адзіночнага ліку, якая не адпавядае літаратурнай норме. Асабліва часта гэта назіраецца ў дзеясловаў з прыстаўкай **вы-** (*вы́пішыце — вы́пішце*).

*...Высельце буднасці мары, духаў благіх чараду! Ціхаму кроўнаму полю, слёзьмі абмытай зямлі вызваньце лепшую долю, лепшыя скарбныя дні! Сцежку хутчэй ідэалам!.. Квецься, палай, хараство!* (Я. Купала. Жальцеся, грайкія струны...). Мяснікоў. *Вазьміце зараз жа сваіх гвардзейцаў і вызвальце арыштаваных!* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Лійцеся сягоння ціха, ціха, родныя зялёныя дажджы* (П. Панчанка. Недзе салавей пяе ў дуброве...). *Гатоў, панічыку, чай: выпійце ды спачывайце сабе, бо вы ж з дарогі* (Я. Колас. У палескай глушы).

§ 847. Формы загаднага ладу 1-ай асобы множнага ліку маюць канчаткі **-ем (-эм, -ам), -ім (-ым).**

*Хлопцы, адвернем наўперад брычку* (Я. Колас. На балоце). *Рразам, хлопцы! рразам! Ну, яшчэ! Што сталі? Ну, яшчэ наляжам!* (Я. Колас. Плытнікі). *Выйдзем, працоўная моладзь, вольны свой край будаваць* (А. Александровіч. Да моладзі). *«Хадзем! Зараз жа хадзем!» — прыстукнула яна нагою* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Таварышы, страляем! Ротаю!.. Плі!..* (М. Чарот. Босыя на вогнішчы). *Над краінай вітаюць прадвесня ганцы, дык не спынімся мы ў падарожжы!* (П. Глебка. У падарожжы). *Сябры, успомнім пра сяброў, пра тых, што не прыйшлі* (П. Броўка. Мы не забудзем вас!).

Заўвага 1. Як адлюстраванне ранейшай нормы і асаблівасцей некаторых гаворак у мове мастацкай літаратуры сустракаюцца і формы на **-ём**.

*Дык урачыста, з пачуццём братэрства нашых сэрцаў,— хорам, браты, уславім залп «Аўроры», хвалу Кастрычніку спяём!* (А. Александровіч. За сталом братэрства). *Успамянём, Антон, мінулае!* (І. Грамовіч. У лесе на палянцы).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры пад уплывам некаторых гаворак значна пашыраны формы загаднага ладу 1-ай асобы множнага ліку з канчаткамі **-ма, -мо.** Такія формы ўтвараюцца пераважна ад дзеясловаў, якія ў 2-ой асобе адзіночнага ліку загаднага ладу заканчваюцца на зычны або **й.**

*Узяла клунак у рукі, падышла да мацеры: «Дык іду я, развітаймася, мама»* (П. Галавач. Дасужая). *Аканом ідзе, уцякайма!* (М. Чарот. Пастушкі). *Ды нехта крыкнуў у трывозе, у адчаі: «Уцякайма... Ратуймася...»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Спяшаймася! Пойдзем лесам да ракі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гэта Дрыль... Хаваймася!* (К. Крапіва. Партызаны). *Але кіньма лепей, мамка, гэту спрэчку!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Станьма шчыльней, маладыя долі сваёй кавалі* (А. Александровіч. Да моладзі). *Гэй, сыпма далей, там на нівы, хоць гром грымі, хоць віхар выў!* (Я. Купала. На папасе). *Запявала тупнуў, бліснуў рантам: «Хлопцы, даймА часу музыкантам!»* (М. Лужанін. Мараўская песня). *Выйдзема, хлопцы, ўсе, выйдзема, братцы, к працы вялікай на поле* (М. Чарот. Да працы).

§ 848. Для выражэння загаду ў адносінах 1-ай асобы множнага ліку ўжываюцца апісальныя формы, якія складаюцца з часціцы *давай*

і дзеяслова ў форме будучага простага часу або інфінітыва (апошні ў гэтай функцыі сустракаецца значна радзей). Пабуджэнне да дзеяння ў гэтых зваротах адбываецца звычайна ў менш катэгарычнай форме; у сумесным дзеянні, да якога заклікаюць, будзе прымаць удзел і той, хто гаворыць. Калі да дзеяння пабуджаецца некалькі асоб, то да часціцы *давай* далучаецца канчатак **-це.**

*Тут вельмі борзда вечарэе,* *д а в а й,* *зямляк,* *п а с к о р ы м* *крок* (П. Г л е б к а. Зварот). *Любая, чакай! Д а в а й з табой п а с л у х а е м, як гай спявае песню нам на мове звыклай* (П. П а н ч а н к а. Упэўненасць). *«Д а в а й ц е п о й д з е м!» — падхапіў Тадорык* (Я. К о л а с. На ростанях).

Замест часціцы *давай* зрэдку сустракаецца часціца *дай,* якая выражае просьбу дапусціць да ажыццяўлення дзеяння.

*Д а й с п а ч ы н е м ля дубравы, хоць падсушым світы-латы* (М. Ч а р о т. Атаман). *Ах, божа мой, ды садзіся ты, д а й я п а г л я д ж у хаця на цябе...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Апісальная форма, аналагічная апісальнай форме загаднага ладу 1-ай асобы множнага ліку, ужываецца часам і ў адносінах 1-ай асобы адзіночнага ліку.

*Д а в а й яшчэ п а п р о б у ю, а мо' й прывыкну да гэтых, думае, прысмакаў* (К. К р а п і в а. Рак).

§ 849. Пабуджэнне да дзеяння 3-яй асобы адбываецца праз субяседніка. Гэта пабуджэнне выражаецца пры дапамозе апісальнай формы, якая складаецца з часціцы *няхай (хай)* і дзеяслова ў форме 3-яй асобы адзіночнага або множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу. Гэта волевыяўленне таго, хто гаворыць, можа адносіцца не толькі да асобы, але і да з'яў прыроды, неадушаўлёных прадметаў, якія ўяўляюцца як адушаўлёныя. Дзейнік або ёсць у сказе, або лёгка падказваецца кантэкстам.

Апісальнай формай 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку выражаецца таксама пажаданне, заклік.

*Скажы яму, н я х а й не вельмі л е з е, але н я х а й не вельмі й п а д д а е ц ц а, н я х а й т р ы м а е ц ц а* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). *Дык н я х а й дзяўчаты с я д з я ц ь дома ды кудзелю прадуць* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Н я х а й век вам не ў б ы в а е ў жыцці сонца, кветак...* (Я. К у п а л а. Маладым на вяселлі). *Х а й л я ц і ц ь, ж ы в е на волі гучны воклік маёй песні* (М. Ч а р о т. Я пясняр лясоў, балота). *Х а й скрыпка з цымбаламі гучна з а й г р а е* (П. Б р о ў к а. Застольная). *Х а й ад краю і да краю вольнай птушкай п р а л я т а е над палямі, над лясамі наша песня веснавая* (А. Р у с а к. Веснавая песня).

§ 850. Форма загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку часта ўжываецца ў адносінах да іншых асоб. У гутарковай мове гэта форма можа мець месца ў выказванні, накіраваным да групы асоб, у такіх выпадках у сказе нярэдка ёсць зваротак, выражаны назоўнікам у форме множнага ліку.

*Кладуць лесарубы сасну за сасной. Р ы х т у й такелаж, плытагоны* (А. А л е к с а н д р о в і ч. На лесасплаве). *Стойце, хлопцы! Б у д з ь на месцы! Не кідайце на бяду...* (М. Ч а р о т. Босыя на вогнішчы). *І нават лясныя птушкі, нібыта аркестр паслушны — па графіку, як гудкі: ч а к а й, калі жоўны змоўкнуць, тады п а ч ы н а й, салоўкі, а потым ужо шпакі* (М. Л у ж а н і н. Дзве вясны). *Зладзеі прыйшлі! Людзі! Крадуць авечкі. Л а в і, л а в і злодзеяў!* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Кірмаш шумлівы... Карусель... «Гэй, р а с с т у п і с я!..» — чуецца* (А. К у л я ш о ў. Песня аб слаўным паходзе). *«Л а в і, л а в і, хлопцы, ніводнага не в ы п у с к а й!» — чуўся Міронаў голас* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Форма загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку можа мець аба-

гульнена-асабовае значэнне. Назіраецца гэта, як правіла, у прыказках, рознага роду павучэннях і інш.

*Замуж збірайся, а жыта сей* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Што ж, век жыві — век вучыся* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Апытай сягоння хоць каго, толькі і гаворкі пра яго* [Мікіту] (П. Броўка. Чараўнік). *Не чакай, калі на цябе бяда ўссядзе, зацугляй сам бяду* (Р. Мурашка. Салаўі святого Палікара). *Кажуць: на чужое не квапся* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

У значэнні 1-ай асобы адзіночнага або множнага ліку форма 2-ой асобы адзіночнага ліку можа паказваць на дзеянне, абавязковае для суб'екта, якое суб'ект вымушаны рабіць. Нярэдка пры гэтым сказу надаецца адценне абагульнення.

*Ты сабе сядзіш там, а я — чакай тут!* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Я петуйся, я ночы не спі, аб гаспадарцы дбай, а для каго, каб запытаць цябе?* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Што, Маруся, так глядзіш? Ты на трактар сядзеш, на камбайн, а я сядзі пры катле ў брыгадзе* (П. Прыходзька. Палявы кухар).

Форма 2-ой асобы адзіночнага ліку са значэннем абавязковасці дзеяння (з адценнем нежадання выконваць яго), дапушчальнасці або пажаданасці яго можа адносіцца да 3-яй асобы.

*Але не мог памірыцца з думкай аб тым, што вось ён, Сілівон, працуй гэта, карпей, дубей, намагайся, каб усё ды ў гаспадарку ды паболей* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Ну й пападзіся ён толькі ў рукі* (там жа). *А народ і цярпі праз гэтых гіцляў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 851. Формы загаднага ладу, акрамя свайго асноўнага значэння (рознага віду пабуджэння да дзеяння), могуць мець і іншыя значэнні. Найбольш часта формы загаднага ладу ўказваюць на дзеянне, неабходнае, абавязковае для суб'екта ці вымушанае, на дзеянне, якое ён робіць пастаянна. Нярэдка пры гэтым праяўляецца адценне незадаволенасці дзеяннем, нежаданне яго выконваць. Гэтыя формы могуць таксама абазначаць магчымасць або немагчымасць дзеяння. У такіх выпадках форма 2-ой асобы адзіночнага ліку можа адносіцца да іншых асоб (гл. § 830).

*Не ўмееш нічога. На кожным кроку вучы цябе* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Ён на свой «аблакацкі» агузак узваліў аж дванаццаць нагрузак. Абслужы вось тут кожнае месца, атрымай па два разы на месяц* (К. Крапіва. Пакутнікі-сумяшчальнікі). *«Бадай ты спрахла! от брыдота! Цягніся зноў, а глуш такая!» — Антось Парэчча праклінае* (Я. Колас. Новая зямля). *У вас свой прынцып, у Бародкі — свой. А нам разбірайся* (І. Шамякін. Крыніцы). Чарнавус. *Часу няма. Там універсітэт, там для дзяцей пішы. Ну, і свая асноўная даследчая работа* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Перада мной такі шырокі простор жыццёвы! Жыві, працуй, вучыся!* (П. Галавач. Дасужая).

Форма загаднага ладу можа ўказваць на дапушчэнне дзеяння, часам міжвольнае або з незадавальненнем, што такое дапушчэнне, дазвол даводзіцца рабіць.

*Кпі сабе, мой галубочак!* (Я. Купала. Сон на кургане). *Каб ты мне цэлы тыдзень вылежала, а тады ўставай сабе і рабі, што табе трэба* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Мой загон стане шырэйшым, дзьмі сабе тады хоць трэсні! Фасфарыта не развееш...* (М. Засім. Аб чым сніў, — прыждаў Рыгорка).

Гэтыя формы могуць мець таксама адценне немагчымасці ажыццявіць дзеянне, цяжкасці выканаць яго.

*Ды што, калі жэрдку якую плот залапіць, дык паспрабуй, сунься ў лес панскі, такую цану ўздулі, што хоць ты трымайся* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Але Ліпнякі большыя за Вася-*

*лоўку і маюць шмат вуліц, доўгіх і кароткіх, перакрыжаваных. Паспрабуй, паблукай без мэты па ўсіх гэтых вуліцах!* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Ну, цяпер ты, чужынец, васпане, мужыка, як раней, задаві?!* (М. Чарот. Атаман). *Вось і пакінь усё гэта, калі ты таксама клаў цагліны ў падмурак, калі і ў цябе тут былі свае радасці і свае няўдачы. Не лёгка зрабіць гэта* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Дзеясловы ўспрыняцця, мовы і думкі ў форме загаднага ладу могуць ужывацца з аслабленай інтанацыяй загаду, а часам і з некаторым сціраннем лексічнага значэння, але з экспрэсіяй.

*Гляньце — якое прыгожае неба на захадзе!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Дзівіся, зарывам расце — узыходзіць рунь* (А. Александровіч. Пагранічная вясна). *Палюбуйся толькі: травы — што не збрысці, кветак — не злічыць!* (Я. Колас. Летам). *Зусім другія краявіды, прыгледзься толькі і паслухай: ў нардоме служаць паніхіду — хаваюць межы і сівуху* (П. Броўка. Дарагое). *Панад абрывам схіленай вярбе штосьці шэпчуць сарамлівыя купавы, вяслом кранае воблака грабец, глядзі: кране і сонца неўзабаве* (А. Звонак. Хараство). *Такая прыгожая ясная сінь і ў казках, глядзі, не бывае* (П. Глебка. Герой і партызанка).

Пры своеасаблівай інтанацыі форма загаднага ладу мае значэнне, адваротнае таму, што выражае слова без гэтай інтанацыі.

*Буфетчык трасецца ад злосці: «Ну, ну, смейся! Яшчэ зубы тут мне вышчарае...»* (К. Чорны. Захар Зынга). *«Ці ж я вінаваты тут?»— абзываўся з-пад стала Банадысь. «Ты пагавары ў мяне...»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Ну, ты ім вер, яны табе нагавораць* (там жа). *І сёй-той агрызаўся: «Выхваляйцеся! Ці даўно штурмаўшчынку пакінулі?»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 852. Шырока ўжываюцца формы загаднага ладу ў складаназлучаных сказах з умоўна-выніковымі адносінамі і ў складаназалежных сказах з даданымі ўмовы і часу. Гэтыя формы ўказваюць на дзеянне, выкананне якога створыць (або стварыла б) умовы для выканання іншага дзеяння, прывядзе да іншага дзеяння ці стану, да пэўнага выніку; яны таксама могуць указваць на час, калі павінна адбыцца дзеянне, або на ўмовы, пры якіх яно павінна адбыцца ці павінна было б адбыцца.

*«От ты і шукай праўды!» — «Шукай — знойдзеш!..»* (Я. Колас. Бунт). *Крані струну ў грудзях сваіх, пачуеш звонкі водгук мая* (А. Александровіч. Струна). *Дакраніся да дрэва, зрабі толькі знак — шчодра рыне густы, узбунтаваны сок* (П. Глебка. Першамайскі салют). *Спытай толькі — вусны зварухнуцца, і паплыве гарачая размова* (М. Лужанін. Злата улічка). *Жалуды — як залатыя бочкі, стукні ў донца — кожны загудзе* (П. Панчанка. Жалуды).

*«Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол», — не вытрымаў фурман* (Я. Колас. У балоце). *Здаецца, кінь у раллю зярняты, і яны тут жа, на вачах, выкінуць з сябе імклівыя стрэлы лісткоў* (У. Шахавец. Напарнікі). *Крані хоць пальцам, дык з зямлёй змяшаю!* (Я. Купала. Прымакі). *Знайдзі пачатак — і ты зразумееш шмат што* (Б. Мікуліч. Дужасць). *Беражы і ахоўвай залатыя правы нашай роднае мовы — і ты вечна жывы* (М. Лужанін. Правадзіны). *Максім, калі будзе што са мною — не адступіся ад майго Уладзі, як бы я табе і прыпаручыў яго* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Як убачыш поле, — забірай направа, ідзі лесам па ўскраі і зноў да рэчкі выйдзеш* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Скраніся яна з месца — пайшла б на марнасць уся справа* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Насадзі сады — тады і патрабуй яблык* (І. Шамякін. Крыніцы).

Спалучэнні формы загаднага ладу без адмоўя і формы загаднага ладу з адмоўем абазначаюць абыякавасць таго, хто гаворыць, да дзеяння суб'екта, падкрэсліваюць незалежнасць паследуючага дзеяння ад таго, адбудзецца гэта першае дзеянне ці не. Інтанацыя тут нехарактэрная для загаднага ладу.

*Ты кукуй не кукуй, зязюлечка-птушка!.. Камунары цягнік прзвалі «кукушкай»* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). Сцяпан. *І ці гаманіце абім ці не гаманіце — усё роўна нічога не выйдзе* (Я. Купала. Паўлінка). Баяновіч. *Вы крыўдзіце, таварыш камісар.* Сярго. *Крыўдуйце, не крыўдуйце — ваша справа, а ўсё, што бачу я, — не дысцыпліна* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Хочаш вер ці не вер — справа, зрэшты, твая* (А. Куляшоў. Новае рэчышча). *«Круці не круці, Сцяпан Захаравіч,— гаварыў Паходня Вайчку, — а палявыя станы трэба ўвесну стварыць»* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Эт, прасі не прасі, дык ён далёка ад нас...* (Р. Сабаленка. Юнацтва ў дарозе).

Формы загаднага ладу ў спалучэннях са словам *хоць* шырока ўжываюцца ва ўступальных канструкцыях, а таксама ў параўнальных сказах і зваротах, якія маюць значэнне меры і ступені праяўлення дзеяння або стану; адценне азначальнасці тут праяўляецца з большай або меншай сілай. Формы загаднага ладу могуць мець падобнае значэнне і ў спалучэннях без слова *хоць (хаця).*

*Дзе ступіш — смешкі ды напасці, хоць налажы ты галавой* (Я. Купала. На папасе). *Але старасце далей ляцець не было куды: хоць забі, далей ні слова не помніў* (Я. Колас. Кантракт). *Яна й сюды, яна й туды, — ніяк не збыць ліхой бяды, хоць адракайся галавы, — і стала выць* (К. Крапіва. Сука ў збане). *Тут жа арэхаў столькі, што хоць ты вазы грузі ды ў Мінск адпраўляй* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Відно, хоць іголкі збірай* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Хоць дзесяць раз перамерай, усё роўна нездаволеныя будуць...* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *У яго парадак — адпусці ты грэх: і сабе на гора, і людзям на смех* (Я. Купала. Гутарка аб кепскім гаспадару). *Клопату было — не абярыся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Смажаніны кругом, толькі ведай — бяры...* (П. Броўка. Дзед Тарас). *Ну, цяпер мне не жыццё, а масленіца, толькі ўпраўляйся есці вашу рыбу* (І. Шамякін. Крыніцы). *Самы малы — не бярыся рукою! — Самы магутны — не вырвеш з зямлі* (М. Лужанін. Дубы).

Пашыраны ўмоўна-супраціўныя канструкцыі, у якія ўваходзіць форма загаднага ладу ў спалучэнні з адноснымі займеннікамі або прыслоўямі, што маюць пры сабе адмоўе. Сказы, у якія ўваходзяць гэтыя канструкцыі, указваюць на тое, што дзеянне другой часткі адбудзецца незалежна ад ступені праяўлення дзеяння першай часткі.

*І, як ні галёкай, і як ні гукай — ніхто не адклікнецца, браце, табе* (П. Глебка. У дарозе). *А пакуль на небе многа сіні, як ты, вецер, хмары ні гані...* (П. Броўка. Канец лета). *Колькі ні старайся, колькі ні затрачвай сіл, — хоць ты пластом ляж, усё роўна ўсім не ўладзіш* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Што ні кажы, а становішча незайздроснае, не пажадаеш таго і ворагу...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *І для ўсяго твайго жыцця, чаго ні пажадай, тут знойдзе ўсё душа твая, багаты ўсім мой край* (А. Русак. Мой край).

§ 853. Формы загаднага ладу ўжываюцца ў значэнні прошлага часу. Нярэдка пры гэтым яны ўзмацняюцца формай *вазьмі* або злучнікам *і*; у такіх выпадках загадны лад выражае хуткае, нечаканае або неабдуманае дзеянне.

*Мая жонка працуе разам з ёю ў экспедыцыі. Я аднойчы зайшоў да яе, а тая вазьмі і звядзі мяне з Ганнаю. Разгаварыліся і выяві-*

*лася, што абое з Рыгі...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Забрайся пад ганкавы дах і драмлі колькі хочаш, прытуліўшыся да сцяны дома* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А ён аднойчы вазьмі і прачніся, — ці можа зусім не спаў, — і выйшла ў іх з бацькам сварка* (Я. Брыль. Прапаведнікі і зладзеі).

§ 854. У гутарковай мове для аслаблення катэгарычнасці загаду часам пры форме загаднага ладу ўжываецца часціца **-ка (-тка)**. Гэта асаблівасць гутарковай мовы зрэдку адлюстроўваецца і ў мове мастацкай літаратуры.

*«Во-во! з гэтага месца! — узрадавана сказаў Лабановіч.—Ідзі-тка зірні!»* (Я. Колас. На ростанях). *«Колькі ты бульбы ў мяне брала?» — «Бульбы? Асміну брала, усяго асміну...» — «Дык давай-ка палічымся?»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *А ведаеш што, зубр, давай-ка ўначы... я пamагу* [уцячы]... *Не бойся, нас не чуюць...* (П. Панчанка. Зубр).

§ 855. Акрамя форм загаднага ладу дзеяслова, значэнне загаднага ладу можа быць выражана іншымі моўнымі сродкамі. Для перадачы катэгарычнага загаду выкарыстоўваецца неазначальная форма дзеяслова.

*Залажыць брычку і пару коні!* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *У адну хвіліну сабрацца ў дарогу!..* (М. Чарот. Свінапас). *«Не адставаць! — крычаў Гунава. — Не адставаць!»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Толькі далёка не ад'язджаць!* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Стой! Зарадзіць вінтоўкі поўнай абоймай!..* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *«Перамяніць пазіцыю!» — коратка загадаў капітан* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Формы прошлага часу закончанага трывання некаторых дзеясловаў руху і канкрэтнага дзеяння могуць выражаць пабуджэнне да дзеяння, пажаданне, каб субяседнік прыняў удзел у дзеянні, загад.

Ліда. *Пайшлі, дзяўчаты!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *«Паехалі!» — скамандаваў Амялян памочніку, залазячы на камбайн з такім жа спрытам, як і злазіў адтуль* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *А хто гэта раптам успомніў пра песню? Давайце «Вярбу над вадой». Пачалі!* (М. Лужанін. Першамайскае слова).

Значэнні загаднага ладу могуць перадаваць формы цяперашняга і будучага простага часу.

*«Эй, — кінуў ён клік цераз поле, махае народу рукою: «Сюды іх вядзеце, даволі! Канчаць будзем з гэтай брыдою!»* (Я. Колас. Адплата). *Ну, што ж, стары? Прыйдзецца нам з табой ізноў ваяваць. Бачыш, ты астаешся тут, на месцы, так ужо вырашана* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сядай на каня ды падавайся лесам на старыя выжары, папярэдзіш там, што немцы паехалі* (там жа).

Загаднасць можа выражацца і пры дапамозе прыслоўяў.

*За работу жыва, жыва! Каб нас доля не ўшчувала* (Я. Колас. Кіньце смутак). *Ціха, цёткі, не крычаць!* (А. Александровіч. Напор). *Шпарчэй, пасы! Галасней, кавадлы! Чырвонаармеец, напружней штык!* (М. Лужанін. Над Волгай).

## Умоўны лад

§ 856. Умоўны лад абазначае дзеянне магчымае, пажаданае або мяркуемае. Дзеясловы ў форме ўмоўнага ладу ўказваюць на дзеянне, якое можа ці магло б адбыцца пры пэўных умовах (такія ўмовы ў сапраўднасці могуць ніколі і не ўзнікнуць).

Умоўны лад выражаецца звычайна формай прошлага часу і часціцай **бы (б)**. Гэта часціца можа знаходзіцца як пры дзеяслове, так і пры іншых словах у сказе. Яна нярэдка далучаецца да падпарадкавальных злучнікаў *што, калі, хоць (хаця)*.

*Ен і сам не ведаў бы, што сказаць, каб яго спыталі, каму ён тут спачувае* (К. Чорны. Вясна). *Каб мелі — зорамі яны асыпалі б святліцы, блакітам лета і вясны пакрылі б камяніцы* (П. Глебка. Размова аб шчасці).

Заўвага 1. У гутарковай мове да аднаго дзеяслова можа адносіцца дзве часціцы, адна з якіх знаходзіцца пасля дзеяслова, другая — пасля слова, на якое падае лагічны націск.

*Каб не я — ён бы там кончыўся б* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). *Тут бы лесу далі б, перавозку маглі б зрабіць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Я б табе сказаў бы ўсё роўна»,— усміхнуўся Васіль* (Э. Самуйлёнак. Паляўнічае шчасце). *Аўгіня, а ты б тым часам хоць бы прайшлася венікам па хаце* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Я на тваім бы месцы ў такую б работу яго пусціла, што з-пад яго толькі пыл бы курэў. Кожны дзень аддавала б па новаму загаду. Нічога, нідзе не дзеўся б, усё б выканаў, усё б дастаў, чаго толькі мая душа зажадала б!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 2. Адна часціца можа адносіцца да двух дзеясловаў.

Ладымер. *Як заспявае, бывала, наша жанчына над дзіцём калыханку, дык, здаецца, заткнуў бы вушы ды ўцякаў на край свету* (К. Чорны. Лета). *Пра ўсё, што толькі вока ўхопіць, казаў бы ты і шырыў круг, адна бяда — жыццё не хопіць...* (М. Лужанін. Роздум).

Дзеясловы ўмоўнага ладу не маюць форм часу, але і ў іх ёсць формы трывання (*пісаў бы, напісаў бы, перапісаў бы, перапісваў бы*).

§ 857. Найбольш часта дзеясловы ўмоўнага ладу ўжываюцца для перадачы ўмовы, пры якой можа ці магло б ажыццяўляцца дзеянне. Магчымасць выканання аднаго дзеяння залежыць ад ажыццяўлення ці магчымасці ажыццяўлення другога дзеяння. Дзеясловы з такім значэннем ужываюцца пераважна ў складаназалежных сказах. Даданыя часткі такіх сказаў часцей за ўсё бываюць даданымі ўмовы.

*І колькі карысці яны далі б свету, каб адшукаць іх, каб даць ім прастор* (П. Галавач. Дасужая). *Мучаідзе адчуваў бы сябе зусім добра, каб не трэба было ехаць уначы праз балоты* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Былі б у нас усе такія — не мелі б мы з табой клопату* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Часам выражэнне ўмовы можа быць апасродкаваным. Яна вынікае з кантэксту, з папярэдняй рэплікі або можа ўгадвацца.

Мікалай. *Чаму ж ты не паскардзілася ніколі? Чаму ж ты маўчыш?* Ірынка. *Мама бедавала б, і ты нудзеў бы* (К. Чорны. Ірынка). *Не верыш ты мне, а запытаць бы чаму? Ці я, сказаў бы, кепскае што зрабіў* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *«Пэўна, вы паехалі б у лес, каб сам князь вам дазволіў?» — «Чаму ж бы не паехалі!» — адказаў хтосьці, і ўсе засмяяліся* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Вам, вядома, цяжка мяне пазнаць. Я таксама вас ніколі не пазнаў бы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Гэта б, Юрась, добра было... — тады супакойваецца і строіць далейшыя планы. —Вядома, не забылі б Чмара, атрымлівалі б весткі, пасылалі б туды газеты...»* (В. Каваль. Сялчане).

Даданая частка з дзеясловам умоўнага ладу можа абазначаць дзеянне, розную ступень праяўлення гэтага дзеяння; сказ у цэлым падкрэслівае, што дзеянне галоўнай часткі адбываецца незалежна ад дзеяння даданай часткі. У даданай частцы пашыраны спалучэнні *адкуль бы ні, куды б ні, дзе б ні, як бы ні* і г. д.

*Прывет табе, усходні вецер! Адкуль бы ты, мой брат, ні быў — з высокіх гор, марскіх глыбінь, — я заўжды рад з табой сустрэцца...* (М. Танк. Два лісты). *Дзе б я ні быў далёка, у сэрцы ты жыла, знаёмая дарожка да роднага сяла* (П. Броўка. Знаёмая дарожка). *Куды б ні вяла нас крутая дарога, за намі заўсёды ідзе перамога — у льды Антарктыды, у неба прасторы, дзе новыя ўсходзяць савецкія зоры* (С. Грахоўскі. Маё пакаленне). *Як бы ні старайся — нічога не*

*будзе* (К. Чорны. Вялікі дзень). *У пакутах радзіла, у сонцы расціла, як бы шмат**кі** зрабіў, — ты прад ёю ў даўгу* (М. Лужанін. Зварот маладосці).

Умоўны лад можа мець значэнне мяркуемасці дзеяння, якое звязана з супрацьстаўленнем.

*Спёк бы хоць бульбы, ды гэта ж бульба не водзіцца тут* (А. Александровіч. Вечар). *«Прывыкай, дачушка, да ўсяго на свеце», — адказаў бацька. Гэтага ён ёй раней ніколі не сказаў бы* (К. Чорны. Вялікі дзень). *«З сотні людзей, — сказаў ён, — дзевяноста дзевяць, напэўна, загінулі б пры такіх умовах, мой друг...»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Я сам дзіўлюся, як яшчэ мая душа трымаецца. Другі пасля такіх пачастункаў даўно падаўся б да Абрама на піва... А я яшчэ цярплю...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Дзеясловы ў форме ўмоўнага ладу пашыраны ў значэнні пажадальнасці дзеяння, пажадальнасці ажыццяўлення дзеяння ў пэўнай ступені, у пэўным кірунку і г. д. Такое значэнне часта выражае інфінітыў у спалучэнні з часціцай **бы.**

*Хоць бы поле заблішчала, хоць бы вёска ўжо хутчэй!* (Я. Колас. Палессе). ... *Між тым абедаць бы пара, бо есці хочацца Вароне* (К. Крапіва. Варона-мітынгоўшчыца). *Мне б самому пазнаць свет пуцінамі рознымі, хоць бы раз праплысці акіянамі грознымі* (П. Броўка. Дзень мой). *Я і сам прыціхаю пад клёнам: паляцець залатым бы лісцём ды упасці далёка... з пакпонам перад новай красой і жыццём* (П. Глебка. Клён завяў).

Умоўны лад можа выступаць у значэнні абвеснага ладу. Формы ўмоўнага ладу нярэдка ўжываюцца ў сцвярджэннях, якія маюць выгляд меркаванняў, а таксама для змякчэння просьбы, парады, жадання (або нежадання) таго, хто гаворыць.

*Я хацеў бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашым грамадзянствам...* (Я. Колас. У палескай глушы). *Я хацеў бы, Павел Міхайлавіч, закончыць, нарэшце, нашу размову* (К. Крапіва. Зацікаўленая асоба). *Мне б хацелася папрасіць ключ ад кватэры сястры...* (Б. Мікуліч. Цяжкая гадзіна). *Адно, што параіў бы: не закончыўшы справы, ніколі не хваліся...* (М. Лынькоў., Векапомныя дні). *«Я вельмі змарыўся за дарогу і вельмі прасіў бы Любу Дарошайну і вас таксама, — ён кіўнуў галавой да рэшты, — падтрымаць маю прапанову адпачыць у хаце»* (Р. Мурашка. Сын). *Можа ты з ім хацеў бы пабачыцца?* (К. Чорны. Вялікі дзень). *«Ці не меў бы намеру, браце Мысліцкі, убачыцца з Анішчыкам?» — пытае Храпавіцкі* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара).

Са значэннем, блізкім да значэння загаднага ладу, дзеясловы ўмоўнага ладу могуць перадаваць просьбу, параду з адценнямі нерашучасці, далікатнасці, мяккасці, могуць указваць на пажаданасць таго, каб іншая асоба выканала пэўнае дзеянне.

*Вы б, дзеткі, занеслі пасудак на тую палавіну* (Я. Купала. Паўлінка). *Калі маеце вольную гадзінку, можа б пабылі крыху ў нас* (К. Чорны. Базылевічава сям'я). Гарлахвацкі. *Ну і вы таксама... Стары чалавек! Пасаромеўся б* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Ты, стары, зубоў не загаворвай, а вось згатаваў бы яечню, а то паставіў на стол чорт ведае што* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ты, можа, трохі памаўчала б, Тэкля* (П. Глебка. Над Бярозайракой). *«Галінка-вярбінка, — прасіў верабей, — мо' пакалыхала б маіх ты дзяцей?»* (М. Танк. Галінка і верабей). *«Хоць сам не падыходзіў бы туды!» — напомніў асцярожна Банадык* (М. Танк. Янук Сяліба). *Ты, Мікола, па Вальку схадзіў бы* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

## ЧАС ДЗЕЯСЛОВА

§ 858. Катэгорыя часу дзеяслова выражае адносіны дзеяння або стану да моманту гутаркі. Паняцце моманту гутаркі ўключае ў сябе і момант, які прымаецца за аснову часавых адносін у выказванні. Дзеяслоў мае формы трох часаў: цяперашняга, прошлага і будучага.

Функцыяніраванне форм часу звязана з трываннем дзеяслова. Для дзеясловаў незакончанага трывання характэрны формы цяперашняга, прошлага і будучага (складанага) часу (*чытаю, чытаў, буду чытаць*), для дзеясловаў закончанага трывання характэрны формы прошлага і будучага (простага) часу (*прачытаў, прачытаю*).

Формы часу могуць мець прамое і адноснае ўжыванне. Пры прамым ужыванні час дзеяслова супадае з часам, калі адбываецца, адбывалася ці будзе адбывацца дзеянне. Пры адносным ужыванні форм часу ўспрыняцце формы залежыць ад кантэксту, ад іншага дзеяслова, час якога прыняты за аснову часавых адносін, форма аднаго часу ўжываецца ў значэнні другога часу.

Рэальнае значэнне часу дзеяння дзеяслова будучага часу, які ўжываецца ў дадаnай частцы складанага сказа, залежыць ад часу дзеяслова галоўнай часткі або ад часавага плана больш шырокага кантэксту.

### *Цяперашні час*

§ 859. Формы цяперашняга часу абазначаюць дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі.

Значэнне цяперашняга часу ў найбольш чыстым выглядзе маюць дзеясловы, якія ўказваюць на канкрэтнае дзеянне і якія пераважна ўжываюцца ў дыялагічнай мове.

Значэнне цяперашняга часу можа мець рад адценняў: дзеяслоў можа абазначаць дзеянне, якое адбываецца ў цяперашні час, але пачалося ў прошлым, дзеянне, якое пачынаецца ў цяперашні час, але будзе працягвацца і ў будучым, дзеянне, якое пачалося ў прошлым, адбываецца ў цяперашні час і будзе працягвацца ў будучым.

*«Як твае справы?» — «Мае справы такія: к а н ч а ю разам з бацькам на полі ворыва, м а л а ч у і ч а к а ю з горада паведамленне — ці залічаны я студэнтам. Ч а к а ю ўжо доўга і думаю, што нічога з гэтага не выйдзе»* (К. Ч о р н ы. Хвоі гавораць). *Там п р а ц у ю ц ь ад цямна сягоння яны* (А. К у л я ш о ў. Антон Шандабыла). *Вы, Коля, не так мяне з а в е ц е. Я не Рына, а Марына* (І. Г р а м о в і ч. Рына-Марына). К а н я г і н. *А вы ўсё к в і т н е е ц е, Клаўдзія Пятроўна!* (К. К р а п і в а. Мілы чалавек). *«А вы в е р ы ц е ў гэту справу?» — спытаўся ён. — «В е р у»* (Б. М і к у л і ч. Дужасць). *Але ж і вецер на дварэ ўсходжваецца* (К. Ч о р н ы. Мельнікі).

Дзеясловы цяперашняга часу могуць мець значэнне пастаяннага дзеяння або стану. Гэта значэнне непасрэдна звязана са значэннем дзеясловаў, што ўказваюць на дзеянне, якое адбываецца ў цяперашні час, але пачалося ў прошлым і будзе працягвацца ў будучым; але гэта дзеянне ўсё ж абмежавана пэўным прамежкам часу: *Пяць гадоў п р а ц у е ён на заводзе.*

Адны з дзеясловаў абазначаюць звычайныя дзеянні, якія часта паўтараюцца, другія ўказваюць на дзеянне або стан, якія характэрны для пэўнага прадмета, з'яўляюцца яго ўласцівасцю.

*З мясцовасці ў мясцовасць б я г у ц ь дарогі, як сама вечнасць, і м к н у ц ц а рэчкі, неабсяжнасць даляглядаў у з н і м а е празрыстасць сініх засцілаў. Бяроза і Дзвіна, Дняпро, Сож і Прыпяць высока ў берагах т р ы м а ю ц ь імклівую ваду. Берагі іх г у ч а ц ь параходнымі гудкамі і песнямі плытагонаў. На ўзгорках к у п ч а с ц я ц ц а лясы, балоты*

*аддаюць чалавеку торф — чорнае золата. Абноўленая зямля д а е незлічоныя багацці* (К. Ч о р н ы. Ясны дзень краіны). *У самыя спякотныя дні ад крыніцы, ад жолаба п а т ы х а е прахалодай* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Дзеясловы цяперашняга часу могуць абазначаць дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі; такія выпадкі сустракаюцца пераважна ў лірыцы.

*С т а ю ля акна, у цішы калідора, са мной р а з м а ў л я ю ц ь аршанскія зоры. Цягнік а т а к у е начная дуброва, дубы мне г а м о н я ц ь: «Здарова! Здарова!» Мне ветла м і г а ю ц ь агнямі будынкі, а вецер асенні х а п а е ў абдымкі* (П. П а н ч а н к а. Пад'язджаючы да Мінска...).

§ 860. У мове мастацкай літаратуры ў апісаннях дзеясловы цяперашняга часу звычайна выступаюць не са значэннем дзеяння, якое адбываецца ў момант гутаркі, а са значэннем дзеяння, што мела месца ў мінулым, але ўспрымаецца так, быццам яно адбываецца ў сучасны момант; гэта так званы цяперашні гістарычны час.

*І д з е Сцёпка, дзе чыгункаю па шпалах, а дзе вузенькаю сцежкаю, што павіваецца па хібах насыпу побач чыгункі, і д з е, м і н а е чырвоныя домікі будачнікаў, пераезды, купкі дрэў, а перад ім р а с к р ы в а ю ц ц а ўсё новыя і новыя рысункі дарогі: лясы, лужкі, масцікі, пажоўклыя гоні палёў, дзе пападаюцца сям-там яшчэ не прыбраныя мэндлікі аўсоў і атуленыя сіняватаю смугою далечы.*

*З кожным паваротам чыгункі, з кожнаю новаю вярстою Сцёпка глыбей а д ч у в а е ўладу гэтых незнаёмых прастораў, сярод якіх параскіданы цёмна-сінія палоскі лясоў* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

Такія апісанні часта пачынаюцца назыўнымі, безасабовымі сказамі або сказамі з выказнікам, які мае значэнне перфекта.

*Пачатак лістапада. Вечар. Лабановіч с я д з і ц ь у сваім аблюбаваным пакойчыку. На стале г а р ы ц ь лямпа пад светлым абажурам. У вокны г л я д з і ц ь густы мрок. Сівыя хмары з в і с а ю ц ь нізка, сеючы дробны дождж* (Я. К о л а с. У глыбі Палесся). *Ясны поўдзень... Поле, як мора. Зялёныя і шырокія п р а б я г а ю ц ь хвалі з аднае паласы на другую. Пяшчотна г л а д з і ц ь ласкава-ціхі ветрык з поўдня галоўкі збожжа. А яно рознымі колерамі г а р ы ц ь, да пояса к л а н я е ц ц а — х і с т а е ц ц а ў бакі...* (В. К а в а л ь. Сялчане).

Аб аднесенасці дзеяння, якое абазначана дзеясловамі цяперашняга часу, да прошлага часу сведчыць кантэкст, дзеясловы прошлага часу ў сказах, якія папярэднічаюць апісанню або ўваходзяць у яго.

*Петраград семнаццатага года. Вецер буру з Балтыкі н я с е. Пра зямлю, пра мір і пра свабоду у Расіі д у м а ю ц ь усе — д у м а е пуцілаўскі рабочы, д у м а ю ц ь шахцёры, кавалі. І салдаты і матросы х о ч у ц ь волі, міру, хлеба і зямлі* (С. Г р а х о ў с к і. Дарога да шчасця). *І ў с п а м і н а л а с я Станіславу. Ноч самотная, аплыўшая свечка, цягнік с т а і ц ь на маленькай станцыі. Станіславу не спіцца. Ён п а д ы х о д з і ц ь да акна. «Крушняярск» — вакзальная шыльда. Станіслаў н а к і д в а е шынель і в ы х о д з і ц ь на перон* (Б. М і к у л і ч. Дужасць).

Дзеясловы цяперашняга часу ў значэнні прошлага маюць пашырэнне і ў гутарковай мове. Сродкі, пры дапамозе якіх даецца ўказанне на тое, што дзеянне адбываецца ў прошлым, ужываюцца тут часцей і больш паслядоўна.

*«Я нават у камендатуру была трапіла, вось было смеху!» — «Як гэта трапіла?» — «Проста... І д у гэта я праз самы рынак, і раптам такі тут гармідар узняўся. Ці то бандытаў якіх лавілі, няйначай, з турмы хто ўцёк. Па-а-цеха! К р ы ч а ц ь, ш у м я ц ь»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). П а в а л Н я м і р а. *Я яго нёс, можа, дзесяць вёрст. Развіднела — я яго н я с у. Сонца ўзышло — я яго н я с у. Дзень у сілу ўвабраўся — я яго нясу, нясу, нясу...* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

§ 861. Формы цяперашняга часу могуць абазначаць дзеянне, якое адбудзецца ў будучым — бліжэйшым ці больш далёкім.

*Нявідны пайшоў, Нічыпар маўчаў, пазіраў яму ўслед. «Таварыш Нявідны, і я і д у з табою». Нявідны азірнуўся. «Аставайся тут і рабі тое, што я табе казаў»* (Я. Колас. Дрыгва). Падарожныя. *Не, не, паночкі! Мы не знаем, мы тут начуем толькі ўтрох, і зараз самі ад'язджаем: на рынак ладзімся, на торг* (Я. Купала. На папасе). *Заўтра прыступае да новай працы* (К. Чорны. Люба Лук'янская). Жлукта. *Ён з горада нікуды не е д з е?* (К. Крапіва. Мілы чалавек).

## *Прошлы час*

§ 862. Дзеясловы прошлага часу абазначаюць дзеянне, якое адбывалася ці адбылося да моманту гутаркі. Пры вялікай шырыні ўжывання гэтыя формы амаль не могуць перадаваць значэнні цяперашняга і будучага часу.

Дзеясловы прошлага часу незакончанага трывання абазначаюць дзеянні, якія адбываліся ў мінулым і не звязаны з цяперашнім часам, без указання на часавую паслядоўнасць гэтых дзеянняў, хоць дзякуючы кантэксту і лексічнаму значэнню дзеясловаў гэта паслядоўнасць можа быць зразумелай. Дзеясловы прошлага часу незакончанага трывання характэрны для апісанняў.

*Н і к л а жыцце ў шумным лесе, а г а л я ў с я твар зямлі, і л я ц е л і ў паднябессі з звонкім крыкам жураўлі. Восень т к а л а ўжо красёнцы мяккай чырвані ў лістах, восень спеў в я л а бясконцы, з ветрам ходзячы ў кустах; восень п р а л а кужаль тонкі — павуціння белы лён; восень шэрыя заслонкі моўчкі к л а л а на адхон* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Хутка невялікае цяпельца весела п а п ы х в а л а дымком, п а т р э с к в а л і яловыя сухія лапкі, п у с к а ў густыя струменьчыкі белага дыму спарахнелы кавалак бярэзіны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У такіх апісаннях нярэдка падкрэсліваецца паўтаральнасць дзеяння, мнагакратнасць яго праяўлення.

*Дні, адзін да другога падобныя, пацягнуліся для Ніны ў пакоях Галіноўскага. Раніцай чуць свет у с т а в а л а. П р ы б і р а л а ў пакоях. Жылёлу ў дварэ д а г л я д а л а. Каля печы х а д з і л а. Ціхенька р а б і л а ўсё, каб не ўзбудзіць без пары гаспадароў* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

Дзеясловы прошлага часу незакончанага трывання могуць абазначаць дзеянне без указання на тое, працяглае яно або непрацяглае.

*Вада л і л а с я з вядзёр у цэбар* (Я. Колас. У палескай глушы). *Пуня ўжо г а р э л а зверху* (К. Чорны. Прасторны дом). *Праз якую хвіліну, адважна размахваючы падзёртымі локцямі і лупячы з усіх сіл голымі пяткамі па конскіх баках, Піліпчык і м ч а ў с я па лесе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Дзеясловы прошлага часу закончанага трывання могуць канстатаваць дзеянні, якія адбыліся ў прошлым і не звязаны з цяперашнім часам.

*Гальвас с е ў, з а к у р ы ў і в ы й ш а ў* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Раптам ён у з н я ў с я і с е ў на ложку, с х а п і ў Таніны рукі і з а г а в а р ы ў, нібы заікаючыся: «Мая... Ты — мая дачка...»* (В. Каваль. Мацней за смерць). *З ы к н у ў, б р а з н у ў сталлю — цыгуном цягнік, уздрыгануў ад натугі, р у ш ы ў с я...* (П. Галавач. Дасужая).

Часам гэтыя дзеясловы абазначаюць дзеянні, якія адбыліся ў прошлым, але вынікі якіх застаюцца наяўнымі і ў цяперашнім часе; гэта — значэнне так званага перфекта.

*Ляжыць Міхал маўклівы, смутны, і вочы в ы ц в і л і і мутны, глядзяць у глыб душы гаротна, глядзяць тужліва і маркотна* (Я. Колас.

Новая зямля). *Удзень зайшоў у кааперацыю былы сусед Вольчыных бацькоў. «П а е х а л а?» — запытаў Дзядзюля. «П а е х а л а», — адказаў чалавек* (К. Ч о р н ы. Макаркавых Волька).

Дзеясловы прошлага часу закончанага трывання могуць указваць на дзеянні, якія адбыліся ў прошлым непасрэдна перад сучасным момантам.

М а к с і м. *У мяне, бачыце, сёння ўнукі п а з'я з д ж а л і с я* (К. Ч о р н ы. Базылевічава сям'я). *Бадай што кожны дзень яна ставіла на столік пучок кветак у шклянцы вады і ветліва гаварыла: «Мартын Андрэевіч, а я вам кветак п р ы н е с л а...»* (В. К а в а л ь. Мацней за смерць). *Нейкі хлапчук, перабягаючы вуліцу, убачыў пісьмо і гукнуў Вэню наўздагон: «Дзядзька, пісьмо з г у б і л і!»* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская).

§ 863. Дзеясловы прошлага часу зрэдку ўжываюцца ў значэнні будучага часу, які наступіць адразу пасля моманту гутаркі. Такое значэнне дзеясловы маюць у гутарковай мове.

*Прынясу снапоў, у печы насушым, заўтра змялю ў жорнах—от табе і хлеб будзе. Ну, я п а й ш о ў* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

У гутарковай мове формы прошлага часу могуць служыць для экспрэсіўнага адмаўлення ў будучым.

*Гэта ж жартачкі — зямлі кавал, добры кубел. Гэта ж тых грошай куча... Дужа яны валяюцца па дарозе, задарма от сыплюцца ў рукі. Так яны й д а л і с я табе ў рукі...* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах). *Так ён цябе і п а с л у х а ў. Чакай* (там жа). *«Таго і глядзі, з жывых скуру здзяруць, калі зловяць вось». — «Так яны і з л а в і л і! Дамся я ім, гадам!»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Вось няхай толькі сучка Жагулава ашчэніцца, непрыменна шчанюка вазьму», — рашыў раптам Тодар Пошта. — «Так табе Жагула і д а ў шчанюка!»* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

§ 864. У сучаснай беларускай мове побач з простымі формамі прошлага часу пэўнае месца займаюць і складаныя формы, якія ў асноўным бытуюць у гутарковай мове. Яны складаюцца з дапаможнага дзеяслова *быць* у форме прошлага часу *(быў, была, было, былі)* і дзеяслова прошлага часу. Дапаможны дзеяслоў звычайна мае форму таго ж роду і ліку, што і асноўны дзеяслоў *(быў пайшоў, была пайшла, былі пайшлі)*.

З а ў в а г а. Зрэдку ў мове мастацкай літаратуры ў складанай форме прошлага часу пры форме прошлага часу мужчынскага або жаночага роду, а таксама пры форме прошлага часу множнага ліку сустракаецца дапаможны дзеяслоў у форме прошлага часу ніякага роду.

*Ён хацеў нават б ы л о сам п а п р а с і ц ь Данілу Платонавіча, каб той вярнуўся ў школу, але не адважваўся* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Зусім б ы л о з а б ы ў. Гэта табе* (Б. М і к у л і ч. Зорка). *З а п і с а л і с я б ы л о ўсяго некалькі жанчын, а то ўсё мужчыны, ды і тых нямнога* (К. Ч о р н ы. Свята працы і свету).

Складаныя формы прошлага часу, як правіла, абазначаюць даўно мінулае дзеянне; гэта — значэнне так званага плюсквамперфекта. Яны ўжываюцца ў сказах з аднароднымі выказнікамі, дзе простыя формы прошлага часу канстатуюць дзеянні, што адбываліся пасля дзеяння, на якое ўказвае складаная форма.

*Ён нават р а с к а р ч а в а ў б ы ў чатыры дзесяціны зямлі і падбіраўся пад пятую* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Якраз тады п р ы е х а л і б ы л і з горада рабочыя і прынялі шэфства над вёскай* (К. Ч о р н ы. Свята працы і свету). *Паліцай з а ш ы ў с я б ы ў у капу саломы, сціснуўся там, задрамаў. Дубок узяў яго аўтамат, адчапіў гранату* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

У дадзенай частцы складаназалежных сказаў гэтыя формы абазначаюць больш ранняе дзеянне, чым дзеянне, аб якім гаворыцца ў галоўнай частцы.

*Ён упаўнаважыў забіраць нашу зямлю таго самага Леапольда Гушку, які быў у нас за парабка і якога вы некалі б ы л і са службы в ы г н а л і* (К. Ч о р н ы. Драма «Бацькаўшчына»). *Хто с у с т р э ў с я б ы ў*

*са мною, дакрануўся раз ці два, дык той ведае ўжо, хто я: я — пякучка-крапіва* (К. Крапіва. Верш «Крапіва»).

Ужываюцца складаныя формы прошлага часу і ў адзінкавых выпадках у простых сказах для абазначэння даўно мінулага дзеяння.

*Я іх раней за цябе быў наглядзеў* (К. Чорны. Драма «Бацькаўшчына»). *У Пераброддзі склалася была прымаўка: «З трапятання карысці, як з Магдаленінага пуху»* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *У час змагання цёмных мас, у час галечы і развалу, была апанавала нас гання драпежная шакалаў* (К. Крапіва. Дзве выстаўкі). *Некалькі з іх заглядзеліся былі на бліжэйшае дрэва, дзе сухая звіслая галінка гойдалася на лёгкім ветры і ціха шамацела завялым лісцем* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Складаныя формы прошлага часу сустракаюцца ў сказах, якія маюць адценне перарванасці дзеяння, супрацьстаўлення: дзеянне, якое абазначана складанай формай, перапыняецца, затрымліваецца або не можа адбыцца з-за другога дзеяння, на якое пераважна ўказвае простая форма прошлага часу.

*Тады з'явілася была ў Паўла думка падысці да яе і пагаварыць з ёю. А як ступіў ён два крокі наперад, асядаць і гінуць пачала гэта думка* (К. Чорны. Па дарозе). *Пяць кароў былі сышлі, сёння раніцой толькі аказаліся* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка). *Адтуль, дзе чулася раней чыясьці чужая каманда, пачалася была страляніна. Але кулі не ляцелі сюды. Стралялі, відаць, у бок Гарбахі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тацяна хацела была супярэчыць, але не ўправілася сказаць і некалькі слоў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *А ведаеш, Андрэй, нашаму заводу былі прапанавалі выпускаць легкавыя машыны, аднаму цэху, ці што, але Арцём Паўлавіч адмовіўся* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

Гэтыя ж формы ў сказах са словамі *каб, бадай* маюць значэнне пажадання. Такія выразы сустракаюцца ў гутарковай мове, яны маюць яркую эмацыянальную афарбоўку.

*Ото бяспамятны дурніца! Бадай ты спрогся быў, тупіца!* (Я. Колас. Новая зямля). *«Цьфу, млын пусты! ото завала, бадай табе было зарвала!» — і злосна лае дзядзьку цётка...* (там жа).

§ 865. У значэнні прошлага часу ўжываюцца спалучэнні часціцы *бывала* з формамі цяперашняга, будучага або прошлага часу. Пераважна з гэтай часціцай спалучаюцца формы цяперашняга часу незакончанага трывання і будучага часу закончанага трывання. Аднак у межах аднаго кантэксту з часціцай *бывала* могуць мець месца формы прошлага, цяперашняга і будучага часу. Гэта часціца надае адценне мнагакратнасці дзеяння.

*Маці твая здаровай жанчынай была, працавітай. Бывала, усё лета ў заработкі хадзіла да паноў у маёнтак* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Спатыкаемся, бывала, усе на полі, пасыходзімся — пасвім, скародзім; а пасля, як падраслі, араць пачалі* (К. Чорны. Вясна). *Бывала, імчыцца вей-вецер і веццё лёгкім павевам авее* (А. Александровіч. Сасна). *Як прынясуць, бывала, есці, дык набярэцца моўчыкам ды зноў на бок* (К. Крапіва. Угоднікі-маўчальнікі). *Там жа людзі жылі, я іх ведаў, бывала, толькі выйдзеш — і сябра дастанеш рукой* (М. Лужанін. Зварот маладосці).

§ 866. Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асноў інфінітыва пры дапамозе суфікса **-л- (-ў-)** і канчаткаў: жаночага роду — **-а**, ніякага роду — **-а (-о)**, форм множнага ліку — **-і**. Дзеясловы мужчынскага роду адзіночнага ліку канчатка не маюць: *чытаць — чытаў, чытала, чыталі; спець — спеў, спела, спелі; раўці — роў, раўла, раўло, раўлі.*

Дзеясловы, якія ў інфінітыве заканчваюцца на **-сці** і маюць аснову цяперашняга часу на **д** або **т**, у формах прошлага часу страчваюць гэтыя

**д, т,** суфікс **-л- (-ў-)** далучаецца да галоснага асновы: *весці — вёў, гусці — гуў, класці — клаў, красці — краў, месці — мёў, плесці — плёў, сесці — сеў, цвісці — цвіў.*

У дзеясловах на **-ці, -сці,** аснова цяперашняга часу якіх заканчваецца не на **д, т,** формы мужчынскага роду адзіночнага ліку маюць на канцы апошні зычны асновы. У формах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і ў формах множнага ліку далучаецца суфікс прошлага часу і адпаведны канчатак: *везці — вёз, везла, везлі, грызці — грыз, грызла, грызлі, лезці — лез, паўзці — поўз, несці — нёс, трэсці — трос, грэбці — гроб, дзяўбці — дзёўб, скрэбці — скроб, скубці — скуб, сапці — соп, храпці — хроп, раўці — роў, перці — пёр, церці — цёр, распасцерці — распасцёр.*

У дзеясловах на **-чы,** калі перад **-чы** знаходзіцца галосны, **ч** у формах прошлага часу замяняецца на **к,** у астатніх дзеясловах на **-чы** форма прошлага часу мужчынскага роду заканчваецца на той зычны асновы, што знаходзіцца ў інфінітыве перад **-чы.** Формы жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і формы множнага ліку ўтвараюцца шляхам далучэння суфікса **-л-** і адпаведнага канчатка: *валачы — валок, валакла, валакло, валаклі; запрэгчы — запрог, збеграчы — збярог, легчы — лёг, магчы — мог, пячы — пёк, сячы — сек, стрыгчы — стрыг, сцерагчы — сцярог, цячы — цёк, зрачыся — зрокся, урачы — урок, вырачыся — вырокся.*

Дзеясловы з суфіксам **-ну-** ўтвараюць формы прошлага часу па-рознаму. У дзеясловах другога прадуктыўнага класа суфікс **-л- (-ў-)** далучаецца да асновы з суфіксам **-ну-:** *бадануць — баднуў, баднула, баднулі, бліснуць — бліснуў, буркнуць — буркнуў, войкнуць — войкнуў, глынуць — глынуў, гукнуць — гукнуў, дзюбнуць — дзюбнуў, дыхнуць — дыхнуў, жахнуцца — жахнуўся, зазірнуць — зазірнуў, звярнуць — звярнуў, калыхнуць — калыхнуў, лопнуць — лопнуў, махнуць — махнуў, пікнуць — пікнуў, скрыпнуць — скрыпнуў, трэснуць — трэснуў, шчыпнуць — шчыпнуў.*

У дзеясловах трэцяга непрадуктыўнага класа, якія абазначаюць змяненне стану прадмета, суфікс **-ну-,** як правіла, пры ўтварэнні форм прошлага часу страчваецца. Асабліва паслядоўна гэта праводзіцца ў прыставачных дзеясловах: *вязнуць — вяз, вязла, вязлі, гразнуць — граз, грузнуць — груз, дохнуць — дох, мокнуць — мок, пухнуць — пух, сохнуць — сох, тухнуць — тух, абвіснуць — абвіс, завязнуць — завяз, згоркнуць — згорк, зжойкнуць — зжойк, аслепнуць — аслеп.*

У выніку ўплыву дзеясловаў другога прадуктыўнага класа беспрыставачныя дзеясловы непрадуктыўнага класа ў формах прошлага часу нярэдка ўжываюцца з суфіксам **-ну-,** асабліва ў формах мужчынскага роду адзіночнага ліку. Некаторыя з іх у такім выглядзе нават замацаваліся ў якасці нормы літаратурнай мовы (гл. § 768): *віснуць — віснуў, вязнуць — вязнуў, гінуць — гінуў, горкнуць — горкнуў, гразнуць — гразнуў, грузнуць — грузнуў, жойкнуць — жойкнуў, смагнуць — смагнуў, тхнуць — тхнуў.*

### *Будучы час*

§ 867. Дзеясловы будучага часу абазначаюць дзеянне, якое адбудзецца ці будзе адбывацца пасля моманту гутаркі. Дзеясловы будучага часу маюць формы будучага простага і будучага складанага.

§ 868. На дзеянне, якое адбудзецца ў абмежаваны прамежак часу, указваюць дзеясловы будучага простага. Формы будучага простага па канчатках супадаюць з формамі цяперашняга часу. Ад апошніх яны адрозніваюцца прыстаўкамі або суфіксамі, якія служаць для ўтварэння форм закончанага трывання.

*Вёска ў с т а н е перад імі, хаткі дарагія, ўсе куточкі, дзе прабеглі леты маладыя* (Я. Колас. Перад дарогаю). *«А калі Лук'янская п р ы й д з е?» — запытала Валя. «Яна п р ы й д з е мусіць няскора»* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Жданко памаўчаў, потым узняўся і рашуча сказаў: «Добра, я п а е д у»* (І. Шамякін. Крыніцы).

Дзеясловы будучага простага могуць указваць на дзеянне, якое адбудзецца адразу пасля моманту гутаркі. Аб гэтым сведчыць кантэкст, у прыватнасці пэўныя словы і выразы. Часам выкананне дзеяння адцягваецца на больш позні час; гэта таксама відаць з пэўных выразаў або з кантэксту.

*«То ён, кажаце, зараз сюды в ы й д з е?» — «Зараз в ы й д з е»* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Я п а й д у ў хату, п а г л я д ж у раны... Вы пільнуйце іх, каб не збеглі* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *«Не, я з а к у р у!» — як заўсёды пры гэтым адказаў я...* (Б. Мікуліч. Гадзюка ў кароне). *Цяпер мы п о й д з е м дарогай проста на ўсход* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Заўтра а дванаццатай гадзіне ўсе мы з б я р э м с я на Прыстаньцы, непадалёку ад Лядзін* (Я. Колас. На ростанях).

Ажыццяўленне дзеяння, якое абазначана формай будучага простага часу, пашыраецца зрэдку не толькі на будучы, але і на цяперашні час.

*І Хвядос — не н а г л я д з і ц ц а — незвычайна, дзіўна гэтак!* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос). *І не п а з н а е ш, ці то шалахціць ігліца, ці то зоры варушацца і цярушацца там, ападаючы раз-поразу бліскучай znічкай — рыскай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У формах будучага простага значэнне часу можа аслабляцца, страчвацца; гэтыя формы ўказваюць тады на звычайныя, прывычныя дзеянні. У такой функцыі дзеясловы будучага часу падобныя да дзеясловаў цяперашняга часу з аналагічным значэннем (гл. § 859). Гэтыя дзеясловы могуць канстатаваць і простую аднесенасць дзеяння да будучага, адцягнена ўказваць на будучы час.

*Час з а г о і ц ь раны* (Я. Колас. Дзяўчыне). *Прынцыповых людзей партыя заўсёды п а д т р ы м а е!* (І. Шамякін. Крыніцы). *Трудна першы грыб з д а б у д з е ш, а другі ўжо сам ідзе, бо яны, як мы, як людзі, любяць жыць у грамадзе* (П. Глебка. Грыбы).

Формы будучага часу дзеяслова *быць* у пэўных выразах ужываюцца са значэннем пазачасавасці. Такое функцыяніраванне гэтай формы характэрна для гутарковай мовы.

*«А сам хто б у д з е ш?» — запытаўся і ён. «Дубяга Пракоп, з вёскі Затонне...»* (Я. Колас. Адшчапенец). *«Скуль, дзяўчынка, б у д з е ш родам, хто твой бацька, маці?» А яна яму гаворыць, пахіліўшысь нізка: «Старшыні я дочка б у д у з гэтай вёскі блізкай»* (Я. Купала. «Братка і сястрыца»). *«А дэзерціраў ловім». — «А хто яны такія б у д у ц ь, суседзе?»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *«Хто вы б у д з е ц е?» — спыталіся яе* (К. Чорны. На граніцы).

Дзеясловы будучага простага часу выражаюць таксама пабуджэнне да дзеяння, надаюць адценне неабходнасці ажыццявіць дзеянне, служаць для перадачы загаду з рознымі адценнямі катэгарычнасці.

*«А цяпер п а с л у х а е м цябе», — ён уступіў дзяўчыне месца, а сам сеў збоку* (І. Шамякін. Крыніцы). *«У цябе, Бучу, — сказаў Гвазава, — ёсць ладны падсвінак. Тапурыя п р ы н я с е курэй, Гаці — малодшая, ты аддасі барана»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Тады старэйшая дала ёй кухталь у спіну. «Ты ўжо ў мяне з м о ў ч ы ш... вось паспрабуй яшчэ!»* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Камандзір артылерыйскай часці меў перад сабой задачу. Часць з о й м е пазіцыю і в о з ь м е пад абстрэл шашу* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Заўтра п а е д з е м, Шапавалаў, у Крыніцы: Касцянок падпіша пісьмо* (І. Шамякін. Крыніцы).

Формы будучага простага часу шырока ўжываюцца ў бяззлучнікавых і складаназлучаных сказах са значэннем умовы або выніку дзеяння, у складаназалежных са значэннем умовы, у складаназлучаных

і бяззлучнікавых са значэннем неадпаведнасці і супрацьстаўлення, а таксама ў простых сказах, дзе другі выказнік абазначае вынік дзеяння, на якое ўказвае першы выказнік. Дзеясловы будучага часу ў многіх выпадках тут абазначаюць прывычныя дзеянні, указанне на час дзеяння нярэдка аслабляецца.

*Вясна прыйдзе, снег пагіне* (Я. Колас. Вясна). *Загудзе гудок фабрычны — пакідаю свой варштат* (А. Александровіч. Завязка). *Новы ліст прынясеш мне — я новы адказ напішу* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Гукнеш — абзавуся, твой просты салдат, на паверцы. Пашлеш — дамагуся, здабуду яшчэ перамогу* (М. Лужанін. Партыі). *З аднаго месца прагоніш — на другое ляцяць* (І. Грамовіч. Каралева палёў). *А як кіне погляд смелы, так і згоніць з сэрца цень* (Я. Колас. Паслушная жонка). *Як толькі бедны Вараны адчэпіцца ад бараны, дык тут жа ў плуг яго ці ў воз, і не на ўме яму ні сена, ні авёс* (К. Крапіва. Вараны). *Яно скварку добрую як убярэш, тады і сякерай у ахвоту намахаешся і любы краж зваліш* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Мне адгэтуль мястэчка відно, недалёка ад нас яно, калі пойдзеш полем напрост, — да мястэчка дванаццаць вёрст, а як пойдзеш шляхам, — дванаццаць з гакам...* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *З той пары успомню Украіну — і ўсплывае вобраз кожны раз: «Заповіт» пяе ў цішы дзяўчына над магілай слаўнай Кабзара* (П. Панчанка. Успамін). *Калі ж вёска ў змроку гляне бляскам вокан, для хлапецкай песні свет, здаецца, цесны* (К. Крапіва. Мікітка). *Вясновае сонца вачэй не працрэ, а дзеда ўжо клопат, руплівасць бярэ...* (К. Крапіва. Калгасны дзед). *Не да сну. Заснеш і праспіш свет белы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 869. Пры дапамозе форм будучага простага часу выражаюцца розныя адценні прошлага часу. У апавядальным і апісальным выкладзе гэтыя формы ўжываюцца з часціцай *бывала* (гл. § 865) або без яе, у адным кантэксце з формамі цяперашняга, а таксама і з формамі прошлага часу. У некаторых выпадках пры гэтым яскрава падкрэсліваецца паўтаральнасць дзеянняў у прошлым або наогул па-за часам.

*Прыеду я адкуль, а ён выбежыць насустрач і кідаецца каня распрагаць. Каб яго не кідаць у скруху, я дам яму за павады патрымацца, ён рад, ходзіць за мной следам, распытвае пра ўсё і сам мне свае дзіцячыя справы расказвае* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Вецер вые, не сціхае, дзіка ў коміне шуміць, то заплача, заспявае, то па стрэсе прабяжыць* (Я. Колас. Асенні вечар). *Лаўрэн ляжыць на спіне, узіраецца ў нябесныя глыбіні, прыслухоўваецца да начных гукаў. То трэсне галінка ў цяпельцы, зашуршыць асакой узбуджаная вадзяная хваля, дзесьці на вёсцы прапяе певень* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Не паварухне каласамі жыта. Ціхутка стаяць за жытам дрэвы* (Р. Мурашка. Салаўі святога Палікара). *Бегучы, Сцёпка толькі бліснe на яе сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца грозна, але кінуць ёй якое-небудзь слова няма часу — Сцёпка імчыцца далей* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Формы будучага простага часу, пры якіх ёсць узмацняльныя часціцы *як, калі,* абазначаюць нечаканае, імгненнае дзеянне ў прошлым. Такое ўжыванне будучага часу характэрна для размоўных стыляў.

*Раптам пеўнік дзесь з-за печы, як і робіць ён спрадвеку, ці ў свой час ці недарэчы, як зацягне — ку-ка-рэ-ку!* (Я. Колас. Паслушная жонка). *Ну й сярдзітыя ж, адзін яшчэ мяне як вытне* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *І нейкі парыў штурхнуў дзявочае сэрца. Вы не ведаеце яе характару! Вось тут, у грудзях яе, нешта як задрыжыць, і думка падказвае: «Надзя, вось так зрабі!»* (І. Грамовіч. Калі паспелі антонаўкі). *Але раптам калі гляне — на нябесным на экране у музеі мёртва-сонны сам Хвядос сваёй персонай* (К. Крапіва.

Хвядос — чырвоны нос). *Ён прыгнуўся, і я ўбачыў на яго шыі чырвоны рубец ад нагайкі. «Адзін к а л і  с в і с н е...»* (К. Ч о р н ы. Буры).

§ 870. Дзеясловы будучага складанага часу ўтвараюцца шляхам спалучэння формы будучага часу дапаможнага дзеяслова і інфінітыва асноўнага дзеяслова. Яны абазначаюць дзеянне, якое будзе адбывацца пасля моманту гутаркі. Гэта будучае дзеянне звычайна не звязана з цяперашнім часам, адбываецца яно ў большы адрэзак часу, чым дзеянне, на якое ўказвае будучы просты.

*Доўга б у д з е думка злая сэрца жалем к а л ы х а ц ь?* (Я. К о л а с. На ростанях). *Ну, і што ж мы цяпер б у д з е м  р а б і ц ь?* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Дык я  б у д у  ч а к а ц ь  вас, толькі хутчэй...* (П. Г а л а в а ч. Дзве сцежкі). *А на полі жніво... І пад ценем снапоў, над калыскаю сына матуля б у д з е казкі к а з а ц ь, б у д з е песні с п я в а ц ь, і тады адпачыне матуля* (П. Г л е б к а. Матчыны казкі).

Дапаможны дзеяслоў пераважна знаходзіцца перад інфінітывам, але ў стылістычных мэтах ён можа ўжывацца і ў прэпазіцыйным становішчы адносна інфінітыва, адзін дапаможны дзеяслоў можа адносіцца да некалькіх інфінітываў.

*Кінуў ён гульню з сябрамі — трэба дбаць на хату, п а м а г а ц ь ён б у д з е маме, бацьку, сёстрам, брату* (Я. К о л а с. Першы заработак). *Яшчэ канчалі ганак цеслі, а ў хату новую хутчэй з зямлянкі стол і хлеб прынеслі і спрабавалі, як г у ч э ц ь сасновы  б у д з е  зруб ад песні, ад дружных тостаў і смыкоў, ад танцаў, грукату падкоў* (М. Т а н к. Навасёлы). *Б у д у ц ь ветры за вугламі в ы ц ь  і  п л а к а ц ь  і  с т а г н а ц ь* (Я. К о л а с. Пад шум ветру). *С у м а в а ц ь  і  к а я ц ц а  не  б у д з е ц е, запэўніваю вас* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая).

§ 871. Лексічна абмежаваная група дзеясловаў будучага складанага і будучага простага часу можа выражаць значэнне самага бліжэйшага будучага, указваць на дзеянне, якое пачынаецца ўжо ў момант выказвання. У радзе выпадкаў дзеясловы будучага часу тут маюць значэнне дзеясловаў цяперашняга часу, большасць гэтых дзеясловаў служыць для выражэння просьбы, патрабавання, загаду.

*Я  в о с ь  б у д у  п р а с і ц ь  пана настаўніка, каб цябе часцей на калені ставіць ды яшчэ грэчкі падсыпаць* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Але тым часам зноў загаманіў Анішчык: «Прабачце мне, што зноў б у д у  т у р б а в а ц ь вас. Я хацеў прасіць вас... Калі давядзецца астацца на сякі-такі час, то проша да мяне...»* (Р. М у р а ш к а. Салаўі святога Палікара). Т у л я г а. *Вось што я вас  п а п р а ш у, таварыш Левановіч. Дайце мне слова, што вы не патрывожыце яго яшчэ некалькі дзён* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім).

З а ў в а г а 1. Формы будучага часу пры спецыфічнай інтанацыі могуць служыць для адмаўлення дзеяння, як нехарактэрнага для пэўнай асобы, для выражэння нязгоды з такім дзеяннем.

*«Ты сапраўды-такі бачыла яе? У камендатуры?» — «Ну вось яшчэ м а н і ц ь табе б у д у! Бачыла, гаварыла»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Нешта сядзіце вы тут, як куры на седале. Паснулі ці што?» — «З а с н е ш тут!» — мармытнуў пад нос Сымон* (там жа). *«Ну, напішы што-небудзь. Як наша Гэля». — «Якраз, вельмі твая Гэля н а п і ш а!..»* (Я. Б р ы л ь. Надпіс на зрубе).

З а ў в а г а 2. У мове мастацкай літаратуры часам знаходзіць адлюстраванне такая асаблівасць паўднёвых беларускіх гаворак, як ужыванне сінтэтычнай формы будучага часу (з асабовымі формамі дапаможнага дзеяслова *іму*) — *хадзіцьму, хадзіцьмеш, хидзіцьме, хадзіцьмем, хадзіцьмеце, хадзіцьмуць.*

*Калі перамогу зайграюць шырокія маршы жыцця, — я першай с т а я ц ь м у ад краю, высока ўзнімаючы сцяг* (П. Г л е б к а. Умоўны знак). *Калі ж зацвіце, зашуміць канюшына, ты ў цішы  д а г л я д а ц ь м е ш  і сад і дом...* (А. К у л я ш о ў. Антон Шандабыла). *Цяпер ён можа сюды прыехаць і не в е д а ц ь м е, дзе мы і дзе знайсці нас* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *А цымбалы? А іх напаследак яна берагла. Грошай м е ц ь м е нямала, бо ім немалая цана* (А. К у л я ш о ў. Прыгоды цымбал). *«Го, абармоты! Няма на іх упадку! — з горыччу патрос дзед галавою. — І чым жа худобу к а р м і ц ь м е м?..»* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Аднастайна і тонка снасцю вельмі тупою да апошняй старонкі д р а т а в а ц ь м у ц ь таполю* (М. Л у ж а н і н. Таполя). *Калі ж ы ц ь м е ц ц а, то набудзецца* (Я. С к р ы г а н. Сустрэчы).

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

§ 872. Дзеепрыметнік — гэта дзеяслоўна-іменная форма, што абазначае дзеянне як прымету або ўласцівасць прадмета (асобы), якая праяўляецца ў часе. Гэта форма мае рысы дзеяслова і рысы прыметніка.

Дзеепрыметнік, як і дзеяслоў, характарызуецца наяўнасцю катэгорый стану, часу, трывання. З дзеясловам дзеепрыметнік зблiжае і тое, што ён захоўвае кіраванне таго дзеяслова, ад якога ўтвораны.

Дзеепрыметнік, як і прыметнік, мае формы роду, склону і ліку, дапасуючыся да назоўніка, да якога ён адносіцца.

У адрозненне ад дзеяслова гэта форма не мае катэгорый ладу і асобы, а ў адрозненне ад прыметнікаў у ёй адсутнічаюць ступені параўнання.

Дзеепрыметнікі бываюць незалежнага, залежнага і сярэдне-зваротнага стану. Дзеепрыметнікі н е з а л е ж н а г а стану ўтвараюцца ад пераходных і непераходных дзеясловаў і абазначаюць дзеянне самога прадмета або дзеянне, якое адбываецца незалежна ад прадмета. Дзеепрыметнікі з а л е ж н а г а стану ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў і ўказваюць, што прадмет ці асоба падвяргаецца дзеянню з боку іншага прадмета ці асобы, гэта дзеянне ўспрымаецца як прымета прадмета. Да с я р э д н е-з в а р о т н а г а стану адносяцца дзеепрыметнікі з часціцай **-ся.**

Дзеепрыметнікі маюць формы цяперашняга і прошлага часу і не маюць формы будучага часу. Значэнне часу дзеепрыметніка залежыць ад часу дзеяслова-выказніка.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу абазначаюць дзеянне, адначасовае з дзеяннем дзеяслова-выказніка. Дзеепрыметнікі прошлага часу абазначаюць вынік дзеяння, які адносіцца да часу дзеяння дзеяслова-выказніка (дзеепрыметнікі закончанага трывання), дзеянне, якое папярэднічае дзеянню дзеяслова-выказніка (дзеепрыметнікі закончанага і незакончанага трывання). Дзеепрыметнік можа мець і абсалютнае значэнне часу (гл. § 881).

Трыванне дзеепрыметніка залежыць ад трывання дзеяслова, ад якога ўтвораны дзеепрыметнік. Дзеепрыметнікі незакончанага трывання маюць формы цяперашняга і прошлага часу, дзеепрыметнікі закончанага трывання маюць форму прошлага часу.

### *Дзеепрыметнікі незалежнага стану*

§ 873. Дзеепрыметнікі незалежнага стану, якія ўтвараюцца ад незваротных пераходных і непераходных дзеясловаў, маюць формы цяперашняга і прошлага часу.

§ 874. Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў **-уч- (-юч-)** і **-ач- (-яч-)** і канчаткаў прыметнікаў мужчынскага, жаночага або ніякага роду адзіночнага ліку або канчаткаў прыметнікаў множнага ліку.

Для беларускай літаратурнай мовы ўжыванне гэтых дзеепрыметнікаў не характэрна. Сустракаюцца яны часам у мове мастацкай літаратуры, у навуковых творах, у мове газет і часопісаў. Па форме такія дзеепрыметнікі супадаюць з дзеепрыслоўямі і з'яўляюцца ў адносінах да апошніх амонімамі.

*Яна глядзела на ўсё нічога не б а ч а ч ы м і вачыма і думала толькі аб адным: як бы хутчэй дабрацца дахаты і апынуцца, урэшце, у сваім родным абжытым гняздзе* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Падыходзячы да вакзала, заўважыла і д у ч а г а насустрач мужчыну са знач-*

*ком* (П. Галавач. Дасужая). *Жыве ў душы газетчыка гэты гонар, і будзе ён жыць да таго часу, пакуль грымяць ратацыі, што тысячамі адлічваюць пахнучыя свежай фарбай газетныя лісты* (І. Навуменка. Рэдактарава хата). *Методыка даследавання заключалася ў рытмічным раздражненні велікагалёначнага нерва таго і другога боку градуальна ўзрастаючымі па частаце прамавугольнымі імпульсамі...* («Весці АН БССР»). *Устараненне прычын, выклікаючых захворванне бульбы пяршой, і з'яўляецца асноўным пры барацьбе з гэтай хваробай* (П. І. Альсмік, І. І. Пушкароў. Бульба).

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу незакончанага трывання нярэдка пераходзяць у прыметнікі. Гэта так званыя ад'ектываваныя дзеепрыметнікі. Яны маюць пэўнае пашырэнне ў якасці састаўных частак тэрмінаў у навуковай літаратуры (гл. § 882).

§ 875. Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу ўтвараюцца ад асноў дзеясловаў прошлага часу закончанага і незакончанага трывання, блізкіх да асноў інфінітыва, пры дапамозе суфіксаў **-ш-, -ўш-**. Суфікс **-ш-** далучаецца да асновы на зычны, суфікс **-ўш-** — да асновы на галосны.

Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі **-ш-, -ўш-**, асабліва ў формах ускосных склонаў адзіночнага ліку і ў формах множнага ліку, бытуюць у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Форма назоўнага склону мужчынскага роду аманімічна форме дзеепрыслоўя прошлага часу, а таму ўжыванне дзеепрыметніка ў гэтай форме лічыцца непажаданым. Дзеепрыметнікі на **-ш-, -ўш-** маюць месца ў навуковай літаратуры, у мове газет і часопісаў, у мове мастацкай літаратуры.

*По доўгаму калідору хадзілі ўзад і ўперад толькі што прыехаўшыя сяляне* (К. Чорны. Максімка). *Здаецца, аж сюды, да самага лесу, далятаў гул вялізнага пажару, узнікшага за якую хвіліну* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Хвошч глянуў у твар затаіўшага дыхання Гузка* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Андрэй стаяў перад Наздрой з пачырванеўшым ад хвалявання тварам, сціскаў кулакі, каб устрымацца, не схапіць Наздру за кайнер* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Асудзіць патрабуюць яны чалавека без веры, уцякаўшага ад вайны, да вышэйшае меры...* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады). *Загаварылі зеніткі замаскіраванага і маўчаўшага дагэтуль крэйсера* (І. Шамякін. У снежнай пустыні). *Перазімаваўшыя споры ў наступным годзе ў вялікай сваёй частцы прарастаюць* (П. І. Альсмік, І. І. Пушкароў. Бульба).

§ 876. У сучаснай беларускай літаратурнай мове значна пашыраны дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксам **-л-**, якія ўтвараюцца ад дзеясловаў першага прадуктыўнага класа (падгрупа Б), ад многіх дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа, ад дзеясловаў трэцяга непрадуктыўнага класа, ад многіх дзеясловаў чацвёртага і пятага непрадуктыўных класаў. Гэтыя дзеепрыметнікі ўсё шырэй ужываюцца ў літаратурнай мове і ў радзе выпадкаў выцясняюць дзеепрыметнікі на **-ш-** і **-ўш-**.

*Скрозь тырчэлі счарнелыя ўжо ад вільгаці пні з пацеркамі смалы* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *І абяссіленая, спустошаная, яна апусцілася на цудам уцалелую лаўку пад абгарэлым клёнам і бязгучна заплакала, уткнуўшы твар у сашчэпленыя далоні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вецер мая паводкай плыве ў прастор, зарунелы збожжам, ён зімовы ход развее у далёкім сваім падарожжы* (М. Чарот. Песні маёвыя). *Андрэй, збялелы ад слабасці і злосці, са злосцю гаварыў гэтыя словы...* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Крыху павесялелая Анна Ісакаўна зрабіла ўкол, дала панюхаць нашатыр* (І. Шамякін. Крыніцы). *Прастор, ад сонца парыжэлы, яшчэ напіша свой статут* (П. Панчанка. Патрыятычная песня).

### *Дзеепрыметнікі залежнага стану*

§ 877. Дзеепрыметнікі залежнага стану ўтвараюцца толькі ад пераходных дзеясловаў і могуць мець формы цяперашняга і прошлага часу.

§ 878. Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў **-ем-, -ім-** і адпаведных канчаткаў прыметнікаў. Гэтыя дзеепрыметнікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца малаўжывальнымі. Пэўнае пашырэнне яны маюць у навуковым стылі і ў мове газет і часопісаў; часам жа яны пранікаюць і ў мову мастацкіх твораў.

*Чуўся трэск узрываемых дошчак, звон разбітага шкла* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Як толькі ўспыхнуў агеньчык, з мора пачуўся заглушаемы шумам хваль працяглы свіст* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Значна палепшылася якасць апрацоўваемай паверхні, павысілася стойкасць інструментаў* («Звязда»). *Ствараемыя ў агні рэвалюцыі Саветы складаліся з прадстаўнікоў рабочых, сялян і рэвалюцыйна настроеных салдат* («Весці АН БССР»). *У кастрычніку 1917 г. рабочыя і сяляне Расіі, кіруемыя партыяй бальшавікоў на чале з У. І. Леніным, скінулі ўладу памешчыкаў і капіталістаў і абвясцілі Савецкую рэспубліку* («Весці АН БССР»).

§ 879. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца ад асноў інфінітыва пераходных дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў **-н-, -т-** і з далучэннем канчаткаў прыметніка. Такія дзеепрыметнікі з'яўляюцца нормай літаратурнай мовы; яны шырока бытуюць у творах розных жанраў.

Суфікс **-т-** маюць дзеепрыметнікі, утвораныя ад дзеясловаў другога прадуктыўнага класа, ад некаторых дзеясловаў трэцяга і чацвёртага непрадуктыўных класаў, ад дзеясловаў шостага, сёмага, дзевятага, дзесятага і адзінаццатага непрадуктыўных класаў.

*Азірнуліся на пакінутыя ззаду кусты ды пайшлі к лясам* (К. Чорны. Забойства). *Уваходзіць Карабан, пераапрануты так, што яго не пазнаць* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Толькі ў адным месцы жалобна і надакучліва трашчала прыцісынутая галіна* (І. Шамякін. Першае спатканне). *Тут — пры цьмяным святле, на памятай тканіне спее ў сонцы калоссе, лісты шалясцяць* (М. Лужанін. Зварот маладосці).

Суфікс **-н- (-ен-, -ан-, -ян-)** маюць дзеепрыметнікі, утвораныя ад дзеясловаў першага (падгрупа А), трэцяга і чацвёртага прадуктыўных класаў, а таксама першага, чацвёртага і пятага непрадуктыўных класаў. Галосны **я** перад суфіксальным **-н-** ужываецца ў дзеепрыметніках, якія ўтварыліся ад інфінітываў на **-яць** (*засеяць — засеяны*); галосны **е** ўжываецца ў дзеепрыметніках, якія ўтварыліся ад інфінітываў на **-іць, -ці,** прычым у аснове іх не адбываецца чаргавання свісцячых з шыпячымі (*вызваліць — вызвалены, прынесці — прынесены*); галосны **а** ўжываецца ў дзеепрыметніках з зацвярдзелым зычным асновы (*прагледзець — прагледжаны, прапусціць — прапушчаны*).

*Скліканы Саветамі Першы з'езд збіраецца* (П. Глебка. У тыя дні). *На выслізганых лыжамі і саначкамі гурбах лыжы раз'язджаліся, коўзаліся ў бакі* (І. Шамякін. Крыніцы). *Цішынёй і бязлюддзем павеяла ад гарадка, ахутанага асенняй смугой* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Пасярод хаты стол, прыгатаваны як для святочнай вячэры* (К. Чорны. Базылевічава сям'я). *Заслонаў абвёў позіркам усіх, што стаялі тут, зачараваныя музыкай* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гэты рогат пракаціўся па лясных абшарах, падхоплены і памножаны рэхам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *У альтанцы, аплеценай хмелем, Аўзор і Марыля сядзелі* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *А навокал жывыя*

*вянкі — колькі іх? — з кветак розных: лясных, лугавых, палявых, акуратна* п а к л а д з е н ы я *на траву...* (А. К у л я ш о ў. Толькі ўперад).

З а ў в а г а 1. У мове мастацкай літаратуры часам сустракаюцца варыянтныя формы дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксамі **-н-** і **-т-**, што тлумачыцца вынікамі ўзаемадзеяння класаў дзеяслова, наяўнасцю варыянтаў дзеяслоўных форм: *адамкнёны — адамкнуты, адвернуты — адвернены, адкаваны — адкуты, адхінуты — адхінены, абгорнуты — абгорнены, вывернуты — вывернены, дацягнуты — дацягнены, заколаты — заколаны, згорнуты — згорнены, змолаты — змоланы, надпораты — надпораны, націснуты — націснены, падцягнуты — падцягнены.*

Сярод прыведзеных літаратурнымі з'яўляюцца формы, змешчаныя першымі ў адпаведных парах.

З а ў в а г а 2. У творах мастацкай літаратуры сустракаюцца дзеепрыметнікі прошлага часу, утвораныя ад дзеясловаў незакончанага трывання; у радзе выпадкаў яны маюць значэнне закончанага трывання.

*Мой дом — прыволле зёзднай далі, арламі* м е р а н ы *абшар, дзе бітвы точаць ветраў хвалі з сям'ёй глухіх калматых хмар* (Я. К у п а л а. Мой дом). *Але што ж? Для каго ж дол быў* к о п а н ы? (Я. К у п а л а. Гарбар). *Ліст перад імі ляжаў... Бацька стаў за спіною —* п і с а н ы *ліст на вайне незнаёмай рукою* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *Яе палохаўся ў сутане хлус, была яна Сервантэсу прыязнай, ёй Шэрыдан служыў. Баварскі хлюст згінаўся,* б і т ы *гейнеўскім сарказмам* (А. З в о н а к. Іронія). *Крокі,* ч у т ы я *мной, далятаюць з паверха другога...* (А. К у л я ш о ў. Дом № 24).

§ 880. Часам дзеепрыметнікі з суфіксам **-н-** набываюць значэнне ўтварэнняў з суфіксамі **-ім-, -ем-**. У многіх выпадках гэтыя словы маюць значэнне прыметнікаў.

*Доляй* м у ч а н ы *паганай, след слязой пачнеш крывавіць...* (Я. К у п а л а. Крыжы). *Беларусь стала чутнай і* з н а н а й *на свеце дзяржавай* (М. Л у ж а н і н. Праводзіны). *Гэта яна.* Н я з н а н ы *ім чалавек* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Там узняўся* н е с ц і х а н ы *гул суровы, гул няспынны...* (П. Б р о ў к а. Вясновая пераклічка). *Ты маеш самы шчодры плён, яшчэ* н я з н а н ы *свету: Радзімы нашае закон даў права на асвету* (П. Г л е б к а. Радзімы нашае закон). *А снег над белым полем заіскрыцца, у студзені ўдарацьхалады — булькоча* н е с т р ы м а н а я *крыніца струменямі празрыстае вады* (С. Г р а х о ў с к і. Крыніца).

§ 881. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу пашыраны ў ролі выказніка. У гэтым выпадку дзеепрыметнікам у большай ступені ўласціва дзеяслоўнасць, і яны па сутнасці выступаюць не як дзеяслоўна-іменныя формы, а як чыста дзеяслоўныя формы. Значэнне часу дзеепрыметнікаў у ролі выказніка адрозніваецца ад значэння часу дзеепрыметнікаў у атрыбутыўнай функцыі.

Дзеепрыметнікі без звязкі маюць значэнне перфекта, г. зн. указваюць, што дзеянне адбылося ў прошлым, але ў сваім выніку працягваецца і ў цяперашні час. У радзе выпадкаў значэнне дзеепрыметнікаў тут роўна значэнню дзеясловаў цяперашняга часу.

*Прыйшла ў свой калгас і сардэчна* с у с т р э т а: *«Надоўга да нас?»* (А. К у л я ш о ў. У зялёнай дуброве). *Плоская паверхня нізіны* з а б а л о ч а н а *і ўяўляе сабой дно былога прыледавіковага возера* (В. Ж у ч к е в і ч, О. Я к у ш к а. Геаграфія Беларускай ССР). *Усё* д а с я г н у т а *ў змаганні і працы* (К. Ч о р н ы. Ясны дзень краіны). *І сапраўды, зялёныя кусты буякоў нібы* а с ы п а н ы *нежна-зялёнымі і белаватымі гарошынамі не спелых яшчэ васковых ягад* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

Дзеепрыметнікі са звязкай *быць (быў, была, было, былі)* абазначаюць дзеянне, якое адбылося ў прошлым, а дзеепрыметнікі са звязкай *буду* — дзеянне, якое адбудзецца ў будучым.

Дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і множнага ліку ў ролі выказніка ўжываюцца ў кароткай форме. Аднак у мове мастацкай літаратуры часам сустракаецца і поўная форма.

*Хоць да канца і было ім пісьмо* д а п і с а н а, *толькі яно на сяло да дзяцей не* п а с л а н а (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі). *А ў палях даўно жыта* з в е з е н а... (Я. К о л а с. Перад восенню). *Начамі зябка.*

*Лёгкае пальто падшыта ветрам і асенняй сцюжай* (П. Глебка. У тыя дні). *Дзяніса Пляцінскага не было дома, і сені былі замкнёны* (К. Чорны. Захар Зынга). *Уся зямля навакол, тоўстыя карэнні дрэў былі разварочаны гусеніцамі, вытаптаны, апалены* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

*Цяпер я выгнаная* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Хата была не новая, але дагледжаная, абшалёваная і абаткнутая* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *І хоць падлога была чыста вымытая, грубка пабеленая, а на вокнах віселі паркалёвыя фіранкі — тут не было той абжытасці, якая стварае ўтульнасць, вабіць адпачыць, крыху забыцца на дзённыя турботы...* (Т. Хадкевіч. Даль палявая).

Дзеепрыметнікі мужчынскага роду ў ролі выказніка часцей ужываюцца ў поўнай форме.

*Чарноцкі пераадзеты ў сялянскую адзежу* (К. Чорны. Ірынка). *Свіней жа пасвіць быў наняты другі* (М. Чарот. Свінапас). *Тут любы куточак выхаджаны, выбеганы яе нагамі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён кроўю байцоў за свабоду абмыты, ён кулямі ў бітвах, як сэрца, прабіты* (П. Глебка. Наш сцяг). *Маім рэчам адведзены кут за сцяной у бакоўцы* (А. Куляшоў. Новае рэчышча).

*На цвічку павешан начнічок убогі* (Я. Колас. Уночы). *Відаць, навучан быў жыццём чалавек* (К. Чорны. Пошукі будучыні). *Адны манапалькі на кожным рагу. Быў Мінск імі ўсеян, як чорнаю воспай* (А. Александровіч. Дваццаць). Віскаваты. *А хто падпісан там?* (П. Глебка. Святло з Усходу). *І ты ўсім гэтым узбагачан, надзелен скарбам дарагім: і маладосцю, і ўдачай, з людзямі клопатам адным* (М. Лужанін. Вясновая раніца). *І я ўжо шчодра тым узнагароджан, да смерці буду гэтым даражыць, што быў я у Семнаццатым народжан і ў новым свеце стаў адразу жыць* (П. Панчанка. Патрыятычная песня).

## Пераход дзеепрыметнікаў у прыметнікі

§ 882. Дзеепрыметнікі маюць рысы, агульныя з прыметнікам і дзеясловам. Аслабленне дзеяслоўных якасцей у дзеепрыметніках набліжае іх да прыметнікаў, а страта гэтых агульных з дзеясловам рыс прыводзіць да пераходу дзеепрыметнікаў у прыметнікі — да ад'ектывацыі.

Ад'ектывацыі дзеепрыметнікаў у значнай ступені садзейнічаюць метафарычнае, пераноснае ўжыванне, змена часавага значэння слова (ад выражэння адначасавасці да пазачасавасці), а таксама функцыяніраванне яго ў якасці састаўной часткі тэрміна. Слова, што стала часткай тэрміналагічнага спалучэння, замест пастаяннай працэсуальнай прыметы абазначае непрацэсуальную прымету, якая ўказвае на ўласцівасць прадмета, яго схільнасць да дзеяння, названага асновай. Якаснае значэнне лягчэй набываюць дзеепрыметнікі з часціцай *не*, беспрыставачныя ўтварэнні, словы, якія адносяцца да абстрактных назоўнікаў, словы, якія ўказваюць на нефізічныя дзеянні.

Змены ў лексічным значэнні слова, у яго сінтаксічнай ролі абавязкова суправаджаюцца ўзнікненнем супярэчнасцей паміж лексічным значэннем слова і дзеяслоўнымі катэгорыямі, а гэта прыводзіць да паступовага сцірання гэтых катэгорый у слове, да страты іх. Значную ролю ў ад'ектывацыі адыгрывае адсутнасць пры дзеепрыметніку паясняльных слоў.

У радзе выпадкаў слова не пераходзіць цалкам у разрад дзеепрыметнікаў, а толькі ў пэўным кантэксце выступае ў якасці гэтай часціны мовы. Розныя групы дзеепрыметнікаў у рознай ступені ахопліваюцца працэсам пераходу ў прыметнікі.

Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі **-уч-(-юч-), -ач-(-яч-)** абмежаваны ў сваім ужыванні ў сучаснай беларускай мове. Але ад'ектывацыя гэтых дзеепрыметнікаў адбываецца даволі шырока. У радзе выпадкаў яны запазычваюцца ў беларускую мову з рускай ужо ў якасці прыметнікаў. Для ад'ектываваных дзеепрыметнікаў з названымі суфіксамі характэрна ўжыванне ў якасці састаўной часткі тэрміна, а таксама ў метафарычным, пераносным значэнні.

*Сцябло ў бульбы галіністае, трох- або чатырохграннае, прамастаячае або палягаючае* (П. І. Альсмік, І. І. Пушкароў. Бульба). *Для гэтага пасля кантролю падвяргаліся перарэзцы блукаючыя нервы пад дыяфрагмай* («Весці АН БССР»). *Вібрагасіцель складаецца з трох дыскаў, прычым унутраны дыск, які мае амартызуючыя пракладкі, можа вярцецца паміж вонкавымі* («Звязда»). *Важным рэзервам аўтаматызацыі вытворчасці з'яўляецца мадэрнізацыя дзеючага абсталявання* («Звязда»). *Салдацкія вочы адразу цяплелі і бачылі заўтрашні дзень прад сабой, а побач матросы натхнёныя пелі, што гэта апошні, рашаючы бой* (С. Грахоўскі. Маё пакаленне). *Ён дачуўся, што школа — амаль вядучая ў раёне, надта вялікая* (І. Грамовіч. Блакітная брошка). *Потым выйшла ў сенцы, дрыжачымі рукамі выцягнула засаўку і адчыніла дзверы* (Я. Брыль. Маці). *Калоны ўздымаюцца крута са сталі нержавеючай, вылётваюць з жэрлаў тунеляў і далей ляцяць цягнікі* (П. Панчанка. Маякоўскаму).

Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі **-ўш-, -ш-** рэдка пераходзяць у прыметнікі, дзеепрыметнікі з суфіксам **-л-** часцей страчваюць дзеяслоўныя якасці і ператвараюцца ў прыметнікі.

*Адшукаўшы ў сенцах заржавеўшую сякеру, ён пайшоў да Дзяніса Пляцінскага, узяў у яго брусок і, прыстроіўшыся пасярод хаты, пачаў тачыць сякеру* (К. Чорны. Захар Зынга). *У занепаўшых вачах была муць, у ёй хаваўся смутак* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Полымя ўжо бегае па страсе, трашчаць высахшыя гонты, каробяцца* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел). *Дзесьці з-пад Слуцка, а можа з-пад Любані нехта ідзе па набракшых палях...* (М. Лужанін. Вясна).

*На захадзе з самага краю неба патухла чырвань, кінутая схаладзелым восеньскім сонцам* (П. Галавач. Сваё ўласнае). *Пранырлівыя вочкі Сімона, унікаючы позірку Макара, кінуліся ўправа, улева і схаваліся пад прыпухлымі павекамі* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *І маўчалі сцены, чорныя, пракапцелыя, з бліскучымі слязінкамі смалы* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Паблеклыя вочы яе глядзелі на свет з-пад нізка насунутай хусткі, здаецца, зусім абыякава* (Я. Брыль. Маці). *Лісты пажоўклыя пад ногі асенні дожджык церабіў...* (М. Лужанін. Таварыш Вера).

Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі **-ем-, -ім-** набываюць прыметнікавае значэнне пры страце або аслабленні пераходнасці, іменна ў гэтай групе дзеепрыметнікаў уплывае на ад'ектывацыю адмоўе **не**. Аднак выпадкаў такога пераходу нямнога, паколькі ўтварэнні з гэтымі суфіксамі сустракаюцца рэдка.

*Было душна, стаяў незмаўкаемы гоман* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу (з суфіксамі **-ан-, -ен-, -н-, -т-**) пры выражэнні пастаяннай, пазачасавай прыметы, пад уплывам пераносна-вобразнага ўжывання пераходзяць у разрад прыметнікаў.

*А гэты местачковы мешчанін нёс у літаратуру і свой падсаладжаны, сентыментальны стылёк* (К. Чорны. Вучоба і творчасць пачынаючых літаратараў). *Я вырываюся сказаць пра небяспеку, лячу к Чапаеву на ўзмыленым кані* (А. Александровіч. Ты будзеш

жыць). *Чалавека ў кепі зацікавіў шэры, падношаны гарнітур, гаспадаром якога быў малады яшчэ белабрысы хлопец...* (П. Галавач. Навела без назвы). *На абветраных тварах промні шчасця ў вачах* (П. Броўка. Наша марка). *І скрозь — тваім чыстым, нясплямленым словам гамоняць сягоння лясы і дубровы...* (П. Глебка. Прывітанне Радзіме).

*Толькі пыл трубой курыць над дарогай бітай...* (Я. Колас. Тройка). *Пад сэрцам хавала Марыля кахання разбітага крыллі* (А. Александровіч. Нараджэнне чалавека). *К гэтаму часу ў Блецькі быў ужо і другі сын, Адам, вылітьы Блецька* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Кватэра непрыкметна рабілася абжытай і ўтульнай* (І. Шамякін. Крыніцы).

## Пераход дзеепрыметнікаў у назоўнікі

§ 883. Пераход дзеепрыметнікаў у назоўнікі часцей за ўсё адбываецца праз ад'ектывацыю. Ад'ектываваны дзеепрыметнік можа пераходзіць у назоўнік (*ранены, апытваемы, камандуючы, упраўляючы*) або ўжываецца ў функцыі назоўніка.

Умовай субстантывацыі з'яўляецца страта кіруемага назоўніка; дзеепрыметнік пачынае выступаць у ролі таго назоўніка, да якога ён адносіўся (у якасці азначэння). Значэнне слова пры гэтым канкрэтызуецца і звужаецца.

Дзеепрыметнік можа субстантывавацца і мінаючы стадыю ад'ектывацыі. У пэўных выпадках субстантываваны дзеепрыметнік можа мець пры сабе паясняльныя словы.

*Бярозы вабяць іх шэлестам лісцяў сваіх, завуць легчы адпачыць ад далёкай хадзьбы і над галавой адпачываючага па-свойму пераказваюць незразумелыя для людзей апавяданні, усыпляюць яго гоманам сваім* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Наводчыкі і зараджаючыя цяжка ўздыхалі* (І. Навуменка. Вясновыя праталіны). *Славіць песняй сваёй у палях залатых і загінуўшых справы і справы жывых* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *І не разбярэш, ці спачуваюць яны Лазару ў яго прыгодах, ці думаюць зусім іншае, кожны аб сваім, аб набалелым* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Перажытае адбілася і на яе характары, і на дачасна састарэлым, хваравітым твары* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Пакрысе яна прывучыла сябе асабліва не рэагаваць на пачутае* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

## Націск у дзеепрыметніках

§ 884. Націск у дзеепрыметніках у большасці выпадкаў залежыць ад таго, рухомы ці нерухомы націск у адпаведных формах дзеяслова.

Амаль ва ўсіх дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў першага прадуктыўнага класа, націск падае на той жа склад, што і ў інфінітыве: *адкапа́ць — адкапа́ны, заблы́таць — заблы́таны, заху́таць — заху́таны, наваро́чаць — наваро́чаны, наля́паць — наля́паны, намата́ць — ната́ны, нама́цаць — нама́цаны, наму́ляць — наму́ляны, насука́ць — насука́ны, паабабіва́ць — паабабіва́ны, паабграба́ць — паабграба́ны, паабстрыга́ць — паабстрыга́ны, паабсяка́ць — паабсяка́ны, паадгрыза́ць — паадгрыза́ны, паадпуска́ць — паадпуска́ны, павыграба́ць — павыграба́ны, павытраса́ць — павытраса́ны, прывіта́ць — прывіта́ны, прыдба́ць — прыдба́ны, расківа́ць — расківа́ны, скляпа́ць — скляпа́ны, скрэ́мзаць — скрэ́мзаны, схава́ць — схава́ны.*

Заўвага. У дзеепрыметніку ад дзеяслова *прачытаць (прачытаю, прачытаеш, прачытаюць)* націск падае на карэнны склад: *прачы́таны.*

У дзеепрыметніках ад дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа націск падае на склад, які папярэднічае суфіксу: *адлупцава́ць — адлупцава́ны, адпаліравáць — адпаліравáны, адратавáць — адратавáны, застрахавáць — застрахавáны, зваявáць — зваявáны, змардавáць — змардавáны, накіравáць — накіравáны, нацкавáць — нацкавáны, пабудавáць — пабудавáны, падкавáць — падкавáны, падрыхтавáць — падрыхтавáны, прасвідравáць — прасвідравáны, разжавáць — разжавáны, расхвалявáць — расхвалявáны, сапсавáць — сапсавáны.*

Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў першага непрадуктыўнага класа захоўваюць націск інфінітыва, за выключэннем дзеепрыметнікаў ад дзеяслоўных форм з рухомым націскам: *абалгáць — абалгáны, абарвáць — абарвáны, абмáзаць — абмáзаны, забрáць — забрáны, засéяць — засéяны, засы́паць — засы́паны, звéяць — звéяны, звязáць — звя́заны, злізáць — злíзаны, знізáць — знíзаны, напісáць — напíсаны, сказáць — скáзаны, паклíкаць — паклíканы, паслáць — паслáны, празвáць — празвáны, узарáць — узарáны, узадрáць — узадрáны.*

У многіх дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа, націск такі ж, як і ў інфінітыве, у значнай колькасці слоў (ад дзеясловаў з рухомым націскам) націск зменены ў параўнанні з інфінітывам. І ў тых і ў другіх націск падае на карэнны склад: *абкалацíць — абкалóчаны, адвары́ць — адвáраны, астудзíць — асту́джаны, забаранíць — забарóнены, загаíць — загóены, звалíць — звáлены, згубíць — згу́блены, злавíць — злóўлены, змяшáць — змéшаны, змачы́ць — змóчаны, зрабíць — зрóблены, навучы́ць — наву́чаны, напаíць — напóены, натачы́ць — натóчаны, пагасíць — пагáшаны, падаíць — падóены, падрубíць — падру́блены, падзялíць — падзéлены, патушы́ць — пату́шаны, прапусцíць — прапу́шчаны, агрáбіць — агрáблены, зажму́рыць — зажму́раны, зазубры́ць — зазу́браны, збэ́сціць — збэ́шчаны, звáбіць — звáблены, знíшчыць — знíшчаны, настрóіць — настрóены, састáвіць — састáўлены, sклéіць — склéены, сплáвіць — сплáўлены, сплю́шчыць — сплю́шчаны, стрáціць — стрáчаны, убáчыць — убáчаны.*

У дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў чацвёртага і пятага непрадуктыўных класаў, націск падае на карэнны склад: *звéзці — звéзены, звéсці — звéдзены, згры́зці — згры́зены, падмéсці — падмéцены, паднéсці — паднéсены, паклáсці — паклáдзены, сплéсці — сплéцены, спрáсці — спрáдзены, укрáсці — укрáдзены, здзяўбці — здзёўбаны, знемагчы́ — знямóжаны, падпячы́ — падпéчаны, падсячы́ — падсéчаны, падтаўчы́ — падтóўчаны, запрэ́гчы — запрэ́жаны, падстры́гчы — падстры́жаны, ссéкчы — ссéчаны.* Аднак параўн.: *зберагчы́ — зберажóны, сцерагчы́ — сцеражóны.*

У дзеепрыметніках з суфіксам **-т-** заканамернасці ўжывання націску такія ж, што і ў дзеепрыметніках з суфіксам **-н-**: *нагрэ́ць — нагрэ́ты, сагну́ць — сагну́ты, ссу́нуць — ссу́нуты, прася́кнуць — прася́кнуты, здзéрці — здзёрты, праклясці — праклáты, працéрці — працёрты, аджáць — аджáты, змя́ць — змя́ты, распя́ць — распя́ты, адця́ць — адця́ты, падня́ць — падня́ты, пераня́ць — пераня́ты, збíць — збíты, звíць — звíты, адмы́ць — адмы́ты, сапсу́ць — сапсу́ты, адчу́ць — адчу́ты, пражы́ць — пражы́ты, сустрэ́ць — сустрэ́ты, раздзéць — раздзéты, звярну́ць — звéрнуты, згарну́ць — згóрнуты, змалóць — змóлаты, прапалóць — прапóлаты, скалóць — скóлаты, спарóць — спóраты.*

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры ад дзеясловаў на **-аваць** нярэдка ўжываецца два варыянты форм дзеепрыметнікаў: з націскам на першым складзе перад суфіксам і з націскам на другім складзе перад суфіксам. У літаратурнай жа мове перавага аддаецца першым формам: *абгабляваны — абгаблёваны, абліцаваны — абліцованы, абмежаваны — абмяжованы, адбудаваны — адбудованы, адгадаваны — адгадованы, адпрасаваны — адпрасованы, адшліфаваны — адшліфованы, акрэдытаваны — акрэдытованы, апанаваны — апанованы, асэнсаваны — асэнсованы, атэставаны — атэстованы, аштрафаваны — аштрафованы, забаранаваны — забаранованы, загартаваны — загартованы, закаваны — закованы, замацаваны — замацованы, запрацаваны — запра-*

*цованы, зацыраваны — зацыраваны, напластаваны — напластованы, падгадаваны — падгадованы, падтасаваны — падтасованы.*

К л і м. *Чакай, якраз наадварот, — гуляць павінен ты, расці павінен дужым, байцом* *г а р т о в а н ы м,* *як сталь, павінен быць* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Напор). *Слава еднасці нашай, гадамі* *г а р т а в а н а й* *у новых баях, — пад яе баявымі сцягамі мы на сонечны выйшлі прасцяг!* (П. Г л е б к а. Слава еднасці нашай). *Подбегам Лізавета дайшла да вялікага шляху, спынілася,* *а п а н о в а н а я* *одумам, паглядзела на залітую сонцам прастору і зарыдала* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *А п а н а в а н ы* *горам, ён пайшоў, не выбіраючы дарогі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

У кароткіх формах дзеепрыметнікаў націск на другім складзе перад суфіксам сустракаецца часцей.

*А д п р а с о в а н ы* *хвалі. Рачнюткія воды ды ціш* (П. П а н ч а н к а. Патрыятычная песня). *Вечнае ўладанне зямлёй* *з а м а ц о в а н а* *за тымі, хто на ёй працуе, паводле дзяржаўных актаў* (К. Ч о р н ы. Ясны дзень краіны). *У гэтым альманаху* *н а д р у к о в а н* *адзін нарыс* (К. Ч о р н ы. Маладыя празаікі). *Мабыць, тайна мая дзесьці добра* *п р ы х о в а н а,* *што ж, я столькі прайду, колькі мне* *н а к а н о в а н а* (П. Б р о ў к а. Дзень мой). *Пакуль што ўсё ішло так, як і было* *с п л а н о в а н а* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Мы на жарству перашкоды раструшчылі, поспехі нашыя намі* *ў з г а д о в а н ы,* *сотні заводаў разбураных — пушчана, тысячы новых заводаў —* *з б у д о в а н а* (П. Г л е б к а. Будуйце шлях да мэты).

Сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры варыянтныя адносна націску формы дзеепрыметнікаў і ад дзеясловаў іншых класаў.

*А байцы палкоўніка Шкваркіна,* *а к р ы л е н ы я* *ўдачаю, гатовыя былі ад абароны перайсці ў наступленне, іх увесь час стрымлівалі камандзіры* (І. Г у р с к і. У агні). *Шмат* *а к р ы л ё н ы х* *надзей дум у нябыт адышло. Толькі нязменна ярчэе ленінскай праўды святло* (П. Г л е б к а. Ленінскай праўды святло). *Настаўнікі пачалі прыкмячаць, што ён зрабіўся менш уважлівым і як бы* *з а с м у ч а н ы м* *нечым, хоць вучыўся па-ранейшаму добра* (І. Ш а м я к і н. Першае спатканне). *Суровай палкасцю натхнёны, дакукай, злосцю* *з а с м у ч о н ы,* *вядзьмар нарэшце загадаў злавіць княжну* (А. А л е к с а н д р о в і ч. Пераклад «Руслана і Людмілы» А. С. Пушкіна). *Там засталіся акуратныя рады белых палатак, густа* *н а с т о е н ы* *пах сасновых галін* (І. М е л е ж. У гарах дажджы). *Мулярскі струмент — малаток, ды грунтвага, ды кельня, ды фартух, ды рук мазалі, садоў* *н а с т а я н а я* *хмельная брага, ды шэпт таямнічы разложыстых ліп!* (А. З в о н а к. Чырвонае Урочышча). *На высокім узгорку, між маладых бярозак і тапаляў, яна* [школа] *проста свяцілася наўкола:* *п а б е л е н а я,* *з чырвоным дахам стаяла, як маяк, на ўсю ваколіцу* (І. Г р а м о в і ч. Блакітная брошка). *А мне бачацца сёлы,* *п а б я л ё н ы я* *хаты, а мне чуюцца песні, што спяваюць дзяўчаты* (П. Б р о ў к а. Параходу «Украіна»). *Насустрач, у твар Тарэнту, дзьме з поля мяккі,* *н а с ы ч а н ы* *росамі вецер* (П. Г а л а в а ч. Праз гады). *У праменнях сонца трапеча паветра,* *н а с ы ч о н а е* *пахам жыццяносных сокаў зямлі* (Э. С а м у й л ё н а к. Русалчыны сцежкі).

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

§ 885. Д з е е п р ы с л о ў е — нязменная дзеяслоўная форма, якая мае асаблівасці прыслоўя і дзеяслова і абазначае дадатковае ў адносінах да дзеяслова-выказніка дзеянне.

З дзеясловам дзеепрыслоўе збліжаецца наяўнасцю трывання і стану; яно захоўвае таксама дзеяслоўнае кіраванне. Лексічнае значэнне дзеепрыслоўяў супадае з лексічным значэннем адпаведных дзеясловаў. Дзеепрыслоўі маюць агульную з дзеясловам сістэму словаўтварэння.

З прыслоўем дзеепрыслоўе збліжаецца адсутнасцю форм словазмянення, здольнасцю прымыкаць да дзеяслова. У пэўных сінтаксічных

умовах дзеепрыслоўе можа наогул страчваць дзеяслоўныя рысы і выконваць функцыю прыслоўя (гл. § 889).

Дзеепрыслоўі, як і адпаведныя дзеясловы, могуць быць закончанага і незакончанага трывання (*чытаючы, робячы, напісаўшы, прачытаўшы*). Падобна дзеясловам, дзеепрыслоўі могуць выражаць значэнні незалежнага і сярэдне-зваротнага стану (*шукаючы, зрабіўшы, смеючыся, купаючыся*).

Дзеепрыслоўі абазначаюць час дзеяння не ў адносінах да моманту гутаркі, а ў адносінах да дзеяння дзеяслова-выказніка. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання пераважна ўказваюць на дзеянне, адначасовае з дзеяннем дзеяслова-выказніка. Дзеепрыслоўі закончанага трывання часцей за ўсё абазначаюць дзеянне, якое папярэднічае дзеянню дзеяслова-выказніка.

§ 886. У сказе дзеепрыслоўі часцей за ўсё з'яўляюцца дадатковым выказнікам.

*С л у х а ю ч ы спрэчкі за сцяной, Ганка хвалявалася* (П. Г а л а в а ч. Дасужая). *Ен стаяў моўчкі, у г л я д а ю ч ы с я ў памярцвелы твар гэтага чалавека, і панура слухаў тлумачэнні ардынатара* (Э. С а м у й л ё н а к. Апавяданне пра гуманізм). *А там, а д б і в а ю ч ы срэбнай луской, бліскучыя рыбы ідуць чарадой* (П. Г л е б к а. Рыбак).

Дзеепрыслоўі могуць выступаць і ў ролі акалічнасці спосабу дзеяння і ў ролі іншых акалічнасцей, напрыклад прычыны.

*Бацька не то спаў, не то так ляжаў на печы не р а з у в а ю ч ы с я* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *К р а д у ч ы с я, ідзе Шчырэц і яшчэ некалькі партызан* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). *Людзі слухалі юнака с т а і ў ш ы дыханне* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

*Тапурыя пакашляў, не в е д а ю ч ы, што адказаць* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Паходня таксама маўчаў, р а з д у м в а ю ч ы* (Т. Х а д к е в і ч. Даль палявая).

§ 887. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу пры дапамозе суфіксаў **-учы (-ючы), -ачы (-ячы):** *ведаючы, выпраўляючы, грэючы, едучы, ратуючы, слухаючы, ступаючы, чакаючы, вітаючыся, нервуючыся, прыглядаючыся; косячы, просячы, ходзячы, шукаючы, сварачыся, хілячыся.*

Для дзеепрыслоўяў незакончанага трывання найбольш характэрна выражэнне дзеяння, адначасовага з дзеяннем дзеяслова-выказніка. Гэта дзеепрыслоўе можа адносіцца як да дзеяслова незакончанага трывання, так і да дзеяслова закончанага трывання. Калі дзеяслоў незакончанага трывання абазначае дзеянне, якое паўтараецца, то і дзеепрыслоўе абазначае падобнае ж дзеянне.

*Змарнелая дзяўчынка доўга хадзіла па мястэчку, р а с п ы т в а ю ч ы пра сястру* (Э. С а м у й л ё н а к. Дачка эскадрона). *На ворага ішлі, на бой, высока сцягі н е с у ч ы* (П. Б р о ў к а. Пасіянарыя). *Гэта наша эпоха праходзіць дарогай бяссмерця, а д к і д а ю ч ы прэч перашкоды злавесная цень!* (А. З в о н а к. Вялікі і ясны напрамак). *Жанчыны, п л а ч у ч ы, пайшлі па хатах* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *У часе падвячорку Сяргей, е д у ч ы малако ў сенцах, пачаў размову, якая выкрыла здрадніцтва Казюка...* (М. Ч а р о т. Свінапас.) *Конь пастукаў у дол капытамі, грывай в е ю ч ы, рыжай, як медзь, неспакойна пастрыг вушамі, ды нічога не мог зразумець* (П. Г л е б к а. Аповесць пра каня).

Дзеянне, абазначанае дзеясловам, і дзеянне, абазначанае дзеепрыслоўем, могуць супадаць у часе не на ўсім іх працягу, а толькі ў пэўныя перыяды. Так, дзеянне дзеепрыслоўя можа працягвацца большы адрэзак часу, чым дзеянне дзеяслова-выказніка. Дзеянне дзеепрыслоўя можа адбывацца ў меншы прамежак часу, чым дзеянне асабовай формы або інфінітыва. У перыяд дзеяння, абазначанага дзеепрыслоўем, дзеянне дзеяслова-выказніка можа адбывацца час ад часу.

*Бачачы і адчуваючы ўсё навокал сябе як бы па той бок рэальнага, сапраўднага, ён нарэшце пачаў ісці* (К. Чорны. Вялікі дзень). *Ён, гаворачы, рукою памацаў сваё плячо* (П. Галавач. З тых дзён). *На працу, з працы ідучы, ці ўвечары, ці рана — прыходзяць людзі адпачыць пад звон лістоў мядзяны* (П. Броўка. Цар-дуб). Цімчук. *Ты, пры газетах седзячы, не чуў — у Петраград праеду?* (П. Глебка. Святло з Усходу). *Сумна трушчачы шкло, рэха з дому мяне павяло* (А. Куляшоў. Дом № 24). *Плывуць над Волгай хмары нізка, маланкі тушачы ў вадзе* (С. Грахоўскі. Дзень нараджэння). *Басанож патрапалі далей, пахвальваючы і дарогу, і расу, і гэту прыемнасць ступаць босымі нагамі па мяккай дарозе, і свежае ранічнае паветра* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *За сцяной, уціхаючы, падвывае вецер* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры).

Дзеепрыслоўі з суфіксамі **-учы (-ючы), -ачы (-ячы),** акрамя адначасовага дзеяння, могуць зрэдку абазначаць і дзеянне, якое папярэднічае дзеянню, выражанаму асабовай формай або інфінітывам.

*Нават неба на захадзе, святлеючы доўгі час пасля заходу сонца, стала тускнець і агортвацца ў лёгкую летнюю цемру* (Я. Колас. На ростанях). *Даходзячы да брамы, я на момант спыняўся, углядаўся ў глыб двара і вяртаўся* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне).

У адзінкавых выпадках дзеепрыслоўе незакончанага трывання ўказвае на дзеянне, якое адбываецца пасля дзеяння, абазначанага дзеясловам.

*Бліснуў лысінай пень, елка вырвала з ценяў свой цень, на паляне лясной кладучы яго побач з сабой* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал).

§ 888. Дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад асноў прошлага часу (або інфінітыва) пры дапамозе суфіксаў **-ўшы** (пасля галосных), **-шы** (пасля зычных): *захапіўшы, выехаўшы, кінуўшы, купіўшы, набраўшы, перакрыўшы, узняўшы, забыўшыся, выбіўшыся, пастараўшыся, развітаўшыся; абтросшы, выцершы, запрогшы, злезшы, прабегшы, прылёгшы, абапёршыся, распасцёршыся.*

Заўвага. У дзеепрыслоўях закончанага трывання, якія ўтвараюцца ад дзеясловаў з суфіксам **-ну-**, назіраюцца тыя ж хістанні ва ўжыванні суфікса, што і ў формах прошлага часу (гл. § 866).

*Адпачыўшы крыху, Рыгор падняўся з крэсла і пачаў тупаць па пакоі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Адпачнуўшы, час нагонім* (К. Крапіва. Хвядос — чырвоны нос).

Дзеепрыслоўі з суфіксамі **-ўшы, -шы** звычайна абазначаюць дзеянне, якое папярэднічае дзеянню дзеяслоўнай формы або інфінітыва.

*Пасядзеўшы крыху такім чынам, ён падымаўся з месца і ішоў у свой пакой на супачынак* (Я. Колас. У палескай глушы). *Дзікія пустэльныя раўніны ператвараюцца ва ўрадлівыя землі, атрымаўшы ваду, накіраваную да іх рукой чалавека* (П. Галавач. Ад Мядзведжай гары да Белага мора).

Дзеепрыслоўі закончанага трывання могуць у некаторых выпадках указваць на дзеянне, адначасовае з дзеяннем, абазначаным дзеясловам-выказнікам.

*Ціха калоссі, схіліўшы галовы, шэпчуць у межах палёў, толькі ж не слухае неба іх мовы — скаргі ржаных каласоў* (Я. Колас. Нязбытныя надзеі). *На пярэдняй парце, сціснуўшы галаву далонямі, сядзела з акамянелым тварам Рая, ды ў праходзе паміж партамі стаяла з абыякавым выглядам другая вучаніца — кульгавая, хваравітая Ніна Кулікава* (І. Шамякін. Крыніцы).

Значэнне паследуючага дзеяння дзеепрыслоўямі закончанага трывання выражаецца рэдка.

*Лясніцкі раздзеўся і лёг, з галавой накрыўшыся коўдрай* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *А толькі вятры праімчаліся з плачам, на вуснах пакінуўшы попел гарачы* (П. Броўка. Дарога салдата).

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры сустракаюцца дзеепрыслоўныя ўтварэнні з суфіксамі **-ўшы**, **-шы** ад дзеясловаў незакончанага трывання; па свайму значэнню яны часам супадаюць з адпаведнымі дзеепрыслоўямі на **-учы (-ючы), -ачы (-ячы)**. Гэтыя дзеепрыслоўі маюць значэнне прошлага дзеяння, якое папярэднічала другому дзеянню, а таксама такога дзеяння, якое будзе ў будучым, але раней за іншае дзеянне.

*Людзі, век ліўшы кроў з потам, гэткіх не зналі падзеяў...* (Я. Купала. Час быў тады...). *Як сабакі, па лесе туляемся, дамоўку сваю меўшы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *У такіх галіфэ ды па вуліцы — дзеўкі пяткі адаб'юць, услед бегшы* (М. Лынькоў. Сінія галіфэ). *А я сам, даўно не быўшы дома, стаў чуток такім жа дзівакам* (П. Глебка. З вершаў аб загранiцы).

Заўвага 2. Як адлюстраванне рыс некаторых гаворак, у мове мастацкай літаратуры часам адзначаецца ўжыванне дзеепрыслоўя на **-ўшы**, **-шы** ў ролі выказніка, гэты выказнік можа быць са звязкай ці без яе.

*Пан быў ужо ўстаўшы* (М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі). *Раіса была апрануўшыся ў цёмную пышную сукенку, ад якой хараство яе здавалася трохі сухім, афіцыйным* (там жа). Абабурка. *Ды што ты нібы не еўшы!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

У некаторых выпадках дзеепрыслоўе адыгрывае ролю, падобную да ролі дзеепрыметніка, часам гэта абумоўліваецца суседствам дзеепрыметніка або аддзеяслоўнага прыметніка.

*Дапоўз да дарогі і замест таго, каб ісці да месца, дзе свае акопы, перабег дарогу, зноў у жыта і хутка папоўз разораўй, не ведаючы куды, змучаны, дрыжучы ад страху і стомы...* (П. Галавач. Уцякач). *Сцяў зубы, з нечалавечым напружаннем сіл устаў на ногі і хвіліну стаяў, хістаючыся, няўпэўнены* (Э. Самуйлёнак. Русалчыны сцежкі). *Увіты зялянінаю і чырвонымі палотнішчамі, цяжка грукаючы коламі, прыходзіць бронецягнік* (П. Глебка. Святло з Усходу).

## *Пераход дзеепрыслоўяў у прыслоўі*

§ 889. Дзеепрыслоўі, у якіх аслабляюцца значэнні часу, трывання, стану і страчваецца дзеяслоўнае кіраванне, выступаюць у ролі прыслоўяў. Звычайна гэта наглядаецца, калі дзеепрыслоўе выступае без кіруемых ім слоў. Формы незакончанага трывання дзеепрыслоўяў часцей пераходзяць у прыслоўі, чым формы закончанага трывання.

*Апрача таго, венцяроўцы лавілі шмат рыбы, білі розную звярыну, птушак і жылі прыпяваючы* (М. Чарот. Самалёт). *Дом свой яны пабудавалі праз два гады пасля рэвалюцыі, будавалі самі, спакойна і не спяшаючыся* (К. Чорны. Вялікі дзень). *За тымі пачала адыходзіць і рэшта адстрэльваючыся* (П. Галавач. Дзве сцежкі). *Ён стаяў нібы акамянеўшы, маўчаў і не варушыўся* (К. Чорны. Будзем жыць). *Волечка, сядзела сцішыўшыся* (К. Чорны. Пошукі будучыні).

## *Націск у дзеепрыслоўях*

§ 890. Дзеепрыслоўі з суфіксамі **-учы (-ючы), -ачы (-ячы)**, якія ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу, захоўваюць націск форм цяперашняга часу: *бе́гаюць — бе́гаючы, бльı́таюць — бльı́таючы, быва́юць — быва́ючы, віта́юць — віта́ючы, гада́юць — гада́ючы, ганя́юць — ганя́ючы, ігра́юць — ігра́ючы, дба́юць — дба́ючы, капа́юць—капа́ючы, по́ўзаюць—по́ўзаючы, сцёбаюць — сцёбаючы, хапа́юць — хапа́ючы, шука́юць — шука́ючы, буду́юць — буду́ючы, вандру́юць — вандру́ючы, грэ́буюць — грэ́буючы, кіру́юць — кіру́ючы, пільну́юць — пільну́ючы, рату́юць — рату́ючы, свідру́юць — свідру́ючы, страху́юць — страху́ючы, турбу́юць — турбу́ючы, хвалю́юць — хвалю́ючы, цыру́юць — цыру́ючы, шану́юць — шану́ючы, любу́юцца — любу́ючыся, баро́няць — баро́начы, ба́чаць —*

*ба́чачы, блю́зняць — блю́знячы, во́дзяць — во́дзячы, вару́шаць — вару́шачы, гаво́раць — гаво́рачы, до́яць — до́ячы, ду́шаць — ду́шачы, жму́рацца — жму́рачыся, кало́цяць — кало́цячы, ле́пяць — ле́пячы, но́сяць — но́сячы, по́яць — по́ячы, ро́бяць — ро́бячы, со́чаць — со́чачы, тво́раць — тво́рачы, хо́дзяць — хо́дзячы, ве́юць — ве́ючы, дрэ́млюць — дрэ́млючы, лі́жуць — лі́жучы, ні́жуць — ні́жучы, пі́шуць — пі́шучы, пла́чуць — пла́чучы, се́юць — се́ючы, сы́плюць — сы́плючы, балбо́чуць — балбо́чучы, го́няць — го́нячы, ло́мяць — ло́мячы, гра́знуць — гра́знучы, па́хнуць — па́хнучы, сма́гнуць — сма́гнучы, кі́снуць—кі́снучы, мо́кнуць—мо́кнучы.*

Месца націску ў некаторых дзеепрыслоўях адрозніваецца ад месца націску ў адпаведных дзеясловах цяперашняга часу. Гэта датычыцца многіх дзеепрыслоўяў, утвораных ад дзеясловаў другога і трэцяга прадуктыўных класаў, I, II, IV, V, VI, VIII, IX і XI непрадуктыўных класаў. У некаторых з гэтых дзеепрыслоўяў націск падае на корань: *глядзя́ць — гле́дзячы, ляжа́ць — ле́жачы, стая́ць — сто́ячы, гну́ць — гнучы́, імкну́цца — імкнучы́ся, жую́ць — жуючы́, кую́ць — куючы́, псую́ць — псуючы́, сную́ць — снуючы́, сую́ць — суючы́, цкую́ць — цкуючы́, ару́ць — аручы́, бляю́ць — блеючы́, бяру́ць — беручы́, дзяру́ць—дзеручы́, жру́ць — жручы́, заву́ць — завучы́, ілгу́ць — ілгучы́, пяю́ць — пеючы́, рву́ць — рвучы́, іржу́ць — іржучы́, ссу́ць — ссучы́, ткуць — ткучы́, смяю́цца — смеючы́ся, брыду́ць — брыдучы́, вязу́ць — везучы́, вяду́ць — ведучы́, вярзу́ць — верзучы́, гняту́ць — гнетучы́, гуду́ць — гудучы́, грабу́ць — грабучы́, дзяру́ць — дзеручы́, дзяўбу́ць — дзеўбучы́, кладу́ць — кладучы́, кляну́ць — кленучы́, мяту́ць — метучы́, нясу́ць — несучы́, пляту́ць — плетучы́, праду́ць — прадучы́, сапу́ць — сапучы́, скрабу́ць — скрабучы́, скубу́ць — скубучы́, трасу́ць — трасучы́, храпу́ць — храпучы́, цвіту́ць — цвітучы́, труць — тручы́.*

Некаторыя дзеепрыслоўі з націскам на апошнім складзе, якія ўтвораны ад дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа II спражэння, пад уплывам дзеепрыслоўяў з такім жа націскам, якія ўтвораны ад дзеясловаў I спражэння, маюць суфікс **-учы (-ючы)**: *бурча́ць — бурчучы́, журча́ць — журчучы́, імча́ць — імчучы́, спяць — сплючы́, вісі́ць — вісючы́, дрыжа́ць — дрыжучы́, звіня́ць — звінючы́, кіша́ць — кішучы́, хрыпя́ць — хрыпучы́.*

§ 891. У дзеепрыслоўях з суфіксамі **-ўшы, -шы** націск такі ж, што і ў формах прошлага часу: *абмо́к — абмо́кшы, адасла́ў — адасла́ўшы, адда́ў — адда́ўшы, адзе́ў — адзе́ўшы, адлупцава́ў — адлупцава́ўшы, адмы́ў — адмы́ўшы, адня́ў — адня́ўшы, адпаро́ў — адпаро́ўшы, адратава́ў—адратава́ўшы, адчу́ў — адчу́ўшы, вы́рашыў—вы́рашыўшы, збе́г—збе́гшы, збудава́ў — збудава́ўшы, змясі́ў — змясі́ўшы, міну́ў — міну́ўшы, нанізаў — —нанізаўшы, падмёў — падмёўшы, пашы́ў — пашы́ўшы, перапль́іў — перапль́іўшы, прагавары́ўся — прагавары́ўшыся, прапало́ў — прапало́ўшы, праспа́ў — праспа́ўшы, прачаса́ў — прачаса́ўшы, прывіта́ўся — прывіта́ўшыся, прыгна́ў — прыгна́ўшы, разбі́ў — разбі́ўшы, разбудзі́ў — разбудзі́ўшы, развярну́ў — развярну́ўшы, раскапа́ў — раскапа́ўшы, сагну́ў — сагну́ўшы, сапсава́ў — сапсава́ўшы, сплёў — сплёўшы, сцёр — сцёршы, сыгра́ў — сыгра́ўшы, уба́чыў — уба́чыўшы, узара́ў — узара́ўшы, узя́ў — узя́ўшы.*

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

### СУФІКСАЛЬНАЕ ЎТВАРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 892. Суфіксальным спосабам дзеясловы ўтвараюцца ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў, а таксама ад выклічнікаў. Ва ўтварэнні дзеясловаў ад названых часцін мовы прымаюць удзел наступныя суфіксы: **-а- (-я-)** і яго вытворныя **-ава- (-ева-, -ява-)**, **-ізава- (-ызава-)**, **-ствава-**,

**-ірава- (-ырава-), -іча- (-ыча-), -ніча-, -іфікава- (-ыфікава-, -фікава-), -ка-; -і- (-ы-); -е- (-а-)** і яго вытворны **-яне- (-ане-); -ну-**.

Рад суфіксаў **(-ава-, -ірава-, -ізава-, -і-)** у сучаснай мове выступае пераважна як марфалагічны паказчык дзеяслоўнасці, а таму дзеясловы з гэтымі суфіксамі не ўтвараюць ярка акрэсленых груп па значэнню.

§ 893. Суфікс **-а- (-я-)**. Пры дапамозе суфікса **-а- (-я-)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы розных семантычных груп. Самай шматлікай з'яўляецца група дзеясловаў са значэннем «утвараць пэўны гук»: *балбатаць, бразгатаць, булькатаць, варкатаць, вуркатаць, гагатаць, гергетаць, грукатаць, екатаць, клекатаць, лапатаць, лепятаць, ляскатаць, плюскатаць, рагатаць, ракатаць, сакатаць, скрыгатаць, стракатаць, стукатаць, цакатаць, шчабятаць,* а таксама *брахаць, вішчаць, кашляць, крычаць, рыпаць, трашчаць, цурчаць, чхаць, шаптаць* і інш.

Такое ж значэнне маюць і дзеясловы, утвораныя ад выклічнікаў або гукапераймальных слоў: *бабахаць, бахаць, боўтаць, бухаць, вохаць, вякаць, грукаць, жа́хаць, кукарэкаць, піскаць, плюхаць, пстрыкаць, пыхаць, сыкаць, тупаць, цмокаць, цокаць, чыркаць, шорхаць* і інш.

Група дзеясловаў, якія ўтварыліся ад назоўнікаў на **-нік-**, мае значэнне «паводзіць сябе як-небудзь; займацца дзейнасцю, рамяством, якія названы ва ўтвараючай аснове»: *зводнічаць, моднічаць, настаўнічаць, нахабнічаць, падарожнічаць, паломнічаць, папярэднічаць, пасрэднічаць, рамесніча́ць, садоўнічаць, сапернічаць, свавольнічаць, супрацоўнічаць* і інш.

Дзеясловы, якія ўтвораны ад асноў прыметнікаў, набываюць агульнае значэнне «рабіць або рабіцца такім, як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *барвава́ць, велічаць, гатаваць, гушчаць, павальняць, раўняць, таўшчаць, ялчаць* і інш.

Астатнія дзеясловы з суфіксам **-а- (-я-)**, суадносныя з асновамі назоўнікаў, не ўтвараюць ярка акрэсленай семантычнай групы. Агульным для ўсіх гэтых дзеясловаў з'яўляецца значэнне «ўтвараць якое-небудзь дзеянне»: *абедаць, апякаць, вянчаць, вячэраць, жаха́ць, зыбаць, канчаць, казытаць, караць, лістаць, мераць, мяняць, назаляць, пракаць, путаць, пятляць, пячатаць, раджаць, рухаць, сватаць, сядлаць, швартаваць, шчапаць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 894. Суфікс **-ава- (-ева-, -ява-)**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў утвараюцца дзеясловы розных семантычных груп: *авансаваць, адрасаваць, азанаваць, амальгамаваць, апекаваць, арандаваць, арудаваць, арфаваць, асфальтаваць, ахвяраваць, балансаваць, баранаваць, барыкадаваць, басаваць, весла́ваць, гартаваць, друкаваць, нюансаваць, плюсаваць, цэнтраваць, шыхтаваць* і шмат іншых. Пераважная большасць гэтых дзеясловаў утворана ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання.

Тып надзвычай прадуктыўны.

Заўвага. Пераважная большасць дзеясловаў на **-аваць (-яваць)**, суадносных з назоўнікамі іншамоўнага паходжання, з'яўляюцца калькамі з адпаведных рускіх дзеясловаў на **-овать** і **-ировать**. Рускі суфікс **-ирова-** часцей перадаецца як **-ава- (-ява-)**. Аднак у значнай групе слоў суфікс **-ірава-** пры калькаванні захоўваецца (гл. § 898).

§ 895. Суфікс **-ава-**. Пры дапамозе суфікса **-ава-** ад асноў прыметнікаў утвараецца невялікая група дзеясловаў са значэннем «быць такім (або рабіць так ці такім), як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *густаваць, ласаваць, лютаваць, марнаваць, мілаваць, мудраваць, пуставаць, радаваць, раўнаваць, светлаваць, хітраваць, шчыраваць.*

Тып непрадуктыўны.

§ 896. Суфікс **-ствава-**. Пры дапамозе суфікса **-ствава-** ад асноў назоўнікаў, што абазначаюць назвы асоб, утвараюцца дзеясловы, якія

ўказваюць на характар паводзін, прафесію і г. д.: *апякунстваваць, донжуанстваваць, дырэктарстваваць, лідэрстваваць, маклерстваваць, мецэнацтваваць, правадырстваваць, пражэкцёрстваваць, рыцарстваваць, старшынстваваць, тыранстваваць, фразёрстваваць, царстваваць, шэфстваваць, марадзёрстваваць, палітыканстваваць, панікёрстваваць, рэзанёрстваваць, рэктарстваваць* і інш. Многія з гэтых дзеясловаў захоўваюць двайную суадноснасць (з назоўнікамі без суфікса **-ства-** і з назоўнікамі на **-ства-),** параўн. *дырэктарстваваць — дырэктар* (але і *дырэктарства* ў значэнні «служба дзейнасць дырэктара»).

Тып малапрадуктыўны.

§ 897. Суфікс **-ізава-**. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання ўтвараюцца дзеясловы розных семантычных груп: *беларусізаваць, вітамінізаваць, вулканізаваць, гіпербалізаваць, гераізаваць, дагматызаваць, драматызаваць, дыспансерызаваць, дэмакратызаваць, дэталізаваць, еўрапеізаваць, ідэалізаваць, інвентарызаваць, калектывізаваць, нармалізаваць, рэвалюцыянізаваць, характарызаваць, экранізаваць* і шмат іншых.

Па аналогіі з адзначанымі дзеясловамі ўтвораны і два дзеясловы ад асноў прыметнікаў: *азімізаваць, яравізаваць.*

Тып прадуктыўны.

§ 898. Суфікс **-ірава- (-ырава-).** Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў назоўнікаў іншамоўнага паходжання ўтвараюцца дзеясловы розных семантычных груп: *анансіраваць, гастраліраваць, зандзіраваць, канваіраваць, лакіраваць, мініраваць, нарміраваць, праграміраваць, санкцыяніраваць, сінкапіраваць, трасіраваць, функцыяніраваць* і інш.

Тып прадуктыўны.

Заўвага. У сучаснай мове сустракаюцца паралельныя ўтварэнні з суфіксамі **-ірава-** (**-ырава-**) і **-ава-** (**-ява-**): *галапаваць — галапіраваць, субстантаваць — субстантывіраваць, прэміяваць — прэміраваць, кансерваваць — кансервіраваць, матываваць — матывіраваць* і інш.

Аднак у радзе выпадкаў значэнні дзеясловаў з суфіксамі **-ірава-** і **-ава-** разышліся, параўн.: *кампаставаць — кампасціраваць, фармаваць — фарміраваць, камандаваць — камандзіраваць* і інш.

§ 899. Суфікс **-іча-**. Пры дапамозе суфікса **-іча-** ад асноў прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «быць такім, як гэта ўказана ва ўтваруючай аснове»: *арыгінальнічаць, асцярожнічаць, важнічаць, далікатнічаць, дасціпнічаць, маладушнічаць, наіўнічаць, нізкапаклоннічаць, прастадушнічаць, самавольнічаць, скрытнічаць, фамільярнічаць, эканомнічаць, яхіднічаць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 900. Суфікс **-ніча-**. Пры дапамозе суфікса **-ніча-** ад асноў назоўнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «займацца пэўнай дзейнасцю або рабіць так, як гэта ўказана ва ўтваруючай аснове»: *адвакатнічаць, акрабатнічаць, амурнічаць, гаспадарнічаць, дзейнічаць, лавеласнічаць, ліберальнічаць, папугайнічаць, сібарытнічаць, сталярнічаць, шалапутнічаць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Заўвага. Некаторыя дзеясловы на **-нічаць** маюць двайную словаўтваральную суадноснасць — з назоўнікамі і з прыметнікамі: *такарнічаць — токар* і *такарны, сталярнічаць — столяр* і *сталярны* і інш.

§ 901. Суфікс **-фікава-**. Пры дапамозе суфікса **-фікава-** і яго варыянта **-іфікава- (-ыфікава-)** ад асноў назоўнікаў утвараецца невялікая група дзеясловаў са значэннем «надзяляць чым-небудзь»: *газіфікаваць, гукафікаваць, кадыфікаваць, кінафікаваць, нуліфікаваць, персаніфікаваць, радыёфікаваць, цеплафікаваць, электрыфікаваць, тарыфікаваць* (у апошнім слове з прычыны таго, што ўтваруючая аснова заканчваецца на **ф,** вылучаецца суфікс **-ікава-).**

Тып малапрадуктыўны.

§ 902. Суфікс **-ка-**. Пры дапамозе суфікса **-ка-** ад выклічнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «вытвараць пэўны гук або комплекс гукаў»: *айкаць, акаць, ахкаць, бзыкаць, бомкаць, булькаць, вохкаць, гаркаць, гайкаць, гыркаць, дзвынкаць, курняўкаць, мукаць, муркаць, мыкаць, тпрукаць, хіхікаць, хукаць, ційкаць, яўкаць, шыкаць* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 903. Суфікс **-і- (-ы-)**. Пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца дзеясловы розных семантычных груп: *арканіць, асначыць, балаганіць, балагурыць, баламуціць, бамбіць, баразніць, батрачыць, брудзіць, бузіць, матычыць, мроіць, расціць, сакратарыць, шчасціць, шынкарыць* і шмат іншых.

Тып вельмі прадуктыўны.

Асаблівай прадуктыўнасцю ў сучаснай мове вызначаюцца групы дзеясловаў з наступнымі значэннямі:

а) надзяляць, пакрываць чым-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваруючай асновы): *вашчыць, дарыць, зубіць, імшыць, каніфоліць, крухмаліць, лаціць, охрыць, палудзіць, памадзіць, рызініць, сандаліць* і інш.;

б) займацца чым-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваруючай асновы): *бурлачыць, гаспадарыць, кашаварыць, контрыць, лайдачыць, партызаніць, слясарыць, стальмашыць, шарлатаніць* і інш.

§ 904. Пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-)** ад асноў прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «рабіць (рабіцца) такім, як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *бадзёрыць, брыдзіць, бяліць, вараніць, вастрыць, весяліць, вінаваціць, вузіць, вяліць, галіць, гарачыць, глушыць, маладзіць, поўніць, цямніць, кволіцца, пазніцца, спорыцца, упарціцца* і інш.

Тып характарызуецца значнай прадуктыўнасцю.

§ 905. Пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-)** ад асноў зборных лічэбнікаў утвараюцца дзеясловы *дваіць, траіць*.

Заўвага. У гутарковай мове могуць ужывацца і дзеясловы, утвораныя ад асноў іншых лічэбнікаў першага дзесятка: *пяцярыць, дзесяцярыць*. Аднак такія ўтварэнні не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

Тып непрадуктыўны.

§ 906. Суфікс **-е- (-а-)**. Пры дапамозе суфікса **-е- (-а-)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «быць, станавіцца або здавацца такім, як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *вар'яцець, дзірванець, днець, звярэць, папялець, парахнець, удавець, хмялець, цьмець, багацець, блажэць, бляднець, бруднець, весялець, віднець, вільгатнець, гладчэць, глушэць, мутнець, рыхлець, саладзець, сівець, смутнець, суровець, чарнець, шырачэць, яснець, большаць, лепшаць, меншаць* і шмат іншых.

Тып прадуктыўны. Асабліва актыўна праходзіць утварэнне дзеясловаў з суфіксам **-е- (-а-)** ад асноў прыметнікаў.

Заўвага. Да разгледжанага тыпа адносіцца невялікая група дзеясловаў, якія ўтварыліся ад асноў назоўнікаў з суфіксам **-е-** і маюць значэнне «ўтвараць пэўны гук»: *бразгацець, гудзець, грукацець, дудзець, лапацець, ляскацець, тупацець, храбусцець, цурчэць, шалясцець, шапацець, шаргацець* і інш.

§ 907. Суфікс **-яне- (-ане-)**. Пры дапамозе суфікса **-яне- (-ане-)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «станавіцца такім, як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *дубянець, карчанець, касцянець, пруцянець, слупянець* і некаторыя іншыя.

Тып непрадуктыўны.

§ 908. Суфікс **-ну-**. Пры дапамозе суфікса **-ну-** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «быць у пэўным стане» або «пераходзіць у пэўны стан» (у адпаведнасці са значэннем

утвараючай асновы): *гразнуць, грузнуць, пáхнуць, прагнуць, смагнуць; горкнуць, гуснуць, слепнуць, ціхнуць* і некаторыя іншыя.

Тып непрадуктыўны.

### *Прыставачнае ўтварэнне дзеясловаў*

§ 909. Прыстаўка **аб- (аба-, а-)**. Пры дапамозе прыстаўкі **аб- (аба-, а-)** ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія маюць наступныя значэнні:

1. Рух вакол чаго-небудзь, міма чаго-небудзь: *абвезці, абвесці, аббегаць, аббегчы, аб'ехаць, аблётаць, абнесці, абпаўзці, абплаваць, абысці* і інш.

Сюды ж адносяцца і дзеясловы з такімі прыватнымі значэннямі, як акружэнне прадмета іншымі прадметамі, стварэнне «абалонкі» вакол прадмета або пакрыццё яго паверхні, а таксама ліквідацыя, зняцце гэтай «абалонкі», паверхні, часткі або краёў прадмета: *аббудаваць, абрысаваць, абхапіць, абчапіць; абвалачы, абвіць, абвязаць, абвярцець, абгарнуць, абклеіць, абмазаць, аплавіць, ацынкаваць, абадраць, абламаць, абрэзаць, аскрэбці, аскубці, абчасаць, абкрышыць* і інш.

Дзеясловы з указанымі значэннямі, як правіла, з'яўляюцца пераходнымі незалежна ад таго, пераходным або непераходным быў дзеяслоў без прыстаўкі **аб-**.

2. Поўны ахоп прадмета дзеяннем: *абгледзець, абдаць, абварыць, абкалаціць, абкіснуць, абліць, абмерзнуць, абмерці, абамлець, асвістаць, аплакаць* і шмат іншых; са значэннем празмернасці дзеяння: *абпаіць, абкарміць.*

Да гэтай жа групы прымыкаюць дзеясловы, якія паказваюць на праяўленне перавагі перад кім-небудзь або чым-небудзь у выкананні дзеяння: *абагнаць, абскакаць, апярэдзіць* і інш.; на накіраванасць дзеяння на шкоду таму, для каго яно ўтвараецца: *абважыць, аблічыць, абмераць.*

Тып вельмі прадуктыўны. Самай шматлікай з'яўляецца група дзеясловаў са значэннем поўнага ахопу прадмета дзеяннем.

Дзеясловы з агульным значэннем поўнага ахопу прадмета дзеяннем таксама ў большасці сваёй пераходныя, прычым часта пераходнымі становяцца і тыя дзеясловы, якія без прыстаўкі **аб-** былі непераходнымі.

*Як на бераг выходзіў, мне ногі абпёк успамінам гарачым халодны пясок* (А. Куляшоў. Толькі ўперад). *Вылез месяца срэбны рог, асвяціў балота з-за хмары* (А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

Аднак рад дзеясловаў застаюцца непераходнымі (*абмерці, абмерзнуць* і інш.).

§ 910. Ад вытворных дзеясловаў, якія маюць іменны корань, з прыстаўкай **аб- (аба-, а-)** утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Забеспячэнне, пакрыццё чым-небудзь: *абдарыць, азеляніць, абмыліць, абнайтовіць* (марск.), *атынкаваць, асвятліць, абрасіць, ашвартаваць* (марск.), *ашкліць* і інш. У якасці ўтвараючай асновы ўжываюцца дзеясловы, якія паходзяць ад назоўнікаў.

2. З гэтай жа прыстаўкай утвараюцца дзеясловы са значэннем «рабіць якім-небудзь» (у адпаведнасці са значэннем імені): *абвузіць, ажывіць, абсушыць, абвастрыць, агаліць, амшыць* і інш. У якасці ўтвараючай асновы ўжываюцца дзеясловы, якія паходзяць ад прыметнікаў або назоўнікаў.

Тып прадуктыўны.

Далучэнне прыстаўкі не мяняе характару кіравання ў дзеясловах абедзвюх груп: яны застаюцца пераходнымі.

*Электрычная лямпачка асвятляе толькі раяль* (З. Бядуля. Жалейка). *Позна. Восень агаліла усе дрэвы і кусты і вятрамі пазнасіла іх пажоўклыя лісты* (Я. Колас. Позна. Восень агаліла...).

§ 911. Прыстаўкі **аб- (аба-)** і **а-** звычайна выступаюць як фанетычныя варыянты адной і той жа прыстаўкі, і ўжыванне іх залежыць ад пачатковых гукаў або гукавых спалучэнняў утвараючай асновы (параўн.: *аб-даць, аб-гледзець*, але *аба-гнаць, аба-драць, а-плавіць, а-плакаць*). Часта адзін і той жа дзеяслоў можа мець дзве прыстаўкі з аднолькавым значэннем або з некаторымі сэнсавымі адценнямі: *абабегчы (аббегчы)* і *абегчы, абкапáць* і *акапáць, абклеіць* і *аклеіць, абскрэбці* і *аскрэбці, абтынкаваць* і *атынкаваць* і інш. Пры гэтым дзеясловы з прыстаўкай **аб- (аба-)** з'яўляюцца, як правіла, больш канкрэтнымі, а дзеясловы з прыстаўкай **-а-** — абстрактнымі, параўн.: *абвеяць — авеяць, абгаварыць — агаварыць, абгарнуць — агарнуць, абкруціць — акруціць, абплысці — аплысці, абсыпаць — асыпаць, абхапіць — ахапіць* і інш. Напрыклад: *Марынка павінна была прыўзняцца, каб абхапіць яго за шыю* (Т. Хадкевіч. Даль палявая). *Ахапіла злосць асілка, закіпела яго кроў* (А. Якімовіч. Каваль-вернідуб).

У некаторых выпадках прыстаўкі **аб-** і **а-** надаюць дзеясловам зусім рознае лексічнае значэнне, параўн.: *абсадзіць — асадзіць, абабраць — абраць, абагрэць — агрэць* і інш.

*Ен пры святле месяца абабраў з суконнай паддзёўкі сена, санліва прывітаўся, прапанаваў закурыць* (І. Шамякін. У добры час). *Мяне хочуць за караля абраць, а я не жадаю, бо не вельмі вучоны* (В. Вольскі. Несцерка).

§ 912. Прыстаўка **ад- (ада-).** Ад невытворных дзеясловаў пры дапамозе прыстаўкі **ад- (ада-)** утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне аддалення, адхілення, адштурхоўвання ад чаго-небудзь, руху ад прадмета як у прамым, так і ў пераносным сэнсе: *адбегчы, адвалачы, адвезці, адвесці, адагнаць, адгрэбці, адкаціць, адкінуць, адляцець, аднесці, адскочыць, адаслаць, адштурхнуць; адвучыць, адазваць, адгаварыць* і інш.

Як відазмяненні гэтага агульнага значэння руху ад прадмета выступаюць і прыватныя значэнні аддзялення ад чаго-небудзь (калі прадметы былі цесна звязаны), адняцця часткі прадмета: *адблытаць, адвязаць, аддзерці, аддзяліць, ададраць, адклеіць, адляпіць, адмыць, адпароць, адпаяць, адплесці, адскрэбці, адбіць, адабраць, адгрызці, аддзяўбці, ад'есці, аджаць, адкалоць, адкасіць, адкроіць, адламаць, адпілаваць, адпіць* і інш.

Тып прадуктыўны.

Далучэнне прыстаўкі **ад-** звычайна не змяняе характару пераходнасці дзеяслова, параўн.: *бегчы — адбегчы, ляцець — адляцець, везці — адвезці, слаць — адаслаць.* Некаторыя ж дзеясловы, якія без прыстаўкі **ад-** з'яўляюцца непераходнымі, з далучэннем гэтай прыстаўкі набываюць пераходнасць: *гаварыць — адгаварыць* і інш.

*Старэйшыя госці аб нечым пашапталіся з Настассяй Палікарпаўнай, тая, відаць было, усё адгаворвала іх, а потым у знак згоды кіўнула галавой* (У. Шахавец. Пасля вяселля).

§ 913. Ад вытворных (адназоўнікавых) і некаторых невытворных дзеясловаў з прыстаўкай **ад-** утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Дзеянне ў адказ або кампенсацыя дзеяння: *аддаць, аддзякаваць, адказаць, адкупіць, адрабіць, адрадзіць, адсудзіць, аддарыць, адплаціць, адпрацаваць* і інш.

2. Завяршэнне і спыненне дзеяння: *адбегаць, адбрадзіць, адбразгаць, адбрахаць, адважыць, адгрукаць, адгуляць, адгусці, адгучаць, ад'енчыць, адзваніць, адзвінець, адзіхацець, адкукаваць, аддзяжурыць; адабедаць, адбедаваць, адбарабаніць, адгасіць, адгрузіць, адгрукатаць, адгрымець, адхваляваца* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

Далучэнне прыстаўкі **ад-** і ў дзеясловах гэтага тыпа не змяняе характару пераходнасці.

§ 914. Значэнне аддзялення або пазбаўлення ад чаго-небудзь (або адняцця часткі прадмета), значэнне дзеяння ў адказ або кампенсацыі дзеяння, а таксама значэнне завяршэння дзеяння могуць супадаць у адным і тым жа дзеяслове з прыстаўкай **ад-**, параўн.: *адкасіць частку луга — адкасіць за доўг — каса ўжо сваё адкасіла; адвучыць каго-небудзь ад дрэннай звычкі — настаўнік ужо адвучыў год і паехаў на адпачынак. Расце канюшына — ён лапік адкосіць, бо конь не машына і есці папросіць* (А. Куляшоў. На сотай вярсце). *Улетку ці адажне жонка, ці сам адкосіш, няхай ужо, па-суседску разлічымся* (П. Галавач. Спалох на загонах).

§ 915. Прыстаўка **вы-**. Пры дапамозе прыстаўкі **вы-** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Накіраванасць руху знутры прадмета, з-за прадмета або з акаляючага асяроддзя: *вывезці, выйсці, выходзіць, выкаціць, вылецець, вылятаць, вынесці, вынырнуць, выпаўзці, выплысці, выпырхнуць, высунуць* і інш. Такое значэнне маюць дзеясловы, якія абазначаюць рух у прасторы.

2. Выняцце, выдаленне, вывядзенне якой-небудзь часткі прадмета або аднаго прадмета з другога: *вывалачы, выгнаць, выграбці, выгрызці, выкалупіць, выкрышыць, выламаць, вылузаць, вылушчыць, выскубці, выстрыгчы, вышчарбіць, вышчыпнуць* і інш. Указанае значэнне набываюць дзеясловы са значэннем фізічнага дзеяння.

3. Паўната, завершанасць і рэзультатыўнасць дзеяння: *выбрыць, выбудаваць, выгадаваць, выгаіць, выдаіць, выкарміць, вылечыць, выліць, вымесці, вырасці, выстудзіць, выстыць, высыпаць; выбрукаваць, вывяліць, выгаціць, высініць* і інш.

Як прыватнае сюды ж уключаецца і значэнне дасягнення мэты дзеяння: *выпрасіць, выстаяць, выхадзіць, выведаць, выездзіць, выйграць, вымаліць, выцерпець, вычакаць* і інш.

Тып прадуктыўны.

Далучэнне прыстаўкі **вы-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў, за выключэннем невялікай групы дзеясловаў са значэннем дасягнення мэты дзеяння. У апошнім выпадку непераходныя дзеясловы з прыстаўкай **вы-** набываюць значэнне пераходных.

*Выхадзяць, можа, вось глядзі і вернуць чалавека кабеціне* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *Гадоў мінула нам не шмат, а нас павек не змяць. Мы зможам вытрымаць парад, мы здольны ў бойку стаць* (У. Хадыка. Інакшым ладам быў закон...). *Нямарна насіў я шахцёрскую робу, у будучы час пракладаючы штрэк, я браў ад жыцця найгарчэйшыя пробы, каб вынасіць назву адну: Чалавек!* (А. Звонак. Чырвонае Урочышча).

§ 916. Прыстаўка **да-**. Ад невытворных і вытворных дзеясловаў пры дапамозе прыстаўкі **да-** ўтвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Дасягненне прасторавай, а таксама часавай мяжы: *дабегчы, давалачы, давезці, давеславаць, давесці, дайсці, дакаціць, далезці, даляцець, дамчаць, данесці, дапаўзці, даскочыць, датупаць, дацягнуць, дашыць, дакарабкацца; дажыць, датрываць, датрымаць, дацярпець, дачакаць* і інш. Указанне на гэту мяжу рэалізуецца залежным ад адпаведнага дзеяслова назоўнікам або займеннікам з прыназоўнікам **да**.

*І грэбля да броду цябе давядзе і кіне ля рэчкі ў вялікай бядзе* (З. Бядуля. Летнік). *Мару, якую раскрыў нам рамантык-геолаг, не мы, дык другія такія ж за нас давядуць да канца!* (А. Звонак. Ноч каля кастра). *Стары Пранук дажыў да гэтага шчаслівага часу* (З. Бядуля. Нупрэйка).

Калі ж такі назоўнік або займеннік з прыназоўнікам **да** пры дзеяслове адсутнічае, то дзеяслоў з прыстаўкай **да-** абазначае даведзенае да да канца дзеянне.

*Я ўставаў і ішоў па ваеннай дарозе. Верыў — дома мне быць, д а б р ы д у, д а ж ы в у...* (П. Б р о ў к а. Спатканне).

2. Давядзенне дзеяння да пэўнай мяжы (а ў асобных дзеясловах — дабаўленне да поўнага аб'ёму, да неабходнай нормы), завяршэнне дзеяння: *даараць, дабраць, дабіць, дабудаваць, даважыць, даварыць, давеяць, давучыць, давязаць, дагаварыць, дагадаваць, дагарэць, дагатаваць, дадаіць, дадзяўбаць, дажаць, дайграць, дакаваць, дакалыхаць, дакапаць, дакарміць, дакіснуць, даклеіць, дакурыць, даліць, далупіць, далячыць, дамаляваць, дамучыць, дапіць, дасохнуць, дасядзець, дачытаць, дасмяяцца, даспрачацца, дабяліць, дадрукаваць, дапоўніць, дасаліць, дафарбаваць* і інш.

Вузкае значэнне — дабаўленне дзеяння да пэўнай меры — маюць і дзеясловы з прыстаўкай **да-**, утвораныя ад дзеясловаў, якія ўжо мелі дзеяслоўную прыстаўку: *даатрымаць, давыбраць, давыканаць, даспагнаць, даўзброіць* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны. Асабліва шматлікай з'яўляецца група дзеясловаў са значэннем давядзення дзеяння да пэўнай мяжы.

Далучэнне прыстаўкі **да-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 917. П р ы с т а ў к а **з- (с-, са-).** Пры дапамозе прыстаўкі **з- (с-, са-)** утвараюцца дзеясловы са значэннем: а) поўнага ахопу прадмета дзеяннем: *зведаць, згрызці, змазаць, зраніць, спляміць* і інш.; б) давядзення дзеяння да крайняй мяжы: *змучыць, ссохнуць, ссушыць, счэрпаць* і некаторыя іншыя; в) дзеяння, якое прыводзіць да поўнага знікнення прадмета (аб'екта гэтага дзеяння): *змыліць* (усё мыла), *зрэзаць* (увесь нож) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Утварэнне дзеясловаў з названымі значэннямі адбываецца як ад вытворных, так і ад невытворных дзеясловаў. Далучэнне прыстаўкі **з- (с-)** пераводзіць непераходныя дзеясловы руху кратнага падвіда ў пераходныя, параўн.: *бегаць — збегаць* (усе дарогі), *ездзіць — з'ездзіць* (увесь свет).

*Не мала страціў зім, не мала з' е з д з і ў свету. Не вытрымаў Максім, рашыў: дадому еду* (А. К у л я ш о ў. Музыка).

З а ў в а г а. Прыстаўка **з-(с-)** у разгледжаных значэннях паходзіць са старажытнай прыстаўкі **из-(ис-)**.

§ 918. Пры дапамозе прыстаўкі **з- (с-, са-)** ад невытворных (і часткова ад вытворных) дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Аддаленне, адхіленне, пазбаўленне ад чаго-небудзь, у прыватнасці:

а) рух ад прадмета, зняцце або ачышчэнне з паверхні: *збегчы* (з дому, з двара), *сысці; змыць, скапáць, саскрабці, злізаць, скалупнуць, сарваць, састругаць, састрыгчы* і інш., а таксама ў пераносным сэнсе (у значэнні «скапіраваць»): *спісаць, зрысаваць, счарціць* і інш.;

б) рух уніз: *збегчы, звалачы, з'ехаць, сысці, скаціць, злезці, зляцець, ссадзіць, саскайзнуць, саслізнуць* і інш.

2. Злучэнне, сканцэнтраванне ў адным месцы: *збіць, сабраць, сагнаць, згрэбці, здружыць, сазваць, скідаць, скласці, склікаць, сляпаць, злажыць, злучыць, спаяць, стуліць, счапіць, сашрубаваць, з'яднаць* і інш.

3. Рэзультатыўнасць: *звастрыць* (у значэнні «вострачы, звастрыць да канца»), *здаіць, здаць, скупіць, ссекчы* і некаторыя іншыя.

Тып прадуктыўны.

Прыстаўка **з- (с-, са-)** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

Заўвага 1. Далучаючыся да дзеясловаў руху кратнага падвіда, прыстаўка **з-(с-, са-)** пераводзіць іх у закончанае трыванне са значэннем руху туды і назад: *збегаць, звадзіць, звазіць, з'ездзіць, схадзіць* і інш.

*Ты мне казала — па кветкі збегай, ты мне казала — цвітуць лугі. Шукаў я кветак, шукаў пад снегам, і ў сэрцы многа было тугі* (У. Хадыка. Штандар чырвоны, штандар чырвоны...). *Сорак раз зганяў каня* (Я. Колас. Доктар памог). *Каб вечна аб дзецях жылі успаміны, схадзіў ён да лесу па клён і рабіну...* (П. Броўка. Брат і сястра).

Заўвага 2. Прыстаўка **з-(с-, са-)** у разгледжаных значэннях паходзіць са старажытнай прыстаўкі **с-(со-)**.

§ 919. У сучаснай мове з прычыны перараскладання асноў пачынае выдзяляцца прыстаўка **спа-**: *спавіць, спагнаць, спажыць, спазнаць, спарадзіць* і некаторыя іншыя. Гэта прыстаўка склалася ў выніку далучэння прыстаўкі **с-** да дзеясловаў, якія ўжо мелі прыстаўку **па-**. Дзеясловы з прыстаўкай **спа-** набываюць значэнне рэзультатыўнасці.

Тып малапрадуктыўны.

§ 920. Прыстаўка **за-**. Пры дапамозе прыстаўкі **за-** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Накіраванасць руху за які-небудзь прадмет, за якую-небудзь прасторавую мяжу або куды-небудзь, у межы чаго-небудзь: *забегчы, забрысці, завалачы, завезці, завесці, загнаць, закаціць, закласці, залезці, заляцець, замчаць, занесці, запаўзці, запхнуць, заслаць, засунуць, заткнуць, зацягнуць* і інш.

Гэта значэнне асабліва ярка выступае, калі пры дзеясловах са значэннем накіраванасці руху за які-небудзь канкрэтны прадмет стаіць імя з прыназоўнікам **за**.

*Там сонца заходзіць за гумны арцелі* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Чарцяжы і разлікі былі вернуты Андрэю. Ашаломлены Андрэй, нічога не кажучы хлопцам, закінуў іх у пыльны куток за шафу* (У. Шахавец. Пасля вяселля). *Нават і цяпер, нягледзячы на сваё восемдзесят год, дзед Мікіта за пояс маладога заткне* (Я. Колас. У палескай глушы).

У асобных выпадках некаторыя з названых дзеясловаў могуць набываць значэнне дзеяння, якое адбываецца адначасова з асноўным: *забегчы, заехаць, зайсці, заскочыць* і інш.

*Між алешын, кустоў, дзе пяе салавей, і шуміць і грыміць срэбразвонны ручэй... То заскочыць у гай, то курган абаўе, дзе сярдзіта бубніць, дзе лагодна пяе* (Я. Колас. Ручэй).

2. Пачатак дзеяння: *заапладзіраваць, заахкаць, забегаць, заблiскаць, забляяць, забомкаць, збоўтаць, забрахаць, забрыкаць, забулькаць, забурліць, забурчаць, завіляць, завохаць, завыць, загрукаць, загучаць, закрактаць, замармытаць, зашоргаць; зазваніць, залемантаваць, закалясіць; заспрачацца, замітусіцца, завагацца, заклапаціцца, захмарыцца* і шмат іншых.

3. Замыканне краёў, запаўненне пустаты, пакрыццё: *забудаваць, заваліць, загарнуць, задраіць, заклеіць, закрыць, заляпіць, заплюшчыць, засеяць, засланіць, заслаць* (у значэнні «пасцяліць»), *засыпаць, захіліць, заціснуць, зашыць; замасціць, замураваць, зашнураваць* і інш.

Да гэтай жа групы прымыкаюць дзеясловы са значэннем дзеяння, якое адбываецца ўслед за прайшоўшым: *заесці, запіць, закусіць*.

4. Паўната, празмернасць дзеяння або яго вычарпальнасць (значэнне вычарпальнасці дзеяння набліжаецца да чыста граматычнага значэння закончанага трывання): *заваражыць, захваліць, зацалаваць, зацягаць, зачаставаць; задарыць, залашчыць, занасіць, запесціць, застудзіць* і інш.; *забіць, загрызці, загубіць, закляваць* і інш.

5. Дасягненне, атрыманне чаго-небудзь у выніку дзеяння: *заваяваць, запрацаваць, зарабіць* і інш. Прыстаўка **за-** ў гэтых выпадках пераводзіць дзеясловы з непераходных у пераходныя.

*Лічыце самі, колькі працадзён яны маглі запрацаваць за лета* (З. Астапенка. Эдэм). *Заўтра і я пайду хлеб зарабляць* (К. Крапіва. З народам).

Тып вельмі прадуктыўны. Асабліва лексічна багатая група дзеясловаў са значэннем пачатку дзеяння.

§ 921. Прыстаўка **на-**. Пры дапамозе прыстаўкі **на-** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Накіраванасць дзеяння на паверхню прадмета, сутыкненне з прадметам: *набегчы, набрысці, навесці, наехаць, наляцець, напаўзці, наплыць, наскочыць* і інш.

Дзеясловы з гэтым значэннем утвараюцца выключна ад невытворных дзеясловаў, прыстаўка не мяняе характару іх пераходнасці: дзеясловы застаюцца ў большасці непераходнымі і кіруюць іменем або займеннікам пры дапамозе прыназоўніка **на.**

*Хвалі весела ветлівым звонам набягаюць на бераг зялёны, туман — як разліў серабра* (А. Александровіч. Волга). *Хтосьці ў цёмным кутку наляцеў на мяне нечакана...* (А. Куляшоў. Дом № 24).

2. Накладванне на прадмет: *набіць* (абруч на бочку), *навязаць, накінуць, наклеіць, наляпіць, насадзіць, нацягнуць* і інш.

Дзеясловы гэтай групы ўтвараюцца таксама ад невытворных дзеясловаў, але яны, як правіла, пераходныя. Кіруюць іменем або займеннікам гэтыя дзеясловы звычайна пры дапамозе прыназоўніка **на.**

*Я накінуў кажух на плечы і выйшаў з хаты* (З. Бядуля. Бяссоннасць). *Ён глянуў. З паперамі папку у шафу замкнуў за сталом, напяў аблавухую шапку і выйшаў адтуль з Васілём* (А. Куляшоў. Баранаў Васіль).

3. Ажыццяўленне дзеяння на паверхні прадмета, у прыватнасці, утварэнне на паверхні прадмета налёту, наросту, накіпу і г. д.: *нагарэць, накіпець, налітаваць, наліпнуць, намерзнуць, нарасці, насохнуць* і інш.

Дзеясловы з указаным значэннем утвараюцца як ад вытворных, так і ад невытворных дзеясловаў.

4. Паўната, дастатковасць або празмернасць дзеяння: *наараць, набраць, набудаваць, наважыць, навешаць, навеяць, нагарнуць, надзерці, надраць, нажаць, накаваць, накапаць, накасіць, наквасіць, налавіць, нарабіць, нарубіць, нарэзаць, насадзіць, насеяць, наскрэбці, наскубці, нашчыпаць, набяліць, навяліць, нагадаваць, нагнясці, накупіць, напаліць, напудрыць, напячы, насаліць, нацерці* і інш.

Група дзеясловаў з такім значэннем з'яўляецца даволі шматлікай. Утвараюцца названыя дзеясловы ў асноўным ад невытворных пераходных дзеясловаў, прычым вінавальны склон прамога дапаўнення пераходзіць у родны (часцей множнага ліку) са значэннем часткі.

*Цемень і ціш напоўнілі маленькі пакойчык* (Я. Колас. У палескай глушы). *Ногі ў баях натамілі, як драўлянымі стрэльбамі вызвалялі ад белых сяло* (А. Куляшоў. Хлопцы апошняй вайны).

5. Насычанасць або празмернасць дзеяння (утвараюцца яны ад зваротных дзеясловаў): *набадзяцца, навалачыцца, навалтузіцца, нагушкацца, назлавацца, насмяяцца, наспрачацца, нахвалявацца* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 922. Пры дапамозе прыстаўкі **на-** ад вытворных дзеясловаў незакончанага трывання, якія ўжо маюць прыстаўку **(а-, аб-, ад-, вы-, за-, з- (с-), пад-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас-), уз- (ус-), у-)**, утвараюцца дзеясловы закончанага трывання з новым лексічным адценнем паўнаты, вычарпальнасці або празмернасці дзеяння: *наатрасаць, нааборваць.*

*наабмываць, нааддзіраць, наадмерваць, навыварочваць, навырабляць, назагортваць, назасушваць, назбіваць, наскідаць, насаскрабаць, нападкрэсліваць, наперабіраць, наперарэзваць, напракопваць, напрыбудоўваць, напрысылаць, наразварочваць, нарасточваць, наўзвалакаць, наўсплываць, наўбіваць* і шмат іншых.

Дзеясловы гэтага тыпа ўжываюцца пераважна ў бытавой мове і ў мове мастацкай літаратуры. Для афіцыяльнага, кніжнага і навуковага стыляў гэтыя дзеясловы не характэрны.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 923. Прыстаўка **над- (нада-).** Пры дапамозе прыстаўкі **над- (нада-)** ад невытворных (і зрэдку ад вытворных) дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Павелічэнне, пашырэнне прадмета (шляхам далучэння дадатковай часткі), узмацненне самога дзеяння: *надбавіць, надбудаваць, надвязаць, надклеіць, надкляпаць, надставіць, надтачыць, надшыць* і інш., а таксама з пераносным значэннем дабаўлення: *наддаць, надпісаць* і інш.

2. Няпоўны ахоп прадмета дзеяннем, няпоўнае дзеянне: *надагнуць, нададраць, надбіць, надгнісці, над'есці, надкапаць, надкусіць, надламаць, надпілаваць, надпіць, надрэзаць, надсекчы, надсушыць* і інш.

Далучэнне прыстаўкі **над-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў: усе дзеясловы гэтага тыпа могуць кіраваць толькі вінавальным склонам назоўніка (або займенніка) без прыназоўнікаў.

Тып малапрадуктыўны.

§ 924. Прыстаўка **неда-.** Пры дапамозе прыстаўкі **неда-** ад невытворных і вытворных (як беспрыставачных, так і некаторых прыставачных) дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем непаўнаты, недастатковасці дзеяння, неадпаведнасці патрэбнай норме: *недабачыць, недабраць, недаважыць, недаварыць, недаглядзець (недагледзець), недадаць, недаесці, недаказаць, недакруціць, недалічыць, недамераць, недапаліць, недапісаць, недапіць, недаплаціць, недапрацаваць, недапячы, недасадзіць, недасачыць, недасядзець, недасеяць, недаспець, недасыпаць, недатрымаць, недацягнуць, недачуць, недачытаць; недагрузіць, недаквасіць, недасаліць, недасушыць; недаатрымаць, недааццаніць.*

*Недагледзеў, а скаціна на раллі* (А. Александровіч. Векапомная восень). *Недасачылі за ёю фашысцкія вочы, не захапілі пры лямпе яе апаўночы, не пашматалі яе на кавалкі рукамі...* (А. Куляшоў. Балада аб жывой газеце).

Тып характарызуецца нязначнай прадуктыўнасцю.

Прыстаўка **неда-** звычайна не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў. Пры пераходных дзеясловах з прыстаўкай **неда-** назоўнік або займеннік (прамы аб'ект, на які пераходзіць дзеянне) ужываецца не ў форме роднага склону, як гэта звычайна бывае пры дзеясловах з адмоўем **не,** а ў форме вінавальнага склону.

§ 925. Прыстаўка **па-.** Пры дапамозе прыстаўкі **па-** ўтвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Абмежаванасць дзеяння, у прыватнасці з колькаснага боку. Сюды адносяцца дзеясловы, якія абазначаюць:

а) праяўленне дзеяння ў невялікай меры: *пабалаваць, пабоўтаць, пагартаваць, пахіліць; пабагацець, пабедаваць, пабруднець, паваструэць, павіднець* і інш., а таксама распаўсюджанне дзеяння на паверхні прадмета: *павашчыць, пазалаціць, памазаць, пасерабрыць* і інш.;

б) непрацягласць дзеяння: *паапладзіраваць, паблудзіць, паблукаць, пабрахаць, пабурчаць, пабываць, павадзіць, падзяжурыць, падражніць, падрамаць, пазвінець, паездзіць, паенчыць, паспаць, пашмараваць, пабадзяцца, пакоўзацца, пагарачыцца* і інш. Да гэтай жа групы належаць дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, выкананае ў адзін прыём: *пастукаць, пагрукаць, пазваніць, паткнуць, пацісунць* і інш.

Дзеясловы са значэннем абмежаванасці дзеяння ўтвараюцца як ад невытворных, так і ад вытворных дзеясловаў. Асабліва прадуктыўнай з'яўляецца група дзеясловаў са значэннем непрацяглаcці дзеяння.

Заўвага. Рад дзеясловаў са значэннем непрацяглаcці дзеяння можа мець і значэнне поўнага ахопу прадмета дзеяннем або распаўсюджання гэтага дзеяння на некалькі аб'ектаў: *паараць, паварыць, пабароць, павязаць, пажаць, папець, папіліць, пакідаць, памерзнуць, памалоць, пасушыць* і інш.

*«Ну, браце, супачынь з дарогі. Я табе і палаткі ў гумне змайстраваў,— сказаў дзядзька да госця,— а я паеду п а а р у трохі, думаем грэчку пад клінамі засеяць»* (Я. Колас. На ростанях). *Я летась адзін п а а р а ў усё* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Ды праходзяць думкі тыя — можа, гора праміне, робіць, б'ецца: ці п а ш ы е, ці п а м ы е, ці п а ж н е* (П. Броўка. Кацярына). *Як п а ж н у пшаніцу ў полі — буйныя калоссі, на пабыўку, мой саколік, прыязджай у госці* (А. Александровіч. Песня).

2. Пачатак дзеяння: *пабегчы, паехаць, пайсці, паплысці, павезці, павесці, палезці, паляцець* і інш.

Адзначаныя дзеясловы ўтвараюцца толькі ад невытворных дзеясловаў са значэннем руху.

3. Рэзультатыўнасць дзеяння: *павянуць, пагаіць, папрэць, папсаваць, парашаць* (усе задачы), *папомсціцца* і інш.

Тып прадуктыўны.

Прыстаўка **па-** звычайна не змяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 926. Пры дапамозе прыстаўкі **па-** ад вытворных дзеясловаў незакончанага трывання, якія ўжо маюць прыстаўку **(а-, аб-, ад-, вы-, да-, з- (с-), за-, на-, над-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас-), уз- (ус-), у-),** утвараюцца дзеясловы закончанага трывання з новым лексічным адценнем паўнаты ахопу дзеяннем двух або многіх аб'ектаў: *паабіваць, паабіраць, паадзяваць, паапырскваць, паабвальваць, паабдзіраць, паабчышчаць, паадвозіць, паадмочваць, паад'язджаць, павыбіваць, павыбягаць, павылічваць, падавязваць, падаплачваць, падасяваць, пазбіваць, паскручваць, пасашчэпліваць, пазаворваць, пазаліваць, панагадоўваць, панажываць, панадпісваць, панадсякаць, папазвоньваць, папакручваць, папастрэльваць, пападгінаць, пападкрэсліваць, папераўыконваць, паперакройваць, папрабіваць, папрарастаць, папрымярзаць, папрышпільваць, паразграбаць, парассылаць, паўзрываць, паўсцягваць, паўкопваць, паўтоптваць* і шмат іншых.

*Каштаны на дарозе п а з а п а л ь в а л і свечкі* (П. Броўка. Паланянка). *П а н а с а д з і л і сады, забуяла поле, і гэты пустыр зрабіўся раем* (З. Бядуля. Дванаццацігоднікі). *Усе п а п а д ы м а л і с я са сваіх месц* (Я. Колас. На ростанях). *Я, бывала, як быў гэтакі, як ты, дык... эх, п а п а а б в у ч в а ў гэтых маладых коней* (К. Чорны. Лета).

Дзеясловы гэтага тыпа характэрны для бытавой мовы; ужываюцца яны і ў мове мастацкай літаратуры. У дзелавым, кніжным і навуковым стылях падобныя дзеясловы ўжываюцца радзей.

Тып надзвычай прадуктыўны.

Прыстаўка **па-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 927. У сучаснай гутарковай мове ў якасці самастойнай дзеяслоўнай прыстаўкі выступае **папа-**. Дзеясловы, утвораныя пры дапамозе гэтай прыстаўкі, абазначаюць працяглае або мнагакратна паўтараемае дзеянне, вялікую колькасць гэтага дзеяння: *папабегаць, папаваяваць, папаварыць, папавазіць, папавудзіць, папагнуць, папагаладаць, папаганяць, пападзівіцца, пападрыжаць, папайграць, папакіснуць, папамерзнуць, папаныраць, папаплаваць, папаспяваць, папастарацца, папатрэсці, папацярпець, папачакаць, папаездзіць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

*Мудрэйка за свой век* *п а п а с у д з і ў с я* *з усімі* (К. Ч о р н ы. Малюнак). *А колькі я іх* *п а п а в а р о ч а ў,* *п а п а к а ч а ў* *колькі, збіраючы ў кучу. А пастой жа ў гліне,* *п а п а г н і с я,* *п а п а к і д а й дзень рыдлёўкай...* (П. Г а л а в а ч. Спалох на загонах).

Дзеясловы з прыстаўкай **папа-** маюць яркую экспрэсіўную афарбоўку і ўжываюцца пераважна ў гутарковай мове. У мове мастацкай літаратуры такія дзеясловы ўжываюцца рэдка (звычайна ў мове персанажаў).

Прыстаўка **папа-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

З а ў в а г а. Блізкімі па значэнню да дзеясловаў з прыстаўкай **папа-** з'яўляюцца дзеясловы з прыстаўкай **па-** тыпу *папакошваць, папазвоньваць, папакручваць* (г. зн. утвораныя ад дзеясловаў незакончанага трывання, якія ўжо мелі прыстаўку **па-**).

*Вось хоць бы зараз, пайшоў бы да* *п а п а к о ш в а ў* *трохі — ці мне ж з Напрэем адному ўправіцца?..* (М. Л ы н ь к о ў. На чырвоных лядах).

Такім чынам, у сучаснай мове існуюць сінанімічныя пары: *папакасіць — папакошваць, папазваніць — папазвоньваць, папакруціць — папакручваць* і інш. Аднак утварэнне і ўжыванне дзеясловаў тыпу *папакошваць* значна больш абмежавана, чым дзеясловаў з прыстаўкай **папа-** тыпу *папакасіць.*

§ 928. П р ы с т а ў к а **пад- (пада-).** Пры дапамозе прыстаўкі **пад- (пада-)** утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Дзеянне, якое накіравана пад прадмет: *падбіць, падгарнуць, падкласці, падлажыць, падлезці, падсунуць, падтаптаць, падаткнуць* і інш.

2. Прыбаўленне: *падбудаваць, падварыць, падвіць, падкарміць, падкідаць, падліць, падсеяць* і інш.

Значэнне прыбаўлення цесна набліжаецца да значэння дзеяння, якое накіравана пад прадмет. Часта адны і тыя ж дзеясловы (напрыклад, *падкінуць, падклеіць, падлажыць, падварыць, падвязаць* і інш.) могуць мець абодва значэнні, прычым значэнне прыбаўлення ўсведамляецца як пераноснае. Параўн.: *П а д к і н ь што-небудзь пад галаву* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. На сажалках). *Нам няма як паветрам ці сушай падмогу* *п а д к і н у ц ь,* *і павінны прабіцца мы мужна ці мужна загінуць* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады).

3. Рух знізу ўверх або набліжэнне да прадмета: *падабраць, падвысіць, падкурчыць, падскочыць, падрасці; падбегчы, падвалачы, падагнаць, падгрэбці, пад'ехаць, падысці, падкаціць, падляцець, паднесці, падплысці, падсесці, падцягнуць, падвесλаваць, падрулiць, падблізіцца* і інш.

Дзеясловы трох адзначаных груп суадносяцца, як правіла, з невытворнымі дзеясловамі руху або фізічнага дзеяння, а таксама з тымі вытворнымі, якія пераносна набываюць гэтыя значэнні (параўн.: *падвесλаваць, падрулiць*).

4. Непаўната дзеяння:

а) калі дзеянне ахоплівае толькі частку або толькі паверхню прадмета: *падмазаць, падмаляваць, падмачыць, падмокнуць, падраніць, падрысаваць, падсмажыць, падсмаліць, падсохнуць, падстрыгчы, падцерці* і інш. (гэта падгрупа нешматлікая);

б) калі дзеянне абмежавана ў якіх-небудзь адносінах і ўтвараецца толькі па пэўнай прычыне, для пэўнай мэты, не ў поўную меру: *падварушыць, падвыпіць, падвыць, падагрэць, падгуляць, падкасіць, падкруціць, падлячыць, падпароць; падбадзёрыць, падбяліць, падвастрыць, падвесяліць, падгарадзіць, падгладзіць, падквасіць; паддобрыцца, падлашчыцца, падхарашыцца, падхрабрыцца* і шмат іншых.

Апошняя падгрупа надзвычай прадуктыўная; з гэтым значэннем утвараюцца дзеясловы як ад невытворных, так і ад вытворных дзеясловаў, у тым ліку і ад дзеясловаў, якія ўжо маюць сваю прыстаўку: *падашукаць, падзабыць, падзакусіць, падзарабіць, падналегчы, паднаціснуць, падсабраць* і інш.

Да дзеясловаў са значэннем непаўнаты дзеяння прымыкае некалькі слоў са значэннем дзеяння, якое адбываецца скрытна, спадцішка: *падглядзець, падміргнуць, падслухаць, падсцерагчы* і інш.

Дзеясловы з прыстаўкай **пад-** складаюць жывы і прадуктыўны тып. Характару пераходнасці дзеясловаў прыстаўка **пад-** не змяняе.

§ 929. Прыстаўка **пера-**. Пры дапамозе прыстаўкі **пера-** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Пераход цераз прадмет або перамяшчэнне ў прасторы: *переваланы, перайсці, перакінуць, пералезці, перапаўзці, пераступіць; перабегчы, перабрысці, перавезці, перавесці, пераехаць, перакачаваць, пераляцець, перанесці, пераплысці, перасяліць, перагрузіць* і інш.

Дзеясловы гэтай групы ўтвараюцца пераважна ад невытворных дзеясловаў руху. Значэнні пераходу цераз прадмет і перамяшчэння ў прасторы не з'яўляюцца строга дыферэнцыраванымі; у залежнасці ад кантэксту адзін і той жа дзеяслоў можа мець адно або другое значэнне: *Голас-кліч за бур'янныя межы перакінь ты прыбоем марскім, перакінь у гушчар Белавежы, ў сэрца кроўных людзей перакінь* (П. Трус. Прысвячаецца Я. Купалу).

2. Дзеянне, якое ажыццяўляецца нанава (паўторнае дзеянне): *пераараць, пераасігнаваць, перабалаціраваць, перабудаваць, пераварыць, перавучыць, перавярстаць, перагледзець, перадаручыць, перадзяліць, пераканструяваць, перакваліфікаваць, перакіпяціць, перакленць, перакроіць, перакупіць, пералажыць, пераманціраваць, перарэгістраваць, перастроіць; пераадрасаваць, пераарфаваць, перабінтаваць, перагладзіць, перадрукаваць, перапакаваць, пераацаніць; пераарыентавацца; перавыдаць, перадапытаць* і інш.

Дзеясловы з гэтым значэннем складаюць надзвычай прадуктыўны тып; яны ўтвараюцца як ад невытворных, так і ад вытворных дзеясловаў (у тым ліку і ад тых, якія ўжо маюць прыстаўку).

3. Разрыў, раздзяленне прадмета (у прамым і ў пераносным сэнсе): *пераламаць, перапаліць, перагрызці, перарваць, перарэзаць, перасекчы,ператнуць; перагарадзіць, перапрудзіць* і інш.

*Дзе дарогу раўчук перарэзаў, над ім масцік драўляны накіданы* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Гаворку яго перабіў бацька* (П. Галавач. Спалох на загонах).

4. Паўната, а часцей празмернасць дзеяння: *перабавіць, перабраць, перагнісці, перагнуць, перагрэць, перадаць, пераесці, перакіпець, перакіснуць, перамачыць, перапіць, перарасці, пераспець; перавыканаць, перадаверыць, перанасяліць; перабяліць, перавузіць, перакасіць, перакарміць, перакавасіць, перасаліць; перастарацца* і інш. Сюды ж адносяцца і дзеясловы са значэннем пераадолення, перавагі: *перахацець, перацярпець, перашчымець; перагнаць, перакрычаць, пераспрачацца* і інш.

Утварэнне дзеясловаў з такім значэннем у сучаснай беларускай мове праходзіць надзвычай інтэнсіўна.

5. Пачарговы ахоп дзеяннем вялікай колькасці прадметаў: *перабудзіць, перавазіць, перавеяць, перагінуць, перадзяўбаць, перакалоць, перакупляць, peралавіць, пералатаць, перапушчыць, перамерці, пераніщчыць, перапець, перапражыць, перастраляць; пераважыць, перавастрыць, перавянчаць, перагабляваць, перамяціць, пеpажаніць, пеpатупіць; пераздаройкацца* і інш.

Значэнне пачарговага ахопу прадметаў дзеяннем могуць у пэўным кантэксце набываць і дзеясловы іншых семантычных груп (у прыватнасці, дзеясловы са значэннем раздзялення, празмернасці або паўторнага дзеяння), параўн.: *перакрыць ваду — перакрыць усе стрэхі; перагнуць палку — перагнуць усе дугі, перагледзець справу — перагледзець шмат кінафільмаў.*

6. Запаўненне дзеяннем пэўнага прамежку часу: *перабыць, перадрамаць, пералсыць, перамаўчаць, пераспаць, перачакаць; перадняваць, пераначаваць* і інш.

7. Ператварэнне, замена аднаго прадмета другім у працэсе дзеяння, пераход у іншы стан: *перамалоць,ператрушчыць, перацерці, перабіць* і некаторыя іншыя.

Тып жывы і прадуктыўны, за выключэннем дзвюх апошніх семантычных груп (утварэнне гэтых дзеясловаў абмяжоўваецца лексічным значэннем утваральнай асновы).

Прыстаўка **пера-** мяняе характар пераходнасці дзеясловаў.

§ 930. Прыстаўка **пра-**. Пры дапамозе прыстаўкі **пра-** пераважна ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Пранікненне праз прадмет, прабіванне яго, утварэнне адтуліны і г. д.: *прабадаць, прабіць, прагрызці, прадзяўбці, пракусіць, праламаць, пранізаць, прапаліць, прапхнуць, прарэзаць, прасекчы, прастрэліць, прасунуць, праткнуць, працісяуць, прадзіравіць, прадушыць, прагляяуць, працячы* і інш. Сюды ж і *прабрыць, прамесці, прамыць, прастрыгчы, працерці, прагаліць* і інш., якія маюць значэнне «ачысціць пэўнае месца».

2. Рух у прасторы міма прадмета: *прабегчы, правалачы, правезці, правесці, праляцець, прапаўзці, праплысці, праскочыць, прашмыгнуць* і інш.

3. Паўната дзеяння: *праварыць, прагрэць, пракіпець, прасеяць, пратруціць* (насенне), *прагоркнуць, праёлкнуць, прапарыць, праперчыць, прахарчаваць* і інш.

Заўвага. У залежнасці ад кантэксту дзеясловы гэтай семантычнай групы могуць набываць значэнне непаўнаты дзеяння: *правянуць, прасохнуць, прагніць, прагрэць, прамалоць, прамерзнуць, прапаліць, прачахнуць, прагаладаць, прасушыць* і інш. *Хоць бы дзе ягадку знайсці рот прамачыць* (А. Якімовіч. Арляняты). *«Трохі толькі сыравата,— кажа салдат.— Прашу крыху прапаліць»* (Я. Скрыган. Затока ў бурах).

4. Запаўненне дзеяннем пэўнага прамежку часу: *прааралиь, праахкаць, прабавіць, прабегаць, праблукаць, прабрахаць, прабыць, праваазіць, praваяваць, правішчаць, прагуляць, прадрамаць, пралётаць, праляжаць, прамаўчаць, прамахаць, праплаваць, праплакаць, прасядзець, пратрываць, пратрымаць, працярпець; прабаранаваць, праварта ваць, прадняваць; прабадзяцца, правалачыцца, праваляцца* і інш.

5. Заканчэнасць, завяршэнне дзеяння: *прашумець, прарайці, празваніць, прарасці* і інш. (гэта значэнне блізкае да чыста граматычнага значэння закончанага трывання).

Невялікая група дзеясловаў набывае адценні памылковасці дзеяння або страты аб'екта ў выніку дзеяння (гэтыя адценні абумоўлены лексічным значэннем утваральнай асновы): *прагандляваць, пратаргаваць, прагадаць; праманталыць* (прастамоўн.), *прамаргаць, пратранжыраваць* (размоўн.), *пратраціць, прафінціць* (прастамоўн.) і інш.

Большасць такіх дзеясловаў адносіцца да размоўнай лексікі.

Тып прадуктыўны. Найбольш багатай з'яўляецца група дзеясловаў, якія абазначаюць запаўненне дзеяннем пэўнага прамежку часу.

Прыстаўка **пра-** часта мяняе характар пераходнасці дзеясловаў.

§ 931. Прыстаўка **проці-**. Пры дапамозе прыстаўкі **проці-** ўтвараецца невялікая група дзеясловаў са значэннем дзеяння, накіраванага супраць таго, што абазначана ўтваральнай асновай: *проціпаставіць, проціставіць, процідзейнічаць* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

§ 932. Прыстаўка **супраць-**. Пры дапамозе прыстаўкі **супраць-** утвараецца таксама нязначная колькасць дзеясловаў, сінанімічных па

значэнню дзеясловам з прыстаўкай **проці-**: *супрацьпаставіць, супрацьстаяць, супрацьдзейнічаць* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

§ 933. Прыстаўка **пры-**. Пры дапамозе прыстаўкі **пры-** ўтвараюцца дзеясловы з двума асноўнымі значэннямі:

1. Прыбліжэнне, далучэнне, зліццё: *прыбегчы, прыбыць, прывандраваць, прывезці, прывесці, прыгнаць, прыехаць, прыйсці, прыляцець, прымчаць, прыплысці, прыскакаць, прыхлынуць, прыцягнуць, прыкрочыць; прыараць, прыбудаваць, прыварыць, прыкаваць, прыкляпаць, прылічыць, прылучыць, прыпаяць, прыпісаць, прырасціць, прыгарадзіць, прыплаціць; прыкалоць, прыліпнуць, прыляпіць, прырасці, прышыць* і інш.

2. Непаўната дзеяння (дзеянне праяўляецца не ў поўнай меры або абмежавана ў часе): *прывянуць, прыгаіць, прыгарэць, прыдушыць, прыжмурыць, прызабыць, прыкідаць, прыкрыкнуць, прыкрыць, прыламаць, прылегчы, прымарозіць, прымачыць, прымоўкнуць, прымяць, прыпарушыць, прысесці, прытаміць, прывяліць, прыгоркнуць, прысмаліць, прытупіць, прыбедніцца, прыпазніцца* і інш. З такім жа значэннем дзеясловы ўтвараюцца і ад тых дзеясловаў, якія ўжо маюць прыстаўку: *прыадкрыць, прынабыць, прыналегчы, прынаняць, прыпадняць, прыўнесці, прыўзняць, прыспусціць* і інш.

Тып прадуктыўны.

Прыстаўка **пры-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 934. Прыстаўка **раз- (раза-, рас-)**. Пры дапамозе прыстаўкі **раз- (раза-, рас-)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Падзел на часткі, раздзяленне, размеркаванне: *разгрызці, разадраць, развінціць, разрэзаць, раскусіць; разваліць, разварочаць, разліць, разлучыць, расцягаць, раз'яднаць, рассунуць, раскалоць; разапхнуць, размеркаваць, развешаць, расчляніць, раскласці, раскватараваць, расставіць, рассеяць* і інш.

2. Рух ад цэнтра ў розныя бакі: *развалачы, развезці, развесці, раскідаць, разагнаць, распырскаць* і інш.

3. Знішчэнне вынікаў раней утворанага дзеяння: *развіць, развязаць, развярстаць, разагнуць, разматаць, разгрузіць, раскамячыць, размагніціць, распутаць, расфарміраваць; развярцець, разгарнуць, распакаваць, расцюкаваць* і інш.

4. Паўната, інтэнсіўнасць дзеяння: *разадзець, разбоўтаць, разглядзець, раскурыць, расчытаць, раз'яснець, разагрэць, разнервавацца, разгарачыцца* і інш.

Тып прадуктыўны. Прыстаўка **раз-**, як правіла, не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 935. Прыстаўка **у- (ува-)**. Пры дапамозе прыстаўкі **у- (ува-)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Накіраванасць унутр прадмета або асяроддзя: *убегчы, убіць, увезці, увесці, уярстаць, уехаць, упаўзці, уплесці, уплысці, упхаць, упхнуць (увапхнуць), упырснуць, ушыць, увінціць, увагнаць, увайсці, уваткаць* і інш.

Заўвага. Прыстаўка **у- (ува-)** ва ўказаным значэнні ўзыходзіць да старажытнай прыстаўкі **в- (во-)**.

2. Паўната дзеяння. У гэтым значэнні можна выдзеліць адценні:

а) распаўсюджання дзеяння на ўвесь аб'ект: *увешаць, увіць, укачаць, укрыць, унізаць, утыкаць, убрукаваць* і інш.;

б) давядзення дзеяння да пэўнага выніку: *уварыць, увязаць, увярцець, угаварыць, угарнуць, укарміць, укруціць, урабіць, уціснуць, укваcіць, усаліць* і інш.;

в) утварэння дзеяння насуперак чаму-небудзь: *уляжаць, усядзець, устаяць, уцярпець* і некаторыя іншыя (група непрадуктыўная).

3. Непаўната дзеяння: *угрызці, угрэбці, удзяліць, уварваць*, а таксама дыялектныя *ўжаць, укапаць, укасіць, укроіць* і інш.

4. Аддзяленне часткі ад прадмета, змяншэнне яго колькасці або аб'ёму, змяненне якасці: *убавіць, уцаніць, урэзаць, усохнуць, усушыць, утрымаць* і інш.

Заўвага. Прыстаўка **у- (ува-)** у апошніх трох значэннях (п. 2—4 гэтага параграфа) узыходзіць да старажытнай прыстаўкі у-.

Тып даволі прадуктыўны. Прыстаўка **у- (ува-)**, як правіла, не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

§ 936. Прыстаўка **уз- (уза-, ус-)**. Пры дапамозе прыстаўкі **уз- (уза-, ус-)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Рух угору: *узбегчы, узвалачы, узвезці, узвесці, узвысіць, уз'ехаць, узысці, ускаціць, ускінуць, узлезці, узляцець, узнесці, успаўзці, усплысці, усцягнуць, ускарабкацца* (размоўн.) і інш.

2. Узбуджэнне інтэнсіўнага дзеяння аб'екта ці суб'екта: *узбурыць, узгайдаць, ускалыхаць, успудзіць, узрушыць, усхваляваць, узбаламуціць, узвіхрыць, узнерваваць, успляснуць, успырхнуць, успыхнуць, узвесяліцца* і інш.

3. Рэзультатыўнасць, закончанасць дзеяння (з адценнем паўнаты, грунтоўнасці): *узбіць, узбоўтаць, узагнаць, уздзерці, ускапаць, ускідаць, узлегчы, успомніць, узрыць, уссесці, уз'яднаць* і інш.

Тып даволі прадуктыўны.

Прыстаўка **уз-** не мяняе характару пераходнасці дзеясловаў.

## *Запазычаныя прыстаўкі*

§ 937. У радзе калькаваных або запазычаных з рускай мовы дзеясловаў выдзяляюцца прыстаўкі **прад-, са-, су-, пра- (з пре-)** і **ваз-**.

Дзеясловы з прыстаўкай **прад-** маюць значэнне дзеяння, якое ўтвараецца раней чаго-небудзь: *прадбачыць, прадвызначыць, прадвясціць, прадказаць, прадрачы, прадрашыць, прадугадаць, прадугледзець, прадухіліць, прадчуць* і інш.

Дзеясловы з прыстаўкамі **са-, су-** маюць значэнне сумеснасці або прыблізнага прыроўнівання: *саўдзельнічаць, саўладаць, суіснаваць, сумясціць; суаднесці, суразмерыць, суадпавядаць* і інш.

З прыстаўкамі **пра- (з пре-)** і **ваз-** адзначаны толькі адзінкавыя дзеясловы: *праследаваць* (звера), *вазганяць* (хім.).

У сістэму беларускага словаўтварэння прыстаўкі **прад-, са-, су-, пра- (з пре-)** і **ваз-** не ўваходзяць, і новыя дзеясловы з гэтымі прыстаўкамі не ўтвараюцца.

§ 938. У дзеясловах іншамоўнага паходжання, якія ўвайшлі ў беларускую мову праз рускую, выдзяляюцца прыстаўкі **ды- (дыс-), дэ- (дэз-), ін-, рэ-**.

Дзеясловы з прыстаўкамі **ды- (дыс-)** і **дэ- (дэз-)** маюць значэнне, процілеглае значэнню беспрыставачнага дзеяслова: *дысгарманіраваць, дыскваліфікаваць; дэзарганізаваць, дэзарыентаваць, дэвулканізаваць, дэзінфіцыраваць, дэкалькаваць, дэкаціраваць, дэкваліфікаваць, дэмабілізаваць, дэмілітарызаваць, дэнатуралізаваць, дэнацыяналізаваць, дэфармаваць, дэцэнтралізаваць, дэшыфраваць.*

Дзеясловы з прыстаўкай **ін-** маюць прамое або пераноснае значэнне руху ўнутр: *інакуліраваць, інкасіраваць, інерваваць.*

Дзеясловы з прыстаўкай **рэ-** маюць значэнне паўторнага дзеяння (пераробкі, аднаўлення): *рэканструяваць, рэмілітарызаваць, рэнатура-*

*лізаваць, рэпрэзентаваць, рээвакуіраваць, рээмігрыраваць, рэтранслі-раваць.*

Усе гэтыя дзеясловы ўжываюцца ў публіцыстычным і навуковым стылях мовы. Прыстаўкі **ды- (дыс-), дэ- (дэз-), ін-, рэ-** ў сістэму беларускага словаўтварэння не ўваходзяць, і новыя дзеясловы з гэтымі прыстаўкамі не ўтвараюцца.

## *Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне дзеясловаў*

§ 939. Прыстаўка **а- (аб-, аба-)** і суфіксацыя. Ад невытворных і вытворных дзеясловаў пры дапамозе прыстаўкі **а- (аб-, аба-)** і суфікса **-ся (-ца)** утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Прывычка суб'екта да дзеяння або да пэўнага прадмета: *абцярпецца, адружыцца, астаяцца, абжыцца* і інш.

2. Рэзультатыўнасць дзеяння: *абрадзіцца, адзержацца, адумацца, асунуцца, асеяцца, ачуцца* і інш.

3. Дзеянне, якое адбываецца ў адказ на папярэдняе: *абазвацца, агледзецца, агыркнуцца, азвацца, азірнуцца* і інш.

4. Празмернасць дзеяння: *абажрацца (абжэрціся), аб'есціся, абкурыцца, апіцца (абапіцца)* і інш.

5. Памылковасць дзеяння: *абазнацца, абмовіцца, агаварыцца (абгаварыцца), аступіцца* і інш.

Тып малапрадуктыўны. Большасць дзеясловаў гэтага тыпа адносіцца да размоўнага стылю.

§ 940. Ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе прыстаўкі **а- (аб-, аба-)** і суфіксаў **-а- (-ава-), -е- (-а-), -і- (-ы-)** утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Рух вакол прадмета (у прыватнасці, акружэнне прадмета іншымі прадметамі, стварэнне або зняцце «абалонкі» вакол чаго-небудзь): *абмежаваць, абдзернаваць, абфутраваць, акіркаваць, аслупаваць; абветрацць, аб'інець, абкуродымець, абымшэць (абамшэць, амшэць); аббандэроліць, абветрыць, абвяшыць, абкарыць (акарыць), абкружыць (акружыць), абкуродыміць, аблапіць, абмасліць, акучыць, апушыць, арасіць, асмужыць, аснежыць, абледзяніць* і інш.

2. Надзяленне, забеспячэнне прадмета чым-небудзь: *абмундзіраваць, абмэбляваць, апылкаваць, асвінцаваць; аблясіць, абнадзеіць, агучыць, аздобіць, акрыліць, аперыць, аславіць, аснасціць, атаварыць, абвадніць* і інш.

3. Рабіць якім-небудзь або рабіцца чым-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваруючай асновы): *ахалодаць, апрастаць; абразуміць, абнядоліць, абалваніць, абюракраціць, азлобіць, азмрочыць, акаталічыць, акультурыць, алітаратурыць, апустошыць, ахаладзіць, ачалавечыць, абнавіць, абдалікатніць, абагаціць, абядніць, ажывіць, аздаравіць, акісліць, акругліць, амаладзіць, апаражніць, апошліць, апрасціць, апрэсніць, асвяжыць, аслабіць, асмеліць, ацяпліць, ашчасцівіць* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 941. Ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе прыстаўкі **а- (аб-, аба-),** дзеяслоўных суфіксаў **-і- (-ы-), -а-** і суфікса **-ся** ўтвараюцца дзеясловы *абкукліцца (акукліцца), аблакаціцца, абанкруціцца, амяшчаніцца, апалчыцца, асцябліцца, атабарыцца, агнездавацца* і некаторыя іншыя.

З боку семантыкі гэта група дзеясловаў не адрозніваецца ад тых, якія ўтварыліся пры дапамозе прыстаўкі **а- (аб-, аба-)** і дзеяслоўных суфіксаў **-а- (-ава-), -е- (-а-), -і- (-ы-).**

Тып характарызуецца вельмі нязначнай прадуктыўнасцю.

§ 942. Прыстаўка **абез- (абес-)** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **абез- (абяз-, абес-, абяс-)** і суфіксаў **-і- (-ы-), -е- (-а-)** ад асноў назоўнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем пазбаўлення таго

(або ад таго) прадмета, які абазначаны ўтвараючай асновай: *абеззаразіць, абеззямеліць, абезнадзеіць, абязболіць, абязвечыць, абязводзіць, абязволіць, абязгрошыць, абяздоліць, абяззброіць, абязлесіць, абязлічыць, абясколерыць, абяскровіць, абяскрыліць, абясплодзіць, абясправіць, абяссіліць, абясславіць, абяссмерціць, абяссэнсіць, абясшкодзіць; абезгалосець, абязводзець, абязволець, абязглуздзець, абяззубець, абязлесець, абяспамяцець, абясплодзець, абяссілець* і некаторыя іншыя.

Тып не вельмі багаты лексічна, але жывы і прадуктыўны.

§ 943. Прыстаўка **ад- (ада-)** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **ад- (ада-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннямі:

1. Станоўчыя змены ў стане суб'екта з прычыны працягласці або паўтараемасці дзеяння, выражанага ўтвараючай асновай: *адгуляцца, ад'есціся, адпіцца, адаспацца.*

2. Пазбаўленне суб'екта ад каго-небудзь або чаго-небудзь: *адмаўчацца, адрачыся, адвязацца, адгаварыцца, адкруціцца, адмахнуцца, адчапіцца.*

3. Дзеянне, якое ўтвараецца як адказ на папярэдняе дзеянне: *адбрахацца, адгукнуцца, адклікнуцца, аджартавацца, адгыркнуцца.*

Тып малапрадуктыўны. Дзеясловы з пералічанымі значэннямі ўжываюцца пераважна ў размоўных стылях.

§ 944. Пры дапамозе прыстаўкі **ад- (ада-)** і суфіксаў **-і- (-ы-), -ава-** ад іменных асноў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Аддаленне, пазбаўленне ад чаго-небудзь, аддзяленне часткі ад прадмета: *аддаліць, адслаіць, адгалінаваць, адпластаваць, адкаркаваць, адахвоціць, адпрэчыць.*

2. Узнаўляць, рабіць якім-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утвараючай асновы): *адмаладзіць, аджывіць, аднавіць.*

Тып малапрадуктыўны. Дзеясловы гэтага тыпа ў стылістычных адносінах, як правіла, нейтральныя.

§ 945. Прыстаўка **вы-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **вы-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных неперахадных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем поўнай задаволенасці дзеяннем, давядзення дзеяння да пэўнай ступені: *выбегацца, выгуляцца, вылежацца, выспацца, выкрычацца, выплакацца, вытхнуцца; выфранціцца* (размоўн.), *вызарыцца* (размоўн.), *выкругліцца* і інш.

Тып прадуктыўны. Усе дзеясловы гэтага тыпа характарызуюцца экспрэсіўнасцю.

§ 946. Пры дапамозе прыстаўкі **вы-** і суфіксаў **-а-, -і- (-ы-)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем паўнаты, завершанасці, рэзультатыўнасці дзеяння: *выветраць, выпрастаць; выветрыць, выкараніць, выпусташыць, выпрамяніць, выжаўціць, вытанчыць, выцепліць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 947. Прыстаўка **да-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **да-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем давядзення дзеяння да адмоўнага або дадатнага выніку: *дабегацца, дабудзіцца, даваявацца, даведацца, дагадацца, дагукацца, дадурэцца, даенчыцца, дазвацца, даклікацца, дакрасціся, дакрычацца, даклапатацца, дамагчыся, даплавацца, даплакацца, дапоўзацца, даступіцца, дашукацца; дагаспадарыцца, дажартавацца, дазваніцца, дасвістацца, дасябравацца, датаргавацца, дафіласофствавацца* і інш.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 948. Прыстаўка **з- (с-, са-)** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **з- (с-, са-)** і суфікса **-ся (-ца)** пераважна ад непераходных дзеясловаў (як вытворных, так і невытворных) утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Рух з розных бакоў да цэнтра: *збегчыся, зляцецца, сысціся, з'ехацца.*

2. Сумеснасць дзеяння: *звеславацца, зблакіравацца, збратацца, сазваніцца, сквітацца, злюбіцца, змовіцца, спрацавацца.*

3. Прывычка суб'екта да чаго-небудзь як вынік працягласці дзеяння: *згультаіцца* (дыялектн.), *сцярпецца.*

4. Стан прадмета як вынік змен яго ў працэсе працягласці дзеяння: *згаладацца, скрычацца, зляжацца, змерзціся, знудзіцца, спісацца, ссесціся, састояцца.*

Тып малапрадуктыўны. У сучаснай мове вызначаецца актыўнасцю толькі ўтварэнне дзеясловаў са значэннем сумеснасці.

§ 949. Пры дапамозе прыстаўкі **з- (с-, са-)** і суфіксаў **-а- (-ава-), -е- (-а-), -і- (-ы-), -ну-** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем «рабіць або рабіцца якім-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы)»: *збанкрутаваць, змякнуць, злямчыць, спустошыць, зблізіць, згарбаціць, здрабніць, зменшыць, змякчыць, змярцвіць, спешыць, спрасціць, састарыць, сцішыць, збрыдзець, знясілець, спалатнець, спапялець, зблажэць, збруднець, звільгатнець, змізарнець* і інш., а таксама *збочыць, згрудзіць, ску́піць, скучыць* і некаторыя іншыя.

Тып прадуктыўны.

§ 950. Прыстаўка **за-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **за-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне адхілення дзеяння ад звычайнай нормы (у бок яго працягласці або празмернасці): *заглядзецца, залгацца, застаяцца, захлусіцца, зачакацца, задажджыцца, заляжацца, задумацца, загасціцца, зафіласофстваваццa, зачытацца, запрацавацца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 951. Пры дапамозе прыстаўкі **за-** і суфіксаў **-а- (-ава-), -е- (-а-), -і- (-ы-)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў (а часткова і ад прыслоўяў) утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Пакрываць або пакрывацца чым-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы): *забіркаваць, заінець, закураць, замшэць, засівераць, забалоціць, заглеіць, зарыбіць, заслядзіць, зацяніць, зашчабяніць* і інш.

2. Наблізіць да чаго-небудзь або падвергнуць уздзеянню чаго-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы): *зацугляць, заахвоціць, зазямліць, занарадзіць, закабаліць, запрыгоніць* і інш. (у апошні час гэта група ў адносінах словаўтварэння набывае некаторую прадуктыўнасць).

3. Рабіць або рабіцца якім-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы): *загусціць, задобрыць, зажаўціць; закругліць, закульгавець, занізіць, занядужаць, запаршывець, засівіць, задаволіць, запаволіць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 952. Прыстаўка **на-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **на-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне завершанасці дзеяння і поўнага задаволення ім суб'екта: *наклявацца, насакатацца, насвістацца; набедавацца, нагаладацца, нагаласіцца, нагаманіцца, нагаравацца, нагарланіцца* (прастамоўн.), *нагасцявацца, налаўчыцца, нама́рыцца, напакутавацца, насумавацца* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 953. Пры дапамозе прыстаўкі **на-** і суфіксаў **-іва- (-ыва-), -ва-** ад асноў дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы са значэннем непаўнаты дзеяння: *наігрываць, накрапваць, напяваць (на-*

*спеўваць), наярваць* і некаторыя іншыя. Утвораныя такім спосабам дзеясловы адносяцца да размоўнага стылю.

Тып непрадуктыўны.

§ 954. Прыстаўка **па-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **па-** і суфікса **-ся (-ца)** ад некаторых дзеясловаў утвараецца невялікая група дзеясловаў з агульным значэннем непрацягласці дзеяння або праяўлення ў невялікай меры: *пакаўзнуцца, папнуцца, паслізнуцца, парупіцца, пашчасліві́цца* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

§ 955. Пры дапамозе прыстаўкі **па-** і суфіксаў **-ва-, -іва- (-ыва-)** ад асноў дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы са значэннем працягласці дзеяння, якое праходзіць з перапынкамі і з больш слабай інтэнсіўнасцю: *пабрэхваць, патрэскваць, паблісківаць, пабольваць, пабойтваць, пабрыкваць, паварушваць, пагаворваць, пагрукваць, пагукваць, пагульваць, падрэмваць, падумваць, пажоўваць, паігрываць, пакалыхваць, пакочваць, пакрыкваць, пакусваць, палепліваць, палузваць, палускваць, памешваць, папахваць, пасвістваць, паскубваць, пахворваць, пахрапваць; пацмокваць, пачмыхваць, пачытваць, пашморгваць, пашчыпваць* і шмат іншых.

Тып вельмі прадуктыўны.

§ 956. Пры дапамозе прыстаўкі **па-** і суфікса **-і-** ад асноў лічэбнікаў утвараюцца дзеясловы *падвоіць, патроіць.*

Тып непрадуктыўны.

§ 957. Прыстаўка **пад-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **пад-** і суфікса **-ся (-ца)** ад дзеясловаў (а таксама пры дапамозе дзеяслоўнага суфікса **-і- (-ы-)** і суфікса **-ца** ад іменных асноў) утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне дзеяння, што ўтвараецца з мэтай заслужыць чыю-небудзь прыхільнасць, згоду: *паддобрыцца, падсуседзіцца, падслужыцца, падладзіцца, падлабуніцца* (прастамоўн.) і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны, але жывы.

§ 958. Пры дапамозе прыстаўкі **пад-** і суфікса **-і- (-ы-)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы з агульным значэннем «рабіць або рабіцца якім-небудзь» (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы), прычым усе гэтыя дзеясловы маюць адценне непаўнаты або абмежаванасці дзеяння: *падахвоціць, падбольшыць, падкісліць, паднавіць, падсыціць, падцяпліць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 959. Пры дапамозе прыстаўкі **пад-** і суфікса **-ва-** ад дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы са значэннем дзеяння, якое адбываецца адначасова з іншым дзеяннем: *падзвоньваць, падсвістваць, падспеўваць* (размоўн.), *падпяваць, падвываць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 960. Прыстаўка **пера-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **пера-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем узаемнага дзеяння: *перамовіцца, пераглянуцца, перагукнуцца, пераклікнуцца, перамаргнуцца, перамігнуцца, перамігрнуцца, перастукнуцца, перашатнуцца, перасвіснуцца* і інш.

Тып малапрадуктыўны, але жывы.

§ 961. Пры дапамозе прыстаўкі **пера-** і суфікса **-і- (-ы-)** ад іменных асноў утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне «рабіць якім-небудзь» (у адпаведнасці са значэннем утваральнай асновы), з адценнем празмернасці гэтага дзеяння: *перабольшыць, перагусціць, перавялічыць, перадоўжыць, перакісліць, пераменшыць, перапоўніць* і інш. Сюды ж прымыкаюць і дзеясловы, у якіх значэнне празмернасці дзеяння выступае як асноўнае: *перасіліць, launch*

§ 962. Прыстаўка **пра-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **пра-** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных (пераважна непераходных) дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннямі:

1. Закончанасць дзеяння: *праспацца, прачхацца, прачухацца, пракашляцца, прагулядца* і інш.

2. Дзеянне, якое па прычыне памылковасці або празмернасці прыносіць шкоду суб'екту: *пралічыцца, пратаргавацца, прагаварыцца, пралгацца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 963. Пры дапамозе прыстаўкі **пра-** і суфікса **-і- (-ы-)** ад іменных асноў утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнні:

1. Недагляд, упушчэнне (дзеясловы прастамоўнага стылю): *прашляпіць, праваронідь.*

2. Зрабіць якім-небудзь (у адпаведнасці са значэннем утваралочай асновы), з адценнем непаўнаты дзеяння: *прасвяжыць, прасвятліць, прадоўжыць, прарэдзіць, працепліць, праясніць* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

§ 964. Прыстаўка **пры-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **пры-** і суфікса **-ся (-ца)** пераважна ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія абазначаюць:

1. Прывычку суб'екта да чаго-небудзь: *прыесціся, прымільгацца, прыцярпецца* і інш.

2. Інтэнсіўнае, напружанае працяканне дзеяння: *прыгледзецца, прыслухацца, прынюхацца* і інш.

3. Набліжэнне (у прамым або пераносным сэнсе): *прыкрануцца, прырвацца, прыторкнуцца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 965. Пры дапамозе прыстаўкі **пры-** і суфікса **-і-(-ы-)** ад асноў прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем давядзення да пэўнай якасці (у адпаведнасці са значэннем утваралочай асновы): *прыблізіць, прыменшыць, прынізіць, прыпадабніць, прыскорыць, прыхарашыць, прыцішыць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 966. Пры дапамозе прыстаўкі **пры-**, суфікса **-і- (-ы-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем набліжэння, прыпадаблення: *прыдобрыцца, прызямліцца, прымасціцца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 967. Пры дапамозе прыстаўкі **пры-** і суфікса **-ва-** ад асноў дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне дзеяння, што ўтвараецца адначасова з другім дзеяннем: *прышэптваць, прысвістваць, прыгаварваць, прыспеўваць* (размоўн.), *прыказваць, прытупваць* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 968. Прыстаўка **раз-** і суфіксацыя. Пры дапамозе прыстаўкі **раз- (раза-, рас-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Рух у розныя бакі (як у прамым, так і ў пераносным сэнсе): *разбегчыся, разбрысціся, раз'ехацца, разысціся, разліпнуцца, разляцецца, размінуцца, распаўзціся, расплыцца, разлезціся, рассохнуцца, расступіцца, расцячыся* і інш. (група малапрадуктыўная).

2. Інтэнсіўнае, напружанае працяканне дзеяння: *разбегацца, разбушавацца, разваявацца, развішчацца, разгарэцца, разгудзецца, раз'енчыцца, раскрычацца, разлётацца, распоўзацца, расскакацца, разаспацца, растанцавацца; разбедавацца, разбуяніцца, разгаласіцца, разважнічацца, разлайдачыцца, расфантазіравацца, расшумецца* і шмат іншых.

3. Заканчэнне дзеяння: *разлічыцца, расплаціцца.*

Тып прадуктыўны (за выключэннем групы дзеясловаў, якія маюць значэнне заканчэння дзеяння). Асабліва шматлікай і прадуктыўнай з'яўляецца група дзеясловаў са значэннем інтэнсіўнасці дзеяння.

§ 969. Пры дапамозе прыстаўкі **раз- (рас-)** і суфіксаў **-і- (-ы-), -ава-, -е-** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы, якія маюць значэнне:

1. Вызваленне ад чаго-небудзь, ліквідацыя чаго-небудзь: *раззброіць, раскабаліць, рассакрэціць, рассупоніць, расцугляць, размачтаваць.*

2. Зрабіць або зрабіцца якім-небудзь (або падобным да чаго-небудзь) (у адпаведнасці са значэннем утвараючай асновы): *разбуйніць, размякчыць, разрозніць, расчуліць, распанець* (размоўн.), *развіднець, раскудзеліць, раскудлачыць, размачаліць, расквеціць* і інш. Сюды ж прымыкае і адзінкавае ўтварэнне ад асновы лічэбніка: *раздвоіць.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 970. Пры дапамозе прыстаўкі **раз- (рас-)**, суфікса **-і- (-ы-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем інтэнсіўнага дзеяння: *разгультаіцца, раздажджыцца, раскашэліцца, распагодзіцца, разгорніцца, раскапусціцца* (прастамоўн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 971. П р ы с т а ў к а **у- (ува-)** і с у ф і к с а ц ы я. Пры дапамозе прыстаўкі **у- (ува-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Устойлівасць дзеяння: *устаяцца, угніцца, урымсціцца, успацца, угневацца, угняздзіцца, улегчыся, усесціся* і інш.

2. Прывычка суб'екта да дзеяння з прычыны яго працягласці або паўтаральнасці: *уляжацца, унадзіцца, ужыцца* (у ролю), *утрэскацца* (прастамоўн.) і інш.

3. Поўнае паглыбленне ў дзеянне: *углядзецца, услухацца, учытацца, удумацца, углыбіцца, урубіцца* і інш.

4. Стан суб'екта, не здольнага на далейшае працяганне дзеяння з прычыны яго празмернасці або працягласці: *упіцца* (п'ючы), *убегацца* і інш.

5. Узаемнасць дзеяння: *ужыцца* (з кім-небудзь), *угаварыцца* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

§ 972. Пры дапамозе прыстаўкі **у-** і суфіксаў **-і- (-ы-), -е-** ад іменных асноў утвараюцца дзеясловы з наступнымі значэннямі:

1. Рух унутр чаго-небудзь (ад асноў назоўнікаў): *умясціць, уклініць, укараніць, утоўпіць* (размоўн.) і інш.

2. Рабіць або рабіцца такім, блізкім або падобным да таго, што названа ва ўтваруючай аснове (ад асноў прыметнікаў і назоўнікаў): *увільгатніць, удакладніць, удасканаліць, узгодніць, уласкавіць, умаліць, уміласцівіць, унізіць, упрыгожыць, усвядоміць, ускладніць, уцішыць, уцяпліць, учасціць, ушчыльніць, уясніць, удачарыць, узаконіць, умáіць* (дыялектн.), *ураўнаважыць, уцяжарыць; уцалець* і інш.

3. Павялічыць у некалькі разоў — у адпаведнасці са значэннем утваруючай асновы (ад асновы лічэбнікаў): *удвоіць, утроіць, удзевяцярыць, удзесяцярыць.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 973. П р ы с т а ў к а **уз- (ус-)** і с у ф і к с а ц ы я. Пры дапамозе прыстаўкі **уз- (ус-)** і суфікса **-ся (-ца)** ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем пачатку, узнікнення інтэнсіўна працягваючага дзеяння: *узбегацца, узбушавацца, узгаварыцца, узагрэцца, узгуляцца* (размоўн.), *уз'есціся* (прастамоўн.), *узнасіцца, усхадзіцца* (размоўн.), *усхапіцца* (размоўн.), *уз'юрыцца* (прастамоўн.), *уз'юшыцца* (прастамоўн.) і інш.

Тып малапрадуктыўны. Большасць дзеясловаў мае яркую экспрэсіўную афарбоўку.

§ 974. Пры дапамозе прыстаўкі **уз-(ус-)** і суфікса **-і- (-ы-)** ад асноў прыметнікаў (і зрэдку назоўнікаў) утвараюцца дзеясловы са значэннем «зрабіць такім, як гэта ўказана ва ўтвараючай аснове»: *узбагаціць, узбуйніць, узвялічыць, ускалмаціць, узмацніць, узнавіць;* параўн. індывідуальны наватвор *ускрыліць* і інш.

Тып прадуктыўны.

§ 975. Пры дапамозе прыстаўкі **уз- (ус-)** і суфікса **-ва-** ад асноў дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеясловы са значэннем перарывістасці, перыядычнасці дзеяння: *узбоўтваць, ускліквацъ, ускрыкваць, узмахваць, усплёскваць, успырскваць, успырхваць* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

## *СЛОВАСКЛАДАННЕ Ў СІСТЭМЕ СЛОВАЎТВАРЭННЯ ДЗЕЯСЛОВАЎ*

§ 976. Словаскладанне ў сістэме словаўтварэння дзеясловаў займае вельмі нязначнае месца. Побач з калькамі, якія па свайму саставу таксама з'яўляюцца складанымі словамі (напрыклад, *вiдазмяніць, добраўпарадкаваць, злоўжыць, пладаносіць* і інш.), у сучаснай мове існуюць два тыпы складаных дзеясловаў.

1. Дзеясловы з першай займеннікавай часткай **(сама-):** *самаакупіцца, самавызначыцца, самазаспакоіцца, самаліквідавацца, самапацясніцца, самасупакоіцца, самаўхіліцца, самабічавацца, самазагарацца, самаспакушацца, самастрахавацца, самаўзгарацца, самаабслугоўвацца* і некаторыя іншыя. Усе гэтыя дзеясловы ўзніклі пад уплывам адпаведных рускіх слоў. Дзеясловы гэтай групы ўжываюцца толькі ў зваротнай форме, што абумоўлена іх лексічным значэннем.

*Каб выдзеліцца з агульнадэмакратычнага руху, рабочы клас павінен быў выразна процiпаставiць сябе іншым класам, ідэйна і палітычна с а м а в ы з н а ч ы ц ц а* (Гісторыя КПСС). *С а м а б і ч у е м с я ж часамі, але злягка — гады ў рады, ды ўсё больш хвалім сябе самі, другіх бічуем заўсягды* (Я. К у п а л а. На тэму крытыкі і самакрытыкі).

Тып малапрадуктыўны. Дзеясловы гэтага тыпа ўжываюцца пераважна ў навуковым і публіцыстычным стылях.

2. Дзеясловы з першай лічэбнікавай часткай **(паў-):** *паўляжаць, паўсядзець.*

Тып непрадуктыўны.

## НАЦІСК У ДЗЕЯСЛОВАХ

§ 977. Пры словаўтварэнні дзеясловаў націск можа заставацца на тым жа складзе, што і ва ўтвараючай аснове *(абе́д — абе́даць)*, можа пераходзіць на суфікс *(бе́лы — бяле́ць)* або на прыстаўку *(цягну́ць — вы́цягнуць)* і можа размяшчацца на пэўным складзе перад суфіксам, безадносна да таго, на якім складзе ён быў ва ўтвараючай аснове *(глухі — глу́хнуць)*. У сувязі з гэтым выдзяляюцца наступныя групы дзеясловаў: а) дзеясловы з націскам на ўтвараючай аснове; б) дзеясловы з націскам, які пераходзіць на суфікс; в) дзеясловы з націскам, які пераходзіць на прыстаўку.

§ 978. Націск на тым жа складзе, што і ва ўтвараючай аснове, маюць дзеясловы, якія ўтвораны:

1. Ад дзеясловаў пры дапамозе прыставак **а- (аб-), ад-, да-, з- (с-, са-), за-, на-, над-, неда-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас-), у- (ува-), уз- (ус-), прад-, са- (су-), процi-, супраць-:** *абяліць, абмурава́ць, абпіса́ць, дацiснуць, з'ехаць, скірава́ць, сайлада́ць, спасцігнуць, закалыха́ць, нава́жыць, наабме́ньваць, навыкрэ́сліваць, назакрыва́ць, назво́-*

*зіць, надпілава́ць, недаві́ыканаць, паклі́каць, паабгла́джваць, паасу́шваць, павызу́бліваць, падамало́чваць, пазрэ́зваць, пазасту́джваць, панапо́йваць, паперако́пваць, падмо́кнуць, перамё́рзнуць, пране́сці, прычака́ць, разлі́чыць, расцягну́ць, усла́віць, уваслаць, узлама́ць, успо́мніць, прадуглёдзець, саўдзе́льнічаць, супаста́віць, процідзе́йнічаць, супрацьпаста́віць* і інш.

2. Ад асноў назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-ствава-**: *ды́ктарстваваць, дырэ́ктарстваваць, шэ́фстваваць, ца́рстваваць, зве́рстваваць, тыра́нстваваць, мецэна́цтваваць, ры́царстваваць* і інш.

3. Ад асноў назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-ніча-**: *адвака́тнічаць, ка́верзнічаць, ло́дарнічаць, гаспада́рнічаць, донкіхо́тнічаць* і інш. Выключэнне складаюць: *банда́рнічаць* (але *бо́ндар*), *сляса́рнічаць* (але *сле́сар*), *така́рнічаць* (але *то́кар*).

4. Ад асноў прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-іча-**: *адсу́тнічаць, арыгіна́льнічаць* і інш.

5. Ад выклічнікаў і ад асноў некаторых назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-а-**: *абе́даць, вячэ́раць, ка́шляць, ме́раць, пу́таць, пяча́таць, ру́хаць, ры́паць, сва́таць, слу́хаць, бра́тацца, ца́цкацца, ба́хаць, бу́хаць, ці́каць, чы́ркаць* і інш.

Націск застаецца на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове, ва ўсіх тых дзеясловах, якія ўтвораны пры дапамозе суфікса **-а-** ад асноў назоўнікаў на **-нік-**: *зво́днічаць, мо́днічаць, наста́ўнічаць, падаро́жнічаць, пало́мнічаць, пасрэ́днічаць, раме́снічаць, садо́ўнічаць, сапе́рнічаць, свавольнічаць, супрацо́ўнічаць.*

6. Ад выклічнікаў і гукапераймальных слоў пры дапамозе суфікса **-ка-**: *а́йкаць, а́каць, ба́хаць, бо́мкаць, курня́ўкаць, мэ́каць, ці́ўкаць* і інш.

7. Ад асноў некаторых прыметнікаў (а іменна ад прыметнікаў з суфіксамі **-ав-, -ат-, -ів-, -ов-**) пры дапамозе суфікса **-е-**: *трухля́вець, кара́вець, парши́вець, пляшы́вець, суро́вець, шурпа́цець* і інш. (але *ржаве́ць, ружаве́ць, жваве́ць, дзешаве́ць, здараве́ць, лілаве́ць, палаве́ць, пунсаве́ць*).

Акрамя таго, націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове, мае рад дзеясловаў, утвораных ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-і- (-ы-)** або якой-небудзь прыстаўкі і суфікса **-і- (-ы-)**: *ве́рыць, дзіва́чыць, дэбашы́рыць, ква́сіць, партыза́ніць, сто́парыць, румя́ніць, фальшы́віць; абнадзе́іць, адо́брыць, адасо́біць, адахво́ціць, здаро́жыць, згарба́ціць, саста́рыць, заарка́ніць, занізіць, падахво́ціць, падбо́льшыць, перасі́ліць, перадо́ўжыць, праваро́ніць, прысво́іць, прыці́шыць, разго́рніцца, рассупо́ніць, удво́іць, упрыго́жыць, узбро́іць, ускалма́ціць* і інш. Аднак намеціць якія-небудзь лексічныя групы дзеясловаў з нязменным націскам нельга, таму што ў вялікай групе дзеясловаў націск перацягваецца з асновы на суфікс **-і- (-ы-)**: *бамбі́ць, вашчы́ць, гасці́ць, пылі́ць, салі́ць, сарамаці́ць, сялі́ць, шчалачы́ць, весялі́ць; аблягчы́ць, акары́ць, адслаі́ць, аднаві́ць, спапялі́ць, засіві́ць* і шмат іншых.

§ 979. Націск на складзе, які папярэднічае суфіксу (незалежна ад таго, на якім складзе быў націск ва ўтваральнай аснове), маюць наступныя дзеясловы:

1. Утвораныя ад асноў назоўнікаў на **-ства** (*пярши́нства, юро́дства*) пры дапамозе суфікса **-ава-**: *пярши́нстваваць, юро́дстваваць, старши́нстваваць* і інш.

2. Утвораныя ад асноў назоўнікаў пры дапамозе прыстаўкі **абез- (абяз-, абяс-)** і суфіксаў **-і- (-ы-), -е- (-а-)**: *абезгало́віць, абеззяме́ліць, абязво́дзіць, абязбо́ліць, абясшко́дзіць, абясцэ́ніць, абяспа́мяцець, абезгало́сець, абязгро́шаць* і інш.

3. Утвораныя ад асноў прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-ну-** (трэці непрадуктыўны клас): *сле́пнуць, го́ркнуць, мя́кнуць* і інш.

§ 980. Націск пераходзіць на суфікс у дзеясловах, якія ўтвораны:

1. Ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-ава-**: *авансава́ць, адрасава́ць, арфава́ць, бытава́ць, каштава́ць, мудрава́ць,*

*хітраваць* і шмат іншых. Выключэнне складаюць: *арýдаваць, буксіраваць, гарэ́заваць, камáндаваць, лéтаваць, пакýтаваць, палýднаваць, парáдкаваць, прóбаваць, прыхóдаваць, расхóдаваць, лáсаваць, рáдаваць* і некаторыя іншыя.

2. Ад асноў прыметнікаў з суфіксам **-а- (-я-)**: *барвавáць, гатавáць, велічáць, павальнáць* і інш.

3. Ад асноў назоўнікаў з суфіксам **-íрава-**: *нармíраваць, нікелíраваць, афішы́раваць, дазíраваць, пламбíраваць, функцыянíраваць* і інш.

4. Ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў з суфіксам **-ізавá-**: *машынізавáць, беларусізавáць, вулканізавáць, нармалізавáць, фардызавáць, фетышызавáць, яравізавáць* і інш.

5. Ад асноў назоўнікаў з суфіксам **-фікавá- (-іфікавá-)**: *гукафікавáць, газіфікавáць, кінафікавáць* і інш.

6. Ад асноў назоўнікаў пры дапамозе суфікса **-анé- (-янé-)**: *карчанéць, касцянéць, дубянéць, слупянéць* і інш.

7. Ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-е- (-э-)**: *грымéць, дудзéць, савéць, шумéць, багацéць, бяднéць, бялéць, глыбачэ́ць, кіслéць, сінéць, слабéць, чарнéць, шарэ́ць* і інш. Выключэнне складаюць дзеясловы, утвораныя пры дапамозе гэтага суфікса ад прыметнікаў з суфіксамі **-ав-, -ат-, -ів-, -ов-** (гл. § 978, п. 7).

Акрамя таго, націск на суфіксе мае рад дзеясловаў, утвораных ад асноў назоўнікаў з суфіксам **-а-** (*апякáць, галадáць, лістáць, паважáць, рагатáць* і некаторыя іншыя), а таксама ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў з суфіксам **-і- (-ы-)**: *бамбíць, баразнíць, манíць, марачы́ць, трубíць, францíць, бялíць, даражы́ць, цямнíць* і шмат іншых.

§ 981. Націск пераходзіць на прыстаўку ў дзеясловах, якія ўтвораны ад дзеясловаў пры дапамозе прыстаўкі **вы́-**: *вы́арацъ, вы́бавіць, вы́біць, вы́брацъ, вы́лушчыць, вы́пісаць, вы́скачыць, вы́шукаць, вы́фарбаваць, вы́крышталізавацца, вы́пустошыць* і інш.

# ПРЫСЛОЎЕ



## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРЫСЛОЎЯ ЯК ЧАСЦІНЫ МОВЫ

§ 982. **Прыслоўе** — гэта часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння або стану, выражанага дзеясловам, або прымету прыметы, выражанай прыметнікам або прыслоўем.

Асноўнымі марфалагічнымі прызнакамі прыслоўяў з'яўляюцца адсутнасць форм скланення і спражэння, лексічная і словаўтваральная суадноснасць са знаменальнымі часцінамі мовы: прыметнікам, назоўнікам, лічэбнікам і інш.

Адпрыметнікавыя прыслоўі, якім уласціва якаснае значэнне, могуць мець формы ступеней параўнання (вышэйшую і найвышэйшую), а таксама формы суб'ектыўнай ацэнкі. Напрыклад, *прыгожа — прыгажэй — найпрыгажэй; прыгожанька; далёка — далей — найдалей, вельмі далёка; далекавата* і інш.

§ 983. У сказе прыслоўі звычайна адносяцца да дзеяслова, прыметніка або прыслоўя. Асноўнай сінтаксічнай функцыяй прыслоўя з'яўляецца функцыя акалічнасці (месца, часу, прычыны, мэты, спосабу дзеяння, параўнання, меры і ступені і інш.).

*Гожа звіваецца ў лозах зялёных, бы срэбра жывое, рака* (Я. Колас. На лузе). *«Што, Толя, хто з нас больш злавіў?» — смяялася яна, па-свойму, непаўторна міла і ледзь прыкметна страсянуўшы галавой* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Падыходзіць Скіба з вінтоўкай, у моцна паношаным летнім чырвонаармейскім абмундзіраванні* (К. Крапіва. Партызаны). *Адзіна правільным шляхам да шчасця — да заможнага і культурнага жыцця — для нас, сялян, з'яўляецца калгасны шлях* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Зрэдку прыслоўе можа адносіцца да назоўніка, і тады ў сказе яно выступае ў ролі азначэння: *Вечарэла. На вуліцы тарахцелі калёсы, даносіліся паасобныя словы па-польску* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Акрамя таго, прыслоўе ў сказе можа быць выказнікам: *Сябры! сачыце пільным зрокам — жаданы край яшчэ далёка, а вораг сілы ўсе напрог* (Я. Колас. Да адзінаццатай гадавіны Кастрычніка). Калі прыслоўе з'яўляецца выказнікам у безасабовым сказе, яно пераходзіць у разрад безасабова-прэдыкатыўных слоў (у так званую катэгорыю стану): *Добра ў лузе ў час палудны!* (Я. Колас. На лузе).

Пры ўмове субстантывацыі прыслоўі здольны выступаць у сказе ў функцыі дзейніка або дапаўнення (гл. § 28).

### *Пераход прыслоўяў у іншыя часціны мовы*

§ 984. Прыслоўі могуць пераходзіць у іншыя часціны мовы: у прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, а таксама ў разрад мадальных слоў.

Пераход прыслоўяў у прыназоўнікі, злучнікі і часціцы адбываецца пры ўмове, калі прыслоўі поўнасцю або часткова страчваюць сваё лексічнае значэнне.

У прыназоўнікі часцей пераходзяць адназоўнікавыя прыслоўі са значэннем месца або часу: *абапал, вакол, насупраць, пасля, пасярод, побач, поплеч, поруч, скрозь, уперад* і інш.

*Сосны і вязы, дубы і асіны* в о к а л а *возера вартай пасталі...* (Я. К у п а л а. Лясное возера). С к р о з ь *сетку лісцянай адзежы пакзвае сонца свой твар, а я пазіраю на межы, дзе захаду грае пажар* (Я. К о л а с. На захадзе сонца). *Мароз быў добры, пара была* п а с л я *Новага года* (К. Ч о р н ы. Вясна).

Якасныя і якасна-акалічнасныя прыслоўі адпрыметнікавага паходжання таксама могуць пераходзіць у прыназоўнікі, аднак гэты працэс праходзіць менш інтэнсіўна, чым у адназоўнікавых прыслоўях з лакальным значэннем. Так, у ролі прыназоўнікаў могуць ужывацца прыслоўі *адпаведна, адносна, згодна.*

А д п а в е д н а *свайму густу і свайму культурнаму стану знаходзіла яна* [моладзь] *сабе і забаўкі* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *З'явіўся* з г о д н а *вашаму загаду* (П. Г л е б к а. Над Бярозай-ракой). Такія прыназоўнікі ўжываюцца, як правіла, у публіцыстычным або навуковым стылі.

Акрамя таго, у функцыі прыназоўнікаў шырока ўжываюцца прыслоўна-прыназоўнікавыя канструкцыі тыпу *воддаль ад, далёка ад, збоку ад, здалёк ад, побач з, поплеч з, следам за, унізе пад* і інш.

Н е д а л ё к а а д *воза, на абочыне шашы, сядзеў хлопец* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Цяпер ён стаіць* п о б а ч *з пасланцом пад дубам без зброі — рэвальвер схаваны ў кішэню* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 985. Пераход у злучнікі наглядаецца ў асноўным у групе займеннікавых прыслоўяў. Так, у якасці падпарадкавальных злучнікаў або злучальных слоў у беларускай мове могуць ужывацца прыслоўі *дзе, калі, як, куды, адкуль, пакуль* і інш.

*Такі спакой вакол, і трудна мне адвесці зрок ад хмар,* д з е *ўспыхваюць зарніцы, як быццам там, у нейкім цёмным дне, хтось збудзіцца на міг, на свет зірне прываблівым узлётам таямніцы* (Я. К о л а с. Я жыву). *Я ж люблю той свіст у полі,* я к *вакол усё дрыжыць — на спатканне песням волі дух мой рвецца і ляціць* (Я. К о л а с. Скора ў полі забушуе...).

§ 986. Пры страце асноўнага лексічнага значэння адбываецца і пераход прыслоўяў у часціцы. Такая з'ява наглядаецца часцей за ўсё ў групе займеннікавых прыслоўяў. Так, у ролі часціц могуць ужывацца прыслоўі *там, тут, як, неяк (нейк), яшчэ, ужо, ледзь, чуць* і інш.:

*Пакуль пачуеш кроплю сілы, то банк мо' выматае жылы налогам, гербавым* т а м *зборам, не развітаешся ты з горам, і пусціць жыць бадай не голых* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Якое неба!* Я к *чыста заходзіць сонца...* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі).

У пэўных выпадках часціцы прыслоўнага паходжання *(ледзь, чуць* і інш.) могуць выступаць у ролі злучніка.

*Надвячоркам,* л е д з ь *наступіла вольная часіна, па ўзлессі рассыпаліся частыя пералівістыя гукі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

У ролі часціц могуць ужывацца і адпрыметнікавыя прыслоўі *проста, чыста,* а таксама складанае прыслоўе *якраз* і некаторыя іншыя.

*Для ўсіх ласкава і пачціва, як бы пад ветрам тая ніва, гасцей частуе гаспадыня, і на ўсіх* ч ы с т а *вокам кіне, то сыр, то масла ім падносіць: «Ну, закусеце ж, калі ласка!»* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Мудра ты пытаеш, хлопча, —* п р о с т а *слухаць мне дзіўно* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Тую зямлянку* я к р а з *і сапёры мінулі* (А. К у л я ш о ў. Простыя людзі).

§ 987. Пры ўмове аслаблення сінтаксічных сувязей прыслоўя з тым словам, да якога яно адносіцца, можа адбывацца пераход прыслоўяў у разрад мадальных слоў; пры гэтым важную ролю адыгрывае лексічнае значэнне прыслоўя. У разрад мадальных слоў могуць пераходзіць толькі тыя прыслоўі, якія маюць значэнне ўпэўненасці, няўпэўненасці, меркавання, сцвярджэння і г. д. (г. зн. тыя значэнні, якія ўласцівы мадальным словам): *пэўна, напэўна, сапраўды, бясспрэчна, няйначай* і інш.

*Марынка сэрцам адчувае, што, пэўна, лішнія яны* (Я. Колас. Рыбакова хата). *І па тым, як гаварыў ён, відаць было, што і сапраўды знойдзе ён нейкі спосаб, каб выбавіць чалавека з бяды* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Няйначай прабег заяц у прыдарожных кустах або, можа, і воўк...* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

## АСНОЎНЫЯ РАЗРАДЫ ПРЫСЛОЎЯЎ ПА ЗНАЧЭННЮ

### *Акалічнасныя прыслоўі*

§ 988. Да акалічнасных адносяцца прыслоўі са значэннем месца, часу, прычыны і мэты.

Прыслоўі месца ў адпаведнасці з прыватнымі, больш канкрэтнымі лексічнымі значэннямі можна падзяліць на тры групы:

1. Прыслоўі, якія паказваюць на месца, дзе адбываецца дзеянне або працэс: *блізка, воддаль, высока, далёка, дзе, дзесьці, дома, знадворку, кругом, месцамі, наводшыбе, навокал, налева, наперадзе, насупраць, недзе, непадалёку, нідзе, пасярэдзіне, побач, поблізу, поплеч, поруч, скрозь, следам, там, тут, уверсе, угары, унізе, уперадзе, усцяж, усюды* і інш. Гэтыя прыслоўі адказваюць на пытанне *дзе?* і ўжываюцца звычайна пры дзеясловах са значэннем знаходжання.

*І новыя песні ў народзе звінелі, як голас юначкі-вясны, і засевы шчасця вакол зарунелі — збываліся мары і сны* (Я. Колас. Роднаму краю). *Пагасла дзесь сонца далёка, і толькі праменні ўгары узняты, як рукі прарока, і дрэвы змыкаюць шатры* (Я. Колас. Салар). *А кругом красуе лета, дрэмле вецер ў полі роўным; сонца спелаю ранетай налівaецца над Нёмнам* (М. Танк. Казка пра музыку). *Харкевіч падыходзіць, моўчкі вітаецца з Міронам за руку, садзіцца побач* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

2. Прыслоўі, якія паказваюць на кірунак дзеяння, у прыватнасці на кірунак руху: *вобземлю, вон, дадому, далоў, дамоў, дахаты, долу, куды, кудысьці, набок, наверх, назад, наніз, наперад, некуды, нікуды, прэч, сюды, туды, убакі, убок, уверх, увысь, угару, углыб, удаль, узад, улева, уніз, уперад, управа, услед, ушыр; адгэтуль, адкуль, адсюль, адтуль, адусюль, зблізку, збоку, згары, здалёк, ззаду, знізу, ніадкуль, спадыспаду* і інш. Такія прыслоўі паказваюць, з якога месца або куды, у якім напрамку рух накіраваны. Яны адказваюць на пытанні *куды?, адкуль?* і ўжываюцца пераважна з дзеясловамі руху.

*І мы, вясёлыя, дадому прыцягнем кош баравікоў* (Я. Колас. Не тужы). *Святло сваё месяц па сцежках раскінуў, схіляецца долу даспелае жыта...* (К. Буйла. Летнім вечарам). *Бухалі гарматы, грукацелі громы, а вы йшлі наперад віхрам-бураломам* (Я. Колас. Змаганнікам за Кастрычнік). *Згары сыпаліся ссечаныя асколкамі галінкі* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Даносіцца спеў калыханкі здалі* (М. Танк. Балада пра партызана Дубягу).

3. Прыслоўі, якія паказваюць на пэўную мяжу дзеяння (руху): *даверху, дагэтуль, дакуль, данізу, дасюль, датуль, пагэтуль, пасюль, патуль* і інш. Такія прыслоўі адказваюць на пытанне *дакуль?*

*Прынялі мяне на вельмі стары карабель, ён ледзьве на вадзе трымаўся, д а в е р х у нагружаны лесам...* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Пасля гэтага мы слаўна выканалі марш свой аж д а г э т у л ь, і толькі адзін з нас, Юрый Гарэйка, зусім выбіўся з сіл...* (К. Ч о р н ы. Сям'я Юрыя Гарэйкі).

§ 989. Прыслоўі ч а с у ў адпаведнасці з больш канкрэтнымі лексічнымі значэннямі можна падзяліць на тры групы:

1. Прыслоўі, якія паказваюць на час, калі адбываецца дзеянне або як доўга яно працягваецца: *аднойчы, апоўдні, вечарам, вясной, даўно, днём, загадзя, залетась, заўтра, заўчора, за́цемна, зімой, зрэдку, калі, калі-небудзь, калісьці, летам, летась, надоечы, наяву, ноччу, пазалетась, паначы, позна, потым, сёння, скрозь, тады, увесну, увечары, увосень, улетку, учора, цяпер, штодзень, штогод, вечна, навек, надоўга, назаўсёды. назусім* і інш.

*Будзь жа шчаслівa ты, наша пуціна, в е ч н а свяці яснатой!* (Я. К о л а с. Савецкім народам). *А д н о й ч ы пад вечар Толя вярнуўся ў штаб з данясеннем і застаўся да ранку ў лагеры* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

2. Прыслоўі, якія паказваюць на час, з якога пачынаецца дзеянне: *здаўна, зранку, зроду, спачатку, спрадвеку* і інш.

*Мне з м а л к у тут, бы ў хаце, ўсё знаёма — гаі дубоў, зялёныя лугі* (А. А с т р э й к а. Семнаццатае верасня). *Шлях ты мой родны, гасцінец шырокі!.. Лёг ты с п р а д в е к у праз нашы валокі* (Я. К о л а с. Стары гасцінец).

3. Прыслоўі, якія паказваюць на час, да якога працягваецца дзеянне: *дагэтуль, дасюль, датуль, давеку* і некаторыя іншыя.

*А мяне д а г э т у л ь людзі часта ўспамінаюць* (Я. К о л а с. Пад Новы год).

У значэнні прыслоўяў часу ўжываюцца некаторыя прыслоўі месца: *там, тут, уперад.*

*Не можа ж быць: будзе які-небудзь парадак, а т а м і вайна гэта скончыцца* (Я. К о л а с. Дачакаўся). *Аж т у т пісар прыязджае разам з старшынёю...* (Я. К о л а с. За падаткі).

Прыслоўі *дагэтуль, дасюль, датуль* ужо амаль страцілі сваё першапачатковае значэнне месца і ўжываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове пераважна з ча́савым значэннем.

Значэнне часу маюць і некаторыя фразеалагічныя спалучэнні: *з году ў год, з дня на дзень, пакуль што, чуць дзень, чуць свет, як бач (як бачыш)* і інш.

§ 990. Прыслоўі п р ы ч ы н ы паказваюць, па якой прычыне або на якой падставе адбываецца дзеянне: *завошта, затое, здуру, нашто, нізавошта, спрасоння, сп'яна, таму, чаму, чамусьці, штосьці* і інш.

*А раніцою мы даліся дзіву, калі па вуліцах прайшлі: з а в о ш т а гэты хутар сіратлівы Каспійкай людзі нараклі?* (А. А с т р э й к а. Каспійка). *Спачатку, с т о р а п у, нічога і не заўважыў* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ціха ў полі, адзінока, ш т о с ь на сэрцы горка* (Я. К о л а с. На крыжовых дарогах).

Са значэннем прыслоўяў прычыны ўжываюцца і такія фразеалагічныя спалучэнні, як *ад нечага рабіць, ад няма чаго рабіць, без дай прычыны, без дай рады* і інш.

*Б е з д а й п р ы ч ы н ы падышла да агарожы Верманееўскага парку, прасачыла за бурным струменем публікі і нарэшце пайшла да кватэры* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

§ 991. Прыслоўі м э т ы паказваюць, для чаго, з якой мэтай адбываецца дзеянне. У сучаснай беларускай мове прыслоўяў мэты нямнога: *знарок, знячэўку, назло,назнарок, напаказ, нарокам, насмех, ненаўмыслья, сумыслу* і некаторыя іншыя.

*Андрэй* з н а р о к *ішоў павольна* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *І мы замоўклі* н а з н а р о к (А. А с т р э й к а. Каспійка). *Аслухаўшыся, ён кашлянуў яшчэ раз, ужо* с у м ы с л у, *і зноў па школе пайшоў шум* (Я. К о л а с. Школа).

Як відаць з прыкладаў, мэтавае значэнне ў выдзеленых прыслоўях суправаджаецца пабочнымі адценнямі значэння спосабу дзеяння або прычыны.

### Якасна-акалічнасныя прыслоўі

§ 992. Прыслоўі, у якіх значэнне якаснай характарыстыкі спалучаецца з акалічнаснымі значэннямі характару і спосабу дзеяння, параўнання або сумеснасці, складаюць прамежкавую групу паміж акалічнаснымі і якаснымі прыслоўямі. У гэтай групе якасна-акалічнасных прыслоўяў у залежнасці ад адцення лексічнага значэння выдзяляюцца тры падгрупы.

1. Прыслоўі, у значэнні якіх сумяшчаецца якасная характарыстыка дзеяння з указаннем на характар ці спосаб яго ўтварэння: *аберуч, бягом, вярхом, дагары, маўчком, навыварат, на́двае, накрыж, насцеж, наўскасяк, ніц (ніцма), падзённа, пехатой, раптам, спадылба, ўброд, усутыч, цішком* і інш.

*Яна знячэўку намачыла яму рукою валасы, і цяпер ён ужо смела, не чырванеючы, зачасаў іх* н а б о к (К. Ч о р н ы. Трыццаць год). *Ён* у п о т а й к і *ўздыхнуў* і м о ў ч к і *адышоў да стала, пачаў чытаць* (І. Ш а м я к і н. У Маскву). *На змену ім да ўзгорка пад'ехала* ц у г а м *некалькі ваенных грузавікоў, напоўненых салдатамі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

2. Прыслоўі, у якіх якасная характарыстыка дзеяння даецца шляхам параўнання або прыпадабнення: *віхрам, дыбам, зайцам, клубком, крукам, кулём, лётам, роем, ступою, ходырам, цурком; па-брацку, панароднаму, па-нашаму, па-ранейшаму, па-салдацку, па-суседску* і інш.

*І вось наш дзядзька едзе* з а й ц а м (Я. К о л а с. Новая зямля). *Удоўж канала стаяў* п а-с в я т о ч н а м у *ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

3. Прыслоўі, у значэнні якіх якасная характарыстыка дзеяння спалучаецца з указаннем на сумеснасць дзеяння: *удваіх, удвух, утраіх, утрох, учатырох, гуртом, оптам* і інш.

*Мы* ў т р о х *ішлі па полі, перасякаючы малады калгасны сад* (Я. С к р ы г а н. Дбайнасць). *Усім спадабалася Балукова выдумка, і* г у р т о м *прыступілі да распрацоўкі ўсяго плана* (Я. К о л а с. Дрыгва).

### Якасныя прыслоўі

§ 993. Якасныя прыслоўі характарызуюць дзеянне з боку якасці і адносяцца часцей за ўсё да дзеяслова. Разам з тым якасныя прыслоўі могуць характарызаваць і прызнак, выражаны прыметнікам або прыслоўем. Група якасных прыслоўяў у параўнанні з акалічнаснымі і якасна-акалічнаснымі з'яўляецца лексічна найбольш багатай. Акрамя таго, гэта група прыслоўяў найбольш інтэнсіўна папаўняецца новымі ўтварэннямі ад якасных прыметнікаў.

Да якасных прыслоўяў адносяцца: *абурана, агніста, аддана, адмыслова, апетытна, асцярожна, балюча, бе́гла, боязна, бурна, бязвольна, бясследна, важна, весела, вытрымана, глуха, глыбакадумна, горача, гучна, дамавіта, дэманстрацыйна, жорстка, ідэйна, інакш, звонка, зелена, крылата, мімаходам, навылет, нагатове, наўздагон, недарэчна, неяк, нязручна, няўцям, па-беларуску, па-добраму, партыйна, па-свойму, проста, пышна, радасна, рэльефна, сарамліва, святочна, сіне, смела, тэатральна, увачавідкі, упустую, урачыста, фармальна, хараша, цвёрда, чароўна, шчодра, эфектна, юрыдычна, якасна* і інш.

*Іскрыліся ў горне а г н і с т а вуглі, а іскры далёка ляцець не маглі* (Я. К у п а л а. Чырвонай Арміі паходы). *Дык за справу, таварышы, за а д з і н а справядлівую нашу рабоча-сялянскую справу, справу нашага вызвалення, за бязлітасную класавую вайну з панамі* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Так р а з м а ш ы с т а параскіданы ва ўсе стораны лапы крэпкія* (Я. К о л а с. Дуб). *Натрудзіўшы д о б р а рукі, натаміўшы плечы, толькі маці з вераценцам туліцца пры печы* (Я. К о л а с. Маці). *Сюжэт апавядання «Астап» пабудаваны кампазіцыйна п р о с т а і с т р о й н а* (У. А г і е в і ч. Творчасць Міхася Лынькова). *Было няёмка смяяцца з таго, што дзеду пячэцца, аднак ужо было і весела і неяк н е ч а к а н а цёпла* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

§ 994. У групе якасных вылучаецца падгрупа к о л ь к а с н ы х прыслоўяў, якія абазначаюць меру дзеяння, ступень яго інтэнсіўнасці, а таксама меру таго або іншага прызнака.

1. Да прыслоўяў, якія характарызуюць дзеянне з боку яго колькасці, адносяцца прыслоўі: а) з адценнем узмацнення: *вельмі, выключна, дужа, залішне, занадта, надта, нечувана, страх, удвое, утрое* і інш., а таксама (пры ўжыванні ў пераносным сэнсе) *багата, бясконца* і некаторыя іншыя; б) з адценнем аслаблення: *амаль, больш-менш, бязмала, крыху, ледзь, мала-многа, насілу, прыблізна, траха, чуць, чуць-чуць* і інш.

*Не д у ж а вялікі калгас «Слабада», ды д у ж а прыемна яго грамада: жанчыны, як вішні, мужчыны — дубы, а хлопцы дык хлопцы — гвардзеец любы!* (Я. К о л а с. Калгасу «Слабада»). *Час — гэта нешта н е ч у в а н а шпарка-імклівае* (К. К р а п і в а. Мой сусед). *Сердзюку пашанцавала ў д в а й н е* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Перабірае* [Пракоп] *у памяці падзеі сённяшняга дня і вечара. І які гэта доўгі, б я с к о н ц а доўгі дзень!* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Дзянёк ён выбраў б о л ь ш-м е н ш вольны, ідзе вясёлы і давольны* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Вады б халоднай зачарпнуць з крыніцы і стрэсці пыл з сябе к р ы х у* (А. А с т р э й к а. Каспійка).

2. Да прыслоўяў, якія паказваюць ступень інтэнсіўнасці дзеяння або яго мяжу, адносяцца: *даастатку, дабяла, дагала, дазарэзу, дапаўна, дарэшты, дасыта, датла, дачырвана, дачыста, наглуха, напавал, насмерць, насуха, уволю, удосталь, ушчэнт* і інш.

*Сонца не лішне грэла зямлю, не хапала толькі сіверу, каб д а р э ш т ы ахаладзіць вытаптаную траву* (К. Ч о р н ы. Браты). *Яны д а ч ы р в а н а накалілі на сонцы рукі* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *Стэп у д о с т а л ь мы напоім прэснаю вадой* (А. А с т р э й к а. Галодны стэп).

3. Да прыслоўяў, якія абазначаюць меру якасці таго або іншага прызнака, належаць *мала, многа, зусім, цалкам* і інш. Гэтыя прыслоўі, як правіла, адносяцца да прыметнікаў або іншых прыслоўяў і паясняюць іх.

*Печны прыпек прыходзіўся ёй м а л а ніжэй плеч* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Гук і рып калёс з у с і м ужо блізка* (Я. К о л а с. Чорт). *З гэтай хвіліны Мішурын гаворыць яму «ты», калі раней увесь час яны былі нават м а л а знаёмыя...* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

Значэнне меры могуць набываць і прыслоўі, якія адносяцца да іншых груп. Так, пераносна ўжываюцца як прыслоўі меры *высока, глыбока, далёка, даўно, шырока* і інш. Параўн.: *Г л ы б о к а зіяе бяздонне правалу...* (Ц. Г а р т н ы. Над шумным палацам...). *Змест гэтай паэзіі г л ы б о к а інтэрнацыянальны* (К. Ч о р н ы. Думкі і імкненні народа). *Калі світанне за вяршыні дрэў з гары свой першы промень ураніла — д а л ё к а ў лесе быў ужо Андрэй* (З. А с т а п е н к а. Эдэм). *Мне могуць сказаць, што гэта ўсё роўна, што падзеі без людзей не бываюць. На самай справе гэта д а л ё к а не ўсё роўна* (К. К р а п і в а. Нескарыстаныя магчымасці).

## ФОРМЫ СТУПЕНЕЙ ПАРАЎНАННЯ ЯКАСНЫХ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 995. Якасныя прыслоўі, як і суадносныя з імі якасныя прыметнікі, утвараюць дзве формы ступеней параўнання — вышэйшую і найвышэйшую. Формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання могуць быць як простымі (сінтэтычнымі), так і складанымі (аналітычнымі).

Простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца ад якасных адпрыметнікавых прыслоўяў на **-о (-а)** пры дапамозе суфікса **-ей (-эй, -ай)**: *актыўней, вальней, вастрэй, весялей, гарачэй, гусцей, гучней, дакладней, жывей, ласкавей, мацней, мілей, мужней, правей, прамей, раўней, святлей, скарэй, таўсцей, упарцей, часцей* і інш.; калі ж у аснове прыслоўя перад суфіксам **-о (-а)** ёсць заднеязычныя **г, к, х**, то яны чаргуюцца з **ж, ч, ш**: *дарага — даражэй (дарожай), доўга — даўжэй, строга — стражэй, звонка — званчэй, хутка — хутчэй, ярка — ярчэй, ціха — цішэй* і інш.

У невялікай групе якасных адпрыметнікавых прыслоўяў, у якіх генетычна вылучаюцца суфіксы **-к-, -ок-, -ек-** (напрыклад, *блізка, высока, глыбока, далёка, нізка, цяжка, шырока* і некаторыя іншыя), суфікс вышэйшай ступені параўнання **-ей (-эй, -ай)** далучаецца непасрэдна да кораня: *бліжэй, вышэй, гладзей, глыбей, далей, карацей, ніжэй, радзей, цяжэй, шырэй* і інш.

Заўвага. Паралельна могуць ужывацца і такія формы, як *гладчэй, шырачэй, радчэй*, але яны не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

Некаторыя прыслоўі, якія маюць форму вышэйшай ступені параўнання (*даўней, раней, пазней* і інш.), часткова або поўнасцю страцілі значэнне вышэйшай ступені параўнання і ўжываюцца як звычайныя прыслоўі.

*А бабулька гаваркая ўспомніць пра старынку і пачне расказ цікавы, як даўней жылося: ёй у свеце рознай справы сведкай быць прыйшлося* (Я. Колас. Батрак). *Вось і трэцяе ўжо лета, а няма гаспадароў, не чутно цяпер да свету, як даўней, іх галасоў* (Я. Колас. Поле).

У прыведзеных сказах слова *даўней* ужываецца не ў значэнні «больш даўно», а ў значэнні «калісьці». Словы *раней, пазней* яшчэ поўнасцю не дээтымалагізаваліся і ўжываюцца як у значэнні «больш рана», «больш позна», так і ў значэнні «калісьці», «потым». Параўн.: *Устанеш летам раней зоркі...* (Я. Колас. Доля батрачкі). *На дарозе нашай вузкай, як раней, стаіць гара...* (Я. Колас. Пад шум ветру). *Ці бачыш, якая вострая! Пазней прыйшла, а першая хоча справіцца!* (Я. Колас. Наталька, Джон і муха). *Перш ён* [шчупак] *зловіць Сітца, а пазней Мядзведзіцу, вып'е сцежку зорную вясняных сноў, выцягне з-пад сетак абаранку месяца і зноў, ціха кружачы, ападзе на дно* (М. Танк. Дзед і шчупак).

Утварэнне сінтэтычнай формы вышэйшай ступені параўнання пры дапамозе суфікса **-ей (-эй, -ай)** у сучаснай беларускай мове з'яўляецца найбольш прадуктыўным з усіх спосабаў утварэння гэтай катэгорыі. З гэтым суфіксам ужываюцца формы вышэйшай ступені параўнання амаль ад усіх якасных прыслоўяў на **-о (-а)**, утвораных ад якасных прыметнікаў.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры могуць ужывацца формы вышэйшай ступені параўнання з суфіксам **-ей (-эй, -ай)** і ад многіх такіх прыслоўяў, якія паходзяць ад прыметнікаў з пераносным якасным значэннем: *заходні, злітны, напорны* і інш.

*Мне добра пець акрэсленей і зычней, і з новым крокам, з новым днём турбот — семнаццаты успомніць добра год, адсвяткаваць семнаццаты Кастрычнік* (У. Хадыка. За строем дат і рубрык). *Фронт быў яшчэ заходней ад тэрыторыі раёна, але пачалі высаджвацца невялікія дэсанты, пачалі прасоўвацца разведчыкі і часам прарывацца танкі* (К. Чорны. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). Формы вышэйшай ступені параўнання такіх прыслоўяў утвараюцца, як правіла, аналітычным спосабам (гл. § 996).

Прыслоўі *мала, многа, добра, дрэнна* ўтвараюць форму вышэйшай ступені параўнання ад іншых асноў, прычым разам з формамі на **-ей (-эй, -ай)** суіснуюць формы на **-ш:** *меней — менш, болей — больш, лепей — лепш, горай — горш.* Формы на **-ш** у гэтых прыслоўях, як і ў адпаведных прыметніках (гл. § 419), у сучаснай літаратурнай мове больш пашыраны, чым формы на **-ей (-эй, -ай).**

Заўвага 1. Форма на **-ш** ужываецца ў мове некаторых пісьменнікаў і ад прыслоўя *далёка.*

*Дудары ўсё перайгралі, д а л ь ш у свет яны пайшлі...* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Хлопчык д а л ь ш ідзе дарогай* (там жа). *Здаецца, мінаваць нам толькі ўзгорак — і мы на сонечным двары. Ды аганькі, падобныя да зорак, вялі нас д а л ь ш па пустыры* (А. А с т р э й к а. Каспійка). Аднак літаратурнай нормай лічыцца форма *далей.*

Заўвага 2. Зрэдку ў мове мастацкай літаратуры простая форма вышэйшай ступені параўнання можа ўтварацца адначасовым далучэннем суфікса **-ш** або **-ей (-эй, -ай)** і прыстаўкі **па-:** *палепш, падалей, паважней, пацяжэй, пашырай.*

*І птушкі ёсць там, дужа стройна пяюць, п а л е п ш за салаўя!* (Тарас на Парнасе). *Найкол азірнуўся Цімох, хапае дружка ён за ногі, туды яго, ў яміну-лог, п а д а л е й ад хаты, дарогі* (Я. К о л а с. Адплата). *Кожны год прыдае табе сілы, веснік новай вясны, Першы май. Дык разгорнем п а ш ы р а й мы крылы: бур наперадзе многа — зважай* (Я. К о л а с. Першы май).

Адзначаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў у беларускай мове ўтвараюцца пад уплывам рускай мовы. Аднак характэрная рыса падобных рускіх прыслоўяў — змякчэнне ступені якасці (*поболее* — г. зн. *немного более*) — беларускім прыслоўям не ўласціва: прыслоўі *паважней, пацяжэй, пашырай* і інш. па свайму значэнню хутчэй набліжаюцца ўжо да форм найвышэйшай ступені параўнання.

§ 996. Складаная форма вышэйшай ступені параўнання адпрыметнікавых прыслоўяў на **-о (-а)** утвараецца шляхам спалучэння прыслоўяў са словамі *больш (болей), менш (меней): больш агніста, больш пачэсна, болей прыязна, менш спакойна, менш ярка, меней праўдзіва* і інш.

*Цёмныя вочы глядзелі на ўсё — на людзей, на з'явы і рэчы б о л ь ш у д у м л і в а і пэўна* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Дзе яго сустрэнуць б о л ь ш п а ч э с н а?* (Я. К о л а с. Майскае свята).

§ 997. Простая форма найвышэйшай ступені параўнання адпрыметнікавых якасных прыслоўяў на **-о (-а)** утвараецца шляхам далучэння прыстаўкі **най-** да формы вышэйшай ступені параўнання: *найболей (найбольш), найдалей, найдаўжэй, найзванчэй, найпільней, найраней, найчасцей* і інш.

*Сёння н а й б о л ь ш гаварылі пра Сашку Пашкова* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Н а й п і л ь н е й за ўсіх, здаецца, слухаў Захар Зубец* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Яны* [вераб'і] *устаюць н а й р а н е й* (Я. Б р ы л ь. Светлае ранне). *Надвор'е стаяла мокрае, і вецер н а й ч а с ц е й павяваў ужо холадам* (К. Ч о р н ы. Насцечка).

Формы найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў, таксама як і прыметнікаў (гл. § 425), у сучаснай беларускай мове маюць два значэнні. Яны ўжываюцца: а) для абазначэння найвышэйшай ступені якасці ў параўнанні з чым-небудзь; б) для абазначэння гранічнай, найвышэйшай ступені якасці безадносна да чаго-небудзь. Параўн.: *Н а й р а н е й за ўсіх устае...* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Хлопцы, дзяўчаты праводзілі рана да адзінокага ў стэпе кургана, а н а й д а л е й правяла яго тая, што н а й з в а н ч э й у станіцы спявае, славіцца працай сваёй і красою, чорнымі бровамі, русай касою* (М. Т а н к. Над Чорнай Ганчай).

§ 998. Складаная форма найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў утвараецца шляхам спалучэння слоў *вельмі, дужа, надта, надзвычай,* а таксама *найбольш, найменш* з прыслоўямі, напрыклад: *вельмі хутка, дужа рана, надта шпарка, надзвычай ціха, найбольш поўна, найменш важна* і інш.

*Не н а д т а г о ж а выглядалі крывыя сцены пад пабел* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Мой непакой за спраўнасць ахоўвання межаў радзімы*

*развеяўся* в е л ь м і х у т к а (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Час да абеду прайшоў* н а д з в ы ч а й в е с е л а *і цікава* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. На сажалках). *Карэктыроўшчык сядзеў на зрубе адрынкі, стараючыся праз бінокль* н а й б о л ь ш д а к л а д н а *акрэсліць месца знаходжання браневіка* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі).

З а ў в а г а. У размоўным стылі ўжываецца форма найвышэйшай ступені параўнання, якая ўтвараецца спалучэннем слова *сáма* з формай вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў, напрыклад: *сáма вышэй, сáма пазней.*

*Гэты дом быў пабудаваны* с á м а п а з н е й, *і да гэтага часу яшчэ не ўсё было ў ім скончана* (К. Ч о р н ы. Лявон Бушмар).

§ 999. З формамі ступеней параўнання прыслоўяў могуць спалучацца розныя часціцы, якія ўзмацняюць або аслабляюць асноўнае значэнне той або іншай формы:

1. Часціца *ўсё* з прыслоўямі ў форме вышэйшай ступені параўнання: *усё больш, усё весялей, усё вышэй, усё галасней, усё гаманлівей, усё мацней, усё цяжэй, усё больш агніста* і інш. Такія спалучэнні маюць значэнне нарастання ступені якасці.

*Узносіцца краіна, як скала,* ў с ё в ы ш а й *і дужэй* (Я. К о л а с. Роднай краіне). *І дні імчаць, нібы на колах,* ў с ё в е с я л е й, ў с ё г а м а н л і в е й (У. Х а д ы к а. Пяць вершаў). Ў с ё б о л ь ш а г н і с т а *сонца свеціць, ўсё больш радней у даль дарога* (там жа).

2. Часціца *яшчэ* з прыслоўямі ў форме вышэйшай ступені параўнання: *яшчэ вышэй, яшчэ лягчэй, яшчэ спарней, яшчэ больш старанна, яшчэ больш цяжка* і інш. Гэтыя спалучэнні па свайму значэнню набліжаюцца да найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў.

*Дык ідзі ж, мая краіна, гулкай, светлай хваляй, узнімайся ў верхавіны* я ш ч э в ы ш а й, *далей* (Я. К о л а с. Савецкай Беларусі). *Зверху* я ш ч э с п а р н е й *падала сумесь снегу з дажджом, галава Ільі Ільіча была мокрай, каўнер адвіс, і ледзяныя раўчукі плылі па сівых валасах за шыю* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга). *Толя рашуча ўстаў* і я ш ч э б о л ь ш с т а р а н н а *ўзяўся дапамагаць вадзе* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

3. Часціца *куды* з прыслоўямі ў форме вышэйшай ступені параўнання. Такое спалучэнне набывае значэнне найвышэйшай ступені параўнання: *куды ніжэй, куды страшней, куды больш рашуча* і інш.

*Прахапіўшыся,* [Ракуцька] *убачыў, што сонца ўжо* к у д ы н і ж э й *стаяла* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Сонца будзе свяціць* к у д ы г а р а ч э й (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

4. Узмацняльная часціца *так* з прыслоўямі: *так вычварна, так моцна, не так далёка* і інш.

*І выраб мой дасужае мінуты, рагаты сук пад надпісам «Чымган», прыродаю* т а к в ы ч в а р н а *загнуты, гадае там пра родны Казахстан* (Я. К о л а с. На пералётах). *Фельчар жыў* н е т а к д а л ё к а (Я. К о л а с. Доктар памог).

5. Часціцы *як, чым, што* з прыслоўямі ў форме найвышэйшай ступені параўнання: *як найгушчэй, як найдалей, як найлепш, як найшпарчэй; чым найхутчэй; што наймацней* і інш. Сюды ж трэба аднесці і спалучэнні тыпу *як можна шырэй, як можна хутчэй, як не трэба ўдалей* і інш. Такія спалучэнні паказваюць на самую высокую, гранічную ступень якасці.

*Ен і сястра адразу рушылі* я к н а й д а л е й *адсюль* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні). *Аўтар пачаў прыгожа расказваць, а пасля як бы яму раптам надакучыла і ён пастараўся* ч ы м н а й х у т ч э й *скончыць усё* (К. Ч о р н ы. Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў). *Вы шчыльна, шчыльна затыкайце!* Ш т о н а й м а ц н е й, *брат, забівайце!* (Я. К о л а с. Новая зямля). *І наш Асёл за працу ўзяўся шчыра:* я к м о ж н а *вушы свае* ш ы р а й *ён растапырыў, распрастаў і проці Сонца стаў* (К. К р а п і в а. Сава, Асёл ды Сонца).

§ 1000. Якасныя адпрыметнікавыя прыслоўі на **-ó (-а)**, як і адпаведныя якасныя прыметнікі, утвараюць формы суб'ектыўнай ацэнкі са значэннем узмацняльнасці, памяншальнасці, ласкальнасці або непаўнаты прызнака пры дапамозе наступных суфіксаў:

1. Суфіксаў **-енн- (-энн-), -эрн-, -эзн-, -эразн-**, якія надаюць значэнню прыслоўяў адценне ўзмацнення прызнака: *здаравенна, страшэнна, цяжэрна, высачэзна, даўжэразна.*

*Гэтыя — некаторыя, робячы тут, с т р а ш э н н а дбалі пра дамоўку...* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *І* [гром] *ц я ж э р н а націскае, як бы зямлю дзесь угінае* (Я. Колас. Новая зямля).

2. Суфіксаў **-к-, -еньк- (-аньк-), -енечк- (-анечк-)** са значэннем памяншальнасці або ласкальнасці: *недалёчка, асцярожненька, блізенька, блізенечка, борздзенька, лёгенька, раненька, ціхенька, чысценька, шчыльненька, добранька, скоранька, скоранечка, хорашанька, шчыранька* і інш.

*А с ц я р о ж н е н ь к а падняўся Сцёпка, адзеўся і выйшаў з кватэры* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Цяжка, ц я ж а н ь к а ўздыхнула бедная жанчына — налучылася такая ёй, відаць, часіна* (Я. Колас. Каля парога).

Утварэнне форм суб'ектыўнай ацэнкі пры дапамозе названых суфіксаў у сучаснай беларускай мове з'яўляецца прадуктыўным працэсам. Формы з памяншальным або ласкальным значэннем утвараюцца з гэтымі суфіксамі не толькі ад якасных адпрыметнікавых прыслоўяў на **-о (-а)**, а і ад іншых груп якасных прыслоўяў, у тым ліку і ад прыслоўяў колькасных: *памаленьку, паціхеньку, памаленечку, злёгеньку, дачысценька, ніколечкі, трошкі, патрошку, чутачку* і інш.

*Лес стаяў спакойны, толькі ўгары шумелі п а ц і х е н ь к у хваёвыя галінкі, як бы віталі першы сняжок* (Я. Колас. Малады дубок). *Час падходзіў за пакровы, вецер ліст з лясоў атрос, і на поле сваековы кінуў з л ё г е н ь к у мароз* (Я. Колас. Сымон-музыка). *І злосць узяла на Сцёпку — з-за яго столькі непрыемнасці, і яна н і к о л е ч к і не шкадуе яго* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Нам т р о ш к і не пашанцавала* (Я. Скрыган. Таіса).

3. Суфіксаў **-утк- (-ютк-), -усеньк- (-юсеньк-), -усенечк- (-юсенечк-)**, якія надаюць значэнню прыслоўяў ласкальнае адценне з некаторым узмацненнем ступені якасці: *блізютка, дакладнютка, ціхутка, блізюсенька, гладзюсенька, ціхусенечка* і інш.

*Круцяцца б л і з ю т к а галкі над палямі* (Я. Колас. Пахаванне). *Пажаўцеў убор, пышны ліст яго, і ц і х у с е н ь к а асыпаецца* (Я. Колас. Перад восенню). *Ён цяпер ні аб чым не думаў, ён проста пазіраў на тыя вобразы, што ўздымаліся з нутра яго самога, ц і х у с е н е ч к а сам сабе ўсміхаўся* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

З указанымі суфіксамі ўтвараюцца формы з ласкальным значэннем і ад прыслоўяў іншых груп: *памалюсеньку, паціхусеньку* і інш.
*Нясі ж ты, міленькі, п а м а л ю с е н ь к у, стаўляй жа, міленькі, п а ц і х у с е н ь к у, каб гэта вадзіца не спляснулася, ліхая свякроўка не прачнулася* (Зб. «Жанчына ў беларускай народнай творчасці». А ў лузе салавей...).

4. Суфіксаў **-ав- (-яв-), -ават- (-яват-)** са значэннем непаўнаты якасці: *бялява, танкава, высакавата, зласнавата, пазнавата, саладкавата* і інш.

*Кожны як мог у той дзень весяліўся, нават і той, хто на пятым сяліўся, толькі, вядома, больш ціха і стрымана: в ы с а к а в а т а кватэра атрымана* (П. Панчанка. Наш дом). *Млын загуў п а з н а в а т а* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Усе пералічаныя формы суб'ектыўнай ацэнкі якасных прыслоўяў уласцівы галоўным чынам размоўным стылям беларускай літаратурнай мовы.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 1001. Словаўтварэнне прыслоўяў у сучаснай беларускай мове адбываецца трыма шляхамі: шляхам афіксацыі (пераход у прыслоўі скланавых форм імён і займеннікаў як з прыназоўнікамі, так і без іх), шляхам словаскладання (утварэнне прыслоўяў са спалучэнняў займенніка і назоўніка тыпу *сяголета, штодня* і інш.), а таксама шляхам непасрэднага пераходу слоў з іншых часцін мовы ў прыслоўі (пераход у прыслоўі інфінітыва, дзеепрыслоўя і некаторых спрагаемых дзеяслоўных форм).

Найбольшай прадуктыўнасцю пры ўтварэнні прыслоўяў у сучаснай беларускай мове вызначаюцца спосабы: суфіксальны, прэфіксальна-суфіксальны і прэфіксальны.

§ 1002. Акрамя прыслоўяў, якім уласцівы жывыя словаўтваральныя сувязі з іншымі словамі (назоўнікамі, прыметнікамі, лічэбнікамі, займеннікамі, дзеясловамі), у сучаснай беларускай мове ёсць цэлы рад прыслоўяў, што страцілі непасрэдную суадноснасць з тымі словамі, ад якіх яны некалі ўтварыліся. Так, сюды трэба аднесці прыслоўі, якія паходзяць ад розных скланавых форм назоўнікаў з прыназоўнікамі або без іх: *досыць, заўтра, знарок, знячэўку, спакон, напал, напалам, папярок; побач, поплеч, поруч, побліз; вокал, замуж, запар, насцеж, нездарма, удосталь; пасля, пасярод; наўмысна (наўмысне), спакваля, супраць; учора, далоў, дамоў, трохі, вобмегам, дуба, ніц, скрозь* і інш.; субстантываваных форм кароткіх прыметнікаў з прыназоўнікамі або без іх: *зноў, здалёк, воддаль, нанаў, нашча; перш, вельмі* і інш.; ад займеннікаў: *дзе, заўжды, інакш (іначай), калі, куды, туды* (а таксама дыялектныя *кудою, сюдою, тудою), надта, покі, усюды, тады, тут, там, так, сяк, ужо, яшчэ, як, ледзь* і інш.; ад дзеяслоўных асноў: *чуць, бегма, гульма, варма, дарма (дармо), міма, старчма, ніцма, годзе, загадзя, нехаця* і інш. Страціўшымі непасрэдную суадноснасць з адпаведнымі словазлучэннямі трэба лічыць і такія прыслоўі, як *абапал, аберуч; басанож, стрымгалоў, зҙапанібрата, летась, сёння, сёлета; цяпер; якраз* і некаторыя іншыя, якія этымалагічна з'яўляюцца складанымі словамі.

### СУФІКСАЛЬНЫ СПОСАБ УТВАРЭННЯ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 1003. Пэўныя скланавыя формы назоўнікаў, прыметнікаў (у тым ліку і ад'ектываваных дзеепрыметнікаў), лічэбнікаў або займеннікаў пераходзяць у прыслоўі тады, калі гэтыя формы выконваюць у сказе функцыю акалічнасці і з прычыны гэтага адасабляюцца ад сістэмы скланення і выпадаюць з яе. Пры такіх умовах скланавы канчатак, які некалі быў паказчыкам адносін гэтага слова (у пэўнай скланавай форме) да іншых слоў у сказе і вызначаў месца данай формы ў парадыгме скланення, пры адвербіялізацыі страчвае сваю ранейшую ролю і ператвараецца ў нязменную марфему — прыслоўны суфікс. На той жа падставе, што прыслоўны суфікс па свайму паходжанню з'яўляецца скланавым канчаткам, для пераважнай большасці прыслоўяў лёгка знайсці тыя скланавыя формы імён, з якімі гэтыя прыслоўі суадносяцца.

У некаторых жа прыслоўях суфікс ужо страціў сувязь са скланавым канчаткам. Такім спецыфічна прыслоўным з'яўляецца суфікс **-чы** ў прыслоўях *двойчы, тройчы* (па аналогіі з папярэднімі ўтварылася і пры-

слоўе *аднойчы*). Гэтыя прыслоўі адпаведна маюць значэнні «два разы», «тры разы», «адзін раз».

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі назоўна-вінавальнага склону*

§ 1004. Самай шматлікай групай прыслоўяў, суадносных з формамі назоўна-вінавальнага склону, з'яўляюцца прыслоўі, якія ўтвораны ад асноў якасных прыметнікаў з суфіксам **-о** (не пад націскам **-а**, пасля мяккіх зычных **-е**). Названы суфікс генетычна з'яўляецца канчаткам назоўна-вінавальнага склону нячленных якасных прыметнікаў ніякага роду.

Утварэнне прыслоўяў пры дапамозе суфікса **-о (-а, -е)** цесна звязана са значэннем утваруючай асновы. Прыслоўі ўтвараюцца толькі ад асноў тых прыметнікаў, якія маюць якаснае значэнне: *багата, бесклапотна, блізка, весела, вузка, высока, глыбока, гожа, горда, густа, дабрадушна, далёка, даўно, дзіка, добра, дорага, доўга, заліхвацка, лішне, крыва, крута, ласа, лёгка, люба, мала, многа, мокра, мякка, сіне, суладна, таямніча, туга, хараша, цесна, цвёрда, ціха, часта, чыста, чыстасардэчна, ярка* і інш.

Заўвага. Ад некаторых лексічных груп якасных прыметнікаў прыслоўі з суфіксам **о- (-а, -е)** не ўтвараюцца. Сюды адносяцца прыметнікі, якія абазначаюць колер або масць: *шэры, шызы, сівы, русы, рабы, гняды, рыжы, пярэсты, падласы* і інш., а таксама пэўныя статычныя прызнакі: *жывы, здаровы, малады, нямы, лысы, сляпы, глухі, вязкі, клейкі, дзіравы, хударлявы, чарвівы* і інш. Калі ж такія прыметнікі набываюць пераноснае значэнне, то ад іх могуць утварацца прыслоўі.

*Лес маўчыць, г л у х а, зацята, знямела* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Чырвонаармейцы ж ы в а нанасілі дроў, разлажылі касцёр* (там жа). *Чаго жалець табе, гаротнай? Загонаў, дзе цвіце свірэпа, смыка, сахі, сярпа і цэпа, каб так чапляцца за іх с л е п а?* (Я. К о л а с. Калгасная).

Пры пераносным ужыванні якаснае значэнне могуць набываць і вельмі многія адносныя прыметнікі, а таксама ад'ектываваныя дзеепрыметнікі. Так, прыслоўі *рэльефна, тэатральна, янтарна* і інш. утвораны ад прыметнікаў, якаснае значэнне ў якіх з'яўляецца пераносным. Па асноўнаму ж, прамому свайму значэнню такія прыметнікі, безумоўна, адносныя. Параўн.: *т э а т р а л ь н ы крытык — т э а т р а л ь н а размахваць рукамі, я н т а р н ы я каралі — раса я н т а р н а блішчала на траве.*

Да прыслоўяў, якія ўтварыліся ад асноў адносных прыметнікаў, набыўшых якаснае значэнне, належаць: *дзяржаўна, кампазіцыйна, палітычна, практычна, псіхічна, рэльефна, літаральна, машынальна, тэатральна, арганічна, аўтаматычна, кінематаграфічна, псіхалагічна, сцэнічна, тэхналагічна, элементарна; павярхоўна, аператыўна, аб'ектыўна, інстынктыўна; інтэлектуальна, ліхаманкава, нервова, планава, сакаліна* і шмат іншых.

У кніжнай мове лёгка ўтвараюцца прыслоўі з названым суфіксам і ад ад'ектываваных дзеепрыметнікаў, якія набылі якаснае значэнне: *абураюча, балюча, заўча, пявуча, рашуча, супакойваюча* і інш.

*Душой шчаслівы, палкі сэрцам, хачу я жыць, к і п у ч а жыць!* (Ц. Г а р т н ы. Я жыць хачу). *П а г р а ж а ю ч а нарастае гул матора* (Э. С а м у й л ё н а к. Пункт апоры). *Край мой р а ш у ч а і строга з ворагам бітву вядзе* (А. А с т р э й к а. Паклон Беларусі).

§ 1005. З формамі назоўна-вінавальнага склону назоўнікаў суадносны прыслоўі *смерць, страх.* Гэтыя прыслоўі ўжываюцца ў размоўных стылях мовы і маюць яркую экспрэсіўную афарбоўку.

*Як у вяночку стаіць хата. Грыбоў і ягад — с т р а х багата!* (Я. К о л а с. Новая зямля).

Заўвага. Названыя прыслоўі па ўтварэнню можна было б адносіць да бяссуфікснага тыпа, паколькі формы назоўна-вінавальнага склону адпаведных назоўнікаў характарызуюцца нулявой флексіяй (адсутнасцю канчатка).

### *Прыслоўі, якія ўзыходзяць да форм роднага склону*

§ 1006. Да прыслоўяў, якія ўтварыліся з форм роднага склону назоўнікаў, адносяцца два словы з суфіксам **-а**: *дома* і *ўчора*, прычым апошняе ўжо зусім страціла непасрэдную суадноснасць з формай роднага склону назоўніка *вечар*, а таму з пункту гледжання сучаснай мовы яно выступае як невытворнае.

Гэты тып мёртвы і непрадуктыўны.

Заўвага. Форму роднага склону з адмоўем **ні** мае назоўнік *нізвання*, які ўжываецца ў значэнні прыслоўя *нічуць*, напрыклад: *Ветрыкам нізвання ніадкуль не вее* (Ц. Гартны. Мілы мне бясконца...).

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі давальнага склону*

§ 1007. Зусім непрадуктыўным з'яўляецца і словаўтваральны тып прыслоўяў з суфіксам **-у**, суадносных з формамі давальнага склону назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. Сюды адносяцца прыслоўе *долу* і дыялектнае *двору*.

*Надзя асцярожна пайшла да берага і, калі ногі яе дакрануліся да сухой зямлі, знясілена апусцілася долу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Кволыя сняжынкі спакваля наўкола прасявала неба рэшатам густым — пухам лебядзіным ападалі долу, на галіны сосен, на палі, кусты* (М. Васілёк. Першы снег). *Кінем косы пад пракосы, пойдзем двору паабедаем, дзяцей сваіх адведаем* (Зб. «Жанчына ў беларускай народнай творчасці». Там у лузе, у лужочку).

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі вінавальнага склону*

§ 1008. Нешматлікую групу складаюць прыслоўі ад форм вінавальнага склону назоўнікаў. Сюды адносяцца *век, раз.*

*І пакаціўся гром, якому век рэхам грымець* (М. Танк. Рэйкавая вайна). *Раз увечар дзед з Сымонам выйшлі ў парк у свой абход* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Заўвага. Блізкімі да прыслоўяў з'яўляюцца і словы *дзень, ноч, тыдзень, момант, хвілю, вякі, гады, дні* і інш. у такім іх ужыванні, як: *Свіслач дзень і ноч гоніць срэбра хваль ды шушукае з кусцікам ніцым* (Я. Колас. Дуб). *Лёд я асцярожна к галаве кладу, уліваю з лыжкі ў рот табе ваду, абціраю цела волкім ручніком, сціхнеш ты і хвілю спіш спакойным сном* (К. Буйла. У шпіталі). *Нуда і голад, недахват, нядоля й здзекі ў цесным сплёту вянчалі працы наш пасад, гады вадзілі на работу* (Ц. Гартны. Раней і цяпер). *Каналамі злучылі мора з морам, стан Волга абняла Масквы-ракі, плывуць па сініх караблі прасторах, плывуць, куды не плавалі вякі* (Я. Купала. А мы сабе сеем і сеем...).

§ 1009. Суадносны з формамі вінавальнага склону назоўнікаў і такія колькасныя прыслоўі з суфіксам **-у (-ю)**, як *крыху, кроплю, каплю, чутачку, троху, трошачку* і інш. Тып лексічна абмежаваны і непрадуктыўны. Усе гэтыя прыслоўі маюць размоўнае адценне.

*Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат* (Я. Колас. Адшчапенец). *Мне крышку сумна, крыху балесне, — як быццам чую я шум лясны* (К. Буйла. Спявай, дзяўчына!). *«Калі такі ён, ну, то годзе!» — І дзядзька змоўкне, пачакае, кісет дастане і закурыць і вочы чутачку прыжмурыць, як бы і ў памяці не мае таго, што з хлопцам пасварыўся* (Я. Колас. Новая зямля). *Вось сабраліся мы троху ды турнулі так паноў, што яны з перапалоху адракліся й жупаноў* (К. Крапіва. Чырвоная мятла добра мяла).

Заўвага. У такім жа значэнні, як і *троху*, у мове мастацкай літаратуры могуць ужывацца часам прыслоўі *трохі (трошкі, трошачкі), траха* (дыялектн.). *Здаецца, можна было б і адпачыць трохі цяпер* (Я. Колас. Дзядзькаў сведка). *Я не буду доўга, зараз жа вярнуся, трошачкі на рэчцы ў санках паважуся* (Я. Колас. На рэчцы зімою). *Ці абзавешся хоць траха мне, ці ў далях знікнеш, як смуга, маё апошняе каханне, мая зайсёдная туга!* (М. Лужанін. Мы засыналі без падушкі...).

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі творнага склону*

§ 1010. Утварэнне прыслоўяў з суфіксамі **-ом (-ам), -ою (-ой, -аю, -ай, -яю, -яй), -у (-ю), -амі (-ямі)**, якія ўзыходзяць да канчаткаў назоўнікаў творнага склону, у сучаснай беларускай мове з'яўляецца прадуктыўным працэсам.

Прыслоўі гэтага тыпа ўжываюцца пераважна ў значэнні ч а с у і ў значэнні с п о с а б у д з е я н н я або п а р а ў н а н н я.

Прыслоўі часу ўтвараюцца, як правіла, ад назоўнікаў з прамым часавым значэннем: *вечарам, досвіткам, вясною (вясной), зімою (зімой), летам, восенню, днём, ноччу, раніцай, часам, вечарамі, часамі* і інш.

*А в е ч а р к о м мы выпускалі ў паветра белых галубоў...* (М. Б а г д а н о в і ч. Вераніка). *Прыемна р а н к а м за новай працай сустрэцца з вамі* (П. Б р о ў к а. Дзень добры, хлопцы!). *Люблю пазіраць я на поле в я с н о й...* (Я. К о л а с. На полі вясною). *І вечна да працы ахвочы, не спіш ты ні д н ё м, ні ўначы, і вецер спяшыць апаўночы, каб хвалям тваім памагчы* (А. А с т р э й к а. Нёману). *І страх ч а с а м і браў паэта, што вецер дрэва ў сад паваліць...* (Я. К о л а с. Топаль).

Некаторыя прыслоўі ўзыходзяць да назоўнікаў з пераносным значэннем часу: *захадам, змрокам, светам, цяплом* і інш.

*Не пакіну думаць с в е т а м і ўпацёмку, як там жывяце вы, як жыве старонка* (Я. К у п а л а. Я ад вас далёка...). *З а р о й прапялі асверы* (М. Т а н к. А ў полі вярба). *З м р о к а м холадна стала* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Ці то прывычка, ці то ашчаджанне абутку, але ён ц я п л о м ніколі абуты не хадзіў* (К. Ч о р н ы. Пошукі будучыні).

Даволі шматлікую групу складаюць прыслоўі гэтага тыпа са значэннем спосабу дзеяння і параўнання. Даная група ў сучаснай беларускай мове найбольш інтэнсіўна папаўняецца за кошт адвербіялізацыі форм творнага склону назоўнікаў. Гэтым абумоўліваецца і неаднароднасць разглядаемых прыслоўяў па ступені адвербіялізацыі. Так, словы *стралою, лістам, дымам, трубою, дужкай, ключом, кулём, віхрам* і інш. яшчэ даволі моцна ўтрымліваюцца ў катэгорыі назоўнікаў. Але пераноснае іх ужыванне ў форме творнага склону са значэннем параўнання ўжо безумоўна набліжае іх да прыслоўяў.

*У два рады між палёў ройна рэйкі ляглі, рэжуць нетры лясоў, точаць грудзі зямлі. Дзе с т р а л о ю ляцяць, а дзе д у ж к а й бягуць цераз горы і гладзь, смела рэчкі сякуць* (Я. К о л а с. Чыгунка). *Поле ва ўзгорках ад бору да бору, жыта т р у б о ю, пшаніца, як гай, скрозь разліліся ільны, нібы мора, працай нястомнай расквечаны край!..* (А. А с т р э й к а. Край беларускі). *Д ы м а м пойдзе ўсё ліхое, ўсё, што душыць нас і гне* (Я. К о л а с. Не бядуй!). *Журавы курлыкаюць, стройна, к л ю ч о м хаваючыся за лесам* (Я. С к р ы г а н. Па дарозе).

Такія ж словы, як *бягом, вярхом, мімаходам, нішкам, ніцам, паўзком, пяшком, сілком, тайком, цалкам* і інш. ужо выпалі з жывой сістэмы форм скланення назоўнікаў і поўнасцю перайшлі ў прыслоўі.

З суфіксам **-ом (-ам)** утвараюцца прыслоўі і ад дзеяслоўна-іменных асноў: *тарчком, ходам, цурком, цягам* і інш. Гэтыя прыслоўі звычайна ўжываюцца ў спалучэннях з дзеясловамі (або дзеепрыметнікамі ці дзеепрыслоўямі), якія маюць адзін і той жа корань з прыслоўем.

*Другі раз хлопцы валяць в а л а м у ток да дзядзькі ўсім кагалам* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Вось толькі пылюга есць п о е д а м вочы, на беразе Волгі і гэтакі пыл!* (П. П а н ч а н к а. У Камсамольску-на-Волзе).

§ 1011. Да прыслоўяў, суадносных са старажытнымі формамі творнага склону множнага ліку, адносіцца невялікая група прыслоўяў з суфіксам **-і**. Адны з такіх прыслоўяў маюць асновы назоўнікаў *(моўчкі, пешкі, украдкі* і інш.), другія — асновы прыметнікаў *(важнецкі, здрадніцкі, мастацкі, мяшчанскі* і інш.). Тып словаўтварэння прыслоўяў з су-

фіксам -і ў сучаснай беларускай мове непрадуктыўны. Аднак такія ўтварэнні пачынаюць усё часцей ужывацца ў публіцыстычным стылі, у мове перакладаў.

*Глядач не можа зрабіць чоткага і канкрэтнага вываду з усяго бачанага на сцэне і, натуральна, застаецца некалькі незадаволеным, хоць увесь спектакль пастаўлены* *мастацкі* *ярка і выразна* (з газет). *Дапусцім, што я* *здрадніцкі* *лаўлю вас на слове, каб выдаць паліцыі* (К. Крапіва. Пераклад з А. Чэхава. «Палата № 6»).

### Прыслоўі, якія ўзыходзяць да форм меснага склону

§ 1012. Група прыслоўяў з суфіксам **-е**, які ўзыходзіць да аднаго з былых канчаткаў меснага склону **(-ѣ)**, у беларускай мове з'яўляецца лексічна беднай і непрадуктыўнай. Сюды адносяцца адзінкавыя ўтварэнні ад назоўнікаў *(доле*, параўн. дыялектн. *далавах)* і ад прыметнікаў *(балазе*, дыялектн. *добрэ)*. Гэтыя прыслоўі не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*Усе селі* *доле* *ў кола: супраць покута пан бацька, з левай рукі пан Даніла, з правай рукі пані Кацярына і дзесяць найвярнейшых малайцоў...* (М. Лужанін. Пераклад з М. Гогаля. «Страшная помста»). *Палкі чырвоныя за волю галовы слалі* *далавах* (П. Глебка. Чырвонай Арміі парад). *От* *балазе* *ёсць што пільнаваць* (К. Чорны. Вясна).

Заўвага. Слова *балазе* ў сучаснай беларускай мове ўжо амаль не сустракаецца як прыслоўе, а ўжываецца або ў функцыі прэдыкатыўнага прыслоўя, часціцы або далучальна-падпарадкавальнага злучніка.

Зближаюцца з гэтым словаўтваральным тыпам і прыслоўі, запазычаныя з польскай мовы: *пэўне, канечне, дзіўне, балесне, выгодне, марне* і інш. У апошні час такія прыслоўі (акрамя слова *канечне*) сталі наогул выходзіць з ужывання і замяняцца прыслоўямі на **-о (-а)**: *пэўна, дзіўна, марна* і інш.

## ПРЫСТАВАЧНА-СУФІКСАЛЬНЫ СПОСАБ УТВАРЭННЯ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 1013. Адвербіялізацыя прыназоўнікава-іменных канструкцый у сучаснай беларускай мове з'яўляецца прадуктыўным працэсам. У прыслоўі пераходзяць спалучэнні прыназоўнікаў са склонавымі формамі назоўнікаў, субстантываваных кароткіх і поўных прыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў.

Пры адвербіялізацыі прыназоўнікава-іменных канструкцый прыназоўнік ператвараецца ў прыстаўку, а склонавы канчатак назоўніка, прыметніка, лічэбніка або займенніка — у суфікс.

### Прыслоўі, суадносныя з формамі роднага склону

§ 1014. З прыстаўкай **ад-** ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў утвараюцца наступныя групы прыслоўяў:

а) з суфіксам **-у**: *адразу, адвеку*.

*Сыну цяжка ўсё растлумачыць* *адразу* (А. Куляшоў. Балада аб чатырох заложніках). *Зямля — наша маці,* *адвеку* *ты з намі, мы сэрцам адданым з табою навек!* (П. Броўка. Шуміць наша слава).

Заўвага. Часам у мове літаратурных твораў ужываюцца і прыслоўі *адзаду, адрэдку*, аднак ужыванне іх нельга лічыць нормай беларускай літаратурнай мовы.

*Успененыя грэбні хваль з глухім рокатам праносіліся ля бартоў і слаліся* *адзаду* *кіпучымі вірамі і каснікамі зялёных буруноў* (М. Лынькоў. На вялікай хвалі). *Адрэдку па вуліцы праязджаў селянін з поля, варочалася адтуль жа з мяшком травы сялянка* (Ц. Гартны. Спатканне).

б) З суфіксам **-а:** прыслоўе *аддайна*, а таксама ў функцыі прыслоўяў *ад відна, ад рана, ад цямна*. Напрыклад: *Так і жыве ўдайцом Нічыпар аддайна з жанатым сынам ужо ў збядненні* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Заўвага. У функцыі прыслоўяў могуць ужывацца канструкцыі *ад відна, ад рана, ад цямна.*

*І ад відна і да відна гібела ты у полі, маці, каб цяжкай працаю для нас нічымны полудзень прыдбаці* (П. Панчанка. Маці). *А ў маткі ўсё абмеркавана і ўсё прадумана ад рана* (Я. Колас. Новая зямля). *Сёстры мерлі на вуліцах брудных; ад цямна да цямна праз вякі за сахою хадзілі пакутнай, парабкамі служылі бацькі* (П. Глебка. Родным братам).

Абедзве гэтыя групы ў разгледжаным словаўтваральным тыпе непрадуктыўныя.

Акрамя таго, з прыстаўкай **ад-** у беларускай мове існуюць два прыслоўі, утвораныя ад форм роднага склону займеннікаў: *адтаго, адчаго*, а таксама група прыслоўяў займеннікавага паходжання са звязанымі асновамі: *адкуль, адтуль, адгэтуль, адсюль, адусюль.*

Апошні падтып мёртвы і непрадуктыўны.

Прыслоўі *адтаго* і *адчаго* ў сучаснай беларускай мове ўжываюцца рэдка і могуць быць лёгка заменены аднолькавымі па значэнню прыслоўямі *таму, чаму.*

*Мяне узрушыла тваё пісьмо бясконца, і адтаго заснуць я не магу* (А. Астрэйка. Адказ бацьку). (Параўн.: «таму заснуць я не магу».) *Людзі бываюць усякія. Адчаго яны робяцца ўсякімі, гэта мы тут гаварыць не будзем* (К. Чорны. Зямля). (Параўн.: «чаму яны робяцца ўсякімі?»)

§ 1015. З прыстаўкай **да-** ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў утвараюцца наступныя прыслоўі:

а) з суфіксам **-у (-ю):** *дадому, дадолу* і некаторыя іншыя;

б) з суфіксам **-а (-я):** *датла, дазвання, дасыта, дагала, дабяла, дачырвана, дачыста* і інш.

Заўвага. Да гэтага ж тыпа адносіцца і прыслоўе *давярха* (літаратурная норма — з суфіксам **-у:** *даверху*). Абодва варыянты раўназначныя па значэнню. Параўн.: *Каробкі сціха накладай давярха розным скарбам-дабром* (Я. Колас. Батрак). *Карабель, даверху нагружаны лесам* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

У функцыі прыслоўяў таксама ўжываюцца канструкцыі *да відна, да пазна, да рана, да цямна.*

в) З суфіксам **-і (-ы):** *даволі, дарэчы, дагары, дахаты, дарэшты* і інш.

Названыя тры групы прыслоўяў з прыстаўкай **да-**, якія ўваходзяць у адзін словаўтваральны тып, не з'яўляюцца вельмі прадуктыўнымі, хоць яны могуць папаўняцца за кошт адвербіялізацыі форм роднага склону назоўнікаў з прыназоўнікам *да*, набываючы значэнне акалічнасці часу або меры і ступені: *да дня, да пары, да свету* (дыялектн. *досвіту, досвета); да ўпаду, да смерці, да слёз* і інш.

*Перачакай дзе ў вернага чалавека да пары, да часу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Назаўтра раненька да свету руплівасць матку падымае* (Я. Колас. Новая зямля). *Да слёз сорамна і цяжка стала глянуць Андрэю ў вочы* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга).

§ 1016. З прыстаўкай **да-** ад асноў займеннікаў утварыліся і прыслоўі *дакуль, датуль, дасюль, дагэтуль*, якія ўваходзяць у замкнутую групу слоў са звязанымі асновамі.

Тып мёртвы і непрадуктыўны.

§ 1017. З прыстаўкай **з- (с-, со-, са-)** ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў у беларускай мове ўтварылася даволі вялікая група прыслоўяў:

а) з суфіксам **-а (-я)**: *спрасоння, спатайка, здаўна, скоса, скрыва, злева, справа, звысака, спраста, здаляка, сціха, спаўна, сп'яна, зрана, знава, спярша* і інш.;

б) з суфіксам **-у (-ю)**: *збоку, спачатку, здуру, сыспаду, зводдалеку, звонку, сосмеху, ззаду, знадворку, зранку, зроду, спераду, знізу, скраю, змоладу, зблізку, злёгку, зрэдку* і інш.;

в) з суфіксам **-і (-ы)**: *здалі, зрэшты, знутры, згары* і інш.

Падтыпы жывыя і прадуктыўныя. З прычыны таго, што прыслоўі з прыстаўкай **з- (с-, со-, са-)** у пералічаных групах з'яўляюцца сінанімічнымі, у адпрыметнікавых прыслоўях таксама можа паяўляцца суфікс **-у (-ю)**, хоць генетычна такога канчатка ў родным склоне не маглі мець кароткія прыметнікі. Так, у сучаснай беларускай мове ўжываюцца паралельна *зблізка* і *зблізку, скоса* і *скосу, звысака* і *звысоку, здалёка (здаляка)* і *здалёку, злягка* і *злёгку, зрэдка* і *зрэдку, сп'яна* і *сп'яну* і г. д. У сучаснай літаратурнай мове прыслоўям *зблізку, звысоку, здалёку, зрэдку* аддаецца перавага перад такімі ж утварэннямі з суфіксам **-а**.

§ 1018. Ад асноў субстантываваных прыметнікаў з прыстаўкай **з-** утварыліся прыслоўі *збольшага, здаўнага, здаўных*. Суфіксы **-ага** і **-ых** у гэтых прыслоўях узыходзяць да канчаткаў роднага склону поўных прыметнікаў.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 1019. З прыстаўкай **з- (с-)** ад займеннікаў утварыліся прыслоўі *стуль, скуль, зусюль*, якія ўваходзяць у замкнутую групу слоў са звязанымі асновамі. Гэтыя прыслоўі ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры (пераважна ў паэзіі), аднак літаратурнай нормай трэба лічыць ужыванне замест іх сінанімічных прыслоўяў *адтуль, адкуль, адусюль* (гл. § 1014).

§ 1020. Да форм роднага склону назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў узыходзяць і нешматлікія прыслоўі з прыстаўкай **без- (бес-)**. Сюды адносяцца прыслоўі з суфіксам **-а (-я)**: *бясконца, бязмала, бессціхання, безустання* і інш.; з суфіксам **-у**: *бесперастанку, безустанку, безупынку, безумолку* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 1021. Непрадуктыўныя і тыпы ўтварэння прыслоўяў ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў са складанымі прыстаўкамі **спрад-, спад-, зза-, спаза-** і суфіксамі **-а, -у**: *спрадвеку, спадыспаду, спадылба, спадцішка, ззамаладу, спазарання, спазаранку*.

Адзінкавымі з'яўляюцца ўтварэнні з прыстаўкамі **між-, міма-** і суфіксам **-і**: *міжволі, мімаволі*. Па свайму значэнню апошнія два прыслоўі сінанімічны.

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі давальнага склону*

§ 1022. Ад асноў субстантываваных прыметнікаў з прыстаўкай **па-** і суфіксам **-аму (-яму, -ому)** утвараецца шматлікая група прыслоўяў, суадносных з формамі давальнага склону: *па-арлінаму, па-асабліваму, па-асенняму, па-братняму, па-ваеннаму, па-веснавому, па-гарадскому, па-даўняму, па-дзелавому, па-дзіцячаму, па-звычайнаму, па-злому, па-інакшаму, па-лебядзінаму, па-маладому, па-навуковаму, па-народнаму, па-начному, па-новаму, па-публіцыстычнаму, па-ранейшаму, па-рознаму, па-салаўінаму, па-святочнаму, па-службоваму, па-старому, па-сумленнаму, па-талстоўскаму, па-тутэйшаму, па-ўдарнаму, па-франтавому, па-харошаму, па-шмялінаму* і інш.

Тып жывы і вельмі прадуктыўны.

Па гэтаму ж тыпу ўтвараюцца і прыслоўі ад асноў прыналежных займеннікаў: *па-вашаму, па-іхняму, па-мойму (па-моему), па-нашаму,*

*па-свойму, па-твойму, па-ягонаму.* Утварэнне такіх прыслоўяў лексічна абмежавана невялікай групай прыналежных займеннікаў, якія складаюць словаўтваральную базу гэтых прыслоўяў.

§ 1023. З прыстаўкай **па- (по-)** і суфіксам **-у** ад асноў субстантываваных прыметнікаў і назоўнікаў існуе некалькі груп прыслоўяў. Найбольш прадуктыўнай з іх з'яўляецца група прыслоўяў, утвораных ад прыметнікаў, аснова якіх заканчваецца суфіксам **-ск-**: *па-бацькоўску, па-беларуску, па-братэрску, па-гаспадарску, па-горкаўску, па-дзедаўску, па-запраўску, па-змоўніцку, па-каралеўску, па-кузнецку, па-людску, па-майстэрску, па-мастацку, па-мужчынску, па-панску, па-пластунску, па-польску, па-прыяцельску, па-рыцарску, па-руску, па-салдацку, па-свойску, па-суседску, па-сяброўску, па-сялянску, па-таварыску, па-турэцку, па-філасофску* і шмат іншых.

Значна менш прыслоўяў з суфіксам **-у** ад прыналежных прыметнікаў: *па-воўчу, па-сабачу, па-чалавечу.* Такія прыслоўі не з'яўляюцца нормай беларускай літаратурнай мовы і звычайна замяняюцца прыслоўямі з суфіксам **-і (-ы)**: *па-чалавечы, па-дзіцячы, па-мядзведжы, па-рыб'і, па-воўчы, па-сабачы, па-шчанячы, па-свінячы* і інш. Прыслоўі ж на **-у** маюць адценне слоў размоўнага стылю.

Непрадуктыўныя і ўтварэнні ад прыметнікаў з невытворнымі асновамі: *пароўну, паціху, папросту, despite памалу, попусту, паблізу, непадалёку, повідну, падоўгу, пачасту, пасуху, памногу* і інш.

Утварэнні ад назоўнікаў у гэтым тыпе адзінкавыя. Сюды можна аднесці прыслоўі з суфіксамі: **-у** *(патроху, паасобку)*; **-е** — *(пакрысе;* зрэдку ўжываецца і форма *пакрыху)*, а таксама формы суб'ектыўнай ацэнкі прыслоўяў: *патрошку, патрошачку* і інш.

З а ў в а г а. У сучаснай беларускай мове, пераважна ў размоўным яе стылі, побач з прыслоўямі *патроху, патрошку, патрошачку* шырока ўжываюцца прыслоўі з суфіксам -і: *патрохі, патрошкі, патрошачкі.* Напрыклад: *П а т р о х і ў братоў Крушынскіх сум па дому перайшоў у новую элегійную форму* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі). *...Усе сыплюць п а т р о ш к і, а ворах увачавідкі ўсё расце і расце* (А. К у л а к о ў с к і. Хораша ўзыходзіць сонца).

§ 1024. Зусім непрадуктыўны тып утварэння прыслоўяў з прыстаўкай **к-** і суфіксам **-у** ад асноў назоўнікаў. Сюды адносяцца толькі два словы: *кверху* і *кнізу.* У сучаснай беларускай літаратурнай мове гэтыя прыслоўі выцясняюцца сінанімічнымі ім па значэнню прыслоўямі *уверх, уніз.*

### *Прыслоўі, суадносныя з формамі вінавальнага склону*

§ 1025. Самай багатай лексічна ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляецца група прыслоўяў, суадносных з прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі, у якіх назоўнік або іншая субстантываваная часціна мовы мае форму вінавальнага склону. У гэту групу ўваходзіць вялікая колькасць словаўтваральных тыпаў, некаторыя з якіх вызначаюцца асаблівай прадуктыўнасцю (напрыклад, тыпы прыслоўяў з прыстаўкамі **на-** і **у-**).

Многа прыслоўяў у гэтай групе прыставачна-бяссуфіксных. Гэта тлумачыцца тым, што формы вінавальнага склону імён мужчынскага роду характарызуюцца адсутнасцю канчатка (так званай нулявой флексіяй). Прыслоўныя ж суфіксы, як гэта ўжо адзначалася, з'яўляюцца па свайму паходжанню не чым іншым, як склонавым канчаткам імені, страціўшым сваю функцыю ў выніку выпадзення слова з жывой сістэмы скланення і пераходу яго ў прыслоўе.

§ 1026. У сучаснай беларускай мове інтэнсіўна праходзіць утварэнне прыслоўяў ад назоўнікаў, субстантываваных прыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў пры дапамозе прыстаўкі **на-**. Сярод гэтых прыслоўяў найбольшай прадуктыўнасцю вызначаецца словаўтваральны тып, які аб'-

ядноўвае прыслоўі без суфіксаў і з суфіксамі **-у, -о (-а), -і (-ы).** Адняссенне прыслоўя да той ці іншай разнавіднасці гэтага тыпа залежыць толькі ад таго, якога роду і ліку назоўнік (або іншае субстантываванае слова) у спалучэнні з прыназоўнікам **на** падвергся адвербіялізацыі.

Многія прыслоўі маюць форму вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду з прыназоўнікам **на.** Сюды адносяцца:

а) прыслоўі, якія ўзыходзяць да невытворных назоўнікаў: *набок, навек, наверх, назад, накрыж, нанач, наніз, наперад, насмех, наспех, нашчэнт* і інш.;

б) прыслоўі, у склад якіх уваходзіць аддзеяслоўны назоўнік з прыстаўкай (**ад-, аб-, вы-, за-, па-, пад-, пера-, пра-, раз-, у-, уз-** і інш.): *наадварот, наадрэз, навобмацак, наводмаш, наводшыб, навыварат, навыкат, навылёт, навырост, навыскач, назарэз, напавал, напавер, напаказ, наперарэз, наперакор, напракат, напралёт, напралом, нарасхват, нараспеў, наўгад, наўздагон, наўздзіў, наўзмах, наўзрыд, наўскач, наўцёк* і шмат іншых. Утварэнне такіх прыслоўяў у сучаснай мове праходзіць надзвычай прадуктыўна.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што многія прыслоўі нельга непасрэдна ўзводзіць да адпаведных назоўнікаў — ні да такіх, якія ўжываюцца ў сучаснай мове, ні нават да такіх, якія існавалі раней. Новыя прыслоўі, такім чынам, могуць утварацца непасрэдна ад дзеяслоўнага кораня з прыстаўкамі **наад-, навы-, наза-, напа-** і інш.

З прыстаўкай **на-** без суфікса ўтвараецца невялікая група прыслоўяў ад назоўнікаў жаночага роду (*напамяць, нарэдкасць, насмерць* і інш.).

Ад назоўнікаў жаночага роду на **-а** ўтвараюцца прыслоўі з суфіксам **-у:** *навыцяжку, напалавіну, напалову, напáру, напераменку, насілу, насустрэчу, наўдачу, начыстату* і інш.

Ад назоўнікаў ніякага роду, а таксама ад субстантываваных прыметнікаў і займеннікаў утвараюцца прыслоўі з прыстаўкай **на-** і суфіксам **-о (-а):** *надзіва, назло, налета, наліха; навечна, нагола, наглуха, надоўга, намарна, намнога, нанова, направа, налева, нáпуста, напэўна, наскора, насуха, начорна, начыста; нашто, навошта.*

Суфікс **-а** маюць і прыслоўі, якія ўтварыліся ад назоўнікаў мужчынскага роду, у склад якіх уваходзіць часцінка **паў-:** *напаўкрока, напаўголаса.*

З прыстаўкай **на-** і суфіксам **-і (-ы)** у беларускай мове ёсць невялікая група адназоўнікавых прыслоўяў: *навекі, на дыбы, напярэймы.* Сюды ж адносяцца і прыслоўі, якія ўтварыліся ад няпэўна-колькасных лічэбнікаў займеннікавага паходжання з прыстаўкай **на-:** *наколькі, настолькі, нагэтулькі.*

Да гэтай групы цесна прымыкаюць такія прыслоўі, як *навыперадкі, напрамкі, напрасткі, наўздагонкі, наўцёкі, нацянькі* і інш.

Прыслоўі з суфіксам **-і (-ы)** утвараюць малапрадуктыўны падтып. Большасць прыслоўяў гэтага падтыпа адносіцца да размоўнага стылю.

§ 1027. Лексічна небагатыя і малапрадуктыўныя тыпы прыслоўяў, утвораных ад асноў субстантываваных прыметнікаў пры дапамозе прыстаўкі **на-** і суфіксаў **-ое, -ую:** *насляпое, наадкрытую, набакавую, напрапалую, насмелую, начыстую* і некаторыя іншыя. Да гэтага ж тыпа прымыкае і адзайменнікавае прыслоўе *натое.* Усе гэтыя прыслоўі належаць да размоўна-бытавога стылю.

§ 1028. Значнай прадуктыўнасцю характарызуюцца прыслоўі з прыстаўкай **у-,** прычым найбольш прадуктыўным з'яўляецца тып словаўтварэння прыслоўяў без суфіксаў або з суфіксамі **-у (-ю), -о (-а, -е), -і (-ы).** Па свайму паходжанню названыя суфіксы — гэта канчаткі вінавальнага склону назоўнікаў, кароткіх прыметнікаў і лічэбнікаў.

У адрозненне ад бяссуфіксных прыслоўяў з прыстаўкай **на-,** дзе большасць прыслоўяў мае ў сваім складзе дзеяслоўны корань, прыслоўі з прыстаўкай **у- (ва-)** маюць пераважна іменны корань: *вавек, у акурат,*


28. Зак. 892

*убок, уброд, уверх, увечар, увосень, увысь, увыш, угалоп, уголас, удалеч, удаль, удалячынь, удосталь, удойж, узад, няўзнак, укруг, укружок, улёт, уніз, уноч, унутр, уперад, уплаў, упоперак, упрогаладзь, ураз, услед, услух (ус.лых), усмак, усур'ёз, ушчэнт* і інш.

Некалькі менш прыслоўяў з прэфігіраваным дзеяслоўным коранем: *у абрэз, удабавак, нейдагад, удагон, узамен, узахоп, нейпапад, упадскок, уперагіб, уподбег, упокат, уразброд, ураздроб, уроссып* і некаторыя іншыя.

Аднак прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца абедзве групы прыслоўяў з прыстаўкай **у-**.

З назоўнікамі жаночага роду на **-а** суадносны прыслоўі, якія маюць суфікс **-у (-ю)**: *у адзіночку, увясну (увесну), уволю, угару (угору), удалечыню, узімку, умеру, усярэдзіну*, а таксама з прэфігіраваным дзеяслоўным коранем у сваім складзе: *удагонку, нейзаметку, уперагонку, уперавалку, уперамежку (упярэмежку), уперамешку (упярэмешку), нейпрыкметку, упрысядку* і інш. Апошняя група прыслоўяў на **-ку** з прэфігіраваным дзеяслоўным коранем у сваім складзе мае ў сучаснай беларускай мове тэндэнцыю да пашырэння.

З прыстаўкай **у- (ва-)** і суфіксам **-і (-ы)** утвараецца невялікая група прыслоўяў: *вавекі, убакі, няўзнакі, унаймы* і некаторыя іншыя. Да гэтай групы прымыкаюць прыслоўі, якія таксама суадносны з формай вінавальнага склону множнага ліку назоўнікаў, але ў якіх ужо пачынае вылучацца фармант **-кі**, напрыклад: *увачавідкі, нейзаметкі, уперагонкі, упрочкі, упрысядкі, увышкі, удагонкі, удойжкі, нейпрыкметкі, ушыркі* (параўн.: *увыш, удагон, удойж, нейпрыкмет, ушыр*) і інш. (параўн. такую ж з'яву ў тыпе прыслоўяў з прыстаўкай **на-** і суфіксам **-і (-ы)**, якія суадносны з формамі вінавальнага склону: *напрасткі, найзахваткі, найздагонкі* і адпаведна *напрост, найзахват, найздагон*). Большасць такіх прыслоўяў мае ў сваім складзе прэфігіраваны дзеяслоўны корань (*удагонкі, нейзаметкі, уперагонкі, употайкі, нейпрыкметкі, упрысядкі* і інш.).

§ 1029. Ад парадкавых лічэбнікаў з суфіксам **-о (-а, -е)** існуе вельмі невялікая група прыслоўяў. Сюды адносяцца: *у адно, удвое, утрое, учацвёра (учэцвера)* і інш. (да *ўдзесяцера*).

З а ў в а г а. Паралельна з прыслоўямі *ўдвое, утрое* ў беларускай літаратурнай мове ўжываюцца іх варыянты *ўдвая, утрая*.

*Яму гэтыя пяцьдзесят рублёў вярнуліся ў д в а я...* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Абмен павялічыўся амаль што ў т р а я, а работнікі КСА* [кантрольна-сартыровачнага аддзела] *працавалі па-звычайнаму, з прахладцам* (Х в. Ш ы н к л е р. Пульс жыцця).

§ 1030. З прыстаўкай **у-** і суфіксам **-а** ад асноў прыметнікаў утвараюцца толькі два прыслоўі: *улева, управа.*

Прыстаўку **у-** і суфікс **-а** маюць прыслоўі, у склад якіх уваходзіць часцінка **паў-**: *упаўголаса, упаўкружка.*

§ 1031. Да формы вінавальнага склону поўных якасных прыметнікаў узыходзяць прыслоўі з прыстаўкай **у-** і суфіксам **-ую**: *у адкрытую, укругавую, упустую, урассыпную, уручную, усляпую, ухаластую, ушчыльную* і інш. Усе гэтыя прыслоўі, як і прыслоўі аналагічнага словаўтваральнага тыпа з прыстаўкай **на-** (гл. § 1027), адносяцца да размоўнага стылю.

§ 1032. Рад прыслоўяў у сучаснай беларускай мове суадносіцца з формамі вінавальнага склону назоўнікаў, субстантываваных прыметнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў у спалучэнні з прыназоўнікам **за**. Тут вылучаюцца тры словаўтваральныя тыпы.

Першы словаўтваральны тып аб'ядноўвае бяссуфіксныя прыслоўі з прыстаўкай **за-**: *зáраз, зарáз.*

Да другога тыпа адносяцца прыслоўі з гэтай прыстаўкай і суфіксам **-о (-а)**, якія складаюць таксама нешматлікую групу: *заадно, зашто, за-*

*вошта, заніито, нізашто, нізавошта, занівошта, за́відна, за́жыва, за́светла, за́цемна* і некаторыя іншыя.

Прыслоўі гэтага тыпа ад прыметнікаў (*за́відна, за́светла* і інш.) маюць значэнне «за той час, калі яшчэ відно, калі яшчэ цёмна».

У трэці словаўтваральны тып уваходзяць прыслоўі з прыстаўкай **за-** і суфіксам **-і (-ы):** *за́грудкі* (размоўн.), *завочы.*

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 1033. Два непрадуктыўныя тыпы прыслоўяў суадносны з формамі вінавальнага склону ў спалучэнні з прыназоўнікам **пад**. Гэтыя прыслоўі ўтвараюцца толькі ад назоўнікаў.

Да першага тыпа (без суфіксаў і з суфіксам **-у**) адносяцца прыслоўі *падніз, падрад, падчас, падыспад, падвечар (подвечар),* а таксама *пад паху, пад руку, падручку* (размоўн.).

Другі тып уключае прыслоўі з прыстаўкай **пад-** і суфіксам **-і:** *пад рукі, пад пахі, падпашкі* (размоўн.).

Заўвага. Абедзве гэтыя мадэлі ў сучаснай мове яшчэ не сфарміраваліся канчаткова, а таму называць іх словаўтваральнымі тыпамі можна толькі ўмоўна.

§ 1034. З прыстаўкай **па-** ад асноў назоўнікаў і займеннікаў утвараюцца прыслоўі без суфіксаў: *павек* (размоўн.), *паверх, пашто, павошта* (дыялектн.).

Блізкімі да прыслоўяў гэтага тыпа з'яўляюцца і наступныя спалучэнні субстантываваных зборных лічэбнікаў з прыназоўнікам **па:** *па двое, па трое, па чацвёра* і інш. (у асноўным да *па дзесяцера).*

Да гэтага ж тыпа прымыкаюць і прыслоўі *пакуль (покуль, покі), пагэтуль,* дыялектныя *патуль, паўсюль.*

§ 1035. Невялікая група прыслоўяў, суадносных з формамі вінавальнага склону, мае прыстаўку **уз- (ус-)** і змякчаны канцавы зычны (як правіла, шыпячы, які ўтварыўся ад спалучэння суфіксальнага **ь** з канцавым заднеязычным): *узбоч, узвыш, уздоўж, усцяж, ускось* (дыялектн.) і некаторыя іншыя.

Тып мёртвы і непрадуктыўны.

§ 1036. Акрамя разгледжаных вышэй, у сучаснай беларускай мове існуе яшчэ некалькі непрадуктыўных тыпаў словаўтварэння прыслоўяў, суадносных з формамі вінавальнага склону, а іменна прыслоўі з прыстаўкамі **над-, аб- (воб-), паўз-, праз-, цераз-.**

З прыстаўкай **над-** утвараюцца бяссуфіксныя прыслоўі *надвечар, надзвычай.*

З прыстаўкай **аб- (воб-)** утвараюцца бяссуфікснае прыслоўе *вобзем* і прыслоўе з суфіксам **-у (-ю)** *вобземлю.*

З прыстаўкай **паўз-** утвараецца бяссуфікснае прыслоўе *паўзверх,* а таксама блізкія да прыслоўяў прыназоўнікава-іменныя канструкцыі *паўз бок, паўз край.*

У адзін словаўтваральны тып аб'ядноўваюцца прыслоўі з прыстаўкамі **праз-** і **цераз-** і суфіксам **-у:** *празмеру, цераз меру* (размоўн.).

§ 1037. Да прыслоўяў, суадносных з формамі вінавальнага склону, прымыкае яшчэ адзін словаўтваральны тып — адзайменнікавыя прыслоўі з прыстаўкай **з- (с-):** *столькі, сколькі* (прычым у сучаснай беларускай мове нормай з'яўляецца ўжыванне прыслоўя *колькі* ў значэнні руск. *сколько;* прыслоўе ж *сколькі* кваліфікуецца як дыялектнае).

## *Прыслоўі, суадносныя з формамі творнага склону*

§ 1038. Прыслоўяў, суадносных з формамі творнага склону, у сучаснай беларускай мове нямнога. Могуць адвербіялізавацца назоўнікі і некаторыя займеннікі ў спалучэнні з прыназоўнікамі **з, за, пад.** У адпаведнасці з гэтым вылучаецца некалькі непрадуктыўных і надзвычай бедных лексічна тыпаў словаўтварэння:

1. З прыстаўкай **з-** і суфіксам **-ім** існуе прыслоўе *зусім* (дыялектн. *заўсім, саўсім*).

Блізкімі да прыслоўяў па функцыі з'яўляюцца прыназоўнікава-іменныя канструкцыі *з часам, з часамі* ў такім іх ужыванні: *Веру, шчасце з ч а с а м сюды завітае, будзе не балота — ніва залатая!* (М. К л і м к о в і ч. Пераклад з Я. Лучыны. «Абразкі з палявання»). *Папраўдзе сказаць, з першага погляду трудна было пазнаць, што гэта за штука, і толькі прывычнае вока магло пазнаць, што гэта расліна стане з ч а с а м і дрэвам, тым заўсёды зялёным дрэвам, што завецца хвояю* (Я. К о л а с. Сірата-Юрка).

2. З прыстаўкай **за-** і суфіксам **-ым** існуюць прыслоўі *затым, загэтым, зачым.*

Ужыванне прыслоўяў *затым, загэтым, зачым* у сучаснай беларускай мове з'яўляецца адхіленнем ад нормы. Гэтыя прыслоўі бытавалі ў мове мастацкай літаратуры 20—30 гадоў XX ст. У сучаснай жа літаратурнай мове з такім значэннем ужываюцца прыслоўі *таму, чаму.*

3. З прыстаўкай **пад-** і суфіксам **-ам** існуе прыслоўе *падыспадам (падысподам).* Па функцыі да яго набліжаецца прыназоўнікава-іменная канструкцыя *пад пахай.*

## *Прыслоўі, суадносныя з формамі меснага склону*

§ 1039. Утварэнне прыслоўяў з прыназоўнікава-іменных канструкцый, дзе імя мае форму меснага склону, у сучаснай беларускай мове з'яўляецца прадуктыўным працэсам. Аднак ступень прадуктыўнасці ў даным выпадку меншая, чым пры ўтварэнні прыслоўяў ад форм імён вінавальнага склону з прыназоўнікамі. У сувязі з гэтым і колькасць прыслоўяў, суадносных з формамі меснага склону, меншая.

§ 1040. Ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў з прыстаўкай **на-** і суфіксамі **-е, -і (-ы)** утвараюцца прыслоўі *наверсе, наводшыбе, наперадзе, нарэшце, напагатове, напрадвесні, напярэдадні, наройні (нарайне), нагары* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Блізкімі да прыслоўяў з'яўляюцца спалучэнні прыназоўніка **на** і назоўнікаў у форме меснага склону з канчаткам **-у:** *на бягу, на відавоку (на відоку), на віду, на воку, на досвітку, на змроку, на ляту, на пачатку, на хаду* і інш.

§ 1041. З прыстаўкай **у-** і суфіксамі **-е, -і (-ы)** ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў утвораны прыслоўі *ўверсе, увогуле, унізе, уперадзе, урэшце, усярэдзіне, удвайне; уводдалі, увысі, удалі, уранні, увечары, угары, уначы (уночы), унутры* і інш.

Да гэтага ж словаўтваральнага тыпа адносяцца і прыслоўі з суфіксам **-у:** *убаку, уваччу,* а таксама прыслоўі ад іменных асноў, у склад якіх уваходзіць суфікс **-к-:** *узімку, улетку, упачатку, употайку, упоцемку (упацёмку), упрыцемку* і інш.

Тып малапрадуктыўны.

Ад формы меснага склону назоўнікаў множнага ліку з прыназоўнікам **у** ў беларускай літаратурнай мове ўтварылася толькі прыслоўе *ўпоцемках.*

Падтып непрадуктыўны.

Да прыслоўяў гэтага падтыпа набліжаюцца некаторыя спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія маюць значэнне месцазнаходжання або часу: *у галавах, у нагах, у вяках* і інш.

*І слой густы драбнюсенькага пылу спакойненька паслаўся ў г а л а в а х* (Я. К о л а с. На пералётах). *А ўсё ж такі нашаму брату-райкомшчыку трэба помнік паставіць у в я к а х* (М. Л у ж а н і н. Пераклад з А. Фадзеева. «Маладая гвардыя»).

§ 1042. Ад асноў субстантываваных колькасных і зборных лічэбнікаў з прыстаўкай **у-** і суфіксамі **-ух, -ох, -ёх, -іх (-ых)** утвараюцца прыслоўі *удвух* (для жаночага роду — *удзвюх*), *утрох, учатырох, упяцёх* і г. д.; *удваіх, утраіх, учацвярых, упяцярых, ушасцярых* і г. д.

Тып жывы, аднак лексічная база для ўтварэння падобных прыслоўяў даволі абмежаваная. Зборныя лічэбнікі *дзесяцера, дванаццацера* і далей у сучаснай беларускай мове, як вядома, сустракаюцца нячаста, таму рэдка ўжываюцца і адпаведныя прыслоўі. Але ў мове мастацкай літаратуры могуць сустракацца нават такія прыслоўі, як *удваццацярых*. Напрыклад: *«На адчыненыя сходы мы будзем прыходзіць увасьмярых. Тут са мною яшчэ сем хлапцоў. Усе яны, мяркую, могуць стаць камсамольцамі». — «Хоць удваццацярых», — сказаў сакратар* (А. Кулакоўскі. Гартаванне).

Нормай для беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца наступнае ўжыванне разглядаемых прыслоўяў у сказах, дзе гутарка ідзе аб мужчынах: *удвух, утрох* і інш.; аб жанчынах: *удзвюх, утраіх, учацвярых* і інш.; аб жанчынах і мужчынах разам, а таксама аб дзецях (або наогул аб маладых істотах): *удваіх, утраіх* і інш.

Заўвага. Па аналогіі з канчаткам **-ох** лічэбнікаў *тры, чатыры* і г. д. у форме меснага склону ўзнік такі ж канчатак і ў лічэбніках *два, дзве* (гл. § 646). У сувязі з гэтым як варыянты прыслоўяў *удвух, удзвюх* ужываюцца і прыслоўі *ўдвох, удзвёх*.

§ 1043. Адносна невялікая колькасць прыслоўяў утвараецца ад асноў назоўнікаў і субстантываваных прыметнікаў з прыстаўкай **па-** і суфіксамі **-е, -і (-ы), -у, -ю.** Да гэтага малапрадуктыўнага тыпа адносяцца прыслоўі *паверсе, паперадзе, папраўдзе, пасярэдзіне, паволі, паняволі, пароўні, порайні, паначы (поначы), понізу, папарадку, папацёмку (папоцемку), пападлавіччу, пападстрэшшу, пападвоканню, пазавуголлю* і некаторыя іншыя.

Сюды прымыкае рад прыназоўнікава-іменных канструкцый, якія з'яўляюцца блізкімі да прыведзеных вышэй прыслоўяў па значэнню: *па часе, па душы, па праву, па шчырасці* і інш.

*«А стралец, што падбіў качку, не быў вінаваты? — ціха пытае Аўгіня і кажа: — Але гаварыць аб гэтым цяпер па часе»* (Я. Колас. Дрыгва). *Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям — пойны гуслі насыплю дукатаў* (Я. Купала. Курган). *І слава добрая наўкруг ідзе аб нас па праву, бо наша слава, шчыры друг, — Радзімы нашай слава* (П. Глебка. Радзімы нашай слава). *Скажы мне па шчырасці: зловяць гэтага гада ці не?* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

§ 1044. З прыстаўкай **па- (по-)** і суфіксам **-ом (-ым)** у беларускай мове ёсць толькі адно адзайменнікавае прыслоўе *потым* (дыялектн. *патом*).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры слова *патом* звычайна ўжываецца як часціца са значэннем «усё-такі»: *Бывала (веры ці дасце?), ясі, а ў роце аж расце, але ясі патом: адмовішся — бяда!* (К. Крапіва. Еж, дурань, бо то з макам).

§ 1045. Ад асноў назоўнікаў з прыстаўкай **а-** і суфіксам **-і (-ы)** у беларускай мове ўтварыліся два прыслоўі: *апайдні (апоўдні), апоўначы (апаўночы)*.

Тып непрадуктыўны.

## ПРЫСТАВАЧНЫ СПОСАБ УТВАРЭННЯ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 1046. Разам з адвербіялізацыяй прыназоўнікава-іменных канструкцый у сучаснай беларускай мове актыўна праходзіць працэс пераходу ў прыслоўі прыназоўнікавых канструкцый, дзе замест імені ўжываецца нескланяльнае субстантываванае слова, у прыватнасці прыслоўе. У гэтым выпадку прыназоўнік ператвараецца ў прыстаўку.

Пры ўтварэнні прыслоўяў прыставачным спосабам выдзяляецца шэсць словаўтваральных тыпаў у адпаведнасці з прыстаўкамі **на-**, **у-**, **за-**, **па-**, **паза-** і **пасля-**.

§ 1047. З прыстаўкай **на-** ад прыслоўяў розных словаўтваральных тыпаў (у тым ліку і ад невытворных прыслоўяў) у сучаснай беларускай мове адбываецца інтэнсіўнае ўтварэнне новых прыслоўяў. Да гэтага тыпа адносяцца: *наабапал, наводдаль, навокал (навокала, навакол), надалей, назаўжды, назаўсёды, назаўтра, назусім, напоперак, напотым, напроціў, наскрозь, настолькі, насупраць, наўдагад, наўзбоч, наўздагад, наўздагон, наўздоўж, наўкол, наўкруг, наўпрасткі, наўпрост, наўсцяж* і інш.

§ 1048. З прыстаўкай **у-** ад прыслоўяў розных словаўтваральных тыпаў утварыліся наступныя прыслоўі: *удвойчы, утройчы, упоперак, употай* і некаторыя іншыя.

Тып малапрадуктыўны.

§ 1049. З прыстаўкай **за-** пераважна ад невытворных прыслоўяў утвараюцца новыя прыслоўі *залетась, заўчора* і інш. (прыстаўка **за-** мае значэнне «пасля»).

Тып малапрадуктыўны.

Да гэтага ж тыпа адносяцца і прыслоўі, якія ўтвараюцца ад прыслоўяў на **-о (-а, -е)**, суадносных з формамі назоўна-вінавальнага склону нячленных прыметнікаў: *завысока, заглыбока, загуста, задаўна, задоўга, задужа, залішне, замоцна, замала, зарана, зараней, затанна* і інш., а таксама *завельмі, зашмат, занадта* (прыстаўка **за-** надае слову значэнне непаўнаты прызнака або большай ступені прызнака).

Утварэнне названых прыслоўяў адбываецца пад уплывам дыялектаў, аднак ужыванне іх нельга яшчэ лічыць літаратурнай нормай, хоць яны даволі часта сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры.

§ 1050. З прыстаўкай **па-** ўтвараецца прыслоўе *паабапал*.

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры XIX і 20—30-х гадоў XX стагоддзя ўжываліся таксама дыялектныя прыслоўі *падвойчы, пазаўтра, паўсюды* і інш., якія не замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы.

§ 1051. Прыслоўі з прыстаўкамі **паза-** і **пасля-** ўтвараюць наступныя непрадуктыўныя тыпы: а) з прыстаўкай **паза-**: *пазалетась* і *пазаўчора*; б) з прыстаўкай **пасля-**: *паслязаўтра*.

## *СПОСАБ СЛОВАСКЛАДАННЯ ПРЫСЛОЎЯЎ*

§ 1052. Спосаб словаскладання пры ўтварэнні прыслоўяў займае значна меншае месца, чым спосабы афіксацыі (суфіксальны, прыставачна-суфіксальны і прыставачны). Складаныя прыслоўі ў сучаснай беларускай мове па сваёй структуры можна падзяліць на тры групы:

а) прыслоўі, утвораныя шляхам зліцця займенніка з назоўнікам;

б) прыслоўі, утвораныя шляхам паўтарэння аднолькавых або блізкіх слоў;

в) прыслоўі, утвораныя ад фразеалагізмаў шляхам зліцця састаўных элементаў яго ў адно слова.

Да апошняй групы цесна прымыкае даволі вялікі разрад фразеалагізмаў, якія ў сучаснай беларускай мове ўжываюцца ў ролі прыслоўяў. Гэтыя фразеалагізмы і з'яўляюцца словаўтваральнай базай для ўтварэння складаных прыслоўяў апошняй групы.

### ***Прыслоўі, утвораныя шляхам зліцця займенніка з назоўнікам***

§ 1053. Ад зліцця займенніка **што** з назоўнікам у форме вінавальнага склону ўтварыліся прыслоўі *штовечар, штогод, штодзень, штолета, што-*

*месяц, штомінуту, штоноч, штоночку, шторання, штораз, штохвіліну* і інш.

У гэтых прыслоўях займеннік **што** ўжываецца ў значэнні «кожны».

Паралельна з прыслоўямі, у склад якіх уваходзіць форма вінавальнага склону назоўніка, у сучаснай беларускай мове ўжываюцца прыслоўі з формай роднага склону гэтых жа назоўнікаў: *штогоду, штодня, штомінуты, штонóчы, штотыдня, штохвіліны* і інш.

Усе прыслоўі гэтага тыпа маюць чáсавае значэнне. Такое ж значэнне маюць і назоўнікі, якія ўваходзяць у склад названых прыслоўяў.

Тып жывы, але малапрадуктыўны.

§ 1054. Ад зліцця ў адно слова займенніка **сёй** у форме роднага склону з назоўнікамі *дзень* і *лета* ў форме гэтага ж склону ўтварыліся прыслоўі *сягоння (сягодня)* і *сяголета.*

Тып непрадуктыўны.

## *Прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння аднолькавых або блізкіх слоў*

§ 1055. Шляхам спалучэння аднолькавых прыслоўяў з далучэннем адмоўя **не** або **ні** да другога кампанента ўтварыліся складаныя прыслоўі *воляй-няволяй, дзе-нéдзе, дзе-нідзé, калі-нікалі, як-ніяк* і інш.

Тып непрадуктыўны.

§ 1056. Шляхам спалучэння імені ў форме назоўнага склону з гэтым жа словам у форме творнага склону ўтварыліся словазлучэнні, якія набліжаюцца да складаных слоў і выконваюць функцыю прыслоўяў: *адзін-адным, век-векам (век-вяком), час-часам, чын-чынам* і інш.

Тып непрадуктыўны. Да гэтага ж тыпа прымыкаюць і такія словазлучэнні ў функцыі прыслоўяў, як *даўным-даўно, даўным-даўнюсенька, паўным-паўнюсенька* і некаторыя іншыя.

## *Складаныя прыслоўі якія паходзяць ад фразеалагічных адзінак і сінтаксічных спалучэнняў слоў. Фразеалагізмы ў ролі прыслоўяў*

§ 1057. Невялікая колькасць прыслоўяў утварылася ў сучаснай беларускай мове ад зліцця ў адно слова кампанентаў фразеалагічнай адзінкі або ад свабодных сінтаксічных спалучэнняў: *раз-пóразу (раз-пóраз), перш-нáперш, крыж-нáкрыж, сам-нáсам, шыта-крыта, шыварат-навыварат, далей-болей, стократ* і некаторыя іншыя. У радзе фразеалагізмаў адбылося няпоўнае зліццё кампанентаў: *спакон вякоў, спакон веку, здаўных давён* і інш.

§ 1058. У ролі прыслоўяў у сучаснай беларускай мове шырока ўжываюцца фразеалагічныя адзінкі самых разнастайных тыпаў. Сюды, у прыватнасці, адносяцца:

1. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць адно і тое ж слова ў розных склонавых формах з прыназоўнікамі: *вока ў вока, год у год, двор у двор, дзень у дзень, душа ў душу, жменя ў жменю, крок у крок, кропка ў кропку, кропля ў кроплю, лоб у лоб, морда ў морду, нага ў нагу, натура ў натуру, раз у раз, рука ў руку, слова ў слова, след у след, хата ў хату, цюцелька ў цюцельку; адзін за адным, крок за крокам, раз за разам; вокам к воку, носам к носу; з дня на дзень, з часу на час, з мінуты на мінуту; з году ў год, з дня ў дзень; год ад году, час ад часу; дзень пры дні, век ад веку* і інш.

2. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць апорнае слова або субстантываванае словазлучэнне з прыназоўнікам (апорнае слова можа мець дапасаванае азначэнне або кіруемае дапаўненне): *па яго, па душы (не па яго, не па душы); без дай рады, без дай рацыі, без дай прычыны; за мілую душу; у адзін міг, у адзін мах, у самы раз; на ўсе лады, на*

*сваe вочы, на скорую руку, на горкі яблык, на ўсю сілу; на злом шыі, на злом галавы, на скрут галавы; скрозь пальцы; за малаком; па канец рук* і інш.

3. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць злучнік і дзеяслоў у якасці апорнага слова: *як бачыш (як бач), як мага, як след (з як следуе), як стой, як мае быць, як належыць, як ні ў чым не бывала; дзе папала, як папала, куды папала; куды вочы глядзяць, куды вецер падзьме, куды след (з куды следуе)* і інш.

4. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць прыслоўе меры і безасабова-прэдыкатыўнае слова: *ледзь бачна, ледзь прыкметна, ледзь улоўна, ледзь чутна; чуць значна, чуць прыкметна* і інш.

Гэтыя ўстойлівыя словазлучэнні ўтварыліся шляхам згортвання галоўнай часткі складаназалежнага сказа і ператварэння яе ў член простага сказа.

Блізкімі да такіх па свайму паходжанню з'яўляюцца і *чуць дзень, чуць золак, чуць зара* і інш.

5. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць безасабова-прэдыкатыўнае слова (або якое-небудзь іншае слова ці словазлучэнне, якое мела прэдыкатыўную функцыю) і падпарадкавальны злучнік: *дарма што, дзіва што, немаведама што, страх што, сама што, толькі што, пакуль што; мала калі, рэдка калі; рэдка дзе, чорт ведае дзе, мала дзе, часта дзе, многа дзе; немаведама куды; сам не ведаючы куды; мала як, немаведама як* і інш.

Па свайму паходжанню гэтыя фразеалагізмы таксама з'яўляюцца згорнутай галоўнай часткай складаназалежнага сказа ў спалучэнні з падпарадкавальным злучнікам.

6. Фразеалагізмы, у склад якіх уваходзіць назоўнік з ча́савым значэннем (або колькасна-іменнае словазлучэнне) і займеннік *таму: тыдзень таму, гадоў тры таму, год таму з паўсотні, тры тыдні таму, з тыдзень таму, трыста гадоў таму назад* і інш.

Акрамя названых груп фразеалагізмаў, у ролі прыслоўяў могуць ужывацца і такія ўстойлівыя словазлучэнні, як *адным махам, на чым свет стаіць, з бухты-барахты* і шмат іншых.

## ***ПЕРАХОД НЯЗМЕННЫХ ЧАСЦІН МОВЫ Ў ПРЫСЛОЎІ***

### ***Пераход дзеепрыслоўяў у прыслоўі***

§ 1059. Пры ўмове поўнай страты асноўных дзеяслоўных прызнакаў — відавога значэння і здольнасці кіраваць дапаўненнем — дзеепрыслоўе ў сказе можа выконваць ролю прыслоўя.

У сучаснай беларускай мове адвербіялізацыі падвяргаюцца ў асноўным дзеепрыслоўі незакончанага трывання з суфіксамі **-ачы (-ячы), -учы (-ючы)**: *гледзячы, дзелячы, лежачы, марудзячы, пераходзячы, седзячы, стоячы, хвалячы, ходзячы, бегучы, ведаючы, гаруючы, гуляючы, е́дучы, жартуючы, жывучы, ідучы, пеючы, плачучы, пытаючы, спяшаючы, умеючы, устаючы, хочучы, храпучы* і інш.

Звычайна дзеепрыслоўе можа пераходзіць у прыслоўе ў становішчы непасрэдна пасля таго дзеяслова, да якога яно адносіцца.

*Некалькі хвілін любаваўся ён Лідачкаю, стаяў, не варушачыся, каб не заўважыла яна, што на яе глядзяць і цешацца* *г л е д з я ч ы* (Я. К о л а с. На ростанях). *Сайка памкнуўся быў, каб устаць, але перадумаў і адказаў госцю* *л е ж а ч ы* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Сваю работу кіне, а калі па сельсавецкай справе што трэба — зробіць не* *м а р у д з я ч ы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

У рэдкіх выпадках адвербіялізацыя дзеепрыслоўя можа адбывацца і ў тым выпадку, калі дзеепрыслоўе стаіць перад дзеясловам, да якога яно адносіцца.

*А хлопец — я вам не х в а л я ч ы скажу — не благі* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). *І д у ч ы казала маці: «Ноч, адна ноч загубіла!..»* (Я. К о л а с. Сымон-музыка). *Анямелыя ногі падгіналіся і н я ў м е ю ч ы становіліся на зямлю* (Я. С к р ы г а н. Сустрэчы).

Пераход дзеепрыслоўяў незакончанага трывання ў прыслоўі—працэс малапрадуктыўны.

§ 1060. Адвербіялізацыя зваротнай формы дзеепрыслоўяў незакончанага трывання — яшчэ больш рэдкая з'ява ў сучаснай беларускай мове. Пераход зваротных форм дзеепрыслоўяў у прыслоўі можа адбывацца пераважна ў такім становішчы, калі дзеепрыслоўе знаходзіцца пасля дзеяслова.

*Мы толькі першыя загаварылі аб гэтым моцна, не б а ю ч ы с я* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *Максім зноў заняў сваю варту, а дзед Талаш і Мартын Рыль прылеглі не р а з д з е ю ч ы с я* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Па Бараўской дарозе ідзе чалавек. Нізкі, нятоўсты, ён ідзе не с п я ш а ю ч ы с я, лёгка ступаючы па пескавой дарозе* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

Пераход у прыслоўе зваротнай формы дзеепрыслоўяў незакончанага трывання ў становішчы перад дзеясловам назіраецца толькі ў адзінкавых выпадках. Можна адзначыць такія прыслоўі, як *спяшаючыся, пытаючыся, заліваючыся, крадучыся* і інш.

*Часу зусім выстарчала для таго, каб не с п я ш а ю ч ы с я прыйсці ў тэрмін на ўмоўленае месца* (Я. К о л а с. Дрыгва). *У дачкі хоць згоды пытаюцца, а мяне дык не п ы т а ю ч ы с я забіраюць, ласку робячы* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі).

Як відаць з прыкладаў, адвербіялізацыя зваротнай формы дзеепрыслоўяў праходзіць лягчэй, калі гэтыя дзеепрыслоўі маюць пры сабе адмоўную часціцу **не.**

§ 1061. Пераход у прыслоўі як незваротнай, так і зваротнай формы дзеепрыслоўяў закончанага трывання з суфіксамі **-уш-, -ш-** — працэс значна менш прадуктыўны, чым адвербіялізацыя дзеепрыслоўяў незакончанага трывання. У ролі прыслоўя могуць выступаць толькі адзіночныя дзеепрыслоўі прошлага часу з непераходным значэннем, калі яны стаяць пасля дзеяслова.

*Гушка ўсё стаяў с у м е ў ш ы с я* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *Галена сядзіць с ц і ш ы ў ш ы с я ля парога і ля яе сядзіць Іллюк* (К. Ч о р н ы. Вясна).

### Пераход часціц у прыслоўі

§ 1062. Пры ўмове эліптычнага ўжывання некаторых часціц апошнія могуць у сказе выконваць функцыю прыслоўяў. Пры гэтым з мэтай узмацнення значэння часціцы могуць паўтарацца.

*Кабылка пляцецца а б ы-а б ы..., трухціць і спатыкаецца, чапляючыся падковай за падкову* (Я. Б р ы л ь. Казачок). *Лагодны вечар, ціхі, вераснёвы. Кучомкі хвой замлелі ў цішыні, і мой дубок не зрушыцца н і-н і, і я пішу, ніжу на слова словы* (Я. К о л а с. У вераснёўскі вечар). *Як вярнулася, тым часам, каб не даць а н і згуляць, накармілі бульбай з квасам, ды паслалі жыта жаць* (П. Б р о ў к а. Кацярына).

## ПРЭДЫКАТЫЎНЫЯ ПРЫСЛОЎІ

§ 1063. Прыслоўе, якое выконвае функцыю выказніка ў безасабовым сказе, пераходзіць у катэгорыю безасабова-прэдыкатыўных слоў (так званую катэгорыю стану). Такія прыслоўі маюць аналітычныя формы часу (у спалучэнні з адпаведнымі формамі звязкі *быць, стаць* і інш.;

для цяперашняга часу — без звязкі) і звычайна абазначаюць стан прыроды або акаляючага асяроддзя (*зімой* *х о л а д н а*, *раніцой было* *п а р н а*, *вечарам будзе* *м е с я ч н а*), суб'ектыўную ацэнку якога-небудзь стану ў розных адносінах (*у лесе было* *п р ы г о ж а*, *уставаць яшчэ* *р а н а*, *дамоў мне* *д а л ё к а*), фізічны і псіхічны стан чалавека або іншай жывой істоты (*раненаму было* *б а л ю ч а*, *яму стала* *с т р а ш н а*) або маюць агульнае значэнне павіннасці, неабходнасці, магчымасці і г. д. (*можна, нельга, неабходна, патрэбна*).

Прэдыкатыўныя прыслоўі адрозніваюцца ад прыслоўяў і сваімі сінтаксічнымі сувязямі ў сказе. Так, прэдыкатыўныя прыслоўі маюць уласцівасць кіраваць дапаўненнем, патрабуючы формы давальнага склону. Напрыклад: *«Вам* *б а л ю ч а?»* — *нахіляючыся над «брычкай», заклапочана пытаў Андрэй* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга).

§ 1064. Большасць прэдыкатыўных прыслоўяў аманімічна адпрыметнікавым прыслоўям з суфіксам **-о (-а, -е)**: *адзінока, балюча, бедна, беспрасветна, беспрытульна, блага, блізка, боязна, брыдка, бязлюдна, бяспечна, весела, воблачна, вольна, галодна, глуха, гожа, гола, горка, горна, грэшна, густа, далёка, дзіка, дзіўна (дзіўно), добра, дрэнна, душна, дымна, жудасна, жудка, зайздросна, зелена, зімна, злосна, змрочна, золка, зразумела, зябка, кепска, крута, крыўдна, лагодна, лёгка, люба, людна, маркотна, марна, марозна, мёртва, міла, млосна, млява, моташна, мулка, нудліва, нудна, падазрона, позна, прасторна, прывольна, прыгожа, прыемна, прыкра, прыстойна, прытульна, пуста, радасна, раздольна, рана, рызыкоўна, свабодна, светла, скупа, смешна, смутна, соладка, сорамна, спакойна, строга, сумна, сцішна, сыра, сыта, сярдзіта, танна, тлумна, трывожна, утульна, хмарна, хмурна, холадна, хораша, цёмна, цёпла, цесна, цікава, ціха, цьмяна, цяжка, чадна, чорна, чынна, шчасліва, ярка, ясна* і інш.

*Ц і х а* *ў полі,* *а д з і н о к а*, *штось на сэрцы* *г о р к а* (Я. К о л а с. На крыжовых дарогах). *Ёсць у мяне ў хаце месца парасяці, і кароўка стаіць — будзе* *б л і з к а* *даіць* (К. К р а п і в а. Партызаны). *С ц і ш н а* *над возерам,* *в о б л а ч н а* *ў небе...* (Я. К у п а л а. Лясное возера). *Д о б р а* *ў лузе ў час палудны!* *Л ё г к а* *там дыхнуць* (Я. К о л а с. На лузе).

Многія з пералічаных вышэй безасабова-прэдыкатыўных слоў некалькі адрозніваюцца ад аманімічных ім прыслоўяў па сістэме сваіх лексічных значэнняў. Так, калі ў прыслоўі (пры параўнанні яго з адпаведным прыметнікам) у якасці асноўнага значэння выступае часцей за ўсё адно з пераносных значэнняў, то ў безасабова-прэдыкатыўным слове прамое значэнне і застаецца асноўным. Параўн.: *ц ё п л а е* *надвор'е* — *ц ё п л а* *прывітаць,* *ц ё п л а* *сустрэць* — *на дварэ стала* *ц ё п л а*; *т у м а н н ы* *дзень* — *т у м а н н а* *гаварыць* — *раптам стала* *т у м а н н а* і інш.

Усе безасабова-прэдыкатыўныя словы, якія аманімічны адпрыметнікавым прыслоўям на **-о (-а, -е)**, маюць формы ступеней параўнання: *бядней, брыдчэй, глушэй, менш, горш, больш зразумела, менш адзінока, найпрыгажэй, найспакайней, вельмі сорамна, надта смешна* і інш.

Многія прэдыкатыўныя прыслоўі маюць формы суб'ектыўнай ацэнкі: *добранька, прыгожанька, ціхусенька, сумнавата, дзікавата* і інш. Спосабы ўтварэння форм ступеней параўнання і суб'ектыўнай ацэнкі прэдыкатыўных прыслоўяў такія ж, як і звычайных прыслоўяў (гл. § 995 — 1000).

З а ў в а г а. Рад безасабова-прэдыкатыўных слоў на **-о (-а, -е)** не мае адпаведных амонімаў сярод прыслоўяў, напрыклад: *варта, відно, вядома, патрэбна, чутно* і інш.

*В я д о м а* *стала, што прыйшла пара вялікага выпрабавання, смутку, упартасці, непахіснасці і непакорнасці* (К. Ч о р н ы. Народная нянавісць). *Сціхнуў шум на калідоры, не* *ч у т н о* *гаворкі, на замок запёрты крэпка цесныя каморкі* (Я. К о л а с. Сціхнуў шум на калідоры...).

§ 1065. У функцыі выказніка безасабовага сказа ўжываюцца і прыслоўі іншых словаўтваральных тыпаў: *годзе, даволі, дарэчы, досыць, некалі, неўпрыкметку, ніпачым, няўцям* (размоўн.) і інш.

*А зіма аж пачарнела — г о д з е ёй тут кросны ткаць!..* (Я. К о л а с. Песня аб вясне). *Ачніцеся, людзі, ад доўгага сну, зніміце павязку з вачэй. Д а в о л і цярпець вам няпраўду,ману, паіць сваёй кроўю чарвей!* (Я. К о л а с. Да зброі за волю!). *І зямлю мы разгародзім, межы выкінем з палёў, жыць замкнута д о с ы ц ь, г о д з е!* (Я. К о л а с. Калгаснае). *Ні дождж гэты буй мне н е ў п р ы к м е т к у, ні холад* (А. К у л а к о ў с к і. Расстаёмся ненадоўга).

## НАЦІСК У ПРЫСЛОЎЯХ

§ 1066. Акцэнталагічная сістэма прыслоўяў як катэгорыі слоў вытворных знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад акцэнталагічнай сістэмы іншых часцін мовы. Большасць прыслоўяў, асабліва тых, якія адносяцца да жывых і прадуктыўных тыпаў словаўтварэння, захоўваюць націск, уласцівы таму слову, ад якога ўтварылася пэўнае прыслоўе. Так, усе прыслоўі, якія ўтвараюцца па жывых тыпах ад дзеяслоўных форм (дзеепрыслоўяў) і ад прыслоўяў, захоўваюць тое ж месца націску, што і ў адпаведных дзеепрыслоўях або прыслоўях.

І толькі ў невялікай часткі прыслоўяў больш старажытнага паходжання месца націску можа быць іншым, чым у слове, ад якога паходзіць тое або іншае прыслоўе.

У прыслоўях найбольш старажытнага паходжання сістэму націску вызначыць яшчэ цяжэй: у такіх прыслоўях націск, як правіла, індывідуальны. У гэту групу ўваходзяць перш за ўсё прыслоўі, якія з пункту погляду сучаснай мовы з'яўляюцца невытворнымі: *пасля́, спакваля́, учо́ра, іна́кш, кагадзе́, калі́* (але *нікóлі, нéкалі*), *куды́* (але *нікýды, нéкуды*), *сюды́, туды́, усю́ды, тады́, нідзé, нéдзе, яшчэ́, гóдзе, нéхаця, абáпал, абéруч, басанóж, мімахóдзь* і інш. У групе невытворных выдзяляецца некалькі прыслоўяў, у якіх націск перацягваецца на першы склад (этымалагічна — на прыстаўку): *вóкал, дóсыць, зáпар, зáўтра, нáдта, нáсцеж, нáшча, пóбач, пóбліз, пóплеч, пóруч* і некаторыя іншыя.

### *Націск у адназоўнікавых прыслоўях*

§ 1067. У прыслоўях, утвораных суфіксальным спосабам ад назоўнікаў, націск застаецца на тым жа складзе, што і ў адпаведнай склонавай форме назоўніка. Пэўнае разыходжанне ёсць толькі ў тыпе прыслоўяў, суадносных з формамі творнага склону. Гэта разыходжанне заключаецца ў тым, што ў невялікай групе прыслоўяў можа быць дваякі націск — на корані (як у назоўнікаў): *бéгам, вéрхам, вéчарам, гýртам, рáніцай* і на суфіксе: *бягóм, вярхóм, вечарóм, гуртóм, раніцóй*. Націск на суфіксе ў прыслоўях *вечарóм, гуртóм* уласцівы размоўным стылям, а ў прыслоўях *бягóм, вярхóм, раніцóй* з'яўляецца літаратурнай нормай.

§ 1068. У прыслоўях, утвораных прэфіксальна-суфіксальным спосабам ад назоўнікаў, націск у асноўным таксама застаецца на тым жа месцы, што і ў адпаведнай склонавай форме назоўніка, які ўваходзіў у адвербіялізаваную прыназоўнікава-іменную канструкцыю. Аднак у некаторых прыслоўях націск пераходзіць на прыстаўку: *вóбзем, вóбземлю, зáраз, зáгрудкі, нáкрыж, нáкрыжкі, нáнач, сóсмеху, сóсну*. У радзе прыслоўяў націск можа быць дваякім — на прыстаўцы і на корані; націск на прыстаўцы не з'яўляецца літаратурнай нормай: *дóсвету, пóўзверх, пóверх, пóдвечар, пóдчас, пóначы*.

§ 1069. У прыслоўях з суфіксам **-о (-а, -е)**, суадносных з кароткімі прыметнікамі, месца націску ў пераважнай большасці слоў такое ж, як і ў адпаведных поўных прыметніках.

У невялікай групе двухскладовых прыслоўяў, якім адпавядаюць двухскладовыя прыметнікі (у форме мужчынскага роду) з націскам на канчатку, націск пераходзіць на першы склад: *глýха, гýста, жы́ва, крýта, кры́ва, мáла, нéма, слéпа, сýха, тýга, тýпа.* Месца націску ў гэтых словах абумоўлена паходжаннем іх з форм кароткіх прыметнікаў ніякага роду, якія мелі націск на аснове. У некаторых трохскладовых прыслоўях націск пераносіцца на першы склад *(вéсела, здóрава, зéлена, мóлада, сóладка, хóраша)*, між тым як у адпаведных прыметніках націск падае або на канчатак, або на склад, які знаходзіцца перад канчаткам.

З націскам на суфіксе ў сучаснай беларускай мове ўжываюцца прыслоўі *даўнó* (літаратурная норма) і *сараматнó* (размоўн.), а таксама прыслоўе *дзіўнó* (як норма гэта слова ўжываецца з націскам на корані: *дзíўна)*.

У размоўным стылі, які знаходзіць адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры, ужываюцца і прыслоўі *вы́сака, глы́бака, шы́рака.* Літаратурнай нормай трэба лічыць націск на другім складзе: *высóка, глыбóка, шырóка.*

Націск у формах суб'ектыўнай ацэнкі і ступеней параўнання якасных прыслоўяў амаль поўнасцю супадае з націскам у адпаведных формах суб'ектыўнай ацэнкі і ступеней параўнання якасных прыметнікаў. Адрозніваецца месцам націску толькі форма *хóрашанька* (параўн. у прыметніку *харóшанькі)*.

§ 1070. Ва ўсіх астатніх адпрыметнікавых прыслоўях (акрамя прыслоўяў з суфіксам **-о (-а, -е)**, суадносных з формамі кароткіх прыметнікаў) націск у асноўным падае на той жа склад, што і ў адпаведных прыметніках: *важнéцкі* сыграў — *важнéцкая* ігра, *чырвóна — чырвóны, здалёку — далёкі, паціху — ціхі, упрáва — прáвы, па-салдáцку — салдáцкі, насмéлую — смéлы* і інш.

Аднак у радзе груп націск пры ўтварэнні прыслоўя пераходзіць з кораня слова на прыстаўку або суфікс.

З націскам на прыстаўцы ўжываюцца прыслоўі *сóслепу, ззáмаладу, пóблізу, пóвідну, зáвідна, зáцемна, зáжыва, зáсветла,* а таксама *нáнава.*

З націскам на суфіксе ўжываюцца прыслоўі ад субстантываваных форм поўных якасных прыметнікаў: *ушчыльнýю, упустýю, ухаластýю, урассыпнýю* і інш. (але з прыстаўкай **на-** месца націску ў параўнанні з прыметнікам не мяняецца: *насляпóе, насмéлую)*.

Дваякі націск на корані (як у адпаведных прыметніках) і на суфіксе маюць некаторыя прыслоўі, суадносныя з формамі роднага склону субстантываваных кароткіх прыметнікаў: *дачы́ста — дачыстá, дасы́та — дасытá, дагóла — дагалá, дабéла — дабялá, дап'я́на — дап'янá, здáўна — здаўнá, звысóка — звысакá, сціха — сціхá, знóва — знавá.*

Літаратурнай нормай у такіх прыслоўях, як правіла, будзе націск на корані. Аднак у прыслоўях *дагалá, дабялá* нормай лічыцца націск на суфіксе, а прыслоўі *знóва (знóву, зноў)* і *знавá* дыферэнцыраваліся па значэнню.

У некаторых прыслоўях прэфіксальна-суфіксальнага ўтварэння месца націску такое ж, як у аднакарэнных прыслоўях з суфіксам **-о (-а, -е)**: *скры́ва — кры́ва, скóса — кóса, памáлу — мáла, змóладу — мóлада.* Націск жа ў адпаведных аднакарэнных прыметніках на канчатку *(крывы́, касы́, малы́, малады́)*. Каранёвы націск у прыслоўях *скры́ва, скóса* і інш. тлумачыцца тым, што на гэтым жа складзе кораня быў націск і ў формах роднага склону адпаведных кароткіх прыметнікаў.

## Націск у адлічэбнікавых прыслоўях

§ 1071. Сістэма націску адлічэбнікавых прыслоўяў у параўнанні з адпаведнымі лічэбнікамі мае наступныя адрозненні:

а) націск пераходзіць на прыстаўку ў прыслоўях *на́двае, на́трае.* Прыслоўі з націскам на суфіксе зборных лічэбнікаў *(надво́е, натро́е)* лічацца размоўнымі. З адценнем размоўнага ўжываецца і *на́чацвера,* хоць бліжэй да літаратурнай нормы будзе націск на суфіксе **-ёр-**: *начацвёра.*

б) Націск пераходзіць на прыслоўны суфікс у прыслоўях *спярша́, удвая́, утрая́* (апошнія два з'яўляюцца варыянтамі прыслоўяў *удво́е, утро́е).*

Заўвага. Як размоўныя кваліфікуюцца прыслоўі *у́чэцвера, упя́цера* і інш. (з націскам на першым складзе кораня) пры літаратурнай норме *ўчацвёра, упяцёра, ушасцёра* і інш. (з націскам на суфіксе **-ёр-**).

## Націск у прыслоўях займеннікавага паходжання

§ 1072. Большасць прыслоўяў займеннікавага паходжання з пункту погляду сучаснай мовы з'яўляюцца невытворнымі і маюць індывідуальны націск. Нешматлікія прыслоўі, якія адносяцца да жывых тыпаў, маюць, як правіла, такі ж націск, як і ў пэўнай форме адпаведнага займенніка.

Адрозніваюцца па месцу націску ад займеннікаў толькі прыслоўе *по́тым* (з націскам на прыстаўцы) і прыслоўі з інфіксам **-во-**: *наво́шта, заво́шта, нізаво́шта, ніправо́шта, паво́шта* (з націскам на інфіксе). Як размоўнае ўжываецца і *ніза́шта* (хоць у якасці літаратурнай нормы выступае *нізашто́).*

Не супадаюць па месцу націску з адпаведнымі формамі займеннікаў і прыслоўі *па-мо́йму, па-тво́йму, па-сво́йму* (параўн.: *па майму́* загаду— *па-мо́йму).*

§ 1073. У групе прыслоўяў са звязанымі асновамі *(адку́ль, даку́ль, скуль, паку́ль, адту́ль, дату́ль, стуль, пату́ль, адсю́ль, дасю́ль* і інш.) націск падае на апошні склад, за выключэннем прыслоўяў *адгэ́туль, дагэ́туль, пагэ́туль, згэ́туль* (дыялектн.), а таксама прыслоўяў *адне́куль, зне́куль.*

## Націск у складаных прыслоўях

§ 1074. У складаных прыслоўях, утвораных ад зліцця займенніка з назоўнікам (гл. § 1053, 1054), націск падае на азначаемае (галоўнае) слова: *штаве́чар, штовясну́, штоле́та, штоно́ч, штоно́чы, штодзе́нь, штодня́* і інш. Як размоўнае ў мове мастацкай літаратуры (асабліва ў вершах) можа ўжывацца прыслоўе *што́дзень.*

У прыслоўях *сяго́ння (сяго́дня), сяго́лета* націск падае на другі склад першай часткі.

§ 1075. Прыслоўі, якія ўтварыліся ад паўтарэння аднолькавых або блізкіх слоў, звычайна маюць два націскі, прычым кожнае слова захоўвае свой націск, напрыклад: *мо́цна-мо́цна, до́ўга-до́ўга, ма́ла-мно́га, да́лей-бо́лей, по́зна-ра́на.* Выключэнне складае прыслоўе *сю́ды-ту́ды* (размоўн. *сю́д-ту́д),* націскі ў якім перайшлі на першыя склады ў абедзвюх частках.

§ 1076. Складаныя прыслоўі, якія ўтварыліся шляхам паўтарэння аднолькавых слоў з далучэннем адмоўя або прыназоўніка да другога кампанента, звычайна маюць адзін націск. Гэты націск падае або на адмоўе ці прыназоўнік *(дзе-не́дзе, раз-по́раз, раз-по́разу, сам-на́сам, перш-на́перш, крыж-на́крыж),* або на другі кампанент: *калі-нікалі́, дзе-нідзе́, як-ні́як.*

Заўвага. Такія выразы, як *во́ка на во́ка, адзі́н на адзі́н, след у след,* што маюць націск на кожным з кампанентаў (акрамя прыназоўніка), адносяцца да фразеалагізмаў, якія выступаюць у ролі прыслоўяў.

# ПРЫНАЗОЎНІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ПРЫНАЗОЎНІКУ

§ 1077. Прыназоўнікамі называюцца такія службовыя словы, якія ўдакладняюць і дыферэнцыруюць значэнні ўскосных склонаў. Асноўная функцыя прыназоўнікаў — выражаць сінтаксічныя адносіны паміж словамі ў сказе, разам з тым некаторыя прыназоўнікі служаць для ўтварэння форм склонаў.

§ 1078. Граматычнай асаблівасцю прыназоўнікаў з'яўляецца іх нязменнасць. Яны не маюць таксама свайго самастойнага лексічнага значэння і набываюць яго толькі ў злучэнні са знамянальнымі словамі. З гэтай прычыны прыназоўнікі не ўжываюцца асобна ад знамянальных слоў. Толькі ў спалучэнні з іменем або з дзеясловам, які пры дапамозе прыназоўніка кіруе іменем, прыназоўнікі могуць выражаць пэўныя граматычныя адносіны паміж словамі. Часцей за ўсё яны выражаюць прасторавыя, часавыя, прычынныя і мэтавыя адносіны, а таксама адносіны спосабу дзеяння.

Прасторавыя адносіны выражаюць прыназоўнікі *ад, да, на, над, пад, перад, паўз, па, за, з, праз, цераз, к, у, паміж (між), з-за, з-пад, па-за, па-над, каля, міма, супраць, сярод, побач, вакол, уздоўж, упоперак, насустрач* і інш.

*Па ўзгорках, па далінах ветрам-віхрам несупынна мчыцца быстрая машына* (Я. Купала. Дзве дзяўчыны). *Дарога выходзіць з лесу на грэблю* (Я. Колас. У палескай глушы). *Льецца Нёман паміж гораў, светлы, чысты, як з расы, накапаў ён ям і нораў, гоніць воду праз лясы* (Я. Колас. Нёман). *І слухмяная лодка, паўз поплаў, за стан павязе іх далёка* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *Усе сілы злучэння будуць згуртаваны ў адно месца, вакол свайго штаба* (Я. Брыль. Адзін дзень).

Часавыя адносіны выражаюць прыназоўнікі *да, ад, з, к, у, за, на, па, праз, цераз, паміж (між), перад, пры, пасля, пад, на працягу, у час, напярэдадні* і інш.

*Над нівай вясёлыя птушкі па-іншаму песні запелі. Чырыкаюць дружна, з заўзяццем па самы кастрычнік ад мая* (Я. Купала. Дзе крыўда адвечная спела...). *Горад жа доўга не паказваўся, і толькі пад вечар перад ім вынырнулі гарадскія будынкі* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *І безупынна дзень пры дні плылі натоўпы нерухома, гарэлі мірныя агні* (П. Глебка. Памяці Сярго Арджанікідзе). *Пасля доўгай ночы дзень прабіваўся праз маленькія аконцы павалі і нясмела* (К. Чорны. Радасць жанчыны). *У часе размовы з будучым заатэхнікам зеленаватыя вочы Дзяміда Сыча былі такія ласкавыя і пяшчотныя* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Прычынныя адносіны выражаюць прыназоўнікі *ад, з-за, па, праз, дзякуючы, у залежнасці ад, з прычыны, у выніку, у сілу* і інш.

*Разбухла а д асенняй вільгаці зямля* (З. Бядуля. Дзесяць). *Ды Сымонка з-з а трывогі ночкі жудаснай не чуў, што балелі яму ногі і што голад яго гнуў* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Васіль Шаман, аднак, не пазваніў Мацвею Жайрыду. Па-першае, таму, што яму не было часу, а, па-другое, — з прычыны некаторых асаблівасцей свайго характару* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Як падумаю, што праз мяне гэта ўсё здарылася, дык неяк аж вусцішна робіцца* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *У выніку шчырых сяброўскіх гутарак раскрываліся старонкі гісторыі гэтага адрэзку граніцы* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

Адносіны мэты выражаюць прыназоўнікі *за, на, па, у, для, дзеля, з мэтай.*

*На службу вам зямля і неба даны, — адно пішы з душы* (Я. Купала. На тэму крытыкі і самакрытыкі). *Прыходзь, Васіль, хоць заўтра па нарад, спяшайся* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Юзіку здавалася, што сонца ззяла і поле красавалася дзеля людскога шчасця* (К. Чорны. Зямля).

Адносіны спосабу дзеяння выражаюць прыназоўнікі *ад, па, скрозь, праз* і інш.

*Беглі песні ад душы* (Я. Купала. Лён). *Кравец меў вялікую акругу для сваёй дзейнасці і ўсіх жыхароў мог пералічыць па пальцах* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Анежка доўга маўчала і ў задуменні, быццам у адказ сваім думкам, штосьці прамовіла праз зубы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

§ 1079. Будучы службовымі словамі, прыназоўнікі не адыгрываюць самастойнай ролі ў сказе і не з'яўляюцца членамі яго, а далучаюцца да іншых членаў сказа. Напрыклад, у сказе *Джамбуле, баяне, магутны твой сказ, аб дружбе народаў пяяў ты не раз* (Я. Купала. Джамбулу) прыназоўнік *аб* знаходзіцца пры дапаўненні. У сказе *На досвітку яны вярталіся з задання* (Я. Брыль. Адзін дзень) прыназоўнік *на* знаходзіцца пры акалічнасці часу, а прыназоўнік *з* — пры акалічнасці месца.

Заўвага. Субстантываваныя прыназоўнікі ўжываюцца ў якасці членаў сказа. *Спачатку ўсё гэта здалося яму дзіўным, але калі ён уважыў усё за і супраць і ўспомніў пры гэтым, якую ролю адыграў у яго бадзянні Чыкілевіч, то мусіў прызнаць праўду і глыбокі сэнс такіх сходаў* (Я. Колас. Адшчапенец).

Прыназоўнікі ставяцца перад словамі, да якіх яны адносяцца, прычым паміж прыназоўнікам і іменем можа стаяць дапасаванае азначэнне гэтага імені (прыметнік, займеннік, лічэбнік).

*Арлы маладыя, я вас пазнаю, бясстрашных і мужных у грозным баю. Пад вашым напорам хістаецца даль, пад вашым ударам згінаецца сталь* (Я. Колас. Байцам-камсамольцам). *Частавацца будзем разам з кожным новым годам верашчакаю калгаснай і калгасным мёдам* (Я. Купала. Ты з Заходняй, я з Усходняй).

## МАРФАЛАГІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ПРЫНАЗОЎНІКАЎ

§ 1080. У залежнасці ад марфалагічнай будовы і паходжання прыназоўнікі сучаснай беларускай мовы падзяляюцца на два тыпы: а) невытворныя, або простыя прыназоўнікі; б) вытворныя прыназоўнікі, якія ўзніклі на базе пэўных форм знамянальных слоў (прыслоўяў, назоўнікаў, дзеяслоўных форм) і захоўваюць з імі суадноснасць. Да другога тыпа адносяцца таксама складаныя прыназоўнікі.

### НЕВЫТВОРНЫЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ

§ 1081. Да невытворных належаць прыназоўнікі *а, аб, ад, з, за, без, да, для, дзеля, на, над, к(ка), па, пад, пра, перад, пры, праз, паўз, у, цераз, паміж (між).*

Амаль усе невытворныя прыназоўнікі з'яўляюцца аднаскладовымі. У групу двухскладовых уваходзяць толькі прыназоўнікі *перад, цераз, паміж, дзеля.* Двухскладовую форму набываюць: прыназоўнік *аб* перад словам *мне,* прыназоўнікі *пад, над* перад словам *мной.*

*«Э, — махнуў рукою дзед Талаш, — а б а мне, сынку, клопат малы...»* (Я. Колас. Дрыгва). *Н а д а мной зязюля праляцела* (П. Панчанка. Паранены). *Свежае сена п а д а мною ап'яняла сваім вострым пахам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага 1. У гутарковай мове, а пад яе ўплывам і ў мове мастацкай літаратуры назіраецца ўжыванне прыназоўніка *аба* не толькі перад словам *мне,* але і перад іншымі словамі, што не замацавалася ў літаратурнай мове ў якасці агульнай нормы.

*Яшчэ не дальш, як пазаўчора, са мною гутарыў, смяяўся і а б а ўсім мяне пытаўся* (Я. Колас. Новая зямля). *Тады я падумаў: «Чалавек, значыцца, а б а многім павінен даведацца»* (К. Чорны. Хвоі гавораць).

Заўвага 2. У мове паэтычных твораў побач з прыназоўнікам *перад* пашыран яго непаўнагалосны варыянт *прад.*

*Магістралі п р а д табой — не змераць і вокам; тарфянішча п р а д сяўбой блізкай, недалёкай* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Пойдзеш ты ў свет і людзі хадою адважнай, п р а д табою слацца будзе край наш неабсяжны* (Я. Купала. Выпраўляла маці сына). *Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая!.. Толькі я лягу і вочы закрыю, бачу я вас п р а д сабой* (Я. Колас. Родныя вобразы). *Але памятайце — на вашым сумленні не сплачаны доўг векавы: то доўг п р а д народам, то доўг разумення...* (Я. Колас. Покліч).

Прыназоўнік *у,* стаўшы перад словам з пачатковым *у,* пераходзіць у фанетычны варыянт *ва.*

*В а ўсіх шчасце на твары вясёлкай гуляе, ды ахвоціць да працы, да праўды святой* (Я. Купала. Засвяціла цяпло).

Прыназоўнік *з,* стаўшы перад словамі, якія пачынаюцца са збегу зычных, дзе першымі з'яўляюцца **с, з, ж, ш, м,** пераходзіць у фанетычны варыянт *са.*

*Ты прыйдзі ка мне вясною, кветкаю прыйдзі; зацвіці красой с а мною, думку разбудзі...* (Я. Купала. Ты прыйдзі). *Людзі вылазілі с а шчылін, атрасалі пыл, зямлю, якая панабівалася ў кішэні* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вада с а зруба трапляе ў драўляны жолаб, адтуль ліецца невялічкім раўчуком* (там жа). *Пакляўся авалодаць як след ваеннай справай, каб за спакой народа змагацца мог с а славай* (П. Глебка. Прысяга).

Прыназоўнік *к* перад словам *мне* выступае ў варыянце *ка: Як я полем іду, гнецца колас к а мне* (Я. Купала. Як я полем іду...).

Трохскладовую форму набывае прыназоўнік *перад* у злучэнні са словам *мной.*

*Валёнкі Ячнага рыпяць па снезе п е р а д а мной, і ліхтар у яго руцэ плыве над самым снегам* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага. У паэтычнай мове побач з прыназоўнікам *перад* нярэдка сустракаецца яго непаўнагалосны варыянт *прада,* які не замацаваўся як агульная норма.

*...Уецца сцежка п р а д а мною, — у шырокі свет бяжыць* (Я. Колас. У дарозе). *Дні прайшлі!.. п р а д а мною сапраўднае мора грыміць* (П. Панчанка. Мора).

§ 1082. Разнавіднасцю простых прыназоўнікаў з'яўляюцца п а р н ы я прыназоўнікі. Яны ўтварыліся шляхам злучэння двух простых прыназоўнікаў, адзін з якіх дапаўняе значэнне другога. З парных прыназоўнікаў найбольш пашыранымі ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца: *з-за, з-пад (з-пада), па-над, па-за.*

*Неўзабаве з-з а дальніх гор пырснуў першы сноп сонечнага святла* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *А з-п а д Масквы з-п а д чырвонай войска ішло ўжо за войскам браць пад сваю абарону нашыя месцы і вёскі* (Я. Купала. Час быў тады...). *Раптам клуб вадзіцы з-п а д а дна ўзаўецца* (Я. Колас. На рэчцы зімою). *П а-н а д белым пухам вішняў, быццам сіні аганёк, б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк* (М. Багдановіч. Па-над белым пухам вішняў...).

Заўвага 1. Асобна вылучаецца прыназоўнік *з-над,* які часам ужываўся ў мове мастацкай літаратуры (пад уплывам народных гаворак).

*Адпеў салоўка з-н а д палян* (Я. К у п а л а. Груган і салавей). *Я ўстаю, падыходжу і цераз плячо Міколы, з-н а д яго цёмна-русай чупрыны, гляджу туды* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

§ 1083. Асаблівасцю простых прыназоўнікаў з'яўляецца тое, што яны не маюць свайго націску. Звычайна простыя прыназоўнікі з'яўляюцца ненаціскнымі складамі наступнага слова.

*З д а к л а́ д а м выступіў у н а́ с адзін з п р а д с т а ў н і к о́ ў раёна — Кастусь Ячны* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Мы сядзім л я а г н ю́, л я с а с н ы́. Колькі пройдзена шляху?* (А. К у л я ш о ў. Сцяг брыгады). *Раптам п а д н а г а́ м і яго зазелянела каляіністая палявая дарога, трава н а ёй скрозь буяе п а ў з к а л я і н ы* (К. Ч о р н ы. Малюнак).

§ 1084. Простыя прыназоўнікі характарызуюцца тым, што не маюць канкрэтнага значэння і служаць у мове для выражэння розных адносін паміж словамі. Яны сумяшчаюць розныя граматычныя значэнні і ўжываюцца не толькі з адным, але і з двума і трыма склонамі імён.

Агульная схема ўжывання невытворных прыназоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове наступная:

1. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца з а д н ы м склонам:
   а) з родным: *ад, да, без, для, дзеля, з-за, з-пад (з-пада);*
   б) з давальным: *к (ка);*
   в) з вінавальным: *пра, праз, цераз, паўз;*
   г) з творным: *над (нада), перад (прад, перада), па-за, па-над;*
   д) з месным: *пры.*
2. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца з д в у м а склонамі:
   а) з вінавальным і творным: *за, пад (пада);*
   б) з вінавальным і месным: *аб (аба), на;*
   в) з родным і творным: *паміж (між).*
3. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца з т р ы м а склонамі:
   а) з родным, вінавальным і творным: *з (са);*
   б) з родным, вінавальным і месным: *у (ва);*
   в) з давальным, вінавальным і месным: *па.*

З гэтых груп найбольш багатымі па сэнсу і шырокімі па выражэнню граматычных значэнняў з'яўляюцца прыназоўнікі, якія ўжываюцца з трыма і двума склонамі.

## Ужыванне прыназоўнікаў з адным склонам

§ 1085. З родным склонам прыназоўнікі ўжываюцца для выражэння адносін часавых, прасторавых, прычынных, спосабу дзеяння, меры, мэты, прыналежнасці і інш.

§ 1086. Прыназоўнікі *ад, да* пры выражэнні часавых і прасторавых адносін утвараюць антанімічную пару, указваючы на адпраўны і канечны пункт руху або на прамежак часу, на працягу якога адбываецца дзеянне.

*Мы адштурхнуліся а д берагу і лёгка паплылі на плёс* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Натоўп загуў, загаманіў, рушыў д а дзвярэй* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына). *А д Лядцаў д а Дабрадзееўкі каля чатырох кіламетраў, калі лічыць а д цэнтра д а цэнтра, а д крамы д а крамы, як гаварылі вяскоўцы, а калі а д ускраін, то, вядома, менш* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *А д рання д а вечара ў кузні стукалі малаткі, горача палыхаў горн, ляскатала жалеза* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).

Прыназоўнік *ад* з родным склонам выражае таксама адносіны прыналежнасці (*ножка ад стала; ключ ад замка*), прычыны (*твар ружавеў ад шчасця; скакаць ад радасці*), указвае на крыніцу чаго-небудзь (*загад ад камандуючага; вестка ад родных; вільгаць ад ракі*), на дату (*газета ад 7 сакавіка*) і інш.



29. Зак. 892

З а ў в а г а 1. У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікам *ад* у прычынным значэнні сустракаецца прыназоўнік *з(са)* пры выражэнні пачуцця, унутранай прычыны.

*Бач ты, спужалі, аж падскочыў с а страху* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Можа дзіця з плачу заходзіцца?* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

З а ў в а г а 2. У мове мастацкай літаратуры часам ужываецца прыназоўнік *ад* у параўнальным значэнні пры формах вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

*Яго гаспадыня ў сто раз лепшая а д усіх* (Я. К у п а л а. Паўлінка). *Дык што ж нам жыць так па сабе? Пры тым табою не гарджу, хоць я шмат больш а д цябе* (Я. К у п а л а. Груган і салавей).

Прыназоўнік *да* з родным склонам ужываецца для выражэння адносін мэты і выніку, якога імкнуцца дасягнуць пры гэтым *(прыняць заяву да ведама, да выканання)*, для абазначэння пэўнай мяжы, граніцы *(улез у ваду да каленяў)*, для ўказання на меру, прыблізную колькасць або мяжу колькасці *(было да ста чалавек; лічыў да дзесяці; дзецям да 16 год уваход не дазваляецца)* і г. д.

З а ў в а г а. У мове твораў некаторых пісьменнікаў (пад уплывам народных гаворак) прыназоўнік *да* ўжываецца часам для выражэння кірунку дзеяння-руху ў сярэдзіну чаго-небудзь.

*У чацвер раніцай сонейка цэлай галавой укацілася д а хаты* (Ц ё т к а. Міхаська). *Выпаўніўшы свой абавязак, Раман зайшоў д а школы* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Дзень пры дні ён вазіў каменне д а горада на шашу і кожны раз не забываўся акінуць вокам рабочых — ці не з'явіўся сярод іх Адась* (К. Ч о р н ы. Бацькаўшчына).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове такія канструкцыі з прыназоўнікам *да* замяняюцца канструкцыямі з прыназоўнікам *у (пайсці ў школу, паехаць у горад)*.

§ 1087. Прыназоўнікі *для, дзеля* з родным склонам указваюць на мэту, прычыну дзеяння. У гэтай функцыі яны ўтвараюць сінанімічную пару; прыназоўнік *дзеля* ўносіць адценне размоўнасці і больш пашыран у мове мастацкай літаратуры.

*Пан Богут жывіць свой настрой і грозіць хлопцам д л я парадку* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Ад родных ніў, ад роднай хаты у панскі двор д з е л я красы яны, бяздольныя, узяты ткаць залатыя паясы* (М. Б а г д а н о в і ч. Слуцкія ткачыхі). *Эх, і слаўныя гэтыя летнія ночы! Здаецца, д з е л я таго толькі і сходзяць яны на зямлю, каб паказаць, што ў цёмнай цішыні ёсць і паэзія і хараство* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

Пры ўказанні на прызначэнне прадмета ўжываецца толькі прыназоўнік *для.*

*Усе ўтраіх увайшлі ў вялікі пакой д л я пасажыраў* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ён вышку зладзіў каля хаты, на вышцы цэбар д л я вады* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

Прыназоўнік *для* ўжываецца таксама пры вызначэнні адрасата, г. зн. указвае на асобу ці прадметы, да якіх накіроўваецца пэўнае дзеянне.

*Д л я нас цвітуць сады і агароды і жытнія звісаюць каласы* (Я. К у п а л а. А мы сабе сеем і сеем...). *Гадзіны, што засталіся да рання, папаўзлі д л я хлопцаў як замаруджаныя* (У. К р а ў ч а н к а. Вясна на Палессі).

Прыназоўнік *дзеля* больш пашыран, калі трэба ўказаць на прадмет, асобу, для якіх прызначаецца тое ці іншае дзеянне.

*Ён толькі д з е л я маткі сваёй згадзіўся прыняць гэта для пастаноўкі* (З. Б я д у л я. Салавей). *«Бачыце, — паказаў ён на густую прысадзістую яблыню, — рваць іх яшчэ ранавата, але д з е л я прэміі можна дазволіць сабе такое выключэнне»* (А. Я к і м о в і ч. Базылёў курган).

§ 1088. Прыназоўнік *без* у спалучэнні з родным склонам указвае на адсутнасць каго- або чаго-небудзь.

*Вось ён зноў адзін, б е з сяброў* (Я. Б р ы л ь. Зялёная школа). *На хвіліну ноч засталася б е з гукаў* (У. К а р п а ў. Без нейтральнай паласы).

З а ў в а г а. У гэтым значэнні прыназоўнік *без* антанімічны прыназоўнікам *з, пры: прыйшоў без таварыша — з таварышамі; чытаў без мяне — пры мне.*

Прыназоўнік *без* пры колькасных назоўніках і лічэбніках указвае на непаўнату чаго-небудзь, недахоп пэўнай колькасці: *без дваццаці хвілін дзесяць; без году тыдзень; без двух рублёў сто.*

Прыназоўнік *без* ужываецца для ўказання на няпэўны адрэзак часу.

*Б е з часу ліст на дрэвах жоўк* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Я закончу, бо апісваць прыйшлося б б е з канца...* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай).

У словазлучэннях назоўніка з прыназоўнікам *без* можа выражаць азначальныя адносіны.

*Агеньчык светлы і ласкавы, і думы мірныя б е з слоў* (Я. К о л а с. Рыбакова хата).

Прыназоўнік *без* з родным склонам можа выражаць адносіны спосабу дзеяння.

*Усё гэта рабілася па-гаспадарску, б е з спеху, але ладзілася неяк вельмі хутка і спорна* (У. К а р п а ў. Без нейтральнай паласы).

§ 1089. Прыназоўнікі *з-за, з-пад* у спалучэнні з родным склонам паказваюць напрамак, адкуль накіроўваецца дзеянне.

Прыназоўнік *з-за* ўказвае на напрамак дзеяння з глыбіні чаго-небудзь, ад якога-небудзь прадмета, з адваротнага боку чаго-небудзь, а прыназоўнік *з-пад* паказвае накіраванасць дзеяння знізу (у тым ліку ў пераносным сэнсе) або ад якога-небудзь пункта, месца, адкуль хто-небудзь родам ці паявіўся і г. д.

*У простых, па-салдацку да глянцу начышчаных ботах і цёмна-сіняй гімнасцёрцы з ордэнскай планкай, Кастусь выйшаў з-з а стала* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *З-п а д крушынніку крынічка цячэ* (М. Б а г д а н о в і ч. Ой, лясы-бары). *А быў сярод нас удалец такі, Марка Балук з-п а д Цернішч* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Выйдзі з-п а д дзікай зімняй апекі, што над табою строіла здзекі, — выйдзі спаткаці вясну!* (Я. К у п а л а. Выйдзі...).

Прыназоўнік *з-за* ўжываецца таксама для ўказання на мэту дзеяння або прычыну, для падкрэслівання лагічнай матывіроўкі з'яў, для ўказання на асобу, якая з'яўляецца віноўнікам таго ці іншага дзеяння.

*Нельга з-з а цікавасці рыскаваць сваім жыццём* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Між узгоркаў і курганаў сцежка вузкая ляжыць, даль нямая з-з а туманаў сірацінаю глядзіць* (Я. К о л а с. У дарозе). *Ты штодзень мне робіш шкоду, з-з а цябе і на сяло паказаць мне брыдка вочы!* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

Прыназоўнік *з-пад* з родным склонам ужываецца для ўказання на прадмет, які прызначан для змяшчэння чаго-небудзь: *скрынка з-пад цукерак, збан з-пад малака.*

§ 1090. З давальным склонам ужываецца прыназоўнік *к (ка)* пры абазначэнні кірунку дзеяння, руху ў бок прадмета, які выступае крайняй мяжой гэтага дзеяння.

*Перад табою ў зорных праявах сцелецца к сонцу дарога* (Я. К у п а л а. Наша моладзь). *Сын малы, Васілёк, кліча матку к сабе* (Я. К о л а с. На адзіноце). *Антон Несцяровіч пайшоў проста к сталу і ўбачыў там разгорнуты том Маркса* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне).

Гэты прыназоўнік ужываецца для ўказання на аб'ект, з якім што-небудзь сутыкаецца або набліжаецца да чаго-небудзь.

*Дзеці... туляцца к печы* (Я. К у п а л а. Восень). *Перуны грукаталі ў прасторы пустым, прыгіналіся к дому кусты* (П. П а н ч а н к а. У навальніцу).

Канструкцыі з прыназоўнікам *к* адносяцца да непрадуктыўных, бо агульнапрынятымі ў сучаснай літаратурнай мове з'яўляюцца канструкцыі з прыназоўнікам *да.*

Прыназоўнік *к* ужываецца таксама для выражэння часавых адносін; ён падкрэслівае пэўную часавую мяжу працякання дзеяння.

*Школы падрыхтаваліся к пачатку навучальнага года* (з газет).

Такія канструкцыі з прыназоўнікам *к* адносяцца да прадуктыўных і пашыраны ў розных стылях мовы.

§ 1091. Прыназоўнікі *праз, цераз, паўз* ужываюцца з вінавальным склонам для выражэння кірунку дзеяння: руху ўпоперак чаго-небудзь, з паверхні прадмета або пераадоленне чаго-небудзь (*праз, цераз*), руху міма чаго-небудзь або руху паблізу чаго-небудзь, каля чаго-небудзь, уздоўж чаго-небудзь (*паўз*).

*Праз поле ўраджайнае, тарфяныя балоты, праз пушчы векавечныя ляглі вы пазалотай* (Я. Купала. Дарогі). *Шаша праходзіла цераз невялікую рачулку* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Уперамешку з рэдкімі фурманкамі міргаліся паўз вокны пешыя* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Прыназоўнікі *праз, цераз* з вінавальным склонам указваюць на рэгулярнае паўтарэнне дзеяння ў часе (*прымаць кроплі праз гадзіну, дзяжурыць цераз дзень*), вызначаюць асобу, прадмет, пры дапамозе якіх ажыццяўляецца пэўнае дзеянне (*апавясціць праз газеты, перадаць цераз таварыша*).

Для выражэння часавых адносін ужываецца пераважна прыназоўнік *праз*; ён указвае на адпаведны прамежак часу, на працягу якога адбываецца дзеянне.

*Ляжа Сцёпка на нары, і праз цэлую ночку сны аб роднай вёсцы сняцца, аб сваім куточку!..* (Я. Колас. У астрозе). *А праз год, праз два і ўсё будзе таксама, як па ўсёй краіне* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Атрад праз увесь час блакады ўзорна захаваў сябе неразрыўнай баявой адзінкай* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Праз хвіліну Алесь стаяў ужо каля магутнай машыны* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Заўвага. У мове твораў некаторых пісьменнікаў (пад уплывам народных гаворак) у часавым значэнні ўжываецца і прыназоўнік *цераз*.

*Спытаюць бацька, маці — многа цераз год зарабіла?* (Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта). *Вам, людзі, што сваёй рукою белай зямлі не кратаеце сэрца, не дагадаецца цераз век свой цэлы, як сэрца чалавека б'ецца* (Я. Купала. Яна і я).

Прыназоўнік *праз* выкарыстоўваецца таксама ў выпадках, калі неабходна вызначыць спосаб ужывання чаго-небудзь.

У гэтым значэнні прыназоўнік *праз* пашыран у навуковым і публіцыстычным стылях.

*Пішуцца праз злучок: 1. Лексічныя ўтварэнні, якія з'яўляюцца: а) паўтарэннем таго ж самага слова...* (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі).

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры (пад уплывам гутарковай мовы) назіраецца ўжыванне прыназоўніка *праз* у значэнні «на працягу».

*Бацька маўчаў праз усю дарогу* (К. Чорны. Зямля). *Благаслаўленне далі нам сваё ісці ў свет праз горы, долы, рэкі, ісці супольна праз усё жыццё* (Я. Купала. Яна і я).

Заўвага 2. Пад уплывам народных гаворак прыназоўнікі *праз, цераз* ужываюцца часам у значэнні «па прычыне, па віне каго-небудзь».

*Гэта ж гэтулькі праз яе бяды нарабілася!* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Падняў крык на нас без дай прычыны, і цераз цябе хлопец мае запалкі згубіў* (К. Чорны. Зямля).

§ 1092. З вінавальным склонам ужываецца прыназоўнік *пра* для вызначэння галоўным чынам прадмета думкі, мовы, пачуцця.

*Пра нашы гаварылі зімы, вёсны, пра добры ўраджай і працадні...* (Я. Купала. Госці). *Зноў гаварыў гаспадар пра шырокае поле, пра хлеб* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *На вуснах Лены то патухае, то зноў — нібы напамінаючы пра нашу радасць — успыхвае ўсмешка* (там жа).

У гэтай функцыі прыназоўнік *пра* выступае сінонімам да прыназоўніка *аб*.

§ 1093. Прыназоўнікі *над (нада), перад (перада), прад (прада), па-за, па-над* ужываюцца з творным склонам для выражэння прасторавых адносін (у тым ліку ў пераносным значэнні): кірунку дзеяння з паверхні прадмета *(над, нада)*, дзеяння, якое адбываецца наперадзе прадмета або насупраць яго *(перад, перада, прад, прада)*, месца знаходжання прадмета, размяшчэння яго або паяўленне за чым-небудзь, адкуль-небудзь *(па-за)*, над чым-небудзь, уздоўж чаго-небудзь *(па-над)*.

*Праплывіце ж, хмаркі, і над родным краем, над сялянскім полем, над зялёным гаем* (Я. Колас. Вячэрнія хмаркі). *Перад намі ў сонцы, ў зорах будучыня наша* (Я. Купала. Нашаму святу). *На прастор, на шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою, — сотні новых і ясных дарог рассцілае жыццё прад табою!* (Я. Колас. Свайму народу). *Па-за лесам гучаць спевы* (К. Чорны. Зямля). *Закацілася сонца за гай, небасхіл па-над гаем гарыць* (П. Панчанка. Лірычнае).

У прасторавым значэнні прыназоўнік *над* антанімічна супрацьстаўляецца прыназоўніку *пад*, а прыназоўнікі *перад, прад* — прыназоўніку *за*.

*Над Забалоццем узыходзіць сонца* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Стаю пад сонцам я і мару* (П. Панчанка. Вясновыя мары). *Перад вачамі Васілене хмара, як быццам нейкі вялізны арол* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *За драўлянымі млынамі, дзе канчаюцца масты, шырачэзнымі лістамі ахінуліся кусты* (П. Глебка. Летні дзень).

Прыназоўнікі *над, перад, прад* з творным склонам ужываюцца таксама для выражэння аб'ектных адносін: яны ўказваюць на аб'ект дзеяння *(над)* або на асобу, з'яву, у адрас якіх накіроўваецца дзеянне *(перад, прад)*.

*Зноў Алеся! Ну і дурніца! Хіба ж так можна? Над кожнай кніжкай плакаць — слёз не хопіць* (І. Шамякін. У добры час). *Лабановіч выказаў усе свае думкі перад Турсевічам* (Я. Колас. На ростанях).

Прыназоўнік *над* можа ўказваць на перавагу аднаго прадмета над другім.

*Як прыйшла перамога над панам, — ішлі з песняй з лясоў партызаны* (Я. Купала. Партызаны).

Прыназоўнік *над* указвае таксама на аб'ект пры дзеясловах *смяяцца, жартаваць, здзекавацца.*

*Хлопцы ў нас вясёлыя, не раз яны над Іванам смяяліся* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *...Жартаваў ён над сабой і Мартай* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці).

У гэтай функцыі прыназоўнік *над* сінанімічны прыназоўніку *з: смяяцца з цябе, жартаваць з дзяўчыны.* Канструкцыі з прыназоўнікам *з* пераважаюць у сучаснай беларускай мове.

Прыназоўнік *перад* у часавым значэнні падкрэслівае, што дзеянне адбываецца раней чаго-небудзь, за некаторы час да наступлення чаго-небудзь.

*Імжа і дождж спыніліся перад самым выездам машыны з «Перамогі»* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Перад заходам сонца ясныя колеры залівалі заводскі двор* (К. Чорны. Браты).

§ 1094. Прыназоўнік *пры* з месным склонам паказвае на месца дзеяння або непасрэдную блізкасць прадмета каля чаго-небудзь, на адначасовасць дзеяння з якой-небудзь падзеяй, эпохай, гістарычным перыядам, на абставіны, умовы, пры якіх адбываецца дзеянне і інш.

*Гаворка ідзе пра Ніну Савось, якая адна жыве цяпер у пакойчыку пры нашай школе* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Іліко сядзеў пры акне, і ён бачыў, як шугануў вецер па балоце* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Пры нашым ладзе, пры калектыўным, рукам падмогай*

*служаць машыны* (Я. Купала. На нашым полі). *Бацькі даўно ўжо спалі, даўно пагасла электрычнасць. Ліда пісала пры лямпе* (І. Шамякін. У добры час). *Пры такой цішыні можна чытаць не ўголас* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Прыназоўнік *пры* з месным склонам указвае таксама на прысутнасць чаго-небудзь або дачыненне асобы да пэўнай падзеі.

*Піліпка стаяў расчырванелы, узрушаны ад такой вялікай пахвалы ды пры ўсім народзе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Прыназоўнік *пры* з месным склонам можа ўказваць на наяўнасць прадмета ў каго-небудзь або ў складзе чаго-небудзь ці побач з чым-небудзь.

*І тут я ўспомніў, што запісачка з дзвярэй — пры мне* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

У такой функцыі прыназоўнік *пры* можна замяніць прыназоўнікам *з (са).*

*Усё багацце са мною* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

### Ужыванне прыназоўнікаў з двума склонамі

§ 1095. З вінавальным і творным склонамі ўжываюцца прыназоўнікі *за, пад (пада).*

Прыназоўнік *за* ўжываецца для выражэння часавых адносін, ён указвае на пэўны працяг часу, на паслядоўнасць дзеяння ў часе, на адначасовасць ажыццяўлення двух дзеянняў. Прыназоўнік *пад* з вінавальным склонам указвае на блізкі час перад чым-небудзь або на блізкі тэрмін пры вызначэнні ўзросту.

*Пад снегам адапрэла жытцо за зіму* (Я. Купала. Аб мужыцкай долі). *Як шмат змяніўся ён за тры гады* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці). *Калгаснік успомніць пра вас за сяўбой, заводаў і фабрык успомніць гудкі* (Я. Колас. Самалёту «Максім Горкі»). *Алесь і заснуў за гаворкаю з маці, а тая праседзела да самага відна, не спускаючы вачэй з сына* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Вецер прыгнаў дождж. Ён пайшоў нечакана, пад раніцу, калі яшчэ не адлёг мароз* (І. Шамякін. У добры час).

Заўвага. У мове мастацкіх твораў прыназоўнікі *за, пад* часам ужываюцца для абазначэння эпохі, адрэзку часу, у межах якога што-небудзь адбываецца. У такім значэнні яны выступаюць у якасці размоўных элементаў, не замацаваных як агульная норма.

*За панамі мы разам з ім батрачылі* (К. Чорны. Вясна). *Я таксама нарадзіўся ў ланцугах пад царам. Спапяліў бы ту часіну, каб я мог, пажарам!* (Я. Купала. Тарасова доля).

Прыназоўнікі *за, пад* з вінавальным і творным склонамі шырока ўжываюцца для абазначэння кірунку, месца дзеяння або месцазнаходжання чаго-небудзь.

*Як выехалі за вёску — лёгкім холадам пацягнула з поля* (К. Чорны. Спатканне). *Мікола наш ідзе за сеялкай* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Іліко звесіў ногі пад стол і прытуліўся да сцяны* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *«Антось жа іх добра знае», — кінуў Пошта на сайгаснага рабочага, што сядзеў за сталом* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Непрыкметна яна выйшла на поплаў. Пад нагамі зазвінеў тонкі лядок* (І. Шамякін. У добры час). *Усё, што было найдаражэйшае ў яго жыцці, — дзяцінства, таварышы, сям'я, Аленка і гэта пяшчотна-кволае дрыгаценне струн яго сэрца, — усё гэта засталося там, пад саламянымі стрэхамі, дзе сям-там узняліся дрэвы сваімі верхавінамі* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Не заўважыўшы таго сам, ён спыніўся за вёскай і крочыў у поле* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

Прыназоўнікі *за, пад* у канструкцыях з пераносным значэннем выражаюць таксама прасторавыя адносіны.

*Ты* *за* *словы не хавайся* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Але ён адчуваў, што* *пад* *маскай угодлівасці хаваецца няшчырасць* (З. Бядуля. Салавей).

Заўвага. У мове мастацкіх твораў пад уплывам народных гаворак прыназоўнік *пад* з вінавальным склонам нярэдка сустракаецца пры выражэнні кірунку дзеяння па напрамку да пэўнага прадмета, граніцы.

*Хочаш, будзем чытаць разам? Пойдзем унь туды,* *пад* *магазін, будзем чытаць* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Пад* *магазін можна было б бліжэй гародамі прайсці, але хто ёй забароніць ісці вуліцаю* (там жа). *А куды нам пад'ехаць:* *пад* *кузню ці* *пад* *панскі ганак?* (М. Чарот. Пастушкі).

Прыназоўнікі *за, пад* з вінавальным склонам могуць паказваць аб'ект, на які накіравана дзеянне, увага або які падтрымліваецца знізу: *узяць за руку, трымацца за таварыша, сачыць за прыборамі, весці пад руку, трымаць пад донца.* Прыназоўнік *пад* з вінавальным склонам выражае таксама спосаб ажыццяўлення дзеяння: *стрыгчы пад машынку, даць кнігі пад распіску.*

Прыназоўнікі *за, пад* з творным склонам выражаюць азначальныя адносіны: *даведка за подпісам дырэктара, справа за нумарам 10, дом пад нумарам 5.* Прыназоўнік *за* з творным склонам указвае яшчэ на прыналежнасць аднаго прадмета другому: *справа за вамі, кніга за вучнем.*

Прыназоўнік *за* ў спалучэнні з вінавальным склонам можа паказваць на замяшчальныя адносіны, на адносіны мэты, параўнання, колькасці, меры і інш.

*А можа ты і далажыў бы* *за* *мяне* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Купрыянчыка пакінуў дзед Талаш* *за* *праваднікa, каб паказаць дарогу вартавым чырвонаармейцам да смалакураўскіх салашоў* (Я. Колас. Дрыгва). *За* *свабоду сваю ўсёй душой пастаю* (Я. Купала. За свабоду сваю). *Ён часцей* *за* *Алеся Мільгуна гукаў на свайго коніка, каб той не аставаўся ад сытага пярэдняга каня* (К. Чорны. Па дарозе). *Васіліна была маладзейшая за сяброўак* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Было ўжо за поўнач, калі пастукалі ў дзверы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *За* *многа вёрст адсюль узрываліся камяніцы* (К. Чорны. Буры). *Сілівону Лагуцьку было больш* *за* *семдзесят* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Такія канструкцыі з прыназоўнікам *за* пашыраны як у вуснай, так і ў пісьмовай мове.

§ 1096. З вінавальным і месным склонамі ўжываюцца прыназоўнікі *аб (аба), на.* Прыназоўнік *аб (аба)* з вінавальным склонам падкрэслівае збліжэнне, сутыкненне дзеяння аднаго прадмета з другім прадметам.

*Дзіка ж ты б'ешся, восень,* *аб* *шыбы... хаткі-сялібы* (Я. Купала. Восень). *Б'юць каменні* *аб* *нарогі, скрыгацяць сярдзіта* (Я. Колас. На ніве).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры пад уплывам народных гаворак сустракаюцца выпадкі ўжывання прыназоўніка *аб* з вінавальным склонам для абазначэння пэўнага адрэзку часу.

*А сам Міхал* *аб* *гэту пору настройваў лыжы да сялібы* (Я. Колас. Новая зямля).

Прыназоўнік *аб (аба)* з месным склонам указвае на прадмет думкі, гутаркі, пачуцця.

*Ды шмат* *аб* *чым яшчэ мы гаманілі, а больш за ўсё* *аб* *дасягненнях тых...* (Я. Купала. Госці). *Думкі Кірылкі пачалі плыць роўна* *аб* *полі,* *аб* *ветры,* *аб* *мяшках з мукою,* *аб* *саўгасаўскіх плугах, якія трэба будзе заўтра памагаць кавалю правіць* (К. Чорны. Мельнікі). *«Ну, матуля, пара выпраўляцца ў дарогу. Дык бывай, дарагая,* *аба* *мне не журыся, сні шчаслівыя сны і чакай маіх пісем»* (П. Панчанка. Маці).

У такой функцыі прыназоўнік *аб (аба)* можна часам замяніць прыназоўнікамі *пра* (з вінавальным склонам) і *па* (з месным склонам).

*Мы гаварылі п р а збожжа з багатых калгасных палёў* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *І п а табе душа заные, край-друг Узбекістан* (Я. К о л а с. Узбекістану).

Прыназоўнік *на* з вінавальным і месным склонамі ўжываецца пры вызначэнні кірунку дзеяння або месцазнаходжання прадмета на паверхні чаго-небудзь *(ісці на гару, стаяць на гары, пакласці на стол, ляжыць на стале)*, пры ўказанні, што дзеянне адбываецца ў межах пэўнага месца *(паехаць на Палессе, жыць на Палессі, ісці на завод, працаваць на заводзе)*, або ў адпаведнай сферы ці асяроддзі *(выбегчы на дождж, на мароз, стаяць на дажджы, на марозе)*, што дзеянне звязана з мерапрыемствам, заняткам *(ісці на сход, быць на мітынгу, падпісацца на газеты, ехаць на жніво)*, а таксама паказвае на рух убок якога-небудзь прадмета, прасторы *(поезд ідзе на Маскву, рухацца на ўсход)* і інш.

Прыназоўнік *на* з вінавальным склонам указвае на адрэзак часу, у межах якога дзеянне паўтараецца або адбываецца, на пэўны тэрмін, з наступленнем якога ажыццяўляецца дзеянне, на момант, убок якога накіравана дзеянне, на мяжу, граніцу ажыццяўлення дзеяння і інш.

*Ну хоць адзін разок н а тыдзень хадзіў н а Нёман ці н а тоні— рыбак быў дзядзька наш Антоні, як і работнік, адмысловы* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Ён акуратна наведваўся вечарамі ў інстытуцкі клуб, і тут, два разы н а тыдзень, Рэня займалася з ім* (М. Л ы н ь к о ў. Салют). *Леціцё вы ў край паўднёвы зіму пераждаць, каб н а весну песняй новай родны кут вітаць* (Я. К о л а с. Дзве дарогі). *Усе размовы — н а потым, а праца — н а заўтра* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Н а хвіліну ўсё сціхла* (З. Б я д у л я. Салавей).

Параўн. канструкцыі з прыназоўнікам *у* і вінавальным склонам імені: *Раз у год прыходзілася яму быць у сваякоў* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

Часавыя адносіны выражаюцца прыназоўнікам *на* і з месным склонам.

*Раз н а тыдні прыязджаў бацька, прывозіў харчы* (Р. М у р а ш к а. Сын). *Н а досвітку яны вярталіся з задання* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень).

Прыназоўнік *на* з вінавальным склонам указвае на прадмет, на які накіравана дзеянне, а з месным склонам — на прадмет, пры дапамозе якога ажыццяўляецца дзеянне.

*Каля рэчкі, н а першай прагаліне лесу яны зноў напароліся н а кулямёты* (Я. Б р ы л ь. Адзін дзень). *І раптам, падкраўшыся зусім блізка, маланкаю кідаецца н а вепра і хватае яго зубамі за чэрава знізу і з такою ж быстрынёю адскоквае ад яго* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Паляціш над нашым полем ты н а самалёце, калі я там, мой саколю, буду н а рабоце* (Я. К о л а с. Шчаслівая хвіліна).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры пад уплывам народных гаворак часам адзначаецца ўжыванне прыназоўніка *на* пры дзеясловах *чакаць, выбіраць* і інш.

*Што ж гэта, каханенькі, родненькі, так доўга чакаць н а сябе нас заставіў?* (Я. К у п а л а. Паўлінка). *Каханенькая, родненькая, не думай, што я якую дрэнь выбраў сабе н а зяця* (там жа).

У сучаснай беларускай мове асабліва пашырана ўжыванне прыназоўніка *на* з вінавальным склонам пры ўказанні на прафесію.

*Два гады ён вучыўся н а землямера* (А. К у л я ш о ў. Антон Шандабыла). *Н а каго ты вучышся?* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень).

З а ў в а г а. У гэтай функцыі побач з прыназоўнікам *на* часам сустракаецца прыназоўнік *за*.

*Каб сын выйшаў з а доктара, што б мы тут маглі б зрабіць!* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). *...Яе сын будзе вучыцца з а наборшчыка* (З. Б я д у л я. Язэп Крушынскі).

Такія канструкцыі ўласцівы размоўным стылям.

Прыназоўнік *на* з вінавальным склонам ужываецца пры ўказанні на мэту.

*На, табе, хлопча, на хлеб* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Прыназоўнік *на* ўжываецца ў канструкцыях з дзеясловам *хварэць* і прыметнікам *хворы*.

*Хворых на сэрца, грудзі і ногі трэба не браць у паходзе* (М. Танк. У маршы). *Я помню, мой Андрэй хварэў на тыфус* (Я. Колас. Выстагнаўся).

§ 1097. З родным і творным склонамі прыназоўнік *паміж (між)* ужываецца для выражэння прасторавых адносін: ён указвае на абмежаваную граніцу дзеяння.

*Ускрай жыта, паміж полем і асушаным балотам, была вузкая палоска маладога сасняку* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Журчыць між лоз крынічная вада* (П. Панчанка. Зварот байца).

Пры выражэнні часавых адносін прыназоўнік *паміж (між)* указвае на няпэўны прамежак часу або на няпэўны тэрмін, які аддзяляе адну падзею ад другой.

*Спаборніцтва танцавальных калектываў адбудзецца паміж двума і трыма гадзінамі* (з газет).

Прыназоўнік *паміж (між)* з родным і творным склонамі выражае таксама аб'ектныя адносіны.

*Спаборніцтва разгарнулася паміж гарадамі* (з газет). *Мы, гордыя сваёй доляй, воляй і добрай славаю паміж людзьмі, імкнёмся з поглядам вакол саколім ды сочым бег тварэння і падзей* (Я. Купала. А мы сабе сеем і сеем...). *І тады адчуў Алёша, што між ім і Строніным — бяздонне* (К. Чорны. Бяздонне).

## *Ужыванне прыназоўнікаў з трыма склонамі*

§ 1098. З родным, вінавальным і творным склонамі ўжываецца прыназоўнік *з (са)*.

З родным склонам прыназоўнік *з (са)* указвае на рух, на месца, адкуль накіроўваецца дзеянне, на час, тэрмін, з якога пачынаецца дзеянне, на прычыну, пераважна пры выражэнні пачуцця, на крыніцу, паходжанне па матэрыялу, з якога зроблен прадмет, на аб'ект дзеяння, на асобу, да якой выяўляюцца пэўныя пачуцці і г. д.

*Абудзіўся лес, зацвітае луг, бусел з выраю к дубу вітае* (Я. Колас. Дуб). *З гэтай пары я пачаў угледацца ў неба начное і зорку шукаў* (М. Багдановіч. Раманс). *Юзік са злосці стаў збіваць дубцом сухое зелле* (К. Чорны. Зямля). *Тым часам падышлі яшчэ трое чыгунчнікаў з вакзала ды два хлопцы з горада* (Р. Мурашка. Сын). *Твая дзяўчына пры кудзелі сляпіць не будзе ясных вочак: з жалеза прасніца надзеліць сукном і шоўкавым кужэлем сваіх сялян, сваіх рабочых* (Я. Купала. Сыходзіш, вёска, з яснай явы...). *Дзедка заўсёды жартуе з мяне, а я толькі буду прасіць таго, чаго ўсе людзі цябе вечна просяць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *У Максіма знікла жаданне кпіць з яго, якое было з'явілася яшчэ за сталом у доктара* (І. Шамякін. У добры час).

З творным склонам прыназоўнік *з (са)* служыць для выражэння адрэзку часу, з паслядоўным наступленнем якога павялічваецца дзеянне, спосабу дзеяння, сукупнасці ў дзеянні, прыметы, аб'ектнага значэння і інш.

*З кожнай хвілінай павялічваўся шум і гоман вакол нас* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Панна Ядвіся таксама была з густам* (Я. Колас. У палескай глушы). *Алесь разглядаў праект уважліва, са стараннасцю*

(П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Брыгада з нецярплівасцю чакала раніцы, каб паглядзець на новы камбайн* (з газет). *Ён доўга не адыходзіў і ўсё гутарыў з бацькам* (З. Бядуля. Салавей). *З-за кустоў раптам паказаўся адзін з карабінам* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Змагаемся з громамі сілай нязмернай, пярун з бліскавіцамі служыць нам верна* (Я. Купала. Мы людзі свабодныя). *Ніна вітаецца са мной заўсёды неяк сарамліва* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

З вінавальным склонам прыназоўнік *з (са)* указвае на падабенства паміж прадметамі па велічыні, меры, на прыблізную колькасць чаго-небудзь, на прыблізны адрэзак часу.

*І надта родзіцца капуста: з вядро галоўкі вырастаюць, з трох коп кадушку накладаюць!* (Я. Колас. Новая зямля). *Жыта нажаў коп са дзвесце, аўса таксама са дзвесце, ячменю — з сотню* (Я. Купала. Паўлінка). *Іліко чакаў Вано з паўгадзіны, а затым хутка пайшоў паўз кусты за млын* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Прайшлі з кіламетр моўчкі, Юзік аб чымсьці думаў* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Прыназоўнік *з* можа ўжывацца ў пары з іншымі прыназоўнікамі: *з — да* (для выражэння пэўнага адрэзку часу), *з — у, з — на, з — па* (для выражэння паслядоўнасці або неабходнасці дзеяння, руху). Часцей гэта наглядаецца ў фразеалагічных зваротах.

*З ранку да вечара не ведаў спакою. Трэба было паспець усюды* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *І камуна гэта, і гэты сайгас будуць з лета ў лета расці ў добры час* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *З дня на дзень мы павялічвалі выпуск шоўку* (з газет). *Праз хвіліну ён, засунуўшы рукі ў кішэні, захадзіў усхвалявана з кута ў кут* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *З пятага па сёмы клас Васіль і Максім вучыліся разам, з году ў год сядзелі на адной парце, сябравалі* (І. Шамякін. У добры час).

§ 1099. З родным, вінавальным і месным склонамі ўжываецца прыназоўнік *у (ва)*.

З родным склонам прыназоўнік *у* служыць для выражэння лакальных адносін, прыналежнасці, указвае на крыніцу паходжання або атрымання чаго-небудзь.

*Сёння святкуем у мяне* (І. Шамякін. У добры час). *У гэту ноч Іліко начаваў у таварыша* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *У Анежкі задуменны погляд, яна заклапочана нечым* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). У *Дзяміда Сыча плечы шырокія, голас моцны* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Настаўнік узяў кнігі ў вучняў і адпусціў на лета* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

З вінавальным склонам прыназоўнік *у (ва)* паказвае на кірунак дзеяння куды-небудзь (унутр, у сярэдзіну прадмета, або на тэрыторыю, у населены пункт, установу ці ў пэўнае асяроддзе), на час, у адзін з момантаў якога адбываецца дзеянне, або калі яно адбываецца на працягу пэўнага адрэзку часу, на меру, вагу, колькасць (пры абазначэнні велічыні плошчы, аб'ёму), на мэту і спосаб дзеяння, на аб'ект, на які накіравана дзеянне, з якім звязана ажыццяўленне дзеяння або ў адносінах якога выяўляюцца тыя ці іншыя ўласцівасці, на прымету і інш.

*Вецер злосна ў хату рвецца, ў полі стогнам аддаецца, стукне ў дзверы і акно* (М. Багдановіч. Разрытая магіла). *Рыгорка заўсёды прыходзіў у школу падрыхтаваным* (Я. Колас. Рыгорава памылка). *У нядзелю на досвітку Шаройка забег да Сынклеты* (І. Шамякін. У добры час). *Вось у гэтыя дні аднаго разу Міша прыйшоў дадому з вінтоўкай на рамяні. Ён сказаў, што Чырвоная Армія зусім блізка...* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Сцены гладка склюдаваны, стрэхі з бляхі белай, столь, падлога габляваны, вокны ў сажань цэлы* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Заскочыла ў хату Аленка, Тараса Шаўчэн-*

*ку ўзяла, хустачку на плечы накінула, зірнулася ў люстэрачка ў бляшанай аправе і на вуліцу выйшла* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Заўвага. У размоўным стылі пры выражэнні канкрэтнага часу дзеяння побач з прыназоўнікам *у* сустракаецца прыназоўнік *а*.

*Уставаў Андрэй Стронік а гадзіне адзінаццатай і хадзіў па пакоі з кутка ў куток* (К. Чорны. Бяздонне).

З месным склонам прыназоўнік *у* паказвае на час, тэрмін, на месца знаходжання або ажыццяўлення дзеяння ў сярэдзіне прадмета, на прымету, на сферу дзеяння і інш.

*У скорым часе пасля таго, як Лабановіч вярнуўся ад Турсевіча, да яго прыехаў Саханюк* (Я. Колас. У палескай глушы). *У хаце было ціха, па-святочнаму ўрачыста* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Алесь і Анежка сустрэліся ў полі нечакана* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *З грабянцом у кароткай прычосцы, у лёгкай стракатай сукенцы, румяная — Валя смяецца цяпер* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Праз момант Васіліна ўбегла ў хату і спынілася ля парога ў нерашучасці* (Т. Хадкевіч. Вяснянка). *Цётка Ганна, тупаючы каля печы, хоць і мала разумела ў гэтай іх гутарцы, алe бачыла, што Сцёпка, мусібыць, проста ў навуцы адстаў* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 1100. З давальным, вінавальным і месным склонамі ўжываецца прыназоўнік *па*.

З давальным склонам прыназоўнік *па* ўжываецца ў размеркавальным значэнні.

*Паклаўшы па гранаце, Паўло нядрэнна жартаваў з хлопцамі, якім у той час вельмі на здароўе было пасмяяцца* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

З вінавальным склонам прыназоўнік *па* ўказвае на мэту дзеяння.

*Каб была я перапёлкай, каб я волю мела, — дзе б хацела паляцела, дома б не сядзела. Ці па ягады ў бор шчыры туды, за сялібкі, ці ў лес цёмны па арэхі, дзе ляшчэннік гібкі* (Я. Купала. Песня). *Мы па кожную кніжку калісьці хадзілі ў дзесятую вёску* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Прыназоўнік *па* з вінавальным склонам паказвае таксама на меру, на мяжу, якой дасягае дзеянне.

*Урэзаўся я па тым боку ў траву, па грудзі ў зямлю асядаю* (Я. Колас. Даняў).

У такім ужыванні прыназоўнік *па* сінанімічны прыназоўніку *да*: *вада да калена, да пояса.*

Прыназоўнік *па* з вінавальным склонам лічэбнікаў або слоў з колькасным значэннем (за выключэннем слоў *адзін, адна*) служыць для выражэння размеркавальна-колькаснага значэння.

Пытляваны. *І калгаснікі нашы не скардзяцца: па чатыры кілаграмы збожжа, па паўпуда бульбы ды па восем рублёў грашыма атрымалі* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Васіліна паглядзела ўбок Аксені Плясковай, якая перад гэтым заявіла, што збярэ з гектара не менш ста пудоў жыта і па пяць цэнтнераў ільнасемя і валакна* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

З месным склонам прыназоўнік *па* ўказвае на дзеянне, якое адбываецца ў асобных пунктах прадмета, на яго паверхні, на сродак руху, дзеяння, паведамлення, на аб'ект дзеяння, а таксама на аб'ект думкі, пачуцця і інш.

*Ходзіць май па свеце, мнагалюдны, буйны, і складае песні сусветнай камуны* (Я. Купала. Май). *Алесь хадзіў па пакоі ўзрушаны вялікімі падзеямі* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Каровы нашы ходзяць цяпер па траве, як па моры* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Калгаснікі са Снежына казалі, што ўчора па тэлеграфе вялікую пастанову аб сельскай гаспадарцы перадавалі* (І. Шамякін. У добры час). *На абарону, мой люд-волат! Удар па ворагу ямчэй!*

(Я. Колас. На абарону). *Старая жанчына ў хаціне на хвойным узлеску ўсе гэтыя дні вельмі ўжо сумавала па сынах сваіх і па мужу* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Не раз я ў мурах астрожных па родным полі сумаваў, па тых бярозах прыдарожных, што на этапах сустракаў* (М. Танк. Нарач).

Заўвага 1. У мове мастацкай літаратуры, а таксама вуснай народнай творчасці прыназоўнік *па* з месным склонам назоўнікаў *ноч, поўдзень, вясна, зіма, восень* і інш. паказвае час, у межах якога ажыццяўляецца дзеянне.

*Хадзіла Ганначка па ночы, шукаючы цыбульку пад вочы* (Р. Шырма. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі). *Далёка па поўдні ўсе на полі заўважылі, што падскакам бяжыць Міхалючок* (К. Чорны. Вясна). *Па вясне зямлю ўзнялі экскаватары, рыдлёўкі; загулі і зажылі-заспявалі распрацоўкі* (А. Куляшоў. Распрацоўкі).

Адзначаныя канструкцыі з прыназоўнікам *па* адносяцца да размоўных стыляў.

Заўвага 2. У сучаснай беларускай літаратурнай мове пад уплывам народных гаворак пашырана ўжыванне прыназоўніка *па* з месным склонам у значэнні «пасля, праз некаторы час».

*Спі, наш Барысенка, лёгкім будзь пясок... Па табе застаўся твой малы сынок* (Я. Купала. Над ракою Арэсай). *Хачу па сабе вам памяць пакінуць* (Я. Колас. У палескай глушы). *Сын жа яго атрымаў спадчыну па дзядзьку — пайвалоку зямлі* (К. Чорны. Вясна).

Прыназоўнік *па* ў спалучэнні з давальным склонам адзіночнага ліку і месным склонам множнага ліку можа ўжывацца для ўказання:

а) напрамку руху: *Мы хутка плылі па цячэнню* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *«А дзе ж, голубе, след гэтай дзічы? — запытаў дзед Талаш... — Давай пойдзем па слядах!»* (Я. Колас. Дрыгва).

б) На дзейнасць у галіне чаго-небудзь: *Яна кіравала сваім гуртком па вывучэнню прыроды* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Прыступіла да працы камісія па выбарах у мясцовыя саветы* (з газет).

в) На спосаб дзеяння, на суадпаведнасць з чым-небудзь, на падставу чаго-небудзь: *Брыгады працуюць строга па графіку* (з газет). *Па голасу, па вачах Зоські, па ўсіх яе рухах Салавей адчуваў, што яна бачыць у ім гэту змену* (З. Бядуля. Салавей). *Па дакументах, якія яны прывезлі з сабой, Прыборны і Лясніцкі паверылі ім, іх расказу* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

г) На час выканання дзеяння, тэрмін або пэўны прамежак часу: *А па начах дзікія гусі крычалі* (З. Бядуля. Салавей). *Усё новыя і новыя войскі рушылі на захад, і па цэлых днях глядзела Ядвіська, як ідуць па дарозе незлічоныя машыны* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

д) На абмежаванне чаго-небудзь:

*Помніш, Джон, ты першы мне пакляўся, што навек па зброі мы сябры* (П. Панчанка. Ліст у Нью-Йорк).

Такія канструкцыі з прыназоўнікам *па* вельмі прадуктыўныя і ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове.

### *Суадноснасць невытворных прыназоўнікаў і дзеяслоўных прыставак*

§ 1101. Пераважная большасць простых прыназоўнікаў можа ўжывацца не толькі ў якасці сродкаў для выражэння сінтаксічных адносін паміж самастойнымі словамі, але і як словаўтваральныя элементы, якія ў складзе імён і дзеясловаў з'яўляюцца прыстаўкамі з пэўнымі граматычнымі і лексічнымі значэннямі.

Аднак граматычная роля і значэнне суадносных прыназоўнікаў і прыставак з'яўляюцца рознымі, параўн.: *на стале* і *настольны, пры моры* і *прыморскі*.

У дзеясловах значэнне такіх прэфіксаў, суадносных з прыназоўнікамі, удакладняецца і дапаўняецца спалучэннем іх з аднолькавымі прыназоўнікамі, якія звязваюць дзеясловы з імёнамі і выступаюць у ролі так званых паслялогаў. Напрыклад: *дайсці да лесу; зайсці за таварышам; з'ехаць з гары; падкласці пад галаву* і інш.

У сучаснай беларускай мове наглядаецца адпаведнасць сярод на-

ступных прыназоўнікаў і дзеяслоўных прыставак: прыназоўніку *ад* пры дзеясловах руху, дзеяння адпавядае дзеяслоўная прыстаўка **ад-** *(ад'ехаць ад дому; адступіць ад тэмы)*; прыназоўніку *да* адпавядае прыстаўка **да-** *(дайсці да сяла; давесці да ведама; дапісаць да канца; даліць да дна)*; прыназоўніку *з* адпавядае прыстаўка **з-** *(з'ехаць з гары; зрабіць з дрэва; знікнуць з дому)*; прыназоўніку *пад* адпавядае прыстаўка **пад-** *(падвесці пад карніз; падлезці пад стол; падлажыць пад кнігу)*; прыназоўніку *за* адпавядае прыстаўка **за-** *(зайсці за сад; завярнуць за вугал; заехаць за таварышам)*; прыназоўніку *на* адпавядае прыстаўка **на-** *(навесці на розум; накінуць на плечы)* і г. д.

### ВЫТВОРНЫЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ

### *Адпрыслоўныя прыназоўнікі*

§ 1102. У сучаснай беларускай мове адпрыслоўныя прыназоўнікі складаюць прадуктыўны разрад службовых слоў. Існуе два віды адпрыслоўных прыназоўнікаў: першы ўключае прыназоўнікі, якія ўжо страцілі прыслоўныя функцыі, другі — такія прыназоўнікі, якія ўжываюцца і ў ролі прыслоўяў.

§ 1103. Да першага віду адпрыслоўных прыназоўнікаў адносяцца словы *замест (заместа), апрача (апроч), акрамя, сярод, паводле, каля (ля)*.

*На дварэ, каля самай будкі, замест стала стаяў высокі гладкі дубовы пень з роўна абрэзаным верхам* (Я. Колас. На чыгунцы). *І вось нашы падарожнікі апынуліся ў чаўне сярод бязмежнага мора* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Апрача старых механізатараў, штогод у Баркі з'язджаецца чалавек сорак хлопцаў і дзяўчат* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Апроч гасцей з-за мяжы, былі госці і нашы — Павел Іванавіч і Шаўчэнка* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Выступалі ўсе, акрамя Мурашкі* (І. Шамякін. У добры час). *Нізкія, паводле даўжыні сваёй, будынкі стаялі паабапал двара* (К. Чорны. Вясна).

Заўвага 1. Прыназоўнік *заместа* ўжываецца ў мове мастацкай літаратуры пад уплывам размоўнага стылю.

*Гэтакі ж канфуз выйшаў — усё ішло так добра і гладка і на табе, заместа мензуза гада злавілі* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Паволі стухае агонь на паляне. Дайно не іграе Васіль на баяне. Заместа падушкі — баян галасісты* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікам *акрамя* зрэдку сустракаюцца яго варыянты *акром, кром*.

*Адно, кажа, канапка стаіць і дыван перад ёй пасланы..., акром гэтага нічога больш і няма* (К. Чорны. Зямля). *...Другой зямлі не дадуць, акром гэтай, на каторай жывуць* («Полымя»).

Заўвага 3. У творах некаторых пісьменнікаў побач з прыназоўнікам *паводле* часам ужываюцца дыялектныя прыназоўнікі *водлуг, паводлуг, подлуг*.

*Рыгор маляваў сабе мястэчка водлуг ранейшых сваіх уражанняў і перажыванняў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Паводлуг яе прамоў, заўсёды выносіліся практычныя рэзалюцыі аб арганізацыі і працы кабет на вёсцы* (З. Бядуля. У глушы). *І подлуг таго, як мысль усё больш захаплівалася гэтым чароўным малюнкам і гэтымі незлічонымі светамі, раскіданымі сярод бяздонных багнаў, такіх страшных, такіх лавабных,— зямля і чалавек, пагардлівы гаспадар яе, рабіліся ўсё меней і меней значнымі* (Я. Колас. У палескай глушы).

§ 1104. Да адпрыслоўных прыназоўнікаў другога віду адносяцца галоўным чынам акалічнасныя словы месца і часу: *абапал, паабапал, вакол, навокал, навакол, паблізу, воддаль, пасярод, пасярэдзіне, уперадзе, збоку, узбоч, убок, ззаду, углыб, услед, паверх, усцяж, уздоўж (удоўж), супроць (супраць), насупраць, насустрач, напярэдадні, пасля (после), раней, блізка* і некаторыя іншыя.

*Перад вачыма далёка наперадзе злева відзен роўны рад тапалёў, якія цягнуцца абапал дарогі* (П. Галавач. Праз гады). *Спраўляючы свой карагод, Зямля вакол Сонца імчыцца і чакае, але толькі*

*праз год яна прычакае гасцінца* (К. Крапіва. Каханне планет). *Чатыры сасны засталіся стаяць пасярод лесасекі* (І. Шамякін. У добры час). *Паблізу іх пачалі спыняцца цікаўныя прахожыя* (У. Карпаў. За годам год). *І больш нічога не было ў іх* [зыках], *апрача бесклапотнай вясёласці* (К. Чорны. Новыя людзі). *Збоку пясчаных узгоркаў, якія раскінуліся ўперадзе грэблі, грымнула некалькі дружных гарматных залпаў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Самалёты, як маланкі, праслізнулі ўздоўж дарогі* (там жа). *Рыгор вярнуўся к станку і перш хацеў прысесці ды пачакаць майстра, а пасля перарашыў і пайшоў усцяж майстэрні* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *«І пра разбойнікаў ты маніш! — прапускаючы міма вушэй пытанне Іліко, крыкнуў Вано. — Там ніякіх разбойнікаў няма!»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

§ 1105. Сярод адпрыслоўных прыназоўнікаў другога віду ёсць значная група прыназоўнікаў размоўнага і абласнога характару. Адны з іх выступаюць варыянтамі да пэўных агульназамацаваных прыназоўнікаў, другія — у якасці самастойных прыназоўнікаў, але незамацаваных у літаратурнай мове як агульная норма.

Так, напрыклад, побач з прыназоўнікам *вакол* у мове мастацкіх твораў часам сустракаюцца яго размоўныя варыянты *во́кал, во́кала, ваќо́ла*, якія не набылі значэння агульнай нормы.

Побач з прыназоўнікамі *навокал, навакол* шырока ўжываюцца таксама іх варыянты *навокала, навакола, наўкол, наўкола.*

*Мы хадзілі, мы шукалі, кожны кусцік аглядалі, — хоць бы дзе адзін грыбок, толькі мох ды верасок, ды навокала палянкі чарадой раслі паганкі* (П. Глебка. Грыбы). *Навакола агню стаяць і сядзяць людзі ў вайсковай адзежы* (Я. Колас. Дрыгва). *...Жанчыны ўсе скучыліся наўкол вёдзер з малаком і загаманілі, закрычалі, перабіваючы адна адну* (П. Галавач. Спалох на загонах).

Размоўны прыназоўнік *пасяродку* выступае ненарміраваным варыянтам прыназоўніка *пасярод.*

*Пасяродку аўса галавісты лянок зелянее* (Я. Купала. Гэта крык, што жыве Беларусь). *Спыніўся юнак пасяродку лясное паляны з лістом у руках, што арэшынам адрасаваны* (А. Куляшоў. Новае рэчышча).

Побач з прыназоўнікам *насустрач* у мастацкай літаратуры часам ужываўся прыназоўнік *насустрэчу (настрэчу).*

*І другі сябрук шчаслівы насустрэчу яму бяжыць* (Я. Колас. Песня аб вясне). *«Рыгорка мой, сонца маё, ясачка мая!» — з радаснаю горнасцю ў голасе, трупцявым голасам загаманіла Стэпа, нарасхлест адчыніўшы дзверы і шырока растапырыўшы рукі настрэчу сыну* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікам *поперак* назіраецца ўжыванне яго варыянтаў *папярок, напоперак.*

*Папярок дорогі станавіліся эксперты і іх заключэнні* (Я. Колас. На ростанях). *Не будзем ужо станавіцца ім папярок дарогі...* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Партыя змяце са свайго шляху ўсіх, хто стане напоперак дарогі* («Маладосць»).

У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікамі *насуперак, усцяж, узбоч, уздоўж* часам наглядаецца ўжыванне размоўна-дыялектных прыназоўнікаў *насупор, наўсцяж, узбок, наўзбоч, наўздоўж.*

*І насупор дажджу і ветру вялі праcторныя шляхі цераз балоты, цераз нетры, цераз пяскі пустынь сухіх* (П. Глебка. Дужасць). *Самалёты як развярнуліся, так і паляцелі наўсцяж дарогі, на захад, на гарадок* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён вылез з машыны, прайшоўся да кіламетровага знака, што стаяў непадалёчку ўзбок шашы* (там жа). *Наўзбоч гаю дзве бярозы ды з дубочкам абняліся так*

*прыгожа на ўзгорачку крутым* (М. Машара. Урачыстасць). *Н а ў з д о ў ж дарогі стаялі слупы* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Абласныя прыназоўнікі *побліз, поблізу* выступаюць ненарміраванымі варыянтамі прыназоўніка *паблізу.*

*П о б л і з мацеры гукала сінявокая дачка* (П. Броўка. Кацярына). *І ўдарылі гарматы п о б л і з самага сяла* (там жа). *Там якраз і было тое вялікае сяло, п о б л і з у якога артылерыйская часць займала сваю пазіцыю* (К. Чорны. Вялікі дзень). *П о б л і з у шашы, пад купчастымі шатрамі маладых дубоў, згрудзілася багата людзей* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У сучаснай мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікамі *супроць, насупраць* зрэдку наглядаецца ўжыванне размоўна-дыялектных прыназоўнікаў *проці, процій, супроцій, напроці.*

*Дзікі крык вырваўся сам п р о ц і волі Васіля* (Я. Колас. Васіль Чурыла). *Э, пане настаўніку, не варта п р о ц і й ночы і ўспамінаць аб ім: ліхі гэта быў пан — ну, так людзі кажуць* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Снег падаў радзей, злепленымі камякамі ападаў з голых ігруш н а п р о ц і варот* (К. Чорны. Зямля). *Ну, то заходзь, чалавеча, пераначуеш, назад жа пад горад не пойдзеш н а п р о ц і ночы* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Улева прасвечваўся гасцінец. Не аддаляючыся ад яго, хлопцы прайшлі ганоў двое лесам і спыніліся с у п р о ц і й балот* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Эх, дзеці, каб вы ведалі, як я рады, што ўсе мы тут, усе ваюем с у п р о ц і й ліхадзеяў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

У мове мастацкай літаратуры таксама шырока ўжываюцца размоўныя прыназоўнікі *побач, поплеч, кругом, непадалёку, усярэдзіне* пры дзеясловах са значэннем знаходжання, стану, руху.

*Бацька ішоў ціха і задуменна п о б а ч воза* (К. Чорны. Зямля). *П о б а ч старшыні «Перамогі» стаялі інжынер Качура і калгасны заатэхнік Якаў Місюра* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Гаспадар ішоў п о п л е ч Міхалкі* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *І азіраецца Сымон к р у г о м сябе, смутны, благі* (З. Бядуля. Сымон). *Нам трэба было праязджаць н е п а д а л ё к у таго вялікага лесу, дзе асабліва многа здаралася нападаў на праезджых* (К. Чорны. Насцечка). *Яны былі ўжо н е п а д а л ё к у свайго дома* (там жа).

Пад уплывам гутарковай мовы прыназоўнікі *ўскрай, паперад, пападзе, наперадзе* (пры выражэнні прасторавых адносін), а таксама *блізка* (пры выражэнні прасторавых і часавых адносін і значэння прыблізнай колькасці) пашыраны ў мове мастацкай літаратуры розных жанраў.

*Разгалістыя сосны, быццам зялёныя шатры, раскінуліся на пясчаным узгорку ў с к р а й лесу* (Я. Колас. Сустрэча з ворагам). *Але кругом у с к р а й поля была мяккая густая мурава* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Сымон прыйшоў п а п е р а д усіх* (З. Бядуля. Салавей). *Шайтан, які шнураваў туды-сюды н а п е р а д з е Місюры, узняў сваю галаву і насцярожана застыў на месцы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Б л і з к а горнай рэчкі Сарыярві жыў сабе да гаспадарый Паво* (М. Багдановіч. Паво). *Б л і з к а апоўначы ён улавіў кволы гук самалёта* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Экзамены цягнуліся б л і з к а тыдзень* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

З а ў в а г а. У мове мастацкіх твораў часам сустракаюцца прыназоўнікі, індывідуальна ўтвораныя пісьменнікамі і не замацаваныя ў літаратурнай мове як агульная норма. Напрыклад, па аналогіі з прыназоўнікам *наперарэз* Я. Колас утварае прыназоўнік *наперасек* (з давальным склонам).

*Сымон прысеў, прылёг, цікуе — ідзе павольна чалавек якраз яму н а п е р а с е к, ідзе, нібыта штось мяркуе* (Я. Колас. Рыбакова хата).

§ 1106. Усе разгледжаныя прыназоўнікі ўтрымліваюць жывую сувязь з прыслоўямі, ад якіх паходзяць. Таму яны лексічна больш паўназнач-

ныя і канкрэтныя, чым невытворныя прыназоўнікі, але ў адрозненне ад апошніх маюць вельмі вузкі круг граматычных значэнняў. Як правіла, яны ўжываюцца толькі з адным якім-небудзь склонам. Пераважная большасць адпрыслоўных прыназоўнікаў ужываецца з родным склонам і выражае галоўным чынам значэнне лакальнасці: у спалучэнні з іменем яны ўказваюць на месца знаходжання прадмета, месца дзеяння, месца праяўлення прыметы і г. д.

*Прастору цьма с я р о д палянкі* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Жняярка стаяла п а с я р о д калгаснага двара* (К. Чорны. Вясна). *Вастраносы човен шыбуе ў п о п е р а к Прыпяці* (Я. Колас. Дрыгва). *У с к р а й лесу прайшлі незаўважна сапёры* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Якаў Сцяпанавіч узяў ад сцяны крэсла і сеў н а с у п р а ц ь старшыні* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *У с ц я ж доўгіх будынін расце таполяў многа* (М. Аўрамчык. Шляхі дружбы). *М і м а твару Аляксея нечакана пасыпаліся дробныя каменьчыкі* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *К а л я лесу б'е крынічка, срэбрам ззяе ды каменьчыкам на ўцеху воды гоніць* (П. Панчанка. Пагранічча). *На ўзгорку, у з б о ч насыпу, стаяла група ваенных* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Недарма н а в а к о л дамоў кварталы ўздымаюць рыштаванняў мачты ўгору* (М. Аўрамчык. Шляхамі дружбы). *Лінія лесу ішла н а ў с к а с я к дарогі і ў адным месцы даходзіла да дарогі, і там ужо лес быў на кіламетраў чатыры скрозь п а ў з шасэ* (К. Чорны. Вялікі дзень).

Некаторыя адпрыслоўныя прыназоўнікі з родным склонам паказваюць рух або дзеянне па напрамку да пэўнага пункта: *паверх, углыб, убок, усярэдзіну* і інш.

*Нахлябіч стаяў ужо на падмостках і глядзеў кудысьці п а в е р х людскіх галоў* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Лесасека ад дарогі ішла у г л ы б лесу* (І. Шамякін. У добры час). *З пагорка ўніз, у б о к даліны, збягае сцежка між кустоў, дзе рэчка ў шатах зеляніны ў луг адходзіць ад платоў* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Не выключаючы матора, капітан павярнуўся ў б о к сваіх пасажыраў* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 1107. Для выражэння часавых адносін ужываюцца прыназоўнікі *пасля (после), раней, напярэдадні, сярод* і інш. У спалучэнні з назоўнікамі, што абазначаюць пэўны перыяд часу, гэтыя прыназоўнікі ўказваюць на момант ажыццяўлення дзеяння, якое адбывалася або адбудзецца перад чым-небудзь, або пазней, ці ўслед за чым-небудзь.

*П а с л я поўначы неба выяснілася, засеялася рознакаляровымі трапухкімі агеньчыкамі-зорамі, дрыжачы і лагодна пераліваючыся мяккім вясёлкавым бляскам* (Я. Колас. Адшчапенец). *Сонца падымалася неяк марудна, раса ападала паволі. Можа яна ў гэту раніцу ападала б і вельмі добра, каб Аленка не прыйшла р а н е й тэрміну* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Н а п я р э д а д н і юбілею маёй творчасці мне захацелася ўспомніць свой шлях і ўсё сваё жыццё* (Я. Купала. Прамова на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 35-годдзю літаратурнай дзейнасці). *Вечарам ён доўга сядзеў адзін, цёр пальцамі твар і с я р о д ночы раптам падняўся і, сам з сабою разважаючы, пайшоў даць тэлеграму Рыце* (К. Чорны. Захар Зынга).

§ 1108. Адпрыслоўныя прыназоўнікі *ўслед, насустрач, насуперак, адпаведна, згодна, наперакор* ужываюцца з давальным склонам для выражэння прасторавых або прычынных адносін.

*Алесь трохі пастаяў, пазіраючы ў с л е д Сцёпку, а потым стала і разважна павярнуў назад, калі-нікалі аглядаючыся на Сцёпку* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *А новае, н а с у с т р а ч якому мы ідзём, ужо само пастукалася сёння да нас у нашы калгасныя дзверы* (А. Якімовіч. Арляняты). *Ён ляцеў н а с у п е р а к асенняму ветру, які абдзьмуваў яго разгарачаны твар, і сам не ведаў, што рабілася ў яго грудзях*

(П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Адпаведна гэтаму і расліннасць была больш разнастайная і багатая* (Я. Маўр. Чалавек ідзе). *Наперакор ліхой стыхіі, на гэтай згруджанай жарстве, узняўшы вежы залатыя, прыгожы горад расцвіце* (П. Глебка. Арка над акіянам). *Згодна сваім абавязкам яна ўжо зацвіла, а ўсё ж ніяк не можа схаваць пад сабой нядошлую аголенасць камяністай глебы* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

Заўвага. У творах асобных пісьменнікаў наглядаецца ўжыванне прыназоўніка *згодна* і з родным склонам. Такія выпадкі з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

*Шайчук... адпушчаны дахаты згодна апошняга ўказа аб дэмабілізацыі* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Трэба было б згодна гэтага правіла... расшпіліць мяккі раменьчык самаробнага кабура* (там жа).

## Адыменныя прыназоўнікі

§ 1109. Да гэтай групы вытворных прыназоўнікаў адносяцца такія словы, якія ўтварыліся ад назоўнікаў. У якасці прыназоўнікаў могуць ужывацца назоўнікі галоўным чынам з адцягненым значэннем: *галіна, справа, мера, сіла, прычына, вынік, выпадак, сэнс, повад, мэта, час, дапамога* і інш.

Адыменныя прыназоўнікі развіліся або непасрэдна ад пэўнай склонавай формы назоўніка *(шляхам)*, або ў выніку злучэння простага прыназоўніка з назоўнікам ва ўскосным склоне: *з прычыны, з повадy, з выпадку, з дапамогай, пры дапамозе, з мэтай, у мэтах, за выключэннем, на чале, на працягу, па часці, па лініі, па меры, у меру, у сэнсе, у адносінах, у імя, у святле, у ролі, у выніку, у карысць, у справе, у напрамку, у кірунку, у сілу, у знак, у галіне, у ролі, у асобе, у час, у часе, у процілегласць, у інтарэсах, у парадку, пад выглядам* і інш. Такія злучэнні выступаюць у функцыі прыназоўнікаў тады, калі яны не выражаюць прадметнага значэння.

Значэнне адыменных прыназоўнікаў у сучаснай беларускай мове акрэслена досыць выразна. Яны, як і прыслоўныя прыназоўнікі, характарызуюцца большай паўназначнасцю і канкрэтнасцю, чым невытворныя прыназоўнікі, але маюць таксама абмежаваны круг граматычных значэнняў. Пераважная большасць адыменных прыназоўнікаў ужываецца з родным склонам для выражэння розных значэнняў і адносін. Адыменныя прыназоўнікі ўласцівы галоўным чынам пісьмовым і кніжным стылям мовы.

§ 1110. Прыназоўнікі *ў напрамку, у кірунку* паказваюць накіраванасць дзеяння і патрабуюць адказу на пытанне *куды?*

*Атрад павярнуў на паўночны захад, у напрамку наднёманскай вёскі Купецк* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Яна пайшла па канюшынішчу наўсцяж у кірунку пералеска* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

§ 1111. Для выражэння часавага значэння ўжываюцца прыназоўнікі *ў час, у часе, на працягу*. Яны ўказваюць на пэўны момант ажыццяўлення дзеяння або на адпаведны прамежак часу, за які адбываецца дзеянне.

*А як прыгожы ў час вясны бярозак першыя уборы, калі яны па касагорах у сонцы мараць свае сны!* (Я. Колас. Суд у лесе). Карнейчык. *Лодар Касабуцкі ходзіць у часе працы па цэху і практыкуецца ў боксе* (К. Крапіва. Канец дружбы). *У часе касьбы тут было поўна людзей* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Асвятліцца ў часы адпачынку ўся ваколіца* (З. Бядуля. З песняў сонца). *Брыгада «Днепр» ачысціла ад немцаў вялікі раён, і атрады на працягу зімы размяшчаліся ў вёсках* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Прыназоўнік *на працягу* можа ўжывацца і ў прасторавым значэнні.

*На працягу дваццаці кіламетраў атрад фарсіраваў дзесятак рэчак* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *На працягу апошніх 800 метраў вельмі рэдка тырчала хісткае куп'ё* (там жа).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікам *на працягу* зрэдку сустракаецца яго размоўны варыянт *у працягу*, які з'яўляецца адхіленнем ад сучаснай нормы.

*Каб усе нашыя так раскідвалі ежу, дык у працягу аднаго толькі дня ад крошак хлеба і кавалкаў рыбы па ўсёй краіне вырасла б гара глуму* (З. Бядуля. Нікелевая калясачка). *Тыя забабоны і казкі, якімі кожны беларускі куток аплецены ў працягу вякоў, абросшы, нібы курган, мохам, цяпер вылазяць наверх* (З. Бядуля. У глушы).

§ 1112. Прыназоўнікі *з поваду, з прычыны, у выпадку, з выпадку, на выпадак, у выніку, у сілу* ўказваюць на прычыну дзеяння, матывіроўку, абгрунтаванне гэтага дзеяння.

*Праўленне калгаса пастанавіла склікаць вас з поваду вядомага вам артыкула ў нашай «Калгаснай праўдзе»...* (Я. Колас. Адшчапенец). *І ўсё было скрытна, усё трымалася быццам пра запас, але з прычыны маладосці чалавек яшчэ не вытрымліваў свае скрытнасці, і ўсё з душы пачынала рвацца наверх...* (К. Чорны. Вялікі дзень). *А млын добры пункт, дзе можна ў выпадку патрэбы схавацца* (З. Бядуля. Міхалкава стрэльба). *Дваццаць восьмага ліпеня, у выніку абыходнага манеўру і баявой атакі, войскі Першага Беларускага фронта авалодалі Брэстам, за якім адкрываўся ўжо Варшаўскі напрамак* (У. Карпаў. За годам год). *Атрад Сёмкі-матроса набліжаўся да горада, каб дапамагчы рабочым на выпадак якой сутычкі з немцамі* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1113. Для выражэння аб'ектных адносін служаць прыназоўнікі *ў сэнсе, у галіне, у справе, у адносінах.*

*На прыкладзе вывучэння белых зорак-карлікаў мы бачым, як астраномія ўзбагачае нашы фізічныя веды ў галіне будовы рэчыва* (Б. Воранцоў-Вельямінаў. Астраномія). *За заслугі ў справе барацьбы за захаванне і ўмацаванне міру прысуджаны міжнародныя прэміі групе відных грамадскіх дзеячаў* (з газет). *Ён, як праваднік, на якім ляжала адказнасць у сэнсе захавання войска ад розных ліхіх неспадзевак у дарозе на паходзе, праяўляў усе адзнакі руплівасці і турботы, каб ўсё было добра і шчасліва* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1114. Прыназоўнікі *шляхам, пры дапамозе, з дапамогай* служаць для выражэння спосабу дзеяння.

*З'езд абавязаў Наркамзем узмацніць падрыхтоўку кадраў для сельскай гаспадаркі шляхам арганізацыі курсаў* («Весці АН БССР»). *Пылаюць іх машыны. Далёка свеціць адзнака яшчэ адной перамогі, атрыманай пры дапамозе трафейнага тэлефона* (Я. Брыль. Нёманскія казакі).

§ 1115. Прыназоўнік *накшталт* у спалучэнні з родным склонам указвае на прадмет, да якога прыпадабняецца другі прадмет.

*Аляксею нават хацелася размахнуцца шырэй, падаць голас, выгукнуць што-небудзь накшталт маладзецкага «эпля!»* (У. Карпаў. За годам год). *Па маёй прапанове школьны ўчастак зрабілі накшталт поля калгаса* (І. Шамякін. У добры час).

§ 1116. Прыназоўнік *наконт* з родным склонам указвае на прадмет думкі, гутаркі.

*І бацька ў вольныя часіны расказваў дома ўсе навіны і чуткі ўсе наконт зямелькі* (Я. Колас. Новая зямля). *А наконт крокваў вы не турбуйцеся, таварыш старшыня, у нас ёсць добрыя цесляры, паставяць кроквы* (Р. Сабаленка. Жменя зярнят).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры побач з прыназоўнікам *наконт* часам сустракаецца яго размоўны варыянт *наконта*, які не замацаваўся ў якасці агульнай нормы.

*Сёстры зноў засмяяліся. Чэся яны знаі лепш і, як відаць, схіляліся да погляду*

*таткі* *н а к о н т а* *грэчкі для Чэся* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *«Ну, а як ты, Антон,* *н а к о н т а* *гэтай самай арэнды?»* — *пыталі сяляне* (М. Ч а р о т. Бацюшка).

§ 1117. Некаторыя адыменныя прыназоўнікі ўжываюцца з давальным склонам: *не ў прыклад* (яму), *у процівагу* (гэтаму).

§ 1118. Многія адыменныя прыназоўнікі знаходзяцца ў сінанімічных узаемасувязях з невытворнымі прыназоўнікамі. Напрыклад, прыназоўнікі *ў інтарэсах, у мэтах, з мэтай* сінанімічныя прыназоўніку *для* пры выражэнні мэты. Параўн.: *У* *і н т а р э с а х* *асвятлення яшчэ нязнікшага з'яўлення не шкодна б святам, вольным часам, схадзіць на сесію з Міхасем* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Цэнтральны камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР* *з* *м э т а й* *паляпшэння будаўнічай справы абавязалі нас шырока ўжываць зборныя жалезабетонныя канструкцыі* (з газет). *Групорг* *д л я* *навядзення парадку даў слова першаму з паступаючых у камсамол* (У. Ш а х а в е ц. Будзьце здаровы). *Д л я* *растлумачэння пытанняў грамадскага выхавання моладзі склікана нарада сакратароў пярвічных арганізацый камсамола* (з газет).

Прыназоўнікі *з прычыны, у сілу* набліжаюцца да прыназоўніка *з-за* ў прычынным значэнні. Параўн.: *Было трохі і сумна на сэрцы* *з* *п р ы ч ы н ы* *разлукі з домам* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *З-з а* *позняга часу Алесь вырашыў застацца ў Доўгім* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі).

Прыназоўнік *у справе* сінанімічны прыназоўніку *па* пры выражэнні аб'ектных адносін: *Палескія людзі былі вялікімі энтузіястамі* *ў* *с п р а в е* *ўпарадкавання сваіх прыродных багаццяў* (К. Ч о р н ы. Герой Савецкага Саюза Ціхон Піменавіч Бумажкоў). *Савецкімі вучонымі зроблена шмат даследаў* *п а* *вывучэнню нябесных свяціл* (Б. В а р а н ц о ў-В е л ь я м і н а ў. Астраномія).

Пры такіх сінанімічных паралелях адыменныя прыназоўнікі надаюць мове больш кніжны характар, простыя прыназоўнікі — размоўны.

## *Аддзеяслоўныя прыназоўнікі*

§ 1119. Па колькасці гэта група вытворных прыназоўнікаў невялікая. Сюды ўваходзяць адзінкавыя ўтварэнні дзеепрыслоўнага тыпа. У сучаснай беларускай мове ў сістэму прыназоўнікаў пераходзяць некаторыя дзеепрыслоўі з адцягненым значэннем на **-ючы, -ачы:** *дзякуючы, выключаючы, уключаючы, канчаючы, пачынаючы, не лічачы.*

Круг лексічных і граматычных значэнняў аддзеяслоўных прыназоўнікаў таксама абмежаваны.

Прыназоўнік *дзякуючы* ўжываецца толькі з давальным склонам і ўказвае на прычыну і вынік дзеяння (станоўчы, пажаданы). Прыназоўнік *дзякуючы* пашыран у навуковым і публіцыстычным стылях.

*Д з я к у ю ч ы* *камсамольцам удалося дастаць супрацьтанкавую гармату* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі). *Д з я к у ю ч ы* *самаадданай працы работнікаў сацыялістычнай прамысловасці павелічэнне прадукцыі выконваецца датэрмінова* (з газет).

З а ў в а г а. Часам прыназоўнік *дзякуючы* можа ўказваць на прычыну з адмоўным, непажаданым вынікам. Такое ужыванне гэтага прыназоўніка не з'яўляецца агульнай нормай.

*Кожны раз студыйцы* *д з я к у ю ч ы* *заядлай вайне між драматургам і рэжысёрам адрываліся ад ігры і прыслухоўваліся да гутаркі* (З. Б я д у л я. Салавей). *Раптам нас панясло на плёс* *д з я к у ю ч ы* *няспрытнасці Мірона* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Прыназоўнікі *ўключаючы, выключаючы, не лічачы* паказваюць на далучэнне, саўдзел або абмежаванне, выключэнне са складу чаго-небудзь. Так, прыназоўнік *уключаючы* з вінавальным склонам выступае ў значэннях «супольна», «разам з кім-небудзь», «у тым ліку».

*Такая ідэя спадабалася ўсім,* *у к л ю ч а ю ч ы* *і самі дзяўчынак* (Я. М а ў р. Цётка Эмілія). *Дысцыпліна — вынік усёй сумы выхаваўчага*

*ўздзеяння, у к л ю ч а ю ч ы сюды і адукацыйны працэс* (І. К а з а н ц а ў. Урок у савецкай школе).

Прыназоўнік *выключаючы* з вінавальным склонам ужываецца ў сэнсе «акрамя», «за выключэннем», а пры наяўнасці часціцы *не* — у значэнні «разам, у тым ліку».

*Усе піянеры нашай школы, в ы к л ю ч а ю ч ы малодшыя класы, рыхтаваліся да спаборніцтва па каньках* (з газет). *...Расклееныя па ўсіх кутках горада, н е в ы к л ю ч а ю ч ы і сцен паліцэйскага ўчастка, — яны* [лістоўкі] *хвалявалі савецкіх людзей* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі).

Прыназоўнік *не лічачы* з родным склонам указвае на прадмет, які не ўключаецца ў агульнае цэлае. Ён азначае «звыш чаго-небудзь», «выключаючы што-небудзь».

*Вынік першага тура шахматнай гульні, н е л і ч а ч ы адкладзеных партый, быў у карысць Савецкага Саюза* (з газет). *На яго асабістым рахунку, н е л і ч а ч ы тых* [парушальнікаў] *з аўтаматамі, маецца дзевяць цікавых затрыманняў* (Я. Б р ы л ь. Нёманскія казакі).

Прыназоўнікі *пачынаючы, канчаючы* ўжываюцца з творным склонам і азначаюць «усе аж да», «уключаючы каго-, што-небудзь».

*Чыгунка, тэлеграф, пошта, школы розных гатункаў, п а ч ы н а ю ч ы настаўніцкімі семінарыямі і к а н ч а ю ч ы вышэйшаю школаю, маюць сваіх прадстаўнікоў з Мікуціч* (Я. К о л а с. На ростанях). *П а ч ы н а ю ч ы выгрузкай труб і канчаючы капаннем траншэй і ўкладкай трубаправода, усё робяць машыны* (з газет).

Усе гэтыя прыназоўнікі ўласцівы пераважна газетнай мове.

## СКЛАДАНЫЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ

§ 1120. У якасці прыназоўнікаў могуць выступаць цэлыя спалучэнні слоў. Да ліку іх адносяцца:

1. Прыназоўнікі, утвораныя ад склонавай формы назоўніка ў злучэнні з простымі прыназоўнікамі: *у адносінах да, у залежнасці ад, у адрозненне ад, па напрамку да, па шляху да* (з родным склонам), *у адказ на* (з вінавальным склонам), *у параўнанні з, у адпаведнасці з, у сувязі з, у звязку з, на чале з* (з творным склонам) і інш.

*Цяпер яны былі на супрацьлеглым, у а д н о с і н а х д а Нам-Дэві, баку ўзгор'я* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня). *Змены на сонцы адбываюцца ў з а л е ж н а с ц і а д прычын атмасфернага характару* (Б. В а р а н ц о ў-В е л ь я м і н а ў. Астраномія). *Народы многіх краін устанавілі ў сябе рэжым народнай дэмакратыі і пасяхова ідуць п а ш л я х у д а сацыялізма* (з газет). *У а д к а з н а пастанову ўрада мы ўдвоілі выпуск сельскагаспадарчых прадуктаў* (з газет). *Ноч закрыла сваім змрокам яшчэ многа пытанняў, якія стаяць у з в я з к у з псіхічнымі праяўленнямі чалавечага жыцця* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Наш народ н а ч а л е з Леніным паклаў канец ладу капіталізму* (з газет).

Гэты від складаных прыназоўнікаў характэрны ў асноўным для стыляў кніжнай мовы.

2. Прыназоўнікі, утвораныя ад злучэння прыслоўяў з простым прыназоўнікам: *незалежна ад, воддаль ад, недалёка ад, непадалёку ад, паблізу ад, далёка ад, убок ад, збоку ад, наўскасяк ад, прыстасавальна да, раней да* (з родным склонам), *нароўні з, разам з, побач з, поплеч з, поруч з, адначасова з, адпаведна з, згодна з, услед за, следам за* (з творным склонам).

*Вось ён, настаўнік, не мае веры, што ёсць нейкая таемная варожая сіла, існуючая н е з а л е ж н а а д чалавека...* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Тут вось, в о д д а л ь а д берага Друці, у зелені дрэў*

*туліўся домік рабочага кардоннай фабрыкі* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Домік, дзе жыў Васіль Пятровіч, знаходзіўся непадалёку ад хлебазавода* (У. Карпаў. За годам год). *Крыху ўбок ад яе* [лагчынкі], *на мяжы, разгацілася адвечная старая дзічка* (К. Чорны. Ідзі, ідзі). *Яго цягнула прысесці пад лахматым, капялюшыстым клёнам, збоку ўквечанай клумбы, наўскасяк ад сажалкі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Марксізм-ленінізм атрымаў далейшае развіццё прыстасавальна да новых гістарычных умоў* (з газет). *Хацелася Алёшу разам з усімі студэнтамі напружыць свае сілы для карыснай працы* (К. Чорны. Бяздонне). *З вясны сорак другога года, як толькі Ячны, услед за сваім Кастусём, падаўся ў атрад, Шпэк прыціх* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Таварыства звычайна падзяляецца на секцыі, адпаведна са зместам сваёй работы* (Е. Пяроўскі. Школа).

Заўвага. У мове мастацкай літаратуры шырока ўжываюцца размоўна-дыялектныя варыянты некаторых адпрыслоўных складаных прыназоўнікаў. Напрыклад, побач з прыназоўнікам *воддаль ад* пашыраны *паводдаль ад, наводдаль ад, наводдалек ад;* побач з прыназоўнікам *непадалёку ад* сустракаецца *непадалёк ад, непадалёчку ад.*

*Рэшта дзяўчат стаялі паводдаль ад каня, які павольна зграызаў малодзенькую травіцу* (Р. Мурашка. Сын). *Зрэдку наводдаль ад вёсак кавалкі поля, падзеленага на шнуры* (П. Галавач. Чацвёртае спатканне). *Ніхто не ведаў, што гэта жанчына, у вялікай шэрай хустцы, ціхая, на сваім месцы пры сцяне наводдалек ад сцэны, ёсць жонка Міхала Тварыцкага* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Непадалёчку ад воза ляжаў стары* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Вясенняя ноч. Непадалёк ад гасцінца — хвойнік* (Я. Купала. На папасе).

Адпрыслоўны від складаных прыназоўнікаў увесь час развіваецца за кошт наватвораў. Яны шырока ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры, а таксама ў навуковым і публіцыстычным стылях.

3. Прыназоўнікі, утвораныя ад спалучэння дзеепрыслоўя і простага прыназоўніка: *нягледзячы на, не зважаючы на* (з вінавальным склонам), *выходзячы з* (з родным склонам), *не гаворачы аб* (з месным склонам).

*Ніхто з сялян не будаваўся тут, нягледзячы на ўсе выгоды гэтай мясціны* (Я. Колас. У палескай глушы). *Не зважаючы на мокрую калашыну і поўны вады бацінак, ён спаважна падсеў да вясла і пачаў заграбаць ім празрыстую, халодную яшчэ ваду* (Я. Брыль. У чыстым полі пад ракітай). *Зыходзячы з плана перабудовы жывёлаводства, мы павінны ўлічыць вопыт перадавых калгасаў* (з газет).

Складаныя прыназоўнікі гэтага віду шырока ўжываюцца ў розных стылях мовы.

§ 1121. Складаныя прыназоўнікі характарызуюцца тым, што з лексіка-марфалагічнага боку яны выступаюць як адзінае цэлае. Іх граматычныя функцыі заўсёды вызначаюцца і абмяжоўваюцца значэннем тых слоў, якія ўваходзяць у іх склад. Напрыклад, у прыназоўніках *па шляху да, у напрамку да* прасторавае значэнне выражаецца лексічным значэннем першай іх часткі *па шляху, у напрамку* і граматычна другой часткі прыназоўнікам *да;* у прыназоўніку *разам з* значэнне сукупнасці лексічна выражаецца прыслоўем *разам,* якое ўзмацняецца фармальным значэннем прыназоўніка *з.*

Складаныя прыназоўнікі заўсёды канкрэтныя і ў асноўным аднaзначныя, што істотна адрознівае іх ад простых прыназоўнікаў. Яны, як правіла, могуць выражаць адно якое-небудзь значэнне. Напрыклад, прыназоўнікі *ў параўнанні з, у адпаведнасці з, згодна з, адпаведна з* выражаюць значэнне супастаўлення (з кім, чым), прыпадабнення, адпаведнасці (каму-, чаму-небудзь).

*Нашы поспехі ў параўнанні з мінулым годам павялічыліся ўдвая* (з газет). *У адпаведнасці з рашэннямі з'езда і ўказаннямі У. І. Леніна па ўсёй краіне разгарнулася падрыхтоўка да ўзброенага паўстання, у якой прынялі ўдзел і сацыялістычныя саюзы моладзі* (В. Жураў. Як быў створан камсамол Беларусі). *«Думка асушыць Калхіду з'явілася даўно,— гаварыў Андрэй Міхайлавіч. — Яна ўмацоў-*

*валася адпаведна з ростам тэхнікі»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Прыназоўнікі *ў адносінах да, у адказ на* выражаюць аб'ектнае значэнне.

*У адносінах да Часовага ўрада Ленін выставіў лозунг: «Ніякай падтрымкі Часоваму ўраду»* («Весці АН БССР»). *У адказ на ноту Савецкага ўрада была атрымана нота ўрада Францыі* (з газет).

Прыназоўнікі *поплеч з, поруч з, побач з, разам з* указваюць на абумоўленасць, сукупнасць.

*Побач з намі, камуністамі, так, каб адчуваць локаць старэйшага, станавіліся юнакі і дзяўчаты* (з газет). *Злучэнні беларускіх партызан дзейнічалі поруч з народнымі мсціўцамі іншых братніх рэспублік* (Я. Брыль. Нёманскія казакі). *Алесь стаяў поплеч з ёю, упёршыся локцямі на адчыненае акно* (К. Чорны. Зямля). *Разам з вамі ў вольны вырай палячу і я* (Я. Колас. Дзве дарогі).

Значэнне прычыны выражаецца прыназоўнікамі *ў залежнасці ад, нягледзячы на, не зважаючы на, у сувязі з.*

*Нягледзячы на свой узрост, ён, яшчэ моцны, бадзёры, прымае актыўны ўдзел у працы* (з газет). *Пэўныя колы імперыялістычных дзяржаў выказваюць яўную трывогу ў сувязі з эканамічнымі поспехамі Савецкага Саюза* (з газет).

Прасторавае значэнне з удакладненнем месца дзеяння або кірунку яго выражаецца прыназоўнікамі *воддаль ад, непадалёку ад, паблізу ад, далёка ад, недалёка ад, убок ад, збоку ад, наўскасяк ад, услед за, следам за* і інш.

*Паблізу ад яго пачыналася Савецкая вуліца* (У. Карпаў. За годам год). *Віця пайшоў убок ад Міхасёвай хаты* (А. Чарнушэвіч. На сажалцы). *Дзесьці, далёка ад нас, пачулася рэха* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Недалёка ад воза, на абочыне шашы, сядзеў хлопец* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Потым услед за ціхім грукам у дзверы прыйшоў Ігнась* (Р. Мурашка. Сын). *І Толя спяшаецца следам за імі* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Паводдаль ад дарогі разгацілася палявая дзічка* (К. Чорны. Ідзі, ідзі).

---

# ЗЛУЧНІК

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ЗЛУЧНІКУ

§ 1122. Злучнікамі называюцца службовыя словы, якія ўжываюцца для сувязі слоў, частак складанага сказа і самастойных сказаў.
*Усё гусцей і гусцей і гусцей сее слёзы туман на палі* (П. Трус. Успомні). *Ужо адчуваліся блізкія халады, і голыя дрэвы ў садах набывалі колер сухой глыбокай восені* (К. Чорны. Зямля). *Дажджлівая заслона схавала ўсе горы, толькі бліжэйшыя скалы невыразна чарнеюцца* (Я. Маўр. Сын вады). *Калі падзьме часам вецер, то здавалася, нібы журчыць, пераліваецца... вецце, шэпатам спадае да самага долу* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *На пятнаццаць гектараў разросся калгасны сад. А якія палі навакол! Ды ці ўсё пералічыш? Ёсць хлеб і да хлеба... Дый ці аб хлебе адным толькі клопат...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Акрамя злучэння слоў і сказаў, многія злучнікі выкарыстоўваюцца для сувязі цэлых адрэзкаў кантэксту са значнай колькасцю самастойных сказаў. У такой ролі могуць выступаць злучнікі ўсіх асноўных груп.
*Вось толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнаю шчэццю лясоў, над круглымі купамі-шапкамі кучаравай лазы, над барадаўкамі-купінамі жорсткай асакі, тады яна няветла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубы ды голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці. І дзед Талаш не адважваецца тады ад'язджаць на сваім чаўне на сярэдзіну Прыпяці.*

*Затое ж як лагодна і ўтульна разляжацца яна ў мяккіх берагах, калі супакоіцца вецер, а над Палессем рассыплецца сонца мільярдамі залатых крупак святла! Спакой і цішыня пануюць тады над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў* (Я. Колас. Дрыгва).

Злучнікі з'яўляюцца нязменнымі словамі, гэта значыць, што яны не маюць фармальных паказчыкаў (канчаткаў, суфіксаў, прыставак) для выражэння граматычных катэгорый.

Выступаючы ў нязменнай форме для сувязі слоў і сказаў, злучнікі страцілі сваё лексічнае (індывідуальнае) значэнне. Злучнікі не ўказваюць ні на прадметы, ні на з'явы, ні на іх прыметы і не з'яўляюцца членамі сказа. Ва ўсіх выпадках яны толькі афармляюць лагічныя адносіны, якія ўзнікаюць паміж тымі ці іншымі сінтаксічнымі спалучэннямі.

Граматычныя значэнні злучнікаў выяўляюцца ў кантэксце і залежаць, як правіла, ад наступнага або папярэдняга выказвання. (Аб злучальных словах гл. § 1204—1211).

§ 1123. Па свайму марфалагічнаму саставу ўсе злучнікі падзяляюцца на дзве групы: простыя і састаўныя.

Да групы **простых** належаць адзіночныя злучнікі, якія складаюцца з аднаго, звычайна аднаскладовага або двухскладовага слова: *а, і, ды, дый, ж (жа), бо, ці, як, каб, што, хоць, хіба, толькі, пакуль* і інш.

Значная частка простых злучнікаў не мае свайго ўласнага націску і ў сэнсавых адносінах прымыкае да наступнага слова. У выніку гэтага ўсе аднаскладовыя і некаторыя двухскладовыя злучнікі зліваюцца ў вымаўленні з наступным паўназначным словам з уласным націскам, напрыклад: *Стагналі людзі ў цёмных мурах, ды не спынялі барацьбы і не згіналіся пад бурай, як векавечныя дубы* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Прамень на захадзе з чырвона-палаючага рабіўся бурачным, а па краях пераходзіў у буланы колер* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Простыя злучнікі ў сваю чаргу падзяляюцца на невытворныя і вытворныя.

Простыя невытворныя злучнікі з'яўляюцца марфалагічна непадзельнымі, напрыклад: *а, і, ды, ж (жа), ці* і інш. Тыя ж злучнікі, якія з пункту погляду сучаснага стану развіцця беларускай мовы ўтварыліся ад іншых часцін мовы або шляхам спалучэння злучнікаў, называюцца вытворнымі: *што, толькі, калі, або, абы, аж, дый* і інш.

**Састаўныя** злучнікі складаюцца з двух або некалькіх слоў: *а то, ці то, хоць — але, як — так і, таму што, так што, дарма што, тады як, як быццам, як бы, як і, ды і, ды і то, як толькі, перш чым, толькі што, для таго каб, з-за таго што, з прычыны таго што* і інш. Гэта больш позняя, але разам з тым самая шматлікая група ў разрадзе злучнікаў. На сучасным этапе развіцця літаратурнай мовы яна ахоплівае амаль дзве трэці ўсіх злучнікаў і па меры далейшага развіцця мовы папаўняецца новымі формамі.

§ 1124. Па спосабу ўжывання злучнікі падзяляюцца на тры групы: а) адзіночныя, б) паўторныя, в) парныя.

Да групы **адзіночных** адносяцца непадзельныя злучнікі, якія не паўтараюцца пры кожным аднародным члене і састаўной частцы складанага сказа. У склад гэтай групы ўваходзяць пераважна простыя злучнікі: *а, але, ж (жа), бы, таму* і інш.

*Не голас, а гром* (Я. Колас. Суд у лесе). *Хуткім, **але** лёгкім поступам нехта ішоў на святло вогнішча...* (М. Чарот. Свінапас). *Хлапец прыслухоўваўся да ціхага людскога гоману ля шашы, **але** ўся яго ўвага была засяроджана на возе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Лодкі выплылі на Нарач, **бы** на сіне-мора* (М. Танк. Нарач). *Быў чалавек ціхі і непрыкметны. Ні з кім асабліва не сыходзіўся, **так што** ніхто добра і не ведаў, як ён жыве...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Да групы **паўторных** адносяцца злучнікі, якія паўтараюцца пры кожным аднародным члене сказа або пры кожнай састаўной частцы складанага сказа. У якасці паўторных злучнікаў выступаюць пераважна *ні... ні, ці... ці, то... то, не то... не то, або... або, і... і* і інш.

***Ні** далеч, **ні** час не заслоняць мне родных бароў. Жывуць яны ў сэрцы, гамоняць, як прыязнь сяброў* (Я. Колас. Адплата). *Над балотцам за палеткамі, **то** кружылі, **то** ключом адплывалі гусі* (Я. Скрыган. Дбайнасць). *І тут жа, **ці то** ад перажытага, **ці то** ад папярэдняй утомленасці, адчуў Ігнась зноў знаёмую боль у грудзях...* (К. Чорны. Новыя людзі). *... У гэтай дружнай грамадскай працы так многа і музыкі, і паэзіі, і сілы, і хараства* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

Да групы **парных** належаць састаўныя падзельныя злучнікі, кожная частка якіх адносіцца да розных членаў сказа або частак складанага сказа. Гэту параўнальна невялікую групу ўтвараюць злучнікі *не толькі — але (а, і), не столькі — колькі, не то што — а (але, і), як —*

*так (і), хоць — але (аднак, усё ж), калі — тады (то, дык), што — то (дык), толькі — як, як — аж (дык, так)* і інш.

*Ён вырашыў засадзіць* **не толькі** *вялізны калгасны сад,* **а л е і** *кожную сядзібу, абсадзіць усе палявыя дарогі* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Урэзаліся Марцінавы словы Юзіку ў памяць. З тае пары дык і ўся гэта справа з пасёлкамі неяк* **не то што** *абрыдла, а як бы пацямнела, стала нецікавай, нават прыкрай* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

У складаназалежным сказе парныя злучнікі ўжываюцца толькі ў тым выпадку, калі галоўная частка сказа ідзе за даданай.

**Хоць** *і непрыемны, цяжкі гэта быў малюнак,* **аднак** *Васіль не спускаў з яго вачэй* (А. Кулакоўскі. Гартаванне). **Калі** *Сёмка з Рыгорам увайшлі ў хату і ў хаце падняўся гоман, смех і жарты, тады і Ермалай час ад часу даваў аб сабе знаць, што ён не спіць, а ўсё чуе і бачыць...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). **Што** *новы дзень —* **то** *новы бляск,* **то** *жыватворчая крыніца...* (А. Гурло. Шыраць дні).

## СІНТАКСІЧНЫЯ ФУНКЦЫІ ЗЛУЧНІКАЎ

§ 1125. Па сваіх сінтаксічных функцыях злучнікі падзяляюцца на злучальныя і падпарадкавальныя.

### ЗЛУЧАЛЬНЫЯ ЗЛУЧНІКІ

§ 1126. Злучальныя злучнікі афармляюць сінтаксічныя адносіны паміж членамі сказа або сказамі, якія адыгрываюць адносна раўнапраўную ролю пры выказванні адзінай думкі. Часткі складаных сказаў, звязаныя такімі злучнікамі, адпавядаюць звычайна асобнаму акту думкі.

*Праходзіць ноч, і меркнуць зоры* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Праходзяць эпохі, змагаемся мы, дзесяты падмурак заклалі, а Нёман гамоніць, сярдзіта шуміць, і коцяцца грозныя хвалі* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Ноч была ціхая,* **толькі** *недзе далёка за вёскай ледзь чутна вуркатаў трактар, відаць, рыхтуючы глебу пад жыта* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках).

Па сваіх сінтаксічных функцыях злучальныя злучнікі ў сваю чаргу распадаюцца на чатыры асноўныя групы: спалучальныя, супастаўляльныя, пералічальна-размеркавальныя і далучальныя.

### *Спалучальныя злучнікі*

§ 1127. Спалучальныя злучнікі звязваюць раўнапраўныя ў сэнсавых і сінтаксічных адносінах паняцці. Да гэтай групы належаць простыя злучнікі *і, ды, дый, таксама* і састаўны парны злучнік *як — так (і)*.

§ 1128. Найбольш пашыраны ў літаратурнай мове злучнік *і*. Выступаючы ва ўсіх стылях і жанрах пісьмовай і гутарковай літаратурнай мовы, злучнік *і* выкарыстоўваецца для сувязі самых разнастайных сінтаксічных адзінак. Ён можа злучаць аднародныя члены сказа, паўторныя словы, часткі складаных сказаў і цэлыя сказы. У сучаснай літаратурнай мове злучнік *і* часцей за ўсё ўжываецца для сувязі слоў і сказаў з аднароднымі або паслядоўнымі паведамленнямі.

Словы і словазлучэнні з аднароднымі паведамленнямі ўжываюцца пераважна ў адной і той жа граматычнай форме: выказнікі выступаюць у адным і тым жа часавым плане — у форме цяперашняга, прошлага або будучага часу, дапаўненні і азначэнні — у аднолькавых склонавых формах, а акалічнасці — у адных і тых жа або блізкіх паміж сабою граматычных формах.

*Дрыжаць у золаце асіны, і гнуцца кісці верабіны* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Восень: сцелецца і слаба паблісквае павуцінне, чапляючыся за тонкія, аголеныя сцяблы высокіх траў* (Я. Скрыган. Таіса). *Жаўнер быў выдатны наезнік, і конь пад ім быў лёгкі і быстры* (Я. Колас. Дрыгва). *На шэрую прамёрзлую зямлю бязгучна і густа сыплецца першы снег* (Я. Брыль. У сям'і).

У асобных выпадках спалучальны злучнік *і* настолькі збліжае аднародныя паведамленні, што яны па сутнасці выказваюць адзінае паняцце.

*Покатам ляжалі выносныя сосны, ляжалі ўдоўж і накрыж, як пасля якой буры* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Незмаўкальна няхай і ўдзень і ўначы па-над светам усім голас міру гучыць* (М. Танк. Дзённік міру).

Пры злучэнні паслядоўных паведамленняў уласна-спалучальная функцыя злучніка *і* выразна праяўляецца тады, калі выказнікі такіх паведамленняў выступаюць у рознай граматычнай форме.

*Вецер белыя хмары ўзняў і на крыллях за мора нясе* (П. Глебка. Матчына радасць). *Бліснулі дзявочым агнём яе вочы, і зноў яна пачала глядзець на снег, захопленая роўным імчаннем* (К. Чорны. Зямля). *Ранішні золак рассейваецца, і неўзабаве сонца ўрачыста ўздымаецца на чыстым, без хмурынкі небе* (М. Лынькоў. Пад сонцам Індыі).

У сказах са шматлікімі пералічэннямі злучнік *і* аб'ядноўвае пераважна аднародныя члены сказа. Пры гэтым ён можа выступаць перад кожным членам пералічэння (у тым ліку і перад першым).

*Ноч цішэла і глушэла і цяжэй налягала на зямлю* (Я. Колас. На ростанях). *Дзень іграе на жалейцы, на трубе, і на ражку, і на сінім трысніку* (М. Танк. Нарач). *І сэрцы, і воля, і думы народа злучыліся ў плыні адной, як хвалі патокаў, як шумныя воды, дзе сонца гуляе вясной* (Я. Колас. XVIII з'езду партыі). *Я ўслухаўся ў сугучча непаўторнае, заглядзеўся ў ззянне струн тваіх, — і хлынулі на вочы ліўні зорныя, і гром напоўніў музыкай мой слых* (М. Танк. Якубу Коласу).

Ужыванне *і* толькі перад апошнім аднародным членам рэзка абмяжоўвае пералічэнне, замыкаючы яго ў інтанацыйных адносінах: *Мір вам, людзі, лясы і дубровы! Мір табе, залатая зямля!* (П. Глебка. Слова міру). *Дождж пайшоў з громам, з шалёным посвістам ветру і з бліскавіцаю* (Я. Скрыган. Непатрэбны чалавек).

Побач са злучэннем слоў і сказаў з аднароднымі і паслядоўнымі паведамленнямі злучнік *і* часта ўжываецца для сувязі сказаў з прычынна-выніковымі і ўмоўна-выніковымі адносінамі.

*Гаварыў, галоўным чынам, Турсевіч. У яго была тонкая назіральнасць, і ніводная рыска, тыповая драбніца, не хавалася ад яго вока* (Я. Колас. На ростанях). *У батарэі засталіся апошнія мізэрныя рэшткі энергіі, і ёю карысталіся цяпер толькі для самых важных спраў* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Зразу за работу ўзяліся дружна, і за тры дні большая частка дзерава ляжала ў канцы вёскі на пляцы...* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Азірацца не трэба — і так вядома, хто гэта* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Акрамя таго, злучнік *і* можа звязваць у сучаснай беларускай літаратурнай мове члены сказа і часткі складанага сказа са спалучальна-супраціўнымі адносінамі. У такіх выпадках значэнне злучніка *і* набліжаецца да значэння супастаўляльных злучнікаў.

*Крамарэвіч хацеў стаць на ногі і ўпаў у непрытомнасці* (К. Чорны. Заўтрашні дзень). *Людзі слухалі паслоў і штосьці не адчувалі тае праўды, якой яны чакалі* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Праблема абваднення палёў застаецца адной з самых сур'ёзных праблем сельскай гаспадаркі Індыі, і вырашыцца яна тады, калі народ будзе мець магчымасць поўнасцю механізаваць гэту... працаёмкую работу*

(М. Лынькоў. Пад сонцам Індыі). *Браўся за адно, за другое, і рукі не ліплі да працы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). (Аб ужыванні *і* ў ролі далучальнага злучніка гл. § 1143).

§ 1129. Злучнік *ды* па сваёй функцыі набліжаецца да злучніка *і* ў сказах са спалучальнымі адносінамі. Асноўная розніца паміж імі ў тым, што ўжыванне службовага слова *ды* абмяжоўваецца размоўнымі стылямі літаратурнай мовы.

Злучнік *ды* ў большасці выпадкаў звязвае члены сказа і сказы з аднароднымі паведамленнямі.

*Пад вяслом і шастом ласкава плёхала ды булькала вада* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Цішыня. Шуміць сасняк ды бярэзнік голы* (А. Бялевіч. Родная крыніца). *Вось і жывём мы цяпер па-новаму ды па-вольнаму* (М. Чарот. Пасля буры). *Дзядзька Антось не дарма быў старым чалавекам: ён добра ведаў, як збліжае людзей хлеб ды соль* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Толькі ўздрыгвалі густыя расніцы, ды на бледнай скуры на скронях імкліва білася сіняя пражылка* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А ў полі-полі красавалі красою-цветам васількі. Ды ў лузе гуслі заміралі пад кволым шэпатам ракіт* (П. Трус. Цыганка).

У сказах са шматлікімі пералічэннямі спалучальны злучнік *ды* ўжываецца звычайна перад апошнім членам пералічэння.

*Лабановіч зрываецца з месца, бярэ паперу і прылады пісьма ды прысядае да Аксёна* (Я. Колас. На ростанях). *Спі, сыночак, спі, сакалік, ды расці* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Загоіцца спіна, папраўішся, ды пажывём яшчэ гадкоў пяць* (К. Крапіва. Партызаны). (Аб ужыванні *ды* ў іншых значэннях гл. § 1134, 1144).

§ 1130. Размоўны спалучальны злучнік *дый* ужываецца пры аднародных членах сказа, якія развіваюць выказаную думку ў іншым лагічным плане. Такія члены сказа або завяршаюць папярэднія падзеі, або парушаюць іх далейшы звычайны ход.

*Адно ж ты, Пятруська, не байся на кірмашы. Сюды-туды дый дадому* (Я. Колас. Кірмаш). *Аднойчы набіў ён малых, выйшаў за дзверы дый слухае* (Я. Брыль. У сям'і). *Запаліў я запалку дый кінуў у сухую траву* (К. Крапіва. «Над ракою Арэсай). *І іменна вось цяпер не хапала Каці настаяшчай сяброўкі, каб пагаварыць пра ўсё, што здавалася вельмі важным. От хоць бы з гэтым бракам... Добра: тады яна пагаворыць з Валодзем... Кожны раз, калі пачынаў ён пра гэта, яна адмахвалася, як ад авадня, а цяпер возьме дый папросіць, каб ён сам усё, усё праверыў у яе — ад самай першай жменькі зямлі да вылітае дэталі* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). (Аб ужыванні злучніка *дый* у далучальным значэнні гл. § 1141).

§ 1131. Пры дапамозе спалучальнага злучніка *таксама* звязваюцца звычайна самастойныя сказы. Слова *таксама* размяшчаецца ў большасці выпадкаў перад выказнікам наступнага сказа.

*Сённяшні дзень здаецца яму весялейшым за ўсе вёсны, пражытыя ім. Якуб таксама перажывае вялікую радасць* (А. Якімовіч. Санька). *Букрэй аддаў загад расставіць ланцуг дазораў для нагляду за вёскаю. Палякі, як данеслі разведчыкі, таксама паставілі варту на ўсход ад вёскі: адкуль спадзяваліся яны небяспекі — у тым баку былі пазіцыі Чырвонай Арміі* (Я. Колас. Дрыгва). *Пастукалі яшчэ раз. Таксама ніхто адтуль не адклікаўся* (Я. Колас. У палескай глушы).

§ 1132. Састаўны парны злучнік *як — так (і)* злучае часцей аднародныя члены сказа, радзей — састаўныя часткі складанага сказа. Гэты злучнік ужываецца ў сказах з параўнальна-супастаўляльным адценнем.

*Пажар заўважылі як з баракаў, так і з пасёлка толькі тады, калі згасла электрычнае святло* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

...*Як адно, так і другое баяліся сказаць што-небудзь не да месца, не да часу* (А. Кулакоўскі. Незабыўнае рэха).

Заўвага. Састаўны парны спалучальны злучнік *як — так (і)* неабходна адрозніваць ад парнага падпарадкавальнага злучніка *як — так (дык, і)* у часавым і ўмоўным значэннях. Параўн.: *А як убачыла першы раз, так адразу сэрца і дрогнула: ён* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Рыгор як заплюшчыў вочы, так і заснуў* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Але самалёты як развярнуліся, так і паляцелі найсцяж дарогі, на захад, на гарадок* (М. Лынькоў. Векапомныя дні.) *Але ўпарты Юзік хлопец. Як упёрся, дык хоць ты яму кол на галаве чашы* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

## Супастаўляльныя злучнікі

§ 1133. Супастаўляльныя злучнікі злучаюць процілеглыя паведамленні. Гэта самая шматлікая група ў разрадзе злучальных злучнікаў. У склад яе ўваходзяць простыя злучнікі *а, але, ды, аднак (жа), дык, ж (жа), затое, іначай, інакш, толькі, адно (ж)* і састаўныя злучнікі *а то, тым не менш, не толькі — але (а, і), не толькі — колькі і не то што — а (але, і)*.

Па сваіх значэннях супастаўляльныя злучнікі распадаюцца на дзве асноўныя групы: супраціўныя і супастаўляльныя.

§ 1134. Супастаўляльныя злучнікі з супраціўным значэннем ужываюцца для сувязі процілеглых членаў сказа і сказаў. За выключэннем злучніка *затое*, у такой ролі выступаюць усе адзначаныя вышэй службовыя словы.

Злучнікі *а, але, ды* ўжываюцца для сувязі аднародных членаў сказа, частак складанага сказа і самастойных сказаў. Розніца паміж гэтымі службовымі словамі заключаецца толькі ў ступені проціпастаўлення паняццяў і думак. Пры ўзмоцненым проціпастаўленні звычайна ўжываецца злучнік *але*. У такіх жа сказах выступае і злучнік *ды*, толькі ён ужываецца ў размоўных стылях літаратурнай мовы. Пры дапамозе злучніка *а* выражаецца звычайна аслабленае проціпастаўленне.

У простых сказах злучнікі *а, але, ды* звязваюць пераважна процілеглыя выказванні і выказванні з узаемным выключэннем.

а) Процілеглыя выказванні:

*Гэта, мусіць, і дзед мой і бацька перажываў. Думаў іначай, а перажываў, мусіць, нешта падобнае* (К. Чорны. Зямля). *І вось ён, горад, зноў перад намі, скалечаны, але жывы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *А навальніца насоўвалася павольна, ды станоўка і настырна* (Я. Колас. На ростанях).

б) Выказванні з узаемным выключэннем:

*Бярвенні не каціліся па легах, а коўзаліся, з'язджалі, упарта не паддаваліся намаганням рабочых* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *У гэтым баі маёр Караневіч быў ранены, але не пакінуў камандная пункта...* (К. Крапіва. Проба агнём). *Стагналі людзі ў цёмных мурах, ды не спынялі барацьбы і не згіналіся пад бурай, як векавечныя дубы* (Я. Колас. Рыбакова хата).

У складаных сказах злучнікі *а, але, ды* звязваюць процілеглыя выказванні і выказванні з адносінамі неадпаведнасці.

а) Процілеглыя выказванні:

*Сягоння нявольнік, а заўтра — тварэц краіны свабоднай і вольнай* (П. Трус. Дзесяты падмурак). *Палешукі стаялі, як строгія і справядлівыя суддзі, але сур'ёзныя твары іх часта рабіліся вясёлымі, і дружныя покаты смеху напаўнялі вуліцу* (Я. Колас. На ростанях). *«Так лепей!» — гаворыць Ядвіся да свайго сэрца, ды яно ніяк не згаджаецца з ёю* (Я. Колас. На ростанях).

б) Выказванні з адносінамі неадпаведнасці:

*У іх руках піла звінела, здаецца, не датыкалася зубамі да дрэва, а рэз імкліва паглыбляўся* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Жанчыны пагразілі яму пальцамі, але ў адказ атрымалі яго мяккую*

*ўсмешку і заняліся сваімі гутаркамі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Што ж, быў у руках Белавус, ды вораг узяць не патрапіў* (Я. Колас. Адплата). (Аб ужыванні злучніка *а* ў іншых значэннях гл. § 1135, 1142).

Акрамя таго, злучнікі *але, ды* часта ўжываюцца для сувязі процілеглых паведамленняў, адносіны паміж якімі ўскладняюцца абмежавальным адценнем.

*Чалавечына добры, розуму бездань, але трошкі старазаветны* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Малады чалавек гаварыў па-беларуску, але з моцным польскім акцэнтам* (Я. Колас. На ростанях). *Лавіў наш дзядзька нераткамі і венцярамі і сачкамі, ды аднаго ўсё ж бракавала: у дзядзькі чоўна неставала* (Я. Колас. Новая зямля). (Аб ужыванні *але* і *ды* ў далучальным значэнні гл. § 1144, 1145).

Блізкім да злучнікаў *але* і *ды* з абмежавальным адценнем з'яўляецца злучнік *аднак (жа)*. Ён ужываецца звычайна ў сказах са значэннем праціпастаўлення і неадпаведнасці.

*Качак пакуль што няма, аднак яны могуць быць...* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Ну, што ж, здавалася ўсё ў парадку, аднак Сучок доўга чмокаў губамі, моршчыўся, глядзеў убок, пазбягаў сустракацца вачыма з Аляксеем* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Недзе далёка, на краі мястэчка, меладычна заспявала труба пастуха. Аднак у бальніцы яшчэ цішыня* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Размоўны злучнік *дык* звязвае часткі складаных сказаў і цэлыя сказы са значэннем неадпаведнасці і праціпастаўлення.

*Пара б і вучыцца, дык школы няма* (Я. Колас. Радасная сустрэча). *Хацеў выспацца, дык не даюць* (К. Чорны. Звяга). *«Дай яму вады».— «Давай. Дык ён адно губы памачыў і не піў»* (К. Чорны. Зямля).

Злучнік *іначай* і яго размоўны сінонім *інакш* злучае часткі складаных сказаў з чыста супраціўнымі адносінамі.

*Тыл арміі павінен быць надзейны, іначай мы не зможам наступаць* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Павінна кожная рэч сваё месца ведаць, іначай, голуб мой, непарадак* (М. Лынькоў. Над Бугам). *Данік разумеў, што там — вялікі бой, можа нават такі, як бітва пад Барадзіно, інакш немцы не кідалі б столькі авіяцыі...* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). (Аб ужыванні злучніка *інакш* у далучальным значэнні гл. § 1151).

Блізкім да злучніка *іначай* з'яўляецца і састаўны злучнік *а то*. Розніца паміж імі толькі ў тым, што першы з іх з'яўляецца стылістычна нейтральным, другі ж выкарыстоўваецца ў размоўных стылях літаратурнай мовы.

*Абавязкова заязджайце, а то крыўдзіцца буду* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *Загадваць не буду. Хочаш сам — ідзі, а то другога буду шукаць* (К. Крапіва. Проба агнём). *Вярнуся хіба дадому, а то яшчэ ляснік убачыць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). (Аб ужыванні злучніка *а то* ў іншых значэннях гл. § 1149, 1176).

Злучнік *ж* (пасля зычных — *жа*) ужываецца толькі для сувязі частак складанага сказа або цэлых сказаў. Па свайму значэнню ён адпавядае злучніку *а* ў сказах з процілеглымі адносінамі.

*Тая і другая сваімі думкамі праводзілі яго ў далёкую дарогу, сваімі ж сумненнямі выказвалі баязлівасць, каб гэтыя праводзіны не былі апошнімі... Трэба сказаць, што Сцёпка даўно чакаў адказу на свой ліст. Але час праходзіў. Аленка ж упарта маўчала* (Я. Колас. На прасторах жыцця). (Аб ужыванні злучніка *ж (жа)* у сказах з далучальнай сувяззю гл. § 1147).

Злучнікі *толькі* і *адно* звязваюць члены сказа і сказы з супраціўна-абмежавальнымі адносінамі. Першы з іх з'яўляецца стылістычна нейтральным.

*Нічога не хочацца, т о л ь к і цішыні, адну хвіліну цішыні, такой, каб на ўсё забыцца* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Гром аддаліўся, т о л ь к і часамі далятае яго прыглушаны грукат з далёкага, цёмнага краю неба* (Я. С к р ы г а н. Непатрэбны чалавек). *Поезд падыходзіў да станцыі Стоўбцы, на вакзале было шмат людзей, амаль выключна вайскоўцы. Т о л ь к і дзе-нідзе трапляліся цывільныя* (І. Г у р с к і. Вайна вайне). (Аб ужыванні злучніка *толькі* ў сказах з далучальнымі адносінамі гл. § 1146).

Злучнік *адно* выкарыстоўваецца, як правіла, у гутарковай мове.

*Застанавіўся я ў агульным памяшканні для студэнтаў Н-скага інстытута, жыў там некалькі дзён, а цяпер перабраўся на кватэру вельмі добрую, а д н о што цесную* (К. Ч о р н ы. Зямля). *З мужчын ніхто туды ніколі не хадзіў, а д н о некалькі кабет, у тым ліку і я* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *Наталля не перамянілася, а д н о толькі што папаўнела, і ямачкі на шчаках сталі яшчэ харашэй* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах).

Пры дапамозе размоўнага злучніка *адно (ж)* спалучаюцца пераважна часткі складаных сказаў з адносінамі неадпаведнасці.

*Марысьцы неўзабаве з вачыма нешта прыключылася. Думала пабаліць ды сціхне, а д н о ж што далей, то болей* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Ён думаў так выкруціцца. А ж н о ж частку падаў!* (К. Ч о р н ы. Ліст Малькевіча).

Састаўны злучнік *тым не менш (меней)* ужываецца пераважна для сувязі самастойных сказаў з супраціўнымі адносінамі, якія ўскладняюцца адценнем уступкі.

*Словам, у рэспубліцы створаны неабходныя ўмовы, якія дазваляюць весці будаўніцтва ў шырокіх маштабах, на больш высокім тэхнічным узроўні... Т ы м н е м е н ш у будаўніцтве дапускаюцца буйныя недахопы* (з газет). *Палкоўнік пан Дэмбіцкі не лічыўся і з тою акалічнасцю, што ў штабе яго праціўніка не заўсёды вялі рэй прафесіяналы-штабісты... Т ы м н е м е н е й палкоўнік пан Дэмбіцкі рупліва размяшчаў на абраных участках тыя ці іншыя вайсковыя часці...* (Я. К о л а с. Дрыгва).

Парныя злучнікі *не толькі — але (а, і), не столькі — колькі* і *не то што — а (але, і)* у сучаснай літаратурнай мове ўжываюцца для сувязі аднародных членаў сказа.

*Грукат тым часам усё мацнеў. Ён ужо н е т о л ь к і непадзельна панаваў у паветры, заглушыўшы ўсе іншыя гукі, а л е, здавалася, пранік у глыб зямлі, і тая дробна нясціхна дрыжала* (В. Б ы к а ў. Смерць чалавека). *Мы пазнаём іх н е с т о л ь к і ў дзеянні, к о л ь к і ў выказваннях сваіх думак і пачуццяў і характарыстыках дзеючых асоб* (К. К р а п і в а. Беларуская савецкая драматургія). *«Такія дарогі* [на Каўказе]*— два метры проста не ідуць. А тут роўная, глядзі, якая роўная!» — «Дарога то гладкая, ды з фокусамі. Н е т о ш т о не пракоцішся, а і не прапаўзеш»* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). (Аб ужыванні адзіночнага злучніка *не то што* ў далучальным значэнні гл. § 1151).

§ 1135. Супастаўляльныя злучнікі ў с у п а с т а ў л я л ь н ы м значэнні злучаюць такія паведамленні, у аснове якіх ляжыць звычайнае адрозненне паміж з'явамі і падзеямі аб'ектыўнай рэчаіснасці. Процілеглыя адносіны паміж членамі сказа і сказамі пры такой сувязі настолькі аслабляюцца, што новае паведамленне непасрэдна не вынікае са зместу папярэдняга.

У супастаўляльным значэнні ў сучаснай літаратурнай мове выступаюць злучнікі *а* і *затое*.

Злучнік *а* ўжываецца звычайна для сувязі членаў сказа, частак складанага сказа і цэлых сказаў з супастаўленнем незалежных або адначасовых падзей.

*Кашлатыя лапы ялін гнуліся пад халодным пластом снегу, а малень-*

*кія елачкі на ўскрайку лесу і пні панадзявалі пышныя белыя скругленыя шапкі-башлыкі і хаваліся пад імі* (Я. Колас. На ростанях). *Бацькі яго* [пана] *у народа гэту зямлю адабралі, награбілі, а цяпер прадаюць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Дух займае, бягу, а пагоня ўсё бліжэй* (Я. Колас. На ростанях). *Ішлі гуськом падрыўнікі і след у след ступалі, а ў травах росных кулікі крычалі, заміралі* (А. Бялевіч. Жывая рака). *І з горада і ў горад снавалі машыны па дарозе, а час бег няспынна наперад, наперад, наперад!* (І. Грамовіч. Да ясных вышыняў). *Там, за лугам, зарою сатканым, яшчэ дрэмле лясок баравы, а сталёвыя косы ад рана ўжо будзяць расой паплавы* (П. Трус. На сенажаці).

Пры сувязі сказаў і частак складанага сказа, якія ўскладняюцца часавымі адносінамі, злучнік *а* можа аднач часова ўказваць на нечаканасць і непрадбачанасць наступлення наступных падзей.

*Каля рэчкі, у празрыстай імгле туману, крычаць драчы. Пахне канюшынай і палыном... Азірнешся на вёску, а там блакітныя дымы з комінаў валяць* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Уласна-супастаўляльны злучнік *затое* ўжываецца пры замяшчальным супастаўленні. У гэтым значэнні ён злучае пераважна часткі складаных сказаў або цэлыя сказы.

*Не бяда, што дождж ык і гразка, затое прырода ажыве* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *На гнуткай жэрдачцы калыска звісае к самаму палку, а столь закурана і нізка, дзе трудна жыць і павуку. Затое ж колькі шчасця, ласкі і мацярынскага цяпла калыска-гойданка ўзяла* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Злучнік *затое* ставіцца звычайна непасрэдна перад тым словам, часткай сказа або сказам, якія выражаюць замяшчэнне. Аднак у тых выпадках, калі проціпастаўленне ўзмацняецца, тады перад злучнікам *затое* дапускаецца пастаноўка злучнікаў *але* і *ды*.

*Свідэрскі не ваяка, гэта так, але затое першы між гуляк...* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой). *Самы працавіты, па маці, быў Кузьма. У школе ён вучыўся не надта, але затое карміў сям'ю рыбай* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *І сілу яна мела, як у таго камара... Ды затое была Марылька такая смелая, што і хлопец другі не дакажа* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

Заўвага. Службовыя словы *а, але, аднак, ды, затое* і некаторыя іншыя выкарыстоўваюцца таксама для ўзмацнення супрацьстаўлення галоўнага сказаададзенаму ўступальнаму або аднаго з членаў сказа другому з уступальным злучнікам *хоць*.

*Хоць з цяжкасцю, а Віктару Сяргеевічу ўсё ж удалося разгаварыцца з бабкай Мар'янай...* (А. Якімовіч. Базылёў курган). *Хоць спачатку вайна вялася дзесь далёка, але водгулле яе ўсё гласней і галасней даносілася да ціхага Палесся* (Я. Колас. Дрыгва).

## Пералічальна-размеркавальныя злучнікі

§ 1136. Пералічальна-размеркавальныя злучнікі ўжываюцца ў сказах з чаргаваннем аднолькава магчымых або немагчымых ці папераменных з'яў і падзей. Да гэтай групы адносяцца наступныя злучнікі: *або (або... або), альбо (альбо... альбо), ці (ці... ці), ні... ні, то... то, не то... не то, ці то... ці то.* Усе яны, за выключэннем паўторнага злучніка *ці... ці,* з'яўляюцца адназначнымі.

У сучаснай літаратурнай мове вылучаюцца два асноўныя значэнні пералічальна-размеркавальных злучнікаў — пералічальнае і размеркавальнае.

§ 1137. Пералічальна-размеркавальныя злучнікі ў пералічальным значэнні злучаюць члены сказа і сказы з чаргаваннем або пералічэннем з'яў і падзей. У гэтай ролі выступаюць паўторныя злучнікі *ні... ні, то... то, не то... не то, ці... ці і ці то... ці то.*

Злучнік *ні... ні* аб'ядноўвае адмоўныя або аднолькава немагчымыя паведамленні.

*Ні дзед Талаш, ні Мартын Рыль не дагаварвалі сваіх думак да канца, але разумелі адзін аднаго вельмі добра* (Я. Колас. Дрыгва).

Паўторны злучнік *альбо* з'яўляецца размоўным семантычным сінонімам злучніка *або... або.*

Адзіночны злучнік *або (альбо)* ужываецца для сувязі пералічэнняў з адценнем супастаўлення, якое праяўляецца ў форме выбару аднаго з паведамленняў. Кожнае з такіх паведамленняў з'яўляецца аднолькава магчымым.

*Здрадніцкая дрыгва пагражала зацягнуць у сваю багну кожнага, хто аступіцца або зробіць неасцярожны крок* (Я. Колас. Дрыгва). *Колісь, яшчэ ў дні юнацтва, мяне зачароўвалі прасторы зямлі з іх шматлікімі гаманкімі дарогамі, шырокімі і вузкімі, роўнымі і крывымі, нaабапал якіх сям-там вынікалі купчастыя ліпы, стромкія таполі або старыя кучаравыя хвоі* (Я. Колас. На ростанях). *У часе свайго рэйду па акупіраванай ворагам тэрыторыі Дзямід Сыч сустракаўся на ўскраіне вёскі альбо ў лесе з тымі, хто яшчэ нядаўна былі пчалярамі, брыгадзірамі калгасных будаўнічых брыгад...* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Да злучніка *або... або* па значэнню набліжаецца паўторны злучнік *ці.* Словы і сказы, звязаныя гэтым злучнікам, характарызуюцца толькі адценнем меркавання і некалькі меншай катэгарычнасцю выбару аднаго з паведамленняў.

*Па тым, як з атрада прыбег вартавы, як пераступіў ён у хату парог, як шапку-папаху сарваў з галавы і першае слова прамовіць не мог, — бацькі зразумелі: у лясах за Дзвіной, дзе ноччу грымеў несціхаючы бой, ці куля нямецкая раніла сына, ці труп яго недзе пад сіверам стыне* (М. Танк. Сільніцкі). *Гэта* [заданне] *было паўтарэннем ваеннага раскладу, ад якога ён ці не хацеў, ці баяўся адступіць хоць на крок* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ці ён грозіць каму, ці спужаў яго страх* (Я. Колас. На адзіноце).

Значэнне адзіночнага злучніка *ці* амаль супадае са значэннем адзіночнага злучніка *або.* Яны адрозніваюцца паміж сабою толькі адценнямі катэгарычнасці выбару аднаго з пералічэнняў.

*Уцёк бабёр уверх па Быстранцы і зноў будуецца з той самай векавой зацятасцю, як рабіў і мужык — пагарэлец ці бежанец, — які ніколі не змагаўся з суровай бядой слязьмі ды ўздыханнем* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Ён адышоўся вярсты дзве ад сяла, сеў на камень каля хвойніку і стаў думаць. Зайсці яму дадому ці лепей на вочы бацьку не паказвацца...* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

У асобных выпадках размеркавальнае значэнне адзіночнага злучніка *ці* ўскладняецца адценнем дапушчальнасці.

*Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак* (Я. Колас. Дрыгва). *Праз тыдні два ці тры пасля таго памятнага сходу пра пасёлкі, якія на цэлы год нарабіў клопату ўсім Мядзведзічам, адбылося адно здарэнне* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Яна* [граніца] *праходзіла за дзве ці тры гадзіны хады на ўсход ад вёскі* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Акрамя таго, адзіночны злучнік *ці,* як і адпаведны яму паўторны злучнік, можа выступаць у пачатку пытальных сказаў: *Ядвіся адышлася ў куток каля кафлянай печы і заспявала: «Ці я ў полі не калінкаю была?»* (Я. Колас. На ростанях). (Аб ужыванні *або, ці* ў якасці далучальных злучнікаў гл. § 1151).

### Далучальныя злучнікі

§ 1139. Далучальныя злучнікі звязваюць члены сказа і сказы з дадатковымі звесткамі, якія развіваюць, удакладняюць або паясняюць папярэднія думкі.

Функцыя далучэння ўласціва многім злучнікам. Патэнцыяльна ў такой ролі могуць выступаць амаль усе злучнікі, асабліва ў міжфразавым становішчы і пры ўстаўных словах і сказах. Аднак, акрамя ўласна-далучальных злучнікаў *ды і, і то, ды і то, гэта значыць, прычым, прытым* і *пры гэтым*, у далучальных значэннях выступаюць больш-менш сістэматычна злучнікі *а, і, ды, але, дый, ж (жа), толькі, або (альбо), ці, не то што, інакш* і словы і словаспалучэнні ў значэнні злучнікаў *нават, тым больш (болей)*.

§ 1140. Большасць далучальных злучнікаў ужываецца для сувязі слоў і сказаў, якія ўдакладняюць або развіваюць папярэднюю думку. Тыповым граматычным паказчыкам такой сувязі выступае непадзельны ўласна-далучальны злучнік *ды і*.

*Марына Міхайлаўна ведала, што ў словах Дзяміда ёсць нейкая часцінка праўды, але не ўся праўда. Ей расказвалі, як Зялёнка рыхтуе сходы, ды і сама яна на іх бывала* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Гэта ж наш камісар цяпер свету пабачыць праз яго* [радыёпрыёмнік], *ды і мы будзем ведаць, што на свеце робіцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Канфлікт, які намячаецца ў пачатку п'есы паміж Андрэем Саковічам і яго братам старшынёй калгаса Мікалаем, не развіваецца на поўную моц ды і не можа развівацца* (К. Крапіва. Беларуская савецкая драматургія). *Гэты сейбіт — таварыш Нявідны, той самы Нявідны, чыё прозвішча ды і сам ён так здзівілі дзеда Талаша* (Я. Колас. Дрыгва). *Ён, брат, мяне любіць і паважае. Ды і мне, прызнацца, жыць без яго было б сумна* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Злучнік *ды і* з'яўляецца граматычным паказчыкам далучальна-заключных адносін. Сказы і словы з такой сувяззю звычайна абагульняюць папярэднія падзеі, звесткі або думкі.

*Гэта работа патрабуе яшчэ многіх змен і паправак, ды і наогул гэта яшчэ пачатак* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Я ёй сказаў, што цябе нават і ў Мінску няма, ды і наогул я не ведаю твайго адраса* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *А сам быў пануры тады, не смяяўся. Ды і як жа смяяцца было таму, хто тройчы быў паранены, меў два георгіеўскія крыжы, камандаваў пры штурме Перакопа ўзводам і вось, вярнуўшыся ў родную вёску, што зноў трапіла ў лапы паноў, павінен аддаваць у батракі сямігадовага, першага сына?..* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Яна свяшчэнная, гэта клятва, і нельга разбаўляць яе звычайнымі словамі. Ды і ўвогуле лішняга тут ніхто не гаварыў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 1141. Пры далучэнні слоў і сказаў, якія развіваюць або ўдакладняюць выказаныя думкі, часта выкарыстоўваецца няўласна-далучальны злучнік *дый*. У такіх выпадках ён выступае ў якасці семантычнага сіноніма злучніка *ды і*.

*Усе ў палку лічылі вар'яцтвам наступаць без усякай артылерыйскай падрыхтоўкі, удзень, калі ў немца дзевяць радоў калючага дроту, дый наша драцяная агарожа цэлая...* (К. Крапіва. Доўг). *Не памятаю, чый ён, дый увесь яго не памятаю, а толькі апошнія радкі запомніліся, мусіць, назаўсёды* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Нейкім добрым, як бы зусім не гэтае сям'і чалавекам здаўся тады Ніне Лявон. У душы дзякавала яму. Дый так спадабаўся ён трохі Ніне* (П. Галавач. Загубленае жыццё). *Ён сакратар партыйнай арганізацыі не ў багатым калгасе. Дый не на парашуце яго туды спусцілі на ўсё гатовенькае...* (Я. Брыль. На Быстранцы).

Аднак самі па сабе далучальныя злучнікі *ды і, дый* ужываюцца параўнальна рэдка. Пераважная большасць слоў і сказаў далучаецца ў сучаснай літаратурнай мове пры дапамозе няўласна-далучальных злучнікаў.



31. Зак. 892

*Бронзавыя твары замёрлі ў нерухомасці і прытоеным жаху. Не даносілася адтуль н і крыку, н і шуму. Толькі — трэск* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Зноў як пустэльня зрабілася хата. У яе аж не хацелася ісці. Н і гаворкі, н і цеплыні, н і прывету* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай).

Заўвага. У многіх устойлівых зваротах і прымаўках злучнік *ні... ні* надае пералічэнням адценне няпэўнасці: *Ні богу свечка ні чорту галавешка* (прымаўка).

Пры дапамозе злучніка *то... то* спалучаюцца паведамленні з папераменным чаргаваннем.

*Далёка направа т о мігалі, т о знікалі агні* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Месяц плыў, перабягаючы з хмаркі ў хмарку, т о хаваючыся, т о зноў пабліскваючы* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *Палянкі зноў змяняліся лесам, т о стройным баравым, т о нізкім балотным* (Я. Колас. На ростанях). *Жыццё спяшаецца, толькі паспявай за ім! Т о адзін прыдумаў нешта новае, т о другі здолеў апярэдзіць час...* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Злучнік *ці... ці* аб'ядноўвае сказы і члены сказа з чаргаваннем з'яў і падзей, аднолькава магчымых у адносінах да асноўнага дзеяння, аб якім гаворыцца ў сказе. Пры гэтым злучнік *ці* выступае перад кожным членам пералічэння, у тым ліку і перад першым.

*Ц і ўваходзіў пасажыр, ц і прабягаў чыгуначнік, ц і раздаваўся смех, вокрык які, Сёмка адварочваўся, лавіў яго і адказваў настарожанасцю* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ц і шарсціць пад ботамі пясок, ц і мякка шаргаціць трава, ц і сіпіць балотная твань, калі на след прасочваецца вада, — паволі адзначае Андрэй, што нешта некалі вядомае плыве ад зямлі ў ногі і разыходзіцца знаёмым адчуваннем па ўсяму целу* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Ц і шукаць мне шчасця, ц і шукаць мне долі, ц і шукаць нядолі у сваім жыцці?..* (П. Трус. Чырвоныя ружы).

Паўторныя састаўныя злучнікі *не то... не то* і *ці то... ці то* ўжываюцца пры пералічэнні паведамленняў мадальнага характару. Мадальнае адценне злучніка *не то... не то* характарызуецца няпэўнасцю і сумненнем, а злучніка *ці то... ці то* — дапушчальнасцю і меркаваннем.

*Цяпер вербы выглядалі нелюдзімымі, здзічэлымі, халодна-непрыветлівымі. Яны глядзелі на Андрэя позіркам н е т о дакору, н е т о дзікага абурэння...* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *І тут зразу Ігнась адышоўся ўбок. Н е т о ён спалохаўся Макара, н е т о адчуў, што не варта гаварыць з ім* (К. Чорны. Новыя людзі). *І ц і т о яшчэ на яве, ц і т о ўжо ў сне залятала ў душу Андрэя так патрэбная цяпер уцешная мелодыя песні* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Дома я застаю камлюкаватага, з сівымі пасмамі ў барадзе, чалавека. Ён здароўкаецца, я бяру яго за руку і гляджу ў твар. Вочы ц і т о баязліва вывучаюць, ц і т о іранічна ўсміхаюцца. Урэшце я пазнаю пастарэлага Цымбала* (Я. Скрыган. Гордасць).

§ 1138. Пералічальна-размеркавальныя злучнікі ў размеркавальным значэнні выкарыстоўваюцца для сувязі членаў сказа і сказаў з узаемным выключэннем або ўзаемнай заменай. У гэтым значэнні ўжываюцца паўторныя злучнікі *або (альбо)... або (альбо), ці... ці* і адзіночныя злучнікі *або (альбо), ці.*

Найбольш тыповым паказчыкам размеркавальнага значэння выступае паўторны злучнік *або*, пры дапамозе якога пераважна аб'ядноўваюцца члены сказа і сказы з узаемным выключэннем. Катэгарычнасць выбару — адна з характэрных рыс гэтага злучніка.

*«Выбірай: а б о маім намеснікам, а б о загадчыкам зямельнага аддзела. Адно з двух», — рашуча прамовіў Бялоў* (І. Шамякін. У добры час). *А б о сіберны холад пачнецца, а б о мокра стане на двары* (К. Чорны. Зямля).

§ 1142. Пры дапамозе злучніка *а* далучаюцца:

1. Сказы і асобныя члены сказа з паслядоўным чаргаваннем з'яў і падзей або пры паслядоўным апісанні іх.

*Алесь борзда пабег, а следам за ім выйшла і Сцёпкава маці* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Я ўжо цябе хоць за сяло праводу, а там — калі ты так хочаш пехатой ісці — дык ідзі* (Я. Скрыган. На дарозе). *Гарыць агонь, а на агні гатуецца вячэра...* (М. Танк. На начлезе).

2. Сказы і члены сказа з часавай паслядоўнасцю.

*На момант святлее, а пасля навалач насоўваецца зноў* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Краем лесу паляцела задорыстае водгулле, прыціхла, а потым павярнула назад, бегучы другім краем лесу, і нарэшце зусім заціхла на яго заломе* (Я. Колас. На ростанях). *Паабапал дарогі змянялі адна адну палосы, падзеленыя вузкімі быльняговымі межамі, а часамі, проста разорамі* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

3. Члены сказа і сказы, якія ўдакладняюць, развіваюць або паясняюць выказаную думку.

*Доўгія дні, а часта засаб і ночы, прастойвала яна за працаю, не адгінаючы спіны...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Але вы яго, напэўна, не ўсе ведаеце. А шкада: чалавек ён нішто сабе, настаўнік і грамадскі дзеяч.* (Я. Колас. На ростанях).

З такім жа значэннем злучнік *а* далучае ўстаўныя сказы і словы.

*Увесь гэты дзень, за выключэннем перапынку на снеданне і абед, а снедаў і абедаў Пракоп у той жа сталоўцы, быў прызначан агляду калгаснай гаспадаркі* (Я. Колас. Адшчапенец). *Ратавала атрад усё ж такі дарога. Мясцовыя навакольныя жыхары з году у год, а можа і з веку ў век, вобмацкам пратапталі яе, абмінаючы дрыгвяныя мясціны і бяздонныя «вокны», схаваныя ў высокай траве* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Камсамольцы — а іх было чалавек восем — дружна зарагаталі і запляскалі Сцёпку* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

4. Сказы і члены сказа з нечаканымі пераходамі да іншай думкі або тэмы выказвання.

*Няхай ладзяць, а што там такое. Яна не кепская дзяўчына, не дурная* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ён сам, як кажуць, ледзь перабіваўся з хлеба на квас, а тут яшчэ лішні рот* (В. Данілевіч. Адзін з радавых).

§ 1143. Злучнік *і* далучае ў большасці выпадкаў члены сказа і сказы, якія дапаўняюць, развіваюць або паясняюць выказаныя раней думкі.

*Нейкі невыразна маркотны і разам з тым прыемны гоман стаяў над балотамі...* (Я. Колас. На ростанях). *Глядзі, Карл Пракопавіч, як выграсла твая сям'я. Калектыў, і якія героі ўсе! Адзін у адзін* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Вы скромны чалавек, і гэта робіць вам чэсць* (Я. Колас. На ростанях).

У радзе выпадкаў злучнік *і* выкарыстоўваецца для далучэння сказаў і слоў, якія падагульняюць папярэднія думкі.

*Дзяды збіралі па дваццаць пудоў з дзесяціны — і рады былі* (І. Шамякін. У добры час). *А вайна брала ўсё новыя ахвяры. І не было канца вайне* (Я. Колас. Дрыгва).

У сказах такой будовы пры дапамозе *і* можа падкрэслівацца ўнутраная сувязь найбольш важных з'яў і падзей з папярэднімі думкамі.

*Вобраз Ліды неадступна стаяў у вачах. І што найбольш глыбока запала ў сэрцы, гэта—апошні яе погляд* (Я. Колас. Дрыгва). *Крышку развіднее — і зноў на ўчастак.* (А. Кулакоўскі. Кватаранты).

§ 1144. Пры дапамозе злучніка *ды* далучаюцца:

1. Члены сказа і сказы, якія дапаўняюць, развіваюць або паясняюць выказаныя раней думкі.

*Калгаснікі стараліся ўправіцца спачатку з лепшай бульбай ды якая бліжэй к дому, а ўчастак пад ляском чакаў сваёй чаргі* (А. Кулакоўскі. Гарэў аганёк). *Малайчына, чэснае слова, малайчына. І граматна і разумна. Ды з цябе проста пісьменнік будзе* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Але вось аднаго разу негадана-нечакана бяда здарылася, ды такая, якой самы старэйшы селянін вёскі не памятае* (М. Чарот. Самалёт).

У сказах такой будовы злучнік *ды* можа ўжывацца перад кожным далучаемым членам сказа.

*Людзі, дзядзька Рыгор, ёсць. Пазбіраць іх толькі трэба, ды на добрую дарогу наставіць, ды даць ім добрага камандзіра* (Я. Колас. Дрыгва). *Адзін толькі штаб, ды разведка, ды Толя Клімёнак ведаюць пра новую блакаду* (Я. Брыль. На Быстранцы).

2. Члены сказа і сказы, якія маюць характар дадатковага паведамлення. У такіх выпадках злучнік *ды* выступае звычайна ў спалучэнні з прыслоўямі *яшчэ, прытым* і інш.

*Новы брыгадзір пайшоў па сцежцы старога ды яшчэ, бадай, апярэдзіў яго ў некаторых справах* (А. Кулакоўскі. Нявестка). *Жывёлу пагнаў сам старшыня, Міколкаў бацька, ды яшчэ другія калгаснікі* (М. Лынькоў. Васількі). *А спаць на возе ніяк не прымосцішся. Ды, папраўдзе, Рыгору і не хацелася спаць* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

3. Сказы і члены сказа, якія падагульняюць папярэднія думкі.

*Сымонку любілі бацька і маці дужа шчыра і крэпка; ды было завошта яго любіць* (Ц. Гартны. Сымонка-інжынер). *На пятнаццаць гектараў разросся калгасны сад. А якія палі навакол!.. Ды ці ўсё пералічыш?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1145. Далучальнае значэнне злучніка *але* заўсёды ўскладняецца супраціўным адценнем. Пры дапамозе гэтага службовага слова далучаюцца:

1. Члены сказа і сказы, якія дапаўняюць, развіваюць або паясняюць выказаную думку. Паведамленні такога тыпа заўсёды паўтараюць або ўказваюць на адно з папярэдніх слоў.

*Кожны выбірае сам сабе шлях да шчасця, але толькі яно не заўсёды даецца лёгка і проста* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). *Сёння я дома начаваць не буду. Заўтра прыйду — не надоўга, але прыйду* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Людзей нам патрэбна многа, але такіх, якія працуюць* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

2. Члены сказа і сказы з часавай паслядоўнасцю. У такіх выпадках злучнік *але* звычайна выступае побач са словамі, якія абазначаюць час.

*На лесніковым двары люта забрахаў сабака, але зараз жа сціх, пазнаўшы гаспадара* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). *Верыць Сцяпан у пільнасць Данілы, але часамі памахае яму нагайкай перад носам за якую-небудзь недакладнасць* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Адзін з тых, хто сядзеў на возе, павярнуўся тварам да хаты, але, заўважыўшы ў акне незнаёмую жанчыну, хутка адвярнуўся* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Люба зачыніла дзверы, але праз хвіліну хтосьці пачаў стукаць у іх* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

3. Самастойныя сказы з пераходам ад адной думкі або выказвання да другой.

*Скончыў дзед сваё снеданне і дастаў курэцкія прылады — па ядзе добра і закурыць. Але глухі шолах у лесе прымусіў дзеда прыслухацца і разглядзецца* (Я. Колас. Дрыгва). *Старшы аграном павярнула на вузкую сцежку ўздоўж высокага берага рэчкі і хутка знікла з відавоку. Але яшчэ доўгі час гойдалася з боку на бок разлапістая галіна*

*арэшыны, якую яна кранула рукою* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Акрамя таго, далучальны злучнік *але* выкарыстоўваецца ў мове адной асобы пры адказе самому сабе або ў пачатку рэплікі пры адказе субяседніку.

*На дзедава шчасце і снег пасыпаў густы і спорны. Але што ж рабіць далей?* (Я. Колас. Дрыгва). *На возеры мяце пазёмка, рухомы снег схаваў ворагаў, якія заляглі, пакрыліся халатамі і, безумоўна, некуды паўзуць. Але куды? Адступаюць назад ці падпаўзаюць да берага, да нас?* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 1146. Пры дапамозе злучніка *толькі* далучаюцца члены сказа і сказы, якія дапаўняюць або ўдакладняюць папярэднюю думку.

*Невялікі, хударлявы, танканогі, толькі з досыць вялікімі і густымі светла-русымі вусамі, ён усім цікавіўся, заўсёды чым-небудзь захапляўся ці абураўся...* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Дзяўчаты працавалі моўчкі. Толькі мільгалі іх спрытныя рукі, час ад часу папраўляўшыя хусцінку на галаве* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1147. Злучнікі *прычым, прытым, пры гэтым* і *ж (жа)* далучаюць члены сказа і сказы дадатковага характару. Асноўнай сферай ужывання злучнікаў займеннага паходжання з'яўляюцца навукова-дзелавыя стылі мовы, а злучніка *ж (жа)* — стылі мастацкай літаратуры.

*Лесасекі больш ранняй і больш позняй рубкі аднавіліся значна горш, прычым на лесасеках 1952 года прырост дубу амаль адсутнічаў...* («Весці АН БССР»). *Гаспадар і госць разгаварыліся, прычым пан падлоўчы быў першы чалавек тут, ад якога Лабановіч пачуў добрае слова наконт гэтага месца...* (Я. Колас. На ростанях). *У тых жа разах, калі паміж Васілём і Аўгіняю вынікалі нелады, Аўгіня на злосць Васілю сумыслу дэманстравала сваю прывязанасць да Алесі. Звычайна ж пры іншых выпадках яна старалася гэта рабіць употайку ад Васіля* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1148. Аднaзначныя ўласна-далучальныя злучнікі *і то, ды і то* ўжываюцца для сувязі сказаў і членаў сказа, пры дапамозе якіх абмяжоўваюцца папярэднія падзеі.

*Агонь толькі ў адной хаце, і то відаць праз акно, пасцель сцелюць* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Я, так сказаць, стары верабей, і то хвалююся* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Лайдак! павесіць і то мала* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Слых мой толькі праз момант ловіць музыку ціхага шуму лісця, ды і то мне спачатку здаецца, што гэта ўсё яшчэ шуміць у галаве* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Адзін раз — ды і то без мяне — ты была ў маёй хаце часоваю госцяй...* (Я. Брыль. У Забалоцці днее). *Ты сам ведаеш, хварэлі ўсю вясну... Ды і то яшчэ меншае ўсё кволіцца* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1149. У падобнай ролі выступае і далучальны злучнік *а то*.

*Глядзіш, праходзяць месяцы тры, пагода, і адсталы раён напорыста лезе ўгору, падцягваецца да перадавых, а то і сам выходзіць на першыя месцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Часамі гэта рабілася на скорую руку, пераклады выходзілі нязграбныя, малазразумелыя, нязручныя для вымаўлення, а то і недакладныя па сэнсу* (К. Крапіва. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы). *Усе сходы, якія толькі яму даводзілася праводзіць у жыцці, раптам адзін за адным, а то і ўсе адразу ўсплывалі ў памяці* (А. Кулакоўскі. Не з таго боку).

§ 1150. Прыслоўе-злучнік *нават* і яго прастамоўны семантычны сінонім *'нат* выкарыстоўваюцца для сувязі слоў і сказаў з азначальна-ўзмацняльным адценнем.

*Навакол было пуста і ціха, нават птушкі і тыя некуды пахаваліся ад спякоты* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Яно відаць, што*

*Іван Пракопавіч, казённы ляснічы, не ў гуморы. Не гадзіну, не дзень, н а в а т і не тыдзень, а праз цэлыя месяцы хмурыцца яго крутая лабаціна, сярдзіта звісаюць доўгія вусы, а з быстрых вачэй іскры сыплюцца* (Я. К о л а с. На ростанях). *Усе вінаватыя былі выяўлены. Н а в а т беднага Сцёпку падглядзела чыёсць зоркае вока* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця).

§ 1151. Пры дапамозе службовых слоў *гэта значыць, або (альбо), ці, не то што, інакш* далучаюцца члены сказа і сказы, якія растлумачваюць змест папярэдняга слова або сказа.

*Мне думаецца, што праца заслугоўвае таго, каб яе* [п'есу] *давесці да канца, г э т а з н а ч ы ц ь да паказу яе гледачу* (К. К р а п і в а. П'есы і вобразы). *Палеская, а б о Мазырская група Чырвонай Арміі, як значылася яна афіцыяльна, абрала ўчастак контрудару па лініі Крыўцы — Высокае, куды падцягнула войска і гарматы* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«Які пафас! — засмяялася жанчына. — Амаль вершы. Але вярнемся да прозы, а л ь б о, як казалі даўней, на грэшную зямлю»* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *Рыгор нават здаецца вырас. Без шыняля, у суконнай гімнасцёрцы, ён выглядае поўны, н е т о ш т о быў некалі кавалер...* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). *Яна была баба, як кажуць, набожная — кожную справу ў сваёй гаспадарцы пачынала малітвай з трэбніка. Былі ў ім розныя «чыны», і н а к ш абрады, і малітвы* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

§ 1152. Спалучэнне *тым больш (болей)* ужываецца для сувязі сказаў з далучальна-вылучальнымі адносінамі. Пры дапамозе яго падкрэсліваецца ўнутраная сувязь найбольш важных з'яў і падзей з папярэднімі думкамі.

*Пабудзьце ў мяне, а вечарам і да сябра паедзеце, т ы м б о л ь ш, што свят назбіралася многа* (Я. К о л а с. На ростанях). *Не хацеў Міколка крыўдзіць старога. Т ы м б о л ь ш, што ў таго і так хапала тут непрыемнасцей* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз). *Пятро заўсёды адчуваў сябе няёмка... Т ы м б о л ь ш цяжка яму было з настаўнікамі і настаўніцамі...* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

З а ў в а г а. Спалучэнне слоў у ролі злучніка *тым больш* неабходна адрозніваць ад параўнальнага парнага злучніка *чым — тым* у спалучэнні са словам *больш (болей)*.
*Ч ы м б о л ь ш яны гаварылі пра дзяцей, т ы м б о л ь ш выразным рабілася адчуванне той небяспекі, што пагражала ім...* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНЫЯ ЗЛУЧНІКІ

§ 1153. Падпарадкавальныя злучнікі злучаюць часткі складанага сказа, якія знаходзяцца ў залежнай сувязі паміж сабою. Яны з'яўляюцца асноўнымі граматычнымі паказчыкамі залежных сінтаксічных адносін. Усе простыя і большасць састаўных падпарадкавальных злучнікаў у саставе складаназалежных сказаў адносяцца да даданай часткі. Аднак у тых выпадках, калі асабліва неабходна падкрэсліць акалічнасныя адценні (пераважна прычынныя, мэтавыя і часавыя), састаўныя падпарадкавальныя злучнікі *таму што, затым што, для (дзеля) таго што, адтаго што, для таго каб, з тым каб, за тым каб, па меры (у меру) таго як, пасля таго як, з той пары як, нягледзячы на тое што, з таго часу як, у той час калі, у той час як, пасля таго як, да таго часу пакуль, (па) між тым як, замест таго каб* раздзяляюцца на дзве часткі: адна з іх прымыкае да галоўнай, а другая да даданай часткі складаназалежнага сказа.

*Часта прыходзілася спыняцца, т а м у ш т о дарога была несамавітая: то грузлі ў балоце, то прабіваліся праз гушчары, то ў брод цягнуліся праз нейкія лужыны, зарослыя аерам ды асакою* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Спачатку незразумела было, з якога боку пачуўся* [гул], *але раптам, п а м е р ы т а г о я к ён мацней і шырыўся, можна было*

*прызначыць, адкуль ён ідзе* (В. Быкаў. Смерць чалавека). *Расліны тут занялалі тaму, што панізіўся ўзровень вады ў глебе* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Валодзя не ведаў ласкавай рукі бацькі. Не ведаў тaму, што ён рана памёр* (В. Данілевіч. Адзін з радавых). *Па меры таго як вярталася раўнаважнасць, жанчыну пачала агортваць трывога* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

Круг значэнняў падпарадкавальных злучнікаў і іх адценняў значна шырэй за круг значэнняў злучальных злучнікаў. Асабліва вялікую семантычную нагрузку выконваюць простыя падпарадкавальныя злучнікі *як* і *што*. Яны ж уваходзяць у склад многіх састаўных падпарадкавальных злучнікаў: *як толькі, з той пары як, па меры таго як, (па) між тым як, як бы, як быццам, таму што, затым што, ад таго што, нягледзячы на тое што, так што* і інш.

Па сваёму значэнню падпарадкавальныя злучнікі падзяляюцца на наступныя групы: часавыя, умоўныя, прычынныя, мэтавыя, уступальныя, выніковыя, параўнальныя і тлумачальныя.

### *Часавыя злучнікі*

§ 1154. Часавыя злучнікі ўжываюцца для сувязі частак складаназалежнага сказа з часавымі адносінамі.

Гэта самая шматлікая група ў разрадзе падпарадкавальных злучнікаў. У склад яе ўваходзяць простыя злучнікі *калі, пакуль, як, ледзь, толькі, чуць* і састаўныя злучнікі *як толькі, ледзь толькі, чуць толькі, толькі што, чуць што, абы толькі, з таго часу як, з той пары (тых пор) як, у той час як, у той час калі, па меры таго як, тады як, (па) між тым як, перш чым, раней чым, да таго часу пакуль, пасля таго як* і спалучэнні ў ролі злучнікаў *разам з тым, разам з гэтым.*

§ 1155. Найбольш пашыраны ў сучаснай літаратурнай мове стылістычна нейтральны злучнік *калі*. Ён ужываецца для сувязі частак складаназалежнага сказа з адносінамі аднрачасовасці і звычайнай часавай паслядоўнасці.

Пры адносінах аднрачасовасці дзеянні частак складаназалежнага сказа поўнасцю або часткова супадаюць у часавым плане.

*Калі непагоды гудуць, адна за другой да заходняй граніцы журботныя думы лятуць* (П. Глебка. Песні аб граніцы). *Мартыну рабілася не па сабе, калі ён слухаў гэтыя словы і цвёрды голас старога Талаша* (Я. Колас. Дрыгва). *Было ўжо за поўнач, калі Астап падыходзіў да свае хаты ў лесе* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ужо сцямнела, калі, мінуўшы Радашковічы, машына павярнула з Віленскага шасэ ўправа і паімчалася з яркім святлом фар* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках).

Пры адносінах звычайнай паслядоўнасці дзеянне галоўнай часткі пачынаецца пасля поўнага завяршэння папярэдніх падзей, а самі перапады да наступнага дзеяння не абмяжоўваюцца строгімі рамкамі часу і не ўскладняюцца іншымі дадатковымі адценнямі.

*Калі ўрэшце выйшлі з лесу, вачам падарожных адкрылася незвычайная карціна* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Упусціла паводдзі старое, калі вір маладога нахлынуў* (П. Трус. Ліпнёвае). *Дружба сапраўдная пачынаецца тады, калі людзі як мае быць ведаюць адзін аднаго* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Праз пайгадзіны новае рэле было прымацавана да дынама, і, калі загрукатаў матор, два доўгія промні паласнулі па чорнай сцяне алешніку* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

§ 1156. Злучнік *пакуль* ужываецца для сувязі даданых частак, якія абмяжоўваюць канец падзей галоўнай часткі або ўказваюць на перыяд, у час якога адбываецца дзеянне галоўнай часткі.

У большасці выпадкаў пры дапамозе гэтага злучніка звязваюцца даданыя часавыя часткі са значэннем абмежавання канца падзей галоўнай часткі. Выказнікі такіх даданых частак звычайна ўскладняюцца часціцай *не*, якая падкрэслівае момант спынення дзеяння.

*Даспелы ліст, зрываючыся з галінкі ад лёгкага подыху ветру, трапятаўся, як матылёк, пакуль не клаўся ў ружовую верасовую пасцель* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). *Каця хвалявалася галоўным чынам таму, што кожны раз, пакуль не астыне чыгун і не раскрыюць апокаў, невядома было: ці ўсе формы заліліся як мае быць, ці не будзе там браку* (Я. Скрыган. Каця з фармовачнай). *Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў* (Я. Колас. На ростанях).

У гэтым жа значэнні злучнік *пакуль* можа ўскладняцца суадносным словам *датуль* і часціцай *аж*.

*Перакусіўшы, Рыгор вылез з-за стала і пайшоў з хаты. Стэпа прайшла за ім у сенцы... і стаяла датуль, пакуль Рыгор не схаваўся з яе вачэй* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ідучы па цёмнай дарозе, ён чуў, як тупат капытоў усё аддаляўся і аддаляўся, аж пакуль і зусім заціх* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У складаназалежных сказах, даданыя часткі якіх указваюць на перыяд дзеяння галоўнай часткі, злучнік *пакуль* ужываецца рэдка.

*Пакуль стомленыя лясной дарогай коні падбіралі падкінутую ім кошанку, Астап з Міронам закурвалі на паваленай сухадрэвіне, зрэдку скупа перакідваючыся словам* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Тут жа чалавек разоў пяць падменчвае касу, пакуль намахае на ноч карове* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Яна расхвалявалася, пакуль чакала Аню, якая хадзіла адведаць сваячку, і заплакала, калі Марыя Сяргееўна абняла яе* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Акрамя сувязі даданых часавых частак з абмежаваннем канца і перыяду падзей галоўнай часткі, пры дапамозе злучніка *пакуль* могуць падпарадкоўвацца даданыя часткі, дзеянне якіх адбываецца пасля дзеяння галоўнай часткі. Сказы з такой сувяззю ўжываюцца пераважна ў размоўных стылях.

*Вы там дроў крыху падкладзіце, пакуль хлопцы прыйдуць!* (А. Кулакоўскі. Гарэў аганёк). *Яна паспела ўжо трохі паплакаць, пакуль разбудзіла маму, паспела і паснедаць* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

Заўвага. Звычайныя для мовы мастацкай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя формы злучніка *пакуль* — *покі* і *покуль* ужываюцца ў сучаснай літаратурнай мове з мэтай стылізацыі мовы пэўных персанажаў.

*Дык вось, панічыку, быў ён там — на вячоркі туды хадзіў, покі не жаніўся* (Я. Колас. На ростанях). *Уставай жа з пасцелі сваёй пасля чорнае ночы, глянь на сонейка, покуль зямлёй не засыпалі вочы!* (А. Куляшоў. Алёнка).

§ 1157. Злучнік *як* ужываецца пераважна ў размоўных стылях літаратурнай мовы. У ролі размоўнага злучніка ён звязвае, як правіла, часткі складаназалежных сказаў з адносінамі адначасовасці і звычайнай паслядоўнасці (калі падзеі даданай часткі адбываюцца раней падзей галоўнай часткі).

*Раніцаю роснай ты ж і не журыўся, як на дол-пракосы з твару пот сачыўся* (П. Трус. У нядзелю). *Як вядзе жняярку ў полі, радам снапы сцелюцца* (А. Русак. Мяцеліца). *Было ўжо каля поўначы, як на дварэ загаманілі людзі* (К. Чорны. На варце). *Цябе я раненька на станцыі спаткаю, як будуць спаць яшчэ гаі ў глыбокім сне* (П. Трус. Сябру Дубоўку). *Як скурылі па папяросе, зноў узяліся за работу* (К. Чорны. Вясна). *Як вы гэта пачуеце, тады маланкаю кідайцеся на канвой, абяззбройвайце яго* (Я. Колас. Дрыгва). *На сэрцы стала горка, горка; з вачэй скацілася сляза, — як ты за грэбляю са ўзгорку яшчэ раз глянула назад* (П. Трус. Развітанне).

Нейтральным у стылістычных адносінах злучнік *як* выступае ў наступных выпадках:

1. Калі падзеі дадананай часткі абмяжоўваюць пачатак падзей галоўнай часткі.

*Не прайшло і чвэрці гадзіны, як з лесу пачалі выходзіць цэлыя групы людзей з карабінамі, з вінтоўкамі, з абрэзамі, з бярданкамі, з аўстрыйскімі і нямецкімі стрэльбамі* (Я. Колас. Дрыгва). *Сёмы год, як Чырвоная Армія ўшаноўвае свята ўрачыстае* (П. Трус. Чырвоная Армія).

2. Пры сувязі састаўных частак з хуткай зменай падзей.

*Вяль прылёг каля кургана, каб, як згаснуць толькі зоры, зноў дамоў вярнуцца рана* (М. Танк. Казка пра музыку). *Яшчэ не паспелі перавязаць параненых, як з боку немцаў учашчаўся беглы агонь* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Але варта было Сцяпану Сцяпанавічу ўбачыць у доме якую-небудзь забытую Нінай рэч, як усё зноў уставала напаверх...* (У. Шахавец. Будзьце здаровы).

3. У сказах са звычайнай часавай паслядоўнасцю, у якіх падзеі дадананай часткі адбываюцца пасля падзей галоўнай.

*Перад тым як адбіць гадзіны, гадзіннік колькі хвілін трашчаў, скрыпеў... і пасля такой прадмовы званіў прыемным металічным звонам* (Я. Колас. На ростанях). *Да таго як прыехаў Лялькевіч, яна ўспамінала мужа, сумавала, зрэдку плакала над калыскай...* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

§ 1158. Злучнікі *толькі, ледзь, чуць, як толькі, ледзь толькі, чуць толькі, толькі што, чуць што* і *абы толькі* ўжываюцца ў тых выпадках, калі дзеянне галоўнай часткі пачынаецца адразу ж пасля дзеяння дадананай часткі складаназалежнага сказа.

Злучнікі *як толькі, ледзь толькі, толькі, ледзь* з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі.

*Як толькі загудзеў заводскі гудок к выхаду на працу, да будынка дырэкцыі завода наблізіліся дваццаць чалавек рабочых* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *З завода Мінскага вясною, як толькі снег з узгоркаў знік, вазіць насенне яравое прыйшоў шматтонны грузавік* (М. Танк. Дружба). *У нядзельку раненька, ледзь толькі зайграла чырвань на ўсходзе, Лабановіч сядзеў ужо на сене ў драбінах і выязджаў з вёскі* (Я. Колас. На ростанях). *І толькі з ганка саступіць паспела — а ўжо за рукі ўзяў яе Андрэй* (З. Астапенка. Эдэм). *Пажоўклыя калюшкі без шуму ападалі на дол, ледзь зачэпіш галінку* (Я. Колас. На ростанях). *Ледзь бліснула такая думка, і ён увесь скалануўся, пачырванеў* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Астатнія злучнікі гэтай падгрупы — *чуць, чуць толькі, толькі што, чуць што* і *абы толькі* — ужываюцца ў гутарковай літаратурнай мове.

*Чуць завязаўся ў небе золак, яны паўзнімаліся з пасцелі... забегалі...* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Ён назаўтра ўстаў ранютка, аж да ўсходу сонца, чуць што глянуў дзень ціхутка ў хату праз аконца* (Я. Колас. Першы заработак). *І толькі што мяне прывезлі дадому, толькі што я пачаў класціся спаць, як чую — нехта пад'ехаў* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Меншы, абы толькі згледзеў яе здалёк яшчэ, бяжыць і крычыць: «Міхась, Зося ідзе!»* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 1159. Блізкімі да гэтай групы па характару значэнняў з'яўляюцца састаўныя злучнікі *з таго часу як, з той пары (тых пор) як*. Яны ўжываюцца ў сказах, у якіх дзеянне галоўнай часткі адбываецца ўслед за дзеяннем дадананай часткі.

*З таго часу як дзед Талаш збег з дому і застаўся на волі, ды не сядзеў злажыўшы рукі, дзедава хата набывала нейкую ўладу над вой-*

*там, і ён ніколі не мог спакойна праходзіць міма яе* (Я. Колас. Дрыгва). *З тых пор як пайшлі на аблаву, цягнецца іх паляванне да сённяшніх дзён* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

§ 1160. Састаўныя злучнікі *ў той час калі, у той час як, па меры таго як, тады як, (па)між тым як* і спалучэнні ў ролі злучнікаў *разам з тым, разам з гэтым* звязваюць састаўныя часткі складанага сказа з адносінамі аднрачасовасці або супастаўлення (у апошнім выпадку яны ўжываюцца ў функцыі злучальных).

*Я паглядзеў на яго з павагай і неяк адразу супакоіўся, мне нават зрабілася сорамна, што я сапраўды панікую, у той час калі ён, Сеня, якога мы называлі «матчыным сынком», вось такі спакойны і разважлівы* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *Па меры таго як прыпыняўся дзе ў вёсцы Ельскі з сваім атрадам, прыпыняўся і Сцяпан* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Клубчасты, кучаравы хвост дыму ўсё падаўжаўся і шырыўся і, здавалася, нерухома застыў у марозным паветры, тады як галава яго ўсё выцягвалася як бы са свайго ўласнага цела* (Я. Колас. У палескай глушы). *Як і раней, велізарнейшыя сумы дзяржаўнага бюджэту асігнуюцца на развіццё ўсіх галін народнай гаспадаркі і ў першую чаргу яе асновы — цяжкай індустрыі. Разам з тым у гэтым годзе дзяржава асігнуе значна больш сродкаў на жыллёвае будаўніцтва, ахову здароўя, народную асвету* («Звязда»).

§ 1161. Састаўныя злучнікі *перш чым, раней чым, да таго часу калі, да таго часу пакуль* падпарадкоўваюць даданыя часткі, дзеянне якіх адбываецца пасля дзеяння галоўнай часткі.

*Перш чым сесці за стол, Цімох выйшаў на двор і пазачыняў аканіцы* (Я. Колас. Адшчапенец). *Маладыя патрыёт пакляўся біцца з ворагам да таго часу, пакуль родная зямля не будзе ачышчана ад фашысцкай погані, калі зноў можна будзе вольна дыхаць чыстым паветрам родных палёў і лясоў* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Ясна, што будуць бедныя і багатыя да таго часу, пакуль будзе дробная ўласнасць* (Я. Скрыган. Замалёўкі). *Дапасавалі гэта да святочнага дня, да таго часу калі сама што людзі выходзяць на вуліцу пасля ранішняй упраўкі* (К. Чорны. Вясна).

§ 1162. Пры дапамозе састаўнога злучніка *пасля таго як* звязваюцца даданыя часавыя часткі, дзеянне якіх адбываецца раней дзеяння галоўнай часткі. Даданыя часткі ў такіх сказах указваюць на пачатак падзей галоўнай часткі.

*Аўгіня, хаваючыся ад Васіля, зайшла да бабкі Насты пасля таго, як забралі Панаса* (Я. Колас. Дрыгва). *І вось, пасля таго як Алесь прагаласаваў і большасць галасоў паказала, што ўсю прыбалотную зямлю трэба перамераць і перарэзаць, тады падняў галаву Мацвей. Твар яго быў узбуджаны...* (К. Чорны. Зямля).

## Умоўныя злучнікі

§ 1163. Умоўныя злучнікі падпарадкоўваюць даданыя часткі, якія ўказваюць на ўмову, пры якой магло б ці можа адбыцца дзеянне галоўнай часткі. Гэту групу ўтвараюць злучнікі *калі (б), як (бы), каб, раз, толькі, абы.*

Па сваёй сінтаксічнай функцыі ўмоўныя злучнікі падзяляюцца на дзве асноўныя групы: злучнікі са значэннем рэальнай умовы і злучнікі са значэннем нерэальнай умовы.

Злучнікі першай групы *(калі, як, раз, толькі, абы)* ужываюцца для сувязі даданых частак, якія выражаюць рэальную ўмову. Злучнікі другой групы *(каб, як бы, калі б)* ужываюцца для сувязі даданых частак, якія ўказваюць на магчымасць, пажаданасць або нерэальнасць умовы.

§ 1164. Асноўнае месца ў групе злучнікаў са значэннем р э а л ь н а й умовы належыць злучніку *калі*, які ў большасці выпадкаў злучае часткі складаназалежнага сказа са значэннем чыстай умовы.

*К а л і вы не гатовы да гэтага, я даю вам права адмовіцца ад выканання майго загаду* (К. К р а п і в а. Проба агнём). *І сумаваць яшчэ так рана, к а л і ў даль маніць сцежак гладзь, к а л і на шум лясны ў тумане ўмееш песняй адказаць...* (М. Т а н к. Лісце каштанаў). *Кіламетраў за два адгэтуль, к а л і ехаць у бок ад дарогі лясной дарожкай, стала на краю дробнай вёсачкі трухлявая хатка* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская).

У сказах з прэпазіцыяй дадананай часткі злучнік *калі* можа ўскладняцца суадноснымі словамі *то* і *дык*.

*Нават к а л і скінуць гадоў пятнаццаць з плячэй дзеда Талаша, т о і тады ён быў ужо немалады...* (Я. К о л а с. Дрыгва). *К а л і не давядзецца ўбачыцца, т о не памінай мяне ліхам...* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). *А тым часам, к а л і ўжо я гэтак адарваў цябе ад работы, д ы к можаш сабе ісці дадому, я табе і слова не скажу* (К. Ч о р н ы. Зямля).

Акрамя сказаў з адносінамі чыстай умовы, злучнік *калі* ўжываецца ў сказах з умоўна-часавымі адносінамі. У такіх сказах пры прэпазіцыі дадананай часткі злучнік *калі* ўскладняецца звычайна суадносным словам *тады*.

*Сур'ёзнасць прыходзіць да Сцяпана, к а л і ён бывае ў поўнай адзіноце, сам-насам са сваімі непрымірымымі думкамі* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *К а л і ўжо ссунуцца бровы і вусы абвіснуць, ну т а д ы дабра не спадзявайся* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Чалавеку трэба, каб душа была на месцы, от што яму трэба. К а л і ў чалавека душа на месцы, т а д ы яму і свет міл* (К. Ч о р н ы. Зямля).

§ 1165. Злучнік *як* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа з умоўна-абмежавальнымі адносінамі.

*Але ўпарты Юзік хлопец. Я к упёрся, дык хоць ты яму кол на галаве чашы* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *І скончыў сваё апавяданне так: «Дзе ж мне шукаць справядлівасці? Да каго ж мне звярнуцца, я к не да вас?»...* (Я. К о л а с. Дрыгва).

Злучнік *як* ужываецца таксама для сувязі састаўных частак з умоўна-часавымі адносінамі.

*А я к ноч добра агортала зямлю, у кустах вылі ваўкі і трывожылі сабак* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Я к падужэю, тады я сам паеду, і даю слова больш вам на вочы не паказвацца* (К. К р а п і в а. Проба агнём).

§ 1166. Адназначны ўласна-ўмоўны злучнік *раз* падпарадкоўвае даданыя ўмоўныя часткі з адценнем прычыны.

*Мала ведаць, трэба дамагацца, р а з ты чаго хочаш. На гэтым свет стаіць і стаяць заўсёды будзе* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Р а з ужо Пракоп хоча азнаёміцца з калгасам, т о мінуць гэты будынак яму не выпадае* (Я. К о л а с. Адшчапенец).

§ 1167. Злучнікі *толькі, абы* (размоўн.) ужываюцца часцей у мове мастацкай літаратуры. Ва ўсіх выпадках яны звязваюць састаўныя часткі складаназалежных сказаў з умоўна-абмежавальнымі адносінамі.

*Выпрабоўвай, Насцечка, як хочаш, т о л ь к і дай слова, што ты ад мяне не адрачэшся* (К. К р а п і в а. Пяюць жаваранкі). *Навучаць, памажуць, накіруюць, т о л ь к і самім не трэба гэтак рукі апускаць* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *«Хай сабе лічыць, як хоча, а б ы не чапаў нас», — супакоілася маці* (Я. М а ў р. Цётка Эмілія). *Дай гною ў зямлю — усё вырасце, а б ы дождж...* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 1168. Найбольш ужывальным у групе злучнікаў са значэннем н е р э а л ь н а й умовы з'яўляецца злучнік *каб*. Ён выкарыстоўваецца для сувязі даданых умовы з допушчальным і часавым адценнем.

*Пагнала б цягнік, к а б магла, выскачыла б ды паляцела, к а б не баялася* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *І стралок з яго быў не кепскі: які ж ён быў бы паляшук, к а б не ўмеў добра страляць* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Не пісаў бы, не складаў бы я вас, думы-песні, к а б не вецер не зялёны, вецер на прадвесні; к а б не вербы над магілай і не шум бярозкі над прасёлачнай дарогай, над радзімай вёскай...* (М. Т а н к. Эх вы, песні...).

*Даволі было кінуць гаспадарскім вокам на двор, на калгасныя будынкі, к а б адчуць, што справа тут пастаўлена на цвёрды грунт...* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *К а б гэта ўжо зусім абнямог, то ўжо тады ляжаў бы. А гэта, чорт яго ведае, ні хвароба, ні здароўе* (К. Ч о р н ы. Зямля).

§ 1169. Астатнія злучнікі — *як бы* і *калі б* — ужываюцца рэдка. Яны злучаюць даданыя ўмоўныя часткі, пры дапамозе якіх выражаецца пажаданасць, магчымасць або нерэальнасць умовы.

*Я к б ы знала сэрца, што не ўшчуне гора; я к б ы знала сэрца той далёкі край, — паляцела б з імі птушкаю за мора, паляцела б птушкай за сіні Дунай* (П. Т р у с. Чырвоныя ружы). *«Хітры бестыя... — падумаў сам сабе Пракоп: — цвярозы гаворыць за калгас, але к а л і б ён з'еў тое, што думае пра калгас, то да вечара не дажыў бы!»* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Сайка напэўна ўцёк бы, к а л і б за ім не пагналіся разам з гаспадарамі сабакі* (Я. К о л а с. Дрыгва).

## Прычынныя злучнікі

§ 1170. Прычынныя злучнікі падпарадкоўваюць даданыя часткі, якія ўказваюць на прычыну або абгрунтоўваюць тое, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы.

Даданыя прычыны падпарадкоўваюцца пры дапамозе простых злучнікаў *бо, што, паколькі, як* і састаўных злучнікаў *таму што, з прычыны таго што, па той прычыне што* і *а то.*

§ 1171. Самым распаўсюджаным з'яўляецца просты злучнік *бо.* Ён звязвае даданыя часткі, якія раскрываюць прычыну падзей ці абгрунтоўваюць змест галоўнай часткі. Пры гэтым злучнік *бо* можа паўтарацца перад кожнай даданай часткай, а ў тых выпадках, калі сказы абгрунтоўваюць папярэднія думкі, дапускаецца ўжыванне яго ў міжфразавым становішчы.

*І было шумна, б о не маглі ўжо маўчаць людзі з прабуджанымі думкамі, з цвёрдаю, непарушымаю34 вераю ў надыходзячую лёгкасць далейшага жыцця...* (К. Ч о р н ы. Новыя людзі). *Спяшайся Даніла, б о вось-вось на конях могуць наляцець ліхадзеі з шаблямі* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Мне лес цяпер міл удвая, б о родны лес мой краю служыць, б о лес мой туліць смелых, дужых, сярод якіх душой і я* (Я. К о л а с. Суд у лесе).

*З Рыгорам я яшчэ больш падружыўся, б о я і не ведаў дасюль, што такі ён харошы і разумны чалавек* (Я. С к р ы г а н. Затока ў бурах). *І часам дзед нахмурыць бровы ды больш дадасць сабе вагі, б о як-ніяк, а ў яго хаце знайшлі прытулак бедакі* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *І пальюцца ў цішы, паліюцца з грудзей гукі-песні — ўспаміны далёкія. Б о ў тых песнях жыцця, ў казках мар і надзей была радасць і гордасць глыбокая* (П. Т р у с. Чырвоныя ружы).

З а ў в а г а. У сказах з прычынна-супраціўным значэннем злучнік *бо* дапускаецца толькі пры стылізацыі мовы персанажаў.

§ 1172. Наступным па ступені ўжывання з'яўляецца злучнік *што.* Пры дапамозе яго падпарадкоўваюцца наступныя разнавіднасці даданых прычынных частак складаназалежнага сказа:

1. Даданыя прычынныя часткі, якія ўказваюць на прычыну ўнутранага стану або якаснай ацэнкі, выражаных дзеясловамі, прыметнікамі,

безасабовымі прэдыкатыўнымі словамі і назоўнікамі, блізкімі да прэдыкатыўных слоў галоўнай часткі.

*Гудуць пакрыўджаныя пчолкі, бы плачуць, бедныя саколкі,* ш т о *праца іх неспадзявана людскою хцівасцю забрана* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Рады ўсе,* ш т о *сонца грэе,* ш т о *няма больш халадоў* (Я. К о л а с. Вясна на Палессі). *І дзіўна было ёй* [Ганне], ш т о *зараз усё гэта яна пакіне, можа нават ніколі не ўбачыць...* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Нудлівы боль і злосць — не то на іх, не то на сябе,* ш т о *не здолеў угаварыць, не даглядзеў, як толькі пачалася сварка* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

2. Даданыя часткі, прычына дзеяння якіх падкрэсліваецца суадноснымі словамі *таму, затым, ад таго.*

*З чаго яно* [уражанне] *складалася і якая была яго сутнасць, выявіць і вызначыць было вельмі трудна,* а л е *вынікала гэта ўражанне, відаць,* т а м у, *што ў самой мясціне было нешта варожае, непрыветнае і смутнае па сваім характары* (Я. К о л а с. На ростанях). Т а м у *я так цяжка ўздыхаю,* ш т о *мне мала ўжо засталося жыць на свеце, каб пазнаць хоць драбніцы гэтага новага жыцця, і* т а м у *я бязмерна радуюся,* ш т о *на маіх вачах сіла і розум чалавека перамагаюць усё* (П. Т р у с. Чалавечы розум). *Трэція гаварылі проста* з а т ы м, ш т о *ніяк не маглі абысціся, каб не пагаварыць...* (К. Ч о р н ы. Максімка).

§ 1173. Па свайму значэнню да гэтай разнавіднасці набліжаюцца састаўныя прычынныя злучнікі *таму што, з прычыны таго што, па той прычыне што.*

1. Састаўны злучнік *таму што* падпарадкоўвае даданыя часткі з чыста прычынным значэннем. Ён ужываецца ва ўсіх жанрах і стылях як пісьмовай, так і гутарковай літаратурнай мовы.

*Яна пайшла хутчэй, каб ён не дагнаў,* т а м у ш т о *тады развітанне зацягнулася б, а гэта — цяжка* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце). *Не трэба туды ісці,* т а м у ш т о *і масток і Віктар увесь час перад вачыма* (А. К у л а к о ў с к і. Нявестка). *Чалавек, здольны да наглядальнасці, мог бы з некаторых рыс і дэталей убачыць, што... усё гэта зроблена так, а не інакш* т а м у, ш т о *гэта ёй* [Валі] *да твару* (К. Ч о р н ы. Люба Лук'янская).

2. Састаўныя злучнікі *з прычыны таго што, па той прычыне што* ўжываюцца ў большасці выпадкаў у кніжных стылях мовы.

*Дзед ведаў, што пра гэту шкуру яму прыйдзецца расказаць цэлую гісторыю, але,* з п р ы ч ы н ы т а г о, ш т о *яго аўдыторыя складаецца з аднаго толькі слухача, а часу ў яго няма..., дзед абмяжоўваецца кароткім адказам...* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Адны гаварылі* п а т о й п р ы ч ы н е, ш т о *тэрмін «на гэтым тыдні» лічылі малым, каб здаць падатак...* (К. Ч о р н ы. Максімка).

§ 1174. Злучнік *паколькі* падпарадкоўвае даданыя прычынныя часткі з адценнем меры або ўмовы.

*Старой, вядома, можна даруваць,* п а к о л ь к і *яна баіцца не за сябе* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Другая задача — знішчаць карныя атрады,* п а к о л ь к і *ёсць узброеныя сілы з народа, ратаваць насельніцтва ад тэрору, рабунку — гэта будзе зарукай падтрымкі нас з боку народа* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Стрэлкі, якая раней вяла на ветку, не было; відаць, яе проста знялі,* п а к о л ь к і *ветка не дзейнічала* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

§ 1175. Злучнік *як* у прычынным значэнні з'яўляецца яркай прыметай прастамоўнага стылю. У сучаснай літаратурнай мове ён выкарыстоўваецца для стылізацыі індывідуальных асаблівасцей мовы дзеючых асоб.

*Але ты не зважай на ўсякае гайканне. Якую пусцяковіну і перапусці, а калі што якое — ідзі ў камітэт. Не маюць ніякага поўнага права яны*

*з цябе здзекавацца, як ты жонка чырвонаармейца»* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

§ 1176. Састаўны злучнік *а то* ўжываецца, як правіла, у размоўных стылях літаратурнай мовы. Пры дапамозе яго звычайна падпарадкоўваюцца даданыя прычыны, якія абгрунтоўваюць неабходнасць дзеяння галоўнай часткі.

*«Ты, Дзямід Мікалаевіч, пачакай, — спыніў яго Міхаіл Раманавіч.— Трэба цябе паспавядаць, а то ты прыязджаеш у Мінск і вачэй не паказваеш. Я павінен цябе праз інжынера Пратасава запрашаць. Сядай, расказвай, як жывеш, як здароўе?»* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Ідзі, далажы... І няхай прышлюць змену, а то мы памерзлі ўжо* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Як мага хутчэй, а то мы спазніцца можам* (К. Крапіва. Партызаны).

## Мэтавыя злучнікі

§ 1177. Мэтавыя злучнікі падпарадкоўваюць даданыя часткі складанага сказа, якія ўказваюць на мэту або прызначэнне таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы. Гэту параўнальна невялікую групу ўтвараюць злучнікі *каб, абы, для (дзеля) таго каб, з тым каб, затым каб, замест таго каб, на тое каб* і *для (дзеля) чаго.*

§ 1178. Асноўныя асаблівасці значэння мэты выказваюцца пры дапамозе простага злучніка *каб.* З'яўляючыся самым ужывальным у гэтай групе, злучнік *каб* падпарадкоўвае даданыя часткі, якія ўказваюць на мэту ці на прызначэнне таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы.

*Ступіць Андрэй пару крокаў і прыпыніцца, каб паглядзець у абодва канцы вёскі, праверыць, ці тыя самыя профілі вуліцы, якія засталіся ў памяці яшчэ з дзяцінства* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Людзі кінуліся, хто куды, адны збочылі, каб абысці гэта месца, другія падаліся ад страху назад* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Каб захапіць слухачоў, Генька часта ішоў на самыя немагчымыя гіпербалы* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Становічае мабілізуе свае сілы ў працэсе барацьбы, каб пад канец яе нанесці сакрушальны ўдар супрацьлеглай старане* (К. Крапіва. Аб сатыры камедыі). *Ну, хлопцы, удаль па хвалях сініх, каб дома быць нам да зары* (М. Танк. Нарач). *Заставалася яшчэ кіламетраў з шэсць, каб выйсці на Гудароў лог* (Я. Колас. Дрыгва).

§ 1179. Размоўны злучнік *абы* ўжываецца для сувязі даданых частак мэты з абмежавальным або паясняльным адценнем.

*Ты зрабіўся вельмі добры, Мікалай Лявонавіч. Ты хочаш прымірыць усіх, абы ціха было* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Сцёпка зараз прывязе фельчара, то не шкадуйце яму нічога, абы толькі памог* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Пакоі сталі голыя. На падлозе валяюцца чарапкі разбітага посуду, шукае, дзе асесці, падняты пыл. Нехта іграе на раялі, барабанячы як папала, абы мацней гуло* (Я. Скрыган. Затока ў бурах).

§ 1180. Пры дапамозе састаўных злучнікаў *для (дзеля) таго каб, з тым каб, затым каб* і *замест таго каб, на тое каб* і *для (дзеля) чаго* падпарадкоўваюцца пераважна даданыя часткі мэты, якія адносяцца да выказніка, выражанага інфінітывам. Састаўныя злучнікі могуць выступаць як у расчлянёным, так і нерасчлянёным выглядзе. Непадзельным з'яўляецца толькі састаўны злучнік *для (дзеля) чаго.*

*Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з маладых гадоў* (Я. Колас. На ростанях). *Ён усхапіўся, абвёў усіх нейкім незразумелым поглядам і, замест таго каб ісці да дзвярэй, гэтак рынуўся ў акно, што толькі пачуўся звон шкла* (М. Чарот. Свінапас). *На нарадзе была асабліва*

*звернута ўвага на поўную сакрэтнасць і захаванасць месцазнаходжання ўзвода,* д л я   ч а г о *ўвесь час дзяржацца лесу, разведваць дарогі і людскія паселішчы* (Я. К о л а с. Дрыгва).

### Уступальныя злучнікі

§ 1181. Уступальныя злучнікі ўжываюцца ў складаназалежных сказах з лагічнай неадпаведнасцю паміж зместам састаўных частак. Яны падпарадкоўваюць даданыя часткі, у якіх паведамляецца аб фактах і падзеях, процілеглых таму, чаго можна было б чакаць на аснове зместу галоўнай часткі.

У якасці ўступальных злучнікаў у сучаснай літаратурнай мове выступаюць службовыя словы *хоць (хаця), няхай (хай), хіба, балазе, дарма што, нягледзячы на тое што.*

§ 1182. Асноўнае месца ў гэтай невялікай групе належыць злучніку *хоць.* Ён ужываецца ва ўсіх жанрах і стылях пісьмовай і гутарковай літаратурнай мовы.

*І стаяць пабрацімы,* х о ц ь *радзее іх строй. Хто там лёг за радзіму— кожны паўшы — герой!* (А. Б я л е в і ч. Жывая рака). *Калі ў цябе будзе ў жыцці самы небяспечны момант, самае цяжкае становішча, я хацеў бы тады быць з табою,* х о ц ь *бы гэта мне самому пагражала смерцю* (К. К р а п і в а. Канец дружбы). *Хто вясёлы,* х о ц ь *і ў горы, таму слава, таму чэсць* (Я. К у п а л а. Адвечная песня).

§ 1183. Злучнік *хаця* ўжываецца вельмі рэдка. У сучаснай літаратурнай мове ён дапускаецца толькі пры даданых уступальных з умоцненым абмежавальным адценнем.

*Няўтульнымі сталі пакоі,* х а ц я *мэбля была ўся на месцы, нават дыванчык відаць быў з-пад кучы рознага папяровага смецця...* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Дэсант!» — нехта голасна кінуў,* х а ц я *кожны ўжо бачыў, што гэта дэсант і дэсант вялікі* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Цяпер можна не спяшацца,* х а ц я *і вечарэла ўжо...* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

У сказах з узмоцненым супраціўным адценнем уступальныя злучнікі *хоць (хаця)* выступаюць звычайна ў пары з супраціўнымі злучнікамі *а, але, ды, толькі* і інш.

Х о ц ь *на фронце ў гэты час і было зацішша,* а л е *сяды-тады ўзнікала перастрэлка, і над галовамі пасвіствалі кулі* (І. Г у р с к і. Вайна вайне). Х о ц ь *ён стомлены і раззлаваны лёг многа пазней Рыгора і мог спаць пад мерны шумок дажджу ціха і спакойна,* у с ё - т а к і *сон яго быў не глыбокі...* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны).

§ 1184. Злучнік *няхай* і яго гутарковы сінанімічны варыянт *хай* ужываецца ў тых выпадках, калі асабліва неабходна падкрэсліць важнасць значэння даданай уступальнай часткі.

Н я х а й *усё гэта песня нагадала, але я веру: будзе горад мой такім, куды Скарына і Купала з плеядай слаўных прыдуць грамадой...* (М. Т а н к. Раніца над Мінскам). *І было прыемна* [Саўчуку], *што ў гэтай вялікай творчасці мільёнаў працоўных прымаеш удзел і ты,* н я х а й *на першы час хоць вучнем* (В. Д а н і л е в і ч. Адзін з радавых). *Будзем мы шчаслівы нават,* х а й *сабе, што бедната* (П. Б р о ў к а. Кацярына).

§ 1185. Размоўны злучнік *хіба* выступае звычайна ў спалучэнні са злучнікамі *што* і *толькі.* Пры дапамозе гэтых спалучэнняў падпарадкоўваюцца даданыя ўступальныя часткі з абмежавальна-дапушчальным адценнем.

*Пасёлак спіць, і ціха ўсюды,* х і б а   ш т о *ў хаце дзе якой дзіця заплача з перапуду ці птушка свісне за ракой* (Я. К о л а с. Рыбакова хата). *Глуха і пуста на вуліцы,* х і б а   т о л ь к і *часамі прамільгне на ёй жаночая постаць з вёдрамі* (Я. К о л а с. Адшчапенец).

§ 1186. У размоўных стылях мовы ўжываюцца і службовыя словы *дарма што* і *балазе*.

*Рыгор правёў яго ў багата ўбраную кватэру, пасадзіў, здаецца, за стол і пачаў частаваць адмысловаю ядою, якое ён і ў вочы не бачыў, дарма што слыў багацеем* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Кароткія перапынкі паміж работаю выкарыстоўваў Марцін для спраў рыбацкіх, балазе Нёман быў, як кажуць, пад самым бокам* (Я. Колас. На ростанях).

§ 1187. Састаўны ўступальны злучнік *нягледзячы на тое што* ўжываецца пераважна ў дзелавым, навуковым і публіцыстычным стылях літаратурнай мовы.

*Нягледзячы на тое што прыказкі і прымаўкі самастойна не бытуюць, яны не трацяць ад гэтага свайго велізарнага значэння* (К. Крапіва. Беларускія прыказкі). *Я лічу, што наша беларуская драматургія, нягледзячы на тое што напісана досыць шмат твораў на тэму аб гераічнай барацьбе савецкага народа з нямецкімі захопнікамі, знаходзіцца толькі на подступах да вырашэння гэтай тэмы* (К. Крапіва. П'есы і вобразы). *Нягледзячы на тое што Рыгор не спаў амаль усю ноч, а толькі падрэмліваў злёгку, ён чуў сябе бадзёра і саўсім нясонна* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

### *Выніковыя злучнікі*

§ 1188. Злучнікі гэтай групы звязваюць дадзеныя часткі складанага сказа, якія ўказваюць на вынік таго, аб чым гаворыцца ў галоўнай частцы. У такой ролі выступаюць злучнікі *так што, таму, дык* і словазлучэнне ў значэнні злучніка *ад чаго*.

§ 1189. Найбольш яркім граматычным паказчыкам выніковых адносін з'яўляецца састаўны непадзельны злучнік *так што*. Акрамя састаўных частак складаназалежнага сказа, пры дапамозе гэтага злучніка могуць звязвацца і самастойныя сказы.

*Поезд імчаў у цёмную ноч, так што Паддубны не заўважыў, калі праехалі праз тунель Панар...* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Перад гэтым яны аглядалі ўчастак пад лён. Не ўсюды яшчэ можна было прайсці, так што ўсяго поля не агледзіш, аднак з большага межы ўчастка былі вызначаны* (А. Кулакоўскі. Нявестка). *Пра Тоню Базылькевіча прывыклі гаварыць, што ён можа варочаць горы. Вядома, гэта было перабольшванне справы. У гэтай мясцовасці нават і гор ніякіх няма, шмат толькі лесу. Так што горы не горы, а бярвенне Тоня Базылькевіч мог сапраўды добра варочаць* (К. Чорны. Мураваны скляпок).

§ 1190. Злучнік *таму* ўжываецца для сувязі дадзеных частак, якія ўказваюць на прычыну выніку.

*Пакуль Сонцаў вёў машыну па платформе, яму здавалася, нібы ён вісіць у паветры ці ідзе па хісткай кладцы над вадой, таму, калі танк сеў на трывалы непадатны грунт, на душы адразу палягчэла* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Гэта, відаць, добра разумела Зіна, таму і сама маўчала і прасіла, каб Ярмолаў нічога насупроць не гаварыў* (А. Кулакоўскі. Дванаццаты, жорсткі). *Савецкі чалавек глыбока ўсвядоміў, што яго асабістае шчасце немагчыма без шчасця Радзімы. Таму ён гатоў аддаць усе свае сілы для яе роскв іту, магутнасці і славы...* (К. Крапіва. Аб характары беларуса).

§ 1191. Размоўны злучнік *дык* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа з прычынна-выніковымі і ўмоўна-выніковымі адносінамі.

1. У сказах з прычынна-выніковымі адносінамі злучнік *дык* набліжаецца па свайму значэнню да злучніка *таму*.

*У нас тут няма камуністаў, д ы к за ўсё павінны адказваць мы, камсамольская арганізацыя* (А. К у л а к о ў с к і. Нявестка). *Зямля ж, брат, вольнаю з'явілася ў свет, д ы к навошта дзяліць яе, рэзаць на шматкі, калаціцца з-за яе* (Я. К о л а с. Адшчапенец). *Відаць, не выспалася як след, д ы к табе і трызніцца нешта ўваччу* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

У гэтым жа значэнні *дык* можа выступаць у сказах, першая частка якіх з'яўляецца ўстойлівым словазлучэннем.

*А што да працы, д ы к я прапаную вам заняцца палеанталогіяй* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім). *А што да гэтага Капейкі, д ы к я яго з першага вечара раскусіў* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

2. У сказах з умоўна-выніковымі адносінамі злучнік *дык* звязвае даданыя часткі, якія ўказваюць на магчымасць выніку пры ажыццяўленні дзеяння галоўнай часткі.

*Прысягніце, кажа, мне, што будзеце слухаць мяне, д ы к і вы будзеце на волі* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Сам, сынку, варонай не будзь, д ы к і сарока не падвядзе* (К. К р а п і в а. Партызаны). *Падладзім флігель крыху, д ы к і будзе ў самы раз лазня* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

§ 1192. Спалучэнне *ад чаго* ўжываецца пераважна для сувязі састаўных частак складаназалежнага сказа. Па свайму значэнню яно набліжаецца да значэння злучніка *таму*.

*Галаву Волькі акаймляў чорны шаль, а д ч а г о твар яе выглядаў, як у рамцы карціны, свяціў спакойнай беллю* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

## *Параўнальныя злучнікі*

§ 1193. Параўнальныя злучнікі ўжываюцца для сувязі даданых частак складаназалежнага сказа і параўнальных зваротаў, якія паясняюць змест галоўнай часткі або члена сказа шляхам параўнання.

У такой функцыі выступаюць простыя злучнікі *як, чым (чымся), нібы, нібыта, быццам, бы, што, каб, аж (ажно), наколькі* і састаўныя злучнікі *як бы, як быццам, як і, падобна да таго як.*

§ 1194. Самым пашыраным і мнагазначным з'яўляецца злучнік *як*. Ён выкарыстоўваецца ў наступных выпадках:

1. Калі даданыя часткі складаназалежных сказаў або параўнальныя звароты паясняюць галоўную частку або адпаведны член сказа шляхам параўнання з нечым рэальным, канкрэтным, што існуе або будзе існаваць.

*Я к струны звонкія цымбалаў, у сэрцы песня зазвінела і змоўкла ў лузе анямелым* (П. Т р у с. Трыялет). *Спакойна і павольна, я к у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Дрыжыць, млее ў далечыні лёгкая, я к муслін, блакітная смуга* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

2. Калі даданыя часткі складаназалежных сказаў або параўнальныя звароты паясняюць галоўную частку або асобныя члены шляхам супастаўлення.

*Я к ішлі камсамольцы раней на вайну, так мы сёння ідзём узнімаць цаліну...* (А. В о л ь с к і. Водбліскі далёкіх маякоў). *Аказвалася, што не так проста зайсці да Андрэевых, я к думаў учора Сцёпка* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *О, не!.. Гэтак няможна, кабеціна, жыць, я к мы жылі...* (М. Ч а р о т. Сон Габруся). *Па-за садкамі, па-за хвалямі, па-за вуголлю, гародамі краліся* [хлопцы] *адзін за адным папацёмку ўчатырох, я к ваўкі* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

З а ў в а г а. Ужыванне *як* у значэнні злучніка *чым* для сувязі даданых частак, якія паясняюць словы ў форме вышэйшай ступені параўнання, дапускаецца ў сучаснай літаратурнай мове толькі ў выпадках стылізацыі жывой народнай мовы.

§ 1195. Злучнікі *нібы, нібыта* (размоўн.), *быццам, бы, што, як бы, як быццам* ужываюцца пры параўнанні з нечым толькі ўяўным, часам нерэальным, фантастычным.

*Н і б ы асілкі, зняўшы шапкі, глядзяць* [дубы] *у прастор, упарта не жадаючы скарыцца старасці* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *І круціць за вуха, тармосіць чупрыну, н і б ы т а сур'ёзна злуецца дзяўчына* (А. Б я л е в і ч. Родная крыніца). *Узмахне крылом — б ы ц ц а м бор шуміць, узмахне другім — што мяцель гудзіць* (М. Б а г д а н о в і ч. Страцім-лебедзь). *Сонца было ўжо зусім нізка над лесам, калі з-за павароту дарогі перад Сцёпкам вынікнуў семафор, б ы нейкі вартаўнік з працягнутаю рукою* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Стары Міхал, абняўшы шклянку чаю рукамі, я к б ы грэючы іх, жартуе з дзецьмі і часамі заходзіцца трапяткім смехам* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Загад мой правільны... Я так павінен быў зрабіць... А разам з тым чамусьці гадка на душы, я к б ы ц ц а м я зрабіў злачынства* (К. К р а п і в а. Проба агнём).

§ 1196. Злучнікі *чым (чымся), як і, наколькі, падобна да таго як* звязваюць даданыя часткі складаназалежных сказаў або асобныя члены іх, якія паясняюць галоўную частку або асобныя члены сказа шляхам супастаўлення.

*Ч ы м больш думаў і разважаў Сцёпка над сваім панам, тым цвярдзей умацоўваўся над канечнаю яго патрэбаю, тым больш рэальнае афармленне прымаў ён* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Лепш загінуць у няволі, ч ы м жыць з ганьбай* (К. К р а п і в а. Міхаіл Сільніцкі). *Пільна прыглядаўся Андрэй да Паддубнага, я к і Паддубны да Андрэя* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Ручай гэты, я к і рэчка, выцякаў з вялікага лесу, што пачынаўся адразу за шашой* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

Форма *чымся* з'яўляецца прастамоўным марфалагічным варыянтам параўнальнага злучніка *чым.*

*На ўзгорак нацягалі сухога лісця, моху і, падаслаўшы на зямлю яловых лапак, змайстравалі такія мяккія пасцелі, што дзед аж кракнуў ад вялікага задавальнення. — Гэта, браце, лепш, ч ы м с я твой тапчан у вагоне!* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

§ 1197. Злучнікі *што, аж* і яго размоўны марфалагічны варыянт *ажно* ўжываюцца для падпарадкавання даданых параўнальных частак з выніковым адценнем. Большасць такіх даданых частак указвае:

1. На характар і спосаб дзеяння.

*Узняла яна свае мокрыя вочы і так глянула на Васіля, ш т о гэты погляд глыбока прайшоў у яго сэрца* (Я. К о л а с. Нёманаў дар). *І пырснуў смех блакітнай хваляй, а ж зашумелі трыснікі* (М. Т а н к. Нарач).

2. На меру і ступень праяўлення дзеяння або прызнака.

*Пісьмо ляжыць цяпер у рэчавым мяшку. Яно прачытана столькі разоў, ш т о кожнае слова і кожная кропка стаяць перад вачыма, як жывыя* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Наверсе столь так страсянула, ш т о бярвенні ўгары рассунуліся, выйшлі са сваіх гнёзд* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак). *Злуецца Аленка сама на сябе, а ж палец кусае, а нарэшце і заплакала нават* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Але помню, добра помню, ш т о грудзі мае распірала, а ж н о цяжка было дыхаць, нейкае новае нязвыклае і вельмі магутнае пачуццё* (І. Ш а м я к і н. Трывожнае шчасце).

§ 1198. Пры дапамозе злучніка *каб* падпарадкоўваюцца даданыя параўнальныя часткі з выніковым адценнем пажаданасці.

*Пойдзем цяпер прытупнем, к а б аж падэшвам горача стала* (А. К у л а к о ў с к і. Нявестка). *Чулі, дзяўчаты, як з вашага брата здзекуюцца? Заспявайце сватам, к а б аж ім моташна стала* (К. К р а п і в а. Партызаны).

## *Тлумачальныя злучнікі*

§ 1199. Тлумачальныя злучнікі звязваюць даданыя часткі сказа, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць сэнс якога-небудзь члена галоўнай часткі складаназалежнага сказа.

Найбольш ўжывальнымі з'яўляюцца злучнікі *што, як, каб, быццам, нібы, нібыта, як бы, як быццам.*

§ 1200. Злучнік *што* звязвае састаўныя часткі складаназалежнага сказа, у якіх паведамляецца аб рэальных фактах і з'явах. У такой ролі ён выступае ў наступных тыпах сказаў:

1. У складаназалежных сказах з даданымі дапаўняльнымі, якія паясняюць дзеяслоў, назоўнік або прыметнік галоўнай часткі.

*Але ўжо цераз тры дні Санкоўскі пераканаўся, ш т о ў асобе Андрэя мае добрага вучня* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Удзень пранеслася чутка, ш т о пачалася вялікая агульная забастоўка, ш т о рэвалюцыя дасягае найвышэйшага напружання, ш т о ўступкі, зробленыя царом паўстаўшаму народу, не задавальняюць яго* (Я. К о л а с. На ростанях).

2. У складаназалежных сказах, даданыя часткі якіх выконваюць функцыю дзейніка ў адносінах да выказніка галоўнай часткі.

*Ва ўсім поглядзе, паводзінах Дзямяна было відаць, ш т о ён шмат чаго ведае, ш т о ён у курсе спраў* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Яго крыху злавала, ш т о ён ніяк не мог разгадаць, чаго прыехала гэта паважаная дэлегацыя* (І. Ш а м я к і н. Хадакі). *Трэба зразумець, таварышы, добра сабе ўсвядоміць, ш т о мы пачалі вялікую бітву за поўны дастатак* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

§ 1201. Злучнік *як* ужываецца пераважна для сувязі даданых дапаўняльных частак, якія паясняюць члены галоўнай часткі, выражаныя дзеясловамі ўспрыняцця *(бачыць, чуць, заўважыць, прыкмеціць* і інш.).

*Ніхто не бачыў, я к адзінока ля акна Марына часта горкім плачам сябе суцішала да відна* (П. Т р у с. Лірнік). *І не заўважыў з нас ніхто, я к ноч вясенняя мінула, я к струны вуліц і мастоў штодзённым наліліся гулам* (М. Т а н к. Дзённік міру). *За гутаркай яны і не прыкмецілі, я к падкраўся змрок і ў хаце пачало цямнець* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Па плячах Андрэя прабеглі мурашкі — ён адчуў, я к невясёлыя думкі з дзяцінства знаёмым пачуццём краналі сэрца* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

§ 1202. Злучнік *каб* ужываецца ў тых выпадках, калі словы, якія паясняюцца даданай часткай сказа, абазначаюць жаданне, недапушчэнне магчымасці чаго-небудзь. У гэтым значэнні ён выкарыстоўваецца для падпарадкавання наступных тыпаў даданых частак складаназалежнага сказа:

1. Даданых дапаўняльных.

*Я хачу, к а б вы працавалі пад маім непасрэдным наглядам* (К. К р а п і в а. Хто смяецца апошнім). *Гаварыла зямля, што не хоча яна, к а б палі арашала крывёю вайна, к а б гарматы і танкі ўзрывалі яе, к а б слязамі сірот засявалі яе* (М. Т а н к. Дзённік міру). *Ідзе наш дзядзька і баіцца, к а б часам як не памыліцца і не ступіць каму на ногі і к а б не збіць каго з дарогі* (Я. К о л а с. Новая зямля).

2. Даданых дзейнікавых.

*Не, няпраўда! Быць не можа, к а б не грэла цёпла сонца* (Я. К о л а с. Сябрам). *Не трэба сюды чужых людзей мяшаць. Не трэба нават, к а б хто вельмі ведаў* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Прайшло аднагалосна, к а б выключыць за барскасць з камуны пяцярых тых з дывізіі Чангарскай* (Я. К о л а с. Над ракою Арэсай).

3. Даданых выказнікавых.

*Не той Жагула, к а б ён абы каму раскідаўся сваім дабром*

(К. Крапіва. Мядзведзічы). *Не такі вы ўжо маленькі, каб нічога не ведаць* (Я. Скрыган. Гордасць). *Умелы, ведаючы жыццё машыніст патрэбен тут такі, каб у сабе адчуваў кожны стук, кожны лязг гэтай машыны, каб ведаў кожны вінцік...* (П. Галавач. Рубанаўскі вузел).

4. Даданых азначальных частак (звычайна ў адпаведнасці з суадноснымі словамі *такі, гэтакі* ў складзе галоўнай часткі).

*Прыдумаць бы мятлу такую, каб замесці ўсе хмары мятлой тою* (А. Бялевіч. Добрыя людзі). *Ішоў дзед Талаш з такім меркаваннем, каб на сядзібу папасці ў сутонне, каб лепш быць прыхаваным ад людскога вока* (Я. Колас. Дрыгва). *Трэба, трэба, пясняр, песню гэткую даць, каб яна памагала сілы нам гуртаваць, шляхам міру і дружбы ісці!* (М. Танк. Дзённік міру).

§ 1203. Злучнікі *быццам, нібы, нібыта* (размоўн.), *як бы, як быццам* выкарыстоўваюцца для сувязі даданых дапаўняльных, дзейнікавых, выказнікавых і азначальных частак складаназалежных сказаў, у якіх гаворыцца аб чымсьці мяркуемым, магчымым, сумніцельным.

*Міхалка нават заўважыў, быццам яна нечакана ўзрадавалася* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Кажуць, нібыта загад ён чытаў табою, Павел, падпісаны* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Кажуць, што немец лютуе ўжо аж пад самым Мінскам, нібы нашы адступаюць і пакінулі багата гарадоў* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

*Дзесьці ў самым гушчэрніку закугакала сава, і здавалася, нібы недзе блізка-блізка, вось пад самым кустом, залiваецца жаласным плачам дзіця...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Сухая галінка рабіны дакранулася да шыбы, і тады здавалася, быццам нехта здарожаны просіцца ў хату* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

*Крык такі, быццам нехта там гінуў у нетрах глухіх* (А. Куляшоў. Грозная пушча). *Першае ўражанне ад саўгаса такое, нібы вы трапілі на нейкую новабудоўлю* (К. Крапіва. «Над ракою Арэсай»). *У яго быў такі выгляд, як быццам ён хацеў сказаць: «Усё прапала»* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *Нейкім добрым, як бы зусім не гэтае сям'і, чалавекам, здаўся тады Ніне Лявон* (П. Галавач. Загубленае жыццё).

## ПАДПАРАДКАВАЛЬНЫЯ ЗЛУЧАЛЬНЫЯ СЛОВЫ

§ 1204. Адносіны паміж даданымі і галоўнымі часткамі складаназалежнага сказа часта выражаюцца пры дапамозе пытальных і адносных займеннікаў і прыслоўяў. Такія займеннікі і прыслоўі называюцца злучальнымі словамі.

У якасці злучальных слоў у сучаснай літаратурнай мове звычайна выступаюць займеннікі *які* (зрэдку *каторы*), *што, хто, чый* і прыслоўі *дзе, куды, адкуль, як, калі, пакуль* і інш.

Злучальныя словы падпарадкоўваюць даданыя часткі з ускосна-пытальным значэннем або пабудаваныя па тыпу ўскосна-пытальных, але без пытання. Такая структура даданых частак уласціва ўсім складаназалежным сказам з даданымі азначальнымі, месца, выказнікавымі і некаторым тыпам складаназалежных сказаў з даданымі дапаўняльнымі і дзейнікавымі.

*Маладзец вы, Антон Пятровіч! Ад душы поспеху жадаю вам. Цікава ж, як вы гэта робіце?* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Паглядзім, як купаецца сонца, як расой умываецца сонца...* (П. Трус. Не заспі, — пабудзі мяне рана...). *На гару ўзышоў Андрэй пясчанай дарожкай праз маладыя густы сасоннік, які вырас на схіле за час вайны* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У адрозненне ад злучнікаў злучальныя словы выступаюць у ролі самастойнага члена даданай часткі. Яны ўказваюць на прадметы або

з'явы галоўнай часткі, паясняюць, раскрываюць або ўдакладняюць іх значэнне. За злучальнымі словамі заўсёды выступаюць пэўныя лексічныя значэнні.

Большасць злучальных слоў, выражаных займеннікамі, дапасуецца да члена галоўнай часткі сказа, замест якога яны выступаюць або да членаў даданай часткі.

*Не відаць было ні вёскі, якую Сомік хацеў абысці, і нічога іншага, на чым магло б спыніцца вока* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Незнаёмы не выказваў ніякай ахвоты даведацца, хто такі Пятро Міхалец і якія ён мае адносіны да дзяўчыны* (М. Паслядовіч. Па воўчых сцежках). *Цяпер ён ведаў, дзе навала, чыю прыняць яму руку* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Злучальныя словы заўсёды захоўваюць сваё лексічнае (займеннае ці прыслоўнае) значэнне, і пропуск такіх слоў патрабуе карэннай перабудовы структуры ўсяго сказа.

Параўнай сказы са злучальнымі словамі і злучнікамі.

Сказы са злучальнымі словамі: *Сядай расказвай, як жывеш, як здароўе* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). *Лепшыя людзі калгаса, і перш за ўсё камуністы, не раз задумваліся над тым, як вывесці гаспадарку з адстаючых у перадавыя* («Звязда»). *Вясёлае ажыўленне апанавала групай. Адразу знік увесь сум, што падкрадаўся часам непрыкметку ў чалавечыя душы, адарваныя ад сваіх, пазбаўленыя ўжо колькі дзён усякіх вестак...* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Сказы са злучнікамі: *Мабыць, толькі цяпер адчуваецца, як мала гаварылі між сабою сябры* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Мабыць, толькі цяпер адчуваецца — мала гаварылі між сабою сябры. Мабыць, толькі цяпер адчуваецца, што мала гаварылі між сабою сябры. Неспакоен пан Патоцкі ў сваёй правіне, што ўчыніў такую крыўду ніпрашто дзяўчыне* (Я. Купала. Бандароўна). *Неспакоен пан Патоцкі ў сваёй правіне, таму што ўчыніў такую крыўду ніпрашто дзяўчыне.*

### Злучальныя словы, выражаныя займеннікамі

§ 1205. Злучальнае слова *які* ўжываецца для падпарадкавання даданых азначальных, дапаўняльных, выказнікавых і дзейнікавых частак складаназалежнага сказа.

У складаназалежных сказах з даданымі азначальнымі злучальнае слова *які* выступае ў двух значэннях: у якасным і вылучальным.

У якасным значэнні слова *які* звязвае даданыя часткі, якія даюць якасную характарыстыку прадметам, раскрываюць або ўдакладняюць тыя ці іншыя прыметы.

*Рух на шашы, відаць, не спыняўся, сюды далятаў прыглушаны грукат, які не сціхаў ні на хвіліну* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Неба завалакло хмарамі, якія, здаецца, застылі на месцы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *На вуліцы, у дварах каля будынкаў і ўздоўж платоў ляжалі горы снегу з самымі вычварнымі паветкамі і карнізамі, якіх не патрапіць вылепіць самы здольны скульптар* (Я. Колас. На ростанях).

У гэтым жа значэнні слова *які* выступае адзіным сродкам сувязі даданых азначальных частак, пры дапамозе якіх выражаецца дадатковае адценне прыпадабнення.

*Тварык яе набываў адбітак адухаўлення, які звычайна накладвае навука, работа мыслі і разважання* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Вісарыён разумеў, што досыць было той паслугі, якую інжынер ужо зрабіў* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *З-пад гаці спакойна цякла рэчка, несучы далей тую порцыю вады, якую прызначалі ёй будаўнікі* (Я. Колас. На ростанях).

У вылучальным значэнні слова *які* ўжываецца для сувязі даданых азначальных частак, якія ўказваюць на канкрэтны прадмет або выдзяляюць яго з агульнай масы аднародных прадметаў.

*Цягнік, які ішоў на Мінск, быў біткам набіты людзьмі* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Невялічкі радыёпрыёмнік, які прынёс быў Астап свайму вымушанаму пастаяльцу, зусім ажывіў хату* (там жа). *З боку лесу сапраўды нехта ішоў да леснікавага двара па вузкай сцежцы, якая аддзяляла два суседнія прысядзібныя ўчасткі* (М. Пасля-довіч. Па воўчых сцежках).

Слова *які* выступае звычайна ў адным і тым жа родзе і ліку з паясняльным назоўнікам галоўнай часткі.

*Народ, які ведаў волю, шчасце, не мог ні на хвіліну схіліць галавы перад захопнікамі* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце). *А сонца, якое на світанні было такім ласкавым і лагодным, пачынае ўжо так прыпякаць, што мы ў сваім аўтобусе, нягледзячы на адчыненыя вокны, адчуваем сябе нібы ў кухоннай духоўцы* (М. Лынькоў. Пад сонцам Індыі). *Пальцы, здаецца, ледзь-ледзь дакранаюцца да струн і так гібка і лёгка, што атрымоўваюцца нейкія шаўковыя тоны, ад якіх робіцца на душы і лёгка і хараша* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Дапасаванне ў ліку парушаецца ў тых выпадках, калі слова *які* адносіцца адначасова да некалькіх паясняемых слоў.

*Адно мне здаецца верным і ў чым я не сумняваюся — не адрывацца ад народа, жыць яго інтарэсамі і дапамагаць яму вызваліцца ад таго зла і несправядлівасці, якія акаляюць яго* (Я. Колас. На ростанях). *Гэта быў бегемот, якіх і цяпер досыць у Афрыцы* (Я. Маўр. Чалавек ідзе).

Калі злучальнае слова *які* ўжываецца ў ролі дзейніка, то яно выступае ў форме назоўнага склону, а калі ў ролі дапаўнення, то набывае адпаведныя формы ўскосных склонаў.

*Тодар, смеючыся, глянуў на Юзіка і падмаргнуў убок Грамабоя, які глядзеў некуды ў адну кропку* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Дзеду трэба знайсці тую часць чырвонага войска, камандзір якога стаяў у яго на кватэры* (Я. Колас. Дрыгва). *Шум патоку, які здалёк чуў яшчэ Міхаіл, быў цяпер блізкім* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Невялікая печка, на якой замест пліты ляжалі кавалкі чыгунных рэек, дыхала жарам* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

У складаназалежных сказах з даданымі дапаўняльнымі злучальнае слова *які* дапасуецца не да паясняемых слоў галоўнай часткі, а да слоў даданай часткі. У сказах гэтага тыпу слова *які* злучае пераважна даданыя часткі, якія паясняюць дзеяслоў са значэннем выказвання, паведамлення, думкі, пачуццяў, унутранага стану.

*Скажыце, Аляксандр Пятровіч, да якога перыяду вы адносіце сваю знаходку?* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Ты не ведаеш, Алеся, якую радасць дала ты мне, прыслаўшы свае некалькі слоў прывету* (Я. Скрыган. Затока ў бурах). *Помню, я думаў пра тое, які дзень там, у нас, над Дняпром* (І. Шамякін. Трывожнае шчасце).

Да слоў даданай часткі сказа дапасуецца слова *які* і ў сказах з даданымі выказнікавымі і дзейнікавымі.

*А наш народ угору ўзняўся, Васіль Іванавіч, не той ён, якім быў у тыя гады* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ён не той, якім умее прыкідвацца, ён цяпер такі, які ёсць, а не такі, які быў тады, калі першыя разы да мяне прыходзіў* (К. Чорны. Трыццатыя гады). *Які размах, такі палёт* (народн.). *Сустракаліся і такія, якія нібы абмяклі адразу, страцілі ўсякую волю і жылі раслінным жыццём, абы дзень пражыць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1206. Злучальнае слова *каторы* выступае ў тых жа значэннях, што і слова *які*. Аднак яно ўжываецца вельмі рэдка і падпарадкоўвае, як

правіла, дадзеныя азначальныя і дапаўняльныя часткі складаназалежнага сказа.

Пры дадзеных азначальных з якасным значэннем.

*Каторы дзень, як спраўляе ён свае абавязкі, а да яго не з'явілася яшчэ ніводная чалавечая душа, каторая б прыйшла па сваёй добрай ахвоце, памагла разабрацца ва ўсёй гэтай бязладзіцы* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Няма майго легендарнага лесу, каторы фактычна і быў жменькаю недалужнага прыбалотнага рагачча, ператворанага ў казачную краіну нашай неспакойнай дзіцячай фантазіяй* (Я. Скрыган. Гордасць).

Пры дадзеных азначальных з вылучальным значэннем.

*Ён пачаў расказваць... аб першых камунах, у адной з каторых ён настаўнічаў адзін год* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Пры дадзеных дапаўняльных.

*Мала ведаючы іх — не пазнаеш, каторы Ціхан, каторы Цімох* (Я. Брыль. Галя). *Я яшчэ тры гады буду круціць хлопцам галавы, а тады выберу таго, каторы мне па густу, і пайду за яго замуж* (К. Чорны. Люба Лук'янская).

§ 1207. Злучальнае слова *што* падпарадкоўвае дадзеныя азначальныя, выказнікавыя, дзейнікавыя і дапаўняльныя часткі складаназалежных сказаў. У адрозненне ад злучніка злучальнае слова *што* можа выступаць у радзе выпадкаў у форме *чаго,* у той час як злучнік *што* такой формы не мае.

1. У складаназалежных сказах з дадзенымі азначальнымі злучальнае слова *што* ўжываецца ў ролі дзейніка і прамога дапаўнення. Дадзеныя часткі, звязаныя гэтым словам, могуць паясняць як неадушаўлёныя, так і адушаўлёныя назоўнікі.

Злучальнае слова *што,* як і слова *які,* выступае ў складаназалежных сказах з дадзенымі азначальнымі ў двух значэннях: якасным і вылучальным.

У першым значэнні слова *што* часта ўзмацняецца суадносным займеннікам *такі,* які выступае ў форме ўсіх родаў і лікаў.

*Мірон Вадалей, які сядзеў між Апанасам і Паддубным, меў такі выраз на твары, што, здавалася, увесь час хацеў нешта сказаць, спыніць Сучка, але стрымліваўся* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Раптам рвануў вецер і перайшоў у такую буру, што зямля закурылася пылам* (Я. Колас. На ростанях). *Я, брат, такія акуляры настаўлю, што табе і чорнае белым пакажацца* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім).

У другім значэнні слова *што* ў большасці выпадкаў ужываецца без суадносных займеннікаў.

*Бойкі конік, што дружнаю рысцою зараз жа выскачыў з-пад навіслых ялін на прасторную палянку, борзда імчаў лёгкія прыгожыя сані...* (Я. Колас. На ростанях). *Праўда, было ўжо цёмна, але бляск ліхтара падаў на людзей, што выходзілі з вакзала* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах). *Перада мной разгорнута пісьмо, што на ўспамін дзяўчына мне прыслала* (П. Трус. Нашто мне смех...). *Не даходзячы да цэнтра горада, Лабановіч ідзе глухім завулкам убок прыстані. Прыглядаецца да тых фігур, што абганяюць яго* (Я. Колас. У глыбі Палесся).

2. Дадзеныя выказнікавыя са злучальным словам *што* раскрываюць змест выказніка галоўнай часткі, выражанага ўказальнымі займеннікамі *той, такі, гэтакі.*

*Працоўная слава — гэта не тое, што даецца чалавеку адзін раз і назаўсёды* (У. Краўчанка. Жыта красуе). *Але ж стан рэчаў быў такі, што не хіліў дзеда на такі спосаб жыцця* (Я. Колас. Дрыгва).

3. Дадзеныя дзейнікавыя са злучальным словам *што* раскрываюць

дзеясловы (са значэннем выяўлення, унутранага стану) і прэдыкатыўныя прыслоўі галоўнай часткі.

*Здавалася тады, ш т о стары, пануры лес наўмысля развесіў тонкую празрыстую покрыўку, сатканую сонцам і зямлёю з тысячы маладых кволых бледна-зялёных лісточкаў...* (Я. К о л а с. На ростанях). *І дзіўна было ёй, ш т о зараз усё гэта яна пакіне, можа нават ніколі не ўбачыць...* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Пачыналася тое, б е з ч а г о рэдка які дзень праходзіў у хаце Верамейчыкаў* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

4. Даданыя дапаўняльныя часткі са словам *што* паясняюць дзеяслоў галоўнай часткі са значэннем выказвання, паведамлення, думкі, пачуццяў, унутранага стану.

*Маці ніяк не магла зразумець, ш т о робіцца з сынам* (М. П а с л я д о в і ч. Па воўчых сцежках). *Я дзіўлюся часамі, ч а м у ён не шле нічога ў друк* (Я. Б р ы л ь. У сям'і). *Ніхто не ведаў, ч а г о шукаюць* (М. Ч а р о т. На пасеках).

§ 1208. Злучальнае слова *хто* ўжываецца ў сказах, даданыя часткі якіх паясняюць адушаўлёныя назоўнікі або калі ў дадатнай частцы ідзе гутарка аб жывых істотах. Пры дапамозе гэтага слова падпарадкоўваюцца наступныя групы даданых частак складаназалежнага сказа.

1. Даданыя дапаўняльныя часткі.

*Гэта справа зусім лёгкая для тых, х т о прывык сачыць за парадкам, і вельмі цяжкая для тых, х т о гэтай прывычкі не мае* (Я. М а ў р. Цётка Эмілія). *Гэта рэха надоўга застанецца ў памяці тых, х т о спяваў песню* (А. К у л а к о ў с к і. Незабыўнае рэха). *Паступова забавы і гульні Мішы рабіліся больш разумнымі і мэтанакіраванымі. Ён задумваўся над тым, к і м ён хоча быць* (К. К р а п і в а. Міхаіл Сільніцкі).

2. Даданыя дзейнікавыя часткі.

*Той, х т о праўды шукае, — у нас знойдзе яе, а х т о вецер пасее,— той буру пажне!* (М. Т а н к. Дзённік міру). *І ўсе, х т о прыйшоў сюды, адчувалі цяпло не толькі ад печы, але і ад гэтых людзей* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

3. Даданыя азначальныя часткі.

*Яму табою права дадзена зрабіць над злодзеем расплату, к і м чалавецтва ўсё абкрадзена, к і м уся зямля распята* (У. Х а д ы к а. Радзіма). *Кожны мядзведзіцкі гаспадар, х т о памятаў гэты лес іншым, з жалем у сэрцы глядзеў на яго шырокія лысіны* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

§ 1209. Пры дапамозе злучальнага слова *чый* падпарадкоўваюцца пераважна даданыя дапаўняльныя і азначальныя часткі. Ва ўсіх гэтых сказах слова *чый* дапасуецца да слоў даданай часткі.

*Тут праходзіла маё дзяцінства. З прагнасцю я перабіраю яго ў памяці, прыглядаючыся да гасцінцаў, да раскарчыстых старасвецкіх дзічак на межах, пазнаю, ч ы е гэта стаяць ветракі* (Я. С к р ы г а н. На дарозе). *Не плач і не гаруй, бабка. Пабачым яшчэ, н а ч ы і м баку верх будзе. Мы яшчэ паваюем* (Я. К о л а с. На ростанях). *Яна думала... пра яго — свайго хлопца, ч ы й вобраз даўно ўжо стаў неразлучны з жаданнем вялікага шчасця, вялікай любві* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы). *Здаецца, прыйшоў ляснік, Максім Заруба, у ч ы і м абходзе ён высек дубок* (Я. К о л а с. Малады дубок).

### Злучальныя словы, выражаныя прыслоўямі

§ 1210. Злучальныя словы *дзе, куды, адкуль* ужываюцца для сувязі даданых месца, азначальных, дапаўняльных і дзейнікавых частак з адценнем прасторавага значэння.

1. Злучальнае слова *дзе* ўжываецца ў тых выпадках, калі неабходна ўказаць на месцазнаходжанне каго- або чаго-небудзь або на месца дзеяння.

Пры даданых месца: *Побач чыгункі, дзе так прыемна купаліся залатыя косы сонейка, у зацішку зялёных хвой і чырванаватага маладога бярэзніку, ужо цягнулася доўгая жоўтая паласа адтаяўшай зямлі* (Я. Колас. На ростанях). *Глянь туды, дзе машыны спяваюць, дзе палае ў горане сталь, дзе рабочыя песні складаюць пад сталёвы напеў малатка* (П. Трус. Яна).

Пры даданых азначальных: *З вёскі Заполле сям'я Сільніцкіх пераехала ў суседняе сяло Курына, дзе бацька ўступіў у калгас і працаваў кавалём у калгаснай кузні* (К. Крапіва. Міхаіл Сільніцкі). *Зацякае ручаіна ў такія месцы, дзе, здаецца, не ступала нага чалавека, у такія хмызнякі і нетры, дзе толькі прабіваюцца адны звярыныя тропы* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

Пры даданых дапаўняльных: *Цяпер ён ведаў, дзе навала, чыю прыняць яму руку* (Я. Колас. Рыбакова хата). *Вось кажы хутчэй, дзе выбраў начлег і ці мерышся ісці ў вёску* (М. Чарот. Апошняя ноч).

Пры даданых дзейнікавых: *Усе, дзе хто ішоў, здаецца, у напружанні чакалі канца гэтага рэву і па інерцыі на міг застылі на месцах* (П. Пестрак. Сустрэнемся на барыкадах).

2. Злучальныя словы *куды* і *адкуль* ужываюцца ў тых выпадках, калі неабходна ўказаць на месца, у якое або з якога накіроўваецца асоба ці прадмет.

Пры даданых месца: *Насупраць, куды свяціла сонца, бераг быў высокі, абрывісты...* (Я. Брыль. На Быстранцы). *Крамарэвіч ускінуў руку — і граната разарвалася там, адкуль крычалі* (К. Чорны. Заўтрашні дзень).

Пры даданых азначальных: *Дык вось яна, вось руская граніца—фатальная для ворагаў зямля, куды яны імкнуліся прабіцца і дзе навек іх сіла палягла* (М. Танк. Граніца). *І мы з бацькам стаім і глядзім у той бок, адкуль да нас ідзе па лугавой дарозе чалавек...* (Я. Брыль. У сям'і).

Пры даданых дапаўняльных: *Сцёпка злез з вагона, азірнуўся па баках, куды яму накіравацца, і павольна пасунуўся ў бок вакзала* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Адкуль у старой бярэцца сілы, цярплівасць, прывет — ніхто з нас не дзівіцца* (Я. Брыль. У сям'і).

Пры даданых дзейнікавых: *На дварэ яшчэ толькі ледзь світала, але пад нагамі ўжо відаць было, куды ступаць* (А. Кулакоўскі. Нявестка).

§ 1211. Злучальныя словы *калі, як, пакуль* звязваюць даданыя часткі складаназалежнага сказа з адценнем часавага значэння. Кожнае з гэтых злучальных слоў адносіцца звычайна да членаў сказа, якія абазначаюць тыя ці іншыя адрэзкі часу.

1. Словы *калі* і *як* падпарадкоўваюць даданыя азначальныя, дапаўняльныя і дзейнікавыя часткі складаназалежнага сказа.

У сказах з даданымі азначальнымі: *А цяпер якраз ідзе збіранне рэвалюцыйных сіл, гэтыя сілы растуць, набіраюць моцы, ідзе шырокая падрыхтоўка, і недалёка той час, калі выбухне рэвалюцыя* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Гэта было ў тую ноч, як расцвілі верасы, як расцвілі ў бары з звонам апаўшай расы* (М. Танк. Нарач).

У сказах з даданымі дапаўняльнымі: *Дзед любіць, калі яго хто доўга слухае* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз). *Я Антону Мітрафанавічу медыкаментаў пакіну і раскажу, як каля раны хадзіць* (К. Крапіва. Канец дружбы). *А галоўнае яго цікавілі людзі. І па тым, як раслі яны, як змяняліся яны, ён адчуваў і свой рост* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У сказах з даданымі дзейнікавымі: *Яму было вядома, к а л і Рыгор адбыў з завода ў пабыўку, на колькі яму гэта пабыўка дадзена і к а л і яна скончыцца* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). *Толькі чуваць было, я к дробна стукацелі яго зубы аб шклянку ды, прыпыняючыся на хвіліну, ён цяжка, натужна дыхаў* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні).

2. Злучальнае слова *пакуль* падпарадкоўвае звычайна даданыя дапаўняльныя часткі складаназалежных сказаў, якія паясняюць дзеяслоў *чакаць* або блізкае да яго слова.

*Ларыса села на белы зэдлік каля ног бацькі і стала чакаць, п а к у л ь ён прачнецца* (А. К у л а к о ў с к і. Нявестка). *І супакоеная маці, не дачакаўшыся, п а к у л ь спыніцца снег, накрылася вялікай хусткай і пайшла...* (Я. Б р ы л ь. У сям'і).

---

# ЧАСЦІЦЫ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ЧАСЦІЦАХ

§ 1212. Часціцы — гэта службовыя словы, якія не маюць прадметна-рэчыўнага значэння і служаць для выражэння сэнсавых і эмацыянальных адценняў слоў, словазлучэнняў і цэлых выказванняў.

Часціцы не маюць намінатыўнай функцыі і па-за сказам страчваюць сваё значэнне. Яны не з'яўляюцца самастойнымі членамі сказа, не могуць ужывацца асобна ад іншых слоў выказвання, а далучаюцца або да самастойных слоў *(усе а ж узрадаваліся)*, або да цэлых словазлучэнняў *(в о с ь і зялёнае поле)*, або да ўсяго сказа цалкам, адцяняючы ў ім тое ці іншае значэнне *(я к прыемна і радасна на душы!)*.

Заўвага. Некаторыя часціцы *(так, але, ага, не, вось, няўжо)* пры адпаведных умовах, напрыклад у дыялагічнай мове (пры самаразважанні), могуць утвараць словы-сказы, якія выражаюць адносіны гаворачай асобы да папярэдняга выказвання: пацвярджэнне, згоду або, наадварот, адмаўленне, пратэст, пярэчанне.

*«План усім зразумелы?» — «Т а к»,— адказаў дружны шопат* (Э. Самуйлёнак. Цагліна каземата). *«А дзедка ўсё гасціць у нас!» — «А л е, сынку мой!»* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Забыць цябе, дзяўчынку дарагую? Ды дзе ж знайсці такую! Н е, любая! Н е, н е! Ніколі!* (Я. Колас. Батрак).

§ 1213. Часціцы паводле ролі ў мове падзяляюцца на дзве асноўныя групы: часціцы-словы і часціцы-афіксы.

Часціцы-словы захоўваюць у мове сваю фанетычную самастойнасць і не зліваюцца са словамі, да якіх яны далучаюцца *(вось, так, але, нават, толькі, амаль, няхай, няўжо, вунь, ані* і г. д.). Такія часціцы служаць для выражэння адносін гаворачай асобы да зместу выказвання.

Па марфалагічнаму саставу часціцы-словы бываюць простыя *(не, ні, аднак, гэта, ці, аж, вунь, вось* і інш.) і складаныя (пераважна з двух слоў: *вось дык, абы толькі, што за, хоць бы, ды ну?* і інш.).

У сказе яны могуць быць або толькі прэпазіцыйнымі, г. зн. стаяць заўсёды перад словам, да якога адносяцца (напр., *няхай, давай, што за, ану, ці, не, ні, ані, ну: Ш т о з а радасць! Н у лясы! А н і гуку*), або толькі постпазіцыйнымі, г. зн. стаяць пасля слоў, да якіх далучаюцца (напр., *жа (ж), -та, -то, -такі* і інш.: *Але ж і мароз! Так-т а яно! Яно-т о праўда)*.

Большасць жа часціц-слоў не мае сталага месца ў сказе, у залежнасці ад сэнсу выказвання яны займаюць то адно, то другое месца *(хіба, няўжо, ды, дык, бы, было, вунь, вось, нават, ужо, ажно* і г. д.).

Па характару злучэння з самастойнымі словамі часціцы-словы належаць да службовых слоў мовы.

*Іван Іванавіч! Х і б а ж гэта песня гучэла калі прыгажэй і мацней, як цяпер?..* (Я. Брыль. У чыстым полі пад ракітай). *Пайсці х і б а ў школу і расказаць шчыра Віктару Паўлавічу ўсё, як было?* (І. Шамякін. Крыніцы). *Ідзём гэтым садам-раем ды ідзём, а ж н о калі па-*

*глядзім!.. Стаіць палац віданы не віданы, слыханы не слыханы* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Маладых год пад дарамі ажно крэкча, гнецца* (Я. Колас. Пад Новы год).

Да часціц-афіксаў адносяцца такія часціцы, якія фанетычна і марфалагічна не з'яўляюцца асобнымі словамі, а, падобна прыстаўкам і суфіксам, заўсёды далучаюцца да самастойных слоў і разам з імі ўтвараюць новыя словы або новыя граматычныя формы слоў. Яны могуць быць або толькі прэпазіцыйнымі: *абы, ані, не, ні (абы-што, аніяк, нехта, ніхто)*, або толькі постпазіцыйнымі: *-небудзь (хто-небудзь), -колечы (дзе-колечы), -сьці (дзесьці), -ся, -ца (усміхайся, спаткацца)* і інш.

Па характару злучэння з самастойнымі словамі часціцы-афіксы належаць да службовых элементаў слоў.

## РАЗРАДЫ ЧАСЦІЦ ПА ЗНАЧЭННЮ

§ 1214. Па значэнню часціцы падзяляюцца на чатыры асноўныя разрады: а) часціцы, якія выражаюць дадатковыя сэнсавыя адценні (указання, азначэння, удакладнення, абмежавання і інш.); б) часціцы, якія выражаюць мадальныя і мадальна-валявыя адценні (сцвярджэння і адмаўлення, магчымасці, упэўненасці і няўпэўненасці і г. д.); в) часціцы, якія надаюць эмацыянальныя і экспрэсіўныя адценні; г) словаўтваральныя і формаўтваральныя часціцы, блізкія па значэнню да марфем.

### *Часціцы, якія выражаюць дадатковыя сэнсавыя адценні*

§ 1215. У гэту групу ўваходзяць часціцы ўказальныя, азначальна-ўдакладняльныя і выдзяляльна-абмежавальныя.

§ 1216. Указальныя часціцы (*вось, вунь, гэта*) служаць для ўказання на наяўнасць прадметаў або з'яў рэчаіснасці. Яны могуць адносіцца як да паасобных слоў, так і да ўсяго сказа.

Часціца *вось* ужываецца пры ўказанні на прадметы, з'явы, якія знаходзяцца блізка ў даны момант, або на ўсё тое, што адбываецца непасрэдна тут, перад вачыма.

*Нарэшце, вось яно, мястэчка між гор-бялее ў паплавах* (Я. Колас. Рыбакова хата). Зоська. *Не сядзіцца мне, мамачка, у хаце... Там хадзіла сабе каля рэчкі і кветачкі для цябе вось гэтыя рвала* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Яны стаялі і сачылі за дзіўнай ігрой хмар. Вось тая, што плыла з захаду, закрыла сонца* (І. Шамякін. У добры час).

Заўвага 1. Побач з часціцай *вось* у сучаснай беларускай мове надзвычай пашыраны яе варыянты размоўнага або дыялектнага характару, якія не замацаваліся ў якасці агульнай нормы. Напрыклад, размоўная часціца *во* шырока ўжываецца ў мастацкай літаратуры для непасрэднага ўказання на блізкі прадмет.

*Во каго мы ў дэпутаты па новым законе ў парламент беларускі выберам сягоння!* (Я. Купала. Кандыдатам народа). *Во сляды, бачыш во! Гэта і гэта. Двума ножкамі* (Я. Брыль. Дзеля сапраўднай радасці).

У гутарковай мове, а пад яе ўплывам і ў мове мастацкай літаратуры сустракаецца таксама часціца *ось*.

*Ось глядзеце, здольна грае, як дудар той запрайскі* (Я. Колас. Сымон-музыка).

Заўвага 2. У мове мастацкай літаратуры часам наглядаецца ўжыванне ўказальнай часціцы *вот*, у гутарковай жа — *от*.

*«Выбачайце. Дома настаўнік?» — «Вот я. Заходзьце, калі ласка»* (Я. Колас. У палескай глушы). *От па гэтай сцежцы вы акурат трапіце ў брыгаду нашага героя* (А. Стаховіч. Шырокія гарызонты). *От бачыш ельнік, туды і пойдзеш* (К. Чорны. Зямля).

У дыялагічнай мове часціца *вось* выкарыстоўваецца для прамога ўказання на прадмет, які перадаецца каму-небудзь або ўручаецца.

З о с ь к а. *В о с ь табе, дзедачка, кветак трошкі* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *Якая ты разумная і мілая! В о с ь табе падарунак ад мяне* (Я. К о л а с. На прасторах жыцця). *Вам прыслалі кніжку. В о с ь* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *«Што газеты пішуць?» — спытаўся хлопец, паціскаючы ўжо руку Юзіку і садзячыся на лаве. «В о с ь, пачытаеш»* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы).

У клічных зваротах часціца *вось (ось)* набывае ўказальна-ўзмацняльнае значэнне.

*В о с ь дзівак! То ты адразу б і сказаў так* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *В о с ь дзіва!* (Я. К о л а с. У старых дубах). *Зразу ўстрапянуўся нейчы голас: «О с ь ліха!»* (К. Ч о р н ы. Не хачу гэтак).

Часціца *вось* у пачатку апавядальных сказаў можа страчваць сваё ўказальнае значэнне і выступаць у ролі «зачыну» да апісання.

*В о с ь ён вяртаецца з поля, з серпам ці з касою. Уперадзе, быццам на разведку, бяжыць сабачка* (Я. Б р ы л ь. Мой зямляк).

У спалучэнні з постпазіцыйным *і* часціца *вось* таксама страчвае сваё ўказальнае значэнне і служыць для выражэння розных эмацыянальных адценняў: задавальнення, радасці, выніку, заключэння і г. д.

П а ў л і н к а. *В о с ь і пацішэла трохі ў нашай хаце, няма ўжо каму скакаць* (Я. К у п а л а. Паўлінка). Д а н і л к а. *В о с ь і тата ідзе!* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *В о с ь і промень першы залаціцца, каб твой сон юнацкі абагрэць* (П. П а н ч а н к а. У дарозе). *В о с ь і ўзняўся Верамейчык на сучок ці на два вышэй* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *«В о с ь і прыйшлі», — сказаў Лясніцкі, спыніўшыся і пільна ўглядаючыся наперад* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Часціца *вось* ставіцца побач з тым словам, на якое падае лагічны націск, для большага выдзялення гэтага слова ў сказе.

*В о с ь чуе раптам — «бух ды бразь!» у саму поўнач ціхай ночы* (М. Ч а р о т. Босыя на вогнішчы). *В о с ь падгонім лесанарыхтоўкі, сам праверу, як старшыні сельсаветаў вучацца* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Часціца *вунь* указвае на наяўнасць прадметаў або з'яў на адлегласці.

*В у н ь стаіць бярозка тут ля самай хаткі, косы папусціла...* (Ф. Б а г у ш э в і ч. Думка). *В у н ь той чалавек у чатырохкантовай шапцы так пільна глядзіць у наш бок* (К. Ч о р н ы. На граніцы). *В у н ь бачыш набліжаецца да нас мужчына, гэта наш чалавек* (З. Б я д у л я. Салавей). *У небе спявае жаўранак. «В у н ь ён, ву-унь!»* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

З а ў в а г а. У гутарковай мове побач з часціцай *вунь* ужываецца дыялектная часціца *унь*.

*Сонца у н ь ужо высока над лесам стаіць* (Я. К о л а с. На ростанях). *У н ь вокны смела ў лес глядзяць, хіба мілей палацы?* (А. К у л я ш о ў. Балада аб знойдзенай падкове).

Часціца *вунь* можа ўжывацца для падкрэслівання якой-небудзь з'явы.

*Браў бы ты, сынок, сваю дзяўчыну, забалоцкую. Ходзяць в у н ь, як ліволі* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее).

Часціцы *вось, вунь (унь)* часам ужываюцца для ўказання на паслядоўную змену падзей, з'яў, малюнкаў, на раптоўнае і нечаканае іх паяўленне. Гэтыя часціцы могуць быць адзіночныя і паўторныя.

*В о с ь мы пад гарой ужо, выныраем з-за гары, ледзь не потырч лягім уніз* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Усё сціхла. Але в о с ь павятра рассякае агністы меч і зіхаціць вясёла* (М. Б а г д а н о в і ч. Бура). *А воўк ляціць. В о с ь ён на Нёмне... В о с ь ён за горкай... не відаць — ён будзе тут хвілін праз пяць...* (Я. К о л а с. Новая зямля). *Гляне ён вакол на поле: у н ь там груша, у н ь лясок, а там жоўценькі пясок* (Я. К о л а с. Сымон-музыка).

У клічных сказах часціцы *вось (ось, от), вунь (унь)* указваюць на прадмет, з'яву і выражаюць значэнне якой-небудзь эмоцыі: захаплення, радасці, вялікага здзіўлення, жарту, іроніі і г. д.

*Ай, малайчына, Ліда! Вось гэта дзяўчына!* (І. Шамякін. У добры час). *Ладынін усміхнуўся: «Малайчына! Вось яна якая!»* (там жа). *От ты які цяпер стаў!* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *Зірні: унь дуб які ўжо Уладзя!* (Я. Колас. Новая зямля). *Ага, вось ты якая цаца! Так, так!* (І. Шамякін. Крыніцы).

Часціцы *вось (ось), вунь (унь)* у злучэнні з прэпазіцыйнымі або постпазіцыйнымі ўказальнымі займеннікамі *(той, гэты, такі)* і прыслоўямі *(там, туды, адтуль, тады, так* і інш.) узмацняюць і ўдакладняюць іх значэнне, асабліва пры лагічным націску на займенніку або прыслоўі.

*Анежка ішла і думала, што вось гэта сустрэча з Алесем вырашыць канчаткова яе лёс* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Унь той лог, каб забараніць грузіць каровамі, дык там сенажаць буяла б* (К. Чорны. Зямля). Паўлінка. *...вазьміце сабе табурэцікі ды вось тут падсядзьце, а я тым часам пачастую гарбатай нашых музыкаў* (Я. Купала. Паўлінка). *Вось так і ваюем, Максім Антонавіч. Час гарачы, цікавы, работы — непачаты край* (І. Шамякін. У добры час).

Перад пытальнымі займеннікамі *(хто, што, які, чый, каторы)* і прыслоўямі *(дзе, куды, адкуль, калі, чаму, як* і інш.) узмацняецца ўказальны сэнс саміх часціц. Яны з'яўляюцца як бы лагічным цэнтрам і вымаўляюцца пад націскам.

*Вось што, Сымон, давай летам паедзем куды-небудзь на вёску* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *А вясна вунь якая — сухая, ніводнага дажджу* (І. Шамякін. У добры час). Паўлінка. *Не так, пан Адольф, бярэш шклянкі; трэба вось як* (Я. Купала. Паўлінка). *У нас ёсць дзе разгарнуцца па-сапраўднаму... І гароды, і сады, жывёлагадоўля. Лугоў вунь колькі* (І. Шамякін. У добры час).

Часціца *гэта* служыць для выдзялення таго або іншага слова ў сказе. Пасля пытальных слоў (займеннікаў, прыслоўяў, часціц) яна ўжываецца для падкрэслівання пытальных слоў, утвараючы з імі як бы адно цэлае. Часціца *гэта* пашырана ў гутарковай мове.

*Гэта ж я хацеў прасіць, можа б вы за сведку ў мяне былі* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Што гэта вы не пазнаеце старых сяброў?* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). Альжбета. *А мае ж вы родненькія, ці ж гэта вы ўсё яшчэ з рынку едзеце?* (Я. Купала. Паўлінка). *«Якая гэта ў цябе кніга? Дай паглядзець!» — Сцёпка падыходзіць да Аленкі. «Ды гэта мне такую кнігу настаўнік адзін падарыў на экзаменах», — адказвае Аленка і паказвае Сцёпку кніжку* (Я. Колас. На прасторах жыцця).

§ 1217. Азначальна-ўдакладняльныя часціцы служаць для большага ўдакладнення сэнсу тых слоў, да якіх яны адносяцца ў сказе. Сюды ўваходзяць: *якраз, іменна, акурат, проста, амаль, прыблізна, сапраўды* і інш. Пераважная большасць гэтых часціц ставіцца перад словамі, якія іх удакладняюць. Па свайму характару гэтыя часціцы набліжаюцца да прыслоўяў, але па функцыі большасць іх канчаткова адасобілася ад прыслоўяў *(іменна, менавіта, якраз, акурат)*.

Часціца *якраз* ужываецца з мэтай азначэння і падкрэслівання таго, што маецца на ўвазе; па сэнсу яна сінанімічна словам *сапраўды, так, праўда.*

*А! Вано, вось ты мне якраз і патрэбен* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *А Рыгор якраз падыходзіць да мясцовых умоў: селянін і гэткі верны сацыялізму* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Анежка, якраз як дзіця, сарамліва апусціла вочы* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Часціца *іменна* ўжываецца для больш дакладнага і катэгарычнага вызначэння факта, прадмета, з'явы.

*Я не магу адлучыцца* і м е н н а *сёння* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Рыбаку захацелася раптам паслаць філосафа трошкі далей ад ракі, — і таму, што гэта ён падышоў, а не той, каго тут чакалі, і што* і м е н н а *ён убачыў першую рыбацкую няўдачу* (Я. Б р ы л ь. На Быстранцы).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры побач з часціцай *імення* часам сустракаецца ўстарэлая часціца *менавіта:*

*Валя зразумела, чаму сяброўка ўспомніла аб ёй* м е н а в і т а *цяпер* (У. К а р п а ў. За годам год). *Здзівіўся і не зразумеў, што* м е н а в і т а *з таго, што ён гаварыў, раптам зацікавіла ўрача* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Размоўная часціца *акурат* выражае значэнне ўдакладнення і адпавядае па сэнсу «зусім», «сапраўды так», «якраз».

*У канюшні такіх «дзетак» больш за сто. Есць маладыя ў сівых яблыках, з лебядзінымі шыямі, з агнявымі вачыма.* А к у р а т *як на малюнку* (З. Б я д у л я. Крэўныя). *І так рады быў Казік, што тата яго* а к у р а т *такі самы, якім ён яго ўяўляў* (А. Ч а р н ы ш э в і ч. На сажалках). *Але што ён думае, сказаць Жывіцу не давялося, бо* а к у р а т *у гэту хвіліну да Чарняхоўскага падышоў маёр і перадаў, што яго просяць да рацыі* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Азначальная часціца *проста* мае ўдакладняльна-ўзмацняльнае значэнне.

*Пніцкаму* п р о с т а *ў гэту хвіліну было цікава, што будзе гаварыць нахлябіч* (К. Ч о р н ы. Ідзі, ідзі). *Гэта* п р о с т а *непаразуменне, мы ўсё высветлім* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *Яны спыніліся, пасярэдзіне вуліцы расклалі агонь, і як ад гэтага не выйшла пажару,* п р о с т а *дзіва* (Э. С а м у й л ё н а к. Будучыня).

Часціца *проста* служыць таксама для выражэння ўдакладняльна-абмежавальнага значэння.

*Зося* п р о с т а *малайчына, не разгубілася* (Ц. Г а р т н ы. Сокі цаліны). Я з в а. *Каб доўга не шукаць, я* п р о с т а *хачу паказаць гледачу майго суседа* (К. К р а п і в а. Мілы чалавек). *Мне* п р о с т а *страшна думаць, што зямля з грудзей сваіх страсае камяніцы* (П. П а н ч а н к а. Ноч).

У ролі азначальна-ўдакладняльных часціц ужываюцца і словы *амаль, прыблізна,* якія па свайму значэнню стаяць вельмі блізка да прыслоўяў.

Часціца *амаль* падкрэслівае ў слове, да якога яна адносіцца, непаўнату чаго-небудзь, што без малага не хапае да чаго-небудзь.

А м а л ь *усе яны яшчэ загадзя, да выхаду з Мятлінкі, былі падрыхтаваны да схваткі з ворагам* (Т. Х а д к е в і ч. Рэха ў гарах). *Цікава, якая арганізацыя расце, што за людзі, бо людзей ён ведаў* а м а л ь *усіх у раёне* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

Часціца *прыблізна* ўказвае на не зусім дакладную прасторавую або часавую мяжу.

*Атрад аўтаматчыкаў дабег* п р ы б л і з н а *да грэблі і раптам спыніўся* (І. М е л е ж. Мінскі напрамак).

Блізкай да прыслоўяў з'яўляецца і часціца *сапраўды,* якая ўжываецца з мэтай пацвярджэння таго, што ёсць на самай справе; яна па значэнню набліжаецца да слоў *бясспрэчна, дакладна.*

І с а п р а ў д ы, *калі дзед выкрэсваў агонь для піпкі, дык махаў так заўзята рукой* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

§ 1218. В ы д з я л я л ь н а-а б м е ж а в а л ь н ы я часціцы адносяцца да таго слова, якое яны лагічна выдзяляюць у сказе і надаюць яго значэнню абмежавальнае адценне. Па свайму характару яны таксама цесна звязаны з прыслоўямі, ад якіх паходзяць. Да выдзяляльна-абмежавальных часціц адносяцца *толькі, каб толькі, абы толькі, хіба толькі, хоць, хоць бы, хаця, адзіна, выключна.*

Часціца *толькі* служыць галоўным чынам для выражэння абмежавання і спалучаецца са словамі, якія належаць да розных часцін мовы.

*Смех гэткі маюць толькі дзеці ды людзі з яснаю душой* (М. Багдановіч. Вераніка). *А ялінка!.. Чаго толькі на яе няма галінках!* (Я. Колас. Дзед-госць). *І чаму толькі дужыя могуць быць асілкамі* (А. Якімовіч. Бацькаў дар).

Заўвага. Часціца *толькі* ў злучэнні з часціцамі *б, абы, каб* набывае адценне пажадання. Па сваіх функцыях гэтыя спалучэнні набліжаюцца да адпаведных злучнікаў.
*Лес недалёка. Толькі б дайсці, там яго збавенне* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Дзівацтвы Лідзіны Косцю вядомы, і, калі яго добра папрасіць, ён нікому не расскажа пра гэты яе чарговы жарт. Абы толькі ён прыйшоў адзін!* (І. Шамякін. У добры час). *І каб толькі не ворагі — жыць бы нам ды пажываць, на працу сваю любавацца* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

Часціца *толькі* пасля пытальных займеннікаў і пытальных займенных прыслоўяў узмацняе іх значэнне і выразнасць.

Зоська. *Сястрой мяне называў. Чаму толькі ён мяне так называў?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Івась кожны дзень бачыў, як валілі адзін за другім паязды з салдатамі. Адкуль толькі яны браліся?* (Я. Колас. На чыгунцы). *Доўга яны гулялі, што толькі ні вырабляў князь?* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Часціца *хіба толькі* выражае значэнне абмежавання з адценнем прадугледжання, развагі.

*Калі ж прыедзеце да нас? Хіба толькі на лета* (К. Чорны. Бацькаўшчына).

Часціцы *хоць (хаця), хоць бы* выдзяляюць і падкрэсліваюць адзіна магчымае ў даных умовах. Яны ставяцца перад тымі словамі, да якіх адносяцца.

Сцяпан. *Добра, што хоць вы ў мяне тапор адабралі* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Людзі патрэбны. Хоць бы дзесятак адважных абаружаных людзей* (Я. Колас. Дрыгва). *«Я толькі цябе папрашу, Назарка, хаця ты не пярэч камандзіру», — загаварыла маці* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Акрамя выдзяляльна-абмежавальнага значэння, часціцы *хоць, хаця* маюць узмацняльнае значэнне.

*Пакуль будзе хоць якая малая магчымасць, то не дадзімся жыўцом ваўку ў зубы* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Хаця ж пішы, як заедзеш* (К. Чорны. Зямля). *Меў бы жаданне, а работу я табе дам хоць сёння* (Т. Хадкевіч. Вяснянка).

Часціца *хоць* у злучэнні з адноснымі і неазначальнымі займеннікамі і прыслоўямі як бы страчвае сваё выдзяляльна-абмежавальнае значэнне і ўтварае з імі адзіныя спалучэнні тыпу *хоць хто, хоць што, хоць які, хоць дзе* (у значэнні «любы, у любы час, у любым месцы»), *хоць што-небудзь, хоць куды-небудзь, хоць дзе-небудзь* (у значэнні «абы толькі») і інш.

*Хоць каму, а жыць тут трэба... Доля выбрала Язэпа...* (Я. Колас. Не дамся). *Анежцы было сумна, ёй хацелася хоць куды-небудзь пайсці* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі).

Часціцы *хоць (хаця), хоць бы* выкарыстоўваюцца для ілюстравання ўласнай мовы гаворачай асобы; яны адпавядаюць значэнню слова.

*Вось хоць бы і Антоля Скрылёва — чым не дзяўчына?* (К. Чорны. Каровін мужык).

Часціцы *хоць бы, хаця б* могуць выражаць мадальныя значэнні меркавання, перасцярогі, пажадання, надзеі.

*Хоць бы жывая душа была дзе тут* (К. Чорны. Лявон Бушмар). *Успомнілася Аленка. Хоць бы здалёк паказалася* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *«Хаця б Вано ўбачыць!» — падумаў Ііко* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

У ролі часціц узмацняльна-абмежавальнага значэння ўжываюцца часам словы *адзіна, выключна*, якія адпавядаюць сэнсу «толькі», «ні-

чога іншага, нікога іншага, акрамя адзначанага» (прадмета, з'явы, асобы і г. д.).

Яны ўласцівы кніжным стылям мовы.

*Зараз нашы даяркі перавыконваюць узятыя абавязкі, і гэтымі поспехамі мы абавязаны* *в ы к л ю ч н а* *вам, дарагія сяброўкі* (з газет).

## *Часціцы, якія выражаюць мадальныя і мадальна-валявыя адценні*

§ 1219. Да м а д а л ь н ы х адносяцца часціцы, якія выражаюць розныя адносіны гаворачай асобы да аб'ектыўнай рэчаіснасці або да паведамлення аб якіх-небудзь фактах, з'явах. Факт рэчаіснасці можа сцвярджацца, адмаўляцца, можа ўяўляцца як пажаданы, неабходны або магчымы і г. д. А таму ў гэты разрад часціц уваходзяць самыя разнастайныя па свайму значэнню і функцыі часціцы: сцвярджальныя, пытальныя; часціцы, якія выражаюць суб'ектыўную перадачу чужой мовы; часціцы, якія выражаюць адносіны да сапраўднасці фактаў, з'яў рэчаіснасці; параўнальныя часціцы.

§ 1220. С ц в я р д ж а л ь н ы я часціцы выражаюць і адцяняюць мадальнае значэнне пацвярджэння пры адказе на пастаўленае пытанне, пры згодзе з чым-небудзь, пры наяўнасці факта, з'явы і г. д. Да іх адносяцца *так, але* і размоўныя *ага, угу, эге.* Гэтыя часціцы ўжываюцца пераважна ў дыялагічнай мове.

Часціцы *так, але* азначаюць станоўчы адказ на пытанне, згоду з думкай субяседніка, пацвярджэнне яго слоў.

М у з ы к а. *Дык у пана ўсяго з пайвалочку ворнай зямлі?* А д о л ь ф. *Н-ну-у т а к! З добрую пайвалочку* (Я. К у п а л а. Паўлінка). *Дзяўчына ішла ўжо далей... «З Чучаноў?» — «А л е»* (К. Ч о р н ы. Зямля). *«Розныя людзі ёсць і між польскіх салдат», — устанавіў Нупрэй факт. «Т а к», — згадзіўся дзед Талаш* (Я. К о л а с. Дрыгва). *«А цяпер лічы, што дабрадзееўцы за год усю вёску нанава пабудавалі. Ды хаты якія! Харомы! Сіла, брат, ...калгас!» — «Т а-а к, сіла вялікая», — мнагазначна працягнуў Максім* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *«А л е добра кажаш», — сказаў Алесь Манцівода, пачуўшы, аб чым Міхалка гаварыў з Максімам* (К. Ч о р н ы. Максімка). *А л е, сынку, а л е, ты праўду кажаш* (Я. К о л а с. Дрыгва).

У значэнні сцвярджэння часціцы *так, але* выступаюць пры самаразважанні, пры ўспаміне аб мінулым, пры пацвярджэнні ўласных думак, слоў.

*Турсевіч, залажыўшы за спіну рукі, хадзіў ад сцяны да сцяны і так-сама аб чымсьці думаў. «Т а к, брат, там цяжка. Па сабе ведаю, якая там глуш»* (Я. К о л а с. У палескай глушы). *Максім саскочыў з воза і спыніўся на мосце. Азірнуўся вакол. «Т а к, на ўсім вайна пакінула свае сляды»* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *«Будзем жыць, — паўтарыў стары, едучы дамоў. — Т а к. Будзем жыць»* (К. Ч о р н ы. Будзем жыць). *Максім, абапёршыся на парэнчы, глядзеў у лёд і ўбачыў там сваё адлюстраванне. «А л е-е, нямала вады сплыло», — прамовіў ён уголас* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Часціцы *так, але* пацвярджаюць наяўнасць факта, з'явы.

*Т а к, я ганаруся сваім калгасам і буду ганарыцца!* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Шаройка ўзяў Максімаву табакерку ў рукі, задаволена цмокнуў губамі. «А л е, гэта рэч... Рэч... Нічога не скажаш»* (там жа).

Яны могуць выражаць згоду на якое-небудзь дзеянне, на выкананне якога-небудзь мерапрыемства.

С ы м о н. *А! гэта вы, мусіць, той самы, аб якім Зоська гаварыла? На нейкі сход людзей склікаеце?* Н е з н а ё м ы. *А л е, а л е! На вялікі сход!* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо). *«Хутка адродзіцца разбуранае вайной жыццё...» — «Т а к, т а к, Рыгор Апанасавіч», — адклікалася Васіліна* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).



33. Зак. 892

Часціцы *так, але* паўтараюцца для ўзмацнення або для катэгарычнага сцвярджэння чаго-небудзь

*Накарміў сваіх арлоў? Дай ім тры гадзіны адпачыць. Так, так, толькі тры* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *Але, але, золата, а не конь* (К. Чорны. Вераснёвыя ночы). Старац. *Не такія яшчэ дужыя і смелыя здаюцца на яго ласку і няласку. Так, так, сынку мой* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). Паўлінка. *Ды і пан Адольф таксама мужчыцкага роду.* Адольф. *І я?* Паўлінка. *Але, але!* (Я. Купала. Паўлінка).

Пры спалучэнні часціц *так, але* з *ну* (прэпазіцыйным) катэгарычнасць сцвярджэння набывае пабуджальнае адценне і адпавядае па сэнсу словам «сапраўды», «канешне», «зусім правільна».

*«Няма чаго лішне гаварыць. Узяцца дык і зробім».* — *«Ну, але, зробім»* (К. Чорны. Зямля). *«Хто яго тут разбярэ, можа, яно трохі і праўда».* — *«Ну, так...»* (там жа).

Часціца *так* можа выражаць пацвярджэнне з адценнем нерашучасці, развагі, сумнення.

*«Што гэта ты, брат, спахмурнеў?»* — *«Та-ак, нічога, бывае»* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

Часціца *так* (пераважна паўторная) ужываецца для пацвярджэння згоды з думкай субяседніка, выкліканай чымсьці нечаканым, што не адпавядае жаданням слухача.

*Шаройка чырванеў так, што, здавалася, вось-вось з яго поўных шчок пырсне кроў, і неяк абыякава-расцягнута падтакваў: «Та-ак, та-ак...»* (І. Шамякін. У добры час).

У пачатку сказа, які растлумачвае папярэдняе выказванне, часціца *так* ужываецца ў значэнні «напрыклад, ■ іменна».

*Расказвалі, які быў ураджай. Так, адзін гектар жыта ў сярэднім даваў пудоў семдзесят пяць* (Я. Колас. Адшчапенец). *Працу размеркавалі хутка. Так, напрыклад, першаму звяну дaручылі лён, другому сенажаць* (з газет).

Часціца *але* можа выражаць сцвярджэнне, абмежаванае якім-небудзь пярэчаннем.

*«Пецька, бяжым, нехта топіцца!»* — *«Але... Не тым бы голасам ён крычаў, каб тапіўся!»* (І. Шамякін. У добры час). *«От гэта цётка... хоча, каб я рабіў так, як стары».* — *«Дык гэта яна так сабе гаварыла».*— *«Але, добра так сабе»* (К. Чорны. Зямля).

Часціца *але* пры спалучэнні з *ж, і* набывае ўзмацняльнае значэнне.

*Але ж і надвор'е добрае стаіць!* (К. Чорны. Зямля).

Заўвага 1. У гутарковай мове для выражэння сцвярджэння, згоды ўжываюцца таксама часціцы *ага, угу, эге,* якія не замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы.

Адольф. *Панна Паўлінка дык усё мне кампліменты гавора.* Паўлінка. *Ага! Кампліменты* (Я. Купала. Паўлінка). *«Вось бы мне ў такі калгас! Вось дзе б я даў разгарненне, далібог, даў бы! Адам, далі б?»*—*«Угу!»*—*каротка адгукнуўся трактарыст* (І. Шамякін. У добры час). *«На трэці дзень, калі добра сцямнее, быць на Доўгім Бродзе і чакаць...»* — *«Эге, так!»* — *пацвердзіў дзед Талаш* (Я. Колас. Дрыгва).

Часціца *ага* ўжываецца таксама пры ўспаміне чаго-небудзь, пры змене тэмы гутаркі.

Данілка. *Што гэта я хацеў яшчэ папытацца? Ага! Успомніў!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Ага, ледзь не забыўся. Дырэктар эмтээс пытаецца, чаму вы не адпускаеце Назара Трацюка* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам). Данілка. *Мне як вельмі сумна зробіцца, дык я тады сам з сабою гутару і гутару... Ну, што ж бы такое? Ага! Вось скажыце мне, мама, чаму гэта так доўга тату не хавалі* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Заўвага 2. У рэпліках, як адказ на вымушаную згоду, у якасці сцвярджальнай часціцы ўжываецца *ну;* яна адпавядае значэнню выразу «дапусцім, што так».

*«А хіба ты хацеў мяне бачыць?»* — *злавіла Аленка Сцёпку. Сцёпка трохі замяўся. «Ну, хацеў»,— прызнаўся ён* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *«Ты казаў, што прыйдзеш?»* — *«Ну, казаў»* (К. Чорны. Зямля).

Заўвага 3. У дыялагічнай мове ў значэнні сцвярджальных часціц ужываюцца і цэлыя спалучэнні размоўнага характару: *а ўжо, а ўжо ж, як жа, а як жа, ды ўжо, ды ўжо ж, то-та ж* і інш. Яны выражаюць згоду з чым-небудзь, служаць для пацвяр-

джэння таго ці іншага факта з эмацыянальным адценнем радасці, здзіўлення, лагоднасці або незадавальнення, пярэчання ў адрас субяседніка.

*«А твой брат цябе любіць і шкадуе?»—прагаварыў Міхалка. «А я к ж а?»—здзівілася яна яго словам* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне). *«Самі, пэўна, чыталі аба мне ў газетах...»—«А я к ж а, а я к ж а!»* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі). *«Павесіць здрадніка!»—«Ды ў ж о ж не пашкадуем яго»,— сказаў стары Талаш* (Я. Колас. Дрыгва). *«Т о-т а ж!» — згадзіўся дзед* (М. Лынькоў. Міколка-паравоз).

§ 1221. Адмоўныя часціцы ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца адным з асноўных спосабаў выражэння мадальнага значэння адмоўя. Да іх адносяцца словы *не, ні, ані.*

Часціца *не* выступае і ў функцыі граматычнай катэгорыі адмоўя і ў функцыі словаўтваральнага сродку *(непагода, нездаровіцца, недзе).*

Асноўнае значэнне часціцы *не* — адмаўленне таго, аб чым гаворыцца ў сказе. Калі *не* знаходзіцца пры выказніку, то сказы становяцца адмоўнымі. У астатніх выпадках сказы з'яўляюцца часткова адмоўнымі.

*Н е спяваюць птушкі, сціхнуў лесу шолам* (Я. Колас. Адлёт жураўлёў). *Татачка, гэта зрабіў н е я* (К. Чорны. Зямля).

У дыялагічнай мове са значэннем адмаўлення часціца *не* ўжываецца:

а) пры адмоўным адказе на станоўчае пытанне.

*«А вы, уласна кажучы, хто? інжынер?» — «Н е. Настаўніца»* (І. Шамякін. У добры час). *«Далёка ехаць?» — «Н е»* (А. Куляшоў. Глушцы).

б) У пачатку рэплікі пры пярэчанні або перапыненні субяседніка.

*«Маленькая ты яшчэ зусім». — «Н е-е, мне ўжо, мама казала, пяты»* (Я. Брыль. Зялёная школа). *«Ты прыедзеш сёння?» — «Я заняты». — «Н е, ты проста скажы, прыедзеш ці не?»* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *«Хоць гэта не мае дачынення да дысцыпліны, але я скажу», — падняўся Шаройка. Ладынін перапыніў яго: «Н е! Гэта маё непасрэднае дачыненне»* (І. Шамякін. У добры час). *«Што ты хацеў сказаць?»— «Нічога». — «Н е, што хацеў сказаць?»* (К. Чорны. Зямля).

в) Пры выражэнні нязгоды гаворачай асобы з думкай субяседніка.

*Ой, н е, хлопцы, набок жарты — Рудзік мой выў нездарма!* (Я. Колас. Прапаў чалавек). *Н е, н е, Гарыдавец, я не хачу ніколі ад цябе пра гэта чуць* (М. Танк. Янук Сяліба).

Часціца *не* ў пачатку сказа падкрэслівае і ўзмацняе яго адмоўны сэнс або адмаўляе выказаную раней думку.

*Н е-е-е, не вырвецца ён цяпер з маіх рук* (З. Бядуля. Салавей). *У людзей свае дагадкі. Толькі ж людзі — не прарокі! Н е, не тыя непаладкі, н е, не тое томіць грудзі маёй Тані яснавокай* (Я. Колас. Таніна тайна).

Акрамя мадальнага значэння адмоўя, часціца *не* можа выражаць і мадальнае адценне сцвярджэння.

Часціца *не* пацвярджае адмоўнае пытанне, пастаўленае ў папярэднім выказванні.

*«Дык шарфа не бярэш?» — «Н е, не хачу, не трэба»* (Я. Колас. На «святой зямлі»). *«Не прыходзілі з гораду?» — «Н е яшчэ. Чакаем»* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У злучэнні з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі пры асаблівай інтанацыі вымаўлення часціца *не* надае сэнс станоўчага адказу.

*Ой, пара ты залатая! Х т о цябе н е ўспамінаў?* (Я. Колас. Птушкі ў лесе...). *Я к н е спяваць тут, я к н е жыць у казках-былях нашых дзён!* (Я. Купала. Май).

Сцвярджэнне немагчымасці выражаецца гэтай часціцай у тых выпадках, калі яна спалучаецца з інфінітывам у значэнні выказніка.

*Н е ўтрымаць Агаткі дома* (Я. Колас. Агатка). *Вялікі свет! Н е згледзець тых абшараў* (Я. Купала. Яна і я). *Мне больш н е чуваць яго песень* (З. Бядуля. Салавей).

Пры паўтарэнні часціцы *не* ў састаўным дзеяслоўным выказніку перад дапаможным дзеясловам і перад інфінітывам сцвярджаецца ў катэгарычнай форме немагчымасць пазбегнуць дзеяння.

*Потым я не мог не падзівіцца з мудрасці гаспадарой пры раздачы гасцінцаў* (К. Крапіва. З новым шчасцем). *Я не магу не сказаць вам праўды* (Я. Колас. У палескай глушы).

Часціца *ні* выражае значэнне адмоўя пры наступных сінтаксічных умовах:

а) у адмоўных сказах пры наяўнасці часціцы *не* перад дзеясловам-выказнікам. Часціца *ні* выконвае функцыю адмоўя і ўзмацнення.

*За ўвесь час яна ні разу не глянула на свайго суседа Лабановіча* (Я. Колас. У палескай глушы). *Вакол жа было ціха і спакойна: ужо некалькі дзён ні з таго, ні з другога боку не стралялі* (К. Чорны. Будзем жыць). *Ні адна жылка не дрогнула на яго твары* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

б) У безасабовых адмоўных сказах пры наяўнасці дапаўнення ў родным склоне часціца *ні* выступае асноўным сродкам адмоўя.

*Свеціць сонца, жарам пыша, ў небе — ні хмурынкі* (Я. Колас. Каторжнікі). *Сцішна. Вакол ні душы* (Я. Колас. Сымон-музыка).

в) У пабуджальных сказах пры спалучэнні з назоўнікам у родным склоне і загаднай інтанацыяй часціца *ні* выражае забарону дзеяння або просьбу не рабіць што-небудзь.

*«Ні з месца!» — загрымеў Букрэй у святліцы* (Я. Колас. Дрыгва). *Стой! Ні кроку!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Ні слова аба мне, Даша* (І. Шамякін. Крыніцы).

У сцвярджальных сказах пасля займеннікаў і займенных прыслоўяў часціца *ні* ўзмацняе значэнне, выражанае дзеясловам-выказнікам.

*Што ні дзень, што ні час наша сіла расце* (Я. Колас. Сіла маладая). *Дзе ні стану, дзе ні гляну — думка ўсюды голас дасць* (Я. Купала. Грайце, песні). *Як бы там ні было, я вярнуся* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Размоўная часціца *ані* выражае адмоўе, калі стаіць перад прэдыкатыўным членам сказа.

*Я — калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю* (Я. Купала. Я калгасніца...). Паўлінка. *А пан Адольф нам паможа?* Адольф. *Ані думаў* (Я. Купала. Паўлінка).

У безасабовых адмоўных сказах пры адсутнасці прэдыкатыўнага члена часціца *ані* выступае асноўным сродкам катэгарычнага адмоўя.

*У цябе, саколіка, ані свайго воліка, ані свайго століка* (Я. Купала. З песень беззямельнага).

У адмоўных сказах з часціцай *не* перад дзеясловам-выказнікам часціца *ані* служыць для ўзмацнення адмоўя. У такім выпадку часціца *ані* ставіцца перад назоўнікам, а пры наяўнасці састаўнога дзеяслоўнага выказніка — перад адмоўным дапаможным дзеясловам або пасля яго.

*Ён не плача, не ўздыхае, і яго не пашыбае ані жаласць, ані страх* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Юзік ані не хоча ісці* (К. Чорны. Зямля). *Скмеціў Янка, што ўсім не цікава, нават слухаць не хочуць ані* (А. Куляшоў. Кветка шчасця).

§ 1222. Пытальныя часціцы служаць для выражэння пытання або для афармлення пытальных сказаў. Групу пытальных часціц складаюць: *ці, хіба (хібá), няўжо; ну? ды ну? а? га? так?*

У залежнасці ад умоў ужывання пераважная большасць гэтых часціц, акрамя пытання, можа выражаць розныя адценні эмацыянальнага і пабуджальнага значэння.

Часціца *ці* служыць для выдзялення і падкрэслівання ў пытальных сказах таго слова, перад якім яна стаіць і на якое падае лагічны націск.

*Ці саўю вянок з півоняў-ружаў?* (П. Трус. Перад восенню). *Салойка спявае. Ці варта чапаць гэту маленькую птушачку?* (З. Бядуля. Салавей). Азорыч. *Ды што такое? Мне здаецца, ці там сапраўды ходзіць хтось?* (П. Глебка. Над Бярозай-ракой).

Часціца *ці* перад адмоўем *не* служыць для ўтварэння рытарычнага пытання. У такіх выпадках сказ у форме пытання выражае мадальнае значэнне сцвярджэння або няўпэўненага меркавання, здагадкі.

*Ці не ён, гэты летапіс часоў, так глыбока западае ў нашу душу, каб адбіцца ў ёй?..* (Я. Колас. У палескай глушы). *Па свайму густу будавалі яны сваё шчасце, перажывалі яны пачатак нейкай прыгожай казкі, і чым скончылася гэта казка? І ці не складае часамі і ён, Лабановіч, цяпер сваю казку?* (Я. Колас. У палескай глушы).

Часціца *ці* перад адмоўем *не* з інфінітывам служыць для выражэння прапановы, парады, здагадкі і г. д.

*Схавацца на гэтым голым месцы, каб падкрасціся да іх* [альпагаў] *зусім блізка, — нельга было. «Ці не загнаць іх у якую-небудзь вузкую шчыліну?» — прапанаваў Кос* (Я. Маўр. Сын вады). *Ці не наведаць нам з табой рэчышча?* (Ц. Гартны. Сокі цаліны).

Часціца *ці* пры адпаведнай інтанацыі можа надаваць мове розныя мадальныя і эмацыянальныя адценні: сумнення, няўпэўненасці, адмаўлення, сцвярджэння, радасці, здзіўлення, заклапочанасці, развагі і інш.

*А ці чуў ты, аб чым там араты пяе?..* (Я. Купала. Курган). *Дзе ж так вольна ў свеце жыці? Ці ж не радасць гэта* (Я. Колас. Радасць). *Іліко! Ці ты яшчэ тут?* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Вялікі экзамен! А ці падрыхтавана яна, як належыць да яго? Ці мае права яна трымаць такі пачэсны экзамен? Ці заслужыла яна, каб насіць такое званне? Яна паглядзела на партрэт Леніна* (І. Шамякін. У добры час).

Часціца *ці* ў некаторых злучэннях (*наўрад ці, ці мала, ці што* і інш.) можа зусім страчваць пытальны сэнс і выражаць розныя мадальныя значэнні.

*Наўрад ці я тут прабуду больш, як да вясны* (К. Чорны. Зямля).

Такое ўжыванне часціцы *ці* характэрна для гутарковай мовы.

Часціцы *хіба* і *няўжо*, акрамя пытання, выражаюць дадатковыя адценні сумнення, недавер'я або пераканання ў супрацьлеглым. Пры дапамозе гэтых часціц сказы атрымліваюць асаблівы экспрэсіўна-мадальны характар. Тут пытанне сумяшчаецца з чакаемым адказам.

*Чаму гэта ты мяне абходзіш, на работу не загадваеш? Няўжо я лішняя ў калектыве стала?* (І. Шамякін. У добры час). *Хіба гэтыя весці не будуць цікавы для камандзіра войска?* (Я. Колас. Дрыгва).

Часціца *хіба* можа надаваць значэнне меркавання і абмежавання.

*«Калі ж вы назад?» — «Хіба на тым тыдні»* (К. Чорны. Зямля). *У сапраўднасці нічога асаблівага не адбылося, акрамя хіба таго, што тады пачынаў раставаць снег, а цяпер з палісаднікаў бялела чаромха* (І. Шамякін. У добры час).

Часціца *няўжо* ў пачатку сказа выражае здзіўленне або перакананне ў супрацьлеглым.

*«Няўжо гэта праўда, што яна такая здольная?» — думаў Сцёпка і не хацеў даваць веры* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Няўжо гэты камень нельга падняць?* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Часціцы *ну? ды ну?* ужываюцца з пытальнай інтанацыяй пры адказе на паведамленне, якое выклікае ў субяседніка здзіўленне, недавер'е, сумненне, радасць.

*Вольга Віктараўна глядзіць на яго. «Напэўна, прапаганду вядзеце?» — «Іменна. Крамольныя ідэі прапаведую». — «Ну?!»* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *«Я лічу, што Таварыства ваяўнічых тэхнікаў — гэта такая ар-*

*ганізацыя, у якой колькасць членаў толькі можа расці, а змяншацца ніколі не можа». — «Н у? Так ужо і ніколі?» — пачуўся недаверлівы голас* (Я. М а ў р. ТВТ). *«Мяне пасылаюць у Топаль». — «Д ы н у?» — здзівілася Даша* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы).

Нярэдка часціца *ну?* ужываецца ў пытальных сказах разам з пытальным займеннікам *што?* і прыслоўем *як*. У пачатку рэплікі перад словам *што* яна служыць для ўзмацнення пытання.

*«Быў там на Горадзеншчыне...» — «Н у і ш т о?»* (К. Ч о р н ы. Зямля).

У пачатку пытальнага сказа разам з *што* і *як* яна выражае апаску, дапушчэнне чаго-небудзь нежаданага.

*Н у ш т о? Н у я к? Дык ты і насапраўды кінуў майстэрню?* (М. Л ы н ь к о ў. Маладосць).

Часціцы *ну? ды ну?* пашыраны ў гутарковай мове.

Часціцы *а? га?* могуць ужывацца як у функцыі пытальных, так і пабуджальных слоў. Яны выступаюць у якасці пытальных водгукаў на зварот каго-небудзь або пры паўторным звароце, калі пастаўленае пытанне недачута. У такіх выпадках яны набываюць значэнні «што?», «што такое?», «што патрэбна?».

*«Ігнат Андрэевіч», — паклікаў ён шэптам, нясмела. «А-а?»* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *«Юзік! — паўтарыў ён мацней. — Юзік!» — «Г а? Што?»* (К. Ч о р н ы. Зямля). *«Гэй, уставай!» — штурхануў ён Мірона. «А? Чаго?» — «Выклікаю цябе на спаборніцтва!» — «А? Што?..»—«Уставай дужацца!» — «Ш т о? Чаго?» — мармытаў Мірон* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Часціцы *а? га?* ужываюцца таксама для выражэння пабуджэння да дзеяння або для пацвярджэння адказу на пастаўленае пытанне. У такіх выпадках яны маюць значэнні «ну скажы», «адказвай», «гавары».

*Давайце хутчэй, калі маеце час, паедзем туды і зірнем. А-а?* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *Валюша... Слаўная мая... Скажы ты мне што-небудзь, г а?.. Скажы...* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). М а р ы л я. *А чаму прысягаць не хацела? Г а?* (Я. К у п а л а. Раскіданае гняздо).

У рытарычных пытаннях і клічных выразах часціцы *а? га?* выражаюць дадатковыя эмацыянальныя адценні здзіўлення, захаплення або зайздрасці, абурэння і інш.

*Ну, як, Васіль, здарава, г а?* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Чатыры дні ўсё грыміць тут, а вы, як тыя мядзведзі ў бярлозе, зашыліся ў Ліпску! А-а?* (М. П а с л я д о в і ч. Святло над Ліпскам). *«Яны, татка, у чацвёртым класе ўсе такія...» — «А табе зайздросна. Зайздросна, а?»* (там жа).

Часціца *а?* з адценнем пабуджэння ўжываецца пры паўторным звароце да каго-небудзь з мэтай звярнуць яго ўвагу. У такіх выпадках яна вымаўляецца з няпоўнай пытальнай інтанацыяй і далучаецца да наступнага звароткa.

*Максімка, а Максімка... уставай: нам пісьмо ёсць у іспалкоме* (К. Ч о р н ы. Будзем жыць).

Часціцы *а? га?* уласцівы гутарковай мове.

Часціца *так?* ужываецца для выражэння пытання, калі стаіць у канцы сказа. У такіх выпадках чакаецца хуткі адказ на пытанне.

*Перад ім стаяла незнаёмая жанчына. «Калі не памыляюся, Барыс Каганскі, т а к?» — спытала яна. «Так».* (І. Ш а м я к і н. Крыніцы). *«Па-першае, ты адчуваеш, што робіш карысную справу; па-другое, ты прывыкла наведваць сваю Жуpaвінку; па-трэцяе, ты палюбіла яе. Т а к?»—«Так»,—адказала Валя* (Я. М а ў р. Гісторыя аднаго шэфства).

Пытальная часціца *так?* пашырана ў дыялагічнай мове мастацкай літаратуры.

§ 1223. Часціц, якія выражаюць суб'ектыўную ацэнку чужой мовы, нямнога: *моў, нібы, нібыта, быццам, быццам бы.* Яны выступаюць у якасці сродкаў для ўскоснай перадачы простай мовы. Часціца *моў* ужываецца галоўным чынам пры перадачы чыіх-небудзь слоў, астатнія ж — пры спасылцы на мову каго-небудзь.

*Ён пачаў заўважаць, што ў асобных дабрадзееўцаў з'явілася пачуццё самаўпэўненасці, заспакоенасці: «Мы, моў, цяпер ўсё можам, нам цяпер ўсё ні па чым!»* (І. Шамякін. У добры час). *Ну, вось, і вёў ён нас, нібыта па вашаму загаду, лавіць іх, парашутыстаў* (І. Шамякін. Глыбокая плынь).

§ 1224. У групу мадальных часціц, якія выражаюць адносіны да сапраўднасці фактаў і з'яў рэчаіснасці, уваходзяць *бадай, бадай што, ледзь не, чуць не.*

Часціцы *бадай, бадай што* ўжываюцца галоўным чынам для выражэння мадальнага значэння меркавання з адценнем згоды з фактам, аб якім паведамляецца ў сказе.

*Сашка... падумаў аб сабе, што яму бадай лепш падышла б не цывільная, а вайсковая адзежа* (К. Чорны. Люба Лук'янская). *Ягады ажэвін, дзікіх малін і парэчак былі бадай што ў два разы большыя, чым тыя, што раслі ў лясным гушчары* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Часціцы ў складзе ўстойлівых злучэнняў *ледзь не, чуць не* ўказваюць на магчымасць ажыццяўлення дзеяння, якое не адбылося ў мінулым або зараз з прычыны пэўных акалічнасцей.

*Маладыя зялёныя лісці ледзь не дрыжэлі ад лёгкага ветрыка* (З. Бядуля. Салавей). Агата. *Пакуль аб'ехаў, тудэма-сюдэма, усю аколіцу, дык і поўнач чуць не агарнула* (Я. Купала. Паўлінка).

Для ўзмацнення экспрэсіўнасці часціцы *ледзь, чуць* паўтараюцца ў такіх злучэннях, якія набылі таксама ўстойлівы характар.

*Колькі перацярпелі хлопцы за гэты час? Колькі разоў яны ледзь-ледзь не загінулі!* (Я. Маўр. Чалавек ідзе!). *Крычалі, аж стаміліся, і чуць-чуць не пабіліся з Будзілкам Лабанок* (Я. Колас. Паслушная жонка).

§ 1225. Параўнальныя часціцы ўказваюць на мяркуемую, умоўную з'яву, прымету, падобную на іншую, але не названую ў выказванні. Параўнальных часціц у беларускай мове небагата, яны аманімічны да параўнальных злучнікаў: *бы, нібы, як бы, быццам, як быццам, быццам бы.* Адметнай рысай гэтых часціц з'яўляецца ўказанне на гіпатэтычнасць параўнання блізкіх, падобных з'яў, прадметаў, дзеянняў або на няпэўнасць іх прымет. А таму па значэнню ўсе параўнальныя часціцы вельмі блізкія паміж сабою. Назіраецца толькі некаторая розніца ў іх стылістычных адценнях.

Параўнальныя часціцы заўсёды адносяцца толькі да слова або да словазлучэння, падкрэсліваючы ўмоўнасць выражанай імі прыметы, з'явы на аснове падабенства з іншымі, не адзначанымі ў сказе.

У залежнасці ад умоў ужывання яны могуць выражаць розныя мадальныя адценні:

а) меркаванне аб магчымасці існавання факта, дзеяння.

*«Мне здаецца, што гарматы сёння як бы аддаліліся», — прамовіў Пятро* (Я. Колас. Дачакаўся). *І кожны лісток як быццам знарок пазублены вакол нажніцамі* (Я. Брыль. У чыстым полі пад ракітай). *Далёка між дрэў замільгалі людзі. Адзін... два... тры... чатыры. Болей як быццам няма* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

б) Сумненне, няўпэўненасць пры сцвярджэнні факта рэчаіснасці.

*Ты і дапамагаеш, ты і быццам радуешся, што мы адстаём* (І. Шамякін. У добры час). *Больш тут нічога не скажаш. Машына як быццам у нейкай змове з Іванам Сымонавічам* (Я. Брыль. Лазунок).

в) Магчымасць дапушчэння якога-небудзь дзеяння, факта.

*Вы б ы ц ц а м выказалі мае думкі* (К. Ч о р н ы. Трэцяе пакаленне). Н а с ц я. *Ты я к б ы мяне баішся. Чаму гэта?* (Э. С а м у й л ё н а к. Пагібель воўка). *Нейкі адказ на гэта пытанне я к б ы недзе шавяліўся ў Юзікавай галаве* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Максім б ы ц ц а м бы і не чуў усіх гэтых жартаў* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Я к б ы прыпыняючы іх спрэчку, пакаціўся густы, выразны, акруглены гук* (Я. К о л а с. Дачакаўся).

г) Недаверлівасць у сапраўднасці існавання факта, аб якім паведамляецца кім-небудзь.

*Ён хваліцца ўсім, што ён нейкі я к б ы механік* (К. Ч о р н ы. Вясна). *Учора пад вечар прыехаў у вёску атрад... І чытае загад, н і б ы т а табою, Павел, падпісаны* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь).

д) Меркаванне, прадугледжанне якога-небудзь дзеяння.

*Пастой, суседзе! нешта чую: я к б ы ц ц а м фыркнуў мой гняды* (Я. К у п а л а. На папасе).

§ 1226. Да м а д а л ь н а-в а л я в ы х адносяцца часціцы, якія выражаюць волевыяўленне гаворачай асобы: *бы (б), няхай (хай), ну, ану, на, дай, давай, бадай, такі.*

Мадальна-валявыя часціцы ўжываюцца ў сказе, як правіла, пры дзеяслове-выказніку і надаюць яго значэнню адценне пажадання, імператыўнасці, магчымасці, гатоўнасці да дзеяння і г. д.

Шырока ўжывальнай і мнагазначнай з'яўляецца часціца *бы (б).* Яе асноўнае прызначэнне ў мове — служыць формаўтваральным сродкам умоўнага ладу дзеясловаў. Аднак яна можа выступаць і ў якасці мадальна-валявой часціцы для выражэння гіпатэтычнай магчымасці дзеяння, пажадання, прадугледжання, просьбы, прапановы і інш. Часціца *бы* ставіцца пасля дзеяслова або іншых слоў, на якія падае сэнсавы націск.

*Зусім іначай пачуваўся б ён, калі б у яго руках быў надзейны друг — добрая стрэльба* (Я. К о л а с. Дрыгва). *Моцны струмень вады мог бы перакуліць іх човен* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *Хутчэй б ы прайсці, праскочыць гэта страшнае месца* (М. Л ы н ь к о ў. Дзіцячы башмачок). *Не заблудзіцца б нам у гэтым гушчары* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Чаго вы так спяшаецеся? Пабылі б трохі, пагулялі. Пагасцілі б у новых сваякоў* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Ты схадзіў б ы, Максімка, да іх, праведаў б ы...* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *Расказаў б ы ты нам яшчэ пра бронецягнік, дзядзька* (М. Л ы н ь к о ў. Андрэй Лятун).

Часціца *няхай,* як і часціца *бы,* з'яўляецца ў асноўным формаўтваральным сродкам: пры дапамозе яе выражаецца загадны лад дзеясловаў. Але разам з тым яна выступае і як часціца мадальна-валявая.

З а ў в а г а. Побач з часціцай *няхай* у размоўным стылі, і таксама ў мове мастацкай літаратуры шырока ўжываецца часціца *хай.*

У спалучэнні з дзеясловамі абвеснага і ўмоўнага ладу часціца *няхай (хай)* надае іх значэнню адценне згоды, дазволу, пажадання або пабуджэння, загаду, неабходнасці.

*Н я х а й будзе так* (К. Ч о р н ы. Зямля). *А мы іх выпусцім на прастор, — н я х а й бягуць, н я х а й звіняць, н я х а й працуюць на нас!* (Я. Б р ы л ь. У Забалоцці днее). *Х а й уваскрэснуць нашы землі, н я х а й асветліцца наш люд* (Я. К о л а с. Да працы). *На любы ўчастак х а й мяне ставяць — нідзе не падвяду* (І. Ш а м я к і н. У добры час).

Пры дзеясловах абвеснага ладу, а таксама пры іншых часцінах мовы, часціца *няхай (хай)* надае зместу выказвання ўмоўнае або ўступальнае значэнне.

*Н я х а й ідуць дажджы, н я х а й пахаладае, нашу працу нішто не спыніць* (П. Б р о ў к а. Калі зліваюцца рэкі). *Х а й злуецца мароз, х а й мятлюга шугае, ды нічога за помсту няма гарачэй* (П. Б р о ў к а.

Паэма пра Смалячкова). *Х а й там бура, завіруха, х а й пурга сапе і плача, стуль тваё пачуе вуха камсамольскі гарт юначы* (Я. К у п а л а. Камсамолу).

У гутарковай мове часціца *няхай (хай)* пры формах загаднага ладу служыць сродкам узмацнення.

*Ай, н я х а й ты запаветрай, ты ўсё жартуеш* (К. Ч о р н ы. Малюнак). *Х а й ты згары... Замарыў ты мяне касою* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах).

Часціца *няхай (хай)* у злучэнні з *бы* выражае дапушчэнне з адценнем пажадання, магчымасць дзеяння, якое не адбылося.

*Н я х а й б ы ты, Сымон, туды, да таты, падышоў* (К. Ч о р н ы. Ліст Якуба Малькевіча). *Н я х а й б ы я сам усё гэта адразу бачыў* (К. Ч о р н ы. Вялікі дзень). *Н я х а й б ы ты хоць якую рыбіну злавіў...* (А. Я к і м о в і ч. Бацькаў дар).

У спалучэнні з часціцай *жа* змякчаецца імператыўнасць часціцы *няхай (хай)* у розных значэннях.

*Х а й ж а песня ўсюды льецца* (Я. К у п а л а. Я нясу вам дар). *Х а й ж а твой голас ды будзе прарочы* (Я. К о л а с. На рэчцы зімою).

Часціца *няхай* у злучэнні з дзеясловамі 3-яй асобы цяперашняга і будучага часу адзіночнага і множнага ліку выражае заклік, урачыстае пажаданне.

*Н я х а й жыве наша слаўная Чырвоная Армія!* (М. Л ы н ь к о ў. Міколка-паравоз).

Часціца *ну* характэрна для гутарковай мовы. У залежнасці ад інтанацыі вымаўлення яна можа надаваць выказванню розныя мадальныя адценні:

а) пабуджэнне да дзеяння.

*Н у ідзі! н у ідзі! Араць, сеяць пара!* (Я. К у п а л а. Адвечная песня).

б) Дазвол, падтрымку, заахвочванне, ветлівую прапанову або, наадварот, нязгоду.

*Н у, то пагуляй яшчэ крыху* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н у, што ж! Прысядзь, спачынь ды вокам даль акінь* (Я. К о л а с. З падарожжа). *Н у, а цяпер спачні ты* (М. Б а г д а н о в і ч. Ліст). *Н у, то сядзем за стол* (Я. К о л а с. Батрак). *Н у цябе! Не пайду* (К. Ч о р н ы. Зямля). *«Н у і ліха з імі!» — раззлаваўся Віктар* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Часціца *ну* можа ўказваць на вывад, заключэнне.

*Н у, словам, відаць было, што жанчыне хацелася пагаварыць, адвесці душу* (Я. К о л а с. Хатка над балотцам). *Для камуны нашай новай жанчын трэба, н у, і ўсё тут* (Я. К у п а л а. Над ракою Арэсай).

Часціца *ну* служыць таксама для ўзмацнення выразнасці мовы, для падкрэслівання значэння слова, да якога яна далучаецца і ў якім змяшчаецца пачуццё або волевыяўленне.

*«Татачка!» — Надзея кінулася яму на грудзі... «Н у чаго ты, н у супакойся, мая малая»* (М. Л ы н ь к о ў. Векапомныя дні). *Н у вось, цэлую гадзіну чакаю* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны). *«Н у, брат, добрага сабаку не вельмі прылашчыш», — умяшаўся тут Сцяпан Варанец...* (К. К р а п і в а. Мядзведзічы). *Н у, не. Ад добрага вогнішча заўсёды застаецца пад попелам жар да раніцы* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Часціца *а ну* выражае пабуджэнне да дзеяння, патрабаванне, загад у катэгарычнай форме; яна спалучаецца звычайна з загаднай формай дзеяслова або ставіцца ў пачатку сказа.

*А н у, дай твайго сынка патрымаць Беламу, а мы з табою зробім міравую* (М. Ч а р о т. Апошняя ноч). *«А н у, весялей, весялей!» — нібы з-пад зямлі перад імі вырас Максім* (І. Ш а м я к і н. У добры час). *А ну*

*пакажы, што гэта ў цябе тут за схованкі* (М. Лынькоў. На чырвоных лядах). *А ну — марш адгэтуль!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Заўвага. Для змякчэння імператыўнасці часціца *а ну* спалучаецца з размоўнымі часціцамі *-ка, -тка, -ткаль*, якія не з'яўляюцца літаратурнай нормай.

*«Ну, годзе, хлопцы, досыць вам: а ну-ткаль спробую я сам!» — І дзядзька ўжо тут адразэчку пачуў, што выехаў на рэчку* (Я. Колас. Новая зямля). *А хто гэта тут такім бязульствам займаецца? А ну-ка, солтыс, каб гэта адным вобмегам* (М. Лынькоў. Выпадак на чыстцы).

Часціца *ану* ў злучэнні з часціцай *ж* выражае пабуджэнне з адценнем меркавання, надзеі, веры, што жаданае дзеянне ажыццявіцца.

Агата. *Трэба, дзеткі, пачакаць, ану ж, тудэма-сюдэма, ліха перамелецца і ўсё добра будзе* (Я. Купала. Паўлінка). *Я ў госці пайду. Няпрошаны, праўда, госць, але ану ж як-небудзь згаворымся* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Часціца *на* пашырана ў гутарковай мове. Яна ў катэгарычнай форме падкрэслівае дзеянне, накіраванае на другі прадмет, і ўказвае на бясспрэчнасць яго выканання або на прадмет, які перадаецца камунебудзь.

Лета. *Бяры ж, на! што табе я даю* (Я. Купала. Адвечная песня). *Народ кідаецца к хлеву. Там мужчыны ў другой каровы абмацалі ў горле бульбу. «Не можа быць?» — «На, глядзі»* (К. Чорны. Вясковая ветэрынарыя).

Часціцы *дай, давай, давайце* выражаюць пабуджэнне да дзеяння, абазначанага дзеясловам.

Часціца *дай* спалучаецца пераважна з дзеясловам 1-ай асобы будучага часу. Пры дзеяслове будучага часу адзіночнага ліку служыць для выражэння звернутага да сябе пабуджэння зрабіць што-небудзь.

*Думаю, дай зайду да свайго старога знаёмага.*

З дзеясловам множнага ліку яна ўжываецца пры папярэджанні, абяцанні, пагрозе і г. д.

*А вось дай уладзімся трохі, наб'ём яшчэ ворагу гуз* (Я. Колас. Адплата).

Часціцы *давай, давайце* спалучаюцца з інфінітывам або з 1-ай асобай множнага ліку будучага часу і выражаюць прапанову гаворачай асобы да субяседніка зрабіць што-небудзь сумесна.

*Давай, брат, думаць хоць сягоння ці так ці сяк, каб даць параду і к аднаму ўжо прыйсці ладу* (Я. Колас. Новая зямля). *Давайце, таварышы, разбярэмся, што да чаго* (І. Гурскі. На родных гонях).

Часціца *давай* пры інфінітыве незакончанага трывання служыць для выражэння энергічнага пачатку дзеяння.

*Мы ўсе давай у хаце прыводзіць к ладу і спакою, давай смяліць, давай пытаці: што, гавары, было з табою?* (Я. Купала. Страх).

Да мадальна-валявых адносіцца і часціца *бадай* пры выражэнні пажадання з адценнем іроніі, жарту.

*Бадай вам, панове, спазнацца з труною* (К. Крапіва. Партызаны). *Нічога, брат, няма ў вуллі. Пусты! А бадай яму пуста было* (Я. Колас. Калодка пчол).

Часціца *-такі* выражае:

а) сцвярджэнне рэальнага факта.

*Сапраўды-такі здараюцца духоўныя перавароты ў маладых людзей* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес).

б) Бясспрэчнасць выканання дзеяння.

Данілка. *Я хоць галавой налажу, а скрыпачку-такі зраблю сабе новую* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

в) Адценне супрацьстаўлення ў значэнні «тым не менш, і ўсё ж».

*Люда Мірончык таксама з іхняга выпуску. Яна шмат большая за Міхася, а ў с ё ж т а к і стаіць каля яго толькі прыёмшчыцай* (Я. Б р ы л ь. Лазунок).

З а ў в а г а 1. У мове мастацкай літаратуры (асабліва канца XIX — пачатку XX стагоддзя) побач з часціцай *-такі* сустракаецца яе дыялектны варыянт *тыкі*, які не набыў значэння агульнай нормы.

*Я т ы к і і чыркнуў яму «Адказ»* (Ф. Б а г у ш э в і ч. Прадмова). *Хцівец... са страху затросся... А т ы к і пытае, трохі ачуняўшы* (Ф. Б а г у ш э в і ч. Хцівец і скарб).

З а ў в а г а 2. Для выражэння пабуджэння да дзеяння, парады, некатэгарычнага патрабавання ў размоўных стылях сучаснай беларускай літаратурнай мовы зрэдку сустракаюцца часціцы *-ка, -ткі, -тка.*

Часціца *-ка* пасля дзеясловаў загаднага ладу ўносіць адценне пераканання, некатэгарычнага загаду, просьбы.

*Хадзі-к а за мной... Пагаворым* (П. П е с т р а к. Сустрэнемся на барыкадах). *Пачынай-к а ты лепш расказваць аб галоўным* (І. Ш а м я к і н. Глыбокая плынь). *Паўзі-к а, браток, правер, што там такое* (там жа).

Часціца *-ка* пасля дзеясловаў абвеснага ладу 1-ай асобы адзіночнага і множнага ліку будучага часу адцяняе ўласнае жаданне, рашучасць што-небудзь зрабіць.

*Зайду-к а я да суседа* (К. Ч о р н ы. Зямля).

Часціцы *-ткі, -тка* ўжываюцца пасля дзеясловаў загаднага ладу для змякчэння загаду.

*І адчувае Васька, як дзервянеюць пальцы рукі, сціскаючы вінтоўку,— паспрабуй-т к а выраві яе, адымі ў яго* (М. Л ы н ь к о ў. Маладосць). *Схадзі-т к і ты па дровы* (Я. К о л а с. Балаховец). *Я ўсё-т к і цябе, Алесь, хачу бачыць* (К. Ч о р н ы. Зямля). *«Глядзі-т к а,— прадайжаў, не слухаючы яе, Авяр'ян,— каб яны часам снапоў не падкінулі Васіліне ў бабкі з агульнага ўчастка»* (Т. Х а д к е в і ч. Вяснянка).

## Часціцы, якія выражаюць эмацыянальныя і экспрэсіўныя адценні

§ 1227. Эмацыянальна-экспрэсіўныя часціцы ўзмацняюць выразнасць мовы або адцяняюць эмоцыю выказвання. У гэты разрад уваходзіць два віды часціц: а) часціцы к л і ч н ы я, якія выражаюць розныя эмацыянальныя ацэнкі выказвання (*вось, бач, як, што за, вось дык, куды, то-та* і інш.); б) часціцы ў з м а ц н я л ь н ы я, якія не выражаюць дадатковага адцення, а толькі ўзмацняюць выразнасць эмацыянальных, валявых і сэнсавых значэнняў выказвання (*нават, так, дык, ды, ужо, сабе, ні, ну і, ж, жа, аж (ажно), усё; дык вось, ды як, ды вось, дык аж, дык ажно, аж вось, ну дык, усё-такі* і інш.). Рэзкай мяжы паміж адзначанымі відамі эмацыянальна-экспрэсіўных часціц нельга правесці, бо ўзмацненне выразнасці выказвання змяшчае ў сабе і элемент эмоцыі. Пераважная большасць гэтых часціц ужываецца ў клічных сказах.

§ 1228. Клічныя часціцы *вось* і *бач* пры пытальных займенніках і прыслоўях узмацняюць адценні здзіўлення, іроніі, насмешкі, прыкрасці і г. д.

*В о с ь які выпадак!.. А ты кажаш прырода* (К. Ч о р н ы. Зямля). *Б а ч, куды занесла нас!* (Я. М а ў р. Палескія рабінзоны).

Часціца *як* з клічнай інтанацыяй надае выразу эмацыянальную афарбоўку захаплення або здзіўлення з повада чаго-небудзь, а таксама выражае ацэнку якасці прадмета, з'явы.

*Я к многа сілы ў сабе тоіць, зямлі вялікай сын, салдат* (Я. К о л а с. Зварот). *Дзівіўся дзядзька тут нямала, йдучы тунелем да вакзала. Я к хітра, мудра збудавана! Я к чыста, хораша, прыбрана!* (Я. К о л а с. Новая зямля).

Сіла эмоцыі ўзмацняецца, калі часціца *як* ужываецца ў спалучэнні з часціцай *жа.*

*Ой ты, маё сонца, я к ж а свеціш ясна!* (Я. К у п а л а. Сонцу).

Часціца *што за* ўзмацняе экспрэсіўную ацэнку факта, з'явы, прадмета, думкі.

*Байцы ж нашыя — героі, ты не знойдзеш гэткіх армій, ш т о з а выпраўка ў строі, ш т о з а послух у казарме!* (Я. К у п а л а. Як у госці

сын прыехаў). *Ты паслухай, Апанас, што за голас, што за бас!* (Я. Колас. Ігрышча).

Часціца *куды* з клічнай інтанацыяй у злучэнні са словамі *там, тут* выражае пратэст, адмоўныя адносіны да чаго-небудзь, сумненне ў чым-небудзь, знявагу.

*Трэба за сенажаць брацца. Куды там! і слухаць не хоча* (К. Чорны. Зямля). *Куды тут расседжвацца! Да хаты трэба* (там жа).

§ 1229. У сучаснай беларускай мове ўжываюцца ўзмацняльныя часціцы *аж (ажно), нават* і інш., якія служаць для выдзялення і падкрэслівання сэнсавай выразнасці слова ці словазлучэння або для ўзмацнення іх мадальна-валявых адценняў. У сказе гэтыя часціцы ставяцца перад тым словам, якое яны выдзяляюць ці ўзмацняюць, або адразу пасля яго.

Часціцы *аж (ажно), нават* служаць галоўным чынам для ўзмацнення значэння слова ці словазлучэння, перад якім яны ставяцца.

*Аж душа мая святлее, і спяваць я зноў гатоў* (Я. Колас. Вясна на Палессі). *Максім ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці* (І. Шамякін. У добры час). *Па звычцы Ігнат Андрэевіч нават не спытаў, хто гэта* (там жа).

Часціца *нават,* акрамя ўзмацняльнай функцыі, можа лагічна выдзяляць і падкрэсліваць слова, да якога далучаецца.

*Выпрабаванні не аднялі энергіі — ён захаваў яе, і яна нават узрасла ад тых нягод, якія ён вынес* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *У мяне нават і ноты ёсць* (К. Чорны. Зямля).

Часціца *нават* у злучэнні з супраціўнымі злучнікамі *а, ды, але* ўзмацняе ступень супрацьстаўлення.

*Ніхто не мог не толькі разгадаць іх таямніцу, а нават і заўважыць, што яны шэпчуцца* (Я. Брыль. У чыстым полі пад ракітай).

Часціца *дык* у гутарковай мове ўжываецца пры ўказанні на супрацьстаўленне, пярэчанне чаму-небудзь або пры выдзяленні значэння слова.

*А Ганна дык зусім не змянілася* (К. Чорны. Зямля). *Дык ідзі сам! Мне і тут добра* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *А мы дык ужо скончылі. Невялічкая работа была* (І. Шамякін. У добры час). *Абяцаць дык абяцалі, а не прыйшлі* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Дык ось дзе з вамі я спаткаўся, дзе вас пабачыў, ды... не ўсіх* (Я. Колас. Рыбакова хата).

У спалучэнні з адмоўем *не* часціца *дык* узмацняе катэгарычнасць адмоўя.

*Па-мойму, жыў бы сабе, працаваў. Дык не, захацеў большага* (К. Чорны. Зямля).

У складзе фразеалагічных выразаў *дык дзе, дык дзе там, дык дзе табе* часціца *дык* узмацняе адценне недавер'я.

*Прабавала Аўдоля... сама гаспадарыць, дык дзе ж вы бачылі* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

Часціцы *ж, жа* ўзмацняюць сцвярджальныя, пабуджальныя і іншыя мадальныя адценні слова, пасля якога яны ставяцца, або лагічна выдзяляюць ці падкрэсліваюць яго.

*Станьце ж вы, хмаркі, над рубяжамі нашых палеткаў, шнуроў* (Я. Колас. Хмаркі). *Зноў жа, я не кажу, што мяне пакрыўдзілі* (К. Чорны. Зямля). *Пянькі многа, бульбы многа, найболей жа сена* (Я. Купала. Над ракою Арэсай).

Пасля пытальных слоў часціцы *ж, жа* ўзмацняюць іх выразнасць або павялічваюць пытальны сэнс цэлага сказа.

*Дзе ж, дарога ты другая? Я стаю адзін, адзін* (Я. Колас. На ростанях). *Няўжо ж вы схіліце калені, сябры геройскіх, мужных спраў, каторым даў свабоду Ленін?* (П. Глебка. Да моладзі).

Пасля ўказальных займеннікаў і прыслоўяў часціцы *ж, жа* падкрэсліваюць поўную тоеснасць, супадзенне з тым, на што ўказваецца гэтымі займеннікамі ці прыслоўямі, з чым супастаўляецца, параўноўваецца.

*Назаўтра такое ж самае было надвор'е — яснае, халоднае* (К. Чорны. Зямля). *Ён так жа працаваў заўзята, як і Вано* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Часціца *ды* служыць для ўзмацнення значэння слоў, перад якімі яна ставіцца. У апавядальных сказах яна ўзмацняе значэнне слова без дадатковых мадальных адценняў.

*Вашымі б рукамі ды машынай кіраваць. Ды мне што. Гэта справа ваша, маладая* (К. Чорны. Зямля).

Часціца *ды* пасля неазначальных займеннікаў і прыслоўяў пры дзеяслоўным выказніку надае зместу сказа адценне ўпэўненасці або магчымасці.

*Не бядуй, што-небудзь ды прыдумаем, і ўсё будзе добра* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). *Э, дзе-небудзь ды знойдзем і баравік* (Я. Колас. На ростанях).

Перад формай загаднага ладу часціца *ды* служыць для выражэння моцнай і настойлівай просьбы або загаду.

*Ды змоўкні ты! От гэтыя жанчыны* (К. Чорны. Зямля). *«Ды хутчэй ідзі ты!» — злуецца лёкай* (А. Якімовіч. Бацькаў дар.). *Мірон Іванавіч, ды кіньце вы жартаваць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

Перад часціцай *не* яна ўказвае на поўнае адмаўленне факта, аб якім паведамляецца.

*«Гэта ж вецер, сынок». — «Ён жывы ці які?» — «Ды не, мой галубок! Гэта — подых такі»* (Я. Колас. На адзіноце). Паўлінка. *Ці пан Якім забыўся, як я завуся?* Якім. *Ды не! Я хацеў бы, золатца, сур'ёзна з табой пагаварыць* (Я. Купала. Паўлінка).

Часціца *ды* ў складзе прыслоўнага звароту *ды і толькі* ўзмацняе значэнне абмежавання.

*«Што здарылася?»—«Нічога, спалохаўся ды і толькі»* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны).

Узмацняльная часціца *ўжо* таксама надае выказванню розныя адценні. Калі яна стаіць у пачатку сказа, то ўжываецца для сцвярджэння выказанай думкі.

*А ўжо, калі там ваша ласка, то і песню можна закаціць!* (Я. Купала. На папасе). *А ўжо сонца не высока* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Ужо імгла над зямлёю лажыцца, чорнай рызаю ўсё пакрывае, пылам зор небасхіл абсявае* (М. Багдановіч. Добрай ночы...).

Пасля ўказальных і неазначальных займеннікаў і прыслоўяў часціца *ўжо* падкрэслівае іх значэнне.

*Наказ яго дайшоў па часе, калі ўсё ўжо было гатова* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *«Не так ужо дрэнна тут», — падумаў Пракоп* (Я. Колас. Адшчапенец). *І толькі ўжо тады я ўгледзеў, што поруч, як цвяток лясны, узрасла... дачка самотная суседзяў* (М. Багдановіч. Вераніка).

Часціца *сабе* пры дзеясловах падкрэслівае, што дзеянне адбываецца нібыта само сабою, без умяшання каго-небудзь.

*Сядзіць сабе ціхенькі кусцік зялёнага лісця. Тырчыць сабе з гэтага кусціка бела-блакітная кветачка* (Я. Брыль. У чыстым полі пад ракітай). Марыля. *Усё ж такі, як бы там сабе ні было, а нам трэба думаць, як далей жыць* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Аляксей не асабліва ўслухоўваўся ў гэты шум: няхай сабе шумяць, няхай узнімаюць трывогу!* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Узмацняльны сэнс эмацыянальна-экспрэсіўных часціц асабліва выразна выступае, калі яны ўтвораны ад злучэння дзвюх ці болей часціц розных відаў, напрыклад, *аж вось, дык аж (ажно), дык вось* і інш.

Часціца *аж вось* з большай выразнасцю падкрэслівае нечаканасць, раптоўнасць дзеяння.

*Гляджу — аж вось з-за елі валіць як ёсць хароміна-мядзведзь* (Тарас на Парнасе). *Жыў на свеце Лявон, малад, дужы быў ён. А ж вось чуе Лявон з усіх клікі старон* (Я. Купала. На папасе).

Пры ўжыванні часціц *дык аж, дык ажно* значна павялічваецца выразнасць супрацьстаўлення.

*Гух, як басам зараву, дык аж струны перарву* (Я. Колас. Ігрышча). *Як зірнеш, дык ажно люба, галава аж ходам ходзіць!* (Я. Купала. Як у госці сын прыехаў).

Значэнне радасці, захаплення, здзіўлення ўзмацняецца часціцай *дык вось.*

*Дык вось які Мінск! Ой, дый горад жа!* (Я. Колас. На прасторах жыцця). *Дык вось які рыбак Сымон!* (Я. Колас. Рыбакова хата).

Выразным узмацняльным сэнсам характарызуюцца таксама складаныя часціцы *жа ж, ды як, ды вось, ну дык,* якія характэрны для размоўнага стылю.

*Як я толькі нарадзіўся — бацька сказаў — «кепска будзе!». Ну дык жа ж не памыліўся* (Ф. Багушэвіч. Кепска будзе). *Выбаршчык усё слухаў ды вачамі моргаў, а потым як усхопіцца, ўсё роўна як на шыла сеў, ды як крыкне* (Я. Колас. Андрэй выбаршчык).

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ І ФОРМАЎТВАРАЛЬНЫЯ ЧАСЦІЦЫ

§ 1230. У сучаснай беларускай мове ёсць разрад часціц, якія, страціўшы прыметы асобнага слова, выконваюць двайную функцыю. З аднаго боку, яны, як і іншыя часціцы, служаць для выражэння адпаведнага сэнсавага адцення ў змесце сказа, а з другога,— для ўтварэння новых слоў або граматычных форм слоў і тым самым набліжаюцца па значэнню да словаўтваральных і формаўтваральных марфем.

§ 1231. Да словаўтваральных адносяцца наступныя часціцы: *-сьці (-сь), -небудзь, -колечы* (дыялектн.), *-кольвечы* (дыялектн.), *-кольвек* (дыялектн.), *абы, не, ні, ані.*

Часціцы *-сьці (-сь), -небудзь, -кольвек, -кольвечы, -колечы, абы* выступаюць у якасці састаўных частак неазначальных займеннікаў і прыслоўяў і служаць для выражэння значэння неазначальнасці: *хтосьці (хтось), штосьці (штось), калісьці (калісь), дзесьці (дзесь); хто-небудзь, што-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь, куды-небудзь; хто-колечы, што-колечы, дзе-колечы; абы-які, абы-хто, абы-як, абы-дзе* і г. д.

*На гэты раз чытанне штось не ладзілася, Лабановіч часта адрываўся ад кнігі* (Я. Колас. У палескай глушы). *Калісь глядзеў на сонца я, мне сонца асляпіла вочы* (М. Багдановіч. Трыялет). *А рабіць што-колечы трэба было* (З. Бядуля. Дзесяць). *Дзесьці песня лунае, і не музыкай лесавою поўняцца вокны светлых хат над ракою* (М. Лынькоў. Баян). *Куды-кольвек трэба ісці, не сядзець жа тут* (К. Чорны. Трэцяе пакаленне).

Часціца *ні* служыць для ўтварэння адмоўных займеннікаў і прыслоўяў: *ніхто, нішто, ніякі, нічый, ніколі, нідзе, ніяк* і г. д.

Часціца *не* ўжываецца для ўтварэння неазначальных займеннікаў і прыслоўяў: *нехта, нешта, недзе, неяк* і інш. Акрамя таго, пры дапамозе часціцы *не* ўтвараецца многа слоў са значэннем адсутнасці або супрацьлегласці, напрыклад, назоўнікі *(непагода, небяспека, непрыяцель, нежаданне);* прыметнікі *(негарачы, непрыкметны, недалёкі, невядомы);* дзеясловы *(нездаровіцца);* прыслоўі *(нельга, недаступна, нецікава).*

Словаўтваральныя сувязі часціцы *ані* ў беларускай мове абмежава-

ныя. Пры дапамозе яе ўтвараюцца толькі некаторыя прыслоўі са значэннем узмоцненага адмоўя: *аніяк, анітрохі, анідзе* і інш.

*Вядома ён аніяк не думаў, што Волька адкажа яму* (К. Чорны. Скіп'ёўскі лес). *Уначы ён не заснуў аніяк* (там жа). *Спалоханую Надзейку нельга было аніяк супакоіць* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

§ 1232. У сучаснай беларускай мове формаўтваральныя часціцы складаюць даволі значную групу. Да іх адносяцца *бы (б), бадай, няхай, хай, -ся (-ца)*. Пры дапамозе гэтых часціц утвараюцца галоўным чынам розныя формы дзеяслова або надаюцца значэнню дзеяслоўных форм тыя ці іншыя адценні.

Часціца *бы (б)* служыць асноўным сродкам для ўтварэння формы ўмоўнага ладу.

*Каб я меў лужок над рэчкай, каб меў сенажатку, назбіраў бы вам букет я з незабудкай, браткаў* (Я. Купала. Каб я меў...). *Які дзівосны сад квітнеў бы тут, каб рука чалавека адвяла воды горных рэк* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

Пры дапамозе часціцы *бадай* у жывой беларускай мове ўтвараецца асобны ад умоўнага ладу са значэннем пажадання.

*А бадай вы, хлопцы, пагарэлі, толькі і скачуць з возу на воз* (К. Чорны. Зямля). *«Куды?» — «У Парэчча, у балота?..» — «Бадай ты спрахла! от брыдота!»* (Я. Колас. Новая зямля). *«Мартын! а бадай ты сказіўся!» — радасна азваўся дзед Талаш* (Я. Колас. Дрыгва).

Пры дапамозе часціцы *няхай (хай)* утвараецца форма загаднага ладу дзеясловаў 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу са значэннем пажадання.

*Няхай зазвоняць пушчы зброяй, хай зашумяць агнём лясы* (П. Глебка. Да моладзі). *Нічога яму не зробіцца. Няхай грае* (К. Чорны. Зямля).

Часціца *-ся (-ца)* служыць для ўтварэння зваротнай формы дзеясловаў, дзеясловаў залежнага стану, безасабовых дзеясловаў і, ператварыўшыся ў суфіксальную марфему, асобна не ўжываецца ў мове.

*Спаткаліся яны ў зямлянцы Дзяміда Сыча толькі калі сцямнела* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Заўвага 1. У паэтычным стылі літаратурнай мовы часам сустракаецца зваротная форма на *-сь*, якая не замацавалася ў якасці агульнай нормы.

*Яе віталі добрай чэсцю, з усімі цешылаcь яна* (Я. Купала. Магіла льва). *Цяплей мужчыны абуваліcь, ў сваю работу запрагаліcь* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага 2. У сучаснай мове зрэдку сустракаецца формаўтваральная часціца *было*. Пры дзеяслове прошлага часу яна служыць для ўтварэння формы прошлага часу, якая выражае дзеянне, пачатае ў мінулым, але перарванае другім дзеяннем, або дзеянне, якое магло адбыцца, але не адбылося па якойсьці прычыне.

*Макушэнка намерыўся было ўжо ўзяць слова, але раптам паднялася Сынклета Лукічна* (І. Шамякін. У добры час). *Следам за ім памкнуліся было злазіць і сувязныя, але Злобіч стрымаў іх* (М. Ткачоў. Згуртаванасць). *Ён хацеў было прайсці міма. Іліко рэзкім рухам спыніў яго* (Э. Самуйлёнак. Будучыня).

---

# ВЫКЛІЧНІКІ



## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ВЫКЛІЧНІКУ

§ 1233. Выклічнікамі называюцца нязменныя словы, якія выражаюць пачуцці і валявыя пабуджэнні, не называючы іх. Напрыклад: *Эх, прасторы вы снежна-палявыя!.. Эх, людзі родныя, чулыя, ціхія!.. Як мне выявіць шырыню новай радасці?!* (К. Чорны. Новыя людзі). *Але касьба — пачатак лету. О, колькі ў ім яшчэ прывету! Прыгод усякіх так багата* (Я. Колас. Новая зямля). *Цсш!.. Не парушайце рэжыму!* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).

Выклічнікі *эх! о!* выражаюць пачуцці радасці, захаплення, а выклічнік *цсш!* — пабуджэнне да маўчання, але яны не называюць канкрэтна ні гэтых пачуццяў, ні волевыяўлення гаворачай асобы, таму што не змяшчаюць у сабе звычайнага лексічнага значэння, якое ўласціва словам іншых часцін мовы.

Выклічнікі складаюць асобны лексіка-граматычны разрад слоў. Яны характарызуюцца цэлым радам асаблівасцей, якія адрозніваюць іх ад іншых часцін мовы.

Выклічнікі не маюць намінатыўнай функцыі; яны выступаюць толькі як сацыяльна-асэнсаваныя элементы мовы для наўмыснай перадачы розных эмоцый і пабуджэнняў гаворачай асобы.

Выклічнікі не маюць граматычных значэнняў роду, ліку, склону, часу, асобы, ладу і г. д. і не падзяляюцца на марфемы — корань, суфікс, прыстаўку. А таму яны самі не змяняюцца і не ўплываюць на форму іншых слоў у сказе.

Выклічнікі выступаюць або як своеасаблівыя кампаненты сказа, або далучаюцца да сказа ў якасці цэльнага выказвання. І ў тым і ў другім выпадках яны сінтаксічна незалежны ад іншых слоў сказа. Хоць фармальна выклічнікі і адасоблены ад іншых слоў, але выражаюць такія пачуцці і пабуджэнні, якія характарызуюць змест сказа з эмацыянальна-валявога боку: здзіўлення, радасці, захаплення, пярэчання, пагрозы і г. д.

Выклічнікі-сказы могуць ужывацца асобна, ізалявана, а могуць ужывацца і разам з граматычна арганізаваным сказам. Яны заўсёды адмяжоўваюцца ад іншых выказванняў паўзай і вылучаюцца своеасаблівай інтанацыяй.

Ізалявана выклічнікі-сказы ўжываюцца пераважна ў рэпліках дыялагічнай мовы і выражаюць або эмацыянальны водгук на гутарку субяседніка, або падагульненне ўласных думак.

*«Я хачу сказаць нашаму маладняку навагодні тост».— «Ну, ну!..» — заахвочваючы ўсміхнуўся гаспадар* (Э. Самуйлёнак. Апавяданне пра гуманізм). *«Хто?» — кінуў на сына позірк Франц. «Ш-ш-ша!» —*

*Франц прыклаў палец да вуснаў і азірнуўся* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Часцей выклічнікі-сказы ўжываюцца разам з граматычна арганізаваным выказваннем. Яны могуць стаяць у пачатку рэплікі, у сярэдзіне; некаторыя выклічнікі могуць стаяць у канцы рэплікі, эмацыянальна падагульняючы ўсё выказванне.

*Ох-ці мне! Як жа я адстала ад вас* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *«Пусці!.. Ах!.. А няхай цябе... От шаляніца...» — злаваўся нарокам Сцяпан* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Нагаварыў мне цэлую кучу, а пра галоўнае толькі цяпер успомніў... Э-эх!..* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

Выклічнікі-сказы могуць далучацца да іншых сказаў па спосабу злучэння.

*І добра, што вы не прыйшлі на той момант, а то ай-ай-ай!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Выклічнікі ў ролі членаў сказа выступаюць у тым выпадку, калі ўжываюцца ў значэнні іншых часцін мовы.

Выклічнікі могуць ужывацца ў сказе як у ролі галоўных, так і ў ролі даданых членаў. У ролі дзейніка і дапаўнення ўжываюцца пераважна субстантываваныя выклічнікі. Гэта не выклічнікі ў сваёй звычайнай функцыі, а толькі назвы выклічнікаў. Яны не маюць характэрнай для выклічнікаў інтанацыі і іншых уласцівых ім прымет. Напрыклад, у сказах *Здалёк пачулася «ўра!»* (І. Мележ. Мінскі напрамак). *Маці стаяла, слухала, ці не пачуе ў лесе знаёмае «но!»* (Я. Колас. Калядны вечар) словы *ўра!* (дзейнік) і *но!* (дапаўненне) не перадаюць пачуццяў, якія выражаюцца гэтымі словамі; праз іх гаворачая асоба толькі сцвярджае наяўнасць фактаў.

Выклічнікі ў ролі выказніка выражаюць адносіны гаворачай асобы да фактаў, аб якіх паведамляецца, ацэнку гэтых фактаў і інш.

*Там рыба — ого-го!* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Я кажу справу, а ён — гы-гы-гы!* (Э. Самуйлёнак. Пагібель воўка).

Выклічнікі могуць ужывацца таксама ў ролі акалічнасцей.

*На сэрцы ай-яй як добра!* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). Зоська. *Травіца зелянеецца, кветачкі цвітуць, ай як прыгожа!* (Я. Купала. Раскіданае гняздо).

Выклічнікі ў ролі азначэння:

*Аднак, якой ты стала прыгажуняй! Ай-яй! Якое хараство!* (І. Шамякін. У добры час). *«Лескавец!» — «Максім!» — «Ах, чорт! Які бравы!»* (там жа).

Выклічнікі, з'яўляючыся нязменнымі словамі, сінтаксічна не злучаюцца з іншымі словамі сказа. Выключэнне складаюць некаторыя выклічнікі са значэннем волевыяўлення, ад якіх могуць залежаць тыя ці іншыя словы сказа: *А ну вас!* (П. Броўка. Калі зліваюцца рэкі). *Марш адгэтуль! усе вон!* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Календбрун»). *А ну яго!..* (Я. Брыль. Напярэдадні).

§ 1234. Выклічнікі цесна звязаны з рознымі часцінамі мовы словаўтварэннем: яны ўвесь час развіваюцца і папаўняюцца за кошт іншых часцін мовы (параўн. *Бяда! Бывайце! Божа мой! Глупства!* і г. д.). У сваю чаргу выклічнікі даюць базу для ўтварэння слоў іншых часцін мовы (*вох-каць, кук-аваць* і інш.).

Выклічнікі пашыраны галоўным чынам у экспрэсіўнай мове. Іх значэнне зразумела толькі ў спалучэнні з пэўнай інтанацыяй. Выклічнікі заўсёды маюць свой лагічны націск, які падкрэслівае іх эмацыянальны характар.

*О колькі той радасці, колькі той веры!* (Я. Купала. Нашаму дэпутату). *Фу, мароз які пякучы — уваччу іскрыцца!* (Я. Колас. Пад Новы год). *«У-у-ух, якая раскоша!» — весела ўсклікнуў Дзямід Сыч* (М. Паслядовіч. Святло над Ліпскам).



34 Зак. 892

## ПАДЗЕЛ ВЫКЛІЧНІКАЎ

### *Разрады выклічнікаў па значэнню*

§ 1235. Па значэнню выклічнікі падзяляюцца на два вялікія разрады: а) эмацыянальныя; б) волевыяўлення.

Найбольш багатымі па значэнню і шырока ўжывальнымі з'яўляюцца выклічнікі эмацыянальныя. Адны з іх служаць для выражэння пачуццяў і перажыванняў гаворачай асобы (захапленне, страх, жах, гнеў, абурэнне, сумненне, недавер'е, нечаканасць, здзіўленне, здагадка, папрок, скарга, знявага, іронія, пахвальба і г. д.), другія выражаюць адносіны гаворачай асобы да навакольнага асяроддзя, стану прыроды, даюць эмацыянальную характарыстыку, ацэнку паводзін і мовы субяседніка і г. д.

Выклічнікі, што адносяцца да волевыяўлення, перадаюць розныя валявыя намеры гаворачай асобы з мэтай уздзеяння на тую ці іншую жывую істоту праз наказ, заклік, зварот, запрашэнне, папярэджанне, перасцярогу, забарону і інш.

§ 1236. У разрад эмацыянальных уваходзяць самыя разнастайныя па гукавому складу і па інтанацыі выклічнікі: *а! о! у! э! і! ай! ой! уй! эй! ах! ох! ух! эх! го! ого! гэй! эге! угу! фі! фу! фэ! хо! ха! бяда! бацюхны!* і г. д. Яны характарызуюцца мнагазначнасцю, абумоўленай рознабаковым інтанаваннем. А таму пераважная большасць эмацыянальных выклічнікаў можа выражаць розныя і нават супрацьлеглыя пачуцці. Прыкладам мнагазначнага ўжывання аднаго і таго ж выклічніка можа служыць выклічнік *ох!* Прывядзём наступныя сказы: *Ох, арліцы, добра лётаць сцежкамі такімі!* (Я. Купала. Тры арліцы). *Ох, і трэба ж было ў такі дождж ісці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *А хвалілася: «Ого, я!..» Ну, не плач!.. Ох ты, блазнота!.. — Ох, як пасвіць неахвота!* (Я. Колас. Пастушка). *Нічога ты, браток, не ведаеш, ох, як нічога* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). У першым з гэтых прыкладаў выклічнікам *ох!* выражаецца захапленне, у другім — нездавальненне, у трэцім — дакор, папрок, у чацвёртым — жаль, засмучэнне.

З другога боку, розныя па гукавому складу выклічнікі пры аднолькавай інтанацыі могуць выражаць адно і тое ж пачуццё. Напрыклад, выклічнікі *а! о! э!* могуць выражаць здзіўленне.

*А! Як відненька! А я думала, што ужо ночка наступіла* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Э! і ты тут, адкуль? зачым?* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *О-о-о!.. Дзіўна! Адчынен кабінет. Гм. Дзіўна!* (Э. Самуйлёнак. «Тэорыя Каленбрун»).

Эмацыянальныя выклічнікі па сваёй функцыі ў сказе часта набліжаюцца да мадальных слоў. Напрыклад, выклічнік *ах!* уносіць у змест сказа, да якога далучаецца, мадальнае адценне сумнення, жалю.

*Ах, Алеся, я была да цябе неласкавай* (І. Шамякін. У добры час).

Эмацыянальныя выклічнікі могуць таксама набліжацца па сэнсу да ўзмацняльных часціц.

*А дзядзька — о, ён акуратны! Работнік дзядзька наш выдатны* (Я. Колас. Новая зямля). Зоська. *Я усё ведаю!.. Дайней нічога не ведала, а цяпер ах як ведаю!..* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *У-у, сцюдзёна як!* (К. Чорны. Зямля).

Эмацыянальныя выклічнікі служаць для выражэння розных пачуццяў і перажыванняў гаворачай асобы або для характарыстыкі, эмацыянальнай ацэнкі фактаў, з'яў навакольнай рэчаіснасці. Пачуцці і ацэнка могуць быць прыемныя, станоўчыя для гаворачай асобы, а могуць быць і непрыемныя, адмоўныя. А таму ў залежнасці ад характару эмоцый гэтыя выклічнікі можна падзяліць на некалькі груп:

а) выклічнікі, якія выражаюць пачуццё радасці і станоўчую ацэнку факта;

б) выклічнікі, якія выражаюць цяжкія перажыванні і адмоўную ацэнку факта;

в) выклічнікі, якія выражаюць адмоўную характарыстыку з'яў;

г) выклічнікі, якія выражаюць адносіны да сваёй або чужой думкі.

§ 1237. Эмацыянальныя выклічнікі, якія выражаюць пачуццё радасці і станоўчую ацэнку фактаў, з'яў рэчаіснасці. У гэту групу ўваходзяць выклічнікі, якія выражаюць радасць, бадзёрасць, вясёлы настрой, а таксама эмацыянальную ацэнку фактаў, з'яў рэчаіснасці з станоўчага боку (захаплення, спачування, задаволенасці): *а-а-а! ай-яй! ого! ой! о! ой ды! ага! у! эх! ох! ах!* і інш.

*«Я — дырэктар школы».— «А-а-а»,— радасна, весела і здаволена працягнуў старшыня* (І. Шамякін. Крыніцы). *І гэту радасць, міг шчаслівы выказваў крыкам праразлівым: «Ая-я-яй! Ая-я-яй!»* (Я. Колас. Новая зямля). *Вясна, Вясна! О, колькі ў табе шчасця! О, колькі радасці прыносіш ты з сабой!* (Я. Купала. Яна і я). *Ого! Проста не калгас, а дзяржава* (К. Крапіва. Пяюць жаваранкі). *У-у! Як добра і хораша!* (І. Шамякін. Крыніцы). *Эх!.. Шырыня якая!.. Воля!.. Аж дух зацінае!* (Т. Хадкевіч. Братэрства).

§ 1238. Эмацыянальныя выклічнікі, якія выражаюць цяжкія перажыванні і адмоўныя адносіны да фактаў рэчаіснасці. Па гукавому складу гэта могуць быць тыя ж выклічнікі, што перадаюць і пачуццё радасці, але вымаўляюцца зусім супрацьлеглай інтанацыяй. Пры дапамозе такіх выклічнікаў перадаецца або цяжкі псіхічны стан гаворачай асобы (сум, гора, бяда, боль, туга, смутак, непакой, страх, жах, спалох і інш.), або даецца з'явам рэчаіснасці адмоўная ацэнка з розным адценнем (непрыемнасці, зняваги, абурэння, агіднасці, злосці, пагрозы і г. д.). Сэнсавыя адценні пераважнай большасці такіх выклічнікаў вызначаюцца зместам сказа і адпаведнай інтанацыяй.

*«Эх, бедная!» — плачу над пчолкаю я* (Я. Колас. Даняў). *Ой, няшчасна Бандароўна, адпачні часіну* (Я. Купала. Бандароўна). *«О-ё-ей! — стагнаў тады Пятрусь:— от жа кальнула!»* (Я. Колас. Кірмаш). *Шкада, ай, як шкада Іліко* (Э. Самуйлёнак. Будучыня). *Ай! Хто там шавеліцца?* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *Э, от і плывун! Э, а толькі хваліўся!* (Я. Брыль. Напярэдадні). *Эх, недарэка* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Ці ж старая не выканае загаду панскага цівуна? Ого, няхай толькі паспрабуе!* (З. Бядуля. Салавей). *Ай-яй, як нядобра! А? жылі разам, працавалі* (І. Шамякін. Крыніцы). *Ага, сорамна вам? Ніводнага пісьма — падумаць!* (там жа).

Некаторыя выклічнікі гэтай групы служаць толькі для выражэння пачуцця агіднасці, зняваги, як напрыклад, *фу! фі! фэ! цьфу! (тфу!) к чорту!* і інш.

*Фу ты, чорт!* (К. Чорны. Мяшчане ў густой пары). *Фі! Я такіх мужыцкіх танцаў не гуляю* (Я. Купала. Паўлінка). *Фэ, які нядобры смак!* (Я. Колас. Пахмелле). *Ты-ы... ты прыкідваешся паненкай... І гэта так агідна!.. Так агідна!.. Тфу!* (І. Шамякін. Крыніцы).

§ 1239. Выклічнікі, якія выражаюць адмоўную характарыстыку з'яў. Да эмацыянальных адносяцца таксама выклічнікі, пры дапамозе якіх устанаўліваецца ацэнка дзеяння з адмоўнага боку, сцвярджаецца адмоўная характарыстыка фактаў, здарэнняў: *каюк! крышка! капут! швах! баста! шабаш! квіта! дудкі!*

*Ён не служка тут больш — квіта!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *Не, дудкі, не выкруцішся, брат* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Ляжу і думаю, ну, капут, прапаў ты, Васіль* (Я. Брыль. Напярэдадні).

§ 1240. Выклічнікі, пры дапамозе якіх выражаюцца адносіны да сваёй або чужой думкі. Сюды ўваходзяць галоўным чынам устойлівыя спалучэнні слоў, якія ў сучасны момант сталі ўжывацца для пацвяр-

джэння думкі або выражэння featured рознага пачуцця да каго-небудзь: *дапраўды ж! ей-богу! далібог! ей-жа-ей! чорт пабяры! ліха яго ведае! чорт вазьмі!*

*Вот вы тут сядзелі, чыталі, а я з кухні праз дзверы шаптала... Не гневайцеся: ей-богу шаптала!* (Я. Колас. У палескай глушы). *Малайцы, ей-ей, малайцы!* (Я. Колас. У глыбі Палесся). *Ах, чорт вазьмі! Я забыўся... І вось так кожны раз!* (І. Шамякін. Крыніцы).

§ 1241. У адрозненне ад эмацыянальных выклічнікаў пабуджальна-валявыя выклічнікі больш канкрэтныя па значэнню, немнагазначныя і інтанацыйна небагатыя.

Выклічнікі гэтага разраду выступаюць у якасці сродкаў выражэння валявых імкненняў і намераў гаворачай асобы з мэтай уздзейнічаць на жывую істоту для выканання пэўнага дзеяння.

Па значэнню гэтыя выклічнікі падзяляюцца на некалькі груп.

1. Выклічнікі заклiку, воклiку, звароту, запрашэння: *эй! (гэй!) э! го! го-го! гу! гу-гу! ау! агу! ало!*

*«Эй, ты!» — гукнуў Ганкель да Кулеша* (І. Шамякін. Глыбокая плынь). *«Гэй, хто там з дзядзькоў? — клікнуў ён, злязаючы з воза. — Дапамажыце козлы прынесці»* (Т. Хадкевіч. Сяброўства). *Э, што там такое?* (Я. Купала. Раскіданае гняздо). *Яго кліча далёкі, і блізкі, і родны, бясконца родны голас: «Ян-ка-а! Янач-ка-а! Го-о-о!»* (Я. Брыль. Напярэдадні). *Ало! Як маецеся?!* (М. Лынькоў. Векапомныя дні). *Гэ, дзяўчата!..* (К. Чорны. Вясковая ветэрынарыя). *Алё! Пісьменнікі! Дзе вы падзеліся?* (К. Крапіва. Каб кнігам ды ногі).

Сюды далучаюцца і выклічнікі, пры дапамозе якіх падзываюць хатніх жывёл, птушак: *цып-цып-цып! вуць-вуць! кацё-кацё!* і інш.

*«Галаска, цюцік! На, цю, на! На, цю, на!» — пазваў я яго* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *«Ціп! Ціп! Ціп!» — зашумелі птушкі* (Я. Колас. У чым іх сіла). *...Нехта аднамерна танклявым, ломкім, маладым голасам клікаў каня: «Кось-кось-кось-кось...»* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

2. Выклічнікі загаду, забароны. Яны выражаюць непасрэдны загад або ўмоўны сігнал пачаць ці спыніць дзеянне. Гэтыя выклічнікі могуць абазначаць:

а) патрабаванне маўчаць: *цсс! чш! ша! ся! цыц!*

*«Ша! — сказаў Стары, — даволі»* (Я. Колас. Пад Новы год). *«Тсс! — шапнуў Віктар і прытрымаў рукою Мірона. — Гэта гарнастай»* (Я. Маўр. Палескія рабінзоны). *«А што ён, прымерна, казаў?» — «Казаў, што наш цар — дурань».— «Цыц!» — прамовіў стражнік і азірнуўся* (Я. Колас. Соцкі падвёў).

б) Загад пачаць, спыніць або працягваць рух, дзеянне: *марш! стоп! айда! ну! вон! но! тпру.*

*«Ну, марш!» — скамандаваў Булякін* (Я. Колас. Сяргей Карага). *Стоп, рабяты, адпачыць!* (там жа). *Разам, хлопцы! Разам! Ну, яшчэ! Што сталі? Ну, яшчэ наляжам!* (Я. Колас. Плытнікі). *Ну, хлопцы, ачуньвайце, а затым айда адсюль* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах). *Імчаць хлапчукі па сялу ўперагонкі. І чуецца: «Но!..»* (А. Куляшоў. У зялёнай дуброве). *«Тпру»,— спыніў Верамейчык каня* (К. Крапіва. Мядзведзічы).

в) Пабуджэнне жывёл да дзеяння: *кыш! псік! аты-га!* і інш.

*«Кыш, маўчы!..» — А пеўнік — зноў* (Я. Колас. Паслушная жонка). *За ката і — гоп за дзверы! — «Псік! Хавайся! Уцякай!..»* (там жа). *Чуецца малады звонкі дзявочы голас, і следам за гэтым даносіцца яе крык: «Аты-га! аты-га, качкі!»* (Я. Колас. Дрыгва).

3. Выклічнікі прывітання, ветлівасці, падзякі. У гэты від пабуджальна-валявых выклічнікаў уключаюцца словы і словазлучэнні са значэннем прывітання, развітання, ветлівага звароту да субя-

седніка, падзякі, просьбы і г. д.: *добры дзень! здароў! дабранач! бывайце! дзякую! калі ласка! будзьце ласкавы! выбачайце! прабачце! да пабачэння* і інш. Усе гэтыя словы не поўнасцю страцілі сваё лексічнае значэнне, але дзякуючы ўжыванню іх у якасці спецыяльных выразаў пры пэўных умовах не ўспрымаюцца ўжо як паўназначныя часціны мовы, а пераходзяць у выклічнікі.

Вера. *Добры дзень, цёця Каця!* (К. Крапіва. Хто смяецца апошнім). *Здароў, Максім Антонавіч! Прымай работу* (І. Шамякін. У добры час). *«Ай, мама, пірог!» — глянула яна на гадзіннік і кінулася да печы. «Прабачце, пірог згарыць»...* (І. Шамякін. Крыніцы). *А, калі ласка! заходзьце* (Я. Колас. У дварэ пана Тарбецкага). *Выбачайце, я не мог прыйсці* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

## *Разрады выклічнікаў па спосабу ўтварэння*

§ 1242. Па спосабу ўтварэння выклічнікі падзяляюцца на невытворныя і вытворныя.

1. Невытворныя выклічнікі — гэта пераважна гукі ў найпрасцейшай форме, якія складаюцца: а) з аднаго галоснага *(а! о! у! э! і!)*; б) са злучэння галоснага з нескладовым *й* *(ай! ой! уй! эй!)*; в) са злучэння галоснага і зычнага або зычнага і галоснага *(ах! ох! ух! эх! іх! го! ха! хе! ба! но! ну! ша! фі! фу! фэ!)*; г) двухскладовыя з націскам на другім складзе, утвораныя са злучэння дзвюх галосных і аднаго зычнага *(ага! ого! эге! угу! уга!)*.

Сюды ўключаюцца выклічнікі, утвораныя ад падваення ці патраення простых форм невытворных выклічнікаў, аднаго і таго ж гукавога комплексу або яго часткі: *ай-ай! ей-ей! эхе-хе! ай-я-ей! ой-ё-ёй! э-хе-хе-хе! ну-ну! охо-хо! ого-го!* і інш.

2. Вытворныя выклічнікі ўзніклі са слоў знамянальных часцін мовы і словазлучэнняў або цэлых выразаў, якія страцілі намінатыўнае значэнне і сталі ўжывацца для выражэння пачуццяў і волі чалавека. Такім шляхам перайшлі ў выклічнікі: а) назоўнікі ў розных склонавых формах *(бяда! чорт! дудкі! бацюхны! крышка!)*; б) некаторыя дзеясловы ў застылай форме або ў фанетычным скарачэнні яе *(плі! чур! здароў! бывайце!)*; в) асобныя займеннікі *(о-то-то!)*; г) фанетычныя скарачэнні прыслоўных форм *(цс! тш! ша!)*.

Невялікая група выклічнікаў утварылася ад іншамоўных слоў: *ало! баста! стоп! каюк! айда! шабаш! ату!*

Шмат устойлівых фразеалагічных словазлучэнняў і выразаў сталі ўжывацца ў ролі выклічнікаў: *ось яно што! от так-так! яшчэ што! вось табе на! на ж табе! от я табе! я табе! чорт вазьмі! чорт цябе бяры! чорта з два!* і г. д.

*Ось табе на! Спазніўся* (К. Чорны. Бацькаўшчына). *«Што за чорт! — сказаў ён: — тое самае месца, а дзе ж пень?»* (Я. Колас. Малады дубок). *О-то-то ж! Глядзі, а то другі раз вушы ашалёстаю* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Вы, чорт вазьмі, усё лепей... ведаеце, што трэба, а што не трэба* (І. Шамякін. У добры час). *Міцька прыпадае шчакой да прыклада.— «Плі»* (Э. Самуйлёнак. Пункт апоры). *Учора там — а сёння тут... Буржуазіі — капут!* (М. Чарот. Босыя на вогнішчы).

Да вытворных выклічнікаў адносяцца і падзыўныя словы, якія ўзніклі ад усечаных і змененых назваў жывёл, птушак шляхам паўтарэння іх частак: *ціп-ціп! вуць-вуць! кацё-кацё!* і г. д.

Заўвага 1. Асобна ад выклічнікаў стаяць так званыя гукапераймальныя словы, якія не выражаюць ні пачуццяў, ні валявых пабуджэнняў, а толькі з'яўляюцца назвамі розных субстантываваных дзеянняў:

а) назвы выгукаў птушак: *га-га-га! ку-ка-рэ-ку! куд-ку-дах! ку-ку! квох-квох!* і інш. *Дзесь над возерам, каля старога млына, чуліся мілагучныя, крыху засмучоныя га-*

*ласы кнігавак — кі-і-гік! кі-і-гік!* (Я. Колас. Казкі жыцця). *У небе пачулася працяжнае кру-кру! адлятаючых жураўлёў* (І. Мележ. Мінскі напрамак).

б) Назвы выгукаў жывёл: *му-му! і-і-га-га! гаў-гаў! каў-каў! курняў-курняў!*

*Бег, спяшаўся рагаты, вясёла «рыкаючы»: «Му!..»* (А. Куляшоў. Прыгоды цымбал). *...Звонка разляглося па лузе: «І-і-га-га-га-га!» Конскае іржанне прывяло Тамаша да памяці* (Я. Колас. На начлезе). *Раптам як бы гром прагрымеў недзе за лесам. Потым зусім блізка гаўкнулі... сабакі: «Гаў-гаў-гаў!..»* (Э. Самуйлёнак. Дачка эскадрона).

в) Назвы гукаў, якія ўзніклі ад прадметаў ці жывых істот пры іх руху, дзеянні: *трах! бум! дзынь-дзынь! трах-тах! бух-бух!* і інш.

*Мчацца коні. Дзын-дзын-дзын! Гучна звон нясецца* (Я. Колас. Тройка). *Шурхатала трава затоеным шэптам: «Ш-ш-ш... с-с-с...»* (З. Бядуля. На балоце). *Тады — бах! бах! бах! — азваўся гулкі пранік* (Я. Брыль. Напярэдадні). *З нястрыманаю сілаю і з громам бервяно падае ў ваду. «Гу-у-у-у!» — бухаецца яно ў Нёман* (Я. Колас. Страшнае спатканне). *Плыве човен, вады повен, ды ўсё — хлюп! хлюп! хлюп!* (Я. Колас. Новая зямля). *«Кап... кап... кап...» — пад рытмічныя ўдары кропель шпарка беглі думкі* (Т. Хадкевіч. Рэха ў гарах).

г) Назвы гукаў, якія ўзніклі ў сувязі з рознымі працэсамі: *брр! ха-ха-ха! фю-фю! кхэ-кхэ!* і інш.

*Сэрца — тых-тых-тых у ёй!* (Энеіда навыварат). *«Кхэ-кхэ», — уважліва кашлянуў Валакіткін, каб звярнуць на сябе ўвагу* (К. Чорны. Мяшчане ў густой пары). *«Хі-хі-хі», — пачуўся новы тоненькі-тоненькі галасок* (Я. Колас. Купальскія светлячкі). *Брр... Ажно дзіўна зараз, як я прайшла тады. Вады было-о!..* (І. Шамякін. У добры час).

д) Назвы гукаў, якія ўзніклі ў працэсе якой-небудзь дзейнасці чалавека: *тру-гу-гу! бах-бах! шах! гух!* і г. д.

*Галаву крыху адкінуў, ды расправіў грудзі, спіну і ў ражок той тру-гу-гу!* (Я. Колас. Сымон-музыка). *А-та-та-та, лупі, лупі яго! Так, так, так, г-г-г-ух!..* (К. Чорны. «Дзякуй богу, як шклянка»). *Слоў не разабраць, толькі ўсё бу-бу-бу-бу-бу-бу* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Рабіць тут трэба — адно слова, не то, што — цуп, — луп! — і гатова* (Я. Колас. Новая зямля).

Заўвага 2. Асобна ад выклічнікаў стаяць і скарочаныя назвы розных працэсаў або імгненных дзеянняў і рухаў, якія адбыліся ў прошлым часе, якія па форме набліжаюцца да выклічнікаў: *бац, трах, стук, бултых, шась, зірк, хоп, гоп* і інш. Такія словы набылі нязменную форму; яны ўжываюцца ў ролі дзеяслоўнага выказніка і надаюць выказванню дынамічнасць і эмацыянальную выразнасць.

*І следам з той копкі стралою бултых у ваду чалавек!* (Я. Колас. Адплата). *Я ножычкам — чык! Адрэзваю кончык вужышча, прыточваю знізу... Кулдык ды кулдык — і шусь на зямлю, ды ў іржышча!* (Я. Колас. Даняў). *Паслізнуўся і бац — расцягнуўся на парозе* (К. Чорны. Зямля). *Зося — зірк, а перад ёю Уладзік* (К. Крапіва. Мядзведзічы). *Узмахнула гадзюка даўжэзным хвастом, зачапіла палац, грук і стук, грах і трах!* (З. Бядуля. Мурашка Палашка).

---

# СПІС ПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

*абл.*— абласны
*авіяц.*— авіяцыйны
*анат.*— анатамічны
*бат.*— батанічны
*архіт.*— архітэктурны
*біял.* — біялагічны
*буд.*— будаўнічы
*ваен.*— ваенны
*г. зн.* — гэта значыць
*гандл.*— гандлёвы
*геагр.*— геаграфічны
*геал.*— геалагічны
*гідратэхн.*— гідратэхнічны
*гіст.*— гістарычны
*горн.*— горны
*грам.*— граматычны
*грэч.*— грэчаскі
*дарэв.*— дарэвалюцыйны
*дыпл.*— дыпламатычны
*дыялектн.*— дыялектны
*заал.*— заалагічны
*кніжн.*— кніжны
*кул.*— кулінарны
*лаг.*— лагічны
*лац.*— лацінскі
*лінгв.*— лінгвістычны
*літ.*— літаратурны
*марск.*— марскі
*матэм.*— матэматычны
*медыц.*— медыцынскі
*мех.*— механічны
*мінерал.*— мінералагічны
*муз.*— музычны
*напр.*— напрыклад
*народн.*— народнае
*паліт.*— палітычны
*параўн.*— параўнай
*паэт.*— паэтычны
*пед.*— педагагічны
*прастамоўн.*— прастамоўны
*псіхал.*— псіхалагічны
*размоўн.*— размоўны
*с.-г.*— сельскагаспадарчы
*спец.*— спецыяльны
*спарт.*— спартыўны
*субст.*— субстантываваны
*тэкст.*— тэкстыльны
*тэхн.*— тэхнічны
*устар.*— устарэлы
*фіз.*— фізічны
*фізіял.*— фізіялагічны
*філас.*— філасофскі
*хім.*— хімічны
*царк.*— царкоўны
*шахм.*— шахматны
*экан.*— эканамічны
*электр.*— электрычны
*юрыд.*— юрыдычны

# ЗМЕСТ

ПРЫМЕТНІК

## ЛІЧЭБНІК



## ЗАЙМЕННІК



## ДЗЕЯСЛОЎ

## ЧАСЦІЦЫ



## ВЫКЛІЧНІКІ



---

На белорусском языке

**ГРАММАТИКА БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА**
**Том I**

Издательство Академии наук БССР
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар выдавецтва *Н. Царова*
Тэхнічны рэдактар *І. Валахановіч*
Карэктар *Т. Трыгубовіч*

АТ 16012. Здана ў набор 11/V 1962 г. Падпісана да друку 27/X 1962 г. Тыраж 1600 экз. Папера 70×108/₁₆. Фіз. друк. арк. 33,75. Ум. друк. арк. 46,2. Уч.-выд. арк. 48. Выд. зак. 40. Друк. заказ 892. Цана 2 р. 60 к.

Друкарня Выдавецтва Акадэміі навук БССР
Мінск, Ленінскі праспект, 68

## ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ

| Старонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 49 | 1 зверху | Абстрактныя назоўнікі | Назоўнікі |
| 187 | 18 » | *прыляцелі* | *прыляцеці* |
| 225 | 20 » | *(-ы-ць):* | *(ы--ць), -і-сці:* |
| 281 | 10 » | *сапсавалі* | *спасавалі* |
| 284 | 17 » | Даніла | Партызаны |

Зак. 892.